

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя II. Гісторыка-літаратурныя помнікі*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*



## СЛУЖЭННЕ БОГУ, ЛЮДЗЯМ, БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Беларусь дала свету шмат таленавітых людзей у самых розных галінах чалавечай дзейнасці, якімі можа ганарыцца сусветная супольнасць. Сярод іх айцец Аляксандр Надсан — рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч беларускага замежжа, педагог, гісторык, публіцыст, перакладнік, бібліяфіл, пісьменнік, актыўны ўдзельнік Англа-Беларускага навуковага таварыства, Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі, дырэктар Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў усходняга абраду, кансультант Кангрэгацыі для Усходніх Цэркваў у Ватыкане. Але перадусім ён — святар, наш гонар, наш духоўны скарб. Усе свае сілы, талент чалавека, душпастыра, навукоўца ён аддае беларускай справе, Беларусі, якая нязменна жыве ў ягоным сэрцы. Ягонае жыццё — няспыннае ахвярнае служэнне людзям і шматпакутнай Бацькаўшчыне, якой ён нясе роднай моваю Боскае слова.

Сваю беларускасць а. Аляксандр пераняў ад бацькоў-настаўнікаў (нарадзіўся ён у мястэчку Гарадзея 8 жніўня 1926 года), замацаваў у Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, дзе атрымаў, як і бацька, дыплом настаўніка матэматыкі. Ягоны бацька, Антон Бочка, у Першую сусветную вайну быў афіцэрам царскай арміі. Потым выкладаў у Слуцкай рэальнай навучальні, быў удзельнікам Збройнага чыну 1920 года, напісаў пра гэтыя падзеі ўспаміны.

У юнацкія гады, азмрочаныя вайной, Аляксандр Надсан далучыўся да Саюза беларускай моладзі і да Беларускай Краёвай Абароны. У 1944 годзе быў адным з ахоўнікаў Другога Усебеларускага кангрэсу, які пацвердзіў сваю вернасць ідэям Беларускай Народнай Рэспублікі. Сам а. Аляксандр, згадваючы свае маладыя гады, пісаў: «Я належу да пакалення тых, што раслі ў гады вялікага ваеннага закалоту, сярод падзей, значэння якіх мы часта не маглі зразумець. Думаю, што пара ўжо напісаць гісторыю гэтага пакалення, а таксама тых людзей, якія не далі нам загінуць духоўна, стараючыся ўзгадаваць і захаваць у нас пачуццё людской і нацыянальнай годнасці. Для мяне такімі людзьмі былі выкладчыкі беларускай настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы, якая дала мне не толькі грунтоўныя веды, але зрабіла перакананым беларусам на ўсё жыццё. Трэба спадзявацца, што Саюз беларускай моладзі,

да якога я належаў з многімі маімі аднагодкамі, таксама дачакаецца свайго аб'ектыўнага гісторыка»*.

Як і многія беларусы, што не прынялі таталітарнай сістэмы, а. Аляксандр у 1944 годзе быў вымушаны пакінуць радзіму. Ваяваў у Французскім Супраціўленні, у войску генерала Андэрса, якое змагалася супраць фашыстаў у Італіі, быў паранены, узнагароджаны за мужнасць, але ніколі не мае ахвоты згадваць пра ваеннае ліхалецце, бо лічыць войны страшнай, варожай і непатрэбнай чалавецтву з'явай. Пасля вайны і да сёння а. Аляксандр жыве ў Англіі.

Ведаючы з дзяцінства французскую і нямецкую мовы, а. Аляксандр хутка авалодаў ангельскай, скончыў факультэт матэматыкі Лонданскага ўніверсітэта (1953, пэўны час выкладаў матэматыку ў Нотынгеме) і з тае пары, далучыўшыся да скарбаў сусветнай культуры, усё жыццё займаўся самаадукацыяй, стаў навукоўцам у шмат якіх галінах ведаў. Але ніколі не адыходзіў ад беларускіх спраў. У адным з інтэрв'ю а. Аляксандр кажа: «Мы не дабравольна пакінулі Беларусь, але, паколькі не маглі жыць у Беларусі, хацелі застацца беларусамі…»

І яны засталіся імі — вернымі, непахіснымі рупліўцамі беларускага нацыянальнага адраджэння.

У паваенны час нашыя суайчыннікі-эмігранты сталі наладжваць у краінах свайго сталага пражывання беларускае жыццё. Айцец Аляксандр разам з іншымі беларусамі стварае ў Лондане Згуртаванне беларусаў Вялікай Брытаніі (ад 1946 — сакратар, у 1951–1952 гадах — старшыня), Англа-Беларускае навуковае таварыства (1954). Адначасова становіцца на чале Беларускага хрысціянскага аб'яднання «Рунь», працуе ў Беларускай каталіцкай місіі, кіраўніком якой быў першы беларускі каталіцкі біскуп з закону айцоў марыянаў Часлаў Сіповіч. Якраз ён больш, чым хто, паўплываў на далейшы лёс Аляксандра Надсана, падтрымаўшы ягонае памкненне прысвяціць жыццё святарскаму служэнню.

Шэсць гадоў Аляксандр Надсан быў студэнтам Грэцкай калегіі, затым філасофскага і багаслоўскага факультэтаў Грыгарыянскага ўніверсітэта ў Рыме (заснаваны ў 1577 годзе Папам Рыгорам XIII, «для грэкаў ды іншых усходніх нацыяў»), вывучаў лаціну, грэцкую, італьянскую мовы, філасофію, псіхалогію, этыку, маральнае, дагматычнае, пастырскае багаслоўе, гісторыю царквы, тэалогію ды інш. 23 лістапада 1958 года ён быў высвечаны ў святары, а ў 1960 годзе, з выдатнай класічнай адукацыяй, вярнуўся ў Лондан. На гэты час пры Каталіцкай місіі была заснаваная беларуская школа імя Кірылы Тураўскага, у якой вучыліся дзеці беларусаў з розных краінаў. Айцец Аляксандр пачаў працаваць у школе спачатку настаўнікам, а затым і

* Надсан А. А. Вяртаньне // Свабода. 1990. № 1.

дырэктарам (ад 1964). У гэтай школе выкладаліся беларуская мова і літаратура, а таксама гісторыя Беларусі. Працу ў школе спалучаў з актыўнай грамадскай дзейнасцю ў ЗБВБ, выступаў з лекцыямі па гісторыі беларускай культуры на пасяджэннях Англа-Беларускага таварыства, шмат пісаў артыкулаў па розных праблемах рэлігійнага і грамадскага жыцця беларусаў для ангельскамоўных і беларускіх зборнікаў, газет, часопісаў («На шляху», «Беларус на чужыне», «Божым шляхам», «Веснік Беларускага Каталіцкага Душпастырства ў Англіі і Францыі», «The Journal of Byelorussian Studies»). Кола ягоных навуковых даследаванняў разнастайнае: сусветная і беларуская літаратуры, гісторыя Беларусі, скарыназнаўства, старадрукі, аль-кітабы, Уніяцкая царква, правы чалавека, праблемы выгнанцаў, дзейнасць Кірылы Тураўскага і Лаўрэна Зізанія, беларускія буквары XVII стагоддзя, помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства ды інш. Гэтыя даследаванні шырока вядомыя ў беларускім замежжы, а з 1990-х гадоў і на Бацькаўшчыне.

Айца Аляксандра іншым разам называюць гаспадаром «беларускай вёскі» ў Лондане, якая складалася з чатырох (а цяпер з трох) дамоў у ангельскім стылі ў раёне Паўночнага Фінчлі. У адным з іх месціцца царква св. Пятра і Паўла, дзе штодня адбываецца Боская літургія па-беларуску, насупраць — Скарынаўская бібліятэка, заснаваная ў 1971 годзе з уласных кнігазбораў айцоў Часлава Сіповіча, Льва Гарошкі і Аляксандра Надсана. Уся гэтая сядзіба — сапраўдная школа выхавання беларускага патрыятызму. Усе гады фонды бібліятэкі папаўняліся стараннямі Аляксандра Надсана, бясконцымі яго паездкамі на кніжныя аўкцыёны ў пошуках рэдкіх выданняў ды рукапісаў. Ён імчаўся ў любы канец свету, да букіністаў, беларусаў дыяспары, калі даведваўся, што там ёсць нешта цікавае, наладжваў сувязі з бібліятэкамі Беларусі, якія маглі спрыяць у набыцці кніг, рэгулярна друкаваў артыкулы і паведамленні пра свае знаходкі.

Мне пашчасціла, на ласкавае запрашэнне а. Аляксандра, цэлы месяц працаваць у Скарынаўскай бібліятэцы. Гэта сапраўдная скарбніца беларушчыны. Тут намнога паўней, чым у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, рэпрэзентаваны творы, архівы, рукапісы беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, сабраны ўсе беларускія газеты і часопісы, якія выдаваліся ў замежжы. Ёсць серыйныя выданні і мастацкія творы амаль усіх айчынных пісьменнікаў. Багатая калекцыя беларускіх слоўнікаў, кніг і падручнікаў па беларускай мове, рэдкіх этнаграфічных зборнікаў, выдадзеных у Вільні, Санкт-Пецярбургу, Маскве, Віцебску, Варшаве ў XIX — пачатку XX стагоддзя. А які цікавы гістарычны раздзел, дзе сабраныя дакументы, пачынаючы з XVI стагоддзя, мапы, у тым ліку XVI–XVII стагоддзяў! Ёсць старадрукі, шмат скарыназнаўчых матэрыялаў, розных бібліяграфічных прац, камплекты ці паасобныя нумары рэдкіх перыёдык, прыжыццёвыя выданні Чачота, Купалы, Ко-

ласа, а таксама зборнікі Ларысы Геніюш, Уладзіміра Дубоўкі, Максіма Гарэцкага, Леапольда Родзевіча, Францішка Аляхновіча, Ядвігіна Ш., Алеся Салаўя, Юркі Віцьбіча, Наталлі Арсенневай, Міхася Зарэцкага, Ігната Дварчаніна, многія з аўтографамі знакамітых дзеячаў беларускай культуры і літаратуры, адрасаванымі збіральніку і захавальніку ўсіх гэтых скарбаў. Расказваючы пра бібліятэку і музей, ён заўсёды падкрэслівае, што «тут сабранае багацце нашага народа». У музеі многа цікавых і рэдкіх экспанатаў: слуцкія і гарадзенскія паясы, прыгожыя вышываныя тканіны, посцілкі, ручнікі, абразы, карціны Пётры Мірановіча, Віктара Жаўняровіча, мазаіка «Пагоні» Міхася Навумовіча, старажытныя гравюры Горадні, Берасця. Ёсць экспанаты трагічнага напаміну: лагерная кашуля Ларысы Геніюш з нашытым нумарам 0-287, посцілка ксяндза Адама Станкевіча, вытканая ў бел-чырвона-белых колерах, Крыж старога беларуса, які ён пранёс праз войны і канцлагеры і перад смерцю перадаў у музей, куфэрак а. Германовіча (Вінцука Адважнага), які яму зрабілі вязні канцлагера і дзе ён трымаў святыя дары. Цікава было пабачыць грошы Вялікага Княства Літоўскага XV–XVI стагоддзяў, архівы кампазітараў Куліковіча і Равенскага, арыгінал паэмы «Курган», напісаны рукою Купалы на вялікіх аркушах, «Другое чытанне для дзетак-беларусаў» з праўкамі самога Коласа… Нельга пералічыць усе дарагія беларускаму сэрцу каштоўнасці, што захоўваюцца ў гэтых бібліятэцы і музеі.

Айцец Аляксандр нястомна прапагандуе гэтыя скарбы, ладзіць канферэнцыі і навуковыя чытанні (іх пачынаў уладыка Сіповіч, які кіраваў бібліятэкай да свайго адыходу ў вечнасць у 1981 годзе), выдае рукапісы з бібліятэчных фондаў (да прыкладу, дзённік Казіміра Сваяка, рукапісны зборнік Ларысы Геніюш), адгукаецца на шматлікія просьбы прысланць копію таго або іншага дакумента, твора…

З гадамі Скарынаўская бібліятэка ў Лонданеператварылася ў міжнародны навуковы цэнтр. Гасціннасцю, духоўнай падтрымкай а. Аляксандра карыстаюць шматлікія навукоўцы Ангельшчыны, Францыі, Італіі, Нямеччыны, Бельгіі, Расеі, Польшчы, ЗША, Канады, Аўстраліі, Новай Зеландыі, Ізраіля і, безумоўна, Беларусі, пра што сведчыць кніга наведнікаў бібліятэкі, якая вядзецца ад моманту яе заснавання. Нездарма адна з навуковых канферэнцый, прымеркаваная да 30-годдзя бібліятэкі і музея, мела назоў «Роля беларускай дыяспары ў захаванні беларускай культуры». А ці захаваем мы сваю культуру тут, на Бацькаўшчыне? Балючае пытанне.

Згадваючы разнастайную грамадскую дзейнасць а. Аляксандра, трэба памятаць, што перадусім ён — беларускі святар. Бываючы на ягоных набажэнствах у Лондане і Мінску, слухаючы казанні і малітвы за Беларусь на роднай мове, я міжволі задумвалася, якую магутную ачышчальную сілу маюць ягоныя вера, любоў да Бога, Бацькаўшчыны,

людзей. Дзеля гэтай веры і любові ён распачаў тытанічную працу над перакладам з грэцкай на беларускую мову літургічных тэкстаў, якая працягвалася доўгія гады. Яшчэ пад час навучання ў Рыме а. Аляксандр пераканаўся, што студэнты розных нацыянальнасцяў, акрамя беларусаў, маюць літургічныя тэксты на роднай мове. Ён усведамляў, што нашыя вернікі, якія не разумеюць царкоўнаславянскай мовы, абдзелены Божым словам. Пасля вяртання ў Лондан малады святар пастанавіў неадкладна заняцца перакладамі. І хоць ягоны энтузіязм быў астуджаны старэйшымі калегамі-святарамі (маўляў, як гэта такі малады і недасведчаны насмеліўся ўзяцца за такое), аднак намеру свайго ён не кінуў, хоць праца гэтая была цяжкою і вымагала шмат часу, высілкаў, ведаў.

Ад перакладніка літургічных тэкстаў найперш патрабуецца не толькі свабоднае валоданне мовамі, але і грунтоўная багаслоўская, літургічная ды гістарычная падрыхтоўка. Пазней а. Аляксандр напісаў артыкул «Працягваючы справу святых апосталаў славянаў (Развагі перакладчыка літургічных тэкстаў)», дзе расказаў пра цяжкасці, што даводзілася пераадольваць, якія шляхі і методыку выбіраць перакладніку, каб тэксты малітваў былі дасканалыя, зразумелыя, пазбаўленыя недакладнасцяў і памылак. Ён умее працаваць са словам, адчувае яго семантыку, наогул, умее карыстацца скарбамі роднай мовы. Добра ведаючы беларускую літаратуру, часта знаходзіць у творах Скарыны, Купалы, Коласа, Барадуліна ці іншых аўтараў, як і ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», добрыя адпаведнікі патрэбных грэцкіх слоў. Абачліва ўжывае пазычанні, «каб не ператварыць мову ў царкоўную трасянку». З другога боку, уводзіць наватворы: «важна, каб новае слова было ў духу мовы» (да прыкладу, «святар» па аналогіі з беларускім «змагар», «пясняр»). А беларускі адпаведнік царкоўнаславянскаму «благословлять, благословить» знайшоў у вершы Рыгора Барадуліна «Мая Бацькаўшчына» з кнігі «Адам і Ева» («Ты бласлаўляла даланёй кляноваю / Сваіх сыноў…»).

«Слова “бласлаўляла” зачаравала мяне сваёй мілагучнасцю і, калі так можна сказаць, беларускасцю. Ад гэтага часу я вырашыў ужываць яго паслядоўна ва ўсіх маіх перакладах. Пазней я сустрэў яго ў творах іншых аўтараў, у тым ліку Янкі Купалы. Яно таксама зафіксавана ў “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы”».

Чуйнае стаўленне да роднай мовы сведчыць пра глыбокую павагу і любоў да свайго народа і Краю. У перакладніцкай дзейнасці а. Аляксандр заўсёды помніў словы Францішка Багушэвіча: «Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам». Гаворачы пра сітуацыю ў сённяшняй Беларусі, а. Аляксандр пісаў: «У нашыя дні няма ўжо бадай нікога, хто б адмаўляў людзям права хваліць Бога на роднай мове. Хіба толькі на Беларусі, дзе ёсць яшчэ

нямала такіх, што супраціўляюцца ўжыванню беларускай мовы ў царкве. Але робяць яны гэта, зыходзячы з меркаванняў, якія не маюць нічога супольнага з рэлігіяй. Між іншым, яны любяць паклікацца на святых Кірылу і Мяфодзія, кажучы, што "славянская мова для нас не чужая"... Для нас святыя браты з'яўляюцца прыкладам сапраўднага апостальскага служэння Богу і людзям, і мы выкажам найлепш нашую павагу і ўдзячнасць да іх, калі станемся іхнімі пераймальнікамі, стараючыся пашыраць вестку пра валадарства Божае сярод людзей у найбольш даступнай для іх форме, гэта значыць на роднай мове.

Галоўная мэта кожнай мовы — размаўляць, быць сродкам зносінаў між людзьмі. Беларуская мова ў гэтым не выключэнне. На ёй можам размаўляць не толькі між сабою, але з самім Богам»*.

І наш святар даказаў гэта, пераклаўшы на родную мову больш за сорак літургічных службаў: Літургіі св. Яна Залатавуснага, Базыля Вялікага і Раней асвечаных дароў; службы дзённага кругу: вячэрня, павячэрніца, ютрань, кананічныя гадзіны; службы нядзельныя; службы велікапоснага і велікоднага перыядаў; службы на ўсе святы Гасподнія і Багародзіцы, а таксама вялікіх святых (нараджэнне св. Яна Хрысціцеля, святых апосталаў Пятра і Паўла), у тым ліку тых, якія існуюць толькі ў славянскім варыянце (Покрыва Багародзіцы, св. Еўфрасінні Полацкай, св. Язафата); святыя тайны; прынагодныя службы; Акафіст Імю Ісусаваму (з «Малой падарожнай кніжкі» Францішка Скарыны); Малебны канон Найсвяцейшай Багародзіцы; выбраныя малебны; Малебен за Беларускі Народ, за Беларусь і многія інш.

Беларускія літургічныя тэксты, перакладзеныя айцом Аляксандрам, пасля іх пробнага (1994) і канчатковага (2000) зацвярджэння Кангрэгацыяй для Усходніх Цэркваў у Рыме сталі афіцыйнымі тэкстамі, якімі карыстаецца Беларуская грэка-каталіцкая царква на Бацькаўшчыне і ў замежжы.

У перакладзе а. Аляксандра ў Лондане, Рыме і Мінску выйшлі «Выбраныя малітвы з Малой падарожнай кніжкі» (1992), малітоўнік «Госпаду памолімся» (2002), «Кароткі катэхізм хрысціянскай навукі» (1988), катэхізм «Наша вера» (1990), дзе ён зрабіў адпаведны каментар, апрацоўку, укладанне. На ангельскую мову ён пераклаў «Жыццё св. Еўфрасінні Полацкай», «Дзённік Тодара Еўлашэўскага». Айцец Аляксандр прысылае на Бацькаўшчыну сваё святарскае блаславённе ў калядных і велікодных пасланнях («Наша Ніва», 1998–2008). Гэта не толькі віншаванні беларускаму народу з вялікімі святамі, яны перадаюць светапогляд аўтара, які добра адчувае і разумее нашыя сучасныя праблемы. Свой роздум, высновы а. Аляксандр часта падмацоўвае

---

* Надсан А. Працягваючы справу святых апосталаў славянаў (Развагі перакладчыка літургічных тэкстаў) // Кантакты і дыялогі. 2000. № 11–12. С. 28.

прыкладамі з Бібліі, твораў беларускай літаратуры, заклікае ў любой сітуацыі захоўваць гонар і годнасць беларуса, параўноўвае дзяўчат і юнакоў, якія трымалі варту ў Курапатах, з жанчынамі-міраносіцамі, што замест смерці Хрыста знайшлі жыццё, кажа, што «дабро грамадскай супольнасці, сям'і і нацыі, усяго чалавецтва не можа быць нечым асобным ад дабра ейных складовых адзінак». Удумваючыся ў глыбокія, але простыя і зразумелыя тэксты пасланняў беларускага святара, нельга не пагадзіцца, да прыкладу, з яго азначэннем дыктатуры: «Часта гэты лад — толькі карыкатура справядлівага ладу, дзе любоў і дабрыня падмяняюцца прымусам і страхам, а розум — абсалютнай воляй аднаго. Там няма месца для людской годнасці, свабоды думкі. Прымяненне фізічнай сілы стаецца неад'емнай часткай сістэмы… Такі рэжым хацеў бы мець уладу над думкамі людскімі, але гэта, на шчасце, яму зусім не ўдаецца. (Як у купалаўскім "Кургане" — "Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць, / Не скуеш толькі дум ланцугамі…") Шлях да абагаўлення вядзе не праз узвышэнне самога сябе, але праз перайманне Хрыста, Які не прыйшоў, каб Яму служылі, але каб паслужыць і аддаць жыццё за многіх. Спрытны дэмагог можа пакіраваць настроем натоўпу ў патрэбным яму кірунку, а пасля казаць, што выконвае "волю народа"… Ёсць пра што падумаць нам усім, асабліва тым, у чыіх руках улада над людзьмі…»*

Айцец Аляксандр добра ведае становішча на радзіме. Ён, паслядоўны і шчыры прыхільнік Уніі, якая жыве ў ягоных справах і сэрцы і якую ён лічыць неўміручай у сваёй дзейнасці, спавядае вернасць наказу Хрыста: «Каб усе былі адно» (Ян 17:20). Гэтая ягоная вера арганічна спалучаецца з любоўю да адвечных духоўных традыцыяў, абрадаў, да ўсяго роднага. Таму такой кранальнай была яго першая сустрэча з Бацькаўшчынай пасля амаль паўвекавога расстання. «Маці родная, Маці-Краіна!.. Ты прабач, ты прымі свайго сына…» — згадваў ён радкі Багдановічавай «Пагоні», калі цягнік набліжаўся да межаў Беларусі. А 5-й гадзіне халоднай сакавіцкай раніцы 1990 года на мінскім пероне а. Надсана сустракала мноства народу з бел-чырвона-белымі сцягамі і сімваламі Чарнобыльскага шляху, бо галоўнай мэтаю ягонага прыезду была дапамога ахвярам чарнобыльскай катастрофы. У першы свой прыезд, як і ў наступныя, ён адправіў святую літургію за Беларусь — першую ў Мінску каталіцкую службу ўсходняга абраду на беларускай мове. Тады ж у айца Аляксандра з'явіўся яшчэ адзін клопат — узгадаванне беларускіх святароў. Ён верыў, што, паспрыяўшы ім здабыць багаслоўскую адукацыю, ён дапаможа Беларусі, Царкве, беларускай культуры, дапаможа адрадзіць Уніяцкую (Грэка-каталіцкую) царкву,

* Надсан А. Быць як Бог: Разважанне на свята Уваскрасення Гасподняга // Наша Ніва. 2000. № 7 (16 красав.).

знішчаную царызмам у 1839 годзе. Гэтай справай ён паспяхова займаецца і да сёння. Айцец Аляксандр пісаў: «Калі я пакідаў Беларусь у 1944, я не спадзяваўся, што вярнуся святаром і што адной з маіх першых спраў будзе прынясенне Эўхарыстычнай ахвяры на беларускай мове за беларускі народ. <…>

Я не мог выехаць з Беларусі, не памаліўшыся на Курапатах — гэтай Кальварыі беларускага народа. Першыя хрысціяне казалі: “Кроў мучанікаў — семя хрысціянаў”. Дасць Бог, нявінная кроў ахвяраў у Курапатах, як некалі кроў хрысціянскіх мучанікаў, не прападзе дарма, а станецца для беларускага народа зернем лепшай будучыні, дзе не будзе месца для падобных жахлівых злачынстваў.

Гаворачы пра рэлігію, я бачыў вялікі голад духоўнага, асабліва сярод моладзі. Сумна, што гэты голад застаецца ў вялікай меры незаспакоены. Балюча адчуваецца патрэба сваіх святароў, якія б пасвяціліся самаахвярна справе пашырэння Валадарства Божага сярод беларускага народа…»

З гэтых разваг відаць, якія блізкія да сэрца яму справы Бацькаўшчыны. І яго першы прыезд у найбольшай ступені быў абумоўлены імкненнем асабіста даведацца пра наступствы Чарнобыля ў Беларусі.

«Памер няшчасця, якое спаткала беларускі народ, ашаломіў многіх з нас і нашых прыяцеляў, асабліва калі ўзяць пад увагу, што праз тры гады пасля аварыі не было аб ёй амаль ніякіх звестак і таму стварылася ўражанне, што яна не пакінула якіх-кольвек значных шкодных вынікаў…

Тое, што я змог пабачыць за кароткі час, напоўніла маё сэрца сумам. Я бачыў маленькіх дзетак — некаторым з іх было толькі некалькі месяцаў, — якія церпяць лейкознымі захворваннямі, — і іхніх бедных матак, гаварыў з лекарамі і іншымі асобамі, якія самаахвярна працуюць, каб аблягчыць лёс маленькіх ахвяраў, але не могуць часта шмат зрабіць з прычыны недахопу самых неабходных лекарскіх сродкаў. Гэтая несуразмернасць між веліччу заданняў і недахопам патрэбных сродкаў уразіла мяне асабліва і ўзмацніла перакананне аб неабходнасці разгарнуць як найшырэй дапамогавую дзейнасць, якая б абхапіла не толькі беларусаў за межамі Бацькаўшчыны, але і нашых ангельскіх, амерыканскіх, французскіх і іншых прыяцеляў. Каб наша дзейнасць прынесла найбольшую карысць, нам патрэбная інфармацыя аб канкрэтных патрэбах (лекі, лякарскія прылады і г. д.), а таксама аб стане і выніках радыяцыі на Беларусі, каб нам магчы інфармаваць аб гэтым заходні свет…»

Па вяртанні ў Лондан а. Аляксандр расказаў па Брытанскім тэлебачанні пра сваю паездку, пра чарнобыльскую бяду ў Беларусі. Неўзабаве ім быў створаны Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі. «Мы павінны на справе паказаць, што яны, іхні лёс блізкія нашаму сэрцу», — пісаў ён.

Пасля гэтага пачаліся рэгулярныя паездкі Аляксандра Надсана ў Беларусь з гуманітарнай дапамогай. Ён асабіста развозіў лекі, медычнае абсталяванне, іншыя неабходныя рэчы па лякарнях Гомельшчыны і Магілёўшчыны, не лічыўся ні са сваім паважным узростам, ні з невыгодамі далёкай дарогі.

З ініцыятывы а. Аляксандра былі створаныя належныя ўмовы для адпачынку і лячэння ў ангельскіх сем'ях беларускіх дзяцей, якія перад ад'ездам на радзіму абавязкова наведвалі беларускую сядзібу ў Лондане, дзе знаёміліся са скарбамі Скарынаўскай бібліятэкі і музея. Пазней а. Аляксандр друкаваў артыкулы-справаздачы пра дзейнасць Беларускага камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі ў часопісе «Чарнобыль у Беларусі», які пачаў выходзіць у 1991 годзе ў Лондане. (Друкаваліся там і такія яго артыкулы, як «Незалежнасць і Чарнобыль», «У Беларусі без пераменаў» ды інш.)

Арганізацыя дапамогі дзецям Чарнобыля — толькі адна з самаахвярных справаў а. Аляксандра, пра якую ён у адным з інтэрв'ю сказаў: «Калі б я не рабіў усё гэта, лепш было б не называцца беларусам…»

Для людзей роднай Беларусі а. Аляксандр стварае пранікнёныя тэксты малітваў, пра яе паслячарнобыльскае становішча публікуе артыкулы: «Наш боль… наш доўг», «На Бацькаўшчыне» («Веснік Беларускага Каталіцкага Душпастырства», Лондан), «Ведаць, што баліць людзям» («ЛіМ». 1990. 10 жніўня), «Дзеля дабра сваёй Бацькаўшчыны», «Не збяднее рука таго, хто аддае», «Усё ўбачыў на ўласныя вочы», «Божа, барані гэты край», «Цяпер слова за намі, беларусамі…», «Малюся за беларускае маленства…» (часопіс «Крыніца», газеты «Гродзенская праўда», «Добры вечар», «Звязда», «ЛіМ», «Знамя юности», «Дзеці і мы»).

Пісаць і друкавацца а. Аляксандр пачаў з 1947 года. З таго часу выйшла больш за трыста ягоных прац самых розных тэматычных кірункаў. Надзвычай цікавымі і новымі былі для нас ягоныя меркаванні пра сутнасць і значнасць беларускай мовы і літаратуры ў такіх змястоўных праблемна-аналітычных артыкулах, як «Сусветная літаратура і мы», «Заходняя літаратура на Беларусі ў XV–XVI стст.», «Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства XV ст.», «Беларускія буквары XVII ст.», «Еўеўскі буквар 1618 г.» ды інш. Ён уважліва сочыць за выданнямі твораў беларускіх пісьменнікаў і навуковых прац па мове і літаратуры на бацькаўшчыне, піша рэцэнзіі на кнігі беларускіх пісьменнікаў, мовазнаўцаў, гісторыкаў.

Аднак самымі значнымі працамі а. Аляксандра сталіся ягоныя кнігі: «Святы Кірыла Тураўскі», «Магдалена Радзівіл і Грэка-Каталіцкая Царква ў Беларусі», «Друя і Грэка-Каталіцкая Царква», «Біскуп Часлаў Сіповіч: святар і беларус».

Выданню кнігі «Святы Кірыла Тураўскі» (2004, выд. 3-е, папраўленае) папярэднічала працяглая даследніцкая праца аўтара. Пра жыццё і рэлігійную дзейнасць святога а. Аляксандр пачынаў пісаць яшчэ ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. Яму, тагачаснаму дырэктару і выкладчыку школы імя Кірылы Тураўскага, карцела больш даведацца пра духоўную спадчыну вялікага беларуса. Неўзабаве артыкулы а. Надсана з'явіліся ў ангельскамоўных часопісах і лонданскім беларускім часопісе «Божым шляхам», рэдактарам якога быў а. Язэп Германовіч.

Першай асобнай кнігай даследаванне а. Аляксандра выйшла ў 1968 годзе, другое — у 2001-м, а ў Беларусі гэтая праца ўпершыню была апублікаваная ў часопісе «Спадчына» (1996. № 1–2). Ужо нават па загалоўках у трэцім выданні «Святога Кірылы Тураўскага» можна меркаваць пра яе грунтоўнасць і навізну. Падрабязна прааналізаваўшы эпоху Кірылы Тураўскага («Кірыла і ягоны век»), аўтар засяроджваецца на дзейнасці і духоўнай спадчыне святога («Духоўны настаўнік», «Пясняр Божае міласэрнасці», «Залатавусны», «Добры пастыр»). Для нас асабліва цікавы раздзел «Кірыла і Беларусь», дзе аўтар па стагоддзях прасочвае, калі і ў якіх друкарнях, у якіх зборніках пачалі з'яўляцца «словы», малітвы Кірылы Тураўскага ў Беларусі ад рукапісных спісаў да кніг. Быццам разам з а. Аляксандрам трымаеш у руках рэдкі паасобнік віленскага «Залатавуснага» (1798) або «Малую падарожную кніжку» Скарыны (1522), дзе змешчаныя «словы» і малітвы Кірылы Тураўскага (гэтыя выданні ёсць найкаштоўнейшым набыткам бібліятэкі). Айцец Аляксандр аналізуе, якія змены зрабіў Скарына ў малітвах св. Кірылы, прыводзіць адпаведныя прыклады і сцвярджае, што «сам факт знаёмства беларускага першадрукара з малітвамі св. Кірылы паказвае на іхнюю папулярнасць у Беларусі, а таксама на існаванне ўласнай духоўнай традыцыі, якая сваімі каранямі сягае ў XII стагоддзе…» Важна таксама, што кніга расказвае пра вяртанне і вывучэнне спадчыны Кірылы Тураўскага беларускімі і расейскімі навукоўцамі XIX–XX стагоддзяў (Канстанцін Калайдовіч, Міхаіл Сухамлінаў, Аляксандр Коршунаў, Аляксандр Панамароў, Ігар Яромін, Вацлаў Ластоўскі, Максім Гарэцкі, Юры Лабынцаў, Аляксей Мельнікаў) і адзначае, што «духоўным аспектам дзейнасці Кірылы праз доўгі час маглі займацца толькі беларусы за межамі Бацькаўшчыны…» (а. Пётра Татарыновіч, а. Язэп Рэшаць, Б. Сыраб), імем святога праваслаўныя беларусы назвалі свае прыходы ў Нью-Ёрку і Таронта, а ў Лондане існавала школа імя Кірылы Тураўскага. І сёння да спісу выданняў твораў святога, які прыводзіцца ў дадатку, і літаратуры пра яго мы з поўным правам можам далучыць і саму кнігу а. Аляксандра Надсана «Святы Кірыла Тураўскі».

У сваіх кнігах а. Аляксандр выкарыстоўвае шмат малавядомых ці зусім невядомых архіўных матэрыялаў, якія ёсць толькі ў лонданскай

Бібліятэцы імя Скарыны. У гэтым сэнсе асабліва багатая і цікавая ягоная праца пра гісторыю Друйскага кляштара. Першае выданне «Друя і Грэка-Каталіцкая Царква» пабачыла свет у 2001 годзе ў Лондане і мела толькі 64 старонкі. Над ім аўтар працягваў працаваць апошнія гады, істотна дапоўніў, увёў у навуковы ўжытак шматлікія дакументы, лісты, справаздачы з біскупскіх канферэнцый, што датычылі дзейнасці беларускіх святароў, удакладніў многія даты (да прыкладу, год заснавання Друйскага марыянскага кляштара). Вельмі важна, што ў кнізе аўтар даў аб'ектыўныя і абгрунтаваныя характарыстыкі тым асобам, хто прычыніўся да заснавання і дзейнасці Друйскага кляштара. Гэта і віленскі біскуп Юры Матулевіч, які зыніцыяваў заснаванне марыянскага кляштара ў Друі «для беларусаў», і многія святары-марыяне, якія з энтузіязмам распачалі сваю пастырскую дзейнасць на беларускай мове сярод мясцовага люду. Аднак праца кляштара па падтрымцы беларускага адраджэнскага руху выклікала варожы супраціў з боку польскіх свецкіх і духоўных уладаў, не знайшла спагады і падтрымкі ў Папскай камісіі, бо праціўнікі марыянаў наогул не прызнавалі беларусаў за асобную нацыю.

З моцным пачуццём суперажывання і разумення ўсіх складанасцяў на нядоўгім шляху Друйскага кляштара чытаем раздзелы кнігі пра ўсялякія забароны і перашкоды беларускаму нацыянальнаму і рэлігійнаму ўздыму і працы беларускіх святароў-адраджэнцаў. Пра трагічны канец беларускіх святароў мы даведваемся з раздзела «Лёс выгнаннікаў». Амаль усе яны з прыходам бальшавікоў апынуліся ў няволі (а. Фабіян Абрантовіч памёр у Бутырскай турме ў 1946 годзе, Андрэй Цікота, Тамаш Падзява, Язэп Германовіч пасля закрыцця Друйскага кляштара вымушаныя былі з'ехаць у Харбін, адкуль кітайскія камуністы выдалі іх савецкім, а тыя далі ім па 25 гадоў зняволення. Айцец Цікота там і памёр, выжыць пашанцавала айцам Падзяву і Германовічу, якія скончылі свой зямны шлях у Лонданскім Доме марыянаў, паспелі яшчэ шмат зрабіць дзеля беларускай справы). Ведаем мы і пра трагічны лёс выдатнага беларускага дзеяча а. Адама Станкевіча. Ён таксама загінуў у савецкім канцлагеры, пра яго нямала добрых словаў сказана ў кнізе а. Аляксандра, гэтаксама як і пра святара і пісьменніка Казіміра Сваяка.

Шмат можна гаварыць пра вартасці і багацце зместу новага выдання кнігі, якая апавядае не толькі пра гісторыю Друйскага кляштара, але і пра цяжкасці нацыянальнага духоўнага адраджэння ў міжчасе 20–40-х гадоў мінулага стагоддзя.

Пра высокую патрабавальнасць а. Аляксандра да сябе і сваіх прац, імкненне дакументальна пацвердзіць свае доказы і высновы сведчыць і трэцяе выданне кнігі «Княгіня Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі» (Менск, 2006). Яно істотна дапоўніла першае і другое («Магдалена Радзівіл і Грэка-Каталіцкая Царква». Лондан; 2001, 2004).

Мэта гэтага даследавання — расказаць не толькі пра жыццё і дзейнасць выдатнай беларускі, але і ўнесці яснасць у легенду, створаную вакол імя Магдалены Радзівіл (1861–1945), якая шмат зрабіла для адраджэння Уніі ў Беларусі і наогул для нацыянальнага адраджэння. Яе запаветнай марай было заснаванне беларускай грэка-каталіцкай семінарыі ў Рыме, і дзеля гэтага яна ахвяравала ў 1917 годзе дарагое брыльянтавае калье. Чаму не здзейснілася яе мара? Пазней было напісана багата артыкулаў, дзе аўтары імкнуліся знайсці адказ на гэтае пытанне. Крытычна прааналізаваўшы часопісныя, газетныя публікацыі, манаграфіі і артыкулы розных перыядаў пра жыццё і дзейнасць Магдалены Радзівіл, а. Аляксандр выявіў многія недакладнасці, памылковыя высновы аўтараў, якія не мелі магчымасці карыстацца дакументамі, пакладзенымі ў аснову ягонай кнігі пра княгіню Радзівіл. Пра гэта так расказвае а. Аляксандр: «У 1983 годзе мне трапілі ў рукі дакументы, якія леглі ў аснову гэтай працы. Яны змусілі мяне перагледзець мае погляды на некаторыя падзеі ў гісторыі беларускага рэлігійнага адраджэння і ролю асобаў, якія мелі да іх дачыненне… Я разумеў, што справу такой важнасці нельга трымаць у сакрэце… Асаблівае права ведаць усю праўду маюць тыя, каму ляжыць на сэрцы лёс Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі, што цяпер паволі і з вялікімі перашкодамі адраджаецца…

Я хацеў таксама ўшанаваць памяць добрай і разумнай асобы, балюча параненай у высакародных пачуццях да свайго народа тымі, чый абавязак — лячыць раны і сунімаць боль. Апошнім часам беларусам вернутыя імёны шматлікіх выдатных постацяў з іхняй гісторыі. Было б справядліва, каб сярод гэтых постацяў знайшлося месца для княгіні Магдалены Радзівіл».

З старонак кнігі паўстае велічная постаць беларускай жанчыны-патрыёткі, аргументавана, на падставе дакументаў і прыватнай перапіскі, раскрываюцца яе погляды і справы (дапамога беларускім выдавецкім суполкам, газетам у Пецярбургу і Вільні, школам, бібліятэкам, беларускім студэнтам і святарам) на карысць Бацькаўшчыны, якія шмат у чым супадалі з поглядамі выдатных дзеячаў беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя — Каруся Каганца, Цёткі, Івана Луцкевіча, Казіміра Сваяка, Адама Станкевіча. Усе яны, як і Магдалена Радзівіл (яна лічыла Унію «народнай верай»), надавалі вялікае значэнне рэлігійнаму аб’яднанню беларусаў, што было найпершай умовай захавання і развіцця нацыянальнай свядомасці. Нашым раз’яднаннем, як вядома з гісторыі, актыўна карысталіся суседнія дзяржавы ў сваіх палітычных мэтах.

Кніга «Княгіня Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі» дае шмат новых цікавых звестак, дакладна асвятляе многія дасюль

невядомыя падзеі пачатку XX стагоддзя ў рэлігійным жыцці нашай Бацькаўшчыны.

Даследаванні а. Аляксандра пра Кірылу Тураўскага, пра Друйскі кляштар айцоў-марыянаў і асобу Магдалены Радзівіл з'явіліся, так бы мовіць, перадгісторыяй фундаментальнай ягонай кнігі «Біскуп Часлаў Сіповіч: святар і беларус», выданне і прэзентацыя якой адбыліся ў Мінску ў 2004 годзе.

Нямала ўжо напісана і апублікавана кніг і артыкулаў пра таленавітых дзеячаў беларускай дыяспары — пісьменнікаў, гісторыкаў, навукоўцаў, якія праславілі Беларусь. І мы ведаем, што за межамі бацькаўшчыны жылі і дзейнічалі такія выдатныя святары, як Пётра Татарыновіч, Францішак Чарняўскі, Уладзімір (Уладзіслаў) Салавей, Міхась Маскалік, святары-пісьменнікі Язэп Германовіч (Вінцук Адважны), Леў Гарошка (Анатоль Жменя). Пра іх абавязкова напішуць кнігі. Добрым прыкладам для будучых аўтараў паслужыць грунтоўнае і цікавае даследаванне а. Аляксандра пра першага беларускага каталіцкага біскупа XX стагоддзя Часлава Сіповіча (1914–1981). Як зазначае аўтар, «крыніцамі для кнігі, апрача асабістых успамінаў, служылі дзённікі і ліставанне біскупа Сіповіча, а таксама асабістыя ды іншыя дакументы Уладыкі, што цяпер знаходзяцца ў ягоным архіве ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане. Абсалютная іх большасць друкуецца ўпершыню.

Кніга прымеркаваная да 90-х угодкаў з дня нараджэння Часлава Сіповіча. У ёй я хацеў даць партрэт гэтага незвычайнага чалавека на фоне тагачасных рэлігійных, палітычных і культурных падзеяў, асабліва тых, што непасрэдна датычылі беларусаў…»*

У кнізе не толькі раскрываецца лёс Часлава Сіповіча ад першых да апошніх крокаў, але паўстае ў падзеях і асобах цэлая эпоха. Галоўная ўвага аўтара засяроджаная, безумоўна, на дзейнасці першага беларускага біскупа, якую ён разглядае ў шырокім кантэксце дзейнасці Каталіцкай царквы ў Ватыкане, Польшчы, Беларусі, а таксама рэлігійна-грамадскага жыцця беларусаў замежжа. Асвятляючы жыццё Сіповіча, аўтар распавядае пра падзеі, беларускія асяродкі і асобаў, сярод якіх гадаваўся будучы біскуп: гімназія пры Друйскім кляштары, Віленскі ўніверсітэт, студэнты, рэдакцыі беларускіх газет, вядомыя дзеячы беларускай Вільні, высяленне палякамі друйскіх марыянаў, што стала вызначальным у лёсе Сіповіча. Не жадаючы служыць у Польшчы, ён выехаў працягваць навучанне ў Рым, адкуль і пачалося ягонае ўзыходжанне да святарскага і біскупскага служэння, якое адбывалася не ў Беларусі. «Але ў сапраўднасці, — піша Аляксандр Надсан, — ён ніколі яе не пакінуў, а заўжды меў з сабою, у сваім сэрцы. Усё жыццё біскупа Сіповіча сталася змаганнем за справядлівасць для свайго народа

* Надсан А. Біскуп Часлаў Сіповіч: святар і беларус. Мінск, 2004. С. 2.

і ў царкве, і па-за ёю. Разам з тым ён ніколі не забываўся, што ён — святар, для якога ўсе людзі, незалежна ад нацыянальнасці, расавай прыналежнасці, мовы і рэлігійных перакананняў, — дзеці Божыя».

Сціслая характарыстыка Часлава Сіповіча далей паступова раскрываецца, абрастае многімі дэталямі, падзеямі, і старонкі гэтыя чытаюцца з нязменнай цікавасцю і захапленнем. Яны нясуць шмат новай і змястоўнай інфармацыі, асабліва невялікія ўстаўныя нарысы пра выдатных рэлігійных дзеячаў, беларускіх пісьменнікаў, пра іх творы (Юрыя Матулевіча, Фабіяна Абрантовіча, Андрэя Цікоту, Язэпа Германовіча, Льва Гарошку, Адама Станкевіча, Яна Пазняка, Яна Шутовіча, Кастуся Стаповіча, Пётру Татарыновіча, Станіслава Станкевіча, Антона Адамовіча, Рыгора Крушыну, Масея Сяднёва, Вітаўта Тумаша, Вінцэнта Жука-Грышкевіча ды інш.) На ўсё і на ўсіх аўтар глядзіць праз прызму асобы Часлава Сіповіча, але разам з тым яскрава праглядваецца ягоная ўласная паслядоўная пазіцыя і стаўленне да асобаў і падзеяў, якія вызначалі XX стагоддзе.

Нельга ў кароткім артыкуле перадаць усю глыбіню зместу гэтай унікальнай кнігі, якую справядліва можна назваць энцыклапедыяй беларускага замежжа.

Аляксандр Надсан піша свае кнігі, кіруючыся правіламі архівіста, навукоўца-даследніка, крытыка, пісьменніка. Ён дасканала валодае літаратураю па абранай тэме, крытычна-паважліва ставіцца да сваіх папярэднікаў, палемізуючы з імі.

Айцец Аляксандр заўсёды адчувае вялікую адказнасць за сваё пакліканне. І мы гэта добра бачым ва ўсіх ягоных справах. Добра сказала пра падзвіжніцкую святарскую дзейнасць Аляксандра Надсана адна з ягоных вучаніц, доктар сакральнае тэалогіі Ірына Дубянецкая: «Мы пабачылі на свае вочы, якая гэта тытанічная праца — захоўваць беларускасць у самых розных яе праявах, і не толькі захоўваць, але і падтрымліваць і развіваць. І заставацца адкрытым для любое іншасці, і аддаваць сябе не мераючы ўсім людзям, да чыіх жыццяў ты дакрануўся. І мне думаецца, што і Беларусь жыве пад знакам Айца. І людства. Хай сабе не толькі яго, але і яго таксама. Ён і такія, як ён, — трымаюць свет… Ён святарыць нам, ён працуе для нас, ён захоўвае нам — разам з намі — Беларусь…»*

*Лідзія Савік*

* Дубянецкая І. Айцец // Наша Ніва. 2001. № 32 (6 жн.). С. 9.



# СВЯТЫ КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

## Кірыла і ягоны век

Святы Кірыла, біскуп Тураўскі, быў, несумненна, адной з самых цікавых асобаў свайго часу. З аднаго боку, са скупых вестак аб ягоным жыцці перад намі паўстае постаць пакорнага манаха, які ў пошуках адзіноты з Богам вядзе аскетычнае жыццё ў самых яго суворых формах. З другога боку, мы бачым чалавека, які ведамі пераўзыходзіў сваіх сучаснікаў не толькі на Беларусі, але ўва ўсім усходнеславянскім свеце. Дзякуючы сваім прапаведніцкім здольнасцям Кірыла заслужыў сабе назоў другога Залатавуснага. Ён быў выдатным, хоць і не вельмі арыгінальным, багасловам у часе, калі багаслоўская думка ў нашай краіне рабіла толькі першыя нясмелыя крокі. Слава Кірылы як духоўнага настаўніка разышлася сярод ягоных суродзічаў яшчэ ў часе ягонага жыцця. Нарэшце, колькасць і мастацкі ўзровень ягоных твораў, якія дайшлі да нашага часу, робяць яго найбольшым з усіх ранніх беларускіх пісьменнікаў і першым вядомым беларускім паэтам.

Вялікая колькасць рукапісаў з творамі Кірылы, якія дайшлі да нас, сведчыць аб ягонай папулярнасці не толькі сярод беларусаў, але і сярод усіх усходніх і паўднёвых славянаў ад Ноўгарада да Сербіі і Балгарыі. На жаль, гэтага самага нельга сказаць пра весткі аб жыцці святога. Адзіны жыццяпіс Кірылы, які дайшоў да нас, знаходзіцца ў г. зв. «Пралогу»* і быў напісаны, праў-

* «Пралог» — зборнік кароткіх жыццяпісаў святых і павучальных словаў святых айцоў на кожны дзень (тое самае што сынаксар, ад грэцкага «сынаксарыён» — зборнік). «Пралог» (ад грэцкага «пролегомэна») азначае «ўступ» або «прадмова», але славянскія перакладчыкі ўзялі гэтае слова як назву для ўсёй кнігі.

дападобна, у XIV ст. Ён вельмі кароткі, але дазваляе нам, пры дапамозе вестак з агульнай гісторыі і твораў самога Кірылы, аднавіць жыццё святога ў ягоных агульных рысах.

Паводле «Пралога», Кірыла нарадзіўся ў Тураве і быў сынам багатых бацькоў.

Тураў з'яўляецца адным з самых старажытных беларускіх гарадоў. Першы раз ён згадваецца ў летапісе пад годам 980*, калі ён быў галоўным горадам племені дрыгавічоў. Ляжыць Тураў на рацэ Прыпяць, недалёка ад месца, дзе ў яе ўпадае з поўначы рака Случ. Некалі там праходзіў гандлёвы шлях з Балтыйскага мора ў Чорнае па Нёмане, Случы, Прыпяці і Дняпры. Акрамя Турава, іншымі важнымі гарадамі на гэтым шляху былі Горадня і Слуцк**. У другой палове X ст. Тураў быў сталіцаю незалежнага княства. У 980 г., або крыху пазней, ён быў заваяваны кіеўскім князем Уладзімірам і трапіў у залежнасць ад Кіева больш як на 150 гадоў. Праз увесь гэты час у Тураве княжылі члены велікакняскай сям'і, якім Тураў прыпадаў ва ўдзеле.

Некаторыя князі, якія жылі ў Тураве, былі спалучаныя сямейнымі сувязямі са знатнымі заходнімі і грэцкімі сем'ямі. Гэта, напэўна, мела ўплыў на культурнае жыццё горада. Так, напрыклад, Уладзімір даў Тураў свайму трэцяму сыну, Святаполку (празванаму пасля «Акаянным»)***, які ажаніўся прыблізна ў 1010 г. з дачкой польскага караля Баляслава Харобрага****. Разам з нявестаю прыехаў з Польшчы лацінскі біскуп Калабжэскі Райнбэрн. Святаполк, жадаючы, напэўна, аддзяліцца ад Кіева, пачаў рыхтаваць паўстанне супраць свайго бацькі. Уладзімір даведаўся аб гэтым, схапіў Святаполка з ягонай жонкаю і пасадзіў іх у вязніцу. Пацярпеў пры гэтым і Райнбэрн, які таксама быў арыштаваны і памёр у зняволенні. Святаполк выжыў. Пасля смерці Уладзіміра ў 1015 г. ён захапіў Кіеўскі пасад і стаў галоўным віноўнікам смерці двух сваіх братоў, Барыса і Глеба, якія былі забітыя па ягоным загадзе.

---

* «Бо Рагвалод прыйшоў з-за мора і меў уладу ў Полацку, а Туры ў Тураве: ад яго і пачалі называцца тураўцамі» // Полное собрание русских летописей (далей ПСРЛ). Л., 1926. Т. I. С. 76.

** Гл. Тихомиров М. Н. Древнерусские города. М., 1956. С. 305–306.

*** ПСРЛ. Т. I. С. 121.

**** Baumgarten N. Génealogies et marriages occidentaux des Rurikides russes. Rome, 1927. P. 10–11; Leib E. Rome, Kiev et Byzance. Paris, 1924. P. 155–157. Больш абшырна пра Святаполка і ягоную жаніцьбу гл.: Королюк В. Д. Западные славяне и Киевская Русь. М., 1964. С. 208–268.

Другі тураўскі князь, Яраполк, ажаніўся прыблізна ў 1073 г. з Кунэгундай, дачкой нямецкага графа Отта з Орлямундэ*. У 1087 г. ён быў падступна забіты сваім слугою, калі вяртаўся з ваеннага паходу. Летапісец згадвае пра яго як добрага, справядлівага і пабожнага князя, які любіў бедных і шмат нацярпеўся за сваё жыццё. Пасля сябе ён пакінуў прынамсі адну дачку, якая пасля выйшла замуж за немца, Гонцера з Турынгіі.

Малодшы брат Яраполка, Святаполк II, жыў у Тураве ад 1087 да 1093 г., пасля чаго заняў вялікакняскі пасад у Кіеве. Ягоная другая (або трэцяя) жонка, Барбара, была грэцкай княжной, спалучанай сямейнымі сувязямі з імператарскім домам Камнэнаў. Пасля смерці мужа Барбара пераехала жыць у Тураў. Там яна заснавала жаночы манастыр св. Барбары, дзе і была пахаваная пасля смерці ў 1124 г.**

У Тураве быў адзін з першых біскупскіх пасадаў на Беларусі. Ёсць звесткі, быццам Тураўскае біскупства было заснаванае ў 1005 г. і што першым біскупам там быў нейкі Тамаш. На жаль, сёння няма магчымасці спраўдзіць, наколькі гэтыя звесткі праўдзівыя***. Лепш вядомая гісторыя Тураўскага біскупства ў XII ст. У жыцці пачэснага Мартына Тураўскага****, пабожнага манаха і старэйшага сучасніка Кірылы, падаюцца імёны чатырох біскупаў, у якіх Мартын быў кухарам. Вось яны: Сымон, Ігнат, Якім і Юры. Пра Якіма ёсць дадатковыя звесткі ў Іпацьеўскім

---

* Baumgarten N. Génealogies et marriages occidentaux des Rurikides russes. P. 10–11.

** Baumgarten N. Ibid; Творения святого отца нашего Кирилла, епскопа Туровского. Киев, 1888. С. VIII (уступ).

*** Першы раз гэтая вестка сустракаецца ў г. зв. «Запавеце блаславёнага Уладзіміра для Тураўскай епіскапіі» ў Кіеўскім пацерыку Язэпа Трызны (1647–1653). Там гаворыцца, што Уладзімір «трэцюю багамольную епіскапію заснаваў у Тураве ў лета 6513 (г. зн. 1005. — *А. Н.*) і даў ёй гарады і пагосты… і паставіў першага біскупа Тамаша…» (Гл. Голубинский Е. Е. История Русской Церкви. М., 1901. Т. I, паўтом I. С. 681). Нягледзячы на позняе паходжанне весткі, Е. Галубінскі, а перад ім Макарый (История Русской Церкви. СПб., 1889. Т. 1. С. 26) разглядаюць яе як праўдзівую. Зусім іншай думкі польскі даследчык А. Поппэ, які лічыць, што няма ніякіх пэўных вестак пра існаванне біскупскага пасада ў Тураве раней за XII стагоддзе (Poppe A. Państwo i Kościół па Rusi w XI wieku. Warszawa, 1968. S. 183–188). У кожным выпадку выглядае, што Тамаш, калі ён і быў, не меў непасрэдных наступнікаў.

**** Сказание о Туровском мнихе Мартине // Творения… С. 295; Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. С. 25.

летапісе, паводле якіх ён быў біскупам ад 1144 да 1146 г.*. Юры, праўдападобна, быў непасрэдным папярэднікам Кірылы.

Год 1157 быў годам вялікіх падзеяў для Турава. Тады князь Юры Яраслававіч (унук Святаполка II), які быў ізгоем, г. зн. князем без удзела, выгнаў Барыса, сына кіеўскага князя Юрыя Далгарукага, і абвясціў Тураў незалежным княствам. Два разы кіеўскія князі з саюзнікамі хадзілі з вайною супраць Турава, але жыхары гэтага горада добра баранілі сваю незалежнасць**. Не могучы нічога зрабіць, кіеўскія князі павінны былі нарэшце прызнаць існаванне Тураўскага княства. У тым часе Тураў быў вялікім горадам з немалым лікам цэркваў і манастыроў***.

Дзейнасць Кірылы прыпадае якраз на гэты перыяд. У «Пралогу» не гаворыцца, калі ён нарадзіўся. У 1169 г. ён быў ужо біскупам, і таму трэба меркаваць, што яму тады было каля 40 гадоў. Такім чынам, выглядае, што Кірыла нарадзіўся не пазней як у 1130 г., а магчыма раней.

Кірыла быў адным з найбольш адукаваных людзей свайго часу. Ён выдатна ведаў Святое Пісанне. Некаторыя аўтары лічаць яго найлепшым біблістам сярод усіх ранніх усходнеславянскіх царкоўных пісьменнікаў****. Ягоныя творы перасыпаныя

---

* ПСРЛ. Т. II. С. 314, 330. Для паўнаты варта зацеміць, што летапісы гавораць пра высвячэнне ў біскупы ў 1114 г. нейкага Кірылы (ПСРЛ. Т. I. С. 290), якога некаторыя аўтары ўважаюць біскупам Тураўскім. Тацішчаў падае, што ў 1146 г. на Тураўскі пасад быў прызначаны нехта Іван (Татищев В. Н. История российская. М.; Л., 1963. Т. II. С. 151). Спіс вядомых Тураўскіх біскупаў да св. Кірылы выглядае наступным чынам: Тамаш (сумніўны, 1005–?), Кірыла (сумніўны, 1114–?), Сымон, Ігнат, Якім (1144–46), Іван (сумніўны, 1146–?), Юры (1146 — к. 1169) і, нарэшце, св. Кірыла (1169 — к. 1182). Пасля Кірылы біскупам быў Лаўрэн (1182–?).

** Больш дакладна пра гэтыя падзеі і пра палітычную гісторыю Турава гл.: Лысенко П. Ф. «Киев и Туровская земля» // Киев и западные земли Руси в XI–XIII вв. Минск, 1982. С. 81–108.

*** Вось спіс Тураўскіх цэркваў і манастыроў, назвы якіх дайшлі да нашага часу: цэрквы святога Спаса і Багародзіцы, пра якія згадваецца ў «ЗапавецеУладзіміра»; царква і манастыр св. Змітра; царква св. Пятра (заснаваная Яраполкам); царква арханёла Міхала (заснаваная Святаполкам II); манастыр св. Барыса і Глеба; манастыр св. Міколы, дзе манахам быў св. Кірыла; жаночы манастыр св. Барбары. Лік каля сарака цэркваў і манастыроў, які падае Калайдовіч (гл. ягоныя «Памятники…». С. XII (уступ)), відавочна перабольшаны.

**** Fedotov G. P. The Russian Reigious Mind. New York, 1960. P. 71.

біблейскімі цытатамі, не заўсёды дакладнымі, асабліва з Новага Запавету і псальмаў. Часам цэлыя сказы ў творах Кірылы з'яўляюцца спалучэннем выразаў, узятых з розных частак Бібліі, каб надаць ім пэўны, пажаданы для аўтара, сэнс.

Кірыла быў таксама знаёмы з творамі ўсходніх айцоў Царквы. Хоць ён нідзе не згадвае прозвішчаў, але ў ягоных творах бачны ўплыў такіх грэцкіх царкоўных пісьменнікаў, як Рыгор Багаслоў, Ян Залатавусны, Амфілох Іконскі, Эпіфан Кіпрскі, Прокл і інш. З пазнейшых аўтараў трэба нагадаць Тэафілакта Балгарскага і ягоныя каментары да Святога Пісання, а таксама «Хроніку» Юрыя Амартола. На падставе некалькіх грэцкіх словаў у творах Кірылы некаторыя даследчыкі робяць вывад, што ён ведаў грэцкую мову. Сёння, аднак, ужо стала вядомым, што крыніцы, якімі карыстаўся Кірыла, былі ў тым часе даступныя ў славянскім перакладзе.

Гэта не азначае, што Кірыла не ведаў грэцкай мовы. Дванаццатае стагоддзе было векам культурнага росквіту нашай краіны. Досыць нагадаць, што сучаснікамі Кірылы былі св. Еўфрасіння Полацкая і Клімент Смаляціч, а Аўрам Смаленскі жыў крыху пазней. Ёсць звесткі, што ў другой палове XII ст. у Смаленску існавалі школы, заснаваныя князем Раманам Расціслававічам*. Падобныя школы маглі існаваць і ў іншых гарадах, асабліва пры манастырах і біскупскіх пасадах. Акрамя школаў вядомыя таксама прыклады прыватнай асветы**.

Беларусь у XI і XII стагоддзях была цесна звязаная з Візантыяй, бо ўваходзіла ў склад Кіеўскай мітраполіі, якая належала да Канстанцінопальскай патрыярхіі. Амаль усе мітрапаліты і большасць біскупаў былі грэкамі. Візантыя ў тым часе перажывала культурны росквіт. Ажывіўся стары Канстанцінопальскі ўніверсітэт пад кіраўніцтвам аднаго з найбольш цікавых вучоных сярэднявечча Міхала Псэляса (пам. к. 1078 г.), настаўніка вышэйзгаданага Тэафілакта. На чале школы права стаяў не менш вядомы Ксыфілінас. Навучанне ва ўніверсітэце было дармовым, і студэнты, якія паспяхова закончылі навуку, мелі запэўненыя высокія становішчы ў дзяржаўнай адміністрацыі або судаводстве. Сярод візантыйскіх багасловаў таго часу можна яшчэ згадаць Яўтыма Зігабэна (пачатак XII ст.), аўтара «Зброі праваслаўя», і ягонага прадаўжальніка Мікіту Акаміната

---

* Татищев В. Н. Т. III. С. 129.

** Больш пра асвету ў XII ст. гл.: Чаев Н. С. Просвещение // История культуры Древней Руси. М.; Л., 1951. Т. II. С. 216–244.

(пам. к. 1215 г.). У пачатку XII ст. жылі таксама такія выдатныя гісторыкі і пісьменнікі, як Ганна Камнэна (1083 — к. 1148), Ян Зонарас і іншыя. Грэцкіх настаўнікаў можна было сустрэць ва ўсім цывілізаваным свеце. Былі яны, напэўна, і на Беларусі, куды прыязджалі разам з мітрапалітамі і біскупамі.

Такім чынам, Кірыла меў нагоду здабыць добрую асвету, нават не пакідаючы роднага горада. Тураў у тым часе быў паважным культурным цэнтрам: там быў біскупскі пасад і некалькі манастыроў. Дый не так даўно там жыла грэцкая княжна Барбара, і ў яе акружэнні былі вучоныя асобы, якія маглі пакіраваць навукаю здольнага юнака.

Будучы сынам багатых бацькоў, Кірыла «неўзлюбіў багацця і прамінальнай славы гэтага свету, але больш за ўсё прыкладаўся да вывучэння Боскіх кнігаў, і добра пазнаў Боскія пісанні». Яшчэ ў маладым веку ён пастанавіў пасвяціць сваё жыццё Богу і ўступіў у манастыр. Жыццяпісец не называе імя гэтага манастыра, але ў адным з пазнейшых рукапісаў гаворыцца пра Кірылу як пра манаха манастыра св. Міколы*.

У манастыры Кірыла «стараўся больш за ўсё дагадзіць Богу і, утаймаваўшы цела пастом і малітвамі, зрабіў сябе дастойным жыллём Святога Духа». Сваім спосабам жыцця, пабожнасцю і, несумненна, вучонасцю ён хутка звярнуў на сябе ўвагу іншых, і да яго пачалі прыходзіць, каб паслухаць рады ці навукі. Хоць сам ён меў нахіл да жыцця на самоце, Кірыла, свядомы грамадскага характару хрысціянства, не адмаўляўся дапамагчы іншым. Строгі і вымагальны да сябе, у сваіх павучаннях ён рабіў націск не на вонкавыя формы аскетызму, але на ўнутраныя цноты пакоры і паслушэнства. Вось што кажа пра гэта жыццяпісец: «(Кірыла) прынёс карысць для многіх сваёй навукаю, заахвочваючы манахаў, каб былі пакорнымі і паслухмянымі ігумену, быццам Богу, бо манах, які не слухае ігумена, якому ён абяцаў (паслушэнства), не можа быць збаўлены».

Асабістыя схільнасці цягнулі, аднак, Кірылу да большай адзіноты. Таму, пасля некаторага часу супольнага жыцця ў манастыры, ён «прагнучы яшчэ большых подзвігаў, увайшоў на стоўп і там зачыніўся». Стоўпніцтва — адна з найбольш суворых формаў аскетычнага жыцця. Яго практыкавалі ў V ст. некаторыя манахі на Блізкім Усходзе і ў Візантыі. У пошуках большай самоты яны будавалі свае келлі на платформе, якая

---

* «Малітвы ўмільныя недастойнага і больш за ўсіх грэшнага манаха Кірылы ў святога Міколы ў Тураве…» // Творения… С. XXX (уступ).

на адным або больш стаўпах узвышалася над зямлёю. Таму яны і называліся стоўпнікамі, або па-грэцку «стылітамі» (ад грэцкага «стылёс» — стоўп). Самымі вядомымі з іх былі св. Сымон Стоўпнік (390–459) і ягоны вучань Даніла (409–493). Кліматычныя ўмовы Беларусі не дазвалялі весці падобны лад жыцця. Таму «стоўп» Кірылы быў, напэўна, стоўпападобнай келляй, або маленькай вежай (па-грэцку «піргос»).

Перыяд стоўпніцтва быў для Кірылы часам яшчэ больш інтэнсіўнага духоўнага жыцця і не менш насычанай разумовай дзейнасці. Аўтар «Пралога» кажа, што ў стаўпе Кірыла «яшчэ больш стамляў сябе пастом і малітвамі і паясняў шматлікія святыя пісанні». Вельмі магчыма, што ў гэтым часе ён напісаў свае малітвы і каноны, а таксама некаторыя творы пра духоўнае жыццё.

Як часта бывае ў падобных выпадках, пошукі адзіноты мелі зусім адваротны вынік. Кірыла стаў настолькі вядомым, што, калі памёр Тураўскі біскуп Юры, князь і ўвесь народ прасілі мітрапаліта прызначыць яго на Тураўскі пасад*.

Як біскуп, Кірыла, паводле слоў жыццяпісца, «працаваў шмат для Царквы Божае». Інтэнсіўная пастырская дзейнасць не перашкаджала яму браць удзел у справах, што датычылі ўсёй Кіеўскай мітраполіі, да якой належала і Тураўская епархія. У 60-я гады XII ст. у гэтай мітраполіі паўстаў закалот з прычыны нейкага Тодара, або Тодарца, які подступам атрымаў ад Канстанцінопальскага патрыярха прызначэнне на Растоўскі пасад, абмінаючы Кіеўскага мітрапаліта, які быў ягоным беспасрэдным зверхнікам. Тодар меў магутнага апекуна ў асобе Уладзімірскага князя Андрэя Багалюбскага. Гэты князь, які пакінуў па сабе нядобры ўспамін, дзеля палітычных мэтаў хацеў мець у сваім княстве асобую царкоўную правінцыю, магчыма нават мітраполію, незалежную ад Кіева. Мітрапаліт Кіеўскі не прызнаў назначэння Тодарца, адлучыў яго і забараніў усім святарам і вернікам мець зносіны з ім. У адказ на гэта Тодарац, пэўны ў князевай апецы, пачаў праследаваць сваіх праціўнікаў і адначасова прапаведаваць нейкую неазначаную гарэзію. Яму, аднак, прыйшлося горка дасведчыць, як няпэўны лёс тых, што спадзяюцца на ласку свецкіх уладароў. Андрэй змяніў сваю палітыку і пачаў шукаць пагаднення з мітрапалітам. Ён арыштаваў

* Тураўскім князем быў тады, напэўна, Святаполк (1167–1190), сын Юрыя Яраслававіча, а Кіеўскім мітрапалітам — грэк Канстанцін II (1167–?).

Тодарца і адправіў яго ў Кіеў на мітрапалічы суд. Там ён быў асуджаны і памёр лютай смерцю* ў траўні 1169 г.

Кірыла, які меў высокае паняцце аб біскупскай годнасці, не застаўся збоку ад гэтае сумнае справы. Вось што піша аб гэтым жыццяпісец: «У справе Тодарца, так пагардліва празванага, блаславёны Кірыла раскрыў ягоную гарэзію пры дапамозе Боскіх пісанняў і выкляў яго». Да нас дайшоў адзін твор Кірылы супраць Тодарца. Гэта «Сказ (прыпавесць) пра душу і цела, або Пра кульгавага і сляпога». У ім Кірыла бароніць годнасці біскупскага стану супраць тых, якія недастойна яго прагнуць. У «Пралогу» ўспамінаюцца таксама дагэтуль не знойдзеныя лісты Кірылы да Андрэя Багалюбскага. Магчыма, у іх святы дакараў князя за ягоныя нягодныя ўчынкі і за разбіванне царкоўнай еднасці**.

Справа Тодарца дазваляе ўстанавіць прыблізны час, калі Кірыла стаў біскупам. З аўтарытэтнага тону «Сказа пра душу і цела» і з вышэй прыведзенай зацемкі з «Пралога» (Кірыла выкляў Тодарца), выглядае, што ў тым часе, г. зн. у 1169 г.***, Кірыла быў ужо біскупам.

Час біскупства Кірылы быў часам ажыўленай пісьменніцкай дзейнасці, якая, напэўна, была звязаная з ягонымі пастырскімі абавязкамі. Жыццяпісец успамінае, што ён напісаў «навукі на тэмы Евангелля і прарокаў, казанні на Гасподнія святы і шмат іншых твораў, карысных для душы; а таксама малітвы і пахвалы многім святым». Заўсёды дбайлівы пра дабро іншых, Кірыла, «напісаўшы ўсе гэтыя творы, перадаў іх царкве, якая захавала іх да сённяшняга дня для суцяшэння і навучання верных усяе Русі».

На жаль, толькі нязначная колькасць гэтых твораў захавалася да нашага часу. Магчыма, далейшыя пошукі адкрыюць іншыя згубленыя скарбы духоўнай і літаратурнай спадчыны святога.

---

* На загад мітрапаліта Канстанціна яго завезлі на «Пёсі востраў» на Дняпры, адрэзалі правую руку і язык і выкалалі вочы (ПСРЛ. Т. І. С. 356; Т. ІІ. С. 552–553). Праўда, летапісец кажа, што Тодарац паступаў са сваімі працаўнікамі не менш нялюдска.

** Няма нічога дзіўнага ў факце перапіскі біскупа Тураўскага з пыхлівым князем. У 1151 г. Андрэй Багалюбскі атрымаў ад свайго бацькі, Юрыя Далгарукага, Тураў разам з Пінскам, Дарагабужам і Перасопніцай. Магчыма, ён і Кірыла былі знаёмыя з таго часу.

*** Летапісы падаюць розныя даты арышту Тодарца. Паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, гэта здарылася 8 траўня 1169 г. (ПСРЛ. Т. І. С. 355), а паводле Іпацьеўскага — 8 траўня 1172 г. (ПСРЛ. Т. ІІ. С. 552). Звычайна прымаецца першая дата.

У «Пралогу» няма больш ніякіх вестак пра біскупскую дзейнасць Кірылы, ані даты ягонае смерці, а толькі кароткая зацемка: «Пажыўшы сумленна і пабожна, і дбайліва пасвячы даручаны яму статак, ён перайшоў да жыцця вечнага і непрамінальнага».

З летапісу вядома, што на пастрыжэнні новага ігумена Кіева-Пячэрскай лаўры Васіля ў 1182 г. быў прысутны Тураўскі біскуп Лаўрэн*. Трэба думаць, што ў гэтым годзе Кірылы не было ўжо сярод жывых, або, як думаюць некаторыя аўтары, ён зрокся біскупскага пасаду і вярнуўся ў манастыр.

Самы ранні вядомы спісак жыцця Кірылы паходзіць з канца XIV або пачатку XV ст. У тым часе культ святога быў распаўсюджаны сярод усіх усходніх славянаў. Несумненна, у самым Тураве яго пачалі ўважаць за святога раней, магчыма адразу пасля смерці**. Вось малітва, якою сканчаецца жыццё святога: «Радуйся, слаўны святаначальніку, настаўніку, другі Залатавусны, які заззяў больш за ўсіх на Русі. Радуйся ты, што сваім светлым вучэннем усе куткі Русі прасвятліў. Радуйся ты, што, як сонца, прынёс святло Боскае навукі для тых, што сядзелі ў цемры. Мы ўзносім да цябе ў малітве гэтую пакорную просьбу: маліся за нас Усявышняму, у чыёй прысутнасці ты маеш смеласць прабываць, каб Ён вызваліў нас ад цяперашніх напасцяў і ад бязбожных агаранаў***, якія мучаць нас няспынна. Зрабі таксама, каб мы тваімі малітвамі маглі атрымаць міласць і адпушчэнне грахоў, і спадчыну вечных даброт аў у будучым жыцці ў Хрысце Ісусе, Госпадзе нашым».

Памяць святога Кірылы адзначаецца 28 красавіка.

## Духоўны настаўнік

У жыцці святога Кірылы гаворыцца, што, будучы яшчэ ў манастыры, ён быў карысным для многіх сваімі павучаннямі. Пра характар гэтых павучанняў даюць уяўленне два ягоныя аскетычныя творы аб манаскім жыцці****. Першы з іх называецца

---

* ПСРЛ. Т. II. С. 627.

** Голубинский Е. Е. История канонизации святых Русской Церкви. Чтения в Обществе истории и древностей российских. М., 1903. Кн. I. С. 140.

*** Г. зн. татараў.

**** Тут і далей разглядаюцца толькі творы, якія бясспрэчна належаць св. Кірылу. Гл. пра гэта: Еремин И. П. Литературное наследие Кирилла Туровского // ТОДРЛ. Т. XI. С. 342–367.

«Прыпавесць пра бесклапотнага цара». Са зместу відаць, што гэта быў адзін з ранніх твораў Кірылы. У ім адчуваецца «юнацкі» энтузіязм і аднабаковасць, не зраўнаважаная шматгадовым досведам.

«Прыпавесць» часам пакідае ўражанне, што для аўтара манастырскае жыццё было адзіным хрысціянскім. У адносінах да манахаў Кірыла нават ужывае словы Хрыста: «Ойча святы… не за ўвесь свет малю, але за тых, якіх Ты мне даў» (Ян 17, 9). Вось пачатак «Прыпавесці»:

«У адным горадзе быў ласкавы цар, добры і літасцівы, які клапаціўся пра сваіх людзей. У адным ён толькі паступаў неразумна: не баючыся ніякіх закалотаў, ён не меў падрыхтаванай збройнай сілы. Ён не думаў, каб нехта захацеў бунтаваць супраць яго. Меў гэты цар шмат сяброў, дарадчыкаў, а таксама дачку на выданні. Адзін мудры і сумленны дарадчык вельмі сумаваў з прычыны бесклапотнасці цара і шукаў нагоды, каб пагутарыць з ім аб патрэбе быць падрыхтаваным да вайны. Аднаго разу паўстаў сярод ночы вялікі закалот у горадзе. Цар сказаў сваім дарадчыкам: Хадзем, паходзім па горадзе і, можа, знойдзем таго, хто ўзняў бунт, бо я ў вялікім страху. Яны выйшлі, абышлі навокал, але нічога не знайшлі, апрача вялікага закалоту ў цэлым горадзе. Калі ўсе іншыя дарадчыкі стаялі прыгнобленыя і бездапаможныя, той добры дарадчык узяў цара і ягоную дачку і прывёў іх да вялікай гары, дзе было шмат featureнай зброі. Яны заўважылі там святло, якое ззяла з пячоры праз маленькае акенца. Прыпаўшы да акенца, яны ўбачылі ўнутры жыллё, а ў ім мужчыну, які жыў у вялікай беднасці і быў апрануты ў рыззё. Побач з ім сядзела ягоная жонка і спявала яму салодкую песню. Перад ім стаяў на цвёрдым камені нехта высокі і прыгожы і даваў яму есці і чэрпаў віно. Калі ж той мужчына прымаў ежу, дык яго вянчалі пахваламі з вялікай радасцю. Убачыўшы гэта, цар паклікаў сваіх прыяцеляў і сказаў: Гляньце, сябры, на цуд, як гэтае беднае і ўтоенае жыццё мае ў сабе больш радасці, як наш магутны стан, а ўнутраныя (дабрадзейнасці) ззяюць ярчэй за вонкавыя».

Далей ідзе тлумачэнне прыпавесці: «Горад… гэта людское цела… Цар — розум, які кіруе целам… Вялікі закалот у горадзе — нечаканае няшчасце: хвароба, калецтва, паводка, крыўда ад свецкіх уладаў… Гара — манастыр, а ў ім духоўная зброя: пост, малітва, слёзы (жалю за грахі), устрыманасць, чысціня, любоў, пакора, працавітасць, цярплівасць… Мужчына, які жыве ў беднасці, — гэта ўвесь манаскі стан… Жонка, што сядзіць

побач і спявае салодкую песню, — неадлучная памяць пра смерць… А прыгожы мужчына, што стаіць перад ім, — гэта сам Хрыстос… Ён корміць і чэрпае віно, гэта значыць, дае верным сваё пачэснае Цела для адпушчэння грахоў і святую Кроў для жыцця вечнага». Твор сканчаецца пахвалою манаскага жыцця.

«Прыпавесць пра бесклапотнага цара» — добры прыклад алегарычнага метаду, якім Кірыла карыстаўся даволі часта. Узорам для гэтай прыпавесці паслужыла вядомая «Гісторыя пра Варлаама і Яасафа», аўтарам якой лічыцца Ян Дамаскін. Гэтая гісторыя карысталася вялікай папулярнасцю як на Усходзе, так і на Захадзе і была вядомай сярод усходніх славянаў ужо ў канцы XI ці пачатку XII ст.*.

---

* Вось для параўнання кароткі змест гісторыі пра Варлаама і Яасафа: «Быў цар, які разумна правіў сваёй дзяржавай і ласкава абыходзіўся з людзьмі. Было толькі дрэнна, што ён не ведаў Бога і пакланяўся ідалам. Быў у цара адзін добры дарадчык, які меў дар веры ў Бога… Ён шукаў нагоды звярнуць увагу цара на тое, што ёсць добрым. Адзін раз уночы цар сказаў яму: Хадзем паходзім па горадзе, можа, убачым нешта павучальнае. Ходзячы так, яны заўважылі прамень святла, які выходзіў праз шчыліну. Прыпаўшы да шчыліны, яны ўбачылі пячору, а ў ёй мужчыну, які жыў бедна і быў апрануты ў рыззё… Побач з ім стаяла ягоная жонка і чэрпала віно. Калі мужчына прымаў віно ў свае рукі, яна спявала яму салодкую песню і цешыла яго танцамі і пахваламі… Цар сказаў дарадчыку: Што гэта за цуд, што наш стан, такі багаты на розныя гонары і выгоды, ніколі не меў у сабе столькі радасці, колькі мае беднае жыццё гэтых простых людзей… Ён спытаўся ў дарадчыка, хто былі гэтыя людзі, і пачуў адказ: Гэта ўсе тыя, што аддаюць перавагу вечнаму над дачасным» (гл.: St John Damascene. Barlaam and Joasaph. Loeb Classical Library, Heineman. London, 1953. P. 229–232). Першы, хто звярнуў увагу на падабенства гісторыі пра Варлаама і Яасафа і прыпавесці Кірылы Тураўскага, быў Сухамлінаў у 1858 г. Перайманне тэмаў было звычайнай з’явай ў старажытнасці. Дый сама гісторыя пра Варлаама і Яасафа была хрысціянскай перапрацоўкай старой індускай легенды пра жыццё Буды. Перад тым, як атрымаць сваю канчатковую хрысціянскую форму, яна пацярпела шмат зменаў і сталася часткаю народнай творчасці многіх усходніх народаў. Украінскі паэт і вучоны Іван Франко выказаў нават думку, што Кірыла запазычыў сюжэт, магчыма, не з пісьмовых крыніцаў, а з вуснага пераказу (гл. ягоны артыкул «Притча про сліпца і хромца» // Статьи по славяноведению / под ред. В. Н. Ламанского. Вып. II. СПб., 1906. С. 137–139). Варта заўважыць, што гісторыя пра Варлаама і Яасафа была шырока вядомая ў Беларусі. У 1637 г. яна выйшла друкам у Куцеіне на беларускай мове. Яна трапіла таксама ў беларускую народную творчасць у выглядзе духоўных песняў «Пра старца Арлавана і Алісахвея» або «Пра царэвіча Алісахвея».

Другі твор Кірылы пра манаскае жыццё называецца «Сказ аб манаскім стане ад Старога і Новага Запаветаў, паколькі манах носіць у сабе вобраз першага і робіць учынкі другога». Некаторыя іншасказальныя вобразы ў «Сказе» даволі цяжкія для зразумення, але ўвесь твор мае на сабе адзнакі спелай і зраўнаважанай думкі.

Перадусім, манах прыносіць сябе ў ахвяру Богу, падобна старазапаветнаму ягняці, і таму ён павінны быць чыстым і беззаганным: «Згодна з вобразам Старога Закону ты прынёс сябе ў ахвяру Богу, падобна як некалі ягняты былі забіваныя ў пустыні. Дык не будзь кароślівым, ані кульгавым, ані сляпым, ані параненым, бо ўсе такія, дзеля сваіх заганаў, аддаюцца на страву сабакам і птушкам». Далей ідзе тлумачэнне заганаў: кароста — гэта грахі; кульгавасць — прывязанасць да рэчаў гэтага свету; слепата — бескарыснае, самалюбнае жыццё.

Ахвяра, будучы дабравольнай, павінна быць поўнай. «Паводле Старога Запавету кожная дабравольная ахвяра, вялікая ці малая, павінна прыносіцца Богу ад шчырага сэрца. Хай не будзе фальшывых хістанняў у тваіх думках. Ты як свечка: маеш сваю волю толькі да царкоўных дзвярэй, а пасля не глядзі, што і як з табою зробяць. Ты як вопратка: ведай сябе, пакуль нехта не возьме цябе ў рукі, а пасля не думай нічога, нават калі цябе парвуць на анучы. Таксама і ты, май сваю волю да паступлення ў манастыр, а пасля пострыгу не захоўвай у сваім сэрцы ніякай самаволі, каб не памерці душою, як Ананія, калі ён пачуў ад Пятра, які сказаў яму: “Нашто захацеў ты спакусіць Духа Святога?” (гл. Дз 5, 3–4). Не будзь абыякавым да тваіх абяцанняў, каб на табе не спраўдзіліся словы Пісання: “Лепш было не пазнаць праўды, як, пазнаўшы, адвярнуцца ад яе” (гл. 2 Пт 2, 21)».

Намер мае асноўнае значэнне ва ўсіх людскіх дзеяннях: «Бог сказаў Майсею: Выведзі з Егіпта мой народ Ізраіля, каб, пайшоўшы, атрымалі ў спадчыну зямлю, якую Я абяцаў Абрагаму. Людзі, пачуўшы гэта ад Аарона, паспяшылі ў дарогу: адны ў радасці Божага абяцання; другія, бо цяжкая няволя фараонава была для іх невыноснай; іншыя, бо не мелі сілы рабіць цэглу і будаваць гарады; іншыя яшчэ, бо не маглі цярпець здзеку наглядчыкаў».

У падобны спосаб кожны, хто жадае паступіць у манастыр, павінен ясна здаць сабе справу з таго, што змусіла яго выбраць

---

Тры такія песні надрукаваў Е. Раманаў у сваім «Беларускім зборніку» (Вып. 5. Віцебск, 1891. С. 371–377).

гэты спосаб жыцця: «Ты ж, браце, калі хочаш ісці следам за Хрыстом, які вядзе цябе да неба, май на ўвеце, чаму ты ўцякаеш з духоўнага Егіпта*, якім ёсць гэты свет: ці ты жадаеш абяцанага валадарства, ці не хочаш рабіць грэшнай работы д'ябальскай, а можа, не любіш жыццёвых клопатаў, ад якіх няма карысці, а толькі згуба для душы; або жонка і дзеці не даюць табе спакою»**.

Усе гэтыя матывы добрыя і дастатковыя, але найбольшым і найлепшым з іх ёсць самое жаданне свядома ісці за Хрыстом: «Ты ж, манах, разважай над прыказаннямі і жыццём адзінага Хрыста, які ад нараджэння аж да крыжа цярпеў прыкрасці, намовы, пагарду і раны дзеля цябе, — і падрыхтуйся пераносіць цяжкасці… Памятай, што ў пастрыжэнні тваёй галавы ты носіш вобраз цярновага вянка Хрыстовага». Крыху далей Кірыла вяртаецца да гэтай тэмы, падкрэсліваючы адначасова грамадскі характар манаскага паклікання: «Старайся стацца сынам Божым праз Хрыстовыя цярпенні, каб не толькі самому збавіцца, але таксама ацаліць тых, хто трапіў да грахоўных разбойнікаў».

Мучанікі з'яўляюцца найбольш дасканалымі пераймальнікамі Хрыста, таму манаскае жыццё павінна быць працягам мучаніцтва: «Змагайся цярпліва, мужна перанось усялякія нягоды, беручы прыклад з мучанікаў, якія пралілі сваю кроў за Хрыста»***.

---

* Выхад габрэяў з Егіпта як вобраз паступлення ў манастыр (г. зн. выхад з гэтага свету) добра вядомы ва ўсходнехрысціянскай духоўнай традыцыі. Святы Ян Лесвічнік (памёр у 649 г.) піша: «Калі мы хочам выйсці з Егіпта і ўцячы ад фараона, мы павінны мець Майсея — нашага пасярэдніка з Богам, — які, стоячы між дзеяннем і сузіраннем, уздымае свае рукі, каб мы, пад яго праведніцтвам, маглі перайсці мора грахоў і прагнаць Амалека нашых дрэнных пажаданняў» (Migne. Patrologia Graeca (далей PG). V. 88. P. 635–636).

** Відаць, у тым часе не лічылася нечым незвычайным, калі нехта пакідаў жонку і сям'ю, каб ісці ў манастыр. Св. Тодар Студыт (759–826) піша: «Ці ж некаторыя з вас не пакінулі бацькоў, іншыя — братоў, іншыя — жонак і дзяцей, іншыя — хаты, іншыя — гаспадарку, а ўсе апошнія — і гэта самае цяжкае, — адракліся ад сваёй волі?» (Migne. PG. V. 99. P. 673).

*** Св. Апанас Александрыйскі (296–373) расказвае, што св. Антон Вялікі вельмі прагнуў мучаніцкай смерці. Дзеля гэтага, у часе апошняга вялікага пераследу хрысціянаў у 311 г., ён пакінуў пустыню і прыйшоў у Александрыю. Калі, аднак, ягонае жаданне не споўнілася, ён «вярнуўся ў сваю келлю і там кожны дзень быў мучанікам свайго

Так як манах прыносіць сябе ў ахвяру Богу і з'яўляецца пераймальнікам Хрыста, то манаскі пострыг — гэта нешта вялікае і мае вартасць ледзь не святой тайны. Пра гэта нагадвае Кірыла свайму духоўнаму сыну: «Памятай, што ты чуў пры тваім пострызе: вось Хрыстос тут стаіць нябачна. Дык глядзі, каму ты даваў абяцанне. Падумай толькі: ці ж ты не быў тады акружаны агнём страху Божага больш за гару Сінайскую? І ці ж не глыбей, як на Табліцах Закону, былі выразаныя Словам Божым твае абяцанні на цялесных дошках твайго сэрца? Сцеражыся, каб не разбіць іх тваёй дрэннай вераю»*.

Ісці следам за Хрыстом не лёгка: чалавек без праваднiка можа заблудзіць, як некалі габрэі, што засталіся на нейкі час без Майсея, калі той узышоў на гару, каб гутарыць з Богам: «Майсей, загадаўшы ўсім прабываць у чысціні, узышоў на гару, куды зышоў сам Бог, абкружыўшы гару агнём… І што сталася ў міжчасе? Усе цуды, якія яны бачылі, не збавілі слабавольных людзей ад загубы. Яны прыйшлі да Аарона і пачалі прымушаць яго, каб даў ім бога. Калі іхняя воля была споўненая, яны селі есці і піць, аж пакуль агонь не загарэўся, і многія згінулі ад гневу Божага. І ўсе яны згінулі б, калі б Майсей не стаў перад Ім у пакоры, просячы, каб Ён адвярнуў свой гнеў і не знішчыў іх, пакуль не будзе зроблены Каўчэг Запавету» (гл. Выхад. Раздзел 32; Пс 105, 23–24).

Манах, каб яго не спаткаў падобны лёс, павінен знайсці сабе духоўнага настаўніка — свайго Майсея, — якому мусіць поўнасцю даверыцца: «Пастарайся знайсці мужа, які мае ў сабе Духа Хрыстовага, упрыгожанага дабрадзейнасцямі, паважанага ўсімі, які ўсім сваім жыццём любіць Госпада больш за ўсё, ёсць

---

сумлення, увесь час змагаючыся за веру» (St. Athanasius. Life of Sc Anthony / transl. R. T. Mayer. London, 1950. P. 60). Такім чынам, думка, што законнае жыццё ёсць працягам мучаніцтва, вельмі старая. У грэцкай мове «мучанік» завецца «мартыс». Першаснае значэнне гэтага слова ёсць «сведка». Мучанікі сваёй крывёю сведчылі аб праўдзе веры Хрыстовай. Манахі сведчаць аб ёй сваім спосабам жыцця.

* Святы Хвядос Кіевапячэрскі (пам. у 1074 г.) піша: «Прыгадайма наш першы ўваход… Ці ж мы тады, стоячы перад святымі дзвярыма, не давалі абяцанняў перад бачнымі і нябачнымі сведкамі, быццам у судны дзень, і нават самога Бога клікалі, кажучы: Вось Хрыстос тут нябачна стаіць? Дык памятай, каму ты даваў абяцанні! Ніхто цябе да гэтага не змушаў» (Евсеев И. А. Преподобный Феодосий Печерский и его поучения // Памятники древнерусской церковно-учительной литературы. Вып. I. СПб., 1894. С. 36–37).

паслухмяны ігумену, не мае злосці на іншых братоў, а таксама ведае добра святыя пісанні, з дапамогаю якіх ён можа накіроўваць да Бога тых, што шукаюць неба. Такому перадай сябе, як Халеб Ісусу (Навіну), адсекшы сваю волю, каб быць табе чыстым посудам, які зберагае ўсё добрае, што ў яго ўліваецца, аж пакуль не станецца святыняю Святой Тройцы, паводле сказанага: *Я і Айцец мой прыйдзем і жыллё зробім у табе* (Ян 14, 23)»*.

Кірыла добра ведаў усе — добрыя і заганныя — бакі манаскага жыцця. У ягоных творах можна часта спаткаць перасцярогі супраць манахаў, якія «жывуць у манастыры без страху Божага і думаюць толькі пра свой страўнік і пра вопратку», а таксама «любяць сваё цела, часта мяняюць адзенне, з нагоды святаў ладзяць бяседы з папойкамі, зацягваюць зборы да позняй ночы і стараюцца мець сваю волю над зверхнікамі». Замест гэтага ён дае сваім духоўным сыном рады падобныя да вось гэтай: «Будзь слаўны не светлай вопраткай, але добрымі ўчынкамі»; або: «Дрэва хваляць не за рост, а за плады. Таксама не манастыр робіць слаўнымі манахаў, але добрыя цноты манахаў робяць слаўным манастыр».

Гэтая апошняя думка знаходзіцца ў «Прыпавесці пра бясклапотнага цара», дзе ёсць і іншыя цікавыя выказванні пра жыццё ў манастыры. Так, манаскае жыццё — гэта няспыннае ўслаўленне Бога. У тлумачэнні да прыпавесці Кірыла кажа, што святло, якое ззяе ў пячоры, — гэта «ахвяра хвалы Богу, нязмоўкнае псаломскае пяянне «алілуя». Бо гаворыцца: *Уночы ўздымайце рукі вашыя да святых рэчаў і бласлаўляйце Госпада* (Лс 133, 2); і яшчэ: *Я ўстаў апоўначы, каб славіць Цябе* (Пс 118, 62)».

---

* Святы Базыль Вялікі (330–379) так апісвае выбар духоўнага настаўніка: «З вялікай развагай і асцярожнасцю пастарайся знайсці чалавека (манаха), які быў бы для цябе надзейным праваднікам у гэтым спосабе жыцця і які ўмее кіраваць тымі, хто імкнецца да Бога. Трэба, каб ён быў упрыгожаны дабрадзейнасцямі і сваімі ўчынкамі даваў доказы любові да Бога, а таксама ведаў Святыя Пісанні. Ён павінен любіць адзіноту, цурацца багацця, быць збоку ад усялякіх спрэчак, ціхім, любым Богу, прыяцелем беднасці, спакойным, непамятлівым крыўдаў, а таксама служыць прыкладам для ўсіх вакол яго. У ім не павінна быць ніякай пыхлівасці і гордасці, трэба, каб ён быў недаступны для ліслівых пахвалаў, меў цвёрды характар і славіў Бога вышэй за ўсё. Калі знойдзеш такога чалавека, дык аддайся яму поўнасцю, здушыўшы і выкінуўшы з сябе найменшы праяў уласнай волі, каб стацца табе чыстым посудам, які зберагае ўсё, што туды кладзецца, для большай тваёй славы і пахвалы» (Migne. PG. V. 31. P. 631–632).

Жыццё ў манастыры ўладкаванае «згодна з апостальскімі звычаямі: ніхто не мае нічога свайго, але ўсё там агульнае*. Усе знаходзяцца пад адным ігуменам, злучаныя з ім духоўнымі жыламі, як члены цела з галавою».

Беднасць з'яўляецца адной з галоўных прыкметаў манаха: «Усякая багатая вопратка і цялесныя ўпрыгожанні чужыя для ігумена і ўсяго манаскага стану. Бо Хрыстос кажа, што тыя, якія носяць мяккія вопраткі, жывуць у царскіх харомах (гл. Мц 11, 8). Затое манахі павінны быць апранутыя ў чысціню, падпяразаныя праўдаю і ўпрыгожаныя пакораю».

Іншая неадлучная спадарожніца манаха — памяць пра смерць. Яна — ягоная жонка, «якая спявае салодкую песню: голас радасці і вяселля ў жыллях праведнікаў (Пс 117, 15). Бо праведнікі вечна жыць будуць, і іхняя ўзнагарода ад Госпада (Мдр 5, 16). Смерць праведніка — супакой (Мдр 3, 3). Багацці прамінаюць — не аддавайце сэрца вашага ім (Пс 65, 11)».

Наогул, жыццё манаха — гэта няспынны высілак і праца над сабою: «(Некаторыя)… даўшы манаскія абяцанні, хочуць дасягнуць святасці, не стараючыся перамагчы свае слабасці. Хоць яны і чытаюць святыя пісанні, але думаюць, што Бог іх збавіць без высілку з іхняга боку. Але (калі так робім), не разумеем Паўла, які кажа: Без высілку ніхто не можа атрымаць узнагароды**. Тыя, што спяць, не могуць перамагчы, а лянівыя не могуць быць збаўленымі». Крыху далей Кірыла кажа: «Маючы такія абяцанні, манахі, змагайцеся… Пераймайце высілкі святых айцоў і старайцеся пераўзысці адзін аднаго ў плачы (за грахі), у трыванні, у малітвах, у паслугах… Уздыміце крылы вашага розуму, і палецім разам далёка ад згубнага граху. Возьмем страву з кнігаў святых і скажам разам з Давідам: Як салодкія паднябенню майму словы Твае, яны для вуснаў маіх больш салодкія за мёд» (Пс 118, 103).

Нягледзячы на высокія вымаганні, Кірыла лічыў манаскае жыццё лёгкім: «Забудзься пра зямныя рэчы, прымай з рукі келіяра лёгкі хлеб, быццам манну, і еш». Відаць, ён хацеў гэтым сказаць, што манах, даўшы абяцанне паслушэнства, вызваліўся ад клопатаў штодзённага жыцця.

Кірыла неаднаразова напамінаў манахам пра патрэбу пакоры. З другога боку, ён уважаў, што манахам, верным свайму пакліс-

* Кірыла, напэўна, меў на ўвазе Дз 4, 32.

** Такога сказа ў св. Паўла няма. Кірыла тут скарыстаў 2 Цім 2, 5, змяняючы тэкст, каб надаць яму пажаданае значэнне.

канню, належыцца пашана: «Унутраныя дабрадзейнасці святых манахаў ззяюць ясней за свецкую славу, і таму магутныя гэтага свету схіляюць перад імі свае галовы і аддаюць пашану, якая належыць тым, хто дагадзіў Богу».

Вось галоўныя думкі св. Кірылы аб манаскім жыцці. Прыблізна сто гадоў раней святы Хвядос даваў кароткія настаўленні манахам Кіевапячэрскай лаўры. Некалькі настаўленняў дайшлі да нашых дзён. Прасякнутыя евангельскім духам, яны захапляюць сваёй прастатой. У Кірылы гэта ўжо не кароткія настаўленні на асобныя тэмы, але спроба — першая ва ўсходнеславянскай рэлігійнай літаратуры — сістэматычнага падручніка манастырскай аскетыкі.

Аскетычныя творы св. Кірылы сведчаць аб глыбокай духоўнасці аўтара. Сёння шмат каму яны могуць здацца залішне суворымі. Часта маецца ўражанне, што пачуццё страху Божага ў Кірылы пераважае над любоўю. У гэтым ён быў толькі верны традыцыям візантыйскай духоўнасці. Кірыла асабліва блізкі да святога Тодара Студыта (пачатак IX ст.), чые правілы законнага жыцця былі ў тым часе прынятыя ўсімі ўсходнеславянскімі манастырамі. Гэтыя правілы вызначаліся вымаганнямі строгай, але разумнай дысцыпліны і безумоўнага паслушэнства. Апроч Тодара Студыта сярод усходніх славянаў былі вядомыя аскетычныя творы св. Базыля Вялікага (IV ст.) і Яна Лесвічніка (VI–VII стст.). Несумненна, гэтыя вялікія духоўныя настаўнікі мелі, непасрэдна ці ўскосна, уплыў на св. Кірылу.

Сам Кірыла не прэтэндаваў на арыгінальнасць, як ён сам прызнаецца ў сваім «Сказе пра манаскі стан»: «Гэтыя словы я напісаў не ад сябе, але з кнігаў. А калі хто інакш вытлумачыць, дык спрачацца не будзем. Мы не жняцы, але коласазбіральнікі, і не хітрыя ў кнігах. Мы грубыя (невучоныя) слугі і больш за ўсіх маем патрэбу ў вашых айцоўскіх малітвах у Хрысце Ісусе, Госпадзе нашым, якому хай будзе слава разам з Айцом і Святым Духам, цяпер, і заўсёды, і на вякі вечныя. Амін».

Нягледзячы на гэтыя пакорныя запярэчанні, аскетычныя творы Кірылы, асабліва «Сказ пра манаскі стан», маюць дастаткова арыгінальнасці і цікавасці, каб забяспечыць іх аўтару пачэснае месца сярод іншых духоўных пісьменнікаў. Яны не страцілі сваёй вартасці і ў сённяшні дзень для тых, хто, паводле словаў Кірылы, «шукае неба».

## Пясняр Божае міласэрнасці

Духоўны воблік Кірылы нідзе не выступае так ясна, як у ягоных малітвах. Усяго іх налічваецца трыццаць — па чатыры і больш на кожны дзень тыдня. Па сваім характары малітвы Кірылы — «келейныя», прызначаныя для прыватнага ўжытку, Большасць малітваў скіраваныя да Бога ў Тройцы адзінага і да Госпада Ісуса Хрыста. У малітвах да святых захаваны парадак тыднёвага літургічнага круга: у панядзелак — анёлам; у аўторак — Яну Хрысціцелю, у чацвер — апосталам і святому Міколу; у суботу — усім святым. Серада ў асаблівы спосаб прысвечаная Найсвяцейшай Багародзіцы, а ў пятніцу ўспамінаецца Крыж Гасподні.

Малітвы св. Кірылы маюць галоўным чынам пакутны характар. Асноўная думка ў іх — гэта вобраз грэшнага чалавека, які стаіць перад Творцам і не мае іншай надзеі на збаўленне, апрача Божай міласэрнасці. Разумеючы, аднак, што няўдзячныя не могуць адчуваць жалю за грахі, Кірыла звычайна пачынае малітву ад услаўлення Божай велічы і дабрыні: «Слава Табе, Госпадзе Божа мой, што Ты ўдастоіў мяне бачыць дзень Твайго слаўнага ўваскрасення, у які Ты вызваліў душы праведных, звязаных у пекле. Гэтага вызвалення прагну і я, Уладару мой. Збаў мяне, звязанага шматлікімі грахамі, і зрабі, каб у пацямнелай душы маёй заззяла святло Тваёй ласкі. Я ведаю Твае незлічоныя шчадроты, Тваю невыказную любоў да людзей. Ты прывёў мяне з небыцця да існавання і ўпрыгожыў падабенствам Твайго вобразу; Ты ўзвысіў мяне вышэй за іншыя зямныя істоты, даў мову і розум, і паставіў мяне ўладаром усяго стварэння. Ведаючы ўсе дні майго жыцця, Ты апекаваўся мною ад майго дзяцінства, каб я мог быць збаўленым і стацца сябрам слаўнага чыну Тваіх анёлаў» (малітва ў нядзелю раніцай).

А вось яшчэ адзін прыклад: «Што Табе дам, Госпадзе Ісусе Хрысце, Сыне Божы, за ўсё, што Ты зрабіў для людского роду? Якую адплату ахвярую Табе за Тваю дабрыню? Ні неба, ні зямля не могуць прынесці Табе дастойныя дары. Ты сам захацеў прыйсці на зямлю, каб збавіць грэшнікаў. Будучы бесцялесным, Ты прыняў цела дзеля нас і дабравольна стаўся бедным, будучы багатым» (малітва ў пятніцу пасля гадзінаў).

З усведамленнем бязмежнасці Божай дабрыні перад грэшнікам з яшчэ большай сілай паўстае веліч ягоных злачынстваў: «Я ж, няшчасны, усімі маімі пачуццямі гнаўся за цялеснымі

асалодамі і ўваліўся ў гной грахоў, і зрабіў сябе чужым для Тваёй ласкі. Будучы сынам Тваім праз нараджэнне ў хрышчэнні, я стаўся нявольнікам граху. Таму ўздыхаю з глыбіні сэрца і хварэю душою, і ўвесь занемагаю, думаючы пра судны час. Што пачую ад Суддзі? Дзе мне схаваць безліч маіх правінаў? Не маю нікога, хто б мне дапамог і збавіў мяне. Што мне рабіць, Госпадзе мой, Госпадзе! Не ведаю, да каго звярнуцца, каб прасіць збаўлення маёй душы» (малітва ў нядзелю раніцай).

Вялікі сум адчуваецца ў апісанні стану грэшніка: «Я зышоў з праўдзівага шляху, які вядзе да жыцця, і ўхіліўся ў пустыню асалодаў. Я загразь у балоце маіх дрэнных учынкаў і ўвесь параненьі цернямі беззаконня. Вораг убачыў мяне ў гэтым жалюгодным стане і ў яшчэ горшых брыдотах захацеў утапіць маю няшчасную душу» (малітва ў сераду вечарам).

Аднак усведамленне грэшнасці не павінна стацца прычынаю да зняверання. Бог — літасцівы і не жадае смерці грэшніка. Ён не адкідае таго, хто прыходзіць да Яго са скрухаю сардэчнаю. Таму грэшнік шукае прытулку ў Бога і ў сваё апраўданне, не без долі гонару, сцвярджае, што, хоць ён і зграшыў, але ніколі не ўзняў рук да чужога бога і не страціў надзеі на Божую міласэрнасць: «Не дай мне згінуць да канца, Ісусе — салодкае імя, — Ты, які стварыў мяне і даў мне жыццё! Глянь на маю пакорлівасць: хоць я і зграшыў без ліку, але ніколі не ўзняў рук да чужога бога і не ўсумніўся, ведаючы Тваю любоў да грэшнікаў. Я разважаю пра Давіда: ён, будучы царом, упаў у бездань грэшных пажаданняў і зрабіў забойства, але пакаяўся перад Табою, Богам і Творцам, і аказаўся вартым Тваёй міласэрнасці» (малітва ў нядзелю раніцай).

Прыклад Давіда і іншых старазапаветных святых, якія праз пакаянне атрымалі адпушчэнне грахоў, умацоўвае грэшніка ў надзеі. Часам у Кірылы вырываецца сапраўдны гімн у гонар пакаяння, што адчыняе дзверы Божай міласэрнасці: «Да каго мне прыбегнуць, шукаючы збаўлення, як не да Цябе, Творца мой? Ведаю Тваю доўгацярплівасць і сапраўдную любоў да людзей. Хто зможа выказаць усе цуды, якія Ты зрабіў адвеку, і годна ўсхваліць Тваю міласэрнасць? Ты не цешышся са смерці грэшніка, але радуешся з ягонага навароту да жыцця. Дзеля гэтага ад самага пачатку Ты паказаў нам вобразы пакаяння. Ты злітаваўся з Ізраіля, які прагневаў Цябе ў пустыні, а потым пакаяўся. Ты збавіў ніневіцянаў, вызваліў з путаў Манасію і Езакію вярнуў ад смерці да жыцця. Што большае за пакаянне,

так мілае Твайму Духу? Уся праўда чалавечая ёсць як павуцінне, што лёгка раздзіраецца. Хто можа пахваліцца перад Табою, што мае праведнае сэрца або што ён чысты ад граху? Фарысей праведны пахваліўся і быў асуджаны. Я ж, няшчасны, абняты безліччу злых грахоў, што зраблю? У якую бездань укіну сябе? О сіла слёзаў, о салодкая пакута, дзякуючы якой Ты асвяціў Давіда і зрабіў яго прарокам, апраўдаў мытніка, грэшніцу ачысціў і, сустрэўшы з радасцю блуднага сына, зрабіў яго ўдзельнікам Тваёй Боскай бяседы» (малітва ў пятніцу раніцай).

Вялікім суцяшэннем для грэшніка ёсць усведамленне, што ён не адзін, але мае магутных прыяцеляў і апекуноў — анёлаў, апосталаў, святых і, у першую чаргу, Найсвяцейшую Багародзіцу. Сваімі малітвамі і заступніцтвам яны дапамагаюць нам. Кірыла ў асаблівы спосаб усхваляе Маці Божую, «у чыёй моцы наша збаўленне»: «Надзея ўсіх канцоў зямлі, Найсвяцейшая Багародзіца, анёлаў вялікае здзіўленне, прарокаў узвышанае прапаведаванне, апосталаў хвала, мучанікаў цвёрдае ўмацаванне, святаначальнікаў (біскупаў. — *А. Н.*) выдатнае ўпрыгожанне, уладароў непераможная дзяржава, цэркваў пачэсная краса, манахаў святая надзея, поснікаў непарушная моц, верных пэўная абарона, лёгкае выздараўленне хворых, добрая настаўніца тых, што зблудзілі, хуткая заступніца ў бядзе, любоўная пацеха для тых, каго ненавідзяць, карміцелька сіротаў, ціхая радасць матак, настаўніца мудрасці для маленькіх, спакойнае прыстанішча для тых, што плаваюць, спадарожніца падарожных, супакой для спрацаваных, невычэрпнае багацце бедных, покрыва і прытулак для пакрыўджаных, пацяшэнне сумных, прымірэнне з Богам грэшнікаў, надзейная абарона ўсіх хрысціянаў і вядомае збаўленне ўсяго свету… Усхваляю Цябе анёльскім прывітаннем: Радуйся, поўная ласкі Дзева, Маці Багародзіца, зямное неба, адухоўленая святыня, хорам прасторны, селішча Бога незмяшчальнага, светлы ліхтар, памочніца, хутчэйшая за маланку, зорка незаходная, чаша, што мае ў сабе віно збаўлення, купеля, што абмывае грахі, узвышэнне роду людскога, пасад Хлеба Жыцця, Маці Хрыста Бога нашага! Малі Яго, каб Тваім заступніцтвам выбавіў мяне ад вечнае мукі, цяпер і заўсёды, і на вякі вечныя. Амін» (малітва ў сераду раніцай).

А вось як Кірыла звяртаецца да святога апостала Пятра: «Святы Пётра, першапасадны, цвёрды камень веры, непарушная аснова Царквы, пастыр духоўнага статку Хрыстовага, ключар Валадарства Нябеснага, лавец у глыбіні, што пераўзыходзіць

усякае ўяўленне! Малю цябе, уседастойны: зрабі, каб абняла мяне Боская сетка, і выцягні мяне са згубнай глыбіні. Я ведаю, што ты атрымаў ад Бога ўладу вязаць і развязваць. Развяжы, прашу, мяне, звязанага грэшнымі путамі, і пакажы міласэрнасць тваю мне, убогаму слузе твайму. Ажыві маю пакорную душу, як некалі ты ажывіў Тавіту; пастаў мяне на добры шлях, як ты некалі паставіў з пасцелі кульгавага ў Красных Варотах. Ты ценем сваім праганяў немачы і хворасці: хай падзе на мяне цень тваёй дабрыні, што праганяе духоўныя хваробы і цялесныя слабасці. Ты, святы, можаш усё сілаю Хрыста, дзеля якога ты пакінуў усё і, палюбіўшы Яго, пайшоў за Ім, і за Ягонае святое імя насіў путы. Памаліся да Яго за мяне, няшчаснага, каб я мог выбавіцца тваімі малітвамі ад усякага зла» (малітва ў чацвер раніцай).

Такім чынам, нягледзячы на пакутны характар малітваў Кірылы, у іх адсутнічае дух зняверанасці ці роспачы. Наадварот, яны поўныя хрысціянскага аптымізму, які мае сваю аснову ў веры ў бязмежную Божую міласэрнасць. Таму глыбокі і шчыры жаль за грахі спалучаецца з ціхай душэўнай радасцю. Гэтая радасць часам выліваецца ў натхнёную песню хвалы Богу: «Зрабі мяне годным, Госпадзе, убачыць ранішнюю зару і сонца і, з Тваёй дапамогаю, захавацца ад граху; і дай, каб я мог славіць, Уладару, Тваю дабрыню. Ты стварыў увесь гэты прыгожы свет на службу для нас, грэшных: зрабі і мяне дастойным гэтых Тваіх дароў. Малюся Табе, літасцівы Госпадзе, дай, каб адзін дзень я мог аглядаць вечнае, бясконцае і непрамінальнае святло аблічча Твайго. А цяпер, падбадзёраны ласкаю Тваёю і ўсцешаны Тваёй міласэрнасцю, усклікаю: Слава Табе, святая, адзінасутная, нераздзельная і жыватворчая Тройца, Ойча, Сыне і Святы Духу, цяпер і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін» (малітва ў суботу вечарам).

Гімнаграфічная спадчына св. Кірылы прадстаўленая двума канонамі.

Канон — гэта даволі складаны твор, які з’явіўся ў візантыйскай гімнаграфіі ў пачатку VIII ст. Першым аўтарам канонаў лічыцца св. Андрэй Крыцкі (660–740). Ягоны «Вялікі канон», які спяваецца ў Вялікі пост, адзначаецца пакутным характарам і празмернай даўжынёю.

Поўны канон мае дзевяць песняў, кожная з якіх звязаная з адной з дзевяці песняў Святога Пісання. Звычайна, за выняткам некаторых канонаў Вялікага посту, другая песня адсутнічае, так што пасля першай песні ідзе адразу трэцяя. Першая страфа

кожнай песні называецца «ірмас» і служыць лучнікам між гэтай песняй і адпаведнай песняй Святога Пісання.

Кірыла вядомы як аўтар гэтак званага «Малебнага канона». Пакутны характар твора і тое, што ён мае ўсе дзевяць песняў, паказваюць, што ён быў прызначаны для ўжытку ў першую чаргу ў Вялікі пост. Вось ягоная першая песня:

«Ірмас. Прыгадай, душа, правую руку Майсея і ўцякай з грэшнага Егіпта, адкінуўшы няволю духоўнага фараона. Вазьмі Крыж за падпору сабе, і перайдзі пакорна мора пажадлівасцяў, усклікаючы: Пяём песню Госпаду, бо Ён праславіўся.

Я сам вінавачу сябе за дрэнныя ўчынкі, якімі я ўгнявіў Хрыста і зламаў Ягоныя прыказанні. Сёння перадаю на пісьме мае думкі, словы і ўсе агідныя ўчынкі, каб свет пачуў пра іх.

Як доўга, бедная душа мая, будзеш зблытаная цялеснымі асалодамі, крыўдамі, бязлітаснасцю, гордасцю і п’янствам? Гэта варожыя пасткі, якія звядуць цябе жывою ў пекла. Лепш пакайся і ўсклікні: Разарві, Хрысце мой, мае грэшныя путы і збаў мяне!

Цябе нязмоўкна хваляць вогненнымі галасамі хоры серафімаў, Найсвяцейшая Тройца, Творца ўсяго свету. І я прыбягаю да Цябе, просячы адпушчэння маіх шматлікіх грахоў. Збаў мяне, літасцівы Творца мой, хоць у апошнюю хвіліну.

Як неразумныя дзевы, не маю ліхтара пакаяння, ані запасу алею міласэрнасці. Таму дарэмна стукаю ў зачыненыя дзверы. Маці Божая, збаў ад мукі маю няшчасную душу!»

Пераход ад тэмы першай песні Святога Пісання (Выхад 15, 1–19) да тэмы канона ў ірмасе Кірыла зрабіў праз параўнанне ўцёкаў душы ад граху да выхаду габрэяў з Егіпта пад кіраўніцтвам Майсея. У перадапошняй страфе ўслаўляецца Святая Тройца, а ў апошняй — Багародзіца.

Ірмас другой песні гучыць так:

«Пачуй неба, — сказаў Майсей, калі напісаў другі закон для тых, што зламалі першы. Зразумей, душа, твой упадак: Бог справядлівы, Ён судзіць праведна і дае кожнаму паводле ягоных учынкаў».

Адпаведнай песняй Святога Пісання ёсць песня Майсея ў Кнізе Другога Закону (Дрг 32, 1–43), якая пачынаецца: «Слухай неба, я буду гаварыць; слухай, зямля, словы вуснаў маіх… Імя Госпада праслаўлю: дайце славу Богу… Ён — цвярдыня… Ён праведны і справядлівы. Але яны (г. зн. габрэі) разбэсціліся перад Ім, яны — не дзеці Ягоныя, род лянівы і распусны».

Трэці ірмас злучае канон з песняй Ганны, маці прарока Самуіла (1 Цар 2, 1–10). Ганна была бяздзетнаю, але Бог пачуў ейную малітву і даў ёй сына, якога яна, згодна з абяцаннем, ахвяравала Госпаду. Ганна заспявала Богу хвалебную песню: «Ніхто не святы, апроч Госпада; няма іншага (бога), апроч Цябе, і няма цвярдыні, апроч Бога нашага… Сытыя працуюць без хлеба, а галодныя адпачываюць; нават няплодная родзіць сем разоў, а шматдзетная занемагае. Госпад умярцвляе і ажыўляе, зводзіць уніз і ўзвышае».

Вобраз бяздзетнай Ганны наводзіць аўтара на роздум аб сваёй душы, якая сталася няплоднай з прычыны грахоў. Ён просіць Бога, каб Той зрабіў яе зноў пладавітай:

«Ты, Божа ўсемагутны, зрабі зноў дабраплоднаю маю душу, знямоглую ад грахоў, і маё спустошанае сэрца; у пакоры духу прыношу Табе гэтую малітву».

Як і іншыя творы Кірылы, ягоны канон напоўнены біблейскімі вобразамі. У прыведзеным вышэй прыкладзе ёсць напамін аб прыпавесці пра мудрых і неразумных дзеваў (Мц 25, 1–12). Лёс старазапаветнага Ламеха (Быц 4, 23–24) змушае аўтара задумацца над сваімі ўчынкамі:

«Як Ламех, вызнаю перад усімі грахі мае, але дрэнных звычак не пакідаю. Гора мне, няшчаснаму, вартаму ўсіх мукаў».

У іншым месцы Кірыла прыраўноўвае грэшніка да згубленай драхмы (Лк 15, 8–9):

«Ты, Хрысце шматлітасцівы, не жадаеш смерці грэшніка. Запалі ліхтар Тваёй міласэрнасці і знайдзі мяне, Тваю драхму, і, паклікаўшы святых суседзяў, спраў бяседу для анёлаў і людзей».

Пакутны характар і насычанасць біблейскімі вобразамі збліжаюць канон Кірылы з Вялікім канонам Андрэя Крыцкага і з вялікапоснымі творамі Тодара Студыта.

Другі вядомы канон св. Кірылы — гэта Канон у гонар св. Вольгі, бабкі Уладзіміра Кіеўскага, якая прыняла хрысціянства ў 954 г. Рукапіс канона быў упершыню знойдзены і апублікаваны Н. Нікольскім у 1907 г. І. Яромін лічыць, што няма прычынаў сумнявацца ў яго аўтэнтычнасці. Магчыма, канон быў напісаны з нагоды залічэння Вольгі да ліку святых, і такім чынам дае прыблізную дату яе кананізацыі. Тон канона ўрачысты і ўзнёслы, але з мастацкага боку ён слабейшы за Канон малебны. Вось адна страфа з першай песні:

«Ты наша веліч і слава, Вольга багамудрая. Табою мы вызваліліся ад ідальскай спакусы. Цяпер маліся за род наш і людзей, якіх ты прывяла да Бога. Пяём песню Хрысту, бо Ён праславіўся».

Наогул, гімнаграфічная спадчына Кірылы чакае яшчэ свайго даследчыка.

Калі судзіць пра вартасць малітвы паводле ейнае здольнасці парушаць людскія сэрцы і накіроўваць думкі да Бога, то малітвы Кірылы маюць гэтыя якасці ў вялікай меры.

Яны вызначаюцца глыбінёй і шчырасцю рэлігійных пачуццяў. Іхнія мастацкія вартасці паказваюць, што аўтар меў немалыя паэтычныя здольнасці. Дзеля гэтага Кірылу справядліва належыцца гонар быць першым беларускім паэтам.

Высокія мастацкія і духоўныя вартасці малітваў Кірылы былі прызнаныя ўсімі, хто меў нагоду пазнаёміцца з імі. Галубінскі, звычайна вельмі скупы на пахвалы, прызнае, што «адносна малітваў Кірылы Тураўскага, дык яны прадстаўляюць сабою надзвычай добрыя аратарскія творы, якія з усёй справядлівасцю павінны заняць месца сярод найлепшых малітваў грэцкіх аўтараў»*. Макарый быў яшчэ больш шчодры на пахвалы: «Паводле стылю і зместу як канон, так і малітвы павінны быць залічаныя да найлепшых твораў гэтага роду, якія існуюць у Праваслаўнай царкве»**. На Беларусі малітвы Кірылы былі настолькі папулярнымі, што яны выдаваліся шмат разоў друкам у XVI і XVII стст.

Хоць малітвы Кірылы носяць пакутны характар, у іх, як зоркі, штоззяюць святлом надзеі для грэшніка, усюды падкрэсліваецца веліч Божай міласэрнасці і Ягоная любоў да людзей. Дзеля гэтага можна справядліва назваць Кірылу «песняром Божае міласэрнасці».

## Залатавусны

З усіх твораў Кірылы найбольш вядомыя ягоныя казанні, або, як яны называліся ў старажытнасці, «словы». Яны захаваліся ў вялікай колькасці спіскаў, найстарэйшыя з якіх паходзяць з XIII ст.

Колькасць «словаў», якія бясспрэчна належаць Кірылу, невялікая. Іх толькі восем: на Вербніцу (Евангелле на Літургіі Ян 12, 1–18), на Вялікдзень (Евангелле Ян 1, 1–17); на Нядзелю Антыпасхі, або Тамаша (нядзеля пасля Вялікадня; Евангелле Ян 20, 19–31); міраносіцаў (другая нядзеля пасля Вялікадня; Еван-

---

* Голубинский Е. Е. История русской Церкви. М., 1901. Т. 1, паўтом I. С. 841.

** Макарий. Святой Кирилл, еп. Туровский, как писатель // Чтения по языку и словесности Имп. Акад. наук. СПб., 1857. С. 165.

гелле Мк 15, 43 — 16, 8); расслабленага (трэцяя нядзеля пасля Вялікадня; Евангелле Ян 5, 1–15); слепанароджанага (пятая нядзеля пасля Вялікадня; Евангелле Ян 9, 1–38); на Узнясенне Гасподняе (Евангелле Лк 24, 36–53) і на Нядзелю святых айцоў Першага Нікейскага Сабору (шостая нядзеля пасля Вялікадня; Евангелле Ян 17, 1–18). Такім чынам, усе «словы» адносяцца да Велікоднага перыяду, найбольш урачыстага ў царкоўным календары. Вялікдзень — самае вялікае хрысціянскае свята, калі Хрыстос, уваскросшы, перамог смерць. На Вербніцу, а таксама ў нядзелі непасрэдна пасля Вялікадня Царква ўспамінае падзеі з жыцця Хрыста, у якіх найбольш яскрава праявілася ягоная Боскасць. У Нядзелю айцоў успамінаюцца айцы Першага Сусветнага Сабору ў Нікеі (325 г.), якія пацвердзілі веру Царквы, што Госпад Ісус Хрыстос з'яўляецца праўдзівым Богам, адзінасутным з Айцом, насуперак гарэзіі Арыя.

Як можна здагадацца, тон «словаў» урачысты, святочны, узнёслы і радасны. Аўтар паставіў сабе за мэту «праслravіць», «узвялічыць» свята.

Усе «словы» Кірылы былі, несумненна, напісаныя ў адным годзе. У «Слове на Нядзелю расслабленага» (трэцюю пасля Вялікадня) ёсць выраз: «Гора таму, хто грашыць пасля атрымання духоўнай годнасці — гэта значыць пасля прыняцця манаства і святарства — а нават самому біскупу, які не баіцца Бога». Некаторыя аўтары бачаць у гэтым выразе намёк на справу Тодарца, што б вызначала дату напісання не пазней за 1169 г.

Кожнае «слова» Кірылы складаецца з трох частак: уступ, асноўная частка, якая з'яўляецца звычайна развіццём евангельскай тэмы, і заканчэнне.

Уступ звычайна кароткі. Ён мае за мэту зацікавіць слухачоў, звярнуць іхнюю ўвагу на галоўную тэму казання, не апярэджваючы яе.

У Нядзелю Тамаша Кірыла пачынае «слова» такім чынам:

«Царкве патрэбны вялікі настаўнік і мудры прамоўца, каб належна ўсхваліць гэтае свята. Мы ж бедныя на словы, і розум наш мутны, і няма ў нас Боскага агню для складання словаў, карысных для душы. Але дзеля любові да тут прысутных братоў пастараемся сказаць нешта карыснае пра абнаўленне Хрыстовага Уваскрасення…»

А вось уступ да «Слова ў Нядзелю слепанароджанага»:

«Міласэрнасць Божую і чалавекалюбства Госпада нашага Ісуса Хрыста, і ласку Духа Святога, дадзеную шчодра роду людскому, прапаведую вам, браты, добрыя хрысталюбныя

слухачы, дзеці Царквы, сыны святла, прычаснікі валадарства нябеснага. Кажам, аднак, гэтыя словы не ад свайго сэрца — у грэшнай душы не родзіцца ніякая добрая справа, ані карысная думка, — але расказваем тое, што ўзялі з сённяшняга Евангелля Яна Багаслова, сведкі цудаў Хрыстовых».

На Узнясенне Госпада Ісуса Хрыста аўтар, быццам няўпэўнены ў сваіх сілах, просіць прарока Захара дапамагчы яму ўславіць вялікую ўрачыстасць:

«Прыйдзі сёння ў духу, святы прарок Захар, дай пачатак нашаму слову ад тваіх прароцтваў аб узнясенні на неба Госпада Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста! Бо ты ж прадказаў нам гэта не ў прыпавесці, але яўна, калі сказаў: Вось Бог наш ідзе ў славе, як у дзень бітвы, і ўсе святыя з Ім; і стануць ногі Ягоныя на гары Аліўнай, проста на ўсход ад Ерусаліма*. Хочам і ўсё наступнае ад цябе даведацца…»

Абудзіўшы зацікаўленасць слухачоў, Кірыла пераходзіць да галоўнай часткі. Звычайна тэмаю служыла евангельскае апавяданне. Аднак кароткі евангельскі расказ Кірыла пашыраў, развіваў і, дзе магчыма, уводзіў у яго драматычны элемент. Добрым прыкладам можа служыць «Слова ў Нядзелю міраносіцаў і Язэпа Арыматэйскага». Евангелле св. Марка коратка апавядае, як Язэп папрасіў у Пілата цела Хрыста і пахаваў Яго ў новай магіле. У Кірылы расказ пачынаецца лірычным плачам Багародзіцы, якая стаяла ля Крыжа Хрыстовага:

«Усё стварэнне спачувае мне, Сыне мой, бо бачыць Тваю несправядлівую смерць. Гора мне, Дзіця маё, Святло і Творца ўсяго, што існуе! Якія цярпенні Твае мне трэба аплакваць сёння: біццё па твары і па плячах? путы ў вязніцы? аплёўванне Твайго святога Твару беззаконнікамі за Тваю дабрыню? Гора мне, Сыне мой! Будучы нявінным, Ты быў зняважаны і пацярпеў крыжовую смерць. Як яны адважыліся каранаваць Цябе цернямі, паіць воцатам і жоўцю і прабіць кап'ём усячысты бок Твой?.. Бачу Цябе, Дзіця мілае, як Ты вісіш голы на крыжы, без дыхання, без выгляду і красы, і душа мая абліваецца горкай крывёю. Я жадала б памерці з Табою, бо не магу глядзець на Цябе, бяздушнага. Няма мне больш ніякай радасці, бо маё Святло, Надзея і Жыццё, мой Сын і Бог на дрэве згаснуў. Дзе маё, Сыне, дабравешчанне, якое мне некалі апавясціў Габрыель, кажучы: Радуйся, поўная ласкі, Госпад з Табою?.. Гора мне! Каго мне

* Гл. Зах 14, 3–4. Цытата недакладная. На вячэрні Узнясення бывае чытанне з кнігі прарока Захара.

паклікаць, каб плакаў са мною? З кім буду праліваць струмені слёзаў? Усе Твае блізкія і прыяцелі, што карысталі з Тваіх цудаў, пакінулі Цябе. Дзе цяпер семдзесят вучняў? Дзе найвышэйшыя апосталы? Адзін з іх хітрасцю прадаў Цябе фарысеям, а другі, дзеля страху перад першасвятарамі, выракся Цябе, кажучы, што не ведае гэтага чалавека. Я адна, Божа мой, слуга Твая, стаю і плачу разам з ахоўнікам Тваіх словаў, любым вучнем Тваім. Гора мне, Ісусе мой, дарагое Імя! Як гэта зямля стаіць, чуючы на сабе Цябе, павешанага на крыжы?.. Прыйдзіце, гляньце на тайну Божай міласэрнасці, як Той, які ажыўляе ўсё, сам памёр ганебнай смерцю»*.

Ейны плач пачуў Язэп з Арыматэі. Багародзіца просіць яго пайсці да Пілата і папрасіць цела Хрыста. Язэп перамагае страх, ідзе да Пілата і просіць яго:

«Дай мне, намесніку, цела таго дзівоснага Ісуса, які быў укрыжаваны між двух разбойнікаў, абвінавачаны з зайздрасці першасвятарамі і бясправўна зняважаны жаўнерамі. Дай мне цела Ісуса, якога кніжнікі называюць Сынам Божым, а фарысеі клічуць каралём, і якому ты загадаў прыбіць над галавою дошку з надпісам: Гэта Сын Божы і Цар Габрэйскі. Дай мне цела Таго, каго ўласны вучань, паквапіўшыся на срэбра, прадаў святаром… Прашу ў цябе цела Таго, пра каго Каяфа прадказаў, што яму аднаму належыць памерці за ўвесь свет… Прашу цела таго Ісуса, які на тваё пытанне адказаў: Я — Святло і Праўда… Дай мне зняць цела з крыжа, бо хачу пакласці яго ў маёй магіле…»**

---

* У Вялікую пятніцу на павячэрніцы спяваецца канон, які называецца «Плач Багародзіцы на Укрыжаванне Госпада». Аўтарам яго быў Сымон Мэтафраст (вядомы таксама як Сымон Лагафет), які жыў у сярэдзіне X ст. Вось некалькі строфаў з гэтага канона: «Маё мілае Святло, Надзея і Жыццё маё добрае, мой Бог памірае на крыжы, і ўсё нутро маё крывавіцца», — Дзева са стогнам казала. «Я поўнюся жахам, калі бачу Цябе, Божа ўсядобры, Госпадзе ўсеміласэрны, зняслаўленым, без жыцця, без красы; і плачу, трымаючы Цябе, бо не спадзявалася ніколі бачыць Цябе, Сыне мой, у такім стане». «Дзе, Сыне мой, Дабравешчанне, якое некалі Габрыель мне абвясціў? Ён назваў Цябе Уладаром, Богам і Сынам Найвышэйшага; а цяпер бачу Цябе, Святло маё мілае, голага, параненага і мёртвага». Уплыў канона на плач Багародзіцы ў слове Кірылы відавочны.

** У Эпіфана Кіпрскага (315–403) ёсць падобная прамова Язэпа: «…Дай мне на пахаванне мёртвае цела таго, асуджанага табою, Ісуса Назарэя, Ісуса жабрака, Ісуса бяздомнага, Ісуса, усімі бачанага голага, упакоранага, дзіўнага, невядомага сярод чужых, пагарджанага ўсімі…

Атрымаўшы дазвол, Язэп разам з Нікадзімам здымаюць цела Хрыста з крыжа і нясуць на пахаванне, плачучы:

«Сонца незаходнае, Хрысце, Творца ўсіх і Уладару ўсяго стварэння! Як адважуся я дакрануцца да Твайго ўсячыстага цела, да якога не смеюць дакранацца нават нябесныя сілы?.. Якія адыходныя песні буду спяваць Табе, каго ў небе нязмоўкна славяць серафімы? Як панясу на руках маіх Цябе, нябачнага Уладара, які сілаю сваёю ўтрымлівае ўсё стварэнне? Як пакладу ў маёй беднай магіле Цябе, што словам умацаваў круг нябесны, і спачываеш на херувімах разам з Айцом і Святым Духам?…»*

Калі мінула субота, жанчыны-міраносіцы прыйшлі на магілу. Там яны сустрэлі анёла, які адкрыў ім тайну збаўлення людскога роду:

---

Дай мне цела гэтага Дзівоснага, бо якая карысць табе з яго… дай мне цела гэтага мёртвага, а разам і Бога, каб я мог пакрыць Таго, хто пакрыў мае бясчынствы; дай мне гэтага мёртвага, каб я мог пахаваць Таго, хто пахаваў у Іардане мае грахі…» (Miklosich F. Monumenta linguae paleoslavicae e Codice Suprasliensi. Vindobonae, 1851. P. 343–344). Казанне Эпіфана было вядомае ў славянскім перакладзе ўжо ў XI ст. і ўваходзіла ў склад г. зв. Супрасльскага зборніка. Зборнік гэты хоць не беларускага паходжання, але з'яўляецца адным з найстарэйшых помнікаў пісьменства на тэрыторыі Беларусі. Варта таксама параўнаць «слова» Кірылы з песняй, якая спяваецца на вячэрні ў Вялікую Пятніцу ў часе пакланення Плашчаніцы: «Прыйдзіце, верныя, ушануем Язэпа, годнага памяці, што ўночы прыйшоў да Пілата і папрасіў у яго Жыццё ўсіх, кажучы: Дай мне Таго беспрытульнага, што не меў дзе галавы прыхіліць; дай мне таго беднага, якога вучань фальшывы выдаў на смерць; дай мне таго ўбогага, Маці якога, убачыўшы Яго на крыжы павешанага, з плачам казала: Гора мне, Дзіця маё! Гора мне, Святло вачэй маіх і наймілейшы плод улоння майго. Сёння спраўдзілася тое, што прадказаў у святыні Сямён, бо сэрца маё меч прабіў. Ты ж замяні на радасць уваскрасення плач мой».

* Параўнай песню, якая спяваецца ў Вялікую пятніцу на вячэрні на вынас Плашчаніцы: «Цябе, які апранаешся ў святло, быццам у вопратку, Язэп з Нікадзімам зняў з крыжа і, убачыўшы Цябе, голага і непахаванага, заплакаў ад глыбіні сэрца і сказаў: Гора мне, наймілейшы Ісусе! Убачыўшы Цябе на крыжы павешанага, сонца памеркла, зямля ў страху ўскалыхнулася, і заслона царкоўная разарвалася. Вось гляджу на Цябе, які дзеля мяне дабравольна прыняў смерць: як я Цябе пахаваю, Божа мой, якім палатном спаўю Цябе? Якімі рукамі дакрануся да нятленнага цела Твайго і якія песні пяяць буду на адыход Твой, Усядобры? Узвялічваю цярпенні Твае, слаўлю пахаванне, а з ім і ўваскрасенне Тваё і клічу: Госпадзе, слава Табе!»

«…Хачу расказаць вам пра тайну Божай любові да людзей, як Ён пацярпеў за Адама, што ўпаў у тленнасць… Ён зышоў з неба, прыняў цела і стаўся чалавекам, каб заняпалага (Адама) абнавіць і ўзяць з сабою на неба. Той (г. зн. Адам) паслухаўся рады ворага, захацеў стаць богам і быў пракляты; гэты ж (г. зн. Хрыстос) паслухаўся Айца і, будучы Богам, стаўся чалавекам, каб чалавека абагавіць. Той (Адам), працягнуўшы руку да забароненага дрэва, сарваў смяротны плод, стаўся нявольнікам граху і зышоў з раю ў пекла. Хрыстос, распасцёршы рукі на крыжы, вызваліў людзей ад грахоўнага прысуду і смерці…»*

«Слова» сканчаецца пахвалою Язэпу Арыматэйскаму.

Тон апавядання Кірылы мяняецца ў залежнасці ад нагоды і бывае то ўзвышаны і ўрачысты, то поўны паэтычнага лірызму. Часам ён набывае характар звычайнай размовы, як у выпадку расслабленага (паралітыка), які на пытанне Хрыста, ці жадае быць здаровым, расказвае Яму пра ўсе свае няшчасці:

«Так… Госпадзе! Хацеў бы, але не маю чалавека, які б мяне апусціў у сажалку, калі анёл усхвалюе ваду. Але так як Ты запытаўся ў мяне аб здароўі, Уладару, дык паслухай майго кароткага расказу пра ўсе мае няшчасці і хваробы. Трыццаць восем гадоў ляжу прыкаваны да гэтай пасцелі… Я страціў на лекараў усю маю маёмасць, але не атрымаў ніякай палёгкі, бо няма такога зелля, якое б супрацьдзейнічала кары Божай. Мае знаёмыя брыдзяцца мною, бо мой смурод робіць мяне прыкрым, а мае сваякі саромеюцца мяне, і я стаў чужынцам для маіх братоў… Можа, я памёр? Але ж мой страўнік хоча есці і язык высах ад смагі. Дык, можа, я жывы? Але ж я не магу не толькі ўстаць з

---

* Супастаўленне Адама і Хрыста бярэ свой пачатак ад св. Паўла. Вось прыклады: «Як цераз праступак аднаго ўсім людзям прыйшло асуджэнне, так цераз праведны ўчынак аднаго ўсім людзям прыходзіць жыццядайнае апраўданне» (Рым 5, 18); «Як у Адаме ўсе паміраюць, так у Хрысце ўсе ажывуць» (1 Кар 15, 22). У старацаркоўнай літаратуры было вядомае «Слова пра Адама і Хрыста» візантыйскага паходжання. Яго выкарыстаў Кіеўскі мітрапаліт Іларыён у сваім «Слове пра закон і ласку» (1051 г.); «… Хрыстос нарадзіўся ад Чыстае Дзевы, бо Адам быў створаны з чыстае зямлі. Так як Адам, дасканалы чалавек, зграшыў, як дзіця, то Хрыстос прыгваздзіў цела сваё да крыжа, каб ацаліць Адама, параненага смяротным дрэвам; Хрыстос расцягнуў рукі свае на крыжы, бо Адам працягнуў руку сваю да дрэва… Хрыстос пакаштаваў воцату і жоўці, бо Адам смачна еў…» (Калугин Ф. Г. Илларион, Митрополит Киевский // Памятники древнерусской церковно-учительной литературы. СПб., 1894. Вып. I. С. 83–84).

пасцелі, але нават паварушыцца: маю ногі, якія не ходзяць, і рукі, якімі не толькі не магу нічога рабіць, але нават дакрануцца (да нечага). Я — непахаваны труп, а гэты ложак — мая магіла. Я мёртвы сярод жывых і жывы сярод памерлых, бо, як жывы, хачу есці і, як мёртвы, не магу нічога рабіць…»*

Пачуўшы скаргі расслабленага, Хрыстос адказвае: «…Як гэта ты кажаш: Не маю чалавека? Я ж дзеля цябе стаўся чалавекам, — добрым і міласэрным, — і не адмовіўся ад абяцання майго ўцелаўлення…** Для цябе Я пакінуў скіпетр вышняга валадарства і хаджу, паслугоўваючы тым, што ўнізе. Бо Я не прыйшоў, каб мне служылі, але каб паслужыць***. Дзеля цябе Я, бесцялесны, прыняў цела, каб ацаліць душэўныя і цялесныя немачы ўсіх. Дзеля цябе Я, нябачны для нябесных сілаў, з'явіўся ўсім людзям, бо не жадаю пагарджаць Маім вобразам, што ляжыць у заняпадзе, але хачу прывесці яго да пазнання праўды. А ты кажаш: Не маю чалавека! Я стаўся чалавекам, каб чалавека абагавіць, бо сказаў: багамі будзеце і сынамі Усявышняга****. Хто ж служыць табе больш верна за Мяне?..»

Гэты маналог Хрыста, як і размова анёла з міраносіцамі (гл. вышэй), належыць да найпрыгажэйшых рэчаў, напісаных Кірылам. У іх ён развівае вучэнне пра збаўленне роду чалавечага праз Хрыста. Паводле стылю яны нагадваюць творы «святаайцоўскай» пары.

Драматызацыя ў творах Кірылы праяўляецца не толькі ў дыялогах, але і ў апісанні дзеяння. Найбольш яскравым прыкладам гэтага можа служыць «Слова на Узнясенне». Дзеянне пачынаецца на Аліўнай гары, дзе разам з Хрыстом збіраецца ўся

---

* Параўнай гэты ўрывак з песнямі на вячэрні ў Нядзелю расслабленага: «Калі ўбачыў Цябе расслаблены, што ляжаў, быццам непахаваны нябожчык, ён усклікнуў: Змілуйся нада мною, Госпадзе, бо ложак мой стаўся для мяне магілаю! Нашто мне жыць? Не трэба мне Авечай сажалкі, бо, калі ўзварухнецца вада, не маю нікога, хто б мяне да яе занёс…» Таксама далей: «Госпадзе, не маю чалавека, які б занёс мяне ў сажалку, калі пачне варушыцца вада. Я страціў маю маёмасць на лекараў, але нічога не асягнуў…»

** У песні на ліцці на вячэрні ў Нядзелю расслабленага гаворыцца: «Збавіцель, змілаваўшыся, кажа яму (г. зн. расслабленаму): Дзеля цябе Я стаўся чалавекам, дзеля цябе Я прыняў цела, а ты кажаш: Не маю чалавека…»

*** Гл. Мц 20, 28.

**** Гл. Пс 81, 6, таксама Ян 10, 34.

Царква: патрыярхі, апосталы, вучні і вялікая грамада верных. Адначасова анёлы ў небе рыхтуюцца прыняць Хрыста:

«Адны прыносяць на крылах хмару, каб узяць з зямлі Хрыста, Бога нашага; іншыя рыхтуюць херувімскі пасад. Бог Айцец чакае Таго, каго раней меў ва ўлонні з сабою, а Святы Дух загадвае ўсім Ягоным анёлам: Адчыніце нябесную браму, хай увойдзе Цар славы!»*

Усюды радаснае чаканне нечага вялікага. Апосталы, убачыўшы, што Хрыстос мае іх хутка пакінуць, просяць жаласліва:

«Не пакідай, Уладару, сіротамі нас, каго Ты ў міласэрнасці Тваёй сам палюбіў, але пашлі нам, як абяцаў, Духа Твайго Усесвятога»**.

Нарэшце Хрыстос, суцешыўшы вучняў і благаславіўшы іх, пачынае ўзносіцца да неба:

«Перад Ім ішлі анёльскія сілы са страхам і радасцю, каб адчыніць нябесную браму. Але нябесныя вартаўнікі не пускалі іх, кажучы: Гэта брама Гасподняя, бо так загадаў Бог, каб ніхто з зямных праз яе не праходзіў. Цяпер мы ў здзіўленні, бо бачым чалавека, які сядзіць на херувімскім пасадзе і хоча ўвайсці праз гэтую браму перад серафімамі. Тады анёлы аб'явілі ім Божую годнасць і сілу, што спачывае ў гэтым чалавечым целе, і загадалі не супраціўляцца волі Божай, які ўсё мудра робіць. Бо Ён, — казалі яны, — зышоў на зямлю, нябачны нікім, а цяпер узыходзіць зноў у выглядзе слугі. Але тыя (вартаўнікі) адказалі: Не паслухаемся, пакуль не пачуем Божага загаду. Тады сам Хрыстос усклікнуў: Адчыніце Мне браму праўды, каб, увайшоўшы, Я мог расказаць Майму Айцу, што Я рабіў і як цярпеў на зямлі! Пазнаўшы голас Госпада, усе сілы нябесныя, паўшы ніц, пакланіліся Яму і сказалі: Хоць мы не бачылі, як Ты, Уладару, зыходзіў (на зямлю), але пакланяемся Табе цяпер, калі ўзыходзіш у славе».

---

* Параўнай песню на вячэрні Узнясення: «Госпад узнёсся на неба, каб паслаць свету Суцяшальніка. Неба падрыхтавала Яму пасад, хмары — Ягоныя сходы. Анёлы здумеліся, убачыўшы Чалавека вышэй за іх. Айцец прымае Таго, хто быў ва ўлонні Яго спрадвеку; Дух Святы загадвае анёлам: Адчыніце, князі, вароты вашыя!»

** На вячэрні Узнясення спяваецца: «Апосталы, убачыўшы, як Ты, Госпадзе, Жыццядаўча Хрысце, узносіўся на хмарах, заліліся слязьмі і, поўныя суму, з плачам казалі: Не пакідай, Уладару, сіротамі слуг Тваіх, якіх Ты палюбіў у міласэрнасці і добрасардэчнасці Тваёй, але пашлі нам, як абяцаў, Усесвятога Духа Твайго, каб Ён прасвятліў душы нашыя».

Кірыла ўпрыгожваў свае «словы» красамоўнымі формамі і зваротамі. Сярод мастацкіх прыёмаў ён часта ўжываў антытэзу, або супрацьстаўленне, як, напрыклад, Хрыста і Адама ў прыведзенай вышэй прамове анёла да міраносіцаў. Вось яшчэ адзін прыклад са «слова» на Вялікдзень:

«Перад учарашнім днём Хрыстос быў укрыжаваны *як чалавек*, але *як Бог* зацьміў сонца, і месяц у кроў перамяніў, так што цемра запанавала на зямлі. *Як чалавек* Ён, усклікнуўшы, аддаў духа, але *як Бог* Ён затрос зямлёю, так што камяні патрэскаліся. *Як чалавек* ён быў прабіты ў бок кап'ём, але *як Бог* заслону першага Закону разарваў надвое… *Як чалавек* Ён быў пакладзены ў магілу, але *як Бог* асвяціў ахвярнік царквы народаў».

Іншым частым прыёмам Кірылы было паўтарэнне. У «Слове ў Нядзелю слепанароджанага», калі Хрыстос спытаўся ў сляпога, ці верыць у Сына Божага, той адказаў:

«*Веру*, Госпадзе, і пакланяюся Табе! *Веру* ў Цябе, Сыне Божы, і слаўлю Цябе! *Веру*, Уладару, і вызнаю Цябе як Хрыста, Збаўцу свету! *Веру*, Міласэрны, у Тваё прыйсце на зямлю і Твой узыход як чалавека на неба! *Ты той*, пра каго пісалі прарокі, якія ў духу бачылі Тваё ўцелаўленне! *Ты той*, каго патрыярхі прадбачылі ў вобразе ягняці, што бярэ на сябе грахі свету! Ты, Госпадзе, *той* самы, пра якога вучылі заканадаўцы: Калі прыйдзе Месія, Ён адменіць Закон і дасць ласку…»

У «Слове ў Нядзелю Тамаша» (нядзеля пасля Вялікадня) у Кірылы ёсць апісанне вясновага адраджэння прыроды, як сімвала аднаўлення ўсяго стварэння праз Уваскрасенне Хрыстова:

«Сёння вясна красуецца і ажыўляе зямную прыроду; бурныя вятры, лагодна павяваючы, прыносяць багацце пладоў, а зямля корміць семя і родзіць зялёную траву… Сёння нованароджаныя ягняты і цяляты хутка бегаюць і скачуць і весела вяртаюцца да сваіх матак, а пастухі на жалейках радасна славяць Хрыста…»

Калі ўзяць пад увагу кліматычныя ўмовы Беларусі, дык становіцца ясным, што вобраз вясны ў творы Кірылы не з'яўляецца вынікам назірання прыроды ў ваколіцах Турава. У ім адчуваецца ўплыў падобных апісанняў у Рыгора з Назьянза (328–383)*. Кірыла, аднак, аслабляе мастацкі эфект алегарычным тлумачэннем вобраза:

---

* Пра ўплыў Рыгора з Назьянза на Кірылу Тураўскага гл.: Vaillant A. Cyrille de Turov et Gregoire de Nazianze // Revue des Études Slaves. Paris, 1950. T. 26. P. 34–50.

«Вясна — гэта вера Хрыстова, якая праз хрост родзіць нанова людскую прыроду; бурныя вятры — гэта грэшныя пажаданні, якія праз пакуту ператвараюцца ў дабрадзейнасці і прыносяць плады, карысныя для душы; зямля — гэта наша прырода, якая, прыняўшы семя Слова Божага… родзіць у страху дух збаўлення…»

Кірыла быў чалавекам свайго часу і таму не быў свабодны ад модных плыняў, якія панавалі ў тагачасным візантыйскім і ўсходнеславянскім пісьменстве. Адной з такіх модных рысаў было празмернае ўжыванне алегорыі, або іншасказання, г. зн. спробы знайсці іншы, «глыбейшы» сэнс у штодзённых з'явах. Алегорыя мае законнае месца і з'яўляецца неад'емнай часткай прыпавесцяў. Аднак празмернае ўжыванне яе ўводзіць у твор элемент штучнасці. Візантыйскія царкоўныя пісьменнікі, а за імі і славянскія часоў Кірылы нярэдка злоўжывалі алегорыяй. Клімент Смаляціч у сваім лісце да святара Тамаша пісаў: «Хачу ведаць іншасказальна цуды Хрыстовыя, апісаныя ў Евангеллі». Не быў выняткам у гэтым і Кірыла.

Кірыла звычайна сканчае свае «словы» кароткай пахвалою Богу і святу, як, напрыклад, у «Слове ў Нядзелю Тамаша»:

«Таму, браты, верым Хрысту Богу нашаму, паклонімся Укрыжаванаму, уславім Уваскрослага; дайма веру Таму, хто з'явіўся апосталам; будзем пяяць хвалу Таму, хто паказаў бок Тамашу; усхвалім Таго, хто прыйшоў ажывіць нас; вызнайма Таго, хто асвяціў нас; узвялічым Таго, хто даў нам багацце дабротаў; пазнайма аднаго ад Тройцы Госпада, і Бога, і Збаўцу нашага Ісуса Хрыста, якому слава разам з Айцом і Усесвятым Духам».

Кірылу звычайна робіцца закід, што ў ягоных «словах» адсутнічае элемент маральнага навучання. У вялікай ступені гэта сапраўды так. Ён падыходзіць найбліжэй да практычных высноваў у канцы «Слова на Вербніцу»:

«Дык вось, браты, выпадае нам, як людзям Божым, уславіць Хрыста, які палюбіў нас. Прыйдзіце, паклонімся Яму і прыпадзем у думках, як блудніца, цалуючы Ягоныя чыстыя ногі. Адрачэмся, як яна, ад дрэнных дзеянняў, выльем на Ягоную галаву, быццам духмяны алей, нашую веру і любоў. Выйдзем, як некалі народ, насустрач Яму, зломім, быццам галінкі, наш гнеў. Пасцелем Яму, быццам вопратку, нашыя добрыя ўчынкі; усклікнем Яму ў малітве, як малыя дзеці; пойдзем перад Ім, паказваючы міласэрнасць да бедных… Падрыхтуем у пакоры, быццам святліцу, нашыя душы, каб Сын Божы ўвайшоў туды пад выглядам прычасця і справіў вячэру разам са сваімі вучнямі…

Умярцвім пажаданні цялесныя і ўсклікнем: Гасанна на вышынях! Блаславёны Той, хто прыйшоў на дабравольныя цярпенні, якімі Ён знішчыў пекла і перамог смерць».

Практычнае значэнне падобных павучанняў малое з прычыны іхняга агульнага характару. Наогул, «словы» Кірылы нагадваюць хутчэй радасныя гімны ў гонар Усявышняга. Гэта было абумоўлена, несумненна, і характарам Велікоднага перыяду — найбольш радаснага і ўрачыстага ў царкоўным календары.

Узятыя ў цэласці, «словы» Кірылы не пазбаўленыя навучальнага элемента. Ва ўсіх ягоных «словах», як і ў малітвах, заўсёды прысутная думка пра Божую спагадлівасць і любоў да людзей. Гэтая любоў з асаблівай сілаю праявілася ў справе адкуплення роду людскога праз Ісуса Хрыста, які «прыйшоў не толькі дзеля праведных, але каб узняць увесь сатлелы і заняпалы злачынны свет. Ён узяў грахі ўсіх на сябе і прыбіў іх да крыжа» («Слова на Вялікдзень»).

«Вось мудрасць Божая і Ягоная невыказная любоў да людзей! — усклікае ў іншым месцы Кірыла. — Якая душа не ўсцешыцца з Ягонай міласэрнасці, дзякуючы якой Ён нас палюбіў і прыблізіў да сябе, калі мы былі яшчэ далёка ад Яго!» («Слова ў Нядзелю слепанароджанага»).

Іншая тэма, якую паслядоўна развівае Кірыла, — гэта параўнанне і супрацьстаўленне між Старым і Новым Запаветамі:

«…Ідаласлужэнне адышло ўжо, і крыжовая тайна перамагла бесаўскае насілле, а род людскі не толькі збавіўся, але і асвяціўся вераю Хрыстоваю. Пасля адмены крывавых ахвяраў казлятаў і цялятаў Стары Закон збяднеў; толькі адзін Хрыстос сам прынёс сябе Айцу ў ахвяру за ўсіх» («Слова ў Нядзелю Тамаша»).

«…Мінуў ужо Стары Закон з патрабаваннем ахвяраў казлятаў і запаветамі старцаў, не змогшы ацаліць людскія немачы. Закон Майсея нічога не асягнуў, а толькі аддаў усіх пад уладу граху. Цяпер сам Творца і Заканадаўца прыйшоў абнавіць стварэнне і збавіць чалавека, як кажа прарок: Не пасрэднік і не анёл, але сам Госпад збавіў нас» («Слова ў Нядзелю слепанароджанага»).

Тая самая думка з’яўляецца асноваю параўнання сажалкі ў Бэтсаідзе з хростам:

«…(У Бэтсаідзе) анёл Гасподні прыходзіў і хваляваў ваду, і той, хто першы ўваходзіў у яе пасля гэтага, бываў аздароўлены. Бо гэтая вада аздараўляла не заўсёды, але толькі калі яе парушаў анёл. Цяпер у хросце сам Уладар анёлаў, Дух Святы, прыходзіць і асвячае ваду, даючы здароўе для душаў і целаў і ачышчэнне грахоў. Калі хто сляпы розумам, ці кульгае няверствам, ці засох

у роспачы бясчынстваў, ці спаралізаваны лжывай навукай, — вада хросту аздараўляе іх усіх. Тая сажалка прымала ўсіх, але аздараўляла толькі аднаго, — і то не заўсёды, — раз у год. Хрост кожны дзень аздараўляе і ажыўляе многіх. Нават калі ўсе людзі, што на зямлі, прыйдуць да хросту, ласка Божая не паменшыцца, і ўсе атрымаюць аздараўленне ад грахоўных недамаганняў»* («Слова ў Нядзелю расслабленага»).

Такім чынам, навучальны элемент не адсутнічае ў «словах» Кірылы зусім. У іх адчуваецца намаганне аўтара даць слухачам багаслоўскае выясненне тайны нашага збаўлення і адкуплення. Толькі часта багаслоў у Кірылы спаборнічае з паэтам…

У «словах» святога Кірылы назіраецца шчаслівае спалучэнне пісьменніцкіх здольнасцяў з шырокімі на той час багаслоўскімі ведамі. Кірыла быў, несумненна, найлепшым знаўцам Святога Пісання сярод ранніх усходнеславянскіх царкоўных пісьменнікаў. Ён таксама ведаў творы айцоў царквы, прынамсі тыя, якія былі даступныя ў славянскім перакладзе. Часам складаецца ўражанне, што ягоныя «словы» належаць да святаайцоўскай пары, так яны прасякнутыя ейным духам. Асабліва вялікі ўплыў на яго мелі творы айцоў «залатой пары» — Рыгора з Назьянза (Багаслова), Эпіфана Кіпрскага і інш. Калі казаць пра Яна Залатавуснага, то ягоны ўплыў адчуваецца ў пераймaнні характару творчасці. Французскі даследчык А. Ваян заўважыў, што Кірыла настолькі добра павінен быў ведаць Яна Залатавуснага, што часта здаецца, быццам ён пераймае яго даслоўна. У сапраўднасці ж Кірыла толькі наследуе манеру пісання Яна.

Як прыклад красамоўнага мастацтва, «словы» Кірылы былі незвычайным з’явішчам для свайго часу. Багацце вобразаў і разнастайнасць формаў ажыўлялі іх і трымалі зацікаўленых слухачоў у напружанні. Мова «словаў» багатая на трапныя параўнанні і прыклады. Авеяныя духам любові да Бога, «словы»

---

* Параўнанне Бэтсаіды з хростам ёсць у св. Яна Залатавуснага: «…Як тады (г. зн. у Бэтсаідзе) не вада сама лячыла, — бо тады б яна рабіла гэта заўсёды, — але моц анёла, так і ў нас не проста вада, але вада, якая атрымала ласку Святога Духа, робіцца здольнай абмыць грахі… Тады слабасць магла перашкодзіць таму, хто шукаў аздараўлення. Цяпер усе маюць поўную свабоду прыбліжацца, бо не анёл ужо ўзварушвае ваду, але сам Уладар анёлаў дзейнічае… Нават калі б увесь свет прыйшоў, ласка не зменшыцца, як і не зменшыцца яе моц, але застаецца заўсёды такой самай» (Migne. PG. V. 59. P. 203). Услед за Янам Залатавусным гэты прыклад паўтарыў Тэафілакт Балгарскі ў пачатку XII ст.

справядліва здабылі іхняму аўтару славу другога Залатавуснага, «які больш за ўсіх заззяў на Русі».

## Добры пастыр

Кірыла правёў вялікую частку свайго жыцця ў пастырскай дзейнасці, як духоўны настаўнік у манастыры, а пасля як біскуп на Тураўскім пасадзе. Ён меў высокае паняцце біскупскай годнасці і балюча перажываў, калі нехта хацеў выкарыстаць гэты стан для нягодных мэтаў. У тым часе сталася сумнавядомай справа Тодарца, якая пагражала разбіццём царкоўнай еднасці Кіеўскай мітраполіі. Кірыла не мог заставацца ўбаку ад гэтай справы. Аднак, замест таго, каб пачынаць спрэчкі з супрацоўнікамі, ён напісаў «Прыпавесць пра чалавечую душу і цела»*, вядомую таксама як «Прыпавесць пра кульгавага і сляпога», дзе ён выклаў свой погляд на Царкву і царкоўных дастойнікаў. У аснову твора лягла вядомая сярод усходнеславянскіх царкоўных пісьменнікаў гісторыя ўсходняга, хутчэй за ўсё габрэйскага, паходжання. Пачынаецца яна з таго, што «нейкі гаспадар пасадзіў вінаград, агарадзіў плотам, выкапаў студню, зрабіў вароты, але не зачыніў іх. Перад тым, як адысці, ён разважаў так: Каго мне паставіць сцерагчы вінаграднік? Калі пастаўлю аднаго з маіх слугаў, ён, ведаючы маю дабрыню, абкрадзе маю маёмасць. Ведаю, што зраблю. Пастаўлю пры варотах кульгавага, а з ім сляпога. Калі вораг захоча ўвайсці і абрабаваць вінаграднік, кульгавы яго ўбачыць, а сляпы пачуе. Увайсці ж у вінаграднік кульгавы, калі б і хацеў, не зможа з-за сваіх хворых ног, а сляпы, калі і ўвойдзе, то заблудзіць і згіне. Аднак вартаўнікі аказаліся хітрэйшымі, чым думаў гаспадар. Як толькі ён адышоў, кульгавы сеў на сляпога і пачаў паказваць яму дарогу. Такім чынам яны ўвайшлі ў вінаграднік і абрабавалі яго. Калі гаспадар даведаўся, ён паклікаў сляпога. Але той адказаў: Ты ведаеш, што я сляпы, без праваднíка не магу нікуды ісці і не магу сам трапіць у ніводнае месца, калі б і хацеў. Я не чуў, каб нехта праходзіў міма праз вароты, бо інакш узняў бы крык. Думаю, гаспадару, што гэта кульгавы абакраў цябе. Тады гаспадар паклікаў кульгавага. Сустрэўшыся, яны пачалі абвінавачваць адзін аднаго. Кульгавы казаў: Калі б ты мяне не насіў, я б сам не мог увайсці, бо я кульгавы. А сляпы адказаў: Калі б ты не быў маім

* Поўная назва твора: «Прыпавесць мніха Кірылы пра чалавечую душу і цела, пра ўваскрасенне мёртвых, і пра суд і мукі».

праваднікам, я б не мог трапіць (у вінаграднік). Паслухаўшы іх, гаспадар загадаў іх абодвух пасадзіць у вязніцу»*.

Вобраз гаспадара нагадвае аўтару Бога, а вінаграднік з адчыненымі варотамі — Царкву. «Царква, — кажа ён, — для ўсіх адчыненая. Яна наша маці, якая родзіць нас у тайне хросту і корміць тых, што ў ёй жывуць».

Як гаспадар паставіў вартаўнікоў пры ўваходзе ў вінаграднік, так Бог устанавіў у Царкве зверхнікаў, каб ахоўвалі святыя тайны:

«Як кульгавы і сляпы былі пастаўленыя ахоўваць тое, што ўнутры, так і патрыярхі, архібіскупы і ігумены пастаўленыя між царквою і ахвярнікам сцерагчы святыя тайны ад ворагаў Хрыстовых, гэта значыць ад ерэтыкоў, злосных спакуснікаў, несумленных грэшнікаў і паганых іншаверцаў».

Пытанне царкоўнай іерархіі знаходзіцца таксама ў слове на Вербніцу:

«Словы Евангелля, якія Хрыстос шматразова казаў для збаўлення людзей, ёсць страваю для нашых душаў. Ягоны слаўны і пачэсны дом — Царква — мае выдатных будаўнікоў: патрыярхаў, біскупаў, святароў, ігуменаў і ўсіх царкоўных настаўнікаў, якія сталіся блізкімі Богу дзякуючы веры і чысціні жыцця і атрымалі ласкаю Духа Святога розныя дары навучання і ацалення паводле меры дару Хрыстовага».

---

* Прыпавесць пра кульгавага і сляпога прыцягнула ўвагу такіх даследчыкаў, як М. Сухамлінаў, І. Франко (гл. заўвагу на с. 31) і І. Яромін (Еремин И. Притча о слепце и хромце в древнерусской литературе // Изв. отдела Русского языка АН СССР. Т. 30. 1925. С. 323–325). Кірыла памылкова лічыць аўтарам прыпавесці св. апостала Мацвея, відаць, змяшаўшы яе з прыпавесцю пра злых вінаградараў (Мц 21, 31–40). Несумненна адно, што прыпавесць пра сляпога і кульгавага дайшла да яго не ў першапачатковай, але ў «хрысціянскай» форме. Побач з тэмаю Царквы і царкоўнай іерархіі Кірыла ў сваёй прыпавесці развівае тэму жыцця пасля смерці. Сляпы для яго — гэта вобраз душы, а кульгавы — цела. Кірыла робіць выснову, што да другога прыйсця Хрыстовага «няма ні суду, ні мучэнняў для ўсякай душы чалавека, вернага і нявернага». Такога погляду прытрымліваліся некаторыя царкоўныя пісьменнікі (Афрат Сірыйскі, Фоцый, Тэафілакт Балгарскі і інш.), але ён пярэчыць хрысціянскай традыцыі і навуцы Царквы, дзе ад самага пачатку існавала практыка малітваў за памерлых і культ святых. Малітвы Кірылы сведчаць, што ён верна прытрымліваўся царкоўнай традыцыі.

Такім чынам, царкоўныя іерархі — гэта будаўнікі Дому Божага, настаўнікі і ахоўнікі святых тайнаў. Яны не самазванцы, а пастаўленыя Богам, і кожны з іх атрымлівае асаблівы дар Духа Святога. Гэты дар даецца пры свячаннях, але не адразу, а паступова:

«…Хрыстос дзьмухнуў у твар апосталам і сказаў: Прыміце Духа Святога*. Гэта быў не поўны дар, але зарука святарства, бо Ён загадаў ім чакаць Святога Духа, які «прыйшоўшы, да канца асвяціць вас»**. Таксама біскупы свяцяць паддыяканаў, чытальнікаў і дыяканаў. Усё гэта не поўны дар, а толькі зарука далейшых свячанняў, каб маглі падрыхтавацца да дасканалага святарства».

Святарства, такім чынам, — гэта нешта вялікае. Таму няма нічога горшага, як недастойнае прыняцце святарскай годнасці:

«Няма нічога больш мілага Богу, як сціпласць у духоўным стане, і нічога больш агіднага, як самаўпэўненасць і высакамернасць таго, хто ганарыцца сваёй годнасцю, а не Богам».

Кірыла параўноўвае нягоднага кандыдата ў біскупы да Адама, які «…валодаючы ўсімі зямнымі багаццямі, усімі жывёламі, морам і ўсімі стварэннямі, што жывуць у ім, маючы ўсяго ўдосталь у зямным раі, самавольна пакваліўся на святыя рэчы, пажадаўшы ўвайсці з зямнога раю ў нябесны… Ён зрабіў так, як нягодны царкоўнік, які, затаіўшы свой грэх і не дбаючы пра закон Божы, толькі дзеля дачаснай славы ўзышоў на біскупскі пасад».

Кірыла звяртаецца да нягодных царкоўных дастойнікаў:

«Зразумейце сёння, неразумныя сярод людзей дастойнікі, разбэшчаныя святары! Ці ж Той, хто даў нам вушы, не чуе, і хто стварыў вочы, не бачыць?.. Ці ж Той, хто навучае народы, не разумее нашага грэшнага ўпадку? Госпад ведае дрэнныя думкі злых людзей. Ён скідае няправедных уладароў і адганяе ад ахвярніка нягодных святароў. Ніякая годнасць гэтага свету не выбавіць ад мукі тых, хто ломіць Божыя прыказанні».

Падобная перасцярога знаходзіцца ў «Слове на Нядзелю расслабленага»:

«Гора таму, хто грашыць пасля ўспрыняцця духоўнага стану — гэта значыць манаства і святарства, — а нават самому біскупу, які не баіцца Бога».

---

* Гл. Ян 20, 22.

** Магчыма, Кірыла меў на ўвазе: Ян 16, 13 або Дз 1, 8.

Каб развеяць усякае сумненне, Кірыла сцвярджае катэгарычна:

«У якім стане мы б ні былі, далёкія мы ад Бога, калі ў нас няма добрых учынкаў і жалю за грахі».

Словы «жаль за грахі» хаваюць у сабе ноту надзеі. Як добры пастыр і лекар душаў, Кірыла не абмяжоўваецца дыягназам хваробы, але тут жа прапануе лекі. Ён перасцерагае верных, каб не бралі прыкладу з Юды:

«Дзеля гэтага не ўпадаем у роспач, як Юда, і не ўсумнімся, як садукеі, у цялесным уваскрасенні з мёртвых; але ў пакаянні стукайма ў Божыя дзверы, аж пакуль брама нябесная не будзе нам адчыненая. Праўдзіва сказаў Госпад: Стукайце, і адчыняць вам; шукайце, і знойдзеце; прасіце, і будзе вам дадзена».

А што Госпад пачуе голас грэшнікаў, якія прыходзяць шчыра і ў пакоры да Яго, няма ніякага сумнення, бо:

«Няма такога граху, які б мог пераўзысці Божую міласэрнасць».

## Кірыла і Беларусь

Літаратурная спадчына Кірылы Тураўскага параўнаўча невялікая: восем «словаў» (казанняў), дзве «прыпавесці» і адзін «сказ», трыццаць малітваў і два каноны. Апрача гэтых твораў, аўтарам якіх быў бясспрэчна Кірыла, ёсць шмат іншых, якія носяць імя «Кірылы мніха», «Кірылы недастойнага», «Кірылы грэшнага» і г. д., аўтарства якіх сумніўнае. У многіх выпадках невядомы аўтар выкарыстоўваў славу Кірылы і падпісваў свой твор, звычайна слабейшы з мастацкага боку, ягоным імем.

Творы Кірылы дайшлі да нашых дзён у шматлікіх рукапісных спісках, самыя раннія з якіх паходзяць з XIII ст. Ягоныя «словы» былі настолькі блізкімі па духу і стылю да падобных твораў «святаайцоўскай пары», што іх вельмі рана пачалі ўключаць у гэтак званыя «Таржэсцвеннікі», або «Залатавусныя», як называліся зборнікі казанняў і навукаў святых айцоў, у першую чаргу Яна Залатавуснага, на нядзелі і святы. Пачынаючы з XVI ст., гэтыя зборнікі пачалі выдавацца друкам. З'яўленне друкаваных зборнікаў было лагічным працягам рукапіснай традыцыі, і яны не прадстаўлялі б вялікай цікавасці, калі б не тое, што першыя з іх былі надрукаваныя на Беларусі. Першым такім выданнем было «Тлумачальнае Евангелле» («Евангелие учительное»), якое выйшла ў Заблудаве ў 1569 г. Друкарамі былі маскоўскі друкар

Іван Фёдараў і ягоны калега, беларус Пётра Мсціславец, якія, пасля няўдалай спробы заснаваць кнігадрукаванне ў Маскве, былі змушаныя ўцякаць адтуль і знайшлі бяспечны прытулак на Беларусі пад апекаю гетмана Вялікага Княства Літоўскага Рыгора Хадкевіча. У кнізе знаходзіцца «Слова на Узнясенне» Кірылы Тураўскага.

Пазней, асабліва ў XVIII ст., у Супраслі і Вільні беларускімі друкарнямі было выпушчана некалькі выданняў зборніка «Залатавусны», названага так ад імя аўтара большасці казанняў і навукаў, змешчаных у ім. Аўтару гэтых радкоў вядомы змест віленскага «Залатавуснага» 1798 г., экзэмпляр якога знаходзіцца ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане. У кнізе ёсць два словы Кірылы Тураўскага, менавіта «Слова на Нядзелю Тамаша» і «Слова на Нядзелю расслабленага».

Вялікую цікавасць мае гісторыя выданняў малітваў Кірылы. У 1971 г. аўтар гэтых радкоў меў нагоду ўпершыню пазнаёміцца з тэкстам «Малой падарожнай кніжкі» Францішка Скарыны, выдадзенай у 1522 г. у Вільні. Якое было ягонае радаснае здзіўленне, калі ён знайшоў у ёй тры малітвы Кірылы Тураўскага: «Малітва Госпаду Ісусу Хрысту ў нядзелю раніцай», «Малітва да святых анёлаў» і «Малітва да святых апосталаў». Як заўсёды, Скарына падышоў да гэтых малітваў творча, скараціўшы іх і ўнёсшы некаторыя змены.

Вось пачатак «Малітвы да святых анёлаў»:

| Кірыла | Скарына |
|---|---|
| К вам, яко заступником и хранителем живота моего, аз окаянный и многогрешный (имя рек) припадаю, моляся и прося вашей милости, видци Божіа величества, святіи ангели, престол честныи Пресвятыя Троица страшно обстояще и неизречнною светлостью Божественныя славы облистаеми. | К вам яко к заступником и хранителем живота нашего, аз окаанный и многогрешны имя рек припадаю моляся просяй вашей милости, видци Божия величества святии ангели, престол чесный живоначальныя Троице страшно оступающе, неизреченною светлостию Божественныя славы облистаеми. |

А вось яшчэ прыклад з «Малітвы да святых апосталаў»:

| | |
|---|---|
| Святыи Петре, Богоизбранный апостоле, твердый камень вере, недвижимое основание Церкви, пастуше словесного стада Христова, ключарь царства небесного: Тя молю, всечестне, да обоимет мя божественная твоя мрежа, да ми извлечеши из глубины погыбельныя. | Святый апостоле Петре, первый престольниче апостольски, твердый камень веры Христовы, недвижимое основание Церкви хрестианское, пастырю стада Ісусова, ключарю царства небеснаго, рыбарю глубины неведения, да обымет мя твоя мрежа, и да извлечет мя из глубины погибельныя. |

Наступныя прыклады з «Малітвы да святых Апосталаў» паказваюць змены, зробленыя Скарынам у тэксце:

| Кірыла | Скарына |
|---|---|
| 1. Святы Марко, Господен честныи арган, ибо во всю землю изыде вещаніе твоего сладкого гласа, украсивый Церьковь святыми ти словесы, Христовых таин списателю и всех чюдес Его благовестниче.<br>(У іншай версіі: Святы Марко, Александрийскій і египетскій светильниче, Христовых таин списателю…)<br>2. Адсутнічае. | 1. Святый Марко Александрійский, светильниче египетскій, непобедимый льве, Венециская похвало, Христовых чюдес объявителю…<br>2. Светый Якове, брате Іоанов, первый во апостолех мученику, иже Испанию и вся страны западныи своим телесем славне просвещаеши. |

Доктар лекарскіх навукаў Падуанскага ўніверсітэта Францішак Скарына ведаў, што святы евангеліст Марк быў патронам суседняй з Падуяй Венецыі. Ён быў таксама знаёмы з заходняй традыцыяй, згодна з якой цела святога апостала Якуба спачывае ў манастыры Сант'яга дэ Кампастэлля ў Іспаніі, які ў сярэдніх вяках быў папулярным месцам пілігрымак. Можна сказаць з упэўненасцю, што гэтыя дэталі былі невядомымі для тураўскага Залатавуснага.

Скарына не назваў імя аўтара, магчыма нават, ён яго і не ведаў. Але сам факт знаёмства беларускага першадрукара з

малітвамі св. Кірылы паказвае на іхнюю папулярнасць у Беларусі, а таксама на існаванне ўласнай духоўнай традыцыі, якая сваімі каранямі сягае XII ст. Далейшы ход падзеяў пацвярджае гэтую здагадку.

XVI стагоддзе было вельмі бурным і багатым на падзеі ў палітычным і рэлігійным жыцці Беларусі. З гэтых апошніх можна нагадаць, апрача перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці Францішка Скарыны, хуткі рост Рэфармацыі і аднолькава хуткі яе заняпад, прыезд езуітаў і пачатак каталіцкай Контррэфармацыі, з’яднанне часткі Праваслаўнай царквы з Каталіцкай і паўстанне Уніяцкай царквы ў 1596 г., намаганні іншай часткі праваслаўных аднавіць іхнюю Царкву, якая перажывала перыяд заняпаду. У гэтай апошняй справе асабліва вялікую ролю адыгралі праваслаўныя рэлігійныя брацтвы, найважнейшым з якіх было брацтва Віленскае, якое, у прыватнасці, разгарнула шырокую кнігавыдавецкую дзейнасць. У 1595 г. выйшла з брацкай друкарні кніжка пад назвай «Штодзённыя малітвы». Падобна як «Малая падарожная кніжка» Скарыны, гэта быў малітоўнік для свецкіх людзей, хоць зместам гэтыя дзве кнігі вельмі розніліся. «Малітвы» перавыдаваліся брацтвам у іхняй віленскай друкарні ў 1596, 1628 (прыбл.) і 1635 гг., а таксама ў Еўі ў 1611 і 1615 гг. Спірыдон Собаль выдаў «Малітвы» ў 1631 г. у Куцеіне. У 1613 г. у Еўі выйшаў «Анталагіён», які зместам амаль не розніўся ад «Малітваў». Вядомыя таксама два ўніяцкія выданні «Штодзённых малітваў» Лявона Мамоніча ў Вільні ў 1601 і 1609 гг.*.

Колькасць выданняў «Штодзённых малітваў» сведчыць аб папулярнасці гэтай кнігі, а арыгінальны новы змест робіць яе адным з найбольш значных помнікаў беларускай рэлігійнай літаратуры. Неадменнай складовай часткай «Малітваў» былі малітвы святога Кірылы Тураўскага, сабраныя ў асобны раздзел. Гэта адзначалася на тытульным лісце, а сам раздзел, у які уваходзіла 21 малітва святога — па тры на кожны дзень тыдня, меў назву: «Малітвы на ўвесь тыдзень. Твор святога айца нашага Кірылы манаха» або, як у куцеінскім выданні, «Твор святога айца нашага Кірылы, мніха Тураўскага».

Паасобныя малітвы Кірылы ёсць і ў іншых беларускіх рэлігійных выданнях XVII ст. Апроч «Штодзённых малітваў» на Беларусі быў вядомы больш абшырны малітоўнік, які называўся «Паўустаў», у двух выданнях якога, вядомых аўтару гэтых рад-

---

* Надсан А. Малітаўнік Мамоніча 1601 г. // Божым шляхам. Лондан, 1970. № 1. С. 8–12; № 2. С. 5–6.

коў, — Еўеўскім 1637 г. і Віленскім 1695 г., — змешчаныя дзве малітвы святога Кірылы. Чатыры малітвы святога знаходзяцца ў кнізе «Акафісты і каноны», якая выйшла ў Вільні ў 1628 г.

Асобна трэба сказаць пра выданні на польскай мове. У 1624 г. Віленскае праваслаўнае брацтва выдала кнігу пад назвай «Wykład Liturgiey Świętey, y modlitwy z doktorów SS. według S. Wschodniey y Apostolskiey Cerkwie zebrane, y na wielu mieyscach z pilnością poprawione. Przydane są do tego y inne modlitwy na kożdy dzień ś. Oyca naszego Cyrilla». Гэтае выданне, — а яно было не адзінае, — кідае цікавае святло на працэс паланізацыі праваслаўных беларусаў.

Ад сярэдзіны XVII і праз усё XVIII стагоддзе гісторыя Беларусі поўнілася трагічнымі падзеямі, якія скончыліся стратаю незалежнасці. У XIX ст. Беларусь сталася правінцыяй Расейскай імперыі. Безумоўна, аб нейкай беларускай духоўнай і культурнай дзейнасці не магло быць і гутаркі. Дзейнасць расейскіх вучоных, якія звярнуліся да вывучэння беларускіх старажытнасцяў, фальклору, мовы і г. д., была звычайна тэндэнцыйнай і мела на мэце даказаць, што Беларусь была ад самага пачатку часткаю Расеі. Тым не менш ім удалося знайсці і зрабіць вядомымі шмат каштоўных матэрыялаў і фактаў, якія даказвалі якраз адваротнае…

Асоба Кірылы Тураўскага прыцягнула ўвагу расейскіх вучоных XIX ст. К. Калайдовіч, біскуп Мінскі і Тураўскі Яўген, А. Панамароў, М. Сухамлінаў і інш. зрабілі шмат у галіне вывучэння літаратурнай спадчыны Кірылы і выдання ягоных твораў. Па іроніі лёсу, працы расейскіх вучоных зрабілі творы Кірылы даступнымі для пачынальнікаў беларускага нацыянальнага і культурнага адраджэння. Максім Гарэцкі ў 1920 г. дае кароткую характарыстыку твораў Кірылы: «уважаючы, што іхні літаратурны бок… вышэй за царкоўнага элементу, — гэта болей прыгожая літаратура, чымся царкоўная»*. Вацлаў Ластоўскі ў «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» адводзіць шмат месца апісанню твораў Кірылы, звяртаючы ўвагу не столькі на іхні рэлігійны змест, колькі на літаратурную форму**. Падобны погляд быў даволі аднабаковы і не даваў поўнага вобразу творчасці Кірылы, але ён быў зразумелы ў часе, калі беларускае літаратуразнаўства рабіла толькі свае першыя крокі. Ён таксама панаваў, хоць з іншых прычынаў, у беларускім савецкім літаратуразнаўстве.

---

* Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920. С. 11.

** Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. С. 27–30.

Дый наогул у савецкай Беларусі імя Кірылы Тураўскага праз доўгі час не згадвалася, хіба толькі ў адмоўным сэнсе. Нехта Канакоцін пісаў у 1932 г.: «І да гэтага часу дзе-нідзе імкнуцца давесці, што пролетарская літаратура на Беларусі вырасла не ад Кастрычніка, а ад пэрыёду "Нашай нівы" і заходзіць сваімі карэннямі да Скарыны і Сямёна (так у арыгінале. — *А. Н.*) Тураўскага. Гэта не што іншае, як нацыянал-дэмократычная ідэалізацыя фэўдальнага і буржуазнага мінулага Беларусі, гэта шкодніцкая тэорыя клясавага ворага»*. Толькі ў канцы 1950-х гадоў імя Кірылы было вернутае беларускай літаратуры. Вялікая заслуга ў гэтым належыць А. Коршунаву, які ў сваёй «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» поўнасцю даў тэксты трох «словаў» і «Прыпавесці пра душу і цела» Кірылы**.

Духоўным аспектам дзейнасці Кірылы праз доўгі час маглі займацца толькі беларусы за межамі Бацькаўшчыны. Першай спробай даследавання ў гэтай галіне трэба лічыць артыкул Б. Сыраб. «Св. Кірыла Тураўскі» ў «Беларускім праваслаўным Патэрыку», які выйшаў у Варшаве ў 1943 г.*** Аднак артыкул гэты быў залішне агульны і кампілятыўны.

Вядомы беларускі каталіцкі святар айцец Пётра Татарыновіч, які апынуўся пасля вайны ў Рыме, зацікавіўся асобаю Кірылы Тураўскага і ўзяў ягонае духоўнае навучанне як тэму для доктарскай працы, якую паспяхова абараніў у Папскім Усходнім інстытуце 1 снежня 1949 г. Гэта было першае грунтоўнае даследаванне гэтай тэмы. У 1950 г. праца выйшла друкам у Рыме на італьянскай мове****. Намер а. Татарыновіча пісаць пра духоўную спадчыну св. Кірылы горача падтрымаў другі вядомы беларускі святар, бенедыктынец а. Язэп (Апанас) Рэшаць, прафесар маральнага і аскетычнага багаслоўя ў Ляйл каля Чыкага. У лісце ад 10 жніўня 1947 г. ён пісаў а. Татарыновічу: «Прачытаўшы, што вы маецеся пісаць манаграфію аб Кір(ылу) Тур(аўскім),

---

* Канакоцін О. Літаратура — зброя класавай барацьбы. Мінск, 1932. С. 67.

** Коршунаў А. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959. С. 21–45.

*** Сыраб. Б. Св. Кірыла Тураўскі. Першы вялікі беларускі пісьменнік і красамоўца // Беларускі праваслаўны патэрык. Першы сшытак. Варшава, 1943. С. 17–21.

**** Tatarynovic P. San Cirillo vescovo di Turov e la sua dottrina spirituale (Святы Кірыла, біскуп Тураўскі і ягонае духоўнае навучанне). Roma, 1950.

я, — скажу праўду, — проста ад радасці аж усміхнуўся. Ідзяце ў глыбокую даль гісторыі нашай, сягаеце да асноў, да крыніц яе… Часы Кір(ылы) Тур(аўскага) для нашага інтэлігента беларуса — нешта легендарнае, да-прадгістарычнае, без сапраўднай арганічнай сувязі з жыццём краю. Берацеся гэты туман развеяць, дужа добра, адслоніце пекныя гарызонты, дасце беларусу шырэй глянуць у гісторыю сваю ды ўсхапіць грудзьмі глыбейшы ўздых веры і надзеі, дужа добра»*.

Святы Кірыла вельмі папулярны сярод беларусаў, якія пасля вайны апынуліся на чужыне. Імем святога праваслаўныя беларусы пачалі называць свае прыходы, як, напрыклад, у Нью-Ёрку і Таронта. У Лондане пры Беларускай грэка-каталіцкай місіі, з ініцыятывы біскупа Часлава Сіповіча, паўстала ў 1961 г. невялікая школа-інтэрнат для сыноў беларускіх бацькоў, якая праіснавала 15 гадоў. Яна таксама насіла імя св. Кірылы Тураўскага. Аўтару гэтых радкоў было даручана кіраўніцтва гэтай школай. Яму захацелася даведацца больш пра яе святога патрона. Так у 1968 г. з'явілася кніжка «Святы Кірыл Тураўскі», а таксама некалькі артыкулаў у англамоўных часопісах**. Перш як выйсці асобнай кніжкай, праца друкавалася ў часопісе «Божым шляхам», рэдактарам якога быў тады а. Язэп Германовіч, вядомы як паэт Вінцук Адважны. Ён загарэўся думкай перакласці некалькі малітваў Кірылы вершам на сучасную беларускую мову. Адной з іх была малітва «Дай, добры Божа…». Вядомы прыяцель беларусаў і знаўца беларускай царкоўнай музыкі Гай Пікарда падабраў да яе мелодыю.

Цяпер гэтую малітву спяваюць ва ўсіх каталіцкіх святынях, дзе толькі гучыць беларуская мова.

Пісьменнасць прыйшла на Беларусь разам з хрысціянствам. Таму першай літаратурнай моваю, якой карыстаўся таксама і Кірыла, была царкоўнаславянская. Гэта была мова, на якой нашыя продкі ўпершыню пачулі словы Хрыстовай навукі. На ёй былі напісаныя першыя выдатныя творы нашай духоўнай літаратуры. Таму немагчыма пераацаніць яе значэнне для нас. Тым не менш сёння царкоўнаславянская мова, — а з ёю і ду-

---

* Ліст захоўваецца ў архіве Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

** Надсан А. Святы Кірыл Тураўскі. Лондан, 1968; Nadson A. The Writings of Sc Cyril of Turaŭ // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1965. Vol. 1. № l. P. 4–15; таксама Spiritual Writings of St Cyril of Turau // Eastern Churches Review. London, 1967–1968. Vol. 1. № 4. P. 347–358.

хоўныя скарбы, напісаныя на ёй, — сталася незразумелаю для пераважнай большасці беларусаў. Як было сказана вышэй, яшчэ ў XVII ст. праваслаўныя беларусы пераклалі малітвы Кірылы Тураўскага на польскую мову. У XIX ст. быў зроблены пераклад на расейскую мову. Хочацца спадзявацца, што ў незалежнай Беларусі спадчына Кірылы загучыць па-беларуску і станецца духоўным здабыткам усіх беларусаў. Важны крок у гэтым напрамку зрабіў Алесь Разанаў, пераклаўшы вершам на сучасную беларускую мову адно са словаў св. Кірылы*.

Свае выдатныя здольнасці і немалыя веды Кірыла аддаў на службу Богу. Схільны да адзіноты, ён правёў амаль усё жыццё ў актыўнай душпастырскай дзейнасці для дабра іншых. У душы, аднак, Кірыла застаўся самотнікам. Пакінуўшы па сабе багатую літаратурную і духоўную спадчыну, ён умеў так добра ўкрыць сябе, што сёння толькі з цяжкасцю можна ўстанавіць галоўныя рысы ягонага жыцця. Ён быццам хацеў сказаць не толькі сваімі творамі, але і ўсім жыццём: «Не нам, Госпадзе, не нам, але імю Твайму дай славу» (Пс 113, 9).

Святасць не ведае нацыянальных межаў. З другога боку, святыя, будучы людзьмі, належаць да таго ці іншага народа. Кожны народ зусім слушна ганарыцца сваімі святымі, уважаючы іх за сваіх найлепшых сыноў і дачок, якіх сам Бог захацеў уславіць. Такім для беларускага народа, несумненна, з’яўляецца святы Кірыла Тураўскі.

***1966***

## ЦІКАВЫЯ ПОМНІКІ БЕЛАРУСКАГА РЭЛІГІЙНАГА ПІСЬМЕНСТВА XV СТ.

Ад часу гэтак званага «Хросту Літвы» ў 1387 г. Каталіцкая рымская царква сталася важным чыннікам у жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Спачатку гэта беспасрэдна датычыла этнічных летувісаў, аднак памаленьку ўплыў каталіцызму пашырыўся і сярод беларусаў, асабліва ў асяроддзі, блізкім да вялікага князя. Такім чынам ужо ў сярэдзіне XV ст. існавала невялікая, але ўплывовая, група беларусаў-каталікоў, не гаворачы аб збеларуш-

---

* «Казанне на нядзелю святога Фамы» / на сучасную беларускую мову пераклумачыў Алесь Разанаў // Крыніца. Мінск, 1994. № 7. С. 8–24.

чаных летувіскіх магнатах. Да гэтага часу трэба аднесці спробы гэтай групы стварыць сваю рэлігійную літаратуру. Паяўляюцца на беларускай мове такія творы, як «Мука Госпада нашага Ісуса Хрыста», «Повесць аб трох каралях», «Жыццё Аляксея, чалавека Божага», «Повесць аб рыцару Таудале (Тундалю)» і іншыя. Гэта былі пераважна пераклады з лацінскай ці чэшскай моваў — рэдка з польскай, — некаторыя з іх, аднак, не былі пазбаўленыя пэўнай своеасаблівасці.

Адным з самых цікавых помнікаў беларускага каталіцкага пісьменства XV ст. з’яўляецца, без сумніву, пераклад лацінскай імшы ў гонар Найсвяцейшай Маці Божай. Тэкст перакладу быў часткова выдадзены ў 1910 г. А. Сабалеўскім з рукапісу з канца XV ці пачатку XVI ст.* Рукапіс гэты знаходзіўся перад Першай сусветнай вайною ў Маскоўскай сінадальнай бібліятэцы.

У канцы тэксту імшы гаворыцца: «то есть конец мши Маткі Божіи; только тые слова писаны што каплан гласом говорить на мши, што в таиници говорить того нет». Такім чынам, выглядае, што пераклад быў зроблены для ўжытку свецкіх вернікаў, якія не разумелі лацінскай мовы.

Сабалеўскі ўважае, што імша была перакладзеная на беларускую мову не з лацінскага, а з чэшскага арыгінала, і то даволі старога (перад XIV ст.). Гэта ёсць вельмі магчыма, бо беларусы ў тым часе падтрымоўвалі з чэхамі, якія ўжо мелі поўны пераклад Бібліі і імшы, цесныя культурныя сувязі. Тэкст Сімвала веры ў беларускім перакладзе ёсць, паводле Сабалеўскага, блізкім да тэксту ў харвацкіх глаголічных літургічных кнігах.

Беларускасць твора не падлягае ніякаму сумніву**. Трэба, аднак, заўважыць, што перакладчык стараўся зрабіць сваю мову блізкай да мовы царкоўнаславянскіх літургічных тэкстаў. Дзеля гэтага ў галіне слоўніка і правапісу тут назіраецца большы кансерватызм, чым у іншых літаратурных беларускіх помніках таго часу. Відавочныя таксама ваганні аўтара адносна ўжывання некаторых словаў. Так, напрыклад, святар у яго часам называецца каплан, а часам поп. Таксама прыслужнік ёсць раз жак, а

---

* Соболевский А. И. Старшие переводы русских католиков // Сборник отд. русск. яз. и слов. Имп. ак. наук. СПб., 1910. Т. 88. № 3. С. 193–203.

** Паводле Карскага, які пазнаёміўся з рукапісам яшчэ ў 1897 г., імша была напісана на «западнорусском наречии» (гл. ягоны артыкул «Западнорусский Сборник XV в.», передрук у: Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 268, заўвагі). Так называў гэты вучоны беларускую мову.

раз дзяк, а амінь нярэдка пераходзіць у амен. Затое аўтар усюды паслядоўна ўжывае назоў «Ісус Хрыстос».

Адначасова з імшою Сабалеўскі апублікаваў урывак з беларускага перакладу «Песні Песняў», узятага з таго самага рукапісу. Гэты цікавы дакумент паказвае, што спробы перакласці Біблію на беларускую мову былі робленыя ўжо перад Скарынаю*. Сабалеўскі робіць прыпушчэнне, што чацвёртая жонка Ягайлы, беларуска Сонька Гальшанская, на чый загад быў зроблены ў 1455 г. з чэшскага польскі пераклад Бібліі (г. зв. Біблія кралевы Сафіі, або Біблія Шарошпатацкая), паклапацілася таксама і аб перакладзе Св. Пісьма на сваю родную мову. Ці няможна таксама дапусціць што і беларускі пераклад імшы быў зроблены з ейнага пачыну?

Сёння публікацыя Сабалеўскага з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю, не заўсёды даступнай нават для спецыялістаў. Дзеля гэтага, беручы пад увагу цэннасць дакументаў, перадрукоўваюцца тут выдадзеныя ім урыўкі імшы і Песні Песняў. Прыходзіцца толькі шкадаваць, што гэты вучоны не выдаў у сваім часе поўных тэкстаў прыведзеных твораў.

Дзеля тэхнічных прычынаў «вялікі юс» быў усюды заменены на *у*, а «яць» на *е*. Былі прапушчаныя ўсе цвёрдыя знакі ў канцы словаў і расчыненыя «цітлы», а таксама зробленыя іншыя нязначныя змены, не парушаючы, аднак, тэксту і пунктуацыі.

### 1) Выняткі з беларускага перакладу імшы

*Как ся м'ша четъ римским обычаем матце божіей*

Наперве коли оуже каплан оубравшися приступив къ олтарю и пережегнавшися. поклякнеть а речеть. *Каплан*. Во имя отца и сына и святаго духа. Помочь наша въ имя господне. а дале за

---

* Адносна «Песні Песняў» Карскі кажа, што яна была «в переводе, близком к Скорининскому, но не тождественном с ним» (гл. op. cit., loc. cit.). Паводле Уладзімірава, гэты пераклад быў зроблены не беспасрэдна з Бібліі, але з нейкага чэшскага твора з усімі ягонымі дадаткамі і дапаўненнямі. І сапраўды прыведзеныя ім урыўкі пачынаюцца такім чынам: «Глас невесты душа к' любімому женіху Христу… Целуи мя целованіем…». Гэты вучоны ўважае таксама, што пераклад быў зроблены «прадаўжальнікамі справы Скарыны» (гл. Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. Киев, 1888. С. 238–239 і 340–342). Сабалеўскі, з другога боку, адносіць яго да паловы XV ст. (Соболевскій, op. cit. С. 198).

ним *Жак речеть*. сътворившаго небо и землю. *Каплан* вниду к олтарю божію *Жак* кь богу веселяшемоу юность мою. *Каплан*. исповедаюся богу отцю и сыну и святому духу и святой маріи матце божіеи. и святому петру и святому павлу. и всем святым исповедам вси мои грехи великіи и малыи. которыи есми съгрешил от мое пороженія. аж до сих часов. всего ся каю и винен грехи моих грех мои великіи грехи то бьючися правою рукою в' перси а говорить молим господа бога да ми простит грехи мои. и да мя помилоует и в' животе вечном. *Дьяк* речеть (амен)* аминь милостив тобе будеть господь бог отче духовныи, отпустить ти вси грехи твои. и приведеть тя в' живот вечный. *Каплан* речеть амен. *Дьяк* речеть. исповедь туюж. а потом *Каплан* речеть милостив буди вам господь бог духовная братіе отпустить вам вси грехи ваши. и приведеть вас в' живот вечныи. *Жак* речеть аминь *Поп* речеть въ отданіе съгрешеніи и отпушеніе грехов ваших, подаи вам всемогіи бог. *Жак* речеть аминь. *Поп* рече боже ты обратиш ны и живиши ны *Жак* речеть и людіе твои. возвеселяться о тобе. *Поп* речеть. яви нам господи милость твою. *Жак* и спасеніе твое даиже нам. *Поп* речеть. господи услыши молитву мою. *Жак* вопль мои к' тобе да пріидеть. *Поп* речеть. господь с вами. *Жак* речеть и з духом твоим затым каплан встанеть а сложить руки голову схилив говорить. отими от нас. помолим тя господи вся. беззаконія наша, да к святая святым чистыми достоини внити можем. христом господем нашим амень. А далеи поступая к олтарю говорить молим тя господи да достоин есьм святых твоих ихже моци** овде суть и всех святых твоих отпустити рачь вси грехи мои аминь.

Поп став пред олтарем въздвиг руки речеть верую въ единого бога отца всемогучего. творца небу и земли. видимых всех и невидимых единого господа нашего ісуса христа сына божія. единародного от отца роженого преже всех век. бог от бога свет от света бог истинна от бога истинна, рожен а не сътворен. единосущна отца имже вся быша. иже нас ради человек. и нашего спасения ради сшед с небес. и въплотился есть от духа свята и из маріи девы въчеловечился. к' крижоу пригвожден оубо за нас. при понтіиском пилате. моучен и погребен бысть. и сниде в ад. и в третій день въстал от мертвых, и в'зыде на небо и седить одесную бога отца всемогучего. и оттудоу паки прідет съ славою судити живым и мертвым и его царствию не

---

* Слова ў дужках было закрэслена ў рукапісе (заўвага Сабалеўскага).

** Напэўна, павінна быць «мощи».

будеть конца. и духа свята господа животворящаго. исходячаго от отца и сына. и иже съ отцем и сыном равность поклоняеться и славиться славою. иже глаголал есть во пророцех. едину святу съборную апостольскую церковь. исповедаю едино крещеніе въ оставленіе грехом цекаюць въскресенія мертвым. и живота будучаго века аминь.

Подаи нам рабом твоим и рабыням просим господи боже нашь вечныи мысли и телу здравіем радоватися. и преславным блаженныя марія всегда девы ходатаиством. от настоящее избавитися печали и вечнаго нам оуживати веселія подаи господем нашим ісус христом сыном твоим которыи з богом отцем живеть и цесарствуеть вь единстве духа святаго бог въ вси веки веком.

Поп речеть поднес рукі. Во истинну достоино и праведно есть право и святительно и спасительно нам бе овде и везде хвалы въздавати господи святыи отче всемогіи вечныи боже. и тебе в часть блаженное маріи всегда девы хвалити и благословити и подековати яже единочадыи сын твои святаго духа осененіем и девьства славою пребываючи. свет вечныи всему миру излія ісус христа господа нашего им'же величество твое хвалять. ангелы поклоняються господствія трепещуть власти. небеса и небесныя силы. и блаженныи серафим с обчим радованіем служать. с нимиж и наши гласы совокупити повелиши. молим тя прилежным исповеданием говорячи свят свят свят господь бог саваоф. полна суть небеса и земля славы твоея осанна во вышних благословен иже пріиде во имя господне осанна в вышних.

## 2) Вынятак з Песні Песняў

Целуи мя целованіем уст своих, бо лепши уст перси твои над вином, благовоннеиши нижли ароматы мастіи налепших. Олеи изліанныи имя твое; прото молодци миловали суть тебе. Тягни мя по собе, побегнем в добровонностех мастеи твоих. Увел мя есть царь до винниць своих; радоватися будем, а веселитися в тобе. Памятливыи будучи персеи твоих над вино: правии милують тебе.

Чорна есьмь, але красна, дцери иерусалимскіх, яко станы кедра, якоже то кожа соломонова. Не дбаите мя знаменати, яко смеда есьм, бо мя есть солнце на берве променило. Сынове матери моее боіовали суть противи мене; поставили мя суть сторожем у винницах. Винници моее не остерегла есмь.

*1966*

# ЛАЎРЫН ЗІЗАНІЙ

Беларуская рэлігійная літаратура канца XVI і пачатку XVII ст. не можа пахваліцца ані багаццем, ані асаблівымі духовымі вартасцямі. Пісалася шмат, але ў бальшыні гэта былі палемічныя творы — вынік рэлігійных закалотаў, якія тады панавалі на Беларусі. Чытаючы гэтыя творы, няможна не дзівіцца з ведаў і бессумніўнага таленту некаторых аўтараў, якія ў іншых, больш спрыяльных абставінах маглі б, напэўна, стварыць нешта больш сталае і вартаснае.

У параўнанні з масаю палемістаў, група пісьменнікаў, якія ўнеслі нейкі ўклад у нашую духоўную літаратуру, выглядае вельмі скромна. Сярод каталікоў цяжка знайсці хоць бы аднаго аўтара, прынамсі такога, які б пісаў па-беларуску. Праваслаўныя ёсць больш шчаслівыя і могуць пахваліцца прозвішчамі Лаўрына Зізанія, Лявона Карповіча і іерадыякана Віталія, аўтара «Дыёптры». З гэтых трох Лаўрын Зізаній ёсць найлепш ведамы, хоць не як духовы пісьменнік, але як вучоны філолаг, аўтар «Граматыкі славянскай» і «Лексіса».

Хто быў Лаўрын Зізаній з паходжання, цяжка сказаць. «Зізаній» з’яўляецца грэцкім тлумачэннем прозвішча «Кукель». Украінскі вучоны М. Возняк лічыць Лаўрына ўкраінцам з роду Тусцяноўскіх, што мела быць ягоным другім прозвішчам*. Іншыя лічаць яго «літоўцам»** або кажуць, што Зізані паходзіў з Вільні***. Ёсць нават дакумент, у якім брат Лаўрына, Сцяпан, завецца «земянином господарским повету трокского»****. Калі, аднак, справа паходжання Зізанія і астаецца нявысветленай, дык няма сумніву, што ягоныя творы належаць да беларускай пісьменнасці і, такім чынам, ускосна сведчаць аб беларускасці аўтара.

---

* Возняк М. Причинки до студій над писаннями Лаврентія Зизанія // Записки Наукового Товариства імени Шевченка. Львів, 1908. Т. 83. Кн. 3. С. 33–88. Гл. с. 31–32.

** Зизаній Лаврентій // Русскій Біографическій Словарь. Петроград, 1916. Т. 7. С. 372.

*** Гринченко Б. Огляд української лексикографії // ЗНТШ. Т. 66. Львів, 1905. Кн. 4. С. 1–2.

**** Алексютович Н. Культурно-просветительная деятельность братиев Зизаниев // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Минск, 1962. С. 127; Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. С. 465.

Лаўрын Зізаній быў чалавекам вялікай асветы на свой час. Ён добра ведаў славянскую, лацінскую і грэцкую мовы. Невядома, дзе ён здабыў гэтую асвету. Магчыма, ён вучыўся ў Астрожскай «акадэміі», гэтай маці ўсіх пазнейшых беларускіх і ўкраінскіх праваслаўных школаў. Больш праўдападобна, Лаўрын быў вучнем якой-колечы езуіцкай школы ў Польшчы, а магчыма — у Вільні. У гэтым няма нічога дзіўнага, бо ў другой палове XVI ст. часта здаралася, што праваслаўныя бацькі аддавалі сваіх сыноў да езуітаў, школы якіх славіліся высокім узроўнем навучання і перадавымі ўзгадаваўчымі метадамі.

У 1592 г. Лаўрын і ягоны брат Сцяпан успамінаюцца, як настаўнікі праваслаўнай Орацкай школы ў Львове*. Непаладкі між брацтвам і праваслаўным львоўскім епіскапам Гедэонам Балабанам прывялі да таго, што многія настаўнікі паўцякалі з Львова. Сярод іх быў і Зізаній, які пераехаў у Берасце**, а пасля ў Вільню***. Сталіца Вялікага Княства Літоўскага была тады вялікім культурным цэнтрам як для каталікоў, так і для праваслаўных. Школа, якая існавала ад 1588 г. пры праваслаўным Святатроіцкім брацтве, стаяла на высокім узроўні і імкнулася стацца для праваслаўных тым, чым для каталікоў быў Віленскі ўніверсітэт. Такім чынам, для Лаўрына адкрылася там шырокае поле для настаўніцкай і навуковай дзейнасці.

У тым часе адчувалася вялікая патрэба ў падручніку стараславянскай мовы, у якой былі напісаныя праваслаўныя богаслужэбныя кнігі, але якой ужо нават шматлікія святары не разумелі. Каб дапамагчы ў гэтай справе, у 1596 г. Лаўрын Зізаній піша і выдае маленькую кнігу пад назовам «Наука ку читанію і розуменію писма словенского», да якога ён далучае свой вядомы «Лексис». Крыху пазней у тым самым годзе выходзіць ягоная «Грамматіка словенска» — першы сапраўды сур'ёзны падручнік граматыкі стараславянскай мовы****. З чатырох названых

---

* Акты, относящіеся к исторіи Западной Россіи. СПб., 1853.Т. 4. № 33. С. 43.

** Тамсама.

*** У Вільню таксама прыехаў брат Лаўрына, Сцяпан, дзе ён заняўся рэлігійнай палемікай.

**** Спробы выдання славянскай граматыкі рабіліся раней. У 1586 г. выйшла ў Вільні з друкарні братоў Мамонічаў «Грамматіка Словенска языка». Гэта была маленькая кніжачка (16 с.), якая была ў сапраўднасці першым друкаваным экзэмплярам старажытнага артыкульчыка аб васьмёх часцінах мовы. (Больш аб гэтым творы гл.: Ягич И. В. Изследования

ім частак граматыкі — арфаграфія, прасодыя*, этымалогія і сінтаксіс, — аўтар разглядае ў сваёй кнізе толькі тры першыя. У канцы ён дадае «каноны», або правілы вымовы, некаторых славянскіх літараў, а таксама кароткі раздзел «о метре», г. зн. аб тэорыі вершаскладання**. Нас цікавіць беларускі элемент у кнізе Зізанія, а яго ёсць шмат не толькі ў празаічнай і вершаваных прадмовах***, але і ў самім тэксце. Як добры настаўнік Зізаній тлумачыць новыя рэчы ў зразумелай для вучняў мове. Дзеля гэтага часта, даўшы нейкае правіла па-славянску, ён пад ім змяшчаў беларускае выясненне, або, як ён кажа, «толкованіе». Ужо на першай старонцы, у раздзеле «О граматіце», пасля дэфініцыі гэтай навукі па-славянску:

«Грамматіка ест известное вежество, еже благоглаголати и писати», аўтар адразу дае беларускае «толкованіе»: «Грамматика ест певное ведане, жебысмы добре мовили и писали».

У падобны спосаб за дэфініцыяй арфаграфіі («ортографія ест веденіе писмена писати») Зізаній дае наступнае «толкованіе»:

---

по русскому языку. СПб., 1885–1895. Т. I. С. 322–365 і 959). У 1591 г. выйшла ў Львове «Адэльфотэс», якая была грэцкай граматыкай з паралельным славянскім тлумачэннем (гл. аб гэтым творы: Студзінскі К. Адэльфотэс // ЗНТШ. Львоў, 1895. Т. 7. С. 1–40). Зразумела, абедзве кнігі не надаваліся да сур'ёзнага вывучэння славянскай мовы.

* Прасодыя — навука аб складах і націсках. Увайшла ў славянскую граматыку пад уплывам грэцкай. Між іншым Зізаній падае таксама беларускія назовы вышэйуспомненых частак граматыкі. Вось яны: правописаніе, припело, истиннословіе, сочиненіе.

** Наогул гэтая частка не мела вялікага практычнага значэння, бо Зізаній быў пад уплывам грэцкай тэорыі вершаскладання, не заўсёды прыдатнай да беларускай і славянскай моваў. Больш аб гэтым прадмеце гл.: Перетц В. Н. Историко-литературные изследования и материалы. СПб., 1900. Т. I. Ч. I. С. 7–12. Калі меркаваць паводле вершаў, змешчаных у пачатку «Граматыкі», сам Зізаній быў слабым паэтам.

*** Адна з вершаваных прадмоваў носіць назоў «Тыпограф младенцем». Яе можна разглядаць як свайго роду рэкламу, якая мела за заданне заахвоціць «спудеов», г. зн. вучняў, купляць кнігу. Вось ейны тэкст: «Не просто книжку называите тоую грамматіку, / але наставницу добру словенскому языку. / Научает добре писати и добре читати, / досконалым и певным быти а не в чом не партати. / Тую вы о спудеи малым коштом собе набываите, / а великого ся розуму и росторопности з ней научаите».

«Ортографія ест первая часть грамматікі, которая нас сучит абысмо каждое писмо на его месци писали»*.

«Лексіс» з’яўляецца манументальным творам Лаўрына Зізанія. Гэта быў першы сапраўдны стараславянска-беларускі слоўнік у адрозненне ад так званых «глёсаў», або тлумачэнняў незразумелых словаў на маргінэсах кнігаў. Слоўнік мае 1061 слова ў альфабэтычным парадку (які, аднак, не заўсёды дакладна захоўваецца). Тлумачальная, г. зн. беларуская, частка «Лексіса» мае найбольшую навуковую цікавасць. Тут спатыкаем шмат словаў, якія ўжываюцца ў беларускай мове да сённяшняга дня (бот, вдячный, веселле, гомон, жадаю, мова, певень, перемогчи, скарб, сведчу, твар, труна, сором, хустка, час, чекаю, шкода, якость і інш.). З другога боку, словы, супольныя з іншымі славянскімі мовамі, тут пададзены з захаваннем беларускіх фанетычна-марфалагічных асаблівасцяў. Часта Зізаній ужывае энцыклапедычны прынцып, г. зн. дае кароткае апісанне слова ці паняцця, калі не можа знайсці адпаведнага слова ў беларускай мове, напрыклад:

**мітрополія** головнеишее место в яком повете.

**неясыт**, по грецку пелекан, птах ест в Егіпте, подобен бусюлови, который в пустыни рад мешкати, которому зміи ворогуют и дети его умерцвляют, а он прилетевши клюется в перси свои и кров испущает на них, и так оживают. Аристотел мовит в книгах где о животных пишет, трои род пелеканскіи, едины высоко, другіи середне, третіи низко летають.

**сіндон**, с тонкого полотна простирало албо рантух, для того так названо же напервеи в месте Сідоне почато тое робити**.

Такім чынам, «Лексіс» і, у меншай ступені, «Граматыка» Зізанія з’яўляюцца сапраўдным скарбам для беларускіх філолагаў***.

---

* Ёсць яшчэ іншыя беларускія характарыстыкі граматыкі Зізанія, якія патрабуюць больш сур’ёзнага вывучэння. Так, напр., у тым, што Зізаній залічае літару «з» да «сугубных», г. зн. падвойных, Уладзіміраў хоча бачыць уплыў беларускага дзекання (гл. Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. СПб., 1888. С. 249). Іншым цікавым фактам ёсць тое, што ў адным з канонаў Зізаній кажа, што літару «яць» трэба перадаваць гукам «е», а часам «я», г. зн. так, як гэта рабілі беларусы. (Украінцы перадавалі гэтую літару гукам «і».)

** Больш аб «Лексісе» Зізанія гл.: Суднік М. Р. Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. Вып. 4. Мінск, 1957. С. 62–122.

*** Сур’ёзны разгляд граматыкі Зізанія зрабіў М. Возняк у сваім артыкуле «Граматика Лаврентія Зизанія з 1596 р.» // ЗНТШ. Львоў, 1911. Т. 101. Кн. I. С. 5–38; Т. 102. Кн. 2. С. 11–87. Ён таксама пера-

У 1597 г. Лаўрын быў прыватным настаўнікам сына князя Багдана Саламярэцкага ў Баркулабаве*. У 1600 г. ён выехаў на Украіну**. Праз нейкі час ён быў хатнім настаўнікам у князя Астрожскага. У 1612 г. Лаўрын атрымаў месца пратапопа Карэцкага. Там, у 1618 г., ён сказаў казанне на пахаванне княгіні Чартарыскай. Казанне гэтае не адзначаецца вялікай арыгінальнасцю і з'яўляецца наследаваннем падобных твораў віленскіх езуітаў***.

У 1619 г. мы бачым Лаўрына ў Кіеве, дзе ён прымае ўдзел у працах вучонага гуртка Плецянецкага.

У 1626–1627 гг. мела месца ведамая паездка Лаўрына ў Маскву і ягоная спроба выдаць там свой «Катэхізіс». Справа ў тым, што ў тым часе праваслаўныя не мелініводнага падручніка, з якога маглі б навучыцца праўдаў сваёй веры. Такі падручнік пастанавіў стварыць Зізаній, пішучы свой «Катэхізіс». Гэта быў першы твор свайго роду. Зізаній не меў ніякіх праваслаўных узораў і таму быў змушаны карыстацца з пратэстанцкіх і каталіцкіх крыніцаў. Уплыў каталіцкага «Рымскага Катэхізму» відавочны, асабліва ў месцах, дзе гаворыцца аб стане душаў пасля смерці, моманце ператварэння хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста ў часе св. літургіі, аб тайне сужэнства і інш.**** У тым часе на Беларусі і Украіне панавала пэўнае зацішша паміж праваслаўнымі і каталікамі. Абодва бакі шчыра шукалі пагаднення, да якога, аднак, не дайшло. Была ўстрыманая на нейкі час усякая палеміка, і, відаць, праваслаўныя ўлады, каб не ўзнавіць забурэння, баяліся выдаць нават такі непалемічны твор, як «Катэхізіс» Зізанія. Гэты апошні, аднак, хацеў паставіць на сваім і вясной 1626 г. выбраўся з сынам у Маскву. Там яго прынялі ветліва, але да

---

друкаваў там «Лексіс». Возняк, прывёўшы выказванні іншых вучоных аб беларускасці мовы Зізанія, сам уважае, што той пісаў на «паўночнаўкраінскім дыялекце».

* «Року 97. Во великий пост его милость князь Богдан именем Исакий у месте Баркулабове почал учитися поруску грамоте и погрецку, а был бокаларем пан Лаврентий Зизаний, человек навченый, з места Виленского прибавленый». Баркулабаўскі Летапіс, выд. М. Доўнар-Запольскага // Университетские Известия. Кіеў, 1898. № 12. Прибавление. С. 20.

** АЗР. Т. 4. № 154. С. 241.

*** Тэкст казання гл.: Возняк М. Причинки…

**** Дакладны разбор «Катэхізісу» зрабіў Ф. Ільінскі ў сваім творы «Большой Катехизис Лаврентия Зизания» // Труды Киевской духовной Академии. 1898. № 2, 5, 6, 8, 10; 1899. № 3. Твор выйшаў таксама асобнай кнігай у 1899 г.

ягонага «Катэхізісу» паставіліся асцярожна. Наогул у Маскве адносіліся з вялікім падазрэннем да братоў па веры з Беларусі і Украіны, і былі нават выпадкі, калі іх там нанова перахрышчвалі. Маскоўскі патрыярх дазволіў друкаваць «Катэхізіс», але перад тым, чым даць дазвол на распаўсюджанне, ён вызначыў камісію, якая мела праверыць і, дзе трэба, паправіць памылкі. Да нас дайшоў пратакол пасяджэнняў гэтай камісіі*. У пратаколе нямала пацешных эпізодаў. Зізаній стаяў, і лічыў сябе, інтэлектуальна вышэй за сваіх «цэнзараў». Ён хацеў выкарыстаць маскоўскія царкоўныя ўлады, каб іхнім коштам выдаць свой твор. Дзеля гэтага ён нават дыпламатычна заяўляў, што аддаецца поўнасцю на суд маскоўскага патрыярха. У сапраўднасці ж ён не жадаў уступіць ні на крок са свайго пункту гледжання. Калі ж ён не мог адбіцца ад закідаў камісіі, дык выкручваўся тым, што ягоную думку перакруціў маскоўскі перакладчык, які тлумачыў ягоную кнігу з мовы «літоўскай», г. зн. беларускай**, на царкоўнаславянскую. Пры такіх абставінах не магло быць і гутаркі аб якім-колечы паразуменні. Катэхіз, хоць і надрукаваны, астаўся нераспаўсюджаным і амаль невядомым аж да другой паловы XVIII ст., калі ён быў зноў надрукаваны ў Горадні стараверамі.

Вясною 1627 г. Лаўрын вярнуўся са сваёй няўдачнай маскоўскай паездкі. У 1628 г. ён браў удзел у Саборы ў Кіеве і быў адным з аўтараў абвінавачванняў супроць Мялеція Сматрыцкага, які ў тым часе стаўся каталіком. Ён быў яшчэ жывы ў 1633 г.

Лаўрын Зізаній быў верным сынам Праваслаўнай царквы. У адзін з найбольш крытычных момантаў у гісторыі гэтай Царквы на Беларусі ён, замест займацца спорамі, парупіўся, каб залажыць лепшыя асновы на будучыню цераз павышэнне ўзроўню асветы маладога пакалення. Робячы гэта, Зізаній унёс адначасова паважны ўклад у галіну беларускага мовазнаўства.

Зізаній быў таксама добрым святаром, які стараўся паглыбляць сваё духоўнае жыццё і памагчы ў гэтым іншым. Перадрукаванае ніжэй ягонае размышлянне над Малітвай Гасподняй

---

* Тэкст пратакола выдадзены друкам пад загалоўкам «Заседание в книжной палате 18 февраля 1627 г. по поводу “Катехизиса” Лаврентия Зизания». СПб., 1878.

** Лаўрын Зізаній ужываў словы «Літва, літоўскі» ў значэнні «Беларусь, беларускі». Ужо ў назове самога «Катэхізісу» кажацца: «Катехизис, по литовску оглашеніе…». Цікава, што брат Лаўрына, Сцяпан, называе мову свайго палемічнага твору «Казаньне святого Кирилла» (выд. у Вільні ў 1595 г.) беларускай.

было замешчанае ў канцы «Граматыкі славянскай». Даследчыкі знойдуць у ім уплыў польскіх пісьменнікаў — католіка Бялабжэскага і кальвініста Гілеўскага*. Нягледзячы на гэта, размышлянне — або, як называе яго аўтар, «толкованіе», — астаецца арыгінальным творам, які гаворыць шмат аб духоўнасці аўтара. За выняткам аднаго малога і нязначнага сказа, у ім няма нічога такога, што б магло задзець нечыя рэлігійныя пачуцці. З другога боку, не адзін праваслаўны і каталік напэўна яшчэ сёння прачытае з прыемнасцю гэты маленькі твор, які варты таго, каб заняць сваё скромнае месца сярод помнікаў беларускай духоўнай літаратуры**.

*Л. Зізаній*

## Толкованіе

Молітвы которои научил Господь Ісус Христос оучеников своих

*(Составлено, Л. З.)*

Первая точка.

*Отче наш, іже еси на небесех.*

В той точце замыкается 5 речій.

Першая кгды мовимо отче. Тымся оупевняемо же будемо выслуханы, поневаж отца просимо. Другая в темже слове замыкается иж пристоит быти сынови таким, якій его отец небесный, тоест милосердным благоподатливым добродетельным, абыся не оказал негодным таковогo сродства. А третя реч кгды мовимо наш, тое значит иж есмо все братя. Прото не о самом собе пристоит молитися Богу и старатися, але и о братіях. А четвертая реч в томже слове наш замыкается, иж все маемо един заровно и тоиже титул и шляхетство небесное. Пристоит теды абы едины над других не подносилися, ане о собе болше розумели, так королеве и панове над подручных своих, так богатыи над убогих, як тыжи мудріи и ученыя в писме над простаков.

---

* Дакладны разбор твора гл.: Возняк. Грамматика… // ЗНТШ. Львоў, 1911. Т. 102. С. 36–46.

** «Толкованіе» передрукоўваецца з арыгінальнага выдання, адзін паасобнік якога знаходзіцца ў Бадлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе. Мова аўтара захоўваецца поўнасцю, хоць, на жаль, не было магчымасці перадаць ягонага правапісу, асабліва галосных.

А пятая реч, кгды мовимо іже еси на небесех, значит маемо часу молитвы на небо розум и мысли свои взносити, то ест о небесных речах мыслити.

*2. Да святится имя твое.*

Тут о едину реч просимо, абы нам дал живот побожны, которимбыся в нас святило имя его.

*3. Да прідет царствіе твое.*

Тут о три речи просимо. О першую, абы евангельская проповедь побеждала все еретическія плевела и их самомненыи вымыслы. А другую, абы ся сила божая воцарила в нас, а злость бы была выкоренена, то ест абы грех не пановал в нашим теле. А о третюю, абы рихло пришло царство его, тоест абы нас не атдалил от царства сваего.

Тут ся мы научаемо перебачати королевства и панства тогосветніи, и богатства несталыя, просячы и жадаючи о вечныи и нетленныи заплаты. Которыи то заплаты на мысли маючи богатыи и преложеныи не могут ся гордити, а убогіи и подданыи маются чим тешити иж и они в царстве небесном мают быти.

*4. Да будет воля твоя яко на небеси и на земли.*

О две речи тут просимо. О едну абы нам дал Бог ведле воли своей все добродетели чинити, и як он хочет все охотне а досконале отправовати, як и святыи аггелы его на небе з веселям ему служат. А о другую абы нетылко в нас самых, але и по всем свете воля его святая выполнялася, а лесть еретическая и злость греховная абы была до конца выкоренена. Тут ся научаемо, иж не так за нашим стараньем што доброе стается, як далеко болше за помочу божею а за ласкою его святою все доброе чинимо.

*5. Хлеб наш насушныи дажд нам днесь.*

Тут просимо о хлеб двояки, взглядом того же тыж и человек ест двояцкіи, тоест от душе и от тела. О телесном тогды хлебе мыслячы просимо о три речи. О першую когды мовимо о хлебе прикладаючи и насушны, тоест которі приличны нашему существу, жадаемо нетолко о самым хлебе але и о все телу нуждныи потребы. А о другую просимо абы нам дал хлеб наш а не чужіи, тоест з своеи праце живитися, а не з людского добра. А о третюю абы ныне дал а не завтра.

Тоут нас учит Христос избавитель наш, абысмося молили не о панства тогосветніи, а не о жадныи преложенства, а не тыж о несталое богатство мезерного света того, але толко о хлеб без которогося не можем обыти, и то жебысмы непрожне или, але в поте лица нашего. Не кажет тыж ся нам распростирати на том свете много лет собе обецуючи жити, але толко поки нынешніи

день ест и што на тепер потреба о тое кажет просити а не болше, абысмы старанем завтрашним и печалми житеискими розуму нашего не потлумили, и любве противко Бога не нарушили.

О духовном зась хлебе мыслячи, тоест о слове божем, просимо абы нам дал хлеб наш, тоест науки нашеи християнскои слухати, ане еретических вымыслов, ане поганских наук, кгдыж и они кормятся, але не своим хлебом, ане словом божіим, але прелестю шатанскою. Бо як тело от того хлеба насущного кормится и посилок берет, так власне душа словом божіим кормится и вмоцняется. Просимо тыж тут о хлеб насущны, о покарм тот которыи ест з нашего существа, о пречистое и животворящее тело и кров христову, абы нам дал годне его прімовати, не на осуженіе, але на збавленіе. О наш животворяшчіи хлеб просимо, а не о суптелно змышленыи оплаток.

*6. И остави нам долги наша, яко и мы оставляем должником нашим.*

Тоут о едину реч Бога милосердного просимо, аби нам грехи наше отпустил, которыи оуже окрестившися пополнилисмо, бо першіи все грехи которіи пред крещеніем мел человек, крещеніем омыты бывают. Припоминаемо тыж тоут Богу мовячи, як мы отпущаемо должником своим, которіи много крот против нас выступают, так и ты нам отпусти. Долги тогды тут не инше што маемо розумети тылко грехи, тоест выступки. Научаемося тут иж неедного человека немаш на свете без греха. Научаемотыжся иж Бог барзо милосердны ест, которіи кающихся и наигрешнеиших пріимет. Научамотыжся иж Он справедливым будучи, немилосердным и злопамятельным, а не каючимся выступков их не атпустит.

*7. И не введи нас во искушеніе, но избави нас от лукавого.*

Тоут о две речи просимо, о едну абы нас не вводил в покушенье, тоест абы нам не дал зведеным быти покусами шатанскими и розмаитыми бедами, которыи препущает на нас для пробы. А о другую реч просимо, абы нас выбавил от злого ворога нашего шатана, которыи нас хочет потлумити в тых искушеніях. Як апостол Павел к римляном пишет, в главе 5, иж искушеніе чинит оупованіе, а оупованіе не посраміт. але зле в искушеніях изнемогати и оупадати. Протож тыми словами и избави нас от лукавого незгола о тое просимо, абыхмо волни были от искушени, але абы нам будучим в них Бог помогал, а от шатана и тела и мира нас боронил. Тыи бовем суть ворогове наше: плоть мир и диавол. Як пишет святыи апостол Павел к галатом в главе 5 иж плоть воюет на дух. А о сатане святые апостол Петр пишет, в

первом посланіи, в главе 5: будте трезвы, бо неприятель ваш діявол як лев рикаючи кружает кого пожерти. А о мире пишет Іоан Богослов, в першом листе своем, в главе 5 иж увес свет в злости ест. Потреба нам ведати о искушеніи, иж Бог не искушает некого, як апостол Яков пишет, в главе I: Бог не искушает некого, але кожды искушается от своеи плоти влеком и прелщаем. А діавол ест власны искуситель, а иж без допущеня и дозволеня божого нечого не может, як маемо приклад Іова праведного, которому аж от Бога взявши попущеніе зашкодил, прото Богу приписуется ввожене і напасть не ижбы Бог оуводил, але иж діяволу уводити допущает. Также тыж и тело к искушенію нас приводит. Для тогож просимо Бога, абы нас не вводил в искушеніе, тоест абы нам дал Духа Святого которіибы похотем тел наших отпирал. Тоеж маемо розумети о искушеніи того света. Тот бовем нас покушает, кгды нас албо через роскоши от Бога отводит, албо через трудности которіи нам задае отстрашает. Еднакоже мы и тое покушене причитаемо Богу, бо и мир нечого нам не может оучинити над волю божію. Щасливыиж тыи которыи годне мовят тую молитву, тоест которыи просячи Бога о оборону абы в искушенія не впадали, самися в покусы не впадают.

Аминь, есть реченіе евреиское, выкладается на наш язык двояко, нехай так буде и заправды так ест.

Пріимете друзи мои возлюбленніи вдячне тую мою малую працу, а о болшеи самися постараите, инших и мене оувеселяите.

*1967*

## ЗАХОДНЯЯ ЛІТАРАТУРА НА БЕЛАРУСІ Ў XV–XVII СТСТ.

У 1385 г. палякі ахвяравалі вялікаму князю літоўскаму Ягайлу польскую карону разам з рукою маладой каралевы Ядвігі. Узамен за гэта Ягайла абяцаў прылучыць Вялікае Княства Літоўскае да Польшчы і ахрысціць у каталіцкай веры этнічных літоўцаў, якія былі яшчэ паганамі. Спроба зніштажэння палітычнай незалежнасці Вялікага Княства спаткалася з моцным супрацівам, і яе прыйшлося пакінуць. З другога боку, устанаўленне Каталіцкай Царквы прайшло паспяхова, і ўжо ў 1387 г. Вільня мела свайго каталіцкага епіскапа.

Паяўленне Каталіцкай царквы ў Вялікім Княстве спачатку не датычыла беспасрэдна беларусаў, якія ўжо ад канца X ст. былі праваслаўнымі. Хутка, аднак, і сярод іх з’явілася невялікая група

каталікоў, асабліва ў асяроддзі, блізкім да вялікага князя. Пасля каталіцкія манахі францысканцы пачалі весці пастырскую (і часта паланізатарскую) дзейнасць сярод беларускіх мяшчанаў у вялікіх гарадах. Так, напрыклад, ужо ў канцы XV ст. існаваў у Полацку францысканскі манастыр.

Спачатку маладая Каталіцкая царква ў Вялікім Княстве мела патрэбу ў падтрымцы з боку палякаў. Паколькі, аднак, беларускія і літоўскія каталікі не адчувалі асаблівай сімпатыі да палякаў, а некаторыя ставіліся да іх проста варожа, дык адразу вынікла патрэба як найхутчэйшага ўзгадавання собскіх святароў. Дзеля гэтага беларускія і літоўскія юнакі пачалі наведваць заходнееўрапейскія ўніверсітэты. Універсітэт у Празе Чэшскай быў першым лагічным выбарам з прычыны сваёй блізкасці, а таксама таму, што ў тым часе між Вялікім Княствам Літоўскім і Чэхіяй існавалі цесныя прыяцельскія адносіны. Польская каралева Ядвіга, жонка Ягайлы, залажыла ў Празе ў 1397 г. «літоўскую» калегію, купіўшы для гэтай мэты дом, які называўся «Ерусалім»*. Гісторыя гэтай установы і яе роля ва ўзгадаванні беларускага і літоўскага духавенства яшчэ амаль не вывучаныя. У кожным выпадку ў сярэдзіне XV ст. ужо некалькі дзясяткаў студэнтаў з Вялікага Княства скончылі Пражскі ўніверсітэт**. Сярод іх найбольш слаўны быў хіба «Мацей з Вільні», будучы віленскі епіскап (1423–1453), вядомы сваімі антыпольскімі настроямі. У другой палове XV ст. лік студэнтаў з Вялікага Княства Літоўскага ў Празе памяншаецца з прычыны пашырэння там гусітызму.

Другім месцам навукі быў адноўлены ў 1400 г. Ягайлам Кракаўскі ўніверсітэт. Шматлікія беларускія і літоўскія паны, якія з падазрэннем адносіліся да польскіх палітычных махінацыяў, падтрымоўвалі гэты ўніверсітэт, бо лічылі за карыснае мець блізка ад сваёй бацькаўшчыны асяродак вышэйшай асветы.

У другой палове XV ст. назіраецца пэўная змена ў характары студэнтаў і сярод іх усё часцей спатыкаюцца не толькі кандыдаты да духоўнага стану. Іх можна было спаткаць не толькі ў Празе і Кракаве, але і ў іншых гарадах Заходняй Еўропы. Найбольш

---

* Флоровский А. В. Чехи и Восточные Славяне. Прага, 1935. Т. I. С. 339; Fijałek J. Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę. Polska i Litwa w stosunku dziejowym. Warszawa, 1914. S. 122.

** Флоровский А. В. Чехи и Восточные Славяне. С. 336–339; Дварчанін І. Беларусы на Праскім Унівэрсытэце // Запісы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Нью-Ёрк, 1953. Т. 2. № 2. С. 65–69.

слаўным з гэтых студэнтаў быў, без сумніву, Францішак Скарына з Полацка, беларускі першадрукар, які атрымаў ступень бакалаўра вызвольных навук у Кракаве, доктара вызвольных навук у невядомым універсітэце і доктара медыцыны ў Падуі ў 1512 г. Вельмі магчыма, што такім студэнтам быў таксама Ян з Літвы, які між 1480 і 1483 г. жыў у Лондане, дзе залажыў друкарню і выдаў некалькі кнігаў, пераважна ў галіне права*.

У XVI ст. ужо існаваў звычай сярод беларускіх знатных сем'яў высылаць сваіх сыноў на навуку за мяжу. Аднак не ўсе юнакі мелі нахіл да акадэмічнай кар'еры. Некаторыя з іх паступалі на службу на розных дварах заходнееўрапейскіх уладароў. Гэты звычай асабліва распаўсюдзіўся пры Боне Сфорца, італьянскай жонцы вялікага князя Жыгімонта «Старога», (1506–1548)** і прадаўжаўся пасля яе смерці. Тодар Еўлашэўскі (1546–1604) успамінае ў сваім «Дзённіку», што ягоны сын Якім быў на службе ў князёў Гондзага ў Мантуі***. Якуб Грасэр, які выдаў у 1615 г. у Базэлі кнігу «Аб звычаях татараў, літоўцаў і маскалёў» Міхалёна Ліцвіна, у пасвячэнні гэтай кнігі князю Аляксандру Пронскаму (які сам тады вучыўся ў Базэлі) піша, што бацька гэтага апошняга «…правёў за граніцай амаль усе гады свайго юнацтва і маладосці… і калі дасягнуў сталага веку, ён павёз на паказ свае цноты ў двор французскага караля Карла IX, быццам у вялікі сусветны тэатр»****.

З узмацненнем кантактаў пачалі паяўляцца беларускія пераклады заходніх літаратурных і рэлігійных твораў. Сярод іх немалую цікавасць прадстаўляе беларускі тэкст лацінскай імшы пад назовам «Як се м'ша чтеть римским бычаем матце божіей». Пераклад, відаць, быў прызначаны ў першую чаргу для свецкага верніка, бо ў ім апушчаны ўсе малітвы, якія святар гаворыць ціха. Сабалеўскі, які першым апублікаваў тэкст, адносіць яго да сярэдзіны XV ст. Паводле яго, беларускі пераклад быў зроблены не беспасрэдна з лацін-

---

* Піхура Г. Ян з Літвы // Божым шляхам. Лондан, 1965. № 3. С. 4–8.

** Pociecha Wł. Królowa Bona. Poznań, 1958. T. 4. S. 187.

*** Дневник Новгородского подсудка Федора Евлашевского // Киевская Старина. Киев, 1888. Т. 14. № I. С. 158.

**** Lithuani Michalonis. De moribus Tartarorum, Lithuanorum et Moschorum Fragmina X… per I. Jac. Grasserurn, C. P., ex manuscripto autentico edita. Basileae… MDCXV (уступ).

скай мовы, але з ужо існаваўшага чэшскага тэксту*. Таксама з чэшскай мовы былаператлумачана прыблізна ў тым самым часе, магчыма, на загад Сонькі Гальшанскай, чацвёртай жонкі Ягайлы, «Песня Песняў».

Няма нічога дзіўнага ў тым, што першыя пераклады былі зробленыя з чэшскай мовы, калі ўзяць пад увагу цесныя беларуска-чэшскія культурныя сувязі, якія існавалі ў тым часе. Безумоўна, яны не абмяжоўваліся літургічнымі і біблійнымі тэкстамі. Сярод іншых заходніх твораў, якія трапілі на Беларусь цераз Чэхію, варта адзначыць «Аповесць аб Сівіле Прарочыцы» і «Аповесць аб Тундалю». Бацькаўшчынай гэтай апошняй была Ірландыя XII ст. У аповесці гаворыцца аб рыцару Тундалю (у беларускім перакладзе яго імя пішацца Таудал) «роду словутного але дел велми недобрых, по телу витяжный а велми смелый, а о спасеніи своея душа мало або ничего несмотряше». Вось гэты рыцар, калі аднаго разу гуляў у доме свайго прыяцеля, упаў у глыбокі сон, у якім ён прабыў тры дні. У міжчасе ягоная душа выйшла з цела, і анёл павёў яе па пекле і чыстцы, паказваючы розныя страшныя мукі грэшнікаў. Вось для прыкладу апісанне адной з такіх мукаў:

«Отидоста не меюще жадное светлости нижли от ангела. И пріидоша да долу прелиш грозного а велми темного, а тот бяше велми глубокій а полон горящого углія, а на том долу покрывало железное толстотою пядесять локоть, а то своею горкостю примогаше. Ту бяше от того покрывала такій смрад, і што бяше душа терпела всех мук, премогал тот смрад. А в тот дол грозный что под покрывалом идяху много души грешных, а натом покрывале горящем паряху іх, якобы оскварок в панви. С того всего еще бяше наигорше, иже скрозе то покрывало цедяху тіи души, яко воск скрозе плат цедят. Апять там ся обновляху во огни к мукам. Тогда ангел к душе рече: та мука есть враждебников приготована отцов а брати а иным тым, которыиже даремно поволне враждуют делом».

Калі Тундаль абудзіўся, ён прызваў да сябе «брата Марка» і расказаў яму ўсё што бачыў, а той запісаў ягоны расказ па лаціне.

«Аповесць аб Тундалю» была шырока вядомая ў сярэдніх вяках у Заходняй Еўропе, асабліва пасля таго, калі ў сярэдзіне XIII ст. Vincent de Beauvais уставіў яе ў сваё «Speculum Historiae».

---

* Соболевский А. И. Старшие переводы русских католиков // Сборник Отд. Русс. Яз. и Слов. Имп. Ак. Наук. СПб., 1910. Т. 88. № 3. С. 193–203; Надсан А. Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства XV стагоддзя // Божым шляхам. Лондан, 1966. № 3. С. 8–10.

Яна была перакладзеная на розныя мовы, у тым ліку і на чэшскую. З чэшскага тэксту быў зроблены беларускі пераклад, праўдападобна ў другой палове XV ст. Захаваўся няпоўны паасобнік, частку якога выдаў Бруканэр у 1891 г.*, зазначаючы, што «тое, што мова ёсць беларуская, або літоўска-руская, мова Скарыны і яго сучаснікаў, не патрабуе асаблівага доказу»**.

«Сказаніе о Сивилле пророчици» належыць да ліку г. зв. псеўдапрароцкіх кнігаў. Пачынаецца твор расказам аб тым, як «за мудрого царя Саломона бяше пророчица звездарка именем Сивилла, а та бяше велми мудра… и бяше красна, а богата, але едину ногу на подобенство гусину ногу мела». Яна чула аб мудрасці Саламона і вырашыла адведаць яго. Саламон прыняў яе вельмі ветліва, але адмовіўся гутарыць перад абедам. Калі яны ішлі разам у палац, ім прыйшлося пераходзіць цераз «адамава дрэва». Саламон перайшоў, але Сівіла ўстрымалася. І вось «в тот час стал ся есть див от Бога, иже Сивилле гусина нога есть была уздравлена». Саламон бачыў усё гэта, але не сказаў ні слова і толькі пасля абеду запытаў: «Сивилло повеждь, что еси то уменила, иже еси со мною через тое древо не шла». Сівіла адказала: «Ведай царю, иже ся маетъ дитя ис тебе на тоито свет народити з девы, а маеть умрети на том древе». Тады на просьбу Саламона яна пачала адкрываць яму будучыню, гаворачы аб нараджэнні Хрыста, аб лёсе жыдоўскага народа, аб паяўленні Антыхрыста, другім прыходзе Хрыста і аб канцы свету. Сярод адзнакаў гэтага апошняга здарэння няцяжка распазнаць нямецкія сялянскія бунты і пачатак рэфармацыі. Паколькі падобныя «прароцтвы» паяўляліся звычайна пасля факту, дык «Сказанне аб Сівіле» трэба аднесці да першай паловы XVI ст. Карскі, які першы апублікаваў тэкст «Сказання», думаў, што беларускі пераклад быў зроблены з сербскага арыгінала***. Аднак Фларо-

* Brückner A. Visio Tundali in böhmischer und russischer Übersetzung // Archiv für Slavische Philologie. Berlin, 1890–1891. Band 13. S. 199–212. Арыгінальны беларускі назоў твора ёсць: «Починается книга о Таудале рыцери».

** «Dass die Sprache sogenanntes weiss — oder litauisch-russisch ist, die Sprache des Skorina und seiner Zeitgenossen, bedarf keines besonderes Nachweisen». Brückner. Visio Tundali in böhmischer und russischer Übersetzung. S. 208.

*** Карский Е. Ф. Западнорусское сказание о Сивилле пророчице по рукописи XVI в. // Варшавские Университетские Известия. Варшава, 1898. № 2. С. 1–32. Артыкул перадрукаваны ў: Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. Москва, 1962. С. 316–339.

скі, пасля параўнання беларускага тэксту «Сказання» з двума падобнымі — але не ідэнтычнымі — чэшскімі, прыйшоў да пераканання, што арыгіналам для яго паслужыў чэшскі тэкст, сёння загублены*.

Чэшская мова не была адзінай, з якой беларусы рабілі свае пераклады. Некаторыя творы былі ператлумачаныя беспасрэдна з лацінскай мовы. Такім ёсць, напрыклад, «Жыццё Аляксея, чалавека Божага». Беларусы былі знаёмыя з гэтай легендай яшчэ ў XI–XII стст., аднак новы пераклад быў зроблены ў другой палове XV ст. з лацінскага тэксту, які знаходзіўся ў «Legenda aurea Iacobi de Voragine»**. Гісторыя маладога знатнага рымляніна Аляксея, які ў хвіліне свайго найбольшага зямнога шчасця пакідае ўсё і праводзіць рэшту свайго жыцця жабраком, жывучы доўгі час непазнаны пад сходамі ў доме свайго бацькі, цешылася вялікім поспехам сярод беларусаў і дала пачатак шматлікім духоўным песням.

Другім творам, перакладзеным з лацінскай мовы, была «Аповесць аб трох каралях»***. Назоў арыгінала ёсць «Liber de gestis ac trina beatissimorum trium regum trainslatione», і напісаў яе нямецкі кармеліцкі манах Johannes von Hildesheim (прыбл. у 1375 г.). У асноўным гэта расказ, поўны легендаў і фантазіі, аб трох каралях, якія, ведзеныя зоркаю, прыйшлі ў Віфлеем пакланіцца нованароджанаму Хрысту. Іхнюю бацькаўшчыну аўтар называе «Індыяй», уключаючы ў яе такія краіны, як Нубія і Тарсіс. Пасля пакланення каралі вярнуліся дамоў, і шмат гадоў пасля яны былі ахрышчаны св. апосталам Тамашом і нават сталі архіепіскапамі. Другая частка кнігі расказвае аб тым, як св. Галена знайшла ў IV ст. іхнія мошчы і прывезла іх у Канстанцінопаль. Адтуль яны былі перавезеныя ў Мілан і нарэшце

* Флоровский А. В. Чехи и Восточные Славяне. Прага, 1945. Т. II. С. 31–35.

** Владимиров П. В. Житие св. Алексея, человека Божия, в западнорусском переводе конца XV века // Журнал Министерства Народного Просвещения. СПб., 1887. Ч. 253. С. 250–268; Перетц В. Повесть о трех королях-волхвах в западнорусском переводе XV века. СПб., 1903. С. 108–111; Коршунаў А. Ф. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959. С. 408–411.

*** Поўны тэкст гл.: Перетц В. Повесть о трех королях-волхвах в западнорусском переводе XV века. Выняткі тэксту і каментары: Карский Е. Ф. Западнорусский сборник XV в. // Сборник ОРЯС. СПб., 1889. Т. 65. С. 1–73, артыкул передрукаваны ў: Карский Е. Ф. Труды. С. 263–315.

знайшлі сваё апошняе месца адпачынку ў Кёльне. Канчаецца кніга апісаннем звычаяў розных народаў, звязаных з культам трох каралёў, і пахвалою гораду Кёльну. Гісторыя перапоўнена багаццем апісанняў розных мясцінаў і здарэнняў. Некаторыя з гэтых апісанняў ёсць зусім фантастычныя, іншыя маюць падабенства праўды, як, напрыклад, апісанне ясляў, куды Багародзіца палажыла новананароджанага Хрыста:

«Да теж у ведоме маеть быти, иже во в сих сторонах усточных есть обычаи, иже во всих стаинях суть многіе іаслі деревяне и каменые, да кажныи іасли суть на трех ступенех на должину так иже кажныи кон албо осел маеть свае апрышные іасли; да такое одны ясли от стародавня ещо там былі зосталі, у которыеж панна Маріа сына своего склонила».

Не менш цікавымі ёсць апісанні звычаяў розных народаў, звязаных з культам трох каралёў. Вось для прыкладу звычаі грэкаў (г. зн. праваслаўных):

«Попове грецке суть жонаты, а носяць долге волосы да не верать штобы святыи дух от отца и сына походил, але толко от отца. Теж не верать штобы чистець был, да тыми члонки от церкве римске суть отделены. Да коли мшу держати хотять тогды вырежуть с кислого хлеба гостію албо оплаток на чотыри углы на посвященіе да тую гостію кладуть на блюдечко золотое албо серебреное, да наверх положать звезду какбы сковорода загнутую, накривши чистым платьем, да по офертоpыи уздоимуть блюдо с оплатком и звездою наверх головы, и с кадильницами и свечами з велікою пилностію почтивостію несуть через церковь аж до олтаря. Тогды весь люд падуть на землю на лице свое, да то чинять на знамя, занюж три короли Господа ис дары искали, которые звезда аж до ясел проводила, да там падше землю пред ним целовали…».

«Аповесць аб трох каралях», са сваім багаццем вестак аб дзіўных краінах і здарэннях, павінна была быць вельмі цікавай для сярэдневяковага чытача, задавальняючы ягоную прагу няведамага і незвычайнага. Таму няма нічога дзіўнага, што яе тлумачылі на розныя мовы, сярод якіх была і беларуская.

Беларускі пераклад «Аповесці аб трох каралях» быў зроблены, напэўна, у другой палове XV ст. Да гэтай самай пары трэба аднесці іншы твор заходняга паходжання — «Мукі Хрыстовы»*. Лацінскі арыгінал «Мукаў» не знойдзены, і Карскі схільны

* Поўны тэкст гл.: Тупиков Н. Страсти Христовы в западнорусском списке XV века. СПб., 1901.

думаць, што беларускі тэкст з'яўляецца не перакладам, але кампіляцыяй невядомага беларускага аўтара з розных лацінскіх апакрыфічных крыніцаў, яшчэ дакладна не ўстаноўленых, хоць адной з іх было, напэўна, г. зв. «Евангелле Нікадзіма»*. Мова «Мукаў Хрыстовых», як і мова «Аповесці аб трох каралях», мае досыць шмат паланізмаў. Гэта зразумела, калі ўзяць пад увагу, што аўтар твора быў беларускім каталіком, які, магчыма, правёў шмат часу ў Польшчы, а можа, нават там вучыўся. Няма аднак асновы цвердзіць, як гэта робіць Брукнэр, што беларускі тэкст з'яўляецца перакладам з нейкага невядомага польскага арыгінала**. Пачынаецца расказ тым, як Юда пайшоў да жыдоўскіх святароў і запрапанаваў выдаць ім Хрыста. Жыды абяцалі яму за гэта трыццаць сярэбраных грошаў. Юда згаджаецца і чакае, пакуль іх яму прынясуць. Вось жа гэтыя сярэбранікі не ёсць звычайныя, але тыя самыя, за якія некалі сыны Якуба прадалі свайго брата Язэпа ў егіпецкую няволю, «которыя пенязі, колько тысящи лет у скарбех их лежали замкнутые, занюж тые пенязи от братов Езопа, через отцев старого закону исходяче от одного до другого, дивно неразлучены прешли до Соломона коли церков божью будовал, да через того Соломона у скарб были уложоны и схованы так долго аж до преклятого Юды пришли, коли милостивого Бога за них продал».

Узяўшы грошы, Юда сказаў жыдам: «Я вам обецал есмы того выдати а хочу тое рад учинити. Протож коли будете хотели имати Іисуса, штобы есте не изымали Якова, занюж подобны суть собе у виденьи. Протож поиду я перед слугами вашими, да то им за знамя даваю, которогонь коли поцелую, того нехаи зымають, да безпечне поведуть. Але то собе вымовляю, хотя бы так ушол албо убегл слугам вашим, штобы однаково у менежь пенези зостали, штобы ми есте не отимали».

Далей ідзе адступленне, у якім апісваецца агіднасць учынку Юды. Між іншым там ёсць такі зварот да Багародзіцы: «Маріа матухно милостивая, што бы ты ведала иже сын твой скарб небесный за так марные пенязи мел продан быти, верно бы была бежала дом от дому просячи и жебруючи, а тую тридцать

* Карский Е. Ф. Западнорусский Сборник XV в.

** Brückner A. Passio Christi in polnisch und russisch // Archiv für Slavische Philologie. Berlin, 1888. Band 11. S. 620–622. А. Брукнэр сам прызнаецца, што не бачыў поўнага беларускага тэксту, а толькі кароткія выняткі.

пеназии збираючи, Июде преганебному дала бы еси была, а твоего милого сына выкупила бы еси от его мошны».

Зрабіўшы сваю справу, Юда вяртаецца ў Бэтанію. Там спатыкае яго Багародзіца, якая, нічога не падазраючы, «паздравила его велми ласкаве, привитала его рекучи: О милыи приятелю, што еси там в Ерусолиме о моем сыне чувал албо слышал. Юда отповедал: Все добро деется, наимилеишая госпожо, не боися ничого».

Наступна ідзе расказ аб тым, як Хрыстос падрыхтоўваў Багародзіцу да сваёй мукі і крыжовай смерці і як яна прасіла яго не ісці ў Іерусалім, прызываючы на помач Марыю Магдалену і нават архангела Гаўрыіла. Але ўсё гэта дарэмна: Хрыстос ідзе ў Іерусалім, дзе пасля апошняй вячэры яго арыштоўваюць, судзяць, мучаць і прыбіваюць да крыжа. Багародзіца ўсюды знаходзіцца блізка Хрыста, і яе цярпенні і перажыванні апісваюцца вельмі абшырна. Вось, для прыкладу, плач Маці Божай пры крыжы:

«Протож милостивая матка плакала рекучи и говорила плачучи: Сыну мой сыну наимилеишіи, и кто ми дасть иж бых умерла за тебе. Беда мне бедници што учиню, сыну мои милыи, не опускаи мене, але утягни мене за собою абых я умерла с тобою, штобы ты сам не умерл, нехаи умреть тая твоя матка. О бедная смерти, не препускаи и мене, бо ты ныне теперь сама надо вси речи люба еси, вси силы удручи матку, матку из сыном умучи посполу. Сыну солодкости единения, питомыи пребыток мои, радость живота моего, потехо душе моее, учинь то што бых я умерла с тобою, которая на смерть породила есмы тебе. О сыну мои наимилеишии, узнаи бедную матку свою, а выслухаи молитвы моее, слушаеть бо на сына выслухати матки опущеное. Выслухаи мя, прошу тя сыну милыи, да прими мене на свои крест, штобы которые в одном теле живуть, да одною се милостію милуютъ, одною бы смертию загинули».

Другая частка пачынаецца паўтарэннем расказаў аб муках Хрыста, хоць тут ужо Багародзіца адсоўваецца на другі план. Далей гаворыцца аб зыходзе Хрыста ў пекла і ўваскрашэнні душаў праведных, паводле сведчанняў двух уваскросшых братоў Карынуса і Ленцыюса, сыноў Сымона Богапрыімца. Ёсць тут таксама памешчанае пісьмо Пілата да Тыберыя і расказ аб далейшым лёсе Язэпа Арыматэйскага. У канцы знаходзіцца заўвага, што ўсё гэта напісаў Нікадзім па-жыдоўску. Гэта навяло на думку першых даследнікаў, быццам «Мукі Хрыстовы» ёсць не што іншае, як беларускі пераклад апакрыфічнага «Нікадзіма-

вага Евангелля». У сапраўднасці ж гэты твор быў толькі адной з крыніцаў, якой карыстаўся беларускі складальнік. Дакладнае вывучэнне ўсіх іншых крыніцаў чакае яшчэ свайго даследчыка.

У сярэдзіне XVI ст. Польшча сталася важным пасярэднікам у перадачы заходняй літаратуры на Беларусь. Многія заходнія творы перш тлумачыліся на польскую мову, а тады з польскай на беларускую. Адным з такіх твораў былі «Рымскія Дзеі». Гэта быў збор кароткіх апавяданняў маральнага характару, узятых быццам з рымскай гісторыі, якія, аднак, у сапраўднасці, акрамя назоваў і імёнаў герояў, мелі вельмі мала супольнага з ёю. Пачатак твора трэба шукаць у кнізе іспанскага святара Пятра Альфонса «Disciplina Clericalis», якая паявілася ў XII ст. У XIII ст. кніга атрымала свой канчатковы назоў «Gesta Romanorum» і сталася вельмі папулярнай ва ўсёй Заходняй Еўропе, асабліва ў Англіі. Польскі пераклад з'явіўся друкам у 1553 г., і да яго была далучаная «Гісторыя аб Апалоне каралю Тырскім». Гэта была грэцкая аповесць з III ст., арыгінал якой загінуў і якая была вядомая ў Заходняй Еўропе з лацінскага перакладу, зробленага ў VI ст. У часе Рэнесансу зацікаўленне гэтай аповесцю зноў ажыло. У 1457 г. быў зроблены чэшскі пераклад, які паслужыў прыкладам для польскага. Героем аповесці ёсць Апалон кароль тырскі, які разгадаў грэшны сакрэт магутнага караля Антыёха і быў змушаны ўцякаць ад гневу гэтага апошняга. Ён пацярпеў шмат няшчасцяў, сярод якіх самымі большымі былі страта жонкі і дачкі. Нарэшце, аднак, ён знайшоў іх жывых у амаль цудоўны спосаб, а таксама атрымаў назад сваё каралеўства разам з каралеўствам свайго ворага Антыёха. Вывад аповесці ясны: цнота заўсёды атрымоўвае сваю нагароду.

Беларускі тэкст «Рымскіх дзеяў» з'яўляецца тлумачэннем з польскага выдання 1553 г., хоць гісторыя аб Апалоне крыху розніцца ад польскай версіі*. Абодва творы былі прызначаныя для рэлігійна-маральнага чытання. Мова іх вельмі блізкая да царкоўнаславянскай, толькі з некаторымі беларускімі асаблівасцямі. Вось для прыкладу апісанне марской буры, у часе якой загінуў карабель Апалона:

---

* Тэкст быў выданы ў кнізе: Римские деяния, изд. Общества любителей древней писменности. СПб., 1877–1878. Аповесць аб Апалоне носіць наступны загаловак: «История о Апполоне короле тирском и о Тарсе королевне приклад что печаль переменяется в радость». Выданне зробленае з рукапісу 1688 г., знойдзенага ў Магілёве.

«…Апполон велел приправить корабель, хотяще плыть до пентаполя, и всяде в него и дался ветром, а как уже десять дней плыл по морю, поветріе же ему пременилось против полуденному ветру, и воста с полунощи ветр… волны взяли корабль на себе и начаша им яко пилою метати, едина волна до другой подаваючи его, дондеже некоторая ина болшая волна припадше поднесла и подняла корабль на себе и разорвала его, так что ни едина доска со другою не осталась, сребро же и злато летело на дно моря, ризы и иныя приправы другія по морю поплыли, и людіе все потопоша. Тогда Апполон ухватил доску, нача держатися ея и плыл на ней целыя три дни и три нощи. В четвертыи же день увидел некоторого рыбника, а он ловит рыбу, и нача к нему вопити, глаголя: О человече приближися ко мне, и даи живот утопающему и помози утрудившемуся».

Пад канец кнігі апісваецца спатканне Апалона з дачкой Тарсіяй. Апалон, які думаў, што Тарсія даўно не жыве, не пазнае яе. Тарсія таксама не пазнае свайго бацькі. Яна просіць Апалона адгадаць некалькі загадак. Вось адна з іх:

«Рекла Тарсія: что есть сей дом: сіе есть дом в ризах не убогій, гости и господарь в нем нагіи и тамо вещ в руце держит, а встыду не умеют. Огонь и воду в нем продают, а у них то даром дают. Отповедал ей Апполон: дом есть лазня, сіи есть баня, в ризах не убогій, а в нем гости и господарь бывают нагіи, вещ есть веник…»

Выглядае непраўдападобным, каб грэкі парыліся ў лазні з венікамі! Тут, напэўна, беларускі перакладчык уставіў нешта сваё.

Другая аповесць, ператлумачаная з польскай мовы на беларускую, была «Исторыя о Атыли короли угорском». Аўтарам гэтай кнігі, напісанай на лацінскай мове, быў прымат Вугоршчыны Мікола Олях, архіепіскап Стрыгонскі, вядомы гуманіст і прыяцель Эразма Ратэрдамскага. Польскі пераклад, зроблены Цыпрыянам Базілікам, паявіўся ў 1574 г. і быў ператлумачаны на беларускую мову хутка пасля гэтага. Аўтар «Гісторыі аб Атыле» меў на ўвеце напісаць гістарычны твор, але гэта яму не ўдалося. У сапраўнасці ягоная кніга — гэта гістарычны раман, дзе сапраўдныя факты пераплятаюцца з легендамі і выдуманымі здарэннямі. У прыватнасці, тут пераплеценыя легенды заходнееўрапейскія, якія прадстаўляюць Атылу як ворага і мучыцеля Царквы, і германска-гунскія, якія стараюцца зрабіць з Атылы героя, прычым гуны тут атаясамліваюцца з вугорцамі. Да стварэння геройскага вобраза Атылы дапамагла легенда, быццам ён у сваім паходзе на Еўропу выканаў пэўную, дадзеную яму

ад Бога, місію. У Францыі Атыла спаткаў аднаго пустэльніка, які яму сказаў:

«…Ведай о том, иж Бог будучы злостями люду своего раздражненыи, которы видечы иж от справедливости и от правдивое веры до непобожности ся наклонили пыхою… хотечы их до скромности, покоры, мерности, справедливости, милости сполнои а до сполного покою… и до справедливого жывота за твоим побуждением прывести — меч свои тепер в руки твои дал, бо ты есть бич божыи на каране выступков люду хрестянского посланы».

Атыле гэтага толькі было трэба і ён быў рады выконваць ролю «біча божага». Не заўсёды гэта, аднак, яму ўдавалася, і часам ласкавасць і пакора добрых пастыраў Царквы перамагалі ягоную лютасць. Такім чынам, калі Атыла прыблізіўся да горада Труа:

«…тых тэды Трэков албо Троеи бискуп, што его звано Люпус, то ест волк, человек святобливого жывота, убравшы ся ув-оденье бискупе, з множеством духовных особ вышол против Атыли прыежджаючому. Тот учынившы прыстоиное поздровене пытал Атыли, што бы был зач, иж так много королев звытяжывшы, народы и люди поразившы, места збурывшы все моцью под свою моц подбивает. Которому Атыля отказал: Я естэм король угорскии, бич божыи, которых слов Люпус улекнувшы ся рекл: А хто ся бичови Бога моего опреть, абы ся над кождым, над ким хочеть, гневити не мел? Под же тэды, як поведаеш, бичу Бога моего, едь где хочеш, все тобе яко слузе божому, чому ся я зборонити не буду, послушно будеть. Казал потом брамы местские отворытъ а Атыли держечы под ним коня за поводы з великои учтивостю впровадил, которыи албо поволностю а укладностю оного бискупа будучы звитяжоныи, або тэж з воли божое не учынившы жадное шкоды и крывды никому, зо всими воиски своими через место едучы другою броною з места выехал».

У падобны спосаб Атыла паслухаў намоваў Папы Рымскага св. Льва Вялікага, які выйшаў яму насустрач і прасіў не браць і не бурыць Рыма. Расказ аб гэтым здарэнні канчаецца такім чынам:

«Оттуль же уросла была кунштливая прыповесть у его жолнеров, иже Атыля большеи ся боить диких зверат самых толко прозвищ, нижли зброиного воиска, поневаж у Францыи над волком, а в Влохах над ильвом не ужывал своего пановання».

Мова «Гісторыі аб Атыле» перапоўненая паланізмамі. Гэтага няможна сказаць аб двух іншых творах з таго самага часу — гісторыях аб Трыстане і Ізольдзе і аб Баве. Гэтыя два сярэдневяковыя творы належаць да разраду любоўна-рыцарскіх

раманаў, яны былі шырока вядомыя ва ўсёй Заходняй Еўропе. Вядомыя яны былі таксама і ў Італіі, адкуль трапілі ў канцы XV ці ў пачатку XVI ст. у Сербію. Беларускія тлумачэнні былі зробленыя з сербскіх тэкстаў, якія цяпер загінулі.

«Аповесць аб Трыстане і Ізольдзе» ёсць кельцкага паходжання, але канчатковае літаратурнае апрацаванне атрымала яна ў Францыі ў сярэдзіне XII ст. Галоўнай тэмай яе ёсць трагічнае каханне, мацнейшае за іх саміх, між рыцарам Трыстанам (па-беларуску Трышчан) і «краснай Іжотай», жонкай караля карнуэльскага Марка, дзядзькі Трыстана. Сярэдневяковы аўтар здаваў сабе добра справу з далікатнасці палажэння ягоных герояў, і таму ён пастараўся даць выясненне, якое, паводле яго, задавальняла б пытанні маральнага парадку, а менавіта што каханне між Трыстанам і Ізольдай нарадзілася не з іхняй віны, а таму, што аднойчы яны незнарок выпілі «милостного питя», думаючы, што гэта звычайнае віно, і пасля гэтага «еще не допившы кубков впали межы собою у великую милость, аж и до жывота своего один другого не оставил».

Наогул у «Аповесці аб Трыстане і Ізольдзе» звяртаецца больш увагі на каханне, чым на рыцарскія справы. Аднак і каханне не трактуецца вельмі сур'ёзна, як можна бачыць хоць бы з інцыдэнту з каралём Маркам, які прайграў у шахматы сваю жонку Ізольду рыцару Палмідзежу, які таксама яе кахаў:

«Король Марко исполнил сердцэ веселем и велел прынести шахы, рек Палмидежу, абы играл с им. А коли сели играти, рек король Палмидежу: Так ти я говору, рыцэру, што нихто ся мне не противит в шахы играти. Рек Палмидеж: я вем королю, што если пан хитры, але коли хочеш играти о тое, которыи с нас выиграет, по што ся его рука хватит, нехаи собе озмет. И на то оба прызволили, и выиграл Палмидеж и рек: Королю Марко корновальскии, ты-с рек, хто-бы вам поведал о животе девки Брагини, по што бы того рука сягнула, то нехаи возме; а еще еси рек, хто бы з нас кого в шахы поиграл, за што се рука его хватит, нехаи озметь. Даи мне красную Ижоту, а я тобе дам девку Брагиню!.. Король Марко, велми был весел и рек однои девце: Поиди, мов Ижоте: Нарежаи ся, поехати маеш з Палмидежом… А так прышла цудная Ижота пред короля, и рек корол Марко: Рыцэру, ото-ж ти паня».

«Аповесць аб Баве», якая, напэўна, паўстала недзе на гранічных землях між Францыяй і Нямеччынай, носіць крыху іншы, больш рыцарскі характар. Пачынаецца яна такім чынам:

«Яко писмо говорыт: добрыи мужу, Бог ти будь на помоч и вховаи тя от смерти и от злое прыгоды! Хочу вам поведати добрую повесть о Кгвидоне антонском княжати и о его сыне, о великом и славном рыцэру Бове. Тот Кгвидон храбры конник был, але одну рэч зле вчынил, иж вчас жоны не понял, а коли вже стар был, тогды понял жону з великого племени, и она его не мела ни за один пенез».

З гэтага неразумнага сужэнства нарадзіўся сын Бава. Але маладая жонка ўзненавідзела мужа і забіла яго з дапамогай свайго любоўніка. Яна хацела забіць таксама свайго сына Баву, але той у свой час уцёк. Далей ужо ў расказе гаворыцца аб прыгодах Бавы: як ён папаў у палон і быў прадаены каралю Арменіду, а пасля, стаўшыся вольным, ажаніўся з каралеўскай дачкой Дружненай; як лёс іх пасля разлучыў і як пасля шматлікіх прыгод Бава нарэшце здабыў назад для сябе каралеўства свайго бацькі і шчасліва знайшоў зноў Дружнену з сынамі. Аповесць перапоўненая апісаннямі геройскіх учынкаў і бітваў. Вось для прыкладу апісанне бітвы між Бавой і Пулканам:

«А Пулкан прыскочыл и кинул на него одну жэрдь, и коли-б Бово щытом не заложыл ся, на том же бы местцу его пробил… И почали битися копьями; Пулкан вдарыл Бова по гелму, гелм был моцон, пробити не мог, а Бово прыгнулся на седелныи лук; и велми смутен был Бово, не мог Пулкана ударыти никакож, и скинул копе и скочыл с коня и вскинул узду на седло, а щыт обернул на плечы, и взял меч в обе руцэ, внимал вдарыти Пулкана и прыскочы к нему, а Пулкан скочыл через меч, а меч ся в землю забил, а Бово мало не здох от жалости, а Пулкан дал ему один удар в щыт. Велик был удар, што Пулкан учынил, от того удару Бово упал на колени, весь изблед и рече: Аи Боже створытелю небескии, ухоаи мя, пане, от смерти».

Ужо з гэтага вынятку відаць, чаму «Аповесць аб Баве» цешылася поспехам сярод сярэдневяковых аматараў прыгодніцкіх раманаў. Між іншым гэты твор (але не аповесці аб Трыстане і аб Атыле) быў шырока вядомы таксама ў Маскоўшчыне. Раней уважалася, што беларуская і маскоўская версіі былі незалежнымі адна ад другой, хоць і паходзілі з тых самых крыніцаў. Не так даўно, аднак, была выказаная думка, што, магчыма, «Аповесць аб Баве» была вядомая на Беларусі раней, можа нават у XV ст., і адтуль у форме вуснага пераказу трапіла ў Маскву*.

* Дабрынін М. К. Беларуская літаратура. Старажытны перыяд. Мінск, 1952. С. 252–253.

Рукапіс з беларускімі тэкстамі гісторыі аб Атыле і аповесцяў аб Трыстане і Ізольдзе і аб Баве* належаў у 1590-х гадах беларускаму шляхціцу з Наваградскага павета Рыгору Уніхоўскаму, прыяцелю беларускага пісьменніка Тодара Еўлашэўскага, які ўспамінае яго ў сваім «Дзённіку». Творы гэтыя цікавыя тым, што ў іх асаблівасці беларускай мовы выступаюць больш ярка і выразна, чым у іншых помніках беларускага пісьменства таго часу**.

Аповесці аб Трыстане і Ізольдзе і аб Баве ўводзілі беларускага чытача ў невядомы яму рыцарскі свет сярэдневяковай Заходняй Еўропы. Найбольш распаўсюджаным, аднак, прыгодніцкім раманам была «Александрыя», фантастычнае апавяданне аб паходзе Аляксандра Македонскага на таямнічы Усход. Беларусы пазнаёміліся ўпершыню з жыццём Аляксандра Македонскага яшчэ ў XI ст. з славянскага тэксту грэцкай «Хронікі» Івана Малалы. Іншыя пераклады паявіліся пасля, але найбольш распаўсюджанымі ў XVI–XVII стст. былі пераклады заходнееўрапейскага лацінскага твора «De proeliis», які трапіў на Беларусь цераз Польшчу***. Іншым шырока вядомым творам была аповесць аб Траянскай вайне, аб якой таксама беларусы даведаліся першы раз у XI ст. з той жа «Хронікі» Малалы. У XII–XIII стст. паявілася ў Заходняй Еўропе некалькі твораў на гэтую тэму, сярод

---

* Тэксты ўсіх гэтых твораў разам са змястоўным уступам глядзі ў: Веселовский А. Н. Белорусские повести о Тристане, Бове и Атилле в Познанской рукописи. Из истории романа и повести // Сборник Отдела Русского Языка и Словесности Имп. АН. СПб., 1888. Т. 44. Кн. 2. Аповесці аб Трыстане і Баве маюць агульны загаловак: «Почынается повесть о витезех с книг сэрбских, а звлашча о славном рыцэры Трысчане, о Анцалоте и о Бове и о иншых витезех добрых». Аповесці аб Баве маюць яшчэ свой асобны назоў «История о княжати Кгвидоне». Аповесць аб Атыле называецца: «История о Атыли короли угорском».

** Дакладны разбор мовы твораў глядзі ў: Brückner A. Ein Weissrussischer Codex miscellaneus in Gräflich Raczynskischen Bibliothek in Posen // Archiv für Slavische Philologie. Berlin, 1886. Band 9. S. 345–139. Між іншым, вось што піша аўтар аб мове гэтых твораў: «Wäre dies überhaupt nöthig, so könnte man auf Grund dieses Denkmals allein die Selbständigkeit des Weissrussichen ewidnet nachweisen» (Ibid. S. 346). (Калі б гэта было наагул патрэбным, дык на аснове аднаго гэтага помніка можна было б даказаць ясна самастойнасць беларускай мовы.)

*** Апошняе найбольш поўнае выданне беларускіх тэкстаў «Александрыі» глядзі ў: Александрыя. Мінск: Выд. Акадэміі навук БССР, 1962.

іх «Roman de Troie» француза Benoit Saint-Maure і «De Bello Troiano» сіцылійца Guido de Columna. Аўтары гэтых твораў, асабліва апошні, паставілі сабе за мэту раскрыць праўду аб Траянскай вайне, быццам сфальшаваную Гамерам! У сапраўднасці ж кніга Гвідо дэ Калюмны, напісаная ў палове XIII ст., у часе крыжовых паходаў і Лацінскага Канстанцінопальскага каралеўства, належыць да тыпу заходніх рыцарскіх раманаў, хоць ягоныя героі і носяць грэцкія імёны*.

Ужо ў пачатку XVI ст. «Александрыя» і «Аповесць аб Троі» былі настолькі вядомыя на Беларусі, што Францішак Скарына ўспомніў іх у сваёй прадмове да Бібліі:

«Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев; более и справедливее в них знаидеш, нежели во Александрии или во Тройи».

Іншым доказам папулярнасці «Александрыі» ёсць тое, што бітва Аляксандра Македонскага з індыйскім царом Порам сталася адной са сцэнаў беларускай Батлейкі. Сцэна мела камічны характар: Аляксандр — які між іншым ператварыўся ў хрысціянскага цара — ехаў на бітву на сваім кані, а бедны Пор быў змушаны пазычыць сабе каня ў цыгана!**

Заходнія рэлігійныя творы на беларускай мове насілі выразны каталіцкі характар і ў пэўным сэнсе былі чужыя для праваслаўнай ментальнасці большай часткі беларускіх чытачоў. Таксама свецкія творы адкрывалі перад вачамі беларуса невядомы яму свет заходняга рыцарскага сярэдневякоўя. Як адны, так і другія, без сумніву, спрычыніліся да змяшання і спалучэння заходніх і ўсходніх элементаў, якія спатыкаюцца ва ўсіх праявах культурнага жыцця на Беларусі ў XV–XVII стст. Далейшае вывучэнне культурных зносінаў між Захадам і Беларуссю ў тым часе можа дапамагчы зразумець шмат з’яваў, якія да гэтага часу астаюцца няяснымі. Хто ведае, можа, яно кіне больш святла на цікавую, але загадкавую асобу Францішка Скарыны?

*1968*

---

* Тэкст кароткай рэдакцыі гісторыі Траянскай вайны гл. у: Коршунаў А. Ф. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959. С. 446–454.

** Гл.: Барышаў Г., Саннікаў А. Беларускі народны тэатр Батлейка. Мінск, 1962. С. 35–38, 97–98.

## МАЛІТОЎНІК МАМОНІЧА 1601 Г.

Адным з цікавых помнікаў беларускай пабожнай літаратуры канца XVI і пач. XVII ст. з'яўляецца кніжачка «Штодзённыя малітвы», якая выйшла з друкарні Мамонічаў у Вільні ў 1601 г. Поўны назоў яе гучыць «Молитвы повседневные з многих святых отец, Церкве Хрыстовы учителей, с писма греческаго вкратце избраны. И иніи молитви на всю седмицу Святого Кирила инока. Выдрукованы суть в Вильни в друкарни дому Мамоничов року 1601». Сваім вонкавым выглядам малітоўнік робіць вельмі прыемнае ўражанне. Малы фармат у 12-ю частку аркуша робіць яго выгодным для частага карыстання. Шрыфт — прыгожы паўкурсіў, які не спатыкаецца ў ніякім іншым папярэднім выданні. Тэкст абведзены рамкамі. Мова малітоўніка царкоўнаславянская, у якой адчуваецца нязначны беларускі ўплыў. Ёсць таксама некалькі дапаможных тэкстаў на беларускай мове.

Сёння «Штодзённыя малітвы» з'яўляюцца вялікай бібліяграфічнай рэдкасцю. Першым апісаў гэты малітоўнік Каратаеў у 1883 годзе*. Ён меў, аднак, нагоду бачыць толькі адзін пашкоджаны паасобнік без пачатковай старонкі і без канца, і таму ён вызначыў памылкова год выдання паводле пасхаліі як 1602. Адзін паасобнік «Штодзённых малітваў» знаходзіцца ў Бодлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе, кароткую зацемку аб якім надрукаваў упершыню Дж. Барнікот у 1938 г.** Оксфардскі экзэмпляр з'яўляецца амаль камплектным, у ім не хапае толькі прысвячэння, якое было складовай часткай амаль усіх беларус-

---

* Каратаев И. Описание словено-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами // Сборник Отделения Русского языка и словесности Имп. АН. СПб., 1883. Т. 34. № 2 (168). С. 296–298.

** Барникот Дж. Неизвестные русские старопечатные книги, найденные в Англии // Временник Общества Друзей русской книги. Париж, 1938. № 4 (8). С. 71–72. Глядзі таксама кароткую зацемку пра Оксфардскі паасобнік малітоўніка ў: Barnicot J. D. A., Simmons J. S. G. Some unrecorded Early-printed Slavonic Books in English Libraries // Oxford Slavonic Papers. Oxford, 1951. Vol. II. P. 107 (№ 8). Адзін даволі пашкоджаны паасобнік малітоўніка знаходзіцца ў бібліятэцы Упсальскага ўніверсітэта ў Швецыі. Ён коратка апісаны пад № 10 у каталогу Ч'ельбэрга, а пад № 14 у гэтым самым каталогу ёсць апісанне адзінага вядомага паасобніка другога выдання «Штодзённых малітваў» з 1609 г. (Kjellberg L. Catalogue des imprimés slavons des XVIe, XVIIe et XVIIIe siècles conservés à la Bibliotheque de l'Université Royale d'Uppsala. Uppsala, 1952).

кіх выданняў таго часу. Не захавалася поўнасцю прысвячэнне і ў паасобніку, апісаным Каратаевым, а толькі ягоная канцавая частка наступнага зместу: «Которые (малітвы. — *А. Н.*) я у водну громаду якобы забравши и немалося потрудивши тепер з друку выдаю, а вашой святительской милости, яко пану и пастыру своему з униженьем вшеляким покорне оферую. Прійми прето зацный Пане и великій Архіепископе сей малый упоминок, знак зычливости и подданства моего, започаток и задаток послуг моих, которыми абымся завжды щитить мог в почте намнейших служебниках В(ашей) М(илости) собе упрійме зычу. В(ашей) М(илости) моего милостивого Пана И пастыра поволный и найменший служебник, Леон Козмич Мамонич»*.

Такім чынам, складальнікам малітоўніка быў Лявон Мамоніч. Ягоны бацька Кузьма са сваім братам Лукашом былі закладчыкамі вядомай віленскай друкарні, якая насіла іхняе прозвішча. Лявон, відаць, атрымаў добрую асвету і праяўляў пэўныя пісьменніцкія амбіцыі. Ягонае імя сустракаецца ўпершыню ў Псалтыры 1593 г., дзе ён быў аўтарам прысвячэння і эпіграмы на герб свайго дзядзькі Лукаша Мамоніча, старасты Дзісенскага і скарбнага Вялікага Княства Літоўскага. У пачатку XVII ст. Лявон быў ужо на чале друкарні. Магчыма, «Штодзённыя малітвы» былі першым вынікам ягонай самастойнай выдавецкай дзейнасці.

Цяжка сказаць, наколькі Лявон Мамоніч быў арыгінальным у складанні свайго малітоўніка. Пяць гадоў раней, у 1596 г., Віленскае праваслаўнае брацтва выдала малітоўнік з такім самым назовам. Вось змест двух твораў**:

---

* Каратаев И. Описание словено-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. С. 297–298. Як відаць з прыведзенага ўрыўка, прысвячэнне было напісана на беларускай мове. Каратаеў, які карыстаўся пашкоджаным паасобнікам малітоўніка, лічыў гэты ўрывак заканчэннем прадмовы да чытача. Ягоную памылку сёння ўдалося выправіць пры дапамозе Оксфардскага паасобніка, у якім захаваўся поўны тэкст прадмовы да чытача (Предсловіе к православному христіянину) на царкоўнаславянскай мове.

** Змест малітоўніка 1596 г. падаецца паводле апісання Каратаева (Каратаев И. Описание словено-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. № 140. С. 264–265). Малітоўнік Мамоніча мае на пачатку «Сочиненіе молитв яже по чину суть положены», якое тут падаецца паводле Оксфардскага паасобніка.

*Брацкі малітоўнік 1596 г.*
Молитвы полунощные
Утреніи
При часех
При святей литургіи
Пред обедом
По обеде
По скончаніи вечерни
На сон грядуще
Последованіе еже к божественному причащенію
Исповеданіе православной веры святого Амвросія епископа Медіоланского
Афанасія, архіепіскопа Александрійского символон (сиречь) изложеніе о православной вере.
Канон покаянный на вся дни и по вся часы;
твореніе святаго Андрея Критскаго.
Молитвы на всю седмицу. Творение святаго отца Кирилла инока.
Молитвы на всяк день по часех.
Молитвы на сон грядущи
Соборник дванадцатем месяцем
Пасхалія
Наука хотящим ведать лунное теченіе

*Малітоўнік Мамоніча 1601 г.*
Молитвы полунощные спочатку
Утреніи, по них
При святей литургіи
Пред вкушеніем брашна
Тамож и благодареніе*
На сон грядуще
Пред вкушеніем животворящих Таин
По причастіи
Исповеданіе православной веры святого Амвросія епископа Медіоланского
Канон покаянный.
Тутже и молитва
Правило от оскверненія
Таж молитвы С. Кирилла инока на всю седмицу по ряду

* Гэтаму тытулу ў «сочиненіи» адказваюць у тэксце наступныя малітвы: пред обедом, по обеде, по вечерни, пред вечерею, по вечери.

Святце
Пасхалія

Апрача гэтага абодва малітоўнікі маюць прадмову да чытача (Предсловіе к православному христіянину). Калі можна меркаваць паводле змешчанага ў Каратаева пачатку прадмовы брацкага малітоўніка, дык змест абедзвюх прадмоў ёсць або аднолькавы, або вельмі блізкі. Малітоўнік 1596 г. быў прысвечаны князю Багдану Саламярэцкаму.

З прыведзенага параўнання відаць, што змест малітоўнікаў вельмі падобны. Можна меркаваць, што Мамоніч пры ўкладанні свайго малітоўніка карыстаўся брацкім выданнем. Пры адсутнасці, аднак, гэтага апошняга ў далейшым гутарка будзе ісці перадусім пра малітоўнік Мамоніча.

«Штодзённыя малітвы» Мамоніча з'яўляюцца малітоўнікам для свецкіх людзей, і ў гэтым іх найбольшая цікавасць. Малітоўнік для свецкіх не быў нечым зусім новым на Беларусі ў XVI ст. Ужо каля 1525 г. Францішак Скарына, прадаўжаючы пачатую ім у Празе працу «людем посполитым к доброму наученію», выдаў у Вільні сваю «Малую подорожную книжицу». Паводле свайго зместу кніжка гэтая была не чым іншым, як т. зв. «Псалтырам з дадаткамі» (Псалтирь с восследованіем). Твор гэты быў вельмі распаўсюджаны на праваслаўным усходзе, асабліва сярод славян, яшчэ ў рукапіснай форме, задоўга перад пачаткам друку. Так, напрыклад, першы вядомы «Псалтыр з дадаткамі» на тэрыторыі Беларусі паходзіць з 1296 г.*

Змест кнігі быў даволі разнастайны. Апрача псальмаў там звычайна было правіла, як чытаць псалтыр самому; пасля ішлі тэксты царкоўных службаў — вячэрня, павячэрра, вутраня, часы, трапары і кандакі на нядзелі, святы і буднія дні, а таксама царкоўны каляндар і пасхалія. Складальнік паводле свайго жадання мог дадаць яшчэ адно ці два казанні якога-колечы айца Царквы ці які іншы твор рэлігійнага характару. Такім чынам, «Псалтыр з дадаткамі» быў вельмі карыснай падручнай кнігай для манахаў, якія карысталіся ім для сваіх прыватных рэлігійных практык, асабліва калі хто з іх не мог браць удзелу ў царкоўных службах. Безумоўна, нічога не перашкаджала карыстацца гэтай

* Дакладнае апісанне гэтага рукапісу гл. у: Горский А., Невоструев К. Описание славянских рукописей Московской синодальной библиотеки. Отдел первый. Москва, 1855. № 13. С. 181–186.

кнігай і свецкім людзям, аднак яе першае прызначэнне было для «келейного пенія».

«Малая падарожная кніжка» Скарыны была такім «Псалтыром з дадаткамі», толькі змест яе быў багацейшы за змест іншых падобных зборнікаў*. Вялікай заслугай Скарыны было тое, што ён свядома правёў рэдакцыю тэкстаў царкоўных службаў, маючы на ўвазе патрэбы не манахаў, а свецкіх людзей**. Паколькі вядома, ніхто да Скарыны нічога падобнага не зрабіў. Такім чынам, беларускі першадрукар з'яўляецца таксама піянерам у галіне малітоўнікаў для свецкіх людзей.

«Псалтыры з дадаткамі», якія выдаваліся на Беларусі ў другой палове XVI ст., нічога новага не ўносілі і прытрымліваліся традыцыйнай формы. Калі можна меркаваць з апісанняў, дык усе яны стаялі ніжэй за «Падарожную кніжку» Скарыны.

«Штодзённыя малітвы» Мамоніча, як і малітоўнік, выдадзены праваслаўным брацтвам пяць гадоў раней, — гэта нешта зусім новае, не падобнае на ўсе ранейшыя выданні. Складальнік адмовіўся ад псальмаў і царкоўных служб, якія былі асновай псалтыроў з дадаткамі, і замяніў іх тэкстамі рэлігійных практык, найбольш неабходных у штодзённым жыцці кожнага пабожнага хрысціяніна, як, напр., малітвы ранішнія, вячэрнія, перад абедам, пасля абеду, удзячныя, пакутныя, перад св. прычасцем і г. д. Такім чынам, гэта быў першы сапраўдны малітоўнік для свецкіх

---

* Дакладнае апісанне «Малой падарожнай кніжкі» гл.: Каратаев И. Описание словено-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. № 19. С. 59–67; Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. СПб., 1888. С. 189–200. Сёння «Малая падарожная кніжка» з'яўляецца вялікай рэдкасцю. Першая частка яе, Псалтыр, знаходзіцца ў бібліятэцы Брытанскага музея ў Лондане.

** Уладзіміраў дае некалькі прыкладаў такой рэдакцыі тэкстаў з мэтай прыстасавання іх да патрэб свецкіх людзей. Так, напр., у малітве пасля вячэрні змест традыцыйнага «Небесный царю, верные *цари* наши укрепи… языки укроти, мир умири, и *святую обитель* сию добре соблюди…». У Скарыны ёсць: «Небесный царю, верные *господари* наши укрепи… языки *поганские* укроти, и мир вмири, а *святую церков свою* добре сохрани…» (Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. С. 194–195). Трэба таксама дадаць, што Скарына зрабіў больш зразумелай мову малітваў, а ў асаблівасці псальмаў, замяніўшы некоторыя стараславянскія словы беларускімі (Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. С. 191).

людзей, складзены з зразуменнем іхніх штодзённых рэлігійных патрэбаў, адрозных ад патрэбаў манахаў.

Прадмова да малітоўніка, «Предословіе к православному христіянину», з’яўляецца маленькім разважаннем аб малітве. Пачынаецца яна такім чынам: «Се тобе правило моленія, пенія і благодаренія изобразися, православный читателю, еже предначерташа богодухновенныи отци наши, да якоже они последоваху Господу глаголющу (Мт 26): Бдите и молитеся, да не внидите в напасть — тако и мы ревнуем подвигом их, да на всяко время молитвами и моленіем Содетеля своего умолим, во еже быти ему милостиву грехом и прегрешеніем нашим». Далей гаворыцца аб вартасці і сіле малітвы, прыводзячы шмат прыкладаў са Старога и Новага Запавету, і аб тым, якой павінна быць наша малітва. Маліцца трэба «Неленостно, с разсужденіем, ведуще яко Богу собеседници имамы быти… Со смиреніем же молимся, да не с фарисеом оплазивым трудившеся, гордыня ради плодов молитвенных лишимся; с милостынею же и постом, и прочіими добродетельми молитвы своя возсылаймо Богу, да проходят врата небесная и достизают да до престола Божія». Канчаецца прадмова наступным: «Тако прочее молимся Господу Богу, якоже богодухновенное писаніе нам наказует, совершающе добродетели во смиреніи і в страсе Божіи, держащеся любве, веру же православну несумленно хранящe, и догматы божественныя, и преданія святых богоносных отец наших неизменно соблюдающе, и тако Господа умолим. Милостив бо ест Содетель наш, ведый немощ созданія своего, Емуже честь и слава и поклоненіе подобает в безконечныя веки. Аминь».

Найбольш цікавай часткай «Штодзённых малітваў» з’яўляецца раздзел, які называецца «Молитвы при святой литургіи». Складаецца ён з раду малітваў, якія вернік павінен гаварыць ціха ў царкве ў часе святой літургіі. Малітвы падабраныя — а некаторыя, напэўна, спецыяльна напісаныя складальнікам — вельмі ўдала і з веданнем візантыйскай літургіі, але ва ўсёй гэтай пабожнай практыцы адчуваецца моцны заходні ўплыў. Практыка ціхіх малітваў-разважанняў у часе св. імшы паявілася даволі рана на Захадзе, дзе людзі не маглі браць чыннага ўдзелу ў багаслужбе, якая была на незразумелай для іх лацінскай мове*. На Усходзе розніца між літургічнай і народнай мовамі ніколі не

* Гэтая практыка існавала на Захадзе ў Каталіцкай царкве яшчэ да зусім нядаўняга часу і выйшла канчаткова з ужытку пасля літургічнай рэформы, праведзенай Другім Ватыканскім Саборам. Вядомая

была так вялікай, як на Захадзе, і таму людзі не мелі асаблівай цяжкасці браць чынны ўдзел у св. літургіі, спяваючы і адказваючы святару ці дыякану кароткімі «Госпадзі, памілуй», «Падай, Госпадзі» і г. д. Відаць, аднак, на Беларусі ў канцы XVI ст. гэты прыгожы звычай прыйшоў у заняпад. Магчыма, адной з прычын было распаўсюджанне царкоўных хароў, якія пачалі выконваць увесь спеў, і, такім чынам, людзям не аставалася нічога іншага, як быць звычайнымі слухачамі. Вось тады і магла нарадзіцца ў складальніка малітоўніка думка ўлажыць «Малітвы пры св. літургіі» на ўзор падобных заходніх рэлігійных практык.

На Беларусі ў XVI–XVII стст. не было звычаю частага прычасця. Звычайна вернікі не прычашчаліся кожны раз, калі ім даводзілася быць на св. літургіі. Гэта ўзяў пад увагу складальнік «Малітваў пры св. літургіі», як можна бачыць з наступнага тэксту малітвы:

«Да исполнятся уста наша пенія Твоея похвалы, яко да воспоем славу Твою, яко сподобил еси *их* (курсіў мой. — *А. Н.*), Боже, причаститися святых, бессмертных, пречистых и животворящих тайн; и нас, Боже, соблюди во Твоей святыни по вся дни поучатися правде Твоей. Аллилуя».

Адно месца «Малітваў пры св. літургіі» мае некаторую багаслоўскую цікавасць. Вось яно:

«Молитва егда речет священник Слова Христовы: ‘Пріимите и ядите, се ест тело мое’:

Аминь, верую, Господи и исповедую, яко Ты еси Хрыстос, Сын Бога живаго, пришедый в мир грешники спасти, от них же первый есм аз.

Молитва егда речет священник Слова Христовы: ‘Пійте от нея вси, се бо ест кров моя’:

Вечери Твоей тайней днесь, Сыне Божій, причастника мя прими, не повем бо врагом Твоим тайны Твоея, ни лобзанія Ти дам яко Июда, но яко разбойник исповедаяйся вопію: помяни мя Господи во царствіи си».

З прыведзенага тэксту выглядае, што складальнік верыў, што хлеб і віно перамяняюцца ў Цела і Кроў Хрыстовы ў часе, калі святар гаворыць адпаведныя словы Хрыста. Гэта супярэчыць праваслаўнаму вучэнню, паводле якога перамена адбываецца ў часе т. зв. эпіклезісу, або прызывання Святога Духа. Спрэчка аб эпіклезісе паміж Каталіцкай і Грэцкай праваслаўнай цэрквамі

---

яна была і сярод беларусаў (гл. малітоўнік «Hołas dušy». Vyd. IV (ks. P. Tatarynoviča). Rym, 1949. S. 64–77).

ўзнікла даволі рана і дасягнула найбольшай вастрыні ў XIV–XV стст., калі з боку грэкаў выступілі ў абарону эпіклезісу такія значныя царкоўныя пісьменнікі, як Мікола Кабазіляс і Сымон з Тэсалёнікі. Аднак сярод саміх праваслаўных доўгі час не было згоды ў гэтым пытанні. У XVII ст. спрэчка ўзнавілася з новай сілай у Маскве, гэтым разам паміж праваслаўнымі прыхільнікамі і праціўнікамі эпіклезісу. У 1690 г. Маскоўскі Сабор асудзіў праціўнікаў эпіклезісу, большасць якіх гуртавалася каля Кіеўскай акадэміі, дзе, між іншым, вучылася шмат беларусаў. На Беларусі справа эпіклезісу ніколі не парушалася і большасць адукаваных людзей, напэўна, нават не ведала, што ў гэтым пытанні існуе розніца вучэнняў між дзвюма цэрквамі. Трэба таму думаць, што ў вышэй прыведзеным тэксце знайшла свой адбітак агульная вера ўсіх беларусаў, як праваслаўных, так і каталікоў (уніятаў).

«Малітвы пры св. літургіі» сталіся складовай часткай малітоўнікаў для свецкіх людзей, якія выдаваліся ў Вільні на працягу ўсяго XVII ст. Яны былі перадрукаваны без змен у другім выданні «Штодзённых малітваў» Мамоніча ў 1609 г., а таксама ў г. зв. «Днеўніку», выдадзеным ў 1652 г. Віленскім праваслаўным брацтвам. У «Паўуставе», выдадзеным гэтым самым брацтвам ў 1695 г., да тэксту малітваў былі дададзены цікавыя паясненні на беларускай мове.

У раздзеле «Молитвы на всю седмицу, твореніе святого отца Кирилла» памешчана 21 малітва св. Кірылы Тураўскага — па тры малітвы на кожны дзень тыдня. Такім чынам, малітвы вялікага беларускага святога былі ўпершыню надрукаваныя на Беларусі — вымоўны доказ ягонай папулярнасці сярод беларусаў.

Кніжка канчаецца раздзеламі «Святце» і «Пасхалія». Першы з іх — гэта каляндар нерухомых царкоўных святаў на кожны дзень года. Беларускіх святых няма, з ранніх агульнаўсходнеславянскіх ёсць толькі св. Барыс і Глеб (24 ліпеня), але з прычыны недахопу месца надрукавана толькі імя Барыса. Ёсць таксама свята Пакроў (1 кастрычніка). На пачатку кожнага месяца знаходзяцца кароткія звесткі агульнага характару, напр.:

«Месяц септемврій, имат дній 30, а в дни часов 12, и в нощи 12. Септемвр, седмый именуется от начала року, сиреч от марта, яко в сем паки есенное равнонощіе составляется».

«Месяц януарій, имат дній 31, яко з нем римляне рок зачинают, егоже мы студень нарицаем. Паки возврат солнцу, яко день прибывати начинает, нощь бо имат часов 14, а день имат часов 10».

Цікавыя беларускія назовы месяцаў: септемвр, паздерник, листопад, грудень, студень, лютый, март, кветень, травень, червец, липец, серпень*.

Раздзел «О пасхаліи и пасце» пачынаецца такім уступам:

«Пасхалія ест зложона не для тых свят, которыи суть в святцех, але для тых, которіи не мають отделеного дня в святцех, но только на каждый рок рушаются ведлуг бегу полноты марта небесного, яко Пасха, Вознесеніе Христово, Исшествіе Святого Духа, и ведлуг того менится мясопуст, и Петров пост и зачинаніе Тріоди; а прото кгды хочеш ведати о праздницех ненаписаных в святцех, которого месяца и дня и которое вруцелето, и о мясопустех и постех, смотри пасхаліи».

Пасхалія ахоплівае гады 1602–1629. Сярод рухомых дат на кожны год тут памешчаны «пасха жидом», «пасха христіяном», а ўжо ў самым канцы гаворыцца, што «В том року… пасха новаго календара пред нами за тыждень», або «за пять недель», або «ровно с нами».

Кніжка канчаецца наступным пасляслоўем:

«Выдрукована же бысть сія книжка молитвы в столечном граде Великого Княжства Литовского у Вильни, при державе Господара нашего Милостивого Жыгимонта третьего, Божою милостю Короля Польского, Великого Князя Литовского, Руского, Пруского, Жомоитского, Мазовецкого, Ифлянтского, и Дедичного Короля Шведского, Кготского, Вандалского, и прочая, в дому Тыпографов его Королевской Милости Мамоничов, в лето от воплощенія Господа Бога и Спаса нашего Ісуса Христа 1601. Богу же славивому в Троіци, давшему начати и сподоблшему совершити честь и держава во вся веки бесконечныя. Аминь».

---

* Вось для параўнання назовы месяцаў у «Малой падарожнай кніжцы» Скарыны, выдадзенай у Вільні прыбл. у 1525 г. (гл. Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. С. 197–198): вресень, листопад, грудень, прасинець, стычень, люты, марець, кветень, маі, чирвець, липець, серпень. У «Храналогіі» Андрэя Рымшы, выдадзенай у Астрозе ў 1581 г., назовы месяцаў мала чым розняцца ад Скарынавых: вресень, паздерник, грудень, просинец, стычень, лютый, марец, кветень, май, чырвец, липец, серпень (Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры / склад. А. Коршунаў. Мінск, 1959. С. 327–328). «Паўустаў», выдадзены Віленскім праваслаўным брацтвам у 1695 г., мае наступныя назовы: септемврій, паздерник, листопад, грудень, серинь, лютый, березозоль, кветень, травень, червец, липец, серпень.

На апошняй старонцы знаходзіцца каралеўскі прывілей, які кідае цікавае святло на гандлёвы бок прадпрыемства Мамонічаў:

«За привильем Его Королевское Милости, которим то ест варовано, абы каждый якогож кольвек стану человек не важился тых книг в панствах Его Королевское Милости друковать, або где индей друкованых до панства Его Королевское Милости, будь явне або потаемне, привозить и продавать под виною в привилею менованою до скарбу Его Королевское Милости, и под утраченьем всих книг».

Такім чынам, прывілей гарантаваў Мамонічам манаполію на друкаванне царкоўных кніг і бараніў іх ад замежнай канкурэнцыі. З другога боку, самі Мамонічы мелі заўсёды вока на замежныя рынкі і нават выдавалі спецыяльна кнігі з разлікам на продаж іх у чужых краінах, асабліва ў Маскоўшчыне.

Беларускія тэксты і прывілей у «Штодзённых малітвах» ясна сведчаць, што гэтая кніга была прызначаная не на экспарт, але для мясцовага беларускага насельніцтва.

Лявон Мамоніч прысвяціў сваю кніжку нейкаму высокаму царкоўнаму дастойніку, якога ён называе архіепіскапам і сваім пастырам. Прозвішча гэтага дастойніка — якое, напэўна, было на загінуўшай першай старонцы прысвячэння — не дайшло да нас, і таму сёння можам рабіць толькі больш або менш праўдападобныя здагадкі адносна таго, кім ён быў. У тым часе на Беларусі не было праваслаўнай іерархіі, бо ўсе беларускія епіскапы прыступілі да уніі на Берасцейскім Саборы 1596 г. Сярод іх тытул архіепіскапа мелі мітрапаліт Кіеўскі і ўладыка Полацкі. У сакавіку 1601 г. Полацкі пасад заняў Гедэон Бральніцкі пасля смерці ў 1600 г. свайго папярэдніка Германа-Рыгора Загорскага. Ужо з гэтай прычыны вельмі непраўдападобна, каб Мамонічы мелі нешта супольнае з гэтым іерархам, які, дарэчы, нічым асаблівым не адзначаўся. З другога боку, мітрапалітам ад 1600 г. быў Іпацій Пацей. Хоць мітрапаліт і называўся Кіеўскім, але ён меў сваю афіцыйную рэзідэнцыю ў Наваградку і Вільня была ў ягонай непасрэднай юрысдыкцыі. Такім чынам, Лявон Мамоніч мог з поўным правам назваць яго сваім пастырам. Апрача гэтага, Мамонічаў звязвалі з Іпаціем Пацеем даўнія сувязі. Справа ў тым, што Мамонічы, якія спачатку друкавалі кнігі для патрэб Праваслаўнай царквы, пачалі схіляцца да уніі яшчэ перад Берасцейскім Саборам. У 1595 г. яны выдалі кнігу «Унія, албо Выклад преднейших артикулов к узъедноченю греков с костелом рымским належащих», аўтарам якой звычайна лічыцца Іпацій Пацей. Праўніяцкія сімпатыі Мамонічаў, напэўна, насцярожылі

праваслаўных, і гэтым можна тлумачыць ажыўленне выдавецкай дзейнасці Віленскага праваслаўнага брацтва, пачынаючы ад 1596 г. З усяго вышэйсказанага выглядае, што малітоўнік Мамоніча быў, праўдападобна, уніяцкім выданнем і што складальнік прысвяціў яго Іпацію Пацею*. Гэтага, аднак, не відаць з самога тэксту, у якім няма нічога такога, што б магло выклікаць у тым часе засцярогі з боку праваслаўных.

Як адна з першых спробаў даць свецкім людзям малітоўнік, які б задавальняў іхнія штодзённыя рэлігійныя патрэбы і які б не быў звычайнай адаптацыяй манастырскіх традыцыяў, «Штодзённыя малітвы» Мамоніча ўнеслі нешта новае ў рэлігійную літаратуру і былі важным крокам наперад у развіццы малітоўнікаў для свецкіх на Беларусі ў XVII ст. У гэтым іх цікавасць.

*1970*

---

* Расейская даследчыца кнігадрукавання Зярнова піша ў гэтай справе: «По языку этого посвящения, по отсутствию великорусских святых в святцах несомненно видно, что издание “Молитов” униатское, кроме того, невозможно себе представить, чтобы печатник, издавая молитвенную книгу для православных, объявил себя редактором» (Зернова А.С. Типография Мамоничей в Вильне // Книга. Москва, 1959. № 1. С. 212). Беларускі аўтар М. Прашковіч паўтарае ўслед за Зярновай: «Ужо ў кнізе “Малітвы паўсядзённыя”, якая выйшла ў 1601 г., няма пераліку велікарускіх святых, г. зн., што кніга была прызначана для ўніятаў» (Прашковіч М.І. Культурна-асветніцкая роля друкарні Мамонічаў // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск, 1968. С. 167). Аднак аргументы гэтых аўтараў зусім не пераконваюць. У адрозненне ад Маскоўскай дзяржавы, дзе народная мова не мела месца ў рэлігійным ужытку, на Беларусі ў XVI–XVII стст. праваслаўныя свабодна карысталіся беларускай мовай у сваіх выданнях, і то не толькі ў прадмовах і прысвячэннях — што было звычайнай справай, — але і ў саміх тэкстах кніг. Адносна «велікарускіх» (г. зн. маскоўскіх) святых, дык іхні культ меў тады толькі мясцовае распаўсюджанне ў граніцах Маскоўскай дзяржавы. Было б дзіўна знайсці іхнія імёны ў праваслаўных рэлігійных выданнях на Беларусі, якая была ў тым часе ў палітычных і царкоўных адносінах незалежнай ад Масквы. Толькі Мамонічы з гандлёвых меркаванняў устаўлялі імёны маскоўскіх святых у кнігі, прызначаныя на продаж у Маскве. У іншых беларускіх праваслаўных выданнях таго часу, прызначаных для мясцовага насельніцтва, гэтых імён не спатыкаецца. У справе апошняга аргументу Зярновай, дык хопіць толькі зазначыць, што той самы Лявон Мамоніч надрукаваў сваё прозвішча пад прысвячэннем у праваслаўным выданні Псалтыра ў 1593 г. Такім чынам, вельмі магчыма, што малітоўнік Мамоніча быў уніяцкім выданнем, але не з прычын, пададзеных Зярновай і Прашковічам.

# БЕЛАРУСКІ РЭЛІГІЙНЫ ТВОР КАНЦА XVII СТ.
*«Малітвы пры святой літургіі» 1695 г.*

Сярод розных пабожных тэкстаў у малітоўніках віленскага выдання Мамонічаў і Праваслаўнага брацтва канца XVI — XVII ст. «Малітвы пры святой літургіі» звяртаюць на сябе ўвагу сваёй арыгінальнасцю. Усе іншыя малітвы і царкоўныя службы — за выняткам малітваў св. Кірылы Тураўскага — з'яўляюцца царкоўнаславянскімі перакладамі традыцыйных, пераважна грэцкіх, тэкстаў. «Малітвы пры святой літургіі» робяць уражанне самастойнага твора мясцовага паходжання. У сваім пачатковым выглядзе гэты твор, які быў прызначаны для свецкіх людзей, складаўся з рада малітваў у царкоўнаславянскай мове да ціхага чытання ў часе св. літургіі. Першы раз «Малітвы пры святой літургіі» былі надрукаваныя ў кніжцы «Штодзённыя малітвы», выдадзенай у 1596 г. Віленскім праваслаўным брацтвам. Пяць гадоў пазней, у 1601 г., яны былі перадрукаваныя ў аднайменным — праўдападобна, уніяцкім — малітоўніку Мамонічавага выдання, які быў перавыдадзены ў 1609 г.* На працягу XVII ст. Віленскае праваслаўнае брацтва выдала даволі шмат рэлігійных кніг для свецкіх людзей, сярод іх некалькі малітоўнікаў. Некаторыя называліся «Дняўнік» («Дневник»), іншыя — «Паўустаў» («Полуустав»). Змест абодвух выданняў быў падобны і складаўся галоўным чынам з тэкстаў прыватных малітваў і царкоўных службаў — вячэрня, павячэрніца, вутраня, розныя акафісты і каноны і г. д., — але без частак, якія належала гаварыць святару ці дыякану. У «Днеўніку» 1652 г.** знаходзяцца таксама «Малітвы пры святой літургіі», тэкст якіх нічым не розніцца ад тэксту

---

* «Молитвы повседневные з многих святых отец, Церкве Христовы учителеи, с писма греческаго вкратце избраны… Выдрукованы суть в Вильни в друкарни дому Мамоничов року 1601». Дакладнае апісанне гэтага малітоўніка і параўнанне яго з малітоўнікам 1596 г. гл.: Надсан А. Малітоўнік Мамоніча 1601 г. // Божым шляхам. Лондан, 1970. № 1. С. 8–12; № 2. С. 5–6. Адзін паасобнік «Штодзённых малітваў» знаходзіцца ў Бодлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе. Бібліятэка Упсальскага ўніверсітэта мае выданне малітоўніка 1609 г.

** «О эфімэріос си есть Дневник всегдашних молитв… Трудолюбіем іноков С. Обители Сошествія Пресвятаго и Животворящего Духа… в Вильни, Року Господня 1652». Кніга прысвечаная Хрыстафору Трызне «дворянину покоевому его королевскоми милости» Адзін паасобнік «Днеўніка» без тытульнай старонкі знаходзіцца ў бібліятэцы Упсальскага ўніверсітэта. В. Ластоўскі ў сваёй «Гісторыі беларускай (крыўс-

папярэдніх выданняў. Затое «Малітвы пры святой літургіі» ў «Паўуставе» 1695 г.* маюць адметны характар. Тэкст саміх малітваў у царкоўнаславянскай мове астаўся амаль без змен, але невядомы аўтар дадаў да іх абшырныя паясненні на беларускай мове. Такім чынам, атрымаўся цікавы і арыгінальны твор, які можна назваць беларускім у поўным значэнні гэтага слова.

«Малітвы пры святой літургіі» з’яўляюцца не літургічным творам, якіх візантыйская рэлігійная літаратура ведае некалькі, але пабожнай практыкай. Яны напамінаюць г. зв. размышлянні падчас св. імшы, якія былі даволі распаўсюджаныя на каталіцкім Захадзе, дзе багаслужбы былі на незразумелай для народа лацінскай мове і таму народ не мог браць у іх чыннага ўдзелу. На Усходзе розніца між народнай і літургічнай мовамі ніколі не была так вялікай, як на Захадзе, і народ мог удзельнічаць у багаслужбах, спяваючы і адказваючы святару ці дыякану кароткімі «Госпадзі, памілуй», «Падай, Госпадзі», «Табе, Госпадзі» і г. д. Відаць, аднак, што ў канцы XVI ст. на Беларусі гэтая практыка прыйшла ў заняпад. Магчыма, адной з прычынаў было ўвядзенне і шырокае распаўсюджанне царкоўных хораў, якія ўзялі на сябе ролю, якую раней выконваў народ. Вось тады і магла нарадзіцца ў некага думка скласці «Малітвы пры святой літургіі» на ўзор падобных заходніх практык.

Аўтары «Малітваў» — а іх было прынамсі два і яны жылі ў розным часе — напэўна, належалі да Віленскага праваслаўнага брацтва або былі цесна звязаныя з ім, будучы, напр., манахамі ў брацкім Святадухаўскім манастыры. Яны добра ведалі царкоўнаславянскую мову і літургію паводле візантыйскага абраду і былі таксама знаёмыя з заходнімі рэлігійнымі практыкамі.

---

кай) кнігі» (Коўна, 1926. С. 571) дае кароткае апісанне гэтага выдання і фатаграфію тытульнай старонкі.

* «Полуустав имеяй нощную и дневную службу всего лета… Трудолюбіем іноков С. общежительныя обители Сошествія Пресвятаго и Животворящего Духа изображенныи. В Вилни, Року 1695». Кніга прысвечаная Васілю Красінскаму, старасту прапойскаму і харужаму смаленскаму, і Цімафею Красінскаму, старасту гомельскаму і стольніку чахоўскаму. Перад прысвячэннем замешчаны герб і наступная, дагэтуль не вядомая эпіграма «на гербовныи клейнот велможных их милостеи панов з Красна Красинских»: «Крест знаменіем ест всегда победы, / Сохраняяи нас от всякои от беды. / А птенец в перстню небо фигуруе, / Подкова к нему путь явне торуе. / Сими клеиноты Дом Красинских красныи, / И межу светилы всегда зрится ясныи». Адзін паасобнік «Паўустава» знаходзіцца ў бібліятэцы Упсальскага ўніверсітэта.

У гэтым апошнім няма нічога дзіўнага, бо ў тым часе многія праваслаўныя беларусы вучыліся ў каталіцкіх — пераважна езуіцкіх — школах.

«Малітвы пры святой літургіі» з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для пазнання рэлігійных звычаяў праваслаўных беларусаў XVI–XVII стст. Так, напрыклад, у тым часе не было звычаю частага прычасця вернікаў, і гэта аўтары «Малітваў» узялі пад увагу. Царкоўныя хоры не спявалі ўсёй літургіі, але некаторыя часткі яе былі чытаныя (рэцытаваныя). Традыцыя чыннага ўдзелу народу ў святой літургіі не замерла яшчэ зусім, і час ад часу ў тэксце знаходзяцца вось такія, ці падобныя ім, указанні: «Гды блаженна хор читает албо спевает, и ты оные читай». Ёсць таксама нямала ўказанняў, як павінен вернік захоўвацца ў часе св. літургіі, напрыклад: «А гды выходит священник з олтаря з божественными Дары, чинячи великую процесію и мовячи: Всех вас православных христіян да помянет Господь Бог в царствіи своем. Поклякнувши коленами на землю, розмышляй, яко жидовскіе дети, едны рожчки палмовые и оливные, а другіи сукни свои постилали под ноги Христовы, и песни ему вдячные приносили, волаючи: Осанна, благословен грядый во имя Господне, Царь Израилев».

«Малітвы» з'яўляюцца таксама дакументам веры тагачасных праваслаўных беларусаў. Багасловаў, напэўна, будуць цікавіць тыя часткі, якія маюць дачыненне да пытання моманту ў часе св. літургіі, калі хлеб і віно ператвараюцца ў Цела і Кроў Хрыстовы. У гэтым адпаведныя тэксты «Малітваў» не астаўляюць ніякага сумніву: «А гды мовит священник слова Христовы: Пріимите, и ядите, и прочая… Ведай, же по вымовленю тых слов от священника непонятым человекови способом хлеб, над которымся то мовить, на дискосе положенный, юж не ест хлебом далей, але пренаидорожшим зостает телом Христовым… А гды зась мовит священник слова Христовы: Пійте от нея вси, сія ест кров моя, и прочая: Розмышляй, якося Кровь Святая з тела Збавителевого выливала, ведай теж, же за тыми словы священниковыми вино в животворящую Кровь Сына Божого преистночается».

Гэтыя тэксты цікавыя тым, што яны паказваюць, што паміж беларусамі праваслаўнымі і каталікамі ў тым часе панавала ў гэтым пытанні поўная згода. З другога боку, яны супярэчаць вучэнню Грэцкай і Маскоўскай праваслаўных цэркваў, паводле якога ператварэнне адбываецца ў часе г. зв. эпіклезісу, або прызывання Святога Духа, якое святар робіць пасля вымаўлен-

ня слоў Хрыстовых. У сувязі з гэтым варта прывесці цікавае выясненне значэння эпіклезісу ў беларускіх «Малітвах»: «Тут абысмося Збавенных таин годне причастили, священник Духа Святого призывает, мовячи: И сотвори хлеб убо сей честное Тело Христа твоего; а еже в чаши сей честную Кров: якоже быти причащающимся нам во трезвеніе души, во отпущеніе грехов, абысмося не для осужденія, але для спасенія Спасителем посиляли».

«Малітвы пры святой літургіі» з’яўляюцца адным з апошніх беларускіх старадрукаў і таму маюць даволі вялікую цікавасць для мовазнаўцаў. Мова твора мае шмат паланізмаў. З другога боку, у ім адчуваецца ўплыў царкоўнаславянскай мовы большы, чым у помніках беларускага пісьменства XVI і пачатку XVII ст. Відаць, па меры таго як беларуская мова траціла грунт на карысць польскай у сферы грамадскага ўжывання і аставалася толькі ў рэлігійным ужытку, яна пачала зноў падпадаць пад уплыў царкоўнаславянскай, якая была для яе ўзорам.

Поўны тэкст «Малітваў пры святой літургіі» паводле «Паўустава» 1695 г., які захоўваецца ў бібліятэцы Упсальскага ўніверсітэта, будзе перадрукаваны на старонках «Божым шляхам». З прычыны даволі вялікай даўжыні твора яго прыйшлося падзяліць на часткі.

Мова помніка астаўлена без змен. З практычных прычын аказалася немагчымым перадаць усе графічныя асаблівасці арыгінала. У прыватнасці, прыйшлося адмовіцца ад перадачы розных форм *о*, *у*, *я*, і літара *ѣ* («*яць*») усюды заменена літарай *е*. Цвёрды знак захаваны толькі ў сярэдзіне слова і ў прыстаўках, але не ў канцы. З другога боку, усюды захаваныя *ґ* і *г*, якія адказваюць лацінскім літарам *g* і *h*. Для выгоды чытачоў былі расчыненыя ўсе скарачэнні (цітлы). Даволі шматлікія фатаграфічныя рэпрадукцыі даюць добрае паняцце аб графічных асаблівасцях арыгінала.

## Молитвы при святой литургіи

Входячи в Церковь, мов набожне тую молитву:

*Возвеселихся о рекших мне, в дом Господен вніидем. Аз же множеством милости твоея, внійду в дом твой, и поклонюся ко Церкви святей твоей в страсе твоем. Господи настави мя правдою твоею, враг моих ради исправи пред собою путь мой. Да пославлю едино Божество Отца и Сына и святаго Духа, и ныне и присно и во веки веком, Аминь.*

А станувши пристойне на своем местцу, клади на себе знак Креста святаго, и кланяйся трикроть мовячи:

*В имя Отца, и Сына и Святаго Духа, Аминь.*

А потом трикроть бючися в перси з скрухою сердечною, мов:

*Боже милостив буди мне грешному. Боже очисти грехи моя и помилуй мя. Без числа согреших Господи, прости мя.*

И зараз ним почнетъся Святая Литургія, мов тую молитву з скрухою сердечною:

Молитва пред зачатіем Святыя Литургіи.

*Господи Іисусе Христе, иже еси щедр и милостив всем призывающим тя истинно, тебе молюся, и тебе милися дею, сподоби мя со тщаніем и любовію и страхом, Даже да конца Божественныя службы пребыти, и сокрушенным сердцем и чистою совестію молитися тебе милосердному Богу. Ей Господи Царю, услыши мя начинающа призывати тя, и даруй ми оставленіе всех моих грехов. Яко един благословен со Отцем и со Святым Духом во веки, Аминь.*

А гды священник, от взываня святой Троици починаючи святую Литургію, мовит:

*Благословенно Царство Отца и Сына и Святаго Духа*

Ты яко з наболшим набоженьством, положивши на себе знак Креста святаго, поклонися мовячи:

*Аминь.*

Тут же с пилностю и набоженством розмышляй, и припоминай себе раду оную таемную предвечную, Бога в Троици святой единаго, которая была о направе народу людскаго, за поводом справедливости и милосердія Божого, и которая потомься на сконченю веков втеленіем Сына Божого открила, а роэмышляючи мов тую молитву:

*Боже, Боже мой, призри на мя грешнаго, и исправи молитву уст моих, отжени помыслы скверныя от сердца моего, и просвети ми ум светом твоего богоразумія. Приклони ухо твое и услыши мя молящатися, и твоея сильныя милости чающа. Яко ть еси Бог мой, пред тобою в дому твоем молитвеннем вопію, укрепи мя и вразуми Боже щедрый во страсе твоем, Аминь.*

Потом слухай з пилностю ектеніи от Діякона албо от Священника отправуючихъся, и Антифонов на хоре читаных албо спеваных. И розмышляй набожне, як Отцы святыи в аде будучіи пред пристем Христовым, надеею пристя его упевненыи, молилися, а уставичные воланя, и плачевные голосы, о выбавене свое до Бога выпущали: и тут собе, и ближним милосердія и ласки у Бога просячи, мов з хором: Господи помилуй.

Гды зась на втором Антифоне спевают, Единородный Сыне: набожне розмышляй, як Архангел Гавріил з неба до Пречистой Панны зшедши, Благовестил Сына Божаго почате, як Сын Божій з Духа Святаго и з крве ей Паненской над прирожене и над поняте розуму людъского, тело на себе принял, як весело Аггелы при нароженю Христовом спевали: як з людми Христос збавитель жил, и як для нас умерл. Розмышляючи зась спевай з хором або читай тую песнь на Шестом Соборе противко теопасхитом, албо треклятым арменом зложеную.

*Слава Отцу, и Сыну, и Святому Духу, и ныне и присно, и во веки веком, Аминь. Единородный Сыне, Слове Божій, безсмертный сый изволивый спасенія нашего ради воплотитися от святыя Богородица и присно Девы Марія: непреложно вочеловечивыйся. Распныйся Христе Боже: смертію смерть поправый. Един сый Святыя Троица, спрославляемый Отцу и Святому Духу спаси нас.*

Гды блаженна хор читает албо спевает, и ты оные читай, Смотри выше на Карте 101. А приводи себе на память, и розмышляй до як великих благословенств нас приводять цноты и выполнене Приказаній Божіих, як до того великіе заплаты в небе справило присте Христово, волю его полнячим и его наследуючим. Тут же проси, абы дал и тебе ласку свою до выполненя воли его, мовячи тую молитву

Молитва егда блаженна чтутъся.

*Господи Іисусе Христе Боже наш, предавый сам спасительная твоя повеленія и заповеди, и тех исполненіем блаженства небеснаго воспріятія всем любящим ты обещавый: смиренно молю тя, да и мене недостойнаго и лениваго раба твоего, благодати твоея трезвеніем и бодростію, к действительному тех сполненію, возставиши, грехов моих мглу разганяя: и сподоби мя части блаженных в царствіи небесном, со благоугодившими тебе воспріяти: молитвами пречистыя ти Матере и всех святых, Аминь.*

Гды зась по Блаженных Священник малую процесію. албо вход з Евангеліем, тихо идучи чинит, а входячи до Олтаря мовит: Премудрость прости. Положи на себе знак Креста святаго и поклонися. А тут зараз розмышляй и на память себе приводи, як присте Збавителя нашего на тот свет, и детинство его в молчанію было, аж до Іоанна Крестителя, который его палцем указал, мовячи: Ото тот ест Баранок Божій, который гладит грехи всего света. И присте его на тот свет людем сведчил. Розмышляй теж и то тут же, яко Пан от Іоанна во Іордане окрестившися, Науку

свою Бозскую людем проповедати почал. И набожне мов тую молитву:

Молитва на входе со Евангеліем, егда Діякон, или Священник глаголет: Премудрость прости.

*Господи Іисусе Христе Боже наш, иже вход со святым твоим евангеліем, мене грешнаго ныне видети сподобивый, возри на мя человеколюбче, и умилосердися, яко да поминаяй святыя твоя заповеди, право сохраняю я, и достоине воспою. Пріидете поклонемся, и припадем ко Христу. Спаси нас Сыне Божій, воскресый из мертвых, поющих ти, Аллилуя.*

Гды зась зачинают спевати Святый Боже: Розмышляй, як великая радость была на небе Аггелом, гды през науку збавителеву до поедναняся з Богом, и до познаня его в Троици святой славимаго люде приходити почали. И як за тое славили песнми всесвятую и нераздельную Троицу, як и тепер радуются и славят Бога з наверненяся нас грешных. Припоминай теж и волане Отцов святых в аде бывших, з якою горачостю до Бога было, гды от святого Симеона Богопріимца, от Іоанна Крестителя и от инших святых, о пристю Панском доведали. И набожне мов тую молитву:

*Господи Боже вседержителю, приемляй от небесных твоих сил трисвятую песнь, пріими и от мене недостоинаго раба твоего имя рек трисвятое пеніе: и даждь ми вся лета живота моего и на всяк час без греха тебе славу возсылати, Отцу и Сыну и Святому Духу, ныне и присно, и во веки веком, Аминь.*

А потом, ним Прокимен проспевают. Читай тую Молитву, розмышляючи, иж все фигуры, таемницы, обряды, и пророцтва старозаконные, которые слабые до збавеня, и тенем пришлых евангелских таемниц были, и до Іоанна Крестителя толко трвали. А гды Збавитель наш пришол, Апостолов святых выбрал, для збавеня нашего, для проповеди Евангеліи на весь свет послал, и през них людей до познаня своей правды приводил.

Молитва пред чтеніем Апостола.

*Сподоби мя Господи, любезне и достойне слышати Апостол твоих благовестіе, благовествующих нам мир, благовествующих добрая. И явленіем словес твоих, да просветиться и вразумится дух мой, Аминь.*

Затым слухай з пилностю читаня Апостола, а по Апостоле гды спевати починают Аллилуія, зараз читай тую молитву: размышляючи, як великая радость бывает на небе Аггелом, з наверненя людій, до познаня Бога и правды его, през збавенную от святых Апостолов розсеянную евангелскую веселую науку.

Молитва по скончаніи Апостола, гды спевают Аллилуія.

*Тебе хвалу возсылаюче, пресвятая и неразделимая Троице: Отче и Сыне и Душе святый, поем вси, Аллилуія. И молимтися, исцели вся недуги наша, душевныя и телесныя, да здрави суще поем тебе Богу нашему, Аллилуія. Троице пресущественная, и пребожественная, и предобрая, христіяном дателю премудрости. Исправи нас, да достойно хваляще тя, поем, Аллилуія. Троице живоначальная Господи Боже наш: избави нас смерти вечныя, и сподоби со всеми праведными пети тебе, Аллилуія. Троице долготерпеливая, и многомилостивая, дажд грехом нашим оставление, даруй живот вечный, да поем ти во веки Аллилуія.*

Слухай потым пильне з великим набоженством и уваженем читаня Святого Евангелія: розмышляючи, якіе Пан і Збавитель наш працы и фатиги подыймовал, уставичныи казаня и науки збавенные до людей чинячи, и як з людми тут живучи з себе самого им приклад до всех цнот и побожностіи подавал.

По евангеліи зась поклонившисе набожне мов з хором: Слава тебе Господи. И зараз читай тую молитву:

Молитва по евангеліи.

*Слава тебе господи цару Сыне Бога живаго, иже глагол святаго твоего евангелія слышати мене недостойнаго сподобивый. Сим Владычним твоим гласом укрепи мене во обращеніи и покаяніи препровождати нощ настоящія жизни, от всякаго избавляяй мя навета, и злобы, видимых и невидимых враг. Ты бо еси един силный и царствуяй во веки, Аминь.*

А потом слухай ектеніи которые Іерей, албо Діякон отправуют, и розмышляй чуда розные збавителевы, которые он будучи на земли чинил през лет полъчварта.

Гды зась херувімскую песнь спевати начнут, розмышляй хвалебное пред смертю и пред таемною вечерою Збавителево до Іерусалима на ослици в'ехане, от детей жидовских привитане, радость и спеване, которого на присте Панское заживали. А то розмышляючи, тую набожне читай молитву:

Молитва егда поют Херувимскую песнь.

*Ныне видяще душе моя честныя и преносимыя дары, отверзи вся помышленія суетная и воспой: Иже херувими тайно образуем, и животворящей Троици трисвятую песнь приносим, всяку ныне житейскую отвержем печаль; яко Царя всех подъемлющіи аггелскими невидимо дориносима чинми, Аллилуіа. Слава ти, Господи Іисусе Христе Боже наш, едине безсмертне человеколюбче. Слава ти от Отческих недр от небесныя славы пришед-*

*шу, и от святыя Девы вочеловечшуся, и сообразну бывшу телесе смиренія нашего, да нас сообразны славы твоея сотвориши. Слава ти вшедшему славно во 1ерусалим на жребяти осли, и в нем раны и распятіе претерпети изволившему спасенія ради нашего. Дажд ныне, Хрысте, слезы очію моею, да очищу скверну беззаконій моих. И яко сподобил еси Іосифа со Никодимом пречистое твое тело сонемши с креста со страхом нести, тако и мене днесь видяща честныя и освященныя дары преносимыя, сподоби тебе седящему на престоле величествія на небесех со страхом поклонитися, и за вся смотренія и благоволенія твоя достойно благодарите, и воздыхаяй исповедатися тебе Спасу и Богу моему. Тыже, милостиве, сія пріим от мене, конец благ даруй ми и сподоби мя в день судный одесную тебе стати и слышати глас твой глаголющій: Пріидете благословенными Отца моего, наследуйте уготованное вам царство. Аминь.*

А гды выходит священник з олтаря з божественными Дары, чинячи великую процесию и мовечи: «Всех вас православных христіан да помянет Господь Бог в царствіи своем», поклякнувши коленами на землю, розмышляй, яко жидовскіе дети едны рожчки палмовые и оливные, а другіе сукни свои постилали под ноги Христовы, и песни ему вдячные приносили, волаючи: «Осанна, благословен грядый во имя господне, Царь Ізраилев». Потым гды юж входити мает священник в олтар, поклонися головою до земли, показуючи болшую над оных ку Христу Збавителю милость и покору: ты же не сукню, а ни рожчку, як они, але самого себе душею и телом под ноги Пану подстилаеш, который для тебе доброволне муки терпети и смерть подняти до Іерусалиму в'ехал. И туж набожне з скрухою сердечною тую мов молитву:

Молитва, егда преносятся честныя дары; поклонився до земли глаголи:

*Тебе поклоняюся, Господи Іисусе Христе, и к тебе припадаяй молюся, разсып бремя грехов моих. И яко разбойника оправдал еси единою возопивша тебе: «Помяни мя, Господи, во царствіи своем», и мене помяни, Боже, безпрестани вопіюща тебе, и тояжде части сподоби, яко благій человеколюбец. Аминь.*

По вейстю зась священника з святыми дарами до олтара, мов тую молитву:

Молитва по пренесеніи святых даров.

*Владыко Господи Іисусе Христе, твоего ради страданія и ради крестнаго распятія и погребенія, не остави мене во гресех погибнути, зане зело грешен есм. Но по множеству щедрот*

*твоих очисти вся беззаконія моя, и покрый мя своим заступленіем, без напасти преводити живот мой и радости святых причастника мя быти сподоби, яко благій человеколюбец. Аминь.*

Гды зась священник албо діакон мовит: «Двери, двери, премудростію вонмем», ведай жеся юж до вызнаня правды и отриманя ласки двери отворыли; а отворилися не ким иншим, тылко самою Премудростію Божіею, самым предвечным предвечного Отца Сыном, Христом Спасителем, гды не утративши того чим был, Бозства, принял зе крви Пречистой Панны, чым небыл, чловеченство, и мешкаючи з нами, як один з нас, старозаконную раздерл завесу, и оттворил двери до познаня и вызнаня себе самого, яко Апостол в Деяніях, глава 14, мовит: «Бог отверзе языком двер веры». Затым: «Вонмем», то есть уважаймо, жеся юж премудростію небесною двери отворили, юж ся вызнане вери оголосило. И мы теды дверь сердец наших на приняте нам поданой для збавеня нашего правды отворимо, читаючи згодне: «Верую во единаго Бога», и прочая. А по пречитаню очекивай далших таемниц, стоячи со страхом, и мов тую молитву:

Молитва по исповеданіи веры.

*Утверди мя, Господи, в сей истинней вере юже исповедах, и дажд ми вся долняя возненавидевши, горе к тебе имети сердце, и достойно хвалити всесвятое имя твое,Отца и Сына и Святаго Духа, ныне и присно и во веки веком. Аминь.*

Гды священник молчком молитвы отправует, розмышляй яко Пан молитвы з крвавым потом в огродку отправовал. А гды мовит: «Победную песнь поюще, вопиюще, взывающе, и глаголюще», розмышляй як окрутные жолнере Пана хвалы, которому аггелы служат и з страхом его выхваляют, поймали, звязали и бючи през поток Кедровый и през розные улицы провадили; кривды до того, потвари, зелживости, якіе Пан на розных местцах и судах утерпел, то ест до Анны проважене и там поличковане, так теж до Каіафы вожене, по закрытом лицу поличковане, плеване и през всю ноч прикростей выряжене; як потом Пана скоро день до Пилата, до Ірода проважено, и от того знову до Пилата, который его казал бичовати, з острого терня венцем короновати, и з крестом на Голгофу провадити на укрыжоване. Притом зась розмышляй а читай набожне молитву тую:

Молитва внегда возглашает священник «Победную песнь».

*Собор святых аггел и архаггел со всеми небесными силами поет тя и глаголет: «Свят, свят, свят Господь Саваоф, исполнь небо и земля славы твоея; осанна во вышних, благословен грядый во имя Господне, осанна во вышних». Спаси мя иже во*

*вышних царю, спаси мя, источниче освященія, от тебе бо вся тварь укрепляема ест. Тебе безчисленніи чинове небесніи со трепетом кланяющеся непрестанно трисвятую песнь поют. Тебе и аз недостойный седащему во свете неприступнем, его же ужасаются всяческая, молюся: ум мой просвети, сердце очисти и устне отверзи, яко да достойно возмогу тебе пети: «Свят, свят, свят еси, Господи, в безконечныя веки веком. Аминь».*

А гды мовит священник слова Христовы: «Пріимете и ядете, сіе ест тело мое» і прочая, ты, розмышляючы набожне, яко Пана и Избавителя на кресте нелитостиве жидове ростягнули и прибили, ведай же по вымовлению тых слов от священника, непонятым человекови способом хлеб над которымся то мовить на дискосе положенный, юж не есть хлебом далей, але пренайдорожшим зостает телом Христовым. И туж зараз мов той тропар:

*Аминь. Верую, Господи, и исповедую, яко ты еси Христос, Сын Бога живаго, пришедый в мир грешных спасти, от них же первый есм аз.*

Гды зась мовит священник слова Христовы «Пійте от нея вси, сія ест кровь моя» и прочая, розмышляй, якося кровь святая з тела збавителевого выливала; ведай теж, же за тыми словы священническими вино в животворящую кров Сына Божого преистночается. И мов тую молитву:

Егда речет священник слова Христовы: «Пійте от нея вси, се бо ест кров моя».

*Вечери твоей тайней днесь, Сыне Божій, причастника мя пріими: не повем бо врагом тайны твоея, ни лобзанія ти дам яко Іюда, но яко разбойник исповедаяся вопію ти: «Помяни мя, Господи, во царствіи си».*

Потом зараз, гды священник на крест зложоными руками подносячи дискос и келих мовит: «Твоя от твоих тебе приносяще о всех и за вся», розмышляй яко Пан от окрутных оных жидовских катов з крестом был поднесенный, якося сам доброволне на олтарю крижовом для выбавеня народу людского з неволи діаволской оферовал Отцу небесному, якося и тепер от священника за грехи наши оферует. Мов тую молитву:

*Егда речет священник: «Твоя от твоих тебе приносяще». Тебе поем, тебе благословим, тебе благодарим, Господи, и молитимся, Боже наш. Дажд нам обрести благодать и милосердіе у тебе. Покажи твоя многія щедроты на нас, да не постыдимся на судищи твоем. Не отлучи нас стоянія онаго, одесную тебе стати, яко твоя держава во веки. Аминь.*

А гды священник мовит: «Изряднее о Пресвятой Чистой (или со Пресвятою Чистою)», и прочая, розмышляй яковыя болести мела Пречистая Панна, гды под крестом стоячи на укрыжованого Сына своего смотрела, и просячи ей о причину и о молитвы до него, читай набожне тую молитву:

*Молитва по выреченю тых слов: «Изряднее» и прочая. Богородице Дево радуйся, обрадованная Маріе, Господь с тобою, благословенна ты в женах и благословен плод чрева твоего, яко родила еси Спаса душам нашим. Радуйся, едина Пречистая Мати единаго Содетеля Господа Бога и Спаса нашего Іисуса Христа, и буди ми ходатайца в день страшнаго суда, егда предстану пред нелицемерным судом, яко да огненнаго грознаго прещенія избавлюся молитвами твоими, едина благословенная.*

Тут абысмося збавенных тайн годне причастили, священник Духа Святаго призывает, мовячи: «И сотвори хлеб убо сей честное тело Христа твоего, а еже в чаши сей честную кров; якоже быти причащающимся нам во трезвеніе души, во отпущеніе грехов, абысмося не для осужденія, але для спасенія Спасителем посиляли. Гды зась священник мовит: «Во первых помяни, Господи», и прочая, за належитым собе пастырем проси Бога, затым мов тую молитву:

Молитва по внегда речет священник: «Во первых помяни, Господи, имя рек».

*Архіерею вечный Христе Боже наш, прилежно ти молюся, твоим вышним благословеніем архіерея нашего (имя рек) благослови, утверди, укрепи, миром огради, и святой твоей церкви цела, здрава, честна, долгоденствующа и право правяща слово твоея истины даруй, от всех же сопротивленій видимых и невидимых врагов всегда милостивне избави.*

Потом слухаючи пилно ектеніи от діакона албо от священника мовленой, розмышляй яко незбожные жидове и погане Збавителя на кресте висячого блюзнили и емуся наругали.

*1970*



## КНІГА СКАРЫНЫ Ў КАПЕНГАГЕНЕ

У чэрвені гэтага года наведаў Бібліятэку імя Францішка Скарыны ў Лондане прафесар Габрэйскага ўніверсітэта ў Іерусаліме Мошэ Альтбаўэр. Ён паведаміў, што бачыў у Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене невядомы да гэтага часу экзэмпляр «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны. Гэтая вестка выклікала зразумелае зацікаўленне, і кіраўніцтва Бібліятэкі імя Францішка Скарыны пастаралася адразу дастаць мікрафільм кніжкі.

«Малая падарожная кніжка», гэты своеасаблівы малітоўнік для свецкіх людзей, належыць да віленскага перыяду дзейнасці Скарыны. Сярод даследчыкаў жыцця беларускага першадрукара, пачынаючы ад Уладзімірава, замацаваўся погляд, быццам гэтая кніга была ягоным другім — і апошнім — віленскім выданнем пасля «Апостала» 1525 г. Толькі зусім нядаўна, у 1959 г., расейская вучоная А. С. Зярнова, на аснове параўнання стану заставіц у абедзвюх кнігах, выказала думку, што «Апостал» быў пазнейшым выданнем і што трэба аднесці «Малую падарожную кніжку» да 1523–1524 гг. Усё гэта, аднак, былі меркаванні, правільнасць якіх было немагчыма спраўдзіць пры адсутнасці канкрэтных доказаў. Малая падарожная кніжка захавалася ў дрэнным стане, і ва ўсіх вядомых да апошняга часу экзэмплярах не хапала «Пасхаліі», пры дапамозе якой было б можна вызначыць год выдання. Сам Скарына ў пасляслоўях да розных частак кнігі нічога пра дату не гаворыць.

Капенгагенскі экзэмпляр «Малой падарожнай кніжкі», як і ўсе іншыя вядомыя экзэмпляры, некамплектны*. З пяці раздзелаў кнігі захаваліся толькі чатыры — «Псалтыр», «Часасловец»,

---

* Апісанне «Малой падарожнай кніжкі» (без «Пасхаліі») гл.: Коршунаў А. Кароткі каментарый да выданняў Францыска Скарыны // Скарына Францыск. Прадмовы і пасляслоўі. Мінск: Навука і тэхніка,

«Акафісты і каноны» і «Царкоўнае сабранне» (каляндар), — з якіх толькі першы і апошні з'яўляюцца поўнымі. Не хапае цэлага чацвёртага раздзела — «Шасцідзённіка», — а таксама трох апошніх лістоў са зместам кнігі. У першай частцы «Часаслоўца» няма ліста 18 з заканчэннем «Першага часу», а ў другой — чатырох пачатковых лістоў з «Канонам пакаяльным». Няма таксама першага ліста «Акафіста Багародзіцы» з гравюрай Дабравешчання і — як выглядае з мікрафільму — апошняй часткі Евангелля паводле Яна пасля «Акафіста Крыжу».

Нягледзячы, аднак, на сваю некамплектнасць, капенгагенскі экзэмпляр «Малой падарожнай кніжкі» з'яўляецца ўнікальным, бо ў ім адным захаваўся поўнасцю апошні, каляндарны, раздзел з «Пасхаліяй», якую да апошняга часу лічылі згубленай. Раздзел складаецца з 20 лістоў з асобнай пагінацыяй. На пярэдняй старонцы першага ліста замешчаны ў рамках наступны загаловак: «Последование церковнаго собърания въселетънаго от месеца сепътеврия до месеца августа по въставу Ерусалимъское церкви», Каляндар нерухомых святаў (г. зв. «святцы») пачынаецца на адвароце першага ліста і канчаецца на пярэдняй старонцы трынаццатага. На адвароце трынаццатага ліста знаходзіцца прадмова да «Пасхаліі», а далей да канца ідзе сама пасхалія на гады 1523–1543. Раздзел канчаецца наступным пасляслоўем, замешчаным у самым нізе на адвароце дваццатага ліста: «Доконаны суть сие вократце светци и поскалия, доктором Франциском Скориною, во славном месте виленском».

Вось пачатак «Пасхаліі» з весткамі на 1523 год*:

«В лето 7 тысещ 31, круг солнцу 3, луне 1, Рож[е]ство Хр[и]ст[о]во в чет[вер], лет по нарожении Хр[и]ст[о]ве полторы тысещи 23, индик[т] 11, мяса ясти 6 недел[ь] 4 дни, триодь нач[инается] ген[варя] 25, мясоп[у]ст фев[раля] 8, 40 муч[еников] 4 недели посту в понеделок, Благовещ[ение] в среду 6 недели посту, Хр[и]стиа[нская] пасха април[я] 5, Георгия в четвер 3 недели по пас[це], воступление на небеса Г[о]с[по]дьне 14 маія, сошествие Св[е]т[а]го Духа 24 маія, Петров мяс[опуст] 31 маія,

---

1969. С 222–232; Тумаш В. Бібліяграфія скарыніяны // Запісы / Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Мюнхен, 1970. № 5. С. 196–197.

* Словы, напісаныя ў Скарынавым тэксце ў скарочаным выглядзе, падаюцца поўнасцю. Даданыя часткі, якіх няма ў арыгінале, узяты ў квадратныя дужкі. Пры перадачы Скарынавых тэкстаў захаваны правілы, прынятыя А. Коршунавым (гл. Скарына Францыск. Прадмовы і пасляслоўі. С. 5).

Петрова посту 4 неде[ли], Петра в понеделок. Гибель месеца всего будеть 1 дня марта пол 9 годины по полудни. Другая гибель всея луны августа 25, по полнощи 3 годи[ны]».

Апрача гэтага, пачынаючы ад 1524 года, Скарына падаваў спачатку, ці даны год быў высакосным («лето преступное или висекст»), а калі не, то каторым ён быў на парадку пасля высакоснага.

Як відаць з вышэйпрыведзенага тэксту, «Пасхалія» Скарыны была своеасаблівым календаром, дзе чытач, побач з датамі Вялікадня і іншых рухомых святаў і звязаных з імі пастоў, мог знайсці весткі пра дні тыдня, у якія ў даным годзе выпадалі некаторыя важнейшыя нерухомыя святы, а таксама пра розныя астранамічныя з'явы, як зацьменне сонца ці месяца.

Найбольш цікавыя астранамічныя весткі на 1524 г.:

«Сего году не будеть гибели солнца или месеца, но будеть соштие всех седми звезд блудящих во знамени небесном в рибах, они же напотом, естли Господь Бог допустить, великое пременение царств, законов, людей и всех на земли и во водах родящихся быти знаменують, яковое ж предтым не бывало».

У 1530 г. павінна было быць частковае зацьменне сонца:

«Гибель всего месеца будеть октоврия 16 дня, шестое годины по полнощи. Другая гибель солнца, большая половина, 28 марта, пол 6 годины пред полуднем».

Для азначэння гадоў у «Пасхаліі» Скарына ўжывае, побач з летазлічэннем ад нараджэння Хрыста, традыцыйнае летазлічэнне «ад стварэння свету». Наогул ён прытрымліваецца тут традыцыйнага ўсходняга царкоўнага календара, паводле якога новы год пачынаецца не 1 студзеня, а 1 верасня. Такім чынам, Скарынаў 1523 год адпавядае, паводле сёння агульнапрынятага летазлічэння, перыяду ад 1 верасня 1522 г. да 31 жніўня 1523 г.; а Каляды 1523 г., весткай пра якія пачынаецца «Пасхалія», — Калядам 1522 г. «Малая падарожная кніжка» павінна была выйсці з друку перад гэтай апошняй датай, бо інакш вестка пра Каляды 1522 г. была б неактуальнай. З другога боку, Скарына, напэўна, не выдаў яе ў 1521 г., бо тады ён замясціў бы ў «Пасхаліі» весткі на 1522 г. Трэба таму думаць, што «Малая падарожная кніжка» была выдадзена ў 1522 г., хутчэй за ўсё перад 1 вераснем, г. з. перад новым царкоўным годам*.

---

* Год 1522 адносіцца да цэлай кнігі. Вельмі магчыма, што некаторыя яе часткі — у прыватнасці, «Псалтыр» і «Акафісты» — Скарына выдаў раней асобна, а пасля злучыў іх у адно цэлае. На карысць такога погляду

Дзякуючы знаходцы ў Капенгагене сёння ўжо вядомы поўны тэкст «Малой падарожнай кніжкі» і вырашана канчаткова пытанне храналогіі Скарынавых выданняў. Цяпер ужо можна з пэўнасцю сказаць, што «Малая падарожная кніжка», а не «Апостал», была першым выданнем Скарыны ў Вільні. Такім чынам, у біяграфіі беларускага першадрукара стала адной «белай плямай» менш.

***1971***

## ПАДРУЧНІК ФЁДАРАВА І СКАРЫНА

Імя маскоўскага друкара Івана Фёдарава цесна звязана з гісторыяй кнігадрукавання сярод усходніх славян. Пачаў ён сваю друкарскую дзейнасць у Маскве, дзе ў 1564 г. разам з беларусам Пётрам Мсціслаўцам выдаў кнігу «Апостал». Пасля ён прадаўжаў сваю працу ў Беларусі ў Заблудаве і, нарэшце, на Украіне — у Львове і Астрозе. Між іншым, Фёдараву належыць заслуга выдання першага сярод усходніх славян падручніка для навукі чытання. Кніга гэтая, выдадзеная ім у Львове ў 1574 г., была доўгі час невядомай у славянскай бібліяграфіі. Толькі ў 1955 г. Джэкабсан апісаў і перавыдаў фатаграфічным спосабам адзіны экзэмпляр падручніка, які знаходзіцца ў бібліятэцы Гарвардскага ўніверсітэта*.

Падручнік Фёдарава з'явіўся ў часе, калі праваслаўнае грамадства ў Беларусі і на Украіне, занепакоенае поступамі пратэстанцкай рэфармацыі і каталіцкай контррэфармацыі, пачало ўсведамляць сабе патрэбу і карысць асветы. Пачалі паяўляцца школы, закладчыкамі якіх былі спачатку адзінкі, як князь Астрожскі, а пасля праваслаўныя брацтвы ў Вільні, Львове і іншых гарадах. З ростам ліку школ узрастала таксама запатрабаванне на падручнікі, і кніга Фёдарава не толькі хутка разышлася, але

---

гаворыць тое, што многія часткі «Малой падарожнай кніжкі» маюць свае тытульныя лісты, пасляслоўі і незалежную пагінацыю. (Больш пра гэта гл.: Коршунаў А. Літаратурна-публіцыстычная спадчына Францыска Скарыны // Скарына Францыск. Прадмовы і пасляслоўі. С. 192.)

* Ivan Fedorov's Primer / Facsimile Edition with Commentary by Roman Jakobson and Appendix by William A. Jackson // Harvard University Bulletin. IX. 1 (Winter 1955). Таксама асобным адбіткам. (Далей цытуецца як Jakobson.)

таксама перавыдавалася з невялікімі зменамі некалькі разоў на працягу XVI ст.

Кніга Фёдарава была падручнікам для навукі царкоўнаславянскай мовы. Змест яе сёння ўжо добра вядомы*. Спачатку ідзе алфавіт, далей практыка чытання па складах, кароткія весткі з граматыкі, арфаграфіі, нарэшце, малітвы і тэксты для чытання. Гэтыя тэксты з'яўляюцца своеасаблівым павучэннем для вучняў і бацькоў. Яны скампанаваны з выбраных вершаў з «Прыпавесцяў Саламона» (раздзелы 22, 23, 24 і 29) і пасланняў св. Паўла (да Эфэсцаў, Каласаяў і Першага паслання да салунянаў). Ужо Джэкабсан звярнуў увагу на тое, што рэдакцыя «Прыпавесцяў» у падручніку значна адрозніваецца ад тэкстаў у «Астрожскай Бібліі»**. Як вядома, мова «Астрожскай Бібліі», выданай тым самым Фёдаравым у 1581 г., была тыповай царкоўнаславянскай мовай XV–XVI стст. у яе ўсходнеславянскай рэдакцыі. У 1961 г. В. Лук'яненка, вывучаючы крыніцы падручніка Фёдарава, параўнала тэксты «Прыпавесцяў» у падручніку з адпаведнымі месцамі ў Бібліі Францішка Скарыны, аднак не змагла зрабіць канкрэтных канчатковых высноваў. Паводле яе, «обнаруживается совпадение фразеологических оборотов, характерных для обоих памятников. Тем не менее полного редакционного тождества не наблюдается»***.

Адным з дапаможнікаў, якім карыстаўся Скарына пры падрыхтоўцы свайго перакладу, была чэшская Біблія, выдадзеная ў

---

* Вось найважнейшая літаратура аб падручніку Фёдарава, апрача вышэйпрыведзенай працы Джэкабсана: Лукьяненко В. И. Азбука Ивана Федорова, ее источники и видовые особенности // Труды отдела древнерусской литературы. XVI. М.; Л.: АН СССР, 1960. С. 208–229; Ботвинник М. В. У истоков учебной книги. Минск: Вышэйшая школа, 1964. С. 25–43; яго ж: «Азбука» Ивана Федорова — источник просвещения восточнославянских народов в XVI–XVII вв. // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белорусии. Минск, 1970. С. 150–167 (АН БССР. Фундам. бібліятэка імя Я. Коласа). Звычайна падручнік Фёдарава называюць «азбукай», а часам «букваром». Сам Фёдараў не даў ніякага тытула сваёй кнізе, якая нават не мела тытульнага ліста. Першы раз у тытуле слова «азбука» было ўжыта ў кнізе «Часовник, в нем же напреди азбуки к наученію детем хотящим разумети писаніе», выдадзенай у Вільні ў 1596 г. Адзіны вядомы экзэмпляр гэтай кнігі знаходзіцца ў бібліятэцы Trinity College у Кембрыджы. Слова «буквар» у тытуле пачало ўжывацца толькі ў XVII ст.

** Jakobson. С. 25.

*** Лукьяненко. С. 223.

Венецыі ў 1506 г.*. Уплыў яе адчуваецца ва ўсіх ягоных пражскіх выданнях. Вось для прыкладу ўрыўкі тэкстаў «Прыпавесцяў» з падручніка Фёдарава і Бібліяў Скарыны і чэшскай**:

*Падручнік Фёдарава 1574 г.*

Прып. Сал. 23

«(10–12). Не дотыкаися межеи чужих, и на поле сироты не въступуи, понеже мститель их силен есть, иже судити будет противу тебе кривду их. Да внидет къ наученію сердце твое, и уши твои къ словесем разума.

(15–19). Сыну мои, будет ли мудра душа твоя, радоватися будет с тобою сердце мое, и веселитися будут лядви мои, вънегда правду възглаголют уста твоя. Да не неследует сердце твое грешников, но в страсе Божіи пребуди весь день, будешь убо имети надежду въ последніи час, и чаяніе твое не отимется от тебе. Послушаи сыну и буди мудр, исправи мысль твою по пути правом».

*Скарына 1517 г.*

«Не дотыкаися межеи малых, и на поле сиротков не въступуи, понеже ближнии их силен ест, и он судити будеть противу тобе прю их. Да внидет ко научению сердце твое, и уши твое ко словом умения.

Сыну мои, будеть ли мудра душа твоя, радоватися будеть с тобою сердце мое, и веселитися будуть лядви мое, внегда правду возглаголють уста твоя. Да не наследуеть сердце твое грешников, но в боязни Божиеи пребуди вес день, будеш убо имети надежу во последнии час, и ожидание твое не отимется от тебе. Послухаи сыну и буди мудр, и съправуи мысль твою по пути правом».

---

* Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык. СПб., 1888. С. 128–171; Флоровский А. В. Чешская Библия в истории русской культуры и письменности // Sbornik filologicky. XII. Praha, 1940–1946. С. 166–186.

** Пры перадачы тэкстаў Скарыны і Фёдарава прыняты ў галоўным правілы, выпрацаваныя А. Коршунавым (гл. яго: Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск, 1959. С. 3–4). Літара ъ («цвёрды знак») захавана ў сярэдзіне слова, пасля прыставак і пасля прыназоўнікаў *в*, *к*. У канцы слова яе напісанне не падаецца. Літары *і*, *и* захаваны без змен.

*Чэшская Біблія 1506 г.*

«Ne dotykayse mezij maliczkich, a na pole syrotkom ne wkraczey, ne bo przijbuzny gich gestit’ naysylnieyssij, a on to suditi bude proti tobe przy gich…

…a ussy twe k slowom umenije.

…ale bude cely den w bazni Božye».

Той самы тэкст у «Астрожскай Бібліі» пачынаецца наступным чынам:

«Не прелагаи предел вечных, въ стяжаніе сиротам не вниди, избавляя бо их Господь крепок естъ, и разъсудит суд их с тобою. Даждь въ наказаніе сердце твое, уши же свои уготоваи словесем чювьственным».

З вышэйпрыведзеных прыкладаў можна бачыць, што ўкладальнік тэкстаў у падручніку Фёдарава карыстаўся скарынінскім выданнем і толькі часткова змяніў мову Скарыны, стараючыся прыблізіць яе да царкоўнаславянскай. У прыватнасці, ён змяніў тыя месцы, дзе ў Скарыны асабліва адчуваўся ўплыў чэшскай Бібліі.

Да выхаду ў свет «Астрожскай Бібліі» ў 1581 г. кнігі Старога Запавету ў царкоўнаславянскім перакладзе існавалі толькі ў рукапісных спісках. Усе яны, за выняткам Псалтыра, былі вельмі рэдкімі. Таму вельмі магчыма, што ўкладальнік тэкстаў у падручніку Фёдарава не меў пад рукою царкоўнаславянскага экзэмпляра «Прыпавесцяў Саламона» і выкарыстаў больш даступнае выданне Скарыны.

Справа выглядае інакш з выбранымі тэкстамі з пасланняў св. Паўла. Усе яны ўзяты з кнігі, якая звычайна завецца «Апосталам». У адрозненне ад кніг Старога Запавету, гэта была адна з найбольш вядомых і распаўсюджаных царкоўных кніг, бо яна была патрэбная пры адпраўленні св. літургіі. Першы выдаў друкам «Апостал» Францішак Скарына ў Вільні ў 1525 г. Ягонае выданне было, аднак, прызначанае не для царкоўнага ўжытку, але для свецкіх людзей, і таму мова яго рознілася значна ад традыцыйнай царкоўнаславянскай. Іван Фёдараў першы выдаў царкоўнаславянскі тэкст «Апостала» ў Маскве ў 1564 г. Дзесяць гадоў пасля, у 1574 г., ён перавыдаў яго ў Львове. Тэкст абодвух выданняў, калі не лічыць нязначных арфаграфічных розніцаў, ідэнтычны. Паколькі ў тым самым 1574 г. Фёдараў выдаў таксама падручнік, дык можна было думаць, што пры ўкладанні тэкстаў для чытання ён выкарыстаў свой «Апостал».

Параўнанне, аднак, паралельных тэкстаў паказвае, што маецца справа з дзвюма рознымі, хоць блізкімі, рэдакцыямі, як можна бачыць з наступных прыкладаў:

*Падручнік Фёдарава (Львоў, 1574 г.)*

«(Эф 6, 4). Отцы не раздражаите чад своих, но въспитаите их въ наказаніи и ученіи Господни, въ страсе Божіи…

(Кал 3, 13–16) …приемлюще друг друга, и прощеніе дарующе, аще кто къ кому пореченіе имать, яко же и Христос дарова нам, тако и вы. Надо всеми ж сими любовь яже есть съюз съвершенію, и мир Божіи да разделяется въ сердцых ваших, вънеже и звани бысте въ едіно тело, и благодарни бываите. Слово Христово да вселяется въ вас богатно, въ всякои премудрости учаще и наказующе себе въ псалъмех и пеніих, и песнех духовных, о благодати поюще въ сердцых ваших Господеви».

*«Апостал» Фёдарава (Львоў, 1574 г.)*

«Отцы не раздражаите чад своих, но воспитаваите их въ наказаніи и ученіи Господни…

…пріемлюще друг друга, и угажающе себе, аще кто на кого имать пореченіе, яко же и Христос угодил есть вам, тако же и вы. Надо всеми же сими стяжите любовь, яже есть съуз совершенства, и мир Божіи да въдваряется въ сердцых ваших, внеже и звани бысте въ еділно тело. Благодарни бываите. Слово Христово да вселяется въ вас богатно, въ всякои премудрости, учаще и вразумляюще себе самех въ псалмех и пеніих, и песнех духовных, о благодати поюще въ сердцых ваших Господеви».

Абодва тэксты значна розняцца ад паралельных месцаў у «Апостале» Скарыны:

«И вы отцеве не раздражаите чад своих, но воспитаите их в наказанніи и в наученіи Господнем… приемлюще друт друга и отпущающе собе аще кто на кого имать жалобу, яко же Господь отпустил грехи вам, тако и вы инем. Над все пак сие, любовь имеите, еже ест соуз совершению, и мир Христов да размножается во серцах ваших, о нем же и звани бысте во едино тело, о том и благодарни бываите. Слово ж Христово да вселиться в вас богатно, во всякои премудрости учаще и наказующе себе вокупе, во псалмех и во похвалах, и во песнех духовных, во благодати поюще в серцих ваших Господеви».

Лук'яненка паказала, што тэксты пасланняў св. Паўла ў падручніку Фёдарава амаль ідэнтычныя з тэкстамі ў рукапісных спісках «Апостала» ўсходнеславянскай рэдакцыі XV — пачатку XVI ст., г. зн. «дафёдараўскага» перыяду*.

З усяго вышэйсказанага выглядае, што, як заўважыў Джэкабсан яшчэ ў 1955 г.**, Фёдараў не быў укладальнікам павучальных тэкстаў у сваім падручніку, але выкарыстаў гатовыя ўжо тэксты, падрыхтаваныя некім іншым. Укладальнік карыстаўся скарынінскім выданнем «Прыпавесцяў Саламона» (або нейкім спіскам, зробленым з гэтага выдання) і рукапісным спіскам «Апостала» ў царкоўнаславянскай мове. Ён не ведаў фёдараўскага выдання «Апостала», і таму трэба думаць, што падбор тэкстаў быў зроблены перад 1564 г., магчыма нават у першай палове XVI ст. Можна было б паставіць пытанне, ці Фёдараў быў аўтарам усяго падручніка, ці толькі друкаром, але канчатковага адказу на яго сёння даць немагчыма. Хто б, аднак, не быў аўтарам фёдараўскага падручніка, для беларусаў ён цікавы, як яшчэ адзін доказ пашырэння выданняў Скарыны за межамі Беларусі і іхняга ўплыву на развіццё культуры сярод усходніх славянаў.

***1972***

---

* Лукьяненко. С. 224–225.

** Jakobson. С. 26.

## МАЛІТВЫ СКАРЫНЫ

«Малая падарожная кніжка» Францішка Скарыны, выдадзеная ім у Вільні ў 1522 г., была першым у Беларусі (і не толькі ў Беларусі) друкаваным малітоўнікам для свецкіх людзей. Невялікага размеру, кніжка, як сама назва паказвае, павінна была быць, на ўзор заходніх «Vademecum», сталым спадарожнікам набожнага чалавека. Змест трох з пяці частак кнігі традыцыйны — псалтыр; часасловец, які змяшчае нязменныя тэксты дзённых царкоўных службаў візантыйскага абраду, і шасцідневец, або выбраныя зменныя часткі гэтых службаў на кожны дзень тыдня. Апошняя частка — гэта царкоўны каляндар на ўвесь год і «паскалія», у якой пададзеныя даты святаў Велікоднага круга. Гэтая частка мае ў сабе таксама нямала цікавых астранамічных звестак*.

Частка, якая нас тут цікавіць, носіць назву «Пачынаюцца Акафісты на ўсе дні тыдня». У ёй змешчана восем акафістаў і злучаных з імі канонаў, па адным на кожны дзень тыдня і два ў чацвер: акафіст Магіле Гасподняй у нядзелю, Анёлам у панядзелак, Яну Хрысціцелю ў аўторак, Багародзіцы ў сераду, Апосталам і святому Міколу ў чацвер, Крыжу ў пятніцу і Імю Ісусаваму ў суботу і ва ўсе іншыя дні. За выняткам акафіста Багародзіцы, усе іншыя былі надрукаваныя ўпершыню. Такім чынам, «Малую падарожную кніжку» можна назваць першым друкаваным «акафіснікам».

Каноны належаць да гімнаграфічнай спадчыны Царквы візантыйскага абраду. Пачынаючы з VIII ст. яны становяць складовую частку ранішняй і некаторых іншых царкоўных службаў. Каноны ў «Малой падарожнай кніжцы» з’яўляюцца перакладамі з грэцкай мовы. Іхнія аўтары — Ян Дамаскін, Язэп Песнапевец і Тэактыст — вядомыя грэцкія царкоўныя пісьменнікі VIII і IX стст. Скарына не дае толькі імя аўтара канона Магіле Гасподняй.

Акафісты належаць да жанру г. зв. кандакоў, якія былі вядомыя ў Візантыі перад паяўленнем канонаў. Гэта былі песні, якія складаліся з 24 або больш строфаў, звязаных акравершам. Звычайна акравершам быў грэцкі алфавіт, але ім магло быць імя аўтара або нейкая пабожная фраза. Слова «акафіст» значыць у

* Больш пра «Малую падарожную кніжку» гл.: Надсан А. Кніга Скарыны ў Капенгагене // Божым шляхам. Лондан, 1971. № 5. С. 9–11; Nadson A. Skaryna’s Prayer Book // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1972. Vol. II. № 4. P. 339–358.

перакладзе з грэцкай «несядальны гімн», г. зн. гімн, які трэба спяваць стоячы. Для грэкаў існуе толькі адзін акафіст у гонар Божае Маці, напісаны, праўдападобна, у VII ст. у Канстанцінопалі. Ён складаецца з 24 строфаў, злучаных алфавітным акравершам. Характэрнай рысай акафіста выяўляецца тое, што кожная другая песня мае кароткую літанію з трынаццаці пахвалаў у гонар Багародзіцы. Кожны радок пачынаецца словам «Радуйся». Апошні радок заўсёды той самы: «Радуйся, Дзева Маці». Строфы без літаніяў заўсёды канчаюцца воклічам «Алілуя»*.

З часам пачалі паяўляцца іншыя творы, напісаныя на ўзор акафіста, напр. Пахвала крыжу або святым.

Сапраўднага росквіту пісанне акафістаў атрымала сярод славянаў пасля таго, як акафіст Багародзіцы быў перакладзены на царкоўнаславянскую мову. У славянскай тэрміналогіі строфы без літаніяў атрымалі назву «кандакоў», а з літаніямі — «ікасаў».

Акафісты славянскага паходжання звычайна не маюць акравершаў. Выняткамі з'яўляюцца тры акафісты ў «Малой падарожнай кніжцы». Два з іх, акафісты ў гонар Яна Хрысціцеля і Імя Ісусавага, маюць акравершы ПИСАЛ ДОКТОР СКОРИНИЧ ФРАНЦИСКУС і ДЕЛАЛ ДОКТОР СКОРИНИЧ ФРАНЦИСКУС. Такім чынам, няма ніякага сумніву, хто быў аўтарам гэтых твораў**. Цікава тое, што ў абодвух выпадках акравершам абняты таксама пачатковыя, або ўводныя, вершы, якія не з'яўляюцца складовай часткай акафіста.

Адной з характэрных рысаў акафіста Імю Ісусаваму з'яўляецца тое, што літаніі ў ікасах канчаюцца па-рознаму, а не аднолькава, як у іншых акафістах. Увесь твор можна ўмоўна падзяліць на дзве часткі. У першай частцы пераважае тэма аздараўленняў, учыненых Ісусам. Магчыма, на выбар яе паўплывала тое, што аўтарам акафіста быў «у лекарскіх навуках доктар». Адно адхіленне (кандак і ікас 5) можна выясніць патрэбаю захаваць акраверш. У аснову другой часткі пакладзеныя евангельскія зда-

---

* Больш пра акафіст гл.: Надсан А. Некалькі слоў пра Акафіст // Акафіст Найсвяцейшай Багародзіцы. Лондан, 1992. С. 14–15.

** Першы, хто выявіў акравершы з імем Скарыны ў вышэйпамянёных акафістах, быў А. Турылаў (Турилов А. Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции // Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности: тезисы докладов. Ленинград, 1979. С. 45–46. Факсімільнае выданне двух акафістаў гл.: Лабынцев Ю. «Зерцало жития…» Минск, 1991. С. 53–104.

рэнні, у якіх Боскасць Ісуса і Ягоная міласэрнасць праявіліся ў асабліва яркі спосаб: хаджэнне па вадзе, адказ Піліпу на ягоную просьбу паказаць Айца, вызнанне Тамаша і г. д.

Набожнасць да Імя Ісусавага на хрысціянскім Усходзе мае глыбокія карані. З другога боку, яна была распаўсюджаная і на Захадзе, дзе яе найбольшымі пашыральнікамі былі францысканцы і бернардзіны, якія ў канцы XV ст. мелі свой манастыр у Полацку. Паўстае пытанне, пад чыім уплывам беларускі першадрукар, хроснае імя якога было Францішак, напісаў акафіст у гонар Імя Ісусавага. Сёння канчальнага адказу на гэтае пытанне нельга даць, і яно патрабуе далейшых пошукаў.

Акафіст Імю Ісусаваму ніколі не перавыдаваўся, хоць ён сустракаецца ў рукапісных спісках. Затое ў пазнейшых малітоўніках аж да сённяшняга дня знаходзіцца г. зв. акафіст Салодкаму Ісусу, які сваім характарам і зместам шмат у чым напамінае скарынаўскі. Беручы пад увагу храналагічны фактар, можна меркаваць, што акафіст Салодкаму Ісусу з’яўляецца пераробкай акафіста Імю Ісусаваму, магчыма, каб пазбавіцца акраверша, а з ім «лацінскага» імя «Францыскус».

Набожнасць да Імя Ісусавага адчуваецца і ў акафісце апосталам Пятру і Паўлу, трэцім акафісце з акраверsituée. Вось што там гаворыцца пра святога Паўла:

Радуйся, вялікі любіцелю Імя Ісусавага, перад якім
схіляюцца ўсе калені;
Радуйся, бо яно ў тваіх пісаннях пяцьсот разоў
успамінаецца.

Акафіст Апосталам быў выдадзены другі раз у 1628 г. Віленскім праваслаўным брацтвам*. Ягонае аўтарства ў гэтым выданні прыпісваецца патрыярху Канстанцінопальскаму Ізыдару Бухірасу, які жыў у першай палове XIV ст., што даволі неверагодна з увагі на славянскі алфавітны акраверш. Прыпісванне аўтарства царкоўнаму дастойніку мела хутчэй прэстыжнае значэнне і як пацвярджэнне «праваслаўнасці» твора. Што гэта было патрэбнае ў перыяд вострай рэлігійнай палемікі, можна пераканацца, параўнаўшы тэксты двух выданняў. Вось некалькі прыкладаў, дзе больш значныя адрозненні ў скарынаўскім тэксце пададзеныя тоўстым друкам:

* Акафисты в них же и каноны, стихири и стиховны на всю седмицу. Вильня, 1628. Аўтар карыстаўся мікрафільмам паасобніка Каралеўскай бібліятэкі ў Капенгагене.

| Скарына 1522 | Акафісты 1628 г. |
|---|---|
| Ікас 7 (Пятра) | |
| Радуйся, Ісусом любимый апостоле Петре, его же ради мирская опустивый; радуйся, **Божий намесниче** і того для духовныя возлюбивый. | Радуйся, Богом избранный апостоле Петре, его же ради земных обоживый; Радуйся, его же ради обогативый духовною благодатию. |
| Ікас 11 (Пятра) | |
| Радуйся, Риму великаго похвало, кровию светою своею и (г. зн. яго. — *А. Н.*) посветивый; радуйся, **Риму славнаго главо, пастыря стада Христова по собе в нем оставивый**. | Радуйся, Риму великая похвало, в нем же течению край навершив, ко небеси стопы простер. |
| Ікас 12 (Паўла) | |
| Радуйся, ты Нерона царя римскаго посрамил и жену его на Веру Христову навратил, радуйся ты, во прехвальном Риме **вкупе с намесником Ісусовым** мучение принял. | Радуйся, иже венценоснаго Нерона никакоже не усумнеся, но и виночерпца того верна во Христа Іисуса сотвори. Радуйся, иже крайним удивлением неверныя воины во веру привлекл, в сечении бо твоем кров и млеко множайше источил еси. |

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, у выданні 1628 г. выкінена або зменена — не заўсёды вельмі ўдала, — усё, што напамінае пра першынство св. Пятра і яго наступнікаў. Пытанне аўтарства застаецца нявырашаным, хоць не выключана, што Скарына калі не быў аўтарам, то прынамсі творча адрэдагаваў тэкст у «Малой падарожнай кніжцы», уносячы ў яго свае змены і дадаткі. Ускоснае пацвярджэнне дае моўны аналіз тэксту, дзе Скарына ўжывае беларускія формы, называючы, напр., сыноў Забэдэя Забэдэевічамі.

Творчы падыход Скарыны да твораў іншых аўтараў відавочны ў малітвах пасля акафістаў і канонаў. Усяго іх у «Малой падарожнай кніжцы» пятнаццаць. Арыгінальныя тэксты трох з

іх належаць святому Кірыле Тураўскаму*. Гэта «Малітва ў Тройцы адзінаму Богу», «Малітва да святых Анёлаў» і «Малітва да святых Апосталаў». Вось пачатак «Малітвы да святых Анёлаў»:

| Кірыла Тураўскі | Скарына |
|---|---|
| К вам, яко заступником и хранителем живота моего, аз окаянный и многогрешный (имя рек) припадаю, моляся и прося вашей милости, видци Божіа величества, святіи ангели, престол честныи Пресвятыя Троица страшно обьстояще и не изреченною светлостью Божественныя славы облистаеми. | К вам яко к заступником и хранителем живота нашего, аз окаанный и многогрешны имя рек припадаю моляся просяй вашей милости, видци Божия величества святии ангели, престол чесный живоначальныя Троице страшно оступающе, неизреченною светлостию Божественныя славы облистаеми. |

А вось яшчэ прыклад з «Малітвы да святых Апосталаў»:

| | |
|---|---|
| Святыи Петре, Богоизбранный апостоле, твердый камень вере, недвижимое основание Церкви, пастуше словесного стада Христова, ключарь царства небесного: Тя молю, всечестне, да обоимет мя божественная твоя мрежа, да ми извлечеши из глубины погибельныя. | Святый апостоле Петре, первый престольниче апостольски, твердый камень веры Христовы, недвижимое основание Церкви хрестианское, пастырю стада Ісусова, ключарю царства небеснаго, рыбарю глубины неведения, да обымет мя твоя мрежа, и да извлечет мя из глубины погибельныя. |

Наступныя прыклады з «Малітвы да святых Апосталаў» паказваюць змены, зробленыя Скарынам у тэксце:

* Тэксты малітваў св. Кірылы Тураўскага цытуюцца паводле выдання: Kirill von Turov. Gebete. München: Eidos Verlag, 1965. Яны з’яўляюцца перадрукам з выдання ў часопісе «Православный собеседник» (1859).

| Кірыла Тураўскі | Скарына |
|---|---|
| 1. Святы Марко, Господен честныи арган, ибо во всю землю изыде вещаніе твоего сладкого гласа, украсивый Церьковь святыми ти словесы. Христовых тайн списателю и всех чюдес Его благовестниче (*у іншай версіі:* Святы Марко, Александрийскій і египетскій светильниче. Христовых таин списателю…)<br>2. Адсутнічае. | 1. Святый Марко Александрійский, светильниче египетскій, непобедимый льве, **Венециская похвало**, Христовых чюдес объявителю…<br>2. Светый Якове, брате Іоанов, первый во апостолех мученику, иже **Испанию и вся страны западныи своим телесем славне просвещаеши**… |

Скарыне, які атрымаў ступень доктара лекарскіх навук у Падуі, што знаходзіцца паблізу Венецыі, было вядома, што патронам гэтага горада быў святы Евангеліст Марк. Ён быў таксама знаёмы з заходняй традыцыяй, згодна з якой цела святога апостала Якуба спачывае ў манастыры Сант'яга дэ Кампастэлля ў Іспаніі, вядомым месцы паломніцтваў у тыя часы. Магчыма, Скарына сам хадзіў на пакланенне мошчам Апостала.

У Пачаеўскім (уніяцкім) малітоўніку 1809 г. знаходзіцца малітва аб муках Хрыстовых*. Нягледзячы на познюю дату выдання, у ёй адчуваецца стары арыгінальны тэкст. Відаць, гэты тэкст паслужыў Скарыне асноваю для ягонай «малітвы аб муках Госпада нашага Ісуса Хрыста», як можна бачыць з прыведзеных урыўкаў:

| Скарына | Пачаеўскі малітоўнік |
|---|---|
| Господи Ісусе Христе Сыне Бога живаго, сотворителю неба и земли, спасителю роду человеческаго, ныне я недостоины грешныи воспоминаю претяжкое вмучение Твое… | Господе Ісусе Христе, Сыне Бога живаго, творче неба и земли, Спасителю мира, се аз недостоиный, и паче всех грешнейший, смиренно колене сердца моего пред славою величества Твоего приклоняя, воспеваю и величаю безмерное страдание Твое… |

* Тэкст малітвы з Пачаеўскага малітоўніка 1809 г. цытуецца паводле выдання: Malzev A. Andachtsbuch der Orthodox-Katholischen Kirche des Morgenlands. Berlin, 1895. S. 795–798, дзе гэтая малітва перадрукаваная поўнасцю.

Некаторыя часткі той самай малітвы пераклікаюцца са Скарынавай «Малітвай да ўкрыжаванага Хрыста»:

| Скарына | Пачаеўскі малітоўнік |
|---|---|
| Збавителю наш Господи Ісусе Христе, вижу Тя на кресте висяща, для превеликое милости юже имел еси к роду человеческому; главу имаши наклонену, хотяй всех нас молитвы выслухати; сердце имаши отворено, хотяй ласку свою всем дати; руце имаши ростягнены хотя всех к собе пригорнути; нозе имаши пригвожены хотя всегда с грешными быти, ныне молю ти ся прегоркое ради смерти Твоея, и чеснаго креста Твоего, услыши и прими молитвы моя, и подай ми ласку свою, и пригорни мя к собе, и буди при мне в час страшное и горкое смерти моея. Аминь. | Руце Твои пречистии распрострый на приятие всех, пріими мя грешного! Нозе пригвождены имевый, хотяй всегда с грешники быти, буди со мною грешным возбраняяй ногам моим от всякого пути лукаваго. Сердце отвертое имевый, яви благодать Твою мне грешному! Главу пречистую на Кресте преклонивый, услыши недостойныя молитвы моя. |

Нягледзячы на некаторае падабенства, малітва Скарыны мае дастаткова арыгінальных элементаў для таго, каб лічыць яе самастойным творам.

Дзве іншыя малітвы, напэўна, трэба лічыць арыгінальнымі творамі Скарыны. Гэта «Малітва Імю Ісусаваму» і цудоўная «Малітва пабожная да Найсвяцейшай Багародзіцы Марыі», першая частка якой з'яўляецца несумненна паэмаю, а другая напісаная рытмічнай прозай.

Безумоўна, не заўсёды лёгка вызначыць аўтарства або паходжанне данай малітвы. Адной з іх ёсць «Малітва пабожная да Анёла Апекуна» з яе разважаннямі аб стварэнні свету, анёлаў і чалавека.

Мову акафістаў і малітваў Скарыны ў «Малой падарожнай кніжцы» можна акрэсліць як «царкоўнаславянскую беларускай рэдакцыі», хоць у некаторых выпадках, як, напр., у вышэйпрыведзенай «Малітве да ўкрыжаванага Хрыста», яна набліжаецца да беларускай літаратурнай мовы пачатку XVI ст.

Скарына лічыцца пачынальнікам беларускага вершаскладання. У сваіх акафістах і малітвах ён паказаўся таленавітым паэтам. Як гімнограф, ён быў прадаўжальнікам традыцыі святога Кірылы Тураўскага. Ягонае знаёмства з малітвамі беларускага Залатавуснага паказвае, што гэтая традыцыя ў ягоны час была жывою.

Акафісты і малітвы «Малой падарожнай кніжкі» кідаюць святло на рэлігійныя перакананні Скарыны. Перадусім можна з упэўненасцю сказаць, кім ён не быў. Чалавек, які адзначаўся глыбокай набожнасцю да імя Ісусавага і напісаў цудоўную малітву ў гонар Багародзіцы, не мог быць пратэстантам. З усяго відаць, што Скарыне былі знаёмыя і аднолькава блізкія як усходняя, так і заходняя царкоўныя традыцыі. У Беларусі пасля Фларэнційскага Сабору ўжывалася тэрміналогія «закон грэцкі», «закон рымскі» замест «вера грэцкая», «вера рымская». Магчыма, Скарына быў хрысціянінам «закону грэцкага», які прызнаваў зверхніцтва Наступніка Святога Пятра. Сёння мы б назвалі яго ўніятам…

Несумненна, далейшае вывучэнне спадчыны Скарыны прынясе шмат новых адкрыццяў адносна ягонай дзейнасці і асобы.

Мэта, якая прысвячала Скарыне ў ягонай дзейнасці, была памагчы свайму народу жыць глыбейшым Божым жыццём. Хочацца спадзявацца, што ягоная духоўная спадчына, прадстаўленая тут сціплым выбарам ягоных малітваў у перакладзе на сучасную беларускую мову, і ў сённяшні дзень не страціла сілы парушыць душы людзей і ўзняць думкі і сэрцы да Бога.

***1992***

## МІФ, ЯКОМУ НЕ ДАЮЦЬ ПАМЕРЦІ

*Яшчэ пра імя Скарыны*

У 1996 г. выйшаў зборнік матэрыялаў канферэнцыі «Полацак: карані нашага радаводу», што адбылася ў Полацку 5–6 верасня 1995 г. У зборніку матэрыялаў звяртае на сябе ўвагу даклад Г. Галенчанкі «Канец застарэлага міфа: новы дакумент пра Скарыну» (с. 72–77) з фотакопіяй таго дакумента. Тэкст даклада, але ўжо без фотакопіі, быў перадрукаваны ў бюлетэні «Кантакты і дыялогі» (1996. № 9). Новы дакумент — знойдзеная ў актавых кнігах Познані невядомая раней копія каралеўскага прывілея ад 25 лістапада 1532 г., дадзенага Скарыне. Прывілей гарантаваў

яму каралеўскую апеку і абарону ад усіх замахаў на ягоную свабоду і маёмасць.

Да гэтага часу даследчыкі ведалі іншую копію згаданага дакумента з Кароннай метрыкі (так зваліся кнігі, куды ўпісваліся тэксты каралеўскіх грамат і прывілеяў). У гэтых копіях, у адрозненне ад арыгінала, каралеўскія тытулы і першы параграф, якія былі аднолькавыя ўва ўсіх дакументах, пазначаныя толькі першымі словамі. Нярэдка сустракаюцца там памылкі і недакладнасці, зробленыя перапісчыкамі. Таму, а таксама з перасцярогі, уладальнік дакумента звычайна прыносіў яго ў мясцовы гарадскі ці земскі ўрад і прасіў запісаць у актавыя кнігі. Гэта рабілася ў прысутнасці ўладальніка, каб той мог спраўдзіць дакладнасць запісу. Пазнанская копія Скарынавага прывілея — якраз такі запіс у гарадскіх (бурмістраўскіх) кнігах гэтага места.

Тэкст копіі з Кароннай метрыкі выдаў у Вільні ў 1588 г. М. Круповіч у сваім «Собрании государственных и частных актов». Яна цікавая тым, што гэта адзіны вядомы дакумент, у якім побач з імем Скарыны «Францішак» стаіць другое імя «Георгій». У 1925 г. польскі гісторык Генрык Лаўмянскі выказаў думку, што «Georgii» — памылка канцылярыста, і трэба чытаць «egregii» (шаноўнага). Гэты вучоны мае вялікі досвед у чытанні старых лацінскіх дакументаў, таму ягоная здагадка вартая таго, каб прыняць яе на веру. На жаль, у Беларусі з ідэалагічных меркаванняў доўгі час яе не прызнавалі. Дый цяпер яшчэ не ўсе пагаджаюцца з Лаўмянскім.

Ніжэй падаюцца паралельныя тэксты пачатку і канца дзвюх копіяў скарынаўскага дакумента. З уступу да Пазнанскай версіі відаць, што запіс быў зроблены ў 1532 г. «у нядзелю наступную пасля свята св. Люцыі» — што, паводле злічэння аўтара гэтых радкоў, было 14 снежня, на просьбу самога Францішка Скарыны, які прынёс вызначаны ліст (scriptum significativum) з віслаю пячаццю Я(го) К(аралеўскай) М(іласці) і прасіў спадара бурмістра загадаць, каб ён быў занесены да актавых кніг.

Ужо пры першым знаёмстве з Пазнанскай копіяй высвятляецца, што меркаванне Лаўмянскага адносна імя «Георгій» у «метрычнай» копіі было слушным і што сапраўды ў арыгінальным дакуменце было напісана «egregii», а не «Georgii».

Ёсць і іншыя адрозненні між дзвюма версіямі. Так, у загалоўку «метрычнай» копіі замест «Litterae» стаіць «Littere», і нават прозвішча Скарыны напісана як «Skorznia». Аўтар гэтых радкоў заўсёды адчуваў, што ў «метрычнай» версіі нечага не стае між словамі «doctrinam» і «in arte». У Пазнанскай версіі злучнік

«et» робіць усё ясным. Больш адрозненняў можна бачыць у апошнім сказе.

Знаходка Галенчанкі з'яўляецца паважным укладам у справу вывучэння спадчыны Скарыны, бо ўдакладняе важную дэталь у жыццяпісе першадрукара і раз і назаўсёды кладзе канец бясплодным спекуляцыям адносна ягонага імя. Таму дзіўна, што, апрача вышэйзгаданых выданняў з невялікім накладам, у ніякім афіцыйным навуковым выданні не было нават згадкі пра гэтую знаходку. Затое, пачынаючы ад 1997 г., у розных часопісах, як папулярных, так і «акадэмічных», пачалі з'яўляцца адзін за адным артыкулы Уладзіміра Агіевіча, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута філасофіі НАН Беларусі, у якіх ён у даволі бесцырымонны спосаб даводзіць, што «Георгій» — хроснае імя Скарыны. Два ягоныя артыкулы з'явіліся ў часопісе «Беларусь», два ў «Весцях НАН Беларусі». У 1999 г. пад шыльдаю НАН Беларусі выйшла ягоная кніга «Сімволіка гравюры Скарыны», якая атрымала высокую ацэнку двух «членаў-карэспандэнтаў». Аўтар пазнаходзіў цэлы шэраг «доказаў» — філалагічных, гістарычных і нават астранамічных — у падтрымку сваёй канцэпцыі. Ці гэтыя доказы пераканалі каго-небудзь, апрача яго самога, гэта іншая справа. Амаль нідзе няма згадкі пра Пазнанскі дакумент.

Кажам «амаль», бо, апрача часопісаў, Агіевіч друкаваўся і ў газеце Акадэміі навук «Веды». У артыкуле «Ідэалы і сімвалы беларускага друкавання» (Веды. 1999. № 6) ён нападае на Галенчанку ў даволі агрэсіўны спосаб: «Чаму б Г. Галенчанку не растлумачыць, з якой нагоды верыць аднаму капіісту (пазнанскаму. — *А. Н.*) ды не верыць другому?» Замест асвятлення пытання прыводзіцца здагадка, нібыта над пазнанскім пісарам стаяў Скарына і вадзіў яго рукою, патрабуючы не ўказваць свайго хроснага імя.

Калі б старшы супрацоўнік Інстытута філасофіі НАН Беларусі ведаў лацінскую мову, дык мог бы пераканацца, што Скарына ў Познані не вадзіў рукою пісара, але быў прысутны, калі той запісваў ягоны дакумент у актавыя кнігі, і мог спраўдзіць дакладнасць запісу.

У 2000 г. у Мінску выйшаў першы нумар часопіса «Святая Русь» з падзагалоўкам «Журнал для тех, кто помнит своё отечество». Тытул і мова часопіса самі гавораць пра ягоны ідэалагічны кірунак. Не дзіва, што рэдактар знайшоў блізкім па духу артыкул Агіевіча «Инкогнито Скорины», у якім аўтар паўтарае ўсе свае старыя казкі і заяўляе катэгарычна: «Не пора ли нам покончить с уплатой дани идеологически инспирированной

версии польского исследователя Х. Ловмянского, который в 1925 г. "лишил" Скорину имени Георгий под предлогом того, что некогда королевский писарь будто бы ошибся в написании слова *egregii* и поставил на его место четко и несомненно слово *Georgii*?».

Скіроўваючы ўсю ўвагу чытача на Лаўмянскага (чаго яшчэ можна чакаць ад «польского ученого»?), аўтар ні словам не згадвае пра Пазнанскі дакумент, знойдзены Галенчанкам. Агіевіч любіць абвінавачваць у «інтэлектуальным падлогу» тых, каго ён зняважліва называе «афіцыйнымі захавальнікамі спадчыны Скарыны». Цікава, як тады назваць свядомае замоўчванне нявыгаднай для сябе праўды? Мусіць, таксама падлогам, толькі не інтэлектуальным. Іншымі словамі, гэта звычайнае ашуканства.

У артыкуле дарэмна шукаць такія словы, як «Беларусь», «беларускі», хіба толькі ў назвах «Белорусская энциклопедия» ці «Министерство образования Республики Беларусь». Відаць, гэтыя словы прыкрыя для гаспадароў часопіса. І ці сумленна гэта, каб нехта, хто лічыць сябе беларусам, мог напісаць: «Своими переводами Скорина сформировал литературный язык "братии своей Руси"», не сказаўшы, які ж гэта быў «язык»? Такім чынам, Скарына ў артыкуле Агіевіча сапраўды «инкогнито»…

Як кажуць, «гарбатага і магіла не выправіць». Агіевічаў гэтага свету нішто і ніхто не пераканае. Тым не менш мы б раілі сп. Агіевічу вярнуцца да сваіх ранніх зацікаўленняў тыпу «Эвалюцыя філасофскіх поглядаў Луначарскага». Там, прынамсі, у яго не будзе канкурэнтаў. Дый лацінскай мовы ведаць не трэба…

Усё гэта было б вельмі смешна, каб не было так сумна. Сумна і крыўдна за беларускую навуку.

*2001*



## ЕЎЕЎСКІ «БУКВАР» 1618 Г.

Сярод ранніх усходнеславянскіх друкаваных падручнікаў да навукі чытання «Букварь языка славенска», выдадзены ў Еўі ў 1618 г., заслугоўвае асаблівай увагі. Да апошняга часу ён быў невядомы ў славянскай бібліяграфіі. Толькі нядаўна былі знойдзены два экзэмпляры кнігі, адзін у Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене, а другі ў бібліятэцы Middle Temple у Лондане*.

У 1610 г., у выніку непаладкаў паміж Віленскім праваслаўным брацтвам і цывільнымі ўладамі, брацкая друкарня была зачынена і само брацтва было змушана спыніць на некаторы час сваю дзейнасць. Манахі брацкага Святадухаўскага манастыра пераехалі ў маёнтак Еўе (сёння Вэвіс у Літоўскай ССР), які быў уласнасцю беларускага праваслаўнага магната і члена Віленскага брацтва Багдана Агінскага. Там, пад апекай Агінскага, яны залажылі новую друкарню і аднавілі выдавецкую дзейнасць. Друкарня ў Еўі выпусціла цэлы рад цікавых кніг на беларускай і царкоўнаславянскай мовах. Найбольш вядомай з іх была «Граматыка» Мялеція Сматрыцкага, выдадзеная ў 1619 г. Вельмі магчыма, што Сматрыцкі быў таксама аўтарам, або адным з аўтараў, «Буквара». Гэтыя дзве кнігі былі быццам

---

* Першы ўспамін пра еўеўскі «Буквар» знаходзіцца ў апісанні старых славянскіх кніг у Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене, зробленым у 1957 г. дацкай вучонай Г. Кронэ (Crone Helene. Gamle Slaviske Tryk i det Kongelige Bibliotek // Fund og Forskning i det Kongelige Bibliotek Samlinger. IV. Kobenhavn, 1957. С. 62, № II). На жаль, доўгі час ніхто не звяртаў увагі на гэтую цікавую вестку. Толькі вясной 1972 г. аўтар гэтага артыкула, пазнаёміўшыся з працай Кронэ, зацікавіўся «Букваром». Хутка пасля гэтага яму пашчасціла знайсці ў Лондане другі экзэмпляр кнігі. Пры параўнанні аказалася, што лонданскі экзэмпляр з'яўляецца поўным, а ў капенгагенскім не стае трох апошніх лістоў.

часткамі аднаго цэлага. У прадмове «Учителем школным автор» да сваёй «Граматыкі» Сматрыцкі так акрэсліў месца кожнай з іх у сістэме навучання: «Деткам учитися починаючим букварь, звыкле рекши алфавитарь, з той же грамматіки вычерпненый, абы склоненіям грамматичным з лет детинных з мовою зараз привыкали, до выученя подаван нехай будет. По часослова зась и псалтыри (которыи опусканы быти не мают) выученю ся овая грамматіка з выкладом, то есть з показованем и уживанем ей пожитков наступит».

«Буквар» складаецца з сшыткаў А$^{8}$ Б$^{8}$ В$^{8}$ Г$^{8}$ Д$^{8}$ Е$^{8}$ Ж$^{1}$ И$^{3}$ з сігнатурамі на першых двух лістах кожнага сшытка, за выняткам першага. Усяго ў «Буквары» 52 ненумараваныя лісты памерам у васьмёрку. Праўдападобна, апошнія тры лісты (сігнатура И) былі дададзены пасля надрукавання кнігі, бо на л. 49а знаходзіцца традыцыйнае заканчэнне: «Начавшему и совершившему Богу честь, слава и поклон…». Калонтытулаў у «Буквары» няма, але ёсць кустоды ў правым ніжнім рагу старонкі (апрача л. 50–52). Друкаваная старонка тэксту, памерам у 112 (118 з кустодамі і сігнатурамі) × 67 мм, мае 14 радкоў. Вышыня 10 радкоў шрыфту ў тэксце 82 мм, у загалоўках — 60 і 50 мм. Тытульны ліст абведзены рамкай з наборнага арнаменту (119 × 67 мм); унізе — невялікая гравюра (13 × 13 мм) з крыжам у вянку і грэцкімі літарамі ІС ХС НІ КА. На адвароце тытульнага ліста знаходзіцца герб Агінскага з лацінскімі літарамі BOPT (г. зн. Bohdan Oginski Podkomorzy Trocki). Верхнюю палову л. 50 займае гравюра Кальварыі: крыж і прылады мукі Хрыста за мурамі Іерусаліма; угары — месяц, сонца і напіс ЦРЬ СЛВЫ ІС ХС. Наборны арнамент рамкі вакол гравюры (73 × 66 мм) іншы, чым у рамцы тытульнага ліста. Дзве застаўкі з розных дошак на л. 2 і 25, а таксама канцоўка на л. 49а, сустракаюцца ў іншых выданнях Віленскага брацтва. Ліст 50а раздзелены пасярэдзіне ўпоперак «заставіцай» Скарыны, якая была ўпершыню ўжытая ў «Малой падарожнай кніжцы» ў 1522 г. (гл., напр., л. 36а, 73 і 133 «Псалтыра»). Ініцыялаў у кнізе няма, апрача двух З з розных дошак на л. 50 і 50а. Апошні ініцыял таксама скарынінскі.

На тытульным лісце даецца поўная назва кнігі: «Букварь языка славенска, писаній чтенія учитися хотящим в полезное руковоженіе». Паводле выхадных даных, таксама на тытульным лісце, яна выйшла з друку ў Еўі 24 ліпеня 1618 г. Гэта была першая кніга, якая называлася «Буквар». Усе ранейшыя падручнікі да навукі чытання або не мелі зусім тытулу, або называліся розна: «Начало ученія детем хотящим разумети писаніе», «Наука

ку читаню и розуменю писма словенского», «Азбука» і нават «Грамматіка». Ніводная з гэтых назваў, аднак, не мела вялікага поспеху. Затое слова «буквар» прынялося адразу, спачатку ў Беларусі, а ў другой палове XVII ст. таксама ў Маскве і на Украіне. Сёння яно з'яўляецца агульнай усходнеславянскай назвай падручнікаў да навукі чытання. Гонар увядзення яго належыць беларускім педагогам XVII ст.*.

Змест «Буквара», які пачынаецца на л. 2 даксалогіяй «Слава святой единосущной животворящей и неразделимой Троици…» можна падзяліць на чатыры часткі: буквар у сціслым сэнсе гэтага слова (л. 2а–8); кароткія весткі з граматыкі (л. 9–24а), малітвы (л. 25–49а) і артыкул Сцяпана Зізанія «О знаменіи крестном» на беларускай мове (л. 50–52).

Букварная частка адчыняецца алфавітам. На л. 2а, пад загалоўкам «Буквы али писмена», даюцца 46 літар кірылічнага алфавіту, перш у звычайным парадку, а пасля ў адваротным. Звяртае на сябе ўвагу новая літара «ґ» для абазначэння выбухнога гука. У беларускай мове гэтага гука няма, ён сустракаецца толькі ў іншамоўных запазычаных словах. Пачынаючы ад XV ст. у беларускай пісьменнасці для абазначэння яго ўжываўся дыграф «кг». Пасля ўвядзення «ґ» гэтыя два знакі ўжываліся паралельна на працягу XVII і XVIII стст.

Пасля алфавіта ідуць прыклады розных тыпаў складоў (л. 2а–7):

«Слози двописменныи от согласных начинаемыи» (л. 2а–5): ба, ва, га… бъ, въ, гъ… бь, вь гь…»

«Слози двописменныи от гласных начинаемыи» (л. 5): аб, ев, иг…»

«Слози триписменныи» (л. 5–5а): бла, вла, гла…»

«Во исправленіе языка отрочате слози необычныи» (л. 5а–6): бва, вбе, гди…»

«Слози знаменательныи треписменныи» (л. 6): тма, мна, здо…» (У гэтую групу папалі памылкова двухскладовыя словы «тыю» і «ныю».)

«Слози четверописменныи» (л. 6): есмь, яждь…»

---

* Англійскі вучоны Джон Сіманс выказаў у 1963 г. меркаванне, што назва «Буквар» была ўведзена ў 1631 г. беларускім друкаром Спірыдонам Собалем (Симмонс Джон С. Г. О некоторых старопечатных кириллических книгах в Дублине // Исследования и материалы. Сб. VIII. М., 1963. С. 252–253). У тым часе ён не ведаў пра існаванне еўеўскага «Буквара».

«Слози пятописменныи» (л. 6–6а): часть, лесть…»
«Слози шестописменныи» (л. 6а): скорбь, твердь…»
«Слози седмо, осмо и девятописменныи» (л. 6а–7): скврадъ, торзствъ…»
«Слози сливаемыи» (л. 7): рай, май, гей…» (Таксама, памылкова, «стахvй».)

У групе «слози сливаемыи» даюцца прыклады складоў з зычным *j*, які тут перадаецца пры дапамозе сёння агульнапрынятай літары «й». Адсутнасць асобнай літары для перадачы гэтага гука была адным з недахопаў кірылічнага алфавіта. Беларускія пісцы ўжывалі першапачаткова для гэтай мэты літару «и», стараючыся нейкім чынам адзначыць яе адменны характар. Адным з такіх спосабаў было пісаць «й» як вынасную літару, якая ў скорапісе ператварылася ў хвалістую лінію (~)* або ў дзве паралельныя рыскі, нахіленыя злева направа (\\). Абодва знакі былі ўжыты ўпершыню ў друку ў «Літоўскім статуце» 1588 г., першы ў галоўным тэксце, а другі ў загалоўках. Гэты другі знак атрымаў даволі шырокае распаўсюджанне ў беларускіх выданнях канца XVI — XVII ст. побач з літарай «й», якая пачала ўжывацца ў друку прыблізна ў тым самым часе. Сцісла кажучы, «й» не лічылася тады яшчэ самастойнай літарай. Яна паўстала праз напісанне над «и» надрадковага знака (v), які называўся розна: «чашка», «краткая» і «слитная» і азначаў «зліццё» гэтай літары з папярэднім складам. Перад тым, як паявіцца ў друку, знак «краткая» быў ужо вядомы ў рукапісных помніках. Славенскі вучоны Адам Багорыч у раздзеле «De Orthographia Rutenica & Moshovitica» сваёй кнігі «De Latinocarniolana literatura», выдадзенай у 1583 г., пісаў пра яго: «Nota hyphen graeci, coniunctim nimirum efferendarum literarum, ut к вечной»**.

Вельмі цікавая вестка адносна ўжывання «краткай» знаходзіцца ў адным тагачасным рукапісным граматычным творы ўсходнеславянскага паходжання: «Краткая полагается в сих

---

* Даследчык старабеларускай арфаграфіі А. Булыка атаясамлівае гэты знак з іншым надрадковым знакам, які ён называе «паерыкам», а ў тагачасных падручніках, у тым ліку і ў еўеўскім «Букварах», называецца «ерык» (Булыка А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мінск: Навука і тэхніка, 1970. С. 53). Сапраўды, гэтыя два знакі вельмі падобныя, асабліва ў рукапісах, напісаных скорапісам. З цверджаннем Булыкі, аднак, нельга згадзіцца, бо «ерык» пісаўся заўсёды пасля зычных і ніколі пасля галосных.

** Bohorizh A. Arcticae horulae succisivae de latinocarniolana literatura, ad latinae linguae analogiam accomodata. Wittenberg, 1583. C. 12.

речех: пойду, дойду… і в подобных сим яко: мой, сей, твой, той. Но великая Росия московскія речи не полагается краткая над таковыми писмены, но таковая писмена без просодія полагаются, паче же в выдрукованых книгах»*. Сёння вельмі цяжка ўстанавіць паходжанне якога-колечы пісьмовага знаку. Усё вышэйсказанае, аднак, дае падставы думаць, што пачаткі літары «й» трэба шукаць у практыцы беларускіх пісцоў XVI ст.**.

Пасля складоў даецца класіфікацыя галосных (л. 7–7а) на «Писмена гласная» (а, е, и…), «Полгласная» (ъ, ь), «Писмена двогласная славенская» (оу, ы, ю…), «Писмо трегласное» (Ѫ), і «Писмена двогласная от греческих дуфтонг приемлемая» (ае, еі…). Далей, пад загалоўкамі «Просодія» (л. 7а–8) і «Препинаніе строчное» (л. 8), ідзе пералік надрадковых знакаў (сярод якіх ёсць таксама знак «слитная»), якія служылі для абазначэння націску і спосабу вымовы розных літар і знакаў прыпынку. Уся частка канчаецца параграфам «Число» (л. 8) з прыкладамі традыцыйнага напісання лікаў пры дапамозе літар кірылічнага алфавіта.

У граматычнай частцы памешчаны найперш «Парадигмата» (л. 9–19а), або ўзоры пяці царкоўнаславянскіх скланенняў — чатыры для назоўнікаў і пятае для прыметнікаў, — за якімі ідзе «Спряганіе» дзеяслова *быць* (л. 19а–24а) ва ўсіх яго формах, уключна з дзеепрыметнікам і дзеепрыслоўем. Уся гэтая частка, як і апошнія параграфы папярэдняй, напамінае «Граматыку» Смятрыцкага ў скарочаным выглядзе.

Трэцяя частка, «Молитвы» (л. 25–49а), пачынаецца найбольш вядомымі малітвамі («Царю небесный», «Пресвятая Троице», «Отче наш» і г. д.) і выбранымі царкоўнымі гімнамі («Ангельскій собор», «Преблагословенна еси Богородице дево», «Слава в вышних Богу»). Далей ідуць: «Сѵмвол православныя веры перваго Нікейскаго и второго Константинопольского вселенских соборов» (л. 32–34а), «Сѵмвол преосващеннаго Афанасія патріархи Александрійскаго» (л. 34а–38) і «Исповеданіе правос-

* Ягич И. В. Рассуждения южнославянской и русской старины о церковнославянском языке // Исследования по русскому языку и словесности. СПб., 1885–1895. Т. I. С. 745.

** Булыка (назв. твор. С. 56) першы звярнуў увагу на магчымае беларускае паходжанне літары «й», але ён думаў, што гэтая літара перш паявілася ў друкаваных кнігах, а адтуль пашырылася на рукапісныя помнікі. Вышэйпрыведзеныя сведчанні паказваюць хутчэй на адваротны працэс.

лавныя веры святых отец наших Амвросіа Медіоланскаго и Августина Гіппонскаго епископов» (л. 38–40). Гэты апошні твор з’яўляецца царкоўнаславянскім перакладам вядомага лацінскага гімна «Te Deum laudamus». У Беларусі гэты гімн быў вядомы ўжо ў XVI ст. і быў першы раз надрукаваны ў 1596 г. у кніжцы «Молитвы повседневные», выдадзенай Віленскім праваслаўным брацтвам.

За гімнам св. Амвросія ідуць: «Десятословіе» (л. 40–42а), «Две заповеди Ветхаго Завета, в них же весь закон и пророци висят» (л. 42а), «Шесть совершенства Новаго Завета» (л. 43–46), «Девять блаженства» (л. 46–47), і наканец, на л. 47а–49а: «Три добродетели Богословія», «Четыри добродетели евангелскія», «Седм таин Новаго Завета», «Седм даров Духа Святаго», «Девять плоды духа человеча», «Седм грехов тяжчаиших», «Седм дел милосердіа», «Три добродетели довлетвореніа», «Три советы Господни», «Правда естественная», «Правда законная», «Пять чувств телесных», «Четыри вещи последніи». Форма і змест гэтых апошніх параграфаў з’яўляюцца амаль даслоўным паўтарэннем падобных тэкстаў у каталіцкіх малітоўніках, адкуль яны, напэўна, былі ўзяты*.

«Буквар» канчаецца творам Сцяпана Зізанія на беларускай мове «О знаменіи крестном» (л. 50–52), які быў перадрукаваны з невялікімі лексічнымі і арфаграфічнымі зменамі з кнігі «Наука ку читаню и розуменю писма словенского», выдадзенай Віленскім праваслаўным брацтвам ў 1596 г. Аўтары «Буквара», відаць, разумелі, што перад тым, як узяцца за навуку царкоўнаславянскай мовы, вучні павінны былі добра ведаць сваю родную. Наяўнасць беларускага тэксту да чытання і ўвядзенне ў алфавіт літары «ґ», якая ў царкоўнаславянскіх тэкстах не ўжывалася, пазваляюць уважаць гэту кнігу за падручнік мовы не толькі царкоўнаславянскай, але і беларускай.

У часе ад 1618 г. да пачатку вайны з Масквою ў 1654 г. у Беларусі вядомы дзевяць выданняў падручнікаў да навукі чытання.

У 1621 г. у Вільні з’явілася трэцяе выданне кнігі «Грамматіка, албо Сложеніе писмена хотящимься учити словеньскаго языка. Младолетным отрочатом», першыя два выданні якой выйшлі ў 1618 г. Надрукаваная яна была, напэўна, у друкарні Мамонічаў,

---

* Нешта падобнае можна сустрэць у каталіцкіх малітоўніках, выдадзеных яшчэ зусім нядаўна. Гл. напр.: Стэповіч К. Голас душы: падручнік жыццяпрактыкі рэлігійнай для беларусаў. Выд. IV. Рым, 1949. С. 4–7.

хоць пра гэта ў ёй нічога не гаворыцца. Нягледзячы на назву, «Граматыка» была пачатковым вучэбнікам да навукі чытання, г. зн. букваром. Як зместам, так і назваю яна значна адрозніваецца ад еўеўскага «Буквара», а таксама ад ранейшых выданняў падобнага характару. «Граматыка» звяртае на сябе ўвагу сваім мастацкім афармленнем. Гэта была першая ў Беларусі вучэбная кніга з ілюстрацыямі, якія мелі, напэўна, на мэце зрабіць яе больш прывабнай для вучняў*.

У 1631 г. беларускі друкар Спірыдон Собаль у сваёй друкарні ў Куцеіне выдаў «Букварь, сиречь Начало ученія детем начинающим чтенію извыкати». З апісанняў гэтага выдання выглядае, што змест яго быў вельмі падобны да зместу еўеўскага «Буквара»**.

Апошнія сем кніг мелі такую самую назву, як і еўеўскі «Буквар». Выдаўцамі іх былі прыгаданы вышэй Спірыдон Собаль у Магілёве ў 1636 г.; Магілёўскае праваслаўнае брацтва ў 1648 і 1649 гг.; Віленскае праваслаўнае брацтва ў 1640, 1645 і 1652 гг.; Куцеінскі Багаяўленскі праваслаўны манастыр у 1653 г.*** Апрача назвы ўсе гэтыя кнігі мелі таксама

---

* Адзіночныя экзэмпляры двух першых выданняў «Граматыкі» знаходзяцца ў Бодлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе, дзе яны былі знойдзены Барнікотам і Сімансам у 1951 г. (Barnicot J. D. A., Simmons J. S. G. Some Unrecorded Early-printed Slavonic Books in English Libraries // Oxford Slavonic Papers. 1951. Vol. II. P. III, № 13, 14). Амаль да апошняга часу яны лічыліся ўнікатамі, але нядаўна аўтару ўдалося натрапіць на другі экзэмпляр першага выдання ў Брытанскім музеі ў Лондане. Адзіны поўны экзэмпляр трэцяга выдання «Граматыкі» 1621 г. знаходзіцца ў бібліятэцы Trinity College у Кембрыджы. (Tyrrell E. P., Simmons J. S. G. Slavonic Books before 1700 in Cambridge Libraries // Transactions of the Cambridge Bibliographical Society. 1963. № 3. P. 391. № 15).

** Свенцицкий И. Каталог книг церковнославянской печати. Жовква, 1908. С. 153–154, № 569; Батвіннік М. Куцеінскі буквар // Народная асвета. Мінск, 1972. № 12. С. 86–87. Адзіны вядомы экзэмпляр гэтай кнігі знаходзіцца ў Музеі ўкраінскага мастацтва ў Львове.

*** Унікальны экзэмпляр віленскага «Буквара» 1640 г. быў выяўлены аўтарам у Брытанскім музеі ў Лондане. Ён яшчэ нідзе не апісаны. Адзіныя вядомыя экзэмпляры выданняў Віленскага 1645 г. і Магілёўскага 1649 г. знаходзяцца ў бібліятэцы Упсальскага ўніверсітэта, дзе яны былі знойдзены ў 1951 г. Л. Ч'ельбэргам (Kjellberg L. Catalogue des imprimes slavons des XVIe, XVIIe et XVIII siècles conservés a la Bibliothèque de l'Université Royale d'Uppsala. Uppsala, 1951. C. 7–8, № 47, 59; таксама Barnicot and Simmons, назв. твор. С. 114, № 18). Таксама ўнікальным з'яўляецца экзэмпляр магілёўскага «Буквара» 1648 г., які захоўваецца

амаль аднолькавы змест і розніліся між сабою галоўным чынам паліграфічным афармленнем. У параўнанні з еўеўскім «Букваром» гэта былі даволі скромныя выданні з выразнай перавагай тэкстаў рэлігійных над граматычнымі. Іхняя букварная частка мела толькі «Буквы или писмена», «Слози двописменныи от согласных начинаемыи», «Слози триписменныи», «Слози триписменныи знаменательныи» (уключна са словамі «тыю», «ныю»), а таксама параграф «Во исправление языка отрочате слози словес под титлами», якога не было ў еўеўскім выданні. Другая частка, «Молитвы», з'яўлялася дакладным паўтарэннем аднайменнай часткі еўеўскага «Буквара» з дадаткам Псалма 50. Граматычная частка («Парадигмата») адсутнічала зусім, а на месцы тэксту да чытання былі дадатковыя ранішнія і вячэрнія малітвы. У такой канчатковай форме буквары сталі стандартнымі школьнымі падручнікамі да навукі чытання не толькі ў Беларусі, але і ў Маскве, куды яны трапілі ў другой палове XVII ст. і дзе яны перавыдаваліся з нязначнымі зменамі некалькі разоў. Такім чынам, еўеўскі «Буквар», які лёг у аснову усіх гэтых выданняў, адыграў важную ролю ў развіцці пачатковай вучэбнай літаратуры ў Беларусі і за яе межамі.

*1973*

## БЕЛАРУСКІЯ БУКВАРЫ XVII СТ.

Сярод беларускіх школьных падручнікаў XVII ст. асобую групу становяць сем букварoў, якія былі выдадзеныя ў часе паміж 1636 і 1653 гг. Усе яны маюць аднолькавы тытул — «Букварь языка славенска, писаній чтенія учитися хотящим в полезное руковожение», — і амаль той самы змест. Першы буквар з гэтай групы быў выдадзены Спірыдонам Собалем у 1636 г. у Магілёве. Віленскае праваслаўнае брацтва выпусціла тры выданні буквара — у 1640, 1645 і 1652 гг.; два выданні — у 1648 і 1649 гг. —

ў бібліятэцы горада Гота (Claus H. Slavia-Katalog der Landesbibliothek Gotha. Berlin: Akademie Verlag, 1961. С. 33, № 189). Куцеінскі «Буквар» 1653 г. быў знойдзены 1959 г. Сімансам у Marsh's Library ў Дубліне (гл. яго: О некоторых старопечатных кириллических книгах… С. 247–253). Пазней былі адкрыты два іншыя экзэмпляры — адзін у Ленінградзе, а другі ў Варшаве. Нядаўна аўтару ўдалося знайсці чацвёрты экзэмпляр гэтага выдання ў Брытанскім музеі ў Лондане.

зрабіла Магілёўскае праваслаўнае брацтва, і апошняе выданне выйшла ў 1653 г. з друкарні Куцеінскага манастыра.

Перад апошняй сусветнай вайною былі вядомы толькі два буквары — Собаля 1636 г. і Віленскі 1652 г.*. Пачынаючы ад 1951 г. у бібліятэках Упсалі, Готы, Дубліна і Брытанскага музея ў Лондане былі знойдзены экзэмпляры пяці іншых букавароў, чатыры з якіх з'яўляюцца ўнікальнымі**.

Тытул «Букварь языка славенска...» быў упершыню ўжыты ў Еўеўскім буквары 1618 г.***. Аўтар гэтага артыкула меў магчымасць пазнаёміцца з тэкстамі трох букваpoў — Віленскага 1640 г., Магілёўскага 1649 г. і Куцеінскага 1653 г. — і параўнаць іх з еўеўскім выданнем****.

* Каратаев И. Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами. СПб., 1883. № 437, 683.

** Унікальныя экзэмпляры букварoў Віленскага 1645 г. і Магілёўскага 1649 г. былі знойдзены ў 1951 г. у бібліятэцы Упсальскага ўніверсітэта Л. Ч'ельбэргам (Kjellberg L. Catalogue des imprimes slavons des XVIe, XVIIe et XVIIIe siecles conserves a la Bibliotheque de l'Université Royale d'Uppsala. Uppsala, 1951. № 47, 59; таксама Barnicot J. D., Simmons J. S. G. Some Unrecorded Early-printed Slavonic Books in English Libraries // Oxford Slavonic Papers. 1951. Vol. II. P. 114. № 18). Пра таксама ўнікальны экзэмпляр Магілёўскага буквара 1648 г. у бібліятэцы горада Гота стала вядома ў 1961 г. (Claus H. Slavia-Katalog der Landesbibliothek Gotha. Berlin, 1961. № 188). Экзэмпляр Куцеінскага буквара 1653 г. у бібліятэцы Марша ў Дубліне быў знойдзены ў 1963 г. Дж. Сімансам, які зрабіў таксама дакладнае апісанне гэтага выдання (Симмонс Джон С. Г. О некоторых старопечатных кириллических книгах в Дублине // Книга. Исследования и материалы. СПб. VIII. Москва, 1963. С. 247–253). Пасля было знойдзена некалькі іншых зкзэмпляраў гэтага буквара, сярод іх адзін у Брытанскім музеі ў Лондане аўтарам гэтага артыкула, які таксама выявіў там унікальны экзэмпляр Віленскага буквара 1640 г.

*** Надсан А. Еўеўскі буквар 1618 г. // Божым шляхам. 1973. № 1. С. 3–9.

**** Для апісання букварoў Віленскага 1640 г. і Куцеінскага 1653 г. паслужылі экзэмпляры гэтых выданняў у Брытанскім музеі ў Лондане. Аўтар таксама карыстаўся выдатным апісаннем Куцеінскага буквара, зробленым Дж. Сімансам (гл. Симмонс Дж. О некоторых старопечатных кириллических книгах...), якое яму служыла за ўзор. Апісанне Магілёўскага буквара 1649 г. зроблена з фотакопіі, ласкава прысланай аўтару кіраўніком замежнага аддзела бібліятэкі Упсальскага ўніверсітэта Л. Ч'ельбэргам, за што аўтар складае яму шчырую падзяку.

Віленскі буквар 1640 г. мае 36 ненумараваных лістоў размерам у васьмёрку. Ён складаецца з сшыткаў А[8] Б[8] В[8] Г[8] Д[4] з сігнатурамі на першых чатырох лістах кожнага сшытка. Калонтытулаў няма, але ёсць кустоды ў правым ніжнім рагу кожнай старонкі. Друкаваная старонка тэксту мае 14 або 15 (л. 13а) радкоў. Размер друкаванай старонкі 112 (120 з сігнатурай і кустодам) × 75 мм. Вышыня 10 радкоў шрыфту 83 мм у тэксце, 59 і 45 мм у загалоўках.

Магілёўскі і Куцеінскі буквары вельмі падобныя. Гэта таксама кніжачкі размерам у васьмёрку, але маюць толькі па 32 ненумараваныя лісты і складаюцца з сшыткаў А[4] Б[8] В[8] Г[8] з азначэннем сігнатур на першых пяці лістах кожнага сшытка. Калонтытулаў няма, але ўверсе кожнай поўнай старонкі ёсць маленькае ўпрыгожанне (розныя ў Магілёўскім і Куцеінскім выданнях) з наборнага арнаменту. Кустоды ў правым ніжнім рагу кожнай старонкі. Старонка мае 14 радкоў. Размер друкаванай старонкі 110 (130 з упрыгожаннем, сігнатурай і кустодам) × 73 мм.

Вышыня 10 радкоў шрыфту 82 мм у тэксце, 62 мм у загалоўках. Наогул шрыфт абодвух выданняў вельмі падобны.

Змест трох буквароў у параўнанні з Еўеўскім найлепш відаць з наступнай табліцы:

| *Змест* | *Еўе 1618* | *Вільня 1640* | *Магілёў 1649* | *Куцеіна 1653* |
|---|---|---|---|---|
| Слава святой… Троицы | л. 2 | 2 | 2 | 2 |
| Буква или писмена | 2а | 2а | 2а | 2а |
| Слози двописменныи от согласных начинаемыи | 3 | 3 | 3 | 3 |
| Слози двописменныи от гласных начинаемыи | 5 | — | — | — |
| Слози триписменныи | 5 | 4а | 4 | 4 |
| Во исправленіе языка отрочате слози необычныи | 5а | — | — | — |
| Слози знаменательныи трелисменныи | 6 | 4а | 4а | 4а |
| Слози четверописменныи… девятописменныи | 6 | — | — | — |
| Слози сливаемыи | 7 | — | — | — |
| Во исправленіе языка отрочате слози словес под титлами | — | 5 | 5 | 5 |

| *Змест* | *Еўе 1618* | *Вільня 1640* | *Магілёў 1649* | *Куцеіна 1653* |
|---|---|---|---|---|
| Писмена гласная… | 7 | — | — | — |
| Просодія | 7а | — | — | — |
| Препинаніе строчное | 8 | — | — | — |
| Число | 8 | — | — | — |
| Парадеіґмата пяти славенския грамматіки склоненій | 9 | — | — | — |
| Молитвы. Слава святой… Царю небесный… Отче наш… Приидете поклонемся… | 25 | 7 | 7 | 7 |
| Помилуй мя Боже (Пс. 50) | — | 8а | 8а | 8а |
| От сна восстав… Троичен, Господи сый… Ангелский собор… | 26а | 10а | — | — |
| Преблагословенна еси… | 30 | 14а | 10а | 10а |
| Слава во вышних Богу… | 30а | 14а | 11 | 11 |
| Символ православныя веры; Символ преосвященнаго Афанасіа; Исповеданіе православныя веры… Амвросіа Медіоланскаго и Августіна Гіппонскаго… | 33а | 18 | 14 | 14 |
| Десятословіе; Две заповеди Ветхаго Завета; Шесть совершенства Новаго Завета; Девять блаженства | 40 | 24 | 20а | 20а |
| Три добродетели Богословіа; Четыри добродетели евангелския… Пять чувств телесных; Четыри вещи последніи | 47а | 32 | 27а | 27а |
| О знаменіи крестном (па-беларуску) | 50 | — | — | — |
| Молитвы от сна восстав | — | 34 | 30 | 30 |
| Молитвы на нощь | — | 35а | 31а | 31а |
| (Число) | 52а | 36а | — | — |

З апісанняў іншых буквароў выглядае, што Віленскі буквар 1645 г. мае змест, ідэнтычны з Віленскім букваром 1640 г., а

буквары Собаля 1636 г. і Магілёўскі 1648 г. — з Магілёўскім 1649 г. і Куцеінскім 1653 г.*.

З прыведзенай вышэй табліцы відаць, што ў аснову ўсіх пазнейшых выданняў буквароў лягло еўеўскае выданне 1618 г. у моцна скарочаным і часткова змененым выглядзе. У прыватнасці, у іх адсутнічае ўся граматычная частка («Парадигмата»), а беларускі тэкст да чытання «О знаменіи крестном» заменены дадатковымі малітвамі на царкоўнаславянскай мове. Зроблены таксама некаторыя змены ў букварнай частцы. У параграфе «Буква или писмена» ў Еўеўскім буквары даюцца малыя літары алфавіта перш у звычайным парадку, а пасля ў адваротным. Пазнейшыя буквары маюць яшчэ трэцюю групу вялікіх літар у звычайным парадку. У Еўеўскім буквары няма таксама параграфа «Слози словес под титлами», у якім даюцца ў алфавітным парадку найбольш пашыраныя словы, якія пісаліся ў скарочаным выглядзе. Для азначэння скароту над гэтымі словамі стаўлялася хвалістая лінія, якая называлася «цітла». Згодна з правіламі царкоўнаславянскай арфаграфіі «пад цітламі» пісаліся словы рэлігійнага характару, якія азначалі асоб або прадметы асаблівай святасці і пашаны. Словы са значэннем нечага дрэннага, грэшнага пісаліся заўсёды поўнасцю.

Існуюць некаторыя розніцы паміж Віленскім букваром, з аднаго боку, і Магілёўскім і Куцеінскім — з другога. У Віленскім буквары алфавіт мае літару «ґ», а ў канцы л. 2а, пасля алфавіту ў адваротным парадку, даюцца напісанні знакаў прыпынку. Апрача гэтага ў ім ёсць некаторыя дадатковыя малітвы (л. 10а–14). Усё гэта адсутнічае ў двух іншых выданнях.

Буквары значна розняцца між сабою мастацкім афармленнем. Магілёўскі буквар выглядае вельмі скромна. Апрача гравюры св. Евангеліста Лукі (л. 1а; размер 80 × 53 мм) і 17 ініцыялаў з 13 дошак, усе іншыя ўпрыгожанні, у тым ліку своеасаблівыя «застаўкі» (л. 2 і 7), складаюцца з элементаў стандартнага наборнага арнаменту. Прыблізна тое самае можна сказаць пра

* Апісанне буквара Собаля 1636 г. гл.: Батвіннік М. Магілёўскі буквар // Маладосць. Мінск, 1973. № 1. С. 144; Симмонс. О некоторых старопечатных кириллических книгах… С. 253. Пра Віленскі буквар 1645 г. гл. той жа артыкул Сіманса (с. 253), а таксама: Зернова А. С. Книги кирилловской печати, хранящиеся в заграничных библиотеках и неизвестные в русской библиографии // Труды (Гос. библиотека СССР им. В. И. Ленина). Москва, 1958. Т. II. С. 33. Пра Магілёўскі буквар 1648 г. гл.: Немировский Е. Л. Заметки о славянском старопечатании // Книга и графика. Москва, 1972. С. 105.

Куцеінскі буквар з ягонай гравюрай св. Рыгора Багаслова (л. 1а; 106 × 72 мм) і 18 ініцыяламі з 13 дошак, іншых ад магілёўскіх. Апрача гэтага ў ім ёсць два адбіткі адной застаўкі (л. 2 і 7;13 × 58 мм) з даволі прыгожым кветкавым рысункам.

Віленскі буквар 1640 г. (і, калі можна судзіць па апісаннях, выданні 1645 і 1652 гг.) звяртае на сябе ўвагу сваёй мастацкай вонкавай формаю. У ім шэсць гравюраў велічынёй на ўсю старонку: св. Васіля Вялікага (л. 1а; 128 × 72 мм), св. Яна Залатавуснага (л. 6а; 126 × 68 мм), Уваскрашэння (л. 12а; 133 × 75 мм), Укрыжавання (л. 17а; 135 × 75 мм), Караля Давіда на троне (л. 26а; 116 × 75 мм) і св. апостала Мацвея (л. 30а; 116 × 72 мм.). Апрача гэтага буквар мае дзве маленькая авальныя гравюры ў прастакутных арнаментальных рамках з традыцыйным вобразам св. Тройцы ў выглядзе трох анёлаў (л. 2 у застаўцы і 13а; 30 × 40 мм) і зыходу Св. Духа (л. 7; 30 × 40 мм); крыху большую авальную гравюру Давіда, які моліцца, стоячы на каленях (л. 8а; вышыня 52 мм); прастакутную гравюру св. Пятра (л. 13а; 50 × 16 мм) і другую, падобную ёй, з св. Паўлам (там жа; 50 × 16 мм): і, наканец, прыгожую гравюру Багародзіцы ў вянку з кветак, якія напамінаюць васількі (л. 14; 45 × 43 мм)*. 16 віленскіх ініцыялаў з 12 дошак — некаторыя з іх скарынінскія, або іх блізкія копіі, — і наборны арнамент дапаўняюць мастацкае афармленне буквара. Усё гэта робіць гэтую маленькую кніжку выдатным помнікам беларускага кнігадрукавання XVII ст.

Тут трэба мімаходам успомніць пра яшчэ адзін падручнік, «Букварь, сиречь Начало ученія детем, начинающим чтенію извыкати», выдадзены Спірыдонам Собалем у 1631 г. у Куцеіне**. Тэкст яго, калі можна судзіць па апісаннях, з’яўляецца ў вялікай меры паўтарэннем тэксту Еўеўскага буквара, хоць паміж гэтымі двума выданнямі існуюць таксама паважныя разыходжанні. З другога боку, ён больш абшырны за пазнейшыя буквары, не кажучы ўжо пра тое, што ён розніцца ад іх (і ад Еўеўскага буквара) сваім тытулам. Магчыма, Куцеінскі буквар 1631 г. трэба

* Некаторыя гравюры буквара сустракаюцца ў ранейшых віленскіх брацкіх выданнях. Так, гравюры Давіда на троне і св. апостала Мацвея знаходзяцца ў кнізе «Новый Завет» 1623 г., а гравюра Уваскрашэння — у кнізе «Акафисты» 1628 г. У застаўках гэтага апошняга выдання ўжыта таксама два разы гравюра Багародзіцы.

** Апісанне гэтага выдання гл.: Свенцицкий И. Каталог книг церковнославянской печати. Жовква, 1908. № 569; Батвіннік М. Куцеінскі буквар // Народная асвета. Мінск, 1972. № 12. С. 86–87.

лічыць прамежкавым звяном у развіцці беларускіх буквароў ад еўеўскага выдання да іх канчатковай формы.

Усе пазнейшыя буквары нашмат карацейшыя за Еўеўскі, і ў іх адчуваецца перавага рэлігійных тэкстаў над граматычнымі. Нават новы параграф «Слози словес под титлами», якога няма ў Еўеўскім буквары, толькі падкрэслівае іхнюю рэлігійную накіраванасць. Няма ў іх таксама тэкстаў да чытання на беларускай мове. Прычыну гэтага, магчыма, трэба шукаць у тагачасных моўных адносінах у Беларусі. У канцы XVI і пачатку XVII ст. беларуская мова была яшчэ вельмі пашырана ў справаводстве і ўсіх афіцыяльных зносінах у Вялікім Княстве Літоўскім. У сярэдзіне XVII ст. афіцыяльнае становішча беларускай мовы, загарантаванае Літоўскім статутам, аставалася без змен, але ў практыцы яна ўсё больш і больш уступала месца польскай. Таму, магчыма, у праваслаўных брацкіх школах пачалі звяртаць менш увагі на навучанне беларускай мовы, а клалі большы націск на веданне царкоўнаславянскай, як патрэбнай не толькі для разумення царкоўных службаў, але для захавання праваслаўя, якое знаходзілася ў тым часе ў Беларусі ў даволі цяжкім становішчы.

Англійскі вучоны Джон Сіманс, апісваючы Куцеінскі буквар 1653 г., выказаў думку, што ён належыць да беларускай традыцыі, якая ўстанавілася ў 1630-х гг.*. Тое самае можна сказаць пра ўсе іншыя буквары таго часу з той толькі папраўкай, што пачатак беларускай традыцыі трэба аднесці да 1618 г. Вывучэнне гэтых выданняў мае вялікую цікавасць для гісторыі беларускай асветы, кнігадрукавання і беларускай культуры наогул.

***1973***

---

* Симмонс. О некоторых старопечатных кириллических книгах… С. 253.

# НОВЫЯ НАБЫТКІ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ

Нядаўна здарылася важная для кнігалюбаў падзея: у часе ад 28 лістапада да 1 снежня ў Монтэ-Карла адбыўся аўкцыён бібліятэкі Дзягілева. Вядомы расейскі дырэктар балета быў таксама вялікім кнігалюбам і апошнія гады свайго жыцця ён прысвяціў збіранню рэдкіх кніг, пераважна расейскіх. Пасля смерці Дзягілева ў 1929 г. ягоная бібліятэка перайшла ў рукі ягонага вучня Сяргея Ліфара, які апошнім часам вырашыў прадаць яе.

Аўкцыён перадусім зацікавіў любіцеляў расейскай кнігі. Гэта зусім зразумела, калі ўзяць пад увагу, што ў бібліятэцы Дзягілева знаходзіліся такія рэдкасці, як «Апостал», выдадзены ў Маскве ў 1564 г. Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам, цэлы рад маскоўскіх друкаў XVII–XVIII стст., першыя выданні твораў Пушкіна, Гогаля, Тургенева, Талстога і інш. Сярод усіх гэтых расейскіх кніжных скарбаў знайшлася таксама невялікая колькасць беларускіх выданняў XVI–XVIII стст. Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане пастанавіла зрабіць усё магчымае, каб купіць іх, у выніку чаго ейны кніжны фонд узбагаціўся некалькімі вельмі рэдкімі і цэннымі беларускімі старадрукамі.

Найбольш цэнным набыткам з'яўляецца, без сумнення, фрагмент «Бібліі» Скарыны. Больш дакладна, гэта два аркушы з «Першай кнігі царстваў», выдадзенай Скарынам у Празе ў 1518 г. Аркушы прадстаўляюць сабой поўны сшытак з чатырох лістоў (па два на кожным аркушы) з чарговай нумарацыяй 19–22 і з тэкстам 10 і часткова 9 і 11 раздзелаў кнігі. У тэксце дзве ініцыяльныя літары: В (л. 20а) і Б (л. 22). Папера аркушаў з плямамі і з пашчэрбленымі берагамі, але тэкст захаваўся непашкоджаным.

У параўнанні з іншымі скарынінскімі выданнямі «Кнігі царстваў» не з'яўляюцца асаблівай рэдкасцю. Коршунаў налічыў аж шаснаццаць вядомых яму цэлых і фрагментарных экзэмпляраў гэтай кнігі ў розных — пераважна савецкіх, — бібліятэках*. У сваім пераліку ён памянуў сямнаццаты экзэмпляр, які знаходзіцца ў Брытанскім музеі ў Лондане. Нягледзячы на гэта, набытыя Бібліятэкай Ф. Скарыны аркушы маюць вялікую вартасць. Галоўная цікавасць іх у тым, што яны ніколі не былі

---

* Коршунаў А. Кароткі каментарый да выданняў Францыска Скарыны // Скарына Францыск. Прадмовы і пасляслоўі. Мінск: Навука і тэхніка, 1969. С. 204.

пераплецены ў кнігу. У скарыназнаўчай літаратуры ўжо вядомы такія аркушы, знойдзеныя яшчэ ў XIX ст. у пераплётах гарадскіх кніг горада Вроцлава. Сымон Брага ў 1964 г. зрабіў спробу выясніць гэты факт тым, што, магчыма, непераплеценыя аркушы скарынінскіх выданняў былі сканфіскаваныя ў Вроцлаве пры іх перавозе з Прагі ў Вільню*. Цікава тое, што сярод знойдзеных у Вроцлаве аркушаў няма ніводнага з «Кніг царстваў», затое два ідэнтычныя фрагменты знаходзяцца ў Кембрыджы: адзін ва ўніверсітэцкай бібліятэцы, а другі ў бібліятэцы Trinity College. Усё гэта толькі паказвае, што вывучэнне спадчыны беларускага першадрукара яшчэ далёка не закончана.

Другой кнігай, якую бібліятэка купіла на аўкцыёне, з'яўляецца «Новы завет», выдадзены Святадухаўскім праваслаўным брацтвам у Вільні ў 1623 г. У экзэмпляры няма першых лістоў, уключна з тытульным, але евангельскі тэкст захаваўся поўнасцю. Мова выдання царкоўнаславянская і не выклікае асаблівай цікавасці. Затое кніга звяртае на сябе ўвагу сваёй мастацкай вонкавай формай, прыгожымі гравюрамі евангелістаў, застаўкамі і арыгінальнымі кінаварнымі ініцыяльнымі літарамі на пачатку кожнага з чатырох евангельскіх тэкстаў і Апостальскіх дзеянняў.

Бібліятэка таксама купіла экзэмпляр куцеінскага «Новага завету» 1652 г. Характэрнай рысай гэтага выдання з'яўляюцца каментарыі на беларускай мове да царкоўнаславянскага евангельскага тэксту. Гэта ўжо другі экзэмпляр гэтай кнігі ў бібліятэцы: першы быў куплены ў 1972 г. Выкладчык Лонданскага ўніверсітэта Г. Лімінг надрукаваў у «Журнале беларускіх студыяў» за 1974 г. сваё даследаванне мовы гэтага выдання**.

Вартыя ўвагі дзве кнігі супрасльскага выдання. Першая з іх, «Литургикон си есть служебник», выйшла ў 1695 г. і з'яўляецца дакладнай копіяй аднайменнага віленскага выдання 1692 г. Ініцыятыва выдання гэтага служэбніка належыць уніяцкаму мітрапаліту Цыпрыяну Жахоўскаму (1674–1693). Сваім зместам і ўкладам матэрыялу ён значна розніцца ад традыцыйных служэбнікаў візантыйскага абраду і хутчэй напамінае лацінскі мшал, на які ён нават падобны сваім вонкавым выглядам (кніга

---

* Брага С. Геаграфічная лякалізацыя жыццяпісу доктара Скарыны // Запісы (Беларускі Інстытут навукі і мастацтва). Мюнхен, 1964. Кн. 3. С. 25–28.

** Leeming H. The Language of the Kucieina New Testament and Psalter of 1652 // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1974. Vol. III. № 2. P. 123–144.

надрукаваная размерам у ліст). Побач з тэкстамі трох літургіяў (св. Яна Залатавуснага, Васіля Вялікага і Раней пасвячаных дароў) укладальнікі памясцілі ў кнізе антыфоны, трапары і кандакі, а таксама апостальскія і евангельскія чытанні на нядзелі і святы ўсяго года. Відаць, такое выданне сталася патрэбным, калі сярод уніяцкіх святароў пачаў распаўсюджвацца звычай служыць г. зв. «ціхую», або «чытаную» літургію. У сярэдзіне кнігі цікавы ўласніцкі запіс: «Сеі Служебнік ест закрыстыи Церкві Бытенской Чыну Свіатаго Васіліа Велікаго 1765 Лето подписан».

Другая кніга, якая выйшла ў Супраслі ў 1722 г., называецца «Собрание припадков краткое и духовным особом потребное». Гэта даволі абшырны падручнік навукі аб святых тайнах і галоўных праўдах хрысціянскай веры для ўніяцкіх святароў. Мова выдання беларуская, але з моцнымі ўплывамі польскай і царкоўнаславянскай. Апошні, шаснаццаты раздзел побач з беларускім тэкстам мае паралельны пераклад на польскую мову. Да «Собрания» прыплецены «Лексикон», або царкоўнаславянска-польскі слоўнік, выдадзены таксама ў Супраслі ў 1722 г. Ён прызначаны для святароў, якія часта не ведалі царкоўнаславянскай мовы і таму не разумелі літургічных тэкстаў. Два апошнія выданні сведчаць, з аднаго боку, аб захаванні беларускай мовы ў царкоўным ужытку ўніяцкай царквы ў Беларусі ў XVIII ст. З другога боку, яны з’яўляюцца сумнымі дакументамі паступовай паланізацыі ўніяцкага духавенства.

Апошняй кнігай беларускага выдання, набытай Бібліятэкай Ф. Скарыны, з’яўляецца «Альфа и омега», якая выйшла ў Вільні ў 1786 г. Кніга задумана ўкладальнікам як «изображение истиннаго христианскаго жития, паче же иноческаго, от множаиших святых, собрано по числу литер словенских, ради удобнеишаго обретения, зело душеполезно». Напісаная на царкоўнаславянскай мове, яна цікавая як прыклад беларускіх старадрукаў апошняга перыяду, незадоўга да таго, як Беларусь папала пад уладу Расеі.

Апрача беларускіх кніг, бібліятэка купіла некалькі кіеўскіх і львоўскіх выданняў XVII ст., у тэксце або вонкавым афармленні якіх адчуваецца сувязь з беларускімі старадрукамі, а таксама дзве важныя бібліяграфічныя працы: «Описание славяно-русских книг, напечатанных кирилловскими буквами» І. Каратаева (СПб., 1883) і «Описание старопечатных и церковнославянских книг, хранящихся в библиотеке С.-Петербургской духовной академии» А. Радоскага (СПб., 1891).

Кошты куплі беларускіх старадрукаў перавысілі 2500 фунтаў. Такі вялікі выдатак быў бы немагчымы для бібліятэкі, калі б не ахвярнасць шматлікіх беларусаў з усіх канцоў свету, якія, разумеючы важнасць справы, прыйшлі ёй са шчодрай дапамогай. Сёння яны могуць мець маральнае задавальненне, што дзякуючы ім беларускія культурныя скарбы не ўзбагачваюць якую-небудзь чужую ўстанову ці прыватную калекцыю, але захоўваюцца ў беларускай бібліятэцы, дзе яны даступны для ўсіх тых, якія цікавяцца пытаннямі развіцця беларускага кнігадрукавання і беларускай культуры наогул.

***1975***

## ПЯЦЬ ГАДОЎ БІБЛІЯТЭЦЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане была адчынена 15 мая 1971 г. Ад таго часу кіраўніцтва бібліятэкі мела магчымасць адчуць неаслабную прыхільнасць і падтрымку для яе з боку беларусаў ва ўсім свеце, а таксама зацікаўленне яе ростам і дзейнасцю. Мэтай гэтага артыкула ёсць задаволіць у меру магчымасці гэтае зацікаўленне і даць больш абшырныя весткі аб развіцці і працы бібліятэкі за пяць гадоў яе існавання.

Кніжныя фонды бібліятэкі, якія першапачаткова налічвалі каля 10 000 кніг, усцяж папаўняюцца новымі набыткамі. У сярэднім бібліятэка атрымлівае 300–400 новых назваў кніг у год, сярод якіх ёсць даволі шмат старых і рэдкіх выданняў.

Самым багатым у бібліятэцы з'яўляецца аддзел беларускай літаратуры, які налічвае каля 3000 кніг. Бібліятэка мае амаль усе выданні твораў беларускіх пісьменнікаў, якія выйшлі пасля 1960 г. (у тым ліку серыі «Першая кніга паэта», «Бібліятэка беларускай паэзіі», «Бібліятэка беларускай прозы» і інш.), а таксама шмат ранейшых. Асаблівай увагі заслугоўваюць першыя выданні твораў класікаў беларускай літаратуры, як «Жалейка» (СПб., 1908), «Сон на кургане» (СПб., 1912), «Шляхам жыцця» (СПб., 1913) і «Раскіданае гняздо» (Вільня, 1919) Янкі Купалы; «Батрак» (СПб., 1913), «Родныя з'явы» (Вільня, 1914), «У Палескай глушы» (Вільня, 1923), «Сымон музыка» (Мінск, 1925), «На прасторах жыцця» (Мінск, 1926) Якуба Коласа і «Вянок» (Вільня, 1913) Максіма Багдановіча. Ёсць таксама «Рунь» (Вільня, 1914) і «Дзве душы» (Вільня, 1919) Максіма Гарэцкага, «Мая ліра» Казіміра Сваяка і першыя выданні твораў Альберта

Паўловіча, Францішка Аляхновіча, Алеся Дудара, Уладзіміра Хадыкі, Міхася Машары, Максіма Танка і іншых.

Аддзел мовы, апрача ўсіх прац беларускіх мовазнаўцаў, якія выйшлі пасля 1955 г., мае многа рэдкіх выданняў, сярод іх «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча (Вільня, выданні 1921 і 1929 гг.), «Пачатковая граматыка» (Мінск, 1926) і «Беларускі правапіс» (Мінск, 1928) Язэпа Лёсіка, «Беларускі правапіс» Р. Астроўскага (Вільня, 1930) і інш. Ёсць таксама камплект «Беларусаў» Я. Карскага (часткі 1 і 2 трэцяга тома на мікрафільме), «Опыт диалектологической карты русского языка в Европе» М. Дурнаво (Масква, 1915) і «Северско-белорусский говор» П. Растаргуева (Ленінград, 1927). Асабліва вартаснай з'яўляецца калекцыя беларускіх слоўнікаў, многія з якіх нялёгка знайсці ў іншых заходніх бібліятэках, як, напр., «Словарь белорусского наречия» І. Насовіча (СПб., 1870), «Смоленский областной словарь» У. Дабравольскага (Смаленск, 1914), «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік» М. Гарэцкага (Вільня, 1919), «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» В. Ластоўскага (Коўна, 1924), «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча (Мінск, 1926), «Віцебскі краёвы слоўнік» М. Касляровіча (Віцебск, 1927), «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны» М. Шатэрніка (Мінск, 1929), «Падручны беларуска-польскі слоўнік» Б. Друцкага-Падбярэзскага (Вільня, 1929), «Руска-беларускі слоўнік» А. Александровіча (Мінск, 1937), а таксама шэсць выпускаў серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія», якую выдаваў Інстытут беларускай культуры (пасля беларуская Акадэмія навук) у 1920-я і пачатку 1930-х гадоў. Бібліятэка мае ўсе слоўнікі, якія выйшлі пасля апошняй вайны.

Бібліятэцы пашчасціла здабыць цэлы рад рэдкіх этнаграфічных зборнікаў, як «Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае» П. Гільтэбранта (Вільня, 1867), «Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян в Северо-Западном крае» М. Дзмітрыева (Вільня, 1869), «Белорусские песні» П. Бяссонава (Масква, 1871), «Сборник белорусских пословиц» І. Насовіча (СПб., 1874), «Белорусские народные песни» (СПб., 1874) і «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» П. Шэйна (камплект, СПб., 1887–1902), «Гомельские народные песни» З. Радчанка (СПб., 1888), «Пинчуки» Д. Булгакоўскага (СПб., 1891), «Смоленский этнографический сборник» У. Дабравольскага (камплект, СПб., 1891; Масква, 1903), «Простонародные приметы и поверия… в Витебской Белоруссии» (Віцебск, 1897) і «Нечистики» К. Ніксі-

фароўскага (Вільня, 1907), «Сказки и расказы белорусов-полешуков» А. Сержпутоўскага (СПб., 1911), «Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны» А. Шлюбскага (абедзве часткі, Мінск, 1927–1928), «Polesie wschodnie» К. Машынскага (Варшава, 1928) і інш.

Гістарычны аддзел, самы вялікі пасля літаратурнага, узбагаціўся за апошнія гады многімі цікавымі кнігамі, сярод якіх ёсць «Кароткая гісторыя Беларусі» В. Ластоўскага (Вільня, 1910), «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (Вільня, 1921) і «Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецця» (Мінск, 1926) У. Ігнатоўскага, «Беларускі рух ад 1917 да 1920 году» Я. Варонкі (Коўна, 1920) і «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» А. Станкевіча (Вільня, 1934). Удалося таксама дастаць шмат ранейшых выданняў на расейскай і польскай мовах, як, напр., «Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии» М. Бэз-Карніловіча (СПб., 1853), «Обозрение истории Белоруссии» В. Турчыновіча (СПб., 1857), «Дневник Люблинского сейма» (СПб., 1869), «Чтения по истории Западной России» М. Каяловіча (СПб., 1894), «Труды IX Археологического съезда в Вильне в 1893 г.» (Масква, 1895–1897), «Сеймы Литовско-Русского государства» Н. Максімейкі (Харкаў, 1902), «Рада Великого Княжества Литовского» І. Маліноўскага (Томск, 1903–1912), «Литовско-русский повет и его сеймик» І. Лапо (Юр’еў, 1911), «Ostatnie lata Witolda» А. Прахаскі (Варшава, 1882), «Witold, Wielki Książe Litewski» І. Каханоўскага (Львоў, 1900), «Polska i Litwa na przełomie Wieków średnich» Ф. Папээ (Кракаў, 1904), «Elekcya Zygmunta I» Л. Фінкеля (Кракаў, 1910), «Zygmunt August, Wielki książe Litwy» Л. Калянкоўскага (Львоў, 1913). Для зразумення беларуска-польскіх адносінаў пасля Першай сусветнай вайны вялікую цікавасць маюць кнігі «Żywioł polski na ziemiach litewskich» М. Свяхоўскага (Закапанэ, 1917), «Państwo polskie a kwestya białoruska» Шчэнснага Браноўскага (Варшава, 1919), «Sprawa narodowościowa na Kresach wschodnich» К. Сракоўскага (Кракаў, 1924), «Sprawa białoruska» С. Элскага (Варшава, 1931), і асабліва выданні на беларускай мове «Адраджэнне Беларусі і Польшча» А. Цвікевіча (Берлін, 1921), «Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны ў 1919–1921 гг.» І. Антонава (1921) і «Працэс 45-ці беларусаў у Беластоку» (Выд. Бел. Пасольскага клуба, Вільня, 1923). У галіне гісторыі Царквы бібліятэка набыла «Историческое известие о возникшей в Польше Унии» М. Бантыш-Каменскага

(Масква, 1805), «Записки Иосифа, Митрополита Литовского» (усе тры тамы, СПб., 1883), «История Минской архиепископии» С. Рункевіча (СПб., 1893), «Последнее воссоединение с Православной церковью униатов Белорусской епархии» Р. Шавельскага (СПб., 1910), «Język rosyjski w katolickim rytuale i dodatkowem nabożeństwie» І. Пшыбышэўскага (Львоў, 1893), «Sprawa dysydencka 1764–1772» Ц. Лубенскай (Кракаў, 1911), «Książe Konstanty Ostrogski a Unia Brzeska 1596 r.» К. Лявіцкага (Львоў, 1933), «Zygmunt Stary a Kościół Prawosławny» А. Лапінскага (Варшава, 1937), «Kościół Prawosławny w Polsce w epoce Sejmu Wielkiego» Э. Саковіча (Варшава, 1935), «O autokiefalii prawosławnej w Polsce» Е. Лангрода (Варшава, 1931). Сярод зборнікаў гістарычных дакументаў варта ўспомніць нядаўна набыты «Белорусский архив древних грамот» І. Грыгаровіча (Масква, 1824). Ёсць таксама «Акты Западной России» (СПб., 1846–1853), усе чатыры тамы «Літоўскай метрыкі», выдадзеныя ў серыі «Русская историческая библиотека» (СПб., 1905–1914), паасобныя тамы серыі «Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси» (Вільня, 1867–1904) і інш.

Бібліятэка, якая носіць імя Францішка Скарыны, асабліва зацікаўлена ў збіранні ўсіх матэрыялаў, якія датычаць жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара і гісторыі беларускага друку наогул. Скарыніяна ў бібліятэцы прадстаўлена вельмі багата, пачынаючы ад такіх кніг, як «Доктор Франциск Скорина» П. Уладзімірава (СПб., 1888) і «Чатырохсотлецце беларускага друку» (Мінск, 1926) і канчаючы апошнімі працамі ў гэтай галіне, як, напр., «Францыск Скарына і яго час» Л. Царанкова (Мінск, 1975). Апошнім часам бібліятэка атрымала кнігу кс. А. Станкевіча «Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі» (Вільня, 1925).

Сярод бібліяграфічных прац трэба ўспомніць «Описание славяно-русских книг» І. Каратаева (СПб., 1883), «Описание старопечатных и церковнославянских книг» А. Радоскага (СПб., 1891) і «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» В. Ластоўскага (Коўна, 1926). Апошнім дадаткам да гэтай групы з'яўляецца «Каталог белорусских изданий Кирилловского шрифта XVI–XVII вв.» В. Лук'яненка (2 часткі, Ленінград, 1973–1975). Ёсць таксама апісанні спецыяльных калекцыяў, як напр. «Описание рукописей Виленской публичной библиотеки» Ф. Дабранскага (Вільня, 1882) і «Описание книг и актов Литовской метрики» С. Пташыцкага (СПб., 1887).

Гордасцю бібліятэкі з’яўляецца невялікая калекцыя старадрукаў, якая была створаная на працягу апошніх пяці гадоў. Сёння бібліятэка мае фрагмент «Книги первыи царств» Скарыны (Прага, 1518), «Статут Великого Князьства Литовского» (Вільня, 1594–1595), «Новый завет» (Вільня, 1623), «Новый завет» (Куцеіна, 1652), «Леитоургикон, се ест служебник» (Супрасль, 1695), «Собрание припадков» (Супрасль, 1722), «Лексикон» (Супрасль, 1722), «Служебник» (Вільня, 1773), «Альфа и омега» (Вільня, 1786) і «Златоуст» (Вільня, 1798). Да гэтага спісу можна дадаць старадрукі маскоўскія і ўкраінскія, як «Служебник» (Масква, 1602), «Полуустав» (Кіеў, 1643), «Евангелие» (Львоў, 1644), «Служебник» (Кіеў, 1653), «Литургиарион» (Львоў, 1691), «Молитвословец» (Кіеў, 1721), «Акафисты с каноны» (Кіеў, 1754), а таксама кнігі на іншых мовах, якія маюць дачыненне да Беларусі, менавіта «Introductio in Chaldaicam Linguam» Тэзеа Амбпрозія Альбанэзі (Павія, 1539), «Sarmatiae Europeae Descriptio» А. Гваніні (Шпаер, 1581), «Trybunał, dany obywatelom W. X. Litewskiego» (Вільня, 1616), «Statut Wielkiego Xięstwa Litewskiego» (Вільня, 1619), «Historiae Lituanae» А. Каяловіча (абедзве часткі, Гданьск, 1650; Антверпен, 1669), «Inwentarz Konstytucyy koronnych i W. X. Litewskiego» (Лейпцыг, 1733) і «Historie der Polnischen Wahl-Tage» М. дэ ля Бізард’ер (Стакгольм, 1733).

Бібліятэка атрымлівае стала 40 беларускіх газет і часопісаў. За апошнія гады калекцыя перыёдыкі ўзбагацілася камплектамі ці паасобнымі нумарамі такіх старых выданняў, як «Варта» (адзіны нумар, Мінск, 1918), «Вольны сцяг» (камплект, Мінск, 1920–1922), «Працы БДУ» (№ 4–12, Мінск, 1923–1926), «Замежная Беларусь» (№ 1, Прага, 1926), «Росквіт» (Мінск, 1927–1928), «Запіскі аддзелу філалогіі» (кн. 1, Мінск, 1928), «Сялянская ніва» (Вільня, 1926), «Крывіч» (Коўна, паасобныя нумары за 1923–1926), «Наш край» (Мінск, паасобныя нумары за 1928), «Ударнік» (№ 2, Мінск, 1932), «Гадавік Беларускага навуковага таварыства» (Вільня, 1933), «Полымя рэвалюцыі» (Мінск, некамплектныя гадавікі за 1934–1936), «Беларускі работнік» (Берлін, 1944).

Калекцыя геаграфічных картаў налічвае больш за сотню назваў, у тым ліку сорак з XVI–XVIII стст. У рукапісных фондах бібліятэкі захоўваюцца матэрыялы пачынаючы ад дакументаў з XVI ст. і канчаючы аўтографамі беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў. Каб апісаць, аднак, усё гэта, а таксама музейную калекцыю, патрэбен асобны артыкул.

За пяць гадоў свайго існавання бібліятэка мела больш за 400 наведвальнікаў з Англіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны, Бельгіі, Савецкага Саюза, Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Аўстраліі, Новай Зеландыі, Ізраіля і іншых краінаў. Не ўсе наведвальнікі з’яўляюцца чытачамі, некаторыя нават трапляюць у бібліятэку прыпадкова, многія, аднак, прыходзяць туды ў пошуках патрэбных ім матэрыялаў і інфармацыі для навуковай працы. Многім іншым, якія не маюць змогі прыехаць у Лондан, бібліятэка памагае пісьмовай інфармацыяй і матэрыяламі ў форме ксеракопій і мікрафільмаў. Бібліятэка з’яўляецца таксама месцам навуковых зборак, лекцый і канферэнцыяў, як, напр., курсы беларусазнаўства Англа-беларускага таварыства ці канферэнцыя, прысвечаная вывучэнню сярэдніх вякоў Усходняй Еўропы, якая адбылася вясною 1976 г. і на якой было больш за сорак удзельнікаў з розных універсітэтаў Вялікай Брытаніі.

Такім чынам, сёння Бібліятэка імя Францішка Скарыны з’яўляецца важным цэнтрам навуковай інфармацыі аб Беларусі ў заходнім свеце, і яе кніжныя фонды даступныя для ўсіх тых, хто сур’ёзна цікавіцца беларускім пытаннем. Гэта адна з найважнейшых мэтаў бібліятэкі. Другой мэтай, не менш важнай за папярэднюю, ёсць збіранне і захаванне ад знішчэння ўсіх беларускіх друкаваных і рукапісных матэрыялаў, асабліва старых і рэдкіх. Безумоўна, кніга ў прыватнай калекцыі кнігалюба можа захавацца не горш, чым у бібліятэцы. Аднак рэдкае выданне ў прыватных руках вядома толькі ўласніку, у тым часе як у бібліятэцы яно стаецца даступным і карысным для многіх і такім чынам служыць для пашырэння ведаў аб Беларусі. Гэта зразумелі ўжо многія беларусы, якія падарылі бібліятэцы свае кнігі і нават цэлыя калекцыі. Больш таго, некаторыя з найбольш вартасных набыткаў бібліятэкі за апошнія гады з’яўляюцца падарункамі беларусаў. Успамінаючы тут з удзячнасцю гэтыя годныя наследавання ўчынкі, хочацца выказаць спадзяванне, што іншыя возьмуць з іх прыклад.

Утрыманне і разбудова бібліятэкі звязаны з вялікімі коштамі. Так, напрыклад, да канца 1975 г. толькі на куплю і кансервацыю кніг і мікрафільмаў было выдадзена 14 860 ангельскіх фунтаў (больш за 35 000 амерыканскіх даляраў паводле курсу, які існаваў у тым часе). Калі дадаць да гэтага кошты ўтрымання бібліятэчнага будынка (рамонт, ацяпленне, асвятленне, тэлефон), падаткі і г. д., дык разам збіраецца вельмі паважная сума. Бібліятэка, якая з’яўляецца незалежнай навуковай установай, не атрымлівае

дапамогі з ніякіх дзяржаўных ці іншых афіцыяльных фондаў, і галоўнай крыніцай яе даходаў з’яўляюцца прыватныя ахвяры. Да гэтага часу ахвяры беларусаў з усяго свету складалі вялікую частку даходаў бібліятэкі, і без іх было б вельмі цяжка яе ўтрымаць, не кажучы ўжо аб далейшым развіцці. Трэба спадзявацца, што з часам усё больш і больш беларусаў зразумеюць важнасць бібліятэкі і той працы, якую яна робіць, і захочуць далучыцца да ліку яе дабрачынцаў.

***1976***



# КНЯГІНЯ РАДЗІВІЛ І СПРАВА АДРАДЖЭННЯ УНІІ Ў БЕЛАРУСІ

## Магдалена Радзівіл і беларускае нацыянальна-рэлігійнае адраджэнне

Мяне заўсёды мучыць думка, што, пакінуўшы ўсходні абрад, мае продкі зрабілі страшэнную крыўду каталіцтву.

*З ліста Магдалены Радзівіл а. Фабіяну Абрантовічу 18 траўня 1928 г.*

Сярод выдатных постацяў беларускага нацыянальнага і рэлігійнага адраджэння пачатку XX ст. княгіня Магдалена Радзівіл (8.7.1861–6.1.1945) займае не апошняе месца. На жаль, ейнае жыццё і дзейнасць дасюль заставаліся па-за ўвагаю нашых гісторыкаў*.

* Вось найбольш значныя публікацыі пра Магдалену Радзівіл на беларускай мове: І. М. Княгіня Магдалена-Матыльда Радзівіл // Студэнцкі Кліч. Мюнхен, 1947. № 1 (15). С. 8–12; Піхура Г. Княгіня Магдалена Радзівіл // Божым шляхам. Лондан, 1965. № 2. С. 8–9; Г. Ст. Да ўспамінаў аб княгіні Магдалене Радзівіл // Божым шляхам. Лондан, 1965. № 6. С. 19; Багадзяж М. Я — беларуска // Беларуская мінуўшчына. Мінск, 1996. № 1. С. 37–39; Хурсік В. Белы лебедзь у промнях славы. Магдаліна Радзівіл. Мінск: Пейто, 2001. 112 с. І. М. (Юстын Мурашка), аўтар першага артыкула (цяпер амаль недасяжнага), у 1918 г. працаваў у адміністрацыі маёнткаў княгіні Радзівіл у Кухцічах. Артыкулы Г. Піхуры і Ст(аніслава) Г(рынкевіча) передрукоўваліся ў даведніку: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Мінск; Мюнхен, 1999. С. 350–353. Між іншым, Ст. Г., які напрыканцы Другой сусветнай вайны

Магдалена Радзівіл (у дзявоцтве Завішанка) нарадзілася ў Варшаве, але сваімі каранямі яна была шчыльна звязаная з Беларуссю. Яе бацька, Ян Завіша (1820–1887), вядомы археолаг, рабіў раскопы і даследаваў помнікі каменнага веку на Ігуменшчыне і Наваградчыне, браў удзел у міжнародных археалагічных кангрэсах у Венецыі (1871) і Будапешце (1876)*. Ён належаў да тых прадстаўнікоў шляхетных беларускіх родаў, якія, нягледзячы на вонкавую паланізацыю, засталіся патрыётамі сваёй бацькаўшчыны і зрабілі значны ўнёсак у вывучэнне гісторыі і культуры Беларусі. Такімі былі браты графы Канстанцін і Астап Тышкевічы, Уладзіслаў Сыракомля, Ганорый Кіркор і інш. Звычайна яны размаўлялі між сабою па-польску, хоць добра ведалі беларускую мову і карысталіся ёю ў зносінах з сялянамі. Некаторыя з іх, як Аляксандр Ельскі, спрабавалі пісаць па-беларуску.

Асноўная частка зямельных уладанняў Завішаў знаходзілася на Міншчыне, у Ігуменскім павеце, з цэнтрам у Кухцічах, прыблізна за пяць вёрстаў ад Узды. Там збольшага і прайшло дзяцінства Магдалены. Тады, відаць, не без уплыву бацькі, у дзяўчаці зарадзілася любоў да Беларусі і беларускага народа, якая пасля прывяла яе да ўсведамлення сваёй нацыянальнай прыналежнасці.

Сама Магдалена сведчыла, што адносіны з маці-полькаю ў яе склаліся не вельмі шчасліва: «Я сама ў дзяцінстве глыбока адчула розніцу, якую мая маці рабіла між мною і маёй сястрою, ейнай любіміцай, і адтуль паўстала ўва мне нянавісць да такога фаварытызму. Трэба яго перанесці, але горыч па ім застаецца…» (ліст да а. Андрэя Цікоты ад 27 ліпеня 1929 г.)**. Магчыма, гэ-

---

апынуўся ў Нямеччыне, піша, што спрабаваў перабрацца ў Швейцарыю, каб наладзіць сувязь з Магдаленай Радзівіл, не ведаючы, што яе ўжо не было сярод жывых. У дарозе яго арыштавалі амерыканцы 15.04.1945, а не 1944 г., як напісана ў артыкуле. У манаграфіі «Белы лебедзь…» аўтар сабраў шмат матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць княгіні Радзівіл да 1918 г., але іх трэба правяраць, бо ў іх шмат недакладнасцяў або залішне суб'ектыўных ацэнак.

* Беларуская Энцыклапедыя. Мінск, 1998. Т. 6. С. 493; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1996. Т. 3. С. 393 (год нараджэння Яна Завішы ў гэтым выданні памылкова пададзены як 1852).

** Копіі гэтага і іншых выкарыстаных тут лістоў захоўваюцца ў архіве Бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лондане ў тэчцы «Магдалена Радзівіл». Магдалена Радзівіл магла размаўляць па-беларуску, але не наважвалася пісаць на гэтай мове і ў перапісцы з беларускімі і літоўскімі дзеячамі карысталася польскаю. Тут і далей — пераклад аўтара.

тая акалічнасць паўплывала на рост нацыянальнай свядомасці Магдалены. Паказальна, што нічога не вядома пра беларускія зацікаўленні ейнае старэйшае сястры Эвы.

У 1881 г. Магдалена выйшла замуж за польскага графа Людвіка Красінскага. У пасаг яна атрымала маёнтак Жорнаўкі (таксама ў Ігуменскім павеце) з больш як 27 тысячамі дзесяцінаў зямлі*. У 1895 г. Магдалена застаецца ўдавою з малой дачкой Луізаю. Яна шмат падарожнічае па Еўропе і ў 1906 г. у Лондане выходзіць другі раз замуж за князя Міколу Радзівіла, на дзевятнаццаць гадоў маладзейшага за яе. Гэты няўрымслівы малады чалавек меў сярод палякаў рэпутацыю масквафіла. Пачатковую асвету ён атрымаў у езуітаў, пасля працягваў навуку ў прэстыжным Пажскім корпусе ў Пецярбургу. Васямнаццацігадовым юнаком ён пайшоў добраахвотнікам у брытанскае войска, каб удзельнічаць у паўднёва-афрыканскай (бурскай) вайне (1899–1902). Калі ў 1904 г. выбухнула расейска-японская вайна, ён зноў апынуўся ў войску, гэтым разам расейскім. Ягоны шлюб з багатай удавой польскага арыстакрата, якая магла б быць ягонай маці, у польскіх вышэйшых колах сустрэлі непрыхільна. Магчыма, гэта і паўплывала на канчатковы разрыў Магдалены Радзівіл і ейнага мужа з польскім грамадствам. Гэтак удала склалася, што ў тым самым 1906 г. выйшлі першыя легальныя беларускія газеты «Наша доля», а потым і «Наша Ніва» — пачаў набіраць моцы беларускі адраджэнскі рух.

Узяўшы шлюб, Магдалена і яе муж звычайна жылі ў Кухцічах або ў Мінску. Мікола выявіў немалыя гаспадарскія здольнасці. З ягонай прапановы збудавалі чыгуначную лінію ад маёнткаў Магдалены Радзівіл да станцыі Вярэйцы Лібава-Роменскай чыгункі, што ішла праз усю Беларусь і злучала яе з Балтыйскім морам з аднаго боку і з Украінай з другога. Гэта станоўча паўплывала на развіццё эканомікі рэгіёна**. Аднак сямейнае жыццё, відаць, не ахаладзіла неўтаймоўнага характару Міколы Радзівіла. У 1912–1913 гг. ён быў на Балканах, дзе ў шэрагах балгарскага войска змагаўся перш супраць туркаў, а пасля супраць сербаў і грэкаў. Пачатак Першай сусветнай вайны ў жніўні 1914 г. заспеў яго ў Нямеччыне. Праз Францыю і Англію ён дабраўся дамоў і адразу далучыўся да расейскай арміі. Але паваяваць яму давяло-

---

* Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego. Warszawa, 1895. T. XIV. S. 745.

** Больш падрабязна пра пабудову чыгункі гл.: Хурсік. Белы лебедзь… С. 29–35.

ся нядоўга: 17 лістапада (паводле старога стылю) 1914 г. ён загінуў ва Усходняй Прусіі. Везлі цела князя на пахаванне ў Кухцічы праз Мінск. Вось што піша пра гэта газета «Беларус»: «Князь М. Радзівіл, забіты на вайне, перавезены ў радавы магільнік у Нясвіжы*. У Мінску на труну палажылі вянок беларусы з гэткім надпісам: "Князю Мікалаю, сыну зямлі беларускай, беларусы". А на другой стужцы: "Лёгка зямелька табе, княжэ, у роднай забытай старонцэ"»**. Далей газета працягвае: «Нябошчык быў мужам вядомай у Міншчыне грамадзянскай працаўнічкі Я. А. Княгіні Магдалены Радзівіловай, каторая лічыць сябе беларускай, за што вельмі не любяць яе польскія нарадовыя дэмакраты, каторым здаецца, што нават той беларус-каталік, каторы папольску ніводнага слова сказаць не ўмее, ёсьць тыкі не беларус, а паляк, а ў галаве іх не можа памясьціцца, каб шляхціц, пан, а то яшчэ і князь ды мог быць беларусам. А тымчасам ведама нам, што і нябошчык бацька княгіні Магдалены быў усёй душой беларус і не мала папрацаваў для беларускай справы, толькі ён быў адзін у полі, ды не такія былі варункі»***.

Аляксандр Уласаў у сваіх успамінах таксама згадвае, як сустракалі цела Міколы Радзівіла ў Мінску: «Мікалай Радзівіл, муж вядомай многім беларусам Магдалены Радзівіл (яна ў часе вайны ўтрымлівала ў Мінску на свой кошт беларускія ахронкі для дзяцей), цікава, што гэтая фамілія лічыла сябе беларусамі і мела вялікі антаганізм з пальшчызнай. Гэты князь пагіб у Прусіі… Князя прывезлі ў Менск хаваць, і Цётка ўзлажыла на яго труну вянок з хвойных ветак, перавязаных беларускім пояском»****.

---

* Тут відавочная памылка: Міколу Радзівіла пахавалі не ў Нясвіжы, а ў Кухцічах.

** Biełarus. Vilnia, 04.12.1914. № 49. S. 6.

*** Тамсама.

**** Уласаў А. Дні жыцця / падрыхтоўка тэксту С. Александровіча // Шляхам гадоў. Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. С. 175. Віктар Хурсік у сваёй кнізе «Белы лебедзь…» робіць такую заўвагу адносна ўспамінаў Уласава: «Уласаў груба памыліўся. Князя хавалі не ў Мінску» (с. 35, зноска). Уласаў пісаў свае ўспаміны ў 1936 г., г. зн. больш як праз дваццаць гадоў пасля падзеі. Дык нічога дзіўнага, што ў іх могуць быць недакладнасці. Але ці да месца тут слова «груба»? Дый кніга Хурсіка не без памылак. У Мінску з князем развіталася беларуская грамадскасць, і вянок на труну ўскладаўся ад імя ўсіх беларусаў. Таму крыўдна гучаць словы: «Можна толькі шкадаваць, што сам Уласаў, скарыстаўшы шмат княжых грошай, не выказаў Мікалаю апошняй

Пахаванне князя адбылося 26 лістапада ў Кухцічах. Службу адпраўляў беларускі каталіцкі святар а. Аляксандр Астрамовіч. У надмагільнай прамове па-беларуску ён між іншым сказаў, што князь «любіў і простую беларускую мову і прычыніўся да яе пад'ёму і да адраджэння беларускага народа… Смерць князя — гэта вялікая страта для ўдавы княгіні. Гэта страта для ўсіх людзей дваровых і ўсяго беларускага народа. У асобе нябожчыка князя беларусы трацяць шчырага абаронцу справы іх адраджэння, трацяць яго ў тым часе, калі займаецца зара новага лепшага жыцця, калі заглядае сонца і ў наша ваконца»*.

Айцец Астрамовіч (1878–1921) быў святаром у Анапалі каля Мінска. Ён лепш вядомы як беларускі паэт Андрэй Зязюля. Ягонаму пяру належыць верш «Божа, што калісь народы на асобкі падзяліў…», які доўгі час уважаўся за беларускі рэлігійны гімн. Тое, што ён — а не святар Уздзенскай парафіі, да якой належалі Кухцічы, — выканаў абрад пахавання, сведчыць пра беларускасць нябожчыка і пра нацыянальныя перакананні ягонае ўдавы.

Цяжка дакладна вызначыць, калі распачаўся актыўны ўдзел Магдалены Радзівіл у беларускім нацыянальным жыцці. Напэўна, яна даволі рана пачала дапамагаць беларускай суполцы ў Пецярбургу «Загляне сонца і ў наша ваконца», што існавала ў 1906–1914 гг. пад кіраўніцтвам праф. Браніслава Эпімаха-

---

пашаны і сам не ўсклаў на яго труну вянок» (Хурсік, тамсама). Уласаў і іншыя беларускія дзеячы таго часу выкарыстоўвалі грошы, атрыманыя ад княгіні Радзівіл, не на асабістыя, а на беларускія грамадскія (выдавецкія, культурныя, рэлігійныя) патрэбы. Хурсік беспадстаўна кідае цень на аднаго з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння, які згінуў у савецкім зняволенні.

* Biełarus. Vilnia, 24.12.1914. № 52. S. 1. Тэкст казання а. Астрамовіча падае таксама Хурсік у сваёй кнізе на с. 36–37. На наступнай старонцы аўтар змясціў (таксама з газеты «Беларус») партрэт Міколы Радзівіла з наступнымі сваімі каментарамі: «Для некралога з нагоды смерці князя Радзівіла газета "Belarus" не пашкадавала чатыры газетныя паласы. Адну з іх займаў партрэт князя. Відавочна, такі падыход да ўшанавання памяці быў зразумелы чытачам. Але ці толькі ім? Хутчэй за ўсё, выдаўцы такім чынам развіталіся са сваім галоўным мецэнатам. У наступным годзе газета перастала існаваць…». У чытача застаецца ўражанне, быццам газета «Беларус» спыніла выхад праз смерць «мецэната». Насамрэч яна атрымлівала грашовую падтрымку не ад Міколы, а ад Магдалены Радзівіл і спыніла свой выхад 30 ліпеня (12 жніўня паводле новага календара) 1915 г. у выніку ваенных дзеянняў, неўзабаве перад тым, як Вільню занялі нямецкія войскі. На тыдзень пазней, 7 (20) жніўня, перастала выходзіць газета «Наша Ніва».

Шыпілы*. З віленскімі коламі, што гуртаваліся вакол газеты «Наша Ніва», яна, відаць, усталявала сувязі пазней. Калі верыць віленскаму адвакату Г. Царыку, які нейкі час быў павераным Радзівілаў у маёмасных справах, Магдалена даведалася пра віленскі беларускі асяродак ад яго. На пачатку 1913 г. яна дала яму 20 тысяч рублёў «на падтрымку беларускага выдавецтва г. Вільні (на поддержку белорусского издательства г. Вильни)». Царык перадаў іх Беларускаму выдавецкаму таварыству**, што паўстала на падмурку рэдакцыі «Нашай Нівы». Ускоснае пацвярджэнне гэтаму можна знайсці ва ўспамінах Вацлава Ластоўскага пра тое, як у 1913 г. друкаваўся зборнік вершаў Максіма Багдановіча «Вянок»: «Вершы былі здадзеныя ў друкаваньне. У часе набору іх, перад надрукаваньнем першага аркушу, Вацлаў Івaноўскі і Іван Луцкевіч дасталі яшчэ нейкую суму грошай ад княгіні Магдалены Радзівіл на выданьне беларускіх кніжак. Пастаноўлена было паказаць спраўнасьць перад княгіняй, і дзеля гэтага на агалоўнай балоне памешчаны быў знак “Лебедзь”, што мела азначаць гэрб Завішаў (Магдалена Радзівіл з дому Завішанка)… Рысунак напамінае крыху вянок, дзеля гэтага я і пастанавіў, карыстаючы правамі выдаўца, надпісаць на кніжцы да аўторскага яшчэ і свой агаловак “Вянок”. Выходзіла нязгорш: “Вянок, кніжка выбраных вершаў”»***. Варта прыгадаць, што ў выдавецтве выйшла яшчэ некалькі кніжак са знакам «Лебедзь», у тым ліку «Курганная кветка» Канстанцыі Буйло, «Рунь» Максіма Гарэцкага, «Васількі» Ядвігіна Ш. і «Родныя з’явы» Тараса Гушчы (Якуба Коласа).

Тыя, хто тады ведаў Магдалену Радзівіл, сведчылі, што дзверы ейнага дома ніколі не зачыняліся для беларусаў. У 1917–1918 гг. у княгіні на Захар’еўскай вуліцы ў Мінску збіраліся беларускія дзеячы. Гэта была пара вялікіх пераменаў і спадзяванняў, якія ўвасобіліся для беларусаў у акце абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. Княгіня трымалася ў цэнтры падзеяў таго часу. Таму не дзіва, што ў

---

* Гл.: Семашкевіч Р. Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Мінск: Навука і тэхніка, 1968. С. 53; таксама ягоны «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбургу» (Мінск: БДУ, 1971. С. 119).

** Царик Г. Воспоминания члена белорусского кружка в Вильне // Нёман. Мінск, 1998. № 11–12. С. 230.

*** Ластоўскі В. Мае ўспаміны аб М. Багдановічы // Крывіч. Коўна, 1926. № 1 (11). С. 66. Хурсік у сваёй працы на с. 68 таксама цытуе Ластоўскага, але чамусьці Вацлава Іваноўскага называе Ігнатоўскім.

кніжцы «Усходняя Беларусь» у спісе нацыянальна свядомых і дзейных беларусаў згадваецца і ейнае прозвішча*. Княгіня Радзівіл адной з першых пачала клапаціцца пра беларускае школьніцтва, засноўваючы ў сваіх маёнтках беларускія школы. У 1917 г. там настаўнічала вядомая Паўліна Мядзёлка, але праз розніцу характараў і палітычных перакананняў супрацоўніцтва між ёю і княгіняю не выйшла. Мядзёлка адна з усіх беларусаў дала адмоўную характарыстыку княгіні Радзівіл**. У 1918 г. у гэтых школах выкладалі родныя сёстры паэткі Канстанцыі Буйло Стася і Іна (Міхаліна)***. Стася працавала ў Кухцічах, але хутка захварэла на сухоты, і княгіня паслала яе лекавацца ў Польшчу. Іна ж настаўнічала ў маёнтку Жорнаўка аж да прыходу бальшавікоў напрыканцы 1918 г. Юстын Мурашка згадвае яшчэ пра школу ў маёнтку Каменка і пра тое, што «ў мястэчку Узда была адчынена рамесніцкая школа, на каторую княгіня асігнавала 20 000 руб. у год, дала дом і даручыла ляснічаму Шталю дастаўляць усе патрэбныя для майстэрняў матэрыялы»****. Між іншым, у школьным будынку «3 разы ставілі беларускія спэктаклі. 2 разы на спэктаклях была сама княгіня, зьяўляючыся з шыкам у запрэжанай шасьцёркай коней павозцы»*****. Вядомы беларус, удзельнік Першага Усебеларускага Кангрэсу Юстын Мурашка ў 1918 г. быў упаўнаважаным княгіні ў адміністрацыі ейных маёнткаў. З ягонай прапановы ўсё справаводства ў маёнтках і лясніцтвах перавялі на беларускую мову. Вось што ён сам пра гэта піша: «Атрымаўшы вялікія паўнамоцтвы ў адміністрацыі маёнткамі <…> я паставіў сабе заданьне ўвесьці беларускае справаводзтва ва ўпраўленьні ўсімі маёнткамі. Гэта было прадстаўлена мной княгіні, і яна ахвотна згадзілася. Наогул, што тычылася беларускай справы, ці выдаткаў на гэта, яна гаварыла: “Я грошай для сваіх беларусаў не шкадую, мы мусім рабіць” і г. д. <…> Я параіўся ў Менску з Аркадзем Смолічам (за яго і Лёсіка парадай я ўсё рабіў, што мог) <…> і за два месяцы ўсе

---

* Гл.: А. І. Усходняя Беларусь // Выданне Народнага Сакратарства Міжнародавых Справаў. Мінск, 1918. С. 7.

** Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. Мінск: Мастацкая літаратура, 1974. С. 93–112. Таксама: Хурсік В. Белы лебедзь… С. 78–95.

*** Буйло И. По пройденным дорогам // Голас Радзімы. Мінск, 01.05.1997. № 18. С. 6; 08.05.1997. № 19–20. С. 6. Таксама: Хурсік В. Белы лебедзь… С. 95–99.

**** І. М. Княгіня Магдалена-Матыльда Радзівіл. С. 10.

***** Тамсама.

канцылярыі ў 18 маёнтках перайшлі на беларускую мову. Былі ўведзены новыя кнігі з беларускімі загалоўнымі тэкстамі <…> і, урэшце, было забаронена ўжываньне іншага справаводзтва як беларускае не толькі ў маёнтках, а нават у 8-мі лясьніцтвах, дзе быў загадчыкам надлясьнічы немец Шталь. Падпарадкавала княгіня і яго беларускаму справаводзтву. Страшэнна гэта было яму цяжка, але мне казаў, што для яго загад княгіні гэта сьвятасьць <…>. У канторах на сьценах былі расклеены надпісы: "Гаварыць іначай як па беларуску ў часе ўрадаваньня забараняецца" і г. д. <…>. Нярэдка сама княгіня зьяўлялася ў нейкі мала ведамы хвальварак і кантралявала, ці ўсё вядзецца па беларуску. Яна вымагала, каб з ёю гаварылі па беларуску»*.

Пра дзейнасць княгіні Радзівіл на карысць беларускай мовы згадвалася ў прэсе. 3 верасня 1918 г. газета «Вольная Беларусь» пісала: «Беларуская мова. Па загаду вядомае у нашым краю вялікай земляўласьніцы, княгіні М. Радзівілл, у яе маёнтках вывешаны абвесткі, паводлуг каторых прапануецца усім служачым ужываць беларускую мову замiж польскае і расійскай.

Беларускія школы на вёсцы. Коштам княгіні Радзівілл у Ігуменскім павеці адчынена тры беларускія пачатковыя школы, апрыч таго чатыры намечаны да адкрыцьця у бліжэйшы час. У м. Узьдзе, Ігуменскага павету, памянёная земляўласьніца адчыняе рамесьленае вучылішчэ для селянскіх дзяцей»**.

* * *

Глыбока пабожная асоба, пераканаая каталічка***, Магдалена Радзівіл разумела, як важна мець сваіх нацыянальна свядомых святароў і чым шырэй выкарыстоўваць родную мову ў царкоўным жыцці. Пётра Пачопка ва ўспамінах пра свайго бацьку, Баляслава Пачопку (1884–1940), будучага рэдактара газеты «Беларус», а пасля грэка-каталіцкага святара, піша, што

* І. М. Княгіня… С. 9–10.

** Вольная Беларусь. Мінск, 03.09.1918. № 30. С. 222–223.

*** Сама каталічка, Магдалена Радзівіл ставілася з разуменнем і павагаю да рэлігійных пачуццяў іншых людзей, веравызнання якіх яна не падзяляла. В. Хурсік у кнізе «Белы лебедзь…» прыводзіць успаміны аднаго мясцовага жыхара, маці якога ў дзявоцтве служыла пакаёўкай у княгіні. Тая была праваслаўнаю, а праваслаўная царква стаяла за чатыры вярсты. Таму княгіня Радзівіл давала ёй і іншым дворным дзяўчатам свой экіпаж, і яны «падляталі на чацвярыку коней, чым вельмі здзіўлялі прысутных» (с. 62).

ў 1905–1907 гг. ён вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі дзякуючы дапамозе Магдалены Радзівіл*. Пацвярджэння гэтай звесткі ў іншых крыніцах знайсці не ўдалося, і, відаць, да яе трэба ставіцца асцярожна, хоць бы таму, што нічога не вядома пра ўдзел Магдалены ў беларускім нацыянальным і рэлігійным адраджэнскім руху — які, дарэчы, толькі пачынаўся — да ейнага шлюбу ў 1906 г. з Міколам Радзівілам. Дый наогул выглядае, што яна мела мацнейшыя сувязі з Пецярбургам, як з Вільняй. Рэч у тым, што маёнткі Магдалены на Ігуменшчыне знаходзіліся ў Мінскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі, якая ахоплівала ўсю цэнтральную Беларусь ад Барысава і Бабруйска на ўсходзе да Наваградка і Пінска на захадзе. Заходняя частка Беларусі належала да Віленскай дыяцэзіі, усходняя мяжа якое праходзіла прыблізна па лініі Дзісна–Маладзечна–Ліда–Слонім–Янаў (сёння Іванава). Усходняя Беларусь з Полацкам, Віцебскам, Оршаю, Магілёвам, Гомелем і Мазыром належала да Магілёўскай архідыяцэзіі, якая ўлучала таксама Латвію і на ўсходзе расцягвалася амаль на ўсю Расею разам з Сібірам. Архібіскуп Магілёўскі, нягледзячы на свой тытул, стала жыў у Пецярбургу. Мінская дыяцэзія ад даўжэйшага часу не мела свайго біскупа. Ёю кіраваў апостальскі адміністратар — звычайна архібіскуп Магілёўскі.

Вільня, старажытная сталіца Вялікага Княства Літоўскага, на пачатку XX ст. сталася цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэння. У 1906 г. там пачала выходзіць газета «Наша Ніва», якая дала назву цэламу перыяду ў гісторыі Беларусі. Каля выдання згуртаваліся найлепшыя беларускія нацыянальныя сілы. Дзякуючы іхнім высілкам беларуская ідэя пачала пранікаць у вёскі і ахопліваць усё шырэйшыя колы насельніцтва. На Віленшчыне яно ў сваёй бальшыні належала да Каталіцкай царквы, таму беларускі рух меў бы большы поспех, калі б яго падтрымалі каталіцкія царкоўныя ўлады. На жаль, гэтага не здарылася. Формула «праваслаўны — расеец, каталік — паляк», уведзеная расейскім урадам у XIX ст., прыйшлася ім даспадобы, і яны рабілі ўсё, каб захаваць у сваёй дыяцэзіі польскасць Каталіцкай царквы. Польскі дух панаваў і ў Віленскай духоўнай семінарыі, дзе рыхтавалася да святарства нямала сыноў беларускай вёскі. Адзін з іх, Адам Станкевіч, так пісаў пра сваю alma mater: «Вось жа гэткаму служэнню і каталіцтву і польскасці аказала вялізныя паслугі і Каталіцкая духоўная семінарыя ў Вільні, якая на пра-

* Poczopko P. Kapłan unicki rodem z Wileńszczyzny. Jabłonna, 1999. S. 7.

цягу якога паўвека была цвярдыняй не толькі каталіцтва, але не менш, калі не больш, і цвярдыняй польскасці. Дык зразумелая рэч, што беларускі рух, які пачаў паказвацца асабліва ярка ад самага пачатку XX ст., у мурох гэтай семінарыі прыхільна спатканы быць не мог»*. Усё ж, нягледзячы на цяжкасці, у першым дзесяцігоддзі XX ст. з гэтай установы выйшла некалькі выдатных беларускіх святароў, сярод іх Ян Семашкевіч (паэт Янка Быліна) і Уладзіслаў Талочка. Становішча паправілася, калі ў 1910 г. у семінарыю прыйшоў Адам Станкевіч, ужо тады свядомы беларус. Праз год яму ўдалося зарганізаваць сярод семінарыстаў беларускі гуртот і дабіцца, каб яго прызналі семінарыйныя ўлады. Да гуртка належалі такія вядомыя будучыя беларускія святары, як Язэп Рэшаць, Канстанцін Стаповіч (паэт Казімір Сваяк), Язэп Дашута, Андрэй Цікота і інш.

Некаторыя выпускнікі Віленскай семінарыі звычайна ўжо святарамі або дыяканамі ехалі ў Пецярбург у Каталіцкую духоўную акадэмію — адзіную ва ўсёй Расейскай імперыі каталіцкую ўстанову ўніверсітэцкага тыпу, якая мела права даваць навуковую ступень кандыдата багаслоўя. Там яны сустракаліся з калегамі з Магілёўскай духоўнай семінарыі ў Пецярбургу — кандыдатамі на святарскі стан з Міншчыны, Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Але траляліся таксама і выхадцы з Віленшчыны, якія з тых ці іншых прычынаў не змаглі пастуціць у Віленскую семінарыю. Такім быў Аляксандр Астрамовіч (паэт Андрэй Зязюля) родам з Ашмяншчыны; Францішак Будзька з вёскі Вазноўшчына каля Будслава, якога вельмі паважала Магдалена Радзівіл; а таксама Люцыян Хвецька з Сакольшчыны, які, адвучыўшыся ў акадэміі, вярнуўся ў сваю старую семінарыю прафесарам літургікі. Большасць, аднак, беларускіх семінарыстаў паходзіла з Магілёўскай і Мінскай дыяцэзіяў. Сярод іх варта прыгадаць Фабіяна Абрантовіча — пасля далейшай навукі ў акадэміі і Лювенскім універсітэце ў Бельгіі яго прызначылі прафесарам філасофіі ў ягонай семінарыі. Яго вучнямі былі будучы біскуп і апостальскі адміністратар Мінскі і Магілёўскі Баляслаў Слоскан, святары Язэп Барадзюля, Пётра Татарыновіч і інш.

У Пецярбургскай духоўнай акадэміі вучыліся студэнты з усіх каталіцкіх дыяцэзіяў Расейскай імперыі: латышы, летувісы, балцкія і паволжскія немцы і палякі. У гэткім шматнацыянальным асяроддзі беларусы не выклікалі ні ў кога асаблівага здзіўлення. Траляліся беларусы і сярод настаўнікаў акадэміі: а. Язэп

* Stankievič A. Biełaruski chryścijanski ruch. Vilnia, 1939. S. 58.

Белагаловы (нар. у 1883 г.; загінуў у савецкай турме прыблізна ў 1928 г.) быў прафесарам кананічнага права, а грэцкую мову выкладаў Браніслаў Эпімах-Шыпіла. У 1912 г. з ініцыятывы тады яшчэ студэнта Люцыяна Хвецькі паўстаў беларускі студэнцкі гурток, які праіснаваў аж да закрыцця акадэміі камуністамі ў 1918 г. Да гуртка ў розныя гады належалі, апрача вышэйзгаданага Хвецькі, такія вядомыя будучыя беларускія рэлігійныя дзеячы, як Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Андрэй Цікота, Віктар Шутовіч, Антон Неманцэвіч, Міхал Пятроўскі і інш.

Магдалена Радзівіл трымала сувязь з беларускімі святарамі і студэнтамі ў Пецярбургу. Сярод іншага яна дапамагла акадэмічнаму гуртку заснаваць сваю бібліятэку. Вось што піша пра гэта Адам Станкевіч: «Княгіня М. Радзівіл падарыла 100 рублёў на бібліятэку. Бібліятэка сапраўды была заложаная. Быў у ёй даволі значны лік кніг з галіны беларусазнаўства, і то кніг часта даволі цэнных»*.

Студэнты акадэміі вучыліся часта за свой кошт, і многія з іх не маглі завяршыць адукацыю, бо ім не хапала грошай. Часам сустракаюцца звесткі, што Магдалена Радзівіл дапамагала беларускім студэнтам. Ускосным доказам можа служыць ліст Фабіяна Абрантовіча Андрэю Цікоту ад 28 жніўня 1928 г., у якім ён піша: «Яна (г. зн. Магдалена Радзівіл. — *А. Н.*) мае некаторыя свае погляды, каторых нічым не разаб'еш. Нп. яна тож ніколі не хоча памагчы маладзёжы ў сярэдніх школах, а ў вышэйшых так». Вельмі магчыма, што княгіня дапамагала некаторым студэнтам акадэміі.

З ростам беларускай нацыянальнай свядомасці пачала адчувацца патрэба ў рэлігійнай літаратуры на роднай мове. Шмат у гэтай галіне зрабіў айцец Францішак Будзька. У 1907 г. уягоным перакладзе з польскай мовы з'явіўся «Кароткі катэхізм» Філяхоўскага. Хоць кніга выйшла ў Вільні ў друкарні Марціна Кухты, дзе друкавалася газета «Наша Ніва», царкоўны дазвол, г. зв. imprimatur, даў 24 студзеня 1907 г. у Пецярбургу прэлат (пасля біскуп) Сцяпан Данісевіч, беларус, які некалькі разоў кіраваў Магілёўскай дыяцэзіяй, калі там пуставаў архібіскупскі пасад. Гэты факт ясна сведчыць пра розніцу ў стаўленні да беларусаў з боку вышэйшых каталіцкіх духоўных уладаў у Вільні і Пецярбургу. Дарэчы, апроч «Катэхізму», Данісевіч даў дазвол на друк кнігі «Кароткая гісторыя святая» Шустара таксама ў перакладзе Будзькі. Гэтае выданне, аднак, пабачыла свет толькі

* Stankievič A. Biełaruski… S. 66.

ў 1914 г. у Пецярбургу. Вельмі магчыма, што на яго не ставала сродкаў. Дапамагла Магдалена Радзівіл. Праз пятнаццаць гадоў, 29 студзеня 1929 г., яна пісала Цікоту: «Дзівіць мяне, што няма Старога і Новага Запаветаў на беларускай мове, бо я дала незабыўнай памяці а. Будзьку грошы на іхняе выданьне і атрымала ад яго камплект гэтых кніжак». Тут, несумненна, мелася на ўвазе не Біблія, а «Гісторыя» Шустара.

У 1913 г. у Вільні пачала выходзіць тыднёвая каталіцкая газета «Беларус». З ініцыятывай стварыць яе выступілі, напэўна, два няўрымслівыя беларускія святары — Францішак Будзька і Аляксандр Астрамовіч (паэт Андрэй Зязюля)*. Афіцыйна, аднак, у рэдакцыю яны не ўваходзілі. Адной з прычынаў, несумненна, было непрыхільнае стаўленне віленскіх духоўных уладаў да беларусаў. Справу ўскладняла і тое, што абодва святары належалі да Магілёўскай, а не Віленскай дыяцэзіі. Першым рэдактарам газеты стаў былы семінарыст Антон Бычкоўскі, а на пачатку 1914 г. яго змяніў іншы колішні семінарыст Баляслаў Пачопка. Сябрамі рэдакцыі былі Антон Лявіцкі (пісьменнік Ядвігін Ш.) і Ян Пазьняк.

Беларус меў на мэце задаволіць духоўныя патрэбы беларусаў-каталікоў і абудзіць у іх нацыянальную свядомасць. На старонках газеты часта закраналіся пытанні рэлігійнага характару, якія не асвятляла «Наша Ніва» — выданне агульнанацыянальнага кірунку. Каб не насцярожыць беларускіх каталікоў, звыклых да малітоўнікаў і рэлігійных кніжак, друкаваных «польскімі літарамі», «Беларус» выходзіў лацінкай. У газету пісалі святары Францішак Будзька, Аляксандр Астрамовіч (псеўданім Андрэй Зязюля), Гэнрык Бэта (псеўданім Г. Бярозка); дыякан Канстанцін Стаповіч (Казімір Сваяк), клерыкі Ільдэфонс Бобіч (Пётра Просты) і Язэп Рэшаць з Рыма. Між іншым, Ільдэфонс Бобіч перад выездам з Рыма ўвесну 1914 г. быў на аўдыенцыі ў Папы святога Пія X і атрымаў ад яго блаславенне для рэдакцыі, супрацоўнікаў і чытачоў «Беларуса». Гэтую радасную вестку падаў рэдактар Баляслаў Пачопка ў велікодным нумары ад 2 красавіка 1914 г. У артыкуле «Вялікае свята» ён адзначаў:

---

* Паводле а. Адама Станкевіча, «Беларуская каталіцкая газэта «Беларус», што выходзіла ў Вільні (1913–1915), паўстала такжа дзякуючы стараньням кс. Фр. Будзькі» (гл. ягоную працу «Rodnaja mova ŭ śviatyniach» (Vilnia, 1929. S. 78)). Пра сувязь а. Астрамовіча з газетай «Беларус» гл. наступную зноску.

«Для нас, беларусы-каталікі, гэта вялікая радасьць, бо з гэтага мы бачым, што найвышэйшы дастойнік Касьцёла сьвятога, да каторага мы належым, Заступнік Хрыстуса на зямлі, глядзіць на справу нашу па-бацькоўску, што мы беларусы Айцу Сьвятому такія ж мілыя дзеці, як усе іншыя каталіцкія народы». А праз два нумары, 24 красавіка, з'явіўся верш Андрэя Зязюлі «Айцу Святому Піюсу Х-аму», у якім аўтар дзякуе Папу:

Што ўчуў ты клік забытага народу
І правы чын яго благаславіў,
Што прывітаў зару яго адроду,
І ўсім працаўніком адвагі ўліў.

Сярод іншых аўтараў, якія друкавалі свае творы ў «Беларусе», варта прыгадаць Альберта Паўловіча, Альфонса Петрашкевіча, Язэпа Шпэта і інш. Аляксандр Прушынскі, лепш вядомы як паэт Алесь Гарун, у «Беларусе» пісаў пад псеўданімам А. Сумны. У нумары 22 ад 30.5.1914 надрукаваны ягоны верш «На прыміцыю кс. Г.», у якім аўтар складае наступныя пажаданні новаму святару Вінцэнту Гадлеўскаму:

Дык будзь жа такім, як наш Збаўца:
Ён мовы і вольнасьці даўца,
Вучыў у тэй мове народу,
З якога быў целам і родам.
Прыклад гэта вечны і ясны!..
Жыві жа, працуй і будзь шчасны!

У 1913 г. рэдакцыя «Беларуса» распачала выдаваць кніжкі рэлігійнага і культурнага зместу. Выйшлі «Некалькі слоў аб пакуце» Францішка Будзькі, а таксама ў ягоным перакладзе «Кароткае выясненне абрадаў Р. Каталіцкага Касцёла» Банчкоўскага; зборнік вершаў «З роднага загону» Андрэя Зязюлі і інш. Асобна трэба прыгадаць апрацаваны Баляславам Пачопкам і выдадзены ў 1915 г. першы грунтоўны малітоўнік на беларускай мове «Бог з намі» (254 старонкі). Стасункі з віленскімі духоўнымі ўладамі складваліся, відаць, так, што дазвол на друк — imprimatur — даводзілася прасіць у Пецярбургу. Цэнзарам малітоўніка быў а. Фабіян Абрантовіч.

Апроч першых некалькіх месяцаў, рэдакцыя «Беларуса» знаходзілася ў прыватнай кватэры Баляслава Пачопкі, бо на асобнае памяшканне, як і на выданне газеты, не хапала сродкаў. Спроба атрымаць частку грошай, якія княгіня Радзівіл дала Царыку на

беларускае выдавецтва, скончылася нічым*. Прыйшлося самім звярнуцца да княгіні. Вось як пісаў пра гэта Адам Станкевіч (ён сам прызнаўся, што чэрпаў звесткі з рукапісных успамінаў Баляслава Пачопкі): «Па выхадзе 1-га нумара ў 1913 г. людзі добрай волі прыслалі свае то прадплаты, то падмогі, чаго стала на якія 3–4 нумары, але хутка ў касе было пуста і з часапісам круха… Неяк у гэтым часе паслаў Бог помач: штось даў ксёндз Францішак Будзька, штось кс. Астрамовіч, а ў канцы заінтэрэсавалася часапісам княгіня Магдалена Радзівіліха, каторая сыстэматычна пакрывала даўгі "Беларуса" аж да яго закрыцьця, г. зн. да прыходу ў Вільню немцаў у 1915 г.»**.

---

* Г. Царык піша: «Увесну, а магчыма, у пачатку лета 1913 года, у маёй адвакацкай канцылярыі з'явіўся невядомы мне каталіцкі ксёндз, які адрэкамендаваў сябе Астрамовічам, беларускім дзеячам, які выдае беларускі часопіс "Беларус", які друкаваўся лацінскімі літарамі. Ён заявіў, што яму стала вядома пра атрыманыя мною ад княгіні Радзівіл грошы на беларускае выдавецтва, і дамагаўся, каб яму аддалі частку гэтых грошай. Я ўпэўніў яго, што чуткі пра гэтыя грошы зусім беспадстаўныя і я грошай ад М. Радзівіл не атрымліваў. Я быў звязаны не толькі дадзеным княгіні Радзівіл словам, але… прафесійнай этыкай… Апроч таго, у мяне былі зусім апраўданыя засцярогі, як бы клерыкалы не выкарысталі факту атрымання грошай Беларускім выдавецкім таварыствам на шкоду дэмакратычнай групе беларусаў. Клерыкалы былі настойлівыя, і ксёндз Астрамовіч праз нейкі час зноў прыйшоў у кампаніі з сябрам… У настойлівых словах яны зноў паўтарылі свае дамаганні, але я цвёрда стаяў на сваім і катэгарычна загадаў наведвальнікам пакінуць мяне ў спакоі і не турбаваць мяне больш падобнымі дамаганнямі, блізкімі да вымаганняў» (с. 231).

** Stankievič A. Biełaruski… S. 70. Хурсік у кнізе «Белы лебедзь…» піша: «Пачынаючы з 1906 года і да моманту закрыцця ў 1915-м Магдаліна аказвала фінансавую падтрымку часапісу "Belarus", аплачвала яго даўгі. Шкада, што нельга сёння аднавіць лічбу той помачы, але за дзевяць гадоў склала яна, відаць, значную суму. Бралі шмат, без усякай падзякі» (с. 49). Калі б Хурсік парупіўся зірнуць у Энцыклапедыю гісторыі Беларусі (Мінск, 1993. Т. 1. С. 345–346) ці Беларускую Энцыклапедыю (Мінск, 1996. Т. 2. С. 388), дык ведаў бы, што «Беларус» выходзіў не дзевяць, а толькі крыху больш як два з паловаю гады (13 студзеня 1913 г. — 30 ліпеня 1915 г). У артыкуле Г. Піхуры, на які спасылаецца Хурсік, нічога не сказана пра даты выхаду гэтай газеты. Выдаўцы «Беларуса» (роўна як і выдаўцы «Нашай Нівы», сябры суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» і інш.) і Магдалена Радзівіл, кожны паводле сваёй магчымасці, намагаліся зрабіць унёсак у дарагую ім справу беларускага нацыянальна-рэлігійнага адраджэння. Яны не шукалі падзякі, але, тым не менш, сваімі высілкамі і ахвярнасцю за-

Дзейнасць Магдалены Радзівіл не абмяжоўвалася дапамогаю беларускім выдавецтвам і студэнтам. Газета «Беларус» пісала 14 верасня 1914 г.: «Мінск. Тутака залажылася Беларускае каталіцкае таварыства “Літасьць”, маючае мэтай памагаць сем’ям запасных (г. зн. пакліканых у армію. — *А. Н.*). Залажыцелькай і кераўнічкай гэнага таварыства ёсьць мяйсцовая абывателька княгіня М. Радзівілова»*.

Другі праект, пра які паведамляла тая самая газета 18 снежня 1914 г., сягаў яшчэ далей: «Яе Сьветласьць Княгіня М. Радзівіліха (удава па забітым на вайне князю Мікалаю Радзівільле) ужо даўно стараецца адкупіць ад места німалы па-Дамініканскі касьцёл разам з быўшым кляштарам і аддаць гэта на ўжытак каталіком. Княгіня ўжо згаварылася з прадстаўнікамі места, каторыя спачатку жадалі 400 тысяч рублёў, а ўрэшце спусьцілі на 350 тысяч рублёў, і за гэту цану Княгіня купляе гэныя муры. У 1865 гаду, пасьля скасаваньня кляштару айцоў дамініканаў муры гэныя стаялі пустыя, а посьле іх абвярнулі на казармы для войска, і гэта ёсьць па сягоньняшні дзень. Умова Княгіні з местам павінна яшчэ быць зацьверджана губэрнатарам, пасьля чаго места пастроіць для войска ў іншым мейсцу казармы, а гэныя муры будуць адноўлены коштам Я(е) С(ьветласьці) і касьцёл будзе філіяльным, а ў кляштары будуць памешчацца розныя прытулкі дабрачыннасьці грамадзянскай, пад кераўніцтвам Яе Сьветласьці Княгіні і каталіцкага ксяндза»**.

Насамрэч думка пра беларускі рэлігійны асяродак нарадзілася ў княгіні даўно. Яшчэ ў снежні 1913 г. яна звярнулася да Мінскай гарадской рады з прапановаю прадаць ёй вышэйзгаданую маёмасць***. Некалькі месяцаў пазней у французскім часопісе «Les Annales des Nationalités» з’явілася карэспандэнцыя з Мінска пад датаю 7 сакавіка 1914 г., падпісаная літарамі X.Y.Z., у якой сярод іншага гаварылася: «Адна выдатная беларуская патрыётка робіць старанні атрымаць ад ураду да-

---

служылі на ўдзячную памяць беларусаў іхняга і наступных пакаленняў. Затое яны ніяк не заслужылі на зняважлівае «Бралі шмат…». Між іншым, газета, якая выходзіла лацінкай, называлася «Biełarus», а не «Belarus», як піша Хурсік.

* Biełarus. 18.09.1914. № 38. S. 4.

** Pa-Daminikanski kaściół u Minsku // Biełarus. 18.12.1914. № 51. S. 5.

*** Хурсік В. Белы лебедзь… С. 51–52.

звол заснаваць у Мінску каталіцкую навучальную ўстанову, каб захаваць беларусаў каталікоў ад паланізацыі праз адукацыю»*.

Прапанова княгіні сутыкнулася з супрацівам з боку праваслаўнага духоўнага ведамства. Справа зацягнулася, і толькі ў канцы сакавіка 1915 г. з Міністэрства ўнутраных спраў прыйшоў адмоўны адказ.

* * *

Часопіс «Les Annales des Nationalités» («Летапіс нацыянальнасцяў»), які ад 1912 г. выходзіў у Парыжы (пасля пачатку Першай сусветнай вайны — у Лазане ў Швейцарыі), быў выданнем арганізацыі «L’Office des Nationalités» (пасля «L’Union des Nationalités»), што займалася вывучэннем нацыянальных праблемаў у Еўропе. У яе ўваходзіла нямала вядомых палітыкаў, пісьменнікаў і навукоўцаў. Прыкладам, да яе належалі французскі сенатар і былы міністр М. Фор (Maurice Faure), які шмат зрабіў дзеля захавання і развіцця мовы «ок» (langue d’oc); бельгійскі дыпламат, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру ў 1913 г. А. Лафантэн (Henri La Fontaine); пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры ў 1904 г. Ф. Містраль (Frederic Mistral), які прысвяціў сваё жыццё захаванню і развіццю правансальскай мовы і культуры; гісторык, прафесар Сарбонскага ўніверсітэта Ш. Сэньёбо (Charles Seignobos), аўтар працы па гісторыі феадальнай Бургундыі, і інш. У арганізацыю ўваходзілі таксама прадстаўнікі нацыяў, якія параўнаўча нядаўна здабылі незалежнасць (напр., Балгарыя) або яшчэ за яе змагаліся. Сярод апошніх варта назваць двух летувісаў: палітыка Ёзаса Габрыса, адміністратара часопіса «Les Annales…» і нацыянальнага дзеяча і навукоўцу Ёнаса Басанавічуса.

Карэспандэнцыя X.Y.Z. з Мінска складаецца з трох лістоў. Першы з іх, ад 17 лютага 1914 г., пачынаецца наступным чынам: «Мне здаецца, што вашым чытачом было б прыемна бачыць, наколькі трапная ў дачыненні да расейскага ўраду старая прыказка: “Бог робіць сляпымі тых, каго хоча загубіць”. Усе захады, зробленыя ў Пецярбургу, прыводзяць да вынікаў, адваротных ад жаданых…». Далей аўтар піша пра бязглуздыя паводзіны новага

* «Une patriote éminente blanc-russe fait des efforts pour obtenir une permisasion du gouvernement de fonder une maison d’éducation catholique à Minsk pour préserver les Blanc-Russes catholiques de polonisation par l’éducation» (Les Annales des Nationalités. Paris, 1914. № 1/2. P. 92).

мінскага губернатара, які «робіць усё магчымае, каб зрабіць афіцыйную (г. зн. праваслаўную. — *А. Н.*) рэлігію ненавіснаю. Ён праследуе каталіцкіх святароў, а гэта самы пэўны сродак, каб надаць ім папулярнасці»*.

Аўтар, напэўна, мае на ўвазе спробу царскага ўрада ўвесці расейскую мову замест польскай у навучанні каталіцкай рэлігіі ў школах. Польскім ксяндзам, якія супраціўляліся гэтым захадам, даводзілася цярпець прыкрасці з боку ўладаў. Несвядомыя беларускія вернікі глядзелі на «абаронцаў веры» (вядома ж, «польскае») з павагаю. Гэта якраз і хацеў давесці X.Y.Z., калі казаў пра рост іхняй папулярнасці. Нацыянальна свядомыя беларусы мелі свой погляд на справу. Вось што пісаў адзін з іх у «Нашай Ніве»: «Беларус ахвотна вучыўся бы па-своему; па-расейску — не. І калі яму замест польшчыны навязваюць расейшчыну, ён адракаецца ад гэтае перамены, хоць яму кажуць, быццам гэта ратуюць яго ад палякаў. Але калі беларус-каталік трымаецца польшчыны затым, што да яе прывык, што праз паўвеку ніхто да яго ў касьцеле іначай не казаў ні слова, як па-польску, — дык каталіцкія ксяндзы-палякі, якім роўна не люба як беларушчына, так і расейская мова, зусім сьведама, дзеля апалячваньня нашага народу — стараюцца і далей вучыць па-польску. За гэта іх караюць, а цёмны народ, бачучы гэта, яшчэ крапчэй дзержыцца польшчыны. І выходзіць, што ўвесь "ратунак" беларусаў ад "польшчыны" — гэта адно ашуканства, гэта жаданьне расейскіх нацыяналістаў захапіць у свае рукі тую ўладу над нашым народам, якую праз доўгія гады забіралі палякі. Фальшывай "дружбай" хочуць расейскія "патрыёты" ашукаць беларусаў, каб хутчэй зьвесьці іх са сьвету. Брахнёй ваюяць "истинно польские" людзі, каб забіць жаданьне беларусаў маліцца па-беларуску — дома і ў касьцеле»**.

У сваім другім лісце ад 28 лютага X.Y.Z. піша пра двух семінарыстаў, выключаных з Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі за іхнюю беларускасць. Далей аўтар працягвае: «Калі ўзяць пад увагу малую колькасць пакліканняў у краіне, дзе архібіскупы скардзяцца на перашкоды, якія робіць урад… дык

* «…le gouverneur… fait de son mieux pour rendre la religion officielle odieuse. Il martyrise les prêtres catholiques, ce qui est le moyen le plus assuré pour les populariser» (ibid, p. 90–91).

** Стары Мінчук. Як яны ваюяць // Наша Ніва. Вільня, 19.09.1913. № 38.

стане яснаю няшчырасць каталіцкіх пачуццяў сярод польскага духавенства. Гэта ваўкі, апранутыя ў авечую шкуру, аднолькава няверныя Царкве, як некалі Сямашка і кампанія, толькі больш небяспечныя, бо прыкрываюць сваю здраду плашчом лаяльнасці. Што значаць вонкавыя ворагі ў параўнанні з такімі здраднікамі, як святар Міхалькевіч і мансіньёр Ключынскі»*.

Пра трэці ліст згадвалася ўжо вышэй.

Апрача карэспандэнцыяў X.Y.Z., у тым самым нумары «Les Annales…» знаходзіцца наступная вестка: «З прыемнасцю паведамляем, што сп-ня княгіня Магдалена Радзівіл згадзілася ўвайсці ў склад Камітэта падтрымкі Арганізацыі Нацыянальнасцяў»**.

Супадзенне наўрад ці выпадковае, і адразу ўзнікае пытанне, ці часам X.Y.Z. і Магдалена Радзівіл — не адна і тая асоба. Прынамсі, да такой высновы прыйшоў аўтар артыкула «Nasi oszczercy» («Нашыя паклёпнікі») у травеньскім нумары 1914 г. польскага часопіса «Nad Świsłoczą» («Над Сьвіслаччу»), што выходзіў у Мінску. Аўтар, які падпісаўся літараю «-m-», са шкадаваннем піша, што «ўся справа інфармавання як заходніх дзяржаваў, так і Расеі пра тое, што ў нас дзеецца, перайшла цалкам у варожыя нам рукі і сталася прыладаю самай скрайняй антыпольскай агітацыі»***. З гэтай прычыны «нам проста нельга апускаць рук і дазваляць першым-лепшым адкідам грамадства

---

* «Quand on pense au petit nombre de vocations, dans un pays où les archevê ques se plaignent des entraves qu'y met le gouvernement… on se rend compte du peu de sincérité du sentiment catholique dans le clergé polonais. Ce sont les loups recouverts de la peau de brebis, aussi infidèls à l'Église que l'ont été Liemorsko (Siemaszko? — *A. N.*) et C[ie], mais plus dangereux encore en ce qu'ils masquent leur trahison d'une apparence de loyoauté. Que sont les enemies du dehors comparés à des traitres comme l'abbé Michalkievicz et Mgr Kluczinski» (Les Annales des Nationalités. Paris, 1914. № 1/2. P. 91). Казімір Міхалькевіч быў адміністратарам Віленскай дыяцэзіі, а Вінцэнт Ключынскі — архібіскупам Магілёўскім і апостальскім адміністратарам Мінскім.

** «Nous avons plaisir d'annoncer que M[me] la princesse Madeleine Radzivill a consenti à entrer dans le Comité de patronage de l'Office des Nationalités» (ibid., p. 92).

*** «…caia informacja taksamo Rosji, jak i państw zachodnich o tem, co się u nas dzieje, przeszła w całości w ręce wrogie nam i stała się narzędziem najskrajniejszej, antypolskiej agitacji» (-m.-. Nasi oszczercy // Nad Świsłoczą. Minsk. Maj 1914. S. 17).

публічна зневажаць без слова пратэсту»*. Такімі «адкідамі» ў вачах аўтара была, відаць, Магдалена Радзівіл: «Нас на Міншчыне перадусім абыходзіць той факт, што інфарматаркай аб тутэйшых адносінах стала кн(ягіня) Магдалена… Радзівіл і што ў тым самым нумары… знаходзім аж тры карэспандэнцыі з Мінска, праўда, падпісаныя ініцыяламі X.Y.Z., але падобныя як блізняты да ўсяго таго, што кн(ягіня) Р(адзівіл) пры кожнай нагодзе распавядае, так што аўтарства гэтых пісанінаў не пакідае найменшага сумлеву».

Аўтар выступае ў абароне адміністратара Віленскай дыяцэзіі Міхалькевіча: ён «вядомы ўсім нам як бездакорны святар, як пастыр усіх сваіх парафіянаў, але таксама і як добры грамадзянін краіны і гэтым самым як найбольш талерантна настроены да ўсіх нацыянальнасцяў». Але тут жа ідзе дадатак: «Зрэшты, мы ж найлепш ведаем, ці ў нас нават існуе беларускае пытанне ў каталіцкім касцёле, дзе ўсе, без розніцы мовы, на якой размаўляюць у хаце, толькі і выключна моляцца па-польску»**.

Напрыканцы аўтар прапануе даць належны адказ княгіні Радзівіл у прыхільным — на ягоную думку — да палякаў французскім тыднёвіку «La vie». Ён завяршае свой артыкул наступнымі словамі: «Бо толькі там можам і мусім даць адказ на падобныя паклёпы, як вышэйзгаданыя, — толькі там можна паспяхова паказаць сапраўдны твар падобных псеўдабеларускіх “дзяячак”, як, напр., кн. Магдалена Радзівіл»***.

Каб паставіць кропку ў гэтай тэме, варта прыгадаць яшчэ адну карэспандэнцыю з Мінска ў «Les Annales…» з датаю 21 красавіка, надрукаваную ў нумары 3/5. Аўтар — Apollon

---

* «…nie wolno nam po prostu rąk opuszczać i pozwalać pierwszemu lepszemu wyrzutkowi społeczeństwa lżyć publicznie bez słowa protestu» (ibid., s. 17).

** «Zresztą wiemy przecież najlepiej, czy u nas istnieje nawet kwestja białoruska w kościele katolickim, gdzie wszyscy, bez różnicy języka, jakim w domu mówią, tylko i wyłącznie modlą się po polsku» (ibid, s. 18).

*** «A przecież tylko tam możemy i powinniśmy odpowiedzieć na podobne oszczerstwa, jak wyżej przytoczone, — tam tylko można skutecznie wyświetlić istotną fizjonomię podobnych «działaczek» pseudobiałoruskich, jak np. ks. Magdalena Radziwiłłowa» (ibid, s. 19–20). Найбольш верагодна, артыкул напісаў сам рэдактар «Nad Świsłoczą» Уладзімеж Дважачак (Włodzimierz Dworzaczek). Ён і ягоны часопіс належалі да г. зв. «эндэцкага» (нацыянал-дэмакратычнага) напрамку польскай палітыкі, варожага да ўсялякіх праяваў беларускага і летувіскага нацыянальнага адраджэння.

Iwanowitch (відаць, псеўданім) — закранае прыблізна тыя самыя тэмы, што і X.Y.Z. У прыватнасці, ён піша пра сумны стан замененага на вайсковыя казармы дамініканскага кляштара, дзе ў былой царкве наладзілі танцавальную залу і афіцэрскі клуб. Далей ён працягвае: «Пад танцавальнай залаю знаходзяцца лёхі з людскімі парэштками. Целы памерлых павыцягвалі з дамавінаў у 1864 г. і параскідалі абы-як. Жаўнеры бяруць першую-лепшую галёнкавую косць, каб чысціць афіцэрскія боты»*.

* * *

На пачатку XX ст. дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння надавалі шмат увагі рэлігійнаму пытанню, асабліва ролі рэлігіі ў захаванні і развіцці нацыянальнай свядомасці. Яны бачылі, як суседзі выкарыстоўвалі ў сваіх палітычных мэтах рэлігійны падзел сярод беларусаў. Таму шмат хто сур'ёзна задумваўся пра магчымасць адраджэння Уніі, скасаванай расейцамі ў 1839 г.

Пісьменнік і мастак Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі, 1868–1918), сын паўстанца 1863 г., пісаў у 1905 г. у артыкуле «Парада», падрыхтаваным, відаць, для часопіса «Палессе», на выданне якога расейскія ўлады не далі дазволу: «Мы свой край павінны называць Беларусьсю, а самі сябе — беларусамі, каб не было больш поваду да рашчэньня камусь сваіх праў да нашай зямлі… Так жа і з вераю: адны — каталікі, над каторымі палякі хочуць панаваць, другія — праваслаўныя, над каторымі маскале пануюць. А ці не лепей бы было аднавіць вунію? Бо што ж мы за такія бяздольнікі, што і Богу памаліцца па-сваему не сьмеем: хто каталік — той па-польску, а хто праваслаўны — той па-маскоўску. А вуніяцкая вера наша, бо яна ў нас вытварылася»**. Паводле словаў Адама Станкевіча, «Каганец быў чалавек дужа рэлігійны. Называў сябе ўніятам. Маліўся з беларускай рукапіснай кніжыцы, якой малітвы сам напісаў»***.

Паэтка Цётка (Алаіза Пашкевіч), ратуючыся ад арышту, што пагражаў ёй за ўдзел у рэвалюцыі 1905 г., уцякла ў Заходнюю

* «Un caveau contenant des dépouilles humaines se trouve sous la salle de bal. Les morts ont été tiré s de leur tombes en 1864 et gisent pêle-mêle. Les soldats prennent par hasard des tibias pour nettoyer les bottes des officiers» (Les Annales des Nationalités. Paris, 1914. № 3/5. P. 171).

** З папераў Каганца // Беларусь. Менск, 19.12.1919. № 49 (76). С. 3.

*** Stankievič A. Biełaruski… S. 34.

Украіну, якая тады ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгерскай імперыі. Адтуль у чэрвені 1906 г. яна пісала ў Пецярбург Браніславу Эпімаху-Шыпілу: «…Цяпер жыву я ў Львові, з украінцамі-русінамі і ўніятамі заваджу знакомства… Скора вышлю кніжкі аб уніі для акадэмікаў духоўных на Ваш адрыс для Будзькі. Вы, шаноўны прафэсар, закіньце перад імі слова за унію, бо яны Вас вельмі шанують і паважаюць. Унія для беларусаў была б крэпкай падпорай, бо лацінскае духавенства ў нас на ніштo»*.

Думалі пра Унію і заснавальнікі газеты «Наша Ніва», асабліва Іван Луцкевіч, які падтрымліваў шчыльныя сувязі з мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім. У 1908 г. Шаптыцкі сам таемна прыязджаў у Вільню, а пасля наведаў Мінск і Слуцк, знаёміўся з настроямі сярод беларусаў**. Ягоны план — дарэчы, даволі нерэальны — «насадзіць» Унію ў Беларусі пры дапамозе ўкраінскіх каланістаў скончыўся нічым, але вялікі мітрапаліт застаўся шчырым прыяцелем беларусаў да канца свайго жыцця і дапамагаў ім, чым мог.

У 1910 г. выйшаў першы «Каляндар “Нашай Нівы”». У ім, а таксама ў наступных выпусках аж да 1914 г. змяшчаліся звесткі аб праваслаўных, рыма- і грэка-каталіцкіх (уніяцкіх) святах.

Беларускія студэнты Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу (ад жніўня 1914 г. ён называўся Петраградам) таксама цікавіліся пытаннямі Уніі. Сярод дакладаў, што чыталіся ў іхнім гуртку, адзін быў прысвечаны Уніі. Яго аўтар — Антон Неманцэвіч, будучы беларускі грэка-каталіцкі экзарх***.

Айцец Кастусь Стаповіч (паэт Казімір Сваяк), які ў Першую сусветную вайну працаваў на занятай немцамі Віленшчыне, заўважаў у сваім дзённіку 27 сакавіка 1916 г.: «Справа беларушчыны пачынае прымаць зусім правідны характар. Там, дзе складаецца арганізацыя якая-кольвечы, дабывае права для сваёй мовы і звычаю. Як можна дадумацца, зложыцца звольна і касьцельнае жыцьцё з правам для мовы роднае. “Гоман” віленскі

* Бібіла Ю. Матэрыялы да біяграфіі Цёткі // Запіскі Аддзела гуманітарных навук. Кн. 2: Працы класа філалогіі. Мінск, 1928. Т. 1. С. 296–297. Будзька, пра якога згадвае Цётка, — гэта будучы святар Францішак Будзька. Ён атрымаў святарства ў 1907 г.

** Луцкевіч А. Мітрапаліт Шэптыцкі і беларускі рух // Богословія. Львоў, 1926. Т. IV. Кн. 1–2. С. 47.

*** Stankievič A. Biełaruski… S. 66.

ясна даводзіць патрэбу адбудовы уніі, — “адвечнай веры бацькоў нашых”. Багаслаў, Божа!..»*.

Магдалена Радзівіл глыбока пранялася думкаю адраджэння Уніі, якую яна называла «народнай вераю». Як хрысціянка, яна балюча перажывала царкоўнае раз’яднанне. На ейную думку, адказнасць за заняпад і знішчэнне Уніяцкай царквы ў Беларусі ў вялікай ступені неслі прадстаўнікі беларускіх вышэйшых класаў, што пакінулі свой народ, апалячыўшыся і прыняўшы дзеля асабістых выгодаў рымскі абрад. Праз шмат гадоў, 18 траўня 1928 г., з выгнання яна пісала а. Фабіяну Абрантовічу: «Мяне заўсёды мучыць думка, што, пакінуўшы ўсходні абрад, мае продкі зрабілі страшэнную крыўду Каталіцтву, што праз злучэнне з Царквой моцнай дзеля свецкіх меркаванняў яны тым самым дарэшты аслабілі Унію, якая патрабавала большай апекі і якая, з прычыны адыходу ад яе адукаваных клясаў, дайшла да ўзроўню, калі не стала ёй сілаў для змагання са схізмаю. Маю ўражанне, што на нас, нашчадках уніятаў, што праз снабізм здрадзілі сваёй Народнай Веры, ляжыць у нейкай меры адказнасць за адступленне ад Каталіцтва адных, за страшныя цярпенні іншых простых людзей, верных першаснаму вучэнню святых Кірылы і Мятода».

Магдалена Радзівіл назаўсёды пакінула Беларусь у канцы 1918 г., напярэдадні бальшавіцкай акупацыі Беларусі. Прабыўшы кароткі час у Варшаве і Коўне, яна выехала ў Нямеччыну, дзе спачатку жыла ў горадзе Гэрмсдорф у Сілезіі, а пасля ў Годэсбергу над ракой Рэйн, непадалёк ад Кёльна. У лісце да а. А. Цікоты яна патлумачыла, чаму не магла застацца ў Польшчы, у склад якое тады ўваходзіла Заходняя Беларусь: «Не раз папракаю сябе за спакойнае жыццё ў той час, калі ў маёй беларускай Бацькаўшчыне кіпіць вайна (*w mojej białoruskej Ojczyźnie wrze wojna*). Але, хоць здаровая, я так упала сіламі, што ні на што б там не здалася, нават калі б мае нервы вытрывалі ў зносінах з абрыдлымі караняжамі (*z przebrzydłymi koroniarzami* — г. зн. з жыхарамі Кароны, або палякамі, адрозна ад насельнікаў Вялікага Княства. — *А. Н.*)» (ліст ад 27 ліпеня 1929 г.).

Абставіны ейнага жыцця моцна змяніліся: «Мне здаецца, што шаноўны Айцец не здае сабе справы з майго фінансавага становішча. Большасць таго, што я мела, цяпер у руках бальшавікоў па той бок мяжы. Тыя драбніцы, што маю ў самой Польшчы,

* Казімір Сваяк. Дзея маёй мыслі, сэрца і волі. Выд. 2-е. Лондан, 1991. С. 28. «Гоман» — беларуская газета, якая выходзіла ў Вільні ў 1916–1918 гг., падчас нямецкай акупацыі.

паменшалі яшчэ больш праз нечуваныя падаткі, дары для Айчыны, рэквізіцыі і г. д., таксама праз несумленную адміністрацыю. Маю вялікія запазычанасці, а таго, што застаецца ад даходаў, пасля адлічэння працэнтаў за пазыкі і пенсіі для старых слугаў і іхніх удоваў стае мне на сціплае жыццё ў кляштары на вёсцы. Прашу ад мяне ні на што не спадзявацца, бо нічога не магу даць» (ліст да а. А. Цікоты ад 22 студзеня 1929 г.).

Княгіня падтрымлівала кантакты з бацькаўшчынай праз пошту, але многія з тых, хто некалі карыстаўся з ейнае шчодрасці, забыліся на яе. Адным з нешматлікіх не страчваў з ёю сувязі айцец Баляслаў Пачопка, былы рэдактар газеты «Беларус». Бацька вялікай сям'і, у 1926 г. ён стаў грэка-каталіцкім (уніяцкім) святаром. Біскуп Пінскі Зыгмунт Лазінскі прызначыў яго на грэка-каталіцкую парафію ў Бабровічах на Палессі. У 1930 г. айцец Пачопка вырашыў распачаць пабудову новай царквы на месцы старой, якая развальвалася. Не хапала сродкаў, і, як апісвае ягоны сын Пётра, а. Пачопка «звярнуўся па дапамогу да княгіні Магдалены Радзівіл, якая некалі давала яму стыпендыю на навуку ў духоўнай семінарыі ў Вільні. Княгіня і тут прыйшла з дапамогаю. Праўда, дапамога гэтая была замалая, каб збудаваць царкоўку, але хапіла на куплю драўніны і пачатак работы»*. Царкву дабудавалі ў 1932 г.

Дапамога княгіні айцу Пачопку не азначала, што яна заўсёды ўхваляла метады ягонай пастырскай дзейнасці. У лісце да айца Андрэя Цікоты ад 9 красавіка 1928 г. яна заўважала: «Годнасць вымагае, каб прадстаўнікі Праўды не ўжывалі дзеля яе пашырэння метадаў, якімі карыстаюцца ерэтыкі (*do jakich się uciekają kacerzy*). Я перапісваюся з адным пачцівым беларускім пробашчам, які наіўна хваліцца, што перацягвае да Царквы схізматыкаў тым, што бярэ за духоўныя паслугі менш ад папоў. Гэта геройскі ўчынак з ягонага боку, бо нябога мае шматлікую сям'ю, але такога роду прапаганда мала абяцае: варта папам знізіць цэны — і будуць мець назад сваіх былых прыхаджанаў».

Магдалена Радзівіл мала верыла ў здольнасць польскай Рыма-каталіцкай царквы дапамагчы збліжэнню праваслаўных і каталікоў. У лісце да а. Фабіяна Абрантовіча ад 18 траўня 1928 г. яна разважала: «У цвярозыя хвіліны разумею, што праца ці ахвяра для Веры хоць бы ў Японіі ёсць такім добрым учынкам, які можа паклікаць блаславенства на краіну, блізкую нашаму

---

* Poczopko P. Kapłan unicki rodem z Wileńszczyzny. Jabłonna, 1999. S. 29.

сэрцу. Калі Пінская семінарыя (у чым не сумняюся) спрычыніцца да паляпшэння лацінскага духавенства, то гэтым самым можа прыцягнуць праваслаўных да лона сапраўднае Царквы; але прыходзяць хвіліны, калі за лацінскім святаром бачу фанатыка паляка (*ale przychodzą chwile kiedy za łacińskim księdzem widzę fanatyka Polaka*)».

Наогул яна даволі крытычна глядзела на Каталіцкую царкву ў Польшчы: «Ва ўсёй Еўропе цывілізацыя выйшла з Царквы. Яна вучыць людзей думаць, а не цэлы дзень праседжваць у храме. А ў Польшчы, апроч пабожнасці ў як найбольш сціслым сэнсе, г. зн. прысутнасці на богаслужэннях, пастоў і прымання сакрамэнтаў, людзі нічога не навучыліся» (ліст да а. Ф. Абрантовіча ад 25 красавіка 1928 г.).

Між іншым, хоць гэта не зусім датычыць тэмы, каб лепш зразумець характар Магдалены Радзівіл, варта прывесці ейную думку пра антысемітызм: «Уважаю антысемітызм за рэч дрэнную хоць бы з тае прычыны, што для Найсвяцейшае Дзевы не можа быць прыемнаю нянавісць да племя, з якога Яна сама паходзіла, і што толькі габрэі, якія прысутнічалі ў Ерусаліме пры ўкрыжаванні Сына Божага, сцягнулі праклён на сваіх нашчадкаў. Не маглі быць у гэтым вінаватыя габрэі, якія жылі тады ў іншых частках Рымскай дзяржавы. Спадзяюся, што не кажу гарэзіі» (ліст да а. Ф. Абрантовіча ад 15 лютага 1928 г.).

З такімі перакананнямі Магдалене Радзівіл было цяжка заставацца ў краіне, дзе з ростам у палітычным жыцці нацысцкай, у аснове сваёй антыхрысціянскай ідэалогіі ўбіраўся ў сілу антысемітызм. У 1932 г. яна пераехала ў Швейцарыю. Там, у Фрыбургу, у кляштары сясцёр дамініканак, Магдалена Радзівіл правяла рэшту свайго жыцця.

Як адзначалася вышэй, ідэя адраджэння Уніі ўзнікла ў беларускіх нацыянальных дзеячаў даволі рана. Асаблівую моц яна набыла на пачатку 20-х гг. мінулага стагоддзя. Сярод святароў прыхільнікамі Уніі былі Адам Станкевіч, Язэп Германовіч (паэт Вінцук Адважны), Канстанцін Стаповіч, Уладзіслаў Талочка і інш. У каталіцкай газеце «Крыніца» нават рэгулярна друкаваўся «Куток аб Уніі». У палове 20-х гг. стаўленне да Уніі выразна пагоршылася. Рэч у тым, што Рым даручыў кіраўніцтва ўнійным рухам у Заходняй Беларусі Папскай камісіі «Pro Russia». Гэты назоў, як патлумачыў польскаму епіскапату старшыня камісіі французскі езуіт біскуп Мішэль Дэрбіні (Michel d'Herbigny), азначаў насамрэч «Pro Russia Ecclesiae unienda», або «За далучэнне Расеі да Царквы». Адной з установаў, каб рыхтаваць будучых

місіянераў для Расеі, стаўся езуіцкі кляштар у Альбярціне каля Слоніма, заснаваны напрыканцы 1924 г. Беларусаў не магло не насцярожыць падпарадкаванне іхніх інтарэсаў расейскім, і яны з падазрэннем глядзелі на польскіх езуітаў у адзенні расейскіх бацюшкаў. Яны разумелі, што гэтая дарога не вяла да адраджэння Уніі на Беларусі*.

Княгіня Радзівіл выказалася на гэты конт з характэрнай для яе бескампраміснасцю: «Прызнаюся, што не маю даверу да фантастычнай падтрымкі Уніі польскімі езуітамі ў маскарадных усходніх строях (*polskich Jezuitów maskaradujących w ubraniu wschodnim*). Уважаю, што для сапраўднага дабра Уніі патрэбныя беларускія святары, усім сэрцам адданыя ёй, і з намерам захоўваць яе да смерці (*Sądzę, że prawdziwy interes Unii wymaga Xięży białoruskich, z serca do niej przywiązanych i z zamiarem wytrwania w jej do śmierci*); а мяне абурае сістэма наймітаў-лацціннікаў, якія служаць Уніі на двух-, трохгадовы тэрмін. Атрымліваю лісты ад аднаго Баляслава Пачопкі, жанатага і сямейнага, якога біскуп Лазінскі пасвяціў на пробашча. Ён мае, прынамсі, тую перавагу, што беларус, але, будучы вельмі бедным, напэўна, мусіць дзеля матэрыяльных меркаванняў працаваць над паланізацыяй сваіх парафіянаў, а апалячаны ўніят пэўна пяройдзе на лацінскі абрад. Усё гэта не выкліча даверу ў і так недаверлівых праваслаўных, і таму мару пра хвіліну, калі сапраўдны ўніят, пасвячаны ўніяцкім біскупам, пасля навукі ва ўніяцкай семінарыіі, будзе служыць

* Справядлівасць вымагае сказаць, што альбярцінскія айцы хутка самі зразумелі недарэчнасць свайго становішча і пачалі весці пастырскую і выдавецкую працу сярод беларусаў на іх роднай мове. Беларускі характар іхняй дзейнасці ўзмацніўся пасля таго, як у 1929 г. вярнуўся пасля навукі ў Рыме будучы экзарх а. Антон Неманцэвіч, пад рэдакцыяй якога пачаў выходзіць у 1932 г. часопіс «Да злучэння». У 1930 г. іншы альбярцінскі езуіт, Эдуард Войтчак (паляк), на пытанне ў анкеце «Місійнага гуртка» Пінскай духоўнай семінарыі, на якой мове трэба весці пастырскую працу, адказаў коратка: «Беларуская мова неабходная і яе дастаткова». Тым не менш многія беларусы працягвалі ставіцца да альбярцінскіх айцоў з недаверам. Айцец Адам Станкевіч даў суровую ацэнку іхняй дзейнасці: «Рабілі і робяць спробы беларускай рэлігійнай працы на выдавецкай ніве і ўніяты. Работай гэтай кіруюць польскія езуіты. Праз даўжэйшы час яны выдавалі месячнік (гражданкай) «Да злучэння», а цяпер выдаюць так жа месячнік — лацінкай! — «Злучэнне». Работа гэта, аднак, заўсёды для беларускасці была няшчырая і для рэлігійнай культуры беларускага народа не прынесла бадай нічога» (Biełaruski… S. 211).

гэтай мэце. Наш народ надта разумны, каб яго маглі ашукаць лацінскія камедыянты (*Nasz naród zbyt mądry by się dać oszukać przez komediantów łacińskich*). Не веру ў тое, каб лаціннік мог у добрай веры прывязацца да ўсходняга абраду, ён можа, як а. Абрантовіч, сумленна для яго працаваць, але заўсёды застанецца для яго чужым… А ці царкоўныя (лацінскія. — *А. Н.*) дастойнікі ў глыбіні душы не марацць пра Унію як пра мост, праз які перавесці схізматыкаў ва ўлонне лацінскай Царквы?» (ліст да а. А. Цікоты ад 27 ліпеня 1929 г.).

Княгіня не толькі марыла пра час, калі за справу Уніі возьмецца «сапраўдны ўніят, пасвячаны ўніяцкім біскупам, пасля навукі ва ўніяцкай семінарыі». Яшчэ ў 1917 г. яна распачала канкрэтныя захады, каб заснаваць беларускую ўніяцкую семінарыю (калегію) у Рыме. Але больш падрабязна пра гэта — у наступным раздзеле.

## Таямніца брыльянтавага кальле

Non mirari, non indignari,
sed intelligere.

24–25 траўня (6–7 чэрвеня паводле новага календара) 1917 г. у Мінску прайшоў з’езд беларускіх каталіцкіх святароў. На яго сабраліся святары з усёй Усходняй Беларусі (Заходняя Беларусь апынулася па другі бок нямецка-расейскага фронту), а таксама з Петраграда, дзе ў Каталіцкай духоўнай акадэміі і семінарыі было нямала беларусаў сярод выкладчыкаў і студэнтаў. На той час у выніку г. зв. лютаўскай рэвалюцыі расейскі цар зрокся трону, і шмат у каго нарадзілася надзея на лепшую будучыню для сваіх народаў, паняволеных Расеяй. Заварушыліся і беларусы, пачаўшы адбудоўваць сваё незалежнае нацыянальнае і рэлігійнае жыццё. Сярод іх не апошняе месца займала і княгіня Магдалена Радзівіл. Відаць, яна думала, што прыйшоў час здзейсніць ейную запаветную мару. Скарыстаўшы момант, калі беларускія святары знаходзіліся ў Мінску, княгіня перадала тром з іх, да якіх мела асаблівы давер, брыльянтавае кальле на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі (семінарыі) у Рыме. Гэтымі святарамі былі Францішак Будзька, якога княгіня вельмі паважала, і прафесары Магілёўскай духоўнай семінарыі ў Петраградзе Фабіян Абрантовіч і Люцыян Хвецька. Палітычная сітуацыя развівалася вельмі непрадказальна, і таму на ўсялякі выпадак усё рабілася ў сакрэце. Апрача трох святароў, ведаў пра планы княгіні Раман Скірмунт, які ў 1918 г. нядоўгі час ачольваў урад Беларускай

Народнай Рэспублікі. Ведаў пра іх таксама мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі, які тады знаходзіўся ў Петраградзе. Неўзабаве пасля таго, як выбухнула Першая сусветная вайна, у пачатку верасня 1914 г., расейскія войскі занялі Львоў. Расейскія акупацыйныя ўлады арыштавалі мітрапаліта Шаптыцкага і вывезлі ў глыб Расеі. Ён два з паловаю гады правёў у зняволенні. Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. прынесла мітрапаліту вызваленне, і ён, перш як вярнуцца ў Львоў, прабыў колькі часу ў Петраградзе, дзе сярод іншага сустракаўся з беларускімі святарамі і студэнтамі. Там ён заставаўся і ў канцы траўня, калі беларускія святары ладзілі свой з’езд у Мінску. Княгіня Радзівіл падтрымлівала кантакты з мітрапалітам, і вельмі магчыма, што думка заснаваць беларускую семінарыю ў Рыме зыходзіла ад яго*. Зрэшты, украінцы ж мелі сваю калегію ў Вечным горадзе ад 1897 г.

Рым, цэнтр Каталіцкай царквы, заўсёды славіўся сваімі вышэйшымі багаслоўскімі навучальнымі ўстановамі з інтэрнацыянальным складам выкладчыкаў і студэнтаў. Беларуская калегія ні ў кога не выклікала б там здзіўлення, і студэнты, вольныя ад усялякіх нацыянальных канфліктаў, маглі б спакойна аддацца падрыхтоўцы да пастырскага служэння сярод свайго народа.

Мінск у 1917 г. заставаўся ў руках расейцаў, але лінія фронту праходзіла досыць блізка, і захоўваць кальё ў горадзе было не вельмі бяспечна. Таму а. Абрантовіч, выязджаючы ў Петраград, узяў кальё з сабою. Там разам з а. Хвецькам ён схаваў яго ў бяспечным месцы да больш спрыяльных часоў.

У выніку бурлівых падзеяў 1917–1921 гг. Беларусь паводле Рыжскай дамовы падзялілі між сабою Саветы і Польшча. Спробы беларусаў адрадзіць сваю незалежную дзяржаву не прынеслі жаданага выніку. Але абвяшчэнне БНР пакінула моцны след у іхняй свядомасці і ўзмацніла жаданне змагацца за здзяйсненне ідэалаў Акта 25 Сакавіка. Зрухі закранулі ўсе галіны нацыянальнага жыцця, у тым ліку і рэлігійную. У 1917 г. аднавілася Мінская рыма-каталіцкая дыяцэзія. Яе першы біскуп, Зыгмунт Лазінскі, заняў свой пасад улетку 1918 г. Напрыканцы таго сама-

* У пазнейшай карэспандэнцыі Магдалена Радзівіл згадвае, што перадала кальё ў 1917 ці 1918 г., прызнаючыся, што дакладнай даты не памятае. Абрантовіч сведчыў, што гэта адбылося ў 1916 г. Можна адразу адкінуць 1918 г. як малаверагодны, бо тады між Мінскам і Петраградам праходзіў нямецка-савецкі фронт. У 1916 г. мітрапаліт Шаптыцкі знаходзіўся ў зняволенні. Такім чынам, застаецца травень–чэрвень 1917 г., калі тры святары, якім княгіня даручыла справу, былі ў Мінску, а мітрапаліт Шаптыцкі — на свабодзе ў Петраградзе.

га года ў Мінск прыехаў а. Фабіян Абрантовіч — яго прызначылі рэктарам новаадчыненай духоўнай семінарыі. Пасля 1920 г. ён разам з іншымі святарамі мусіў пакінуць Мінск і з'ехаць у Заходнюю Беларусь, якая апынулася ў межах Польскай дзяржавы. Біскуп Лазінскі затрымаўся ў Навагрудку і кіраваў той часткай Мінскай дыяцэзіі, што трапіла пад уладу Польшчы. У канцы 1925 г. ён ачоліў Пінскую дыяцэзію, заснаваную згодна з канкардатам (дамоваю) між Польшчай і Апостальскім Пасадам.

Княгіня Радзівіл пакінула Беларусь яшчэ ў канцы 1918 г., перад прыйсцем бальшавікоў.

Айцец Будзька памёр у лютым 1920 г. Хвецьку, які застаўся ў Петраградзе, у сакавіку 1923 г. з групай іншых каталіцкіх святароў арыштавалі і засудзілі на доўгі тэрмін зняволення бальшавікі. Перад арыштам ён паспеў перадаць кальe ў польскую рээвакуацыйную камісію, дзе працаваў ягоны былы студэнт з духоўнай семінарыі а. Браніслаў Усас.

У сакавіку 1924 г. а. Абрантовіч польскім дыпламатычным кур'ерам паехаў у Петраград і вывез адтуль кальe. Вярнуўшыся ў Навагрудак, ён прадаў яго прыблізна за 15 тысяч амерыканскіх даляраў. На той час гэта была вялікая сума, хоць насамрэч кальe каштавала больш. За частку грошай ён купіў у Навагрудку зямлю з забудоваю, а 10 тысяч даляраў пазычыў на пяць гадоў біскупу Лазінскаму пад 5 адсоткаў у год на будаўніцтва духоўнай семінарыі ў Пінску, сказаўшы, што робіць гэта з ведама і згоды дабрадзейкі, але не назваўшы ейнага прозвішча.

Застаецца няясным, якім чынам а. Абрантовіч, вядомы ўсім як беларус, атрымаў польскі дыпламатычны пашпарт. Магчыма, яму паспрыяў біскуп Лазінскі, бо Абрантовіч абяцаў яму дапамагчы вырашыць фінансавыя цяжкасці, звязаныя з пабудовай семінарыі ў Пінску. У 1924 г. Лазінскі быў яшчэ біскупам Мінскім, але ўжо ведаў пра задуму ўтварыць Пінскую дыяцэзію*. Абрантовіч мог спадзявацца, што і ў Пінску ён застанецца рэктарам семінарыі і што там будуць умовы для працы на карысць Беларусі. Часам, аднак, яго апаноўвалі сумневы, і ён нават пытаўся рады ў Віленскага біскупа Матулевіча. Той адказаў яму 18 студзеня 1924 г.: «На маю думку, дарагі Айцец не шмат там зробіць: намучыцца толькі, сапсуе нервы, страціць шмат часу,

---

* Wasilewski J. Ś. p. Ks. Biskup Łoziński // Piński Przegląd Diecezjalny. Pińsk, 1932. № 4. S. 18.

а скончыцца, напэўна, гэта тым, што яму давядзецца нарэшце пакінуць гэтае становішча»*.

Словы Матулевіча спраўдзіліся: рэктарам новай семінарыі стаў паляк Вітаўт Івіцкі, а Абрантовіча пакінулі духоўнікам. Пра беларускую працу не вялося нават гутаркі. Зняверапы, Абрантовіч у жніўні 1926 г. пакінуў Пінск і паступіў у навіцыят да айцоў марыянаў у Друі, перадаўшы ім права на грошы, пазычаныя Лазінскаму, і на купленую ім маёмасць у Навагрудку.

Тым часам у лютым 1925 г. бальшавікі вызвалілі і выслалі ў Польшчу Хвецьку. Спачатку ён жыў у Шыманове каля Варшавы. На восьмы дзень па ягоным прыездзе яго адведаў Абрантовіч і распавёў пра лёс кальє, змаўчаўшы пра некаторыя важныя дэталі. Ужо тады Хвецька, як ён сам засведчыў у лісце да Абрантовіча ад 23 сакавіка 1927 г., сказаў, што той паступіў незаконна.

У 1926 г. Хвецьку прызначылі рэктарам Усходняга інстытута ў Люблiне. Гэтую ўстанову заснаваў архібіскуп Магілёўскі Роп, каб рыхтаваць будучых апосталаў для навяртання Расеі. Інстытут не меў нічога супольнага з беларускай справай.

Даведаўшыся больш падрабязна ад біскупа Лазінскага пра тое, як Абрантовіч распарадзіўся грашыма, атрыманымі за кальє, Хвецька 25 лютага 1927 г. звярнуўся ў Пінскую біскупскую гаспадарчую раду з просьбаю ўстрымацца ад выплаты працэнтаў друйскім марыянам да высвятлення справы. 8 сакавіка ён напісаў Абрантовічу: «Ужо некалькі тыдняў вяду перапіску з а. біскупам З. Лазінскім у справе кальє. Я даведаўся ад яго, што яно не поўнасцю выкарыстанае, што частка яго засталася ў шаноўнага Айца прэлата і што Айцец прэлат зрабіў умову на працэнты, адным словам, што шаноўны Айцец прэлат паступіў з гэтай рэччу як уласьнік, а тым часам ад пачатку Айцец прэлат не меў на гэта ніякага права; прывёз яе ў Польшчу з рук зусім бясьпечных, не даў і не дае права ўласнасьці. Нават шаноўнага Айца прэлата нельга ўважаць за захавальніка і апекуна: сьмею так казаць, бо толькі дваім, г. зн. сьв. пам. а. Будзьку і мне, было даверана; шаноўнага Айца прэлата ўвялі ў сакрэт для дабра справы, для таго, каб рэч не згінула, а не для таго, каб стаць уласьнікам. У сувязі з гэтым станам рэчаў прашу зьвярнуць частку, якая засталася, і пісьмовыя гарантыі ад а. біскупа Лазінскага, бо я павінен зрабіць з гэтай рэччу тое, што належыць.

* Błogosławiony Jerzy Matulewicz // Listy polskie. Warszawa, 1987. T. 1. S. 13.

Хочучы, аднак, залагодзіць гэтую справу мірна і разважна, прашу разумнай рады».

Пад уплывам такога нечаканага павароту справы а. Абрантовіч узгадаў пра Магдалену Радзівіл і напісаў ёй 12 сакавіка 1927 г.: «Пашаны годная спадарыня Княгіня! У 1916 г. Спадарыня дала ў рукі сьв. пам. а. Будзьку ў Мінску брыльянтавае кальe на мэты беларуска-ўніяцкія. Я гэтае кальe завёз у Пецярбург, дзе з а. Хвецькам схавалі мы яго ў маім памяшканьні ў чаканьні на лепшыя часы, каб гэтую рэч скарыстаць паводле прызначэньня. Тых, што ведалі сакрэт, было трое: а. Будзька, Хвецька і я. Айцец Будзька памёр, а. Хвецьку бальшавікі пасадзілі ў вязьніцу на некалькі гадоў. Гледзячы, як а. біскуп Лазінскі мучыцца ў Наваградку, не маючы памяшканьня ані для сэмінарыі, ані для курыі, ані для сябе самога, а знаходзіцца ён на Беларусі і мог бы зрабіць шмат для Уніі, я дабраўся ў сакавіку 1924 г. як дыпляматычны кур'ер у Пецярбург і прывёз рэч, якую а. Хвецька пасьпеў забясьпечыць у Рээвакуацыйнай камісіі на чале з а. Усасам. З продажу я выручыў каля 15 тысячаў амэрыканскіх даляраў і на працягу 2 гадоў будаваў сэмінарыю ў Пінску. Бачачы, аднак, што тут мэта ахвяраваньня не будзе дасягнутая, я забясьпечыў 10 тысячаў пазыкаю а. біскупу Лазінскаму на 5 гадоў пад 5% у год, бо дзеля сьпеху трэба было прадаць крыху таньней. Копію квітанцыі далучаю. За рэшту я купіў нерухомасьць у Наваградку. Усё гэта разам я перадаў кляштару марыянаў у Друі, куды сам уступіў. Гэты кляштар заснаваны праз Сьвятога Айца з той самай мэтаю, на якую Спадарыня Княгіня дала ахвяраваньне. Айца Хвецьку бальшавікі неўзабаве выпусьцілі. Ён быў у Шыманове, цяпер у Любліне. Я езьдзіў да яго ў справе ахвяраваньня. Ён пакінуў (усё) на маю адказнасьць і тры гады маўчаў. Сёньня раптам атрымліваю ліст, з якога бачу, што робяцца захады, каб гэтыя грошы адабраць ад нас. Можа, тады Княгіня будзе ласкавая напісаць мне, ці я добра зразумеў мэту ахвяраваньня і ці маю права далей весьці справу згодна з гэтай мэтаю, ці, можа, кляштар мае абавязак аддаць а. Хвецьку. Зазначаю перад Богам, што мне не ідзе пра маю волю, але пра мэту ахвяраваньня і волю княгіні».

З ліста складаецца ўражанне, быццам аўтар хоча паказаць сябе без дай прычыны пакрыўджаным. Між тым кожнаму, нават не абазнанаму ў царкоўных справах, зразумела, што кляштар рымскага (лацінскага) абраду, якім была Друя, і семінарыя ўсходняга абраду — дзве вельмі розныя ўстановы, і гаварыць пра тую самую мэту можна толькі ў тым сэнсе, што абедзве служаць на хвалу Божую. Абрантовіч таксама несправядлівы ў дачыненні

да Хвецькі: той прыехаў у Польшчу ўсяго на два гады раней, і таму ніяк нельга казаць, што ён «тры гады маўчаў». Дый у 1925 г. пры іхняй сустрэчы ў Шыманове гутаркі яшчэ не заходзіла пра Друю. З ліста Хвецькі ад 1 кастрычніка 1926 г. відаць, што нават тады ён яшчэ нічога не ведаў пра друйскі аспект у справе кальe.

Княгіня адказала 17 сакавіка лістом, у якім дзеля ананімнасці гаворыць пра сябе ў трэцяй асобе: «Асоба, якая выменены рэчы дала а. Будзьку, выразна ў маёй прысутнасці прызначыла свой дар выключна на карысць Беларусі, а галоўным чынам для Грэка-каталіцкай царквы. Скарыстаць яго для іншай мэты было б выразным прысваеньнем сабе чужой (г. зн. грэка-каталіцкай, беларускай) уласнасці. Мараю гэтае асобы было заснаваць у Рыме ўніяцкую калегію. Прашу сказаць гэта як бясспрэчны факт а. Хвецьку і іншым зацікаўленым асобам. Я ўсцешаная, што нарэшце даведалася, што гэтая справа прыняла шчаслівы паварот: ніхто не казаў мне ніколі пра вынікі місіі а. Будзькі <…> Буду ўдзячная за далейшыя весткі пра лёс спадчыны а. Будзькі: горача даручаю гэтую справу сьв. Язэпу. Уважаю Рымскую фундацыю вельмі карыснай. Пра Люблін і іншыя польскія месты ніколі не вялося гутаркі».

Ліст Магдалены Радзівіл не пакідае ніякага сумневу адносна ейнай волі.

27 сакавіка а. Абрантовіч атрымаў другі ліст ад а. Хвецькі, датаваны 23 сакавіка: «Па-першае — патрабую таксама грошы. Па-другое — і гэта адзінае і найважнейшае, — я павінен паведаміць мітрапаліту Шаптыцкаму, каб не быць злодзеем. Для шаноўнага Айца прэлата не сакрэт, што ахвяра была на справы беларускія для яго (г. зн. Шаптыцкага. — *А. Н.*), а а. Будзька і я былі пасрэднікамі, асобамі, якіх ён сам параіў дабрадзейцы <…>. Калі мітрапаліт згодзіцца, каб рэч заставалася ў вас, хай застаецца. А калі загадае зьвярнуць — тады прашу ўмець справу палагодзіць, бо я хлусіць не буду».

Айцец Абрантовіч палагодзіў справу ў свой спосаб.

1 красавіка 1927 г. у прысутнасці сведкаў аа. М. Борыка, Б. Стэфановіча і Я. Гайлевіча ён падпісаў тастамент, у пунктах 3 і 4 якога гаворыцца:

«3. Два пляцы з будынкамі ў Наваградку пры Агародным завулку № 5: дому айцоў марыянаў у Друі.

4. Доўг Я. Э. а. біскупа Лазінскага згодна з расьпіскай, выдадзенай мне ў Пінску дня 11 верасьня 1925 г. № 6 129/5113: таксама Друйскаму дому айцоў марыянаў».

Між тым у Пінску біскупская Гаспадарчая рада разгледзела просьбу Хвецькі і 19 красавіка напісала Абрантовічу: «Паведамляем, што Гаспадарчая рада на пасяджэньні 29 сакавіка г. г., нумар пратакола 64, атрымаўшы ліст ад а. Хвецькі ад 25 лютага г. г. у справе рэчы, прывезенай а. Доктарам і часткова выкарыстанай на адбудову сэмінарыі ў Пінску, беручы пад увагу жаданьне а. Хвецькі паразумецца ў гэтай справе з Я. Э. біскупам Пінскім, вырашыла паведаміць пра гэта а. Доктару, прасіць зьвярнуць квітанцыю, выдадзеную Гаспадарчай радаю, і ўстрымацца ад выплаты працэнтаў».

На гэта Абрантовіч адказаў 23 красавіка: «Не магу, бо не маю права, задаволіць вашае жаданьне звароту вядомай квітанцыі і, што за гэтым ідзе, не магу зрачыся правоў, якія з гэтага вынікаюць. Жаданьне шаноўнай Гаспадарчай рады звароту рэчавай квітанцыі і ўстрыманьне ад выплаты працэнтаў толькі на падставе ліста а. Хвецькі ўважаю сама мала за пасьпешлівае. А што будзе, калі заўтра напіша нехта X, а пасьлязаўтра Y? Апрача бясспрэчнага факту, што я прывёз гэтую рэч і распараджаўся ёю тры гады не бяз ведама а. Хвецькі, маю пісьмовы дакумэнт, як і на што маю выкарыстаць рэч і як бараніць ад магчымых непажаданых прэтэнзіяў. Дакумэнт напісаны асобаю, якая рэч ахвяравала. Я раіў а. Хвецьку зьвярнуцца да гэтай самай асобы. Ягонага звароту не беспасярэдне да мяне пасьля трох гадоў сьвядомага чаканьня не разумею. Прашу тады шаноўную Раду ў меру магчымасьці плаціць працэнты, хоць цяпер не так тэрмінова патрабуем, а суму ў выпадку маёй сьмерці выплаціць дому аа. марыянаў у Друі, якому я перадаў і суму, укладзеную ў Пінск, і ўласнасьць, купленую ў Наваградку, якую цяпер прадаем».

Хвецька, відаць, скарыстаў з парады і напісаў да княгіні Радзівіл. У лісце да а. Абрантовіча ад 29 красавіка 1927 г. ён кажа: «Пісаў я да біскупа Пінскага з ведамых Шаноўнаму Айцу прэлату меркаваньняў. Пасьля 3 траўня напішу, што адклікаю мае дамаганьні ў сьвятле ліста княгіні Радзівіл. Застаецца, аднак, маё аснаўное цьверджаньне, што з гэтага мелі карыстаць грэкакаталікі, і мой абавязак паведаміць мітрапаліту Шаптыцкаму. Пра гэта ясна піша К(нягіня) Р(адзівіл)».

Між іншым, Хвецька сам быў не супраць выкарыстаць дар Магдалены Радзівіл на іншыя мэты. У лісце ад 23 сакавіка ён піша: «Мяне ўласна не абышло, што шаноўны Айцец прэлат ужывае (грошы), нават у Пінску, а тым больш у Друі, але мне забалела тое, што а. біскуп Пінскі, маючы дзяржаўную дапамогу, карыстае з такой ахвяры, а мы ў Любліне павінны жабраваць,

кампраметаваць Інстытут праз недахоп фондаў, калі лёгка маглі б мець значную дапамогу».

Мусіць, з гэтай прычыны Хвецька звярнуўся да прэлата Антона Окала-Кулака, Магілёўскага генеральнага вікарыя, а той — да Магдалены Радзівіл. Княгіня піша пра гэта Абрантовічу 25 красавіка 1928 г.: «Увосень я атрымала ліст ад а. Окала-Кулака ў справе, пра якую піша а. Хвецька да шаноўнага Айца. Мой погляд ім вядомы, але адна з характэрных рысаў дзеячоў як у дабрачыннай, гэтак і ў рэлігійнай галіне ў тым, што яны зусім не зважаюць на волю ахвярадаўцы і дадзеныя на азначаную мэту грошы ўжываюць на нешта іншае без найменшага сораму. Такое я бачыла заўсёды ў Польшчы, бо за мяжою — зусім іначай. Мне цікава ведаць, ці аа. марыяне таксама не зробяць інакш, бо, праўду кажучы, будова (*postawienie*) семінарыі ў Пінску таксама не мелася на ўвазе».

Гэта быў далікатны дакор а. Абрантовічу. Тым не менш княгіня не пераставала верыць, што ён і марыяне, ведаючы ейную волю, выканаюць яе. 18 траўня, каб змякчыць уражанне, зробленае папярэднім лістом, яна пісала: «Прашу не прымаць да сэрца тое, што я пісала ў справе Пінскай семінарыі. Бываюць дні, калі мяне прыгнятае ўспамін пра банкруцтва столькіх праектаў, столькіх надзеяў, разьвеяных страшнай ваеннай бураю. Зрэшты, рэч, якая служыць на хвалу Божую, калі не наўпрост, то хоць акружной дарогаю, вядзе да адной мэты».

Гэтыя словы шмат гавораць пра характар Магдалены Радзівіл. Відаць таксама, што яна мала верыла ў зварот пазыкі, дадзенай Пінскаму біскупу. У вышэйзгаданым лісце яна адзначала: «Калі Пінская семінарыя (у чым не сумняюся) спрычыніцца да духоўнага росту лацінскага духавенства, то тым самым можа прыцягнуць праваслаўных да Праўдзівай Царквы, але бываюць хвіліны, калі за лацінскім святаром бачу фанатыка паляка». Таму, калі крыху пазней а. Абрантовіч адведаў княгіню ў Годэсбэргу (Godesberg/Rhein) у Нямеччыне, дзе яна тады жыла, і сказаў, што надзеі на зварот грошай няма, яна прыняла гэта спакойна. Што ёй забалела, дык гэта хлусня, якая выявілася пазней. Між іншым, пра добразычлівае стаўленне княгіні да Абрантовіча можа сведчыць той факт, што, даведаўшыся пра ягонае прызначэнне ў Маньчжурыю, у лісце ад 15 лютага 1928 г. яна паведамляла: «Я загадала, каб Шаноўнаму Айцу выслалі тысячу злотых на ўсё патрэбнае, калі паедзе на місію, і ласкава прашу іх прыняць». У жніўні, перад самым ад’ездам, ён атрымаў ад Магдалены Радзівіл на дарогу 400 нямецкіх марак.

Абрантовіч скончыў свой навіцыят у жніўні 1927 г. На пачатку 1928 г. Святы Пасад паклікаў яго кіраваць епархіяй усходняга абраду для расейцаў у Маньчжурыі. Ён атрымаў некалькі месяцаў на падрыхтоўку, лекаванне і вывучэнне ўсходняга абраду. У сакавіку 1928 г. а. Абрантовіч пакінуў Друю. Дарогаю ён заехаў у Пінск, дзе зноў усплыла справа кальe, як відаць з ягонага ліста да а. Андрэя Цікоты, кіраўніка Друйскага кляштара, ад 13 красавіка*: «У Пінску вырваў паўтары тысячы злотых. Кажу “вырваў”, бо Хвецька, паміма лісту, аб якім ведаеш, пісаў да іх нядаўна, каб нічога не давалі, а а. біскуп (нібыта жартам) кажа: *Tyś nas nabrał* — (ты нас ашукаў)».

Пазней, 16 траўня, Абрантовіч піша Цікоту з Трускаўца, дзе ён папраўляў здароўе: «Распачаў карэспандэнцыю з Хвецькам, што альбо хай ён мяне ў суд падае, або я яго падам. Тож яшчэ цішыня! Аб рэзультатах паведамлю».

Так супала, што акурат у той самы дзень Хвецька даслаў Абрантовічу свой ліст, у якім піша: «Прыпамінаю сабе, што першае пісьмо, пісанае ў гэтай справе, было да Біскупа Лазінскага, бо думаў я, што рэч тая знаходзіцца ў яго, а ён ніякага права не мае; калі Біскуп выясьніў мне, што ён мае толькі пажычанае, уся аргументацыя зьвярнулася проціў Дарагога Ксяндза Прэлата, сіла каторай заўсёды тая самая. Помнячы добра, што рэч тая не мая асабістая ўласнасьць, а даная для прахаваньня ў акрэсьленым цэлю, хочачы заўсім справу скончыць, мусіў пісаць да Кір Андрэя, каторага слова ўсё разьвяжа. Кір Андрэй адпісаў мне, што ён гатоў удзяліць мне часу, ды калі згодзіцца кс. Ф. Абрантовіч. Атрымаўшы гэта пісьмо, а такжа атрымаўшы ў стычню (г. зн. студзені. — *А. Н.*) 1928 г. пісьмо ад Біскупа Лазінскага, чы ён мае плаціць працэнты кс. Абрантовічу, я даў такі адказ: тым што Мэтроп. Андрэй чыніць аддачу рэчы гэтай, чы часьці, ад згоды кс. Абрантовіча, даходзіць больш не буду і прашу плаціць працэнты кс. Абрантовічу. Ніякіх судоў я вясьці не думаю, і мне асабіста грошай гэтых не трэба, павагу прызнаю толькі адну Мэтроп. Андрэя, бо калі дароўшчыха рэч аддала, то яе рэч і права кончылася. Калі Ксёндз Прэлат падасьць мяне ў суд, хай бы Рымскі, то можа прысудзяць мне грошы, тады пробуйце, я не падам. Паведаміў Мэтрапаліта Андрэя, і канец».

---

* Гэты і наступныя лісты між Абрантовічам і Цікотам, а таксама апошні ліст Хвецькі пісаныя па-беларуску. Друкуюцца з захаваннем мовы аўтараў.

Выглядае, што мітрапаліт Шаптыцкі паступіў карэктна, не жадаючы прымаць апошняга рашэння, не выслухаўшы абодвух бакоў*. Між іншым, на месяц раней сам Абрантовіч быў у яго ў Львове, дзе першы раз служыў усходнюю літургію.

У камедыі Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта» станавы прыстаў Кручкоў, прыехаўшы разбіраць справу бойкі між двума шляхцюкамі і пакараўшы ўсіх вялікімі рублёвымі штрафамі «в пользу временного присутствия» (то бок паклаўшы іх сабе ў кішэню), не забыўся ўзяць з іх па тры капейкі міравых пошлінаў «да скарбу» (г. зн. дзяржавы). Міжволі прыходзіць на памяць гэты камічны эпізод, калі чытаеш ліст Цікоты (які ўжыў дар княгіні Радзівіл на свой Друйскі кляштар) да Абрантовіча ад 27 ліпеня 1928 г.: «Пішу я адгэтуль (ён быў у Марыямпалі ў Літве. — *А. Н.*) да Радзівіліхі. Якога ёй даць чалавека на пасрэдніка, сам не знаю… Ты падумай, бо я ёй яшчэ аб гэтым пісаць не буду. Напішу ёй аб сёстрах, няхай яна ім троха паможа. Для Найловіча канечне дастань <…> помач у Рыме, а не ад Радзівіліхі, бо ад яе я прашу помачы на выдавецтва. Я добра не зразумеў, на што гэты пасрэднік у Варшаве патрэбны. Ці на тое, каб скарэй грошы дастаў ад пленіпатэнта, ці каб зацёрці сьляды, што яна нам памагае». Пад выдавецтвам, якое згадвае Цікота, мелася на думцы выданне кнігі «Гісторыя сьвятая, або біблійная, Старога Закону» а. Вінцэнта Гадлеўскага; а сёстры — законніцы-эўхарысткі, якія мелі свой дом у Друі. Княгіня трымалася сваіх нязменных поглядаў на новыя жаночыя законы, а з ліста Цікоты, відаць, не зусім добра зразумела, якую «гісторыю» напісаў Гадлеўскі. Таму 13 жніўня 1928 г. яна дала яму такі адказ: «Гісторыя — гэта прадмет, які залежыць ад поглядаў аўтара: інакш глядзіць на яе кансерватар, інакш дэмакрат, а я ўпэўненая, што а. Гадлеўскі і я не глядзім на яе аднолькава, і таму адмаўляюся даць фонды для ейнага выдання. Калі ж ідзе пра жаночы кляштар, дык, магчыма, некалі ён станецца аздобаю Царквы, але гэта музыка будучыні,

* Вельмі магчыма, што асцярожны адказ мітрапаліта Шаптыцкага Хвецьку прадыктаваны прызначэннем Абрантовіча ў Маньчжурыю. Усе чакалі, што, калі а. Фабіян паедзе, яго падвысяць да біскупскай годнасці. Толькі амаль перад самым ад’ездам стала вядома, што Абрантовіч біскупам не будзе. Каб крыху падсаладзіць горкую пілюлю, яму надалі ганаровы тытул архімандрыта. Пра рэакцыю на гэтую навіну можна меркаваць з ліста а. Уладзіслава Талочкі ад 1 жніўня 1928 г.: «Сёньня раніцай даў мне Андрэй ліст… з весткамі пра далейшы лёс Айца. Я шчыра засмуціўся, бо весткі непамысныя: архімандрыт і Харбін! Гэта ж *Promoveatur, ut amoveatur!* (павышаецца, каб пазбыцца)».

а тым часам я буду лепш дапамагаць закону, які ўжо існуе каля 80 гадоў і дае багаты плён…». Перш чым даць гэты адказ, яна напісала Абрантовічу. З ягонага ліста ад 6 жніўня вынікае, што ён застаўся незадаволены ўчынкам Цікоты: «Р(адзівіліха) піша мне, што ты хочаш з пяску біч скруціць. Дужа пекнае і глыбокае пісьмо, але не ведаю, што значыць гэты біч. Мусіць, просьба памагчы сёстрам. Пасярэднік у В(аршаве) патрэбны, каб канцы былі ў вадзе <…> Нешта я баюся, каб Ты Р(адзівіліхі) не зразіў». У лісце ад 14 жніўня да Абрантовіча княгіня зноў вяртаецца да гэтай тэмы. Сярод іншага яна піша: «Я атрымала доўгі ліст ад а. Цікоты, які цешыць сябе надзеяю, якую я бачыла ў сотняў ксяндзоў у Каралеўстве (г. зн. у Польшчы. — *А. Н.*) у часе пераследу законаў расейскім урадам.

Кожны трэці вікары ўважаў сябе пакліканым быць заснавальнікам кляштара, збіраў спасярод сваіх духоўных дачок (*penitentek*) душы, што давалі надзею, і браўся за пісанне канстытуцыяў (законных. — *А. Н.*). Кожны з тых, каго я сустракала, запэўніваў мяне, што ягоны статак вызначаецца духам пакоры і паслушэнства і поўнасцю розніцца ад падобных статкаў у суседняй парафіі. Авечкі ж уважалі свайго “ойчаньку” за сьвятога, і атрымлівалася таварыства ўзаемнага захапленьня (*wzajemnej adoracji*) <….>. Я не мела смеласці абліць вадою ягоны (г. зн. Цікотаў. — *А. Н.*) энтузіязм, але адмовілася дапамагчы ў гэтым мала перспектыўным эксперыменце». Да Абрантовіча ліст дайшоў у Марселі, калі той сядаў на карабель, каб плыць у Шанхай. Ён адаслаў яго 28 жніўня Цікоту са сваімі заўвагамі: «Гэты ліст, каторы атрымаў у Марсыліі, але забыўся выслаць, пасылаю заўтра з Порт-Саіду для характарыстыкі нашай кн(ягіні). Яна мае некаторыя свае погляды, каторых нічым не разаб’еш. Нп. яна тож ніколі не хоча памагчы маладзёжы ў сярэдніх школах, а ў вышэйшых так. Каб яе не зразіць, трэба старацца не папасьці на яе *idée fixe*, а пераконваць яе значыць *oleum et operam perdere* (змарнаваць алей і справу)»*.

Адхіленне Цікотавай просьбы не азначала, што княгіня Радзівіл адмаўлялася дапамагаць увогуле. 5 студзеня 1929 г. яна выслала Цікоту трыста польскіх злотых з пажаданнем, каб ён выкарыстаў іх на «якія-колечы патрэбы нашага народа». Былі і іншыя ахвяраванні: 6 лістапада 1929 г. Цікота атрымаў ад кня-

* Тут, напэўна, згадка пра прыпавесць пра мудрых і неразумных дзеваў [Мц 25, 1–12].

гіні 300, а 8 ліпеня 1930 г. — 500 нямецкіх марак. Між іншым, увосень 1929 г. Цікота ездзіў да княгіні Радзівіл у Годэсбэрг, і, як ён піша ў лісце да Бучыса ад 21 кастрычніка, там яго «прымалі вельмі гасьцінна і сардэчна». Другі раз Цікота адведаў яе ў канцы жніўня 1930 г.

24 жніўня 1928 г. Абрантовіч у Марселі сеў на карабель, які плыў у Шанхай. З ягоным ад'ездам справа калье прыціхла, але ненадоўга. У верасні 1930 г. мінуў тэрмін пазыкі, дадзенай біскупу Лазінскаму. Адаслаўшы на пачатку 1931 г., згодна з наказам Абрантовіча, грошы друйскім марыянам*, біскуп у добрай веры захацеў зрабіць прыемнасць Магдалене Радзівіл (ён ужо тады ведаў, найхутчэй ад Хвецькі, прозвішча дабрадзейкі) і падзякаваць за дапамогу ў адбудове семінарыі. Княгіня адказала ў лісце ад 13 красавіка 1931 г.: «У 1917 ці 1918 г. (даты не памятаю) я дала св. пам. а. Будзьку брыльянтавы нашыйнік і адзін брыльянт вялікай вартасці, якія належала аддаць аа. Абрантовічу і Хвецьку, каб тыя іх прадалі і скарысталі на заснаваньне ў Рыме беларускай грэка-ўніяцкай калегіі. Пра гэта, апрача сп. Рамана Скірмунта, ніхто не павінен быў ведаць. Пра лёс гэтых каштоўнасцяў я даведалася толькі ў 1926 (а можа, 1927) г. у Гэрмсдорфе з ліста а. Абрантовіча, які паведамляў мне, што на атрыманыя грошы збудавалі ў Пінску семінарыю, здымак якой ён далучыў. Пасля прыйшоў ліст ад а. Хвецькі з пратэстам супраць скарыстання а. Абрантовічам грошай, бо ён патрабаваў іх на Люблінскую семінарыю. Пра тое, каб у гэтай справе нейкі голас мела я, ні адзін, ні другі з гэтых святароў, пакліканых узгадоўваць духоўную моладзь, відавочна не меў уяўлення. Ніякіх каментароў не дадаю, толькі заўвагу, што такое самае ўяўленне мае, напэўна, і а. Цікота, калі забраў доўг ад Вашай Эксцэленцыі, нічога мне пра гэта не сказаўшы, пра што я даведваюся толькі цяпер з ліста Эксцэленцыі**. Пра паводзіны а. Абрантовіча я гаварыла а. Бу-

---

* Марыянін а. Вячаслаў Пялінак у сваім адказе на мой артыкул «Таямніца брыльянтавага калье Магдалены Радзівіл» піша, што Лазінскі «выслаў апошнюю суму доўгу а. Цікоту ў Друю». Насамрэч ён вярнуў усю суму, бо раней плаціў толькі працэнты.

** Пялінак у артыкуле «Калье Магдалены Радзівіл» піша: «Тое, што княгіня не ведала аб звароце доўгу а. Цікоту Пінскай курыяй, — чарговая няпраўда з артыкулу а. Надсона». Інакш кажучы, а. Надсан схлусіў, і то не першы раз, бо толькі так можна зразумець словы Пялінка «чарговая няпраўда». Тым часам а. Надсан толькі прывёў вытрымкі з ліста княгіні Радзівіл да біскупа Лазінскага, дзе сярод іншага яна пі-

чысу, які не быў ім захоплены. Таму не магу прыняць словаў удзячнасці за дапамогу ў заснаванні Пінскай семінарыі, бо гэта адбылося без майго ведама».

Хочучы, відаць, давесці справу да канца, 7 жніўня 1931 г. княгіня напісала біскупу Пятру (Францішку) Бучысу, генеральнаму кіраўніку закону айцоў марыянаў, ліст наступнага зместу: «У 1917–1918 гг., калі я жыла ў Мінску, я даручыла аа. Абрантовічу, Хвецьку і Будзьку брыльянтавы нашыйнік вялікай вартасці і пярсцёнак з вялікім брыльянтам дзеля таго, каб пасля продажу гэтых рэчаў суму, за іх атрыманую, скарыстаць на справу навучальнай установы ў Рыме, у якой маглі б узгадоўвацца маладыя людзі на сьвятароў каталіцкага ўсходняга абраду, прызначаныя для навучаньня і пашырэньня св. Веры сярод беларускага народа на беларускай мове. Даведваюся з ліста а. біскупа Лазінскага, што частку сумы, атрыманай з продажу каштоўнасцяў, якую а. Абрантовіч яму пазычыў і якую а. біскуп акрэслівае круглай сумаю ў 12 000 даляраў, на загад а. Абрантовіча пераслалі ў касу аа. марыянаў паўтара ці два гады таму назад. Паколькі грошы тыя мелі і маюць іншае прызначэнне, прашу ласкава вярнуць іх на працягу трох месяцаў. Іначай я аддам гэтую справу ў рукі Яго Эмінэнцыі а. кардынала ван Россума, прэфекта Прапаганды* ў Рыме».

Бучыс адказаў 4 верасня даволі доўгім лістом. Сказаўшы спачатку, што маёмасць законніка стаецца ўласнасцю закону толькі пасля ягонай смерці на падставе тастамента, ён далей супярэчыць сам сабе: «Цяпер ведаю, што а. Абрантовіч не мае ніякай асабістай карысці з вышэйзгаданай маёмасці. Даходы з дому і капіталу, а можа і сам капітал, ідуць на аплату ўзгадаваньня маладых клерыкаў і аспірантаў беларускага паходжання. У 1930/31 школьным годзе шэсць з іх вучыліся ў Рыме. Вось іхнія імёны: Казімір Найловіч, Тамаш Падзява, Мартын Зданюкевіч, Ян Вайноўскі, Казімір Урбановіч і Юры Кашыра. Пяць першых вучацца ва ўсходнім абрадзе і склалі фармальна пісьмовае абяцанне, што прысвецяць сваё жыццё справе навяртання

---

сала, што Цікота «забраў доўг ад Вашай Эксцэленцыі, нічога мне пра гэта не сказаўшы, пра што я даведваюся толькі з ліста Эксцэленцыі».

* Прапагандай называлі ў скароце ў Ватыкане Кангрэгацыю для пашырэння Веры (Congregatio de Propaganda Fide), папярэдніцу сучаснай Кангрэгацыі для евангелізацыі народаў.

некаталіцкіх землякоў* гэтага самага абраду ў межах Польшчы або па-за імі згодна з загадам Апостальскага Пасаду».

На завяршэнне Бучыс піша: «Да гэтага часу я меў уражанне, што а. Абрантовіч і ягоныя прыяцелі аа. марыяне з Друі ад усяго сэрца, шчыра і паспяхова служаць духоўным патрэбам навакольнага люду. Ліст Найшаноўнейшай Пані Княгіні, здаецца, абапіраецца на іншыя меркаванні. Паколькі мне нельга заплюшчваць вочы на правіны маіх падуладных, дык прашу даць мне некалькі гадзінаў, каб выслухаць, падчас якіх спадзяюся пачуць тыя доказы віны, якіх Найшаноўнейшая Пані Княгіня з важных прычынаў не выклала ў лісце».

Княгіня адказала коратка ў лісце без даты: «Я прачытала копію майго ліста да Вашай Біскупскай Міласці і не магу ў ім угледзець ніякага закіду віны некаму са святароў. Сцвярджаю толькі факт, пацверджаны лістом Я. Экс. а. біскупа Лазінскага».

Бучыс зноў адказаў доўгім лістом ад 7 кастрычніка 1931 г.: «Цешыць мяне… што Найшаноўнейшая Пані Княгіня не робіць ніякіх закідаў марыянам у Друі. Айцец біскуп Лазінскі, бо ён не законнік, недакладна выказаўся пра юрыдычны стан маёмасці, даверанай а. Абрантовічу. Чалавек пры ўступленні ў закон неабавязкова перадае сваю маёмасць гэтаму закону, але перад (законнымі) шлюбамі піша тастамент. Закон не мае права распараджацца маёмасцю законьніка, хоць бы гэтая маёмасць была запісаная ва ўласнасць закону.

Дасюль мне здавалася, што друйскія марыяне распараджаюцца маёмасцю а. Абрантовіча згодна з указаннямі, пададзенымі ў ягоным тастаменце, і што мэты, пазначаныя ў дарчым акце, дакладна захоўваліся. Калі б Найшаноўнейшая Пані Княгіня ведала пра нейкае адхіленне ад гэтых мэтаў, я вельмі прасіў бы паведаміць мне пра гэта.

Яшчэ раз запэўніваю ў жаданні дакладна выконваць волю ахвярадаўцаў, аднаўляю таксама словы сардэчнай і гарачай удзячнасці Найшаноўнейшай Пані Княгіні за такія шчодрыя дары для нашага сціплага закону!»

Адказ княгіні ад 10 кастрычніка быў, як заўсёды, сціслы і ясны: «Ліста Яго Эксцэленцыі зусім не разумею. Я не прыводзіла думкі а. біскупа Лазінскага, а дала справу на разгляд двум старэйшым зверхнікам двух розных (манаскіх) законаў, а таксама

---

* Ва ўласнаручнай копіі ліста спачатку было напісана «расейцаў» (Rosjan), а пасля перакрэслена і папраўлена на «некаталіцкіх землякоў» (niekatol. ziomków).

аднаму вучонаму прэлату, і ўсе былі адной думкі адносна абавязку закону аа. марыянаў вярнуць забраныя аа. Абрантовічам і Цікотам грошы. Прозвішчаў не падаю, але я раілася з людзьмі паважнымі, і яны будуць кіраваць маімі дзеяннямі».

Атрымаўшы гэты ліст, Бучыс склікаў 30 кастрычніка пасяджэнне Галоўнай рады закону айцоў марыянаў. Наступнага дня ён звярнуўся да княгіні: «Я атрымаў Ваш ліст ад 10 кастрычніка г. г. Не мог адказаць раней, бо вярнуўся з падарожжа дня 28 кастрычніка, а паседжанне Генеральнай рады ў справе Яснавяльможнай Княгіні адбылося дня 30 кастрычніка. Паседжанне просіць Найшаноўнейшую Пані звярнуць ласкавую ўвагу на канон 536, дзе ў параграфе 2 гаворыцца: “Калі законнік звычайных шлюбаў прыняў абавязацельства, ён сам павінен адказваць, за выняткам, калі гэта зрабіў з дазволу свайго зверхніка”, а ў параграфе 3 дадаецца: “Калі законнік прыняў абавязацельства без дазволу старэйшых, сам павінен адказваць, а не закон, правінцыя ці дом”. Дык вось, а. Абрантовіч ніколі ні ад якога марыянскага кіраўніка не атрымаў дазволу рабіць абавязацельствы перад Яе Светласцю Пані Княгіняю.

Апрача таго, канон 580,1 так гучыць: “Кожны, хто склаў законныя шлюбы простыя, вечныя ці часовыя, калі ў канстытуцыях адмыслова не гаворыцца іншага, захоўвае права ўласнасці сваёй маёмасці і магчымасць атрымаць яе назад пад умовою захавання канону 569”. А канон 569 кажа, што маёмасць такога законніка не стаецца ўласнасцю закону, а толькі распараджэнне ёю даручаецца гэтаму апошняму або староннямй асобе, выбранай уласнікам. Айцец Абрантовіч перадаў дом у Наваградку нашаму закону для карыстання, а не ва ўласнасць. Той самы 569 канон кажа пра тастамент. Айцец Абрантовіч такі тастамент зрабіў, як я згадваў у маіх папярэдніх лістах. У марыянскіх канстытуцыях няма ніякага адхілення ад канонаў Каталіцкай царквы.

Яснавяльможная Пані Княгіня з гэтых цытатаў або на судзе пераканаецца, што наш закон права ўласнасці на маёмасць а. Абрантовіча не мае, таму гэтага права нікому не можа перадаць. Калі а. Лорэк, C. M.* або іншыя паважаныя айцы з закону святароў місіянераў (лазарыстаў) маюць іншыя погляды, дык дзеянні, ім адпаведныя, могуць толькі выклікаць непатрэбныя судовыя выдаткі, бо абавязак Марыянскай Генеральнай рады,

* C. M. (Congregatio Missionum): закон святароў місіянераў, заснаваны ў 1624 г. у Францыі, звычайна вядомы пад імем «лазарыстаў».

а таксама і мой, прытрымліваецца юрыдычных нормаў, якімі кіруюцца ў Каталіцкай царкве, што я і раблю».

Княгіня зразумела, што пад покрывам нормаў кананічнага права хаваецца тое, за што дакараў Хрыстос фарысеяў: «Добра ўмееце адхіляць прыказанні Божыя, каб захаваць вашыя пераказы» (Мк 7, 9). Таму цалкам зразумелы тон ейнага апошняга ліста Бучысу ад 4 лістапада: «Права кананічнага не ведаю, але ў жыцці бачыла шмат ашуканцаў, якіх спрытны габрэй адвакат ратаваў ад катаргі пры дапамозе перакручаных на розныя лады тэкстаў з Кодэксу. Для мяне і для многіх асобаў, якім я распавяла пра паводзіны аа. Абрантовіча і Цікоты, у святле сёмага прыказання* справа зусім ясная. Наогул, учынак, які патрабуе для доказу сваёй нявіннасці доўгіх і вытанчаных тлумачэнняў, ёсць падазроны. Людзі сумленныя не маюць патрэбы ў красамоўных аргументах. Мяркую, што далейшая між намі карэспандэнцыя ні да чога не давядзе. Далучаю словы пашаны, належнае Вашай Эксцэленцыі. М. Радзівіл».

Лісты Бучыса, асабліва апошні, пакідаюць супярэчлівае ўражанне. Здавалася б, перад афармленнем дарчага запісу элементарнае пачуццё справядлівасці вымагае ўпэўніцца, ці асоба, якая робіць дар, мае на гэта права. У Бучыса ж адзіны клопат: аформіць усё згодна з нормамі кананічнага права. Ён ухіляецца ад простага адказу на патрабаванні княгіні і хаваецца за шматслоўнымі разважаннямі пра рэчы, якія не датычацца справы. Ягоныя выказванні пра захаванне волі ахвярадаўцы і падзяка за шчодры дар для «сціплага закону» марыянаў гучаць як здзек**.

Забыўшыся, відаць, на ўласнае цверджанне, што маёмасць законніка пераходзіць ва ўласнасць закону толькі на аснове тастамента пасля ягонай смерці, Бучыс прызнаецца, што з капіталу,

---

* Сёмае прыказаньне Божае кажа: «Не крадзі».

** В. Пялінак піша: «Пасля доўгіх безвыніковых спрэчак з марыянамі, расчараваная іерархіяй Касцёла і Лігай Нацыяў… Магдалена Радзівіл кідае на шалі апошняе сваё патрабаванне: вярнуць укладзеныя ў Друю грошы, галоўным чынам (так у тэксце. — *А. Н.*) выручаныя за кальe». Княгіня мела ўсе падставы расчаравацца ў марыянах, але адкуль Пялінак узяў, што яна была «расчараваная іерархіяй Касцёла» (пакінем Лігу Нацыяў у супакоі!)? Словы «галоўным чынам» ствараюць уражанне, быццам княгіня, апрача грошай, атрыманых з продажу кальe, дамагалася звароту нейкіх іншых сродкаў, «укладзеных у Друю». На жаль, Пялінак не кажа, якіх канкрэтна. Наогул ён намагаецца падаць дамаганні княгіні як нейкую помсту за нанесеную ёй крыўду. Такім чынам ён кідае цень на ейную асобу.

запісанага Абрантовічам для марыянаў, карыстаюцца шэсць студэнтаў у Рыме. Адзін з іх, Кашыра, належаў да рымскага (лацінскага) абраду. Іншыя вучыліся ў Русікуме. Студэнты гэтай установы мусілі даць абяцанне Камісіі «Pro Russia», што прысвецяць сваё жыццё працы сярод расейцаў*. Таму запэўненне, быццам беларускія студэнты рыхтаваліся там для працы сярод «землякоў» згодна з мэтаю ахвяры княгіні Радзівіл, разыходзіцца з праўдаю. Між іншым, Бучыс, дзе можа, пазбягае словаў «беларус», «беларускі», замяняючы іх рознымі «землякамі» (*ziomki*), «навакольным людам» (*lud okoliczny*) і г. д. Што датычыцца саміх студэнтаў, то тры з іх у 1932 г. кінулі навуку і сышлі з Друйскага кляштара. Засталіся два — Тамаш Падзява і Казімір Найловіч. У 1935 г., як толькі яны скончылі навуку, іх адразу выслалі ў Маньчжурыю працаваць сярод расейцаў. Там у 1943 г. Найловіч пакінуў святарства і Каталіцкую царкву і ўзяў шлюб у праваслаўнай царкве з разведзенай расейкай. Тамаш Падзява пасля савецкіх лагераў і доўгіх гадоў у Польшчы ў 1969 г. хворы трапіў нарэшце да беларусаў у Лондан, дзе памёр у 1975 г.

Бучыс пісаў напрыканцы 1931 г. княгіні Радзівіл, што марыяне не мелі права ўласнасці на купленую Абрантовічам маёмасць у Наваградку. Ён забыўся толькі згадаць адну дробязь: больш як за год да таго друйскія марыяне хацелі прадаць гэтую маёмасць, на якую не мелі права ўласнасці, законніцам сёстрам назарэтанкам. Да продажу не дайшло толькі таму, што не змаглі пагадзіцца ў цане. Цікота пісаў Бучысу 30 чэрвеня 1930 г.:

---

* Перад намі копія дакумента Камісіі «Pro Russia» на італьянскай мове ад 27 верасня 1932 г., № 229/32, падпісаная яе старшынёй біскупам Дэрбіны (d’Herbigny), у справе аднаго са студэнтаў, Казіміра Урбановіча, які пакінуў Русікум і марыянаў: «…абʼяўляю, што, з віны самога Казіміра Урбановіча, не мае больш моцы абяцанне, дадзенае ім перад тым, як ён быў прыняты ў Русікум, што жадае прысвяціцца рэлігійнаму служэнню *сярод расейцаў* ва ўсходнім абрадзе (…dic hiaro che, per la colpa dello stesso Casimiro Urbanowicz, non ha piú valore la promessa che egli ha fatto prima di essere ammesso ul Russicum, di volere cioè dedicarsi all’assistenza religiosa dei russi nel rito orientale)». Другім прыкладам можа служыць пісаны па-лацінску ліст Бучыса да Цікоты ад 13 красавіка 1932 г. у справе Тамаша Падзявы, дзе сказана: «Тамаш Падзява тваімі стараннямі быў прыняты ў калегію Русікум пад умоваю, што па сканчэнні навукі будзе працаваць *для навяртання расейцаў* (Thomas enim Podziawa Te agenie admissus est in Collegium Russicum ea conditione, ut absoluta studia convertendis russis adlaboret)» (у абодвух выпадках вылучана мною. — *А. Н.*).

«У справе ліста Маткі Генеральнай СС (г. зн. сёстраў. — *А. Н.*) Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта пакорна паведамляю, што дня 30.VI еду ў Наваградак, каб разгледзець справу на месцы. Цана, якую я прасіў, — яшчэ даволі нізкая паводле наваградскіх цэнаў, у параўнанні з коштамі, патрэбнымі на будову. Не ведаю, адкуль узялося ў Ш(аноўных) Сясцёр перакананьне, што я хацеў 6000 (злотых, даляраў? — *А. Н.*), а потым паднёс да 7000, бо пра 6000 ніколі не было гутаркі. Нашыя абставіны настолькі цяжкія, што не можам рабіць ніякіх саступак».

Відаць, аднак, Бучыс не адчуваў сябе так самаўпэўнена, як можна меркаваць з тону ягоных лістоў да княгіні Радзівіл. 13 лістапада 1931 г. ён пісаў Абрантовічу ў Харбін: «З продажам дома ў Наваградку могуць быць цяжкасці. Княгіня Магдалена Радзівіл дамагаецца звароту ўсяго, што яна дала Вялебнаму Айцу, кажучы, што (ейная) ахвяра выкарыстаная не на тую мэту, на якую прызначалася. Я ёй адказаў, што айцы марыяне не могуць вярнуць ёй таго, што яна дала айцу Абрантовічу, бо не маюць права ўласнасці. Апрача таго, я назваў прозвішчы клерыкаў, якія вучацца якраз з той мэтаю, на якую прызначалася ахвяраванне. Княгіня ў апошнім лісце абазвала мяне габрэйскім жулікам. На гэты ліст я нічога не адказаў».

Абрантовіч, як некалі ў выпадку «тастамента», адрэагаваў імгненна: 17 лістапада 1931 г. ён падпісаў дакумент на лацінскай мове, якім зракаўся «ў рукі а. Андрэя Цікоты, старэйшага Друі, усіх маіх правоў, якія датычаць дома і агароду пры Агародным завулку № 5 у горадзе Наваградку (Польшча)». У 1933 г. дом прадалі нейкаму Садоўскаму, які яшчэ ў 1938 г. скардзіўся на не сплочаныя марыянамі падаткі. Невядома, што сталася з грашыма, атрыманымі з продажу. Найхутчэй, яны пайшлі на куплю студэнцкага дома ў Вільні на вуліцы Жыгімонта, 24*.

---

* З ліста айцоў А. Цікоты, Я. Дашуты і К. Смулькі (два апошнія былі сябрамі рады Друйскага кляштара) ад 14 чэрвеня 1933 г. да намесніка генерала марыянаў а. К. Бранікоўскага відаць, што дом у Наваградку на той час ужо прададзены, і то не вельмі выгодна: «Мы чакалі купца некалькі гадоў, і той, хто яго купіў за параўнаўча малую цану, хацеў зусім адрачыся». Далей аўтары ліста пішуць пра тры магчымыя спосабы выкарыстаць грошы, трэці з якіх меў на ўвазе набыццё дома ў Вільні, які «не толькі будзе служыць памяшканнем для нашых студэнтаў, але таксама даваць нам сталы даход, без якога Друя не зможа існаваць». На думку рады Друйскага кляштара, гэта была адзіная прымальная магчымасць, бо іншыя «былі б самагубствам для Друі і не адпавядалі

Апошні раздзел у гэтай сумнай гісторыі — ліст а. Цікоты да княгіні і ейны адказ яму. 5 студзеня 1932 г., год пасля таго, як Цікота атрымаў грошы ад біскупа Лазінскага, ён напісаў княгіні: «<…> курыя ў Пінску ў першым месяцы 1931 года была ласкавай выплаціць доўг <…>. Хаця, калі я асабіста быў у Годэсбэргу, інфармаваў Княгіню Пані, як гэтымі грашыма распараджаюся, сёння яшчэ раз хачу пацвердзіць, што пра ейную волю памятаю»*.

Княгіня адказала 18 студзеня: «Каштоўнасці, дадзеныя мною а. Абрантовічу ў 1917 г., трэба было прадаць, і сума, атрыманая з продажу, была праз мяне прызначаная *выключна* на стварэнне грэка-каталіцкай сэмінарыі ў Рыме, без ніякага абмежавання нацыянальнасці тых, хто б у ёй вучыўся.

Першым злоўжываннем было пазычыць грошы на Пінскую семінарыю і хлусліва запэўніць а. біскупа Лазінскага, што гэта робіцца з майго ведама і згоды. Далейшым ашуканствам было тое, што а. Абрантовіч пераконваў мяне ў Годэсбэргу, быццам няма надзеі пазычаныя грошы вярнуць. Трэцім актам гэтай несумленнай камедыі быў г. зв. тастамент а. Абрантовіча, на падставе якога грошы, што яму не належалі, былі запісаныя Старэйшаму (*Przełożonemu*) Друйскаму, а таксама наказ а. біскупу Лазінскаму выплаціць крадзеныя сродкі. Калі б адміністратар маёнтка атрымаў ад уласніка суму, каб паставіць свіран або хлеў, ён быў бы злодзеем, калі б пазычыў яе прыяцелю; а яшчэ

---

б прызначэнню наваградзкага аб’екту, які мусіў служыць крыніцаю невялікага, але сталага даходу».

* Цытуецца паводле артыкула Пялінка. Між іншым Пялінак кажа, што ў сваім лісце Цікота «паводле тагачасных этыкетных нормаў» пацвярджаў тое, пра што ён размаўляў з княгіняй пры сустрэчы. Відаць, гэтыя «этыкетныя нормы» былі даволі гнуткія, калі Цікоту спатрэбілася паўтара года, каб пацвердзіць тое, пра што гаварыў з княгіняю ў жніўні 1930 г. Дарэчы, у той час Пінская курыя яшчэ не сплаціла грошай, пазычаных Абрантовічам Лазінскаму, і таму Цікота не мог імі распараджацца, хіба толькі працэнтамі. Наогул Пялінак мае цяжкасці з устанаўленнем храналогіі падзеяў і часта намагаецца, як кажуць ангельцы, паставіць воз спераду каня. Яго мучыць, напрыклад, такое пытанне: «Ці не дзіўна, што марыяне ў Рыме на генеральнай капітуле разглядаюць справу даўгоў Ордэна Магдалене Радзівіл, а Цікота ў той час піша поўныя падзякі лісты Княгіні Пані?» Калі б ён зірнуў на даты, то ўбачыў бы, што Цікота пісаў свой ліст (а не лісты) не «ў той час», калі капітула разглядала справу (30 кастрычніка 1931 г.), а на два месяцы пазней (5 студзеня 1932 г.).

горшым злодзеем, калі б гэтую суму, адабраўшы ад прыяцеля, выкарыстаў на мэту, іншую ад прызначанай. А той, хто распараджаецца крадзенымі грашыма, стаецца ўдзельнікам крадзяжу. Так вучыць Катэхізм згодна з цывільным правам, незалежна ад таго, ходзіць злачынца ў вопратцы свецкай ці духоўнай. Магдалена Радзівіл»*.

* * *

*Non mirari, non indignari, sed intelligere*. Не здзіўляцца, не абурацца, а зразумець — гэтыя словы з карэспандэнцыі між аа. Абрантовічам і Хвецькам варта памятаць усім.

На сёння ўсе, хто меў дачыненне да гэтай сумнай гісторыі, даўно сталі перад Найвышэйшым Суддзёю.

З таго, што вядома пра а. Фабіяна Абрантовіча і Андрэя Цікоту, выглядае, што гэта былі ахвярныя святары і свядомыя беларусы. Абодва памерлі пакутніцкай смерцю ў зняволенні, да канца застаўшыся вернымі Хрысту і Ягонай Царкве. Але ў беларускім нацыянальным і рэлігійным жыцці яны адыгралі вельмі сціплую ролю, і спадзяванні, якія ўскладалі на іх у свой час беларусы, не спраўдзіліся. Больш за тое, цяжка зразумець іхнія паводзіны ў дачыненні да Магдалены Радзівіл. Чатыры гады княгіня цешылася думкаю, што нарэшце ейная ахвяра трапіла ў надзейныя рукі і яе выкарыстаюць згодна з першасным прызначэннем. Ліст біскупа Лазінскага, з якога яна даведалася праўду, стаўся для яе цяжкім ударам, тым больш балючым, што нанеслі яго беларускія святары, якіх яна паважала і якім верыла.

Відаць, Абрантовіча і Цікоту асабліва не турбаваў маральны аспект іхняга ўчынку — галоўнае, яны ж маглі сказаць, што самі не мелі з гэтага асабістай карысці. Магчыма таксама, тут спрацаваў даволі пашыраны ў сваім часе, але маральна сумнеўны прынцып, так ясна выказаны Хвецькам: «Калі дароўшчыха рэч аддала, то яе рэч і права кончылася». Зрэшты, для Магдалены Радзівіл у гэтым не было нічога новага. У свой час яна пісала Абрантовічу пра рэлігійных дзеячаў у Польшчы, якія «зусім не

* Пялінак згадвае пра ліст Цікоты ад 28 сакавіка 1932 г., дзе той просіць княгіню даць яму магчымасць сустрэцца з ёю, каб адказаць на ейныя закіды, якіх, паводле яго словаў, «ані кс. Абрантовіч, ані я не заслужылі». Але княгіня — што зусім зразумела — не захацела больш мець нічога супольнага з ім і іншымі асобамі, замешанымі ў аферы кальe: ліст ад 18 студзеня 1932 г. быў ейным апошнім словам у гэтай справе.

зважаюць на волю ахвярадаўцы і дадзеныя на азначаную мэту грошы ўжываюць на нешта іншае без найменшага сораму». Відаць, аднак, яна не чакала нічога падобнага ад беларускіх святароў…

У Друйскім кляштары ніколі не было ўсходняга абраду. Усе святары, якія яго прынялі, працавалі далёка за межамі Беларусі сярод расейцаў. У 1928 г. паехаў у Харбін Абрантовіч. У 1932 г. туды выслалі Германовіча, у 1935 г. — нававысвечаных Падзяву і Найловіча. У 1933 г. Цікоту абралі генералам закону марыянаў, і ён выехаў у Рым. На ягонае месца прызначылі паляка Уладзіслава Лысіка. Гэта быў пачатак канца беларускай Друі. У апошнія дні чэрвеня 1938 г. польскія ўлады, не без згоды ўладаў духоўных, выселілі з Друі апошніх беларускіх святароў, а на пачатку ліпеня — клерыкаў. У Друі і ў студэнцкім доме ў Вільні на вуліцы Жыгімонта, 24 пасяліліся польскія марыяне. Клерык (пасля біскуп) Часлаў Сіповіч запісаў у студэнцкай марыянскай хроніцы, якую ён вёў: «У Друйскі дом прыехалі айцы марыяне палякі на чале з супэр'ёрам Э. Кулешай. Так жа ў Вільні пры Жыгімонта вул. будуць клерыкі з Польшчы і хадзіць будуць у віленскую сэмінарыю». Праз два месяцы пасля гэтага здарэння, 1 верасня 1938 г., а. Віктар Шутовіч пісаў а. Хрызастому Тарасевічу ў Лайль каля Чыкага: «А марыянаў нашых у Друі і сьлед прастыў! Усё загладзілі, затушавалі, як быццам нічога там беларускага ніколі і не бывала. Двух палякаў з Варшавы прыехала і вядуць парахвію ў Друі чыста па-польску»*.

Хочацца спадзявацца, што лёс літасціва абышоўся з 77-гадовай княгіняй Радзівіл, якая жыла тады ў Швейцарыі, і да яе не дайшла вестка пра тое, у чые рукі трапіла ўрэшце ейная ахвяра.

Можна сумнявацца, ці ў тагачасных палітычных абставінах праект княгіні Радзівіл удалося б здзейсніць. Тым не менш трэба было шукаць выйсце, паспрабаваць змяніць сам праект, захаваўшы яго галоўную мэту. Напрыклад, замест заснавання семінарыі вызначыць стыпендыі на ўзгадаванне беларускіх грэка-каталіцкіх святароў у Грэцкай калегіі ў Рыме. Мітрапаліт Шаптыцкі, напэўна, не адмовіў бы ў дапамозе. Але на гэта па-

---

* Пялінак піша: «Не ведаю, ці можна гісторыю марыянаў у Друі скончыць сказам: «А марыянаў у Друі і сьлед прастыў, як быццам нічога беларускага там і не бывала», як гэта чыніць а. Аляксандар». Насамрэч гэты сказ напісаў у 1938 г. а. Віктар Шутовіч. Будучаму а. Аляксандру ў той час яшчэ не споўнілася 12 гадоў, і яго больш цікавілі яблыкі ў садзе суседа, чым друйскія марыяне, пра якіх ён тады нічога не чуў і не ведаў.

трабавалася згода княгіні і добрая воля ўсіх іншых зацікаўленых асобаў. Невядома, як бы паставілася Магдалена Радзівіл да такой прапановы. Затое можна пэўна сцвярджаць, што іншыя добрай волі не выявілі…

Напрыканцы 20-х гг. мінулага стагоддзя лік тых, хто меў нейкае дачыненне да «аферы калье», значна павялічыўся, і таму цяжка было ўтрымаць яе ў сакрэце. Пачалі разыходзіцца цьмяныя чуткі пра «дар княгіні Радзівіл друйскім марыянам». Аднак дакладныя факты па-ранейшаму ведалі толькі лічаныя зацікаўленыя асобы, якія са зразумелых прычынаў не спяшаліся іх агалошваць.

Увосень 1938 г. Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны і Беларускаму каталіцкаму выдавецтву ў Вільні давялося шукаць новае памяшканне. 7 кастрычніка а. Адам Станкевіч пісаў выгнанаму з Вільні польскімі ўладамі айцу Язэпу Германовічу, які ў Варшаве чакаў выезду ў Рым: «У нас гэткая непрыемная навіна: дом, дзе друкарня, на вясну будуць руйнаваць і знасіць. Вось жа няхай ваш Галава (г. зн. генеральны супэрыёр марыянаў а. Андрэй Цікота. — *А. Н.*), замест трымаць нашых “прыяцеляў” (г. зн. палякаў. — *А. Н.*), адступіць нам які кут пад каталіцкае выдавецтва і друкарню. Гэта зусім выканальна і згодна з вашымі мэтамі і з намерамі вашых ахвярадаўцаў. Калі ўжо ў вас вашай Галавы няма, дык перашлі яму гэты ліст, або перадай пры нагодзе. На ліст чакаю адказу». З ліста відаць, што а. Станкевіч нешта чуў пра «ахвярадаўцаў», але наўрад ці ведаў праўду. 17 кастрычніка а. Германовіч пераслаў ліст а. Цікоту з прыпіскай: «Перасылаю ліст у Вашы рукі, бо ж я тут ні пры чым». Мусіць, няма патрэбы казаць, што просьба а. Станкевіча засталася без адказу…

Першая згадка ў прэсе пра «дар княгіні Радзівіл» з’явілася ў траўні 1940 г. у віленскай беларускай газеце «Крыніца», што аднавіла свой выхад у канцы 1939 г. пасля падзення Польшчы і далучэння Вільні да Летувы. Нейкі М. К. у артыкуле «Час направіць крыўду» пісаў: «Усе мы добра помнім тыя гарачыя летнія дні 1938 г., калі… паліцыя на аўтах вывазіла з Друі марыянаў, а так жа не давала жыць ім у Вільні. У выніку гэтага перасьледу прымушаны быў пакінуць Вільню і айцец Язэп Германовіч, супэрыёр дому марыянаў у Вільні (Зыгмунтоўская № 24)… Вось жа настаў, як нам здаецца, час гэную крыўду направіць, і беларусаў марыянаў, разагнаных сяньня па шырокім сьвеце, вярнуць у Вільню, у іх уласны манастыр, дзе і далей чамусьці галоўную скрыпку іграюць палякі… Матывы беларускіх дамаганьняў гэткія: прадусім Дом марыянскі ў Вільні куплены за бе-

ларускія грамадзкія грошы. *Падарыла іх княгіня М. Радзівіліха, прызначаючы іх на беларускія каталіцкія культурныя справы* (вылучана мною. — *А. Н.*). Тым часам у гэтым доме праводзіцца польская работа… Направа гэтай беларускай крыўды, ведама, залежа ад біскупа П. Бучыса*. Да яго беларусы апэлююць і просяць у імя справядлівасьці направіць тое, што зьнішчыла злая воля Бацянскага і ім падобных»**.

Больш падрабязна пра лёс калье напісаў у 1957 г. айцец (пасля біскуп) Часлаў Сіповіч, які мог карыстацца рымскімі марыянскімі архівамі. У артыкуле «Айцец Архімандрыт Фабіян Абрантовіч» ён адзначаў: «<…> калі а. Абрантовіч уступіў у закон марыянаў, маемасьць у Наваградку і пазычаныя біскупу (Лазінскаму. — *А. Н.*) грошы прынёс як пасаг і аддаў на Друйскі манастыр, які з волі яго закладчыкаў <…> меў за мэту адраджэньне духовага жыцьця сярод беларусаў і пашырэньне царкоўнай еднасьці. У 1927 г. а. Абрантовіч інфармаваў княгіню Радзівіл аб тым, як ён выкарыстаў яе падарак і пытаўся, ці мэта, на якую ён прызначыў, была такім чынам асягнутая. Княгіня пацьвердзіла, што падарак быў даны на карысьць Беларусі і перадусім для грэка-каталіцкае Царквы, што яе лятуценьнем было заснаваньне вуніяцкае беларускае калегіі ў Рыме. Яна была задаволеная з інфармацыі айца Абрантовіча і ў далейшым усю справу паручала апецы сьвятога Язэпа»***.

Гэтае апісанне падзеяў больш выклікае пытанняў, чым дае адказаў. Возьмем хоць бы справу «пасагу». Звычайна маладая, выходзячы замуж, прыносіць з сабою ў пасаг сваю ўласнасць. Між тым Абрантовіч аддаў марыянам тое, што яму не належала, і ў кіраўнікоў закону не ўзнікла нават думкі праверыць, ці ён меў на гэта права. Сіповіч таксама не згадвае прычыны, якая змусіла Абрантовіча ў 1927 г. звярнуцца да княгіні Радзівіл. Абмінае ён маўчаннем і тую частку адказу княгіні, дзе яна ясна казала пра прызначэнне ахвяры і што «скарыстаньне яго для іншай мэты было б выразным прысваеньнем чужой уласнасьці». Такім чынам, у чытача ствараецца ўражанне, быццам княгіня ўхваліла

* Бучыса зноў абралі генеральным суперыёрам закону марыянаў на месца Цікоты — ягоны тэрмін скончыўся ў 1939 г.

** M. K. Čas napravić kryŭdu (da spravy vysyłki Maryjanaŭ-biełarusaŭ) // Krynica. Vilnia, 10.05.1940. № 37. S. 1. Людвік Бацянскі — віленскі ваявода, які загадаў выселіць марыянаў з Друі і Вільні.

*** Сіповіч Ч. Айцец Архімандрыт Фабіян Абрантовіч // Божым шляхам. Парыж, 1957. № 76–81. С. 12.

тое, што зрабіў Абрантовіч; насамрэч яна толькі выказала сваё задавальненне, што нарэшце пасля доўгага часу даведалася пра лёс калье.

Сіповіч працягвае: «З вышэй расказанага відаць, з якімі людзьмі а. Абрантовіч меў справы і як іх сьмела і сумленна абараняў. Гэтым так-жа выясьняецца, адкуль Друйскі манастыр даставаў сродкі на сваё аднаўленьне, пабудову навіцыяту, гімназіі і пад.»*. Незразумела, ад каго абараняў Абрантовіч княгіню: калі ёй была патрэбная абарона, дык хіба ад Абрантовіча, Бучыса і Цікоты, якія без яе ведама і згоды зрабілі з ейным дарам, што хацелі. Між іншым, Сіповіч, магчыма, не ўсведамлячы гэтага, паказаў, што грошы, атрыманыя з продажу калье, марыяне выдаткавалі на мэты, далёкія ад іхняга першаснага прызначэння. Наогул, аднак, адданасць марыянскаму закону, да якога ён належаў, не дазволіла яму сказаць усёй праўды, і таму ягоны аповед атрымаўся няпоўны і скажоны.

У 1965 г. Г. Піхура ў артыкуле пра княгіню Радзівіл, відаць, даўшы волю сваёй фантазіі, без якой-колечы спасылкі на крыніцы, пісаў, што княгіня «прыракла айцу (пасля архімандрыту) Ф. Абрантовічу вялікую суму на залажэньне беларускай (вуніяцкай) калегіі ў Рыме. На жаль, з гэтага праекту нічога не выйшла, бо маёмасьці, з якіх мелі чэрпацца на гэта фонды, папалі ў рукі бальшавікоў»**.

Гісторык Юры Туронак чэрпаў свае звесткі пра калье галоўным чынам з артыкула Сіповіча і, магчыма, з пачутага ад некага. У 1991 г. д-р Туронак у артыкуле пра Друйскі кляштар піша, што яго грашовыя сродкі «папоўніла ахвяраваньне княгіні Магдалены Радзівіліхі, вядомай з дабрадзейных адносін да беларусаў. Вось жа ў 1916 г. яна ахвяравала на беларускія рэлігійныя сродкі дыямэнтавы нашыйнік, які ў 1925 г. каштаваў 15 тысяч долараў. Значную частку гэтых грошай прынёс у кляшторную касу а. Абрантовіч як свой манаскі пасаг»***.

У 1995 г. Сяргей Абламейка прысвяціў даволі шмат месца справе калье ў сваім артыкуле «Невядомая Унія»****. На жаль, ён толькі здолеў яшчэ больш заблытаць і без таго

* Сіповіч Ч. Тамсама. С. 12.

** Піхура Г. Княгіня Магдалена Радзівіл // Божым шляхам. Лондан, 1965. № 2. С. 10.

*** Туронак Ю. Беларускія Марыяны ў Друі // Спадчына. Мінск, 1991. № 5. С. 54.

**** Абламейка С. Невядомая Унія // Унія. Мінск, 1995. № 4. С. 39.

няпростае пытанне. Напрыклад, ён піша, што «а. Хвецька быў арыштаваны і расстраляны бальшавікамі ў сувязі з працэсам архібіскупа Цепляка». Насамрэч Хвецьку бальшавікі дэпартавалі ў Польшчу ў 1925 г., і ён пражыў яшчэ амаль 20 гадоў (памёр у 1944 г.). Далей, распавёўшы пра прыход у Друю Абрантовіча са сваім «пасагам» і заснаванне беларускай Друкарні імя Ф. Скарыны ў Вільні, Абламейка працягвае: «Друкарня імя Ф. Скарыны фінансавалася найперш друйскім домам Марыянаў, які меў грошы з колішняе ахвяры Магдалены Радзівіл». Тут, як і ў выпадку з Хвецькам, поўная блытаніна. Друкарня Ф. Скарыны ў Вільні пачала працаваць у траўні 1926 года, г. зн. за некалькі месяцаў да таго, як Абрантовіч паступіў у навіцыят у Друі. Пазычаныя яму Абрантовічам грошы біскуп Лазінскі сплаціў друйскім марыянам толькі ў пачатку 1931 г. Такім чынам, на працягу першых пяці гадоў свайго існавання друкарня не магла атрымліваць дапамогу «з колішняе ахвяры Магдалены Радзівіл». Няма ніякіх доказаў, што і пасля 1931 г. друйскія марыяне дапамагалі друкарні ці якой іншай беларускай установе. Дый пасля таго, як у 1932 г. Язэпа Германовіча выслалі ў Харбін, а ў 1933 г. на месца Андрэя Цікоты ў кляштар прыйшоў новы суперыёр, паляк Уладзіслаў Лысік, у Друі не засталося амаль нічога беларускага*.

Нарэшце, цверджанне Абламейкі: «…таму, што ў гэтай друкарні выходзіў беларускі ўніяцкі часапіс “Да Злучэньня”, выдаваліся беларускія ўніяцкія календары і іншая літаратура <…> можна лічыць, што жаданьне княгіні Радзівіл было выкананае, што пазьней яна і сама прызнала»**, — не больш як нічым не абгрунтаванае меркаванне аўтара.

---

* Калі ў 1937 г. пачалі распаўсюджвацца чуткі пра магчымае высяленне марыянаў з Друі за іхнюю беларускасць, «Хрысціянская думка» пісала: «Калі б так сталася, то гэта была б сапраўды іронія лёсу, бо ж айцы марыяне ў Друі, нягледзячы на сваю беларускасьць, бадай выключна працуюць па-польску і гэтым самым для польскасьці» (Chryścijankaja dumka. Vilnia. 15.7.1937. № 14 (140). S. 4). Варта прыгадаць, што ў тым часе сябрам рэдакцыйнай калегіі «Хрысціянскай думкі» быў друйскі марыянін а. Язэп Германовіч (паэт Вінцук Адважны), якога ў 1936 г. па вяртанні з Харбіна прызначылі суперыёрам (кіраўніком) студэнцкага дома (калегіі) Друйскіх клерыкаў у Вільні на вуліцы Жыгімонта, 24. У рэдакцыю таксама ўваходзілі айцы Адам Станкевіч (галоўны рэдактар) і Язэп Рэшаць і студэнт Віленскага ўніверсітэта Віктар Ермалковіч.

** Абламейка С. Невядомая Унія.

Іншыя даследчыкі, якія згадвалі пра кальe, не ўносілі нічога новага, апрача яшчэ большай блытаніны*. Такім чынам стваралася легенда, у якой дайсці праўды было амаль немагчыма.

* * *

У 1983 г. мне трапілі ў рукі дакументы, якія леглі ў аснову гэтай працы. Яны змусілі мяне перагледзець мае погляды на некаторыя падзеі ў гісторыі беларускага рэлігійнага адраджэння і ролю асобаў, якія мелі да іх дачыненне. Не магу сказаць, каб гэта прынесла мне вялікую радасць. Тым не менш я разумеў, што справу такой важнасці нельга трымаць у сакрэце. Па-першае, гэта было б бескарысна, бо «няма нічога схаванага, што б не сталася вядомым, і нічога таемнага, што б не выявілася» (Мц 10, 26). Па-другое, чым даўжэй хаваць прыкрую праўду, тым больш балюча ўспрымуць яе людзі, калі ўрэшце даведаюцца. Я ўжо не кажу пра тое, што яны страцяць давер да таго, хто хаваў яе. Асаблівае права ведаць усю праўду маюць тыя, каму ляжыць на сэрцы лёс Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі, што цяпер паволі

* Вось некалькі прыкладаў. К. Шыдлоўскі ў артыкуле «Друйскі кляштар айцоў марыянаў» у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Мінск, 1996. Т. 3. С. 290), а таксама ў энцыклапедычным даведніку «Рэлігія і Царква на Беларусі» (Мінск, 2001. С. 94) піша: «Значную ролю ў адкрыцьці кляштара адыгралі грашовыя ахвяраваньні княгіні М. Радзівіл». Паводле В. Грыгор’евай, У. Навіцкага і А. Філатавай, «у руках Абрантовіча аказаўся падарунак княгіні Магдалены Радзівіл — дыямантавае ўпрыгожаньне, якое яна падаравала ў 1916 г. дзеля разьвіцьця беларуска-ўніяцкай справы… Гэтыя сродкі былі ўкладзеныя на разбудову (Друйскага. — *А. Н.*) кляштара. Княгіня была задаволеная такім выкарыстаньнем і пацьвердзіла, што падарунак прызначаўся для Беларусі і грэка-каталіцкай царквы» (гл.: Уніяцтва на Беларусі: ад Полацкага Сабора 1839 г. і да нашых дзён // З гісторыі ўніяцтва ў Беларусі. Мінск, 1996. С. 128; тое самае ў «Канфесіі Беларусі» (Мінск, 1998. С. 209–210)). Л. Юрэвіч піша, што ў адбудове Друйскага кляштара «Дапамагла… княгіня Магдалена Радзівіл, ахвяраваўшы сваё дыямантавае кальe» (гл. ягоныя «Каментары» (Мінск, 1999. С. 145)). Дый што казаць пра свецкіх аўтараў, калі самі беларускія марыяне не ведалі праўды. Айцец Уладзіслаў Чарняўскі, які паступіў у Друю ў 1934 г., сказаў у 1992 г. карэспандэнту «Хрысціянскай думкі» пра марыянскую ўласнасць у Вільні: «На гэтыя дамы грошы дала Радзівіліха, купляў іх ксёндз Андрэй Цікота» (Кс. Уладзіслаў Чарняўскі: «Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове» // Хрысціянская думка. Мінск, 1993. № 3 (214). С. 53).

і з вялікімі перашкодамі адраджаецца. Мы прызвычаіліся шукаць прычыны нашых бедаў і няўдачаў у вонкавых абставінах, і ў Беларусі звычайна так яно і ёсць. Часта, аднак, мы самі ствараем сабе цяжкасці, калі імкнёмся дасягнуць сваёй — хай бы самай высакароднай — вузкай мэты са шкодаю для агульнай справы, карыстаючыся пры гэтым непрымальнымі сродкамі.

Нягледзячы на такія аргументы, я ўвесь час адкладаў напісанне гісторыі калье. Тым часам у 90-я гг. мінулага стагоддзя ў працах беларускіх аўтараў даволі часта пачалі з'яўляцца згадкі пра «дар княгіні Радзівіл марыянам». Зразумела, гэтыя аўтары, у добрай веры і нічога не падазраючы, толькі паўтаралі старую, некім прыдуманую гісторыю. У такіх абставінах далей маўчаць было нельга. Напрыканцы 2000 г. у «Нашай Ніве» з'явіўся мой артыкул, прысвечаны гэтай справе*. Рэакцыя марыянаў, на жаль, не сталася нечаканай…**

Я хацеў таксама ўшанаваць памяць добрай і разумнай асобы, балюча параненай у высакародных пачуццях да свайго народа тымі, чый абавязак — лячыць раны і сунімаць боль. Апошнім часам беларусам вернутыя імёны шматлікіх выдатных постацяў з іхняй гісторыі. Было б справядліва, каб сярод гэтых постацяў знайшлося месца для княгіні Магдалены Радзівіл.

*2006*

---

* Надсан А. Таямніца брыльянтавага калье Магдалены Радзівіл // Наша Ніва. Мінск, 04.12.2000. № 49. С. 6–7; № 50. 11.12.2000. С. 8–9.

** Пялінак В. Калье Магдалены Радзівіл // Наша Ніва. Мінск, 12.03.2001. № 11. С. 8–9.

PRO PATRIA ALIENA

*Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938)*

## Уступнае слова

Выйшлі роднай вёскі дзеці
Паміраць на белым свеце,
Рассяваць па свеце косці
Праз кагосьці, за кагосьці.

*Янка Купала*

«Друйскі манастыр, калі зыйшліся ў ім а. Фабіян Абрантовіч, вучоны, глыбокі філосаф, але такжа просты і самаахвярны; а. Язэп Германовіч, паэт, пісьменнік, выхаваўца моладзі; а. Віталіс Хамёнак, апостал народу, што знаў кожную вёску і кожнага жыхара ў Друйскай парафіі, а слыў сярод іх як запраўдны святы; а. Дашута, д(окта)р кан(анічнага) права, закаханы ў літургічным спеве; калі ўсе гэтыя айцы згодна пад кіраўніцтвам Цікоты ўзяліся за працу ў манастыры, у парахвіі, у школе, не толькі Друя, але ўся заходняя Беларусь адчула, што запраўды існуе беларускі рэлігійны цэнтр».

Гэта радкі з недрукаванага жыццяпісу айца Андрэя Цікоты, складзенага біскупам Чаславам Сіповічам у 1972 г. Яны адлюстроўваюць не столькі сапраўдны стан рэчаў больш чым саракагадовай даўніны, колькі настальгічны погляд аўтара на тыя часы, калі ён чатырнаццацігадовым юнаком упершыню пераступіў парог кляштара.

Згодна з задумаю ягонага заснавальніка, Віленскага біскупа і генерала закону марыянаў блаславёнага Юрыя Матулевіча, Друйскі кляштар айцоў марыянаў меў служыць духоўным патрэбам беларусаў каталікоў і працаваць дзеля аб’яднання хрысціянаў (Уніі) у адной Царкве Хрыстовай. Аднак да ягонае задумы варожа паставіліся польскія дзяржаўныя і духоўныя ўлады. Яна не знайшла разумення і ў ягонага непасрэднага наступніка ў марыянскім законе, Францішка (Пятра) Бучыса. Ён выкарыстаў беларускіх марыянаў у мэтах, далёкіх ад тых, дзеля якіх засноўваўся Друйскі кляштар.

Кароткія і часта недакладныя звесткі пра Друйскі кляштар можна знайсці ў шмат якіх доследах па царкоўнай гісторыі Беларусі XX ст. З працаў, прысвечаных непасрэдна Друйскаму кляштару, трэба найперш адзначыць артыкулы «Беларускія марыяны ў Друі» Ю. Туронка і «Друйскі кляштар айцоў мары-

янаў» К. Шыдлоўскага*. Гэта былі бадай першыя сур'ёзныя, хоць кароткія і не зусім дакладныя спробы напісаць гісторыю Друйскага кляштара на аснове даступных аўтарам крыніцаў.

Мне давялося доўгія гады жыць і працаваць у Лондане разам з колішнімі друйскімі законнікамі: біскупам Чаславам Сіповічам, айцамі Язэпам Германовічам, Феліксам Журнем і Тамашом Падзявам. Узорныя святары, цалкам адданыя Хрысту і Ягонай Царкве, шчырыя беларусы, яны ўсім сэрцам жадалі шчасця вечнага і дачаснага свайму народу. Тры з іх сталі святарамі ўжо на чужыне. Чацвёрты, айцец Германовіч, два разы быў змушаны пакідаць Бацькаўшчыну, другі раз назаўсёды. Праз усе гады жыцця на чужыне Беларусь засталася для гэтых святароў тым, чым Іерусалім — для габрэя, які на выгнанні ў Вавілоне казаў: «Калі забуду цябе, Ерусаліме, няхай будзе забытая правіца мая» (Пс 136, 5).

У гэтай працы робіцца спроба прасачыць гісторыю Друйскага кляштара марыянаў ад ягонага заснавання да 1938 г. на фоне тагачаснай палітычнай і рэлігійнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі, а таксама ватыканскай «Ostpolitik», што выяўлялася ў дзейнасці Папскай Камісіі «Pro Russia». Як і мае ранейшыя працы (у якіх, дарэчы, закраналіся некаторыя аспекты гісторыі Друі)**, напісаная яна на падставе шматлікіх і пераважна дагэтуль невядомых архіўных дакументаў, што знаходзяцца ў фондах Бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лондане. Большасць гэтых дакументаў паходзіць са збораў біскупа Часлава Сіповіча, які

---

* Туронак Юры. Беларускія марыяны ў Друі // Спадчына. Мінск, 1991. № 5. С. 51–56; Шыдлоўскі Кастусь. Друйскі кляштар айцоў марыянаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1996. Т. 3. С. 290 (тое самае ў энцыклапедычным даведніку «Рэлігія і Царква на Беларусі» (Мінск, 2001. С. 94–95)). Можна яшчэ прыгадаць артыкул Ч. С. (Часлава Сіповіча) «З жыцьця закону марыянаў» // Божым шляхам. Лондан, 1973. № 2. С. 2–4. Хоць артыкул напісаны былым друйскім клерыкам, у ім шмат недакладнасцяў. Напрыклад, аўтар кажа: «У друйскім касьцеле і Малькаўшчыне <…> былі ўведзеныя беларускія казаньні», але замоўчвае, што беларускія казанні былі ў Друі і да прыйсця марыянаў, а ў 1930 г. марыяне іх спынілі.

** Друя і Грэка-Каталіцкая Царква // Божым шляхам. Лондан, 2001. 64 с.; Магдалена Радзівіл і Грэка-Каталіцкая царква ў Беларусі // Божым шляхам. Лондан, 2004. С. 26–70; таксама на ангельскай мове: Princess Magdalena Radzivill and the Greek Catholic Church in Belarus. London, 2004. 39 p.; Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Мінск: БелФранс, 2004. С. 7–49.

намерваўся напісаць гісторыю кляштара, дзе ён пачынаў свой шлях служэння Богу і Бацькаўшчыне.

Словы «*Pro patria aliena*» («Для чужой Бацькаўшчыны»), узятыя за назву для гэтай працы, належаць не мне, а айцу Язэпу Германовічу. У гэтых трох словах усё сказана пра лёс друйскіх марыянаў, не толькі высланых у Харбін, але і тых, што мусілі працаваць у тагачаснай Польшчы, дзе словы «паляк» і «каталік» успрымаліся большасцю як сінонімы. Сумна, калі людзі, якія мужна баранілі свае нацыянальныя і рэлігійныя правы, адмаўляюць у іх іншым і пры гэтым карыстаюцца метадамі, наўздзіў падобнымі на тыя, ад якіх самім давялося пацярпець. Трэба спадзявацца, што такі стан рэчаў у нашыя дні адышоў у далёкую мінуўшчыну.

Лічу сваім прыемным абавязкам выказаць удзячнасць Вользе Калацкай, майму строгаму, але справядліваму рэдактару і крытыку, без чыёй дапамогі мне прыйшлося б часта чырванець. Дзякую таксама д-ру Ірыне Дубянецкай: нягледзячы на вялікую занятасць працаю над сваёй доктарскай дысертацыяй (яе абарона бліскуча прайшла 24 чэрвеня ў Лювенскім універсітэце), Ірына знайшла час прачытаць рукапіс гэтай працы і зрабіць вартасныя заўвагі і праўкі. Сяргей і Таццяна Дубаўцы, Генадзь Сагановіч, д-р Юры Туронак і тая ж Вольга Калацкая шмат дапамаглі мне ў пошуках патрэбных матэрыялаў у бібліятэках і архівах Варшавы, Вільні і Мінска, за што ім складаю вялікую падзяку. І нарэшце, шчыра дзякую Ігару Лабацэвічу за тэхнічную падрыхтоўку тэксту да друку.

*Аляксандр Надсан*
*Лондан, 25 сакавіка 2006 г., Святое Дабравешчанне*

## «Pro alborussis»

Pro alborussis, quae gens… nullos religiosos indigenos habet.

*З ліста блаславёнага Юрыя Матулевіча Папу Пію XI 9 чэрвеня 1923 г.*

Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі афіцыйна пачаў сваё існаванне 7 траўня 1924 г.* У той дзень тагачасны пробашч Друйскай парафіі Антон Зянкевіч на падставе дэкрэта Віленскага біскупа Юрыя Матулевіча ад 23 красавіка 1924 г. перадаў айцу Андрэю Цікоту з закону айцоў марыянаў парафіяльную царкву св. Тройцы, а таксама збудаванні былога францысканскага (бернардзінскага) кляштара, зачыненага расейскімі ўладамі ў 1835 г.

Думка заснаваць беларускі кляштар, відаць, найперш з'явілася ў блаславёнага Юрыя Матулевіча, біскупа Віленскага. Сам нацыянальна свядомы летувіс, ён правёў большую частку свайго жыцця ў Польшчы, дзе здабыў пашану як узорны святар, які шмат зрабіў у галіне сацыяльнай справядлівасці. У канцы 1918 г. Матулевіч прыехаў у Вільню, дзе на той час склалася напружанае становішча, бо палітычныя й нацыянальныя інтарэсы летувісаў і палякаў пераносіліся на царкоўную глебу. Ад самага пачатку ён хацеў быць біскупам для ўсіх сваіх вернікаў, незалежна ад нацыянальнасці, за што яму часта даводзілася цярпець і ад сваіх летувісаў, і ад палякаў. Як Матулевіч разумеў абавязкі святара, сведчаць ягоныя словы, з якімі ён звярнуўся да студэнтаў Віленскай духоўнай семінарыі 22 сакавіка 1919 г.: «Май сэрца сьвятара і апостала <…> служы з вялікай стараннасьцю людзям, дастасоўвайся да іх, а не змушай, каб яны вучыліся чужой мовы, бо табе так хочацца. Ісус паслаў нас навучаць праўдаў веры, абвяшчаць Евангельле, а не навучаць моваў. Ісус загадаў нам

* Амаль усе аўтары, якія пісалі пра Друйскі марыянскі кляштар, падаюць год яго заснавання як 1923. Насамрэч у 1923 г. (дакладней, 9 чэрвеня 1923 г.) біскуп Віленскі Юры Матулевіч звярнуўся да святога айца з просьбаю дазволіць заснаваць кляштар марыянаў у Друі «для беларусаў». Рэскрыпт Святога Пасаду ў гэтай справе быў выдадзены 6 красавіка 1924 г. На яго аснове Матулевіч выдаў 23 красавіка 1924 г. дэкрэт аб заснаванні кляштара. Перадача а. Зянкевічам парафіяльнай царквы і кляштарных забудаванняў а. Цікоту адбылася 7 траўня 1924 г. Гэтую дату трэба лічыць днём заснавання марыянскага кляштара ў Друі.

клапаціцца пра збаўленьне людзей, а не каб мы, выкарыстоўваючы сьлепату і цемнату народу, праводзілі (сярод яго) сваю нацыянальную палітыку»*.

У Вільні Матулевіч упершыню сустрэўся з беларускім адраджэнскім рухам. Сваё стаўленне да яго ён выказаў 27 лютага 1919 г. у гутарцы з маладым беларускім святаром Андрэем Цікотам: «Я сказаў (яму), што беларускаму адраджэнскаму руху не буду супрацiўляцца, нават буду яго падтрымліваць, каб ён не зышоў на дрэнны шлях <…> Я дадаў, што нацыянальнасьці мяне не абыходзяць, але буду падтрымліваць іхнюю працу з наступных прычынаў: (1) Бачу, што беларускі народ цёмны, не ведае катэхізму, не ўмее спавядацца. Найлепш ён навучыцца гэтых рэчаў, калі яго будуць вучыць на роднай мове. (2) Беларусы адраджаюцца, ажываюць, узьнімаюцца, і калі сьвятары і каталіцкія сьвецкія людзі не накіруюць гэты рух на належны шлях, дык ён выкалеіцца і пойдзе супраць Царквы. (3) Задача Царквы — не навучаць моваў, а на зразумелай для людзей мове вучыць таго, што патрэбнае для збаўленьня. (4) Беларусы, усьвядоміўшы сваю нацыянальную адметнасьць, будуць пасьля абвінавачваць Царкву, калі б тая старалася іх дэнацыяналізаваць. Нам мусіць таксама ляжаць на сэрцы клопат пра беларусаў праваслаўных і тых, што былі раней уніятамі. Да іх мы можам толькі наблізіцца, абвяшчаючы Божае слова на беларускай мове. Вось гэта сьвятары беларусы павінны ўважаць за свой абавязак і пакліканьне»**.

Такое стаўленне Матулевіча да беларусаў выклікала супраціў з боку палякаў. Асабліва варожа яго ўспрымалі сябры партыі г. зв. Народнай дэмакратыі (у народзе званых «эндэкамі»), а яна мела шмат прыхільнікаў сярод польскіх каталіцкіх святароў. Матулевіч не хацеў абвастраць і так напружаную сітуацыю, і таму ён задумаў дапамагчы беларусам апасродкавана, стварыўшы беларускі рэлігійны асяродак — кляштар айцоў марыянаў.

Заснаваны ў другой палове XVII ст. у Польшчы закон марыянаў даволі хутка распаўсюдзіўся на землях Рэчы Паспалітай. Аднак на пачатку XX ст. ён амаль зусім заняпаў, калі расейскі ўрад пасля паўстання 1863 г. забараніў каталіцкім законам прымаць новых кандыдатаў. У 1909 г. Матулевіч таемна ад царскіх уладаў аднавіў закон, даў яму новую канстытуцыю і заснаваў навіцыят у Фрыбургу, што ў Швейцарыі, пад выглядам дома

* Górski T. Stosunek Biskupa Jerzego Matulewicza do spraw językowych w diecezji Wileńskiej 1918–1925. Rzym, 1970. S. 46.

** Górski. Op. cit. S. 48.

для студэнтаў-багасловаў. Пасля 1915 г., калі ў выніку ваенных дзеянняў нямецкія войскі занялі Польшчу, Летуву і Заходнюю Беларусь, марыяне выйшлі з «падполля». Пасля вайны яны ўжо мелі свае законныя дамы ў Польшчы, Летуве, Латвіі, а таксама сярод летувіскай і польскай дыяспараў у ЗША.

Матулевіч стаў першым галоўным кіраўніком, або г. зв. «генералам», адноўленага ім закону і заставаўся на гэтай пасадзе да смерці ў 1927 г. Таму ён не выпадкова абраў марыянаў для працы сярод беларусаў.

Першым беларускім марыянінам стаў а. Андрэй Цікота. У верасні 1920 г. ён распачаў навіцыят (выпрабавальны перыяд) у Марыямпалі ў Летуве і праз год, 24 верасня 1921 г., склаў законныя шлюбы. Затым ён паехаў у ЗША, але ўжо ўвосень 1923 г. апынуўся ў Друі. Спачатку займаў становішча другога вікарнага, або памочніка, а. Антона Зянкевіча. Першым вікарным быў а. Віталіс Хамёнак, які ў 1925 г. таксама ўступіў у закон марыянаў.

У міжчасе 9 чэрвеня 1923 г. Матулевіч звярнуўся да святога айца з просьбаю даць дазвол на заснаванне кляштара ў Друі. У сваім лісце ён між іншым кажа, што побач з адміністрацыяй парафіі марыяне маюць намер адбудаваць кляштар, заснаваць там ювенат і навіцыят* «для беларусаў, у сваёй бальшыні схізматыкаў, што да гэтага часу не маюць сваіх законьнікаў, якія б займаліся справай іхняга навяртаньня і збаўленьня»**.

Друя — невялікае старажытнае мястэчка ў паўночна-заходнім кутку Беларусі на левым беразе Дзвіны, дзе ў яе ўплывае рака Друйка. Ад 1921 г. па Дзвіне ў гэтым месцы праходзіла дзяржаўная мяжа між Польскай Рэспублікай і Латвіяй, і таму ў Друі ўсталяваўся аддзел польскіх памежных войскаў і мытня. Друйская каталіцкая парафія налічвала каля 5000 вернікаў і ахоплівала, апроч самога горада, навакольныя вёскі. Большасць парафіянаў складалі беларусы, якія пераважна мелі моцнае нацыянальнае пачуццё. У 1915–1917 гг. вікарным святаром у Друі быў Ільдэфонс Бобіч (1890–1944), больш вядомы як

---

* Ювенат — інтэрнат для хлопцаў, звычайна вучняў старэйшых класаў гімназіі, магчымых будучых кандыдатаў у закон. Навіцыят — месца для «навіцыяў», або паслушнікаў, г. зн. тых, хто, перш як складці законныя шлюбы, праходзіць перыяд выпрабавання (звычайна адзін або два гады) пад кіраўніцтвам дасведчанага законніка — магістра навіцыяў. Навіцыятам называецца таксама сам перыяд выпрабавання.

** «Pro alborussis, quae gens maxima pars schismatica hucusque nullos religiosos indigenos habet, qui suae conversioni et saluti incumbant».

беларускі пісьменнік Пётра Просты. З 1907 г. ён друкаваўся ў «Нашай Ніве», а з 1913 г. — у наваствораннай каталіцкай газеце «Беларус». У 1914 г. студэнтам у Рыме на аўдыенцыі ў Папы св. Пія X ён папрасіў і атрымаў блаславенне для супрацоўнікаў і чытачоў «Беларуса». Бобіч браў удзел у з'ездзе беларускіх каталіцкіх святароў у Вільні 12–13 ліпеня 1921 г., дзе чытаў даклад аб беларускай каталіцкай выдавецкай справе. У 1922 г. выйшла ягоная кніжка «Нядзеляшнія Эвангэлі і Навукі». На жаль, пасля 1923 г. гэты несумненна здольны святар адышоў ад беларускага жыцця.

У 1917 г. у Друі праводзіў свой летні адпачынак малады святар Адам Станкевіч (атрымаў свячанні ў 1915 г.). Ён заснаваў там гурток Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, «каб жыцьцё і хрысьціянскае і беларускае больш паглыбіць і ўмацоўваць». Вось што ён сам піша пра гэта: «Першай арганізацыяй на правінцыі Бел. Хр. Дэмакрацыі быў гурток у Дзісьне <…>. Быў так жа ў тым часе заснаваны гурток бел(арускай) Хр(ысьціянскай) Дэм(акратыі) у Друі. Закладчыкам і кіраўніком быў я, прабываючы там на вакацыях, як студэнт Пецярбургскай Дух(оўнай) Акадэміі. Прыймаў так жа ўдзел у працы гэтага гуртка і кс. Ф. Абрантовіч, які прабываў так жа на летніх вакацыях у Прыдруйску, на другім баку Дзьвіны. Адбываліся бадай штонядзелі і што сьвята зборкі і вяліся гутаркі на тэмы грамадзка-хрысьціянскія і беларуска-народныя. Зборкі адбываліся ў кляштарных мурох пры касьцёле. Прыходзіла на іх звычайна многа людзей, пераважна сялян з усіх канцоў Друйскай парафіі, а таксама часткова з парафіі прыдруйскай, з Віцебшчыны»*.

Улетку таго ж самага 1917 г. біскуп Віленскі Эдуард Роп рабіў візітацыю парафіяў Дзісеншчыны і Браслаўшчыны. На пачатку візітацыі беларускія святары спыталіся ў яго, ці можна гаварыць казанні па-беларуску, і біскуп адказаў: «Не толькі можна, але й трэба»**. Першым звярнуўся са Словам Божым па-беларуску а. Адам Станкевіч 21 ліпеня ў Дзісне. Пасля ён і іншыя святары гаварылі беларускія казанні ў іншых парафіях, у тым ліку і ў Друі. Дарэчы, як піша Станкевіч, «у Друі дзеці пастыра (г. зн. біскупа Ропа. — *А. Н.*) віталі беларускімі вершамі. Пастыр слу-

* Stankievič Adam. Biełaruski Chryścijanski ruch. Vyd. «Chryścijanskaj dumki». Vilnia, 1939. S. 160.

** Stankievič Adam. Rodnaja mova ŭ śviatyniach. Vyd. «Chryścijanskaj dumki». Vilnia, 1929. S. 99.

хаў і са сьлязьмі на вачох казаў: “Ах, як люблю я гэтую мову і гэты народ”»*.

6–7 жніўня 1918 г. у Германавічах адбыўся з’езд святароў Мёрскага дэканату, да якога належала Друя. З’езд пастанавіў дамагацца беларускіх школаў «з беларускай мовай навучаньня, пры поўнай аўтаноміі для іншых народнасьцяў». На думку ўдзельнікаў, «абшар дзейнасьці Каталіцкай Дэмакрацыі ў дэканаце ёсьць беларускі»**. У з’ездзе браў удзел Антон Зянкевіч, які ў тым самым годзе ў Мікалаеве каля Дзісны пачаў гаварыць казанні па-беларуску. У газеце «Крыніца» за 19.06.1921 ёсць цікавая карэспандэнцыя з Мікалаева, падпісаная псеўданімам «Прыездны»: «Сяньня магу з вамі падзяліцца думкаю, што памалу ў нас пачынае аджываць думка аб Уніі. Усё часьцей чуваць у нас сярод праваслаўных беларусаў прыхільныя гутаркі аб злучэньні Царквы і Касьцёла. “Хай будзе Унія”, гавораць людцы. Ёсьць тут некалькі сьвяшчэньнікаў, якія не толькі не чураюцца ідэі Уніі, але хацелі б сярод духавенства каталіцкага знайсьці людзей, добра разумеючых усю важнасьць гэтага сучаснага пытаньня і гатовых памагчы стварыць патрэбныя для Уніі варункі як з адной, так і з другой стараны. Мы добра помнім кс. Зянкевіча, які заўсёды быў гарачым староньнікам ідэі Уніі і хацеў яе з поля гутарак сапхнуць на грунт рэальнай працы. Нат у 1920 г. меўся адбыцца з гэтай мэтаю ў Мікалаеве зьезд некулькіх ксяндзоў і сьвяшчэньнікаў, каб пакуль што прыватна абсудзіць, што ў цяперашнім часе можна зрабіць для дзела Уніі»***. З’езд, праўда, так і не адбыўся — відаць, таму, што ў 1920 г. а. Зянкевіча перавялі ў Вільню, а ў 1922 г. ён стаў пробашчам у Друі. Ягоным вікарным святаром (памочнікам) быў а. Віталіс Хамёнак, беларус, які яшчэ ў 1909 г., за чатыры гады да паступлення ў духоўную семінарыю, дасылаў свае допісы ў «Нашу Ніву». Між іншым, нехта «Парафіянін» пісаў на пачатку 1929 г. у польскай «эндэцкай», варожай да ўсяго беларускага, газеце «Dzieńnik Wileński»: «Пачаткі працы на карысьць беларушчыны ў Друі трэба аднесьці да часу знаходжаньня тут ксяндза Антона Зянкевіча, які карыстаецца гэтай моваю і прымае беларускага дзеяча ксяндза Станкевіча, рэдактара “Крыніцы”»****.

---

* Stankievič Adam. Rodnaja mova ŭ śviatyniach. C. 102.

** Op. cit. C. 109.

*** Krynica. Vilnia, 19 červienia 1921 h. № 19. S. 5.

**** Parafjanin. Nieubłagana walka z polskością klasztoru białoruskiego // Dzieńnik Wileński. 08.02.1929. № 32.

Сам а. Андрэй Цікота ў лісце да папскага нунцыя ў Варшаве за 9 чэрвеня 1938 г. так апісаў становішча ў Друйскай парафіі да прыйсця туды марыянаў: «Свядомасць беларускай нацыянальнасці сярод людзей Друйскай парафіі перад тым, як прыйшлі законнікі закону аа. марыянаў, была даволі пашыраная. Асабліва падчас Расейскай рэвалюцыі беларускі рух рос з дня на дзень, так што ў часе кананічнай візітацыі, якую Найдастойны архібіскуп Эдуард Роп правёў у канцы 1917 года, адчувалася відавочная неабходнасць казанняў на беларускай мове, на якія, каб іх пачуць, прыходзіла нямала схізматыкаў. Ад часу гэтай візітацыі аж да заснаваньня ў Друі дома (кляштара) вышэй паймянёнага закону прапаведаванне Слова Божага на беларускай мове адбывалася ў Друйскай царкве практычна ў кожны святочны дзень <…>. Па-за царквою беларуская дзейнасць праводзілася ў гуртках моладзі, было таксама ўжо нямала сяброў беларускай арганізацыі "Хрысціянская Дэмакратыя"; нярэдка адбываліся беларускія тэатральныя пастаноўкі, у якіх часта браў удзел парафіяльны хор»*.

Такім чынам, Друйскі марыянскі кляштар засноўваўся не на пустым месцы, а на добра падрыхтаваным беларускім грунце. Магчыма, менавіта таму біскуп Матулевіч і абраў Друю, каб здзейсніць сваю задуму.

Поруч з падрыхтоўкай да адкрыцця кляштара а. Цікота перадусім меў клапаціцца пра заснаванне гімназіі. Першым дырэктарам гэтай установы стала полька Ванда Еўтэ, якая выкладала польскую мову. Яна належала да жаночага закону служэбніцаў Ісуса ў Еўхарыстыі («еўхарыстак»), якіх прыслаў у Друю на дапамогу Цікоту іхні заснавальнік біскуп Матулевіч. Супрацоўніцтва між Еўтэ і Цікотам, які старшыняваў у школьнай радзе, не склалася. Увосень 1928 г. яе звольнілі з пасады дырэктара гімназіі, і яна пакінула Друю.

Гімназія, якая насіла імя Сцяпана Батуры**, была польскаю. Янка Багдановіч, будучы супрацоўнік друкарні імя Францішка

---

* Cikoto A. Quandam informationes de Domo Druiensi Congr. CC. RR. Marianorum (копія ліста ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане).

** К. Шыдлоўскі ў сваіх артыкулах піша: «У 1924 арганізавана школа (з 1930 гімназія імя Стафана Баторыя), дырэктар у 1924–1933 Цікота». Тое самае адносна дырэктарства Цікоты піша Ч. Сіповіч. Насамрэч справа выглядае інакш. Віленскі ваявода У. Рачкевіч у лісце да міністра рэлігійных справаў і адукацыі за 22 чэрвеня 1928 г. пісаў: «У гімназіі імя Сцяпана Батуры ў Друі <…> кс. Цікота з'яўляецца стар-

Скарыны ў Вільні, правёўшы нейкі час у Друі ў 1925 г., заўважыў у сваіх успамінах: «У інтэрнаце панавала атмасфэра чыста беларуская, а ў гімназіі — польская»*. Беларуская мова і літаратура не толькі не выкладаліся як прадмет, але, паводле згадак аднаго з першых вучняў гімназіі, а. Тамаша Падзявы, вучням забаранялася размаўляць між сабою па-беларуску нават на перапынках. Ва ўспамінах пра а. Цікоту ён пісаў: «Мы прынялі спакойна выдадзеную ім (Цікотам. — *А. Н.*) забарону гаварыць на тэрыторыі гімназіі па-беларуску ці па-габрэйску (сярод вучняў у гімназіі былі таксама габрэі. — *А. Н.*)*,* бо гэтую забарону ён разумна абгрунтаваў і матываваў патрэбаю большай практыкі ў польскай мове, якая ў многіх з нас была яшчэ далёка не дасканалай»**.

Нацыянальна свядомая беларуская грамадскасць Заходняй Беларусі з вялікімі цяжкасцямі змагалася за існаванне нешматлікіх беларускіх школаў, якія польскія ўлады намагаліся зачыніць.

---

шынёй Школьнай Рады і мае вялікі ўплыў (*W Gimnazjum im. Stefana Batorego w Drui <...> ks. Cikoto jest prezesem Rady Szkolnej i posiada duże wpływy*)». Сам Цікота пісаў 28 кастрычніка 1928 г. польскаму міністру ўнутраных спраў: «Ад навучальнага года 1923/24 дзякуючы вялікім намаганням і выдаткам нашага законнага дома ў Друі існуе польская гімназія імя караля Сцяпана Батуры (*Gimnazjum Polskie im. kr. St. Batorego*). Сёлетнія выпускныя экзамены паказалі, што наша гімназія на далёкім памежжы Польшчы (*na dalekich kresach Polski*) прыносіць карысць дзяржаве, навуцы і польскасці. Наш дом (г. зн. кляштар. — *А. Н.*) не ў змозе аплочваць чужых дырэктараў, ужо два разы звяртаўся да Віленскага аддзела адукацыі (*do Kuratorium Wileńskiego*) з просьбаю зацвердзіць дырэктарам ніжэйпадпісанага. Аддзел адукацыі абодва разы адкінуў маю кандыдатуру, даючы недвухсэнсоўна зразумець, што робіць гэта пад націскам палітычных органаў (*pod naciskiem czynników politycznych*), бо сам не бачыць ніякіх перашкодаў». Такім чынам, ад пачатку гімназія насіла імя Сцяпана Батуры, і Цікота не быў ейным дырэктарам (хоць яму часам даводзілася выконваць абавязкі дырэктара).

* Багдановіч Янка. На жыццёвым шляху. Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. С. 79.

** Tomasz Podziawo. Ojciec Andrzej Cikoto. Chylice, 1959. S. 27. Машынапісная копія гэтай працы знаходзіцца ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане. Віленскі ваявода Уладзіслаў Рачкевіч у справаздачы за 22 чэрвеня 1928 г. пра Друю міністру рэлігійных спраў і адукацыі пісаў: «У гімназіі польская мова выкладання ўжываецца толькі ў часе лекцыяў, на перапынках праз увесь час вучні размаўляюць з а. Цікотам і іншымі па-беларуску». Вучань гімназіі Падзява, напэўна, ведаў лепш за ваяводу моўную сітуацыю ў гэтай установе.

Таму, зразумела, яна не была ў захапленні ад таго, што ў Друі марыяне заснавалі польскую, а не беларускую гімназію. Вось што піша пра гэта а. Тамаш Падзява: «Многія з нас прыйшлі ў гімназію не толькі з абуджанай беларускай нацыянальнай свядомасцю, але з распаленым да белага нацыяналізмам. Паланізацыя агромнай большасці беларусаў была вельмі балючай для нас, як і для ўсёй беларускай інтэлігенцыі, якая не магла даравацъ а. Андрэю, што ён заснаваў польскую гімназію і кіраваў ёю. Толькі вялікія заслугі для свайго народа перад уступленнем у закон (марыянаў. — *А. Н.*) і няспынны пераслед з боку палякаў, для якіх ён лаяльна працаваў, захавалі а. Андрэя ад праследу з боку беларускіх нацыяналістаў. Аднак яны стварылі вакол асобы а. Андрэя змову маўчання. Ніхто пра яго не ўспамінаў, быццам гэты чалавек зусім не існаваў для беларускага грамадства»*.

Тамаш Падзява крыху згусціў фарбы, пішучы пра «змову маўчання». Насамрэч ніякай змовы не было. Доказам можа служыць хоць бы той факт, што 25 сакавіка 1928 г. у Вільні на святкаванні ўгодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі айцец Цікота не толькі прысутнічаў, але адслужыў для ўдзельнікаў святую імшу. Газета «Беларуская крыніца» пісала з гэтай нагоды: «Пры аўтары адзін з паважных і заслужаных нашых духоўных дзеячоў а. марыянін Цікота»**. Між іншым, прысутнасць Цікоты на беларускай урачыстасці не засталася не заўважанаю адпаведнымі польскімі органамі. Віленскі ваявода Уладзіслаў Рачкевіч у лісце, пазначаным «tajne» (сакрэтна), да міністра рэлігійных спраў і адукацыі ў Варшаве за 22 чэрвеня 1928 г. адзначаў: «Кс. Цікота праяўляе сваю дзейнасць таксама і ў Вільні, дзе адслужыў св. імшу ў касцёле св. Мікалая ў дзень 10-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі».

Такім чынам, абвінавачанне ў «змове маўчання» не мае ніякіх рэальных падстаў. З іншага боку, друйскія марыяне (за выняткам айца Язэпа Германовіча) адпачатку не праяўлялі вялікай актыўнасці ў агульнабеларускім нацыянальным жыцці Заходняй Беларусі, а з цягам часу і зусім адышлі ад яго.

У Друйскай гімназіі, нягледзячы на ейны польскі характар, змаглі здабыць асвету шмат дзяцей з беларускіх вясковых сем'яў. Сярод ейных найбольш вядомых выпускнікоў — беларускі грамадскі дзеяч і аўтар кнігі ўспамінаў «Пад знакам Пагоні»

* Tomasz Podziawo. Ojciec Andrzej Cikoto. S. 27.

** Śviatkavannie 10-ch uhodkaŭ abvieščańnia niezaležnaści Biełarusi // Biełaruskaja krynica. Vilnia, 30.03.1928. № 23. S. 1.

д-р Язэп Малецкі, мастак Віктар Жаўняровіч, гісторык Віктар Ярмалковіч і найбольш вядомы з усіх біскуп Часлаў Сіповіч. Пры гімназіі існавалі інтэрнаты для вучняў з больш далёкіх ваколіцаў: для хлапцоў — у кляштары, а для дзяўчатак — у сёстраў эўхарыстак. Гімназія была прыватная, і за навуку даводзілася плаціць. Гэта не заўсёды лёгка давалася бацькам, звычайным беларускім сялянам.

Айцец Часлаў Сіповіч пісаў 28 красавіка 1959 г. сваёй старэнькай маці: «Я ніколі не забуду Тваёй любові да мяне <…>. Помню такжа, як Ты на сваіх плячах нясла жывога барана 12 вёрст, каб яго прадаць і купіць тое, што нам было неабходнае, і каб заплаціць за маю навуку». Вучні з бедных сем'яў, асабліва сіроты ці паўсіроты, часта вызваляліся ад аплаты, але ў такіх выпадках звычайна мусілі «плаціць» за навуку працаю. Віктар Ярмалковіч згадвае ў сваіх мемуарах: «Мне дапамаглі ксяндзы-манахі марыяне з Друі. Мелі яны сваю гімназію, у якую прынялі і мяне. Выехаў я ў Друю, калі мне было трынаццаць гадоў. Два гады не прыяжджаў дахаты. Летам і ў часе канікулаў працаваў я там. Калі быў я ў шостым класе гімназіі, захварэў бацька. Трэба было вярнуцца на гаспадарку»*. Згаданы вышэй Янка Багдановіч, які застаўся без бацькоў, пісаў: «За інтэрнат не трэба было плаціць, утрымліваўся з гаспадаркі, якая належала гімназіі. Безумоўна, трэба было шмат працаваць на гаспадарцы. Праца адбывалася пасля заняткаў у гімназіі»**. Д-р Язэп Малецкі ў лісце да біскупа Сіповіча за 19 студзеня 1953 г. успамінае, што «ягоныя (г. зн. а. Цікоты. — *А. Н.*) адносіны да мяне не былі самыя цёплыя, бо ён сыстэматычна ўважаў, што я замала працую, тады калі мне здавалася, што я працаваў даволі многа, і часта заганяў мяне аплачываць за навуку, што было для мяне рэчай нялёгкай». У іншым лісце Малецкі прызнаецца, што скончыў гімназію толькі дзякуючы матэрыяльнай дапамозе а. Язэпа Германовіча.

Польскія акупацыйныя ўлады адпачатку ўстанавілі строгі нагляд за а. Цікотам і ягонай дзейнасцю. Дэлегат польскага ўраду на Віленшчыну Валерыян Роман пісаў 23 лютага 1924 г. «абсалютна канфідэнцыйна» (*ściśle poufne*) у Міністэрства ўнутраных спраў у Варшаву: «Выконваючы загад No. прат. 3821/п з дня 6/XII– м.г., паведамляю, што законнікаў, якія належаць да

* Ермалковіч Віктар. На жыццёвых хвалях // Лёс аднаго пакалення. Беласток, 1996. С. 211.

** Багдановіч Янка. На жыццёвым шляху. Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. С. 79.

закону аа. марыянаў, цяпер у Друі няма <…>. Затое ў чэрвені мін. г. заснаваліся ў Друі законніцы закону «Эўхарыстычнага Ісуса» <…>. Трэба меркаваць, што прыехалі яны ў Друю не без ведама кс. біскупа Віленскага <…>. Мясцовы пробашч, кс. Зянкевіч, адмовіўся даваць якія-колечы тлумачэнні <…>. Тым не менш няма сумневу, што ініцыятыва прывезці ў Друю законніцаў (усе яны — беларускі) выйшла ад кс. Зянкевіча і кс. Цікоты, пробашча і вікарыя Друйскай парафіі, абодвух выдатных і актыўных дзеячоў беларускага нацыянальнага руху хрысціянска-грамадскага напрамку» (*obu wybitnych i czynnych dziaiaczy na polu białoruskiego ruchu narodowego o charakterze chrześcijańsko-społecznym*)*.

Роман скончае сваю справаздачу паведамленнем, што «над дзейнасцю жаночага закону, а таксама абодвух свецкіх ксяндзоў у Друі ўстаноўлены строгі нагляд і выдадзены загад каменданту пастарунка дзяржаўнай паліцыі ў Друі праўдзіць грамадзянства ўсіх гэтых асобаў».

Відаць, польская разведка працавала не вельмі спраўна, бо Роман не ведаў, што Цікота належаў да закону марыянаў ад 1921 г. і што сярод сёстраў эўхарыстак была прынамсі адна полька. Затое ён падае іншую цікавую звестку: што Цікота «прыехаў туды ў верасні мінулага (г. зн. 1923. — *А. Н.*) года і заняўся супольна з кс. Зянкевічам уладкаваньнем вялікай беларускай друкарні пад назовам “Зьніч”, дзе зьбіраўся выдаваць рэлігійна-народны тыднёвік той самай назвы».

Пра намер Цікоты заснаваць друкарню ў Друі згадвае таксама Тамаш Падзява ў сваіх успамінах. Відаць, аднак, з выдавецкіх планаў нічога не атрымалася, і потым Цікота перадаў друкарскі варштат друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні**.

* Я ўдзячны д-ру Ю. Туронку за копіі гэтага і іншых дакументаў (у прыватнасці, лістоў Віленскага ваяводы Уладзіслава Рачкевіча) з Галоўнага архіва новых актаў у Варшаве.

** Станіслаў Цыпрыяновіч (Язэп Найдзюк) у сваёй гісторыі друкарні Францішка Скарыны піша, што хутка пасля куплі першай друкарскай машыны «да друкарні <…> прывезьлі другую машыну ў палавіну аркуша, гэтаксама з ручным накладаньнем паперу. Паціху гаварылася, што гэтую машыну купіў кс. Андрэй Цікота». (Цыпрыяновіч Станіслаў (Язэп Найдзюк). Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926–1940) // Божым шляхам. Лондан, 1991. С. 6.) Пра тое, што сродкі на друкарню дала Цікоту княгіня Магдалена Радзівіл «з выразна выказанай воляй ахвяравальніцы, што мае яна служыць выключна для беларускага народу», піша Тамаш Падзява на старонцы 9 у сваім

У траўні 1924 г. а. Зянкевіча прызначылі дэканам у Глыбокае. Цікота застаўся адзін на чале кляштара і парафіі. У пастырскай працы дапамагаў яму а. Віталіс Хамёнак. Яшчэ ўвосень 1923 г. прыйшоў у Друю клерык Казімір Смулька, які скончыў семінарыю, але яшчэ не атрымаў святарства. Ён выказаў жаданне стаць марыянінам. У Друі не было тады яшчэ ўмоваў для навіцыяту, і таму яго паслалі ў польскі кляштар у г. Скужац (Skórzec), дзе ў канцы 1924 г. ён склаў першыя законныя шлюбы.

Згодна з лістом біскупа Матулевіча да Папы ад 8 чэрвеня 1923 г., Друйскі кляштар меў быць «для беларусаў, у сваёй бальшыні схізматыкаў, што да гэтага часу не маюць сваіх законнікаў, якія б займаліся справай іхняга навяртання і збаўлення». Фраза «навяртанне схізматыкаў» у тагачаснай тэрміналогіі азначала працу для аб'яднання праваслаўных і каталікоў. Не зусім зразумела, як Матулевіч і Цікота — абодва святары рымскага (лацінскага) абраду — бачылі сабе гэтую працу.

Сярод беларускіх каталіцкіх святароў таго часу шмат хто балюча перажываў рэлігійны падзел беларусаў на праваслаўных і каталікоў. Адзін з іх, айцец Язэп Германовіч, потым вядомы як паэт Вінцук Адважны, працуючы ў розных парафіях Віленскай дыяцэзіі і сутыкаючыся з праваслаўнымі, хутка зразумеў, што «сусім немагчымая рэч, каб праваслаўныя з пракананьня прысталі да каталіцкага Касьцёла, калі мы абдарым іх лацінскім набажэнствам, польскімі казаньнямі і новым календаром»*. Ён зьвяртаецца да праваслаўных сьвятароў: «Браты сьвяшчэньнікі, хочам згоды з вамі! Хадзеце да сьвятой еднасьці-Уніі! Хрыстус даў нам адну праўду, адну веру, а людзі зрабілі раздваеньне <…>. На што нам разьдзелы, сваркі? Разам працаваць нам трэба дзеля беднага беларускага народу, каб паправіць ягоную ліхую долю»**. Улетку 1924 г. Германовіч прыйшоў у Друю. Як ён сам пазней прызнаўся, яго прывяла туды думка пра тое, каб працаваць дзеля аб'яднання праваслаўных і каталікоў. Адбыўшы год навіцыяту ў г. Скужац, ён вярнуўся ў Друю ў жніўні 1925 г.

Улетку 1925 г. вырашыў стаць марыянінам айцец Віталіс Хамёнак. Ён адказваў за навучанне дзяцей Закону Божага ў пачатковых школах Друйскай парафіі. Разам з Хамёнкам прыйшоў

---

машынапісе жыццеапісання Цікоты (гл. вышэй). Дагэтуль не ўдалося знайсці пацвярджэння гэтай звесткі ў іншых крыніцах.

* Hermanovič Jazep. Dumki ab Unii // Krynica. Vilnia, 09.11.1919. № 9. S. 1.

** Тамсама.

у Друю калега Цікоты і Германовіча з Віленскай духоўнай семінарыі Язэп Дашута. Пасля навіцыяту яго паслалі на далейшую навуку ў Рым, адкуль ён вярнуўся ў 1927 г. з тытулам доктара кананічнага права. У Друі яго прызначылі выконваць абавязкі пробашча (кіраўніка парафіі). У снежні 1926 г. стаў святаром Казімер Смулька і заняў пасаду аканома (загадчыка гаспадаркі) у кляштары.

Тым часам падзеі развіваліся даволі хутка. У 1925 г. Польшча падпісала канкардат (дыпламатычную дамову) са Святым Пасадам, які акрэсліваў адносіны між Каталіцкай царквою і Польскай дзяржаваю. Тэкст канкардату быў узгоднены ўжо 10 лютага, але ўваходзіў у дзеянне толькі праз два месяцы пасля абмену ратыфікацыйнымі граматамі — а ён адбыўся 9 чэрвеня 1925 г. Між тым у польскім Сойме і ў прэсе ішлі спрэчкі вакол канкардату. Беларусы не чакалі ад гэтага дакумента нічога добрага. Іх асабліва насцярожваў артыкул XIX, згодна з якім біскуп не мог прызначаць на пасаду пробашча асобаў, «чыя дзейнасьць супярэчыць бяспецы дзяржавы» (*których działalność jest sprzeczna z bezpieczeństwem Państwa*). Гэта азначала, што, перш як прызначыць пробашча, біскуп мусіў атрымаць ад адпаведнага міністэрства пацвярджэнне палітычнай «добранадзейнасці» кандыдата. Беларускі аўтар, які падпісаўся псеўданімам «П. Крушына», так пракаментаваў у «Крыніцы» гэты артыкул: «Калі возьмем пад увагу, што кожны беларускі ксёндз, які чым-кольвек праяўляе сваю беларускасьць, пераважна лічыцца польскім урадам “для Паньства небэзпечным”, то будзем мець паняцьце, што нясе гэты артыкул беларускаму духавенству і беларускай рэлігійна-народнай дзейнасьці. Арт. XIX конкордату дае такім чынам польскаму ўраду магчымасьць не дапускаць беларускіх ксяндзоў да кіраваньня беларускімі парахвіямі»*. Не менш крыўдны для беларусаў быў і артыкул XXIII канкардата, у якім сцвярджалася: «Ніякая змена мовы, што ўжываецца ў дыяцэзіях лацінскага абраду, у казаннях, дадатковых набажэнствах і навучанні <…> не будзе зробленая інакш, як са спецыяльным упаўнаважаннем канферэнцыі біскупаў лацінскага абраду». П. Крушына пісаў з гэтай нагоды: «Арт. XXIII дык проста без ніякага стыду пятлю вешае на шыю беларусам-каталікам. Паводле яго ўжываньне ў дадатковым набажэнстве іншай як польскае мовы можа быць дапушчана толькі спэцыяльнай канфэрэнцыяй (нарадай) біскупаў усяе Польшчы. Ад гэткае канфэрэнцыі мы

* Krynica. Vilnia, 01.03.1925. № 9. S. 1.

можам проста нічога не чакаць»*. Іншыя таксама выказвалі не менш рашучы пратэст. Беларускія святары ў калектыўным лісце (мемарыяле) Святому Айцу датычна канкардату пісалі: «Ніколі канфэрэнцыя біскупаў польскіх прыхільна не адгукнецца на нашыя дамаганьні, гэта мы чуем добра, і ніколі да яе даверыя хаця бы і найменшага мець не будзем, бо не можам. Варожы нам урад польскі ведаў, што рабіў, даручаючы справу беларускай мовы ў касьцёле біскупам польскім»**. Аўтараў мемарыялу непакоіла магчымая рэакцыя беларусаў, як каталікоў, так і праваслаўных: «Мы — духавенства каталіцкае — перш-наперш паважна баімося, каб з гэтых кансэквэнцыяў не стыгла пачуцьцё дагэтуль сапраўды сыноўскай прывязанасьці каталікоў-беларусаў да Трону Апостальскага <…>. Мы, што прагнем пачаць акцыю Уніі між праваслаўнымі беларусамі, так жа баімося, каб і згэтуль неспаткаць у іх вялікага ўпярэджаньня да Рыму, тым болей, што як наагул на Ўсходзе, так і ў нас, рэлігійнасьць і нацыянальнасьць цесна лучацца з сабою»***.

Канкардат прадугледжваў стварэнне Віленскай мітраполіі, у якую ўваходзілі, апроч Віленскай, Ломжынская і наваствораная Пінская дыяцэзіі, прычым Віленскі біскупскі пасад павышаўся да годнасці архібіскупства. Ведаючы, што польскія ўлады не згодзяцца, каб ён заставаўся ў Вільні, Матулевіч 24 чэрвеня 1925 г. напісаў Святому Айцу просьбу аб звальненні. У сярэдзіне ліпеня ён назаўсёды пакінуў гэты горад. Перад сваім выездам, аднак, ён зрабіў усё патрэбнае, каб забяспечыць будучыню Друйскага кляштара. У прыватнасці, ён даў дазвол заснаваць у Друі навіцыят, прызначыўшы лістом ад 30 траўня 1925 г. «магістрам навіцыяў» а. Цікоту. Таксама ён падпарадкаваў Друю непасрэдна генералу закону, абмінаючы польскую марыянскую правінцыю. Нарэшце, на прапанову а. Цікоты 7 ліпеня 1925 г. — за месяц да таго, як пачаў дзейнічаць канкардат з ягоным артыкулам XXIII, — Матулевіч афіцыйна зацвердзіў парадак ужывання ў казаннях беларускай і польскай моваў у Друйскай парафіі. Згодна з гэтым парадкам, з трох нядзельных казанняў у Друйскім касцёле два — на вучнёўскай і галоўнай (г. зв. «суме») імшах — гаварыліся па-польску, а на вячэрні («нешпарах») былі беларускія г. зв. катэхетычныя навукі. Беларускія казанні (побач з

* Krynica. Vilnia, 01.03.1925. № 9. S. 1.

** Memorjał ksiandzoŭ-Biełarusaŭ, uručany papieskamu nuncyju Lauramu ŭ spravie konkordatu // Krynica. Vilnia, 05.07.1925. № 29. S. 3.

*** Тамсама.

польскімі) гаварыліся на водпустах, на травеньскіх, чэрвеньскіх, кастрычніцкіх і г. д. набажэнствах, а таксама ў капліцы ў вёсцы Малькаўшчына, што належала да Друйскай парафіі. Айцец Віталіс Хамёнак, які навучаў рэлігіі ў пачатковых школах на тэрыторыі парафіі, звычайна гаварыў па-беларуску, каб дзеці яго лепш разумелі. Як бачна, беларуская мова ў казаннях і навучанні ў Друі ўжывалася даволі абмежавана.

## Пад ціскам

Неўзабаве пасля адыходу біскупа Матулевіча Віленская капітула (штат святароў, прызначаных для служэння ў катэдры) на чале з вікарным біскупам (суфраганам) Міхалькевічам зрабіла наступны запіс у кнізе пратаколаў: «Кожны адчуваў у біскупе столькі мудрасці і яснага розуму, столькі спагады і супакою, столькі разумення ўва ўсім і сардэчнасці, што адыходзіў з уражаннем незвычайнага духу вялікага чалавека. Колькі ж біскуп Матулевіч пры такіх выдатных якасцях розуму і сэрца мог бы зрабіць у нашай дыяцэзіі, калі б не той няшчасны летувіскі і беларускі шавінізм»*. Сябры Віленскай капітулы былі, зразумела, вольныя ад якога-колечы шавінізму. Доказам можа служыць факт, пра які піша «Беларуская крыніца»: «Нядаўна біскуп суфраган К. Міхалькевіч у супалцы з рэктарам Семінарыі кс. Я. Ушылай выкінуў кс. др. Я. Рэшаця з пасады прафесара Дух. Семінарыі і выслаў у Беласток толькі за тое, што ён беларус»**.

У жніўні 1926 г. прыйшоў у Друю і распачаў навіцыят а. Фабіян Абрантовіч. Доктар філасофіі Лювенскага (Лёвенскага) універсітэта, колішні прафесар Магілёўскай духоўнай семінарыі ў Пецярбургу (1915–1918), пасля аднаўлення Мінскай дыяцэзіі ён атрымаў прызначэнне на пасаду рэктара Мінскай духоўнай семінарыі (1918–1920). Між іншым, там выкладаў а. Андрэй Цікота. У выніку падпісання Рыскай дамовы 1921 г. Абрантовічу давялося пакінуць Мінск — сталіцу Беларускай Савецкай Рэспублікі. Ён затрымаўся ў Наваградку, які застаўся ў межах Польскай Рэспублікі. У той час там жыў вызвалены з савецкай вязніцы Мінскі біскуп Зыгмунт Лазінскі. Відаць, ужо тады ў Абрантовіча ўзнікла думка ўступіць у марыянскі закон, але Лазінскі

---

* W. Mysłek. Kapituła contra Biskup // Argumenty. Warszawa, 1969. № 14.

** U spravie ks. dr. J. Rešecia // Biełaruskaja krynica. 04.10.1925. № 2. S. 3.

яго не адпускаў. Вось што піша біскуп Матулевіч друйскаму пробашчу Антону Зянкевічу 7 чэрвеня 1923 г.: «Айцец Абрантовіч не можа вырвацца, зрабілі яго прэлатам, каб толькі ўтрымаць. Спадзяюся, што ён не паквапіцца на бліскоткі»*. Крыху пазней, 12 кастрычніка, ён піша польскаму марыяніну А. Болтуцю: «Айцец Абрантовіч хоча прыехаць у Скужац (у навіцыят. — *А. Н.*), але Я. Э. біскуп (Лазінскі. — *А. Н.*) робіць цяжкасці з выездам і затрымлівае яго ўсялякімі спосабамі»**. У тым часе Лазінскі ўжо ведаў, што мае стаць біскупам Пінскай дыяцэзіі, стварэнне якой прадугледжвалася канкардатам. Айцец Абрантовіч адказваў за пабудову Пінскай духоўнай семінарыі. Магчыма, ён спадзяваўся стаць яе рэктарам, хоць біскуп Матулевіч, добра ведаючы польскія парадкі, перасцерагаў яго. У лісце ад 18 студзеня 1924 г. ён пісаў: «На маю думку, дарагі Айцец не шмат там зробіць: намучыцца толькі, сапсуе нервы, страціць шмат часу, а скончыцца напэўна гэта тым, што павінен будзе нарэшце пакінуць гэтае становішча»***. Так яно і выйшла. У новаадчыненай семінарыі ў 1925 г. рэктарам стаў паляк Вітаўт Івіцкі, а Абрантовіча прызначылі духаўнікам. У лісце ад 22 лютага 1926 г. да а. Цікоты ён піша: «Хацеў бы я надта з табою пабачыцца. Маю нават аб чым пагаварыць і парадзіцца. Ці не мог бы ты прыехаць да Пінска на дзён 3? А дзеля таго, што ты надта заняты і часу не маеш, ці не мог бы гэта так зрабіць, каб прыехаць да нас у суботу перад Вербнай <…>? Трэба табе ведаць, што я *pater spiritualis* (г. зн. духоўны айцец. — *А. Н.*) у семінарыі, а рэктарам кс. Івіцкі». Мусіць, на гэтай сустрэчы канчаткова вырашылася справа ўступлення Абрантовіча да марыянаў. У жніўні 1926 г. ён быў ужо ў Друі. Гэтым разам біскуп Лазінскі не чыніў перашкодаў.

У канцы 1926 г. у Друйскім кляштары жылі ўжо шэсць нацыянальна свядомых беларускіх святароў. Усе прызнавалі іхнюю ахвярнасць у святарскім служэнні, як і тое, што ў духоўных паслугах яны ставіліся аднолькава да ўсіх людзей, незалежна ад нацыянальнасці і палітычных перакананняў. Адначасова яны адстойвалі правы беларусаў на сваю мову, якою карысталіся ў зносінах між сабой і з беларускімі вернікамі Друйскай парафіі.

Такі стан рэчаў выклікаў занепакоенасць сярод польскіх уладаў і грамадства: яны бачылі ў працы друйскіх марыянаў

---

* Matulewicz Jerzy. Listy polskie. Warszawa, 1987. T. III: Księża Marianie. S. 160.

** Op. cit. T. I. S. 26.

*** Op. cit. T. I. S. 13.

небяспеку для польскага *stanu posiadania* (выключнага права ўласнасці), якім іхняму ўяўленню бачылася Каталіцкая царква. Спачатку на гэта можна было не звяртаць увагі, пакуль 8 верасня 1926 г. Віленскі пасад, які пуставаў больш як год, не заняў новы біскуп (або, хутчэй, першы архібіскуп) Рамуальд Ялбжыкоўскі.

Адной з першых значных спраў Ялбжыкоўскага сталася скліканне ў Вільні 8–10 лістапада 1926 г. Унійнага з'езду біскупаў з памежных дыяцэзіяў. Апрача самога Ялбжыкоўскага і ягонага вікарнага біскупа Казімера Міхалькевіча, прысутнічалі біскупы Пінскі — Зыгмунт Лазінскі, Люблінскі — Марыян Фульман, Падляскі — Гэнрык Пшаздзецкі і Луцкі — Адольф Шалёнжак. Друйскія марыяне падрыхтавалі на польскай мове мемарыял у справе ўнійнай працы*. 9 лістапада Цікота прачытаў яго перад сабранымі біскупамі. Вось найважнейшыя ўрыўкі з мемарыяла:

*«Ідзеце і навучайце ўсе народы.* Гэтыя словы — не толькі ўмова, але і галоўная мэта існаваньня Царквы. Сёньня асабліва думка пра місіянерскую дзейнасьць ахапіла ўсю Каталіцкую царкву, у тым ліку Польшчу <…>. Як дзе, але ў памежных (*kresowych*) дыяцэзіях вельмі наспела патрэба шырокай місіянерскай дзейнасці для святой справы аб'яднання цэркваў <…>. Місіі неабходныя сярод каталікоў для паглыблення веры, але гэта ў ніякім выпадку не вычэрпвае задачаў Царквы ў памежных дыяцэзіях. Адначасова трэба распачаць шырокую місіянерскую дзейнасць сярод праваслаўных <…>. Посьпех місіянерскай працы сярод праваслаўных вельмі ўскладняюць палітычныя перашкоды, якія трэба як найхутчэй прыбраць з дарогі.

Айцы марыяне з Друі, як сыны памежнага (*kresowego*) люду, уважаюць за свой абавязак звярнуць увагу З'езду на страшэнную рэлігійную цемнату нашага народа, які не разумее казанняў і навукаў <…>, як гэта бачна пры слуханні споведзяў, у часе перадшлюбных апытанняў, пры калядаванні і г. д. У гэтых умовах казанні становяцца для людзей нейкім не зусім зразумелым літургічным дзеяннем святара, якое трэба пасіўна "выстаяць". Калі пасля некалькіх стагоддзяў такога душпастырства нечуваная цемната пануе ў нашых вёсках і яе не даецца выкараніць спосабамі, якія да гэтага часу ўжываліся, дык што тут дзіўнага, што для праваслаўных, якія стаяць ад нас далей, Царква (Каталіцкая) са сваім незразумелым навучаннем не можа быць прыцягальнай сілаю. Праваслаўныя ў лацінскай царкве з польскімі казаннямі

* Petycja oo. Marjanów z Druji na Zjazd Unjonistyczny Ich Ekscelencyj Księży Arcybiskupów i Biskupów w Wilnie d. 8–10 listopada 1926 r.

нічога для сябе не знойдуць. Тут трэба праца спецыяльная, дамэтная, прадуманая і прыстасаваная да мясцовых абставінаў і людзей <…>.

Дык вось мы, марыяне з Друі, як выхадцы з мясцовага народу, добра абазнаныя ў ягонай псіхіцы, мове і патрэбах, калі нам можна сказаць сваё слова, хочам падаць да развагі з’езду наступныя самыя пільныя прапановы:

1. Катэхізацыя беларускага народу ў царкве, побач з польскімі казаннямі, павінна адбывацца на беларускай мове;

2. Як найхутчэй трэба запачаткаваць народныя місіі на беларускай мове;

3. Каб супрацьдзейнічаць прапагандзе метадыстаў і камуністаў, трэба як найхутчэй распачаць каталіцкую выдавецкую дзейнасць на беларускай мове;

4. Нязмерна пільнай патрэбаю ёсьць стварэнне місіянерскіх асяродкаў усходняга абраду сярод праваслаўных у Віленскай архідыяцэзіі ў такіх мясцовасцях, як Лявонпаль, Перадброддзе, Ёды, Шкунцікі і інш. <…>

Марыяне ў Друі гатовыя ўзяцца за вышэйпаймянёную місіянерскую працу і аддаць ёй усе свае высілкі. Дзеля гэтага вельмі прашу прыхільна разгледзець гэтыя прапановы».

Рэакцыю прысутных біскупаў на свой даклад апісвае Цікота ў лісце за 15 студзеня 1927 г. да летувіскага марыяніна Казіміра Рэклайціса: «Паколькі справа Уніі нам ляжыць моцна на сэрцы і недалёка маем вельмі добрыя пункты (для ўнійнай працы. — *А. Н.*), як Лявонпаль у Ідолцкай парафіі, Перадброддзе ў парафіі Іказненскай і шмат іншых, я напісаў кароткі даклад, які мне дазволілі прачытаць у прысутнасці аа. біскупаў <…>. Атрымаў некалькі пытаньняў: «Ці казанні даюць добрыя вынікі ў справе навяртаньня?», адказ: «Так»; «Ці праваслаўныя прысутнічаюць?» — «Так». Тады а. архібіскуп Віленскі (Ялбжыкоўскі. — *А. Н.*): «Ці б айцы не паехалі працаваць у Бальшэвію? (г. зн. у Савецкі Саюз. — *А. Н.*). Адк(азаў): З вялікай ахвотай, калі б гэта было магчыма. А. Архб. Віл.: Ну дык з воляй Божай. А. Б(іску) п. Лазінскі: Але ж, Эксцэленцыя, гэта немагчыма. У маёй дыяцэзіі а. Вяжбіцкага, які перайшоў мяжу да Бальшэвіі, бальшавікі адразу выкінулі назад. Кс. Арх. Віл.: А так у імя Божае… Пасля гэтага адказу я зразумеў, што ўжо больш пытанняў не атрымаю, развітаўся з іх Эксц. і выйшаў, чуючы ў душы, што я ім быў непатрэбны і што мае словы прагучалі як рэха, хоць мне і сказалі даць мой даклад на пісьме, што я і зрабіў».

Цікота распавёў пра размову з біскупамі знаёмым летувіскім святарам, бо не ўважаў яе за сакрэт. Нейкім чынам уся гісторыя з

некаторымі недакладнасцямі праз два месяцы (8.1.1927) трапіла ў летувіскі часопіс «Vilniaus Aidas». Ялбжыкоўскі, абурыўшыся, выклікаў да сябе Цікоту на размову. Вось як Цікота апісвае Рэклайцісу, што здарылася далей: «Я ставіўся 12.1. Я. Эксц. Арх. паказаў мне артыкул “Аідаса” і спытаў, што я магу на гэта сказаць. Я сьцьвердзіў, што “Аідас” перакруціў (факты), не ведаю, адкуль ён узяў, і што я расказаў калегам зьмест размовы пра “працу ў Бальшэвіі”, бо не лічыў яе сакрэтам. Кс. Арх(ібіскуп) не мог сабе прыгадаць гэтай размовы<…>. Абвінаваціў мяне ў выразным паклёпе, загразіў, што будзе скардзіцца на мяне ў Рыме і забараніў праводзіць місіі, загадаўшы абмежавацца працаю толькі ў межах нашай парафіі…». Цікота пайшоў да вікарнага біскупа Міхалькевіча, але і таго напаткала страта памяці. Прыйшлося ехаць у Пінск да біскупа Лазінскага, які, на дзіва, усё памятаў і напісаў адпаведны ліст Ялбжыкоўскаму. 14 студзеня Цікота зноў быў у Вільні. У згаданым лісце да Рэклайціса ён пісаў: «(Ялбжыкоўскі) прыняў мяне спакойна і цвердзіў, што ён не пярэчыць, што была размова аб працы ў Бальшэвіі<…>, а калі я прасіў яго, каб даў на пісьме забарону праводзіць місіі, ён яе (г. зн. забарону) зусім адклікаў і дазволіў далей праводзіць місіі, раючы быць асцярожным». Пры гэтым у размове Ялбжыкоўскі «некалькі разоў спакойна зазначыў, што мог бы адабраць ад нас (г.зн. марыянаў. — А. Н.) парафію, але не робіць гэтага, бо тады нам у Друі не было б чаго рабіць. З іншых крыніцаў ведаю, што найвышэйшаю мараю адной групы віленскіх ксяндзоў, блізкіх дарадчыкаў Я(го) Эксц(эленцыі) Арх(ібіскупа) ёсьць выдаліць нас як найхутчэй з Друі, а калі гэта не ўдасца, то прынамсі ў ёй зачыніць».

Розгалас ад выступу Цікоты на біскупскай канферэнцыі не сціх і праз год. Польскі марыянін Уладзіслаў Левандоўскі пакінуў справаздачу з праведзенай ім 24 снежня 1927 г. у Рыме гутаркі з біскупам Падляскім Генрыкам Пшаздзецкім, які меў славу чалавека шырокіх поглядаў і вялікага прыхільніка Уніі. Вось ягоныя галоўныя думкі: «Да цяжкасьцяў марыянаў у Польшчы належыць перадусім справа беларуская, у якой палякі не змаглі правесці сваёй думкі, а менавіта, што ў сённяшніх палітычных абставінах праца сярод беларусаў нічога добрага не прынясе для нашага (г. зн. марыянскага. — *А. Н.*) закону ў Польшчы*. Беларусы ў Друі — гэта, апроч усяго, работа палі-

* «…dla dzisiejszych warunków politycznych podejmowanie akcji wśród Białorusinów wcale dla nas, dla Zgromadzenia w Polsce, na dobre nie wyjdzie».

тычная (*Białorusini w Drui — to mimo wszystko robota polityczna*): на зборцы пяці біскупаў прадставіў свае вымаганьні а. Цікота, і ніхто з айцоў біскупаў не мог пад імі падпісацца; а мы, закон (марыянаў. — *А. Н.*), падпісаліся, і адтуль непазбежны закід умешвання закону ў беларускую палітычную дзейнасць. Сёньня, трэба сказаць, беларускія марыяне аддзяліліся і складаюць асобную правінцыйную адзінку, незалежную ад палякаў. Спрытна гэта зроблена, — сказаў а. Біскуп, — але гэта не мяняе факту, што мы (г. зн. марыяне. — А. Н.) увялі ў працу закону фактар палітычны, які павінен адмоўна адбіцца на нашым уплыве ў Польшчы і выклікаць непрыхільнае стаўленьне да закону».

Рэакцыя біскупаў паказала, што дзверы да шырэйшай працы для друйскіх марыянаў зачыненыя. Дый наогул з прыйсцем Ялбжыкоўскага для кляштара пачаўся цяжкі перыяд. Генеральны вікарый (наместнік генерала) марыянскага закону Францішак Бучыс пісаў 6 красавіка 1927 г. ва Усходнюю Кангрэгацыю ў Рыме: «Беларускія казанні друйскіх сьвятароў абмяжоўваюцца, нават робіцца ціск на наш закон, каб прызначыць польскага святара кіраўніком Друйскага кляштара»*.

Цвёрдую руку Ялбжыкоўскага хутка адчулі ўсе беларускія святары. Ва ўжо згаданым вышэй лісце да Рэклайціса Цікота пісаў: «Я(го) Эксц(эленцыя) Арх(ібіскуп) распачаў ліхаманкавы наступ (*gorączkową nagonkę*) на ксяндзоў беларусаў і летувісаў. 2 беларусаў: Глякоўскага выслаў на вікарыят у польскую парафію; кс. Шутовіча пазбавіў парафіі і паслаў на вікарыят — кара, якая станоўча перавышае віну, што заключаецца ў некалькіх дробных нетактоўнасцях, якія чэзнуць у параўнанні з працавітасцю і сумленнасцю гэтага ксяндза, — але тут ішло, каб пазбавіць і пакараць яго за тое, што ўвёў беларускія казанні і дадатковыя набажэнствы ў чыста беларускай парафіі <…>; кс. Рэшаця заклікаў да сябе і дакараў яго за “бальшавізм”».

Айцец Язэп Дашута пісаў з Друі 1 снежня 1927 г. айцу Рэклайцісу: «У суседніх ксяндзоў не маем міру… Праўда, мелі мы аднаго парадачнага суседа, кс. Борыка з Ідолты, але што ж, калі яго апанаваў страх, ён зрабіў маленькае свінства і цяпер з сораму перабраўся на іншую, хоць і горшую парафію. Дык вось ён, калі — згодна з доўгаўстаноўленым звычаем і з ягонай

---

* «Praedicatio alborussica sacerdotum Drujensium restringitur, imo Congregatio nostra inducitur, ut in Druja superiorem Domus sacerdotem polonum designet».

згодай — кс. Смулька сказаў беларускае казанне на фэсце, а правакатары ўзнялі шум, спалохаўшыся, заявіў перад Архібіскупам, што кс. Смулька без ягонай згоды самавольна выйшаў з беларускім казаннем. Адтуль пасыпалася суспэнса (забарона выконваць святарскія абавязкі. — *А. Н.*) аж пакуль уся справа не выяснілася»*.

Было відавочна, што архібіскуп Ялбжыкоўскі меў алергію на ўсё беларускае. Ён, бадай, не заўважаў розніцы між словамі «беларус» і «бальшавік», мусіць таму, што абодва пачыналіся літараю «б». Дайшло да таго, што 10 снежня 1928 г. архібіскуп адмысловым лістом забараніў каталікам у сваёй дыяцэзіі належаць да Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, якая «паддалася памылкам рэлігійнай абыякавасці і бальшавізму, што закранаюць асновы нашай святой каталіцкай веры»**. Забарона распаўсюджвалася таксама і на газету «Беларуская крыніца», якую вернікі не мелі права выпісваць, чытаць ці якім-кольвек чынам падтрымліваць.

Не менш шкодным для здароўя архібіскупа выявілася слова «Унія». Польскі святар Валерыян Мэйштовіч, сакратар Ялбжыкоўскага ў 1926–1928 гг., пісаў: «З вялікай масы праваслаўных шмат хто вяртаўся да Каталіцкага касьцёла, пераважна на лацінскі абрад <…> Архібіскуп быў перакананы, што было б іх значна больш, калі б не навяртаньне праваслаўных, пад кіраўніцтвам камісіі “Pro Russia” на г. зв. усходнеславянскі абрад, у якім новыя каталікі захоўвалі літургію, толькі не “грэцка-рускую”, “берасцейскую”, а “маскоўскую”, або “чин царей российских”. Гэта яшчэ не было б перашкодаю — перашкодаю было тое, што ў гэтым абрадзе пераходзілі да Каталіцкага касцёла многія праваслаўныя сьвятары — найчасьцей найменш вартасныя сярод гэтага духавенства, якое стаяла не вельмі высока»***.

---

* Мясцовыя людзі доўга памяталі гэтае здарэнне. Праз 8 гадоў, у 1935 г., карэспандэнт з Ідолты, нейкі Мал-кі (Малецкі?) пісаў у «Беларускую крыніцу»: «Апошнюю беларускую навуку ў нашым касьцеле сказаў кс. К. Смулька, за што арцыбіскупам Ялбжыкоўскім быў моцна пакараны. Традыцыя беларуская ў нас, аднак, моцная» (Biełaruskaja krynica. Vilnia, 10.08.1935. № 30. S. 4).

** «uległa błędom indyferentyzmu religijnego i bolszewizmu, które godzą w podstawy naszej świętej wiary katolickiej» (Гл.: Stankievič Adam. Biełaruski Chryścijanski Ruch. Vilnia, 1939. S. 202).

*** Meysztowicz Walerian. Poszio z dymem. Londyn, 1973. S. 267.

Сярод «новых уніятаў» сапраўды адчуваўся моцны ўплыў расейшчыны. Але паглядзім, што кажа пра гэта беларускі каталіцкі святар Казімір Кулак, які скончыў Усходні інстытут у Рыме. У лісце да біскупа Бучыса ад 17 лістапада 1930 г. ён піша: «Сапраўды нова-ўнійнай акцыі ў нас можна закінуць русіфікацыю: паслугоўванне расейскай моваю, карыстанне з паслугаў расейскіх папоў, часам сляпое пераймане маскоўскіх формаў у літургіі і г. д. Такі тон унійнай акцыі вельмі шкодны, бо тады не мае натуральнай моцнай апоры, якой ёсьць "беларуская тутэйшасць". Але пытаньне — хто вінаваты ў гэтым? Езуіты?.. Ніколі: віна тут поўнасьцю польскіх біскупаў. Мне самому Я. Эксц. Мітр. Віленскі (Ялбжыкоўскі. — *А. Н.*), калі нагаворваў перайсці на ўсходні абрад, ставіў умову, што буду карыстацца моваю расейскаю, а не беларускаю і т. д.». Такім чынам, Ялбжыкоўскі, хоць і не мог афіцыйна забараніць унійную акцыю (гэта супярэчыла б палітыцы Апостальскага Пасаду), імкнуўся надаць ёй непрымальную для нацыянальна свядомых беларусаў расейскую форму, якая адначасова давала нагоду палякам пратэставаць супраць русіфікацыі Рымам польскіх грамадзянаў.

Глыбоцкі дэкан і былы друйскі пробашч Антон Зянкевіч пісаў 28 красавіка 1928 г. айцу Уладзіславу Талочку пасля дэканальнай канферэнцыі: «У пытаньні ўнійным умелі толькі сказаць, каб абсалютна адсэпараваць лацінікаў ад праваслаўных, выкараніць мяшаныя сужэнствы, словам — культываваць "чыстае каталіцтва", ад праваслаўных трымацца далёка, пакінуўшы працу сярод іх законам. Ці не адчуваецца тут думка А(рхібіскупа) і ка(мпаніі)? Ад пачатку няцяжка было здагадацца, куды скіроўваецца місійная акцыя: або праваслаўныя стануць чыстымі лацінікамі, або — прэч з імі»*. У лісце за 23 ліпеня ён піша пра стаўленне «сфераў» (г. зн. блізкіх да архібіскупа колаў) да Уніі: «З адносінаў нашых сфераў да ўніяцкага абраду вось такая кветка: "Рым нічога не ведае пра нашыя абставіны, таму рэкамендуе ўсх(одні) абр(ад). Калі б ведаў, распарадзіўся б інакш. Сумленны святар ніколі не будзе падтрымліваць уніяцкі абрад — гэта было б раўназначна здрадзе інтарэсам Касцёла"»**.

Крыху раней, 21 чэрвеня 1928 г., Зянкевіч закранае справу беларускай мовы: «Пра Друю памятаю, але бясплодная памяць няшмат вартая, а дзейна дапамагчы нельга. Хто не ведае, пад

* «aut prawosławni staną się czystymi łacińnikami, aut — precz z imi».

** «Prawy kapłan nigdy nie będzie za obrządkiem unickim — byłoby to równoznaczne ze zdradą interesów Kościoła».

якім табу знаходзіцца беларуская мова! Проста гараць нянавісцю да яе!»*

## Барадзіч

І ворагі, і прыхільнікі Ялбжыкоўскага пагаджаліся ў тым, што ён быў моцнай валявой асобай: ведаў, чаго хацеў, свядома і паслядоўна ішоў да вызначанай мэты. А карыкатура на чалавека з моцным характарам — самадур. Так можна назваць ксяндза Юзафа Барадзіча з Віленскай дыяцэзіі. Жыццё гэтага святара можна пакласці ў сюжэт прыгодніцкага рамана. У 1907 г. пробашчам у Мёрах збудаваў новы касцёл, загадаўшы «стары касцёл, як бязвартасны <…>, разгайдаць пры дапамозе вяровак і паваліць так, каб пасля зробленага факту губернская камісія, прыехаўшы, не магла мне шкодзіць»**. Меў шмат канфліктаў з уладамі — у 1908 г. яго чакала аж дзевяць распачатых судовых спраў. Высланы ўглыб Расеі, Барадзіч урэшце ўцёк з цягніка, у якім яго пад канвоем везлі ў Пецярбург, перабраўся праз расейска-аўстрыйскую мяжу і апынуўся ў Кракаве. Там у 1911 г. выйшла ягоная кніга з адпаведным назовам «Pod wozem i na wozie» («Пад возам і на возе»). У 1912 г. Барадзіч выехаў у Італію, быў прыняты ў дыяцэзію Вентымілья і асеў у горадзе Сан-Рэма, дзе заснаваў польскі касцёл і дом. Калі Польшча атрымала незалежнасць, ён пачаў улетку наведваць Віленшчыну, каб бараніць «польскія крэсы», бо ім, на ягоную думку, пагражала небяспека. Пра свае подзвігі ён, не грэшачы сціпласцю, распавядае ў кнізе «Kresy Polskie w niebezpieczeństwie» («Польскае памежжа ў небяспецы»). На Унію ён меў свой погляд: «Калі Польшча ўваскросла, немцы ламалі сабе галаву, як бы ўбіць у Польшчу такі клін, які б яе расшчапіў. І знайшлі. Яны знайшлі спосаб паўплываць на Рым і асабліва на Летуву, каб на памежжы Польшчы завесці расейскую унію. Прыхільнікам такой уніі быў Я. Эксц. біскуп Матулевіч, які з гэтай мэтай пасяліў над Дзвіною святароў, вядомых з русіфікатарскай агітацыі і шавіністаў, якія імкнуліся вынішчыць польскасць на нашым памежжы. Асабліва на гэтым полі вызначыліся: кс. Ільдэфонс Бобіч, Мёрскі

---

* «Kto nie wie pod jakiem tabu znajduje się język białoruski! Zieją wprost nienawiścią do niego!» Арыгіналы лістоў Кулака і Зянкевіча знаходзяцца ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.

** Borodzicz J. Kresy Polskie w niebezpieczeństwie. Wilno, n.d. (1930). S. 19.

дэкан; Зянкевіч Антон, Глыбоцкі дэкан; Станкевіч Адам, дэпутат сойму; Гадлеўскі Вінцэнт у Жодзішках, Шутовіч Віктар у Барадзенічах і іншыя. Усе яны засяродзілі сваю падрыўную дзейнасць у кляштары аа. марыянаў пад кіраўніцтвам суперыёра Андрэя Цікоты. Гэтыя ксяндзы не ваగаліся супрацоўнічаць з правадырамі грамадоўцаў, дэпутатамі: Мятлой, Тарашкевічам і Рак-Міхайлоўскім. Заснавалі яны рэдакцыю "Беларускай крыніцы" і інш. Пераклалі і выдалі шмат кніжак для народу, асабліва Бобіч, Зянкевіч і Станкевіч; заснавалі пры кляштары марыянаў у Друі польскую гімназію імя "караля Сцяпана Батуры", і ўся гэтая "суполка" пачала навяртаць польскае насельніцтва (*lud polski*) на "беларусаў" і ўніяцкі абрад»*.

Улетку 1927 г. Бародзіч адведаў сваю старую Віленскую дыяцэзію, у прыватнасці Мёрскі дэканат, да якога належала і Друя. Мясцовыя людзі памяталі Бародзіча з таго часу, калі 20 гадоў таму ён быў пробашчам у Мёрах.

Бародзічу ўбачанае не спадабалася: «Святары шавіністы вырашылі ў сваіх дэканатах (мёрскім і глыбоцкім) вынішчыць усё польскае і нават завесці Унію для белапалянаў (так Бародзіч называў беларусаў! — *А. Н.*). У Друйскім касцёле аа. марыяне пачалі спяваць нават па-расейску "Святый Боже" і іншыя песні, выдзіраць у тых, хто маліўся, кніжкі польскія і навязваць ім іншыя, нават расейскія»**.

Цікава: польскія духоўныя і свецкія ўлады ўжо нашто не любілі друйскіх марыянаў, але ніводнага разу не абвінавацілі іх у русіфікацыі, як гэта рабіў Бародзіч.

Бародзіч вырашыў ратаваць «польскія крэсы». Месцам сваёй дзейнасці ён выбраў Лявонпаль, маленькае мястэчка (ці вялікую вёску) за 25 кіламетраў ад Друі. У сярэдзіне 1920-х гадоў там было блізу 400 жыхароў, у большасці праваслаўных сялянаў, колішніх уніятаў. У XIX ст. Лявонпаль належаў панам Лапацінскім, якія мелі там сваю сядзібу. У часе ліквідацыі Уніі ў 1839 г. лявонпальскія сяляне адмовіліся пераходзіць у праваслаўе. Шмат хто з іх, каб захаваць веру, яшчэ раней прыняў лацінскі абрад, але Сямашка і расейскія ўлады ўважалі іх за «зведзеных (*совращенных*) у лацінства» ўніятаў, якім належала «вярнуцца ў праваслаўе». Ва ўспамінах Сямашкі ёсць ліст-справаздача да віленскага губернатара Сямёнава за 22 жніўня 1843 г., у якім ён апісвае стараннi расейскіх духоўных і свецкіх уладаў у лявон-

* Borodzicz J. Kresy Polskie w niebezpieczeństwie. S. 28.

** Op. cit. S. 33.

пальскай справе*. Калі два гады намоваў праваслаўных святароў не далі чаканых вынікаў, у 1841 г. за справу ўзяліся калежскі дарадчык (пасля Ковенскі віцэ-губернатар) Мельнікаў, павятовы суддзя Ісаевіч і «станавы прыстаў» штабс-капітан Янкоўскі. Вынік атрымаўся імгненны: «Дзякуючы высілкам гэтых урадоўцаў сяляне Лявонпальскага маёнтка <…> добраахвотна вярнуліся ў лона Праваслаўнай царквы лікам 2096, выспавядаліся і прынялі св. тайны ў мясцовых праваслаўных святароў». Далей Сямашка піша: «Пра такі шчаслівы канец лявонпальскай справы данеслі Гасудару Імператару, і Яго Вялікасць на ўсепакорным дакладзе сп. сінадальнага обэр-пракурора ласкава захацеў напісаць уласнаручна “Слава Богу!”». Як выявілася, радасць цара была перадчасная. У наступным, 1842 г. праваслаўныя святары даносілі свайму начальству, што «амаль усе менаваныя лявонпальскія сяляне адмовіліся зноў выконваць абрады Праваслаўнай царквы». Тады ў Лявонпаль даслалі камісію пад кіраўніцтвам штабс-афіцэра корпуса жандараў Ламачэўскага, які паведамляў біскупу Мінскаму ў чэрвені 1842 г., што навёў парадак. Аднак, як піша Сямашка, «дзеянні ягоныя былі павярхоўныя, і справаздача беспадстаўная (*донесение безосновательно*), бо лявонпальскія сяляне і надалей адмаўляліся ад выкананьня хрысьціянскіх трэбаў паводле статута Праваслаўнае царквы». Наапошку ў жніўні 1842 г. у Лявонпаль прыехаў паплечнік Сямашкі па ліквідацыі Уніі Мінскі біскуп Антон (Зубко). На скліканы ім сход сяляне прыйшлі… п’яныя, а землеўласнік Лапацінскі зусім не з’явіўся. Біскуп Антон нічога не дасягнуў і толькі загадаў лявонпальскім сялянам выканаць свой «абавязак», г. зн. выспавядацца і прычасціцца ў праваслаўнага святара, да Калядаў 1842 г. Прыйшлі Каляды, а за імі Вялікдзень 1843 г., і нічога не адбылося. Тут ужо страцілі цярплівасць дзяржаўныя ўлады. Мінскі губернатар вырашыў націснуць на землеўласніка Лапацінскага і загадаў «узяць пад апеку» Лявонпаль, калі сяляне не выканаюць свайго «абавязку» да 1 ліпеня 1843 г. Але і гэта не дапамагло. Праз год, 28 красавіка 1844 г., Сямашка пісаў свайму вікарнаму біскупу Платону, што 10 лявонпальскіх сялянаў, якія найбольш упарта супраціўляліся «вяртанню з лацінства ў праваслаўе», высланыя ў Беразвеч у манастыр «для пераконвання» (*для увещевания*)**. 28 ліпеня ён паведамляў выканаўцу абавязкаў обер-пракурора

---

* Записки Иосифа Митрополита Литовскаго. СПб., 1883. Т. III. Калонкі 747–750.

** Op. cit. К. 791.

Свяшчэннага Сіноду, што «ўзяцце ў казённае кіраванне маёмасці Лявонпаль мела дагэтуль мала ўплыву на становішча парафіянаў, зведзеных (*совратившихся*) у лацінства»*.

У гісторыі хрысціянства ёсць, на жаль, шмат выпадкаў, калі, словамі Якуба Коласа, «з двух бакоў айцы дубінай заганялі нас у рай». У лявонпальскай справе ўражвае тое, што «дубінай» былі святыя тайны, устаноўленыя Хрыстом для прымірэння і з'яднання з Богам, для якіх усякі прымус недапушчальны. Ад такіх метадаў нельга чакаць нічога, апрача шкоды душам ахвяраў прымусу. Варта прыгадаць словы Збаўцы: «Не бойцеся тых, што забіваюць цела, а душы забіць не могуць; а бойцеся болей таго, хто можа і душу, і цела загубіць у геенне» (Мц 10, 28).

Мінула 80 гадоў пасля апісаных вышэй падзеяў, і Лявонпаль зноў апынуўся ў цэнтры ўвагі. Вось што піша ў «Беларускай крыніцы» мясцовы карэспандэнт С. Мальчэўскі: «Ад нядаўнага часу задумалі ў Леанполі пабудаваць касьцёл і з суседніх вёсак зрабіць парахвію. Місія была найперш паручана Ідоўскаму пробашчу, а пасьля кляштару айцоў марыянаў у Друі. Праваслаўныя адносіліся да гэтай справы досыць прыхільна, асабліва ад таго часу, калі кс. Цікота зачаў падкрапляць іх родным словам. Усе яны чулі, што гэты пастыр, як братоў, шкадуе іх і з пашанай адносіцца да праваслаўных абрадаў і праваслаўных духоўных»**. Варта прыгадаць, што Цікота ў сваім выступленьні на біскупскай канферэнцыі ў лістападзе 1926 г. згадаў пра Лявонпаль як пра адзін з магчымых асяродкаў для ўнійнай дзейнасці. Праз чатыры месяцы пасля канферэнцыі ён атрымаў ліст з Віленскай архібіскупскай курыі за 13 красавіка 1927 г., у якім канцлер курыі кс. А. Савіцкі пісаў: «Гэтым Курыя паведамляе, што Я. Э. Архібіскуп мітрапаліт (г. зн. Ялбжыкоўскі. — *А. Н.*) дазволіў У(се) П(ачэснаму) Кс. Супэрыёру (г. зн. Цікоту), або іншаму ўпаўнаважанаму ім аднаму з ксяндзоў з Закону, адпраўляць св. імшу ў Лявонпальшчыне, у капліцах, нават і ў прыватных дамах, захоўваючы тое, што вымагаецца правам, з мэтаю навяртання праваслаўных»***. Ялбжыкоўскі, відаць, хутка пашкадаваў, што даў дазвол, але адклікаць яго без прычыны не мог. Прыезд Ба-

---

* Записки Иосифа Митрополита Литовскаго. К. 794.

** Malčeŭski S. Misijna-palanizatarskija avantury ks. Barodziča // Biełaruskaja krynica. № 35. Vilnia, 26.08.1927. S. 4.

*** «Niniejszym Kurja komunikuje, że J. E. Arcybiskup Metropolita pozwolii PWKS Superjorowi, lub upoważnionemu przez Niego jednemu z XX ze Zgromadzenia, na odprawianie Mszy św. w Leonpolszczyźnie, w

родзіча даў яму магчымасць паправіць сваю памылку. У сваім артыкуле Мальчэўскі працягвае: «Ксяндза гэтага (г. зн. Барodзіча. — *А. Н.*) як вядомага барацьбіта з царызмам, вельмі чакалі. Прыбыў. Сабіраюцца людзі на набажэнства, горнуцца да яго ўсе, хочуць пачуць з яго вуснаў слаўцо. Адвярнуўшыся да народу, прамовіў ён да нас беларусаў па-польску: “Пакідайце вы гэтую царскую веру, цара чорт узяў і яе скора забярэ. Пакідайце вы гэтую праклятую гарэзію ды не хадзіце да гэтых кудлатых папоў”. А калі яшчэ ў насьмешлівым тоне пачаў даводзіць няважнасьць Найсьвяцейшага Сакраманту пад двума відамі і пачаў яшчэ мацней заклікаць у “польскую” рэлігію, дык можаце зразумець, якое прыкрае ўражаньне вынес з гэтых навук кажды, каму дорага сьв. тайны рэлігіі і сьв. абрады яго прадзедаў»*.

На тыдзень раней «Беларуская крыніца» пісала: «Клясычным прыкладам польскай Уніі і бадай цалкам верным “ідэолягам” гэтай Уніі зьяўляецца кс. Бародзіч, які нядаўна назначаны Я. Э. Віленскім Архібіскупам у Леонпаль, Браслаўскага павету, дзеля “наварочваньня” праваслаўных. А вось ужо маем і плады ягонай “місіі” і “ўнійнай” працы:

1. Кс. Бародзіч публічна высьмейвае праваслаўныя рэлігійныя абрады, сьвятыя Дары, праваслаўнае духавенства.

2. Кс. Бародзіч страша, што выкіне з граніц Польшчы многіх “бальшавікоў”, піша да ўладаў жалабы на мясцовага старца сьвяшчэньніка, які падчас побыту ў Леонпалі ваяводы Рачкевіча плакаў прад ім і скаржыўся, што кс. Б. не дае яму жыць.

3. Кс. Б. у сяле Чарэса паставіў крыж каталіцкі на пляцы праваслаўным, нягледзячы на пратэсты праваслаўнага духавенства і людзей.

4. Кс. Бародзіч арганізуе правакацыйныя набажэнствы прад самой царквой у Леонпалі, у Чарэсе.

5. Кс. Бародзіч з групай сфанатызаваных, цёмных каталікоў на праваслаўных могілках у Леонпалі высек 200 соснаў і праз гэта разьбіў у кавалкі тры надгробныя памятнікі**.

---

kaplicach, a nawet w domach prywatnych, servatis de iure servandis, w celu nawracania prawosławnych».

* Malčeŭski S. Misijna-palanizatarskija avantury ks. Barodziča.

** Каталікі і праваслаўныя ў Лявонпалі мелі супольныя могілкі. Бародзіч выразаў сосны з праваслаўнай часткі. Вядомы аўтарытэт у канфесійных справах Віктар Пятроўскі (паляк) пісаў у віленскай газеце «Słowo» 24 ліпеня 1927 г.: «У мінулым месяцы раз за разам добра наладжанае згоднае сужыццё канфесіяў без патрэбы парушыў

І ўсё гэта робіцца пад вокам улады духоўнай і сьвецкай і праходзіць бяскарна. А беларусаў ксяндзоў, што асьмеліліся загаварыць на мове народнай, адважыліся заступіцца за скрыўджаных братоў сваіх, што павялі працу ў духу брацкага сужыцьця беларусаў каталікоў і праваслаўных — выганяюць з родных у чужыя парахвіі, караюць і садзяць у турму. Як жа доўга Рым будзе цярпець гэта страшэннае спусташэньне, сеянае палякамі ў душах беларускага народу пад нявінным беласьнежным плашчам Хрыстуса і Яго сьв. Касьцёла?»*

На пачатку верасня Ялбжыкоўскі сам прыехаў у Лявонпаль пасвяціць новы касцёл, збудаваны ў рэкордным тэмпе за менш як тры месяцы. Разагнаўшыся, Бародзіч у тым самым часе паставіў у навакольных вёсках яшчэ пяць ці шэсць іншых касцёлаў, «крыху меншых за звычайную вясковую аднасямейную лазьню», як сказаў а. Тамашу Падзяву адзін гаспадар, які браў удзел у гэтай «будаўнічай акцыі»**. Зразумела, такія «будынкі»

---

прыкрымі, незвычайна шкоднымі для Касцёла і дзяржавы ўчынкамі гвалту і брутальнай сілы кс. канонік Бародзіч, які прыехаў да нас з місіяй з Сан-Рэма, быў прызначаны ўладай духоўнай у Дзісенскі павет над самай польска-савецкай мяжою <…>. Не будзем паўтараць тут дэталяў вырубкі кс. Бародзічам дрэваў на супольным каталіцка-праваслаўным могільніку ў Лявонпалі на патрэбы пабудовы каталіцкага касцёла, бо ўважаем, што парубка стагадовых дрэваў была аднолькава прафанацыяй могільніка як каталіцкага, так і праваслаўнага, (гэта) было недапушчальнае парушэньне супакою, які павінен панаваць на месцы вечнага супачынку… Не будзем паўтараць акалічнасцяў, што суправаджалі дзеянні кс. Бародзіча, які нядаўна не дазволіў пахаваць памерлага праваслаўнага на супольным праваслаўна-каталіцкім могільніку ў Лявонпалі, бо бачым у гэтым зьяву поўнага парушэння правоў памерлага ў (ягонай) прывязанасці і вернасці хрысціяніна, які хоча быць пахаваны на пасвячанай зямлі, а не ў прыдарожнай канаве, што нікому не належыць» (Piotrowski Wiktor. Misja źle zrozumiana // Słowo. Wilno, 24.07.1927. № 191; перадрукавана ў кніжцы аўтара «Z zagadnień wyznaniowych w Polsce» (Wilno, 1929. S. 40–44)). Дзівіць, што Ялбжыкоўскі не толькі ніяк не адрэагаваў на скандальныя паводзіны Бародзіча, але сам прыехаў высвячаць збудаваны ім касцёл.

* Da spravy Unii // Biełaruskaja krynica. Vilnia, 19.08.1927. № 34. S. 1.

** Podziawo Tomasz. Ojciec Andrzej Cikoto. S. 46. У газеце «Kurier Wileński» была надрукаваная кароткая зацемка пад ініцыяламі Й.М. у адказ на артыкул у газеце «Słowo» нейкага Эск., які, апісваючы дарогу цягнікам з Варапаева ў Друю, пісаў: «На небасхіле тут і там стралялі вежы касцёлаў. Гэтыя касцёлы, падобныя да сябе як блізняты, былі плодам працы і дзейнасці вядомага кс. Бародзіча». На гэта Й.М. адказаў:

не маглі стаяць доўга, а тым больш служыць патрэбам парафіі. Недзе на пачатку 1930-х гг., калі Бародзіча ўжо даўно не было, у Лявонпалі пачалі ўзводзіць мураваны касцёл і не дабудавалі яго яшчэ ў 1938 г.* Відавочна, што Ялбжыкоўскаму была патрэбная «місія» Бародзіча ў Лявонпалі, каб адхіліць адтуль друйскіх марыянаў і не даць развіцца ўнійнай працы ва ўсходнім абрадзе.

Скандалы, якія суправаджалі будову касцёла ў Лявонпалі, змусілі польскія ўлады прасіць Ялбжыкоўскага, каб той забараніў Бародзічу ўсялякую дзейнасць у сваёй дыяцэзіі. Сам Бародзіч піша: «Антыкаталіцкая падрыўная прэса, скаргі папоў і дэлегацыі “меншасцяў” абвінавацілі мяне перад М(іністрам) О. Дабруцкім. Той дамагаўся, каб Я(го) Э(ксцэленцыя) выдаліў мяне з памежжа (*kresów*), каб я не “дражніў меншасцяў”. Архіпастыр абяцаў сам праверыць, ці слушныя гэтыя абвінавачаньні і наколькі. І праверыў»**.

Відаць, архібіскупская праверка выйшла на карысць Бародзічу. У наступным годзе адбыліся выбары ў польскі Сойм і сенат. Бародзіч, дзеля ўмацавання польскасці на «Крэсах», вырашыў змагацца за месца ў Сойме ў выбарчай акрузе № 64, што ахоплівала Свянцянскі, Браслаўскі, Пастаўскі і Дзісенскі паветы. Праўда, тут яму не пашанцавала. Ялбжыкоўскі забараніў святарам у сваёй дыяцэзіі балатавацца ў Сойм пад пагрозаю «суспэнсы», г. зн. забароны выконваць святарскія абавязкі. Бародзіч, відаць, не паставіўся да гэтай забароны сур’ёзна. У выніку «Хрысціянская думка» пісала: «Кс. Бародзіч самавольна выставіў сваю кандыдатуру ў сойм, не зважаючы на забарону Арцыбіскупа. Дзеля гэтага забаронена яму спаўняць усякія капланьскія абавязкі, а так жа забараняецца яму прабываць у межах Віленскай архі-

---

«Дык вось пан Эск. не арыентуецца, што і дзе зрабіў кс. Бародзіч, а гэты ж чалавек столькі людзей пазбавіў гонару, пра што, думаю, кожны мясцовы чалавек чуў, а тым больш людзі, якія супрацоўнічаюць у часопісах. Гэты ксёндз збудаваў у 1907 г. толькі адзін касьцёл у Мёрах, а ўсе іншыя сьвятыні, якія пан Эск. бачыў, будаваў нехта іншы і ў іншым часе. Зноў жа, 7 каплічак, якія кс. Бародзіч збудаваў з досак на працягу 3 месяцаў, аўтар ня мог бачыць з прычыны адлегласьці, зрэшты, калі б убачыў, то зьмяніў бы зусім думку аб іх» (J. M. z pod Mior. O «owocach pracy» ks. Borodzicza // Kurier Wileński. 19.10.1932).

* Catalogus ecclesiarum et cleri Archidiocesis Vilnensis pro anno Domini 1932. Vilnae, 1932. P. 79; Catalogus… pro anno Domini 1938. Vilnae, 1938. P. 78.

** Borodzicz J. Kresy Polskie w niebezpieczeństwie. S. 40.

дыяцэзіі»*. Сам Бародзіч выклаў справу зусім іншым чынам: «На маё няшчасце, я набраўся прастуды ў часе аб’езду чатырох паветаў і быў праз некалькі тыдняў “засуспэндаваны” грыпам. Прыйшоў ліст і ад Я. Э. Мітрапаліта (Ялбжыкоўскага. — *А. Н.*) пад № 747, у якім Архіпастыр загадаў узяць адвод (*wycofać listę*). Я прыняў з пакораю гэты загад, а пан Абрампальскі занёс Архіпастыру акт зрачэння, падпісаны хворым»**.

Вынікі выбараў у акрузе выйшлі нечакана памыснымі для беларускіх кандыдатаў з выбарчага спісу № 18 (нацыянальныя меншасці): з шасці дэпутацкіх месцаў у акрузе тры атрымалі беларусы — Павал Каруза, Канстанцін Юхневіч і Альбін Стаповіч, брат а. Канстанціна Стаповіча (паэта Казіміра Сваяка). Два месцы атрымалі палякі са спісу № 1, за які, паводле «Беларускай крыніцы», галасавалі «ўсе польскія асаднікі, войты, польскія вучыцелі, чыноўнікі, князі і паны»***, і адно месца заняў кандыдат ад Польскай сацыялістычнай партыі (спіс № 2). Затое са спісу № 24, за які галасавалі «частка паноў, розныя эндэкі, шляхта, некаторыя польскія эндэцкія ксяндзы, іхнія кухаркі, тэрцыяркі, дэвоткі і ўсе тыя, што гараць шалёнай нянавісцю да нашага беларускага сярмяжнага народу»****, не прайшоў ніводзін кандыдат. Такім чынам, Бародзіч і ягоныя сябры атрымалі вялікую паразу. Вінаватымі ў гэтым, на іхнюю думку, былі «айцы марыяне і савецкія правакатары»*****. Больш цвярозую ацэнку вынікам выбараў даў карэспандэнт польскай газеты «Kurier

---

* Kara ks. Barodziča // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 06.03.1928. № 5. S. 7.

** Borodzicz J. Kresy polskie w niebezpieczeństwie. S. 54. Абрампальскі (Obrąpalski) — польскі асаднік з Друйскай парафіі, прыяцель Бародзіча.

*** Biełaruskaja krynica. Vilnia, 20.02.1928. № 16. S. 3.

**** Тамсама.

***** Borodzicz J. Kresy Polskie w niebezpieczeństwie. S. 52. Віленскі ваявода У. Рачкевіч у сакрэтным лісце да Міністэрства рэлігійных спраў і адукацыі за 22 чэрвеня 1928 г. пісаў: «Уплыў ксяндзоў (друйскіх. — *А. Н.*) на вучнёўскую моладзь вялікі, не забылі нават скарыстаць вучняў гімназіі для выбарчай акцыі. У часе выбараў у Сойм і Сенат вучні ў гімназійных уніформах, менавіта Малецкі Язэп, браты Вацлаў і Віктар Марозы, Смулька Казімір (брат ксяндза) і Рашкевіч Фелікс, назойліва раздавалі людзям, што ішлі на выбарчы пункт, нумаркі 18-кі. Адзін вучань сарваў выбарчы плакат з партрэтам маршалка Пілсудскага. Пры роспуску мітынгу цяперашняга дэпутата Карузы дня 4.III. г. г. у Друі вучні гімназіі Малецкі і Смулька горача пратэставалі супраць роспуску

Wileński»*:* «Жыхары аколіцы Друі — амаль выключна беларусы. Польскі элемент складаецца з невялікай колькасці землеўласнікаў, настаўнікаў, урадоўцаў і асаднікаў. Дык што ж тут дзіўнага, што кандыдаты беларусы маглі атрымаць столькі галасоў у гэтай выбарчай акрузе! Але ёсць і іншая акалічнасць, якая ў значнай ступені магла мець тут уплыў. Гаспадары тут пераважна малазямельныя, зямля дрэнная. Адтуль сталы недастатак і бяда. Ці гэтага не бачылі, ці не хацелі бачыць, але зямлю, прызначаную для парцэляцыі (падзелу зямлі сярод сялянаў. — *А. Н.*), ужылі не на ўзбуйненне гаспадарак мясцовага насельніцтва, а на асадніцтва. Бяда як была, так і засталася, а селянін прыйшоў да пераканання, што пра яго не вельмі дбаюць. А мы ведаем з досведу, што не будзем галасаваць за тых, да каго не маем даверу. Дык ці ж тут была патрэбная спецыяльная агітацыя айцоў марыянаў?»*

Архібіскупская забарона, відаць, не трывала доўга, а Бародзіч быў не з тых, хто б мог зняверыцца пасля адной няўдачы. Да таго ж ён мог разлічваць на прыхільнасць і падтрымку многіх польскіх ксяндзоў, асаднікаў, урадоўцаў і пэўнай часткі друйскіх мяшчанаў. Хутка надарылася новая нагода пазмагацца за «польскія крэсы». Каб супрацьстаяць уплыву айцоў марыянаў, узнікла думка адбудаваць у Друі касцёл св. Антона Падуанскага, які згарэў у 1909 г., і заснаваць новую парафію, безумоўна, чыста польскую. Цяжка сказаць, хто быў ініцыятарам гэтага праекту. Паводле «Беларускай крыніцы», ён з'явіўся найперш на старонках антыбеларускага «эндэцкага» «Dzieńnika Wileńskiego»**, але, напэўна, за гэтай публікацыяй стаяў нехта з асяродку віленскага ваяводы, калі не ён сам. А выконваць задуму меўся не хто іншы, як Бародзіч. Яго не бянтэжыла, што пляц, дзе некалі стаяў касцёл св. Антона, належаў кляштару. Горш было з атрыманнем дазволу архібіскупа, які хоць і не любіў друйскіх марыянаў, але мусіў трымацца нормаў кананічнага права і таму не мог пайсці на такую непрыхаваную авантуру. Сумневы Бародзіча развеяў ягоны аднадумец, вядомы сваёй варожасцю да ўсяго

---

мітынгу і пасля роспуску разам з дэпутатам Карузам пайшлі ў кляштар да кс. Цікоты». Між іншым, «Казімір» — імя самога айца Смулькі.

* Jotowicz J. Marjanie w Drui // Kurier Wileński. Wilno, 25.03.1930. № 70. S. 2.

** «І так, на бачынах эндэцкага "Dzieńnika Wileńskiego" паўстаў праект будовы новага касьцёла ў Друі, як бы канкурэнцыя айцом марыянам» (Awantura polskich endekaŭ u Drui i ks. Barodzič // Biełaruskaja krynica. Vilnia, 28.06.1929. № 22. S. 1).

беларускага канонік Караль Любянец, які «раіў і настойваў, каб я “супрацьдзейнічаў бальшавіцкай рабоце кляштара”, збудаваў другі касцёл у Друі, дзе каталіцкі святар мог бы абслугоўваць усіх верных без вынятку. Прытым ён патлумачыў, што архіпастыр (г. зн. Ялбжыкоўскі. — *А. Н.*) не можа даць мне пісьмовага ўпаўнаважаньня да гэтай акцыі, бо аа. марыяне, якія непасрэдна залежаць ад Рыма, маглі б там пэцкаць добрае імя архіпастыра»*. Так супакоены, Бародзіч з’явіўся 12 чэрвеня 1929 г. у Друю, дзе пры сведках заявіў Цікоту, што прыехаў, каб на выразнае жаданне (так! — *А. Н.*) архібіскупа Ялбжыкоўскага і ваяводы Рачкевіча адбудаваць на старых падмурках касцёл св. Антона, і просіць супрацоўніцтва марыянаў у гэтай справе**. Цікота сказаў Бародзічу не пачынаць нічога, пакуль не прыйдуць адпаведныя дакументы з біскупскай курыі.

Наступнага дня, 13 чэрвеня, на свята Антона Падуанскага, у Друі была вялікая ўрачыстасць (фэст), на якую з’ехалася шмат народу і духавенства. Вось што піша пра падзеі таго дня «Беларуская крыніца»: «13 чэрвеня сёль. г. кс. Бародзіч, паклікаючыся на прыказ Віл. Арцыбіскупа <…>, распачаў акцыю будовы касьцёла ў Друі. Пасьля набажэнства, калі людзі выйшлі з касьцёла, сярод натоўпу зьявіўся кс. Бародзіч і сеўшы на воз, пад гукі нанятага жыдоўскага аркестру, паехаў на пляц сьв. Антоняга і там сказаў прамову, заклікаючы складаць складкі і ачысьціць пляц для будовы новага касьцёла. Зроблена гэта ў такі спосаб, каб выглядала, што Бародзіч быў быццам сілай людзьмі змушаны да такога выступленьня ў ролі якогась апостала ці місіянэра»***. Цікава чытаць урыўкі з прамовы Бародзіча на пляцы святога Антона: «Сёньня вось вы схапілі мяне з касцёла і прывалаклі

---

* Borodzicz J. Kresy Polskie w niebezpieczeństwie. S. 58. Ялбжыкоўскі, несумненна, чуў пра план адбудовы, хоць бы з публікацыі ў «Dzieńniku Wileńskim». У размове з Бародзічам 12 чэрвеня (гл. ніжэй у тэксце) Цікота заявіў, што некалькі тыдняў таму размаўляў з Ялбжыкоўскім і той сказаў, што не бачыць патрэбы адбудоўваць касцёл св. Антона, бо ўжо існуе парафіяльны касцёл св. Тройцы.

** Пратакол размовы быў зроблены а. Цікотам і падпісаны ім і Бародзічам, а таксама пяццю сведкамі, два з іх — святары суседніх парафіяў, якія прыехалі ў Друю на ўрачыстасць св. Антона.

*** Awantura polskich endekaŭ u Drui i ks. Barodzič // Biełaruskaja krynica. Vilnia, 28.06.1929. № 22. S. 1. Артыкул у «Беларускай крыніцы» даволі дакладна перадае змест артыкула на тую самую тэму ў польскім часопісе «Przegląd Wileński» (Bezstronny. Znów ks. Borodzicz // Przegląd Wileński. Wilno, 20.06.1929. № 11. S. 7–8).

сюды, каб вам я казаў пра св. Антона <…> Схапілі вы мяне з касцёла, як нейкага разбойніка, быццам каб расстраляць, хоць я і супраціўляўся. Дык страляйце ж у мяне, але… малітваю да святога Антона <…> Учора я прыехаў і паведаміў айцу суперыёру, што я тут на загад Я. Эксц. Архібіскупа, каб супрацоўнічаць, бо воля Я. Эксц. ёсць, каб я збудаваў касцёл <…>. Такая ёсць воля Я. Эксцэленцыі і самога пана ваяводы Рачкевіча <…>. Цяпер, дзеткі, вытрываласці, бо чорт уздыме ўсё пекла, каб знішчыць нашую справу. Ніхто з палякаў і каталікоў не будзе рабіць перашкодаў, толькі тыя, што на платнай службе ў бальшавікоў»*.

Загадаўшы ўсім прыйсці заўтра ўраніцы «з лапатамі і кіркамі», Бародзіч распусціў народ і сам пайшоў у кляштар. Там якраз праходзіў святочны абед, на якім прысутнічалі святары з суседніх парафіяў. На наступны дзень ён пакінуў кляштар і перабраўся жыць да аднаго з сваіх прыхільнікаў у мястэчку. Таго ж дня раніцай Цікота паслаў Ялбжыкоўскаму тэлеграму: «Ксёндз Бародзіч, спасылаючыся на вусны загад Архіпастыра, распачаў будову на кляшторнай зямлі. Прашу належнага распараджэння». Увечары ён атрымаў адказ: «Ніякага распараджэньня ксяндзу Бародзічу не даваў; без дазволу пробашча не мае права (выконваць) ніякіх святарскіх абавязкаў. Архібіскуп Ялбжыкоўскі».

Здавалася б, пасля тэлеграмы Ялбжыкоўскага справа мусіла скончыцца. Але Бародзіч думаў інакш. Як толькі ён пакінуў кляштар 14 чэрвеня, па горадзе пачалі разыходзіцца чуткі, быццам марыяне хацелі яго атруціць… Пазней высветлілася, што падчас абеду ў кляштары 13 чэрвеня пілі брусні́чны квас, куплены ў нейкага «маскаля» (старавера). Айцец Цікота наліў з адной бутэлькі сабе, айцом Хамёнку і Бародзічу. На няшчасце, трапілася бутэлька з сапсутым квасам. Усе тры выпілі, але Бародзічу ад паўшклянкі стала дрэнна. Ён з Цікотам выйшаў на кароткі час, але хутка вярнуўся і, як пісаў Цікота Ялбжыкоўскаму 17 чэрвеня, «далей пры абедзе, а пасля пры вячэры і назаўтра пры снеданні быў зусім здаровы і добра еў».

Вельмі магчыма, што Бародзіч, са сваёй звычайнай безадказнасцю, распускаючы плёткі пра спробу яго атруціць, хацеў толькі пашкодзіць добраму імю марыянаў і не думаў, што справа можа скончыцца судом. Але чуткі дайшлі да каменданта мясцовай паліцыі, і ён не мог прамінуць такой аказіі, каб нанесці сур’ёзную шкоду кляштару. 15 чэрвеня камендант паліцэйскага

* Апісанне ўзятае са справаздачы Ялбжыкоўскаму пра падзеі таго дня, складзенай Цікотам на аснове паказанняў сведкаў.

пастарунка Малюкевіч распачаў следства, напісаўшы пратакол наступнага зместу: «Дня 15/VI–29 г. я старэйшы пшадоўнік Малюкевіч Зыгмунт, камендант пастарунка дзяржаўнай паліцыі ў Друі, даведаўся з чутак, якія хадзілі па горадзе (*dowiedziałem się z pogłosek krążących w miasteczku*), што дня 13/VI г. г. у час водпусту св. Антона ў тутэйшым кляштары была спроба атруціць кс. каноніка Бародзіча Юзафа з дапамогаю нейкага атрутнага напою ў форме квасу. У сувязі з гэтым я вырашыў правесці следства ў гэтай справе (*Wobec powyższego postanowiłem w tej sprawie przeprowadzić dochodzenie*)». У той самы дзень Малюкевіч паведамляў намесніку пракурора ў Вільні: «у Друі <…> здарылася злачынства: кс. Цікота, суперыёр кляштара аа. марыянаў у Друі, намагаўся пазбавіць жыцця кс. каноніка Бародзіча Юзафа…». Падчас следства ўсе апытаныя сведкі — марыяне і госці — аднагалосна цвердзілі, што ніякай спробы атруціць Бародзіча не было. Выявілася поўная беспадстаўнасць абвінавачанняў Бародзіча, і Віленская пракуратура 19 снежня спыніла справу.

Тым часам распачалася акцыя па складанні супраць друйскіх марыянаў розных лістоў і мемарыялаў да архібіскупа, папскага нунцыя, віленскага ваяводы і міністра ўнутраных спраў. У апошнім такім мемарыяле да міністра ўнутраных спраў за 30 жніўня 1929 г. аўтары сцвярджалі, што мэта друйскіх марыянаў — «падступная русіфікацыя (*podstępne ruszczenie*) і, здаецца, спроба завесці нас ва ўсходнюю схізму <…>, а пазней адарваць ад Польшчы. Дык вось мы, як верныя каталікі і добрыя польскія грамадзяне, вырашылі бараніць нашу веру і польскасць, гэта значыць тое, што нашыя айцы перадалі нам у спадчыну як найвышэйшыя каштоўнасці». Таму аўтары просяць міністра «выселіць з Друі айцоў марыянаў, як крыніцу неспакою і сварак сярод нас, як тых людзей, што рэлігію і ейную святасць зрабілі сродкам, каб асягнуць сваёй мэты, а гэтая мэта — разваліць польскую дзяржаву» (*celem tym jest rozwalenie Państwa Polskiego*). Больш канкрэтна друйскіх айцоў абвінавачвалі ў тым, што «на загад таго ж ксяндза Цікоты <…> змушаюць дзяцей да расейскай мовы (*zmuszają dzieci do ruskiego języka*), падчас катэхізацыі ў Друі і Малькаўшчыне раздаюць расейскія кніжкі-малітоўнікі, даюць шлюбы па-расейску» (*udzielają ślubów małżeńskich w języku ruskim*)*. У іншым месцы аўтары пішуць:

---

* Мусіць, найбольш бязглуздае абвінавачанне гучала так: «Кропляй, што вычарпала нашу цярплівасць, было тое, што летам 1928 г. адзін з ксяндзоў марыянаў на галоўнай імшы замест "Święty Boże"

«Ад гэтай хвіліны (г. зн. ад 1924 г. — *А. Н.*) пачынаецца ўсё больш выразная русіфікатарская і супрацьпольская дзейнасць ксяндзоў марыянаў <…>. У касцёле ў Друі ўведзеныя расейскія казанні і гутаркі» (*W kościele w Drui zostaiy wprowadzone kazania i rozmowy rosyjskie*). Відаць, аўтары, як і Барodзіч, свядома не хацелі адрозніваць расейскую мову ад беларускай. Мемарыял атрымаў падтрымку з боку гарнізона польскіх памежных войскаў, г. зв. КАП (Korpus Ochrony Pogranicza). Камандзір роты памежнікаў у Друі, нейкі паручнік Рафальскі, пісаў камандзіру свайго батальёна ў Слабодцы 3 верасня 1929 г. «Даводжу да ведама просьбу жыхароў Друі ў справе высялення аа. марыянаў з Друі. Прашу распачаць у гэтай справе захады, скіраваныя на высяленне вышэй згаданых з Друі, бо жаўнеры КАПа падлеглыя магчымай антыпольскай агітацыі з боку беларускіх ксяндзоў» (*bo żołnierze KOP są narażeni na ewentualną agitację przeciwpolską ze strony białoruskich księży*). 10 верасня камандзір брыгады «Вільно» палкоўнік Карэва (Korewo) пісаў галоўнакамандуючаму КАП у Варшаве: «Дзейнасць гэтых ксяндзоў, а асабліва іхняга галоўнага арганізатара кс. Цікоты, выключна шкодная для бяспекі дзяржавы (*jest wybitnie szkodliwą dla bezpieczeństwa Państwa*). Кс. Цікота — асоба надзвычай здольная, мае вялікі дар з'ядноўваць вакол сябе людзей, асабліва моладзь, у якую з вялікім умельствам сістэматычна, пад покрывам "хрысціянскіх" прынцыпаў, ліе нянавісць да польскай дзяржаўнасці… Уважаю высяленне гэтай арганізацыі за неадкладную неабходнасць, бо далейшае знаходжанне яе прыносіць з кожнай хвілінай непапраўную шкоду для бяспекі дзяржавы ў гэтай мясцовасці» (*niepowetowany uszczerbek dla bezpieczeństwa Państwa w tej miejscowości*).

Віленскі ваявода Рачкевіч быў ворагам друйскіх марыянаў і шукаў спосабаў іх знішчыць. Але, як спрактыкаваны палітык, ён ведаў, чаго вартыя ўсе гэтыя пратэсты і хто за імі стаіць. У лісце да міністра ўнутраных спраў за 17 верасня 1929 г. ён пісаў:

---

пачаў спяваць "Святый Боже" па-расейску, другі ксёндз адслужыў па-расейску ўсю св. імшу (*drugi ksiądz odprawił po rosyjsku całą Mszę Św.*)». У тым часе імшу рымскага (лацінскага) абраду служылі толькі на лацінскай мове, а літургію ўсходняга (візантыйскага) абраду ў Беларусі — на царкоўнаславянскай, а не на польскай, расейскай, беларускай ці іншых жывых мовах. Цяжка сказаць, што гэта была за нагода, пра якую пішуць аўтары мемарыяла. Беручы пад увагу дату (лета 1928 г.), вельмі магчыма, што а. Абрантовіч перад выездам у Харбін адслужыў св. літургію ва ўсходнім абрадзе ў Друйскім касцёле.

«Рух, які паўстаў вакол справы марыянаў, быў распачаты праз вядомага <…> кс. Юзафа Бародзіча, відавочнага натхняльніка і пачынальніка ўсіх гэтых шматлікіх мемарыялаў і просьбаў. Што гэта так сапраўды, сведчыць тая акалічнасць, што якраз у хвіліну, калі ў Друі 13 чэрвеня г. г. з’явіўся кс. Бародзіч, пачаўся гэты рух, скіраваны супраць кляштара; а таксама і тое, што ўва ўсіх прашэннях паўтараюцца тыя самыя матывы, факты і бадай выразы. Тое, што згаданая акцыя… распачатая… кс. Бародзічам, які, як ведама, мае рэпутацыю амаль безадаказнага фанатыка (*niepoczytelnego fanatyka*), — ейны слабы бок». Тым не менш Рачкевіч уважае, што дзейнасць друйскіх марыянаў «беззаганная, калі ідзе пра бок маральны і пастырскі іхняй працы, але з пункту гледжання палітычнага і нацыянальнага пад покрывам асветніцка-грамадскай працы мае ўсе прыкметы дзейнасці антыдзяржаўнай». На думку Рачкевіча, найлепш было б, каб духоўныя ўлады забралі з Друі беларускіх марыянаў, а на іх месца прыслалі марыянаў польскіх. Калі гэта немагчыма, дык трэба «адняць у аа. марыянаў права кіраваць парафіяй і абмежаваць іхнюю дзейнасць працай законнай, магчыма яшчэ асветніцка-школьнай. Тады з’явілася б патрэба збудаваць парафіяльны касцёл наўзамен пакінутай цяпер для парафіяльнага ўжытку марыянскай кляшторнай святыні <…>. Новы касцёл стаў бы на месцы знішчанай пры расейскай уладзе парафіяльнай святыні пад найменнем св. Антона». Рачкевіч працягвае: «Мясцовы ардынарыят (г. зн. архібіскуп Ялбжыкоўскі. — *А. Н.*) не мае магчымасці <…> у сваіх межах (*we własnym zakresie*), а захоп у свае рукі ініцыятывы будовы касцёла і аднаўлення парафіі кс. Бародзічам трэба ўважаць за адмоўны факт, які можа скіраваць усю справу на непажаданы шлях, абудзіўшы варажнечу сярод насельніцтва. Урад павінен узяць ініцыятыву ў свае рукі і гэтым спараліжаваць значэнне выступленьня Бародзіча». Гэтыя радкі не пакідаюць сумневу, ад каго насамрэч зыходзіла задума адбудаваць касцёл св. Антона. Бародзіч быў толькі выканаўцам*.

---

* «Беларуская крыніца» ў згаданым артыкуле «Awantura polskich endekaŭ u Drui i ks. Baridzič», спасылаючыся на «Przegląd Wileński», піша: «Што авантура кс. Бародзіча ня ёсьць самаволяй тамашняй люднасьці, дык аб гэтым сьведчаць тыя факты, якія падае “Przegląd Wileński”: “што ўсё гэта было аддаўна ўкартавана і ўплянавана, сьведчаць аб гэтым адносіны мяйсцовай паліцыі, каторая спадзявалася некалькі тыдняў прад гэтым прыезду ў гэтай справе кс. Бародзіча”».

Друя сталася асабістай паразай Бародзіча. Гэты прайдзісвет у сутане скампраметаваў сябе. Ён не апраўдаў надзеяў тых, што стаялі за ім, і яго адкінулі, як больш не прыдатны матэрыял. Ягоныя пазнейшыя прыезды на «крэсы» прайшлі амаль незаўважанымі. Як часта бывае з людзьмі такога тыпу, Бародзіч не разумеў, што ягоная «кар'ера» скончылася. Ваявода віленскі Рачкевіч у лісце да міністра ўнутраных спраў за 17 верасня 1929 г. пісаў: «Вядома, што дзякуючы старанням кс. Бародзіча ў маёнтку аднаго з мясцовых землеўласнікаў (*obywateli*) была збудаваная драўляная часовая капліца, якую ў кожную хвіліну можна перанесці ў Друю». Цяжка разабрацца, дзе сканчаецца трагедыя і пачынаецца фарс…*

Можна сумнявацца, ці верыў Ялбжыкоўскі ў праўдзівасць Бародзічавых абвінавачанняў, што друйскія марыяне спрабавалі яго атруціць. Наогул, аднак, ягонае лагоднае стаўленне да Бародзіча змушае прыпушчаць, што ён толькі «афіцыйна» не ведаў пра мэту паездкі гэтага святара ў Друю. 17 чэрвеня Цікота сустракаўся з Ялбжыкоўскім наконт справы Бародзіча. Сустрэча, відаць, не дала ніякіх вынікаў. Праз некалькі дзён (ліст без даты) Цікота пісаў: «У панядзелак 17 чэрвеня я выйшаў ад Вашай Эксцэленцыі поўнасцю прыгноблены. Больш высакародныя і інтэлігентныя польскія адзінкі ў Друі і Вільні маральна перакананыя, што за кс. Бародзічам стаіць не толькі ўлада свецкая, якая выразна падтрымлівае яго праз друйскую паліцыю, але нават высокія колы духоўныя. Цяжка было ў гэта паверыць, але няясны адказ Вашай Эксцэленцыі мяне збянтэжыў… Тым больш баліць мне, калі Духоўная ўлада, якая можа адразу пакласьці

* Доктар Язэп Малецкі, які быў сведкам усяго, што здарылася тады ў Друі, даслаў біскупу Сіповічу тэкст песні, што спявалі людзі ў навакольных вёсках: «Ехаў ксёндз канонік / На папах пад потам, / А на ім праехаў / Ксёндз Андрэй Цікота». Словы «на папах пад потам» датычацца здарэння, якое адбылося ў Мёрах перад Першай сусветнай вайною, калі там пробашчам быў Бародзіч. Аднаго дня ён запрасіў да сябе мясцовых праваслаўных святароў. Калі тыя, нічога не падазраючы, прыйшлі і крыху выпілі, Бародзіч пачаў іх ушчуваць, што яны слабыя і не пацягнуць воз, на якім ён будзе сядзець. Каб ратаваць гонар, святары, выйшаўшы на двор, узяліся за аглоблі воза, што там стаяў. Бародзіч сеў на воз, узяў пугу ў рукі, а раней наняты фатограф, які дагэтуль хаваўся, зрабіў здымак. (Гл. машынапіс: T. Podziawo. Ojciec Andrzej Cikoto. Chylice, 1959. S. 41–42). Вось прыклад «экуменічнай» дзейнасці гэтага «апостала каталіцкасці і польскасці».

канец гэтаму, кажа, што не можа забараніць служыць ксяндзу самадуру (*zasuspendować księdza warchołą*). Ксяндзу Смульку за беларускае казанне, сказанае згодна з традыцыяй і са згоды пробашча ў духу самым каталіцкім, можна было забараніць служэнне, а ксяндзу Бародзічу, які бунтаваў натоўп супраць волі біскупа і пробашча <…>, забараніць служыць і выдаліць з дыяцэзіі нельга?!»

## «Абмежаваць беларушчыну да мінімуму»

Калі стала зразумела, што справу Бародзіча не ўдасца замаўчаць, Ялбжыкоўскі стварыў «следчую камісію», фармальна каб разгледзець узніклы канфлікт між гэтым святаром і друйскімі марыянамі. У камісію ўвайшлі: канонік Віленскай капітулы Лявон Жаброўскі, дэкан Браслаўскі Язэп Савіцкі і правінцыял польскай правінцыі марыянаў Уладзімір Якоўскі — усе трое палякі. Камісія працавала ад 26 да 28 жніўня і падала Ялбжыкоўскаму справаздачу пра сваю дзейнасць 20 верасня 1929 г.* Перадусім камісія цалкам апраўдала друйскіх марыянаў што да спробы атруціць Бародзіча. У заключным пратаколе гаворыцца: «Следства паказала, што абвінавачанне ў спробе атруціць кс. Бародзіча, высунутае супраць айцоў марыянаў, зусім беспадстаўнае <…>. Ксяндзы, (прысутныя) пры гэтым здарэнні, адкідаюць нават найменшае дапушчэнне злой волі з боку айцоў марыянаў, а тым больш жаданне здзейсніць злачынства. Беспадстаўнае таксама абвінавачанне ў русіфікацыі і здрадзе Касцёлу і Дзяржаве, а таксама ў (распаўсюджванні) паклёпаў на кс. Бародзіча».

Гэтае сведчанне камісіі не зусім стасуецца з іншым: «Факт распаўсюджвання кс. Бародзічам паклёпных сведчанняў супраць ксяндзоў марыянаў не пацвердзіўся». Тым не менш крыху ніжэй знаходзім у тэксце: «Цалкам даказана, што кс. канонік Юзаф Бародзіч выслаў у некалькі рэдакцыяў віленскіх газетаў ліст, дзе ў вельмі абразлівай для друйскіх айцоў марыянаў форме вінаваціць іх у паклёпах супраць сябе <…>; (б) русіфікацыі насельніцтва на "крэсах" Польшчы; (в) здрадзе Польскай дзяржаве і Каталіцкаму касцёлу…».

---

* «Orzeczenie śledcze w sprawie Księża Marjanie w Drui — ks. Jyzef Borodzicz na mocy dochodzenia z dd. 26–28 sierpnia 1928». Копія гэтага натарыяльна зацверджанага дакумента (5 машынапісных старонак) знаходзіцца ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.

Падсумоўваючы вынікі сваёй дзейнасці, камісія пісала: «Сьледства, пацвердзіўшы парушэнне спакою ў рэлігійным жыцці ў Друйскай парафіі, адначасова выявіла, што прычынаю гэтае з'явы ёсць, з аднаго боку, выразнае падкрэсліванне айцамі марыянамі беларускага характару кляштара, а ў пэўнай меры і парафіі ў Друі; а з другога — выступленне ў гэтых аколіцах кс. Бародзіча, што ў высокай ступені разбурыла спакой сярод людзей і падарвала аўтарытэт духавенства».

Камісія дала наступныя рэкамендацыі: «1. Пазбавіць Друйскі кляштар беларускага характару, прыняўшы ў яго таксама аа. марыянаў-палякаў, бо гэтага жадае значная колькасць людзей; абмежаваць беларушчыну ў Друйскім касцёле да неабходнага мінімуму і рэкамэндаваць аа. марыянам быць больш абачлівымі ў справе ўсходняга абраду, якога людзі не хочуць і нават баяцца, а аа. марыяне ніякім пазітыўным вынікам у гэтай галіне пахваліцца не могуць*. 2. Рашуча забараніць кс. кан(оніку) Бародзічу ўсялякія выступленні на гэтай тэрыторыі, а таксама (загадаць) адмовіцца ад праекту будовы касцёла <…> або прынамсі цалкам адхіліць кс. Бародзіча ад справы будовы касцёла».

Пры канцы варта прывесці наступныя радкі з заключнага пратакола: «З пераказу паказанняў гэтых сведкаў вынікае, што аа. марыяне сваёй беларускай дзейнасцю і ўсходнімі сімпатыямі выклікаюць неспакой сярод парафіянаў і непрыхільнасць вялікай іх часткі, што выяўляецца ў жаданьні будовы новага касцёла ў Друі. Такую выснову пацвярджае афіцыйна кс. др. Ільдэфонс Бобіч, дэкан Мёрскі, лістом ад 31 жніўня 1929 г., які ў дадатак уважае шкоднай палітычна-нацыянальную дзейнасць аа. марыянаў». Той самы Бобіч упікае друйскіх марыянаў, што ў іхняй парафіі няма Згуртавання польскай моладзі (Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej).

Ільдэфонс Бобіч, дэкан Мёрскі (да ягонага дэканату належала Друя), быў некалі свядомым беларусам і пісьменнікам (пісаў пад псеўданімам «Пётра Просты»). Што ж, людзі мяняюцца…

* «Odebranie klasztorowi w Drui charakteru białoruskości przez osadzenie w nim także ks. Marjanów-Polaków, gdyż znaczna część ludności tego pragnie, ograniczenie białoruszczyzny w kościele drujskim do minimum wymoganego i zalecenie ks. Marjanom większej oględności co do obrządku wschodniego, którego ludność nie chce, a nawet się obawia, a ks. Marjanie żadnym pozytywnym wynikiem akcji w tym kierunku pochwalić się nie mogą».

Таксама варта звярнуць увагу на тое, як насцярожана ставіліся сябры следчай камісіі да ўсходняга абраду, якога, дарэчы, у Друі не існавала.

Як можна было прадбачыць, архібіскупская следчая камісія апраўдала друйскіх марыянаў што да абвінавачання ў злачынстве, але вынесла ім прысуд за беларускасць. Цікота ў лісце да Бучыса за 2 лютага 1931 г., адкідаючы ўсе абвінавачанні камісіі, пісаў: «Насамрэч усе закіды фальшывыя апрача аднаго, які кажа, што мы — беларусы»*.

Вынікаў працы камісіі не давялося доўга чакаць. Яшчэ раней, чым з'явіліся яе канчатковыя рэкамендацыі, на пачатку 1929 школьнага года, а. Віталіса Хамёнка звольнілі з пасады настаўніка рэлігіі ў школах Друйскай парафіі, а на ягонае месца прызначылі нававысвечанага святара паляка Яна Слемпа (дарэчы, не марыяніна). Казімір Бранікоўскі, польскі марыянін, які ў пачатку 1930 г. на загад Бучыса праводзіў візітацыю Друйскага кляштара, пісаў у сваёй справаздачы: «Ад пачатку 1929/30 школьнага года на месца а. Віталіса ў пачатковыя школы парафіі як у горадзе, так і па вёсках быў прызначаны настаўнікам свецкі (г. зн. не законнік. — *А. Н.*) святар, які трымаецца здалёку ад кляштара і, як кажа, адрабляе беларускі ўплыў а. Віталіса ў школах, гаворачы дзецям пра Польшчу, падбіраючы прыклады з рэлігійнага жыцця Польшчы перад яе падзеламі»**. Сам Бранікоўскі піша пра а. Віталіса: «Я не чуў, каб а. Віт(аліс) у працы з дзецьмі кіраваўся нацыянальнымі меркаваннямі, або таксама каб свядома ў нечым ганьбіў польскую дзяржаўнасць у прысутнасці дзяцей і настаўнікаў».

Архібіскуп Ялбжыкоўскі, пасылаючы генералу марыянаў Францішку Бучысу копію пратакола камісіі, пісаў у лісце за 22 лістапада 1929 г.: «Гэтым пасылаю копію пратакола следчай камісіі ў справе аа. марыянаў у Друі супраць кс. Юзафа Бародзіча. З свайго боку хачу падкрэсліць дзве высновы следчай камісіі: 1) Патрэбу прысляць у Друю прынамсі 2 кс. марыянаў-палякаў, якія б стараліся палагодзіць закалоты, што ўзніклі на фоне беларускай акцыі. Закалоты трываюць і цяпер, доказам чаго — новыя скаргі друйскіх парафіянаў у Міністэрства рэлігійных справаў

---

* «Re autem vera omnes accusationes falsae sunt praeter una quae dicit nos Alborussos esse».

** «…odrabia wpływ białoruski x. Witalisa w szkołach, mówiąc dzieciom o Polsce przez dobierane przykłady z życia religijnego Polski przedrozbiorowej».

і адукацыі, пану Віленскаму ваяводзе, а таксама ў нунцыятуру. На кожнай скарзе па 500 подпісаў…»*.

Следчая камісія рэкамендавала абмежаваць беларускую мову ў казаннях «да неабходнага мінімуму». Як гэтае абмежаванне адбылося, апісвае польская газета «Kurier Wileński»: «Да пробашча Друйскага а. Дашуты з'явілася нядаўна дэлегацыя ў складзе некалькіх асобаў і заявіла, што “калі будуць далей гаварыць беларускія казанні, дык яны зробяць у касцёле скандал, авантуру і такім спосабам запратэстуюць”… Параіліся тады аа. марыяне і паслалі кс. архібіскупу Ялбжыкоўскаму заяву, што, не хочучы, каб касцёл быў спрафанаваны скандалам, яны ўстрымаюцца часова ад беларускіх казанняў. І ад некаторага часу іх у Друі няма»**. Гэта здарылася не пазней як у нядзелю 2 сакавіка, бо ў панядзелак 3 сакавіка 1930 г. польскі марыянін Казімер Бранікоўскі, які ў той час праводзіў візітацыю ў Друі, пісаў у Рым марыянскаму генералу Францішку Бучысу: «Дзеля большага супакою і каб пазбегнуць Боскай знявагі ў сувязі з нападамі, якія рыхтаваліся ў касцёле, аа. друйскія, пасля доўгіх дыскусіяў на сваіх паседжаннях, без майго ўдзелу і ўплыву вырашылі спыніць беларускія казанні на вячэрнях. Мне гэта вельмі аблегчыць сустрэчу і размову з кс. Архібіскупам (Ялбжыкоўскім. — *А. Н.*). Калі я меў нейкія сумневы, дык яны дзякуючы гэтай іхняй каталіцкай велікадушнасці (?! — *А. Н.*) з сорамам развеяліся (*tą ich wielkodusznością Katolicką ze wstydem się rozwiały*)»***. Карэс-

---

* «Potrzebę przysłania do Drui przynajmniej 2 XX Marjanów Polaków, którzyby się starali załagodzić fermenty powstałe na tle akcji białoruskiej. Fermenty te trwają, czego dowodem są nowe skargi parafjan drujskich do Ministerstwa Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego, Pana Wojewody Wileńskiego, oraz do Nuncjatury. Na każdej skardze figuruje 500 podpisów».

** Jotowicz J. Marjanie w Drui. Cz. II // Kurier Wileński. Wilno, 26.03.1930. № 71. S. 2.

*** Тамаш Падзява ў сваіх успамінах пра а. Цікоту піша: «Беларускія казанні прыцягвалі натоўпы людзей, якія хацелі пачуць слова Божае, і гэта даводзіла праціўнікаў гэтых казаняў да такой раз'юшанасці, што яны прыгразілі прыслаць п'яных скандальнікаў з мэтаю распачаць бойку ў касцёле і апаганіць касцёл праліццём крыві. Тады спынілі гэтыя казанні і паведамілі пра гэта архібіскупу мітрапаліту (Ялбжыкоўскаму. — *А. Н.*), які пахваліў іх за гэтую саступку перад шантажам. Паводле сведчання а. Віталіса Хамёнка, а. Андрэй спыніў беларускія казанні не з уласнай ініцыятывы, але на жаданне а. Бранікоўскага, польскага правінцыяла». Бранікоўскі (ён быў тады віцэ-генералам за-

пандэнт «Kurjera Wileńskiego» трымаўся іншай думкі: «Не лічу, што такое становішча аа. марыянаў было слушным. Саступіць перад пагрозамі значыць яшчэ больш разбэсціць праціўніка, і то такога, чый маральны ўзровень не ўзносіцца вышэй за ўзровень звычайных вулічных шумавінаў»*.

Такім чынам, сапраўды пацярпелі не Бародзіч і кампанія, а друйскія марыяне. Рэкамендацыі камісіі, уведзеныя ў жыццё, спрэс мянялі характар Друйскага кляштара: у найлепшым выпадку беларушчыну трывалі ў ягоных мурах, а навонкі ў імя «каталіцкай велікадушнасці» яе «абмежавалі да неабходнага мінімуму», іншымі словамі, да нуля. Пра нейкую дзейнасць ва ўсходнім абрадзе не ішло нават і гутаркі, «бо гэтага народ не хоча і баіцца». Гэта было поўнае адступленне ад волі біскупа Матулевіча, які засноўваў кляштар «pro alborussis» (для беларусаў).

З адыходам Бародзіча вялікія канфлікты скончыліся, але працягвалася цкаванне друйскіх марыянаў у польскай прэсе. 26 студзеня 1930 г. «уласны карэспандэнт» П. Каўнацкі пісаў у «Dzieńniku Poznańskim»: «Гэта бадай самая шкодная і самая небяспечная пляцоўка, якую заснавалі ворагі польскасці на паўночна-ўсходнім памежжы Польшчы. Заснаваў яе праз некалькі гадоў пасля вайны Віленскі біскуп Матулевіч, якога пасадзілі на Віленскім біскупскім пасадзе нямецкія акупанты, а забраў яго адтуль у 1925 г. Апостальскі Пасад у выніку незлічоных просьбаў польскага насельніцтва, якое добра ўсведамляла, што антыпольская дзейнасць біскупа-літвамана падкопвала ў першую чаргу ўплывы Каталіцкага касцёла».

Ішла таксама «апрацоўка» вернікаў у сумежных з Друяй парафіях. 20 чэрвеня 1932 г. Антук Баговіч з Мёраў, родны брат друйскага законнага брата Станіслава (Міколы) Баговіча, пісаў генеральнаму суперыёру марыянаў біскупу Бучысу: «Звяртаюся з пакорнай просьбаю звольніць майго крэўнага Станіслава Баговіча, які склаў шлюбы ў кляштары аа. марыянаў у Друі. Я як ягоны брат прашу звольніць ад шлюбаў, бо бачу што кс. пробашч наш казаў, што гэты кляштар будзе скасаваны, бо трымаюцца беларускіх прынцыпаў (*zasad białoruskich*), па-другое, што ён уступіў у гэты кляштар, то ён нам зрабіў вельмі вялікую прык-

---

кону марыянаў, а не правінцыялам) ад 15 лютага да 16 красавіка 1930 г. праводзіў на загад Бучыса візітацыю Друйскага кляштара.

* Jotowicz J. S. 2.

расць, бо кажа стараста Браслаўскі, што беларусы, бо ваш брат жыве ў кляштары аа. марыянаў у Друі»*.

Друйская парафія ўвесь час, пакуль там знаходзіліся беларускія марыяне, афіцыйна не мела пробашча. Як гэта сталася, тлумачыць віленскі ваявода Уладзіслаў Рачкевіч у лісце ў Міністэрства рэлігійных спраў і адукацыі за 22 чэрвеня 1928 г.: «Адначасова даношу, што кс. Дашута, праз супрацiў міністэрства, выказаны ў рэскрыпце пана міністра з 31.III. г. г. № 1767/28 адносна ягонай кандыдатуры на пасаду пробашча ў Друі, выконвае абавязкі “часовага адміністратара”, пакуль аа. марыяне не запрапануюць іншага кандыдата. Ведаючы, аднак, настроі, якія пануюць сярод ксяндзоў марыянаў, цяжка дапусціць, каб прапанаваны імі кандыдат мог атрымаць згоду ўрада, чаго вымагае арт. XIX канкардата. Паколькі парафію ў Друі абслугоўваюць выключна пробашчы з закону марыянаў, якія карыстаюць з гэтага прывілею ад хвіліны свайго заснавання ў Друі, дык трэба лічыцца з фактам даўжэйшага знаходжання на гэтай пасадзе кс. Дашуты ў якасьці “часовага адміністратара”». Наконт пробашча пісаў таксама а. Цікота міністру ўнутраных спраў 28 кастрычніка 1928 г.: «Пан міністар адмовіўся даць сваю згоду на зацверджанне кс. Язэпа Дашуты, сябра нашага законнага дома, друйскім пробашчам, нягледзячы на тое, што кс. Дашута не можа мець найменшых закідаў палітычнага характару».

«Часовая адміністрацыя» Дашуты аказалася вельмі ўстойліваю: да канца сваіх дзён у Друі ён заставаўся «выканаўцам абавязкаў пробашча» (*pełniący obowiązki proboszcza*).

Быццам Друі мала было розных следстваў і камісіяў, Бучыс прызначыў адмысловую «надзвычайную візітацыю» Друйскага кляштара і даручыў правесці яе свайму намесніку (генеральнаму вікарыю), польскаму марыяніну Казіміру Бранікоўскаму.

Пра мэту візітацыі можна меркаваць з прыпіскі рукою Бучыса на лісце Бранікоўскага з Друі: «Справа датычыць расследавання нацыяналізму друйскіх марыянаў, каторы нацыяналізм меў быць шкодным для спакою друйскіх парафіянаў»**.

---

* Арыгінал ліста, напісанага па-польску, знаходзіцца ў архіве Бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лондане. У перакладзе я стараўся захаваць стыль пісара, толькі крыху больш пісьменнага за таго, ад чыйго імя пісаў.

** «Agitur de investigatione nationalismi Marianorum Drujensium, qui nationalismus dicebatur nocere paci parochianorum Drujensium». Дата на лісце не пазначаная, але Бучыс атрымаў яго 16 красавіка 1930 г.

Бранікоўскі знаходзіўся ў Друі два месяцы, ад 15 лютага да 16 красавіка 1930 г. Ва ўступе да сваёй справаздачы ён пісаў: «Мэты свайго прыезду ў Друю я не разгалошваў; хутка, аднак, (усе) зразумелі, што мой прыезд і побыт мае дачыненне да жнівеньскай архібіскупскай камісіі і справы кс. Бародзіча».

Справаздачу з візітацыі на 25 машынапісных старонках* Бранікоўскі скончыў пісаць толькі 10 лістапада 1930 г. Яна мела форму адказаў на канкрэтныя пытанні (усяго 19), якія Бучыс даў Бранікоўскаму перад выездам з Рыма. Не маючы магчымасці даць поўны тэкст гэтага цікавага дакумента, прывядзём тут некалькі найбольш яскравых урыўкаў.

На пытанне Бучыса: «Ці закалоты ў Друі мелі фон рэлігійны, ці нацыянальны?» Бранікоўскі адказвае: «Марыяне друйскія маюць нават сярод сваіх праціўнікаў славу святароў, адданых людзям наогул, а асабліва парафіянам: даступныя, памяркоўныя, руплівыя ў касцёле, яны едуць для дабра і выгоды далёкіх вёсак штонядзелю і ў святы ў капліцу за 9 кіламетраў; дык рэлігійны закалот тут выключаны… Дзе ж шукаць незадаволеных? Друйская парафія ў бальшыні складаецца з беларусаў, са значнай меншасцю палякаў. Дык вось асяродкам, адкуль разыходзіцца незадаволенасць і закалоты, ёсьць *частка* (падкрэсьлена Бранікоўскім. — *А. Н.*) польскай нацыянальнасці друйскай парафіі. Пад выглядам сімпатыі да кляштара і ягонай дзейнасці група польскай нацыянальнасці ў парафіі не аднародная. Перад візітацыяй я думаў, што ўсе палякі былі не радыя аа. марыянам друйскім, тым часам на месцы я пераканаўся, што значная частка маральна лепшых палякаў, матэрыяльна незалежных, не падзяляе падкопаў і інсінуацыяў большасці, сярод якіх настаўнікі, урадоўцы, паліцыя, абывацелі, рамеснікі і звычайныя гаспадары вясковыя і гарадскія. Паколькі першая група ідзе разам з айцамі ў працы рэлігійна-грамадскай і прынамсі з разуменнем ставіцца да іхняй беларускасці, то другая на кожным кроку намагаецца ім шкодзіць, дрэнна тлумачыць іхнія намеры і дрэнна настаўляе да іх (іншых). Мясцовыя ксяндзы падтрымліваюць гэтую групу і нават кіруюць імі звонку. Улады школьныя і адміністрацыйныя падтрымліваюць іх паціху, а з вуснаў паліцыянтаў людзі часта чуюць, калі згадваецца кляштар, словы зняважлівыя для годнасці

* Sprawozdanie z wizytacji nadzwyczajnej odbytej w Drui na zlecenie Jego Ekscelencji Najdostojniejszego Ojca Generała z dn. 15.01.1930 r. według dołączonych pytac. Машынапісная копія справаздачы знаходзіцца ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.

святара, а тым больш святара-законніка. Вартасць маральная гэтай групы шмат ніжэйшая ад рэшты, так што большасць парафіі можа голасна падкрэсліваць іхняе скандальнае жыццё (разведзеныя і тыя, што жывуць без шлюбу, марнатраўцы і п'яніцы, часта круцялі, з цёмным мінулым і да т. п.) і дзівіцца, што такія змагаюцца са святарамі, а самі стаяць далёка ад касцёла».

На пытанне Бучыса: «У чым правініліся (друйскія марыяне. — *А. Н.*)*,* не аказаўшы належнай пашаны да польскай нацыянальнасці?» Бранікоўскі адказаў: «Згадваюць у Друі прыкрыя казанні на нацыянальнае свята 3 мая, у якіх не хапала глыбейшага адчування гістарычнага моманту, угодкі якога святкавалі, і значэння самой урачыстасці <…>. Не віна друйскіх марыянаў, што, не будучы палякамі, не ўмелі дадаць крыху патрыятычнага колеру ў прынагодных прамовах, як бы гэта зрабіў святар паляк. Думаю, аднак, што пры зычлівасці да польскай нацыянальнасці яны маглі б даць нешта з гэтага адцення, бо ж здараецца ў іншых частках Касцёла, што нацыянальна чужы святар, без здрады сваім шляхетным пачуццям, суцяшае эмігрантаў, ці бяздомных выгнанцаў, ці братоў іншай нацыянальнасці, што шукаюць хлеба». Ажно сэрца баліць за ўсіх гэтых бедных польскіх «эмігрантаў, бяздомных выгнанцаў, братоў <…>, што шукаюць хлеба» ў Друі, якіх беларускія святары, відаць, занятыя палітыкай, не маглі ці не хацелі «суцешыць»…

Іншае пытанне Бучыса гучала так: «Ці навакольнае каталіцкае духавенства ў нацыянальным жыцьці стаіць маральна вышэй ад друйскіх марыянаў, на тым самым узроўні, ці ніжэй?» На гэта Бранікоўскі адказаў: «Здаецца, што ніжэй, бо, уважаючы сябе зачэпленымі друйскімі марыянамі і стаўшы ў абароне польскіх інтарэсаў у касцельнай галіне на памежжы (на "крэсах"), яны менш пераборлівыя ў сродках <…>. Адзін з суседніх ксяндзоў, вядомы ў наваколлі праціўнік і кіраўнік антыдруйскай акцыі, аўтар шматлікіх артыкулаў, матэрыялы на якія збіраў сярод парафіянаў і жыхароў друйскіх, калі я яму выказаў засцярогі, што з пункту гледжання святарскага некаторых рэчаў не належала б рабіць супраць Друі, адказаў: "Што ж, трудна, ойча, гэта — змаганне". Іншымі словамі: у гэтым змаганьні, як на вайне, шмат рэчаў немаральных, а нават нягодных, можна апраўдаць патрэбаю бяспекі або ўмацавання становішча на будучыню».

Найбольш часу і высілкаў каштавала Бранікоўскаму адказаць на пытанне: «Ці ў сваім патрыятызме беларускім друйскія марыяне не парушаюць нормаў хрысціянскай, святарскай і законнай маральнасці?» Пачынае ён свой адказ наступнымі словамі: «Не

ўмею дакладна акрэсліць маральных прынцыпаў, якія б маглі парушыць друйскія марыяне, але ўжо сама пастаноўка — моцна ў кляштары, слабей у касцёле — беларускага сцягу (г. зн. нацыянальнага пытання. — *А. Н.*) выклікала між мясцовымі жыхарамі шмат закалотаў, нянавісці, падступных махінацыяў і ўсялякай Боскай знявагі. Уважаю, што прыйдуць яшчэ вастрэйшыя атакі, бо ўжо ў часе маёй прысутнасці там разышліся чуткі, не пазбаўленыя падставаў, быццам польскі бок рыхтаваўся да праліцця крыві ў касцёле, каб толькі пазбыцца нямілых новаўвядзенняў а. А(ндрэя) Ц(ікоты) <…>. Дык вось, рызыка выклікаць такую буру ў людскіх душах дзеля здзяйснення сваіх — зрэшты слушных — нацыянальных памкненняў, якія належаць да каштоўнасцяў першарадных, але прамінальных, — праз святароў і законнікаў, мае ў сабе нешта, што супярэчыць мэтам святарства наогул, а закону, да якога належаць, у асаблівасці». Бранікоўскі выказвае сур'ёзныя засцярогі адносна метадаў узгадавання хлапцоў — кандыдатаў да закону, сярод якіх «горача развіваецца беларускі патрыятызм, доказам чаго — імяніны а. Андрэя Цікоты ў 1929 г., на якіх гучала больш нота патрыятычная, як рэлігійная». Далей ён працягвае: «Патрыятызм — справа добрая, калі б не тая акалічнасць, што пачатковае ўсведамленне і любоў да беларускага імя выклікае ў гэтым выпадку ў хлапцоў нянавісць да Польшчы і палякаў. Можа, хлапцом гаворыцца пра паўстанне з цемры абыякавасці да сваёй мовы, а яны сабе разумеюць, што аднаго дня трэба будзе зрабіць збройнае паўстанне і выгнаць палякаў з ваколіцаў Друі»*. Бранікоўскі не тлумачыць, чаму любоў да свайго роднага павінна абавязкова выклікаць нянавісць да іншых і якім чынам гутаркі пра «паўстанне з цемры» можна зразумець як заклік да «збройнага паўстання». Калі ўжо зайшла пра яго гаворка, дык, як паказалі падзеі наступных гадоў, не беларусы палякаў, а палякі выгналі з Друі беларускіх законнікаў з дапамогаю ўзброенай паліцыі.

Наогул, на думку Бранікоўскага, «Друя зусім не лічыцца з тым, што высоўваннем сваёй нацыянальнай справы яна ад даўжэйшага часу спрычыняе столькі клопатаў галоўнаму кіраў-

* «Patryjotyzm rzecz dobra, gdyby nie ta okoliczność, że początkujące uświadomienie i miłość imienia białoruskiego wywołuje w tym wypadku w chłopcach nienawiść do Polski i polaków. Może malcom mówi się o powstaniu z ciemnoty z obojętności do mowy swojej, a oni to sobie rozumieją o zrobieniu kiedyś zbrojnego powstania i wypędzeniu polaków z okolic Drui».

ніцтву закону (марыянаў. — *А. Н.*) і Польшчы»*. Крыху далей ён удакладняе сказанае: «Айцец Андрэй Цікота неаднаразова ўпікаў свайго дыяцэзійнага начальніка (г. зн. Ялбжыкоўскага. — *А. Н.*), што той прыцягвае палітыку ў кіраванне Хрыстовай паствою, і нават гразіў працэсам на шырокім сусветным форуме, то бок перад Святым Пасадам (*odgrażał się procesem na szerokiem forum świata, bo przed Stolicą Świętą*); а сам не прызнаецца, што займаецца палітыкай, стварыўшы і ўтрымліваючы ў Друйскім кляштары беларускі асяродак, спадзеючыся, што за ягоным прыкладам раней ці пазней пойдуць іншыя святары беларусы ў сваіх парафіях. Абставіны заснавання Друйскага кляштара і ягоны сённяшні выключна беларускі характар, а таксама апірышча, якое ён адпачатку знаходзіў у законнай (манаскай. — *А. Н.*) арганізацыі, наводзяць на думку, што а. А(ндрэй) Ц(ікота) уступіў у закон з гатовым планам пад покрывам закону развіваць беларускую нацыянальную справу. Такі намер не выключаў надпрыроднага жадання служыць Госпаду Богу і Царкве, але ў праграме займаў паважнае месца, і таму навонкі ён праявіўся такім моцным розгаласам. Чаму не называць рэчы сваімі імёнамі: палітыка, праўда, шляхетная, але палітыка, якой у законе мы не павінны пачынаць».

Як ні дзіўна, тон Бранікоўскага больш «памяркоўны» за тон архібіскупскай следчай камісіі, але сэнс застаецца той самы: беларускі характар Друі — гэта «палітыка». Да таго ж Бранікоўскі паказаў поўнае няведанне беларускай рэчаіснасці. Беларускія каталіцкія святары не мелі патрэбы браць прыклад з Цікоты: нацыянальны рух сярод іх распачаўся і развіваўся, калі яшчэ ніхто не чуў пра Друю і марыянаў. У 1917 г., як падае афіцыйнае выданне БНР «Усходняя Беларусь», «на зьезьдзе ў Менску заснаваўся Саюз ксяндзоў-беларусаў, налічваючый каля 200 членаў»**. Дый наогул можна сумнявацца, ці прыклад Цікоты і Друі быў варты пераймання. У лісце да польскага міністра ўнутраных спраў за 28 кастрычніка 1928 г. Цікота прызнаецца, што марыяне ў Друі «за пяць гадоў не стварылі ніводнай беларускай арганізацыі, ні ценю дзейнасці, каб умацаваць нацыянальную свядомасць беларускага насельніцтва».

---

* «Druja nie liczy się wcale, że wysunięciem swojej sprawy narodowościowej przyczynia tyle kłopotów Głównemu Zarządowi Zgromadzenia od dłuższego czasu i Polsce».

** А. І. Усходняя Беларусь. Менск: Выданне Народнага Сэкрэтарыяту Міжнародавых Справаў, 1918. С. 6.

Бранікоўскі меў таксама свой погляд на працу дзеля Уніі: «Хацеў бы закрануць яшчэ адно пытанне і даць на яго адказ, менавіта, ці з беларускай выключнасці Друйскага кляштара мае карысць справа ўнійная, якая цяпер у стане падрыхтоўкі, а таксама закон (марыянаў). Мне здаецца, што не. Айцец Цікота паклаў столькі сілаў і выдатных здольнасцяў для абароны так прыдуманага (г. зн. беларускага. — *А. Н.*) друйскага асяродка, што калі б ён іх скарыстаў у мэтах чыста царкоўных і законных, то вынікі мусілі б быць больш відавочнымі, чым гэтых пяць братоў у Русікуме. Калі б ягоная шматгадовая праца ішла рука ў руку з (законнымі) дамамі польскімі — пры захаванні нацыянальнай адметнасці сяброў беларускага паходжання, — яна б сёння спрычынілася да заснавання адной вялікай правінцыі польскай ці польска-беларускай, якая б высунула праграму ўнійнай дзейнасці, прызначаючы на яе ў першую чаргу друйскіх сяброў, або мела б гэтую мэту прызначаную вышэйшымі ўладамі».

У канцы Бранікоўскі робіць наступную заўвагу: «Звычайна друйскія айцы спасылаюцца ў абароне свайго адмысловага нацыянальнага статусу на папскі дэкрэт, які аддае ім Друю, у якім сказана “*pro alborussis*”. Ці добра яны разумеюць намер (*intencję*) Святога Пасаду?»

Бранікоўскаму быў выразна недаспадобы беларускі характар Друі і ейны аўтаномны статус, г. зн. незалежнасць ад польскай марыянскай правінцыі. Як адзін з першых польскіх марыянаў (ён стаў ім у 1911 г.), а ў 1922–1927 гг. генеральны вікарый у Польшчы, ён не мог не ведаць, што «так прыдуманы друйскі асяродак» заснаваў не беларус Цікота, а летувіс біскуп Матулевіч, які ў перакананні многіх быў святым. У сваёй справаздачы Бранікоўскі неяк — можа, падсвядома — абмовіўся, што Друйскі кляштар прыносіў шмат клопатаў не толькі марыянскаму закону, але і Польшчы. Выйшла, як у той казцы пра Чырвоны Каптурок, дзе воўк прыкінуўся добрай бабуляй, але не здолеў схаваць сваіх воўчых зубоў.

Пытанне ўнійнай працы, узнятае Бранікоўскім, сталася ўжо тады неактуальным: «вышэйшыя ўлады» вызначылі іншы план дзейнасці для Друі… Але пра гэта далей.

Архібіскупскую следчую камісію і Бранікоўскага прызначылі іхнія належныя ўлады ў сувязі са скандалам вакол Барodзіча, каб разгледзець пытанне «беларускага нацыяналізму» друйскіх марыянаў, у якім іх вінавацілі палякі. Справядлівасць вымагала, каб у разглядзе такой далікатнай справы бралі ўдзел прадстаўнікі

абодвух бакоў. Тым часам Бранікоўскі і ўсе тры сябры камісіі былі палякамі. Такім чынам, палякі выступалі абвінаваўцамі і суддзямі ва ўзнятай імі справе, і таму ёсць усе падставы сумнявацца ў аб’ектыўнасці іхніх высноваў.

## Паміж молатам і кавадлам

Бучыс у згаданым лісце за 6 красавіка 1927 г. ва Усходнюю Кангрэгацыю піша, што калі Матулевіч быў біскупам Віленскім, «маючы ў сваёй дыяцэзіі некалькі сот тысячаў беларусаў, ён узяўся за пазнанне гэтага народа так, што вывучыў беларускую мову і здабыў вялікую любоў беларускага народа». Далей Бучыс працягвае: «Умацаваны такім глыбейшым знаёмствам, сьветлай памяці наш суперыёр (г. зн. Матулевіч. — *А. Н.*) прыйшоў да пераканання, што для навяртання расейцаў нашыя законнікі-беларусы могуць быць больш прыдатнай прыладай, чым нашыя браты якой-колечы іншай нацыянальнасці*. Таму, хоць наш закон меў ужо ў Польшчы навіцыят у Расне, архібіскуп Матулевіч з ласкавага дазволу Святога Пасаду заснаваў у Друі, што ў Віленскай архідыяцэзіі, іншы навіцыят, каб рыхтаваць беларусаў для іхняй адмысловай мэты» (*ad erudiendos alborussos ad finem eorum specialem*). Ліст сканчаецца наступнымі словамі: «Паколькі на 12 ліпеня г. г. скліканая і мае непазбежна адбыцца генеральная капітула нашага закону, каб абраць генеральнага суперыёра**, і на гэтай капітуле будуць разглядацца іншыя важныя справы, пытанне Друі і беларусаў напэўна стане прадметам дыскусіі. Дзеля вялікай важнасці гэтай справы з усёй пашанаю і паслушэнствам чакаю інструкцыяў ад Святой Усходняй Кангрэгацыі». Адрасаваны допіс кардыналу Луіджы Сінчэра, сакратару Усходняй Кангрэгацыі і старшыні Камісіі «Pro Russia».

Калі Бучыс складаў гэты ліст, Матулевіча ўжо не было сярод жывых: ён памёр 27 студзеня 1927 г. у Коўне. Яму не раз даводзілася супакойваць некаторых польскіх марыянаў, якія з трывогай

* «Profundiore haec cognitione munitus piae memoriae Superior noster persuasum habuit sodales nostros alborussos fieri posse ad convertendos russos instrumentum aptius quam confratres nostri cuiuscumque aliae nationis».

** Генеральная капітула (capitulum generale) — «агульны з’езд», які праходзіць раз на шэсць гадоў, каб абраць генеральнага суперыёра (кіраўніка) і раду і вырашыць справы, якія датычаць жыцця і дзейнасці закону. Генеральны суперыёр звычайна называецца генералам.

глядзелі на развіццё Друі. Аднаму з іх, Уладзіміру Якоўскаму, ён пісаў 19 красавіка 1926 г.: «У пытанні беларускім прашу не баяцца. Нашыя Польшчы напэўна не зашкодзяць. Яны галоўным чынам рыхтуюцца да місіяў у Расеі, чакаюць толькі зручнай хвіліны. Бог дасць яе хутчэй, чым спадзяемся. У Польшчы застанецца іх толькі некалькі, каб абслугоўваць парафію і рыхтаваць сілы для Расеі»*. У лісце да іншага польскага марыяніна Казіміра Бранікоўскага Матулевіч 11 верасня 1926 г. пісаў: «Калі ідзе пра Друю, дык справа вельмі далікатная і дражлівая, як Дарагі Айцец слушна заўважае. Ціску лепш не рабіць, а ейную развязку пакінуць часу… Я ўпэўнены, што з іхняй дзейнасці ў Друі не выйдзе нічога дрэннага. У Расеі, хай толькі дарога адчыніцца, нікому не будзе бракаваць поля для працы. Яны, як беларусы, напэўна лягчэй змогуць трапіць да праваслаўных беларусаў»**. Езуіт У. Флярыды прыводзіць у перакладзе на італьянскую мову ліст Матулевіча да «сваіх беларускіх духоўных сыноў у Друі» за 19 красавіка 1926 г., у якім гаворыцца: «Што датычыць будучай місіянерскай дзейнасці ў Расеі, я думаю пра яе і гавару… Будзьце спакойныя, адзін дзень вам прыйдзецца быць апосталамі; а тым часам рыхтуйцеся»***.

На першы погляд падобна, што Матулевіч меў датычна Друі планы, якіх не разгалошваў. Магчыма, пад Расеяй ён разумеў Савецкі Саюз, як гэта — свядома ці несвядома — рабілі многія на Захадзе. Як бы там ні было, цяжка паверыць, каб гэты ча-

---

* «O kwestję białoruską proszę się nie lękać. Nasi Polsce nie zaszkodzą napewno. Oni raczej szykują się na misje w Rosji, czekają tylko chwili sposobnej. Bóg ją da prędzej niż się spodziewamy. W Polsce zostanie ich może tylko kilku dla obsługi parafii i dla przygotowania sił do Rosji». (Matulewicz Jerzy. Listy polskie. Warszawa, 1987. T. I: Księża Marianie. S. 178).

** «Co się tyczy Drui, rzecz bardzo delikatna i drażliwa, jak słusznie Drogi Ojciec zaznacza. Nacisku lepiej nie robić, a rozwiązanie jej zostawić czasowi… Ufam, że z ich pracy w Drui nic złego nie wyjdzie. W Rosji, niech tylko droga się otworzy, pola nie zabraknie do pracy dla wszystkich. Oni, jako Białorusini, z pewnością łatwiej będą mogli trafić do Białorusinów prawosławnych» (Op. cit. S. 99–100). Варта прыгадаць, што праз тры гады, у 1929 г., Уладзімір Якоўскі быў сябрам скліканай Ялбжыкоўскім следчай камісіі ў справе Бародзіча, а Казімір Бранікоўскі на загад Бучыса ў пачатку 1930 г. праводзіў надзвычайную візітацыю ў Друі (гл. папярэдні раздзел).

*** U. A. Floridi. Il Servo di Dio G. Matulaitis e la conversione della Russia // La Civiltà Cattolica. III. Roma, 1957. P. 70.

лавек, вядомы святасцю свайго жыцця, мог панізіцца да таго, каб глядзець на які-колечы народ як «прыладу» для дасягнення сваіх мэтаў.

Ліст Бучыса ў Кангрэгацыю для Усходніх Цэркваў (або хутчэй у яе складовую частку, Камісію «Pro Russia») меў вырашальнае значэнне для будучыні Друйскага кляштара.

Генеральная капітула марыянаў прайшла 12–15 ліпеня 1927 г. у Вялёнах (Vileni) у Латвіі. На ёй Францішка Бучыса абралі генералам закону на шасцігадовы тэрмін. У пастановах капітулы выказвалася згода на тое, каб некаторыя марыяне прынялі ўсходні абрад.

Змена абраду рымскага (лацінскага) на ўсходні (грэцкі, або візантыйскі) магла мець толькі адну мэту: працу дзеля ўз'яднання праваслаўных і каталікоў у адной Царкве Хрыстовай. Ва ўмовах Беларусі гэтая праца мела асаблівы характар, бо сярод людзей яшчэ жыла памяць пра Уніяцкую, або Грэка-каталіцкую, царкву, зліквідаваную расейскімі ўладамі ў 1839 г. Шмат якія дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння падтрымлівалі думку ўзнавіць Унію, хоць яны зазвычай сыходзілі з нацыянальных, а не рэлігійных меркаванняў. Багата прыхільнікаў мела Унія і ў асяроддзі маладых беларускіх каталіцкіх святароў. Сярод іх вызначаўся а. Канстанцін Стаповіч, лепш вядомы як паэт Казімір Сваяк. Ён часта выказваў свае развагі на гэтую тэму ў газеце «Крыніца». Вось некаторыя з іх: «Беларусы пачуліся братамі без розніцы на абрад. А гэта найпершы шаг да Уніі. Думка аднэй Бацькаўшчыны Беларусі спалучае народ целам. Унія злучае душу народа. Няхай жа вольная самабытная Беларусь мацуе свайго духа, лучачы брата праваслаўнага і каталіка ў адзін народ, веры ў Бога адной, Царквы Хрыстовай адной, дзе ўсе роўнымі братамі звацца будуць»*. Сваяк у разуменні рэлігійнай свабоды і прыналежнасці да супольнасці Хрыстовае апярэджвае шмат якіх сваіх сучаснікаў: «Мы павінны ведаць, што рэлігійная супольнасьць злучаецца без прымусу, сілай самое ідэі, або ласкі Духа Сьвятога. Хто не жыве паводле яе наказаў, тым самым знаходзіцца ўжо за межамі духовага грамадзянства. І наадварот, хто нават не пішацца ў лічбе гэтай супольнасьці, а жывець па добрай волі і справядлівасьці — той належыць душой да Царквы Хрыстовай»**. Незадоўга да смерці ён піша: «І калі

* Krynica. № 2. Vilnia, 09.01.1921. S. 2.

** Krynica. № 4. Vilnia, 23.01.1921. S. 1.

сапраўды фармаваньне рэлігійнага складу душы нашае народнае мае штосьці арыгінальнага, дык гэта будзе не што другое, як Рэлігійнае Аб'яднаньне ўсходніх і заходніх абрадаў у адным сьветаглядзе <…>. Не дзіва, што калі цяпер разьлёгся поклік "Незалежная Беларусь" пад зглядам палітычна-сацыяльным, аўтаматычна душы людзей веруючых адгукнуліся і на голас "Рэлігійнае Аб'яднаньне" форм розных культаў нашай зямелькі: аб'яднаньне грэцкіх беларусаў з лацінскімі ў аднэй рэлігійнай сынтэзе: адна вера — розныя яе ўяўленьні. Факт значэньня вялізнага, тым большага, што не пойме яго палітычна завідны сусед, каторы мае нават нейкі жах перад гэткай ідэяй»*.

Аднак падзеі пайшлі не зусім тым шляхам, пра які марыў Сваяк. Перашкодаю сталі не толькі «завідныя суседзі». Пераслед рэлігіі бальшавікамі ў 1920-я гг. у Савецкім Саюзе выклікаў рэакцыю пратэсту на Захадзе. Адным з першых выступіў у абарону ахвяраў пераследу, незалежна ад іхняй рэлігійнай прыналежнасці, Папа Пій XI, з ініцыятывы якога разгарнулася акцыя дапамогі пацярпелым і галодным. Калі камуністы пачалі канфіскоўваць царкоўную маёмасць, Папа прапанаваў ім адкупіць яе, каб пасля вярнуць задарам законнаму ўласніку, г. зн. Расейскай праваслаўнай царкве. Як і варта было чакаць, бальшавікі на прапанову не згадзіліся. Але гэты прыклад бескарыслівай хрысціянскай салідарнасці выявіў толькі адзін бок складанага стаўлення Каталіцкай царквы да падзеяў у Савецкім Саюзе. Некаторыя царкоўныя дзеячы бачылі ў гэтай сітуацыі нагоду пашырыць уплыў Каталіцкай царквы на ўсход, углыб Расеі. На іхнюю думку, пасля хуткага правалу бальшавіцкага рэжыму — а ў гэтым яны не сумняваліся — Расейская праваслаўная царква будзе слабая і дэмаралізаваная, і для каталіцкай місіянерскай дзейнасці ў Расеі адкрыецца шырокае поле. Гэтыя спадзевы — у найлепшым выпадку іх можна назваць наіўнымі — падзяляў і Матулевіч. У лісце за 12.10.25 да а. Антона Зянкевіча ён пісаў: «І мне нешта шэпча, што трэба нам рыхтавацца да працы ў Расеі; што прыйдзе там час для місіянераў, а цяпер трэба падрыхтоўваць працаўнікоў»**.

Бясспрэчным кіраўніком і ідэолагам гэтага духоўнага «паходу на Маскву» стаў французскі езуіт, рэктар Папскага Усход-

* K. S. Tvorčymi śladami // Krynica. № 34. Vilnia, 09.08.1925. S. 5.

** Matulewicz Jerzy. Listy polskie. Księża Marianie. Warszawa, 1987. T. III. S. 168.

няга інстытута ў Рыме Мішэль Дэрбіньі (Michel d'Herbigny, 1880–1957). У 1922 г. ён зрабіў вялікае ўражанне на новаабранага Папу Пія XI, і з той хвіліны справа «навяртання» Расеі сталася галоўнай мэтай дзейнасці Дэрбіньі. У тым часе ўсе ўсходнія справы знаходзіліся ў кампетэнцыі Кангрэгацыі для Усходніх Цэркваў, дзе Дэрбіньі займаў спачатку сціплае месца дарадцы (*consultore*). У 1925 г. унутры Кангрэгацыі створаная адмысловая Камісія для Расеі (*Commissio pro Russia*). Афіцыйным старшынёй камісіі быў сакратар Кангрэгацыі (ад 1927 г. — кардынал Луіджы Сінчэра), але ні ў кога не ўзнікала сумневу, хто насамрэч кіраваў яе працай, асабліва пасля таго, як у 1926 г. Дэрбіньі стаў біскупам. У 1930 г., 6 красавіка, Папа зрабіў Камісію «Pro Russia» самастойнай установаю, падпарадкаванай непасрэдна яму. Старшынёй камісіі стаў Дэрбіньі. У яе кампетэнцыю — яшчэ нават да вылучэння з Усходняй Кангрэгацыі — уваходзілі ўсе справы, «якія датычаць расейцаў, як тых, што жывуць на роднай зямлі, гэтак і тых, што знаходзяцца на выгнанні, далёка ад свайго дому»*. Самая Расея заставалася для камісіі закрытай, таму ейная дзейнасць засяроджвалася на расейскіх эмігрантах у Заходняй Еўропе, Амерыцы і Кітаі. Камісія займалася таксама ўсімі справамі ўсходняга абраду ў Заходняй Беларусі і Украіне (за выняткам Галіччыны), што знаходзіліся ў межах Польскай дзяржавы. Відаць, жыхароў гэтых земляў таксама ўважалі за «истинно русских». Адно не зусім зразумела, у якую катэгорыю іх залічалі: тых, што жывуць на роднай зямлі, ці выгнанцаў… Улетку 1929 г. расейскі каталіцкі святар Віктар Рыхтар, які жыў у Францыі, наведаў Польшчу, каб «*познакомиться с жизнью русских католиков, населяющих восточную часть этой страны, на границах ея с Россией*». У сваім артыкуле ў расейскім каталіцкім часопісе «Благовестъ» ён піша пра такія «истинно русские» ўсходнекаталіцкія асяродкі, як Альбярцін, Ілля, Пінск, Бабровічы, Альпень, Далятычы і інш.**

Рэдактар польскай газеты «Kurier Wileński» Казімір Акуліч (падпісваўся псеўданімам Testis) так ацаніў дзейнасць Камісіі «Pro Russia» на заходнебеларускіх землях: «…тое, як вядзецца

* «quae ad Russos pertinent, sive ad eos qui in patrio solo degunt, sive ad eos, qui extorres procul domus versantur». Acta Apostolicae Sedis. XXII–4. 07.04.1930. P. 153.

** Рихтер Виктор. Русско-католическое движение в Польше // Благовестъ. Париж, 1930. № 1. С. 137–153.

акцыя ўсходняга абраду ў Польшчы, толькі ўзмацняе нашае перакананне ў ейным прарасейскім кірунку. У аснове гэтай акцыі ляжыць тэзіс пра культурна-палітычнае адзінства ўкраінцаў і беларусаў з Расеяй. Гэтая акцыя мае ў дадзеную хвіліну доступ толькі да народнасці ўкраінскай і беларускай, што жыве ў польскай дзяржаве. Навяртаючы іх на ўсходні абрад пры дапамозе людзей з "расейскімі перакананнямі", яна скіраваная на ўтварэнне асяродкаў для будучага пранікненьня ў глыб Расеі. Зразумела, што ў такім выпадку гэтыя асяродкі павінны дапасавацца культурна і псіхалагічна для гэтых будучых задачаў, г. зн. мець расейскі дух»*.

18 сакавіка 1932 г. кардынал Аўгуст Глёнд ад імя польскага епіскапату даслаў у Ватыкан мемарыял пра стан унійнай дзейнасці ў Польшчы. У ім закраналася пытанне залежнасці гэтай дзейнасці ад Камісіі «Pro Russia»: «Было б зразумела, калі б гэтая Папская камісія <…> займалася ў Польшчы расейскімі эмігрантамі, але нельга зразумець, чаму яна павінна кіраваць унійнай дзейнасцю сярод украінцаў і беларусаў у Польшчы, якія не маюць нічога супольнага з Расеяй»**. Дэрбіны ў сваім адказе, які пераслаў Глёнду кардынал Эўджэніё Пачэллі 24 траўня 1932 г., не даючы адказу на папрок польскага епіскапату, спрабуе скіраваць пытанне ў іншы бок. Ён тлумачыць, што назва «Камісія для Расеі» азначае ў сапраўднасьці «Камісія для далучэньня Расеі да Царквы (*Pro Russia Ecclesiae uniendа*)», і «у дадзеных абставінах зусім натуральна, што яна (г. зн. Камісія. — *А. Н.*) мае свае асяродкі і часткова праводзіць сваю дзейнасьць па-за межамі Расеі, як у Польшчы ці ў Эстоніі, Манчжурыі і г. д.».

Найважнейшым такім асяродкам быў заснаваны ў канцы 1924 г. кляштар айцоў езуітаў у Альбярціне каля Слоніма, або, згодна з надпісам на пячатцы, «*Восточная Миссія о.о. Іезуитовъ. Альбертинъ*». Надпіс шмат гаворыць пра характар і кірунак дзейнасці гэтай установы. Беларусы паставіліся да Альбярціна даволі насцярожана. Праз нейкі час альбярцінскія айцы зразумелі, што да беларусаў трэба звяртацца на іхнай роднай мове, але было ўжо запозна: шмат хто з беларусаў страціў да іх давер. Адзін альбярцінскі езуіт, беларус Антон Дамброўскі, пісаў 7 траўня 1931 г. у Амерыку а. Яну Тарасевічу: «Датычна да нашае беларускае працы, мала тымчасам мы можам зрабіць

---

* Kurier Wileński. Wilno, 11.02.1931. № 33.

** «non si vuol capire, che essa abbia a dirigere il lavoro unionistico tra gli ucraini e bianco-russi in Polonia, che non hanno niente da fare colla Russia».

дзеля недастачы айцоў беларусаў. Я заняты цалкам як магістр навіцыяту, другі беларус а. Неманцэвіч канчае (ці, лепш кажучы, паўтарае) езуіцкія навукі; а болей няма. Навучыўся добра па-беларуску а. Высакінскі, але ён мае 12 вёсак абслужыць як місыянэр. На жаль, да навіцыяту ўступае найменш з усіх народнасьцяў — беларусаў. Маім лятуценьнем — гэта заснаваньне беларускае каталіцкае гімназіі з добрым і танным інтэрнатам. Тагды толькі можна адрадзіць паступова ўвесь народ беларускі. Зрэштай гэта наша езуіцкая праца. Але калі гэта зьдзейсьніцца? Не менш як за 20 гадоў. Трэба сабе ўзгадаваць маладое манашае пакаленьне і то з пакончаным дзяржаўным унівэрсытэтам. Але езуіты маюць час. Мы не жывем адным годам, ані дзеля аднаго пакаленьня. Раз узяўшыся за працу, мы яе пастараемся давесьці да канца. У Богу надзея»*.

Згаданы ў лісце а. Маркел Высакінскі быў палякам, які навучыўся размаўляць па-беларуску, каб весці пастырскую працу сярод мясцовага насельніцтва на іхняй роднай мове. Яшчэ раней іншы польскі езуіт, а. Эдуард Войтчак, у адказе на апытальнік місійнага гуртка студэнтаў Пінскай духоўнай семінарыі, на якой мове трэба весці ўнійную працу сярод беларусаў, коратка адказаў 24 красавіка 1930 г.: «Беларуская мова неабходная і яе дастаткова. Расейская мова карысная, калі нехта хоча крыху пазнаёміцца з праваслаўнай багаслоўскай літаратурай; беларускай багаслоўскай літаратуры амаль няма».

У канцы 1931 г. вярнуўся ў Альбярцін а. Антон Неманцэвіч, які побач з пастырскай працай у Сынкавіцкай парафіі пачаў выдаваць у 1932 г. часопіс «Да злучэння». Польскія ўлады зачынілі яго ў 1937 г. На пачатку 1938 г. Неманцэвіч заснаваў новы часопіс, «Злучэнне», у якім, дарэчы, супрацоўнічаў іншы былы альбярцінскі малады беларус-езуіт, Вінцэнт Адамовіч. Варта прыгадаць, што падчас вайны мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі прызначыў а. Неманцэвіча беларускім грэка-каталіцкім экзархам. Немцы арыштавалі а. Неманцэвіча, і ён памёр у турэмным шпіталі ў Мінску на пачатку 1943 г.

Вельмі магчыма, што айцы езуіты прыехалі ў Альбярцін з памылковымі ўяўленнямі пра краіну і народ, які там жыве. Пазнаёміўшыся з мясцовымі абставінамі, яны змянілі думку. Альбярцінскія езуіты кіраваліся не палітычнымі меркаваннямі, а пастырскімі. За гэта яны мелі прыкрасці ад польскіх уладаў і нацыяналістычнай прэсы. Аднак ім не маглі нічога зрабіць,

* Арыгінал ліста ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.

бо ў сумнавядомым артыкуле XIX канкардата гаварылася пра забарону ўжываць іншую мову, апрача польскай, толькі ў лацінскім абрадзе, а пра ўсходні абрад там не было згадкі. Мусіць, Ялбжыкоўскі не хацеў усходняга абраду ў сваёй дыяцэзіі ў тым ліку і з гэтых прычынаў, бо, адрозна ад «лацiннікаў», ён не мог забараніць «усходнікам» карыстацца беларускай моваю.

Пры нагодзе варта згадаць езуітаў у Пінску, пра якіх а. Абрантовіч пісаў Цікоту 16 траўня 1928 г.: «Піша мне СК (Скірмунт Канстанцыя. — *А. Н.*) з Пінску, што езуіты тамтэйшыя бяруць ад яе “Хрысьціянскую думку” для сваіх клерыкаў (а маюць іх 65), хаця некаторых, а бп. Зыгмунт (Лазінскі. — *А. Н.*) сваім не пазваляе. Казаў мне Ясь Васілеўскі (рэктар Пінскай семінарыі. — *А. Н.*)*,* што прысылаюць 3 экз., але яны ў яго і астаюцца».

Адрозна ад альбярцінскіх езуітаў, многія ўніяцкія святары з праваслаўных вялі сваю працу на расейскай мове. Айцец Васіль Гапановіч, паходжаннем беларус, у адказ на апытальнік пінскага Місійнага таварыства ў справе мовы, пісаў у красавіку 1930 г. з Зэльвянаў каля Беластока: «*В Зельвянах все население русское, но говорит на местном наречии, представляющем смесь русского и белорусского. Слушает и понимает очень хорошо проповеди на языке русском*».

Яшчэ ў 1921 г. а. Адам Станкевіч пісаў пра каталіцкага ўсходняга святара расейца Трахіма Сямяцкага, які працаваў у Бельскім павеце, карыстаючыся выключна расейскай мовай: «Так пастаўленая справа Уніі ніколі на Беларусі не прымецца і ніколі не разаўецца, а каб і разьвілася, дык беларускаму народу ўсё роўна была б чужой і варожай»*. Гэтыя словы сталіся прарочымі што да дзейнасці Камісіі «Pro Russia». Рэч у тым, што яна не мела на мэце дабра беларусам: іх хутчэй выкарыстоўвалі як прыладу для іншай мэты. Свядомыя беларусы прынцыпова не маглі яе прыняць, а несвядомым было ўсё адно, хто іх русіфікуе.

Для палякаў Унія выглядала аднолькава непрымальнай як у беларускай форме, так і ў той, якую прапаноўвала Камісія «Pro Russia». Пра гэта выразна сказаў Станіслаў Мацкевіч, рэдактар польскай кансерватыўнай віленскай газеты «Słowo»: «Здаецца, што сярод тых, хто кіруе (унійнай) дзейнасцю на нашай тэрыторыі, існуе некаторае рознагалоссе, карыстацца больш мовай расейскай ці беларускай. З пункту гледжання польскіх інтарэсаў (*polskiej racji stanu*) гэта не мае амаль ніякага значэння. Заўсёды

* Krynica.Vilnia, 05.03.1921. № 9. S. 2.

будзе шкодна. Калі расейская мова — то будзем мець зусім не патрэбную і шкодную русіфікатарскую арганізацыю на нашых межах. Калі беларуская, то гэты ўсходні абрад станецца арганізацыяй беларускага сепаратызму, нечым падобным да народнай царквы. Прыклад грэка-каталіцкага абраду ў Галіччыне шмат гаворыць»*.

Газета «Słowo» фінансава залежала ад Віленскага земскага банка. Дырэктар банка Аляксандр Мэйштовіч у сваім часе ачольваў Кіраўнічую камісію Сярэдняй Літвы, якая ставіла сабе на мэце далучыць Віленшчыну («Сярэднюю Літву») да Польшчы. У сярэдзіне 1920-х гг., калі пачаўся наступ на Грамаду і ўсё беларускае, ён займаў пасаду міністра юстыцыі ў польскім урадзе. Сын Аляксандра, святар Валерыян Мэйштовіч, у 1926–1928 гг. быў сакратаром Ялбжыкоўскага. Таму ягоныя думкі пра ўнійную дзейнасць уяўляюць пэўную цікавасць. У артыкуле «Sprawy Unii Kościelnej» («Справы царкоўнай уніі») ён зазначае, што не будзе закранаць «найбольш плённага шляху да здабывання праваслаўных для царкоўнай еднасці, менавіта таго, якім ідуць каталіцкія святары лацінскага абраду, прымаючы праваслаўных да лацінскай каталіцкай Царквы». Калі ж ужо неабходна мець і ўсходні абрад, дык, пытаецца Мэйштовіч, «ці сапраўды трэба святару (каталіцкаму. — *А. Н.*), які ідзе ў хаты, нават праваслаўныя, на Слонімшчыне ці Случчыне, мова іншая, як польская, з нашым мясцовым адценьнем, і вопратка іншая, як сутана (г. зн. вопратка лацінскага ксяндза. — *А. Н.*)? Адказ на гэтае пытаньне можа мець істотнае значэньне для Каталіцкай царквы і Польшчы»**.

Некаторыя польскія каталіцкія святары, перакананыя ў вышэйшасці лацінскага абраду, ставіліся да Уніі і ўсходняга абраду не столькі варожа, як з паблажлівай усмешкай. Косаўскі дэкан Фелікс Драздоўскі пісаў а. Уладзіславу Талочку 18 снежня 1926 г.: «Кажаш, Уладак, што Унія — гэта стапрацэнтны каталіцызм. Ці ж я гэтаму пярэчу? Так яно і ёсьць. Нашая пачцівая плотка ёсьць стапрацэнтнай рыбай, але я ўпэўнены, што на Куцьцю хочаш лепш мець на стале судака, чым косьці і восьці плоткі <…>. Хай жа і мне будзе дазволена выбраць судака, хоць гэта зусім не перашкаджае мне верыць Венскім і Парыжскім іхтыёлагам, што, не вывучыўшы плоткі, нашыя веды пра рыбы

* Słowo. Wilno, 25.07.1931. № 168.

** Słowo. Wilno, 15.08.1930. № 186.

будуць няпоўнымі. Дзе ў вадзе водзяцца толькі ракі і жабы, там і плотка ў вялікай пашане».

Вялікі апостал народаў сьвяты Павал пісаў: «Праўду кажу, не маню, сьведчыць мне сумленьне маё ў Духу Сьвятым, што ў сэрцы маім маю вялікі сум і боль няспынны. Я жадаў бы лепш сам быць адлучаным ад Хрыста за братоў маіх, родных целам ізраільцянаў» (Рым 9, 1–4). Падобныя словы пра свой народ маглі б сказаць і беларускія сьвятары-адраджэнцы — Канстанцін Стаповіч (паэт Казімір Сваяк), Адам Станкевіч, Язэп Германовіч (паэт Вінцук Адважны), Уладзіслаў (Уладзімір) Талочка і іншыя. Для іх Унія была не толькі справаю таго ці іншага абраду, хоць абрадавае пытанне мела сваю важнасць, але і жыццёвай патрэбай, каб ацаліць раны душы беларускага народа, узнавіць ягоную еднасць не толькі вонкавую, палітычную, але і нутраную, духоўную. У гэтым яны не маглі знайсці разуменьня, а тым больш спагады і дапамогі ані ў Папскай камісіі «Pro Russia», ані ў польскіх сьвецкіх і духоўных уладаў. Калі ідзе пра камісію, дык даволі сумнеўна, ці наогул яна прызнавала існаваньне беларусаў як асобнай нацыі. З іншага боку, польскія ўлады імкнуліся пашырыць і ўмацаваць польскасьць на «крэсах» за кошт беларускага насельніцтва і перашкодзіць усялякім праявам беларускага нацыянальнага і рэлігійнага адраджэньня.

## Харбін, Харбін…

Як ужо згадвалася, у ліпені 1927 г. новым генералам марыянаў стаў летувіс Францішак Бучыс (1872–1951) — блізкі супрацоўнік Матулевіча і ягоны калега са школьных гадоў. Аднак, адрозна ад Матулевіча, які меў шырокі пастырскі досьвед, Бучыс быў перадусім навукоўцам. Ад 1902 да 1916 гг. ён займаў пасаду прафесара фундаментальнага багаслоўя, а ад 1912 г. — інспэктара (віцэ-рэктара) Пецярбургскай рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі. 1917–1921 гг. ён правёў у ЗША сярод летувіскай дыяспары. Вярнуўшыся ў незалежную Летуву, стаў прафэсарам, дэканам і нарэшце рэктарам Летувіскага нацыянальнага ўнівэрсытэта ў Коўне. Жывучы доўгі час у Пецярбургу, Бучыс захапіўся ідэяй «навяртаньня» Расеі. Гэтая думка не пакідала яго праз усё жыцьцё*. Калі паўстала Камісія «Pro Russia», Бучыс

* Ужо біскупам у лісьце да біскупа Падляскага Гэнрыка Пшаздзецкага ад 14 лістапада 1930 г. Бучыс піша: «Хоць Літва была пад расейскім ярмом 130 гадоў і хоць на працягу гэтага часу яна зазнала шмат болю,

адчуў у ейным кіраўніку свайго аднадумца, а Дэрбіны займеў паслухмянага памочніка.

Бучыс так ніколі і не ўсвядоміў, што беларусы — гэта асобная нацыя. Дарадца польскай амбасады ў Ватыкане Станіслаў Янікоўскі ў гутарцы з Бучысам 3 снежня 1930 г. звярнуў увагу на тое, што назва «Камісія для Расеі» не зусім адпаведная, бо гэтая камісія займалася справамі не толькі расейцаў, але таксама беларусаў, украінцаў і іншых. Бучыс у адказ заўважыў, што «беларусы і маларусы таксама расейцы. Гэта прызнавалі раней імператары (расейскія. — *А. Н.*) у пераліку сваіх тытулаў»*.

Друйскія марыяне наўрад ці ведалі пра погляды і намеры свайго новага генерала, калі пачалі думаць пра працу ва ўсходнім абрадзе. Неўзабаве пасля марыянскай генеральнай капітулы ў Вялёнах (гл. вышэй) айцец Цікота ў складзе беларускай групы ўзяў удзел у пятым Унійным кангрэсе ў Велеградзе 20–24 ліпеня 1927 г. У групу таксама ўваходзілі святары Антон Леваш, Францішак Чарняўскі, Язэп Рэшаць — усе тры былыя студэнты Папскага Усходняга інстытута ў Рыме, і два свецкія беларусы: Адольф Клімовіч і Францішак Грышкевіч. У жніўні а. Абрантовіч скончыў свой навіцыят і склаў законныя шлюбы. На ягонае месца распачаў навіцыят а. Францішак Чарняўскі, у якога праз ягоную беларускасць паўстаў канфлікт з Ялбжыкоўскім.

25 кастрычніка 1927 г. марыянская генеральная рада на пасяджэнні ў Рызе, на якім прысутнічаў а. Цікота, пастанавіла: «Трэба пры магчымасці як найхутчэй распачаць працу ва ўсходнім абрадзе. Два або тры святары Друйскага дома павінны перайсці на ўсходні абрад (*Duo aut tres sacerdotes domus Drujensis debent transire in ritum orientalem*). Перад пераходам яны павінны

---

я, аднак, прымаю на сябе ўсе абавязкі расейскага патрыёта <…>. Я сам доўга быў за мяжою, і таму сумяшчэнне патрыятызму прыроднага і набытага стала перад маім сумленнем як пытанне маральнае. Гэтае пытанне стаіць таксама перад місіянерамі, якія едуць у чужыя краіны не як супрацоўнікі захопнікаў, але як вестуны евангелля Хрыстовага. Такім быў св. Аўгустын у Англіі, св. Баніфацы ў Нямеччыне, св. Войцех у Прусіі, св. Гэнрык у Фінляндыі і вельмі шмат іншых. Дзякуючы таму, што гэтыя вялікія людзі добра адчулі, а можа і зразумелі свае абавязкі датычна народа, якому яны абвяшчалі Хрыста, гісторыкі гэтага народа залічылі іх да ліку ягоных найбольш карысных патрыятычных дзеячоў, хоць паводле нараджэньня яны да яго не належалі».

* «…les blanc russes et les petits russes sont pourtant russes. Les empereurs d’autre-fois le reconnaissaient dans la nomenclature de leurs titres».

атрымаць дазвол генеральнага суперыёра і, праз пасярэдніцтва Віленскага архібіскупа, згоду Апостальскага Пасаду».

У Друі ў тым часе было ўжо сем святароў. Згодна з вышэйпрыведзенай пастановай генеральнай рады, трох з іх вырашылі прызначыць для ўнійнай працы ва ўсходнім абрадзе. У лісце без даты да Бучыса (ён атрымаў яго 13 снежня 1927 г.), падпісаным Цікотам, Абрантовічам, Германовічам і Чарняўскім, падаваліся два магчымыя варыянты:

1. Цікота, Чарняўскі (пасля сканчэння навіцыяту) і нехта іншы са святароў;

2. Абрантовіч, Германовіч і Чарняўскі.

Бучыс ухваліў другі варыянт. Аднак не ўсе былі аднолькава перакананыя, што прыйшоў час пачынаць унійную працу. Галоўную перашкоду яны бачылі ў варожым стаўленні да ўсходняга абраду з боку польскіх уладаў, духавенства і грамадства. Таму Абрантовіч раіў не спяшацца і нічога не пачынаць без выразнага загаду Апостальскага Пасаду. Іншыя айцы, аднак, уважалі, што нельга адкладаць справу, бо, як пісалі яны ў лісце, «гісторыя сведчыць, што ў нашай краіне ніколі не будзе без цяжкасцяў; тым не менш, нягледзячы на цяжкасці, айцы езуіты ў Альбярціне каля Слоніма не без карысці працуюць ва ўсходнім абрадзе»*.

З тону ліста вынікае, што друйскія марыяне рыхтаваліся да працы ў Беларусі. Яны, відаць, таксама раіліся з іншымі святарамі. Айцец Уладзіслаў Талочка пісаў Цікоту 20 снежня 1927 г.: «Вельмі высока цаню вашага а. Генерала, але ці справа ўсходняга абраду была ў полі ягоных зацікаўленняў? У прыватнасці, ці ён займаўся гэтым прафесійна? *Трэба добра пачаць* (падкрэслена Талочкам. — *А. Н.*). Адразу на вас звернуць позірк вашыя ворагі і прыяцелі… Гэта будзе гістарычная хвіліна. Лепш нават рызыкаваць (вядома, высакародна) як псаваць. — Айцец Сліпый, рэктар са Львова, калі са мною зведваў праваслаўныя цэрквы, усюды жагнаўся і рабіў паклоны па-ўсходняму ў прысутнасці папоў, манахаў і манашак. Я чуў ад яго, што Кір Андрэй (Шаптыцкі. — *А. Н.*) нават Серафіма Сароўскага ўважае за сьвятога <…>. Ёсьць *цэлы* шэраг святых і пакутнікаў, мужчынаў і жанчынаў, якіх шануе, і то вельмі сардэчна, наш праваслаўны народ на Беларусі… Ці іх усіх трэба выкінуць, ці пакінуць? А як яны сустрэнуцца

---

* «Testante enim historia, difficultates in nostra regione numquam esse abfuturas et quidem, non obstantibus difficultatibus, patres Iesuitae in Albertyn ad Słonim, non sine profectu, in ritu orientali laborare».

ў *адной* царкве і на *адной* сцяне, напр., са св. Язафатам? А тым часам запушчайце паволі бароды. І пра вопратку думайце. Нашая сутана з капою гузікаў такая нявыгадная, калі ідзе пра тое, каб схаваць жывот, выдаецца не без слушнасці смешнаю для праваслаўных, якія прывыклі амаль ад нараджэньня да *шырокай* кашулі, шырокіх портак і г. д. Прадумайце ўсю справу *durch und durch* (усцяж і ўсцяж, г. зн. дакладна. — *А. Н.*)».

Аднак думаць не давялося: 21 снежня Абрантовіча выклікалі ў Папскую нунцыятуру ў Варшаве, дзе 23 снежня яму прапанавалі ўзначаліць «ардынарыят» усходняга абраду для расейцаў у Кітаі з цэнтрам у Харбіне. «Ардынарыят» азначае прыблізна тое самае, што епархія, і на чале яго звычайна стаіць біскуп. У тым часе ў Кітаі жыло вельмі шмат расейцаў. У адным Харбіне на паўмільёна жыхароў іх налічвалася больш як сто тысячаў. Расейская праваслаўная зарубежная царква мела там аднаго архібіскупа, двух біскупаў і больш як 250 святароў. Такі вялікі расейскі асяродак у свабодным свеце (а Кітай тады быў яшчэ свабодным) не мог не прыцягнуць увагі Папскай камісіі «Pro Russia», ва ўлонні якой і нарадзілася думка заснаваць расейскую каталіцкую епархію, тады адзіную ў свеце. Безумоўна, на чале епархіі мусіў стаяць чалавек, якога б расейцы прызналі за свайго. Відаць, у Рыме палічылі Абрантовіча найбольш адпаведным кандыдатам на гэтую пасаду. Праз некалькі гадоў адзін расейскі каталіцкі святар пісаў пра яго: «*…о. Архимандрит Фавиан Абрантович… большой друг России, наш сородич по крови (о. Фавиан — белорусс), знаток русской культуры и, что самое главное, русской души*»*.

Як відаць з ліста Абрантовіча да Бучыса ад 7 студзеня 1928 г., першы раз ён атрымаў прапанову ехаць у Харбін на пачатку 1926 г., яшчэ ў Пінску. Адной з умоваў быў пераход на ўсходні абрад. Узгадаваны ў рымскім абрадзе, Абрантовіч не меў ахвоты яго мяняць. Таму тады ён згадзіўся на змену абраду ўмоўна, на час выканання сваіх абавязкаў (*durante munere tantum*). У лісце да Бучыса ён піша: «Першы раз (у Пінску) я прыняў гэты крыж з захаваннем за сабою права вярнуцца да лацінскага абраду (*Prima vice [in Pinsk] accepi hanc crucem cum reservatione mihi iuris revertendi ad ritum latinum*)». Дый наогул ён, відаць, не вельмі жадаў ехаць у Маньчжурыю. Магчыма, гэта таксама паўплывала на ягонае канчатковае рашэнне ўступіць у Друю. Можа, яму б

* Д. Колпинский. В Китае // Китеж. Варшава, 1929. № 4–8. С. 58.

удалося схавацца, каб не вышэйзгаданы ліст Бучыса да Усходняй Кангрэгацыі, у якім той пісаў пра беларусаў як пра найлепшую прыладу для «навяртання» расейцаў. Крыху больш як праз месяц, 27 траўня 1927 г., Бучыс атрымаў сакрэтны апытальнік наконт Абрантовіча, «якога прапануюць кандыдатам на годнасць прэлата для расейцаў бізантыйскага абраду ў Харбіне, за межамі Польшчы»*. Фраза «за межамі Польшчы» гучыць дзіўна, калі ўлічыць, дзе знаходзіцца Польшча, а дзе Харбін. Відаць, камусьці было вельмі істотна, каб Абрантовіч ніколі не займаў вышэйшай царкоўнай годнасці ў Польскай дзяржаве. Бучыс у лісце да Абрантовіча ад 18 красавіка 1929 г., калі той ужо знаходзіўся ў Харбіне, піша: «Дарагі Айцец не разумее, нашто яго паслалі ў Харбін. Іншыя не разумеюць, чаму архібіскуп Карэвіч і а. Мажонас, абодва марыяне, ствараюць усходнюю ерархію ў Летуве**. Ёсць нават такія, што жадаюць няўдачы як Харбіну, так і Коўну. Да ліку незадаволеных, як мне здаецца, належыць адзін з тых, хто хацеў паслаць Найдаражэйшага Айца як мага далей ад Друі і толькі дзеля таго падтрымаў Вашую кандыдатуру <…>. Не я быў аўтарам праектаў Харбінскага і Ковенскага, але і не супрацiўляўся <…>. Я даў сваю згоду, бо ёсць рацыя ў гэтым мерапрыемстве, хоць не маю права гэтай рацыі казаць».

Так адказаў Бучыс на ліст Абрантовіча ад 3 красавіка 1929 г., у якім той пісаў: «Дзіўныя сапраўды людзі <…> паслалі, самі не ведаючы, што тут ёсць <…>, грошай, ані інструкцыяў не далі, не акрэслілі максімальных і мінімальных межаў, у лістах не перасцераглі <…>, кажуць існаваць у самай бязглуздай сітуацыі, на крэдыт ужо 4-ы месяц…» Далей ён працягвае: «Прызнаюся, мяне мала абыходзіць, нашто мяне паслалі ў Харбін… *Quo ibo a spiritu Dei et quo a facie ipsius fugiam!!…*» (куды пайду ад Духа Божага і куды ўцяку ад Ягонага аблічча)***. Зрэшты, Абрантовіч добра разумеў, чаму ён трапіў край свету, і не меў патрэбы ў Бучысавых «рацыях». Таму пры канцы ліста ён робіць такія

---

* «che é proposto quale candidato alla Prelatura dei Russi di rito bizantino in Harbin, fuori della Polonia».

** Сапраўды, марыяне ў Летуве ў 1920-я гады намагаліся стварыць усходні асяродак дзеля «навяртання» Расеі. Іхнія намаганні засталіся без выніку. Уладзіслаў Мажонас («иеромонах Владимир») ад 1934 да 1938 г. быў у Харбіне.

*** Гл. Пс 139, 7 (паводле Вульгаты): «Quo ibo a spiritu tuo? et quo a facie tua fugiam?»

высновы на трох мовах: «*Где есть люди есть и людоедство… Это «coté humain» de l'Église* (людскі бок Царквы). *И ничего не поделать, но Boh Baćka!*»

Бучыс замоўчвае прозвішча таго, хто падтрымаў кандыдатуру Абрантовіча, і можна толькі рабіць здагадкі наконт гэтай асобы. Цікота ў лісце да Абрантовіча ад 29 ліпеня 1928 г. піша, што Ялбжыкоўскі сказаў яму: «Ofiarujcie się dla nawrócenia Rosji (ахвяруйце сябе для навяртання Расеі)». Найбольш верагодна, ён і падтрымаў кандыдатуру Абрантовіча і такім чынам забіў адным стрэлам двух зайцоў: аслабіў Друю і пазбыўся аднаго з найбольш выдатных прадстаўнікоў беларускага каталіцкага духавенства.

Пра тое, хто высунуў кандыдатуру Абрантовіча ў Пінску ў 1926 г., можна таксама толькі здагадвацца. Пасля таго, як рэктарам семінарыі стаў вядомы сваімі «эндэцкімі» поглядамі паляк Вітаўт Івіцкі, склалася даволі няёмкая сітуацыя. Усе разумелі, што прызначэнню Абрантовіча на гэтую адказную пасаду перашкодзіла толькі ягоная беларуская нацыянальнасць. Магчыма, нехта, каб знайсці выйсце з прыкрага становішча, шапнуў, каму трэба, што лепшага за Абрантовіча кандыдата ў Харбін Камісія «Pro Russia» не знойдзе. Абрантовіч сам адчуваў, што ў Пінску яму не было месца. Цікава, калі ён канчаткова наважыўся ўступіць у Друйскі кляштар: перад тым, як атрымаў першую прапанову ехаць у Харбін, ці пасля? Зрэшты, так ці інакш, вынік атрымаўся той самы.

Прызначэнне Абрантовіча ў Харбін было вялікім ударам для Друі. Цікота пісаў Бучысу 7 студзеня 1928 г.: «Што датычыць Ф. Абрантовіча, пакідаем усю справу Богу і Дарагому Айцу. Гэтая справа вельмі балючая для нашага кляштара і для Царквы ў нашых мясцінах. Нас так мала, і ад нас яшчэ адбіраюць (*Tam pauci sumus et adhuc orbamur*)».

3 студзеня 1928 г. пакінуў Друю а. Францішак Чарняўскі. Ён пасля казаў, што не хацеў, каб і яго аднаго дня паслалі ў Харбін. У згаданым лісце да Бучыса Цікота піша пра Чарняўскага: «Чарняўскі добраахвотна пакінуў навіцыят. Законнае жыццё яму было вельмі цяжкім. У яго няма духу пабожнасці, паслушэнства і сціпласці; ён мае нахіл да свецкага жыцця і бывае неасцярожны ў размовах з жанчынамі». Некалькі тыдняў раней, калі Чарняўскага рыхтавалі да адказнай працы ва ўсходнім абрадзе, ніхто не заўважаў у ім ніякіх асаблівых заганаў: яны выявіліся раптам, як толькі ён пакінуў кляштар…

Такім чынам, з трох кандыдатаў на працу ва ўсходнім абрадзе Друя страціла двух. Застаўся а. Язэп Германовіч, але пачынаць самому працу яму было не па сілах. Цікота пісаў Бучысу: «Застаецца нам рыхтавацца да гэтай працы ў будучыні, пакінуўшы Богу Найлепшаму і Найвышэйшаму, калі Ён захоча сярод нас паклікаць да жніва іншых працаўнікоў»*. Іншымі словамі, справа ўсходняга абраду адкладалася на нявызначаны час.

Бучыс адрэагаваў зусім іначай. У лісце ад 14 студзеня 1928 г. да Абрантовіча ён піша: «Я пранcorrect вялікай радасцю ад Твайго ўзвышэння да біскупства і віншую (*Maximo gaudio afficior propter elevationem Tuam ad episcopatum et congratulor*) <…>. Друйскі кляштар пацерпіць у найбліжэйшым часе вельмі значную шкоду, якую, аднак, трэба прыняць з радасцю і (якая) пасля некаторага часу прынясе гэтаму кляштару большую карысць, і будзе радасць большая за смутак».

Язэп Германовіч не збіраўся пакідаць думкі працаваць дзеля аднаўлення Уніі ў Беларусі, хоць у змененых абставінах яна мусіла прыняць іншы выгляд. Ён напісаў 7 студзеня Бучысу ліст па-беларуску, дзе між іншым кажа: «Я дужа дзякую за выбар і мяне да працы місыйнай усходняй. Але посьле адарваньня ксяндза Абрантовіча ад нашага краю і посьле выступленьня кс. Чарняўскага, да гэтай працы на Беларусі астаюся адзін я. Маю ў Богу надзею, што, добра прыгатаваўшыся, не буду ў гэтым дзеле бескарысным. Гэта прыгатаваньне разумею так: належала б выслаць мяне на Ўсходні Інстытут у Рым. Там, мне здаецца, я мог бы і сам вучыцца і пісаць у роднай мове, падгатаўляючы для другіх і для сябе хоць малую частку самага неабходнага літаратурнага матар’ялу. Ужо і цяпер езуіты і іншыя дамагаюцца элемэнтарных падручнікаў рэлігійнага зьместу, ды ў беларускай мове няма блізу анічога. Калі наш беларускі дом возьме ўдзел у працы ўнійнай, а я думаю, што павінен, дык толькі пасылаючы мяне <…> можна было б да гэтай мэты крыху прыблізіцца. Бо ксяндза Цікоту выслаць з Друі не можна, а іншых адпаведнейшых кандыдатаў цяпер няма. Да пісаньня, паводле суду людзей кампэтэнтных, я маю здольнасьці. Думаю, што разьвіваючыся далей, я мог бы быць карысным для Касьцёла. Калі б Бог дазволіў, па загаду старэйшых, прыгатаваўшыся належна, я жадаў бы стаць і да чыннай місыйнай працы».

* «Restat ergo, ut nos at hunc laborem in futuro aggrediendum se preparemus, Deo O. M. relinquendo, quando ceteros nostrum ad messem suam vocare vellet».

Прапанова Германовіча засталася без адказу. Затое, калі наблізіўся час ад’язджаць Абрантовічу, Бучыс вырашыў, што ён не павінен ехаць без супрацоўніка. Няцяжка здагадацца, каму належала стаць гэтым супрацоўнікам. Каб падсаладзіць горкую пілюлю, Бучыс аб’явіў, што Германовіч у Харбіне будзе займацца працай сярод… беларусаў, пра якіх там ніхто не чуў. Тут ужо друйскія марыяне абурыліся. Цікота пісаў 3 ліпеня 1928 г. Бучысу: «Хоць страта Фабіяна Абрантовіча вельмі балючая для нашага кляштара і краіны, аднак мы ўжо былі да яе гатовыя; нас усіх ашаламіла пакліканне (да працы ў Харбіне. — *А. Н.*) Язэпа Германовіча, і то з многіх прычынаў. Абодва гэтыя святары рыхтаваліся да працы сярод праваслаўных, але ў нашай краіне: ніколі не было гутаркі, каб Я. Германовіч рыхтаваўся да “далёкай дарогі”. Нам усім, не выключаючы Абрантовіча і Германовіча, здаецца, што ён (Германовіч. — *А. Н.*) найменш падрыхтаваны і здатны да працы сярод людзей, да якіх пакліканы Абрантовіч <…>. Фабіян Абрантовіч мае перад вачыма святара той самай нацыянальнасці, што і ягоныя будучыя прыхаджане*, які ведае добра ўсходні абрад і шмат моваў і жадае быць супрацоўнікам Абрантовіча, калі Апостальскі Пасад ласкава на гэта дазволіць».

Крыху пазней, 29 ліпеня 1928 г., Цікота пісаў Абрантовічу: «В. Айцу Генералу здаецца, што Айцец святы Кангрэгацыю нашу прабуе <…>, забіраючы цябе, — і вось чаму мы не павінны ўпірацца. А мне здаецца, што гэта занадта прафесарская тэорыя <…>. Далей, мне здаецца, што Дэрбіны кс. Германовіча саўсім не патрабуе, а што Айцец Генерал сам хацеў бы паслаць двух. З думкай, каб двух пасылаць, я саўсім згаджаюся <…>. Але гэта не значыць, што вы адразу маеце ехаць удваіх <…>. Калі б можна было мець надзею, што залажыўшы дом наш, будуць кандыдаты з мясцовых людзей і што дом марыянаў расейцаў мог бы быць заложаны <…>, дык тады дадзім і Германовіча, або каго другога. Але калі там мае быць дом марыянаў падтрымоўваны сіламі друйскімі — а так думаюць палякі, бо я не іначай разумею словы Я. Э. Арц. Віленскага (Ялбжыкоўскага. — *А. Н.*): «Ofiarujcie się dla nawrócenia Rosji» (ахвяруйце сябе для навяртання Расеі), — то я думаю, што мы да гэтай ахвяры не абавязаны і Бог ад нас яе не вымагае. Хіба ж нас выкінуць з Друі сілай, дык паедзем усе ў Кітай». З гэтых словаў відаць, што Цікота добра разумеў, якія сілы стаялі за Харбінскім праектам і чым ён пагражаў Друі.

---

* Абрантовіч прасіў даць яму памочнікам расейскага каталіцкага святара Дыядора Колпінскага, які тады жыў у Польшчы.

У сувязі са спробаю выслаць Германовіча ў Харбін зноў выплыла на паверхню пытанне: дзеля якой мэты насамрэч заснаваная Друя? Вось што пісаў Абрантовіч 6 жніўня 1928 г. з Рыма Цікоту: «Айцец Г(енерал) хацеў, каб Г(ермановіч) ехаў у Х(арбін) дзеля беларусаў, а разам дзеля таго, каб мы паказалі Рыму праўдзівасць абятніцы Нябошчыка (г. зн. Матулевіча. — *А. Н.*), што толькі беларусы (ні л[ітоўцы] ні п[алякі]) навернуць Расею». За тыдзень да ад’езду, 17 жніўня, ён піша зноў: «Паводле св. пам. Юрага (Матулевіча. — *А. Н.*) Расеі не наверне ні Польшча ні Літва, але Беларусь — Друя, якую ён дзеля гэтага залажыў. Друя павінна апраўдаць надзеі, на яе ўзложаныя, інакш не мае сэнсу існавання, яе зачыняць. Дзеля гэтага трэба, каб нас двох ехала ў Харбін. Г(ермановіч) будзе арганізаваць беларусаў. Калі б мы ўперліся ды не паехалі з Друі — Аман па нас! Так, больш-менш, гаварыў мне А(йцец) Ген(ерал) на ад’езным».

Паміж польскім епіскапатам і Камісіяй «Pro Russia» ніколі не было вялікай любові, але ў справе Друі яны знайшлі супольную мову. Палякі хацелі знішчыць або прынамсі аслабіць Друю, пазбавіўшы яе найбольш выдатных святароў, каб не перашкаджалі паланізацыі беларусаў праз Царкву. З іншага боку, Камісію «Pro Russia» лёс беларусаў і іхнія духоўныя патрэбы ніколі не цікавілі. Для яе Друя існавала толькі дзеля «навяртання» Расеі. Словы Бучыса, маўляў, калі Друя не апраўдае ўскладзеных на яе спадзяванняў, то яе зачыняць, гучаць як шантаж. Такім чынам, высылка беларусаў у Харбін задавальняла ўсіх, апрача саміх беларусаў. Але з імі ніхто не лічыўся.

Гэтым разам удалося Германовіча абараніць, але ягоная справа толькі на некаторы час прыціхла.

Бучыс, як відаць з ягонага ліста ад 14 студзеня (гл. вышэй) не сумняваўся, што Абрантовіч будзе біскупам. Таксама думалі і іншыя ягоныя знаёмыя. Сам Абрантовіч пісаў Цікоту 16 траўня 1928 г.: «Дачка п. Сушынскага пісала мне з Варшавы, што чула весьці, быццам мяне маюць біскупам усходнім зрабіць». Але сталася інакш. У лісце ад 27 ліпеня ён паведамляў: «А. Енэрал у кепскім настроі… Аб маёй справе казаў учора: “Згаджайся на ўсё, хоць многа абяцалі, але мала даюць”. Я — неяк так сабе!» Як мала далі, відаць з ягонага ліста ад 17 жніўня: «Калі здароўе пазволіць, 24.8 сядаю ў Марсыліі на “Сфінкса”, каб 28.9 вылезці ў Шанхаі, і жалезьніцай шукаць у Пекіне Дэлегата Апостальскага на Кітай, і ехаць у Харбін, дзе буду пробашчам і ардынарыем рускіх у Кітаі. Прывілеі архімандрыта. Нешта перарobленае, з

чаго няласкаў на’т і наш а. Ген(ерал) — але хай гэта ўсё будзе Богу на ахвяру». Архімандрыт — тытул кіраўніка вялікага манастыра. Часам ён даецца іншым, але ў такім выпадку ён чыста ганаровы, без асаблівых прывілеяў ці правоў. Такое заканчэнне справы з біскупствам Абрантовіча не прыйшлося неспадзеўкай для Цікоты. У згаданым вышэй лісце ад 29 ліпеня ён пісаў: «Дагадваюся тож з разгавору, што ты пакуль што маеш быць архімандрытам, а не біскупам, і гэта мне не навіна. Як бачыш, усё ўжо старое». Затое ў іншых гэтая вестка выклікала разгубленасць. Айцец Талочка пісаў Абрантовічу з Вільні 1 жніўня: «Сёньня Андрэй даручыў мне ліст ад архібіскупа Фр. Кар(эвіча), у якім ён паведамляе пра далейшы лес Айца. Я шчыра засумаваў, бо весткі непамысныя: архімандрыт і — Харбін! Гэта ж *promoveatur ut amoveatur* (павышаюць, каб пазбыцца)! <…> Чыя гэта выдумка? Безумоўна, хай Бог памагае! <…> Віншую. Можа, нешта зменіцца. Дай, Божа! *Подай, Господи!*» Узвышэнне беларуса Абрантовіча да біскупскай годнасці не ўваходзіла ў планы тых, хто хацеў яго бачыць як найдалей ад Беларусі*.

Тым часам у Беларусі магчымасцяў для ўнійнай працы было даволі. Вялікая ўніяцкая парафія ў Далятычах каля Наваградка мела патрэбу ў святару. Сам Абрантовіч пісаў Цікоту 31 сакавіка 1928 г.: «Далятычы прападаюць. Каб мы маглі ўзяць, Біскуп (Лазінскі. — *А. Н.*) бы нам даў». Але ўжо праз месяц, 28 красавіка, ён піша ў іншым духу: «Пішы да Эксц. Лазінскага, што мы, каб і ўзялі Далятычы, то не можам гэтага раней зрабіць як за паўгода, бо ж мусім паразумецца з Генералам нашым, навучыцца абраду *etc*., а мо, як надумаемся, то і саўсім не возьмем». Пакуль друйскія марыяне думалі, у Далятычы атрымаў прызначэнне іншы святар, а. Ян Панько. Таму дзіўна гучаць словы Абрантовіча, які пісаў з Харбіна 6 красавіка 1930 г.: «Чаму ж вам не далі Далятыч? Ужо ў адным гэтым ясная “пабожная палітыка”, горшая ад яўнага праследавання. Дык ці ж вы не чуеце, не бачыце?» У гэтым самым лісце ён не раіць ехаць у Пінск, куды запрашалі

---

* Наколькі пашыраным было перакананне, што Абрантовіч меўся стаць біскупам, сведчыць хоць бы зацемка, змешчаная ў «Хрысціянскай думцы» ўжо тады, калі той плыў караблём у Кітай: «Шырока ведамы ксёндз беларус пралат прафэсар др. Ф. Абрантовіч з закону айцоў марыянаў у Друі, як пісала Ватыканская газэта “Osservatore Romano” і нямецкая каталіцкая “Augsburger Postzeitung”, св. Айцом назначаны на біскупскі пасад у Харбін (Манчжурыя)» (Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 15.09.1928. № 15. S. 3).

друйскіх марыянаў*: «П(інска) не бярыце таму, што там няма чаго рабіць, будзеце звязаны за рукі і ногі праз тых, што вас прызываюць, рускія і палякі будуць вашымі ворагамі, беларусаў свядомых няма, говару мясцовага не знаеце, разаб'ецеся ў Друі і аслабнеце і т. д.».

Глыбоцкі дэкан Антон Зянкевіч пісаў 23 ліпеня 1928 г. а. Талочку пра ўніяцкую парафію ў Мікалаеве каля Дзісны: «Пішу да Друі пра Мікалаева, яны ж маюць яшчэ аднаго ўсходніка, можа там яго асадзяць». Пад «усходнікам» Зянкевіч меў, напэўна, на ўвазе Германовіча, які рыхтаваўся да працы ва ўсходнім абрадзе. Сам Германовіч пісаў 3 жніўня 1928 г. Абрантовічу: «Тут кс. Зянкевіч стараецца для Друі васточную парафію ў Мікалаеве каля Дзісны. Але мусіць так дадуць, як і Беразьвеч!» Талочка зрабіў на лісце Зянкевіча зацемку, у якой назваў адмову марыянаў узяць Мікалаева «*peccatum omissionis* (грэх пропуску) Друі».

У канцы 1930 г. засталася без святара ўніяцкая парафія ў вёсцы Ілля ў Вілейскім павеце. Айцец Талочка пісаў Бучысу 20 студзеня 1931 г.: «Архібіскуп мае намер запрапанаваць айцам марыянам адну ўсходнюю парафію па а. Сулкоўскім. Было тут за часоў а. Сулк(оўскага) 19 хростаў і 20 шлюбаў, дык трэба ратаваць, каб парафія не засталася страчанаю, як зніклі ўжо ў нас пачаткі парафіяў у Мікалаеве, Паставах…». Праз дзевяць месяцаў, 12 кастрычніка, ён паведамляў: «Ілля пустуе, а *pusillus grex* (маленькі статак) расцерушыўся».

Далятычы, Пінск, Ілля, Мікалаева, Паставы — столькі страчаных магчымасцяў працы ў Беларусі! Тым часам друйскія марыяне едуць у Харбін «навяртаць» расейцаў…

Тут неабходна прыгадаць адну справу, якая мае непасрэднае дачыненне да тэмы гэтай працы. У 1917 г. княгіня Магдалена Радзівіл ахвяравала на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме брыльянтавае кальне. Адным са святароў, якому яна даручыла гэтую справу, быў Фабіян Абрантовіч. Перад тым, як пакінуць Пецярбург пасля прыйсця бальшавікоў да ўлады, Абрантовіч здолеў надзейна схаваць каштоўнасць. У 1924 г. ён паехаў у Пецярбург дыпламатычным кур'ерам і вывез адтуль калье ў Польшчу, дзе прадаў яго за 15 тысячаў амерыканскіх даляраў. Большую частку гэтых грошай ён пазычыў біскупу Лазінскаму на пабудову семінарыі ў Пінску. За рэшту ён купіў

* Цікота пісаў Бучысу 21 кастрычніка 1929 г.: «Што будзе і калі будзе дом у Пінску, яшчэ невядома, але аа. Германовіч і Дашута рыхтуюцца».

маёмасць у Наваградку. У 1926 г. Абрантовіч уступіў у марыяны ў Друі. Увесну 1927 г., яшчэ ў навіцыяце, ён склаў «тастамент», згодна з якім усе грошы, пазычаныя Лазінскаму, а таксама маёмасць у Наваградку пераходзілі ва ўласнасць друйскім марыянам. Маральны аспект гэтага ўчынку, відаць, ні яго, ні астатніх зацікаўленых асобаў не вельмі турбаваў. Тым часам пра кальє даведаліся іншыя і таксама заявілі на яго свае правы. Абрантовіч мусіў напісаць княгіні Радзівіл, якая тады жыла ў Нямеччыне, распавесці ёй пра ўсё, што зрабіў, і спытацца, ці добра ён паступіў. Княгіня ў лісце ад 17 сакавіка 1927 г. адказала, што дар прызначаўся «выключна на карысць Беларусі, а галоўным чынам для Грэка-каталіцкай царквы. Скарыстаць яго для іншай мэты было б выразным прысваеннем чужой (г. зн. грэка-каталіцкай, беларускай) уласнасці. Мараю гэтай асобы (ахвярадаўцы. — *А. Н.*) было заснаваць у Рыме ўніяцкую калегію». Княгіня Радзівіл ведала Абрантовіча і давярала яму. Можна ўявіць ейныя пачуцці, калі праз чатыры гады, у 1931 г., яна даведалася, што Абрантовіч зрабіў з кальє, як хацеў, не палічыўшыся з ейнай воляй. Абрантовіч знаходзіўся ўжо тады ў Харбіне, і таму яна звярнулася да Бучыса, патрабуючы або вярнуць грошы, або выкарыстаць іх згодна з воляй ахвярадаўцы. Бучыс цынічна падзякаваў «Найшаноўнейшай пані княгіні за такія шчодрыя дары для нашага сціплага закону» і паспрабаваў пераканаць яе, што ўсё рабілася згодна з патрабаваннямі канстытуцыяў закону марыянаў і кананічнага права. Ён раіў ёй не настойваць на сваіх дамаганнях, каб пазбегнуць «непатрэбных судовых выдаткаў, бо абавязак Марыянскай галоўнай рады, а таксама і мой — трымацца праўных нормаў, якія абавязваюць у Каталіцкай царкве, што я і раблю». Адказ княгіні быў кароткі і дарэчны: «Права кананічнага не ведаю, але ў жыцці бачыла шмат ашуканцаў, якіх спрытны габрэй-адвакат ратаваў ад катаргі пры дапамозе перакручаных на розныя лады тэкстаў Кодэксу. Для мяне і для многіх асобаў, якім я расказала пра паводзіны аа. Абрантовіча і Цікоты, справа, бачная ў святле сёмага прыказання, ёсць яснаю. Наогул, учынак, які патрабуе для доказу сваёй нявіннасці доўгіх і вытанчаных тлумачэнняў, ёсць падазроны. Людзі сумленныя не маюць патрэбы ў красамоўных аргументах».

13 лістапада 1931 г. Бучыс пісаў Абрантовічу ў Харбін: «З продажам дому ў Наваградку могуць быць цяжкасьці. Княгіня дамагаецца звароту ўсяго, што яна дала Вялебнаму Айцу, кажучы, што (ейная) ахвяра была выкарыстаная не на тую мэту».

Тым не менш дом у Наваградку пайшоў на продаж. У лісце за 14 чэрвеня 1933 г. намесніку генерала марыянаў Казіміру Бранікоўскаму ў Рым айцы Цікота, Хамёнак і Смулька пісалі: «Мы чакалі купца некалькі гадоў, і той, хто яго купіў за параўнаўча малую цану, хацеў зусім адрачыся». За грошы, атрыманыя ад продажу наваградскай маёмасці, вырашылі купіць дом у Вільні, які «не толькі будзе служыць памешканнем для нашых студэнтаў, але і даваць нам сталы даход (ад кватарантаў. — *А. Н.*), без якога Друя не зможа існаваць». Увосень 1935 г. у навакупленым доме па вуліцы Жыгімонта, 24 пасяліліся друйскія студэнты-клерыкі, якія праходзілі ўніверсітэцкі курс навучання ў падрыхтоўцы да святарства. У 1938 г., калі беларускіх марыянаў выселілі з Друі, у студэнцкім доме ў Вільні пачалі гаспадарыць палякі.

Сярод беларусаў хутка распаўсюдзіліся чуткі, што дом у Вільні набыты за грошы, якія ахвяравала княгіня Радзівіл беларускім марыянам. У траўні 1940 г. у газеце «Крыніца» з’явіўся артыкул з патрабаваннем вярнуць беларусам віленскі марыянскі дом, «дзе і далей чамусьці галоўную скрыпку іграюць палякі». Аўтар абгрунтоўваў дамаганні тым, што «Дом марыянскі ў Вільні куплены за беларускія грамадскія грошы. Падарыла іх княгіня М. Радзівіліха, празначаючы іх на беларускія каталіцкія культурныя справы. Тым часам у гэтым доме праводзіцца польская работа, а беларускія грамадскія ўстановы <…> мусяць сабе наймаць і плаціць грошы»*.

Так нарадзілася легенда пра «дар княгіні Радзівіл беларускім марыянам». Яе паўтарылі амаль усе пазнейшыя аўтары, якія пісалі пра Друю**.

---

* M.K. Čas napravić kryŭdu // Krynica. Vilnia, 10.05.1940. № 37. S. 1.

** Вось галоўныя працы, у якіх згадваецца «дар княгіні Радзівіл беларускім марыянам»: Сіповіч Ч. Айцец Архімандрыт Фабіян Абрантовіч // Божым шляхам. Парыж, 1957. № 76–81. С. 12; Туронак Ю. Беларускія марыяны ў Друі; Шыдлоўскі К. Друйскі кляштар айцоў марыянаў; Абламейка С. Невядомая Унія // Унія. Мінск, 1995. № 4. С. 39; Грыгор’ева В., Навіцкі У., Філатава А. Уніяцтва на Беларусі ад Полацкага Сабора да нашых дзён // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі. Мінск, 1996. С. 128; тое самае ў кнізе «Канфесіі Беларусі» (Мінск, 1998. С. 209–210); Юрэвіч Л. Камэнтары. Мінск, 1999. С. 145.

## «Надо для русских пока что работать…»

Згодна з задумаю блаславёнага Юра Матулевіча, Друйскі кляштар меў служыць «*pro alborussis*» (для беларусаў). Высылка Абрантовіча ў Харбін пад ціскам Камісіі «Pro Russia» і Бучыса адмоўна адбілася на далейшым развіцці кляштара. Ад 1928 г. ніводзін новы беларускі святар не прыйшоў у Друю, відаць, баючыся, каб і яго не напаткаў той самы лёс, што Абрантовіча. Тым часам ціск на Друю не спыняўся. У 1929 г. трох друйскіх клерыкаў выслалі ў Рым, у новаадкрытую Расейскую калегію, вядомую пад назовам «Русікум». У наступным годзе да іх далучыліся яшчэ двое. Студэнты Русікума мусілі даць Камісіі «Pro Russia» пісьмовае абяцанне, што будуць працаваць місіянерамі сярод расейцаў. Быццам гэтага было мала, за навуку ў Русікуме меў плаціць Друйскі кляштар. Абрантовіч пісаў Цікоту 25 красавіка 1931 г.: «Дзівіць мяне вельмі, што за нашых хлапцоў у Русікуме ты плаціш. Неяк гэта нешта неяк… Мне тут прысылаюць 16 тыс. GD (?!) у год, а з вас голых бяруць людзей і на людзей. Бараніся. Праўда, што мо з гэтага калі што і будзе. *Надо для русских пока что работать без русских и даже против русских, ибо это элемент не созидательный, а разрушительный*».

Абрантовіч у Харбіне апынуўся ў цяжкім становішчы, асабліва ў першыя гады. Вось што ён піша Цікоту 16 студзеня 1929 г., праз два месяцы пасля свайго прыезду ў Харбін: «Рым грошай не прысылае. Жулья кругом поўна. Кантакту навязаць не магу, у царкоўку ніхто не ходзіць, словам усё як трэба — труднасцей вышэй галавы, а тым часам я, нічога не робячы, чую, што марную грошы і “*невольно*” кампраметую Рым…».

Тыя, хто паслаў Абрантовіча ў Харбін, спадзяваліся, што з ягоным прыездам пачнуцца калі не масавыя, дык шматлікія «навяртанні» расейцаў. Нічога падобнага не здарылася. У тым самым лісце Абрантовіч піша: «Ах, каб у Польшчы маглі і хацелі зразумець, якое там поле для Вуніі… Я тут *pastor sine grege* (пастыр без статку), а там *grex sine pastoribus* (статак бяз пастыраў)». Ён не меў памочніка, але не хацеў забіраць яшчэ аднаго святара з Друі. Таму ён працягвае: «За Друю трымайцеся і рукамі і нагамі і <…> зубамі <…> Сюды мо тады толькі <…>, калі нікога не знайду. Пішу да Енэрала езуітаў і да бэнэдыктынцаў у Бэльгіі». Праз тыдзень, 24 студзеня, ён зноў піша: «Аб нашым (марыянскім) прыездзе сюды не магу яшчэ нічога сказаць. Думаю, што не». Нарэшце, 22 траўня, пішучы наконт праекту прызначэння а. Язэпа Германовіча ў Далятычы, Абран-

товіч прызнаецца: «Я цешуся, што ён са мною не паехаў. Хай я адзін “*прозябаю*” — а то ўдваіх».

Езуіты мелі свае асяродкі сярод расейцаў, адзін з іх у Кітаі ў Шанхаі. Калі ж ідзе пра бенедыкцінцаў з Амэю (пазней Шэвэтонь) у Бельгіі, дык яны не былі прыхільнікамі метадаў Дэрбіны і Камісіі «Pro Russia». Замест навяртанняў яны імкнуліся да збліжэння між праваслаўнымі і каталікамі праз узаемнае спазнанне, праз імкненне пазбыцца шматвяковых непаразуменняў і насцярожанасці.

Не знайшоўшы нідзе падтрымкі, Абрантовіч зноў звярнуўся да сваіх. У лісце ад 6 красавіка 1930 г. ён піша: «Я тут без арганізацыі сільнай законнай мужчынскай і жаночай нічога не зраблю. Жаночыя ўжо маю — ФФ і УУ*. Калі думаць аб мужчынах, то ці ж не лепш аб сваёй арганізацыі. Калі я прыгатую грунт за 2–3 гады — каго ж прызваць, калі вы ўсе будзеце заняты, дый неабходны да працы, бо перамучаецеся. Нашы рымскія маладзікі яшчэ не будуць гатовы. А калі думаць аб гэтым, то без задняй мыслі кажу — Кітай больш свабодалюбівы як Польшча».

Як ужо згадвалася вышэй, 6 красавіка 1930 г. Папа Пій XI зрабіў Камісію «Pro Russia» незалежнай ад Усходняй Кангрэгацыі. Старшынёю Камісіі стаў ейны дагэтуль фактычны кіраўнік Дэрбіны, які такім чынам дасягнуў вяршыні сваёй улады і атрымаў вырашальны голас ва «ўсходняй палітыцы» Ватыкана.

На новай пасадзе Дэрбіны выстараўся для Бучыса біскупскую годнасць усходняга абраду і дамогся, каб яго прызначылі апостальскім візітатарам для расейцаў «у Еўропе». У Каталіцкай царкве біскупаў прызначае Папа. Паміж прызначэннем і свячаннем новага біскупа звычайна праходзіць некалькі тыдняў, а часам нават і месяцаў. У выпадку Бучыса ўсё рабілася спехам, быццам баяліся нейкіх перашкодаў ці пратэстаў. Папа прызначыў яго 3 ліпеня, а ўжо праз тры дні, 6 ліпеня, ён атрымаў біскупскія свячанні, так што многія даведаліся пра гэта *post factum*. Высвячаў Бучыса балгарскі біскуп Курцеў, а ўкраінскія біскупы, якія знаходзіліся тады ў Рыме, адмовіліся браць удзел ва ўрачыстасці.

Ад гэтага часу, каб не палохаць расейцаў лацінскім імем «Францішак», Бучыс пачаў карыстацца сваім другім імем «Пётра».

---

* ФФ і УУ — законніцы францысканкі і уршулянкі, якія мелі свае кляштары ў Харбіне.

Неспадзяванае біскупства Бучыса, дый яшчэ ва ўсходнім абрадзе, а асабліва сакрэтнасць і паспешлівасць, з якімі ўсё адбылося, выклікалі шмат у каго здзіўленне. Было відавочна, што тут хавалася нешта большае, як жаданне Дэрбіны ўзнагародзіць свайго вернага памочніка*. Асабліва занепакоіліся біскупствам Бучыса палякі, якія разумелі, што Дэрбіны не так цікавілі малыя гурткі расейскіх эмігрантаў у Парыжы ці Берліне, як праваслаўнае насельніцтва Заходняй Беларусі і Украіны пад польскай акупацыяй. Рымскі карэспандэнт каталіцкай газеты «Polska», нейкі ксёндз Кнэблеўскі, пісаў неўзабаве пасля свячанняў Бучыса: «Абсяг юрысдыкцыі новага біскупа славянскага абраду яшчэ не вызначаны <…>. Тут ідзе асабліва пра тэрыторыі расейскай эміграцыі, сярод якой пачалося <…> шматлікае навяртанне на каталіцызм пры захаванні славянскага абраду <…>. Паўсталі ўжо такія асяродкі на нашым усходнім памежжы: у архідыяцэзіі Віленскай, дыяцэзіях Падляскай, Любэльскай і Пінскай»**. Рэдактар газеты «Kurier Wileński» Акуліч (псеўд. Testis) так каментуе выказванні Кнэблеўскага: «Дык з аднаго боку ідзе тут пра “тэрыторыі расейскай эміграцыі”, а з другога пра “асяродкі на нашым усходнім памежжы”. З гэтага вынікае, што Бучыс мае мець у сваей апецы і тыя “тэрыторыі” і гэтыя “асяродкі”. Ксяндзу Кнэблеўскаму, напэўна, здаецца, што расейская эміграцыя і парафіі ўсходняга абраду з беларускім і ўкраінскім насельніцтвам — гэта адно і тое». Далей аўтар піша: «Калі кс. біскуп Бучыс мае ажыццяўляць юрысдыкцыю над

---

* Айцец Кірыл Каралеўскі (сапраўднае імя Jean Charon), які ў свой час быў кансультантам Усходняй Кангрэгацыі і Камісіі «Pro Russia», пісаў пра Бучыса: «Каб зрабіць больш урачыстымі богаслужэнні і адначасова даць магчымасць студэнтам (Русікума. — *А. Н.*) навучыцца абраду, Дэрбіны пастараўся зрабіць тытулярным біскупам Алімпу а. Пятра Бучыса, законьніка маленькага закону з цэнтрам у Друзе (Друі? — *А. Н.*) у Літве <…>, які Дэрбіны хацеў выкарыстаць для апасталяту ў Расеі <…>. Ён (Бучыс. — *А. Н.*) амаль зусім не ведаў усходняга абраду, але Дэрбіны разлічваў на тое, што ён возьмецца за яго рашуча <…>. Мушу сказаць, што ён, застаўшыся лацыннікам у духу і нават у вялікай меры і ў абрадзе (resté Latin de mentalité et même en bonne partie de rite) <…>, не мог прызвычаіцца да сваіх новых абавязкаў, — зрэшты чыста дэкаратыўных, бо ён не меў ніякай юрысдыкцыі, — і хутка амаль зусім іх пакінуў» (C. Korolevskij. Métropolite André Szeptyckyj. Rome, 1964. P. 255–256).

** Цытуецца паводле газеты «Kurier Wileński» (гл. наступную зноску).

“асяродкамі” ўсходняга абраду ў Польшчы, гэта азначае, што ў Ватыкане атаясамілі ўсходні абрад з расейшчынай»*.

«Эндэцкая» газета «Dzieńnik Wileński» пісала: «Мы павінны зазначыць, што вестка пра юрысдыкцыю біскупа Бучыса патрабуе высвятлення, бо такі стан рэчаў быў бы ў супярэчнасці з канкардатам. Бо згодна з канкардатам, на тэрыторыю Польшчы не можа пашырацца юрысдыкцыя ніякага біскупа, чыя сядзіба знаходзіцца па-за межамі Польшчы»**.

Як адзначае вышэйзгаданы Кнэблеўскі, «Я. Э. кс. намінат Пётра Бучыс мае 59 гадоў. З роду летувіс. Ён параднены з Польшчай духам і кахае яе адразу пасля сваёй бацькаўшчыны». Як гэта часта бывае ў жыцці, ягонае каханне не знайшло ўзаемнасці. Рэакцыя польскай прэсы апынулася для Бучыса і тых, што стаялі за ім, прыкрай неспадзеўкай. Дэрбіні распавёў усё Папу Пію XI. 25 ліпеня ён пісаў Бучысу: «На аўдыенцыі, якую Сьвяты Айцец ласкава даў мне ўчора, 24 ліпеня, я не забыўся данесці да (ягонага) ведама рэакцыю польскай прэсы на высвячэнне В(ашай) Д(астойнасьці) на біскупа бізантына-славянскага абраду. Яго Святасць па-бацькоўску адказаў: “Хай не трывожыцца сэрца вашае”»***.

Пры адсутнасці афіцыйных вестак людзі рабілі найбольш неверагодныя здагадкі адносна абавязкаў Бучыса. Айцец Казімір Кулак пісаў яму з Пінска 15 верасня 1930 г.: «Асмельваюся нарэшце зноў пытацца пра абсяг юрысдыкцыі Вашай Эксцэленцыі. Тут ходзяць пра гэта розныя чуткі. Адны ўключаюць і Польшчу, іншыя выключаюць Польшчу і Расею. Калі гэта не сакрэт, буду ўдзячны за інфармацыю».

Таксама з Пінска пісала 10 кастрычніка 1930 г. Бучысу (па-польску) Канстанцыя Скірмунт, карэнная паляшучка, якая ўважала сябе «літоўкай»: «З беларускага народа Рым паклікаў святара місіянера, каб навяртаў Расею з Далёкага Усходу — а. Ф. Абрантовіча <…>. З летувіскага народа паклікаў Вашую Ар-

---

* Testis. Nominacja ks. Biskupa Buczysa // Kurier Wileński. Wilno, 13.07.1930. № 159.

** Kościół na Wschodzie i Polska // Dzieńnik Wileński. Wilno, 12.07.1930. № 158.

*** «Nell’Udienza benignamente concessami ieri, 24 Luglio dal Santo Padre, non ho mancato di riferire il trattamento fatto dalla stampa polacca a S(ignoria) V(ostra) in occasione della Sua consecrazione a Vescovo di rito Bizantino slavo. Sua Sancità paternamente ha risposto: “NON TURBETUR COR VESTRUM”».

хіпастырскую Міласць, каб у старым В. Кн. Літоўскім адрадзіць у чыстым духу Касцёла славянскую Унію, калі да лаціны, да якой народ гарнуўся, закрытыя дарогі».

2 лістапада 1930 г. прыйшоў ад Бучыса адказ, напэўна не зусім той, на які спадзявалася Скірмунт: «З волі Святога Айца я заняўся вялікай рэлігійнай справаю злучэння расейцаў з Каталіцкім касцёлам (*połączenia Rosjan z Kościołem Katolickim*). Польшча стаіць між каталіцкім Захадам і Расеяй… Дарога з Рыма ў Маскву вядзе праз Беларусь. Тудою ідзе таксама дарога з Масквы ў Рым <…>. Гэтай дарогай пойдуць камуністы, але хачу ісці і я, і не магу быць абыякавым да таго, як глядзяць на прахожых мясцовыя людзі».

Бучысу так і не давялося даведацца, што «мясцовыя людзі» пра яго думалі. Ён мусіў адкласці свой «паход на Маскву», бо польскія ўлады не далі яму дазволу на ўезд у Польшчу. Праз два гады, 17 жніўня 1932 г., ён пісаў Цікоту: «У гэтым годзе да вас не прыеду, бо на мой ватыканскі пашпарт у польскай амбасадзе адмовіліся мне даць візу».

Сярод беларусаў біскупства Бучыса не выклікала асаблівай рэакцыі. Святары Уладзіслаў Талочка і Казімір Кулак ускладалі на яго нейкія надзеі. Айцец Адам Станкевіч глядзеў на справу больш цвяроза. Ён пісаў Талочку 13 ліпеня 1930 г.: «Мяне цікавіць, што пачне канкрэтна біскуп Бучыс. Абрантовіч напэўна не падазраваў, што меў у ягонай асобе канкурэнта! Увогуле мы, беларусы (і расейцы), павінны сказаць у гэтай справе: *Без меня меня женили, меня дома не было*».

Калі ў Рыме нарэшце зразумелі, што межы Польшчы для Бучыса зачыненыя, Святы Пасад прызначыў 16 студзеня 1931 г. апостальскім візітатарам для беларускіх і ўкраінскіх земляў (апрача Галіцыі) у Польшчы ўкраінца Міколу Чарнэцкага з закону айцоў рэдэмптарыстаў. Ён атрымаў біскупскія свячанні ў Рыме 8 лютага. Польскія ўлады, хоць і засталіся незадаволенымі з гэтага прызначэння, не маглі нічога зрабіць, бо Чарнэцкі быў польскім грамадзянінам. «Хрысціянская думка» пісала: «Факт, што на чале ўніятаў беларусаў і ўкраінцаў Апостальская Сталіца паставіла ўкраінца, выклікаў шмат трывогі ў польскім грамадзтве <…>. Гэтая трывога цалком зразумелая. Польская палітыка, як даўней за часамі Брэсцкай Уніі (1596), так і цяпер на Унію глядзела і глядзіць, як на аружжа палянізацыі нашага краю. Але зусім зразумела, што гэткі погляд, не маючы нічога супольнага з Божай і каталіцкай ідэяй, мусіць быць адкінуты, як каталіцкім грамадзтвам беларускім і ўкраінскім, таксама ка-

таліцкім грамадзтвам польскім. Мы, беларусы каталікі, верым, што нованазначаны ўніяцкі біскуп глыбока загляне ў духовыя патрэбы беларускага народу, дасьць яму магчымасьць карыстацца сваей роднай моваю і створыць вялікія магчымасьці для рэлігійнага аб'яднаньня гэтага народу <…>. Назначэньне Я. Э. др. М.Чарнэцкага біскупам для нашых уніятаў лічым здарэньнем гістарычнай важнасьці, як для каталіцкага ў нас Касьцёла, так і для нашага народу. Дык пажажы ж, Божа!»*

На жаль, гэтыя пажаданні не спраўдзіліся. Біскуп Чарнэцкі не мог нічога рабіць без дазволу і згоды мясцовых польскіх біскупаў, што вельмі абмяжоўвала магчымасці ягонай дзейнасці. Тым не менш прызначэнне апостальскага візітатара шмат хто ўспрыняў, прынамсі спачатку, як першы крок да паляпшэння становішча беларускіх грэка-каталікоў. Напэўна, так думаў а. Язэп Германовіч, які не пакідаў намеру прыняць усходні абрад. У 1930 г. ён быў на першай Унійнай канферэнцыі ў Пінску і наведаў уніяцкую парафію ў Альпені, што ў 1931 г. адзначала пяць гадоў існавання. У выніку паездкі з'явілася ягоная паэма «Унія на Палесьсі», прысьвечаная альпенскаму святару а. Вячаславу Аношку**.

3 красавіка 1931 г. Германовіч напісаў Бучысу, як генералу марыянаў, ліст з просьбаю дазволіць яму прыняць усходні абрад. Ліст, пісаны па-беларуску, пралівае шмат святла на асобу аўтара. Вось галоўныя вытрымкі: «Ад дзесяці гадоў нашуся з думкай пераходу на ўсходні абрад. У 1920 годзе быў я пробашчам у Ваўкавыскім павеце, посьле ў Слонімскім, гдзе меў у суседзтве многа праваслаўных. Спатыкаючыся з імі часта, я жадаў пацягнуць іх да Каталіцкага Касьцёла. Аднак жа напаткаў непераможныя труднасьці: прыхільнасьць іхнюю, праўда, я зыскаў скора, ахотна да мяне прыходзілі, давяралі; прыходзілі тож да касьцёла на набажэнства, але нашай праўдзівай веры не прыймалі. Я <…> дайшоў да перакананьня, што праваслаўныя на лацінскі абрад не пойдуць. Апрыч зьмены дагматычнай і этычнай <…>, праваслаўныя спатыкаюць у нас чужы і непанятны абрад, незразумелую лацінскую мову і мала зразумелую мову польскую. Я прабаваў удаступніць ім праўду, уводзячы ў

* Naznačeńnie biskupa dla unijataŭ // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 10.02.1931. № 3. S. 1.

** В. А. Унія на Палесьсі. Альбярцін, 1932. 16 с.

набажэнства мову беларускую, але гэта было мне забаронена*. Тагды я задумаў для дабра духоўнага маіх апушчаных братоў прыняць усходні абрад. У 1922 годзе я езьдзіў у Львоў прасіць аб прыняцьце. Аднак з прычыны непрысутнасьці Я. Э. Мітрапаліта Шаптыцкага справа мая працягнулася. Посьле я даведаўся, што Друйскі дом аа. марыянаў тож падняў усходнюю думку. Тагды ж у 1924 годзе я ўступіў у закон марыянаў <…>. Думаю, што было б ляніўствам і нядбальствам далей адкладаць: баюся, што гэтым я супраціўляўся б волі Божай».

Адказ Бучыса прыйшоў вельмі хутка. У лісце ад 21 красавіка, ён паведамляў Германовічу, што галоўная рада дазволіла яму змену абраду. Далей працягвае: «Будучы ў Бэрліне, я расказаў а. Андрэю, у якім цяжкім становішчы апынуўся а. Абрантовіч. Уважаю, што Найдаражэйшы Айцец не павінен адмаўляцца ад прапановы выехаць у Харбін. Ведаю, што гэта дрэнна адаб'ецца на Друі, але вы маглі б прасіць пра а. Ванціюса (?) з Бялянаў, і думаю, што ён, а таксама Галоўная Рада згадзіліся б на гэта».

Не такога адказу чакаў Германовіч, які марыў пра змену абраду, каб з большым плёнам несці духоўную паслугу беларусам, а не «навяртаць» расейцаў у Кітаі. Тым не менш у духу законнага паслушэнства 30 красавіка ён так адказаў Бучысу: «У справе майго магчымага выезду ў Харбін, дык поўнасьцю паддаюся волі Вашай Эксцэленцыі, як майго беспасрэднага кіраўніка, бачачы ў гэтым волю Божую. Айцец Андрэй палічыў патрэбным напісаць пра гэта а. Абрантовічу, і сам уважае, што я быў бы не вельмі адпаведным кандыдатам у Харбін, і то з многіх прычынаў. Памятаю таксама, што а. Абрантовіч некалі скептычна заглядаўся на мой выезд разам з ім. Дзеля гэтага я не хацеў бы ані адмаўляцца, ані настойваць: кожную місію, нават найбольш прыкрую, прыму з вялікай ахвотай і ўдзячнасцю».

Што да Абрантовіча, дык ён пагадзіўся на прыезд Германовіча, але як на апошнюю магчымасць, калі яму не ўдасца ніадкуль знайсці дапамогі. 4 лістапада 1931 г. ён пісаў Цікоту: «Калі б міт-

---

* Забараніў беларускія казанні біскуп Матулевіч у жніўні 1919 г., калі а. Германовіч быў пробашчам у Вялікай Лапеніцы каля Ваўкавыска. Вось што піша пра гэта а. Канстанцін Стаповіч (Казімір Сваяк), які тады гасцяваў у Германовіча: «25.VIII. Прышоў адказ ад біскупа, у каторым, паклікаючыся на цьверджаньне дзекана, што беларускія казаньні быццам шкодзяць Касьцёлу, забараняе ўводзіць іх… Вычуваецца з лісту, што біскуп пад уплывам дзекана і апініі пануючай з прыкрасьцяй зрабіў гэта» (Казімір Сваяк. Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі // Божым шляхам. Лондан, 1991. С. 38).

рапаліт Шаптыцкі прыслаў студытаў, Юзік (Германовіч. — *А. Н.*) бы быў непатрэбны. Але невядома, што на гэта скажа Рым — і што Мітрапаліт… Калі Юзік гатоў, і ўсё зроблена, хай едзе як найскарэй». Нават яшчэ за два месяцы да ад’езду Германовіча, 11 сакавіка 1932 г., ён пісаў: «Я тут ніколі бяз “нэндзы” не бываў, але цяпер асабліва сумленьне мяне мучыць: ці варта, каб Язэп сюды ехаў, калі і мне адсюль трэба ўцякаць. Гэта ж тут “почвы” ніякай няма: *Roma decepta est ab iis qui de milia somniabant*» (Рым быў ашуканы тымі, хто сніў пра тысячы).

Але словы засталіся толькі словамі. Лёс а. Германовіча быў ужо вырашаны: 14 траўня 1932 г. ён пакінуў Вільню. З ім ехаў друйскі брат-законнік Антон Аніськовіч. «Хрысціянская думка» пісала: «14.V. сёль. г. <…> у Харбін выехаў яшчэ адзін марыянін з Друі, ведамы беларускі рэлігійны і народны дзеяч і пісьменьнік, а. Я. Германовіч. На станцыі ў Вільні прыйшлі разьвітацца з а. Я. Г. многія з беларускіх дзеячоў, а такжа студэнты і моладзь. Разьвітаньне было падвойна сумнае: раз, што далёкая і небясьпечная дарога, а другі раз, што а. Я. Г. выязджае на місіі ў далёкі край, калі гэтулькі ёсьць працы місійнай на вякамі запушчанай ніве беларускай!»*

Адгукнулася на выезд а. Германовіча і «Беларуская крыніца», у якой ён працягваў друкаваць свае творы, нягледзячы на забарону архібіскупа Ялбжыкоўскага: «Пры сучасным голадзе на сапраўдныя беларускія інтэлігенцкія сілы, выезд за граніцу Бацькаўшчыны кожнае такое дзейнае сілы ёсьць вялікай стратай, а тым больш выезд чалавека такой меры, як а. Яз. Германовіч. Страта гэта вялікая, але мейма надзею, што не вечная. Усё сьведамае беларускае грамадзтва праводзіць думкамі а. Германовіча <…>, жадае яму здароўя і хуткага павароту на Бацькаўшчыну»**.

Айцец Язэп Германовіч — святар з вялікім пастырскім досведам, настаўнік, паэт, чалавек глыбокай веры і вялікай дабрыні. Паэтычная творчасць была для яго духоўнай патрэбай, як сам ён прызнаўся:

Іграю, іграці я мушу,
Тут ноты жыцьцём напісаны,
Дык будуць усе прачытаны:
Я струны жывыя парушу.

---

* Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 15.06.1932. № 6. S. 6.

** Беларуская крыніца. Вільня, 23.05.1932. № 21. С. 2.

У гэтага чалавека пад святарскай вопраткай білася беларускае сэрца, чулае на боль і крыўду свайго народа. Толькі той, хто бязмежна любіў сваю Бацькаўшчыну, мог напісаць такія радкі:

О, край наш родны! Хоць ня маеш сілы,
Ты — наша маці — Беларусь сьвятая!
Табе капае сырую магілу
Подласьць людзкая.
Што наша слабасьць ворагаў не зможа,
Сумна мне, Божа!

Ягоная прынцыповая пазіцыя ў абароне правоў беларусаў не раз прыносіла яму прыкрасці і несправядлівыя абвінавачанні ў нацыяналізме.

З выездам а. Германовіча ў Маньчжурыю не толькі Друя, але ўсё нацыянальна свядомае беларускае грамадства ў Заходняй Беларусі панесла вялікую страту. Той, на чыім сумленні гэты ўчынак, паказаў сваю абыякавасць да беларусаў і іхніх патрэбаў. Прапанова на месца а. Германовіча ўзяць у Друю марыяніна з Бялянаў у Варшаве магла ўсцешыць толькі Ялбжыкоўскага, які ўжо гадамі дамагаўся нечага падобнага.

Бучыс пісаў 3 жніўня 1932 г. Германовічу ў Харбін: «Прызнаюся, што я вінаваты ў тым, што Найдаражэйшы Айцец трапіў у Харбін, інакш кажучы, на канец сьвету; аднак, магчыма, з часам Дарагі Айцец пераканаецца, што прычынаю маёй віны была шчырая любоў <…>. Я ведаў, што не пасылаю Дарагога Айца на лёгкую справу. Калі мне дазволена скарыстаць з прыкладаў сьвятых, дык скажу, што для мяне быў прыкладам сьв. Ігнат Лаёля. Як ён паслаў сьв. Францішка Ксавэра на Далёкі Ўсход, так і я паслаў вас траіх, айца Фабіяна, Цябе і брата Аніськовіча»*.

---

* У святле вышэйсказанага незразумела, як можна было казаць, што а. Германовіч «У 1932 г. *добраахвотна* (вылучана мною. — *А. Н.*) выехаў у Харбін, каб дапамагчы архімандрыту Фабіяну Абрантовічу ў справе Візантыйска-славянскай місіі сярод рускіх каталікоў», як гэта зрабіў Я. Трацяк у сваёй прадмове да «першага ў Беларусі (?!) выданьня» ўспамінаў а. Германовіча Кітай, Сібір, Масква (Санкт-Пецярбург: Неўскі прасцяг, 2003. С. 6). Дарэчы, звычайна творы пісьменнікаў, якіх ўжо няма сярод жывых, перавыдаюцца без зменаў паводле апошняга прыжыццёвага выдання, у дадзеным выпадку — мюнхенскага 1962 г. Адказныя за новае выданне вырашылі «падправіць» мову аўтара, замяніўшы некаторыя ягоныя словы сваімі, пішучы, напрыклад, «Панна» замест «Дзева». Гэтым яны паказалі непавагу да аўтара.

Святы Ігнат Лаёла, заснавальнік закону езуітаў, паслаў свайго блізкага супрацоўніка, Францішка Ксавэра, абвяшчаць Хрыста людзям, якія ніколі не чулі Евангелля. Вельмі сумнеўна, каб праваслаўныя расейцы Харбіна, калі б ведалі, засталіся задаволеныя з такога параўнання*.

Пасля выезду Германовіча ў Друі засталіся чатыры айцы. Тры з іх, добрыя і ахвярныя святары, не вызначаліся адміністрацыйнымі і арганізацыйнымі здольнасцямі. З шасці студэнтаў толькі адзін, Юры Кашыра (цяпер баслаўвёны), належаў да рымскага абраду і вучыўся ў Вільні. Іншыя пяць знаходзіліся ў Рыме ў Русікуме і рыхтаваліся да працы сярод расейцаў, пра што далі абяцанне Камісіі «Pro Russia». Такім чынам, будучыня Друі вымалёўвалася не вельмі радаснай. Адчувалася патрэба ў новых святарах. Цікота разумеў гэта і хацеў, каб хоць адзін з студэнтаў, што навучаліся ў Русікуме, застаўся ў Друі. Якраз у красавіку 1932 г. ён сам быў у Рыме і даведаўся, што два студэнты, Найловіч і Падзява, мелі неўзабаве атрымаць ва ўсходнім абрадзе свячанні чытальніка і іпадыякана. Невядома, чаму ён нічога не сказаў Бучысу, але ўжо 8 красавіка, вяртаючыся дамоў у цягніку, напісаў яму алоўкам ліст: «Праз чатыры гадзіны дарогі з Рыма да Фларэнцыі я шмат думаў пра тое, як упарадкаваць у будучыні наш кляштар. Нас засталося чацвёра, і ніводзін з нас не можа быць добрым кіраўніком ці добрым магістрам навіцыяў. Няма ніякай надзеі, каб да нас прыйшоў нехта, хто б мог быць добрым магістрам навіцыяў. Застаюцца гэтыя шэсць клерыкаў, з якіх трэба прыгатаваць і кіраўнікоў і магістра навіцыяў. Спадзяюся, што Кашыра праз некалькі гадоў будзе добрым кіраўніком. Найловіч адзіны, хто <…> зможа дапамагчы а. Абрантовічу і

---

* Перакананне ў велічы і важнасці таго, што ён і марыяне робяць у справе «навяртання» Расеі, межавала ў Бучыса з экзальтацыяй. У лісце да Абрантовіча ад 18 красавіка 1929 г. (гл. вышэй у тэксце) ён піша, што хутка марыяне ў Рыме маюць адчыніць дом для навернутых і ахвотных навярнуцца расейскіх святароў і дыяканаў. Далей працягвае: «Будзем мець клопат, але qui seminant in lacrimis in exultatione metent. Euntes ibant et flebant, mittentes semina sua. Venientes autem venient cum exultatione portantes manipulos suos (Тыя, што сеюць са сьлязьмі, жаць будуць у радасці. Тыя, што з плачам нясуць зерне свае, вяртаюцца радасныя, несучы снапы свае) (Пс 125). Я ўжо нават бачу ў духу той сноп, які прызначаны для Айца (Абрантовіча. — *А. Н.*). Айцец апісаў дарогу з Друі ў Харбін, але ёсьць дарога з Харбіна ў Вільню, і з Вільні на ўсход. На свеце дзеецца шмат неспадзяваных рэчаў: доказ гэтага — знаходжанне Айца ў Харбіне».

яго заступіць. Падзява да кіравання і арганізацыйнай дзейнасці надаецца менш, але з яго можа атрымацца ў будучыні добры навуковы кіраўнік. Яму было б вельмі карысна ведаць абодва абрады, але ён мусіў бы заставацца ў рымскім абрадзе <…>. Я чуў, што Найловіч і Падзява дня 10.IV маюць атрымаць меншыя свячанні ва ўсходнім абрадзе. Мне здаецца, што ў выпадку Падзявы гэта не было б добра; лепш, каб ён атрымаў меншыя свячанні ў лацінскім абрадзе».

На гэты ліст Цікота атрымаў востры адказ ад Бучыса, складзены 13 красавіка: «Дня 10 красавіка 1932 я высьвяціў на чытальніка і іпадыякана ўсходняга абраду студэнта Расейскай калегіі Тамаша Падзяву <…> у капліцы гэтай калегіі, наперакор твайму жаданню, якое ты выказаў у лісце ад 8 красавіка. Тамаш Падзява тваімі стараннямі быў прыняты ў калегію Русікум з умоваю, што пасля сканчэння навукі будзе працаваць для навяртання расейцаў. Дзеля гэтай мэты тыя, каму ляжыць на сэрцы навярненне Расеі, выдалі немалыя сумы для адукацыі гэтага юнака…*

Наогул я не цярплю такога спосабу дзеяння, дзе лёгка мяняюць пастановы і аддаюць перавагу прыватным (выпадкам) над агульнымі і меншым над большымі. У выпадку Падзявы выглядае, што гэта мае месца, бо тваё жаданне супярэчыла той мэце, якую прызначыў Найсвяцейшы Айцец Друйскаму кляштару»**.

Такім чынам, Бучыс груба і бесцырымонна «паставіў на месца» Цікоту, не забыўшыся прыгадаць яму пра мэту, дзеля якой засноўвалася Друя, і спаслаўшыся на аўтарытэт самога Папы. Тут ён выявіў сябе здольным вучнем Дэрбіны, які не вагаўся дзеля сваіх мэтаў спасылацца на волю Святога Айца***.

---

* «Thomas enim Podziawa Te agente admissus est in Collegium Russicum ea conditione, ut post absoluta studia convertendis russis adlaboraret. Eo fine educationi huius iuvenis non parvi sumptus expendebantur ab eis quorum conversio Russiae interest».

** «In casu Podziawae haec ratio applicari videbatur, nam desiderium Tuum adversabatur eo scopo, qui a Beatissimo Patre Domui Drujensi praefixus est».

*** Паводле Трэцякевіча, у канцы 1930 — пачатку 1931 г. уплыў Дэрбіны быў настолькі вялікі, што «калі Дэрбіны заяўляў, што Святы Айцец жадаў ці загадаў гэтае, тое ці іншае, ягоныя слухачы былі змушаныя верыць яму, хоць з часам стала відавочна, што словы, думкі, жаданні і пастановы, якія ён так свабодна прыпісваў Папу, былі ягонымі ўласнымі» (Tretjakewitsch L. Bishop Michel d’Herbigny SJ and Russia. Würzburg: Augustinus-Verlag, 1990. P. 237).

Справа Падзявы была толькі пачаткам клопатаў. Летам 1932 г. з пяці друйскіх студэнтаў, што навучаліся ў Русікуме, тры пакінулі гэтую ўстанову і Друю. Іхні адыход адбываўся з вялікімі прыкрасцямі, у атмасферы ўзаемных абвінавачанняў і падазрэнняў, якіх не пазбеглі і айцы езуіты, кіраўнікі Русікума. Бучыс пісаў Цікоту 17 жніўня 1932 г.: «З пяці студэнтаў, якіх вы з такім даверам аддалі на ўзгадаванне кіраўнікам Расейскай калегіі ў Рыме, трох вы павінны ўважаць за страчаных. Вялікая колькасць нашай законнай моладзі ўзгадоўваецца ў чужых установах, але такога адсотку заламанняў, як у Русікуме, яшчэ ніколі не было. Вы павінны добра падумаць, перш як пасланць яшчэ каго-небудзь у гэтую выхаваўчую ўстанову. Разважнасць, аднак, вымагае не рабіць пакуль што з гэтага розгаласу»*.

У Рыме засталіся два друйскія студэнты — Казімір Найловіч і Тамаш Падзява. Цікота згаджаўся, каб Найловіч працягваў навуку ў Русікуме, нягледзячы на вялікія кошты. Ён прызнаўся рэктару Русікума ў лісце ад 18 верасня 1932 г., што «дарога ў Рым каштуе больш, як гадавое ўтрыманьне ў Дубне». Давялося таксама пагадзіцца, каб Тамаш Падзява атрымаў свячанні ва ўсходнім абрадзе, але Цікота хацеў, каб ён працягваў сваю навуку не ў Рыме, дзе клімат адмоўна ўплываў на ягонае здароўе, а ва ўсходняй семінарыі ў Дубне на Валыні.

Семінарыя ў Дубне, заснаваная ў 1931 г., мела на мэце абслугоўваць мясцовыя патрэбы Заходняй Беларусі і Валыні, а не «навяртаць» расейцаў. Таму планы Цікоты пасланць туды Падзяву моцна ўстрывожылі Бучыса. Ён настаяў, каб Падзява вярнуўся з Найловічам у Рым, у Русікум, хоць і меў паважныя засцярогі адносна гэтае ўстановы. Ягоны ліст да Цікоты за 14 верасня 1932 г. чытаецца як дэтэктыў ці шпіёнскі раман: «Магутны і хітры вораг намагаецца даказаць, што закон марыянаў не здатны для навяртання ўсходніх дысідэнтаў. Найбольшыя высілкі гэты вораг накіроўвае супраць Друйскага кляштара, які быў у першую чаргу прызначаны для ўсходняй місіі. Такім чынам, самыя фундаменты вашыя падрываюцца, і тры вашыя юнакі

---

* «Z pięciu alumnów, których z takim zaufaniem powierzyliście kierownikom Kolegium Rosyjskiego w Rzymie, trzech musicie uważać za straconych. Ogromna ilość naszej młodzieży zakonnej wychowuje się w cudzych zakładach, ale takiego odsetku zwichnięć, jak w Russicum, nigdy jeszcze nie było. Nad tem musicie się zastanowić wprzód nim kogoś poszlecie do tego zakładu wychowawczego. Rostropność jednak wymaga tymczasem nie robić z tego rozgłosu».

ўжо страчаныя. У атацы бяруць удзел многія, але кіруе адзін, і ў адзінстве кіраўніцтва ейная сіла. Каб нашая абарона не правалілася, ёю павінен кіраваць таксама нехта адзін. Таму трэба вырашыць, хто будзе кіраваць абароннай дзейнасцю — ты ці я. У справе такой вагі гонар і лішняя сціпласць могуць шмат пашкодзіць. Таму, адклаўшы абедзве, думаю, што лепш, каб кіраваў абаронаю я, бо ў Рыме нас атакуюць, дык у Рыме трэба бараніцца. Няздатнасць беларусаў наогул і Друйскага кляштара асабліва да місіянерскай дзейнасці даказваецца тым, што абяцанні, якія з ведама і згоды старэйшых друйскія студэнты далі на пісьме, цяпер праз гэтых старэйшых не выконваюцца. Дзеля гэтага горача прашу Раду Друйскага кляштара не даваць нагоды ворагам і не пераводзіць сваіх студэнтаў з Расейскай калегіі ў іншую ўстанову без пісьмовага дазволу Папскай Камісіі «Pro Russia». Хай вас не спакушаюць трыццаць срэбнікаў <…>. Узгадаваньне марыянскіх юнакоў (Каз. Найловіча і Тамаша Падзявы), якія засталіся вернымі нашаму закону ва ўстанове, якая спагадае няверным, — справа, зразумела, небяспечная. Тым не менш гэтай небяспекі цяпер нельга пазбегнуць. Гэтыя два (юнакі) маюць абавязак вярнуцца ў Русікум, згодна з раней дадзеным абяцаннем»*.

---

* «Inimicus potens et callidus studet persuadere Congregationem CC RR Marianorum esse ineptam ad opus conversionis dissidentium orientalium. Maximos conatus suos hostes iste dirigit contra Domum Drujensem, quae operi missionis orientali praeprimis destinata est. Itaque ipsa fundamenta vestra impugnantur, atque tres pueri vestri iam profligati sunt. Impugnatio ista, licet a multis perficiatur, ab uno dirigitur, et unitate consilii fortis est. Nostra autem defensio etiam ab uno conduci debet, ne succumbat. Necesse igitur est dirimere tunc actionem defensivam nostram conducturus sis, an ego.

In re tanti momenti superbia et excessiva humilitas multum nocere possunt. Seposita igitur utraque, censeo melius esse, ut ego defensioni nostrae praesim, nam Romae impugnamur, Romae et defensio fieri debet.

Thesis incapacitatis missionariae alborussorum in genere et Domus Drujensis in specie maxime eo probatur argumento quod promissis, quae alumni Drujenses in scriptis, superiore sciente et consentiente, dedereunt, nunc ab iisdem superioribus negliguntur. Itaque ardentissime rogo consilium Domus Drujensis ne hoc argumentum inimicis suis suppediret, nec alumnos suos ex Collegio Russico in aliud institutum transferat, nisi accepto in scriptis praecepto Pont. Commissionis pro Russia. Ne vos tentant triginta argentei… Educatio iuvenum Marianorum (Cas. Najlowicz et Thomae Podziawa), qui Congregationi nostrae fideles adhuc sunt, in Instituto, quod infidelibus favet,

Цяжка сказаць, колькі ў гэтым лісце праўды, а колькі хворай фантазіі аўтара. У кожным выпадку ён адлюстроўвае нездаровы дух інтрыгаў і падазронасці сярод сяброў Камісіі «Pro Russia», якія марылі быць апосталамі аб'яднання хрысціянаў. Да таго ж, такая дробязь, як тое, што Друйскі кляштар быў прызначаны ягоным заснавальнікам «для беларусаў» (*pro alborussis*), а не для нейкай «усходняй місіі», не бянтэжыла нікога, і менш за ўсё Бучыса.

Найловіч і Падзява вярнуліся ў Рым.

## Дарога ў нікуды

У 1933 г. скончыўся Бучысаў шасцігадовы тэрмін знаходжання на пасадзе генерала марыянаў. Дэлегаты генеральнай капітулы закону, што адбылася ў Рыме 16–28 ліпеня, хацелі перавыбраць яго на наступныя шэсць гадоў. Бучыс, аднак, запытаўшыся рады вышэйшых ватыканскіх уладаў, адмовіўся, патлумачыўшы сваё рашэнне жаданнем мець больш часу, каб працаваць у Камісіі «Pro Russia» і выконваць абавязкі апостальскага візітатара для расейцаў. Тады 21 ліпеня адбылося другое галасаванне, у выніку якога генералам стаў Андрэй Цікота.

Калі б Бучыс ведаў, што яго чакае ў недалёкай будучыні, ён бы не зракаўся так лёгка пасады генерала марыянаў. Дэрбіны, кіраўнік Бучыса, сваімі паводзінамі нажыў сабе шмат непрыяцеляў, якія хацелі б пазбыцца яго ў Ватыкане. Іх трывожыў ягоны ўплыў на Папу, а таксама напрамак дзейнасці Камісіі «Pro Russia» пад ягоным кіраўніцтвам. Асабліва насцярожана да Дэрбіны ставіліся польскія біскупы, занепакоеныя ягонай палітыкай на ўсходніх землях Польскай дзяржавы. У гэтым яны мелі магутнага хаўрусніка ў асобе генерала езуітаў, таксама паляка, Уладзіміра Ледахоўскага. Якраз увосень 1933 г. прыйшоў час кананічнага візіту польскіх біскупаў у Рым «*ad limina apostolorum*» (да парогу апосталаў). Ледахоўскі параіў Дэрбіны, які не жадаў з імі сустракацца, узяць на гэты час адпачынак, каб паправіць здароўе. Дэрбіны, нічога не падазраючы, згадзіўся і 2 кастрычніка 1933 г., у дзень прыезду польскіх біскупаў, выехаў у Бельгію. Калі ён ужо збіраўся вяртацца ў Рым, прыйшоў ліст ад Ледахоўскага, у якім той «раіў» Дэрбіны скласці Папу просьбу звольніць яго з пасады старшыні Камісіі «Pro Russia».

---

sane periculosa res est. Verumtamen periculum istud nunc evitari non potest. Isti duo in Russicum redire tenentur vi obligationis quondam datae…»

Тон «парады» не дапускаў ніякіх пярэчанняў. Дэрбіньі ўжо ніколі не пабачыў Рыма. Невядома, якія сакрэты выявіліся пры расследаванні ягонай дзейнасці, але ад 1937 г. да смерці ў 1957 г. ён жыў у поўным адасабленні ў розных езуіцкіх кляштарах у Францыі. Ягонае прозвішча знікла з афіцыйнага ватыканскага выдання «Annuario Pontificio», дзе даецца пералік усіх каталіцкіх біскупаў.

З адыходам Дэрбіньі Камісія «Pro Russia» страціла свой незалежны статус. Яна сталася часткаю ватыканскага Дзяржаўнага сакратарыята («міністэрства замежных спраў») і займалася толькі справамі каталікоў рымскага (лацінскага) абраду на тэрыторыі Савецкага Саюза. Усе справы, датычныя ўсходняга абраду, перайшлі ў кампетэнцыю Кангрэгацыі для Усходніх Цэркваў.

Калі ў Рыме адбываліся гэтыя драматычныя перамены, Бучыс знаходзіўся ў Амерыцы. Здаецца, ніхто нават не паклапаціўся паведаміць яму, што здарылася. Вярнуўшыся ў Рым, ён не знайшоў там ні Камісіі «Pro Russia», ні свайго пратэктара. Усходняй Кангрэгацыі ён быў непатрэбны, і яму не засталося нічога іншага, як вярнуцца ў Летуву. Але і там не знайшлося для яго адпаведнага занятку… У 1939 г. марыяне зноў абралі Бучыса сваім генералам на месца Цікоты, і ён заставаўся ў гэтым званні амаль да смерці ў 1951 г.

У Друі Цікота паказаў немалыя арганізацыйныя і адміністрацыйныя здольнасці. Трэба думаць, што гэта не ў апошнюю чаргу паспрыяла ягонаму абранню генералам марыянскага закону. Тым не менш тое, што пасаду заняў Цікота, больш нагадвала кампраміс: летувісы не хацелі бачыць на чале закону паляка, а палякі — летувіса. Для палякаў абранне Цікоты мела таксама сваю выгоду: як генерал, ён мусіў пакінуць Друю і жыць у Рыме. З трох друйскіх законнікаў-святароў, якія там засталіся, ніводзін не быў здатны заняць ягонае месца. Таму суперыёрам прызначылі польскага марыяніна Уладзіслава Лысіка. Яго ведалі як добрага і пабожнага святара, але з ягоным прызначэннем беларускі характар кляштара змяніўся. Здарылася тое, чаго даўно дамагаўся Ялбжыкоўскі.

Хоць Камісія «Pro Russia» сышла са сцэны, наступствы ейнай дзейнасці засталіся. Сярод іх быў Харбін, які вялікім цяжарам ляжаў на Друі і забіраў амаль усе яе сілы. У 1935 г. скончылі навучанне тры маладыя святары. Але з іх толькі адзін, Юры Кашыра, які атрымаў адукацыю ў Вільні і належаў да рымскага (лацінскага) абраду, застаўся ў Друі. Два іншыя, Найловіч і Падзява, якія вучыліся ў Русікуме, 9 ліпеня разам з Цікотам мелі

аўдыенцыю ў Папы. Затым яны на кароткі час паехалі на Бацькаўшчыну развітацца з роднымі, але ўжо 11 жніўня ў італьянскім порце Брындызі селі на карабель, які плыў у Кітай. Раней за іх выехаў з Друі ў Харбін брат-законнік Мікола (Станіслаў) Баговіч.

Увосень 1935 г. распачалі навуку ў Вільні шэсць друйскіх студэнтаў-клерыкаў*. Яны жылі ў сваім студэнцкім доме, або, як яны яго называлі, калегіі, на вуліцы Жыгімонта, 24. Узначальваў калегію ў 1935/36 навучальным годзе Юры Кашыра, які сам скончыў навуку на няпоўныя тры месяцы раней і стаў святаром 20 чэрвеня 1935 г. І ён, і ўсе клерыкі былі рымскага (лацінскага) абраду. Беларускія дзеячы жыва цікавіліся гэтай марыянскай калегіяй. Ужо ў першым годзе існавання яе наведалі а. Адам Станкевіч, Антон Луцкевіч, Ян Шутовіч і інш. Аднак больш шчыльных кантактаў паміж марыянскімі студэнтамі і беларускай грамадскасцю не атрымалася. Кашыра не дазволіў ім нават пайсці 6 чэрвеня 1936 г. на асвячэнне помніка на магіле а. Канстанціна Стаповіча (паэта Казіміра Сваяка), хоць іх запрашаў а. Адам Станкевіч.

Тым часам а. Германовіч у Харбіне захварэў і прасіўся дамоў. Цікота не спяшаўся з дазволам. У лісце ад 16 студзеня 1935 г. ён пісаў Германовічу: «у душы я не смучуся, што хочаш прасіць адстаўкі ад Харбіна, бо ты ж надта патрэбны ў <…> Друі. Я аб гэтым ужо даўно думаю, толькі нікому не кажу <…> аб гэтым трэба яшчэ доўга думаць і маліцца, як і калі гэта трэба будзе зрабіць, але мусіць да гэтага дойдзе».

Германовіч паскардзіўся а. Адаму Станкевічу, і той адразу напісаў востры ліст Цікоту 20 красавіка 1935 г.: «Здаецца мне, што ўжо вялікая пара пачаць вам рэалізаваць паварот Язэпа з Харбіна. Падрабязнасьці гэтай патрэбы ўбачыш у пісьме, якое тут далучаю. Мне здаецца, што далей марнаваць там ягоны талент і здароўе — гэта нешта сапраўды кашмарнае. Прабываньне далейшае Язэпа ў Харбіне — гэта, на маю думку, яўная супярэчнасьць вашай канстытуцыі. Каб нябошчык Матулевіч устаў з гробу і пабачыў на гэтую вашу харбінскую зацею, дык сапраўды за галаву ўзяўся б. Ну, але ты сам аб гэтым усім лепей

* К. Шыдлоўскі ў сваіх артыкулах піша: «У сярэдзіне 30-х гг. друйскія марыяне адкрылі ў Вільні дом студый, куды накіроўваліся выпускнікі гімназіі». Насамрэч студэнцкі дом у Вільні прызначаўся не для звычайных «выпускнікоў гімназіі», а для маладых марыянскіх законнікаў-клерыкаў, якія пасля гімназіі працягвалі навуку, рыхтуючыся да святарскага стану.

ведаеш. Я тут толькі цябе “ад імя ўсей Беларусі” прашу выбавіць Язэпа з Харбіну і даць яму адпаведныя варункі жыцьця і працы».

Гэты ліст, відаць, дапамог Цікоту прыняць канчатковае рашэнне адносна а. Германовіча. У міжчасе а. Язэпу прыйшлося браць шасцітыднёвы адпачынак (ужо другі раз), каб паправіць здароўе. Нарэшце 19 снежня 1935 г. ён пакінуў Харбін. Станкевіч 29 снежня пісаў Цікоту: «В. Адважны (літаратурны псеўданім а. Германовіча. — *А. Н.*) піша, што з яго нэрвамі дрэнна і што ён ужо ў дарозе да цябе у Рым. Пахухай яго там ды шлі ў Вільню. Можа, няхай бы ён у Вільні з Юркам і застаўся? Тут наш культурны цэнтр, а яму гэтага трэба».

Пабыўшы некалькі месяцаў у Рыме, а. Германовіч 19 чэрвеня 1936 г. з’явіўся ў Вільні і затрымаўся на Жыгімонта, 24 у доме студэнтаў, сваіх колішніх вучняў з Друі. Увосень яго прызначылі кіраўніком (суперыёрам) студэнцкага дома. У Вільні Германовіч аднавіў сваё супрацоўніцтва ў «Хрысціянскай думцы», дзе пісаў пад псеўданімамі «Вінцук Адважны» («В. А.», «В. Адв.») або «Лявон Ветрагон». Гэтым апошнім псеўданімам ён падпісваў сатырычныя вершы на надзённыя міжнародныя і беларускія тэмы.

Праз некалькі тыдняў пасля прыезду ў Вільню ў ліпеньскім нумары «Хрысціянскай думкі» з’явіўся артыкул а. Германовіча (Вінцука Адважнага) «Мая думка аб “Хрысьціянскай думцы”», у якім сярод іншага аўтар пісаў: «Вось жа канечна трэба здабываць для “Хрысьціянскай думкі” новых падпішчыкаў і карэспандэнтаў. Яна павінна дайсьці да рук усіх беларусаў-каталікоў; павінна пісацца не толькі ксяндзоўскай пэўнай рукою, але і дрыгучай клерыцкай і мазалістай сялянскай. Апэлюю да ўсіх братоў-беларусаў, старшых і вучоных, каторыя дзеля розных прычын пакінулі роднае пяро <…> Як яшчэ многа можна і трэба спадзявацца ад тых, што так бойка і жыва пісалі ў газ. «Беларус», як а. Б. Пачопка, Пётра Просты, Паўла Раніца і мн. інш.! Няўжо ж яны былі толькі яснымі мэтэорамі на нашым хмарным небасхіле? Народ разбудзілі, а самі заснулі»*.

Артыкул выклікаў ажыўленую дыскусію пра тое, якой павінна быць «Хрысціянская думка». Дасталося і друйскім марыянам, якія адзначыліся сваёй адсутнасцю ў беларускім рэлігійным і грамадскім жыцці. Першы напісаў а. Язэп Рэшаць: «Пажадана, каб да “Хр. Д.” прылажыліся як належыцца беларусы айцы марыяне»**. Больш канкрэтна выказаўся а. Уладзіслаў Талочка:

---

* W. Adw. Maja dumka ab «Chryścijanskaj dumcy» // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, lipień 1936. № 7. S. 5.

** Chyścijanskaja dumka. Vilnia, vierasień 1936. № 9. S. 8.

«Думаю, што было б добра, каб нашыя айцы марыяны пазволілі аднаму з іх падпісываць “Хр. думку” як рэдактару, а так жа далі сваю марыянскую фірму як выдаўца. Можна і трэба запрагчы марыянскіх студэнтаў клерыкаў, каб нешта пісалі. Клерыкі літоўцы пішуць артыкулы ў “Viln. Aušra”. Клерыкі латышы пішуць у “Katolu Dzeve”. Клерыкі ўніяты ў Дубне пішуць у свой часапіс “Друг”. Вось жа ідзём і мы іх сьлядамі!»* Нарэшце, Язэп Найдзюк, дырэктар друкарні імя Ф. Скарыны і рэдактар часопіса «Шлях моладзі», выказаў думку, якую падзялілі шмат якія беларусы: «Вось жа В. Адв… заклікае да працы ўсіх тых, што “народ разбудзілі, а самі заснулі…”. Добра гэта, але шкада, што В. Адв. нічога не ўспомніў аб самым галоўным, а іменна аб беларускіх законьніках айцох марыянах. Бо мне здаецца, што ў выдавецтве “Хрысьціянскае думкі” львіная часьць хлопатаў павінна прыпасьці якраз айцом марыянам. Яны, як ведаем, многа працуюць для Каталіцкага Касьцёла, але на жаль толькі не ў родным краю, толькі не сярод беларускага народу. Праўда, не іх у гэтым поўная віна. Але нягледзячы на ўсё, усё ж такі айцом марыянам трэба было б больш зьвярнуць увагі на свой беларускі народ, каторы можа больш іх патрабуе, чымся кітайцы. Мне здаецца, што абавязкам нават ёсьць марыянаў стацца для беларусаў тым, чым для палякаў ёсьць аа. францішканы з Непакалянова, або аа. базыліяны для ўкраінцаў. А дзеля гэтага абавязкам ёсьць айцоў марыянаў, каб “Хр. думка”, падобна як “Rycerz Niepokalanej”, была ўсюды, а перадусім у кожнай беларускай каталіцкай хаце. Абавязкам айцоў марыянаў ёсьць так жа, каб “Хр. думка” выходзіла часьцей»**.

Гэтая вострая, хоць і не беспадстаўная крытыка не датычыла а. Германовіча, якога не трэба было заахвочваць да працы сярод беларусаў. Ён не толькі пісаў у «Хрысціянскую думку», але хутка стаў сябрам яе рэдкалегіі. Пад ягоным уплывам пачалі пісаць клерыкі Часлаў Сіповіч (псеўданім Васіль Крывічанін), Антон Цвячкоўскі (Антон Кумша) і Антон Падзява (крыптанім А. П.).

Айцец Германовіч браў таксама актыўны ўдзел у рэлігійным і грамадскім жыцці Віленскае беларускае грамады, уцягваючы ў яго сваіх студэнтаў. Вось некалькі прыкладаў з хронікі студэнцкага дома, якую вялі Антон Цвячкоўскі і Часлаў Сіповіч:

«13.X (1936 г.). Адведаў а. супэрыёра Я. Германовіча а. Урбан, Т. І. і запрасіў да супрацоўніцтва ў часопіс «Да злучэньня».

---

* Chyścijanskaja dumka. Vilnia, kastryčnik 1936. № 10. S. 8.

** Op. cit. S. 7.

25.X. Бр. Гайдзель грае ватыву на Кальварыі <…>. Вярнуўшыся, знаходзім гасьцей: п. А. Луцкевіча і інж. Трэпку <…>.

2.XI. Задушкі. <…> На могілках Россы доўга шукаем магілы К. Стэповіча. Урэшце знайшлі. Аглядаем. Дзівіць нас прастата і скромнасьць. Запальваем сьвечкі. Адмаўляем супольна "Анёл Панскі". Айцец супэрыёр падае агульныя весткі аб асобе Казімера Сваяка і Альбіна Стэповіча. Дзіўным пачуцьцём напоўнены вяртаемся да хаты.

7.XI. <…> Гэтага дня слухаем у сваім рэфэктары канцэрт. Іграе на цымбалах дзядзька Аляксандар Матусэвіч, родам з Гальшан. Перад музыкай падае аўтабіяграфічную зацемку. Быў у Манчжурыі, перайшоў бальшавіцкую Расею <…> Ігра была на высокім ураўні мастацкім <…> Уражаньне як найлепшае. Прысутнымі былі госьці: кс. Ад. Станкевіч, Берняковіч (экс-студыта), студэнты В. Ермалковіч і П. Гайдзель.

14.XI. Адведвае нас др. Станіслаў Грынкевіч. Ветлівы, гаваркі. Ай. супэрыёр запрашае яго да нас з дакладам з галіны псыхіятрыі.

26.XI. Прагулка. Па дарозе аглядаем бажніцу караімаў. Вельмі ўсім спадабалася. Густоўная, стыль маўрэтанскі. Пекна ў прапорцыях і дробных аздобах.

29.XI. Першая нядзеля Адвэнту. Айцец Я. Германовіч цэлебруе "раpаты" ў касьцёле св. Духа. Прыслугоўваюць да імшы "*modo canonico*" бр. Сіповіч і Цьвячкоўскі. Казаньне гаварыў кс. Адам Станкевіч.

6.XII. Ай. Супэрыёр чытае ў Бел. Інстытуце Гаспадаркі і Культуры лекцыю на тэму: "Манчжурыя — край і людзі".

13.XII. "Дзень беларускай культуры". Калегія *in corpore* бярэ ўчасьце. Акадэмія ў салі гімназіі Вітаўта Вялікага. Рэфэрат аб культуры чытаў кс. Ад. Станкевіч. Сільнейшыя кроме таго мамэнты слаўнага вечара: прамова ўкраінскага пасла Трэяна паўкраінску, мілагучныя напевы хору Шырмы і сьпеў солё артысты опэры "La Scala" Забэйды-Суміцкага. Уражаньне як найлепшае».

Весткі пра дзейнасць Германовіча дайшлі да Цікоты, і ён звяртаўся да а. Язэпа 2 сакавіка 1937 г.: «Маю да цябе, даражэнькі, просьбу: будзь ласкаў на такія рэчы, як Акадэмія ў дзень культуры або штось падобнае, клерыкаў не пускаць. Прыходзіць мне думка, ці ты іх не пушчаеш часам на лекцыі БІГК (Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. — *А. Н.*), а гэта тож было б непатрэбна. Яны мусяць мець свайго роду далейшы працяг навіцыяту, і яны аб гэтым павінны ведаць. Не забывайся тож аб абставінах, у якіх знаходзіцеся. Трэба тож старацца, каб

яны і ў нядзелю мелі імшу сьвятую ў сябе дома і не хадзілі па касьцёлах».

Цікота меў, відаць, на думцы ўдзел марыянскіх клерыкаў у богаслужэннях для беларусаў, якія адпраўляў у нядзелі і сьвяты а. Адам Станкевіч у касцёле св. Мікалая. У студэнцкай хроніцы ёсць пра гэта згадкі, як, напрыклад, наступная пад датай 2 лютага 1937 г.: «Імшу сьв. слухаем у касьцёле сьв. Мікалая. Казаньне стройна гаварыў кс. Адам Станкевіч. Громка сьпявалі “Божа, што калісь народы”».

Грамадская і пісьменніцкая дзейнасць Германовіча таксама была Цікоту не зусім даспадобы. У лісце за 14 траўня 1937 г. ён пісаў: «Прыкра мне прыпамінаць табе ўжо не першы раз канстытуцыі (марыянаў. — *А. Н.*), але мушу рабіць гэта са свайго абавязку і вельмі, вельмі прашу помніць, што істнуе 365 н. Кон(стытуцыяў), а 180 н. забараняе нам мяшацца ў якія колечы нацыянальныя спрэчкі і наказывае заўсёды шукаць толькі справы Хрыстусовай і Касьцёла*. Выбачай мне, што табе дакучаю. Але скажы мне, што ты рабіў бы, знаючы, што хтось з тваіх падуладных робіць штось без дазволу і нязгодна з канстытуцыямі? Няўжо ты думаеш, што твой талент прападзе, калі будзеш з яго карыстацца, атрымаўшы дазвол, паддаючыся адпаведнай цэнзуры і нікому не прыпісваючы “асьліных вушэй”?»

Згадка пра «асьлінresponse вушы» адносіцца да канфлікту між а. Германовічам (Лявонам Ветрагонам) і ананімным крытыкам у газеце «Беларускі фронт», рэдактарам якое быў а. Вінцэнт Гадлеўскі. Вельмі магчыма, што прычынаю гэтага канфлікту стаўся верш Лявона Ветрагона ў снежаньскім нумары 1936 г. «Хрысціянскае думкі», дзе той пісаў:

У беларускім гарызонце
Фронт пад фронтам, фронт на фронце.

---

* Вось адпаведныя пункты марыянскай канстытуцыі: «365. …ня можна законьнікам без пазваленьня свайго старшага вышэйшага <…> і мясцовага біскупа выдаваць кніжак зьместу сьвецкага, а таксама ня можна пісаць у газэтах, часопісях ці журналах пэрыядычных, ані кіраваць імі. 180. Сусім забараняецца прымаць мандат у соймы, а такжа агітаваць. У работу адміністрацыйную, палітычную, ці нацыянальную не павінны мяшацца, ані ўчасьнічаць у агітацыі. Павінны быць у старане і вышэй ад спраў палітычных і партыйных, іхняй справай павінна быць справа Хрыстова і Каталіцкага Касьцёла» (Konstytucyja Kongregacyi Ajcoй Maryjanaй. Pierakiaй z iacinskaj movy a. Jazep Hermanovič. Vilnia, 1934. S. 101 і 52).

А як фронт удасца слабы —
Падпіраюць яго бабы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Гэй, палітыкі, глядзеце:
Душы цэлай не дзялеце!
Жыцьцё наша, як захоча
Вашы фронты пераскоча*.

У № 4 за 1937 г. «Беларускага фронту» з'явіўся нікім не падпісаны агляд беларускіх перыядычных выданняў, у тым ліку «Хрысціянскай думкі», пра якую невядомы аўтар пісаў: «Найгорай прадстаўляецца "Хрысьціянская думка", якая хоць і пачала выходзіць часьцей <…>, вымагае, аднак, лепшай апрацоўкі матар'ялу і лепшага ўкладу <…>. На наш погляд, трэба "Хр. Д." рэдагаваць папулярна <…>, але папулярнасьць — гэта яшчэ не тое самае, што наіўнасьць. Бо ці не наіўнымі трэба прызнаць інфармацыі з заграгічнай палітыкі або палітычныя вершы Лявона Ветрагона? Гэты апошні асьвятляе "палітыку" не толькі наіўна <…>, але і тэндэнцыйна, пры гэтым ягоная тэндэнцыя ідзе па лініі для нас вельмі загадкавай»**.

Лявон Ветрагон адказаў у «Хрысціянскай думцы» вершам «Мікель Анджэлё і ягоны крытык», які ён прысвяціў «майму крытыку з "Беларускага фронту"». У вершы аўтар распавядае пра вялікага італьянскага мастака, які адпомсціў свайму зацятаму крытыку, змясціўшы ягоны партрэт у пекле на сваёй карціне Страшнага Суду ў Сікстынскай капліцы ў Ватыкане. Верш сканчаецца радкамі:

Вось крытык, дужа невясёлы
Зьмяёю апаясан, голы
Сядзіць у пекле тымчасамі
На дне з асьлінымі вушамі***.

Германовіч прыняў крытычныя заўвагі свайго законнага начальніка спакойна, але асабліва імі, відаць, не праняўся. Ціхота хацеў адгарадзіць клерыкаў ад беларускага рэлігійнага і

* Lavon Vietrahon. I dziŭna i strašna // Chryścijanskaja dumka. (126). Vilnia, śnižań 1936. № 12 S. 8.

** Крыху аб абноўленай бел. прэсе // Беларускі фронт. Вільня, 05.03.1937. № 4 (13). С. 3.

*** Lavon Vietrahon. Michel Angelo i jahony krytyk // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 20.03.1937. № 6 (132). S. 7.

грамадскага жыцця па-за кляштарам, іншымі словамі, трымаць іх у парніковых умовах. Германовіч, наадварот, лічыў, што клерыкі павінны адчуваць сябе часткаю грамадства, сярод якога ім прыйдзецца працаваць, а для гэтага ім трэба ведаць не толькі мову. Таму, нягледзячы на дамаганні Цікоты, ён не змяніў сваіх метадаў узгадавання. У хроніцы студэнцкага дома пад датаю 16 траўня 1937 г. чытаем: «Участвуем усе ў канцэрце беларускім, ладжаным студэнцкім саюзам у салі Сьнядэцкіх УСБ (Унівэрсытэт Сьцяпана Батуры. — *А. Н.*). Сьпяваў мілагучна хор Шырмы і Забэйда-Суміцкі. Усе на высокім узроўні мастацкім». А праз чатыры дні, 20 траўня, вялікі беларускі спявак быў госцем у марыянскім студэнцкім доме: «Гэтага ж дня гасьцілі ў нашым доме: Забэйду-Суміцкага, артысту сьпевака опэры Мілянскай “La Scala”; кс. рэд. Ад. Станкевіча, рэд. Я. Пазьняка, інж. Клімовіча і мгр. Шутовіча».

Дамаганне Цікоты, каб Германовіч даваў свае творы на папярэднюю цэнзуру, гучала дзіўна. «Хрысціянская думка» была рэлігійным часопісам і выходзіла «з дазволу духоўнай улады», як ясна зазначалася ў кожным нумары. Гэтай уладаю ў дадзеным выпадку быў не хто іншы, як архібіскуп Ялбжыкоўскі, які з прыемнасцю зачыніў бы часопіс, калі б знайшоў у ім што-небудзь супярэчнае з навукаю Царквы. Цэнзуру палітычную праводзілі польскія ўлады, якія сканфіскоўвалі нумар, калі знаходзілі ў ім нешта такое, што «пагражала бяспецы дзяржавы». Цікота хацеў увесці для Германовіча яшчэ трэцюю — сваю, марыянскую цэнзуру…

Цікота, відаць, думаў, што, седзячы ціха і пазбягаючы ўсяго, што б прыцягвала ўвагу польскіх уладаў, ён уратуе Друю, на якую тыя глядзелі крывым вокам. Марна спадзяваўся. 15 ліпеня 1937 г. у «Хрысціянскай думцы» з’явілася наступная вестка: «У Вільні паявіліся чуткі, што робяцца захады выселіць айцоў марыянаў з Друі, бо там пагранічная паласа, а гэныя айцы, як пераважна беларусы, маюць быць там непажаданыя. Калі б так сталася, то гэта была б сапраўды іронія лёсу, бо ж айцы марыяне ў Друі, нягледзячы на сваю беларускасьць, бадай выключна працуюць па-польску і гэтым самым для польскасьці»*.

* Prociŭ ajcoŭ maryjanaŭ // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 15.07.1937. № 14 (140). S. 4.

## «Раскіданае гняздо»

Тым часам у Друі знішчаліся апошнія сляды беларускасці. Айцец Язэп Дашута пісаў Цікоту 8 чэрвеня 1937 г.: «У нашым жыцьці няма чым пахваліцца <…> Дысцыпліна, асабліва сярод малых хлапцоў, была папросту немагчымая*. Трох хлапцоў па Вялікадні пагналі з кляштара. Мы ніякага ўплыву на дзяцей і навонкі не робім, але самі паддаемся пад уплыў звонку. Месяц таму нп. Супэрыёр (паляк Уладзіслаў Лысік. — *А. Н.*) склікае сабраньне Рады і ставіць унёсак гаварыць з хлапцамі пацеры па-польску, а не, то па-лаціне, бо ён на дамаганьне хлапцоў правёў галасаваньне і большасьць высказалася за польскім. Дзеці ў гімназіі тож не даюць яму спакою, дапытваюцца, калі ў кляштары перастануць пацеры гаварыць па-беларуску».

Айцец Германовіч у Вільні быў вельмі заняты. Ён даваў рэкалекцыі, у тым ліку для беларускай інтэлігенцыі ў лютым 1937 г.; дапамагаў у пастырскай працы айцом Адаму Станкевічу, Казімеру Кулаку і Міхалу Борыку; пісаў шмат у «Хрысціянскую думку». І ўсё гэта — у дадатак да абавязкаў кіраўніка (суперыёра) дома беларускіх марыянскіх клерыкаў-студэнтаў, якія, як пісаў а. Дашута Цікоту 12 лістапада 1936 г., «а. Германовіча хваляць, што болей імі апякуецца і лепш корміць, чым а. Георгій (Кашыра. — А. Н.)».

Недалёка ад Вільні была гара Кальварыя, куды прыходзілі пілігрымкі з усёй Віленшчыны. Там стаяў некалі дамініканскі кляштар, на тэрыторыі якога месціліся г. зв. «стацыі» Крыжовага Шляху, кожная з якіх выяўляла эпізод з Мукаў Госпада Ісуса Хрыста. Пілігрымы, выслухаўшы св. імшу, абыходзілі стацыі, а святар ці святары пры кожнай з іх казалі кароткае слова. Усё гэта суправаджалася адмысловымі малітвамі і спевамі. Пілігрымка сканчалася ў Кальварыйскім касцёле Блаславеннем Найсвяцейшым Сакраментам (Святымі Дарамі). Беларусы ўпершыню зладзілі сваю пілігрымку ў 1935 г. Праз год арганізатары спалучылі яе з урачыстасцю высвячэння надмагільнага помніка а. Кастусю Стаповічу (паэту Казіміру Сваяку). У 1937 г. прызначылі пілігрымку ў нядзелю 6 чэрвеня, а кіраўніком яе абралі а. Язэпа Германовіча. Вось як апісвае сваё ўражанне ад пілігрымкі адзін з удзельнікаў: «Па прыкладу папярэдніх гадоў зборка пілігрымаў была ў касьцёле сьв. Мікалая, адкуль, выслу-

* Маюцца на ўвазе хлопцы-гімназісты, якія выказалі жаданне ў будучыні паступіць у марыянскі закон; яны жылі пры кляштары ў г. зв. «ювенаце» пад кіраўніцтвам аднаго з законнікаў.

хаўшы імшы і вельмі прыгожага казаньня кс. Я. Германовіча, з крыжам і беларускімі ксяндзамі, сьпяваючы беларускія песьні, ідзём вуліцамі Вільні аж у Кальварыю, дзе па малым перапынку пачынаем абходзіць і разважаць Крыжовую Дарогу нашага Збаўцы. Пры кожнай стацыі ксяндзы мелі беларускія прамовы, якіх людзі слухалі з захапленьнем і кожнае іх слова, як агнём, выпалівала знак у нашай душы»*. З нагоды пілігрымкі ўпершыню моцна прагучалі «экуменічныя» матывы. Да іх непасрэдна спрычыніўся вядомы «місіянер», канонік Караль Любянец, які на некалькі дзён раней таксама наведаў Кальварыю з вялікай групай праваслаўных беларусаў, з якіх ён намагаўся зрабіць добрых польскіх каталікоў. «Хрысціянская думка» з гэтай нагоды пісала: «Некалькі сот праваслаўных беларусаў прывёў у Кальварыю ксёндз, які прамаўляў да іх выключна па-польску і які нават не прызнае беларускай нацыі, дык чаму ж аб гэтым не падумаюць ксяндзы беларусы?» Газета працягвае: «На будучы год трэба папправіцца, на будучы год у Беларускай Пілігрымцы павінны быць і каталікі і праваслаўныя, пілігрымка гэта павінна быць агульнабеларуская. Бо ці ж не адна была для ўсіх нас Дарога Крыжа нашага Спаса?»**

На пілігрымку з'ехалася каля 400 чалавек з усіх куткоў Заходняй Беларусі. Упершыню ўдзельнічала ў ёй група грэка-каталікоў з Далятычаў разам з іхнім святаром, а. Вячаславам Аношкам. Не было толькі нікога — ні святароў, ні вернікаў — з Друі… Можна ўявіць, як адчуваў сябе а. Германовіч. Можа, таму ён не спяшаўся ў Друю, бо атмасфера ў кляштары яму не магла прыйсціся даспадобы. Праўда, ён прыязджаў на фэст св. Антона 13 чэрвеня, а таксама ў верасні адправіў у Друі свае гадавыя рэкалекцыі. У той раз, як пісаў Дашута Цікоту 21 верасня 1937 г., «Друйская паліцыя занепакоілася кс. Герм(ановічам), але ён ужо выяжджае ў Вільню». Гэта быў бадай апошні візіт а. Германовіча ў Друйскі кляштар, куды 13 гадоў таму ён паступаў з вялікімі спадзяваннямі працаваць дзеля з'яднання беларусаў праваслаўных і каталікоў у адной Царкве Хрыстовай. Калядныя вакацыі ён правёў ў Вільні разам з сястрой Антанінай, а на навагоднюю «багатую куццю» яго і паэту Міхася Машару запрасіў а. Адам Станкевіч.

* F. K. Uražańni z Biełaruskaj Pilihrymki u Kalvaryju // Chyścijanskaja dumka. Vilnia, 20.06.1937. № 12 (138). S. 6.

** Paśla Kalvaryi // Chyścijanskaja dumka. Vilnia, 20.06.1937. № 12 (138). S. 3.

Прыезд гадаванцаў а. Германовіча на Каляды прынёс новыя клопаты друйскім законнікам. Вось што пісаў а. Дашута Цікоту 24 студзеня 1938 г.: «У нас у Друі адносіны былі ўжо паправіліся, бо маем добрага капітана КОП (Корпус аховы памежжа. — *А. Н.*). Камэндант паліцыі тож чалавек добры, але вось па сьвяце, калі пабылі ў нас клерыкі, чуюцца закіды, што кс. Германовіч выхоўвае ворагаў Польшчы, і да нас пачаліся недавераньня большыя. Некаторыя з клерыкаў надта шчыра пачаліся высказвацца прад патрыётамі аб іхнім пажаданьні незалежнасьці Беларусі, і вось тым усіх раздражнілі і горай настроілі ваяводу». У лютым (на лісце няма дакладнай даты) Дашута атрымаў адказ ад Цікоты: «Весткі аб клерыках моцна мяне засмуцілі <…>. Напішы ці, лепей, скажы аб гэтым а. Германовічу і прасі яго маім іменем, каб ён аб гэтым паважна падумаў і не наражаў усей нашай справы».

Цікота мог не хвалявацца, бо лёс Друі быў ужо вырашаны. Польскія ўлады даўно шукалі спосабу пазбыцца беларускіх марыянаў, але не маглі знайсці прычыны, бо яны мелі польскае грамадзянства і не рабілі нічога супрацьпраўнага. Дапамог новы закон, які дазваляў уладам высяляць адміністрацыйным спосабам з памежнай зоны ўсіх, чыя прысутнасць магла пагражаць бяспецы дзяржавы. Беларускіх марыянаў, відаць, палічылі такімі небяспечнымі асобамі, а Друя знаходзілася ў памежнай зоне…

Тым часам ціск на Друю несупынна ўзмацняўся. Было вырашана стварыць у вёсцы Малькаўшчына, якая належала да Друі, новую парафію. Магчыма, на тое меліся прычыны пастырскага характару. Польскія ўлады насцярожвала тое, што ў Малькаўскай капліцы, куды даязджалі друйскія марыяне, да канца захаваліся беларускія казанні. Безумоўна, марыяне не былі задаволеныя, асабліва выканаўца абавязкаў пробашча а. Язэп Дашута, хоць ён стараўся публічна ў гэтай справе не выказвацца. У лісце за 6 красавіка 1937 г. ён пісаў Цікоту: «Я сваім парахвіянам нічога не казаў аб тварэньні новай парафіі ў Малькаўшчыне, сказалі “суседзі” <…>. Паехаў я ў ма(ёнтак) Лазоўку на сабраньне моладзі. Спаткаўся ў вагоне з кс. Эліяшам <…>. Ён, відаць, мяне западозрыў, што еду да парахвіян Малькаўскіх бунтаваць проціў новай парахвіі. Гэтым тлумачу напасьць на мяне прад супэр(ыёрам) ваяводы і візыту ў кляштары старасты. Ваявода ругаў, што ізноў бунтую парахвію, не даў у маёй абароне высказацца супэрыёру і падкрэсьліў, што прыгавар на вывязеньне нас з Друі ўжо падпісаны».

Візіт суперыёра а. Лысіка да ваяводы адбыўся 10 сакавіка. Днём раней адведаў Друйскі кляштар новы стараста браслаўскі.

Дашута ў згаданым лісце піша: «Закідаў нам казаня беларускія, распаўшахнене кніжак, малітаўнікаў беларускіх, размышляня беларускія і т. д. <…> Даводзіў мне, што ён сам тутэйшы, што ў Друі беларусаў нет, ёсьць народ тутэйшы, з каторага як з гліны можна зрабіць і палякаў і беларусаў, і вось мы робім беларусаў і гэтым робім антыпаньствовую работу, бо ідэал паньства (дзяржавы. — *А. Н.*) — гэта паньства адналітае што да народнасьцей».

Пабываў староста таксама і ў Малькаўшчыне: «Быў і ў Малькаўшчыне. Там староста шукаў у Корбута кватэру для пробашча. Напаў на Корбутаў, што пазволілі бальшавіцкія (г. зн. беларускія. — *А. Н.*) казаня казаць, а калі малады Корбут пачаў бараніць і паказаў, што і сам маець кніжку да набаж(энства) беларускую, зарэквіраваў (сканфіскаваў. — *А. Н.*), і пагразіў, што яму за гэта яшчэ ўляціць. Для пробашча ў Малькаўшчыне ваявода даець 20 га. зямлі ў Дзедзіне». Дбанне польскіх ваяводы і старасты пра духоўныя патрэбы беларускіх вернікаў Малькаўшчыны не магло не кранаць сэрца.

Было зразумела, што канец ужо блізка. 22 траўня 1938 г. а. Цікота ў Вільні меў гутарку з ваяводскім начальнікам бяспекі. Той сказаў яму, што калі не забярэ беларускіх марыянаў з Друі, то іх сілаю высяляць. Цікота адказаў, што на вырашэнне друйскай справы трэба часу. Але польскія ўлады не хацелі чакаць. На пачатку наступнага месяца айцы Дашута, Смулька, Хамёнак і Кашыра атрымалі загад, падпісаны Віленскім ваяводам Людвікам Бацянскім, пакінуць Друю да 10 чэрвеня. Ніякіх прычынаў высялення ў дакуменце не падавалася. Згаданыя айцы сапраўды пакінулі Друю 9 чэрвеня. Яны затрымаліся ў маёнтку Канстанцыянава, што належаў прыяцелю марыянаў Райманду Гузу, за нейкіх пяць кіламетраў ад Друі, дзе сканчалася памежная зона. У кляштары засталіся толькі а. Лысік і ягоны памочнік а. Аксютовіч, абодва палякі. Праз некалькі дзён, 13–14 чэрвеня, выгнаннікі паціху вярнуліся у Друю. У чацвер 16 чэрвеня было свята Божага Цела (*Corpus Christi*) у рымскім (лацінскім) абрадзе. Каб ушанаваць гэты святы дзень, польскія «патрыёты» разам з жаўнерамі Корпуса аховы памежжа і парамілітарнай арганізацыяй «Стралец» наладзілі вялікую маніфестацыю супраць беларускіх марыянаў. Сярод вынесеных розных рэзалюцыяў асабліва вызначалася адна, якую запісаў клерык Часлаў Сіповіч: «Асуджаем а. генерала Цікоту за тое, што загадаў аа. Германовічу і Абрантовічу насіць бароды і адпраўляць набажэнствы ў славяна-бізантыйскім абрадзе: нават Мураўёў прызнаў Друю

польскаю і не прафанаваў касцёла, пакідаючы нам польскую мову і лацінскі абрад».

Канец прыйшоў 23 чэрвеня. Вось як апісаў, што здарылася ў гэты дзень, Часлаў Сіповіч у студэнцкай хроніцы: «Дваццаць трэцяга чэрвеня тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмага году прыехалі ў Друйскі кляштар айцоў марыянаў беларусаў шэф тайнай паліцыі павету браслаўскага і стараста браслаўскі, і звярнуліся да айцоў з прыказам выезду. Пагразілі, калі айцы самі ў прыгатаваны да вывязеньня айцоў аўтамабіль не выйдуць, то зломяць кляўзуру і возьмуць айцоў сілай. Вакол аўтамабіля, кляштару і касьцёла стаяла аружаная (узброеная. — *А. Н.*) паліцыя. Айцы не сьпяшая адправілі сьвятыя імшы <…>. Дзеля сьвятарскіх сутанаў не згадзіліся айцы, каб іх цягнулі сілаю ў аўтамабіль <…>. Першы ў самаход сеў а. К. Смулька, астатні а. В. Хамёнак, каторы навет паўтараў, што хай нас цягнуць, самім не трэба ісьці ў самаход старастаўскі. Пры гэтым сабралася шмат народу. Жанчыны заплакалі наўзрыў. Зьявіўся і фатограф, і калі толькі наставіў апарат, каб зьняць момэнт уходу айцоў у аўтамабіль, січасжа паліцыянт яму забараніў. Паліцыя радзіла айцам ехаць далей ад Друі. Дарма завезьлі б <…>. Але айцы, падзякаваўшы за няпрошаную ахвярнасьць, захацелі ў Канстанцыянаве ў таго ж Гуза чакаць на далейшыя загады сваёй улады <…>. На пав(ар)оце ад галоўнай дарогі да Р. Гуза сядзеў паліцыянт і пільна сачыў адведваючых айцоў людзей».

Праз два тыдні дайшла чарга і да клерыкаў, якія праводзілі ў Друі летнія канікулы. 8 ліпеня, калі яны працавалі на зборцы сена, паліцыянт прынёс ім павестку ад ваяводы з загадам пакінуць Друю і памежную зону на працягу 24 гадзінаў. У той самы дзень пад вечар два клерыкі, Часлаў Сіповіч і Антон Падзява, паехалі роварам у Канстанцыянава, дзе яшчэ жылі друйскія айцы, чакаючы, як вырашыцца іхні лёс. Прыехаўшы, як апісвае Сіповіч у «Хроніцы», яны знайшлі, што «Два з іх, а. В. Хамёнак і а. Ю. Кашыра, нічога не дачакаўшы лепшага ад уладаў, разьвіталіся з усімі і сабіраліся ў дарогу (Друя–Варапаева–Вільня–Варшава). Пацалаваліся, сумна ўсьміхнуліся, а айцец Дашута засьпяваў ведамую расейскую песьню: “Последний нонешний денёчек гуляю с вами я, друзья”. І ад’ехалі два айцы. Крыху спусьця а. К. Смулька, Падзява і Сіповіч пашлі на бераг Гузавага возера <…>. (Айцец Смулька) глядзеў у неба і паўтараў: “Што прасьледаваюць нас, гэта добра, толькі дрэнна, што за самую ідэю нацыянальную. А мы для яе самой беспасярэдня ніколі не працавалі. Палякі зрабілі глупства, нас выганяючы,

і не на карысьць сабе, гэта аж надта ясна"». Наступнага дня марыянскія клерыкі назаўсёды пакінулі Друю і паехалі кожны да сваіх бацькоў.

У міжчасе, калі цёмныя хмары збіраліся над Друяю, айцец Язэп Германовіч у Вільні не пераставаў інтэнсіўна працаваць. У «Хрысціянскай думцы» за 1 красавіка 1938 г. ёсць ліст чытача, які падпісаўся ініцыяламі Г. Л., са Свіра: «16-га, 17-га, 18-га і 19-га гэтага месяца (сакавіка. — *А. Н.*) у сьвірскім касьцеле адбываліся рэкалекцыі і велікодная споведзь <…>. Для сьведамых беларусаў сьвірскай парахвіі, асабліва для тых, хто браў удзел у леташняй беларускай пелігрымцы ў Кальварыю, мілай неспадзеўкай на рэкалекцыях быў а. Германовіч, марыянін з Вільні — як кіраўнік рэкалекцыямі ў сьвірскім касьцеле. Шмат ён папрацаваў для дабра нашых душ. Праз чатыры дні штодзень гаварыў па тры навукі, спавядаў разам з іншымі ксяндзамі, у пятніцу абводзіў Крыжовую Дарогу, разважаючы і прамаўляючы пры кожнай стацыі, і іншыя адпраўляў набажэнствы — за што яму сьвірская парахвія дужа ўдзячная. Наша парахвія надта палюбіла кс. Германовіча, як казнадзея; постаць гэтага місіянэра надоўга застанецца ў памяці сьвірскіх парахвіян»*.

У чэрвені 1938 г. споўнілася 25 гадоў святарства а. Германовіча і другога вядомага беларускага святара Віктара Шутовіча. Айцец Адам Станкевіч даў ім такую характарыстыку: «Вось два верныя сыны беларускага народу, вось два праўдзівыя яго апосталы, павадыры, грамадзяне. Народ знае іх шырока і далёка, і найлепшую і найдаражэйшую памяць аб іх захавае назаўсёды. Здрада паніжае чалавека, а вернасьць вывышае. Беларускія ксяндзы народнікі, якія вось сьвяткуюць 25 гадоў свайго сьвяшчэнства, не паддаліся ніякім бурам і ніякім безгалоўям, астаючыся заўсёды вернымі Богу і народу»**. Святкаванне юбілею спалучалася з беларускай пілігрымкай у Віленскую Кальварыю 12 чэрвеня. Вось як апісвае ўрачыстасць а. Віктар Шутовіч у лісце а. Тарасевічу ў Чыкага 14 верасня 1938 г.: «Гэты ліст будзе аб маім юбілеі <…>. У беларусаў у касьцёле сьв. Мікалая я вычуў нэрвовасць. Цесната нат у набажэнствах <…>. А шпіцлі кругом нас аж кішэлі! Сільна да юбілятаў прамовіў Адамка (Станкевіч. — *А. Н.*) у касьцёле, і мы выйшлі на вуліцу. Дысцыпліна ў паходзе была найлепшая, пяялі ўмела і

* H. L. Miłaja niespadzieŭka // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 01.04.1938. № 10. S. 8.

** Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 10.06.1938. № 17. S. 3.

натуральна. Вільня тут на беларусаў зьвярнула ўвагу. Гэдак мы прыйшлі на Кальварыю. Народу нашага было больш як тысяча <…>. Стацыі абыходзілі энэргічна, прамаўлялі пакалейцы. Я гаварыў пабожна аб Хрыстусе, Германовіч ужо гарачэй з дамешкай патрыятызму, а наш Адам зусім салідна ўсё разам лучыў, і беларускі патрыятызм і наша рэлігійнае жыцьцё <…>. І па такой удалай працэсыі нейкі сум быў на маей душы, а ўсё дзеля таго, што народу нашаму цяжка, ой, цяжка сягодня! На добры лад і пры другіх абставінах, прыехаўшы цяпер з Кальварыі, нам траім трэба было нейдзе пасядзець разам, пагаварыць, пасьмяяцца. Але нам было не да таго. Да кляштару Германовіча ў Вільні былі да ўсіх дзьвярэй прыстаўленыя тайныя, што пільнавалі, калі ён і куды выходзе, а калі і адкуль прыходзе <…>. Я такі адважны і то баяўся наругацца гэным апекуном і ні разу не адведаў майго добрага калегі Язэпа».

Святарскі юбілей айцоў Германовіча і Шутовіча натхніў двух беларусаў, якія падпісаліся ініцыяламі С. З. і П. З., на вось які верш у іхні гонар:

У 25-я ўгодкі
Сьвятарства нашых двух ксяндзоў
Мы, крывічоў сыны-патомкі,
Вітаем вас ад гэтых слоў:
Жадаем вам найбольш здароўя,
Вы, юбіляты, сьвятары,
Жывіце ж вы для нас так доўга —
Гадоў йшчэ столькі — разоў тры.
Айцы — адзіныя з адзіных —
Братоў-сялян павадыры,
Вы грамадзяне нашых вёсак
І за іх долю змагары.
Мы шлём за гэта вам падзяку,
Што вы не кінулі сваіх —
Калісь гісторыя напіша
Пра вас у словах залатых*.

Гэтыя радкі з’явіліся ў «Хрысціянскай думцы» за 10 ліпеня, у дзень, калі, згодна з загадам Віленскага ваяводы, айцец Германовіч меўся пакінуць Вільню. Насамрэч ён выехаў адтуль

* S.Z. P.Z. Ks.ks. J. Hermanoviču i V. Šutoviču ŭ 25-tyja ŭhodki śviatarstva // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 10.07.1938. № 19. S. 5.

13 ліпеня ў Варшаву, куды неўзабаве на загад а. генерала Цікоты падаліся ўсе іншыя друйскія выгнаннікі. Айцец Віктар Шутовіч у «Хрысціянскай думцы» апісаў свае сустрэчы з імі, калі яны былі ў дарозе: «Мы ведаем, што айцы марыяне і іх клерыкі ўжо з Друі выселены. На дарозе я спаткаў іх урассыпку, адных у Сакольцы, другіх у Беластоку. Як тыя птушкі пералётныя ехалі яны ў Варшаву <…>. Яны маўчаць і не адказваюць на мае пытаньні, нешта глыбока ў сабе разважаючы. Айцы гэтыя ў веку такім, калі найбольш працаваць можна. На галаве ў іх ужо сівы волас, але трымаюцца яны добра. Айцы марыяне да мяне соладка, хоць праз сьлёзы, усьміхаліся. Я бачыў у іх ахвоту да жыцьця і працы <…>. Іх душу цяпер залягла думка, што ім, выгнанцам з Друі, рабіць у Варшаве? <…> Я пытаўся гэтых айцоў, чаму ім так шыбка загадана было выехаць з Друі? На гэта пытаньне айцы марыяне не адказалі мне. Ды мне іх адказу і не трэба было. Я ўжо практычны чалавек і добра сам ведаю, за што гэтыя айцы і іх клерыкі выехалі з Друі»*.

Наогул беларуская прэса пісала пра высяленне друйскіх марыянаў даволі стрымана, абмяжоўваючыся толькі фактамі. Часопіс «Шлях моладзі» тлумачыць прычыну такой нешматслоўнасці: «Ад падробнага апісаньня справы высяленьня айцоў марыянаў стрымліваемся з прычын цэнзуральных. Зазначаем пры тым, што за апісаньне падзеяў у Друі быў сканфіскаваны “Kurier Wileński” з 12.VII»**.

У марыянскай студэнцкай хроніцы, якую працягваў весці Часлаў Сіповіч, так сканчаецца апісанне гэтых падзеяў: «У Друйскі дом прыехалі айцы марыяне палякі на чале з супэрыёрам Э. Кулешай. Также ў Вільні пры Зыгімонта вул. будуць клерыкі з Польшчы і хадзіць будуць у віленскую сэмінарыю»***.

* Ks. V.Š. Majo spatkańnie ajcoŭ Maryjanaŭ // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 05.08.1938. № 21 (169). S. 4.

** Dalejšyja vysialeńni Biełaruskich zakońnikaŭ // Шлях моладзі. Вільня, 25.07.1938. № 16. С. 6.

*** Айцец Адам Станкевіч пісаў 7 кастрычніка 1938 г. Язэпу Германовічу: «У нас гэткая непрыемная навіна: дом, дзе друкарня, на вясну будуць руйнаваць і зносіць. Вось жа няхай Ваш Галава (г. зн. Цікота. — *А. Н.*), замест прымаць нашых “прыяцеляў”, адступіць нам які кут пад каталіцкае выдавецтва і друкарню. Гэта зусім выканальнае і згоднае з вашымі мэтамі і з намерамі вашых ахвярадаўцаў <…> На ліст гэты чакаю адказу». Невядома, ці Станкевіч атрымаў адказ. У кожным выпадку вельмі сумнеўна, ці новыя гаспадары дома, польскія марыяне («прыяцелі» ў лісце Станкевіча), згадзіліся б даць месца беларускаму

Айцец Віктар Шутовіч пісаў 1 верасня 1938 г. а. Хрызастому Тарасевічу ў Ляйль каля Чыкага: «А марыянаў нашых у Друі ўжо і сьлед прастыў! Усё загладзілі, затушавалі, як быццам нічога там беларускага і не бывала. Двох палякоў з Варшавы прыехала і вядуць парахвію ў Друі чыста папольску. Гэта дык чыстая трагэдыя для марыянаў! Нічога канкардат Рыму з Польшчай, нічога спэцыяльная апека Сьвятога Айца над законьнікамі ў Друі. Гэта апошняе нат лепш памагло архібіскупу Ялбжыкоўскаму, бо тут улады сьвецкія без архібіскупа ўсё гэта зрабілі».

* * *

Друйская гімназія была прыватнай і амаль праз увесь час свайго існавання не мела дзяржаўнага статусу, г. зн. ейныя вучні мусілі здаваць завочна дзяржаўны экзамен (г. зв. матуру) на заканчэнне сярэдняй адукацыі. Прыватнымі лічыліся таксама ўсе беларускія гімназіі. Спачатку ў Заходняй Беларусі іх было чатыры: у Вільні, Навагрудку, Клецку і Радашкавічах, а пры канцы 1930-х гадоў засталася толькі адна Віленская, і тая як філія польскае гімназіі. Галоўным, калі не адзіным, крытэрам прызнання правоў тэарэтычна выступаў узровень навучання. У выпадку беларускіх школаў, напэўна, уваходзілі ў гульню іншыя меркаванні. Але ж Друйская марыянская гімназія, дзе вучням забаранялася размаўляць між сабою па-беларуску, была настолькі польскаю, што далей няма куды. Не мінула і году ад высялення з Друі беларускіх марыянаў, як гімназія атрымала жаданыя правы. Пра гэта пісаў а. Цікоту ў Рым друйскі суперыёр паляк Я. Кулеша 9 чэрвеня 1939 г.: «Прыемна мне дадаць, што мы ўжо атрымалі правы. Дэкрэт міністэрства ёсьць з дня 15 траўня» (*Miło mi dodać, że już uzyskaliśmy prawa. Dekret ministerstwa jest z dn. 15 maja*). Трэба дзівіцца хуткасці, з якой павысіўся ўзровень навучання ў гімназіі, як толькі кіраўніцтва ёю перанялі палякі…

Прыблізна ў тым самым часе, калі беларускіх марыянаў і след прастыў, наведаў Друю архібіскуп Ялбжыкоўскі і вядомы «абаронца крэсув польскіх» кс. Юзаф Бародзіч. Пятрусь Сіповіч, які вучыўся ў Друйскай гімназіі і жыў у інтэрнаце, дзе, як сам казаў, было «*bardzo wesoło*» (вельмі вясёла), пісаў брату Чаславу

---

выдавецтву, хай сабе рэлігійнаму і каталіцкаму. Варта прыгадаць, што гэты дом быў куплены за грошы, вырučаныя за продаж брыльянтавага кальe, якое ў свой час княгіня Магдалена Радзівіл падаравала на заснаваньне беларускай грэка-каталіцкай калегіі (семінарыі) у Рыме.

ў Рым 7 чэрвеня 1939 г.: «На сёмуху (28 траўня. — *А. Н.*) у Друі быў біскуп Ялбжыкоўскі. Быў таксама і кс. Бародзіч. Я належу да саюзу скаўтаў (*związku harcerstwa*) і маю новы скаўцкі мундзір, у якім пішу гэты ліст. Ксёндз Вайдзік <…> адправіў урачыстую імшу (*sumę*) на сёмуху, у той час як Яго Эксц. архібіскуп сядзеў і маліўся на троне седзячы» (*siedział i modlił się na tronie siedząc*). Адным словам, палякі ў Друі праўлялі баль, быццам тыя пасажыры «Тытаніка» за хвіліну да таго, як карабель пацярпеў крушэнне і патануў.

## Лёс выгнаннікаў

Выгнаныя з Друі айцы і клерыкі ў канцы ліпеня сабраліся ў Варшаве. Там быў і генерал марыянскага закону а. Андрэй Цікота. Два клерыкі, Часлаў Сіповіч і Казімір Аніськовіч, на прапанову Цікоты згадзіліся прыняць усходні абрад і працягваць навуку ў Рыме, каб пасля ехаць у Харбін працаваць сярод расейцаў. У Рыме яны жылі ў Расейскай калегіі, або г. зв. Русікуме. Часлаў Сіповіч пісаў 28 ліпеня 1939 г. свайму колішняму друйскаму сябру Антону Цвячкоўскаму, які застаўся ў Варшаве: «Жыву ў калегіі, дзе расейцы, немцы, французы, булгар, літовец, славакі, эстонцы і г. д. твораць даволі згодную грамадку, каторай мэта *праца для сяньняшняй Расеі заграніцай і падгатоўка для прышлай ужо незалежнай*» (вылучана мною. — *А. Н.*). Пры канцы ліста ёсць прыпіска, у якой адчуваецца наіўны гонар за свой закон: «Гутарыў я з нашым а(йцом) з Латвіі, каторы такжа запускае бараду*. Можаш дагадацца мэту. Марыяне ў працы злучэньня цэркваў ідуць у першай чарзе».

Антон Цвячкоўскі праз некалькі дзён пасля пачатку польска-нямецкай вайны вырашыў развітацца з надзеяй стаць святаром. Не пытаючыся ні ў кога дазволу, ён пакінуў, як казаў, «польскі Сібір» (г. зн. Варшаву) і вярнуўся на Бацькаўшчыну. Свае прыгоды ён апісаў у газеце «Крыніца», што аднавіла свой выхад у далучанай да Летувы Вільні**. У тым часе ён не страціў сувязі з Чаславам Сіповічам, і калі той стаў дыяканам, паслаў яму кнігу

---

* Сіповіч меў на ўвазе латышскага марыяніна Баляслава Вальпітрса, які на прапанову архібіскупа Рыжскага ўвесну 1939 г. прасіў дазволу прыняць усходні абрад, каб мець магчымасць працаваць сярод расейцаў у Латвіі. Вайна паклала канец гэтым планам.

** Ćviačkoŭski A. Z maich uspaminaŭ (z Varšavy ŭ Vilniu) // Krynica. Vilnia, 05.12.1939. № 6. S. 2–3.

«*Чатыры Эвангэлі і Апостальскія Дзеі*» ў перакладзе а. Вінцэнта Гадлеўскага (Вільня, 1939) з наступным прысвячэннем: «З нагоды атрыманьня сьвячаньняў дыяканату прышламу апосталу Добрае Навіны, барацьбіту за волю Беларускага Народу гэтую кнігу ў роднае вопратцы ад імя Шальцін, Дзедзінкі, Друі пасылае з жаданьнем, каб прыміцыю цэлебраваў і Божае Слова сказаў у Роднае Старонцы Твой Антон. Вільня, 25.XII.39 г.» Пра далейшае жыццё Цвячкоўскага згадвае Язэп Малецкі ў сваіх успамінах: «А. Цьвячкоўскі, гадунец айцоў марыянаў у Друі, клерык Віленскае духоўнае сэмінарыі, у часе вайны вярнуўся да сьвецкага стану. Спачатку, у 1941 годзе, быў настаўнікам беларускай пачатковай школы ў Вільні, пасьля працаваў у Менску. У 1943 г. быў старшынём у Пастаўі, з прыходам бальшавікоў быў зьняволены ў Варкуце»*.

Цягам наступных некалькіх гадоў два іншыя колішнія друйскія клерыкі пакінулі марыянскі закон, але пра іх не было нічога чуваць у беларускім грамадскім жыцці.

У 1932 г. Германовіч пакідаў Беларусь не з уласнай волі. Ён ведаў, што ягонае месца — на Бацькаўшчыне, і гэта было галоўнай прычынай ягонай нервовай хваробы ў Харбіне. У 1938 г. ён разумеў, што ў Беларусі польскія ўлады не дазволілі б яму жыць. У Польшчы ён заставацца не меў жадання са зразумелых прычынаў, а ў Рыме яму не было чаго рабіць. Таму ён вырашыў вярнуцца ў Харбін, дзе мог, прынамсі, працаваць як пастыр і выхаваўца моладзі. За два тыдні перад ад’ездам, 2 сакавіка 1939 г., яму пашчасціла на плошчы св. Пятра бачыць толькі што абранага Папу Пія XII. Вось як ён апісвае гэтую хвіліну: «Вікары Езуса Хрыстуса дае багаславенства “*Urbi et Orbi*” — “Гораду і Сьвету”. — А я ў думках пералятаю туды, дзе нашы мілыя мястэчкі і вёскі, дзе зялёная рунь праціскаецца праз сьнег да вясеньняга сонца, дзе раньні жаваранак прыносіць вестку прабуджэньня. “Багаславі, добры Божа — рукою новага Архіпастыра — найцішэйшыя свае авечкі, гаротных беларусаў! Дай нам, Божа, толькі падняцца, стаць на крэпкія ногі, а мы — без чужой крыўды, сваім мазалём — добра папрацуем на Тваю славу, для славы і карысьці сваёй і для дабра ўсяго чалавецтва!”»**

12 сакавіка ў марыянскім кляштары адбыўся развітальны абед. Часлаў Сіповіч пакінуў апісанне гэтай падзеі ў студэнц-

---

* Малецкі Язэп. Пад знакам Пагоні. Таронта: Пагоня, 1976. С. 59.

** J. H. Novy Papież Pius XII // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 20.03.1939. № 10. S. 3.

кай хронiцы, якую ён працягваў весцi ў Рыме: «На абедзе былi прысутны: бiскуп Яўрэiнаў (расеец), а. Пiлiп Дэ Рэжыс Т.I. (француз). Айцец Енэрал А. Цiкота па-расейску падзякаваў бiскупу за ласкава ветлiвае ўчасьце ў марыянскай сямейнай урачыстасьцi, падзякаваў так жа айцу Рэктару (Русiкума. — *А. Н.*) Пiлiпу за яго працу над узгадаваньнем марыянскiх клерыкаў, каторыя гатовяцца ў Русiкум на працаўнiкоў злучэньня Касьцёлаў. Адзначыў также, што на цяперашнiх марыянскiх «русiкумцах» не скончыцца ўсходняе напраўленьне. Уладыка Аляксандар (Яўрэiнаў. — *А. Н.*) са сваей стараны падзякаваў цэлай нашай кангрэгацыi (марыянаў. — *А. Н.*) за працу, якую мы ложым для яго землякоў».

Няцяжка здагадацца, пра якое «ўсходняе напраўленне» гаварыў Цiкота. У лютым 1940 г. Сiповiч ужо як «*иеродиакон Вячеслав*» (ён стаў дыяканам 25 снежня 1939 г. — *А. Н.*) пiсаў у «русiкумскiм» бюлетэнi: «Сярод iншых студэнтаў (Русiкума. — *А. Н.*) <…> не апошняе месца па сваёй колькасьцi займаюць марыяне <…>. З сямi асобаў, што ў розныя часы атрымалi ўзгадаваньне, трох ужо асягнулi сьвятарства (сярод iх аа. Кузьма i Тамаш) i працуюць цяпер у расейскай мiсii ў Харбiне, *а ў мiнулым годзе атрымаў дыяканскiя сьвячаньнi аўтар гэтых радкоў, якi спадзяецца пасьвяцiць сябе той самай працы* (вылучана мною. — *А. Н.*)»*.

Германовiч пакiнуў Рым 15 сакавiка. З iм разам паехаў у Харбiн малады святар, былы студэнт Русiкума, француз Поль Шалей (Paul Chaleil).

19–23 лiпеня 1939 г. у Рыме адбылася генеральная капiтула («агульны з’езд») закону марыянаў, на якой на месца Цiкоты абралi генералам Бучыса.

У траўнi 1939 г. прыехаў з Харбiна а. Абрантовiч. Пасля марыянскай капiтулы ён выехаў з Рыма ў Польшчу. З Варшавы 5 жнiўня ён напiсаў а. Цiкоту лiст, якi ў цiкавым святле раскрывае спосаб мыслення Бучыса: «У дарозе Владыка (Бучыс. — *А. Н.*) запрапанаваў мне, каб я ехаў у Друю рабiць iнвэнтар — патрэбны бытцам для нашай справы. Я й рукамi i нагамi адбаранiўся дзеля многiх прычын, кажучы, што iнвэнтар хiба ёсьць, што я нiчога не ведаю, што не маю часу, дый што наканец няхай сама польская старана адна зробiць <…>. Владыка казаў, што трэба

---

* Отзывы «руссикумских монахов» // Заметки Русской Духовной Академии в Риме. 1940. № 2 (15). С. 52. Айцы Кузьма i Тамаш — Казiмiр Найловiч i Тамаш Падзява.

курэй палічыць, — а я яму на тое, што нам тысяча болей, тысяча меней, не важна».

Нямецка-польская вайна заспела а. Абрантовіча ў Польшчы. 17 верасня Заходнюю Беларусь і Украіну занялі савецкія войскі. Абрантовіч знаходзіўся тады ў Львове ў мітрапаліта Шаптыцкага. Пры спробе пераходу савецка-нямецкай мяжы яго арыштавалі немцы і перадалі савецкім уладам. Падрабязнасці арышту застаюцца няяснымі. Паводле некаторых звестак, яго выдаў немцам ягоны праваднік. Доўгі час Абрантовіч сядзеў у турме ў Львове, дзе ад яго дамагаліся прызнання, што ён японскі шпіён. Яго моцна катавалі ў часе допытаў. Сакамернікі сведчылі, што ён шмат цярпеў. Часта пасля начных допытаў прыносілі яго ў камеру акрываўленым і непрытомным. У хвіліны прытомнасці Абрантовіч маліўся. Весткі пра яго робяцца больш няпэўнымі пасля таго, як яго вывезлі з Львова. У 1943 г. бачылі Абрантовіча ў турме на Лубянцы ў Маскве. Цяпер вядома, што ён памёр 2 студзеня 1946 г. у Маскве ў Бутырскай турме. Так трагічна скончыў свой жыццёвы шлях гэты несумненна выдатны чалавек і святар. У свой час беларусы ўскладалі на яго вялікія надзеі, якія, на жаль, засталіся няздзейсненымі.

Не маючы вестак пра лёс Абрантовіча, у Рыме вырашылі паслаць на ягонае месца ў Харбін Цікоту. Ён пакінуў Вечны горад 3 лістапада ў сане архімандрыта, прыняўшы ўсходні абрад літаральна за некалькі дзён перад выездам.

У Рыме, у Русікуме, засталіся два друйскія клерыкі. На пачатку 1940 г. за нейкую правіну адлічылі адтуль Аніськовіча. Часлаў Сіповіч атрымаў святарства 16 чэрвеня 1940 г. Ён меўся ехаць у Харбін, але яму далі час закончыць навуку ў Рыме. Вось што ён піша Цікоту 15 чэрвеня 1941 г.: «Рада Енэральная пастанавіла пакінуць мяне яшчэ на год тут у Рыме, з тым, каб я зрабіў цяпер ліцэнцыят, а на другі год дактарат. Владыка Пётра падчоркнуў мне, што тыя прычыны, каторыя стаяць за маім прыездам хуткім у Харбін, вельмі паважныя, — так што калі мяне пакідаецца яшчэ на год, то ён сумленна павінен быць выкарыстаны».

Праз тыдзень пасля таго, як Сіповіч напісаў гэты ліст, 22 чэрвеня 1941 г., пачалася нямецка-савецкая вайна, а 7 снежня — японска-амерыканская. Пра выезд у Харбін не магло быць і гаворкі.

У 1943 г. у Харбіне Казімір Найловіч адышоў ад марыянаў і святарства і ўзяў шлюб у праваслаўнай царкве з расейкай, якая пакінула свайго мужа.

Айцы Цікота, Германовіч і Падзява, а таксама два святары немарыяне, француз Поль Шалей і расеец Павал Партнягін, працавалі ў Харбіне да канца 1948 г., нягледзячы на палітычныя змены. 22 снежня 1948 г. іх усіх арыштавалі кітайскія камуністы і перадалі савецкім. Абвінавачаныя ў розных выдуманых злачынствах, яны атрымалі кожны па 25 гадоў зняволення ў розных канцэнтрацыйных лагерах у раёне возера Байкал. Айцец Цікота не вытрымаў непасільнай працы і цяжкіх умоваў жыцця і памёр у турэмным шпіталі 11 лютага 1952 г. У 1955 г., калі пасля смерці Сталіна надышла «адліга», шмат хто з вязняў апынуўся на волі, у тым ліку і харбінскія святары. Айцец Шалей пасля вызвалення наведаў Рым і там 12 кастрычніка 1955 г. даў а. Сіповічу наступнае пісьмовае сведчанне пра а. Цікоту: «Айцец архімандрыт Андрэй Цікота падчас сьледзтва і ў турме вёў сябе годна і гераічна. У лягерах захаваў усю сваю мужнасьць. Усе былі ўражаныя сілаю ягонай веры і ягонай любові да Бога. Ён прыняў выпрабаваньні з радасьцю і быў рады ахвяраваць сваё жыцьцё Богу і Царкве. Да апошняй хвіліны ён адмаўляўся пайсьці на кампраміс з бальшавікамі і не выдаў тых, хто дапамагаў яму ў Харбіне. Ён памёр стойка, спакойна і як сапраўдны мучанік. Хай Госпад прыме ягоную душу і дасьць ёй супакой сярод сьвятых».

Айцоў Германовіча і Падзяву пасля вызвалення выслалі ў Польшчу, хоць а. Германовіч дамагаўся, каб яму дазволілі вярнуцца ў Беларусь. У Польшчы ён заставацца не хацеў і адразу пачаў рабіць захады, каб выехаць. З вялікімі цяжкасцямі яму ўдалося атрымаць замежны пашпарт. У 1959 г. ён прыбыў у Рым і там заявіў, што ў Польшчу ўжо не вернецца. У лютым 1960 г. Германовіч прыехаў у Лондан, у Беларускую каталіцкую місію ўсходняга абраду, дзе рэктарам быў ягоны вучань а. Чеслаў Сіповіч, які меў неўзабаве стацца першым ад 1839 г. беларускім уніяцкім біскупам. Гісторыя Лонданскай місіі і яе значэнне ў беларускім рэлігійным і культурным жыцці выходзіць па-за рамкі гэтай працы. Варта тут толькі сказаць, што а. Язэп Германовіч, нягледзячы на свой век, ні ў чым не адставаў ад малодшых за сябе і даваў усім прыклад, як маліцца і працаваць. Ён быў рэдактарам часопіса «Божым шляхам», напісаў і выдаў дзве кнігі паэзіі, а таксама кнігу ўспамінаў з савецкіх лагераў «Кітай, Сібір, Масква», перакладзеную на італьянскую, літоўскую і польскую мовы. Шмат ягоных твораў засталіся ў рукапісах і захоўваюцца ў архіве Бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лондане. Памёр а. Германовіч

26 снежня 1978 г. на 89-м годзе жыцця, пасля таго, як беларусы ў Лондане адсвяткавалі 65 гадоў ягонага святарства.

Айцу Тамашу Падзяву ўдалося выехаць з Польшчы толькі ў 1969 г. Паводле ягонага ўласнага сведчання, ён заявіў законным уладам, што, аддаўшы 14 гадоў расейцам і другія 14 — палякам, ён хацеў рэшту жыцця ахвяраваць свайму народу. На жаль, Бог даў яму толькі шэсць гадоў, якія ён пражыў у Лондане, дзе памёр у 1975 г. Нехта не так даўно сказаў пра вядомага брытанскага палітыка, што ён быў найлепшым прэм'ер-міністрам, якога Вялікабрытанія не мела. Нешта падобнае можна сказаць пра а. Тамаша. Той, хто хоць крыху пазнаёміўся з ягонымі глыбокімі рэлігійнымі артыкуламі ў часопісе «Божым шляхам», можа толькі шкадаваць, што яму было дадзена так мала часу для беларусаў.

Таксама ў Лондане памёр у 1982 г. а. Фэлікс Журня, калега Часлава Сіповіча з Друі. Гэты сціплы і добры святар вызначаўся глыбокай пабожнасцю — усе, хто з ім сустракаўся, адразу яе адчувалі. Ён быў таксама перакананым беларусам. У Варшаве ён бадай адзіны з усіх колішніх друйскіх марыянаў трымаў сувязь з беларусамі, выпісваў і чытаў газету «Ніва». У Лондан прыехаў у 1966 г., пакліканы біскупам Сіповічам.

Усе іншыя былыя друйскія айцы і клерыкі засталіся і працавалі ў Польшчы. У часе вайны 1939–1945 гг. у Варшаве апынулася шмат беларусаў, працаваў Беларускі камітэт. На пачатку 1942 г. Бучыс атрымаў у Рыме ліст, датаваны 2 студзеня, ад старшыні Камітэту д-ра М. Шчорса: «Урад Камітэту, на шматлікія просьбы сяброў-каталікоў і наагул беларускага каталіцкага насельніцтва Варшавы, звярнуўся да Мітрапалічай курыі ў Варшаве з просьбаю дэлегаваць каторага небудзь з ксяндзоў беларусаў, ці прынамсі знаючых беларускую мову, дзеля абслужэньня рэлігійных патрэбаў беларускага насельніцтва, згрупаванага пры Камітэце. Як кандыдатаў падалі нашы сябры кс. Мар'янаў з Друі, выгнаных польскім урадам з нашых этнічных тэрэнаў <…>. Кс. Канцлер Курыі прыхільна аднёсься да нашае просьбы <…>, але дарадзіў зьвярнуцца да кс. Правінцыяла Закону Мар'янаў. На жаль, у кс. Правінцыяла не спаткала дэлегацыя беларускага каталіцкага насельніцтва зразуменьня справы, ён нездаючы справы з таго, што тут бяруцца пад увагу кіраўніцтва душамі і абарона верных ад шкодных, антырэлігійных уплываў, на столькі збагатэлізаваў справу, што нават не захацеў у гэтай матэрыі гутарыць з дэлегацыяй. На паноўленую інтэрвэнцыю ў Курыі кс. Канцлер адказаў, што ў той справе ён, на жаль, не можа інгэраваць (умешвацца. — *А. Н.*) дзеля таго, што закон

кс. Мар’янаў не падлягае юрысдыкцыі Курыі. Такім чынам, усе спробы… разьбіліся ці то аб незразуменьне павагі справы, ці злую волю касьцёльнае гіерархіі. А тым часам у манастыры кс. Мар’янаў ёсьць, а фактычна марнуюцца, ксяндзы Беларусы, каторыя <…> гадзіліся ахвотна адпраўляць набажэнствы ў беларускім касьцёле і прыняць на сябе рэлігійную апеку над беларусамі <…>. Яны <…> гадзіліся ў імя Хрыста і Яго ідэалаў прыняць на сябе адказны і цяжкі абавязак — але, на жаль, гіерархія стала на іншым пункце гледзішча — дабро і ідэалы рэлігійныя ёй былі далёкія і чужыя».

Як і выпадала чакаць, Бучыс не зрабіў нічога, затое даў беларусам «добрую раду», каб яны звярнуліся да Усходняй Кангрэгацыі. Паколькі ўсе беларусы-каталікі ў Варшаве належалі да рымскага (лацінскага) абраду, Усходняя Кангрэгацыя не мела над імі ніякай юрысдыкцыі. Такім чынам «добрая рада» Бучыса была не чым іншым, як адмоваю дапамагчы беларусам каталіком у іхніх духоўных патрэбах. Справа вырашылася, калі неўзабаве ў Варшаву прыехаў вядомы беларускі святар і пісьменнік а. Пётра Татарыновіч, якому прыйшлося ўцёкамі ратавацца ад арышту нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў Беларусі. Ён зарганізаваў не толькі беларускую парафію, але і школку для дзяцей.

У Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане ёсць асобнік кніжкі «Следам за Хрыстусам» Тамаша Кэмпійскага ў беларускім перакладзе Ст. Грынкевіча з прысвячэннем: «Дарагому брату ў Хрысьце Антуку на памятку праведзеных рэкалекцыяў для Беларускай Школы ў Варшаве ахвяруе ўдзячны Кс. П. Татарыновіч. 2.IV.44». Антук — былы друйскі клерык Антон Падзява, малодшы брат Тамаша Падзявы. У Вялікі пост 1944 г., ужо як святар, ён дапамагаў а. Пятру Татарыновічу праводзіць рэкалекцыі для вучняў беларускай школы, нягледзячы на тое, што польскі марыянскі суперыёр адмовіўся даць яму дазвол*. У 1950 г. камуністычныя ўлады «народнай» Польшчы засудзілі а. Антона Падзяву на два з паловаю гады зняволення. У 1955 г., захварэўшы на рак, ён памёр на 43-м годзе жыцця.

Айцец Юры Кашыра адзіным з друйскіх марыянаў не застаўся ў Польшчы. Некаторы час ён жыў у Летуве, а ў 1942 г. вярнуўся ў Друю, акупаваную, як і ўся Беларусь, немцамі. У 1943 г. 13–14 лютага ў вёсцы Росіца на поўнач ад Друі немцы спалілі жыўцом Кашыру і польскага марыяніна Антона Ляшчэвіча (той

---

* Айцец Татарыновіч распавёў пра гэтае здарэнне аўтару, калі той быў студэнтам Грэцкай калегіі ў Рыме.

прыехаў у Друю ўлетку 1939 г., калі беларускіх марыянаў там ужо не было) разам з іхнімі парафіянамі. Як сапраўдныя пастыры, гэтыя айцы адмовіліся пакінуць сваіх вернікаў. У 1999 г. Папа Ян Павал II аб’явіў абодвух айцоў, Кашыру і Ляшчэвіча, блаславёнымі.

## «Pro patria aliena»

Laboravimus pro Deo et Ecclesia, et pro patria… aliena.

***Са справаздачы айца Язэпа Германовіча 9 лістапада 1959 г. з працы ў Харбіне***

Беларусы не мелі ўласнай царкоўнай арганізацыі і пастыраў, якім балела б сэрца за свой народ. Але ж Царква Хрыстовая — гэта адна сям’я Божая, дзе мацнейшыя павінны дапамагаць слабейшым, згодна з наказам святога Паўла: «Насеце бярэмі адзін аднаго і так спаўняйце закон Хрыстовы» (Гал 6, 2). Ён сам, застаючыся патрыётам свайго габрэйскага народа, стараўся быць «усім для ўсіх» (1 Кар 9, 22), каб прывесці ўсіх да Хрыста. Гісторыя Царквы ведае нямала такіх шчырых і ахвярных апосталаў. Адзін з іх, блаславёны Юрый Матулевіч, калі яго папракалі ў прыхільнасці да беларусаў, 22 красавіка 1924 г. пісаў Дзяржаўнаму сакратару кардыналу Гаспары: «Хай не вымагаюць, каб я забараняў і пераследаваў сярод няпольскіх святароў тое, што, як бачу, сярод польскіх святароў узвышаецца як годнае пахвалы і ўзнагароды; як пастыр, лічу абавязкам адносна ўсіх захоўваць роўнасць, бо я даўжнік усіх»*. Таму, хоць ён мала паспеў для іх зрабіць, беларусы будуць заўсёды згадваць яго з удзячнасцю. Аднак гэтага нельга сказаць пра ягоных непасрэдных наступнікаў у законе марыянаў і на Віленскім пасадзе.

У 1927 г. друйскія марыяне маглі з упэўненасцю глядзець на будучыню свайго кляштара. Яны адчувалі ў сабе дастаткова моцы, каб распачаць унійную працу сярод беларусаў ва ўсходнім абрадзе. Прызначэнне Абрантовіча ў Харбін паклала канец гэтым планам. Яно не толькі аслабіла Друю, але і насцярожыла тых беларускіх святароў, якія з надзеяй глядзелі на Друйскі

---

* «Ne exigant ut opprimam et persequar in sacerdotibus non-polonis id quod in polonis sacerdotibus laudibus extolli video et remunerari; ut pastor erga omnes aequalitatem servare teneo, omnibus enim debitor sum».

кляштар і думалі ў яго ўступіць. За дзесяць гадоў, ад 1928 да 1938 г., у Друю не прыйшоў ніводзін новы беларускі святар. Без прытоку новых сілаў рост кляштара спыніўся. Заставаліся яшчэ свае клерыкі-студэнты, але з трох першых, якія скончылі навуку ў 1935 г. і атрымалі святарства, толькі адзін, высвечаны ў рымскім (лацінскім) абрадзе, застаўся ў Друі, а двух іншых амаль адразу выслалі ў Харбін.

Асабліва пагоршала становішча пасля таго, як у 1932 г. у Харбін выслалі айца Язэпа Германовіча (паэта Вінцука Адважнага). Ён сам добра разумеў, як цяжка ўразіў ягоны ад'езд нацыянальна свядомае беларускае грамадства. Магчыма, ён спадзяваўся, што, пазбавіўшыся яго, улады пакінуць Друю ў супакоі і дадуць магчымасць працаваць сярод беларусаў. Незадоўга да свайго ад'езду ён пісаў: «Кляштар друйскі мае тож на мэце працу паміж адлучанымі братамі праваслаўнымі. Праўда, да гэтага марыяне заклікаюцца ў далёкі Харбін. *Але Бог дасьць — усё зьменіцца на добрае* (вылучана мною. — *А. Н.*), прытым гадуюцца новыя сілы маладыя — яны стануць і да свайго варштату»*.

Іншыя беларусы не падзялялі аптымізму а. Германовіча. Айцец Казімер Кулак, арганізатар трох першых унійных канферэнцыяў у Пінску, пісаў Бучысу 15 снежня 1931 г.: «Група — 5–7 асобаў — больш вядомых беларускіх сьвятароў мела намер прыняць усходні абрад, разам уступіць у нейкі закон — базылянаў ці марыянаў, — каб *разам* (падкрэслена аўтарам. — *А. Н.*) распачаць гэтую (унійную. — *А. Н.*) працу ў нашай краіне. Але калі няма акцыі *pro Alborussia* (для Беларусі), а толькі *pro Russia* (для Расеі), то нашто тады ўступаць. Каб ісьці навяртаць кітайцаў тады, як наш народ гіне ў твані сэктанцтва і бязбожнасьці?»

Газета «Беларуская крыніца» пісала 24 студзеня 1931 г.: «А. Абрантовіч і а. Германовіч належаць да законнага ордэну аа. марыянаў, якіх мэтаю ёсьць працаваць перадусім пасярод свайго народу <…>, а што з імі зрабіла камісія "Pro Russia"? Ці ведае аб гэтым галава ордэну біскуп Бучыс? А калі ведае, то нашто пазваляе праводзіць палітыку ў сваім ордэне?»**

Праз два гады тая самая «Беларуская крыніца» пісала зноў: «Аб лёсе айцоў марыянаў сказаць гэта трэба з асаблівым націскам, бо, наколькі ведама, іхным заданьнем ёсьць праца перадусім

---

* В. Адв. Друя. Кляштар Айцоў Марыянаў // Беларускі каляндар на 1932 год. Вільня, 1932. С. 63.

** Каталік. Шкодная для беларусаў дзейнасьць камісіі «Pro Russia» // Biełaruskaja krynica. Vilnia, 24.01.1932. № 3. S. 2.

для свайго собскага народу. Айцы марыяне іншых народнасьцяў <…> сапраўды гэтак і працуюць. Толькі беларускіх айцоў чамусьці найвышэйшыя ўлады высылаюць на край сьвета <…>, і то тады, калі даслоўна няма каму заняцца працай сярод свайго беларускага народу, для каторага ўзноў насылаецца духавенства чужое. Не скажам зашмат, калі сьцьвердзім, што гэткая гаспадарка беларускімі духоўнымі сіламі ёсьць гаспадаркай шкоднай і проста рабунковай»*. Падобна выказвалася і «Хрысціянская думка»: «Цікава адзначыць, што кожны марыянін мае працаваць перадусім сярод народу, да якога належыць. На працу сярод іншага народу марыяніна ўлада можа пасылаць толькі выняткова. Шкада толькі, што гэтыя “выняткі” з Друйскім манастыром зачаста паўтараюцца, бо з яго ўжо два айцы марыяне беларусы, Германовіч і Абрантовіч, замест працаваць сярод свайго народу, высланы на працу аж у Манчжурыю, у Харбін»**.

Айцец Адам Станкевіч, без сумневу найбольш выдатны беларускі рэлігійны дзеяч свайго часу, быў адпачатку супраць высылкі беларускіх марыянаў у Харбін. 20 красавіка 1935 г. ён напісаў Цікоту ліст з патрабаваннем вярнуць а. Германовіча ў Вільню, у якім казаў: «Каб нябошчык Матулевіч устаў з гробу і пабачыў на гэтую вашу Харбінскую зацею, дык сапраўды за галаву ўзяўся б». 5 снежня 1938 г., калі ўжо беларускіх марыянаў не засталося ў Друі, ён пісаў у Рым клерыку Чаславу Сіповічу: «Што гэта так замоўк Адважны? <…> можа ўжо апынуўся аж у Харбіне? Ах, гэты Харбін, гэта праўдзівая *calamitas marianorum* (няшчасце марыянаў. — *А. Н.*). Гаварыў я аб гэтым Енаралу (Цікоту. — *А. Н.*), але…»

У Друі Цікота ставіўся да харбінскага праекта з вялікімі засцярогамі, бо бачыў, якую шкоду ён прыносіў працы ў Беларусі. Стаўшы генералам марыянаў у 1933 г., ён адчуваў адказнасць за ўвесь закон і ягоную дзейнасць. Сярод розных мерапрыемстваў марыянскага закону харбінская місія з расейскім ліцэем святога Мікалая, часопісам «Католический вестник» (выходзіў з 1931 г.), кнігавыдавецтвам і г. д. займала паважнае месца. Харбін быў адзінай расейскай каталіцкай епархіяй, ачольваць якую Святы Пасад паклікаў «русского по национальности, горячего патриота, — доктора богословия и магистра философии, мо-

---

* Vyjezd a. Jenerała Cikoty // Biełaruskaja krynica. Vilnia, 1933. № 39. S. 1.

** Z biełaruskaj nivy // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 15.09.1933. № 7. S. 7–8.

наха ордена марианов в Белоруссии, архимандрита о. Фавияна Абрантовича»*.

Цікота вельмі хваляваўся, каб друйскія марыяне не ўмешваліся ў «нацыянальныя» справы. Аднак гэтае, відаць, не датычыла Харбіна. 19 чэрвеня 1935 г. ён пісаў Абрантовічу: «Ёсь надзея, што ўдасца дастаць грошы <…> дзеля друкаваньня “История России” ад пэўных людзей <…>. Тыя людзі <…> хочуць мець пэўнасьць, што гэта гісторыя не будзя мець паважных закідаў: 1). са стараны гістарычнай <…>; 2). са стараны языка і стылю; 3). са стараны *рускага патрыятызму* (вылучана мною. — *А. Н.*); 4). і пэўне ж са стараны каталіцкай і т. д.». Аўтарам гэтай «Гісторыі Расеі» быў сакратар і настаўнік заснаванага а. Абрантовічам расейскага ліцэя Віктар Уласаў фон Вальдэнбэрг.

У распрацаваных у 1937 г. *Ordinationes*, або правілах, што тлумачылі марыянскую канстытуцыю, асаблівая ўвага звярталася на харбінскую місію: «Справа, якой займаецца Харбінскі кляштар, павінна быць блізкай сэрцу ўсіх марыянаў, і абавязак усіх (марыянскіх. — *А. Н.*) правінцыяў — прыкласьціся да яе»**.

---

* В. Власов фон Вальденберг. Краткий очерк развития католического движения на Дальнем Востоке // Католический вестник. Харбин, январь 1935. № 1. С. 6.

** «Opus, cui Domus Harbinensis operam navat, omnibus marianis cordi esse debet, omnesque provinciae ad illud concurrere tenentur». 15 снежня 1937 г. Цікота напісаў у Харбін Абрантовічу ліст з наступнымі калляднымі пажаданнямі: «Пірадусім прашу Бога, каб у вашых душах і вашым дамку гаспадарыў заўсёды Пакой Хрыстовы <…> Далей прашу Бога, каб *сьлюбы законныя, каторыя разам з Хрыстом нарадзіліся ў Стайні Бэтлегемскай* (вылучана мною. — *А. Н.*), былі дзеля вас крыніцай сьвятла, сілы і радасьці, каб вы ў іх знайшлі сто разоў больш чым тоя, што ў сьвеця пакінулі, ды праз іх жыцьцё вечная атрымалі» (мова аўтара захаваная. — *А. Н.*). Дадзеныя словы праліваюць святло на характар гэтага несумненна ўзорнага законніка, на ягонае экзальтаванае, але вельмі ж вузкае разуменне законнага паклікання. Робіцца зразумелым, напрыклад, ягоная спроба забараніць марыянскім клерыкам у Вільні браць удзел у беларускіх культурных і нават рэлігійных мерапрыемствах; або кароткае слова «*negative*» (адмоўна) на лісце рэдактара часопіса «Калоссе» Яна Шутовіча за 5 чэрвеня 1939 г., дзе той прасіў Цікоту напісаць кароткі артыкул ці ўспамін пра а. Адама Станкевіча з нагоды ягонага святарскага юбілею. Таксама зразумела, чаму, адрозна ад Германовіча і Станкевіча, святарскі юбілей Цікоты ўвесну 1939 г. прайшоў не заўважаны беларускім грамадствам: большасць свядомых беларусаў пра юбіляра проста не ведала і не чула.

Выглядае, што Харбінская місія стала справаю прэстыжу для ўсяго марыянскага закону, хоць галоўны цяжар і адказнасць за ейнае існаванне і развіццё нёс на сабе Друйскі кляштар.

Аднаўленне Уніі, так дарагое сэрцу беларускіх святароў-адраджэнцаў, у міжваенны перыяд ішло вельмі павольна, перамагаючы непамерныя цяжкасці. Думка пра Унію палохала польскіх шавіністаў тыпу Ялбжыкоўскага, бо яна стаяла б перашкодаю на шляху паланізацыі беларусаў. Таму няшмат было зроблена. Тым не менш гісторыя пакінула нам прозвішчы такіх ахвярных працаўнікоў на ўнійнай ніве, як айцы Вячаслаў Аношка, Баляслаў Пачопка, Ян Панько, Зянон Шымкевіч, Антон Неманцэвіч, Антон Дуброўскі. Да іх затым далучыліся Леў Гарошка і Міхась Маскалік. Вайна перарвала развіццё ўнійнай справы. Але ў пададзеным тут пераліку дарэмна шукаць каго-небудзь з Друйскага кляштара. У вялікай меры адказнасць за такі стан рэчаў нясе генеральны суперыёр марыянаў біскуп Францішак (Пётра) Бучыс, для якога «дарога з Рыма ў Маскву ішла праз Беларусь», а беларусы былі «прыладаю для навяртання расейцаў». 18 красавіка 1929 г. ён пісаў Абрантовічу ў Харбін: «Прашу мне верыць, што сёньня ці заўтра Друя стане на Харбіне ў тым сэнсе, што Харбін для Друі будзе амаль адзіным апірышчам». Выйшла зусім адваротнае: Друя стала апірышчам для Харбіна. Але якім коштам?

Бучыс у той час знаходзіўся пад поўным уплывам Дэрбіны. У вышэйзгаданым лісце ён пісаў: «Айцец Біскуп Дэрбіны мае галаву і мае сапраўды прыхільнасць да Айца (Абрантовіча. — *А. Н.*), да Друі і да мяне. У цяперашніх абставінах ён не можа быць нам абыякавым з увагі на нашыя актуальныя патрэбы. Ва ўсіх абставінах гэта годны пашаны дастойнік і выдатны працаўнік у вялікай справе». Бучыс, напэўна, ганарыўся роляю, адведзенаю ў гэтай «вялікай справе» марыянскаму закону і яму асабіста*. Ён, напэўна, не падазраваў, што сам быў толькі

* У лісце да Падляскага біскупа Генрыка Пшаздзецкага за 14 лістапада 1930 г. Бучыс пісаў: «Мае біскупскія свяціны здаюцца паказваць, што мае абавязкі не абмяжоўваюцца адказамі на адзінкавыя запыты Папскай камісіі для расейскіх справаў. Насамрэч перада мною ўстае ва ўсёй веліччы праблема навяртання Расеі <…> Мне здаецца, што праца над навяртаннем Расеі — гістарычны абавязак Каталіцкай Царквы. Гэтая задача поўнасцю перавышае мае сілы, але абавязак ляжыць не толькі на мне. Ён ляжыць на ўсёй Царкве. Езуіты для гэтага абавязку прызначылі шмат людзей і грошай. Дамініканцы адкрылі семінарыю св. Базыля ў Лілі. Бенедыкцінцы заснавалі кляштар св. Міхала ў Амэі.

прыладаю ў руках больш спрактыкаваных за яго царкоўных палітыкаў. Трэцякевіч у сваёй працы пра Дэрбіны пісаў, што Бучыс «стаў фактычна паслухмяным і верным выканаўцам загадаў Дэрбіны»*. Паводле айца Кірылы Каралеўскага (француз, сапраўднае імя Jean Charon), аднаго з найлепшых тагачасных знаўцаў ватыканскай «усходняй палітыкі», «Мансіньёр Дэрбіны пастараўся зрабіць тытулярным біскупам Алімпу а. Пятра Бучыса, законьніка маленькага закону з цэнтрам у Друзе ў Літве (так у тэксце. — *А. Н.*) <…> аднавіцеля свайго закону, які мансіньёр Дэрбіны хацеў выкарыстаць для апасталяту ў Расеі»**. Дэрбіны аніколечкі не абыходзіла, што гэта за «маленькі закон» у нейкай «Друзе ў Літве» — абы толькі яго можна было выкарыстаць для «вялікай справы».

Пытанне царкоўнай еднасці не можа не хваляваць кожнага, хто сур'ёзна ўспрымае сваё хрысціянскае пакліканне. Аднак дзеля яе асягнення не ўсе метады дапушчальныя. Еднасць хрысціянаў здзяйсняецца ў духу любові і ўзаемнай пашаны. Нельга накідаць сваю волю, карыстаючы з няшчасця і слабасці іншых. На жаль, метады дзейнасці Камісіі «Pro Russia» пакідаюць якраз прыкрае ўражанне: яна імкнулася пашырыць уплыў Каталіцкай царквы сярод праваслаўных расейцаў, карыстаючы з цяжкага становішча Расейскай праваслаўнай царквы пасля бальшавіцкай рэвалюцыі. Прыходзіцца шкадаваць, што ўцягнутыя ў гэтую дзейнасць беларускія друйскія айцы аддалі ёй свае сілы і немалыя здольнасці, а нават і жыццё, у часе, калі

---

Кармеліткі далі сродкі на пабудову Русікуму. Паасобныя народы ўзяліся ці бяруцца за гэтую працу. Літва маленькая, і закон аа. марыянаў мізэрны, але, нягледзячы на недахоп людзей і мноства працы, ён ужо ахвяраваў на гэтую місію трох чалавек». Гэтымі трыма асобамі былі сам Бучыс, біскуп Карэвіч, які ў свой час выказаў намер прыняць усходні абрад, але на гэтым і запыніўся, і а. «Уладзімір» Мажонас, які праз чатыры гады пасля заявы Бучыса сапраўды паехаў у Харбін, але доўга там не ўтрымаўся. Пра беларусаў і Друю, на якіх быў ускладзены галоўны цяжар Харбінскай місіі, — ні слова…

* «He became in fact an obedient and faithful executor of d'Herbigny's commands». (Tretjakevich Leon. Bishop Michel d'Herbigny and Russia. Würzburg: Augustinus-Verlag, 1990. P. 241).

** «Mgr d'Herbigny fit nommer évêque titulaire d'Olympe un religieux d'une petite Congregation dont le centre était à Druza en Lithuanie, le P. Pierre Bucys… restaurateur de son Institute que Mgr d'Herbigny voulait pousser vers l'apostolat en Russie». C. Korolevskij. Métropolite André Szeptyckyj. Rome, 1964. P. 255).

беларускі народ гібеў без сваіх пастыраў. Госпад Ісус Хрыстос пасля свайго ўваскрасення ўстанавіў наступны парадак апостальскай дзейнасці для сваіх вучняў: «Будзеце мне сьведкамі ў Ерусаліме і ўва ўсёй Юдэі і Самарыі, і аж да канцоў зямлі» (Дз 1, 8). Беларускіх марыянаў выслалі «да канцоў зямлі», калі ў іхнім «Ерусаліме», г. зн. у Беларусі, іх чакала столькі працы. І было б зразумела, калі б іх паклікалі несці Добрую Вестку людзям, якія не чулі пра Хрыста, але ж іх паслалі «навяртаць» хрысціянаў…

Ёсць адна справа, у якой друйскія марыяне не могуць пазбегнуць адказнасці. Гутарка ідзе пра брыльянтавае калье, якое княгіня Магдалена Радзівіл падаравала на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме. Друйскія марыяне скарысталі яго для сваіх мэтаў, не лічыўшыся з воляю ахвярадаўцы*. Сёння бессэнсоўна разважаць, як бы развівалася справа Уніі, калі б беларусы мелі свой сціплы асяродак у Рыме. Друйскія марыяне не далі яго стварыць. Гэтым яны зрабілі беларусам вялікую крыўду і нанеслі шкоду справе адраджэння Уніі**.

Айцец Леў Гарошка ў лісце за 27 чэрвеня 1954 г. пытаўся ў айца (будучага біскупа) Сіповіча: «Ці ўсе калісь выселеныя з Друі айцы і клерыкі былі ўсходняга абраду, ці былі такжа і лацінскага?» Сіповіч адказаў 29 чэрвеня: «Друйскі кляштар быў наскрозь лацінскага абраду. Там не было ані ўсходняй капліцы, ані рызаў. Толькі некаторыя айцы (Абрантовіч, Цікота, Найловіч К., Падзява Тамаш) прынялі ўсходні абрад, але яны працавалі не ў Друі, а ў Харбіне». Гэты аўтарытэтны адказ павінен раз і назаўжды пакласці канец розным згадкам пра ролю Друйскага кляштара ў спробах адраджэння Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі***.

---

* Гл. вышэй. С. 290–292.

** Дзеля справядлівасці неабходна зазначыць, што, паводле наяўных пісьмовых дакументаў, у гэтай прыкрай справе былі замешаныя толькі тры асобы: айцы Абрантовіч і Цікота і біскуп Пётра (Францішак) Бучыс. Пра дачыненне да яе іншых друйскіх марыянаў нічога не вядома.

*** Для прыкладу, Я. Трацяк піша: «Характэрнай рысай бел. М(арыянаў) у Друі, Вільні, Харбіне, Лондане з'яўляецца ўсходні (грэка-каталіцкі) абрад» (гл. ягоны артыкул «Марыяне» // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1999. Т. 5. С. 84; тое самае ў даведніку «Рэлігія і царква на Беларусі» (Мінск, 2001. С. 196)). Пры нагодзе варта заўважыць, што а. А. Надсан ніколі не быў марыянінам. Цікава, што легенда пра ўсходні абрад у Друі з'явілася даволі рана. Канстанцыя Скірмунт пісала біскупу Бучысу 13 жніўня 1933 г.: «Генералам закону марыянаў усходняга абраду — як Дарагі Айцец напэўна ведае — быў

Варта звярнуць увагу таксама на тое, што грэка-каталіцкі святар і гарачы беларускі патрыёт Леў Гарошка меў вельмі цьмянае ўяўленне пра Друйскі кляштар, калі наогул чуў пра яго перад 1939 г. Не выключана, што ён упершыню ўведаў пра Друю толькі ў 1945 г. у Рыме, дзе апынуўся пасля вайны і сустрэўся з айцом Сіповічам.

Шмат каго абурыла высяленне беларускіх марыянаў з Друі і Вільні. Сярод тых, хто выступіў у іхнюю абарону, быў рэдактар польскага часопіса «Oriens», езуіт а. Ян Урбан. У жнівеньскім нумары ён надрукаваў змястоўны артыкул «Monachomachia w Drui» (Змаганне з манахамі ў Друі), у якім паказаў, што высяленне марыянаў з Друі супярэчыла артыкулу XX канкардату між Польшчай і Апостальскім Пасадам*. Айцец У. Талочка, пішучы пад псеўданімам «P. Kontryba» ў часопісе «Przegląd Wileński», абвінаваціў польскія каталіцкія духоўныя ўлады (а значыцца, ускосна Ялбжыкоўскага) у тым, што яны прадалі польскай адміністрацыі беларускіх марыянаў так, як некалі біблейнага Язэпа прадалі ягоныя браты: «Выступленне адміністрацыйных уладаў сёлета супраць марыянаў як у Друі, так і ў Вільні падрыхтавалі і аблегчылі пэўныя царкоўныя колы, якія ўвесь свой аўтарытэт і ўсе сродкі, якія мелі ў сваім распараджэнні, кінулі на справу дэнацыяналізацыі беларусаў <…>. Дык не ваявода, ані стараста браслаўскі, ні нават той ці іншы начальнік аддзела бяспекі, з’яўляюцца ў сапраўднасці вінаватымі ў высяленьні беларусаў марыянаў з Друі і Вільні <…>. Біблейскага Язэпа прадалі ўласныя браты»**.

---

абраны кс. Цікота». На гэта Бучыс адказаў: «Айцец Андрэй Цікота, наш новы генерал, з агульнага ліку 430 падуладных мае толькі пяць асобаў усходняга абраду, у тым ліку прэлата Абрантовіча і мяне, апошнія 425 належаць да абраду лацінскага, як і сам айцец Цікота». Іншыя тры марыяне ўсходняга абраду, пра якіх згадвае Бучыс, — гэта айцец Германовіч і два «русікумскія» студэнты, Казімір Найловіч і Тамаш Падзява, якія рыхтаваліся да працы сярод расейцаў. Насамрэч Абрантовіч і Германовіч заставаліся святарамі рымскага (лацінскага) абраду і толькі атрымалі дазвол служыць ва ўсходнім абрадзе на час сваёй працы сярод расейцаў у Харбіне.

* Jan Urban. Monachomachia w Drui // Oriens. Warszawa, 1938. № 4. S. 118–120.

** P. Kontryba. Pokłosie nagonki na Marianów w Drui // Przegląd Wileński. Wilno, 1938. № 4–5. S. 6. Айцу Талочку давялося пацярпець за гэты артыкул. Архібіскуп Ялбжыкоўскі зразумеў вельмі добра, каго аўтар меў на ўвазе пад «братамі», якія прадалі Язэпа. Айцец Віктар

Побач з абурэннем і пратэстамі пачуліся і крытычныя галасы, асабліва з беларускага боку. Айцец Адам Станкевіч у лісьце да а. Германовіча за 7 кастрычніка 1938 г. пісаў: «Як ён (Цікота. — *А. Н.*) быў у Вільні, дык мы з ім разважалі аб тым, што ягоная "палітыка" шмат у чым не вядзе да мэты. Праўда, гэта цьвердзіў я, а ён не згаджаўся, але факты, здаецца, падтрымліваюць маю тэзу. Знача, на мой погляд, ён мусіць сваю гэну "палітыку" перагледзець і сёе-тое зьмяніць». Некаторыя нават усумніліся ў мэтазгоднасці беларускіх рэлігійных законных фундацыяў тыпу друйскай. У лісце да а. Хрызастома Тарасевіча ў Ляйль каля Чыкага за 15 кастрычніка 1938 г. а. Віктар Шутовіч пісаў: «У гэты момант я сумняваюся, ці беларускія законьнікі калі што добрага зробяць для свайго народу. Я гэта бачу па марыянах. Цікота мой калега і ён поўны жыцьця і сілаў. Многа рабіў для беларусаў, пакуль не стаўся законьнікам. Закон яго пераламаў на нейкага касмапаліта. У Друі ён больш працаваў для палякаў, як для беларусаў. А заплацілі яму за гэта толькі кпінамі і балотам. Цяпер ён, як і ты (Тарасевіч. — *А. Н.*), выгнаны з роднага краю і недзе туляецца па шырокім сьвеце. Ягоныя законьнікі беларусы таксама ў разгонцы, ані воднага няма ў родным краі! Вось табе і законнае жыцьцё для беларусаў!»

Крытыка вострая, але небеспадстаўная. Як ужо згадвалася ў пачатку, жыхары Друі перад прыйсцем туды айцоў марыянаў вызначаліся даволі моцнай беларускай нацыянальнай свядомасцю. Сярод іх паспяхова развівалася беларускае рэлігійнае і грамадскае жыццё. Але яно паволі заняпала са з'яўленнем марыянаў. Пра гэта пісала ў 1930 г. група прыхільных да кляштара друйскіх парафіянаў, жадаючы, відаць, абараніць айцоў марыянаў ад абвінавачванняў у «беларускім нацыяналізме»: «Глянем цяпер на працу гэтых "заядлых беларусаў" на нацыянальным полі. Цвердзім катэгарычна, што ад часу прыезду кс. суперыёра (г. зн. Цікоты. — *А. Н.*) у Друю, без ягонага ўдзелу не

---

Шутовіч пісаў 30 кастрычніка 1938 г. айцу Хрызастому Тарасевічу ў Ляйль каля Чыкага: «Да кс. Талочкі бяруся я цяпер адпісваць ліст. Ён у бядзе, што яму арцыбіскуп забараніў пісаць агулам у газэты і абяцаў яму 10 дзён рэкалекцыяў, калі не паслухае гэтага. Я ў пісьме буду пацяшаць яго і параджу яму, каб ён быў асьцеражнейшы з арцыбіскупам. Я чытаў тое, што ён напісаў, баронячы марыянаў у Друі. Там вельмі далікатна закрануты арцыбіскуп. Але ён надта чулы на тое, што праціўнае аб ім напішыцца ў газэце». 15 снежня 1938 г. віленскі ваявода Бацянскі выселіў з Вільні айцоў Уладзіслава Талочку і Адама Станкевіча.

адбылася ніводная арганізацыя, ніводзін камітэт. Калі ў 1925 г. віленскія часопісы паведамлялі, што “з прычыны варожай агітацыі кс. Цікоты ў Друі не адбылася ўрачыстасць 3 траўня”, тады якраз а. Цікота быў скарбнікам арганізацыйнага камітэта, меў у касе 580 злотых і, згодна з пастановаю камітэта, купіў польскія падручнікі для бедных сялянскіх дзетак, а вучні гімназіі пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў выканалі львіную частку праграмы ўрачыстасці. Хто не ведае Друі перад заснаваннем гімназіі, таму цяжка зразумець, у якой меры Друйскі кляштар ёсць распаўсюднікам польскай культуры на нашым памежжы (*na naszych Kresach*). Урачыстасці, даклады, нацыянальныя святкаванні, пастаноўкі адбываюцца звычайна ў гімназійнай залі. Хто памятае беларускія пастаноўкі з 1916 г., якія адбываліся ў адной з большых кляшторных келіяў, або пазнейшыя батлейкі, ладжаныя ў касцельным шпіталі, пераплятаныя беларускімі спевамі і дэкламацыямі, або беларускія пастаноўкі ў былым народным доме ў 1919 г. («Паўлінка»), або хоць бы польскія пастаноўкі, ладжаныя ў замку перад 1925 г., і параўнае іх з польскімі ўрачыстасцямі, дакладамі і пастаноўкамі, спевамі і дэкламацыямі, якія ладзяцца гімназіяй у гімназійнай залі, той зразумее і ацэніць веліч працы нашых айцоў на полі культурна-адукацыйным. Галоўны кіраўнік гэтай працы — пачэсны кс. супэрыёр Андр(эй) Цікота»*.

Нешта падобнае аўтары пішуць пра рэлігійнае жыццё: «Таксама ў звычайныя нядзелі і святы вялікая колькасьць асобаў прыходзіць да Св. Сакрамэнтаў, не кажучы пра сяброў брацтваў і арганізацыяў касцельных. Гэтыя апошнія ўсё лепш развіваюцца. Маем не толькі Трэці Закон св. Францішка, гурткі жывога ражанца, апостальства малітвы з інтранізацыяй Сэрца Ісусавага амаль ва ўсіх хатах парафіі, унутраныя місіі, але маем таксама Таварыства св. Вінцэнта а Паўлё, Марыянскую садаліцыю паненак, арганізуецца садаліцыя юнакоў. Трэба зазначыць, што ўсе гэтыя арганізацыі карыстаюцца выключна польскай моваю, ачольваюць іх палякі або полькі, карыстаюць яны з польскай парафіяльнай бібліятэкі»**.

Сам а. Цікота пісаў 28 кастрычніка 1928 г. польскаму міністру ўнутраных спраў: «Наш законны дом (г. зн. кляштар. — *А. Н.*) згодна са сваёй канстытуцыяй не можа займацца і не займаецца

* Druja // Nasz Przyjaciel. Wilno, 23.02.1930. № 8. S. 8–9. Ліст падпісалі 210 друйскіх парафіянаў, якія відавочна ўважалі сябе за палякаў.

** Тамсама.

ніякай палітычнай дзейнасцю, тым больш не праводзіць палітыкі “летувіска-беларускай” (закід, які нам часта робяць розныя часопісы). Ці ж дзеля таго, каб праводзіць беларускую палітыку, трэба з вялікімі намаганнямі ўтрымліваць польскую гімназію, аплочваць сем настаўнікаў палякаў, размаўляць па-польску з беларускімі дзецьмі (*mówić po polsku do dziatwy białoruskiej*), браць удзел у польскіх патрыятычных святкаваннях, а вельмі часта кіраваць імі? Праз пяць гадоў мы не стварылі ніводнай беларускай арганізацыі, ні ценю дзейнасці, каб умацаваць нацыянальную свядомасць беларускага насельніцтва (*Przez pięć lat nie stworzyliśmy ani jednej organizacji białoruskiej, ani cienia czynnego uświadamiania ludności białoruskiej*)!»

Праз дзесяць гадоў, у лісце да папскага нунцыя ў Варшаве за 9 чэрвеня 1938 г., г. зн. пасля першай спробы высялення марыянаў з Друі*, Цікота пісаў: «У Друйскай парафіі ёсць нямала брацтваў і рэлігійных таварыстваў, якімі старанна кіравалі айцы (марыяне. — *А. Н.*). Усе паседжанні і зборкі гэтых арганізацыяў праводзіліся толькі на польскай мове. Айцец Язэп Дашута, адміністратар парафіі, шмат займаўся распаўсюдам кніг і часопісаў. Лік (падпісчыкаў) каталіцкіх часопісаў і бюлетэняў на польскай мове — некаторыя з іх тыднёвікі, а іншыя месячнікі, — даходзіць да 1000, затое на беларускай мове лік паасобнікаў каталіцкага часопіса, які выходзіць два разы ў месяц, у мінулым годзе не перавысіў 10. У апошнія гады было распаўсюджана больш як 1500 малітоўнікаў на польскай мове, а на беларускай каля 20. У парафіяльнай бібліятэцы ёсьць каля 1500 кнігаў, але толькі 4 з іх на беларускай мове, астатнія — на польскай».

Згадка пра 4 беларускія кнігі ў парафіяльнай бібліятэцы робіць сумнае ўражанне. У ёй не магло быць нават усіх твораў друйскага марыяніна а. Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага), які ў часе ад 1928 да 1935 г. выдаў 10 кнігаў. А што ўжо казаць пра кнігі іншых беларускіх святароў — Станкевіча, Сваяка, Татарыновіча, Зязюлі, Быліны, Рэшаця, або пра такі класічны твор духоўнай літаратуры, як «Следам за Хрыстусам» Тамаша Кэмпійскага ў беларускім перакладзе Ст. Грынкевіча. Пра творы класікаў беларускай літаратуры (Купала, Колас, Багдановіч і інш.) не даводзілася, відаць, нават і згадваць. Але вернемся да ліста а. Цікоты папскаму нунцыю: «Апроч працы чыста царкоўнай і рэлігійнай, айцы заснавалі ў 1924 годзе польскую

* Cikoto A. Quandam informationes…

гімназію, *у якой ужывалася толькі польская мова* (вылучана мною. — *А. Н.*), усе настаўнікі, за выняткам аднаго айца, былі палякамі і, беручы пад увагу папрокі, якія рабіліся нашым айцам, *налягалі на тое, каб узмоцніць польскі дух больш, як гэта звычайна робіцца ў іншых гімназіях* (вылучана мною. — *А. Н.*).

У Друі існуюць розныя польскія грамадскія таварыствы і гурткі, якія часта ладзяць розныя нацыянальныя святкаванні. На ўсе гэтыя святкаванні запрашаліся нашыя айцы, і яны, наколькі гэта было магчыма святарам, бралі ў іх удзел, а часам і самі іх арганізоўвалі. *Наадварот, праз увесь час свайго знаходжання ў Друі яны не заснавалі ніводнага беларускага гуртка* <...> (вылучана мною. — *А. Н.*). Усе айцы Друйскага дома ўзгадаваныя хутчэй у польскім духу, чым у беларускім, і таму самі без цяжкасцяў карыстаюцца польскай мовай. Прызнаючыся ў сваёй беларускай нацыянальнасці, яны не ставяць перад сабою ніякіх нацыянальных мэтаў, а карыстаюцца беларускай мовай, каб іх лепш разумелі. Маючы заўсёды перад вачыма артыкул 180 канстытуцыяў (марыянскіх) <...>, айцы ніколі не ўмешваліся ў ніякія палітычныя ці нацыянальныя справы. Таму нярэдка з боку беларускай інтэлігенцыі ім рабілі закіды, што *сваёй дзейнасцю яны быццам уціскалі беларускую нацыянальнасць і запавольвалі ейнае развіццё* (вылучана мною. — *А. Н.*). Сапраўды, ранейшая дзейнасць беларускай моладзі, не падтрыманая айцамі, паступова быццам знікла, і ад часу з'яўлення ў Друйскай парафіі закону аа. марыянаў у ёй не было ніякіх беларускіх сцэнічных пастановак ці хораў».

Польскі езуіт а. Ян Урбан, адзін з тых, хто выступаў у абарону друйскіх марыянаў, пісаў: «Калі ідзе пра катэхізацыю (на беларускай мове. — *А. Н.*), дык трэба дадаць, што не марыяне першыя яе ўвялі, бо перад іхнім прыйсцем у Друю беларуская мова ўжывалася ў казаннях, і якраз пры марыянах ад яе адмовіліся, пакінуўшы яе толькі ў філіяльнай капліцы»*.

Балючая справа мовы ў пастырскай працы сярод беларускага каталіцкага насельніцтва рымскага (лацінскага) абраду ў Заходняй Беларусі між дзвюма сусветнымі войнамі да канца не страціла сваёй надзённасці. Польскія каталіцкія духоўныя ўлады пры падтрымцы ўрада, абапіраючыся на крыўдныя для беларусаў артыкулы канкардату між Святым Пасадам і Польшчай, рабілі ўсё, каб зліквідаваць «беларускае пытанне». Гэта ім

* J. Urban. Monachomachia… S. 120.

не ўдалося толькі дзякуючы высілкам такіх беларускіх святароў, як Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Міхал Пятроўскі, Язэп Рэшаць, Віктар Шутовіч, Ян Семашкевіч, Станіслаў Глякоўскі, Пётра Татарыновіч ды іншых (дарэчы, усе яны былі прыхільнікамі Уніі). Яны ў цяжкіх абставінах, часта церпячы пераслед, аказаліся сапраўднымі пастырамі свайго народа. Да іхняга ліку належаў, несумненна, і Язэп Германовіч. Калі ідзе пра Друю, дык яна ніколі поўнасцю беларускай не стала. Паступова пад ціскам яна здавала і тыя сціплыя пазіцыі, якія ёй спачатку ўдалося замацаваць.

Відаць, Цікота думаў, што калі ён згодзіцца на пэўныя саступкі, дык польскія ўлады пакінуць Друю ў спакоі. Ён забыўся, што кожная саступка нахабніку робіць яго яшчэ больш нахабным. Калі ўжо не засталося, куды саступаць, беларускіх айцоў выкінулі не за тое, што яны рабілі, а за тое, кім яны былі. Між іншым, такой думкі прытрымліваліся многія прыяцелі і ворагі друйскіх марыянаў. Пра думку а. Віктара Шутовіча ўжо гаварылася вышэй. Газета «Хрысціянская думка» пісала: «Нам ведама, што беларусы марыяне праз 15 гадоў вялі польскую гімназію. Калі так, «дык за што іх выселілі?» — пытаецца «Kurier Wileński» і кажа: “Не ведаем, але мы хацелі б ведаць”»*. Варожая да беларусаў віленская «эндэцкая» газета «Głos Narodowy» дала ясны адказ на гэтае «за што»: «Польшча мае зашмат меншасцяў (больш як дваццаць адсоткаў), каб магла дазволіць стварэнне яшчэ адной. Беларусы з’яўляюцца адным з польскіх плямёнаў, і не было б сэнсу даваць згоду на тое, каб стварыць з іх народ, які не існаваў і не будзе існаваць. Дзеля гэтага дзейнасць аа. марыянаў была безумоўна шкоднаю, і факт высялення іх з памежнай тэрыторыі трэба прызнаць як дадатны»**. Нейкі «Сведка» ў газеце «Kurier Wileński» выступіў у абарону друйскіх марыянаў, але наўрад ці такая абарона магла прынесці шмат радасці беларусам: «Такая руплівасць пра Польшчу ёсьць у блудным коле, бо аа. марыяне не толькі не былі шкоднымі для польскасьці, але насамрэч па-

---

* Jašče Druja // Chryścijanskaja Dumka. Vilnia, 20.06.1938. № 18. S. 6.

** «Polska ma zbyt dużo mniejszości (dwadzieścia kilka procent) żeby mogła pozwolić na tworzenie z nich jeszcze jednej. Białorusini są jednym z plemion polskich, i nie miałoby sensu zgadzać się na tworzenie z nich narodu, kryry nie istniał i nie będzie istniał. Dlatego też działalność OO Marianów była bezwzględnie szkodliwa i fakt ich usuniacia z terenu granicznego należy uznać za pozytywny» (S. J. Sztab separatystów w klasztorze // Głos Narodowy. Wilno, 22.06.1938).

шыралі польскасьць. Мелі польскую гімназію і вучылі толькі па-польску. Ладзілі і бралі чынны ўдзел ува ўсіх нацыянальных урачыстасьцях ад хвіліны свайго прыезду ў Друю і г. д.»*. Такім чынам, выглядае, што пытанне павінна было быць не *за што,* а *чаму* выселілі.

Іронія ў тым, што палякі, занятыя змаганнем з манахамі, не бачылі сапраўднай пагрозы, якая навісла над іхняй краінай. Крыху больш як праз год пасля драматычных падзеяў у Друі, 1 верасня 1939 г., выбухнула нямецка-польская вайна, і праз два тыдні Польская дзяржава перастала існаваць. Беларусам прыйшлося перажыць шмат цяжкіх момантаў, але ад польскага панавання ў іхняй краіне засталіся толькі прыкрыя ўспаміны.

Ужо раней згаданы Язэп Найдзюк, рэдактар часопіса «Шлях моладзі», пісаў у «Хрысціянскай думцы» ў 1936 г., што айцы марыяне «многа працуюць для Каталіцкага Касьцёла, толькі, на жаль, не ў родным краю, толькі не сярод беларусаў»**.

У ліпені 1937 г. «Хрысціянская думка» пісала, што «айцы марыяне ў Друі, нягледзячы на сваю беларускасьць, бадай выключна працуюць па-польску і гэтым самым для польскасьці»***.

Выгнаны з Друі айцец Казімір Смулька ў размове з клерыкамі Чеславам Сіповічам і Антонам Падзявам 8 ліпеня 1938 г. сказаў: «Што прасьледуюць нас, гэта добра, толькі дрэнна, што за самую ідэю нацыянальную. А мы для яе беспасярэдня ніколі не працавалі».

Газета «Крыніца» пісала 10 траўня 1940 г.: «аднавіцель марыянскага закону арцыб. Ю. Матулевіч беларусаў марыянаў, так як іншых народнасьцяў, празначыў працаваць сярод свайго народу. Аб гэтым сьведчыць марыянская канстытуцыя. Тым часам, гэтыя беларускія марыяне знаходзяцца ўсюды, толькі не ў Вільні. Айцы марыяне, асабліва айцец Язэп Германовіч, мелі вялікія ўплывы на беларускае каталіцкае і нават праваслаўнае грамадзтва. Сяньня тут у Вільні яны былі б дужа патрэбны і ка-

---

* «Tą gorliwość o Polskę jest w błędnym kole, bo oo. marianeie nie tylko że nie byli szkodliwymi dla polskości, ale polskość faktycznie szerzyli. Gimnazjum mieli polskie i tylko po polsku uczyli. Urzą dzali i brali czynny udział we wszystkich uroczystościach narodowych od chwili przybycia swego do Drui i t. d.» (Świadek. Co słychać w Drui // Kurier Wileński. Wilno, 24.6.1938).

** Chyścijanskaja dumka. Vilnia, kastryčnik 1936. № 10. S. 7.

*** Chyścijanskaja dumka. Vilnia, 15.07.1937. № 14 (140). S. 4.

рысны. Тым часам, напр., а. Я. Германовіч прымушаны чамусьці сяньня аставацца аж у Харбіне»*.

Як заўважаў сам айцец Германовіч (Вінцук Адважны), «Аднавіцель закону (марыянаў. — *А. Н.*) біскуп Матулевіч <…> загадаў сваім законным братом ісьці ў народ, несьці і апавядаць Евангельле ўсім і ўсюды, гдзе будуць найбольшыя патрэбы і куды іх Касьцёл пашле. Колькі магчыма, аднак, *ісьці трэба перадусім да народу свайго* (вылучана мною. — *А. Н.*), вучыць сваіх, асабліва простых, найпрасьцейшых і апушчаных»**. Гэтыя словы ён напісаў амаль напярэдадні свайго выезду ў Харбін у 1932 годзе…

Вярнуўшыся з Харбіна ў Вільню ў 1936 г., айцец Германовіч пісаў ананімна ў «Хрысціянскай думцы»: «Цешымся з таго, што беларусы трапляюць слаўна змагацца там, гдзе ўсе апускаюць рукі. Але як жа нам сумна, што адрываюцца ад роднай нівы найлепшыя працаўнікі! Наш апушчаны Народ патрабуе сам ратунку. “Шкада мне гэтага народу!..” Хто ж яму, спрагненаму слова Божага, гэтага “штодзённага хлеба”, паслужыць у патрэбе, калі сыны ягоныя едуць на Далёкі Ўсход?»***

Праз дваццаць тры гады, 9 лістапада 1959 г., той самы а. Германовіч у Рыме ў справаздачы пра дзейнасць Харбінскай місіі выказаўся такім чынам: «Мы, марыянскія законнікі, прызначаныя для місіі ў Харбіне, усе былі беларускай нацыянальнасці і працавалі для Бога і Царквы, і для бацькаўшчыны <…> чужой, менавіта расейскай, што была ад вякоў нам варожая»****.

Іншы былы друйскі марыянін, айцец Язэп Дашута, пісаў 15 ліпеня 1963 г. біскупу Чаславу Сіповічу з Польшчы: «Жутка нам, што не можам працаваць сярод сваіх і вам памагаць, але затое працуем цэлай душой для нашых братоў поль(скіх)».

Блаславёны Юры Матулевіч заснаваў Друйскі кляштар «*pro alborussis*» (для беларусаў). Ягоныя наступнікі ў марыянскім

---

* M. K. Čas napravic kryŭdu // Krynica. Vilnia, 10.05.1940. № 37. S. 1.

** В. Адв. Друя. Кляштар Айцоў Марыянаў // Беларускі каляндар на 1932 год. Вільня, 1932. С. 62.

*** Z Dalokaha Uschodu // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, vierasień 1936. № 9. S. 7.

**** «…laboravimus pro Deo et Ecclesia, et pro patria… aliena, scilicet russa, quae a saeculis fuit nobis inimica» (Hermanovič Joseph. Relatio de statu et abolitione Missionis Catholicae Ritus Byzantino Slavi in Manciuria. Romae. 9.11.1959. P. 10). Машынапісная копія знаходзіцца ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.

законе (Бучыс) і на Віленскім пасадзе (Ялбжыкоўскі), хоць і зыходзілі з дыяметральна супрацьлеглых пазіцыяў, абодва палічылі выгодным забыцца на гэтыя словы заснавальніка. Такім чынам, друйскім айцом, у чыёй адданасці Хрысту, Ягонай Царкве і свайму народу нельга сумнявацца, давялося ахвяраваць свае сілы, здольнасці і нават жыццё — у Друі, Харбіне і Варшаве — «*pro patria aliena*»…

***2006***

# ГРЭЦКАЯ КАЛЕГІЯ Ў РЫМЕ І БЕЛАРУСЫ

## Крыху гісторыі

Адным з вельмі важных, але мала даследжаных пытанняў у гісторыі Беларускае царквы ёсць пытанні асветы духавенства. У гэтым дачыненні немалое значэнне мела Грэцкая калегія св. Атаназія. Праз усё XVII і амаль усё XVIII ст. гэта калегія была месцам узгадавання высокіх дастойнікаў Каталіцкае царквы ўсходняга абраду (т. зв. уніяцкае) на Беларусі. Гэты кароткі нарыс мае на мэце падаць хоць агульны вобраз таго найважнейшага калісь асяродку асветы.

Грэцкая калегія св. Атаназія была заснавана Папам Грыгорыем XIII у 1577 г. Гэты вялікі Папа заслужыў сабе славу дбайлівасцю аб асвеце будучых працаўнікоў на Хрыстовай ніве. За ягонага пантыфікату ў Рыме паўсталі калегіі для розных нацыяў, асабліва для тых, чыя вера найбольш пацярпела ад пратэстантызму.

Заняты перадусім лёсам Заходняй Еўропы, якая ў той час асабліва балюча перажывала закалоты, выкліканыя рэфармацыяю, Грыгорый XIII не забыўся таксама і аб тым народзе, які калісь быў гордасцю і красою хрысціянства, а ў XVI ст. перажываў паніжэнне і ўпадак. Грэцыя, некалі бацькаўшчына такіх вялікіх святых, як Базыль Вялікі, Ян Залатавусны, Атаназій Вялікі, Грыгорый Багаслоў, Тодар Студыт і інш., у той час знаходзілася ў трагічным палажэнні. Рэлігійна адарваная ад Апостальскага Пасаду, палітычна змушаная цярпець паніжаючую турэцкую няволю, яна знаходзілася ў стане небывалага да гэтага часу ў яе гісторыі культурнага і духоўнага заняпаду.

Не маючы іншае магчымасці дапамагчы Грэцыі, Грыгорый XIII закладае ў Рыме Грэцкую калегію, якая мела стацца месцам

узгадавання маладых грэкаў, якія, атрымаўшы належную асвету, заняліся б і апостальскай і агульнаасветнай дзейнасцю між сваіх суродзічаў. Хоць галоўным заданнем калегіі было ўзгадаванне святароў, аднак прыняцце святарскіх свячэнняў не было абавязковым. Таму на працягу першых гадоў яе існавання з калегіі побач святароў выйшла таксама шмат выдатных свецкіх людзей.

Будову калегіі Папа даручыў архітэкту Джакома дэлля Порта. Месца для калегіі было куплена ў адной з найпрыгажэйшых частак горада недалёка ад узгорка Пінчыё пры вія Паўліна, сёння вія дэль Бабуіна. У 1580 г. каля калегіі пачата будаўніцтва царквы св. Атаназія. Пабудавана яна ў стылі рэнесансу і доўгі час у ёй нічога не нагадвала царквы ўсходняга абраду, акрамя драўлянага іканастасу. Да таго ўсходнім быў толькі галоўны алтар, а чатыры бакавыя алтары былі лацінскія. Толькі ў час рамонту ў 1869 г. былі выкінуты лацінскія алтары і на месца драўлянага быў пастаўлены каменны іканастас.

Кіраўніцтва калегіяй спачатку было ў руках кард. Санта Сэвэрына (для большае дакладнасці варта дадаць, што ўласна ён называўся Джуліа-Антоніа Сантаніна), аднаго з чатырох пратэктараў калегіі, але гэтае кіраўніцтва не было поўнасцю здавальняючым, дзеля гэтага ў 1591 г., астаўляючы нагляд таму ж кардыналу, вядзенне калегіі даручана айцам езуітам. Пад кіраўніцтвам езуітаў калегія развівалася памысна да 1602 г., калі на месца памерлага кард. Санта Сэвэрына пратэктаратам даручана кард. Жусцініяні. Ён адразу распачаў вайну з езуітамі, так што яны былі змушаны ў 1604 г. зрачыся кіраўніцтва, але ненадоўга. У 1622 г. Папа зноў перадаў кіраўніцтва езуітам, і гэтым разам яны аставаліся тут да 1773 г., гэта значыць да часу, калі быў скасаваны іхні ордэн. Пасля езуітаў кіраўніцтва калегіяй перанялі свецкія святары. У 1803 г. калегія была зачынена ў сувязі з рэвалюцыйнымі рухамі таго часу і адчынена нанава толькі ў 1845 г. і кіраўніцтва даручана свецкім святарам. У 1886 г. кіраўніцтва перанялі айцы рэзурэкцыяністы, але толькі на тры гады, бо ў 1889 г. калегія перададзена зноў айцам езуітам. Апошняя змена ў кіраўніцтве адбылася ў 1897 г., калі Папа Леў XIII правёў радыкальную рэформу калегіі і кіраўніцтва ёю перадаў айцам бенедыкцінцам, якія выконваюць гэты абавязак да сёння*.

Трэба зазначыць, што Калегія св. Атаназія ёсць найстарэйшай калегіяй усходняга абраду ў Рыме і яна першая павінна была на працягу сваёй гісторыі развязаць шмат цяжкіх пытанняў.

* Placide de Meester OSB. Le College Pontif cal Grec de Rome. Romoe, 1910. S. 24.

Адным з такіх пытанняў была справа абраду. Хоць усе студэнты калегіі былі візантыйскага абраду і былі прызначаны ў будучыні працаваць між насельніцтвам гэтага абраду, аднак у часе студыяў яны ўзгадоўваліся ў лацінскім абрадзе, ці, лепш кажучы, у дзіўнай мешаніне лацінскага і візантыйскага з перавагаю апошняга. Рэктар і ўсе кіраўнікі былі лацінскага абраду. Студэнты былі забавязаны штодзённа прысутнічаць на Службе Божай а. рэктара, нават і тады, калі таго самага дня служылася Служба Божая візантыйскага абраду, так было штонядзелі і ў кожнае большае свята. Каб унемагчыміць пераход у лацінскі абрад, ад студэнтаў вымагалася прысяга, што да канца жыцця будуць трымацца візантыйскага абраду і будуць захоўваць яго ў поўнай чысціні. Потым была дадданая яшчэ забарона ўступаць у якія-колечы нашыя ордэны акрамя базыльянаў, якія былі візантыйскага абраду.

Калі Папа Грыгорый XVI у 1845 г. нанава адчыняў калегію, дык хоць часткова палагодзіў абрадавую справу. Ён загадаў, каб штодзённа для студэнтаў адпраўлялася служба Божая ў візантыйскім, а не лацінскім абрадзе. Аднак поўная абрадавая рэформа была зроблена ў 1897 г. Бенедыкцінцы, якія тады пераняглі кіраўніцтва, усе былі візантыйскага абраду і трымаліся яго з уласціваю бенедыкцінцам дакладнасцю. Ад таго часу Калегія св. Атаназія сталася тым месцам, дзе візантыйскі абрад захоўваўся ў поўнай чысціні.

Прынагадна варта ўспомніць, што з боку папаў калегія была прадметам асаблівае апекі. Яны не раз адведвалі яе асабіста і надавалі ёй розныя прывілеі. Напрыклад, Папа Сікст V у 1586 г. даў прывілей, паводле якога на ўсіх урачыстых папскіх службах функцыі субдыякана і дыякана выконваюць студэнты Калегіі св. Атаназія. Гэты прывілей захоўваецца да сёння.

Што да нацыянальнага складу студэнтаў Грэцкае калегіі, дык, як сам назоў кажа, яна была прызначана для грэкаў. І ў першыя гады свайго існавання сапраўды там былі пераважна грэкі перадусім з абтокаў (Хіос, Корфу, Кіпр і інш.) і менш з кантынента. Аднак хутка калегія траціць свой выключна грэцкі характар. Ужо на пачатку існавання калегіі была думка пасылаць туды 12 кандыдатаў «рускіх» з тым разлікам, каб між іх было 6 расейцаў і 6 беларусаў і ўкраінцаў з Рэчы Паспалітае, але знойдзена іх толькі 3, і ў тым ліку толькі аднаго расейца*.

* P. Pierling. La Russie et Saint-Siege. 2-me ed. Paris, 1906. T. 1. S. 404.

Пасля Берасцейскае уніі ў калегіі пачалі сустракацца штораз часцей «рускія»* студэнты. У 1613 г. мітр. Руцкі атрымоўвае ў калегіі 4 сталыя месцы для сваіх студэнтаў. Паколькі спачатку унія пашыралася на Беларусі і часткова на Валыні, а Львоўская і Перамышльская епархіі прыступілі да яе толькі на пачатку XVIII ст., дык «рускія» студэнты з XVII ст. і вялікая колькасць з XVIII ст. былі пераважна беларусы. Усе яны былі манахі базыльяне. Свецкіх святароў было ўсяго некалькі чалавек, і іхняя прысутнасць талеравалася толькі як пераходнае з’явішча, пакуль на Беларусі паўстане свая духоўная семінарыя.

Услед за беларусамі і ўкраінцамі дзверы калегіі былі адчынены для італа-грэкаў, а ў 1745 г. — для мельхітаў, якія ў 1724 г. паядналіся з Каталіцкай царквою.

Такім чынам, Калегія св. Атаназія з нацыянальнай грэцкай інстытуцыі ператварылася ў шматнацыянальную семінарыю візантыйскага абраду.

Ад 1839 г. не было ужо ў калегіі больш беларускіх студэнтаў, як не было Каталіцкае царквы ўсх. абраду на Беларусі. Затое было шмат украінцаў з Галіцыі. З новых студэнтаў прыбылі сюды ў 1849 г. румыны. Аднак потым румыны і ўкраінцы атрымалі свае ўласныя калегіі, а ў Калегіі св. Атаназія асталіся грэкі, італа-албанцы, албанцы і мельхіты.

Уклад Калегіі св. Атаназія ў развіццё грэцкае культуры не з’яўляецца тэмаю гэтага артыкула, дык яе тут не закранаем, зазначым толькі, што адносна гэтае тэмы Э. Лягран выдаў у 1895 г. спецыяльны твор з багатай бібліяграфіяй. Бібліяграфічны пяцітомны твор Э. Ляграна ёсць агульнай грэцкай бібліяграфіяй з XVII ст., і толькі трэці том гэтага твора прысвечаны вучням Грэцкае калегіі.

Пераходзячы да найбольш цікавячага нас пытання: сувязі Грэцкае калегіі з Беларуссю, распачнём расказ не ад беларусаў, а ад аднаго грэка, які даўжэйшы час жыў і працаваў на Беларусі і Украіне. Называўся ён Пятро Аркудыюс. Паходзіў з абтоку Корфу і ўступіў у Калегію св. Атаназія ў 1578 г. ды правёў у ёй 12 гадоў, здабываючы тытулы доктара філасофіі і багаслоўя. У 1590 г. луцкі лацінскі біскуп Бернард Мацеёўскі (будучы кардынал), які вёў перагаворы аб царкоўнай уніі, будучы ў Рыме,

* Слова «рускі», па-лаціне Ruthenus, тут ужывалася для азначэння візантыйска-славянскага абраду, а беларуская нацыянальнасць у тым часе азначалася словам «ліцвін» — Lithuanus або Litvanus.

узяў з сабою Аркудыюса ў сваю епархію, каб там ён заняўся працаю для паяднання Цэркваў. У той час луцкім праваслаўным епіскапам быў Кірыла Тарлецкі. Ён і Іпацій Пацей потым сталіся найгарачэйшымі прыхільнікамі уніі. Абодвух іх ведаў Аркудыюс даўжэйшы час перад уніяй і тое знаёмства, безумоўна, не асталося без наступстваў.

Калі ў 1595 г. епіскапы Пацей і Тарлецкі ад імя мітрапаліта і іншых епіскапаў складалі ў Рыме прысягу вернасці Намесніку Хрыста, там быў таксама прысутным Аркудыюс. Аднак ён хутка вярнуўся ў Беларусь памагаць Пацею, які ў 1599 г. стаўся мітрапалітам. Насамперш Пацей даручыў яму кіраўніцтва брацкай школай у Берасці, але потым хутка перанёс на больш адказнае становішча, кіраўніка «грэцкае» калегіі ў Вільні. Гэтая калегія была спробаю развязання балючага пытання асветы для беларускага каталіцкага духавенства ўсходняга абраду, каб яно не было ніжэйшым ад лацінскага. На жаль, Аркудыюс не доўга затрымаўся ў Вільні і хутка пасля яго выезду калегія замерла, але за кароткі час яе існавання адтуль выйшаў прынамсі адзін больш вядомы дзеяч, прыяцель і спаведнік св. Язафата а. Генадзі Хмяльніцкі.

Акрамя ўзгадаваўчае працы Аркудыюс пакінуў па сабе паважны след у палемічнай літаратуры ў абароне уніі. У 1600 г. выйшаў у Вільні ягоны твор «Антэрэзіс» — у арыгінале напісаны на лаціне, а выдадзены па-беларуску і па-польску. Іншыя ягоныя творы былі выдадзены на лаціне ў Кракаве.

Дакладная дата выезду Аркудыя з Вільні невядомая, але ўжо ў 1616 г. яго бачым зноў у Рыме, дзе хутка затрымоўваецца настала ў Грэцкай калегіі. Няшчасны выпадак робіць яго калекам на ўсё жыццё, пазбаўляючы ўлады ног. Гэта, аднак, не зламала ягонага духу, і ён з тым большай энергіяй бярэцца за пяро, каб служыць справе царкоўнае еднасці. Ён жа першы напісаў гісторыю Грэцкае калегіі*. Памёр ён у 1633 г.

Іншым грэцкім студэнтам Калегіі св. Атаназія, які меў сувязі з Беларуссю, быў Неафіт Родзінас. Праўда, ягоныя сувязі былі кароткімі і пераходнымі. Атрымаўшы асвету ў Грэцкай калегіі і ў Іспаніі, ён прыехаў у Беларусь, каб атрымаць святарскія свячанні з рук каталіцкага епіскапа візант. абраду. Пры гэтай нагодзе ён астаўся ў Беларусі некаторы час, працаваў над пашырэннем уніі і нават цярпеў за яе праследаванне, але ў хуткім часе вярнуўся да сваіх суродзічаў, працуючы ў Грэцыі, Македоніі і Албаніі.

---

* P. Arcudius. Collegii Graecorum Primordis. Romae, 1624.

Аркудыюс і Родзінас не былі адзінокімі грэкамі, што з калегіі ехалі на Беларусь, шмат іншых студэнтаў пайшлі за іхнім прыкладам, але іхняя дзейнасць была больш сціплаю, дык імёны іх не захаваліся.

## Некалькі імёнаў

Пераходзячы з чаргі да беларускіх узгадаванцаў Калегіі св. Атаназія, пачнём ад найвызначнейшага з іх. Дня 3-га лістапада 1599 г. у калегію быў прыняты новы студэнт. Ён паходзіў з далёкае краіны, якая тады называлася Літва, а цяпер Беларусь. Гэта быў Ян (у манастве Язэп) Вельямін Руцкі. Нарадзіўся ён у 1573 г. у Руце каля Наваградка. Бацькі Руцкага былі фанатычнымі кальвіністамі, варожа настроенымі да Каталіцкае царквы, таму і сына выслалі на навуку спачатку ў пратэстанцкую школу ў Наваградку, потым у такую ж у Вільні. Па смерці бацькі ў 1590 г. малады Руцкі едзе здабываць вышэйшую адукацыю ў Пражскі ўніверсітэт, які тады быў апанаваны гусітамі. Пратэстанцкая навука і маральная атмасфера, якая там панавала, зрабілі такое дрэннае ўражанне на чулую і чыстую душу Руцкага, што ён тут жа ў Празе выракся кальвінізму і стаўся каталікам лацінскага абраду. З Прагі ён пераехаў у Вюрцбург, дзе студыяваў філасофію, а адтуль — у Рым у Грэцкую калегію.

Пасля чатырохгадовых студыяў у калегіі, прыняўшы па загадзе Папы візантыйскі абрад, Руцкі вярнуўся ў Вільню і там у 1608 г. уступіў у манастыр св. Тройцы, прыняўшы імя Язэп. Тут жа хутка становіцца архімандрытам манастыра, пасля вікарным епіскапам мітр. Пацея, а ў 1614 г. — мітрапалітам. Праз дваццаць тры гады (1614–1637) у безупынных цяжкасцях і незлічоных перашкодах ён змагаўся за ўтрыманне і ўмацаванне уніі на Беларусі; правёў рэформу базыльянаў, ператвараючы іх у квітнеючы ордэн, які нічым не ўступаў лацінскім манаскім ордэнам; безупынна стараўся падняць інтэлектуальны і духоўны ўзровень свайго духавенства. Быў прыяцелем св. Ёзафата, а пасля мучаніцтва гэтага апошняга шмат стараўся аб ягонай беатыфікацыі. Руцкі быў найвялікшым з усіх беларускіх мітрапалітаў; не дарма Папа Урбан VIII назваў яго Атласам Уніі, калюмнаю Царквы.

Наступнік Руцкага на мітрапаліцкім пасадзе Рафаэль Корсак (1637–1641) быў таксама гадаванцам Грэцкае калегіі. Як і Руцкі, ён паходзіў з кальвінскае сям'і, але ў вельмі маладым веку стаў каталікам лацінскага абраду і ўзгадоўваўся ў езуіцкай калегіі

ў Нясвіжы. У 1620 г. ён прымае візантыйскі абрад і ўступае да базыльянаў. Базыльяне высылаюць яго ў Калегію св. Атаназія ў Рым, і тут ён адразу звярнуў на сябе ўвагу вялікімі здольнасцямі і суровасцю жыцця. У 1626 г. ён стае вікарным епіскапам мітр. Руцкага, потым епіскапам Пінскім, а па смерці Руцкага ў 1637 г. — мітрапалітам. Корсак першы напісаў біяграфію Руцкага і шмат стараўся аб беатыфікацыі св. Ёзафата. У гэтай справе ён ездзіў у Рым, і там яго заспела смерць у 1641 г. Пахаваны ў царкве святых Сергія і Вакха, якую дзякуючы стараннем Корсака Папа Урбан VIII даў базыльянам. У гэтай царкве ягоны гроб знаходзіцца і сёння.

Іншым выдатным беларускім узгадаванцам Грэцкае калегіі св. Атаназія быў Антон Сялява, наступнік св. Ёзафата на Полацкім пасадзе, а пасля смерці Корсака — мітрапаліт (1642–1655). На пачатку мітрапалітавання Сялявы Папа Урбан VIII у 1643 г. залічыў Ёзафата Полацкага ў лік багаславёных Каталіцкае царквы.

Між партрэтаў, якія сёння вісяць на калідорах Грэцкае калегіі, адзін мае такі надпіс: «Gabriel Kolenda Litheanus, archiepiscopus totius Russiae». Гэты мітрапаліт (1664–1674), які паходзіў з слаўнага старога беларускага роду, будучы ў Грэцкай калегіі, звярнуў на сябе ўвагу сваімі выдатнымі здольнасцямі. Калі ўжо быў Віцебскім епіскапам, уславіўся абаронаю мошчаў святых Ёзафата і Казіміра перад маскалямі і шведамі, якія тады руйнавалі Беларусь.

Два наступныя мітрапаліты — Кіпрыян Жахоўскі (1674–1693) і Леў Слюбіч-Заленскі (1694–1708) — вучыліся таксама ў Калегіі св. Атаназія ў Рыме. Мітр. Заленскі быў родам з Валыні, і ён быў першым мітрапалітам усх.-каталіцкае Царквы ўкраінскага паходжання, усе іншыя яго папярэднікі былі беларусамі. І ўсе яны, пачынаючы ад 1614 г., атрымалі асвету ў Грэцкай калегіі.

Акрамя мітрапалітаў, з муроў гэтае калегіі выйшла шмат іншых выдатных рэлігійных дзеячаў. Вось некалькі з іх: Ілья Марахоўскі, епіскап Уладзімірскі і Берасцейскі (1618–1631), ягоны партрэт знаходзіцца сёння ў калегіі; Леў Крэўза-Жэвускі (1625–1639), епіскап Смаленскі; Пахом Аранскі (1637–1653), епіскап Пінскі; Андрэй Злоты-Квасінскі (1640–1654), епіскап Смаленскі, а пасля заняцця маскалямі Смаленска еп. Пінскі (1654–1655); епіскап Нікіфар Ляхоўскі; протаархімандрыты: Сымон Кіпрыяновіч, Якім Кушэліч, Лаўрын Друцкі-Сакалінскі — гэта важнейшыя імёны, выбраныя з масы іншых.

Не ўсім беларускім студэнтам з Грэцкае калегіі прыйшлося пабачыць зноў сваю бацькаўшчыну; некаторыя з іх памерлі ў росквіце гадоў у Рыме; між імі не адзін вызначаўся сваімі здольнасцямі, як, напрыклад, Андрэй Падбярэскі, якога Руцкі хацеў мець сваім вікарным епіскапам.

Гэтыя колькі заўвагаў, безумоўна, не вычэрпваюць пытання сувязі Грэцкае калегіі з Беларуссю, але іх дастаткова, каб бачыць, як шмат яна прыслужылася для нашае Царквы.

Сёння, пасля амаль двухвяковага перарыву, Калегія св. Атаназія, аднаўляючы старую традыцыю, зноў адчыніла гасцінна свае дзверы для беларусаў, і гэтым разам без ніякага абмежавання як для манахаў, так і для свецкіх кандыдатаў на святароў.

*1954*

## ШКОЛА ІМЯ СВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛОНДАНЕ

Тыя, хто паспрабаваў узгадоўваць новае беларускае пакаленне на чужыне, добра ведаюць, як цяжкая гэтая справа. Таму кожны пачын у гэтым напрамку ёсць годным увагі і падтрымкі ўсяго нацыянальна свядомага беларускага грамадства.

Адным з такіх пачынаў ёсць Беларуская школа для хлапцоў імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане, якая працуе там ужо трэці год. Гэтая школа — адзіная на ўсім свеце, бо, у адрозненне ад шматлікіх суботніх школак, яна з'яўляецца інтэрнатам, дзе беларускія хлопцы з розных краінаў не толькі вучацца, але стала жывуць разам у беларускай атмасферы.

Размешчаная на ўскраіне Лондана, на граніцы з маляўнічай правінцыяй Гартфордшыр, школа спалучае ў сабе ўсе выгоды і прыемнасці «вясковага» жыцця з блізкасцю да вялікага культурнага цэнтра, якім з'яўляецца сталіца Англіі. Вялікі сад дае незлічоныя магчымасці да гульняў на свежым паветры і да спорту.

Сама школа месціцца ў прыгожым прасторным будынку. Усё тут уладжана па-беларуску, пачынаючы ад Пагоні, якая вітае госця пры самым уваходзе, і канчаючы беларускімі дзяружкамі, якімі пакрытыя ложкі хлапцоў у спальнях.

Школа знаходзіцца пад кіраўніцтвам святароў Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі. Мар'ян Гаўз, сяліба Місіі, ёсць насупраць школы, па другім баку дарогі. Акрамя святароў, у школе працуе група свецкіх настаўнікаў і ўзгадавальцаў. Гаспадыня,

якая глядзіць за здароўем і матэрыяльнымі патрэбамі хлапцоў, з’яўляецца кваліфікаванай медыцынскай сястрой.

Вучні праходзяць нармальны курс навучання ў аб’ёме ангельскай сярэдняй школы. Акрамя гэтага, яны маюць лекцыі беларусаведы. Усе яны павінны здаваць матуральныя іспыты па беларускай мове ў Лонданскім універсітэце.

Такім чынам, атрымоўваючы добрую асвету, якая дасць ім у будучыні магчымасць заняць адпаведнае месца ў грамадстве у той краіне, дзе яны маюць жыць, вучні школы св. Кірылы не толькі не трацяць сваёй нацыянальнай апрычонасці, але, наадварот, вучацца любіць і шанаваць усё беларускае і быць гордымі з свайго беларускага паходжання.

Кіраўніцтва школы слушна ўважае, што яно не мае права марнаваць дадзеных магчымасцяў і дзеля гэтага павінна імкнуцца ўзгадоўваць толькі паўнавартасных адзінак як інтэлектуальна, так і маральна. Дзеля гэтага вялікая ўвага звяртаецца на рэлігійнае і маральнае ўзгадаванне вучняў.

Сёння яшчэ рана гаварыць аб поспехах школы св. Кірылы. Трэба, аднак, зазначыць, што яна мае ўжо вучняў не толькі з Еўропы, але і з Амерыкі. Ёсць нават адзін паўнакроўны ангелец, які разам з іншымі вучыцца беларускай мове!

Вучні школы св. Кірылы ў прыгожых нацыянальных строях ужо не раз ажыўлялі сваёй прысутнасцю і выступамі беларускія святкаванні. Іхні хор, нягледзячы на кароткае існаванне, заслужыў ужо прызнанне ад усяго тутэйшага беларускага грамадства. У школе памысна працуе драматычны гурток і ёсць пачаткі свайго аркестра.

Што робяць вучні ў свабодны ад заняткаў час? Гэта залежыць ад асабістых зацікаўленняў кожнага хлопца. А зацікаўленні іхнія вельмі разнастайныя: ад валейбола і будовы «дзікарскіх» хатаў на дрэвах і канчаючы канструкцыямі радыёпрыёмнікаў і даследаваннямі астаткаў гарадскіх муроў Лондана, збудаваных за рымскіх часоў…

Будучыня пакажа, як далей разаўецца школа св. Кірылы. Мы, са свайго боку, пажадаем ёй, каб сталася кузняй беларускага духу ў вольным свеце.

***1964***

## ПЯЦЬ ГАДОЎ ШКОЛЫ СВ. КІРЫЛЫ

Школа з’яўляецца ўстановаю, якая расце вельмі памалу. У сапраўднасці не можна гаварыць аб ёй, як аб нечым закончаным, пакуль першыя пакаленні ейных гадунцоў не пойдуць у жыццё. Гэтага не можна яшчэ сказаць аб школе святога Кірылы Тураўскага ў Лондане. Тым не менш пяць гадоў існавання гэтай адзінай свайго роду беларускай установы ў вольным свеце ёсць датай, вартай таго, каб яе адзначыць хоць у скромны спосаб.

Гісторыя школы святога Кірылы пачалася ўвосень 1960 г., калі айцы Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане, прыехаўшы з Мюнхена з хіратоніі Яго Дастойнасці ўладыкі Часлава Сіповіча, даведаліся, што па суседству з Марыян Гаўз прадаецца прыгожы і прасторны дом з вялікім садам. Адразу зарадзілася думка, каб купіць гэты дом і залажыць у ім беларускую школу-інтэрнат для хлапцоў. Уладыка Часлаў згадзіўся на прапанову, і дзякуючы ягоным старанням дом быў куплены і абсталяваны пад школу. Недалёка ад Марыян Гаўз знаходзіцца комплекс ангельскіх каталіцкіх школаў. Кіраўнікі гэтых школаў згадзіліся ахвотна прыняць беларускіх хлопцаў. Такім чынам справа агульнай асветы была развязана памысна. У самой школе св. Кірылы вучні мелі атрымоўваць дадатковыя лекцыі па беларускай мове, літаратуры і гісторыі, а таксама дапамогу і нагляд па ўсіх іншых прадметах навучання.

У верасні 1961 г. школа св. Кірылы пачала свой першы навучальны год з лікам… чатырох вучняў. Адразу выявіліся цяжкасці. З чатырох вучняў толькі адзін умеў гаварыць па-беларуску, адзін гаварыў толькі па-ангельску, а два іншыя — толькі па-нямецку. Такім чынам, гэтых апошніх трэба было адразу навучаць двюм мовам — беларускай і ангельскай, — і было толькі невядома, на якую рабіць большы націск. Адчуваўся таксама недахоп навуковых дапаможнікаў. Існуючыя падручнікі беларускай мовы былі прызначаныя для дзяцей, якія гавораць па-беларуску, і таму яны аказаліся непрыдатнымі ў дадзеным выпадку. Прыходзілася самім тварыць усё ад пачатку і шукаць адпаведных метадаў. Праца была цяжкая, але яна прынесла не менш карысці і самім настаўнікам. Айцец Леў Гарошка, які на самым пачатку практычна кіраваў школаю і быў першым настаўнікам беларускай мовы, меў над чым паламаць галаву…

У кожнай школе-інтэрнаце вельмі важнай ёсць гаспадыня, якая не толькі глядзіць за тым, каб вучні былі сытыя, адзетыя

і чыстыя, але таксама заступае матку, асабліва для малодшых дзяцей. Для школы св. Кірылы была патрэбная гаспадыня-беларуска. На жаль, яе знайсці было не так лёгка. Першая гаспадыня, беларуска сп-ня Равенская, з прычыны веку знайшла свае абавязкі цяжкімі і павінна была зрачыся пасля некалькіх месяцаў. Пошукі іншай беларускі на яе месца не далі жаданых вынікаў, і прыйшлося ўзяць на гаспадыню сп-ню Л. Паранд. Гэта была эстонка, і яна аказалася добрай гаспадыняй і лаяльнай да беларусаў, аднак, не ведаючы беларускай мовы, гутарыла з хлопцамі па-ангельску, і таму беларускае ўзгадаванне вучняў на гэтым цярпела. Толькі ў 1965 г. нарэшце школа мела шчасце здабыць сабе беларускую гаспадыню. З'яўляецца ёю сп-ня Алена Міхалюк, і кіраўніцтва і ўсе вучні школы маюць толькі адно жаданне, каб яна магла застацца на гэтым месцы на доўгія гады.

У пачатку 1962 г. вярнуўся з Амерыкі а. Язэп Германовіч і заняў пасаду кіраўніка школы, прыносячы з сабою багацце шматгадовага настаўніцкага і ўзгадаваўчага дасведчання. Восенню таго года прыехаў у Лондан а. Аляксандр Надсан і быў назначаны на пасаду намесніка кіраўніка і адміністратара. З часам ён пераняў кіраванне навучаннем беларускай мовы. У тым самым часе школа атрымала яшчэ вялікую дапамогу ў асобе сп. Г. Пікарды, ангельскага прыяцеля беларусаў і знаўцы беларускай царкоўнай музыкі. Спадар Пікарда згадзіўся быць настаўнікам музыкі ў школе. Дзякуючы ягонай самаахвярнай працы, хор школы св. Кірылы сёння добра вядомы беларускаму грамадству ў Лондане. Яго можна пачуць кожную нядзелю ў царкве св. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз. Не раз ён таксама выступаў на розных нацыянальных урачыстасцях або ладзячы канцэрты ў школе.

Наогул мастацкая самадзейнасць пачала адыгрываць паважную ролю ў жыцці школы. Хутка пасля хору паўстаў аркестр. Пачалі арганізоўвацца драматычныя пастаноўкі. Школьная ялінка і канцэрт у канцы школьнага года ўвайшлі ўжо ў традыцыю і цешацца заслужанай папулярнасцю сярод беларусаў і ангельскіх прыяцеляў у Лондане. Аднак школа ёсць школаю, і вонкавыя выступленні займаюць вельмі агранічанае месца ў ейным жыцці. Большасць часу хлопцы праводзяць між сабою, у сваёй «сям'і». Гэта адносіцца аднолькава да працы і да адпачынку. Тут таксама выраблілася свая традыцыя. Да яе належаць Купальскі вечар і вогнішча на пачатку школьнага года. Традыцыйнымі з'яўляюцца экскурсіі па Лондане і ваколіцах, якія ладзяцца кожную чвэрць.

Гаворачы аб экскурсіях, неабходна ўспомніць аб экскурсіі ў Нямеччыну летам 1964 г. і аб паездцы ў Рым увосень 1965 г.,

куды хлопцаў запрасіў уладыка Часлаў. Аб гэтай апошняй экскурсіі вучні яшчэ не могуць забыцца.

З ростам школы першапачатковы будынак аказаўся замалы, і ў 1965 г. удалося купіць суседні дом, таксама вялікі, як і першы, і з вялікім агародам. Такім чынам, умовы жыцця яшчэ палепшалі. Цяпер школа мае месца на 20 вучняў. Ёсць вялікая сталоўка, светлыя класы і надзвычай прыгожая і прасторная зала да гульняў, якая ператвараецца ў разе патрэбы ў тэатр. Вялікія гароды пры школе і Марыян Гаўз даюць магчымасць для адпачынку і гульняў.

Летам 1964 г. у школе св. Кірылы была зарганізаваная летняя калонія для дзяцей. Калонія была прызначаная ў першую чаргу для беларускіх дзяўчат, каб даць ім магчымасць хоць кароткі час пажыць у беларускай атмасферы.

Другая падобная калонія адбылася летам 1965 г. Абедзве калоніі ўдаваліся вельмі добра, і школа мае на думцы арганізаваць іх у будучыні.

Амаль ад самага пачатку ў школе пачаўся збор старых беларускіх мапаў і друкаў. Асабліва шмат спрычыніліся ў гэтай галіне ўладыка Часлаў і сп. Г. Пікарда. Цяпер ужо школа мае досыць вялікую і цэнную калекцыю мапаў і гравюраў з XVI–XVIII стст. Ёсць там таксама нямала твораў сучасных беларускіх мастакоў. Апошнім часам паўстала думка сабраць у адно месца ўсе гістарычныя, мастацкія і этнаграфічныя цэннасці, цэннасці, якія знаходзяцца ў школе і ў Марыян Гаўз, і стварыць маленькі беларускі музей. Справа гэтая стаіць на добрай дарозе.

У чэрвені 1966 г. школа магла пахваліцца сваім першым поспехам: першы з ейных вучняў здаў матуру па беларускай мове ў Лонданскім універсітэце. Адзін кандыдат рыхтуецца ў гэтым годзе, а ў будучыні школа мае надзею рыхтаваць да матуры кожны год па два-тры кандыдаты.

У верасні 1966 г. а. Язэп Германовіч, які амаль усе пяць першых гадоў кіраваў школай, папрасіў звольніць яго са становішча кіраўніка. На ягонае месца ўладыка Часлаў назначыў а. Аляксандра Надсана. Айцец Германовіч астаўся надалей у школе ў якасці духоўнага настаўніка. Прыбылі таксама новыя сілы. Ад студзеня 1967 г. у школе працуе новы беларускі святар а. Раберт Тамушанскі, які займае там становішча заступніка кіраўніка. Яшчэ раней пачаў настаўніцкую працу ў школе а. Фелікс Журня, беларускі марыянін, які летам мінулага года прыехаў з Польшчы ў Англію. Школа мае цяпер 14 вучняў.

Такім чынам, школа св. Кірылы распачала свой шосты навучальны год з узмоцненымі настаўніцкімі сіламі, не кажучы ўжо аб цэнным дасведчанні, здабытым на працягу мінулых пяці гадоў.

Гледзячы на пройдзены шлях, можна быць задаволеным як ростам школы, так і вынікамі, дасягнутымі ў галіне навукі і агульнага і беларускага ўзгадавання. Без сумніву, у першыя гады было шмат недахопаў і памылак, але гэтага трэба было спадзявацца, бо праца была новая і настаўнікам прыходзілася быць піянерамі. Трэба тут сказаць некалькі словаў прызнання бацькам першых вучняў за тое, што ў цяжкія хвіліны выпрабавання яны не ўсумніліся, але далі школе сваю поўную маральную падтрымку. Думаецца, што цяпер яны не маюць прычыны шкадаваць гэтага.

На працягу ўсяго свайго існавання школа св. Кірылы была прадметам сталага зацікаўлення з боку ейнага закладчыка, уладыкі Часлава Сіповіча. Здабыла яна сабе таксама нямала шчырых прыяцеляў як сярод беларусаў, так і сярод прыхільных нам чужынцаў. Лік гэтых прыяцеляў расце, і разам з імі расце маральная і матэрыяльная падтрымка. Маральная падтрымка патрэбная ўжо хоць бы для таго, каб вучні не адчувалі сябе адарванай групкай, але часткай большага цэлага. Некалькі слоў асобна трэба сказаць аб матэрыяльнай падтрымцы. Утрыманне прыватнай школы ў сённяшні дзень з'яўляецца вельмі каштоўнай справай. Гадавыя выдаткі на школу святога Кірылы ў цяперашнім яе стане выносяць каля 4000 ангельскіх фунтаў (12 000 даляраў) на год. Крыху больш чым адну трэцюю частку гэтай сумы пакрываюць бацькі вучняў. Рэшта выдаткаў пакрываецца з дапамогай і прыватных ахвяраў. Да гэтага часу ахвярнасць шматлікіх адзінак была вялікая. Трэба спадзявацца, што яна павялічыцца ў будучыні, асабліва сярод тых, якім ляжыць на сэрцы ўзгадаванне маладога беларускага пакалення.

Школа святога Кірылы разам з Марыян Гаўз з'яўляюцца адзіным свайго роду беларускім асяродкам, дзе жыве разам пару дзясяткаў беларусаў — свецкіх і святароў. Тут чуецца ўсцяж беларуская мова, тут кожны дзень моляцца ў царкве па-беларуску і за Беларусь; тут ёсць беларуская бібліятэка і выдаецца беларускі часопіс; тут сустракаюцца людзі розных нацыянальнасцяў, якія цікавяцца беларускай справай… Вучні школы св. Кірылы прыехалі з розных краінаў (цяпер там ёсць хлопцы з Англіі, Бельгіі, Францыі і Нямеччыны) і належаць да

розных веравызнанняў (каталікі, праваслаўныя і пратэстанты), Пры ўсёй гэтай разнастайнасці яны не могуць не адчуваць, што адзіная рэч, якая іх лучыць, — гэта іхняе беларускае паходжанне. З другога боку, гэтая самая разнастайнасць з’яўляецца добрай асновай да развіцця шырыні поглядаў, талеранцыі і разумення адзін другога. Калі дадаць да таго, што тут існуюць магчымасці здабыцця добрай агульнай асветы, дык будзе відаць, што ў школе існуюць усе ўмовы для ўзгадавання паўнавартасных людзей і шчырых беларусаў. Будучыня пакажа, ці ўдасца школе здзейсніць гэтую мэту.

***1967***

## 400 ГАДОЎ БЕРАСЦЕЙСКАЙ УНІІ

*Ліст апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў у замежжы айца Аляксандра Надсана*

У 1596 г. 18 кастрычніка (8 паводле старога календара) біскупы і дастойнікі Кіеўскай мітраполіі на чале з мітрапалітам Міхаілам Рагозам на Саборы ў царкве святога Міколы ў Берасці ўрачыста абвясцілі аднаўленне еднасці са Святой Паўсюднай Апостальскай Царквою пад зверхніцтвам Папы Рымскага. Гэты акт, вядомы як «Берасцейская унія», даў пачатак Грэка-каталіцкай, або ўніяцкай, царкве, якая за два з паловаю стагоддзі свайго існавання адыграла вялікую ролю ў гісторыі беларускага народа. У акце Берасцейскага Сабору гаворыцца: «Мы… ніжэйпадпісаныя мітрапаліт і біскупы грэцкага абраду, паведамляем на вечную памяць, што, бачачы, як адзінаўладства ў Царкве Божай у Евангеллі вуснамі Госпада Бога нашага Ісуса Хрыста было заснаванае і ўмацаванае, каб на адзіным Пятру, як на камені, Царква Хрыстова моцна стаяла і праз яго аднаго была кіраваная… і што такі парадак у Царкве Божай, пачынаючы ад апостальскіх часоў, трываў праз усе вякі… не жадаючы дапамагаць расколу і разарванню еднасці ў святой Царкве, каб запабегнуць спусташэнню цэркваў і пагрозе збаўлення душ людскіх праз ерасі, што цяпер узняліся, маючы на ўвазе збаўленне сваё і духоўнай паствы, даручанай нам праз Бога, выслалі ў мінулым годзе да свяцейшага айца Клімента Восьмага біскупаў Іпація Пацея… і Кірылу Цярлецкага… з просьбаю, каб ён, як найвышэйшы Пастыр Паўсюднай Каталіцкай Царквы, прыняў нас да свайго

паслушэнства… з захаваннем нашых абрадаў і цырымоніяў цэркваў усходніх грэцкіх і рускіх і каб не чыніў ніякіх зменаў у нашых цэрквах, але пакінуў усё згодна з традыцыяй святых грэцкіх айцоў давеку…»

Кіеўская мітраполія абдымала ў той час беларускія і ўкраінскія землі. Пачынаючы ад XV ст. мітрапаліт, хоць і захаваў тытул Кіеўскага, меў сваю рэзідэнцыю ў Навагрsquare і быў звычайна беларусам. Беларусамі былі мітрапаліт Міхаіл Рагоза (паходзіў з Міншчыны), біскупы Берасцейскі і Уладзімірскі — Іпаці Пацей, Полацкі — Рыгор Храбтовіч, Тураўскі і Пінскі — Ёна Гогаль, а таксама архімандрыты Браслаўскі — Багдан, Лаўрышаўскі — Гедэён і Мінскі — Паісі, якія падпісалі акт Уніі. З украінскіх біскупаў падпісалі яго толькі біскупы Луцкі — Кірыла Цярлецкі і Холмскі — Дзіянісі Збіруйскі. Біскупы Львоўскі і Перамышльскі адмовіліся падпісаць акт уніі. Такім чынам, Унія на працягу XVII і амаль праз усё XVIII ст. развівалася ў першую чаргу на беларускіх землях. Усе мітрапаліты ў XVII ст. былі беларусамі, уключна з Язэпам Вельямінам Руцкім, якога папа Урбан VIII назваў «Апанасам Русі». У Беларусі Унія мела свайго першага мучаніка ў асобе св. Язафата, архібіскупа Полацкага, забітага ў 1623 г. праціўнікамі еднасці. Да яго можна дадаць пяць айцоў базыльянаў з Полацкага манастыра, забітых у 1705 г. расейскім царом Пятром Вялікім. Базыльянскія манастыры Свята-Троіцкі ў Вільні і Успенскі ў Супраслі былі асяродкамі духоўнага і інтэлектуальнага жыцця, а Жыровіцкі (дзе, дарэчы, першым ігуменам быў святы Язафат) са сваёю цудатворнаю іконаю Божае Маці сталіся вядомымі далёка за межамі Беларусі і прыцягвалі да сябе натоўпы паломнікаў. З часам Уніяцкая царква сталася Царквою пераважнай часткі беларускага народа, лёс якога ёй прыйшлося падзяліць. Яна была сапраўды народнай Царквою, якая задавальняла духоўныя патрэбы беларусаў і адначасова бараніла іх ад страты нацыянальнай самабытнасці і свядомасці.

Са стратай незалежнасці ў канцы XVIII ст. тыя сілы, якія адмаўлялі беларусам у праве да існавання як самастойнай нацыі, з асаблівай зацятасцю ўзяліся за знішчэнне Беларускай уніяцкай царквы. Яны знайшлі добрага выканаўцу ў асобе Язэпа Сямашкі, які, застаючыся ўніяцкім святаром, а пасля біскупам, праз дванаццаць гадоў падрыхтоўваў знутры грунт для знішчэння сваёй Царквы згодна з планам, які ён сам выпрацаваў і падаў царскаму ўраду. Мімаволі насоўваецца параўнанне з Юдам, які, пасля таго як абяцаў прадаць Хрыста, прыкідваўся далей Ягоным

вучнем і нават засеў разам з іншымі вучнямі на апошняй Вячэры. У Евангеллі кажацца, што, калі ён выйшаў, каб выканаць апошні акт сваёй здрады, «была ноч» (Ян 13, 30).

Для Беларускай грэка-каталіцкай царквы ноч прыйшла 12 лютага 1839 г., калі на скліканым у старажытным беларускім Полацку Сямашкам і ягонымі паплечнікамі саборы быў прыняты «Акт аб'яднання» з Расейскай праваслаўнай царквою. У акце аб'яднання гаворыцца, што «наша (г. зн. Беларуская) Царква была неад'емнай часткаю Грэка-расейскае царквы, падобна як і нашыя продкі па мове і паходжанні заўсёды састаўлялі непадзельную частку расейскага народа. Толькі няшчаснае адарванне земляў, на якіх мы жывём, ад маці нашае Расеі адарвала і нашых продкаў ад сапраўднага ўсеагульнага яднання, і сіла чужое перавагі падпарадкавала іх уладзе Рымскай царквы, пад назваю ўніятаў». Таму «клопаты пра вечнае шчасце даручанай ім паствы» змусілі ўдзельнікаў сабору, у лісце да цара Мікалая I, «прыпасці да ног вашай імператарскай вялікасці і ўсепадданніцка маліць вас, магутны манарх, замацаваць далейшы лёс уніятаў дазволам далучыцца ім да прабацькоўскай Праваслаўнай усерасейскай царквы». Цар, зразумела, «міласціва» дазволіў і нават загадаў выбіць з гэтай нагоды медаль з надпісам «Адарваныя сілаю, з'яднаныя любоўю». Колькі слёз і ахвяраў каштавала гэтая царская любоў беларускаму народу і ў асаблівасці Беларускай уніяцкай царкве, да гэтага часу дакладна не вядома. Наогул, гісторыя крыжовай дарогі нашай Царквы за апошнія паўтара стагоддзі чакае яшчэ свайго даследчыка.

Аўтараў знішчэння Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі найменш цікавіла «вечнае шчасце даручанай паствы». Іхнія мэты былі не рэлігійныя, а палітычныя. Яны добра разумелі, што так доўга як беларусы заставаліся грэка-каталікамі, ніякая палітыка дэнацыяналізацыі не магла мець поспеху.

Уніяцкая царква была знішчана, але ідэя Уніі не памерла. Яна заяўляла пра сябе пры розных нагодах. Кіраўнік паўстання 1863–1864 гг. Кастусь Каліноўскі называў сябе ўніятам; пра Унію згадвае ў сваіх творах «бацька беларускага адраджэння» Францішак Багушэвіч, да яе звярталіся пачынальнікі «нашаніўскай пары», яна была прадметам глыбокага роздуму для вялікага святара і паэта Казіміра Сваяка. У перыяд між дзвюма сусветнымі войнамі з'явіліся беларускія грэка-каталіцкія святары, пачалі паўставаць парафіі, але зноў варожыя палітычныя сілы не давалі ім развіцца. Пасля Другой сусветнай вайны ўся Беларусь

апынулася пад камуністычнай уладаю, адной з мэтаў якой было выкараненне ўсякіх праяваў рэлігійнага жыцця. Здавалася, для Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі прыйшоў сапраўды канец. Аднак невялікая група святароў і вернікаў, якія апынуліся на выгнанні, адмовілася пагадзіцца з гэтым. Дзякуючы ім Беларуская грэка-каталіцкая царква працягвала жыць за межамі Бацькаўшчыны — у Лондане, Парыжы, Чыкага і Рыме. Добры Папа Ян XIII у 1960 г. даў беларусам, пасля амаль 150-гадовага перарыву, першага грэка-каталіцкага біскупа ў асобе а. Часлава Сіповіча, усяляючы ў іхныя сэрцы веру ў лепшую будучыню.

Увесну 1990 г. аўтар гэтых радкоў, пасля амаль паўвяковай разлукі, паехаў на Беларусь з лекамі для хворых дзетак. Не паспеў ён высесці з цягніка (а была гадзіна пятая раніцы), як да яго падышла група маладых людзей, кажучы: «Айцец, мы ўніяты, і хочам з Вамі пагутарыць». Гэта быў незабыўны момант у ягоным жыцці, за што ён не перастае дзякаваць Богу. Ён убачыў на ўласныя вочы, што цярпенні, высілкі і малітвы колькіх пакаленняў беларускіх святароў і вернікаў не былі дарэмныя і што Беларуская грэка-каталіцкая царква не памерла: яна толькі спала зімовым сном, каб пры першым подыху цёплага веснавога ветрыку пусціць новыя парасткі.

Сёння нашая Царква паўстае паволі з руінаў да новага жыцця. Яе чакаюць яшчэ вялікія цяжкасці і выпрабаванні. Але няма прычыны зняверавацца. Ідэя Уніі неўміручая. Яна жыве ў сэрцах тых, для каго вернасць наказу Хрыста «Каб усе былі адно» (Ян 17, 20) спалучаецца з любоўю да ўласных духоўных традыцыяў і абрадаў, да ўсяго роднага.

*18 кастрычніка 1996 г., Лондан*

## БІСКУП МАТУЛЕВІЧ І БЕЛАРУСКІ АДРАДЖЭНСКІ РУХ

Валерый Пазнякоў у сваёй рэцэнзіі на маю працу «Друя і Грэка-каталіцкая царква на Беларусі» («НН» ад 6 жніўня) аспрэчвае маё цверджанне, што Юрый Матулевіч упершыню сутыкнуўся з беларускім адраджэнскім рухам у канцы 1918 г., г. зн. пасля таго, як заняў Віленскі біскупскі пасад.

Пытанне гэтае не мае сутнага значэння для галоўнай тэмы маёй працы, але я ўдзячны сп. Пазнякову за нагоду прыгледзецца больш дэталёва да поглядаў Матулевіча на нацыянальныя і палітычныя праблемы. Вось што ён пісаў у сваім дзённіку, будучы ў Рыме 24 лістапада 1911 г.: «На магіле св. апостала (Пятра. — *А. Н.*) я склаў прысягу, што буду старацца з усёй моцы… каб ні я, ані сябры нашага закону (марыянаў. — *А. Н.*), ані сам закон не служыў ніякім пабочным мэтам, палітычным, нацыянальным ці іншым, а толькі Богу, Царкве і збаўленню душаў…».

14 гадоў пазней, як Віленскі біскуп, 5 ліпеня 1925 г. ён пісаў Лаўрэну Ляуры, нунцыю ў Польшчы: «Не справа Каталіцкай царквы… устрымліваць ці прыцісказь рухі нацыянальныя ці народныя, але хутчэй асвячаць іх і, наколькі магчыма, накіроўваць для збаўлення душаў».

Такім чынам, для Матулевіча пастырскія меркаванні — слава Божая, дабро Царквы і збаўленне душаў — былі найвышэйшым законам. Нацыянальныя і палітычныя пытанні яго цікавілі толькі ў дачыненні да пастырскай дзейнасці.

Нацыянальна свядомы літовец, Матулевіч правёў большую частку жыцця ў Польшчы (Кельцы, Варшава), дзе цешыўся ўсіхнай павагаю як пабожны і ахвярны святар, адукаваны і сціплы чалавек, дасведчаны духоўны кіраўнік. Ягонае літоўскае паходжанне ў нацыянальна аднародным польскім асяроддзі не было перашкодаю.

У Вільні Матулевіч апынуўся ў цяжкім становішчы. Ён знайшоў там напружаную палітычную сітуацыю, выкліканую супрацьстаяннем літоўскіх і польскіх нацыянальных інтарэсаў. У сваёй прамове 8 снежня 1918 г. пры ўступленні на біскупскі пасад ён сказаў: «Следам за Хрыстом буду старацца абняць усіх вас, быць усім для ўсіх… Жадаю быць для вас толькі бацькам і пастырам, пераймальнікам Хрыста. Полем маёй дзейнасці ёсць Валадарства Хрыстовае…». На практыцы выканаць гэтыя прыгожыя намеры было вельмі цяжка. Літоўцы, напэўна, чакалі ад «свайго» біскупа больш, чым ён мог ім даць. Палякі, са свайго боку, ставіліся да Матулевіча з падазрэннем і ўспрымалі

кожную ягоную, нават найменшую спробу задаволіць справядлівыя дамаганні літоўцаў як акт, варожы да Польшчы. Аднак найбольшае іхняе абурэнне выклікала стаўленне новага біскупа да беларусаў. Матулевічу не заняло шмат часу, каб пераканацца, што большая частка ягонай паствы — не палякі ці літоўцы, а беларусы, якія знаходзіліся ў бяспраўным становішчы. Згодна з польскай канцэпцыяй «нацыянальна аднароднай дзяржавы», яны былі асуджаныя на асіміляцыю. Важная роля ў працэсе асіміляцыі адводзілася Каталіцкай царкве, якая, як выказаўся ў 1923 г. дэлегат польскага ўраду для Віленшчыны Валеры Роман, была адным з найбольш магутных чыннікаў «здабывання для польскасці масаў “тутэйшага” каталіцкага насельніцтва з яшчэ нявызначаным нацыянальным пачуццём». Большасць польскіх каталіцкіх святароў падтрымлівалі такую палітыку свайго ўрада. Матулевіч, аднак, не мог дазволіць, каб Царкву выкарыстоўвалі для палітычных мэтаў. Канфрантацыя была непазбежная. Ягоныя сціплыя намаганні задаволіць духоўныя патрэбы беларусаў выклікалі абвінавачванні ў падтрымцы «беларускага шавінізму». Польскія святары высылалі лісты ў Ватыкан з просьбай забраць Матулевіча з Вільні. Нават праз пяць гадоў пасля ягонага адыходу — і праз тры гады пасля смерці — рэктар Віленскай духоўнай семінарыі Ян Ушыла ў гутарцы з а. Антонам Зянкевічам сказаў: «Біскуп Матулевіч быў страшны не сваёй літоўскасцю, а прапагандаю беларускасці» (ліст Зянкевіча да У. Талочкі ад 22.05.1930. Захоўваецца ў архіве Бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лондане).

Ці быў знаёмы Матулевіч з беларускім адраджэнскім рухам да 1918 г.? Цяжка сказаць, але найхутчэй не, бо ён не сутыкаўся з ім у сваёй святарскай дзейнасці. Гэта не значыць, што сярод ягоных знаёмых не было беларусаў. У 1907 г., калі Матулевіч быў прызначаны прафесарам сацыялогіі ў Каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, лектарам грэцкай мовы («кафедры старажытных моваў», пра якую згадвае Валеры Пазнякоў, у Акадэміі не было) быў там Браніслаў Эпімах-Шыпіла, а Фабіян Абрантовіч — студэнтам II курса. Матулевіч таксама выкладаў сацыялогію ў Магілёўскай духоўнай семінарыі (яна знаходзілася ў Пецярбургу), дзе тады вучыўся Аляксандр Астрамовіч, лепш вядомы як паэт Андрэй Зязюля.

Матулевіч пакінуў Пецярбург улетку 1911 г., а ўвосень у акадэмію прыйшлі два беларускія студэнты, Павал Пякарскі і Люцыян Хвецька. У наступныя гады да іх далучыліся Вінцэнт Гадлеўскі, Андрэй Цікота, Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Міхал Пятроўскі, Антон Неманцэвіч і іншыя. Ад 1912 г. там

працаваў гурток беларускіх студэнтаў-багасловаў. У 1913 г. прафесарам кананічнага права стаў беларус а. Язэп Белагаловы. У 1914 г. (а не ў 1912) вярнуўся з Лёвена (Бельгія) а. Фабіян Абрантовіч і быў прызначаны прафесарам семінарыі. Усё гэта, аднак, адбывалася, калі Матулевіча ўжо не было там. З многімі беларускімі выпускнікамі акадэміі ён сустрэўся і пазнаёміўся ў Вільні ў 1919 г. і пазней.

Сярод выдатных царкоўных дзеячаў біскуп Матулевіч быў адным з першых, хто зразумеў беларусаў і стараўся ім дапамагчы. Няшмат удалося яму зрабіць, але беларусы маюць усе падставы, каб успамінаць з удзячнасцю гэтага добрага, разумнага і сапраўды Божага Чалавека і святара.

*2001*

## СВЯТЫ СВЯТАМУЧАНІК ЯЗАФАТ, АРХІБІСКУП ПОЛАЦКІ

*Ліст апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў у замежжы айца Аляксандра Надсана*

Язафат (хроснае імя Ян) Кунцэвіч нарадзіўся прыблізна ў 1580 г. ва Уладзіміры-Валынскім, але амаль усё жыццё правёў у Беларусі. Юнаком ён апынуўся ў Вільні, дзе працаваў у краме віленскага купца Паповіча, які прапанаваў яму ажаніцца з ягонай дачкою і застацца ягоным спадкаемцам. Аднак Язафат меў іншыя намеры. Глыбока пабожны, ён вольны час праводзіў у царкве Свята-Троіцкага манастыра, беручы ўдзел у богаслужэннях і аддаючыся малітве. Гэта былі першыя гады пасля Берасцейскай уніі 1596 г., калі Уніяцкая царква з вялікімі цяжкасцямі рабіла свае першыя крокі. Ян праняўся ідэяй царкоўнай еднасці і пасвяціў ёй усё сваё жыццё. У 1604 г. прыняў манаскі пострыг у Свята-Троіцкім манастыры, дзе адразу звярнуў на сябе ўвагу пабожнасцю. Там ён хутка знайшоў прыяцеля і аднадумца ў асобе будучага мітрапаліта Язэпа Руцкага. У 1608 г. Язафат атрымаў святарскія свячанні. У 1613 г., калі ён быў ігуменам манастыра ў Быцені каля Слоніма, кашталян Смаленскі Ян Мялешка, які дзякуючы Язафату прыняў Унію, аддаў яму Жыровіцы, уласнікам якіх ён быў у тым часе. Язафат быў першым архімандрытам Жыровіцкага манастыра, дзе знаходзілася цудатворная ікона Багародзіцы. Гэта быў пачатак росквіту гэтай найбольш слаўнай святыні Божае Маці ў Беларусі. Хутка, аднак, ён быў пакліканы на становішча архімандрыта Свята-Троіцкага

манастыра ў Вільні. У 1617 г. Язафат атрымлівае біскупскія свячанні і прызначаецца вікарным біскупам Полацкім, а пасля смерці архібіскупа Гедэёна Бральніцкага ў 1619 г. — ягоным наступнікам на найстарэйшым у Беларусі біскупскім пасадзе. У 1620 г. была адноўленая праваслаўная іерархія, і на полацкі пасад быў прызначаны вядомы, здольны і гарачы абаронца праваслаўя Мялецій Смятрыцкі, які сваімі пісаннямі і казаннямі пачаў настройваць частку вернікаў супраць Язафата. Адначасова запарожскія казакі, як умову за дапамогу Рэчы Паспалітай у барацьбе з туркамі, дамагаліся знішчэння Уніі. Некаторыя палітыкі, якія раней былі прыхільнікамі Уніі, пачалі хістацца. Язафат заставаўся верным Уніі і бараніў яе. Гэта ўзбурыла яшчэ больш ягоных непрыхільнікаў. У выніку 12 лістапада 1623 г. у Віцебску Язафат пацярпеў мучаніцкую смерць ад натоўпу, падбухторанага агітатарамі.

Некаторыя аўтары стараюцца падаць забойства св. Язафата як вынік прыцяснення ім праваслаўных, якія не маглі больш цярпець здзекаў. Яны забываюцца, што ніякае забойства не можа быць апраўданым, тым больш забойства, зробленае ўзбураным натоўпам, якім хітры дэмагог можа пакіраваць як хоча. Дый такі аргумент небяспечны. Так можна апраўдаць натоўп, які, падбухтораны начальнікамі, з крыкам «Укрыжуй Яго!» дамагаўся ў Пілата смерці Хрыста. Той самы натоўп, які некалькі дзён раней вітаў Госпада радаснымі воклічамі «Гасанна!»…

Адзін з тых, хто балюча перажыў гэтую трагедыю, быў Мялецій Смятрыцкі. Пабожны і шчыры ў сваіх перакананнях, ён зразумеў, што сваімі дзеяннямі ён спрычыніўся да ўзбурання розумаў і ў нейкай меры быў маральна адказны за тое, што здарылася. Ён пакінуў Беларусь і паехаў у падарожжа па хрысціянскім Усходзе. Расчараваны тым, што там бачыў, ён, вярнуўшыся, быў прыняты ў Грэка-каталіцкую царкву і рэшту свайго жыцця пасвяціў абароне Уніі. Ягоны першы біёграф Якуб Суша параўноўвае яго да святога Паўла, які з пераследвальніка Царквы стаўся ейным абаронцам і апосталам.

Язафат прынёс сябе ў ахвяру за адзінства веры. І гэтая ахвяра не была дарэмнай. Уніяцкая царква, якая была пад пагрозаю знішчэння, пачала мацнець і ўзрастаць. У 1643 г. Папа Урбан VIII залічыў Язафата да ліку благаслаўлёных з дазволам аддаваць яму пашану ва ўсіх базыльянскіх манастырах і цэрквах Кіеўскай мітраполіі. Базыльяне склалі ў ягоны гонар службу, якая была надрукаваная ў пачатку XVIII ст. у Супраслі. У 1867 г. Папа

Пій IX залічыў яго да ліку святых, якому аддаецца пашана ва ўсёй Каталіцкай царкве.

Слова «святы» ў асаблівы спосаб належыць Богу. Яно паказвае на Божую «іншасць», бязмежную вышэйшасць за ўсе стварэнні, на Ягоную дасканаласць. Праз аналогію паняцце святасці пашыраецца і на стварэнні, напрыклад на прадметы, прызначаныя для Божай службы, і асабліва на чалавека, створанага на вобраз і падабенства Божае, у меру таго, як ён захоўвае гэты вобраз у чысціні. У Старым Запавеце пра такіх людзей казалі, што яны «хадзілі перад Госпадам», г. зн. жылі заўсёды з усведамленнем прысутнасці Божай. У Новым Запавеце Госпад Ісус Хрыстос, Бог, які дзеля нас стаўся чалавекам, з'яўляецца прыкладам найвышэйшай святасці і дасканаласці, ідэалам для ўсіх, хто носіць Ягонае імя. У адным з агульных трапароў у гонар святога гаворыцца: «У табе, ойча, верна захаваўся вобраз Божы: узяўшы крыж, ты пайшоў услед за Хрыстом». Больш дакладна, кожны з нас атрымаў дар Духа Святога, і ад нас залежыць даць гэтаму дару развіцца і прынесці плён, каб магчы сказаць разам са святым Паўлам: «Ласкаю Божаю я ёсць тым, кім ёсць, і дадзеная мне Ягоная ласка не была дарэмнаю» (1 Кар 15, 10).

Асноўнай рысай святога ёсць дар малітвы, якую можна назваць пачаткам вечнасці, бо праз яе прыходзіць усведамленне прысутнасці Божай, а з ёю жаданне быць заўсёды з Ім. Паводле выказванняў усіх сведкаў, Язафат быў чалавекам малітвы. Ён мог праводзіць доўгія гадзіны ў малітве ў адзіноце. Ён вельмі любіў царкоўныя богаслужэнні. Нават калі ён быў ужо архімандрытам, ён першы прыходзіў у царкву, адчыняў яе, запальваў свечкі, спяваў у хоры і г. д. Як біскуп, адведваючы сваю епархію, ён затрымліваўся ў найбліжэйшай царкве, каб там адправіць богаслужэнне, прызначанае на дадзеную гадзіну дня. Усходнія богаслужбовыя тэксты насычаны глыбокім багаслоўскім зместам. Для Язафата, які не меў фармальнай школьнай асветы, яны былі падручнікамі навукі аб праўдах веры. Безумоўна, ён імі не абмяжоўваўся, але таксама чытаў творы ўсходніх айцоў царквы і багасловаў, што знаходзіліся ў манастырскай бібліятэцы. Засталіся ягоныя ўласнаручныя выпіскі з некаторых аўтараў, пераважна настаўнікаў духоўнага жыцця. Такім чынам Язафат здабыў абшырныя веды ў рэлігійнай галіне і сам мог быць духоўным настаўнікам для іншых. Ён стаўся вядомы як прапаведнік, і паслухаць яго прыходзілі грамады людзей.

Язафат усім сэрцам жадаў збаўлення душаў. Яшчэ перад тым, як быць святаром, ён стараўся пераканаць сваіх суразмоў-

цаў у патрэбе споведзі і прыводзіў іх з гэтай мэтай да святара. Стаўшы святаром, ён ужо сам мог прымірыць людзей з Богам. Праціўнікі Язафата, якія празвалі яго «душахватам», не падазравалі, наколькі праўдзівая была гэтая мянушка: Язафат гарэў жаданнем выхапіць людскія душы з нявoлі граху і прывесці іх да Бога. Ён быў прыкладам добрага пастыра, які цешыўся больш з адной заблуднай авечкі, якую яму ўдалося ўратаваць, чым з дзевяноста дзевяці астатніх. Гэтыя якасці праявіліся з асаблівай яркасцю, калі ён стаў біскупам. Полацкая епархія была ў вельмі запушчаным стане, і Язафату прыйшлося паклапаціцца пра яе ўпарадкаванне і пра паднясенне інтэлектуальнага і духоўнага ўзроўню духавенства. Ён напісаў кароткі катэхізм з выясненнем найважнейшых праўдаў веры, загадаў святарам вывучыць яго і навучаць верных. Таксама напісаў правілы жыцця для святароў, многія з якіх не страцілі сваёй вартасці і на сённяшні дзень. Так, напрыклад, напачатку ён кажа: «Святары павінны прыкладам свайго жыцця служыць людзям, і такім чынам іх павучаць, бо жыццё святара для простага чалавека ёсць праўдзівай навукай добрага».

Нарэшце, трэба сказаць нешта пра святога Язафата як пра мучаніка. На грэцкай мове слова «мучанік» ёсць «мартыс», гэта значыць «сведка». Мучанікі — гэта тыя, што сваім жыццём засведчылі аб Праўдзе, што ў іх. Язафат балюча адчуваў падзел між хрысціянамі. Ён быў перакананы, што Царква Хрыстовая адна і што толькі грэх, які аддзяляе нас ад Бога, раздзяляе нас між сабою. Усё ягонае жыццё было накіраванае на аднаўленне еднасці сярод хрысціянаў. Трагізм таго, што з ім здарылася, палягае на тым, што ягоныя забойцы былі таксама хрысціянамі. Мімаволі прыходзяць на думку словы Госпада нашага Ісуса Хрыста: «Прыйдзе гадзіна, калі кожны, хто вас будзе забіваць, будзе ўважаць, што аддае пашану Богу» (Ян 16, 2). Мучаніцкая смерць Язафата — вынік трагічнага падзелу між хрысціянамі.

Цалкам адданы Святой Царкве, Язафат быў прасякнуты ўсходняй хрысціянскай традыцыяй. На ўласным прыкладзе ён паказаў, што адзінства веры не азначае аднастайнасць традыцыі, звычаяў і абрадаў. Пісаў ён на беларускай мове. Варта прывесці думку расейскага праваслаўнага вучонага П. Жучкевіча, якога нельга падазраваць у сімпатыі да Уніі: «У той час, калі Полацкі праваслаўны архібіскуп, вядомы Мялецій Сматрыцкі, вёў сваю літаратурную барацьбу з Уніяй на польскай мове, Полацкі ўніяцкі архібіскуп, які загінуў такой жахлівай смерцю за сваю

вернасць Рыму, пісаў у абарону Уніі на рускай (г. зн. беларускай. — *А. Н.*) мове».

Язафат быў сынам свайго часу. Сёння, у іншым часе і пры змененых абставінах, мы глядзім часта інакш на праблемы, якія хвалявалі яго. Тым не менш сутнае застаецца нязменным, менавіта наша хрысціянскае пакліканне і, што з гэтым неразлучна звязана, — вернасць наказу Госпада нашага Ісуса Хрыста «Каб усе былі адно».

Адной з больш вызначных спробаў аднаўлення царкоўнай еднасці была 400 гадоў таму назад Берасцейская унія, спадкаемцам якой з’яўляецца наша Беларуская грэка-каталіцкая царква. Цяпер, калі яна паволі, але ўпэўнена адраджаецца і калі мы зноў адкрываем нанова нашыя духоўныя вартасці, нам неабходна асэнсаваць месца і значэнне святога Язафата для нас і для справы царкоўнай еднасці.

Закончым кандаком з XVII ст. у гонар святога:

Бог, які даў сілу непераможную
табе, Язафаце, ойча наш,
упрыгожыў Царкву пурпураю крыві тваёй.
Захавай у супакоі і бяспецы
горад твой Полацак і ўсю краіну нашую,
і будзь нам умацаваннем
і непахіснай абаронаю
ад усіх варожых напасцяў.

*Лондан, 12 лістапада 1996 г.*
*Свята св. Язафата*

# БІСКУП ЧАСЛАЎ СІПОВІЧ: СВЯТАР І БЕЛАРУС

*(Выбраныя главы з кнігі)*

## У Вечным горадзе

Высяленне марыянаў з Друі сталася паваротным пунктам у жыцці Часлава Сіповіча. Не маючы надзеі вярнуцца ў Друю і не жадаючы заставацца ў Польшчы, ён і другі клерык, Казімір Аніськовіч, згадзіліся на прапанову Цікоты працягваць навуку ў Рыме пад умоваю, што прымуць усходні (бізантыйскі) абрад і, адвучыўшыся, паедуць у Харбін працаваць сярод расейцаў. Пазней Сіповіч не любіў гаварыць пра гэтую апошнюю ўмову. Калі аднаго разу ў яго спыталіся, ці гэта праўда, што яго рыхтавалі ў Харбін, ён коратка адказаў, што адмовіўся б туды ехаць. Дакументы таго часу гавораць нешта іншае*. Так ці іначай, у

* У лютаўскім нумары 1940 г. «русікумскага» бюлетэня ёсць зацемкі «Иеродиакона Вячеслава» (так называлі Часлава Сіповіча ў Русікуме) пра «добрососедство» закону марыянаў і Русікума, дзе між іншага аўтар піша: «Сярод іншых студэнтаў… не апошняе па сваёй колькасці месца займалі марыяне, г. зн. сябры марыянскага закону, які мае, як вядома, сваю ўсходнюю галіну. З сямі асобаў, што ў розныя часы атрымалі ўзгадаванне, тры ўжо дасягнулі святарства (сярод іх а. Кузьма і Тамаш) і працуюць цяпер у расейскай місіі ў Харбіне, *а летась атрымаў дыяканскія сьвячаньні аўтар гэтых радкоў, які спадзяецца прысвяціць сябе той самай працы* (а в минувшем году получил посвящение в диаконский сан и пишущий эти строки, надеющийся посвятить себя той же работе) (вылучана мною. — *А. Н.*)… Урэшце ёсць і іншая прычына, якая замацоўвае гэтае “добрасуседства”, менавіта тое, што бальшыня марыянаў усходняга абраду па нацыянальнасьці сваёй — беларусы, і такім чынам звязаныя з расейцамі і Расеяй сувязямі братняй крыві і супольнасцю інтарэсаў (связаны с русскими и Россией узами братской крови и общностью интересов)» (Отзывы «руссикумских монахов» // Заметки Русской Духовной Академии в Риме. 1940. № 2 (15). С. 52, 53). У чэрвені 1941 г. ужо святаром Сіповіч пісаў айцу Цікоту ў Харбін, што «птушкай паляцеў бы да вас». 2 студзеня 1975 году біскуп Сіповіч у лісце да польскага марыяніна Яна Буковіча пісаў: «…Айцец А. Цікота, тагачасны генерал, у 1938 г. запрапанаваў мне працу ва ўсходнім абрадзе. Тады не было гутаркі пра тое, дзе буду працаваць? Пасля атрымання святарства (1940 г.) я не меў сумневу, што полем маёй дзейнасьці будзе Беларусь» («O. A. Cikota, ówczesny Generał, w r. 1938 zaproponował mi pracę we wschodnim obrządku. Nie było wówczas mowy, gdzie będę pracował? Po otrzymaniu święceń (1940 r.) nie miałem wątpliwości, że polem mojej pracy będzie Białoruś»). Час робіць дзіўныя

1938 г. Харбін выглядаў нечым вельмі далёкім, а ў міжчасе вабіла магчымасць жыць і вучыцца ў Рыме.

Такім чынам, у кастрычніку 1938 г. два былыя друйскія клерыкі апынуліся ў Вечным горадзе. Рым, сталіца наступніка святога Пятра, быў таксама адным з найвялікшых цэнтраў багаслоўскай адукацыі. У горадзе існуе каля дзясятка папскіх універсітэтаў і інстытутаў, найбольшы з іх — Грыгарыянскі ўніверсітэт, якім кіруюць айцы езуіты. Студэнты розных нацыянальнасцяў звычайна жывуць у сваіх нацыянальных калегіях, а законнікі — у сваіх законных дамах, або кляштарах.

Марыяне таксама маюць у Рыме свой дом на вуліцы Корсіка (via Corsica). Апрача студэнтаў, у ім жывуць генеральны суперыёр і сябры генеральнай рады. Сіповіч і Аніськовіч, аднак, прыехаўшы ў Рым, жылі не ў сваёй, а ў Расейскай калегіі, вядомай як Русікум, і навучаліся ў Грыгарыянскім універсітэце. Заснаваны ў 1929 г. Русікум не быў расейскай нацыянальнай калегіяй, хоць зрэдку трапляўся сярод ягоных студэнтаў і чыстакроўны расеец. У гэтай установе маладыя людзі розных нацыянальнасцяў пад кіраўніцтвам айцоў езуітаў рыхтаваліся да місіянерскай працы сярод расейцаў. Вось што піша пра Русікум Сіповіч Антону Цвячкоўскаму 28 ліпеня 1939 г.: «Жыву ў калегіі, гдзе расейцы, немцы, французы, булгар, літовец, славакі, эстонцы і г. д. твораць даволі згодную грамадку, каторай мэта праца для цяперашняй Расеі заграніцай і падгатоўка да прышлай, ужо небальшавіцкай». Пра Грыгарыянскі ўніверсітэт ён кажа так: «Грыгарыянум наагул не падвяло. Думаў аб ім горна і цяпер толькі пакрапчэла перакананне… Ёсць прафесары сусветнай славы, але часам такіх вельмі маркотна слухаць. Праз цэлы год не было ў нас ніякіх паўторак. 50 мінут выкарыстана як вадой наліць. Лаціна асобных труднасцяў для нас не дзеіць, кроме таго, што трэба ўсёжтакі прывычкі да выгавару француcкага, ці англійскага. Эгзаміны здалі лепш чым сярэдня на бакаляўрэат».

У Рыме Сіповіч узяўся вывучаць мовы, асабліва расейскую, нямецкую і італійскую. І ўжо ў снежні 1938 г. у «Хрысціянскай думцы» з’явіўся ягоны пераклад вядомага верша Гётэ «Mignon»*. А італійскай Часлаў займаўся падчас заняткаў,

---

рэчы з людской памяццю: біскуп Сіповіч, відаць, забыўся, што пісаў клерык Сіповіч 35 гадоў раней. Зрэшты, вельмі магчыма, што ён падсвядома ад самага пачатку не меў вялікай ахвоты ехаць у Харбін.

* «Mignon», z Goethe pierarabiŭ Vasil Kryvičanin // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 20.12.38. № 36. S. 7.

прапускаючы некаторыя лекцыі. Гэта было супраць правілаў, але дало жаданыя вынікі. Не забываўся Сіповіч і на родную мову і літаратуру. Ён прывёз з сабою «Граматыку» Тарашкевіча, «Хрэстаматыю» Дварчаніна ды іншыя кніжкі, якія чытаў у вольны час. Сіповіч зразумеў, як мала ён ведаў пра сваю Бацькаўшчыну, пасля таго, як разам з айцом Германовічам схадзіў ва Украінскую калегію. Там яго пачалі пытацца пра Беларусь, ейную гісторыю, культуру і цяперашні стан, а ён, да свайго сораму, не мог адказаць. Пачаў больш інтэнсіўна займацца беларускай гісторыяй. Неўзабаве зрабіў даклад пра Францішка Скарыну для студэнтаў і кіраўнікоў Русікума. Тэкст даклада не захаваўся, але Сіповіч сам апісаў яго ў «Лісце з Рыма», надрукаваным у «Хрысціянскай думцы» 25 траўня 1939 г.: «Я нядаўна ў кругу мяшаным нацыянальна меў даклад аб Др. Фр. Скарыне. Многія зацікавіліся асобай нашага вучонага. Адзін нямецкі праф(эсар) зьвярнуўся да мяне з просьбай, каб сколькі мага памагаць яму ў працы. Працуе ён навукова над гісторыяй даўнай Расеі і ў кожных дакумэнтах спатыкаецца з беларускім языком і з беларускімі асобамі. У архівах ватыканскіх многа нявыкарыстаных вестак знаходзіцца з нашай мінуўшчыны. Дасьць Бог, можа дабяромся»*. «Нацыянальна мяшаны круг» — гэта былі студэнты Русікума і, магчыма, некалькі выкладчыкаў Папскага Усходняга інстытута, што месціўся побач з Расейскай калегіяй. Сіповіч не мог устрымацца, каб не пахваліцца сваімі «акадэмічнымі поспехамі», палічыўшы некалькі прыхільных словаў, сказаных на ягоны адрас прафесарам Альбертам Аманам (які «зубы з’еў» на чытанні старых дакументаў), за просьбу дапамагаць у навуковай працы. Пасля яму дорага давялося заплаціць за сваю інтэлектуальную самаўпэўненасць, «праваліўшы» два разы выніковыя экзамены з багаслоўя. Затое абяцанне «дабрацца» да ватыканскіх архіваў ён у свой час выканаў.

Даклад «Др. Ф. Скорина и его труд» Сіповіч прачытаў у рамках г. зв. «акадэмічнага семінара» — на яго пасяджэннях студэнты Русікума рабілі спавешчанні на абраныя імі тэмы. Пасля кожнага дакладу, які трываў не больш за 45 хвілінаў, прыкладна чвэрць гадзіны адводзілася на пытанні і спрэчкі. Згодна са справаздачай, Сіповіч у сваім дакладзе «асвятліў дзейнасць гэтага цікавага і зусім незвычайнага беларускага вучонага Скарыны (этого интересного и совсем незаурядного белорусского

* Kryvičianin V. List z Rymu // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 20.06.39. № 19. S. 5.

ученого Скорины), які жыў у XVI ст. Была пададзеная вялікая бібліяграфія, апісаны гістарычна-геаграфічны фон, асветленая дзейнасць Скарыны ў галіне перакладаў святых кніг. Цікава было пачуць пра мову Скарыны; гэтая частка была дапоўненая чытаннем урыўкаў з ягоных твораў»*.

Між іншым, у наступным, 1939/40 навучальным годзе тэматыка дакладаў на семінарах звузілася, «беручы пад увагу некалькі разоў ужо выказаную думку, згодна з якою дзеля сістэматычнага азнаямлення з расейскай культурай трэба выбіраць тэмы больш аднародныя»**. У тым самым годзе «характэрнай з’явай… былі г. зв. гутаркі з праф. В. І. Івановым. Яны мелі на мэце прыйсці з дапамогаю навучэнцам у іхніх прыватных занятках і асабліва даць ім магчымасць чэрпаць свае веды аб расейскай культуры з добрай крыніцы»***. Расеец Іваноў прыняў каталіцтва і жыў нейкі час у Русікуме. Відаць, ён спецыялізаваўся ў расейскай літаратуры, бо чытаў там лекцыі пра Дастаеўскага. Сіповіч пакінуў апісанне прыватнай гутаркі з прафесарам на тэму беларускай мовы, што адбылася 21 лістапада 1939 г. Прафесар глыбакадумна патлумачыў яму, што ўсходнеславянская галіна моваў «мае тры нарэччы (гаворкі. — *А. Н.*): вялікарускае, маларускае і беларускае. Вось жа са сваёй натуры яны ёсць языком рускім, усе гэтыя тры нарэччы, і пакуль што ні нарэчча ўкраінскае ні беларускае не могуць звацца языкамі асобнымі, аддзельнымі. У кірунку асобнага языка больш права мае сяньня ўкраінскі, а саўсім такога права не мае беларускае нарэчча, каторага зрэшты я добра не ведаю». Велікадушна ён не забараняе паэтам карыстацца беларускай ці ўкраінскай мовамі: «Па-мойму, у паэзіі, у лірыцы хай кожны так піша, як яму дыктуе натхненне. А яно выбірае дарогу языка ці нарэчча найбольш натуральнага чалавеку; дзеля таго не адкідаю зусім беларускага нарэчча ці маларускага ў паэзіі. Але даю раду: калі будзеце пісаць штось навуковага, пішыце на мове больш выробленай і знанай». Калі Сіповіч спытаўся, чаму нельга пісаць на мовах, якія маюць свайго Шаўчэнку, Скарыну і Купалу, «на гэта праф. Іваноў мне нічога не адказаў проста». Гэтулькі розуму ўдалося зачэрпнуць Сіповічу «з добрай крыніцы».

---

* Домашняя деятельность Руссикума за 1938–1939 учебный год // Заметки Русской духовной академии в Риме. Рим. Август 1939. № 3 (13). С. 14.

** Заметки… Май 1940. № 3 (16). С. 12.

*** Тамсама. С. 16.

14 студзеня 1940 г. споўнілася 25 гадоў святарства айца Адама Станкевіча. Праз няпэўнасць палітычнага становішча, а таксама каб звярнуць увагу, што юбіляр знаходзіўся на «выгнанні» ў Слоніме, беларусы пачалі рыхтавацца да гэтай даты вельмі рана. Першыя прывітанні сталі прыходзіць ужо ў чэрвені 1939 г. Сярод іх былі лісты ад мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага ды іншых украінскіх і летувіскіх біскупаў, ад святароў (каталіцкіх і праваслаўных), ад многіх беларусаў і іншых асобаў, якія ведалі і шанавалі айца Адама. Не даслалі толькі ніводнага прывітання палякі, ані свецкія, ані духоўныя, нават ягоны дыяцэзіяльны біскуп Ялбжыкоўскі. Шмат хто, не ведаючы адраса айца Станкевіча ў Слоніме, даслаў свае віншаванні ў рэдакцыю віленскага часопіса «Калоссе». Польская паліцыя абшукала памяшканне рэдакцыі і канфіскавала многія прывітанні, у тым ліку ад айца Язэпа Германовіча. Часлаў Сіповіч таксама даслаў 27 жніўня сваё віншаванне з Рыма — тэкст захаваўся сярод ягоных папераў. На жаль, яно ніколі не дайшло да адрасата, напэўна таму, што 1 верасня пачалася вайна.

Сіповіча вельмі ўразіла Украінская калегія, у якой было блізу сотні студэнтаў-клерыкаў. Аднаго разу, калі ён там гасцяваў, у яго спыталіся, чаму беларусы не маюць сваёй калегіі ў Рыме. «Са стыдам, — пісаў ён Цвячкоўскаму, — я ледзь паясніўся нястачай беларусаў святароў і наогул беларусаў у Рыме». Напэўна, Сіповіч перажыў тады балючыя хвіліны. Цікава, ці адчуваў ён горкую іронію свайго становішча: адзіны беларускі клерык у Рыме рыхтаваўся «навяртаць Расею», калі на Бацькаўшчыне не ставала сваіх святароў. Можа, і добра, што на той час ён нічога не ведаў пра аферу з брыльянтавым кальe княгіні Радзівіл і ролю ў ёй беларускіх айцоў марыянаў… Сіповіч моцна адчуваў адсутнасць беларусаў у Вечным горадзе і як мог імкнуўся гэтую пустэчу запоўніць. Так, у вышэйзгаданай карэспандэнцыі з Рыма ён апісвае ўрачыстасць 18 траўня 1939 г., калі новы Папа Пій XII як біскуп Рымскі заняў свой біскупскі пасад у Лятэранскай базіліцы св. Яна, «маці каталіцкіх цэркваў»: «Калі папежа ўносілі ў гэтую старынную святыню, таўпа народу з розных старонак свету, на розных языках вітала яго віватамі, воплескамі. Можна было пачуць і беларускае "Хай жыве Святы Айцец!"». Няцяжка здагадацца, хто быў гэты беларус, які вітаў Папу на сваёй мове. Зноў, апісваючы ўсходнюю літургію 21 траўня ў базіліцы св. Пятра з нагоды 950-х угодкаў хрышчэння Русі, ён так тлумачыць адсутнасць на святкаванні беларускіх святароў: «Але ўзялі б і яны ўдзел, каб не спазьніўся прыехаць з Харбіну Я(го). Э(ксцэ-

ленцыя). Ф. Абрантовіч, каторага чакалі»*. Насамрэч Абрантовіча чакалі не як прадстаўніка беларусаў, а як галаву расейскай епархіі ў Маньчжурыі. Таму, нават калі б ён і не спазніўся, усё роўна афіцыйна беларусаў на ўрачыстасці не было б.

Наогул, трэба прызнаць той сумны факт, што беларусаў як асобнай нацыі для царкоўных уладаў у Рыме не існавала. Самога Часлава Сіповіча ў пераліку студэнтаў Грыгарыянскага ўніверсітэта запісалі расейцам. У лісце за 14 студзеня 1941 г. ён звяртаўся да сакратара ўніверсітэта: «У адказ на заклік прысылаць папраўкі памылак адносна імёнаў і г. д. у спісе студэнтаў, якія туды неяк украліся, я асмельваюся пытацца ў Сакратарыята, чаму ўжо трэці раз (бо гэта ўжо здарылася двойчы ў мінулыя гады) замест беларускай нацыянальнасці, да якой я належу, я запісаны расейцам? Спадзяюся, што гэта здарылася праз памылку; калі ж, аднак, ёсць нейкія прычыны на гэта, я хацеў бы іх ведаць неадкладна»**.

На наступны дзень Сіповіч атрымаў адказ ад сакратара: «Прычынай, чаму В(аша) Д(астойнасць) запісаны расейцам, ёсць той просты факт, што няма палітычнай дзяржавы «Беларусь», а толькі Расея, а мы афармляем нашыя рэгістрацыйныя лісты не паводле расавай, а паводле дзяржаўнай прыналежнасці. Гэтаксама, напр., шкоты запісаныя як ангельцы»***. Гэты адказ не робіць гонару ані сакратару, ані той установе, якую ён рэпрэзентаваў. Слова «нацыянальнасць» (nationality, nationalité, nazionalita) у многіх заходнееўрапейскіх мовах ужываецца ў значэнні «грамадзянства» або «дзяржаўная прыналежнасць». На той час не было не толькі незалежнай Беларусі, але й Расеі: абедзве ўваходзілі ў склад Савецкага Саюза. Таму, згодна з логікай сакратара, «нацыянальнасць» студэнтаў з гэтых краінаў мусіла пазначацца як «савецкая». Што да Сіповіча, дык ён

---

* V. Kryvičanin. List z Rymu // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 20.06.1939. № 19. S. 5.

** «Sequendo hortationem ad tabulam evidentem ad corrigenda menda, quae aliquo modo relate ad nomina etc. studentium intrusa sunt, ausus sum rogare P. T. Secretariam, cur iam ter (quia iam bis annis labentibus accidit) mihi loco nationis Alborussicae ad quam pertino, Russica apponitur? Puto hoc accidisse per mendum; si fortasse adessent aliquae rationes, sin. minus de eis scire voluissem».

*** «La ragione perché V. R. si trova registrato come “Russo” è il semplice fatto che non esiste uno stato politico “Albarussia” ma soltanto Russia e noi facciamo i nostri registri non riguardo alla razza ma allo stato politico. Così anche i Scozzesi p.e. sono registrati come Inglesi».

ніколі ў жыцці не быў нават блізка Расеі. Не жыў ён і ў СССР, бо пакінуў Заходнюю Беларусь за год перад яе далучэннем да Савецкай Беларусі, выехаўшы ў Італію з польскім пашпартам. Дык да якой ён належаў нацыянальнасці? У выпадку Шкоцыі і Англіі абедзве гэтыя краіны ўваходзяць у склад Вялікай Брытаніі, таму «нацыянальнасць» (у заходнім сэнсе) іхніх грамадзянаў акрэсліваецца як «брытанская» (British), а не «ангельская». Цікава было б пабачыць таго, хто б адважыўся назваць шкота ангельцам!

Думка пра Беларусь не пакідала Сіповіча ў Рыме, і ён міжволі параўноўваў свой новы досвед з тым, што бачыў і ведаў на Бацькаўшчыне. Напрыклад, у Вялікую пятніцу, 11 красавіка 1941 г., ён запісаў у «Хроніцы»: «Часць з нас ідзе пакланіцца св. Крыжу ў касцёл св. Крыжа, часць — у базіліку Лятэранскую, гдзе адбываліся сумна-прыгожыя набажэнствы. Трэба сказаць, што пішучы гэты словы нічога іншага не ўбачыў ад таго, што калісь было ў гэты дзень у Друйскім марыянскім касцёле (Беларусь). Зразумела, што там не было ані хору Casimiri, ані гэтулькі канонікаў і прэлатаў…»

«Хроніку» прывёз з Вільні ў Рым айцец Германовіч, які на нейкі час затрымаўся ў Русікуме, каб лепш пазнаёміцца з расейскай літургічнай традыцыяй. Сіповіч працягваў запісы ў «Хроніцы» да 1943 г.

10 лютага 1939 г. памёр Папа Пій XI. На ягонае месца быў абраны Пій XII, якому выпала кіраваць Каталіцкай царквою ў Другую сусветную вайну і ў паваенны перыяд супрацьстаяння паміж камуністычным светам на чале з Савецкім Саюзам, з аднаго боку, і Захадам — з другога.

Каранацыя новага Папы адбылася 12 сакавіка 1939 г. У той дзень у Марыянскай калегіі развітваліся з айцом Германовічам, які збіраўся ў Маньчжурыю. Сіповіч так апісаў у «Хроніцы» гэтую падзею: «У гэты самы дзень па каранацыі ў нашай Марыянскай калегіі (Rym, via Corsica 1) развітальны абед у чэсць а. Я. Германовіча M.I.C, перад яго ад’ездам у Харбін. На абедзе былі прысутны: біскуп Евреинов (расеец), а. Піліп дэ Рэжыс, S.J. (француз). Айцец Енэрал А. Цікота па-расейску падзякаваў біскупу за ласкава ветлівае ўчасце ў марыянскай сямейнай урачыстасці; падзякаваў такжа айцу Рэктару Піліпу за яго працу над узгадаваннем марыянскіх клерыкаў, каторыя гатовяцца ў “Русікум” на працаўнікоў злучэння Касцёлаў. Адзначыў такжа, што на цяперашніх двох марыянскіх “русікамцах” не скончыцца ўсходняе напраўленне. У адказ на слова а. Енэрала Уладыка

Аляксандар са сваёй стараны падзякаваў цэлай нашай Кангрэгацыі за працу, якую мы ложым для яго землякоў. Усім, чым можа, а перадусім малітвамі, абяцаў памагаць у прышласці марыянам».

Айцец Германовіч пакінуў Рым 15 сакавіка. Перад гэтым, аднак, ён напісаў у «Хрысціянскую думку» артыкул пра выбары новага Папы*. Артыкул канчаецца апісаннем наступнага здарэння: «Апошні раз, калі на месяц перад сваёй сьмерцяй папеж Піюс XI быў на вялікіх эгзаменах аднаго законьніка, быў і я з клерыкам — студэнтам Ч.С. У агромнай салі было, можа, з тры тысячы клерыкаў і ксяндзоў. Папеж уканцы багаславіў усіх нас і ўсіх нашых блізкіх, каго хто меў у сэрцы. А мы ж успаміналі Беларусь! Калі ж выносілі папежа ў лектыцэ, ён багаславіў направа і налева. Студэнты крычаць "эвіва", а мой Чэсь кажа мне: "Я буду крычаць пабеларуску!" — "Ціха!" — кажу яму. Але ён ужо крычыць: "Хай жыве папеж!" Папежа ўжо перанесьлі міма, але ён адвярнуўся, пільна паглядзеў на нас і багаславіў… — "Ну, і маладзец ты, — кажу яму, — што мяне не паслухаў!"»

21–23 ліпеня 1939 г. марыяне мелі сваю генеральную капітулу («агульны з'езд»), на якой зноў абралі біскупа Бучыса сваім генералам на месца Цікоты. Айцец Абрантовіч, які прыехаў раней з Харбіна, таксама прысутнічаў на капітуле, а пасля паехаў у Польшчу, дзе яго заспела польска-нямецкая вайна. 17 верасня Заходнюю Беларусь і Украіну занялі савецкія войскі. Айцец Абрантовіч знаходзіўся тады ў Львове ў мітрапаліта Шаптыцкага. Крыху пазней яго арыштавалі пры спробе перайсці савецка-нямецкую мяжу. Дакладна невядома, у чым яго абвінавацілі. Шаптыцкі 14 жніўня 1943 г. пісаў ва Усходнюю Кангрэгацыю: «Ходзяць чуткі, што ён (Абрантовіч. — *А. Н.*) быў крыху неразважны, калі ахвяраваў габраю (праваднiку. — *А. Н.*) ангельскія фунты, што магло выклікаць падазрэнні і стаць прычынай арышту»**. Цалкам магчыма, на лёс Абрантовіча пасля арышту паўплывала тое, што ён прыехаў з акупаванай японцамі Маньчжурыі, а дачыненні між Японіяй і Савецкім Саюзам былі тады вельмі напружаныя. Сведкі, якія сядзелі разам з ім у Львоўскай турме, казалі, што яго моцна каталі, але, нягледзячы на пакуты,

* J. H. Novy Papież Pius XII // Chryścijanskaja dumka. Vilnia, 20.03.1939. № 10 (194). S. 2–4.

** «On a raconté qu'il a été peut-être peu prudent en offrant à un Juif des Livres anglaises, ce qui a crée des soupcons et a été peut-être la cause des son arrestation». Машынапісная копія справаздачы «Exarchat de la Russie Blanche», знаходзіцца ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.

ён паводзіў сябе з годнасцю. Паводле апошніх звестак, Абрантовіч памёр 2 студзеня 1946 г. у Бутырскай турме ў Маскве. Так трагічна скончыўся жыццёвы шлях гэтага таленавітага чалавека і святара. Беларусы ўскладалі на яго вялікія надзеі, якія, на жаль, засталіся няспраўджанымі.

Не маючы ніякіх вестак ад Абрантовіча, у Рыме пастанавілі паслаць на ягонае месца ў Харбін Цікоту. Той пакінуў Рым 3 лістапада 1939 г., прыняўшы ўсходні (візантыйскі) абрад і атрымаўшы тытул архімандрыта літаральна за некалькі дзён перад ад'ездам. У Рыме засталіся толькі два былыя друйскія марыяне: Сіповіч і Аніськовіч.

25 снежня 1939 г., на свята Нараджэння Хрыстовага, біскуп Аляксандр Яўрэінаў пасвяціў Часлава Сіповіча на дыякана. Аніськовіча не дапусцілі да дыяканскіх свячанняў і неўзабаве выключылі з Русікума і марыянскага закону за нейкую правіну. 10 студзеня 1940 г. ён выехаў у Францыю, дзе запісаўся добраахвотнікам у польскую армію, каб змагацца супраць немцаў. Сіповіч моцна перажываў тое, як абышліся з Аніськовічам, і спрабаваў ратаваць яго. Ён нават пісаў Цікоту ў Харбін, каб той прыняў Аніськовіча на выпрабавальны перыяд, але ўсе ягоныя старанні засталіся без выніку.

Жыццё ў Рыме ў першыя гады вайны працякала збольшага як звычайна, хіба толькі цішэй, бо святарам і студэнтам краінаў, якія знаходзіліся ў стане вайны з Італіяй, давялося выехаць. 14 траўня 1940 г. Сіповіч зрабіў наступны запіс у «Хроніцы»: «Рэктар Русікума, а. Ф. дэ Рэжыс выязджае ў Францыю. Многія студэнты яго вельмі жалеюць». Тыдзень раней, 11 траўня, ён пісаў Цікоту: «Аніськ(овіч) К. прыслаў мне нядаўна магчыма паследні ліст: ідзе на фронт, просіць заапекавацца после яго рэчамі. Сваю сястру пацяшае тым, што ўсё роўна нас калісь пакрыіць чорная зямля… Жаль нам яго ўсім! Бельгійцы і галандцы спяшаць дамоў, на вайну».

Для Сіповіча, апроч навукі, гэта быў час духоўнай падрыхтоўкі да святарства.

Вялікі дзень прыйшоў у нядзелю 16 чэрвеня 1940 г. Пад час архірэйскай багаслужбы ў царкве святога Антона Вялікага, што належала Русікуму, дыякан Часлаў Сіповіч атрымаў тайну святарства з рук біскупа Аляксандра Яўрэінава. Праз тыдзень, 23 чэрвеня, ён пісаў айцам Цікоту і Германовічу ў Харбін: «Прыйшоў дзень 16.VI.1940. Не бяруся, аднак, апісываць тыя розныя перажыцця, асабліва ў мінуту прыняцця святарства. Яно гдзесьці саткнулася з тым, што ў чалавека называецца *essentia*

(сутнасць. — *А. Н.*). А як сама *essentia* наша нявідзіма, так тыя мае перажыванні неўлавімы для слоў. Хацелася б іх толькі не зацямніць жыццёвым балотам, а такімі, якімі былі ў тую шчаслівую мінуту, занясці перад трон Добрага Бога».

Назаўтра, 17 чэрвеня, новы святар служыў святую літургію ў базыліцы Санта Марыя Маджорэ (Santa Maria Maggiore) перад цудадзейнай іконай Божай Маці «Salus Populi Romani» (Збаўленне рымлянаў).

Калі Сіповіч прыняў святарства, ён навучаўся на трэцім курсе багаслоўскага факультэта. Каб атрымаць ліцэнцыят (ступень кандыдата) з багаслоўя, яму заставаўся яшчэ адзін год навукі. Таму ў кастрычніку ён вярнуўся ў Грыгарыянскі ўніверсітэт. Подых вайны адчуваўся і там: не толькі студэнты, але і шэсць прафесараў не змаглі вярнуцца ў Рым.

1940/41 навучальны год меў быць для Сіповіча апошнім у Рыме — далей ён мусіў ехаць у Харбін. Аднак у міжчасе нешта здарылася. Відаць, Цікота не вельмі настойваў на ягоным прыездзе. Вось што Сіповіч пісаў яму 18 чэрвеня 1941 г.: «Атрымаўшы Вашы пісьмы Рада Енэральная пастанавіла пакінуць мяне яшчэ на год тут у Рыме, з тым каб я зрабіў цяпер ліцэнцыят, а на другі год дактарат. Владыка Пётра (Бучыс. — *А. Н.*) падчоркнуў мне, што тыя прычыны, каторыя стаяць за маім прыездам хуткім у Харбін, вельмі паважныя, так што калі мяне пакідаецца яшчэ на год, то ён сумленна павінен быць выкарыстаны… Што мяне пакінулі яшчэ на год навукі і што зьвярнулі ўвагу на тое, да чаго я павінен у першую чаргу падгатаўляцца, — я астаюся вельмі, вельмі ўдзячны Айцу Архімандрыту за тое, што не “налягаў”, а паважанаму Владыцэ за тое, што ня “гнаў”… Ад сябе мог бы сказаць, што птушкай паляцеў бы да вас, але што ж вам з тэй птушкі, у каторай пуста ў галаве…» Хоць Сіповіч і запэўнівае: «птушкай паляцеў бы», але ў ягоных словах адчуваецца палёгка, што не трэба збірацца ехаць на край свету.

Праз чатыры дні, 22 чэрвеня 1941 г., пачалася нямецка-савецкая вайна. А яшчэ праз паўгода, 7 снежня, японцы разбурылі амерыканскую марскую базу Пэрл Харбар (Pearl Harbor). Вайна сталася сапраўды сусветнай, і пра падарожжа ў Харбін не магло быць гутаркі. Узніклі таксама перашкоды і асабістага характару: Сіповіч «праваліў» экзамены на ліцэнцыят з багаслоўя. Паўторныя экзамены ўвосень пайшлі не лепш. 18 кастрычніка Сіповіч запісаў у «Хроніцы»: «А. Ч. Сіповіч другі раз здае ў Грэгорыянум экзамэны на ліцэнцыят і другі раз яго зрэзалі (Ленэрц S.J.). Што будзе далей — супэрыёры скажуць».

Пасля такой няўдачы будучыня Сіповіча выглядала даволі няпэўнай. Сярод ягоных нататак з рэкалекцыяў ёсць наступная за 19 кастрычніка 1941 г.: «Пастанова на ўсё жыцьцё. Калі атрымаю згодна з воляй Божай (= у зьвязку з дальшай навукай), то гэта дзякуя толькі Матачцы Божай і яе слузе а. Станіславу Папчынскаму*. Пасьля атрыманьня тэй ласкі — у што моцна веру — абяцаю: праз усё жыцьцё без патрэбы (у самым срогім значэньні гэтага слова) ня толькі не хваліцца стопнем навуковым, але яго і ня ўспамінаць перад нікім. Правініўшыся — пакутаваць. Аднак жа, калі Ты, Божа Ўсёведаючы, ведаеш і відзіш маю будучыню і мой тэмпэрамэнт і мой характар, і ведаеш, што для мяне і ліцэнцыят і гэты лішні год навукі непатрэбныя — то вядзі маё неразуменьне сваімі шляхамі. Тое, аб чым а. Енэрал мне сяньня сказаў: *transeat a me, sed non mea voluntas sed Tua fiat*» (хай пройдзе міма мяне, але хай будзе не мая воля, а Твая).

За гэтым запісам ідзе другі, за 3 лістапада: «Выслухаў Бог мяне, нягодніка, праз заступніцтва Добрай Маці Божай і Яе слугі а. Ст. Папчынскага. Усё зложылася проціў маім жаданьням: ня здаў эгзамінаў, не хацеў а. Енэрал, вайна — а ўсётакі ў імя Божае іду і далей буду вучыцца. А тое, што пастанавіў, пры помачы гэтай жа Матачкі Божай і Яе слугі а. Станіслава Папчынскага, выканаю».

У чэрвені 1942 г. шчасце ўсміхнулася айцу Сіповічу, і ён нарэшце здаў экзамен на ліцэнцыят. Пра Харбін ужо ніхто не згадваў, і ўвосень таго года ён распачаў навуку ў Папскім Усходнім інстытуце, які скончыў у 1946 г., абараніўшы дактарат пра аднаго з апошніх беларускіх уніяцкіх мітрапалітаў Ясона Смагажэўскага (1780–1788).

Ад 1941 г. Сіповіч жыў ужо не ў Русікуме, а ў Марыянскай калегіі на вія Корсіка. Вайна амаль не кранула ані яго самога, ані іншых марыянаў, якія толькі назіралі развіццё падзеяў. У гэтым сэнсе цікавы запіс у «Хроніцы» пад датаю 30 жніўня 1943 г.: «Айцец Я. Вайткевіч і Ч. Сіповіч едуць на мора ў Фрэджэнэ (Fregene). Будучы на пляжы, бачуць над сваімі галовамі лятуны амэрыканскія, каторыя ляцяць бамбардаваць Чывітавэкія. Іншая група на чале з а. Мрочкам ідзе ў вільлю Дорыя-Памфілі. У Рыме сяньня тры алярмы».

Зрэдку ў Рым даходзілі весткі з Беларусі ці Польшчы. 7 лютага 1942 г. Сіповіч зрабіў наступны запіс у «Хроніцы»: «Я. Э.

* Станіслаў Папчынскі — польскі святар, заснавальнік закону марыянаў. Жыў у XVII ст.

Айцец Енэрал (Бучыс. — *А. Н.*) атрымаў ад Беларускага Камітэту ў Генэралгубэрнатарстве (Варшава, Княжая, 4) просьбу і ўмесьці з тым быццам скаргу на правінцыяла польскай марыянскай правінцыі, каторы, паміма таго, што Курыя Мэтрапаліт(альная) у Варшаве дала беларусам касьцёл сьв. Марціна (вул. Піўная), ня даў туды беларуса ксяндза, а навет з беларускай дэлегацыяй на гэту тэму не хацеў гутарыць. Дакумэнт гэты напісаны 2 студня пад № 15/42-К/ІІІ. Падпісаўшыся як старшыня Др М. Шчорс».

Гэты запіс у «Хроніцы» даволі дакладна перадае змест ліста Варшаўскага Беларускага Камітэта да Бучыса, у якім гаворыцца: «Урад Камітэту, на шматлікія просьбы сяброў-каталікоў і наагул беларускага каталіцкага насельніцтва Варшавы, зьвярнуўся да Мітрапалічай Курыі ў Варшаве з просьбаю дэлегаваць каторага небудзь з ксяндзоў беларусаў, ці прынамсі знаючых беларускую мову, дзеля абслужэньня рэлігійных патрэбаў беларускага насельніцтва, згрупаванага пры Камітэце. Як кандыдатаў падалі нашы сябры кс. Мар'янаў з Друі, выгнаных польскім урадам з нашых этнічных тэрэнаў… Кс. Канцлер Курыі прыхільна аднёсься да нашае просьбы… але дарадзіў зьвярнуцца да кс. Правінцыяла Закону Мар'янаў. На жаль, у кс. Правінцыяла не спаткала дэлегацыя беларускага каталіцкага насельніцтва зразуменьня справы, ён не здаючы справы з таго, што тут бяруцца пад увагу кіраўніцтва душамі і абарона верных ад шкодных, антырэлігійных уплываў, на столькі збагатэлізаваў справу, што нават не захацеў у гэтай матэрыі гутарыць з дэлегацыяй. На паноўленую інтэрвэнцыю ў Курыі кс. Канцлер адказаў, што ў той справе ён, на жаль, ня можа інгэраваць (умешвацца. — *А. Н.*) дзеля таго, што закон кс. Мар'янаў не падлягае юрысдыкцыі Курыі. Такім чынам, усе спробы… разьбіліся ці то аб незразуменьне павагі справы, ці злую волю касьцельнае гіерархіі. А тым часам у манастыры кс. кс. Мар'янаў ёсьць, а фактычна марнуюцца, ксяндзы Беларусы, каторыя… гадзіліся ахвотна адпраўляць набажэнствы ў беларускім касьцеле і прыняць на сябе рэлігійную апеку над беларусамі… Яны… гадзіліся ў імя Хрыста і Яго Ідэалаў прыняць на сябе адказны і цяжкі абавязак — але, на жаль, гіерархія стала на іншым пункце гледзішча — дабро і ідэалы рэлігійныя ёй былі далёкія і чужыя»*.

На той час у Польшчы былі тры беларускія святары з Друі: Казімір Смулька, Язэп Дашута і Віталіс Хамёнак. Пры добрай волі чаму б не даручыць аднаму з іх пастырскую працу сярод

* Копія ліста знаходзіцца сярод папераў Сіповіча.

беларусаў? Але, відаць, добрай волі не хапіла не толькі ў Варшаве, але і ў Рыме. 8 лютага Сіповіч запісаў у «Хроніцы»: «На гэту просьбу паслана ўжо добрая рада, каб зьвярнуўся Бел. Камітэт з такой самай просьбай да Ўсходняй Кангрэгацыі». Сапраўды, Бучыс, не адкладаючы, на наступны дзень даў свой адказ Беларускаму Камітэту. У сваім лісьце на нямецкай мове ён пісаў: «Прыходжу вам на дапамогу з добрай радай: напішыце, калі ласка, магчыма як найхутчэй у гэтай справе… у Рым на наступны адрас: Яго Эмін. Кард. Тысэран, прэфэкт Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў, Рым, вія дэльля Канчыліяцыёнэ 127-129»*. Незразумела, як можна назваць гэтую параду «добрай». Беларусы-каталікі ў Варшаве ўсе належалі да рымскага (лацінскага) абраду, і таму іхнія справы не ўваходзілі ў кампетэнцыю Усходняй Кангрэгацыі. Але нават калі б яны і былі ў ейнай кампетэнцыі, што мог зрабіць Рым у ваенны час у Польшчы? Сваім адказам Бучыс быццам хацеў сказаць беларусам, каб яны пакінулі марыянаў у спакоі. Між іншага, старшыня Беларускага камітэта Др Мікола Шчорс быў праваслаўным. Цікава, якое ўражанне зрабіў на яго адказ марыянаў, якія рваліся «навяртаць Расею», а для беларусаў-каталікоў адмовіліся даць нават аднаго святара-беларуса.

Пытанне духоўнай апекі беларускай каталіцкай грамадой у Варшаве развязалася, калі на пачатку лютага туды прыехаў айцец Пётра Татарыновіч, вядомы беларускі святар, пісьменнік і дзеяч, якому давялося выехаць з Беларусі пад пагрозай арышту. Ён хутка зарганізаваў парафіяльнае жыццё, а ў верасні таго самага года быў прызначаны настаўнікам рэлігіі ў беларускай школе. Як зазначыў Сіповіч у сваёй «Хроніцы» 21 сакавіка 1942 г., польскі марыянскі правінцыял а. Собчык — той самы, які не хацеў гаварыць з беларусамі, — напісаў у Рым пра прыезд Татарыновіча ў Варшаву. У сваім лісце ён таксама пісаў пра беларускіх марыянаў у Польшчы, асабліва пра а. Дашуту, які рваўся ў Друю, але правінцыял Собчык не даў дазволу, бо ў Друі ўжо хапала польскіх марыянаў, а Дашута быў патрэбны ў Польшчы. 22 красавіка Сіповіч атрымаў з Варшавы ліст ад другога беларускага марыяніна, а. Віталіса Хамёнка, у якім

* «Ich komme Ihnen mit einem gutem Rat zu Hilfe: schreiben Sie, bitte, möglich bald in dieser Angelegenheit… nach Rom unter der Adresse: Sua Em. Tisserant, Prefetto della Congregazione per la Chiesa Orientale, Roma, via della Conciliazione 127-129».

той пісаў: «Магчымасць можна было б вырабіць на паварот з выгнання ў Друю, і ўсе б мы хацелі, як птушкі, паляцець, але мусемо свае пажаданні ўзалежніць з воляй Божай і пшэложоных (старэйшых)».

Варшаўскі інцыдэнт, відаць, не даваў спакою Сіповічу. Як беларус, ён адчуваў крыўду, учыненую беларусам. Як марыянін, шчыра прывязаны да свайго закону, Сіповіч імкнуўся апраўдаць учынак законных уладаў. Сярод ягоных папераў ёсць копіі лістоў Варшаўскага Беларускага Камітэта і адказу Бучыса, а таксама, на асобным кавалку паперы, ягоныя заўвагі да іх. Ён падае наступныя магчымыя прычыны, чаму марыяне адмовіліся дапамагчы беларусам:

«1. Нямецкая палітыка, і дзеля таго правінцыял не хацеў гутарыць;

2. Беларусы могуць заспакоіць свае патрэбы рэлігійныя ў польскіх касцёлах: *каталіцтва вышэй нацыі* (падкрэслена Сіповічам. — *А. Н.*); нацыяналізм беларускі;

3. Чаму privato modo не напісаў ніхто з сваіх беларусаў?»

Усе тры прычыны не вытрымліваюць крытыкі. Нямецкая палітыка не перашкодзіла а. Татарыновічу плённа працаваць цягам наступных двух гадоў. Што да другой прычыны, дык у Варшаве былі не адзінкі беларусаў-каталікоў, а вялікая грамада. Іхняе жаданне мець сваю парафію з казаннямі і навучаннем рэлігіі для дзетак на роднай мове, дзе б гучалі свае рэлігійныя спевы, зусім зразумелае і не мае нічога супольнага з нацыяналізмам, а, наадварот, паказвае, што беларусы-каталікі даражылі сваёй верай. Дый супрацьстаўленне «каталіцтва — нацыя» ў аснове сваёй фальшывае, бо гэта два розныя паняткі, ніяк не супярэчныя адно другому. Трэцяя прычына — зусім непаважная і выглядае на спробу зваліць бяду з хворай галавы на здаровую. Яна нагадвае судовую пастанову прыстава Кручкова з вядомай камедыі Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта». Той, разгледзеўшы справу бойкі між двума шляхцічамі, пакараў усіх, нават тых, хто не прысутнічаў, бо, не будучы прысутнымі, яны не бачылі бойкі і таму не маглі яе спыніць. Дый што гэта за «свае беларусы», якія мусілі напісаць і не напісалі?

Безумоўна, трэба ўзяць пад увагу, што Сіповіч тады быў яшчэ маладым святаром і не меў пастырскага досведу. Пазней у жыцці, калі яму амаль на кожным кроку даводзілася бараніць правы беларусаў і беларускай мовы ў Царкве, ён, напэўна, не спрабаваў бы апраўдаць тое, што не падлягала апраўданню.

Між тым марыяне па-ранейшаму жылі ў Друі. Адзін з іх, паляк з Беларусі, айцец Антон Ляшчэвіч (1890–1943), правёў большую частку свайго святарскага жыцця на Далёкім Усходзе, у тым ліку ў Харбіне. У 1938 г. ён вярнуўся ў Польшчу і ўступіў у марыянскі закон. Навіцыят адбыў у польскім горадзе Скужэц і ў жніўні 1939 г., за тыдзень да пачатку вайны, прыехаў у Друю. Другім марыянінам быў Юрай Кашыра (1904–1943), адзін з беларускіх айцоў, выселеных з Друі ў 1938 г. На пачатку вайны ён трапіў у Летуву, дзе прабыў блізу трох гадоў. У 1942 г. вярнуўся ў Друю. Абодвух айцоў немцы жыўцом спалілі разам з іхнімі парафіянамі, якіх а. Ляшчэвіч і Кашыра адмовіліся пакінуць, у вёсцы Росіца на поўнач ад Друі 17–18 лютага 1943 г. Вестку пра іхнюю пакутніцкую смерць атрымалі ў Рыме 10 траўня, а пацвярджэнне — 10 чэрвеня. У 1999 г. Папа Ян Павал II абвясціў гэтых двух святароў блаславёнымі.

12 студзеня 1942 г. Бучыс склаў нататку пад назовам «De missione orientali inter alborussos» (Пра ўсходнюю місію сярод беларусаў). З падобнай просьбай да яго звярнулася Усходняя Кангрэгацыя, напэўна, таму, што ўвосень 1939 г. мітрапаліт Шаптыцкі заснаваў чатыры экзархаты (у тым ліку Беларускі). Рым пасля доўгіх ваганняў і першапачатковай адмовы ўрэшце неахвотна іх зацвердзіў. На чале Беларускага экзархата Шаптыцкі паставіў айца Антона Неманцэвіча, беларускага езуіта ўсходняга абраду. У ліпені 1942 г. немцы арыштавалі а. Неманцэвіча, і ён памёр у турме ў часе эпідэміі тыфусу*.

---

* Пра смерць Неманцэвіча ад тыфусу піша Шаптыцкі ў сваёй справаздачы ва Усходнюю Кангрэгацыю «Exarchat de la Russie Blanche»: «Я нарэшце атрымаў звестку з аўтарытэтнай установы ў Берліне (Галоўны ўрад дзяржаўнай бяспекі), што а. Антон Неманцэвіч з Альбярціна “памёр ад тыфусу на пачатку 1943 г.”» (Je reçois enfin une nouvelle de l’Office compètent de Berlin [Reichssicherheithauptamt] que le P. Antoine Nemancewycz d’Albertyn est: «Verstorben an Flechfieber anfangs 1943»). Тое самае піша ў сваіх успамінах летувіскі святар З. Ігноніс (Ігнатавічус), які пад час нямецкай акупацыі быў у Мінску і здолеў наведаць айца Неманцэвіча ў турме: «Я абяцаў (Неманцэвічу. — *А. Н.*), што зраблю ўсё магчымае, каб прыйсці ізноў. Але ён захварэў на тыфус і яго перавезлі ў турэмны шпіталь, дзе мне не дазволілі яго бачыць, нягледзячы на ўсе высілкі добрай Марыі (нямецкая манашка. — *А. Н.*). У гэтым шпіталі бедны экзарх Неманцэвіч памёр» (Promisi che avrei fatto tutto il possibile per ritornare. Ma egli si ammalò di tifo e fù trasferito nell’ospedale del carcere, dove non mi permisero di vederlo, nonostante tutti gli sforzi della buona Maria. In quell’ospedale il povero esarca Niemancevic

Большая частка нататкі Бучыса складалася з павярхоўных звестак, узятых з беларускіх календароў за 1938 і 1939 гг., артыкулаў у газеце «Крыніца», што выходзіла ў Вільні ад кастрычніка 1939 да ліпеня 1940 г., і да т. п. крыніцаў. Больш цікавыя ягоныя высновы. Вось галоўныя з іх: «Беларусь з'яўляецца часткаю ўласна Расеі… у наш дзень няма лепшага мосту між каталіцызмам і Расеяй, як Беларусь… Навернутая, Беларусь здолее даць дастатковую колькасць працаўнікоў, здатных навярнуць усю Расею… Цяпер неадпаведны час, каб гаварыць падрабязна, як зарганізаваць беларускую місію для навяртання Расеі. Тым не менш зусім ясна, што ўся каталіцкая іерархія на тэрыторыі Беларусі мусіць мець перакананасць у неабходнасці гэтай місіі і яе асноўных прынцыпах… Пяты прынцып вельмі далікатны: ён кажа быць асцярожным у публічным прызнанні нацыянальнай незалежнасці Беларусі ў Вялікай Расеі, каб гэта не прывяло да варожасці між Беларусяй і Расеяй і не пашкодзіла будучай працы па навяртанні апошняй. З другога боку, беларускі патрыятызм ужо добра прачнуўся, і таму адмаўленне незалежнасці можа лёгка стаць перашкодаю для навяртання беларусаў некаталікоў. Такім чынам, ад біскупаў Беларусі патрабуецца незвычайная абачлівасць»*.

Відаць, Усходняй Кангрэгацыі давялося доўга шукаць такога «эксперта» ў беларускім пытанні. Гэта яшчэ адзін доказ, як мала, на жаль, ведалі пра Беларусь у Рыме. Для Бучыса, які да канца

---

mori). Гл.: Ignonis Zeno. Sabaot, Dio degli eserciti / Istituto Editoriale del Mediterraneo. Roma, 1967. P. 128.

* «Alba Russia est pars propriae Russiae… hodie non datur pons inter catholicismum et Russiam melior Alba Russia… Conversione ista iam facta, Alba Russia capax esset suppeditare sufficientem quantitatem aptissimorum operariorum ad efficiendam conversionem totius Russiae… De ordinanda missione alborussa ad convertendam Russiam vix expedit nunc temporis loqui ita, ut intretur in singulas minutas res. Sed clarum omnino est totam et integram hierarchiam catholicam in terris alborussorum debere esse intime persuasam de necessitate eiusdem missionis et de quibusdam principiis fundamentalis… Quintum principium valde delicatum est; nam docet independentiam nationalem alborussam in magna Russia caute esse afirmandam, ne luctamen inter Albam et Magnam Russiam condatur et impediat futurum opus conversionis huius. Ex altera parte patriotismus alborussus iam satis vigilat et ideo negatio independentiae facile crescere potest in impedimentum conversionis acatholicorum alborussorum. Extraordinaria igitur prudentia opus habent episcopi Albo-Russiae».

застаўся верным вучнем Дэрбіны, важным было «навяртанне Расеі». Пра Беларусь ён амаль нічога не ведаў, а дбаў яшчэ менш.

Варта параўнаць выказванні Бучыса з тым, што казаў у гэтай справе Шаптыцкі. У сваёй справаздачы пра Беларускі экзархат вялікі ўкраінскі мітрапаліт пісаў: «Вельмі сумна бачыць, што ў XX стагоддзі каталіцкая нацыя, якая налічвае амаль 3 мільёны душаў, павінна ўважаць біскупа сваёй нацыянальнасці як недасяжны ідэал. Беларусы больш за ўсё хочуць мець біскупа сваёй нацыянальнасці, бо яны маюць патрэбу ў святарах сваёй нацыянальнасьці»*.

Сіповіч, здаецца, ад самага пачатку ведаў пра нататку Бучыса. Праз дзевяць гадоў, 8 траўня 1951 г., ужо з Лондана ён звяртаўся да Бучыса: «Мне добра ведама, што Ваша Эксцэленцыя пісаў аб беларусах у Св. Усх. Кангрэгацыю і то тады, калі іншыя мала або й зусім беларусамі не цікавіліся… Жыццё аднак пайшло наперад і ставіць іншыя вымогі. Дзеля таго не з усімі Вашымі планамі і сугэстыямі, якія Вы давалі Св. Кангрэгацыі, сяння беларусы згодзяцца (маю на думцы ваш трактат: «De missione orientali inter alborussos» ад 12.1.1942 г.). Каталіцтва на Беларусі павінна разважацца ў такім самым маштабе, як, прыкладам, у Нямеччыне, у Літве, на Украіне *etc*. — гэта значыць, Беларусь павінна мець собскае духавенства, собскую вышэйшую герархію, залежную вылучна ад Рыма».

22 ліпеня 1942 г. Бучыс меў доўгую гутарку з Сіповічам пра Беларусь. Вось галоўныя думкі, запісаныя ў «Хроніцы»: «Ёсьць фактам, — казаў (Бучыс. — *А. Н.*), — што беларусы сяньня разьеднаны: адны падчорківаюць сваю нацыянальнасьць як асобую сярод славянаў, другія лічаць сябе палякамі, а некаторыя расейцамі. Пры гэтым зьяўляецца трайная магчымасьць выбару: прыналежнасьць да Польшчы або да Расеі, або самастойнасьць і незалежнасьць. За прыналежнасьцю да Польшчы стаіць тое, што яна каталіцкая; за прыналежнасьцю да Расеі тое, што беларусы католікі ў рэлігійных адносінах маглі б лучаваць (праменіць? — *А. Н.*) на ўсю Расею. З абоіх, аднак, бакоў гразяць беларусам небясьпекі, і вымагалася б ад беларусаў ахвяр. Вось жа што выбіраць беларусам як лепшае Уладыка не асьмельва-

* «Il est bien triste de voir qu'au XX siecle une nation catholique, qui compte presque trois millions d'âmes doit toujour considerer un évêque de sa nationalité comme un idéal qu'elle ne peut pas obtenir. Les Ruthènes Blancs désirent avant tout un evêque de leur nation, car ils ont besoin d'un clergé de leur nation» // Exarchat de la Russie Blanche.

ецца паказаць і пакідае гэта самім беларусам. Аб сваіх ахвярах хай рашаюць самі». Маленькі эпізод, які кідае святло на ментальнасць гэтага чалавека. Хрыстос устанавіў Царкву, каб даць магчымасць людзям — адзінкам і группам — развіць поўнасцю іхні духоўны патэнцыял аж да Божага ўсынаўлення. Бучыс жа хацеў узалежніць лёс усёй нацыі ад абстрактнага панятку дабра Царквы. Прыгадваецца гісторыя з а. Канстанцінам Стэповічам: яму, яшчэ маладому на той час вікарнаму святару, пробашч забараніў размаўляць з людзямі па-беларуску, бо «гэтага вымагае касьцельная палітыка».

Іншы эпізод, запісаны ў «Хроніцы», адбыўся 26 лістапада 1943 г.: «Айцец Енэрал сабраў усіх усходнікаў да сябе і абгаварыў з імі справу правідловых адносінаў да match розсага роду нацыяў і нацыяналізму. Пры гэтым ён моцна падчыркнуў, што для Царквы не адносяцца беспасярэдня такія пытаньні як: “Будзе Расея складацца з Украіны і Беларусі ці бяз іх”. Дзеля гэтага папеж, памагая ў Рыме Ўкраінскай калегіі, сочыць патрэбы Царквы, а не народу беспасярэдня ўкраінскага». «Усходнікамі», апрача Сіповіча, былі два расейскія студэнты-багасловы, якіх Абрантовіч у 1939 г. прывёз з сабою ў Рым з Харбіна. У тым часе кожная згадка пра незалежнасць Беларусі і Украіны выклікала алергію ў расейцаў усіх палітычных кірункаў.

У сярэдзіне 1943 г. было зразумела, што вайна, хоць і не страціла сваёй лютасці, набліжалася да канца. 9 ліпеня альянты (брытанцы і амерыканцы), перамогшы немцаў і італійцаў у Афрыцы, высадзіліся на Сіцыліі. Такім чынам, вайна перанеслася на італійскую тэрыторыю. 19 ліпеня альянты першы раз бамбавалі Рым. Італійцам гэтага хапіла: 25 ліпеня яны скінулі фашыстоўскі рэжым Мусаліні і распачалі перамовы аб замірэнні. Нямецкія войскі, што дагэтуль знаходзіліся ў Італіі як хаўруснікі, сталіся акупантамі. Пасля другога бамбавання 13 жніўня Рым абвясцілі адкрытым горадам, г. зн. вольным ад усякіх ваенных аб’ектаў. Альянты вызвалілі яго 4 чэрвеня 1944 г.

## Пачатак апостальскай дзейнасці

Па вайне ў Італіі апынулася даволі шмат беларусаў. Многія з іх як былыя польскія грамадзяне служылі жаўнерамі ў г. зв. польскім Другім Корпусе. Вядомы таксама як «Армія Андэрса» — паводле прозвішча ягонага камандзіра генерала Уладзіслава Андэрса, — гэты Корпус уваходзіў у склад брытанскіх узброеных сілаў. Неўзабаве па спыненні ваенных дзеянняў у траўні 1945 г. пачалі з'яўляцца і цывільныя ўцекачы, пераважна з Нямеччыны ды Аўстрыі.

Увосень 1945 г. у Рым прыехалі два беларускія святары. Адзін з іх, айцец Пётра Татарыновіч (1886–1978), святар рымскага (лацінскага) абраду, перад вайной працаваў у Пінскай дыяцэзіі, дзе яго перакідалі з парафіі ў парафію, каб сваёй беларускасцю не нарабіў палякам шкоды. Ён сябраваў з айцом Адамам Станкевічам, пісаў у «Хрысціянскую думку» і быў аўтарам некалькіх кніжак. Як згадвалася вышэй, у вайну а. Татарыновіч ачольваў беларускую парафію ў Варшаве. Улетку 1944 г. з набліжэннем савецкіх войскаў ён пакінуў Варшаву і падаўся на Захад. Канец вайны заспеў яго ў Нямеччыне. Увосень 1945 г. ён прыехаў у Рым, дзе, нягледзячы на свой век (яму было 49 гадоў), пайшоў вучыцца ў Папскі Усходні інстытут і ў 1949 г. абараніў доктарскую працу пра духоўнае вучэнне святога Кірылы Тураўскага. Айцец Татарыновіч застаўся ў Рыме да канца жыцця.

Другі святар быў айцец Леў Гарошка (1911–1977). Ён паспеў скончыць Наваградскую беларускую гімназію, перш як польскія ўлады зачынілі яе, і пастанавіў прысвяціць сваё жыццё справе адраджэння Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі. Багаслоўе ён вывучаў ва ўкраінскай духоўнай семінарыі ў Львове, куды яго прыняў мітрапаліт Шаптыцкі. У 1937 г. Гарошка атрымаў святарства і працаваў у розных грэка-каталіцкіх парафіях Пінскай дыяцэзіі. Урэшце ў траўні 1939 г. польскія ўлады выселілі яго са Стаўбцоў. У вайну экзарх Антон Неманцэвіч прызначыў Гарошку другім сябрам рады Экзархату. Пасля арышту і смерці Неманцэвіча ў турме адказным за Экзархат застаўся айцец Гарошка. Падчас нямецкай акупацыі 1941–1944 гг. Гарошка жыў у Баранавічах, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў беларускіх навучальных установах, у тым ліку ў медычнай школе, адным з заснавальнікаў якой ён быў. У 1944 г. перад наступам савецкіх войскаў айцец Гарошка ўцёк у Нямеччыну. У 1945 г. ён напісаў ва Усходнюю Кангрэгацыю ў Рым справаздачу пра стан Грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі і спытаўся, што рабіць

далей. Не атрымаўшы адказу і не пытаючыся ў нікога дазволу, ён дабраўся да Рыма і прыйшоў ва Усходнюю Кангрэгацыю. Там нарэшце звярнулі на яго ўвагу і нават далі памяшканне ў Русікуме за кошт Кангрэгацыі. У Рыме айцец Гарошка, атрымаўшы дазвол ад Усходняй Кангрэгацыі, пачаў працу над беларускім малітоўнікам «Божым шляхам», які выйшаў на пачатку 1946 г. На той год прыпалі 350-я ўгодкі Берасцейскай уніі 1596 г. З гэтай нагоды папа Пій XII выдаў 25 снежня энцыкліку «Orientales omnes». Айцец Гарошка пераканаў Усходнюю Кангрэгацыю, што неабходна перакласці энцыкліку на беларускую мову. Ён таксама настаяў, каб, беручы пад увагу абставіны XX ст., лацінскае слова «Rutheni» («рускія») перакладалася як «беларусы і ўкраінцы». Кангрэгацыя доўга вагалася, але нарэшце згадзілася. Перамога была невялікая, але важная. Да айца Гарошкі ў Рым прыязджала даволі шмат беларускіх святароў і студэнтаў, але ніводзін з іх не зрабіў высілкаў, каб царкоўныя ўлады прызналі Беларусь як асобную нацыю са сваімі патрэбамі і памкненнямі. Можна смела сказаць, што назоў «Беларусь» з’явіўся на царкоўнай мапе дзякуючы айцу Льву Гарошку.

Для Сіповіча, сем гадоў адарванага ад усяго беларускага, прыезд двух святароў, не звязаных з Друяй ці Вільняй, яшчэ нядаўна актыўна занятых пастырскай працай сярод беларусаў, стаўся адкрыццём. Дзякуючы знаёмству з імі а. Часлаў глыбей асэнсаваў беларускае пытанне ў царкоўным і нацыянальным аспектах. Тым не менш яго першая рэакцыя была даволі дзіўная. Не паспеўшы добра ўведаць новапрыбылых святароў, ён падчас сваіх рэкалекцыяў ужо 20–28 верасня 1945 г. зрабіў наступныя пастановы: «Падтрымоўваць растаропна зносіны для дабра беларускай справы, асабліва для дабра Царквы сьв. на Беларусі. Вельмі тактычна і астарожна быць з кс. П(ятром) Т(атарыновічам), які мае не адзін ад Бога талент, але ўжо крыху староваты, трусьлівы, без ініцыятывы. З палякамі працаваць астарожна і ўцягваць пакрысе а. Л(ьва) Г(арошку)». У гэтых рэзкіх цверджаннях адчуваецца самаўпэўненасць, магчыма, спароджаная недасведчанасцю. Насамрэч айца Гарошку не было патрэбы нікуды «ўцягваць»: ён ужо «ўцягнуўся» ў беларускую рэлігійную працу, як мала хто іншы. Што ж да Татарыновіча, дык ён паказаў ініцыятыву і смеласць, калі пачаў навучанне пасля больш як дваццацігадовага перапынку. Працуючы над сваёй доктарскай дысертацыяй, ён знайшоў час перакласці на беларускую мову вядомую аповесць Генрыка Сянкевіча «Quo vadis» і падрыхтаваць да друку малітоўнік для каталікоў рым-

скага абраду «Голас душы». У 1950 г. пад ягонай рэдакцыяй выйшаў першы нумар часопіса «Зніч», а таксама, дзякуючы ягоным стараанням, распачаліся рэгулярныя беларускамоўныя перадачы на Ватыканскім радыё.

Вайна скончылася, але тое, што прыйшло пасля яе, нельга назваць супакоем. Свет падзяліўся на два варожыя лагеры, кожны з якіх глядзеў на другога з падазрэннем і недаверам, але трымаўся асцярожна, каб не распачаць новай сусветнай вайны. Урэшце, яшчэ свежай была памяць пра атамную бомбу, скінутую на Хірасіму. Між двух лагераў усталявалася «жалезная заслона» — свабодны абмен думкамі або інфармацыяй стаўся немагчымы. Беларусь трапіла ў камуністычны лагер, пад уладу Масквы, дзе панаваў таталітарны рэжым, адсутнасць свабоды сумлення і непашана да правоў чалавека. Перад беларусамі, якія апынуліся па той бок «жалезнай заслоны», паўстала праблема не толькі як выжыць, але і як зрабіць Беларусь і яе патрэбы вядомымі ў вольным свеце.

Тры беларускія святары ў Рыме перадусім ставілі сабе задачу ўстанавіць сувязь з беларусамі, якіх лёс закінуў у Італію. Сярод жаўнераў Другога Корпусу польскай арміі (Першы Корпус месціўся ў Вялікай Брытаніі) налічвалася блізу 2000 беларусаў. Трапілі яны туды рознымі спосабамі. Айцец Сіповіч пісаў пра іх 20 снежня 1945 г. у Парыж Міколу Абрамчыку: «Адны з іх перайшлі цераз Сібір, Ірак, Палестыну і т. д. Гэта тыя, якія былі вывезеныя савецкімі ўладамі. Другія прыйшлі пасьля развалу немцаў. Першыя фігуруюць як палякі, другія запісаныя як беларусы. З аднымі і другімі падтрымліваем зносіны». Неўзабаве пасля вызвалення Рыма ад немцаў туды пачалі прыязджаць, паасобку або групамі, жаўнеры польскай арміі. Айцец Сіповіч, які добра ведаў Рым, часта выконваў ролю праваднiка для такіх групаў. Водзячы іх па Вечным горадзе, ён пацiху стараўся даведацца, ці няма сярод іх беларусаў… Хутка вестка пра беларускага святара ў Рыме разышлася па ўсіх аддзелах польскага войска. Многія беларускія жаўнеры, што прыязджалі на адпачынак у Рым, самі знаходзілі дарогу на вія Корсіка, дзе жыў айцец Сіповіч. У суботу 3 лістапада 1945 г. там адбылася першая беларуская зборка. Айцец Гарошка зрабіў даклад аб рэлігійным становішчы беларусаў на бацькаўшчыне і на выгнанні; жаўнер Віктар Сянкевіч расказаў пра лёс беларусаў, змушаных служыць у чужых арміях; а айцец Татарыновіч прачытаў урыўкі з аповесці Генрыка Сянкевіча «Quo Vadis» ва ўласным перакладзе.

Віктар Сянкевіч вучыўся тады ў гімназіі Сарнана каля горада Мачэрата, што ў цэнтральнай Італіі. Камандаванне польскай арміі пад канец вайны стварыла некалькі такіх навучальных установаў, каб жаўнеры, якім вайна перапыніла навуку, маглі атрымаць сярэднюю адукацыю. Сярод вучняў было даволі шмат свядомых беларусаў. Як правіла, гэтыя маладзёны вучыліся ў беларускіх школах у Беларусі падчас нямецкай акупацыі і трапілі ў Італію толькі пад канец вайны, прайшоўшы праз Нямеччыну і Францыю. Яны не толькі трымаліся разам, але імкнуліся наладзіць сувязь з іншымі, больш шматлікімі, беларускімі асяродкамі. Віктар Сянкевіч, вярнуўшыся з Рыма, 15 лістапада пісаў айцу Сіповічу: «Зараз па прыезьдзе з Рыму павінен быў пісаць аж 13 лістоў да сваіх сяброў… Што некалькі дзён робім сабраньні, на якіх абгаворваем розныя тэмы. Апошне пастанавілі маралізаваць (так у тэксце! Можа, «мабілізаваць»? — *А. Н.*) і зьбіраць у кучку ўсіх сваякоў, каб у як найхутчэйшым часе асягнуць некаторыя мэты. Праца кіпіць. З пісём сяброў (а якіх атрымліваю штомесячна каля 40) даведваемся, што праца над “зьбіраньнем калосься ў адзін сноп” праводзіцца ўсюды, кожным сьведамым беларусам, дзе б ён не паявіўся».

У канцы лістапада 1945 г. айцы Сіповіч і Гарошка сустрэліся з Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, вядомым беларускім грамадскім дзеячам у перадваеннай Вільні. У 1939 г. яго арыштавалі камуністы, але ў 1941 г. выпусцілі як польскага грамадзяніна. Разам з польскім войскам, сфармаваным тады ў Савецкім Саюзе, Жук-Грышкевіч выехаў у Іран і на Блізкі Усход і ў 1944 г. трапіў у Італію. Пад канец вайны яму запрапанавалі месца настаўніка гісторыі ў польскай гімназіі ў горадзе Мадэна ў паўночнай Італіі. Там атайбавалася даволі вялікая суполка беларусаў. Яны часта збіраліся ў Жук-Грышкевіча — як настаўнік, ён карыстаўся афіцэрскімі прывілеямі і жыў на прыватнай кватэры.

Сярод іншых значных беларускіх суполак варта прыгадаць польскую гімназію ў Алесана ў паўднёвай Італіі і полк «гусараў» (танкістаў), што стаяў непадалёк ад горада Кеты ў цэнтральнай Італіі. Айцец Сіповіч ажыццяўляў сувязь між гэтымі групамі, а таксама паасобнымі беларусамі, раскіданымі па розных адзінках польскага войска.

Апрача жаўнераў, знайшліся таксама і цывільныя беларусы з лагераў для ўцекачоў у розных гарадах Італіі (Балоніі, Мадэне, Неапалі, Бралета, Трані, Галятонэ ды інш.). Знайшлося таксама некалькі студэнтаў у Рыме. Уцекачы апынуліся ў даволі цяжкім матэрыяльным становішчы. Беларускія жаўнеры дапамагалі ім,

звычайна праз Беларускі камітэт самапомачы (Comitato Caritativo Biancoruteno), на чале якога стаяў айцец Гарошка.

Адной з найстарэйшых беларускіх эміграцыйных арганізацыяў у Заходняй Еўропе быў Хаўрус беларусаў у Францыі, заснаваны ў 1932 г. У часе вайны старшыня Хаўрусу інжынер Лявон Рыдлеўскі ўдзельнічаў у французскім руху Супраціву. У Парыжы таксама жыў старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) Мікола Абрамчык. 19 верасня 1945 г. яны з Рыдлеўскім звярнуліся да Святога Айца з просьбаю заснаваць Беларускую каталіцкую місію ў Францыі. У лісце гаварылася: «Зрабіўшы аналіз цяперашняга становішча беларускай эміграцыі і ўзгадніўшы з інтэлектуальнымі і палітычнымі прадстаўнікамі беларускай грамадскасці, мы бярэм на сябе смеласць прасіць Вашую Святасць паказаць нам Сваю высокую спагадлівасць і ўстанавіць Беларускую каталіцкую місію ў Францыі, каб захаваць беларускую эміграцыю і прывесці яе ў лона Каталіцкай Царквы»*. З ліста выглядае, што аўтары не ведалі пра айца Сіповіча і думалі, што айцец Гарошка знаходзіўся яшчэ ў Нямеччыне. Невядома, ці Святы Айцец бачыў гэты ліст. Ватыканскі Дзяржаўны Сакратарыят (Segretaria di Stato) перадаў яго ва Ўсходнюю Кангрэгацыю, а тая пераслала копію айцу Гарошку. Той падзяліўся весткаю з іншымі святарамі. 20 снежня 1945 г. айцец Сіповіч напісаў Абрамчыку, і хоць той атрымаў ліст з вялікім спазненнем, між Рымам і Парыжам усталявалася сувязь.

Дзякуючы кантактам з Парыжскім цэнтрам беларускія жаўнеры сталі атрымліваць газету «Беларускія навіны», што выходзіла ў Парыжы пад рэдакцыяй Лявона Рыдлеўскага. Першы нумар газеты ўбачыў свет 25 снежня 1945 г. Адказным за распаўсюд «Беларускіх навінаў» у Італіі быў айцец Сіповіч, які рассылаў яе на вядомыя яму адрасы. Не абышлося і без цяжкасцяў. Камандаванне многіх польскіх вайсковых адзінак ставілася да беларусаў непрыхільна. Беларускія жаўнеры, каб пазбегнуць прыкрасцяў, часта прасілі дасылаць беларускую прэсу і лісты на прыватныя адрасы знаёмых італійцаў (або, найчасцей, італіек…). Такі стан рэчаў не задавальняў айцоў Сіповіча і Гарошку — тыя хацелі

* «Ayant analysé profondement la situation actuelle de l'émigration biélorussienne et en accord avec les personalités intellectuelles et politiques de la société biélorussienne, nous nous permettons de prier Sa Sainteté de nous accorder Sa Haute Bienveilance en instituant une Mission Catholique Biélorussienne en France pour sauvegarder l'émigration biélorussienne et la ramener dans le sein de l'église catholique».

афіцыйнага прызнання правоў беларусаў у польскім войску. Таму 26 красавіка 1946 г. яны звярнуліся да галоўнага камандавання польскага Другога Корпусу ў Італіі з просьбай даць дазвол на афіцыйнае распаўсюджванне «Беларускіх навінаў», а таксама дазволіць беларускім жаўнерам належаць да «Беларускай самапомачы». Гэтая арганізацыя ставіла сабе на мэце культурную і дабрачынную дзейнасць, у прыватнасці матэрыяльную дапамогу беларусам у лагерах уцекачоў. Праз больш як пяць месяцаў просьбу задаволілі. Паведаміў айцу Сіповічу пра гэта шэф штаба генерал Вішнеўскі ў лісце за 4 кастрычніка 1946 г. Вялікай карысці з гэтага дазволу ўжо не было, бо на той час шмат якія польскія вайсковыя адзінкі, а з імі і беларускія жаўнеры, што там служылі, пакінулі Італію.

Дарэчы, айцец Сіповіч трымаў сувязь з беларускімі жаўнерамі не толькі ў Італіі. Кастусь Акула, малады беларускі пісьменнік, які знаходзіўся тады ў афіцэрскай школе ў далёкай Шкоцыі, пісаў 15 студзеня 1946 г., што «ад 8 месяцаў ня чуў ад асобы другой беларускага слова». Ён працягваў: «Адна найбольш балючая справа, — гэта камплетны брак якіхколечы беларускіх кніжак ці часапісмаў, якія былі б сяньня для мяне вельмі памоцнымі ў шматлікіх выпадках. Другая балячка — гэта брак якойколечы арыентацыі што да беларускіх выгнанцаў на Захадзе». Айцец Сіповіч выслаў яму «Беларускія навіны». Акула адказаў 17 лютага: «За перасылку гэную (дзе я знайшоў усё ў цэласьці) шчыра дзякую. Уцеха мая была нязьмерная, а момант гэны буду памятаць заўсёды… Цешуся таксама, што магу знайсьці сяньня кагосьці ў Францыі, хто вельмі цьвяроза зрабіў, прыступаючы да выдаваньня “Б. Навін”. Думаю, што ў недалёкай будучыні Рым пойдзе за прыкладам Парыжа, і зусім не сумляваюся, што ператрываем напэўна».

Выдаваць «Беларускія навіны» было нялёгка. Абрамчык пісаў айцу Сіповічу 10 траўня 1946 г.: «Справа “Б.Н.” з пункту гледжаньня маральнага в. добра — апошняга нумару выдалі 10 000 экз. Ідзець ён буквальна на ўсе канцы сьвету — у Афрыку, Скандынаўскія краі, Ням(еччыну), да вас і Амэрыку. Матэр’яльна затое в. блага. Справа ў тым, што 95% абанэнтаў — гэта заграніца, скуль з прычын дэвізовых грошы не прасылаюцца. № 3–4 выйшаў толькі таму, што а. Франук (Чарняўскі. — *А. Н.*) пазычыў грошы заплаціць за № 2 (папярэдні). Агулам рэдакцыя мае даўгу 65 000 фр(анкаў). Так што, калі можаце падтрымаць рэдакцыю, то нажміце». Беларускія жаўнеры вельмі добра адгукнуліся на заклік падтрымаць «Беларускія навіны». Паводле

справаздачы ў студзеньскім нумары 1947 г., рэдакцыя атрымала ў папярэднім годзе ад чытачоў 91 124 франкаў ахвяраванняў, з якіх 53 500 франкаў «ад б. беларускіх ваякаў Арміі Андэрса, замест вянка на магілу беларускіх воінаў, паўшых пры ўзяцьці Монтэ Касіно»*. Варта зазначыць, што гэтую суму сабралі толькі ў першым паўгоддзі 1946 г., бо ў другім пачалася эвакуацыя польскіх вайсковых адзінак з Італіі. Зборам і перасылкай грошай займаўся айцец Сіповіч. Пра гэта часта згадвалася ў ліставанні між ім і Абрамчыкам. Напрыклад, 24 красавіка Сіповіч пісаў: «Маемо тут у касе каля 15 тысяч лıраў ад жаўнераў, дзеля гэтага ясна і хутка просім паведаміць, ці магчыма часткова выкарыстаць іх тут на выдавецтва, ці лепш усе і ў якой валюце пераслаць вам?»; 22 траўня ён пісаў зноў: «Маемо для вас тут яшчэ 7000 ліраў і пры нагодзе перашлём… Зьбіраць грошы для вас будзем на сколькі можам»; а 15 ліпеня паведамляў: «Наагул мы маемо на ваша конта 30 000 л(іраў). Бяда толькі з перасылкай… А за саматужную ахвярнасьць моладзі, на жаль, немагчыма публічна нават выразіць ёй падзяку!» Да гэтай апошняй заўвагі Сіповіча падштурхнулі лісты, што прыходзілі ад беларускіх жаўнераў. Напрыклад, Тодар Цімафейчык звяртаўся да а. Часлава 11 ліпеня: «Паведамляю, што я дня 2.7.46 г. пераказаў вам 4450 ліраў, якія сабраў ад сяброў… Прашу пераказаць гэтую суму на нашую газэту».

Беларусам, якія праз ваенныя падзеі апынуліся далёка ад Бацькаўшчыны, не ставала літаратуры з беларускай гісторыі і культуры. Таму яны заўсёды радаваліся кожнаму артыкулу на гэтую тэму ў «Беларускіх навінах». Асабліва вартасны быў № 3–4 за сакавік–красавік 1946 г. з багатым матэрыялам пра падзеі, звязаныя з Актам 25 Сакавіка. Айцец Сіповіч у лісце за 2 траўня не забыўся павіншаваць рэдактара за «сакавіты, багаты матар’ял гістарычны, за што вам чытачы будуць удзячныя». Адначасова ён выказаў свае засцярогі: «Я асабіста незадаволены з “Дзесяці загадаў Беларуса” і “Сымбалю веры Беларуса”». Аўтар згаданых твораў — Вацлаў Ластоўскі. Яны напісаныя яшчэ ў 1918 годзе на ўзор Дзесяці Божых Прыказанняў і Вызнання Веры, але з чыста нацыянальным зместам.

Лютаўскі нумар 1946 г. «Беларускіх навінаў» выйшаў з артыкулам-перадавіцай «350-я ўгодкі Уніі». У ім асвятлялася

* Ахвяры на выдавецкі фонд // Беларускія навіны. Парыж, студзень 1947. № 1 (6). С. 4.

Берасцейская унія 1596 г. і яе значэнне для Беларусі. Аўтар ставіцца з вялікай прыхільнасцю да Уніяцкай царквы, але разглядае яе і сам акт уніі хутчэй у палітычным, чым у рэлігійным рэчышчы. У канцы робіць выснову, якую не наважыўся б зрабіць ніякі ўніяцкі святар: «Ня будзь зьліквідавана ў нас уніяцтва, у 1918 годзе Незалежнасьць Беларусі была б без сумліву адстоена». На жаль, артыкул не падпісаны. Найхутчэй, аўтарам быў Мікола Абрамчык. У лісце за 3 сакавіка 1946 г. да айца Сіповіча ён пісаў: «Ня ведаю, якое на вас зробіць уражаньне наш артыкул што да 350-х угодкаў Уніі? У рэлігійных справах мы не глыбокія, таму магчыма зрабілі нейкі ляпсус. Чакаем з нецярплівасьцю кагосьці з вас. Была б гэта для нас вялікая падтрымка. А то так прыходзіцца разрывацца на ўсе бакі, дый нат часамі лезьці не ў свае справы (кажу “не ў свае” ў сэнсе кампэтэнцыі)». Айцец Сіповіч адказаў 27 сакавіка: «Шчыра вітаю Ваш артыкул з нагоды 350 г. Уніі. Ужоператлумачылі яго на італійскую мову і аддалі, каму трэба».

Апошні — восьмы — нумар «Беларускіх навінаў» выйшаў 28 чэрвеня 1947 г. дзякуючы айцу Гарошку, які тады ўжо знаходзіўся ў Парыжы. Ён пісаў айцу Сіповічу 22 жніўня 1947 г.: «Маё палажэньне… вельмі паганае, бо… калі згадзіўся выдаць адзін нумар “Б. Н.”, які з усімі выдаткамі каштуе каля 18 тысяч (франкаў. — *А. Н.*), дык мне давялося пакрыць іхнія старыя даўгі, і 30 тысяч як і не было, а цяпер ліха ведае, як разрахавацца з сваімі ўладамі».

Хоць «Беларускія навіны» праіснавалі зусім нядоўга, але газета адыграла істотную ролю ў кансалідаванні беларускай эміграцыі ў першы пасляваенны перыяд. У прыватнасці, рэдакцыя зрабіла добрую паслугу айцам Гарошку і Сіповічу, даючы абвесткі пра прыезд аднаго ў Парыж, а другога ў Лондан і іхнія новыя адрасы.

У 1943 г. Савецкі Саюз падпісаў у Ялце дамову з заходнімі хаўруснікамі. Згодна з ёю, Брытанія і ЗША канчаткова пагадзіліся на далучэнне да Беларускай і Украінскай ССР заходнебеларускіх і ўкраінскіх земляў. Да 1939 г. тыя знаходзіліся пад польскай уладай. Палякі на эміграцыі заснавалі г. зв. *Związek ziem wschodnich* (Саюз усходніх земляў), каб бараніць правы Польшчы на «Усходнія крэсы», як яны называлі Заходнюю Беларусь і Украіну. Аддзелы «Звёнзку» паўсталі амаль ва ўсіх польскіх вайсковых адзінках. Беларускія жаўнеры, нягледзячы на часта моцны маральны ціск з боку вайсковых уладаў, звычайна ад-

маўляліся ўваходзіць у гэтую арганізацыю. Яны разумелі, што такім чынам прызнавалі б правы Польшчы на беларускія землі. Некаторыя з іх раіліся ў гэтай справе з іншымі. Так, напрыклад, Яўген Андрушкевіч пісаў 9 красавіка 1946 г. айцу Сіповічу: «Ветліва прашу павядоміць мне, чы ёсьць магчымым належыць да арганізацыі, каторая робіцца між войскам, так званай Арганізацыі ўсходніх Зямель, прашу паведаміць мне дакладна, каб у разе чаго не зашкодзіць сваёй справе для Бацькаўшчыны».

Для польскіх вайсковых уладаў дзейнасць айца Сіповіча не была сакрэтам, і хоць яны не маглі яе забараніць, але часта чынілі розныя перашкоды. Сам айцец Сіповіч пісаў 24 красавіка 1946 г. Міколу Абрамчыку ў Парыж: «Прашу зьвярнуць увагу на лік жаўнераў у польскай 2-й Арміі, якога сьпіс перасылаю. Напэўна іх ёсьць больш, але не маглі мы да гэтага часу навязаць з імі зносінаў. (Чуваць, што ўжо на ўрлёпы (водпускі. — *А. Н.*) у Рым нашым жаўнерам ня хочаць даваць дазволу!)»

Праявы неталеранцыі да беларусаў здараліся перадусім на роўні паасобных вайсковых адзінак (ротаў, батальёнаў). Вышэйшае ваеннае камандаванне і польскія палітычныя эміграцыйныя вярхі добра разумелі, што Ялтаўская дамова перакрэсліла іхнія мары вярнуць Польшчу ў яе даваенных межах, і трэба шукаць іншых шляхоў суіснавання з суседзямі, сярод якіх яны раптам заўважылі і беларусаў. Як спроба знайсці шляхі да такога суіснавання паўстала й ідэя г. зв. *Intermarium* (Міжмора), або федэрацыйнай дзяржавы народаў Сярэдняй Еўропы між Расеяй і Нямеччынай ад Балтыйскага да Чорнага мора. Яе высунулі сябры Сярэднееўрапейскіх федэрацыйных клубаў, створаных пад канец вайны ў Рыме і Лондане. Зразумела, рэй у гэтых клубах вялі палякі. Беларусаў там спачатку зусім не было. Адзіны беларус у Рыме айцец Сіповіч як святар трымаўся збоку ад палітычнай дзейнасці. Як беларус ён асцярожна ставіўся да розных «федэрацыйных» і падобных прапановаў, бо ўважаў, што Беларусь павінна найперш здабыць незалежнасць і толькі пасля вызначаць дачыненні з суседзямі. Апрача таго, насцярожвала, што палякі пазбягалі адкрытых размоваў пра будучыя межы між Беларуссю і Польшчай. Іншыя беларусы думалі прыблізна гэтаксама. Айцец Сіповіч пісаў Абрамчыку 27 сакавіка 1946 г.: «Мушу… заўважыць, што ўсе тутэйшыя беларусы з вялікай рэзэрвай адносяцца да самой канцэпцыі Міжмора — проста ня вераць. Тымбольш — яны паўтараюць, — што іншая справа камунізм, якога ніхто ня хоча, а іншая — лінія Керзана, каторая

для нас важная і без таго, ці быў камунізм ці не»*. Адначасова змена (прынамсі вонкавая) у стаўленні польскіх вярхоў да беларусаў давала магчымасць зрабіць нешта карыснае для беларускай справы. Айцец Сіповіч быў не з тых, хто б мог прапусціць такую нагоду. І вось у ліпеньскім нумары 1945 г. часопіса «Na szlaku Kresowej» (На шляху Крэсавай дывізіі) (як вядома, «Крэсамі», або памежнымі землямі, палякі называлі Заходнюю Беларусь і Украіну. — *А. Н.*), што выходзіў у 5-й, г. зв. «Крэсовай», дывізіі польскага Другога Корпусу, з’явіўся артыкул «O literaturze białoruskiej XVI wieku» (Пра беларускую літаратуру XVI стагоддзя) айца Сіповіча, падпісаны ягоным традыцыйным псеўданімам «Васіль Крывічанін»**. Галоўныя крыніцы, якімі карыстаўся аўтар, — «Гісторыя беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага і беларускі часопіс «Калоссе», што выходзіў у Вільні ў 1935–1939 гг. Нягледзячы на свой кампіляцыйны характар, артыкул, напісаны жыва і цікава, стаўся якраз тым, што патрабавалася ў той час. Многім палякам ён расплюшчыў вочы на існаванне народа, пра які яны нічога не ведалі, народа са сваёй старажытнай і багатай культурай. Для свядомых беларусаў у польскай арміі артыкул стаўся радаснай неспадзеўкай, якая падтрымала іх і дапамагла ў «збіранні калосся ў адзін сноп», як казаў Віктар Сянкевіч. Артыкул змусіў таксама задумацца тых беларусаў, якія з розных прычынаў не прызнаваліся ў сваёй нацыянальнасці. Віктар Сянкевіч у згаданым вышэй лісце пісаў: «Шмат падзейнічала і адкрыла вочы беларусам маласьведамым гэта “Літаратура XVI ст.”, якую Айцец падаў у “На шляку Крэсовай”. Выходзіць гэты часапіс у 5 дывізіі, дзе знаходзіцца маса беларусаў. І тым, хто праводзіць, як выражуся, місію (г. зн. працу над усведамленнем і гуртаваннем беларусаў. — *А. Н.*), гэта ёсьць найлепшаю дапамогаю. Гэта ёсьць вядро халоднае вады на “іхнія” гарачыя галовы (польскія. — *А. Н.*). І наагул, суадносіны між палякамі і іншымі нацыянальнасьцямі палепшылі. Дзеля гэтага трэба як найбольш падаваць у газэты і часапісы». Чаславу Сіповічу ў ягоным жыцці даводзілася не адзін раз, як

---

* «Лінія Керзана» — мяжа між Беларуссю і Польшчай, якую прапанаваў у канцы Першай сусветнай вайны ангельскі палітык лорд Керзан (Curson) і якая прыблізна супадае з сучаснай мяжою. Польскія нацыяналісты, якія ўважалі Заходнюю Беларусь часткаю Польшчы, не прызнавалі лініі Керзана.

** Krywiczanin W. O Literaturze białoruskiej XVI wieku // Na szlaku Kresowej. Lipiec 1945. № 6 (24). S. 49–53.

ён сам любіў казаць, «гнаць першую баразну». Адной з самых ранніх барознаў быў, без сумневу, згаданы артыкул, які пабачыў свет праз менш як два месяцы па заканчэнні ваенных дзеянняў у Еўропе*.

25 сакавіка 1946 г. беларусы ў Рыме ўпершыню адзначылі ўгодкі абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Пра гэта айцец Сіповіч падаў у «Беларускіх навінах» кароткую звестку, падпісаўшы яе ініцыяламі «В. К.» (Васіль Крывічанін. — *А. Н.*): «Помнячы аб вялікім дню 25 Сакавіка, беларусы ў Італіі магчыма што найбольш урачыста сьвяткавалі яго тут у Вечным горадзе. Грамадка наша тут на чужыне зрабіла ўсё магчымае, каб жыва ўявіць веліч Акту Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. А гадз. 10-ай раніцы сабраліся ў катакомбах сьв. Каліста пры вія Аппія беларусы каталікі абодвух абрадаў і праваслаўныя на супольную літургію, каб памаліцца за нашу гаротную Бацькаўшчыну, што пераходзіць сяньня свае катакомбы… Пасьля палудня сабраліся ўсе беларусы пад сьцягам бел-чырвона-белым і Пагоняй, каб прыпомніць мілагучныя беларускія песьні, што нязгорш удаваліся пры скромнай чарцы віна сонечнай Італіі. З пажаданьнем да шчасьлівейшага 25 Сакавіка ў Бацькаўшчыне разьвіталіся»**.

У сярэдзіне 1946 г. стала ясна, што беларусы знаходзіліся ў Італіі толькі часова. Польскае войска мелі хутка расфармаваць. Жаўнерам даваўся выбар: вярнуцца ў Польшчу, эміграваць у заакіянскія краіны (Канаду, Аргенціну, ЗША) або пераехаць у Вялікую Брытанію. Там на аснове польскіх вайсковых адзінак утвараўся Польскі Корпус падрыхтоўкі і рассялення (*Polski Korpus przysposobienia i rozmieszczenia*, або ў скароце PKPR; па-ангельску ён называўся Polish Resettlement Corps, або PRC), каб былыя жаўнеры маглі навучыцца прафесіі ці здабыць асвету і падрыхтавацца да цывільнага жыцця на чужыне. Беларусы па зразумелых прычынах не маглі вярнуцца на Бацькаўшчыну і не мелі ніякага жадання ехаць у Польшчу. Таксама найчасцей яны яшчэ не былі гатовыя да далейшай эміграцыі. Такім чынам, да

* Дарэчы, варта прыгадаць два іншыя артыкулы на беларускія тэмы, якія неўзабаве з’явіліся ў польскіх выданнях у Італіі: Dryhvicz (псеўд. а. П. Татарыновіча). Białoruskie święta // Na szlaku Kresowej. Grudzień 1945. № 11 (29). S. 59–61; Krywiczanin W. Zarys kulturalno-historyczny narodu białoruskiego // Sitwa. Rzym, 1946. T. III. S. 259–261.

** В. К. Беларусы ў Італіі // Беларускія навіны. Парыж, сакавік–красавік 1946. № 3–4. С. 8.

канца 1946 г. беларускія жаўнеры польскай арміі ў бальшыні сваёй апынуліся ў Вялікай Брытаніі. Перад ад'ездам многія дасылалі развітальныя лісты айцу Сіповічу. Адзін з іх, Тодар Цімафейчык, які вучыўся ў гімназіі ў Алесана, пісаў 11 ліпеня 1946 г.: «Паведамляю Вам, што я і ўсе сябры… выяжджаем у Англію 19.VII.46 г… Ветліва прашу Вас трымаць з намі лучнасьць аж да апошняе хвіліны… Хоць сяньня закінуў нас лёс у шэрагі чужынскае і ад вякоў варожае нам арміі, але дзе, у чым і ў якіх абставінах мы ня будзем, апрача нашага вонкавага выгляду, свайго мы ідэалу не загубім. З упавагі маіх сяброў перасылаю Вам усім Змагарам найлепшае нашае пажаданьне, каб як найхутчэй убачыліся мы ў нашай вольнай і незалежнай Бацькаўшчыне». Сувязь з айцом Сіповічам не перапынялася і пасля іх прыезду ў Англію. Павал Бударкевіч, адзін з гусараў, пісаў 23 ліпеня 1946 г.: «Пішу да Вас з Англіі, гдзе знаходзімся ўжо блізу месяц. Першыя ўражаньні, каторыя тут адчулі, гэта ўласьцівы гэтай краіне клімат… жаданьнем нашым ёсьць аседліцца больш згуртавана ў якім ліба заморскім краю і магчыма больш утрымоўваць свой нацыянальны дух. Дарагі Тата (так называлі гусары айца Сіповіча. — *А. Н.*), калі пасядаеце новыя намяры газэт, то калі ласка прышліце ў лісьце па адным экзэмпляры, а мы пастараемся запазнаць з імі ўсіх блізшых калегаў». Іншы гусар, Уладзімір Ваўчок, пісаў 14 жніўня: «Ад нас большая палова выяжджае да Польшчы, астаюцца толькі з нашых старон, а пераважна беларусы… Мы папісаліся на выезд да Канады. Нас беларусаў налічваецца каля 60 чалавек толькі ў нашым палку».

Перад беларускімі святарамі ў Рыме паўстала пытанне, што рабіць далей. Айцец Сіповіч у тым часе рыхтаваўся да абароны сваёй доктарскай працы, і таму пастанавілі, што ў Францыю працаваць на Беларускай каталіцкай місіі паедзе айцец Гарошка. Ужо 27 сакавіка 1946 г. айцец Сіповіч пісаў Абрамчыку: «Айцец Гарошка выбіраецца ўжо да вас і прыедзе напэўна». Розныя фармальнасці занялі больш часу, чым спачатку спадзяваліся. Усходняя Кангрэгацыя дала нарэшце сваю згоду, і 25 кастрычніка 1946 г. айцец Гарошка апынуўся ўжо ў Парыжы. Гэта была першая Беларуская каталіцкая місія, афіцыйна зацверджаная царкоўнымі ўладамі.

Перад ад'ездам у Парыж Гарошка напісаў 8 кастрычніка ліст да кардынала Тысэрана ва Усходнюю Кангрэгацыю з просьбаю паслаць, як толькі гэта будзе магчыма, а. Сіповіча ў Вялікую Брытанію — краіну з патэнцыйна найбольшай беларускай эміграцыяй у Еўропе. Пра гэта гаварылася яшчэ ў Рыме на

сустрэчах з Жук-Грышкевічам, Сянкевічам ды іншымі беларускімі жаўнерамі, што служылі ў польскім войску. Неўзабаве пасля прыезду ў Вялікую Брытанію група беларусаў сабралася 22 верасня 1946 г. у Лондане і заснавала беларускую арганізацыю пад назовам «Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі», якая існуе да сённяшняга дня. Першым старшынёй Згуртавання стаў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, а сакратаром — Віктар Сянкевіч.

Аднак справа выезду айца Сіповіча ў Англію, відаць, ішла нялёгка: узніклі нейкія сумневы ў ягоных законных уладаў. Ён пісаў 30 лістапада 1946 г. айцу Гарошку ў Парыж: «Цяпер просьба: канечна напішы просьбу да Владыкі Петры (Бучыса. — *А. Н.*), каб мяне захацеў выслаць у Лёндан, паклікаючыся на свае папярэднія разгаворы з ім, на сваю просьбу да Кардынала Тысс(эрана)… яшчэ раз паўтараю: як найхутчэй палагодзь справу: адразу пішы да нашага Владыкі, а пасьля я з ім або адзін пойдзем у Кангрэгацыю».

19 снежня 1946 г. Сіповіч паспяхова абараніў доктарскую працу ў Папскім Усходнім Інстытуце. Цяпер ужо нічога не трымала яго ў Рыме. 1 студзеня 1947 г. Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі звярнулася да Бучыса і Усходняй Кангрэгацыі з просьбай накіраваць айца Сіповіча ў Англію. Бучыс спачатку нават не адказаў на іхні ліст. 22 студзеня Сіповіч быў ва Усходняй Кангрэгацыі і ўзняў там пытанне пра свой выезд у Англію. У Кангрэгацыі абяцалі напісаць Бучысу, што і зрабілі 24 студзеня. Атрымаўшы ліст ад Усходняй Кангрэгацыі, Бучыс адразу змяніў думку і даў свой дазвол. Ён нават напісаў, або прынамсі падпісаў (тэкст склаў, напэўна, айцец Сіповіч), ліст да Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі на беларускай мове.

Перад ад’ездам у Англію Сіповічу давялося заняцца дзвюма справамі ў Рыме. Айцец Гарошка ў Парыжы меў з мясцовым беларускім актывам нараду, на якой пастанавілі паслаць дэлегацыю ў Рым. Дэлегатамі абралі айца Францішка Чарняўскага, які ад 1929 г. працаваў у Францыі сярод польскіх работнікаў, і Лявона Рыдлеўскага, старшыню беларускай арганізацыі «Хаўрус». Айцу Сіповічу выпаў абавязак падрыхтаваць глебу для дэлегацыі ў Рыме. Ён сапраўды пастараўся, і таму ўсё прайшло паспяхова. Сябры дэлегацыі разам з айцамі Татарыновічам і Сіповічам наведалі не толькі Ватыканскі Дзяржаўны Сакратарыят і Усходнюю Кангрэгацыю, але й мелі ў пятніцу 8 лістапада прыватную аўдыенцыю ў Папы Пія XII. Гэта першы выпадак, калі Святы Айцец прыняў на прыватнай аўдыенцыі беларусаў як такіх. Беларусы мелі прыватныя папскія аўдыенцыі і раней,

напр. Абрантовіч і Цікота, але Папа прымаў іх не таму, што яны — беларусы, а таму, што адзін з іх ачольваў расейскую епархію ў Маньчжурыі, а другі быў генералам закону марыянаў. Дэлегаты прасілі Святога Айца даць беларусам свайго біскупа, а таксама сродкі для ўзгадавання святароў. Першым прамаўляў па-італійску айцец Сіповіч. Ад імя прысутных ён склаў Святому Айцу наступную «пакорную просьбу: 1) каб быў назначаны для нас біскуп, бо мы — сіроты; 2) каб нам дапамагчы матэрыяльна ў заснаванні інстытута для падрыхтоўкі святароў; а паколькі мы бедныя і беспрытульныя, ніхто не рупіцца пра нас, апрача Святога Пасаду»*. Пасля гаварыў па-французску Лявон Рыдлеўскі, які, сярод іншага, заўважыў: «Немагчыма захаваць хрысціянскую душу нашага народа, як толькі дзякуючы каталіцкай іерархіі, пад умовою, што нам яе дадуць у добрым часе»**.

Папа папрасіў пакінуць яму тэксты іхніх прамоваў, але выявілася, што ў іх былі толькі чарнавыя запіскі. Давялося, вярнуўшыся дамоў, перапісаць начыста, і на наступны дзень Сіповіч занёс іх у Дзяржаўны Сакратарыят. Так беларусы вучыліся правілаў дыпламатыі…

Айцец Сіповіч пісаў 15 лістапада айцу Гарошку: «На наступны дзень пасьля ад'езду вашых ад нас мілых гасьцей, пайшлі мы з Пятром (Татарыновічам. — *А. Н.*) да Наступніка Пятра, або, лепш кажучы, да аднаго з монсіньёраў, і даручылі той тэкст, які я чытаў, а Леў (Рыдлеўскі. — *А. Н.*) гаварыў падчас аўдыенцыі. Як табе ўжо ведама, сам Сьвяцейшы нас забавязаў да пераданьня яму просьбы, якую мы даслоўна з плачам яму выявілі… У найбліжэйшы панядзелак або аўторак (17 або 18 г. месяца) едзе да вас у Парыж Владыка Слоскан. Будзе праз нейкі час там у вас… Пасьля паедзе адведаць беларусаў у Нямеччыну. Можна дагадывацца, што гэта ў сувязі з прыездам дэлегатаў у Рым».

Сапраўды, пасля беларускай аўдыенцыі ў Папы біскуп Баляслаў Слоскан, апостальскі адміністратар Мінскі і Магілёўскі, атрымаў заданне адведаць беларускія асяродкі ў Францыі і Нямеччыне і скласці справаздачу Святому Пасаду пра колькасць

---

* «Umile preghiera: che sia assegnato il vescovo, perché ne siamo orfani; 2. che siamo aiutati materialmente per cominciar organizzare l'istituto di preparazione al sacerdozio; e perché siamo poveri e raminghi, nessuno fuori S. Sede si preoccupa di noi».

** «L'âme chrétiennie de notre peuple ne peut être sauvegardée que par l'Hierarchie catholique pourvu qu'elle soit octroyée á nous au temps opportun».

беларусаў-каталікоў, якія там знаходзяцца, а таксама пра іхныя духоўныя патрэбы. Ён так і зрабіў у канцы лютага 1947 г.

Менш паспяхова скончылася спроба вырашыць праблему былых друйскіх марыянаў, святароў і клерыкаў, што знаходзіліся ў Польшчы. Гарошка пісаў прынамсі два разы Бучысу, просячы дазволіць беларускім святарам-марыянам выехаць на Захад, каб працаваць сярод беларускай эміграцыі. Ён нават прапанаваў паспрабаваць вярнуць айцоў з Харбіна ў Еўропу. Ягоныя прапановы засталіся без адказу.

22 снежня 1946 г. Сіповіч напісаў Бучысу ліст, у якім даводзіў, што беларускія марыяне ў Польшчы ўклалі ў польскую правінцыю больш, чым атрымалі ад яе. Ён дабіваўся, каб улады польскай марыянскай правінцыі дазволілі некаторым маладым беларускім марыянам прыехаць вучыцца ў Рым, а іншым далі працягваць навуку ў Варшаве. Ліст гэты выклікаў буру незадаволенасці сярод польскіх сяброў марыянскай генеральнай рады. На пасяджэнні 14 студзеня 1947 г. айцец Мрочак, паляк, «прыпісваючы некаторыя недакладнасці пісанняў і словаў маладому тэмпераменту» (adscribendo aliqua inconvenientia scriptorum et verborum juvenili temperamento) прапанаваў адкінуць ліст і не рабіць пра яго ніякай згадкі ў пратаколе. Іншыя не згадзіліся. Тады Мрочак напісаў 22 студзеня ліст Бучысу, у якім падлічыў гады і месяцы працы і навукі кожнага беларускага марыяніна ў Польшчы і польскага ў Беларусі. Паводле ягоных падлікаў выйшла, што не палякі беларусам, а наадварот, беларусы палякам заставаліся ў даўгу. Напрыканцы Мрочак параіў Сіповічу ў будучыні быць больш памяркоўным у сваіх выказваннях. Безумоўна, у сваіх падліках Мрочак не браў пад увагу ўсялякіх «дробязяў»: што беларусы прыехалі ў Польшчу не з уласнай волі, а гвалтам выселеныя польскімі ўладамі; што беларусы ў Польшчы вялі пастырскую працу сярод палякаў па-польску, а польскія марыяне ў Беларусі, каб не аказацца горшымі, працавалі сярод беларусаў… таксама па-польску.

Нягледзячы на апазіцыю з польскага боку, айцец Сіповіч не адступіў ад сваёй задумы. Відаць, не без ягонага ўдзелу Мікола Абрамчык напісаў Бучысу просьбу дазволіць некалькім беларускім марыянам у Польшчы прыехаць на Захад для духоўнай абслугі беларускіх выгнанцаў. Бучыс адказаў 14 лютага: «Вашу просьбу з дн. 6.ІІ.1947 г. атрымаў… Магу Вам паведаміць, што ўжо выдаў загад двум айцам, якія да гэтага часу знаходзяцца ў нашай польскай правінцыі, каб яны *via* (праз. — *А. Н.*) Рым выбраліся на душпастырскую працу да сваіх суродзічаў. Аднак

з-за цяжкасцей, не залежных ад іх і ад нас, справа можа прадоўжыцца».

Айцец Сіповіч паслаў айцу Гарошку копію гэтага ліста з дадатковымі тлумачэннямі: «Мне шмат каштавала тое, аб чым вас афіцыяльна паведамляем. Прашу цябе ўсьведаміць іншых у наступным: нашыя беларусы добра трымаюцца ў Поль(шчы). Калі, аднак, хтосьці аб іх напісаў бы заграніцай, яны хутка трапілі б у рай. Мы іх хочам адтуль узяць, і прыказ сапраўды выданы, аднак жа тыя ўлады, калі б толькі зьнюхалі, у чым справа, то можа быць вельмі балюча зьліквідована. Я маю лісты адтуль, а навет яны атрымалі "Б. Навіны" і малітаўнік, але ўсё гэта *per vias ignotas* (няведамымі шляхамі. — *А. Н.*). Добра, аднак, было б, каб вы нешта падобнае і то як найхутчэй напісалі пад адрасам: Sua Eccellenza Rev. ma Mons. Giovanni B. Montini, Sostituto Segretario di S. Santità, просячы яго зьвярнуцца да Бучыса, які мае ў П(ольшчы) 8 сьвятароў беларусаў, то напэўна мог бы хаця некалькі адтуль вызваць. Падайце дакладны адрас, хто скуль дамагаецца сьвятароў *лацінскага абраду* (падкрэслена Сіповічам. — *А. Н.*). Яны нас тут дзеляць. Трудна, будзем і мы дзяліць!»

На жаль, усе старанні айца Сіповіча засталіся дарэмнымі і ніводнаму беларускаму марыяніну не ўдалося выехаць з Польшчы.

Айцец Сіповіч пакінуў Рым 24 сакавіка 1947 г. Замест таго, каб ехаць проста ў Лондан, як яму было загадана, ён затрымаўся на больш як два тыдні ў Парыжы, у айца Гарошкі, і з ім разам адведаў розныя беларускія асяродкі. Нарэшце ў сераду 9 красавіка ён сышоў з карабля ў ангельскім порце Довэр і адтуль цягніком позна ўвечары прыехаў у Лондан. Там яму сказалі, што Бучыс чакаў яго цэлы тыдзень і выехаў, не дачакаўшыся. 25 красавіка Сіповіч атрымаў гнеўны ліст з Рыма, падпісаны Бучысам і сакратаром закону марыянаў Я. Вайткявічусам, з пагрозамі караў, прызначаных для збеглых законнікаў… Ліст скончаўся наступным сказам: «Прашу Усемагутнага Бога, каб сваёй ласкаю Ён сцярог цябе ў будучыні ад ламання канстытуцыяў (марыянскіх. — *А. Н.*), на якія ты даваў твае абяцанні»*.

* «Oro Deum Omnipotentem, ut gratia Sua te a violatione Constitutionum, super quibus vota tua emisisti, in posterum praeservat».

## «Народы Расеі»

У 1951 г. у Заходняй Еўропе было шэсць беларускіх каталіцкіх святароў. З іх да ўсходняга (візантыйскага) абраду належалі чатыры: Часлаў Сіповіч у Англіі, Леў Гарошка ў Францыі, Міхась Маскалік у Паўночнай і Уладзімір Салавей у Паўднёвай Нямеччыне; а да рымскага (лацінскага) абраду — двое: Пётра Татарыновіч у Рыме і Францішак Чарняўскі ў Францыі. У Рыме вучыліся таксама два клерыкі (семінарысты). На жаль, ніхто не адказваў за ўсю пастырскую працу сярод беларусаў і не каардынаваў дзейнасць паасобных святароў. Гэтае пытанне закраналася на першым Тыдні студыяў Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'яднання «Рунь» 16–21 ліпеня 1951 г. у бенедыкцінскім кляштары ў Шэвэтоні (Chevetogne) у Бельгіі. На Тыдні прысутнічалі тры святары: Часлаў Сіповіч, Леў Гарошка і Міхась Маскалік, а таксама біскуп Баляслаў Слоскан (Слосканс), апостальскі адміністратар Мінскі і Магілёўскі, які жыў тады на выгнанні ў Бельгіі. Біскуп Слоскан (1896–1981), латыш паводле нацыянальнасці, паходзіў з Латгаліі, дзе жыло мяшанае беларуска-латышскае насельніцтва. Казалі, што ягоная маці была беларускай. Так ці інакш, ён добра ведаў беларускую мову. Слоскан вучыўся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі ў Пецярбургу. У 1917 г. ён стаў святаром, потым працаваў у парафіях у Пецярбургу, Маскве і Віцебску. У 1926 г. Дэрбіны сакрэтна пасвяціў Слоскана на біскупа і прызначыў апостальскім адміністратарам Мінскім і Магілёўскім. Праз год Слоскана арыштавалі савецкія ўлады, і ён сем гадоў правёў у зняволенні (у тым ліку на сумнавядомых Салаўках) і на выгнанні ў Сібіры. У 1933 г. латвійскі ўрад дамогся ягонага вызвалення наўзамен аднаго латыша-камуніста. Пад канец Другой сусветнай вайны, перад прыходам савецкіх войскаў, Слоскан выехаў на Захад і пасяліўся ў Бельгіі ў бенедыкцінскім кляштары Keizerberg (Mont César) у Лювене. Гэта быў чалавек святога жыцця. Гады зняволення, калі яму давялося сведчыць аб сваёй веры ў Хрыста разам са зняволенымі праваслаўнымі біскупамі і святарамі, а таксама гады выгнання далі яму магчымасць глыбей уведаць і палюбіць расейскі народ, узмацнілі жаданне еднасці між каталікамі і праваслаўнымі. І гэта не замінала яму з аднолькавай павагай і любоўю ставіцца да іншых, у тым ліку да беларусаў. Чалавек міру, далёкі ад палітыкі, ён балюча перажываў усялякія нацыянальныя і рэлігійныя канфлікты і непаразуменні.

На Тыдні студыяў прысутныя там святары звярнуліся да Слоскана з просьбай стаць апостальскім візітатарам для бе-

ларусаў. Вось як апісвае Сіповіч іхнюю сустрэчу ў лісце за 31 жніўня 1951 г. Татарыновічу: «Калі быў з намі ў Шэўтонь Я. Э. Балеслаў, мы ўсе тры (а. Маскалік, а. Гарошка і я) мелі зь ім доўгую гутарку аб беларускіх рэлігійных патрэбах і як ім зарадзіць. Мы такжа — перш дагаварыўшыся між сабою, — папрасілі яго быць Апостальскім Візытатарам для беларусаў, у выпадку калі нашу просьбу апрабуе Айцец Сьвяты, да каторага мы адумысловым пісьмом зьвернемся. Я. Э. Балеслаў сказаў: ён калісь, будучы на аўдыенцыі ў Айца Сьв., зрокся з годнасьці і тым самым ад абавязкаў, якія ўскладаў на яго тытул Адміністратара Менскага і Магілеўскага, і Айцец Сьв. згадзіўся, аднак дагэтуль усе монсіньёры ў *Segretaria dello stato* (Дзяржаўны Сакратарыят. — *А. Н.*) уважаюць яго за Апостальскага Адміністратара Менск. і Маг-га, і так яно неяк засталося. Сам Біскуп будзе тым, чым захоча Папа, а не монсіньёры, а мы прасіць можам Папу заўсёды. Гэтак нам Я. Э. сказаў. Даведаліся мы такжа, што расейцы, а нават нейкія бразілійцы жадалі б мець Б-па Балеслава і, — як ён сказаў, — прыводзяць блізу тыя самыя аргуманты, што і беларусы».

Такім чынам, Слоскан хоць і не выказаў вялікага энтузіязму, але і не адмовіўся. Таму беларускія святары пастанавілі прасіць Святога Айца прызначыць яго апостальскім візітатарам для беларусаў каталікоў абодвух абрадаў. Гэта яны зрабілі ў лісце за 11 верасня 1951 г. Каб не дзяліцца пры малым ліку святароў і вернікаў, яны прасілі аднаго візітатара для ўсіх, а не двух — для «ўсходнікаў» і «лацціннікаў». Дарэчы, той самай думкі трымалася Усходняя Кангрэгацыя. Сіповіч пісаў Татарыновічу 28 красавіка 1951 г.: «Я чытаў ліст Я. Эм. Тысэрана да адной асобы ў Англіі (ліст прыватны), дзе ён разумее несуразнасьць нашых тут дзьвюх місіяў і жадаў бы расейцаў з Марыян Гаўз забраць. Другое, больш важнае, высказвае думку, што ўсіх беларусаў: усходняга і лацінскага абраду трэба аб’яднаць пад юрысдыкцыяй Усходняй Кангрэгацыі, і ў гэтай справе мае гутарыць з монс. Тардыні, а пасьля мог бы пісаць фармальна. Такжа ўспамінае аб біскупе Слоскане, які мог бы быць Апост. Візытатарам для ўсіх. Даслоўна піша: “Я думаю, што вы маеце слушнасьць, калі кажаце, што для беларусаў было б карысна быць пад адной юрысдыкцыяй. Мне здаецца, што монс. Слосканс мог бы быць візытатарам для ўсіх”»*.

* «Je pense que vous avez raison, lorsque vous dites qu’il serait avantageux pour les Blanc-Ruthenes d’être tous sous la meme jurisdiction.

Праз шэсць месяцаў з Рыма яшчэ не прыйшло адказу на ліст беларускіх святароў. 25 сакавіка 1952 г. у Лювене адбылася ўрачыстасць — пасвячэнне новага беларускага студэнцкага дома. Каб выканаць пасвячэнне, адмыслова прыехаў з Рыма кардынал Тысэран. Прысутныя на ўрачыстасці айцы Сіповіч, Гарошка і Чарняўскі пастанавілі скарыстаць з нагоды і зноў паспрабаваць зрушыць справу з апостальскім візітатарам. Вось што піша айцец Сіповіч у лісце за 31 сакавіка айцу Татарыновічу: «Пасьля ўрачыстасьцяў мы, сьвятары, пастанавілі спаткацца з Я. Э. Балеславам і Я. Эм. Тысэранам. Гэтак і зрабілі, каб выясьніць найважнейшую справу — Апост. Візытатара для беларусаў. Я. Э. Балеслаў сказаў наступнае: быў ён выкліканы да Бэльгійскай нунцыятуры (мусіць, «да Ватыканскай нунцыятуры ў Бельгіі». — *А. Н.*) і там яму паказалі грамату з Рыму, у якой Рым пытаўся, ці ён згодзіцца быць Візытатарам Апост. для беларусаў двох абрадаў? Гэтае пытаньне, — як выясьніў сам Б-п, — было простай фармальнасьцю, бо на падобныя прапановы згадзіцца трэба. Б-п быў у нунцыятуры дн. 9 студзеня г. г., і ад таго часу да сяньня ён нічога яшчэ не атрымаў. У чым жа тут справа? Ён гутарыў з Кард., і той сказаў, што патрэбна ня толькі згоды Ўсходняй Кангрэгацыі, але такжа і Кансыстарыяльнай, бо Б-п Балеслаў назначаецца і для лаціньнікаў. Усходняя Кангрэгацыя паслала адпаведны ліст у Кансыстарыяльную, але яшчэ няма адказу. Назаўтра пашлі мы (выбач, у той самы дзень пасьля абеду) да Я. Эм. Ён пацьвердзіў усё тое, што сказаў Бп Балеслаў, дадаючы, што перад сваім выездам з Рыму ён паслаў другі ліст у Кансыстарыяльную Кангрэгацыю, але ня меў яшчэ адказу. Значыць, справа пашла далёка, але яшчэ ня скончаная, і я вельмі баюся, каб яна дзе не ўвязла».

Трывога айца Сіповіча мела падставы. Праз два з паловаю месяцы беларускія святары атрымалі ад біскупа Слоскана лісты з датаю 13 чэрвеня 1952 г. з паведамленнем, што «Сьвяты Айцец назначыў мяне Апостальскім Візытатарам для беларусаў і рускіх усходняга абраду ў краінах Заходняй Эўропы з выняткам Італіі». Слоскан прасіў не распаўсюджваць гэтай весткі, пакуль не атрымае з Рыма інструкцыяў адносна ягонай кампетэнцыі.

---

Il me semble que Mgr Sloskans pourrait être visiteur pour tous». Тысэран пісаў 4 красавіка 1951 г. айцу Браніславу (Льву) Крэўзу, быламу блізкаму супрацоўніку мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. Копія ліста знаходзіцца сярод папераў Сіповіча.

Беларускія святары былі не тое нават слова, што расчараваныя і прыгнобленыя. Яны атрымалі ўсё, чаго баяліся: беларусаў-«усходнікаў» укінулі зноў у адзін кацёл з расейцамі, аддзяліўшы ад іх перш «лацінnікаў». Айцец Сіповіч пісаў біскупу Слоскану 17 чэрвеня: «Дзеля таго, што назначэньне выказалася ў зусім нечаканай для нас агаворцы, асьмельваюся заўважыць, што паданьне яго да публічнага ведама павінна быць вельмі добра абдумана. Тое, што В. Эксцэленцыю Апост. Пасад назначыў толькі для беларусаў усходняга абраду, справу вельмі камплікуе».

Як быццам гэтага мала, 5 ліпеня 1952 г., у дзень святых апосталаў славянаў Кірылы і Мяфодзія ў рымскім календары, выйшаў у свет «Апостальскі Ліст да ўсіх народаў Расеі» (Epistula Apostolica ad universes Russiae populos) Папы Пія XII, вядомы таксама як «Sacro vergente anno», паводле трох слоў пачатковай фразы «Sacro vergente anno ad felicem exitum» (Як святы год схіляецца да шчаслівага канца). У лісце Папа пасвяціў «народы Расеі» бязвіннаму сэрцу Марыі, Маці Божай. Вось ягоныя словы: «Падобна як некалькі гадоў таму мы пасвяцілі Бязвіннаму Сэрцу Багародзіцы Дзевы ўвесь людскі род, так цяпер у асаблівы спосаб пасвячаем і аддаём пад апеку Ейнаму Бязвіннаму Сэрцу ўсе народы Расеі»*.

Ліст прывёў беларусаў і ўкраінцаў у шок. Не таму, што Папа аддаў Расею пад апеку Маці Божае, а таму, што ён карыстаўся падазронай палітычнай тэрміналогіяй. Сапраўды, фраза «народы Расеі» вельмі ж нагадвала старую формулу «Вялікая, Малая і Белая Русь», так дарагую расейскім імперыялістам усіх колераў, якія не прызнавалі беларусаў і ўкраінцаў за асобныя нацыі і адмаўлялі ім у праве на незалежнае існаванне. Цяпер выглядала, што яны мелі падтрымку з боку галавы Каталіцкай царквы. Прынамсі, так зразумела апостальскі ліст расейская эміграцыйная прэса і, доўга не чакаючы, аднадушна яго ўхваліла. У Рыме ў спешным парадку выйшаў вялікім накладам расейскі пераклад ліста.

Рэакцыя беларусаў і ўкраінцаў на ліст «Да народаў Расеі» вагалася ад разгубленасці да абурэння. Беларускія каталіцкія святары апынуліся ў цяжкім становішчы: застаючыся вернымі сынамі Каталіцкай царквы, яны не маглі маўчаць, калі дзеілася

---

* «Quemadmodum paucis ante annis universum hominum genus Immaculato Deiparae Virginis Cordi consecravimus, ita in praesens cunctos Russiarum populos eidem Immaculato Cordi peculiarissimo modo dedicamus ac consecramus».

крыўда іхняму народу. Аднак цалкам значэнне папскага дакумента яны ўсвядомілі не адразу.

20–27 ліпеня 1952 г. у Лондане адбыўся другі Тыдзень студыяў БАКА «Рунь». Прысутныя на ім святары скарысталі з нагоды, каб супольна абмеркаваць стан рэчаў, які склаўся пасля прызначэння Слоскана візітатарам для беларусаў і расейцаў. Супольна яны выпрацавалі праект ліста да Святога Айца. Напісаць канчатковы варыянт даручылі айцу Сіповічу. 8 верасня ліст быў гатовы. Падпісалі яго, перасылаючы адзін аднаму па пошце, айцы Гарошка, Сіповіч, Маскалік, Татарыновіч, Чарняўскі і апякун беларускіх студэнтаў у Лювене Рабэрт ван Каўвэляэрт. Апошнім атрымаў ліст айцец Татарыновіч у Рыме. Падпісаўшы, ён занёс яго ў Ватыканскі Дзяржаўны Сакратарыят. Беларускія святары прасілі Святога Айца пашырыць паўнамоцтвы апостальскага візітатара на вернікаў рымскага (лацінскага) абраду, «расцярушаных па ўсім свеце і ў большыні выпадкаў пазбаўленых духоўнай апекі». Далей яны працягвалі: «Застаецца яшчэ адна паважная справа, менавіта паўнамоцтваў (юрысдыкцыі) адной асобы над дзвюма рознымі і варожымі нацыямі, г. зн. расейцамі і беларусамі… што дзеля шматлікіх прычынаў вельмі нявыгадна. Усім ведама, што расейцы маюць свае палітычныя мэты (“адна непадзельная імперыя”) датычна іншых нацыяў, якіх яны паняволілі, і адначасова называюць “ярымі сепаратыстамі” тых, хто нават законнымі спосабамі намагаецца супраціўляцца іхнай палітыцы. У такіх абставінах прызначэнне аднаго візітатара для двух народаў выглядае на падтрымку расейскіх палітычных мэтаў. Адно пэўна, што правадыры (лідары) і актыўныя сябры беларускага грамадства прыводзяць гэты аргумент супраць нас, нешматлікіх беларускіх святароў, і супраць Святога Пасаду. Таму такое прызначэнне апостальскага візітатара, замест таго каб прынесці жаданую карысць, стаецца прычынаю нязгоды і сварак паміж двума народамі. Беларусы істотна розняцца ад расейцаў моваю і характарам… Таму ў духоўных справах патрэбны іншы падыход да беларусаў і да расейцаў, што практычна немагчыма, калі адна асоба прызначаецца для абодвух народаў»*.

---

* «Remanet alia res valde gravis iurisdictionum nempe in una persona pro duabus hostilibus sibi nationibus, i.e. Russis et Alboruthenis, quod locum habuit in nominatione Episcopi B. Sloskan, quod plures ob rationes inopportunum nobis videtur. Communiter notum est Russos suas proprias politicas tendentias [«imperium unum et indivisibile»] erga alias nationes, quas libertate privant, tamen eodem tempore nomen «exageratorum

Канчатковая рэдакцыя ліста далася Сіповічу нялёгка. Вось што ён пісаў 11 верасня айцу Гарошку: «Працаваў я больш добрых трох дзён і шмат яшчэ астаецца сумніваў. Гэтым лістом мы датыкаем сэрца справы, мы вучым Ватыкан, як ён павінен кіравацца ў царкоўнай палітыцы ў дачыненьні да расейцаў і да нас. Ня ведаю, што ёсьць важнейшым, ці назначэньне нам Б-па Балеслава на Апостальскага Візытатара, ці перакананьне Ватыкану аб памылковай яго пастаноўцы справы».

У сваім звароце да Папы беларускія святары не краналі, — хіба толькі ўскосна, — справу ліста «Да народаў Расеі», пра які айцец Сіповіч у лісце да айца Татарыновіча за 16 верасня 1952 г. выказаўся, што «больш чагосьці няўдалага на працягу ўсіх пантыфікатаў апошніх 50-ці гадоў цяжка знайсьці». У згаданым вышэй лісце да айца Гарошкі ён таксама закрануў справу папскага ліста: «Ліст Айца Сьв. да народаў Расеі. На маю думку вельмі няўдачны… Якое мы павінны заняць становішча? Думаю, што наш ліст да Айца Сьв. ёсьць пасрэдным адказам. *Sapienti sat* (таму, хто ведае, дастаткова. — *А. Н.*). Ёсьць тут у мяне часапіс «ABN», дзе ў ангельскай мове ўкраінцы скрытыкавалі гэты ліст. Таксама пісаў мне а. Крэўза, што Ўладыка Бучко вельмі з яго незадаволены. Адно толькі пэўнае, што расейцам ён дагадзіў, бо будуць мець адзін з аргумантаў больш на свой млын».

Дарэчы, айцец Гарошка, відаць, разгубіўшыся і добра не падумаўшы, падаў у «Божым шляхам» кароткую вестку пад назовам «Ліст Сьвяцейшага Айца Пія XII да расейскага народу», у якой было сказана, што «Сьвяцейшы Айцец пасьвячае расейскі народ непарочнаму Сэрцу Дзевы Марыі»*. Гэта не зусім адпавядала праўдзе, бо ў папскім дакуменце гутарка ішла не пра «расейскі народ», а пра «народы Расеі». Гэта зазначыў

---

separatistorum» eis, qui eorum tendentiis vel etiam legitime opponere quaerunt, affligunt. His in circumstantiis nominatio unius Visitatoris pro duabus nationibus tendentiis pure politicis Russorum favere videtur. Quod autem certum est, hoc argumento directores et viri activi associationum Alboruthenorum contra nos paucos sacerdotes Alboruthenos ac contra S. Sedem utuntur. Huiusmodi ergo nominatio Visitatoris Apostolici potius causa discordinis et contentionis apud duas nationes in rebus religionis esset quam desideratae utilitatis. Populus Alboruthenus tum lingua tum indole a populo Russo valde differt… Hinc methodi differentes applicandi sunt in necessitatibus spiritualibus tractandis Alboruthenorum Russorumque, quod haud possibilis redditur usquedam una eademque persona eodem titulo ornetur».

* Божым шляхам. Парыж, ліпень–жнівень 1952. № 49. С. 14.

айцу Гарошку айцец Сіповіч у лісце за 9 кастрычніка: «Калі ідзе аб ліст Сьв. Айца — дык тут трудна спрачацца. “Украінцы пішуць супроць, а чаму вы маўчыцё?”. Я бачыў у “L’Osservatore Romano”, што ў “Civilta Cattolica” ёсьць артыкул а. Гэрмана, які бароніць пазыцыі Ватыкану. Я жадаў бы мець гэты нумар… Я ня ведаю, але магчыма, што трэба было б напісаць у “Божым шляхам” штосьці спакойнага яшчэ раз, але называючы справу па імені. Гэта нядобра, што ты напісаў у апошнім нумары “Б. шл.”: “Ліст… да расейскага народу”. Гэта няпраўда. Толькі трэба напісаць вельмі спакойна ў Сэкрэтарыят стану, я думаю, няхай напіша кожны з нас аддзельна».

Так і зрабілі. Айцец Гарошка напісаў ад свайго імя пратэст 25 лістапада 1952 г. і паслаў яго наўпрост Святому Айцу, а копію ва Усходнюю Кангрэгацыю. Вось некалькі ўрыўкаў з гэтага ліста: «Мінула ўжо чатыры месяцы ад выхаду Вашага ліста “Sacro vergente anno” да народаў Расеі… Беларусы (аднолькава каталікі і праваслаўныя) адчулі сябе балюча закранутымі, убачыўшы сябе залічанымі да расейскіх народаў. У сапраўднасці расейцы для беларусаў з’яўляюцца найбольшымі прыгнятальнікамі; таму зразумела, што ім невыносна насіць імя сваіх прыгнятальнікаў… Я хацеў бы сказаць Вам больш ясна, чаму фраза “народы Расеі”… зрабіла такое ўражанне сярод беларускай эміграцыі. Трэба зазначыць, што якраз гэтай фразай маніпулююць расейскія імперыялісты, якія хочуць захаваць уладу над народамі, паняволенымі праз СССР… Беларускія вернікі ўважаюць Вашую Святасць бацькам усіх народаў. Беларусы ўпэўненыя, што, як бацька сям’і называе кажнае са сваіх дзетак па імю, так і Ваша Святасць, звяртаючыся да беларускага народа, будзе ўжываць сапраўднае імя гэтага народа… Я прашу Вашую Сьвятасьць знайсьці спосаб направіць шкоду, зробленую лістом “да народаў Расеі” сярод беларускай эміграцыі. Можна было б скарыстаць з гэтай нагоды, каб назначыць апостальскага візітатара для адных толькі (г. зн. асобна ад расейцаў. — *А. Н.*) беларускіх эмігрантаў каталікоў абодвух абрадаў… і сказаць пры гэтай нагодзе эмігрантам некалькі слоў». Гэтыя моцныя, хоць не вельмі дыпламатычныя словы, відаць, трапілі ў мішэнь, бо 15 снежня Гарошка атрымаў востры ліст ад сакратара Усходняй Кангрэгацыі кардынала Тысэрана, у якім той пісаў: «Не ўважаючы патрэбным уваходзіць сутнасць такой просьбы, лічу маім абавязкам даць вам зразумець, што кожны раз, калі вы жадаеце данесці нешта да ведама Святога Айца, будзе добра рабіць гэта звычайнай дарогай, менавіта праз гэтую Св. Кангрэгацыю, якая мажліва

прадставіць справу Высокаму Пантыфіку (Augusto Pontefice), дапаўняючы яе іншымі заўвагамі паводле свайго ўзгляду».

Айцец Сіповіч выказаў сваю думку пра папскі ліст «Да народаў Расеі» ў лісце на італійскай мове за 6 снежня 1952 г. не проста Святому Айцу, але апостальскаму дэлегату ў Англіі, просячы выкарыстаць яго так, як уважае найлепш. Да свайго ліста ён дадаў тэксты адпаведных артыкулаў з беларускае прэсы. Ён апісаў таксама рэакцыю беларусаў у Англіі: «Пасля выхаду ў свет Апостальскага ліста да народаў Расеі дзверы дамоў многіх праваслаўных братоў былі зачыненыя для каталіцкага святара. У Манчэстары беларуская грамада не хацела нават сустрэцца са мною; некаторыя сябры Згуртавання беларусаў (сябрам якога я таксама з'яўляюся) напісалі зняважлівыя лісты супраць Каталіцкай царквы, Папы і супраць мяне… У Брадфардзе… са злосцю і сарказмам паказвалі мне ліст Папы "Да народаў Расеі", паўтараючы ўсьцяж пра крыўду, зробленую беларускаму народу… Тое самае адчуваецца і ў Лондане… Ніводзін праваслаўны не прыходзіць больш у маю капліцу на Гольдэн Авэню. Каталікі, разгубленыя, не кажуць нічога зняважлівага супраць Святой Царквы, але чуюцца прыбітымі лістом Святога Айца».

На думку Сіповіча, незадаволенасць перадусім выклікалі: неадпаведная перастарэлая тэрміналогія; гістарычная няпраўда; рэакцыя расейцаў, якія зразумелі ліст папы як ухваленне іхніх палітычных поглядаў; і каментары ў афіцыйным Ватыканскім органе «L' Osservatore Romano», якія яшчэ больш заблытвалі і без таго складаную сітуацыю.

Канчатковыя высновы айца Сіповіча ўяўляюць немалую цікавасць. Спаслаўшыся на артыкул з «L'Osservatore Romano» за 3 жніўня 1952 г., у якім гаворыцца пра «Ліст да народаў Расеі» як пра «адну з найбольш выдатных падзеяў у Царкве і ва ўсім хрысціянскім свеце» (tra i più straordinari eventi religiosi della Chiesa e della Cristianità), ён працягвае: «Мне балюча сказаць, што тыя, да каго гэты ліст быў звернуты, думаюць інакш. Усе беларускія і ўкраінскія часопісы прызнаюць вялікі аўтарытэт Папы, але адначасова выказваюць сваё расчараванне гэтым дакументам, які мусіў стацца паваротным пунктам у рэлігійнай скіраванасьці славянаў. Маё святарскае сумленне змушае мяне сказаць, што, на маю думку, ліст "Да народаў Расеі" праз доўгія гады для 30 мільёнаў украінцаў і 10 мільёнаў беларусаў будзе найбольшай перашкодай на шляху да еднасці з Рымскім Пасадам. Гэта вельмі балюча для нас, святароў, нягодных, але

верных слугаў Святое Царквы, якая дала нам уладу працаваць для збаўлення душаў»*.

Айцец Сіповіч даў, мабыць, найбольш шырокую і глыбокую ацэнку папскаму дакументу. Ён зыходзіў з меркаванняў пастырскага парадку і справядлівасці для свайго народа. Яму прыйшлося нялёгка, бо ў той час усякая крытыка Папы, асабліва з боку параўнаўча маладога і невядомага святара, лічылася нечуванай смеласцю. Каб «застрахавацца» ад магчымых абвінавачанняў у нелаяльнасці, у канцы ліста ён дадаў на лацінскай мове дэкларацыю вернасці Святой Царкве і Наступніку Святога Пятра. Ён пісаў: «Мой намер — паінфармаваць тых, каму належыць гэта ўсё ведаць. Тое, што я думаю пра Святы Пасад і пра Найвышэйшага Пастыра хрысціянаў, я казаў адкрыта шмат разоў, а таксама не адзін раз бараніў паводле маіх сілаў ягоны аўтарытэт у [маіх] пісаннях… Калі нешта ў маіх заўвагах няпраўдзівае або фальшывае, хай будзе папраўлена, і хай прабачаць іхняму пакорнаму аўтару. Пісаў я гэта ўсё, абцяжараны сумам, што ліст Найвышэйшага Пантыфіка “Sacro vergente anno” меў сярод майго беларускага народа адваротны вынік ад таго, які жадаў Найсвяцейшы Аўтар… Дзеля павелічэння і ўзмацнення маёй веры… з асабліва моцнай і непахіснай вераю прымаю і вызнаю ўсё, што Паўсюдныя Саборы Фларэнцкі і Ватыканскі ўстанавілі, менавіта: [што] Рымскі Пантыфік з’яўляецца сапраўдным намеснікам Хрыстовым і Галавой Царквы, і айцом і настаўнікам усіх хрысьціянаў; і [што] яму, [праз загад] блаславёнаму Пятру пасьвіць [Ягоныя авечкі], была дадзеная ад Ісуса Хрыста, Госпада нашага, поўная ўлада панаваць і кіраваць усёй Царквой»**.

---

* «Tutti i giornali biancoruteni e ucraini sottolineano la grandissima autorità del Papa, ma nello stesso tempo sottolineano la loro delusione per il documento che avrebbe dovuto essere una pietra migliare nell’orientamento religioso dei Slavi. In coscienza sacerdotale posso dire il mio parere che per lunghi anni questa lettera “ai popoli della Russia” sara di grandissimo ostacolo per i circa 30 millioni di Ucraini e 10 millioni di Biancoruteni per il ritorno all’unione con la Sede di Roma. E qui sta la causa del dolore profondissimo di noi sacerdoti, indegni ma fedeli servi della Chiesa Cattolica che ci autorizzò all’opera per salvare le anime».

** «Intentio mea est, ut cui opportet haec omnia scire, pro informatione habeat. Quae de S. Sede ac Pastore Supremo christianorum cogito multoties palam locutus sum ac etiam in scriptiis auctoritatem eius iuxta meum posse non una vice defendebam… Si quae in his meis adnotationibus non sunt vera vel etiam falsa, sint corrigenda et sit venia humili auctori earum. Omnia scripsi dolore obruptus, quod Litterae Summi Pontificis “Sacro

Біскуп Слоскан быў вельмі незадаволены крытыкаю папскай энцыклікі «Да народаў Расеі». 5 снежня 1952 г. ён пісаў айцу Гарошку: «Уважаю, што гэта супраць майго пераканання заўсёды паказваць Свяц. Айцу нашае незадаваленне і нашу баязнь». Ён не бачыў нічога дрэннага ў тым, што яго прызначылі для беларусаў і расейцаў, і не разумеў крытыкі ліста «Да народаў Расеі»: «Вы пішаце аб уражанні, якое выклікала пасланне Св. Айца. Я чытаў гэтае ўражанне ў "Бацькаўшчыне" і "Беларускай трыбуне". Гэтыя людзі ніколі не зразумеюць Царквы як *Regnum Dei* (Валадарства Божае. — *А. Н.*)… Усе гэтыя закіды Св. Айцу ёсць вынік нянавісці да расейскага народа і ўся іх фармуліроўка сведчыць аб гэтай нянавісці… Першай віноўніцай гэтага паслання ёсць Царыца Нябесная, Прабагаслаўлёная Маці Божая Марыя. У сваім з'яўленні ў Фаціме ў 1917 г. яна абяцала, што калі веруючыя будуць маліцца, дык Расея *se convertira* (навернецца. — *А. Н.*). Але ў сваім з'яўленні Богамаці не адкрыла: а) што Яна разумее пад словам Расея, б) як трэба разумець слова *se convertira*… Маці Божая паставіла нібы ўмову навярнення Расеі — яе пасвячэнне непарочнаму сэрцу Марыі… Адтуль выйшла пастанова пасвячэння Расеі сэрцу Богамаці. І Св. Айцец не іначай бярэ пасв(ячэнне) як у тым сэнсе, у якім яго бярэ Прачыстая — а нам, грэшным, ня трэба знаць *omnia secreta Matris Dei* (усе тайны Божай Маці)». Слоскан сканчае свой ліст словамі: «Прыйшла пара мне пачаць сваёй грудзьдзю бараніць Св. Айца, калі ўкраінцы і беларусы пачалі кампраметаваць намесніка Хрыста на радасць цёмным сілам».

Айцец Гарошка адказаў 8 снежня: «Ужо сам факт, што падаючы аб Вашай намінацыі, нельга падаць да агульнага ведама даслоўнага тэксту намінацыйнага дэкрэту, гаворыць аб тым, што з гэтаю намінацыяю не ўсё ў парадку, і гэта неабходна выясніць якраз людзям, якія той дэкрэт падпісалі… Выказваць кардыналам і асабліва Свяц. Айцу ўсё тое, што нам баліць, ёсць нашым абавязкам. Да каго ж нам звяртацца з нашымі рэлігійнымі

---

Vergente Anno" apud meum populum Alboruthenum effectum contrarium intentioni Auctoritatis Sanctissimi obtinere. Ad fidem meam augendam et confirmandam… speciali… modo firma et inconcussa fide suscipio et profiteor ea quae Concilia Oecumenica Florentinum et Vaticanum definierunt, nempe: Pontificem Romanum verum Christi vicarium totiusque Ecclesiae caput et omnium christianorum patrem et doctorem exsistere; et ipsi in beato Petro pascendi, regendi ac gubernandi universam Ecclesiam a Domino nostro Iesu Christo plenam potestatem tradendam esse».

клопатамі, як не да яго?.. Гісторыя паўстання ліста “Да народаў Расеі” вядомая, але бяда ў тым, што якраз у гэтую гісторыю расейскі імперыялізм усадзіў свае тры грошы, бо зусім іншая справа “Расея” ў фацімскім аб’яўленні, а іншая справа “народы Расеі”. На маю думку, няма нічога больш небяспечнага, як калі нядобрыя людскія думкі прыкрываюцца аўтарытэтам сьвятасьці, у даным выпадку аўтарытэтам Багародзіцы і Свяц. Айца. А дзе ж у якім аб’яўленні Багародзіца карысталася двузначнаю палітычнаю тэрміналогіяю? Ці ж Багародзіца ведае толькі Расею, а не ведае ані Беларусі, ані Украіны?.. Зрэшты, для нікога не ёсць сакрэтам, што пасланне ўкладаў рэктар “Русікум”, а. Вэттэр, і не паводле фацімскага аб’яўлення, але паводле таго духу, які пануе ў гэтай установе… Аб тым, што хацелі правесці расейскія прыслужнікі праз успомненае пасланне, можна бачыць з іхняе прэсы і каментароў, а яны маюць найвыразней палітычную афарбоўку… Што да вашае апошняе заўвагі, быццам беларусы і ўкраінцы пачалі кампраметаваць намесніка Хрыста, дык тут трэба прызнаць хіба нейкае вялікае непаразуменне, бо ж лісты, рапарты і нават пратэсты, якія ідуць у Рым у звязку з тым пасланнем, маюць на мэце не кампраметаваць Рым, а якраз бараніць аўтарытэт Сьвяцейшага Айца перад расейскімі служкамі, каб не выкарыстоўвалі яго для нячэсных палітычных мэтаў. Я… не магу спакойна глядзець на тое, як служкі расейскага імперыялізму прадзерліся са сваімі ненасытнымі аспірацыямі аж да найвышэйшага царкоўнага аўтарытэту. Уважаю, што найвышшы час даць ім такі адпор, на які заслужылі».

Востры абмен думкамі, відаць, быў патрэбны, каб разрадзіць напругу: ён зусім не пашкодзіў прыяцельскім дачыненням Гарошкі і Слоскана і дапамог апошняму зразумець становішча беларусаў.

Верны шматвяковай традыцыі, Рым публічна не прызнаў сваёй памылкі. Тым не менш пратэсты і дамаганні не засталіся незаўважанымі. Слоскана не вызвалілі ад абавязкаў візітатара для расейцаў, але пра гэта пакрысе быццам забыліся. У беларускіх часопісах «Божым шляхам» і «Зніч» з’явіліся афіцыйныя паведамленні пра ягонае прызначэнне візітатарам для беларусаў (не згадваючы зусім пра расейцаў). 14 лютага Кансістарыяльная кангрэгацыя ад імя Папскай камісіі для эмігрантаў прызначыла Слоскана дырэктарам місіянераў для беларускіх эмігрантаў у Заходняй Еўропе (Director Missionarium Alboruthenorum in Europa ad Occidentem versa), такім чынам даючы яму юрысдыкцыю над

беларускімі каталікамі рымскага (лацінскага) абраду. З нагоды ягонага 60-годдзя ў «Знічы» з’явіўся пра яго артыкул, а «Божым шляхам» пачаў друкаваць (у рэдакцыі айца Гарошкі) успаміны Слоскана з 20-х і пачатку 30-х гадоў, г. зн. з часоў ягонай працы ў Беларусі і зняволення ў савецкіх турмах і лагерах. Гарошка пісаў 28 сакавіка 1953 г. Сіповічу: «Сёньня бачыўся з біск. Слосканам, але ён тут затрымаўся ўсяго 3 гадзіны… Затое абяцаў калі небудзь спэцыяльна адведаць беларусаў і абяцаў прыехаць у Лёндан… З гэтага спатканьня маё такое ўражаньне, што ён больш схільны займацца беларускімі справамі, а расейскія, здаецца, пойдуць на другі плян, бо, напрыклад, аб сваім пераезьдзе праз Парыж нікога з расейцаў не паведаміў».

У 1954 г. айцец Францішак Чарняўскі пераехаў з Францыі ў Бельгію. Ён жыў у абацтве Mont César у Лювене, выконваў абавязкі беларускага сакратара біскупа Слоскана і займаўся пастырскай дзейнасцю сярод беларусаў у Бельгіі і паўночнай Францыі. Беларускія каталіцкія студэнты Лювенскага ўніверсітэта прыходзілі ўраніцы прыслугоўваць Слоскану да імшы.

Біскуп Слоскан прысутнічаў амаль на ўсіх тыднях студыяў БАКА «Рунь», цікавіўся беларускімі студэнтамі багаслоўя (семінарыстамі), што рыхтаваліся да святарства. У 1960 г. ён адыграў значную ролю ў справе біскупства Часлава Сіповіча.

У 1953 г. аўтар гэтых радкоў наважыўся стаць святаром і напісаў у гэтай справе заяву ва Усходнюю Кангрэгацыю ў Рыме. У тым часе Рым быў адзіным месцам у Заходняй Еўропе, дзе месціліся ўстановы (калегіі) для ўзгадавання «ўсходніх» святароў. Не маючы ніякай ахвоты ісці ў Русікум, куды звычайна пасылалі беларускіх студэнтаў, ён прасіў, каб яго прынялі ў Грэцкую калегію, якая мела моцныя гістарычныя сувязі з Беларуссю з часоў уніі. Ён аддаў заяву ў рукі айца Сіповіча, але той меў некаторыя сумневы. А. Часлаў пісаў айцу Гарошку 9 траўня 1953 г.: «А. Надсон ужо злажыў на мае рукі заяву аб уступленьне ў Грэцкую калегію ў Рым. Ён жадае пайсьці на сьвецкага сьвятара. Гэта яго собскае рашэньне, і хай Бог багаславіць. Усё ж такі пакуль што я затрымаю яго заяву і пачакаю на твае заўвагі ў гэтай справе». Гарошка адказаў 12 траўня: «Калі Надсон злажыў заяву ў Грэцкую калегію, дык і падавай яе па адрасу. Выбар вельмі добры і няма патрэбы над гэтым доўга разважаць». Усходняя Кангрэгацыя задаволіла просьбу без ніякіх цяжкасцяў. Гэта яшчэ адзін малы доказ, што стаўленне да беларусаў у Рыме змянілася.

## «Новая Друя»

5 лістапада 1952 г. айцец Сіповіч напісаў у генеральную раду марыянскага закону наступную заяву: «Пасля доўгай развагі перад Богам, маючы на думцы большую славу Божую і Благаславёнай Дзевы Марыі, а таксама лепшае асягненне мэтаў нашага закону сярод беларусаў на выгнанні, менавіта даць магчымасць заснаваць законны дом (г. зн. кляштар. — *А. Н.*) беларускіх айцоў марыянаў (ut possibilitas domui religiosae Marianorum Alboruthenorum praeberetur), ніжэй падпісаны прапануе: Набыць, г. зн. купіць для Беларускай місіі дом, які знаходзіцца на Гольдэн Авэню, Лондан № 12 і называецца Марыян Гаўз, разам з гародам і мэбляй, за цану 8200 фунтаў. Умовы куплі наступныя: сума 4000 фунтаў сплочваецца на працягу трох гадоў ад часу, калі Галоўная Рада дасць сваю згоду. Пасля таго, як сума 4000 фунтаў сплочаная летувіскім айцом марыянам, тытул уласнасці Марыян Гаўз фармальна пераходзіць да Беларускай місіі. Апошнія 4200 фунтаў неабходна сплаціць на працягу наступных трох гадоў разам з 2,5% ад сумы, якую застаецца заплаціць. Пасля куплі Марыян Гаўз уласнасць візантыйска-славянскай капліцы пераходзіць канчаткова да Беларускай місіі».

Думка купіць Марыян Гаўз для беларусаў нарадзілася ў айца Сіповіча даволі рана, хоць ён не казаў пра гэта нікому, апроч блізкіх прыяцеляў, якім мог даверыцца. 11 верасня 1952 г. ён пісаў айцу Гарошку: «Трэба выкупіць для Беларускай Місіі Марыян Гаўз. Гэта вельмі важная, але і цяжкая справа». Думка надзвычай смелая, бо ў тым часе Сіповіч не меў ніякіх фондаў і даходаў, апрача маленькай дапамогі ад Усходняй Кангрэгацыі. Але калі яму нельга было адмовіць у смеласці ды ініцыятыве, дык, відаць, не хапіла дасведчання і разважнасці, каб дакладна абмеркаваць праект і такім чынам пазбегнуць у будучыні — калі не для сябе, то для сваіх наступнікаў — значных прыкрасцяў і канфліктаў.

У вышэйзгаданым лісце можна вылучыць два істотныя пункты:

1. Дом купляецца для Беларускай місіі;
2. Гэта будзе законны дом (кляштар) беларускіх айцоў марыянаў, якім даручаная праца Місіі.

Тут адразу кідаецца ў вочы адсутнасць яснага падзелу між дзвюма ўстановамі: Беларускай каталіцкай місіяй і законам айцоў марыянаў. Місію засноўвала Кангрэгацыя для Усходніх Цэркваў дзеля пастырскай апекі над беларусамі-каталікамі ў

Англіі. Першым яе рэктарам быў айцец Часлаў Сіповіч, які належаў да закону айцоў марыянаў. Але гэта не азначала, што ягоным наступнікам таксама мусіў быць марыянін, як гэта бачылася Сіповічу. І вось тады паўставала пытанне, хто ўласнік Марыян Гаўз: калі Місія, то марыяне заставаліся без свайго кляштара; калі ж марыяне, дык Місія магла апынуцца на вуліцы. Магчыма, праз гэтую юрыдычную няяснасць марыянскія ўлады ў Рыме не спяшаліся з адказам. Пачакаўшы адзін год, 30 кастрычніка 1953 г. Сіповіч паўтарыў сваю просьбу, але ў крыху змененай форме: «Я заўсёды цвердзіў і цверджу, што сужыццё і супрацоўніцтва дзвюх установаў, менавіта беларускай і расейскай, у адным доме практычна немагчымае… Каб развязаць гэтае пытанне, я зрабіў прапанову ўважаць Марыян Гаўз як ядро законнага дома беларускіх айцоў марыянаў (Ad solvendam questionem proposui “Marian House” qua cellulam Domus Religiosae Marianorum Alboruthenorum considerare) і як такі купіць яго ад летувіскіх айцоў марыянаў на працягу чатырох гадоў за цану 8200 фунтаў. Калі будзе на гэта згода, пакорна прашу Генерала і Галоўную Раду даць дазвол на зборку грошай».

Гэтым разам яму не давялося доўга чакаць. 31 снежня 1953 г. ён атрымаў ліст, падпісаны генералам марыянаў Уладзіславам Мрочакам і галоўным сакратаром Янам Сакявічусам: «Каб задаволіць тваю просьбу за 30 кастрычніка 1953 г., пасля атрымання згоды нашай Рады 25 лістапада 1953 г., мы даём табе дазвол купіць у Лондане маёмасць летувіскай правінцыі, што называецца “Марыян Гаўз”, з мэтаю заснаваць у будучыні законны дом беларускіх айцоў марыянаў (ut ibi in futuro Domus Religiosa Marianorum Alboruthenorum fundetur), і дзеля асягнення гэтай мэты мы даём табе права збіраць грошы, пад умоваю, што ўсё будзе згодна з патрабаваннямі нормаў святых канонаў і нашых канстытуцыяў».

Апошнія два дакументы ясна паказваюць, што купля Марыян Гаўз мела быць прыватнай справай між беларускімі і летувіскімі марыянамі. Пра Беларускую каталіцкую місію няма нават згадкі.

Атрымаўшы дазвол ад сваіх марыянскіх уладаў, Сіповіч з вялікім імпэтам пачаў збіраць грошы. Быў створаны Фонд Беларускай каталіцкай місіі (з назовамі па-ангельску *The Whiteruthenian Catholic Mission Fund* і па-французску *Le Fond de la Mission Catholique Bielorussienne*) пад патранатам архібіскупа Уэстмінстэрскага кардынала Грыфіна. Ганаровы камітэт Фонду складаўся з 15 беларусаў ды іхніх прыяцеляў з розных краінаў свету на чале з біскупам Баляславам Слосканам. Ад імя

Фонду надрукавалі падпісныя лісты «дабрадзеяў Марыян Гаўз» (Benefactors of Marian House, Bienfaiteurs de Marian House) для збірання ахвяраў. На адвароце лістоў падаваліся тлумачальныя тэксты на трох мовах: ангельскай, французскай і беларускай. Вось беларускі тэкст: «Беларуская каталіцкая місія, якая вядзе ад 1947 г. душпастырскую, харытатыўную і культурна-грамадзкую працу сярод беларусаў у В. Брытаніі, ня мае дагэтуль собскага прыпынку. Таму з дазволу і багаславенства царкоўных уладаў прыступіла ў гэтым годзе 1954 — асабліва пасьвячаным Найсьвяцейшай Дзеве Марыі — да зборкі грошы на куплю до му, у якім яна сяньня знаходзіцца, а які сваім імям мае славіць Марыю: MARIAN HOUSE. На закуп Марыян Гаўз трэба восем тысяч ангельскіх фунтаў. Гэтым зьвяртаемся з гарачай просьбай дапамогі да суродзічаў беларусаў і да ўсіх тых, хто разумее патрэбы беларускага жыцьця на чужыне. Кожнага году ў дзень Унебаўзяцьця Н. Д. Марыі, 15 жніўня, за ўсіх дабрадзеяў Марыян Гаўз будзе адпраўлена сьвятая Багаслужба».

Побач з афіцыйнай акцыяй айцец Сіповіч звяртаўся асабіста да некаторых больш вядомых асобаў, просячы іхняй дапамогі. 30 ліпеня 1954 г. ён пісаў Амбражэю Ондраку, абату бенедыкцінскага манастыра ў Ляйлі каля Чыкага: «На жаль, да сённяшняга дня Місія наймае памяшканне. У гэтым годзе, з дазволу маіх старэйшых у Рыме, Яго Эмінэнцыі Кардынала Грыфіна і Біскупа Слоскана, Апостальскага Візітатара для беларусаў, я распачаў падпіску на фонд куплі дома для Беларускай Місіі ў Лондане. Асмельваюся звярнуцца да вас з просьбай…»

25 кастрычніка 1954 г. айцец Сіповіч пісаў беларускаму святару ў Нямеччыне Уладзіміру Салаўю: «Вялікі дзякуй за тваю дасюлешнюю дапамогу для Беларускай каталіцкай місіі. Несумненна, развіццё і лёс Місіі блізкія твайму сэрцу, і таму асмельваюся, пачэсны Ойча, прасіць яшчэ адной ласкі, менавіта каб ты прыйшоў з дапамогаю набыць дом для Місіі (ut adiutorio in emenda domo pro Missione venias). Каб набыць гэты дом, які б задаволіў патрэбы Місіі, трэба 8000 фунтаў. Зборка грошай, пад патранатам Яго Эмінэнцыі Кардынала Грыфіна, арцыбіскупа Уэстмінстэрскага, ужо пачалася».

Сіповіч прасіў дапамогі ў айца Вэрэнфрыда ван Страатэна, заснавальніка арганізацыі «Дапамога святарам з Усходу» (Oostpriesterhulp). У лісце за 31 жніўня 1956 году ён пісаў: «Наступная і вельмі важная справа — купля ўласнага дома для Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі (Die nächste und auch sehr wichtige Sache ist der Ankauf des eigenes Hauses für die

Weissruthenische Katholische Mission in London)… Звяртаемся да цябе, дарагі Ойча, і праз цябе да ўсіх дабрадзеяў з просьбай дапамогі… Купля дома для Беларускай каталіцкай місіі не толькі запэўніць існаванне Місіі, але будзе служыць як духоўны цэнтр для беларусаў усёй Еўропы».

У адказ Ван Страатэн прыслаў 357 фунтаў, што ў той час было значнай сумай.

Ва ўсіх гэтых просьбах і зваротах адсутнічае якая-колечы згадка пра марыянаў. Таму ў дабрадзеяў складалася ўражанне, што дом, на які яны давалі ахвяры, будзе ўласнасцю Беларускай каталіцкай місіі. Пра сапраўдны стан рэчаў не ведалі нават самыя блізкія супрацоўнікі айца Сіповіча. Так, 24 снежня 1954 г. «Catholic Herald» надрукаваў ліст старшыні БАКА «Рунь» Язэпа Пазняка пад назовам «Лонданская Місія» (A London Mission). Яго аўтар высока ўзносіць дзейнасць Беларускай каталіцкай місіі, якая «часова знаходзіцца ў Марыян Гаўз, Гольдэн Авеню, Лондан № 12 (temporarily established at Marian House, Holden Avenue, London №. 12)… пад разумным і заўсёды прысутным у патрэбе, поўным спагады кіраўніцтвам айца Сіповіча». Далей Язэп Пазняк працягвае: «каб забяспечыць будучыню гэтай карыснай працы… патрэбныя фонды, каб набыць Марыян Гаўз як сталы цэнтр гэтай Місіі» (funds are necessary to acquire Marian House as a permanent headquarters for this Mission).

Айцец Сіповіч звяртаўся таксама непасрэдна з просьбаю дапамагчы да кардыналаў Спэльмана з Нью-Ёрка, Стрытча з Чыкага і Капэлля з Буэнас-Айрэса. Усе тры лісты, з датаю 31 ліпеня 1954 г., мелі аднолькавы змест і пачыналіся такім сказам: «У выніку рэлігійнага пераследу ў нашай бацькаўшчыне Беларусі, вялікая колькасць уцекачоў, маіх суродзічаў… пасялілася ў В. Брытаніі». Рэлігійны пераслед тады сапраўды існаваў у Беларусі і ва ўсёй Усходняй Еўропе, дзе пры ўладзе знаходзіліся камуністы. Аднак не з гэтай прычыны бальшыня ўцекачоў пакінула сваю бацькаўшчыну. Таму тое, што казаў Сіповіч, гучала непераканаўча і выглядала на спробу выкарыстаць рэлігійныя пачуцці асобаў, да якіх ён звяртаўся.

У лісце да кардынала Леркара з Балонні за 29 чэрвеня 1955 г. Сіповіч, папрасіўшы дапамогі, «каб набыць дом для маёй Місіі (per acquistare la casa per mia Missione)», працягваў: «Маю ініцыятыву ўхвалілі і падтрымалі мае непасрэдныя начальнікі, менавіта Яго Эмінэнцыя кардынал Грыфін і Яго Эксцэленцыя біскуп Баляслаў Слоскан». Сіповіч не належаў да Уэстмінстэрскай дыяцэзіі, і таму кардынал Грыфін не мог быць ягоным

непасрэдным начальнікам: імі былі генерал марыянаў і сакратар Усходняй Кангрэгацыі. Ніводзін з іх не ўваходзіў у ганаровы камітэт куплі Марыян Гаўз.

Лісты да кардыналаў не далі чаканых вынікаў і прынеслі айцу Сіповічу толькі клопаты. Кардынал Спэльман з Нью-Ёрка пераслаў ягоны ліст і спіс ахвярадаўцаў ва Усходнюю Кангрэгацыю. Кардыналам кіравала звычайная абачлівасць: напэўна, ён атрымліваў шмат падобных просьбаў і, не ведаючы асабіста Сіповіча, не жадаў, каб ягоная ахвяра трапіла ў не тыя рукі. Айцец Сіповіч не чакаў такога павароту справы. На збор грошай дзеля патрэбаў Місіі мусіла даць дазвол Усходняя Кангрэгацыя. Сіповіч яго не атрымліваў, бо, хоць у звароце да ахвярадаўцаў гаварылася пра куплю дома для Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду, у сапраўднасці (пра што не казалася) ён меў заставацца ўласнасцю марыянаў. Такім чынам, Сіповіч трапіў у досыць непрыемную сітуацыю. Відаць, каб пазбегнуць падобных прыкрасцяў у будучыні, у сваім лісце за 28 жніўня 1954 г. да айца Яна Тарасевіча Сіповіч настойваў, каб беларусы ў Чыкага абавязкова пайшлі да кардынала Стрытча, бо, як ён пісаў, «калі вы ня пойдзеце і ня выясьніце справы, я баюся, што ён мой ліст і просьбу перашле ва Ўсходнюю Кангрэгацыю ў Рым, і тады страціцца шмат часу і паперы на розныя выясьненьні».

Амаль праз тры гады, 15 траўня 1957 г., Сіповіч пісаў да доктара Станіслава Грынкевіча ў звязку з прапановай аднаго амерыканскага святара, Мартына МакДонафа, выстарацца яму дапамогу ў біскупа Філадэльфіі: «Вяртаючыся да справы Марыян Гаўз… жадаю… зьвярнуць увагу на некаторыя важныя абставіны. Трэба помніць, што на звычайную душпастырскую працу сярод беларусаў я атрымоўваю дапамогу сталую ад Айца Сьв. праз Усходнюю Кангрэгацыю. Гэтай дапамогі, аднак, мне зусім не выстарчае на куплю дому. Калі, аднак, а. Марцін МакДонаф жадае пайсьці да біскупа і прасіць мне аб сталую дапамогу, то трэба перш упэўніцца (у дыскрэтнай гутарцы з а. Марцінам), ці той біскуп не пачне наводзіць «спраўкі» адносна маёй Місіі і розных яе запамогаў. Я не баюся нічога, але гэтакія спраўкі звычайна вядуць у Рым, а Рым кажа: “Прысылайце нам грошы, а мы будзем дапамагаць сваім сьвятаром”. Гэтак мне ўжо здарылася з кард. Спэльманам, якому паслаў лісту, і тую лісту той пераслаў у Рым. А Рым так і астаўся нясьпешлівым Рымам…»

Такім чынам, давялося, хоцькі-няхоцькі, даваць тлумачэнні для Усходняй Кангрэгацыі. 30 снежня 1954 г. айцец Сіповіч пісаў

кардыналу Тысэрану: «Прынятае рашэньне заснаваць у Лёндане “Новую Друю”, але каб зрабіць гэта, трэба перш набыць адпаведны дом. Праблема вырашылася, бо летувіскія айцы (марыяне) прыйшлі нам з дапамогаю і выказалі згоду перадаць маёмасьць “Марыян Гаўз” на выгадных для нас умовах… Дзеля яснасьці справы пасылаю неабходныя дакумэнты і прашу пакорна ў Вашай Эмінэнцыі дапамогі ў куплі дому ў залежнасьці ад вашага меркаваньня і шчодрасьці».

Тысэран адказаў 25 лютага 1955 г.: «У справе куплі дома для Місіі, паколькі кантракт мае праходзіць нутраной справай між дзвюма часткамі таго самага закону (між летувіскімі марыянамі рымскага абраду і беларускімі марыянамі візантыйскага абраду), Святая Кангрэгацыя (Усходняя. — *А. Н.*) не мае ў гэтым ніякай асаблівай зацікаўленасці; калі б, з другога боку, набытак рабіўся для Беларускай каталіцкай місіі візантыйскага абраду ў Англіі *sic et simpliciter* (так і не інакш. — *А. Н.*), тады і толькі тады гэтая Святая Кангрэгацыя магла б разгледзець магчымасць зрабіць свой унёсак»*.

Беларуская грамадскасць на Захадзе пасля Другой сусветнай вайны складалася галоўным чынам з «новых» эмігрантаў, г. зн. тых, што засталіся на Захадзе як уцекачы, бо не жадалі ці не маглі вярнуцца на Бацькаўшчыну, якая тады ўваходзіла ў Савецкі Саюз. У большасці сваёй маладыя людзі, яны пачыналі новае жыццё ў цяжкіх абставінах. Тым не менш вызначаліся глыбокім разуменнем і ахвярнасцю дзеля беларускай справы. У прыватнасці, яны добра разумелі вартасць свайго рэлігійнага цэнтра, і таму многія, каталікі і праваслаўныя, шчодра адгукнуліся на заклік дапамагчы набыць Марыян Гаўз. Калі б, аднак, яны ведалі, што Марыян Гаўз меў застацца ўласнасцю айцоў марыянаў, то адрэагавалі б прыблізна гэтак жа, як і кардынал Тысэран. Для малодшага пакалення словы «беларускія марыяне» нічога не азначалі. Старэйшыя маглі памятаць лёс Друі…

Бальшыні сяброў ганаровага камітэта для куплі Марыян Гаўз ужо няма сярод жывых, таму цяжка сказаць, ці ведалі яны

* «Per l’acquisto della Casa della Missione, siccome il contratto dovrebbe passarsi nell’interno di codesta Congregazione (dai Mariani Lituani di rito latino ai Mariani Biancoruteni di rito bizantino), la S. Congregazione non ha un particolare interesse di favorire: se, invece, l’acquisto fosse fatto in favore della Missione Biancorutena di rito bizantino “sic et simpliciter”, soltanto allora la S. Congregazione potrebbe esaminare le sue disponibilita in vista della concesione di un contributo».

пра сапраўдны стан рэчаў. Усё паказвае на тое, што не. Адзін з сяброў камітэта, доктар Вітаўт Рамук з Чыкага, даслаў 2 снежня 1998 г. ліст аўтару гэтых радкоў, у якім піша: «У 1953–1954 гг. я жыў у Лёндане… У 1954 г. Айцец Сіповіч спытаўся ў мяне, ці я згадзіўся б быць сябрам камітэту куплі Марыян Гаўз як сталага памешканьня для Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі. Я згадзіўся з гатовасьцю, бо ідэя ўласнага рэлігійнага цэнтру была вельмі даспадобы мне і іншым беларусам… Таму для мяне быў вялікі шок, калі нядаўна даведаўся, што Марыян Гаўз застаўся ўласнасьцю айцоў марыянаў, а не Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі. Выглядае, што спачатку мне і іншым не сказалі ўсіх фактаў. Я ўпэўнены, што, калі б мы ведалі праўду, наша рэакцыя на заклік была б зусім іншай. Як каталік і беларус я вельмі пранятый тым, што я даведаўся. Я заўсёды верыў, што жаданьні ахвярадаўцаў павінны быць выкананымі. Не хачу абвінавачваць нікога, але выглядае, што беларусам не сказалі праўды. Асабіста ў мяне такое адчуваньне, быццам мяне выкарысталі».

Іншыя беларусы мелі яшчэ больш сціслыя весткі. 12 верасня 1953 г., яшчэ да атрымання дазволу на збор грошай, айцец Сіповіч пісаў А. Касцюкевічу ў Бафалоў у ЗША: «Цяпер дазвольце мне зьвярнуцца да вас з просьбай. Пасьля доўгіх разважаньняў я пастанавіў выкупіць Марыян Гаўз ад літоўцаў… Таму абгаварыўшы з усімі знаёмымі суродзічамі справу, я адважыўся распачаць зборку грошы на выкуп з мэтай зрабленьня ў ім беларускай бібліятэкі, архіву, мейсца на розныя зборкі. Ужо мне некаторыя беларусы злажылі ахвяры, некаторыя задэкляравалі… Я ведаю, што вы небагатыя і што кожны грош цяжка запрацаваны, але асьмельваюся да вас зьвярнуцца з просьбай аб злажэньне ахвяры на выкуп Марыян Гаўз з той надзеяй, што Вы мне дапаможаце і што я Вам у будучыне пастараюся чымколечы адплаціцца».

Ад маладых гадоў жыццё айца Сіповіча было цесна звязанае з Друяй. Ён застаўся да канца ёй верным і эмацыйна з ёю звязаным. З цягам часу ў ягоным уяўленні значэнне Друі ў рэлігійным жыцці Беларусі непамерна вырасла. Адсюль і спроба заснаваць «Новую Друю». Наогул, аднак, ён трымаў гэтую сваю мару ў сакрэце і дзяліўся ёю толькі з нешматлікімі даверанымі асобамі. 27 жніўня 1954 г. ён пісаў айцу Міхалу Урбановічу, беларускаму марыяніну, які правёў амаль усё сваё жыццё ў працы сярод летувісаў і палякаў у Амерыцы: «Марыян Гаўз мае быць Новай Друяй, якая, зруйнаваная і зьбяшчэшчаная бязбожнікамі, на векі будзе ганарыцца, што ў ёй працавалі сьвятыя нашы айцы беларусы — Абрантовіч, Цікота, Германовіч, якія аддалі жыцьцё і кроў

за веру. Я, як той недабітак, з Божай помаччу хацеў бы традыцыі Друі, маіх дарагіх Айцоў, якія мяне выхоўвалі, захаваць, і таму трэба залажыць дом для марыянаў беларусаў на чужыне». Зрэдку ідэя «Новай Друі» вельмі асцярожна згадваецца ў перапісцы з іншымі беларусамі каталікамі, напрыклад у лісце за 1 кастрычніка 1954 г. да доктара Станіслава Грынкевіча ў Кліўленд: «Марыян Гаўз — гэта Новая Друя. Тут павінны знайсьці прыпынак беларускія архівы, музэй і т. п. Вельмі цяжка ўрэчаісьніць гэты плян, але пры помачы Божай ёсьць магчыма».

Ахвярадаўца мае поўнае права ведаць, куды ідуць ягоныя ахвяры, і дамагацца, каб іх скарыстоўвалі на прызначаную мэту. Будучыя дабрадзеі Марыян Гаўз нічога не ведалі пра «Новую Друю», таму цяжка пазбыцца ўражання, што Сіповіч вельмі ашчадна абышоўся з праўдаю.

У 1954 г. беларускіх марыянаў у Марыян Гаўз было двое: 40-гадовы айцец Сіповіч і брат Мікалай Баговіч, якому споўнілася 51. Спадзявацца на рост у будучыні практычна не даводзілася. Адзіны кандыдат, Янка Садоўскі, які вучыўся ў Рыме, пакінуў марыянаў у 1953 г. Не выпадала разлічваць і на прыезд марыянаў з Польшчы, дый усе яны належалі да рымскага (лацінскага) абраду і мелі за плячыма ўжо шмат гадоў. Аднак гэта не знеахвочвала Сіповіча. Ён пачаў збіраць грошы на Марыян Гаўз яшчэ ў 1953 г., раней, чым атрымаў дазвол ад сваіх законных уладаў. Так, у чэрвені таго года ён адведаў беларусаў у Ковентры, Бірмінгеме, Ньюўарку і Ньюпарце і вярнуўся дамоў з велізарнай сумай… 6 фунтаў. У верасні а. Сіповіч быў у Ірландыі. Паездку зладзілі сябры «Легіёна Марыі», якія часта прыходзілі на Гольдэн Авэню. Візіт не лічыўся пастырскім, бо ў Ірландыі беларусы не пражывалі. Тая спроба сабраць грошы на Марыян Гаўз скончылася нічым. Другая паездка, у 1957 г., атрымалася не лепшай, хаця ён пазнаёміўся з заснавальнікам «Легіёна Марыі» Франкам Дафам, які даў на Марыян Гаўз 2 фунты. Айцец Сіповіч меў таксама аўдыенцыю ў прэзідэнта Ірландыі Дэ Валера, але як толькі згадаў пра дапамогу, той адаслаў яго да ірландскіх біскупаў. Атрымаць аўдыенцыю ў Дублінскага архібіскупа не выйшла, а генеральны вікарый прыняў яго «ветліва, але холадна».

Акцыя збору грошай сур’ёзна распачалася ў другой палове 1954 г. Беларусы і іхнія прыяцелі шчодра адгукнуліся на заклік Сіповіча, і ўжо на пачатку 1956 г. ён здолеў сплаціць летувісам 1000 фунтаў, а яшчэ праз год аддаў ім другую тысячу. У верасні 1957 г. Сіповіч паехаў на тры месяцы ў Амерыку. Мэты паездкі не абмяжоўваліся зборам грошай, але пра гэта ён нідзе не

забываўся. Вярнуўся ў Лондан 13 снежня, прывёзшы з сабою 6500 даляраў — больш як 2000 фунтаў паводле тагачаснага абменнага курсу. У лютым 1959 г. Сіповіч сплаціў летувіскім марыянам ужо 5200 фунтаў. 8 ліпеня 1959 г. летувіскія марыяне пастанавілі: «Большая частка грошай для летувіскіх айцоў была сплочаная а. Сіповічам MIC (дагэтуль заплочана 5200 фунтаў, застаецца да заплаты 3000 фунтаў), таму было аднагалосна пастаноўлена перадаць тытул уласнасці “Марыян Гаўз” беларускім марыянам». Галоўная марыянская рада ў Рыме 21 ліпеня зацвердзіла пастанову «перадачы тытулу ўласнасці маёмасці, што называецца “Марыян Гаўз”, ад летувіскай правінцыі да айцоў марыянаў беларускага паходжання».

Такім чынам, набыццё Марыян Гаўз для Беларускай каталіцкай місіі набліжалася да завяршэння. Толькі Місія як раней, так і цяпер нічога не мела. Дом заставаўся ўласнасцю закону марыянаў, бо «перадача ўласнасці» летувіскімі марыянамі беларускім была іхняй ўнутранай справай. За яе заплацілі беларусы з усяго свету і іхныя прыяцелі. Праўда, некаторыя падазравалі, што тут нешта не зусім у парадку. 1 чэрвеня 1955 г. Сіповіч пісаў Віктару Іваноўскаму ў Лондан у Канадзе: «Асобным лістом пасылаю вам лісту на Марыян Гауз. Убачыўшы яе, вы зразумееце, колькі трэба было далажыць стараньняў, каб атрымаць той высокі Патранат Уэстмінстэрскага Кардынала і іншых асоб! Ужо крыху сабраў грошы, але вельмі мне далёка да канца. Буду Вам вельмі ўдзячны, калі знойдзеце спосаб уцягнуць на лісту хаця некалькі ахвярадаўцаў. Верце, даражэнькія, што ўсё гэта робіцца на славу Бога і нашай гаротнай Беларусі». Відаць, «высокі патранат» не зрабіў вялікага ўражання на Іваноўскага, і ён адказаў айцу Сіповічу (ліст без даты): «На падпісную лісту я ўжо сабраў звыш 21 даляраў… Калі грошы вам так пільна не патрэбныя, то я хацеў бы іх затрымаць і выслаць большай сумай, каля 50 даляраў, бо маю надзею, што змагу сабраць досьць парадачную суму тады, калі вы выясьніце праз газэту «Бацькаўшчыну», на каго гэны дом мае быць запісан і г.д. Бачыце, у мяне людзі пытаюць, і нат Др Рагуля катэгарычна патрабуе шырэйшага выясьненьня. Чы гэты дом будзе належаць для беларусаў каталікоў як цяпер за вашым жыцьцём, так і пасьля вашага адыходу ад рэлігійнага і наагул жыцьця».

Невядома, ці былі яшчэ іншыя лісты падобнага зместу, але праз год у газеце «Бацькаўшчына» (выходзіла ў Мюнхене) за 3 чэрвеня 1956 г. з’явіўся наступны ліст Сіповіча: «На просьбу некаторых беларусаў падаю да агульнага ведама наступнае: Дом

у Лёндане (пры Holden Avenue, № 12), названы “Марыян Гауз”, у якім ад 1948 г. знаходзіцца беларуская каталіцкая капліца, прызначаецца для наступных мэтаў:

1) На памешканьне законьнікаў марыянаў-беларусаў;

2) На рэлігійнае абслугоўваньне беларусаў-каталікоў у В. Брытаніі;

3) На бібліятэку, архівы й музэй, вылучна беларускага зьместу або зьвязанага з беларусаведай.

Юрыдычна справа выглядае наступна: галоўная ўлада айцоў марыянаў дала фармальна поўную згоду на куплю Марыян Гауз для вышэй выказаных мэтаў — з тэй, зразумела, умовай, што знойдуцца сродкі на сплату коштаў куплі дому. Няма ніякіх сумлеваў, што Марыян Гауз прызначаецца для беларусаў, і за імі назаўсёды застанецца. Сяньня ў Эўропе пражывае 12 беларускіх сьвятароў-марыянаў, і яны ня маюць змогі пакуль што сабрацца і працаваць разам. Але, каб навет і была гэтая магчымасьць, няма дзе зьбірацца, пакуль ня купіцца Марыян Гауз. Хто із старэйшых беларусаў прыгадвае манастыр айцоў марыянаў у Друі і іхную працу сярод беларускай моладзі й сялян, той будзе ведаць, што Марыян Гауз мае служыць тым самым мэтам, хоць і ў іншых — шмат цяжэйшых абставінах выгнаньня. Ад часу, калі ўсе юрыдычныя фармальнасьці былі выясьненыя, пачалася зборка грошай на выкуп Марыян Гауз. Дагэтуль было сабрана і выплачана собсьніку дому роўна тысяча фунтаў. Яшчэ трэба сем тысяч фунтаў, якія я павінен сабраць на працягу трох год»*. Допіс сканчаецца заклікам складаць ахвяры на Марыян Гаўз.

Гэты ліст выклікае неадназначныя пачуцці. Кідаецца ў вочы адсутнасць якой-колечы згадкі пра Беларускую каталіцкую місію, тым часам як у падпісным лісце ахвярадаўцаў на Марыян Гаўз няма ні слова пра марыянаў. Прачытаўшы сказ «няма сумлеву, што Марыян Гауз прызначаецца для беларусаў», хочацца спытацца, чаму наогул павінны ўзнікаць нейкія сумневы. Аўтар замоўчвае, каму належаў дом. З 10 (не 12) марыянаў «у Еўропе» толькі адзін, айцец Сіповіч, быў на Захадзе, усе іншыя — у Польшчы. Двух з іх, Германовіча і Падзяву, толькі год перад тым выпусцілі са зняволення ў Савецкім Саюзе. Тры айцы, выселеныя з Друі ў 1938 годзе — Язэп Дашута, Віталіс Хамёнак і Казімір Смулька — ужо не маглі працаваць праз свой сталы век і благое здароўе. Дашута пісаў Сіповічу 28 сакавіка 1956 г.:

* Купля «Marian House» у Лондане // Бацькаўшчына. Мюнхен, 03.06.1956. № 23. С. 4.

«Я яшчэ да працы не надаюся… Пасьля другога завалу сэрца ідзе трудней, але і так ніхто не спадзяваўся, што выжыву». Айцец Германовіч у 1955 г. «знайшоў а. Смульку ўжо поўным інвалідам і нявідушчым»*. Айцец Віталіс Хамёнак быў найстарэйшы і, мусіць, найздаравейшы з трох. Але й ён пісаў Сіповічу 14 сакавіка 1961 г.: «Аб сабе пісаць ня маю нічога новага. Старэю. Дакучае рэўматызм, артрэтызм, скляроза і печань, але прытрымліваюся ў ядзе і зажываю адпаведныя лякарствы і пры помачы Божай неяк кратаюся і працую».

Заставаліся яшчэ чатыры колішнія друйскія клерыкі — Фелікс Журня, Францішак Апячонак, Баніфат Саруль і Антон Лось — усе, апроч аднаго, крыху малодшыя за Сіповіча. Усе чатыры давучваліся ў Польшчы і атрымалі святарства ў 1943–1946 гг. Сіповіч думаў, што яны, як і ён, засталіся шчырымі беларусамі і мелі жаданне працаваць сярод свайго народа. Але насамрэч сталася іначай. Пад канец 1956 г. Сіповіч усталяваў сувязь з адным з іх, Францішкам Апячонкам. 19 лютага 1957 г. Сіповіч даслаў Апячонку пакет са святымі абразкамі, якія той прасіў, падаючы іх кошт як 10 імшальных інтэнцыяў. 5 сакавіка Апячонак адаслаў пакет назад з кароткім лістом, зразумела, па-польску: «Пакет адсылаю назад… Інтэнцыяў, зразумела, не служу, хіба толькі адну і то на інтэнцыю Ксяндза (г. зн. Сіповіча. — *А. Н.*), каб Ксёндз быў больш сумленны» (Paczkę odsyłam… Intencji oczywiście nie odprawiam, najwyżej jedną i to w Księdza intencji, aby Ksiądz był uczciwszy). Сіповіч адказаў 15 сакавіка: «Мне вельмі прыкра, што пасля гэтак доўгага чакання нейкай весткі ад сваіх, атрымаў гэткі няветлівы ліст». Апячонак адгукнуўся па-польску 8 красавіка: «Калі ідзе пра лучнасць са сваімі, то мне здаецца, што ўся віна на баку тых, што за мяжою» (Jeżeli idzie o łączność ze swoimi, to mi się zdaje, że całą winę ponoszą ci, którzy są za granicą). Было ясна, што Апячонак ды іншыя колішнія друйскія клерыкі маглі сказаць, што для іх, як у той прыказцы на чыстай трасянцы, «курыца ня пціца, Польшча не заграніца». Яны і не мелі ахвоты, і не разумелі патрэбы працаваць сярод беларусаў, асабліва на эміграцыі. Адзіны вынятак — айцец Фелікс Журня, для якога польская курыца была «пціцаю».

Айцец Сіповіч звяртаўся 9 чэрвеня 1956 г. да Іваноўскага: «Я ня толькі ня гневаюся, але ўдзячны вам, што мяне падбухторылі напісаць у “Бацькаўшчыну” пра Марыян Гауз. Я ўжо гэта

* Германовіч Я. Мае прыяцелі — а. Казімір Смулька // Божым шляхам. Лондан, 1966. № 5 (98). С. 15.

зрабіў… Як убачыце з майго выясьненьня, што няма сумніву, што Марыян Гауз астанецца за беларусамі нават па маёй сьмерці».

Ліст у «Бацькаўшчыну» пісаўся ў разліку на тое, каб супакоіць беларусаў. У сапраўднасці ён нічога не выясніў і выклікаў больш пытанняў, чым даў адказаў.

Некалькі словаў пра 3000 фунтаў, якія заставалася сплаціць летувіскім марыянам у 1959 г. У тым часе прыплыў ахвяраў моцна зменшыўся (што, пасля пяці гадоў, зусім зразумела). Доўг пакрываўся з невялікай гадавой дапамогі для Беларускай каталіцкай місіі ад Усходняй Кангрэгацыі. Дарэчы, у гадавых грашовых справаздачах беларускіх марыянаў у іхнюю генеральную раду ў Рым у 1960-х гг. гэтая дапамога значыцца як «Subsidium Sacrae Congregationis Orientalis pro Marian House» (дапамога Святой Усходняй Кангрэгацыі для Марыян Гаўз). Наступная табліца, складзеная на падставе марыянскіх рахунковых кніг (асобных рахунковых кніг для Місіі не вялі), гэта наглядна паказвае:

| *Дапамога Усходняй Кангрэгацыі* | | *Выплата за Марыян Гаўз* | |
|---|---|---|---|
| *Дата* | *Сума ў фунтах* | *Дата* | *Сума ў фунтах* |
| Студзень 1960 г. | 500 | 25 студзеня 1960 г. | 500 |
| 10 сакавіка 1961 г. | 500 | 10 сакавіка 1961 г. | 500 |
| 3 красавіка 1962 г. | 500 | 3 красавіка 1962 г. | 500 |
| 1 студзеня 1963 г. | 500 | 1 студзеня 1963 г. | 500 |
| 10 лютага 1964 г. | 500 | 11 лютага 1964 г. | 500 |
| 23 студзеня 1965 г. | 750 | 26 студзеня 1965 г. | 250 |
| 9 лютага 1966 г. | 500 | 9 лютага 1966 г. | 250 |
| Усяго | 3750 | | 3000 |

Такім чынам, Усходняя Кангрэгацыя сталася без свайго ведама і жадання дабрадзеем закону марыянаў….

Часлаў Сіповіч адрозніваўся вялікай смеласцю і ініцыятывай, што брала вытокі ў ягонай шчырай веры. Ён быў таксама моцна прывязаны да закону марыянаў і глыбока яму ўдзячны. На жаль, гэтая прывязанасць, заснаваная на эмоцыях, часта не дазваляла яму цвяроза зірнуць на некаторыя рэчы і бачыць іх у існым святле. Айцец Сіповіч марыў заснаваць «Новую Друю», кляштар беларускіх айцоў марыянаў, якія б «назаўсёды» кіравалі Беларускай каталіцкай місіяй у Англіі. Ён не мог нават думкі дапусціць, што аднаго дня ў Марыян Гаўз не застанецца ніводнага беларускага святара-марыяніна. На жаль, тое, чаго ён

не чакаў, здарылася, і Місія апынулася ў вельмі цяжкім, каб не сказаць безвыходным, становішчы.

## У Господнім вінаградніку

Беларуская эміграцыя пасля Другой сусветнай вайны была першай масавай нацыянальна свядомай эміграцыяй. Калі стала зразумела, што чакаць хуткага вяртання на бацькаўшчыну не выпадае, яна пачала арганізоўваць сваё нацыянальнае жыццё на чужыне. У эміграцыі апынуліся вядомыя пісьменнікі і паэты (Наталля Арсеньева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей), вучоныя і журналісты (Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч, Леў Гарошка, Станіслаў Станкевіч), кампазітары (Мікола Куліковіч, Мікола Равенскі, Алесь Карповіч), мастакі (Пётра Мірановіч, Віктар Жаўняровіч, Міхась Наўмовіч) ды інш. Яны зрабілі ўсімі прызнаны ўнёсак у развіццё беларускай культуры.

Рэлігійныя справы займалі значнае месца ў жыцці беларускай дыяспары. Гэта было тым больш важна, што на бацькаўшчыне рэлігійнае жыццё, не дарэшты знішчанае камуністычнай уладаю, праходзіла ў чужой беларусам форме. Праваслаўная царква ў Беларусі падпарадкоўвалася расейскаму Маскоўскаму Патрыярхату — таму там пра казанне ці навуку закону Божага ў беларускай мове нават не згадвалі. Польскія і спаланізаваныя каталіцкія святары ператварылі Каталіцкую царкву ў Беларусі ў бастыён польскасці. Нешматлікія святары, якія адважваліся весці пастырскую працу па-беларуску, мелі больш прыкрасцяў ад сваіх братоў-святароў, чым ад свецкіх уладаў. У найгоршым становішчы апынулася Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква. Расейскія царскія ўлады гвалтоўна знішчылі яе ў 1839 г. І надалей усе чужацкія рэжымы, якія іх замянілі, рабілі ўсё, каб не даць ёй адрадзіцца. Такім чынам, беларускай дыяспары выпала бараніць права свайго народа чуць Вестку Збаўлення і славіць Бога ў роднай мове, а нешматлікім грэка-каталіцкім святарам і вернікам — захаваць жывою ідэю Беларускай грэка-каталіцкай царквы.

Айцы Гарошка і Сіповіч абодва былі грэка-каталіцкімі (уніяцкімі) святарамі, або, як увайшло ў моду іх называць, святарамі візантыйска-славянскага абраду. Абодва былі беларускімі патрыётамі. Аднак цяжка знайсці двух людзей, больш адрозных характарам і выхаваннем. Айцец Гарошка з маленства рос ва ўсходнім (візантыйска-славянскім) абрадзе і атрымаў духоўнае ўзгадаванне ва Украінскай грэка-каталіцкай акадэміі ў Львове. Святаром ён працаваў у розных беларускіх грэка-каталіцкіх па-

рафіях. Адрозна ад многіх іншых, ён ніколі не адчуваў спакусы стаць «бірытуалістам», г. зн. мець права служыць у залежнасці ад патрэбы (ці выгоды) ва «ўсходнім» ці «лацінскім» абрадах. Чалавек непахіснай веры, Гарошка з вялікай патрабавальнасцю ставіўся да сябе, але са шчырай спагадаю — да іншых. Ён вылучаўся здзіўляльнай працавітасцю і глыбокімі ведамі, якія ўражвалі ўсіх, хто з ім сутыкаўся. Яго блізкія знаёмцы жартавалі, маўляў, айцец Леў мае адну вялікую загану: не ўмее адпачываць. Сваім духоўным складам ён быў вучоны і найлепш працаваў адзін. Ён мог праяўляць упартасць і бескампраміснасць у сваіх поглядах.

Сіповіч, з другога боку, нарадзіўся і выхоўваўся ў рымскім (лацінскім) абрадзе. Няма ніякіх доказаў, каб да 1938 г. ён цікавіўся ўсходнім хрысціянствам. У Рыме ён атрымаў «усходняе» ўзгадаванне ў даволі штучнай атмасферы Русікума, дзе рэдка трапляўся сапраўдны расеец, і мала не хапіла, каб ён апынуўся ў Харбіне.

Сіповіч належаў да закону, які не абвінаваціш ва «ўсходнім» духу. Шмат у чым ён застаўся «лаціннікам» у сваіх поглядах і духоўнасці. Як святар, нават атрымаўшы біскупскую годнасць, Сіповіч застаўся «бірытуалістам», г. зн. мог служыць у візантыйскім і рымскім абрадах*. Ён карыстаў з гэтага права асабліва падчас падарожжаў.

Законнае жыццё не заўсёды давалася яму лёгка. У часе гадавых духоўных практыкаванняў (рэкалекцыяў) 11 кастрычніка

* 30 снежня 1963 г., ужо біскупам і генералам закону марыянаў, Сіповіч пісаў сакратару Усходняй Кангрэгацыі кардыналу Густава Тэста: «Я люблю мой уласны візантыйска-славянскі абрад, і больш люблю служыць у ім св. літургію ды іншыя літургічныя службы, аднак дзеля складаных жыццёвых абставінаў часам думаю, што было б лепш, каб я меў таксама права служыць у лацінскім абрадзе (Ritum meum proprium Byzantino-Slavum amo ac in eo S. Liturgiam caeterasque functiones liturgicas celebrare praefero, attamen ob vitae adversas circumstantias aliquando puto melius fore, ut etiam in ritu latino facultatem celebrandi habeam)… У часе маіх візітацыяў нашых дамоў (кляштараў. — *А. Н.*) як іхняга генерала вельмі часта просяць мяне адслужыць імшу або іншыя літургічныя службы… у лацінскім абрадзе… Калі ж ідзе пра маіх суродзічаў беларусаў, дык каталікі сярод іх у бальшыні ёсць лацінскага абраду, і таму нярэдка здараецца, што мяне таксама просяць адслужыць імшу ў іхнім абрадзе. Разважыўшы ўсё гэта добра, я хацеў бы пакорна прасіць святога айца, каб мне было дадзенае права прыносіць Святое Ахвяраванне таксама ў лацінскім абрадзе, які я даволі добра ведаю, і як святар ужо меў права служыць у абодвух абрадах».

1944 г. ён зрабіў наступныя пастановы: «1) Парадак дня як найсумленьней выконваць; 2) Нічога не рабіць бяз ведама супэрыёраў (старэйшых. — *А. Н.*) або проціў іх жаданьням; 3) старацца пакахаць цноту паслушэнства». У верасні 1945 г. прыйшла пара разгледзець сваё стаўленьне да генерала, г. зн. Бучыса: «Дзеля таго, што век Айца Енэрала вельмі паважны, дзеля таго, што яму можа ў чымсь і сапраўды не ўдавацца — ніколі не крытыкаваць перад другімі яго сказаў, распараджэньняў. Ніколі не займаць вострай пазыцыі, як са мной здаралася».

Сіповіча турбавала пытанне, як сумясціць універсальны характар навукі Хрыстовай з любоўю да свайго народа. Яно паўстала асабліва востра пасля няўдалай спробы суіснавання і супрацоўніцтва ў Марыян Гаўз дзвюх установаў — беларускай і расейскай. На рэкалекцыях у кастрычніку 1950 г. ён узяў да разважання словы святога апостала Паўла: «Я жадаў бы лепш сам быць адлучаным ад Хрыста за братоў маіх, родных целам ізраільцянаў» (Рым 9, 3–4). Пад цытатай Сіповіч напісаў: «Israelitae [= Alborutheni]» (Ізраільцяне [= Беларусы]).

У 1952 г. айцец Сіповіч надрукаваў у «Божым шляхам» цыкл артыкулаў «Рэлігійныя крывулі нашай інтэлігенцыі». Магчыма, назоў быў не вельмі ўдалы, ён насцярожваў. У сваім першым артыкуле Сіповіч пісаў: «Апошнім часам на старонках прэсы і ў гутарках можна чуць нараканьні, што “нам ня вераць”, “нас ня слухаюць”. Нядобра, што ня вераць, але падумайма толькі, як могуць верыць людзям, якія… наракаюць, што на бацькаўшчыне лютуе прасьледаваньне рэлігіі, а самі тут у вольным сьвеце жывуць безрэлігійным жыцьцём; наракаюць, што на бацькаўшчыне зруйнаваныя сьвятыні, а самі тут, у вольным сьвеце, нават у тыя нешматлікія беларускія сьвятыні, якія адчынены з вялікімі цяжкасьцямі, амаль ніколі не заглядаюць?»

Сіповіч стараецца зразумець прычыну такога становішча: «Як ня сумна, але некалькі пакаленьняў беларускае інтэлігенцыі ў час самага буйнага нашага адраджэньня… змушаны былі карыстацца чужою школаю, пры варожай нам дзяржаўнасьці і фармаваць свой рэлігійны сьветагляд паводле больш-менш хрысьціянскіх прынцыпаў, але падаваных як пажыву, запраўленую моцным чужым нацыянальным сосам, што было моцна адпіхаючым дзейнікам. Гэтак было ў царскай Расеі, гэтак было пад Польшчай, але куды горш яшчэ было ў БССР… Ці ж можна тады дзівіцца, што некаторыя з нашых інтэлігентаў ня знаюць нават асноўных прынцыпаў хрысьціянства? Усё вышэй сказанае ў аднолькавай меры адносіцца так да каталікоў, як і да права-

слаўных… Мэтаю гэтага артыкулу ня ёсьць вышукваць дакорныя закіды пад адрасам інтэлігенцыі, але ў меру магчымасьцяў стацца памоцнікам сваім братом»*.

Артыкул выклікаў даволі вострую рэакцыю ў беларускай прэсе. У велікодным нумары газеты «Бацькаўшчына» з’явіўся артыкул «Некалькі словаў адказу». Аўтар артыкула, які падпісаўся псеўданімам «В. Мікалаеня», даводзіў Сіповічу: «Калі справа ідзе пра нараканьні на факт прасьледу рэлігіі ў Савецкім Саюзе, дык трэба сказаць ясна і адкрыта, што незадаваленьне з такога стану выклікана шмат у каго з пасярод інтэлігенцыі *не асабістай патрэбай* (вылучана мною. — *А. Н.*), але ўважаньнем, што павінна быць свабоднае выконваньне рэлігійных практыкаў, але не рэлігійнага прымусу, для тых, хто гэтага патрабуе»**.

Айцец Сіповіч, гаворачы пра рэлігійную абыякавасць, прыводзіць словы са Святога Пісання: «І анёлу Ляодыкійскае царквы напішу… ведаю ўчынкі твае, што ты ані сьцюдзёны, ані гарачы… дык вось дзеля таго, што ты летні, ані сьцюдзёны, ані гарачы, Я выблюю цябе з вуснаў маіх» (Апакаліпсіс 3, 14–15). Мікалаеня, відаць, мала абазнаны ў Святым Пісанні, павучае Сіповіча: «З пункту гледжаньня нацыянальнага, заклік да рэлігійнай гарачасьці даволі шкодны, бо-ж, як піша а. Сіповіч, праўдзівай зьяўляецца толькі адна рэлігія… У сувязі з гэтым… занадта вялікая гарачасьць у рэлігійных справах зьяўляецца для беларускага народу ня вельмі пажаданай, бо вядзе толькі да тварэньня канфліктаў ва ўлоньні народу». Ён скончае свае разважанні наступным сказам: «Гісторыя навучае нас, што лепш, калі кожны вернік будзе хоць на дне душы мець сумліў, ці зьяўляецца ягоная рэлігія “адзінай праўдзівай”».

Праз два тыдні, 4 траўня 1952 г., у «Бацькаўшчыне» з’явіўся артыкул Язэпа Каранеўскага «За згоду рэлігійную». Язэп Каранеўскі — псеўданім рэдактара «Бацькаўшчыны» Станіслава Станкевіча. Аўтар, пахваліўшы рэлігійную згоду сярод беларусаў, далей тлумачыць, што піша пра гэтыя справы, «каб заалярмаваць у час, што гэтую згоду сьведама ці нясьведама намагаюцца разбурыць некаторыя нашыя беларускія сьвятары, як з боку праваслаўнага, так і каталіцкага… Па прыклады далёка хадзіць ня трэба. Іх знойдзем, між іншага, у… артыкуле В. Мі-

* Сіповіч Ч. Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігенцыі // Божым шляхам. Парыж, студзень–люты 1952. № 46. С. 2–4.

** Мікалаеня В. Некалькі словаў адказу // Бацькаўшчына. Мюнхен, 1952. № 15–16 (94–95). С. 8.

калаені “Некалькі словаў адказу”». Насамрэч у артыкуле Мікалаені няма ніякіх канкрэтных прыкладаў, ёсць толькі палеміка з поглядамі а. Сіповіча. Затое Каранеўскі сам прыводзіць адзін прыклад: «З абурэньнем паведамляюць нас з Ангельшчыны, што адзін беларускі каталіцкі сьвятар адмовіўся ахрысьціць паводле каталіцкага абраду дзіця мяшанай сям’і (бацька праваслаўны, маці каталічка) і толькі таму, што кумы былі праваслаўныя»*.

Адзіным беларускім каталіцкім святаром у Англіі быў тады айцец Сіповіч, і таму ён не мог маўчаць. У лісце за 10 траўня ў рэдакцыю «Бацькаўшчыны» ён пісаў: «Быў я ў мінулым годзе запрошаны сп-ром Р-кім з Гадэрсфільд (прыблізна 300 кіламетраў ад Лондана. — *А. Н.*), праваслаўным беларусам, жанатым з каталічкай ірляндкай, ахрысьціць іхнае дзіцё. Запросіны я ахвотна прыняў і, будучы ў Брадфардзе на высьвячэньні Беларускага Дому, дагаварыўся з бацькамі дзіцяці, дзе і калі выканаем абрад хросту. Назаўтрае паехаў я ў Гадэрсфільд. Знайшоў бацькоў… Пытаю, дзе тут найбліжэйшы каталіцкі касьцёл… Ніхто ня ведае, ані сп. Р-кі, ані ягоная жонка (каталічка!). Пытаемся ў людзей і знаходзім касьцёл. Дагаварваемся з тамашнім ангельскім пробашчам, які сустрэў нас ветліва і ўслужліва. “Хто будзе кумам?” — пытаю сп-ра Р-кага. Сп. Р-кі просіць, каб ім быў сп. Р-ц, праваслаўны. Выясьняю, што выпадала б дзеля таго, што ў каталіцкім касьцеле хрысьцім, каб хоць адзін з кумоў быў каталік, тым больш, што маці дзіцяці каталічка. Калі ўсе ўступныя фармальнасьці выясьніліся, сп. Р-кі пайшоў за дзіцём, каб прынесьці яго да хросту. Чакаў я ў касьцеле больш гадзіны часу, тады калі ўсё было прыгатавана да сьвятога абраду. Зьдзівіліся мы, сьвятары (быў із мною цэлы час ангельскі сьвятар), калі сп. Р-кі вярнуўся зноў із сваім толькі сябрам. На пытаньне, дзе дзіця? — ён адказаў: Ужо пазнавата і… жонка не жадае хрысьціць, каб не зьвязвацца з сьвятарамі!..»**

Трэба аддаць справядлівасць рэдакцыі «Бацькаўшчыны»: яна не толькі надрукавала ліст Сіповіча, але і перапрасіла яго. Тым не менш гэтае здарэнне паказвае, у якіх умовах даводзілася працаваць святару і як лёгка ўзнікалі абвінавачанні ў «фанатызме» і «неталерантнасці»…

* Каранеўскі Я. За згоду рэлігійную // Бацькаўшчына. Мюнхен, 1952. № 18 (97). С. 1–2.

** Сіповіч Ч. Пісьмо ў рэдакцыю // Бацькаўшчына. Мюнхен, 25.05.1952. № 21 (100). С. 8.

Дарэчы, пасля гэтага выпадку між «Бацькаўшчынай» і айцом Сіповічам усталяваліся добрыя дачыненні. Ягоныя артыкулы і карэспандэнцыі даволі часта з'яўляліся на старонках гэтай газеты.

Адной з галоўных цяжкасцяў рэлігійнага жыцця на чужыне была адсутнасць уласнай святыні. За айцом Сіповічам у Марыян Гаўз капліца святых апосталаў Пятра і Паўла стала «парафіяльнай царквой» беларусаў у Лондане. Спачатку яна выглядала вельмі сціпла: у даволі вялікім пакоі стаяў алтар, але без іканастасу; на сценах вісела некалькі іконаў. Аднак вернікі, якія прыходзілі ў нядзелю, уважалі яе за сваю царкву.

Айцец Сіповіч марыў мець капліцу ў традыцыйным візантыйскім стылі. Усходняя Кангрэгацыя ўхваліла ягоны праект і абяцала дапамагчы грашыма. У 1951 г. адмыслова для гэтай капліцы зрабілі іканастас. Іконы ўзяўся намаляваць айцец Геранім Леўсінк, бенедыкцінскі манах з Шэвэтоня і вядомы мастак-іканапісец. Ён напісаў галоўныя іконы (Хрыстос, Маці Божая, Апошняя Вячэра, Звеставанне і чатыры евангелісты), але, не паспеўшы давяршыць пачатае, памёр у 1952 г. Ягоную працу працягвала сястра Лютгардзіс, бенедыкцінская манашка з жаночага манастыра Скотэнгоф непадалёк ад Антверпена. Яна таксама намалявала іконы на вялікія Гасподнія і Багародзічныя святы. У пачатку 1953 г. капліца набыла свой канчатковы выгляд, які мае і цяпер.

Марыян Гаўз стаў цэнтрам розных мерапрыемстваў. Перадусім там месцілася сядзіба БАКА «Рунь». Да аб'яднання належалі беларускія каталіцкія студэнты і выпускнікі ўніверсітэтаў. Зборкі «Руні», адкрытыя для ўсіх, адбываліся штомесяц у апошнюю нядзелю. Зборка пачыналася св. літургіяй, пасля быў супольны абед і адзін або два даклады. Ад 1951 г. «Рунь» ладзіла тыдні студыяў. Кожны з іх меў сваю тэму, напрыклад «Быць заадно з Хрыстом і Царквою» (Sentire cum Christo et Ecclesia), «Хрыстос — Дарога, Праўда і Жыццё», «Хрысціянскія элементы ў беларускай культуры» і г. д. Першы тыдзень, улетку 1951 г., прайшоў у Шэвэтоні ў Бельгіі, наступныя два — у Лондане ў Марыян Гаўз. 2 жніўня 1953 г., у апошні дзень трэцяга тыдня студыяў, адбылася ўрачыстасць пасвячэння іконы Святых Заступнікаў Беларускага Народа. Кампазіцыйна ікона належыць да тыпу «Дэісіс», з выяваю Хрыста на пасадзе, з Найсвяцейшай Багародзіцаю па правым баку і Янам Хрысціцелем па левым на верхнім плане і з пяццю беларускімі святымі — на ніжнім. Яе падараваў Андрэй Багамолец, нашчадак старажытнага роду

князёў Мінскіх, а намалявала ўкраінская мастачка Ірына Караставец. Ікону пасвяціў апостальскі дэлегат у Вялікай Брытаніі архібіскуп Уільям Годфрэй з удзелам біскупа Слоскана. Цяпер яна вісіць за алтаром у капліцы св. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз.

Не ўсім спадабалася ікона заступнікаў беларускага народа. Дакладней, не сама ікона, а выбар святых, сярод якіх быў Язафат Кунцэвіч, уніяцкі архібіскуп Полацкі, забіты праваслаўнымі ў Віцебску ў 1623 г. Пра гэта пісаў у газеце «Бацькаўшчына» С. Грынеў (псеўданім) у сваім артыкуле, дарэчы, даволі памяркоўным, «Нятрапны выбар»*. Айцец Сіповіч стараўся пазбягаць усякай палемікі, але скарыстаў з гэтай нагоды, каб напісаць доўгі артыкул «Леў Сапега і св. Юзафат», дзе як гісторык разгледзеў асобу і дзейнасць св. Язафата на фоне бурлівых падзеяў таго часу**.

Наступны тыдзень студыяў прайшоў у Рыме з 24 кастрычніка да лістапада 1954 г. Прысутныя ўзялі ўдзел у Міжнародным Марыйным кангрэсе, што якраз адбываўся ў Вечным горадзе. На ім айцец Татарыновіч чытаў даклад пра культ Багародзіцы ў Беларусі. Кангрэс завяршыўся працэсіяй са старажытнай іконай Божай Маці «Salus populi romani» ад базілікі Санта Марыя Маджорэ (Santa Maria Maggiore) да базілікі св. Пятра, дзе Папа Пій XII каранаваў ікону. Беларусы ішлі ў працэсіі асобнай групаю, несучы выяву іконы Маці Божае Жыровіцкае. Увечары таго дня быў міжнародны канцэрт, у якім выступіў вядомы беларускі спявак Пётра Конюх.

Між іншага, пасля першага тыдня студыяў у ліпені 1951 г. некаторыя ягоныя ўдзельнікі паехалі на кангрэс «Pax Romana» ў горадзе Рэймс у Францыі. На кангрэсе «Рунь» прынялі ў сябры гэтай міжнароднай каталіцкай акадэмічнай арганізацыі.

Тыдні студыяў «Руні» карысталіся вялікай папулярнасцю і прыцягвалі ўдзельнікаў з Англіі, Бельгіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны і Іспаніі. Святарам яны давалі нагоду сустрэцца, абмеркаваць цяжкасці і вырашыць пытанні, звязаныя з пастырскай працай сярод беларусаў.

Айцец Сіповіч браў актыўны ўдзел у грамадскай і культурнай дзейнасці Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі і

---

* Грынеў С. Нятрапны выбар // Бацькаўшчына. Мюнхен, 15.11.1953. № 45 (176). С. 1, 3.

** Сіповіч Ч. Леў Сапега і св. Юзафат // Бацькаўшчына. Мюнхен, 25.12.1953. № 50–51 (181–182). С. 4–8; 07.01.1954. № 1–2 (183–184). С. 6–7.

Англа-беларускага таварыства. Яго заснавалі ў 1954 г. з мэтай пашыраць веды пра Беларусь, яе гісторыю і культуру ў англамоўным свеце. Першай супольнай імпрэзай стала святкаванне ў 1954 г. Дня Незалежнасці Беларусі (25 Сакавіка) з удзелам беларускага студэнцкага хору з Лювена, кампазітара Алеся Карповіча з Ольдэнбурга (Нямеччына) і спевака Пётры Конюха з Рыма. Святкаванне пачалося канцэртам у сам дзень 25 сакавіка ў Крайст Чэрч Гол (Christ Church Hall) у Фінчлеі, непадалёк ад Марыян Гаўз, у прысутнасці мэра Фінчлея і амаль усіх сяброў гарадской рады. У суботу 27 сакавіка адбыўся другі канцэрт у зале пры Уэстмінстэрскай катэдры (Westminster Cathedral Hall) у прысутнасці архібіскупа Уэстмінстэрскага кардынала Бэрнарда Грыфіна і шматлікіх царкоўных і свецкіх дастойнікаў. У нядзелю 28 сакавіка айцец Сіповіч і апякун беларускіх студэнтаў у Лювене айцец Рабэрт ван Каўвэляэрт адслужылі святую літургію ў капліцы святых апосталаў Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз.

На ўрачыстасцях прысутнічаў беларускі праваслаўны святар айцец Аляксандр Крыт. Тады ў Лондане не было беларускай праваслаўнай царквы, і ён служыў літургію ў зале Беларускага дома, які належаў Згуртаванню беларусаў у Вялікай Брытаніі.

Аляксандр Крыт (1901–1983) прыехаў у Англію з Нямеччыны ў 1948 годзе як «еўрапейскі добраахвотны работнік». Ён браў актыўны ўдзел у беларускім жыцці ў Нямеччыне, дзе яго ведалі як ахвярнага працаўніка, пабожнага праваслаўнага і шчырага беларуса. 25 чэрвеня 1950 г. біскуп Васіль Тамашчык з Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на чужыне падчас візіту ў Англію пасвяціў Аляксандра Крыта на святара. Айцец Сіповіч падараваў яму поўныя святарскія шаты і нагрудны крыж. Праз чатыры дні, 29 чэрвеня, новы святар пісаў айцу Сіповічу: «Шчыра дзякую за пажаданьні і падарунак… Апошні выбар гэтага шляху нейк адбыўся паміма волі, бо проста не хапіла сілы волі адмовіць». Тым не менш ён стаў добрым і ахвярным святаром. У 1961 г. ён выехаў у ЗША, а дзесяць гадоў пазней, у 1971 г., атрымаў біскупскія свячанні. Паміж Сіповічам і Крытам заўсёды існавалі сяброўскія дачыненні.

Дарэчы, біскуп Васіль Тамашчык (1900–1970), які свяціў Аляксандра Крыта на святара, сам стаў біскупам толькі паўгода раней, 19 снежня 1949 г. Айцец Сіповіч даведаўся пра гэта з беларускай прэсы і 26 студзеня наступнага года напісаў новаму біскупу наступны ліст: «Даведаўшыся з газэт аб хіратоніі Паважанай Вашай асобы на Біскупа, гэтым маю гонар пераслаць

Вам шчырыя беларускія прывітаньні і пажаданьні посьпехаў у Вашай працы для дабра душ. Я перакананы, што ня раз нам прыдзецца спатыкацца ў працы так на ніве харытатыўнай у дапамозе нашым суродзічам, як тож у дачыненьнях культурна-грамадзкіх. Не сумняваюся, што ў гэтых галінах наша супрацоўніцтва будзе карысным і пажаданым для Бацькаўшчыны». Біскуп Васіль адказаў 28 лютага доўгім лістом, у якім сярод іншага пісаў: «Перадусім дазвольце… шчыра падзякаваць Вам за Вашае мілае прывітаньне з нагоды маёй хіратоніі ў япіскапа БАПЦ, а таксама за Вашыя пажаданьні посьпехаў у маёй працы для дабра душ… Беручы пад увагу, што нашае настаўленьне да Бога й Маці-Беларусі поўнасьцю ідэнтычнае, цешу сябе надзеяй, што наша супрацоўніцтва будзе гарманійным і карысным для нашай Бацькаўшчыны… Я глыбока перакананы, што супольнымі сіламі, з дапамогаю Ўсемагутнага, мы выканаем наша заданьне, бо — “калі Бог з намі, каго ўбаімся?”»

У 1953 г. захварэў Лявон Рыдлеўскі, старшыня Саюза беларусаў у Францыі «Хаўрус». Гэты вельмі ахвярны чалавек аддаваў усе свае сілы, каб дапамагчы іншым, і не дбаў пра сябе. Спачатку ўсе думалі, што ён простаператаміўся і яму неабходны адпачынак. Айцец Сіповіч згадзіўся ўзяць яго да сябе ў Марыян Гаўз. У Лондане высветлілася, што Рыдлеўскі невылечна хворы на рак. Ён памёр 24 кастрычніка 1953 г. Перад смерцю ён спавядаўся і прычасціўся ў айца Сіповіча. Паколькі, аднак, Рыдлеўскі быў праваслаўным, выканаць абрад пахавання айцец Сіповіч папрасіў айца Крыта, які жыў у горадзе Брадфард, за 300 кіламетраў ад Лондана. Айцец Сіповіч вярнуў яму кошт падарожжа. Усё гэта — раней, чым Каталіцкая царква «адкрыла» экуменізм…

Таксама ўвосень 1953 г. Янка Садоўскі, якога айцец Сіповіч прыняў кандыдатам у закон марыянаў і паслаў вучыцца ў Рым, вырашыў не аднаўляць сваіх законных шлюбаў. Ён перайшоў з візантыйскага абраду на рымскі. З дапамогаю біскупа Слоскана ўдалося знайсці яму месца ў Французскай калегіі ў Рыме, дзе ён працягваў сваю навуку і быў пасвячаны на святара 17 снежня 1955 г.

Пасля смерці Сталіна ў 1953 г. палітычны рэжым у Савецкім Саюзе крыху змякчыўся. У прыватнасці, з перапоўненых савецкіх турмаў і лагераў вызвалілі многіх зняволеных, у тым ліку двух беларускіх айцоў-марыянаў, што раней працавалі ў Харбіне. Айцец Язэп Германовіч выйшаў на свабоду ў красавіку 1955 г. Ён хацеў вярнуцца ў Беларусь, але яго выслалі ў Польшчу супраць ягонай волі. Неўзабаве прыехаў туды і айцец Тамаш Падзява.

Айцец Цікота не дачакаўся вызвалення і памёр у турэмным шпіталі непадалёк ад возера Байкал 11 лютага 1952 г. Больш дакладныя весткі пра смерць а. Цікоты прывёз французскі святар Поль Шалей (Chaleil), які працаваў з беларускімі святарамі ў Харбіне і разам з імі трапіў пад арышт. Ён вярнуўся ў верасні 1955 г. Айцец Сіповіч сустрэўся з ім 12 кастрычніка ў Рыме і запісаў усё, што Шалей ведаў пра апошнія дні Цікоты.

Усе нягоды не зламалі айцоў Германовіча і Падзяву духоўна і нацыянальна. Асабліва бадзёра, нягледзячы на свой век, адчуваў сябе Германовіч. 23 сакавіка 1956 г. ён пісаў Сіповічу: «Дзіўна, што я ўсё ператрываў і нават саўсім памысна, а здароў лепш, чым перад выездам у 1932 годзе». Ён не меў ніякага жадання заставацца ў Польшчы, і яму ўдалося выехаць адтуль у 1959 г. Айцу Падзяву давялося чакаць яшчэ дзесяць гадоў.

Айцец Сіповіч вярнуўся з Рыма ў лістападзе 1955 г. разам з новым памочнікам, айцом Кастусём Маскалікам. Гэты пабожны беларус перад вайной любіў хадзіць па розных каталіцкіх і праваслаўных святынях у Заходняй Беларусі і Украіне. Ён правёў некаторы час у праваслаўным Жыровіцкім і грэка-каталіцкім Уніўскім манастырах. У 1941 г. яго ўзялі ў савецкую армію, але неўзабаве пачалася нямецка-савецкая вайна. Тады Маскаліка, як былога польскага грамадзяніна, звольнілі і дазволілі ўступіць у польскую армію, якая арганізоўвалася ў Савецкім Саюзе. Разам з польскай арміяй ён пакінуў Савецкі Саюз і — праз Іран, Ірак і Палесціну — трапіў у Італію, дзе й застаўся пасля вайны. У 1947 г. Кастусь Маскалік паступіў у Русікум. Ён не меў сярэдняй адукацыі, таму навука заняла ў яго больш часу, чым звычайна, і толькі 10 красавіка 1955 г. ён стаў святаром.

Па прыездзе з Рыма, 16 лістапада 1955 г., Сіповіч пісаў Гарошку: «Айцец Кастусь М. прывыкае да нас, а мы да яго. Сын вёскі ўва ўсём!» Больш пра айца Маскаліка ў лісце за 28 снежня: «А. Кастусь М. маецца нязгорш, але калі я дачакаюся ад яго запраўднай помачы? — Богу ведаць. Я ня бачу ў яго ніякай ініцыятывы, а калі яе падсунеш, дык ня ведама, ці ён выпаўніць. Апэтыт мае добры… Ён ёсьць вельмі нэрвовы. Выглядае, што Русікум быў для яго не сэмінарыяй, але турмой, дзе чагосьці вучаць… Пабачым».

Праз два гады, 15 красавіка 1957 г., Сіповіч пісаў Татарыновічу: «Мой памочнік… гадуе бараду. Абмежаванасьць, упор. Штосьці стрэліць у галаву, і з гэтым носіцца, мучыцца, моліцца, але ўсё гэта па-своему, ня так як людзі… Ужо хутка два гады, а ня ўмее склеіць па-ангельску сказу. Не патрафіць з людзьмі

заладзіць ніякай справы. Пішу табе і плачу ў душы, бо сярод усіх сьвятароў, якіх я спаткаў у жыцьці, такога яшчэ ня бачыў. Ён чытае брэвіяр, але ва ўсім іншым гэта — папок мужычок, каторы харкае ўпарта направа і налева, на сваіх і на чужых».

Кастусь Маскалік, чалавек несумнеўна пабожны і шчыры, быў бы, напэўна, добрым святаром у нейкай вясковай парафіі з устаноўленым парадкам працы. На эміграцыі, дзе ўсё залежыць ад ініцыятывы святара, у яго не хапіла ўласнай волі. Тым не менш, хоць ад айца Кастуся і не адчувалася вялікай дапамогі, ягоная прысутнасць у Лондане дазволіла айцу Сіповічу паехаць на даўжэйшы час у Амерыку. 10 верасня 1957 г. ён паплыў французскім караблём «Normandie» ў сваё першае падарожжа на амерыканскі кантынент. Зразумела, адной з галоўных мэтаў быў збор грошай на куплю Марыян Гаўз. Але існавалі й іншыя, не менш важныя прычыны. З усяе беларускае дыяспары эміграцыя ў Злучаных Штатах Амерыкі вызначалася сваёй колькасцю і актыўнай дзейнасцю. Цэнтрам беларускага жыцця стаў Нью-Ёрк, дзе жыло шмат беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, вучоных, мастакоў і г. д., многія з якіх здабылі вядомасць перад вайною на Бацькаўшчыне. У Нью-Ёрку мелі свае сядзібы такія арганізацыі, як Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне (БАЗА), Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНІМ) ды іншыя. Тамсама выходзілі беларускія газеты і часопісы, як «Беларус», «Беларуская моладзь», «Запісы БІНІМ», «Конадні», «Веда» ды інш. Досыць вялікія беларускія асяродкі знаходзіліся ў Чыкага, Кліўлендзе, Дэтройце, Лос-Анджэлесе, а таксама ў Таронта ў Канадзе.

Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква была параўнаўча невялікая, але добра зарганізаваная, на чале з біскупам Васілём Тамашчыкам у Нью-Ёрку. Яна мела парафіі ў Нью-Ёрку, Нью-Брансуіку, Дэтройце, Кліўлендзе і Таронта. Існавалі таксама праваслаўныя парафіі непасрэдна пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскага патрыярха. Беларусаў-каталікоў у ЗША жыло даволі багата, але ім не хапала зарганізаванасці. Грэка-каталіцкая парафія ў Чыкага толькі фармавалася. У Нью-Ёрку сярод беларусаў было шмат каталікоў рымскага (лацінскага) абраду, але не ставала святара. Айцец Францішак Чарняўскі, які нядаўна прыехаў з Бельгіі, працаваў у амерыканска-польскай парафіі і атайбаваўся даволі далёка. Перад айцом Сіповічам стаяла задача ацаніць магчымасці пастырскай дзейнасці ў Амерыцы, можа й шляхам заснавання беларускага марыянскага законнага дома.

Айцец Сіповіч правёў шмат часу ў Нью-Ёрку. Ён жыў у сям'і Кушаляў. Францішак Кушаль — стары беларускі вайсковы і па-

літычны дзеяч. Ягоная жонка больш вядомая як паэтка Наталля Арсеньева. 20 верасня беларусы Нью-Ёрку ладзілі прыняцце ў гонар айца Сіповіча. 26 кастрычніка прайшла зборка Нью-Ёркскага аддзела БАКА «Рунь», на якой а. Сіповіч зрабіў даклад пра новыя плыні ў Каталіцкай царкве і патрэбу рэлігіі ў прыватным жыцці. Найважнейшай падзеяй за ўвесь час, як а. Сіповіч знаходзіўся ў Нью-Ёрку, была ягоная багаслужба ў катэдры св. Патрыка, што на Пятай Авеню, у нядзелю 27 кастрычніка. Вось як ён апісвае яе ў сваім дзённіку: «Выходжу да аўтара з маім міністрантам, Фр. Бартулём. Перад імшой гавару: “Гэта імша сьв. будзе адпраўлена за ўвесь беларускі народ. Будзем маліцца за ўсіх тых, што расьцярушаныя па ўсім сьвеце, але такжа за ўсіх знаходзячыхся ў турмах, у лагерах і за беларускіх сірот…”. На пачатку імшы чуваць голас амэрыканскага сьвятара, які гаворыць праз мікрафон з амбоны. Пасьля, калі ён скончыў, граюць паціху арганы… Пасьля імшы гавару казаньне па-беларуску. Пару асоб (не беларусаў) выходзяць з капліцы, бо не разумеюць, аб чым гавару, сп-ня Кушаль тлумачыць ім, хто мы тут усе сабраўшыся… Вечарам… прыйшоў сп. Шукелайць. Паводле яго і сп-ні Арсеньневай усе беларусы вельмі задаволеныя з Багаслужбы ў катэдры. Сп. Шукелайць прынёс сьв. Эвангельле (выд. а. др. Татарыновіча), зь якога я чытаў эвангельле ў катэдры, і папрасіў падпісаць на памяць. Ён уважае, што багаслужба ў катэдры сьв. Патрыка — гэта гістарычны дзень».

25 кастрычніка Сіповіч адведаў «Расейскі цэнтр» у Фордгамскім універсітэце айцоў езуітаў, дзе меў доўгую гутарку з дырэктарам цэнтра айцом Маё (Mailleux). У дзённіку Сіповіча чытаем: «Еду ў “Russian Center” Fordham University. Доўгая гутарка з а. Майо. Ён паказвае мне «Знамя России», № 165, орган манархістаў, якія пішуць, што для Расеі пасьля камунізму ворагам нумар 2 — Каталіцкая Царква. Айцец Майо падводзіць вынікі: 73 езуіты пасьвяцілі сябе працы ва ўсходнім абрадзе. Існуе 18 прыходаў. А вынікі? Апастазія сьвятароў, няма каталіцкіх расейскіх сем’яў. Што рабіць? — пытае а. М. у лісьце да а. прат. Рашко і пытае мяне… Зьвяртаю ўвагу а. М., што айцы езуіты за вялікі націск палажылі вылучна на працу сярод расейцаў. Забыліся аб украінцах і беларусах. Айцец М. кажа: калі будзе каталіцкай уся Англія, дык ня будзе цяжкасьці навярнуць паўночную Ірляндыю… Жадае сказаць: калі станецца каталіцкай Расея, дык ня будзе клопату з Беларусяй і Украінай. Я кажу на гэта з моцным акцэнтам і крыху абураны: Гэтак могуць разважаць

тэарэтыкі місіянеры, якім Беларусь і беларускі народ чужыя. Для беларускага сьвятара ў першую чаргу беларускі народ».

У Чыкага беларуская арганізацыя існавала з 1920-х гг. Да яе заснавання спрычыніўся Язэп Варонка, першы старшыня ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе, які выехаў у Амерыку ў 1922 г. У Чыкага было шмат эмігрантаў з Беларусі, у бальшыні праваслаўных. Не маючы ўласнага святара, яны хадзілі ў расейскія праваслаўныя цэрквы, дзе расплываліся ў расейскай масе, страціўшы рэшткі сваёй і так слабой беларускай свядомасці. Каб ратаваць гэтыя «мёртвыя душы», Варонка пачаў выдаваць на расейскай мове газету «Белорусская трибуна». Ён таксама адчуваў патрэбу ў падобным выданні на польскай мове, каб дайсці да беларусаў-каталікоў, якія павялічвалі колькасць вернікаў у польскіх каталіцкіх парафіях. Ён пісаў пра гэта беларускаму каталіцкаму святару айцу Яну Тарасевічу, сябру місіянерскага закону Ля Салет (La Salette), які прыехаў у Амерыку 19-гадовым юнаком у 1911 г. Між іншага, Варонка і Тарасевіч абодва разважалі пра магчымасць заснаваць у Чыкага беларускую грэка-каталіцкую парафію, дзеля чаго Тарасевіч быў гатовы прыняць «усходні» абрад. Варонка пісаў яму 25 жніўня 1931 г.: «Аб вашым пераходзе на ўсходні абрад у лісьце не абгаворыш. Справа надта важная. Наагул — справа царкоўная-касьцельная на Беларусі (і для Беларусі) вельмі паважная. Я ёю цікаўлюся сам даўно. У Амэрыцы ж спэцыяльна студыюю так званую "ўкраінскую вунію". Калі б скора ўдалося нам пабачыцца асабіста, тады абгаварылі бы ўсё, што гэтага пытаньня датыча». Айцец Тарасевіч змяніў абрад шмат гадоў пазней, але ў іншых абставінах і дзеля іншых мэтаў. У 1936 г. ён пакінуў закон Ля Салет і пасля аднаго года навіцыяту стаў бенедыкцінскім манахам у манастыры (абацтве) святога Пракопа ў Ляйлі, што каля Чыкага. Гэты манастыр заснавалі чэшскія бенедыкцінцы ў 1885 г. і назвалі яго ў гонар чэшскага святога XI стагоддзя Пракопа. У сярэдзіне 1930-х гадоў абат Пракоп Неўжыл заснаваў у манастыры «Славянскае апостальства» (Slavonic Apostolate), дзе слова «славянскае» практычна азначала тое самае, што і «расейскае». Афіцыйным органам «апостальства» быў двухмоўны месячнік «Церковный голос — Voice of the Church», у якім артыкулы звычайна друкаваліся паралельна на расейскай і ангельскай мовах. Ад 1937 г. рэдагаваў часопіс айцец Ян Тарасевіч, які прыняў манаскае імя Хрызастома, хоць падпісваўся пад сваімі расейскамоўнымі артыкуламі як «Іеромонахъ Іоаннъ». Каб даць уяўленне пра дух і змест часопіса, варта спыніцца над

перадавіцаю гэтага самага «іеромонаха Іоанна» ў нумары за верасень–кастрычнік 1939 г. пад назовам «Христианский долг кафоликов в отношении к православным». Аўтар крытыкуе заходніх «місіянераў» царкоўнай еднасці, якія, не ведаючы добра ўсходняга абраду, калечаць і лацінізуюць яго: «Той, хто бярэцца за святую справу сярод праваслаўных і не знае добра іхнага абраду, пагарджае ім, лацінізуе і псуе яго, той бярэцца не за сваю справу, не ведае, дзеля чаго абрад існуе ў Хрыстовай Царкве, і прыносіць больш шкоды, як карысці, дзеля святой справы аб'яднання Цэркваў».

Далей аўтар працягвае: «І тут узнікае пытаньне наконт святароў з самога расейскага асяроддзя, якія б выдатна ведалі абрад і псіхалогію расейскага народа і працавалі, пры дапамозе з вышыні, найлепшым спосабам для Царквы Хрыстовай і збаўленьня расейскага народа. Але дзе ж іх узяць, калі іх няма? У адказ на гэтае пытаньне мы запярэчым: трэба неадкладна ўзгадаваць цэлы шэраг маладых святароў з асяроддзя расейскага народа. Усе ведаюць, што сярод беларусаў ёсьць шмат вельмі добрых каталікоў. З іхнага асяроддзя і трэба ўзгадаваць цэлы рад святароў-манахаў. Пакліканняў да святарскага і манаскага стану ў іх шмат, але няма каму паклапаціцца аб іх, і яны застаюцца бескарыснымі для Царквы і для расейскага народа. Каталікі павінны падумаць пра такіх беларускіх юнакоў і даць ім усякую матэрыяльную падтрымку і магчымасць атрымаць у гэтым сэнсе асвету і стаць у рады вялікіх працаўнікоў Хрыстовых… Дый група беларускіх святароў на чале з архімандрытам Абрантовічам ужо даўно і шчыра працуе сярод вялікарусаў у Харбіне»*.

---

* «И тут вопрос возникает касательно священников из самой русской среды, которые прекрасно знали бы обряд и психологию русского народа и работали, при помощи свыше, самым лучшим образом для Церкви Христовой и спасения русского народа. Но где же взять, раз их нет? В ответ на этот вопрос мы возражаем: надо непременно воспитать целый ряд молодых священников из той же среды русского народа. Всем известно, что среди белоруссов есть много прекрасных кафоликов. Вот из той среды и надо воспитать целый ряд священников-монахов. Призваний среди них к священному и монашескому сану очень много, но некому позаботиться о них, и так они остаются бесполезными для Церкви и для русского народа. Кафолики должны подумать о такого рода белорусских юношах и дать им всякую материальную поддержку и возможность получить в этом смысле образование и стать в ряды великих работников Христовых… Ведь же группа белорусских священников во главе с Архимандритом Абрантовичем уже давно и

А. Яна Тарасевіча захапіла думка пра беларусаў як пра прыладу да «навяртання» Расеі. Ён развівае яе ў артыкуле на ангельскай мове «The White Russian (Byelorussian) Roman Catholics» (Беларускія рыма-каталікі). Артыкул без даты, але са зместу вынікае, што напісаны ён да ўваходу ў вайну Злучаных Штатаў Амерыкі 7 снежня 1941 г. Ён сканчаецца наступнымі словамі: «Гэтыя больш як тры мільёны беларускіх рыма-каталікоў… Яны самі, калі б іх належна ўсведаміць, накіраваць і навучыць, маглі б развязаць пытанне Хрысціянскай еднасці ў Расеі! Каталіцкі свет не павінен заставацца абыякавым да іхняга лёсу, але дапамагчы ім, прынамсі маральна, у іхніх намаганнях быць тым, кім яны самі хочуць быць — беларусамі сярод расейцаў, у расейскім свеце, для дабра Царквы і ўсяго чалавецтва наагул»*.

Дэрбіны і Бучыс не маглі напісаць лепш…

У 1938 г. у Ляйль прыехаў айцец Язэп Рэшаць, які пасля года навіцыяту атрымаў манаскае імя Апанас. Трэцім беларусам у Ляйлі быў пляменнік а. Яна Тарасевіча, Уладзімір (Уладзіслаў) Тарасевіч, прышлы святар беларускай парафіі Хрыста Спаса ў Чыкага і біскуп, а ў 1938 г. юнак, якому споўнілася 16 гадоў.

Тарасевіч і Рэшаць прынялі ўсходні абрад не адразу пасля ўступлення ў манастыр, а толькі ў 1941 г. Харбінскі «Католический вестник» так пісаў пра гэта: «Два сябры абацтва св. Пракопа, які з'яўляецца цэнтрам апостальскай працы сярод расейцаў у Зл. Штатах, прынялі нядаўна ўсходні абрад. Гэтыя два — а. Хрызастом Тарасевіч і а. Апанас Рэшаць. *Абодва яны расейцы паводле нацыянальнасці*»** (вылучана мною. — *А. Н.*).

---

усердно работает среди великоруссов в Харбине». (Иеромонах Иоанн. Христианский долг кафоликов в отношении к православным // Церковный голос — Voice of the Church. Ляйль, 1939. Год 4. № 4–5. С. 2, 4.)

* «These over three million White Russian Roman Catholics… They alone, if properly enlightened, instructed, educated, could solve the problem of Christian Unity in Russia! The Catholic world should not remain indifferent to their lot, but aid them, at least morally, in their efforts to be what they themselves want to be — the Byelorussians among the Russians, in the Russian world, for the good of the Church and that of mankind in general». (Арыгінальны машынапіс артыкулу, нідзе не друкаванага, знаходзіцца ў Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.)

** «Двое членов аббатства св. Прокопия, являющегося центром апостольской работы среди русских в Соед. Штатах, приняли недавно восточный обряд. Эти двое — о. Хризостом Тарасевич и о. Афанасий Решец. Оба они русские по национальности» (Католический вестник. Харбин, июль 1941. № 7. С. 164).

Два згаданыя святары не адказвалі за тое, што пра іх пісалі часопісы. Дзівіць нешта іншае: «Католический вестник» быў органам Расейскай епархіі візантыйска-славянскага абраду, якую ўзначальваў у тым часе айцец Андрэй Цікота. Выдаўцом часопіса выступаў другі друйскі марыянін, Казімір Найловіч.

Увосень 1941 г. Ян Тарасевіч стаў старшынёй новазаснаванай Беларуска-Амерыканскай Нацыянальнай Рады (White Russian American National Council). На той час вайна перарасла ў сапраўды сусветную і савецкі «злосны чырвоны мядзведзь» (bad red bear) раптам стаў «нашым бравым расейскім хаўруснікам» (our gallant Russian ally) для Дзядзькі Сэма. Аднак раман між Захадам і Савецкім Саюзам скончыўся з завяршэннем крывавай і пачаткам «халоднай» вайны. Сярод нешматлікіх асобаў, якія захавалі прасавецкія сімпатыі, быў а. Ян Тарасевіч, хоць у ягоным выпадку дарэчней казаць пра захапленне, што рабіла яго сляпым на ўсе заганы савецкай камуністычнай сістэмы. Адначасова змяніліся ягоныя погляды на расейскае праваслаўе: «З аднаго боку, праваслаўны адчувае за сабою магутную шматвяковую Усходнюю Царкву, з усімі яе тайнамі і навучаннем Хрыстовым… і з многімі другімі шматвяковымі хрысціянскімі вартасцямі, нераздзельна звязанымі з ёю: з другога боку, той жа праваслаўны адчувае, што ўвесь час нехта спрабуе рабіць замах на жыццё гэтага роднага яму і добрага Праваслаўя, што так інтымна і цесна звязанае з ягонымі расейскімі звычаямі, з ягонай расейскай душой, з ягоным родным народам, і якое ў гэтым расейскім народзе ўмацавалася ў барацьбе супраць лівонскіх і тэўтонскіх ордэнаў… *а потым гартавалася ў змаганні з гэтак званай (так именуемой) Уніяй 1596 года* (вылучана мною. — *А. Н.*)… Шматлікія каталікі… пачалі рыхтавацца да navяртання расейскага народа… У Альбярціне ў Заходняй Беларусі, у Дубне ў Заходняй Маларасеі, і ў іншых краінах былі заснаваныя асобыя цэнтры для гэтай справы. Расейскі праваслаўны пачуў небяспеку адусюль. Ён стаў асцярожны і недаверлівы!»* Ужо больш не ішла гутарка пра «навяртанне Расеі». Замест гэтага Тарасевіч заахвочвае «ўвесь час працаваць дзеля хрысціянскай еднасці ў далёкай будучыні: для сапраўднага хрысьціяніна гэтага дастаткова, паколькі ён не звязаны прамежкамі часу — ён жыве

* Иеромонах Иоанн. Кардинал Мерсье, великий друг русских // Церковный голос — Voice of the Church. Lisle, 1945. Vol. IX. № 9. P. 2.

ў вечнасці — навонкі ад усялякіх абмежаванняў часу»*. Ён дае наступную раду заходнім каталікам: «Каталікі павінны праявіць асаблівую цікавасць да Расеі, да расейскага народа, да расейскай царквы — яны павінны цешыцца з іхніх удачаў і дапамагаць ім у іхніх магутных змаганнях духоўна і матэрыяльна»**.

6 снежня 1945 г. Амерыканска-Беларуская Нацыянальная Рада даслала прадстаўніку Маскоўскага патрыярха ў Амерыцы, архібіскупу Яраслаўскаму і Растоўскаму Алексію наступны ліст: «Ваша Дастойнасць! Амаль усе расейцы ў горадзе Чыкага — гэта беларусы, выхадцы з былых губерняў Гарадзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Смаленскай. Кафедральны прыход св. Юр'я Пераможцы ў горадзе Чыкага амаль поўнасцю складаецца з нашых дарагіх беларусаў. Беларусы горада Чыкага ад шчырага сэрца вітаюць вялікага і дарагога царкоўнага Прадстаўніка ў асобе Высокадастойнага Аляксея, архіепіскапа Яраслаўскага і Растоўскага, і жадае яму ўсякіх поспехаў у ягонай вялікай і цяжкай місіі на славу Госпада Бога і дзеля карысці Царквы Хрыстовай і для дабра народаў Савецкага Саюза. Малітоўна з хрысціянскай любоўю ў Хрысце, (–) а. праф. Ян Тарасевіч, старшыня; Ігнат Лобач, сакратар»***.

Аляксей адказаў 24 студзеня 1946 г.: «Дарагія майму сэрцу беларусы! Я шчыра ўзрушаны вашай увагаю да мяне і ўдзячны вам за вашыя добрыя пажаданні ў справе аб'яднання праваслаўнага расейскага народа ў Амерыцы з Царквою Маці. Спадзяюся, беларусы, як сапраўдныя праваслаўныя людзі, пачуюць голас Царквы Маці, вернуцца ў ейнае лона і тым самым аблегчаць

---

* Иеромонах Иоанн. Сверхъестественная дальнозоркость в деле христианского воссоединения // Церковный голос — The Voice of the Church. Ляйль, август 1944. Год 8. № 15. С. 12.

** Tarasevitsch Chrysostom. Religious News from Moscow // Церковный голос — Voice of the Church. Lisle, May 1944. Vol. VIII. № 12. P. 13.

*** «Ваше Преосвященство! Почти все русские в г. Чикаго — это белоруссы, выходцы из бывших губерний Гроденской, Виленской, Минской, Витебской, Могилевской, Смоленской. Соборный приход Св. Георгия Победоносца в г. Чикаго почти всецело состоит из наших дорогих белоруссов. Белоруссы г. Чикаго от души приветствуют великого и дорогого церковного Представителя в лице Высокопреосвященнейшего Алексия Архиепископа Ярославского и Ростовского и желает Ему всякого успеха в Его великой и трудной миссии во славу Господа Бога и ради блага Церкви Христовой и добра народов Советского Союза. Молитвенно с христианской любовью во Христе, (–) о. проф. Иоанн Тарасевич, председатель; Игнатий Лобач, секретарь».

здзейсніць тую місію, якую ўсклаў на мяне Найсвяцейшы Аляксей, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі. (–) Аляксей, Архібіскуп Яраслаўскі і Растоўскі»*.

«Місія» Аляксея мела на мэце пераканаць амерыканскіх «рускіх» (беларусы — «тоже русские»!) прызнаць над сабою духоўную ўладу Маскоўскага патрыярха. Цяжка сказаць, якое дачыненне яна мела да славы Божае, затое яна была калі не на дабро «народаў Савецкага Саюза», то несумнеўна на карысць камуністычных уладаў гэтай краіны. Цікава, ці ведаў расейскі царкоўны дастойнік, што ліст падпісалі два каталікі, адзін з якіх — святар. У тым часе камуністычныя савецкія ўлады ў змове з Маскоўскай праваслаўнай царквой рыхтавалі знішчэнне Украінскай грэка-каталіцкай царквы. За 8 месяцаў да гэтага, у красавіку 1945 г., яны арыштавалі ўсіх украінскіх каталіцкіх біскупаў на чале з мітрапалітам Язэпам Сліпым. Айцец Тарасевіч не мог пра гэта не ведаць.

Айцец Тарасевіч не хаваў сваіх поглядаў і пісаў пра іх у лістах да многіх асобаў. Напрыклад, 2 студзеня 1946 г. (у лісце памылкова напісана «снежня». — *А. Н.*) ён пісаў Васілю Лукашыку ў Швецыю: «Мне здаецца, што Савецкі Саюз найболей робіць для народа дзеля яго асьветы, культуры, эканамічнага жыцьця. Дзеля гэтага я хачу супрацоўнічаць з Мінскам, з Масквой… Якое становішча адносна Савецкага Саюзу займаюць нашы беларусы ў Парыжу, у Германіі, у іншых краёх. Баюся, што яны парабіліся фашыстамі… Я асабіста з Мінскам! Толькі вядома ж я глыбокі хрысьціянін, веруючы ў Бога — для мяне гэта ўсё ясна нават з філёзофічнага пункту гледжаньня. Адначасна я бачу, што ў савецкай сыстэме крыюцца глыбокія хрысьціянскія ідэі і камуністы праводзяць іх у жыцьцё. Вельмі рад, што Праваслаўная Царква супрацоўнічае з Савецкім урадам… Я цяпер маю кожную сераду паўгадзіны радыё-перадач… — гавару па-расейску, па-беларуску і па-ангельску. Хвалю Савецкі Саюз, дзе трэба яго хваліць… Вось і сягоньня за якую гадзіну паеду туды з прамовамі… Другая мова будзець па-ангельску: што

* «Дорогие моему сердцу белоруссы! Искренне тронут Вашим вниманием ко мне и благодарен Вам за Ваши добрые пожелания в деле соединения православного русского народа в Америке с Матерью Церковью. Надеюсь, белоруссы, как истинные православные люди, услышат голос Матери Церкви, возвратятся в лоно ея и тем самым облегчат осуществить ту миссию, которая возложена на меня Святейшим Алексием, Патриархом Московским и всея Руси. (–) Алексий, Архиепископ Ярославский и Ростовский».

рускія народы зрабілі для хрысьціянскае культуры на працягу вякоў — ня толькі яе стварылі, але і баранілі хрысьціянскую культуру ад татарскіх полчышч, а ў нашыя дні абаранілі яе ад гітлероўскіх полчышч».

Лукашык пераслаў копіі гэтага й іншых лістоў айца Тарасевіча ў Парыж Міколу Абрамчыку, а той — айцу Сіповічу. У лісце за 3 сакавіка 1946 г. ён пытаўся у а. Сіповіча, як можна паўплываць на айца Тарасевіча, каб той змяніў свае погляды. Абрамчык прапанаваў перш старацца «падзеець на яго чыста нашым хатнім-сямейным парадкам, пераканаць яго ў ягоным блудзе і шкодніцтве для нас такой акцыі, ды змусіць яго загаварыць нашай мовай. Словам, зрабіць усё, каб ня страціць яго для нашага руху». Калі ж гэта не дапаможа, дык «не застаецца тады нічога іншага, як ударыць па ім, ужыць усе засабы, якія мы маем да гэтага. Давядзецца тады публічна збэсьціць яго, як здрадніка беларускага народу, і разшыфраваць увесь зьмест з усімі кансэквэнцыямі ягонай бальшавіцкай прапаганды».

Адказаў на гэты ліст 22 сакавіка айцец Гарошка: «Справа праф. Т(арасеві)ча, праўда, трагічна-горкая, але не безнадзейная. Калі не памогуць яму тыя інфармацыі і тыя аўтарытэтныя людзі, якіх мы ім паслалі, то паканае іх сам час і агульныя настроі, ідучыя ў нашым кірунку… Таму аб якім-небудзь “удары” па ім кіньце думаць. Ён не прынясе ніякай карысьці».

Паводзіны айца Тарасевіча ўстрывожылі і абурылі беларусаў, асабліва новых эмігрантаў, якія на ўласнай скуры адчулі дабрадзействы савецкага рэжыму. У 1947 г. ён зрокся старшынства Беларуска-Амерыканскай Рады, магчыма, на загад сваіх законных уладаў, і адышоў ад грамадскай дзейнасці*. Поглядаў сваіх ён не змяніў, хоць зрабіўся больш абачлівым у іх публічным

* Прасавецкая дзейнасць а. Хрызастома Тарасевіча стала вядомай амерыканскім органам бяспекі, якія ўстанавілі над ім нагляд. У 1963 г. аўтарка артыкула пра «прыроджанага расейца» (Russian by birth) а. Тарасевіча пісала: «Першы раз ён трапіў пад дзяржаўны нагляд з прычыны сваіх перадачаў па радыё для расейцаў і беларусаў… Другі раз, калі Федэральнае Бюро Выведкі зацікавілася ім, яно паслала сваіх агентаў да ягонага абата, і айцу Хрызастому было загадана спыніць сваю дзейнасць» (The first time he was placed under government surveillance, it was because of his broadcasts to the Russians and Byelorussians… The next time the FBI interested itself in him, they sent agents to his Abbot, and Father Chrysostom was asked to stop his work.) Гл.: Bisdorf Rita. Seeker of Silence // Columbia. № 12. New Haven. Conn. December 1953. P. 17–18.

выказванні і стараўся, каб яны не перашкаджалі яму выконваць святарскія абавязкі.

Тут трэба зазначыць, што, нягледзячы на свае погляды, айцец Ян Хрызастом Тарасевіч быў чалавек вялікай дабрыні, гатовы прыйсці на дапамогу кожнаму ў патрэбе. Зазнаў гэтую дабрыню і айцец Пётра Татарыновіч у свае «студэнцкія» гады і пасля, калі распачаў выдавецкую і перакладчыцкую дзейнасць.

Новыя эмігранты з Еўропы пачалі прыязджаць у Чыкага каля 1950 г. У 1952 г. а. Тарасевіч пачаў выдаваць для іх «Лісток к беларусам», сціплы бюлетэнь чыста рэлігійнага зместу. Айцец Тарасевіч друкаваў у ім, апрача казанняў, свае рэлігійныя паэмы, якія вызначаліся празмернай даўжынёй. Сярод новых беларусаў траплялася даволі шмат каталікоў. Яны ведалі адзін аднаго яшчэ да 1939 г. на бацькаўшчыне, студэнтамі або вучнямі беларускай гімназіі ў Вільні. Многія з іх разумелі, як неабходна адрадзіць Беларускую грэка-каталіцкую царкву. Дзякуючы іхнім старанням паўстала ў Чыкага ядро будучай парафіі Хрыста Спаса, духоўнае кіраўніцтва над якой прыняў а. Тарасевіч. Ад 1955 г. рэгулярна адбываліся нядзельныя і святочныя багаслужбы ў капліцы школы для дзяўчат пры жаночым кляштары. Ці ведалі ў манастыры св. Пракопа, кім былі «парафіяне» айца Тарасевіча? Увосень 1956 г. гэты манастыр зарганізаваў першы Унійны кангрэс, відаць, жадаючы аднавіць традыцыю падобных кангрэсаў, што перад вайною адбываліся ў Велеградзе ў Чэхіі. Адзін з прамоўцаў, манах гэтага манастыра Клёд Д. Віктора, у сваім дакладзе «Апостальства З'яднання ў абацтве св. Пракопа» (Apostolate for Reunion at St Procopius Abbey) даслоўна сказаў: «Вельмі цікавым развіццём апостальства ў апошні час было з'яўленне групы *праваслаўных расейцаў* (вылучана мною. — *А. Н.*) з Чыкага і ваколіцаў, якія, пад здольным кіраўніцтвам айца Хрызастома Тарасевіча O.S.B., стварылі ядро, што абяцае неўзабаве стацца самастойнай парафіяй з уласнай царквой і памяшканнем для святара. Больш як год, штонядзелі ў капліцы Josephinum High School in Chicago at 1515 N. Oakley Blvd., бывае Боская Літургія»*.

---

* «A most interesting development of the Apostolate in recent times has been the organization of a group of Orthodox Russian people in Chicago and vicinity, who under the able guidance of Father Chrysostom Tarasevitch, O.S.B., have been formed into a unit which soon promises to become a self-sustaining parochial organization with a Church and rectory of its own. For over a year, each Sunday, the Divine Liturgy is offered in the chapel

Калі айцец Сіповіч прыехаў 2 лістапада ў Чыкага, яго сустрэлі «праваслаўныя расейцы» Антон Бяленіс і Вацлаў Пануцэвіч, абодва вядомыя беларусы і каталікі рымскага абраду. Іхнія жонкі, сёстры Людвіка і Ірэна (Клара), былі дочкамі Эдварда Будзькі, старога беларускага нацыянальнага і грамадскага дзеяча. Бяленіс, узгадаваны ў айцоў салезіянаў, сціплы і разважлівы чалавек, ахвярны і шчыра пабожны, не паказваючы, меў вялікі ўплыў на развіццё беларускай парафіі. Пануцэвіч у 1956 г. пачаў выдаваць часопіс «Беларуская царква». У будучыні а. Сіповіч меў нагоду выказацца даволі крытычна пра гэтае выданне за яго «нацыяналістычны» характар і залішне палемічны тон многіх артыкулаў.

Бяленіс і Пануцэвіч завезлі айца Сіповіча ў манастыр св. Пракопа. Айца Тарасевіча не знайшлося, але яны сустрэліся з айцом Апанасам (Язэпам) Рэшацем, сціплым і вучоным святаром, аўтарам некалькіх рэлігійных кніжак на беларускай мове. Нейкі час ён быў прафесарам у Віленскай духоўнай семінарыі, але ў 1925 г. яго звольнілі амаль адразу пасля таго, як біскуп Матулевіч зрокся Віленскага пасаду. Такім чынам, Рэшаць стаў адной з першых ахвяраў новай антыбеларускай палітыкі ў Віленскай дыяцэзіі. Пасля многіх гадоў на польскай мазурскай парафіі, страціўшы надзею працаваць сярод беларусаў, у 1938 г. ён выехаў у Амерыку і пайшоў у манастыр св. Пракопа, дзе адразу ацанілі ягоныя веды і здольнасці як духоўнага кіраўніка. Неўзабаве пасля сустрэчы з айцом Сіповічам выявілася, што айцец Рэшаць невылечна хворы на рак. Ён памёр 15 лютага 1958 г.

Пазней у той самы дзень адбылася сустрэча ў Чыкага з айцом Тарасевічам, які згадзіўся, каб айцец Сіповіч на наступны дзень, г. зн. у нядзелю 3 лістапада, саслужыў з ім св. літургію. Айцец Сіповіч пакінуў наступны запіс у сваім дзённіку: «Прывёў мяне сп. Бяленіс у тую капліцу, дзе маемо служыць. Там ужо быў а. Тарасэвіч… Ён прыгатовіў праскамідыю і, як першы сьвятар, распачаў літургію. Сьпярша мне дзіўным здалося, што ён не запрапанаваў мне, гасьцю, першага мейсца, але пасьля я заўважыў, што ён хворы, і служыць для яго гэта значыць жыць. Я сьпяваў ектэніі тыя, якія сам уважаў, што павінен сьпяваць. Также ў час “малога выхаду” нёс велізарнае эвангельле і также чытаў эвангельле. Пасьля кансэкрацыі раптам а. Тарасэвіч кажа: “Я памыліўся, што ж мне рабіць?” Кажу яму, што ўсё ў парадку,

---

of Name Josephinum Type High School in Chicago at 1515 N. Oakley Blvd» (Proceedings of the First Unionistic Congress. September 28, 1956 to September 30, 1956. St Procopius Abbey. Lisle, Illinois. P. 25.)

хай не турбуецца. Ня ведаю, дзе ён думаў, што зрабіў памылку. Я ў час кансэкрацыі аднаго слова ня здужаў поўнасьцю сказаць, але быў перакананы, што а. Тарасэвіч не зрабіў памылкі, і мы служылі далей… Пасьля камуніі а. Тарасэвіч сказаў кароткае казаньне, якое можна зьмясьціць у словах: “Любіць мы павінны ўсіх… Дзякую ўсім, асабліва хору… Вітаю айца Ч. Сіповіча, нашага сьвятара і дзеяча, які скажыць вам казаньне”. Сапраўды мне не хацелася ў гэтакіх абставінах нічога гаварыць, але сказаў, як умеў, аб тым, што царква не павінна быць пустой, што, апрача хору, трэба і вернікаў. Такжа пару слоў па-ангельску. Хор сьпяваў нядрэнна, але не адчуваецца пабожнасьць у яго сьпеве… Пасьля літургіі спатканьне з людзьмі, з праф. Куліковічам, Маразамі, Чарнэцкімі, Сенкевічам Г. З усімі дагаварыўся, калі іх маю адведаць».

Пасля Чыкага дарога айца Сіповіча вяла ў Дэтройт, затым у Канаду — у Лондан, Бэры і Таронта, — а адтуль зноў у ЗША, у Кліўленд і Нью-Ёрк. Акрамя таго, ён наведаў Філадэльфію і Вашынгтон. Усюды, дзе айцу Сіповічу даводзілася быць, ён адпраўляў св. літургію, прамаўляў казанні, рабіў даклады, сустракаўся са старымі знаёмымі і прыяцелямі, заводзіў новыя знаёмствы…

Надышоў дзень 6 снежня, апошні дзень знаходжання на амерыканскім кантыненце. Увечары ў Нью-Ёрку — даклад айца Сіповіча ў Інстытуце навукі і мастацтва. Вось што ён напісаў у дзённіку: «Са сп-няй Арсеньневай і Оляй Запруднік едзем у Украінскі Інстытут. Дождж зьверху, ільдзіны ўнізе па дарозе… Прыйшло каля 30 чалавек. Адчыніў зборку сп. Адамовіч, старшыня Інстытуту. Пасьля дакладу дыскусія і запытаньні. Сп. Шукелайць у прачулай прамове просіць зьвярнуцца да Б(іску)па Слоскана, каб энэргічней заапекаваўся беларусамі. У той час, калі ўсё нішчыцца на бацькаўшчыне, тут у вольных краінах беларусы каталікі такжа без апекі! Падобна гаворыць Бартуль. Др Я. Станкевіч указвае на мінусы беларускага жыцьця… Сп. Тулейка выказвае погляд, што царкоўнае і грамадзкае жыцьцё могуць суіснаваць разам… Каля 12 ноччу вярнуўся да Кушаляў. Сюды прыйшоў Шукелайць, Бартулі, Запруднік. Крыху выпілі і закусілі на разьвітаньне. Іду спаць каля гадз. 3-цяй уночы». Раніцай наступнага дня: «Адпраўляю Імшу ў капліцы сясьцёр Назарэтанак… Пасьля Імшы зьбіраюцца сёстры ў закрыстыі. Жадаюць мне шчасьлівай дарогі. Далі падарак. Каля гадз. 9-ай выяжджаем машынай сп-ра Курылы, разам з Ф. Бартулём, Арсеньневай і Запруднік да мараплава. Разьвітваемся. Сумна мне

стала, калі астаўся сам адзін, бачу на тварах некаторых сьлёзы. Разумею іх». У пятніцу 13 снежня раніцай а. Сіповіч сышоў з мараплава «Normandie» ў ангельскім порце Плімут і а 3.30 гадзіне дня быў ужо ў Лондане.

Тры месяцы далі айцу Сіповічу магчымасць скласці добрае ўяўленне пра жыццё і духоўныя патрэбы беларусаў на амерыканскім кантыненце. Ён вярнуўся перакананы ў тым, што ў Амерыцы патрэбны моцны беларускі рэлігійны асяродак, падобны да Марыян Гаўз. Гэтая думка прыходзіла, відаць, і іншым людзям. 27 снежня 1957 г. ён пісаў айцу Татарыновічу, што айцец Францішак Чарняўскі «нагаворвае мяне (ды ня толькі ён!), каб я выяжджаў у Амэрыку і там купляў такі ж Марыян Гауз». У той самы дзень айцец Рэшаць пісаў айцу Татарыновічу: «А. Сіповіч — гэта на амэр. грунце мэтэор (у новым стылю «спутнік»), пералётная птушка. У яго свае пляны марыянскія. Дужа магчыма, што, асеўшы ў Амэр., ён мог бы шмат добрага зрабіць між беларусамі».

Амерыканскі праект абмяркоўваўся між Сіповічам і Гарошкам, калі той прыехаў у Лондан у лютым 1958 г. Аднак галоўнай мэтай ягонага прыезду было сказаць Сіповічу пра свой намер уступіць у закон марыянаў і параіцца з ім, як найлепш гэта зрабіць. Цяжка сказаць, ці ён сапраўды раптам пачуў пакліканне да законнага жыцця. Вельмі магчыма, што, стомлены напружанай працаю і не маючы ніадкуль дапамогі, ён паддаўся на перакананні Сіповіча, што будзе лепш для ўсіх іх і для справы, калі яны злучаць свае сілы.

У Парыж на месца айца Гарошкі пастанавілі паслаць Кастуся Маскаліка, хоць было ясна, што ён зусім няздатны для гэтай пасады. Можа, таму Сіповіч і Гарошка спрабавалі захаваць свае планы ў сакрэце. Гэта, аднак, у іх не атрымалася. Мікола Абрамчык нешта западозрыў і напісаў Сіповічу 14 сакавіка: «Нядаўна да мяне дайшла вестка, што Вы плянуеце, ды ня толькі плянуеце, а ўжо падобна пачалі захады аб пераезьдзе а. Льва з Парыжа ў Лёндан. На месца а. Льва маеце паслаць а. Маскаліка… Вось жа калі запраўды ў Вас такія пляны, то гэта азначае: 1) калі не фармальнае, дык прынамсі практычнае ліквідаваньне Беларускай Каталіцкай Місіі ў Францыі; 2) больш чым цяжкі ўдар па нашаму грамадзкаму жыцьцю ў Францыі, бо забіраеце апошняга культурнага чалавека з францускай мовай, пакідаючы без нікога нашых работнікаў, тым больш — чалавека, якога ўсе работнікі любяць».

Айцец Сіповіч адказаў Абрамчыку 18 сакавіка: «Вы кажаце, што ад’езд з Францыі а. Льва — гэта ўдар па грамадзкаму там жыцьцю. Згаджаюся і з гэтым часткова, толькі з вялікім сумам трэба сьцьвердзіць адно, што нашыя сьвецкія дзеячы павыяжджалі з Эўропы ліха ведае куды і мы сьвятары мусімо ўваходзіць туды, дзе трэба і ня трэба, бо няма ўжо нікога. Пакольні мне ведама, на працу ў радыё “Вызваленьне” адусюль папрыяжджалі. А ці стараўся хтосьці прыехаць у В. Брытанію, каб весьці беларускую палітыку н(а)пр(ыклад)? Астроўскі — так! Але бэенэраўцы і вухам не кіўнулі. “Хтосьці будзе рабіць, штосьці будзе рабіцца”. Няма ў нашых дзеячоў ахвярнасьці, а робіцца палітыка самацёкам».

Таго самага дня ён напісаў айцу Гарошку: «Сталася, як ты і прадбачваў, а наш сакрэт блізу ўжо расшыфраваны. Ня ведаю кім і як, але гэта няважна. Пазьней ці раней справа мусіць стацца яўнай. Разумеецца, сп. Абрамчык бароніць свайго панадворка. Тое, што ён піша аб тваёй асобе — *concedo* (згаджаюся. — *А. Н.*) поўнасьцю, і а. Маскалік цябе не заступіць на 50%. Але Абрамчык ня знае нашых плянаў ані адносна Амэрыкі, ані адносна марыянаў. Я думаю ў гэтай фазе хопіць даць яму агульны адказ: мы робім з поўнай сьведамасьцю і адказнасьцю ператасоўкі дзеля большага дабра нашага народу. Мне адно баліць, што Абрамчык ніколі не шкадуе, што нічога беларускага каталіцкага няма ў Зл. Штатах, і быў бы, здаецца, задаволены, каб мы тут усе асталіся і там аўтакефалістам “не мяшалі”. Ці ты атрымаў такжа падобнае пасланьне? Са сп. Абрамчыкам, як і з іншымі нашымі паважанымі дзеячамі, мы павінны пaступаць вельмі тактычна, але без ніякіх ухілаў ад нашых плянаў».

Абрамчык падзяліўся сваімі падазрэннямі з іншымі. Антон Шукелойць з Нью-Ёрка на паштоўцы з велікоднымі віншаваннямі пытаўся ў Сіповіча: «Напішыце, што вы там за пэртурбацыі на становішчах робіце і што яны маюць на мэце? Пераездам а. Льва Гарошкі ў Лёндан моцна затрывожаны прэзыдэнт. Баіцца, гэта можа спрычыніцца да развалу бел. калёніі ў Парыжы».

Айцец Сіповіч адказаў Шукелойцю 11 красавіка 1958 г.: «Ужо вельмі надзейна, што Марыян Гауз астанецца ў руках беларускіх марыянаў. А дзе ж яны? З Польшчы не выпускаюць ані Адважнага, ані Ліся. Значыць, трэба тут усё зрабіць, каб я ня быў адзін… Вы кажаце, што выезд а. Льва з Парыжа прычыніцца да развалу калёніі нашай у Парыжы. Адзін чалавек ня творыць калёніі, а калі яна такая, што на адным чалавеку апіраецца, дык шкада для яе а. Льва, які сёньня патрэбны ёсьць

для большай лікам публікі. Мне здаецца, трэба браць нам сьвятаром перадусім на ўвагу патрэбу душ, а калі ўсё, што толькі можам, зробім для збаўленьня беларускіх душаў, дык усё іншае (значыць, і грамадзка-палітычныя валёры) будуць дадзеныя. Вы добра ведаеце, што за стан каталікоў беларусаў у Амэрыцы і хто іх абслугоўвае. Мы ня можам аб іх ня думаць зусім незалежна ад таго, ці там нас хочуць ці не. Я асабіста найлепш чуўся б у Лёндане, дзе згрубша наша жыцьцё ўпарадкавана, маемо свой прытулак і дзе працы такжа хапае. Але "прыйдзе час, калі іншы цябе абвяжа, і пойдзеш, куды ня хочаш"… У сьвятарскім жыцьці тым іншым — *большая патрэба*, і дзе яна ёсьць, туды мы пойдзем».

Каб заснаваць беларускі законны дом (кляштар) у Лондане, а пасля, магчыма, другі ў Амерыцы, двух святароў было замала. На пакліканні сярод эміграцыі не выпадала спадзявацца. Заставаліся беларускія марыяне ў Польшчы, і таму Сіповіч даўно пачаў старацца, каб ім далі дазвол прыехаць у Лондан. Аднак усе ягоныя намаганні заставаліся без выніку, што досыць дзіўна, бо польскія марыяне ды іншыя святары, нягледзячы на камуністычны рэжым, выязджалі за мяжу без вялікіх цяжкасцяў, асабліва пасля 1956 г. Айцец Сіповіч вырашыў засяродзіць свае намаганні на айцах Язэпе Германовічу і Антоне Лосю. Беларусы практычна не ведалі Лося, але а. Антон, чалавек параўнаўча малады, праявіў сябе добрым і здольным святаром, таму з яго магла быць карысць у Лондане. Трэба сказаць, што Лось ніколі не выказваў асаблівай ахвоты працаваць сярод беларусаў, тым больш сярод беларускай эміграцыі. Айцец Германовіч, наадварот, не меў ніякага жадання заставацца ў Польшчы, як і ў 1938 г. Ён стаў рабіць у пачатку 1957 г. захады, каб выехаць з Польшчы, афіцыйна каб наведаць Рым, але польскія ўлады не давалі дазволу. Дый чынілі перашкоды не толькі дзяржаўныя ўлады. Татарыновіч пісаў 6 верасня 1957 г. Сіповічу: «Перад хвілінаю званіў на v. Corsica, пытаючы ў справе прыезду а. Г(ермановi)ча і Лося. Пры адсутнасьці генэрала, адказаў мне а. Лысік, які кажа, што на некалькі ягоных пісьмаў няма адтуль ніякага адказу; калі я заўважыў, што гэта з прычын урадавых труднасьці, дык ён мне прабаваў абʼясьняць гэта нейкімі зыгзакамі нутранымі вашымі законнымі, што там інакш, выглядае, на справу, каму трэба выяжджаць, заглядаюцца. *Sapienti sat*… У наступны аўторак едзе туды а. Б(ол)туць, і баязно, каб гэтае "іншасьці поглядаў" не замацаваў». Сіповіч пісаў штосьь падобнае Гарошку 6 лістапада 1959 г.: «Пакуль быў у Рыме айцец Мрочак, дык ён вечна

знаходзіў нейкія прычыны, каб айцоў беларусаў з Польшчы ня рухаць, а польскія сьвятары і студэнты прыяжджалі і выяжджалі, і нікому ад гэтага бяды ня сталася». (Уладзіслаў Мрочак, паляк, быў генералам марыянаў ад 1951 да 1957 г.)

Першай «ахвярай» пастановы айца Гарошкі ўступіць да марыянаў стаў часопіс «Божым шляхам». Паводле перыядычнасці ягонага выхаду можна бачыць, як стомлены быў рэдактар. Перш часопіс выходзіў штомесяц, пасля — праз месяц. У 1955 г. выйшлі толькі тры нумары, а ў 1956 г. — адзін. З нумарам за 1957 г. а. Гарошка вельмі спазніўся і рабіў намаганні выдаць яго перад пачаткам навіцыяту.

У 1958 г. замест тыдня студыяў «Руні» беларусы прынялі ўдзел у Міжнародным Марыянскім кангрэсе 14–18 верасня ў Люрдзе. Апрача ўдзелу ў агульных мерапрыемствах, яны мелі сваю праграму, у рамках якой айцец Сіповіч прачытаў даклад на тэму «Францішак Скарына — гарачы паклоннік Найсвяцейшай Дзевы Марыі». Тэмай даклада айца Гарошкі была «Сутнасць культу Найсвяцейшай Дзевы Марыі на Беларусі».

9 кастрычніка 1958 г. памёр Папа Пій XII, якому выпала кіраваць Каталіцкай царквою ў вельмі цяжкі час Другой сусветнай вайны і пасляваеннага супрацьстаяння між Савецкім Саюзам і Захадам. 28 кастрычніка ягоным наступнікам быў абраны Папа Ян XXIII. Ён распачаў перыяд больш адкрытага кіравання Царквою і здзівіў увесь свет, абвясціўшы, што жадае склікаць новы Паўсюдны Сабор. Вялікія змены непасрэдна закранулі і беларусаў, хоць, магчыма, спачатку яны гэтага не ўсведамлялі.

У нядзелю 21 снежня 1958 г. у Парыжы вернікі развіталіся з айцом Гарошкам і сустрэліся з новым рэктарам, айцом Кастусём Маскалікам. Гарошка пісаў 30 снежня Сіповічу: «Разьвітальная Служба Божая і прыняцьцё ў Сындыкаце былі даволі шматлюднымі. Наагул можна было заўважыць, што ўсе стараліся прыняць а. Кастуся ветліва, запрашалі адведваць, і мы пакрысе адведваем, каго можам, толькі маё ўражаньне, што пасьля майго выезду сам ён да іх ня знойдзе дарогі». Прадчуванні айца Гарошкі, на жаль, спраўдзіліся…

У нядзелю 4 студзеня 1959 г. айцец Гарошка пакінуў цягніком Парыж і наступнага дня быў ужо ў Рыме.

## Біскуп

Пасля з’езда[1] пачалося чаканне. Ведаючы, як працуе Ватыканская курыя, усе разлічвалі, што чакаць давядзецца доўга. Яны яшчэ не ведалі Папу Яна XXIII…

Перад ад ’ездам з Рыму, 8 лютага 1960 г., айцы Сіповіч і Гарошка напісалі ліст генералу айцоў марыянаў з просьбаю: 1) каб айцоў Германовіча і Гарошку выправілі ў Лондан у беларускі марыянскі кляштар (ut patres Josephus Hermanovic et Leo Horosko Londinium in Domum nostram Marianam [Sectio Alboruthena] destinentur); 2) каб айцоў Антона Лося, Фелікса Журню, Тамаша Падзяву і Баніфата Саруля выклікалі з Польшчы ў Рым ці ў якое іншае месца ў вольным свеце для дапамогі іншым беларускім айцом марыянам у іхняй дзейнасці. Калі з палітычных прычынаў гэта немагчыма, дык польская марыянская правінцыя павінна заплаціць кампенсацыю беларусам за працу гэтых беларускіх марыянаў у Польшчы.

Генерал адказаў 13 лютага. Ён не пярэчыў, каб айцец Гарошка выехаў у Лондан. Адносна ж айца Германовіча ён меў засцярогі, бо той атрымаў польскі пашпарт, сапраўдны толькі на выезд у Італію. Калі б айцец Германовіч захацеў змяніць яго на ватыканскі ці нейкі іншы і польскія камуністычныя ўлады пра гэта даведаліся, яны б пачалі чыніць перашкоды марыянам у Польшчы. Пра кампенсацыю за працу беларускіх марыянаў у Польшчы, зразумела, нават не згадвалася.

Аднак айцец Германовіч досыць напакутаваўся ад камуністаў, савецкіх ці польскіх. Не чакаючы адказу генерала, 9 лютага ён папрасіў ватыканскі пашпарт і атрымаў яго. Пры канцы лютага ён разам з айцом Гарошкам прыехаў у Лондан, дзе іх чакалі айцы Сіповіч і Надсан. З чатырох святароў толькі апошні не быў марыянінам.

Прамінула чатыры месяцы, перш чым беларускія марыяне сабраліся адказаць генералу на ягоны ліст за 13 лютага. 9 чэрвеня яны паўтарылі сваё патрабаванне дазволіць чатыром раней згаданым беларускім марыянам выехаць з Польшчы на Захад. Яны нагадалі айцу генералу пра падобную просьбу айца Сіповіча 22 снежня 1946 г. — нягледзячы на сваю памяркоўнасць, яна засталася без выніку «з прычыны беспадстаўнай апазіцыі пачэснага айца Мрочака, які тады быў галоўным радным, і польскай правінцыі» (nullum tamen effectum ob non fundatam oppositionem tum R.P. Mroczek tunc temporis Conciliarii Generalis tum Provinciae Polonae obtinere). Прыводзячы контраргументы Мрочака суп-

рацць Сіповіча, быццам між працаю польскіх марыянаў у Друі і беларускіх марыянаў у Польшчы захоўвалася роўнасць і справядлівасць, аўтары ліста пісалі: «Выглядае, што ў сваіх разліках а. Мрочак прапусціў дробязь вялікай важнасці, менавіта, што нашыя друйскія айцы не маглі працаваць у Польшчы так, як у Друі (г. зн. па-беларуску. — *А. Н.*), калі, наадварот, польскія айцы (у Друі) працавалі ў польскім духу. Нам вядома, што праз увесь час знаходжання польскіх айцоў марыянаў у Друі і Вільні яны не мелі ніводнага беларускага кандыдата на святара і не сказалі нават аднаго казання па-беларуску». Цяжкасці Царквы ў камуністычнай Польшчы нельга параўнаць з трагічным становішчам у Беларусі, дзе не было нават аднаго біскупа, семінарыі ці кляштара і вельмі не ставала святароў. Аўтары працягваюць: «Гэтыя нешматлікія польскія святары, якія там засталіся, заслепленыя крайнім нацыяналізмам, дагэтуль вядуць пастырскую працу на польскай мове, дапамагаючы такім чынам, прынамсі ўскосна, бязбожнікам у іхніх падступных інтрыгах»*.

У гэтых моцных словах адчуваецца ўплыў айца Гарошкі, які любіў называць рэчы сваімі імёнамі. Невядома, ці генерал меў час адказаць на гэты ліст, бо падзеі пачалі развівацца вельмі хутка.

У панядзелак 4 ліпеня пасля літургіі айцец Сіповіч атрымаў наступную тэлеграму: «Pregola venire quanto prima Roma per communicazioni urgenti. Padre Coussa Assessore» (Прашу Вас прыехаць як найхутчэй у Рым дзеля безадкладных вестак. Айцец Куса асэсар). Айцец Акакі Куса, Алепінскі манах з Сірыі, займаў другое пасля кардынала становішча ва Усходняй Кангрэгацыі.

Айцец Сіповіч напісаў у сваім дзённіку: «Паказаў гэту тэлеграму а. Язэпу Германовічу, пасьля а. Льву Гарошку. Усе рашылі, што я павінен ехаць самалётам. Розныя роздумы і дагадкі».

На наступны дзень: «Прыяжджае з Нотынгаму а. А. Надсон. Віншуе мяне з біскупствам… Айцец Леў кажа, калі мяне клічуць дзеля біскупства, то я не павінен адракацца… Перадаю а. Гарошку касавыя кнігі Марыян Гауз, а а. Алесю кіраўніцтва Місіяй у Ангельшчыне да часу, аж не вярнуся».

У сераду 6 ліпеня: «Спавядаюся ў а. Язэпа Германовіча. Ён мне кажа, каб я да біскупства падыходзіў са страхам Божым,

---

* «Pauci illi sacerdotes Poloni qui ibidem habentur nationalismo exagerato obcaecati operam pastoralem in lingua Polona adhuc performant, ut quin dubio hoc modo saltem indirecte atheistas in eorum machinationibus perfidis adiuvent».

вераю і любоўю. Адпраўляем сьв. Літургію. Айцец Алесь кажа, каб я служыў у сярэбраных рызах і першы. Чаму? Ня ведаю. Але слухаю нашага добрага эклезіярха. Сьнеданьне. Прашу багаславенства ў а. Язэпа Германовіча, і едзем з а. Львом Гарошкам… да Air Terminal. Купляю білет. Астаецца пару хвілін да гутаркі з а. Львом… Прыляцеў у Рым роўна а гадз. 1.05».

Раніцай наступнага дня, 7 ліпеня, Сіповіч пайшоў ва Усходнюю Кангрэгацыю: «Чакаю, пакуль выкліча мяне а. Куса, і малюся. Каля гадз. 11-тай ён просіць у сваю асэсарскую залю. Калі селі, ён, разварачваючы канвэрты атрыманых лістоў, зусім абыякава пытае мяне пра місію ў Лёндане, як разьвіваецца і ці трэба ёй дапамогі? Я адказваю на ўсё спакойна. Тады ён: “А можа зрабіць цябе архімандрытам і дабавіць нейкі тытул?” Адказваю: “Ніколі аб гэтым ня думаў”. Тады ён ізноў: “А каб зрабіць цябе біскупам, памочнікам Біскупа Слоскана, і даць тытул Апостальскага Візытатара для беларусаў?” Я вельмі ўзрушаны. Адказваю, што я ёсьць законьнікам і зрабіў абяцаньне не старацца годнасьцяў ані ў законе марыянаў, ані па-за ім. Ён махнуў рукою і кажа, і я законьнік, а вось сказалі, і раблю тое, што Айцец Сьв. хоча. Тады бярэ мяне за руку і вядзе ў залю, дзе нікога няма, і кажа: “Памаліся і падумай! Я цераз паўгадзіны заклічу”. Думаў і маліўся… У маіх вушах словы а. Льва Гарошкі, сказаныя перад маім выездам зь Лёндану: “Калі дадуць табе біскупа, згаджайся! Бо калі адкажашся, могуць зусім ня даць!” Бяру паперу і, хаця рука дрыжыць, пішу некалькі сказаў: Пачуваю сябе нягодным быць біскупам. Заўсёды стараўся быць паслушным сваім старэйшым, асабліва Айцу Сьв. Прымаю годнасьць біскупа не дзеля якіхколечы маіх заслуг, але знак любові Айца Сьв. да майго мучанага беларускага народу. Гэтых пару сказаў, напісаных з памылкамі, я ня думаў нікому перадаваць. Тымчасам а. Куса ўзяў іх, прачытаў, сказаў: “*Molto bene*” (вельмі добра. — *А. Н.*) і затрымаў. Монс. Куса ды шмат іншых пачалі мяне гратуляваць, называць *Eccellenza*. Усё гэта было для мяне абыякавым. Мне здавалася, што паўсьвету ўзвалілася на мае плечы. Ідзём у той пакой, дзе працуе Монс. Моёлі. Ён задаволены… Яшчэ ня скончылі гутаркі, а Монс. Куса кліча мяне да Я. Эм. Кардынала Чыканьяні. Гэты прыняў па-бацькоўску. Кажа: “Вы будзеце добры біскуп. Вы шмат паможаце вашаму народу”… Пасьля аўдыенцыі… пайшоў да Сьв. Пятра».

Наступныя дні айцец Сіповіч правёў у падрыхтоўцы да вялікай падзеі. 9 ліпеня ён з’явіўся з візітам да архібіскупа Івана

Бучкі, які з радасцю згадзіўся быць ягоным кансекратарам. 15 ліпеня Сіповіч наведаў кардынала Тысэрана і меў з ім даўжэйшую гутарку, якую апісаў у сваім дзённіку: «Іду ў Ватыканскую бібліятэку да Я. Эм. Кардынала Тысэрана. Прыймае як заўсёды шчыра, проста. Віншуе мяне, багаслаўляе. Кажа, вельмі добра, што я назначаны біскупам: “*Lei e stato buono sacerdote, sara buono vescovo*” (Вы былі добрым сьвятаром, будзеце добрым біскупам. — *А. Н.*). Дабавіў: “Вельмі важна, каб тыя народы, дзе прасьлед рэлігійны і дзе вынішчаецца духавенства, мелі сваіх біскупаў. Я надзеюся, што вестка аб вас падымець на духу ваш народ на бацькаўшчыне. Также вашая наміната важная з узгляду на экумэнічны сабор”. Першы раз пачуў сэнс таго, чаму мяне назначылі біскупам. Дагэтуль шмат мне гаварылі камплімэнтаў, але ніхто ня ўспомніў аб сутным».

Ад 17 да 23 ліпеня айцец Сіповіч адпраўляў рэкалекцыі ў Асыжы, горадзе св. Францішка. Кіраваў рэкалекцыямі айцец Джавані Росі. Сіповіч запісваў у сваім дзённіку думкі з ягоных канферэнцыяў, якія яго найбольш уразілі. Напрыклад, 19 ліпеня ёсць такі запіс: «На адным размышляньні сказаў Don Giovanni: Non e pericoloso il communismo, ma e pericoloso il *commodismo* dei preti» (не камунізм небясьпечны, а прыстасаванства сьвятароў). Зноў 20 ліпеня: «Вельмі прыгожай была апошняя канфэрэнцыя Don Giovanni Rossi аб сьвятарскім апасталяце. Вера ў перамогу Хрыстовых ідэяў. Аптымізм. Паленіка непатрэбная. Перш дайсьці да сэрца, а пасьля дойдзеш і да розуму. Кажа, што ён памыляўся, калі імкнуўся з артыстамі гутарыць аб мастацтве. Іх душы спрагнёныя Бога, і ім трэба гаварыць аб Богу. *Non difendere la fede, ma diffondere!*» (не бараніць веру, а пашыраць. — *А. Н.*). 21 ліпеня: «Дон Карлё (напэўна, памылка: павінна было быць Джавані. — *А. Н.*) Росьсі паўтарыў сказ кардынала Фэррэры: калі жадаеце мець посьпех у апасталяце, дапамагайце дзецям, хворым і бедным! Гаварыў на тэму: Coadjutores Dei sumus! (Мы — памочнікі Бога. Гл. 1 Кар 3, 9. — *А. Н.*). Глыбокі, сакавіты сказ сьв. Паўла! Вось лозунг, вось кліч майго біскупства! Божа, не глядзі на мае грахі і не адкажы мне Тваёй ласкі быць Тваім памочнікам!»

Айцец Сіповіч вярнуўся ў Рым 24 ліпеня. Наступнага дня ва Усходняй Кангрэгацыі яму пацвердзілі, што ягонае свячанне будзе 4 жніўня ў царкве св. Ганны ў Мюнхене падчас Міжнароднага эўхарыстычнага кангрэса. Яно стане найважнейшай падзеяй (*coronamento*) «дня сьвятароў» на кангрэсе. У той самы

дзень прынеслі папскую булу* біскупскага прызначэння. Сіповіч запісаў у сваім дзённіку: «Гэты гістарычны акт, акт ласкі Божай для ўсяго беларускага народу я прымаю і цалую». Яму трэба было перакласьці булу на беларускую мову.

2 жніўня айцец Сіповіч разам з айцом Татарыновічам прыехаў у Мюнхен, дзе на станцыі яго ўжо чакала вялікая група беларусаў на чале з айцом Уладзімерам Салаўём, ягоным сакратаром на час кангрэсу. Прыехалі ў гатэль для святароў, Pius Maria Heim, дзе Сіповіч меў жыць. І тут не абышлося без малога інцыдэнту. Вось што ён сам піша ў дзёньніку: «На маіх дзьвярах было напісана імя і прозьвішча і “Polen” (Польшча). Я папрасіў а. Салаўя, свайго сакратара на Кангрэс, каб гэта адразу было зьменена на “Weissruthene” (беларус), што было зроблена».

Нарэшце прыйшоў чацвер 4 жніўня. На царкве св. Ганны звонку вісіць бел-чырвона-белы сцяг. У царкве каля алтара стаіць харугва з выяваю Жыровіцкай іконы Божай Маці. Царква напоўнілася народам доўга перад 9-й гадзінай, калі мела пачацца ўрачыстая багаслужба. Літургію адпраўляе архібіскуп Іван Бучка, а з ім біскупы Платон Карныляк, украінскі экзарх з Мюнхена, і Андрэй Каткоў з Рыму, а таксама пяць беларускіх святароў. З правага боку алтара, на адмысловым месцы — біскуп Баляслаў Слоскан, апостальскі адміністратар Мінскі і Магілёўскі, у мітры і «капе». Таксама прысутнічаюць біскупы Букатка, Шмандзюк і Прашка (украінцы), Гаўліна (паляк), біскупы з Ганы і Мадагаскара ды інш. Айцец Сіповіч, у святарскім адзенні, стаіць з левага боку алтара. Пасля Малога ўваходу айцы Леў Гарошка і Міхась Маскалік вядуць айца Сіповіча да алтара. Мансіньёр Маёлі, прадстаўнік Усходняй Кангрэгацыі, чытае па-лаціне папскую булу: «Joannes Episcopus Servus Servorum Dei dilecto filio Ceslao Sipovich… salutem et apostolicam benedictionem… Ян Біскуп, Слуга слугаў Божых, нашаму дарагому сыну Чаславу Сіповічу… прывітаньне і апостальскае блаславеньне. Паколькі Сьвятая Рада, адказная за справы Ўсходняй Царквы, уважала карысным задаволіць патрэбы беларускіх вернікаў усходняга абраду, якія дзеля якой-колечы прычыны жывуць за межамі бацькаўшчыны. Мы, ахвотна згадзіўшыся з гэтым… палічылі цябе, дарагі сыне, чые выдатныя духоўныя і інтэлектуальныя цноты і выпрабаваная пабожнасьць да Бога ясна сьведчаць на тваю карысьць, годнай асобай, якой можна даручыць такі абавя-

* Булай (ад лацінскага слова bulla — пячатка) называецца папскі дакумент вялікай важнасці з віслай папскай пячаткаю.

зак. І каб ты мог выконваць свае абавязкі з большай карысьцю… нашай апостальскай уладай прызначаем цябе Біскупам з тытулам пасаду Марыямітанскага…»*

Айцец Салавей чытае булу па-беларуску.

Затым пачаўся абрад біскупскага свячання. Сам Сіповіч так апісаў яго ў сваім дзённіку: «Пачынаю вызнаньне веры. Пасьля другога вызнаньня веры мае ногі быццам не мае… Стараюся чытаць выразна і не сьпяшыць. Хутка (для мяне) надыходзіць найважнейшая хвіліна. Даюць мне жэзл. Я кленчу. Над галавой цяжкае Эвангельле. Здаецца, ніхто яго не падтрымлівае, бо яно цісьне мяне, і каб не апора аб жэзл, хіба ня вытрымаў бы цяжару. Малюся як магу і умею, каб Дух Сьв. даў мне сваю моц у стане архірэйскім. Пасьля аблачэньне і тое незабываемае *аксіос*! (годны! — *А. Н.*) Вітаюся з усімі архірэямі… Прыводзіць мяне а. Марусын да Я. Э. Букаткі, а той сьпявае ектэніі і многалецьце. Яго звонкі голас напаўняе ўвесь касьцёл, нейкая радасьць разьліваецца на тварах усіх прысутных. Я ўжо з ласкі Божай архірэй…» Да гэтага апісання варта дадаць, што ва ўскладанні рук бралі ўдзел усе прысутныя біскупы.

Пасля літургіі і благаславення новым біскупам усіх прысутных — урачысты прыём у Kolpinghaus з багата застаўленым сталом. Апісвае біскуп Сіповіч: «Згодна з воляй Я. Э. Бучкі першую прамову маю я сам. Гавару па-беларуску, па-лаціне і па-ангельску. Дзякую Хрысту за ласку паўнаты сьвятарства і Яго наступніку на зямлі Папу Яну XXIII, такжа ўсім тым, хто спрычыніўся да маёй хіратоніі… Наступным прамаўляе Я. Э. Бучка па-ўкраінску. Між іншым ён выказвае радасьць, што каталіцкая Царква Усх. абраду сярод беларусаў аднавілася. Ён такжа “пацяшае”, так як тая цыганка кагосьці пацяшала: “7 гадоў будзеш гараваць, а пасьля прывыкнеш”. Пасьля мае слова Монс. Моёлі. Гавора па-італьянску, з гумарам… Кажа, што ён вельмі рады, што беларусы пасьля гэтак доўгага перарыву, спрычыненага прасьледам і палітычнымі абставінамі, маюць цяпер

* «Joannes Episcopus Servus Servorum Dei dilecto filio Ceslao Sipovich… salutem et apostolicam benedictionem. Quandoquidem Sacrum Consilium, negotiis Ecclesiae Orientalis praepositum, opportunum censuit ut iis fidelibus albo-ruthenis ritus byzantini, qui extra patriam quacumque de causa degunt, consuleretur, id Nos libenti animo accipientes… Te, dilecte fili, quem egregiae animi ingeniique virtutes et spectata in Deum pietas probe commendant, aptum esse aestimavimus cui huiusmodi officium daretur. Quo autem fructuosius his munus fungi possis… quae apostolica pollemus potestate Te Episcopum nominamus sedis titulo Mariammitanae…»

свайго біскупа, які ад імя Беларусі будзе прыймаць удзел такжа ў экумэнічным саборы. Пасьля гаворыць сп. інж. М. Абрамчык, Старшыня Рады БНР. Ён такжа выказаў задавальненьне, што беларуская каталіцкая ўсходняя Царква ў асобе Ч. Сіповіча атрымала свайго біскупа… Ён выказвае ўдзячнасьць Ап. Пасаду ад імя ўсіх беларусаў».

Наступнага дня, 5 жніўня: «Вечарам у касьцеле Maria von gutem Rate мая біскупская служба для беларусаў… Гаварыў казаньне аб Хрысьце ў сьв. Эўхарыстыі і аб пасланстве біскупа, біскупа беларускага. Пасьля мне гаварылі, што ўважаць трэба гэта казаньне праграмовым і натхнёным, і прасілі яго зьместу, але я яго ня меў. Меў прыгатаваны толькі ў думцы». На гэтай «сямейнай» урачыстасьці беларусы першы раз маглі быць самі з сваім уладыкам. Між іншым, ад самага пачатку неяк натуральна ўсе сталі ўжываць традыцыйны зварот «Уладыка», а «біскупа» пакінулі для афіцыйных дакумэнтаў і фармальных аказіяў. Нават ангельскія прыяцелі ў Лондане з часам навучыліся казаць «Влядііка»…

У суботу 6 жніўня, як піша ўладыка Чэслаў, «на галоўным алтары на Theresienwiese сьв. Літургія ўсіх усходніх біскупаў пры асысьце Патрыярха Антыяхійскага Максіма IV. Саслужыла 11 біскупаў: Я. Э. Я. Э. Гэрманюк, Бучко, Саварын, Корныляк, Прашко, Букатко, Шмондзюк, Катков, Сіповіч, Гакім. Прыслужвалі два дыяканы: украінскі і з Шэвэтоню. Сьпявалі тры хоры: украінскі, г. зв. расейскі і грэцкі. “Расейскі” (з Шэвэтоню. — *А. Н.*) дыякан маліўся толькі за “страждущих русских братьев”. За гэта ён быў напомнены мной і Я. Э. Букаткай. Ён перапрасіў пасьля літургіі Я. Э. Гэрманюка. Прасіў даць яму пакуту: я сказаў, каб памаліўся за народы ўкраінскі і беларускі. Калі я расказаў аб гэтым інцыдэнце Монс. Моёлі, дык гэты аб дыякану сказаў “*che stupido!*” (што за дурань. — *А. Н.*)».

Серада 10 жніўня была апошнім днём у Мюнхене. Перад ад’ездам біскуп Сіповіч і айцец Салавей зрабілі візіт кардыналу Вендэлю, архібіскупу Мюнхенскаму і «гаспадару» Эўхарыстычнага кангрэса. Біскуп Сіповіч запісаў у дзённіку: «Прыняў нас вельмі ветліва і сымпатычна. Падзякаваў яму за ўсё, што ён быў ласкаў зрабіць для маёй кансэкрацыі. Я кажу, што, незалежна ад мяне, мая біскупская кансэкрацыя сталася адным з характэрных пунктаў усяго Кангрэсу. Кард. Вэндэль на гэта: “Гэтага мы і жадалі! Вельмі добра!” Пытае, якое наша ўражаньне аб Кангрэсе? Я з свайго боку заўважыў, што вельмі моцны акцэнт у час Кангрэсу быў на ўсходнія абрады. Я. Эмінэнцыя кажа, што гэта было

сьведама зроблена і што гэта можа быць добрай падрыхтоўкай да экумэнічнага сабору і наагул да хрысьціянскай еднасьці».

У чацвер 11 жніўня біскуп Сіповіч ужо з’явіўся ў Рыме. Там чакала яго шмат справаў, найважнейшая з іх — аўдыенцыя ў Сьвятога Айца ў суботу 20 жніўня ў летняй папскай рэзідэнцыі Кастэль Гандольфа (Castel Gondolfo). Вось як апісвае яе сам біскуп Сіповіч: «А гадз. 12.08 прыняў мяне Айцец Сьв. словамі: “*Venga, venga!*” (заходзь, заходзь!). Пашлі да стала. Ён сеў, і я сеў збоку стала. Запытаў мяне, хто я, скуль, хто мяне кансэкраваў? Адказаў, што я беларус, з Беларусі, і што я біскуп пасьля доўгіх гадоў нашага гіерархічнага сіроцтва. Спачатку думаў Айцец Сьв., што я ўкраінец, пасьля аднак, калі я ўспомніў аб Менску, умяйсцовіў нашу краіну належна. Калі я сказаў, што быў кансэкраваны ў Мюнхэне, ён запытаў: “Хто кансэкраваў?” — “Я. Э. Бучко” — кажу. “*O quell piccolo mio amico!*” (О, гэты мой маленькі прыяцель! — *А. Н.*) — з усьмешкай сказаў Папа. Тады перайшоў Айцец Сьв. на лацінскую мову і сказаў, што трэба заўсёды выбіраць 1) апошняе месца (ізноў засьмяяўся, паказваючы на сябе і гаворачы па-італьянску: “Ma vedi, loro me hanno messo qui!” [але глядзі, яны мяне ўсадзілі сюды! — *А. Н.*]); 2) быць слугой усіх; 3) захаваць *integritatem et puritatem sacerdotalem* (сьвятарскую цэльнасьць і чысьціню); 4) адказваць на кліч ласкі. Вылічаючы гэтыя чатыры пункты, ён дадаў: “Sub juramento propositionem uti sacerdos feci haec quatour puncta observare” (Пад прысягай я як сьвятар зрабіў пастанову захоўваць гэтыя чатыры пункты. — *А. Н.*). Скончыўшы гутарку характару маральна-пэдагагічнага, Айцец Сьв. кажа: “А цяпер хачу ахвяраваць табе мэдаль. Ён недарагі, не залаты, але даю яго для біскупаў ад шчырага сэрца…” …Атрымаўшы падарак, пацалаваў руку Айцу Сьв. і папрасіў багаславенства для маёй маці, маёй сям’і, для ўсіх сваякоў, для ўсіх беларусаў на бацькаўшчыне і на чужыне, для ўсіх марыянаў. Айцец Сьв. адказаў: “*Di tutto il cuore*” (ад усяго сэрца. — *А. Н.*). Пасьля сам зьвярнуўся да мяне: “*Vuoi che facciamo insieme la fotografia?*” (Хочаш, зробім разам здымак? — *А. Н.*) — “*Si, Santita!* (Так, Ваша Сьвятасьць! — *А. Н.*)… Я забыўся запісаць, калі я гутарыў з Айцом Сьв. і калі я сказаў, што я працаваў сярод беларусаў у Англіі, дык ён сказаў: “Я вучуся цяпер ангельскай мовы, але ж яна страшэнна цяжкая… *è troppo difficile!*” Так сталася на аўдыенцыі, як прадказваў монс. Моёлі. Спантанічна-бацькаўскія пытаньні. Нейкая адразу адчуваецца дабрата і прастата гэтага

чалавека. Калі нават гаворыць аб прынцыпах, дык выказвае іх моцна, але проста, па-бацькоўску».

Толькі ў кастрычніку змог біскуп Сіповіч прыехаць у Лондан, які ён пакінуў 6 ліпеня. У нядзелю 30 кастрычніка прайшла ўрачыстая біскупская святая літургія. Малая капліца св. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз не магла змясціць усіх вернікаў — беларусаў ды іхніх прыяцеляў. На шчасце, надвор'е спрыяла. Як заўважыў біскуп у сваім дзённіку, «запраўды адчуваецца апека Божая над намі нават у гэтых малых рэчах». У наступную нядзелю, 6 лістапада, зладзілі «сямейнае» свята толькі для беларусаў: раніцай св. літургія ў Марыян Гаўз, а апоўдні прыём у Беларускім доме. На ім уладыка Часлаў атрымаў у падарунак кнігу Прата «The Theology of Saint Paul» і білет ганаровага сябра Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі.

9 лістапада ўладыка зноў выправіўся ў Рым.

9 сакавіка 1838 г. у Пецярбургу памёр у 80-гадовым веку апошні беларускі грэка-каталіцкі мітрапаліт Язафат Булгак. Ён цяжка хварэў і быў зламаны духам. Апошнія 10 гадоў жыцця ён бяссільна назіраў, як Язэп Сямашка і ягоныя паплечнікі пры поўнай падтрымцы расейскага ўрада падкопвалі знутры Грэка-каталіцкую царкву, каб, слабую, змусіць да «ўз'яднання» з расейскім праваслаўем. Адзін мітрапаліт, пакуль жыў, стаяў ім упоперак дарогі. Ён памёр каталіком, але ягоныя праціўнікі скарысталіся нават з ягонае смерці, пахаваўшы Язафата Булгака ў праваслаўнай царкве. Праз год, 25 сакавіка 1839 г., Беларуская грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква перастала існаваць. У часе беларускага нацыянальнага адраджэння рабіліся спробы аднавіць яе, але без выніку: не спрыялі палітычныя абставіны, заміналі іншыя перашкоды, сярод якіх — непрыхільнасць або, прынамсі, абыякавасць рыма-каталіцкіх царкоўных уладаў. Прызначэнне і высвячэнне біскупа Часлава Сіповіча азначала змену гэтага стаўлення да беларусаў. Такім чынам, пасля 120 гадоў Беларуская грэка-каталіцкая царква зноў мела свайго біскупа, што давала надзею на лепшую будучыню.

**«Быць усім для ўсіх»** (Гл. 1 Кар 9, 22)

Біскуп, як пераемнік апосталаў, кіруе даручанаю яму часткаю Царквы Хрыстовае. Ён павінен быць бацькам, настаўнікам і пастырам свайго статку. Калі біскуп — законнік, дык ён аўтаматычна складае з сябе ўсе абавязкі ў законе і не можа займаць у ім ніякай пасады без адмысловага дазволу вышэйшых царкоўных уладаў. Старыя і вядомыя законы — бенедыкцінцы, францысканцы, езуіты ды інш. — далі Святой Царкве шмат выдатных і святых біскупаў, але тыя ніколі не займалі ніякага становішча ў законе. Марыяне з’яўляюцца выняткам: на працягу шасцідзесяці гадоў (1909–1969) з шасці іхніх генералаў тры былі біскупамі.

Пасля прыезду біскупа Сіповіча ў Рым генеральная капітула працягвала сваю працу. У пятніцу 12 ліпеня сябры капітулы мелі аўдыенцыю ў Святога Айца. Той, мяркуючы, што мае справу з палякамі, каб зрабіць ім прыемнасць, — як зазначыў біскуп Сіповіч у сваім дзённіку, — прывітаў іх словамі «*Niech będzie pochwalony Jezus Chrystus*» (Слава Ісусу Хрысту).

Так пачаліся шэсць цяжкіх гадоў у жыцці біскупа Сіповіча. У дадатак да ўдзелу ў Саборы ён мусіў амаль штодня займацца марыянскімі справамі, таму ў яго заставалася вельмі мала часу для беларусаў. Гэта ўжо адчувалася, калі ён 12 жніўня першы раз пасля свайго абрання прыехаў у Лондан. Месяц у Англіі мінуў у разборы нязладак польскіх марыянаў і фінансавых цяжкасцяў летувіскіх. Прайшла таксама сходка беларускіх марыянаў. І хоць там разглядаліся справы Місіі, святара немарыяніна не запрасілі.

Біскуп Сіповіч вярнуўся ў Рым 22 верасня 1963 г. Праз тыдзень, 29 верасня, распачала працу другая сесія Сабору, якая доўжылася да 4 снежня. Біскуп Сіповіч быў на ўсіх яе пасяджэннях, а таксама на пасяджэннях камісіі для законнікаў. На гэтай сесіі ён пазнаёміўся з двума прадстаўнікамі Расейскай маскоўскай патрыярхіі, айцамі Баравым і Ілічам, якія аказаліся… беларусамі.

Кожнай раніцы, перад пачаткам працы Сабору, адбываўся ўрачысты ўваход з Евангеллем, якое пасля клалі на алтар. У суботу 14 кастрычніка гонар уваходу з Евангеллем выпаў біскупу Сіповічу, які пакінуў наступнае апісанне ў дзённіку: «Сяньня меў вялікі гонар зрабіць уваход на пачатку сэсіі Сабору са сьв. Эвангельлем. Мне асыстуюць прат. Ул. Салавей і а. Кастусь Маскалік… Я маю епітрахіль, манцію, амафор, крыж айца арх. Абрантовіча і панагію. Ідзе з намі папскі цырыманіер і два сьвечаносцы. Цяжка апісаць ураджаньне. Сьвятое Эвангельле — гэта

слова жывое Госпада Хрыста і сымбаль самога Хрыста. Мы — дзеці і слаўнага і гаротнага беларускага народу. Бог аднак у сваім міласэрдзі не забывае і нас. Сяньня маем гонар сьведчыць, што мы жывём і прыймаем удзел у найвялікшай падзеі сяньняшніх дзён, у Экумэнічным Саборы. Учора знайшоў у адным з нашых марыянскіх сховішчаў прыгожы крыж айца Абрантовіча. Ён мне мілы дзеля розных прычын, але дзіўна, што акурат цяпер я яго знайшоў і сяньня першы раз нашу ў час Сабору. Калі бяз волі Божай волас не спадае з галавы, дык і крыж ня мог знайсьціся без Яго волі. Шчыра дзякую і малю Заступнікаў Беларускага Народу і нашых патронаў марыянскіх прашу дапамагчы мне споўніць ува ўсім Божую волю».

За тры дні да гэтага, 11 кастрычніка, мітрапаліт Сліпый першы раз прамаўляў на Саборы. Біскуп Сіповіч запісаў галоўныя пункты ягонай прамовы: «Перш дзякуе Тройцы Прасьвятой, Маці Божай, усім Айцом за малітвы, дзякуючы якім ён можа быць прысутны тут на Саборы. Успамінае, што на іншых саборах — пачынаючы ад Нікейскага I (sic!) — ад імя ўкраінцаў прысутнічалі біскупы… пачынае выясняць, што ён разумее пад імем *Collegii Episcoporum* (калегіі біскупаў. — *А. Н.*). *Infallibilitas Papae et Episcoporum est a Christo* (непамыльнасць Папы і біскупаў ёсць ад Хрыста. — *А. Н.*)… У канцы звяртаецца да Сабору з просьбай, каб украінская старадаўняя сталіца Кіеў быў паднесены да годнасці патрыярхату». Біскуп Канстантыні адказаў мітрапаліту Сліпому, што «ані прыматы, ані кардыналы, ані патрыярхі ня ёсьць *de jure divino* (з Божага ўстанаўлення. — *А. Н.*), і таму ня трэба аб іх гаварыць у трактаце дагматычным». Гэта была першая, але не апошняя згадка пра ўкраінскі патрыярхат.

У царкве і ў свеце адбывалася столькі важных і цікавых падзеяў, а беларусы не мелі свайго рэлігійнага часопіса. «Зніч» айца Татарыновіча, нягледзячы на шмат выдатных якасцяў, у вялікай ступені выяўляў індывідуальнасць рэдактара. Адчувалася патрэба аднавіць «Божым шляхам», які пад рэдакцыяй айца Гарошкі карыстаўся заслужана добрай славай сярод чытачоў. Аднак айцец Гарошка, хоць і часта гаварыў пра гэта, заставаўся нерашучым, быццам сам зняверыўся ў сваіх сілах. Тады айцы Германовіч і Надсан вырашылі самі ўзнавіць выданне. Біскуп Сіповіч ухваліў праект, падтрымаў ідэю і айцец Гарошка. Пастанавілі выдаваць часопіс як двухмесячнік пачынаючы з 1964 г.

Тут варта прыгадаць, што, апынуўшыся на Захадзе, айцец Германовіч не марнаваў часу. У 1962 г. выйшла кніга ягоных успамінаў з часоў зняволення ў савецкіх вязніцах і лагерах «Кі-

тай–Сібір–Масква». Яна мела вялікі поспех і перакладалася на польскую (1966), летувіскую (1969) і італійскую (1969) мовы. 22 лютага 1973 г. уладыка Часлаў на прыватнай аўдыенцыі ў Папы Паўла VI падараваў яму італійскі пераклад кнігі. Другая кніга, «Князь і лапаць», выйшла ў 1964 г. — гэта вершаваная аповесць пра лёс сям'і беларускіх эмігрантаў у ЗША, якія пасля вайны паверылі савецкай камуністычнай прапагандзе і вярнуліся на бацькаўшчыну.

Айцец Германовіч, нягледзячы на свой век, аказаўся выдатным рэдактарам. Ён умеў зрабіць часопіс цікавым для ўсіх і прыцягнуць да супрацоўніцтва новых аўтараў. Апрача артыкулаў рэлігійнага характару, у ім друкаваліся матэрыялы, часта зусім новыя, на культурныя тэмы, напр. «Гісторыя беларускай царкоўнай музыкі» Г. Піхуры або «Беларускія буквары XVI–XVII стст.» А. Надсана ды інш. «Божым шляхам» стаў таксама афіцыйным органам біскупа Сіповіча. У ім друкаваліся ягоныя пастырскія лісты, справаздачы з Сабору і г. д.

У 1964 г. біскуп Сіповіч прыняў кандыдатам да святарства Рабэрта Тамушанскага, амерыканца беларускага паходжання ў трэцім пакаленні. Сваёй «беларускасцю» ён быў забавязаны дзядам, якія прыехалі ў Амерыку на мяжы XIX і XX стст. Яны паходзілі з самага заходняга кутка Беларусі, дзе, нягледзячы на пераслед, захаваліся рэшткі уніі. Яны размаўлялі па-беларуску, але, не атрымаўшы фармальнай адукацыі, не ведалі гэтага і называлі сваю мову «простай». У пошуках сваіх каранёў Рабэрт паступіў да ўкраінскіх айцоў базыльянаў, але адчуваў, што гэта не зусім тое, чаго шукаў. Першы раз ён пачуў, што размаўляе па-беларуску, ад нейкага ўкраінскага святара. Рабэрту пашанцавала пазнаёміцца з айцом Францішкам Чарняўскім. Той накіраваў яго да біскупа Сіповіча, які знайшоў для Тамушанскага месца ў семінарыі ў Кэнігштайне ў Нямеччыне. Увесну 1964 г. Рабэрт Тамушанскі ўжо распачаў там навуку.

Улетку 1964 г. на продаж выстаўляўся дом побач з Домам св. Кірылы. Біскуп Сіповіч пастанавіў купіць яго, у першую чаргу для разбудовы інтэрната. 2 верасня 1964 г. ён зрабіў у сваім дзённіку наступную зацемку: «Дзень "гістарычны" для інтэрнату школы сьв. Кірылы Тураўскага: дагаварыўся са сп. Лямб адносна куплі ягонага дому, 39 Holden Road № 12. За гэты дом перш запрасіў сп. Лямб 12 тысяч фунтаў, старгаваліся на 10 тысяч». Дом набылі ў пачатку 1965 г., атрымаўшы пазыку ад Уэстмінстэрскай дыяцэзіі.

14 верасня 1964 г. пачыналася трэцяя сесія Паўсюднага Сабору, таму напярэдадні біскуп Сіповіч вярнуўся ў Рым. Першым на парадку дня стаяла абмеркаваньне праекта дэкрэта пра ўсходнія цэрквы, і біскуп Сіповіч 19 верасня выступіў перад Саборам з прамоваю. Зрабіўшы агульныя заўвагі да праекта, ён скончыў наступным чынам: «У канцы дакінем пару слоў аб значэньні каталіцкіх Усходніх Цэркваў дзеля здабыцьця еднасьці. Успомненым цэрквам, ганебнымі прасьледваньнямі даведзеным да малое колькасьці сваіх вернікаў, робіцца закід нейкага празэлітызму. Падобны закід можна пачуць нават з вуснаў каталікоў, што, шукаючы новых спосабаў паяднаньня, пагарджаюць мінуўшчынай. Сёньня мы ўсе тут, кіраваныя Сьвятым Духам, шукаемо лепшага, і мы, каталікі ўсходняга абраду ёсьць перакананыя, што наш удзел у злучэньні хрысьціян мае вырашальнае значэньне»*. Гэтак біскуп адказаў некаторым заходнім каталіцкім «экумэністам», якія глядзелі на каталіцкія ўсходнія цэрквы як на перашкоду ў зносінах з усходнімі цэрквамі, не з’яднанымі з Апостальскім Пасадам. Ён пасля атрымаў віншаваньні ад некаторых айцоў Сабору, у тым ліку ад украінскага біскупа з Аргенціны Сапэляка, грэцкага з Афінаў Якінтаса Гада і ангельскага біскупа Лідсу Патрыка Дуаера.

У 1964 г. справа ўкраінскага патрыярхату зноў выплыла наверх. Біскуп Сіповіч пісаў 29 кастрычніка ў сваім дзёньніку: «Учора ў час паседжаньняў спаткаўся ў саборы сьв. Пятра з прал. П. Татарыновічам, які атрымаў дазвол прысутнічаць на паседжаньнях генэральных сэсіяў. Гутарым аб кіеўскім патрыярхаце. Б(іску)п Сапэляк мне сказаў, што Я. Д. Мітр. Сьліпый жадае падаць просьбу Папе Паўлу VI у справе кіеўскага патрыярхату. Пытаў также мяне, ці я падпісаў бы ад імя беларускага духавенства падобную просьбу. Вельмі паважная справа, таму я павінен парадзіцца з усімі беларускімі сьвятарамі. Пралат Татарыновіч уважае, што мы беларусы не павінны падпісываць падобнай просьбы».

11 лістапада біскуп Сіповіч зноў вяртаецца да той самай тэмы: «Учора Я. Д. Сапэляк даў мне да прачытаньня ліст да Айца Сьв. Паўла VI, які шмат украінскіх біскупаў падпісала, у справе ўтварэньня Кіева-Галіцкага Патрыярхату. Падаюцца розныя рацыі: такі патрыярхат дапаможа аб’яднаць усіх украінцаў у адной веры; аб гэтым патрыярхаце думалі Мітрап. Руцкі разам

* Голас беларускага біскупа на Экумэнічным Саборы // Божым шляхам. Лондан, лістапад–снежань 1964. № 87. С. 4.

з Магілам… украінцаў каталікоў больш чым усходнікаў усіх разам, а ўкраінцы дагэтуль патрыярхату ня маюць… *Omnibus perpensis* (разважыўшы ўсё. — *А. Н.*) я ня буду падпісываць дзеля наступных прычын: 1) Ліст-просьба да Папы зусім не бярэ пад увагу Беларусі і яе царкоўнага строю. Беларусь мае права такжа на патрыярхат. 2) Чаму Кіева-Галіцкі Патрыярхат меў бы абымаць украінскія цэрквы ў Зл. Штатах Амэрыкі, у Канадзе і г.д. Не разумею, чаму абсяг патрыярхату мае выходзіць за межы пэўнай тэрыторыі. 3) Сяньня, калі ані аднаго б(іску)па няма ў цэлай Украіне, тварыць патрыярхат, калі не наіўна, дык прынамсі дзіву годным! 4) Тое, што ёсьць *irreale* (нерэальнае. — *А. Н.*), ня трэба прасіць… 5) У лісьце да Папы падаецца выясьненьне слоў Урбана VIII: *Per vos, Rutheni, convertendum esse Orientem* (праз вас, рускія, будзе навернуты Усход). Пасьля слова "Rutheni" у дужках падаецца "Ucraini". Гэта няпраўдзіва. Адзін раз пры іншай нагодзе ўспамінаюцца беларусы, але быццам пераходам».

Трэцяя сесія Сабору прыняла дэкрэт аб літургічных мовах, які дазваляў ужываць у богаслужэннях усе нацыянальныя мовы. Дэкрэт датычыў вернікаў рымскага (лацінскага) абраду, дзе дагэтуль абавязковай літургічнай мовай для ўсіх была лацінская. Шмат хто сустрэў гэты дэкрэт з энтузіязмам, іншыя — з засцярогамі. Па нейкім часе ўсе народы мелі ўжо літургічныя тэксты ў сваёй мове. Усе, апрача беларусаў. У Беларусі каталіцкія святары зразумелі дэкрэт па-свойму і замянілі лацінскую мову ў богаслужэннях на… польскую. Безумоўна, траплялiся выняткі, сярод іх — айцец Уладзіслаў Чарняўскі, марыянін, які перад вайною вучыўся ў Друйскай гімназіі, а пасля 1939 г. працягваў навуку ў Летуве і такім чынам пазбегнуў польскага ўплыву. У сваёй парафіі ў Вішневе ён вёў пастырскую працу, прамаўляў казанні, гутарыў з парафіянамі па-беларуску. Пачынаючы з 1965 г. ён паступова замяняў у імшы і іншых богаслужэннях лацінскую мову на беларускую. За гэта іншыя святары цураліся яго і вінавацілі ў тым, што ён… дапамагае камуністам нішчыць Каталіцкую царкву. 5 кастрычніка 1965 г. біскуп Сіповіч «атрымаў тэкст беларускі, падрыхтаваны ў БССР праз кс. Ул(адзіслава) Ч(арняўскага) для рытуалу. Тэкст адносіцца да хросту і сужэнства. Трэба тэкст паправіць, але даволі добра апрацаваны. Ён мае быць выдрукаваны тымчасам у літоўскім рытуале». Гэты запіс паказвае на супрацоўніцтва між айцом Чарняўскім і летувіскімі царкоўнымі ўладамі. Біскуп Сіповіч даведаўся пра Чарняўскага ад летувіскіх біскупаў, якія прыехалі на Сабор. Пасля між імі наладзілася наўпроставая сувязь. У кампетэнцыю біскупа Сі-

повіча не ўваходзіла займацца каталікамі рымскага абраду, дый яшчэ ў Беларусі. Тым не менш як святар і беларус ён лічыў сваім маральным абавязкам зрабіць усё магчымае, каб дапамагчы ім. Таму 18 лістапада 1964 г. ён звярнуўся да архібіскупа Самарэ з Дзяржаўнага Сакратарыята з прапановай прызначыць біскупа-беларуса рымскага (лацінскага) абраду для Беларусі з тытулам апостальскага адміністратара. Кандыдатам на пасаду ён прапанаваў айца Уладзіслава Чарняўскага.

Паміж хрысціянскім Усходам і Захадам у моўным пытанні існавала вялікая розніца. Тэарэтычна на Усходзе ўсе мовы маглі быць літургічнымі, г. зн. прыдатнымі для богаслужэнняў. На практыцы ўсходнія (і паўднёвыя) славяне традыцыйна карысталіся царкоўнаславянскай. Асабліва трымаліся гэтай мовы расейцы, і, можна падазраваць, не толькі з рэлігійных меркаванняў: адна вонкавая моўная форма рабіла ўражанне нутранога адзінства трох народаў — расейскага, украінскага і беларускага. Першымі выламаліся з гэтага «адзінства» ўкраінцы: пасля Першай сусветнай вайны яны абвясцілі Украінскую аўтакефальную праваслаўную царкву і ўвялі богаслужэнні на ўкраінскай мове. Перад Другой сусветнай вайной у Польшчы спрабавалі стварыць «праваслаўных палякаў» з польскай мовай у богаслужэннях.

Такім чынам, як і ўсё іншае, моўнае пытанне ў Царкве мае свой палітычны аспект, якім часам злоўжываюць. Гэта не значыць, што няма важкіх меркаванняў пастырскага і духоўнага парадку на карысць увядзення народных моваў. Святы Павал сказаў: «Буду маліцца духам, але буду маліцца і розумам; буду пяяць духам, але таксама буду пяяць розумам» (1 Кар 14, 15). Многія ўжо даўно адчувалі праўду гэтых словаў. Адным з іх быў аўтар гэтых радкоў, які, вярнуўшыся з Рыма ў 1959 г., узяўся за пераклад на беларускую мову Літургіі св. Яна Залатавуснага. У 1961 г. ён паказаў свой пераклад біскупу Сіповічу і айцу Гарошку. Тыя адрэагавалі не надта прыхільна. Давялося схаваць пераклады ў шуфляду і чакаць спрыяльнейшых часоў… У 1967 г. айцец Гарошка выдаў на беларускай мове кнігу чытанняў евангельскіх і апостальскіх на нядзелі і святы. Ад 1960 г. беларуская мова часткова ўжывалася ў царкве Хрыста Спаса ў Чыкага.

Айцы Сабору на трэцяй сесіі, якая скончыла сваю працу 21 лістапада 1964 г., прынялі надзвычай важныя дэкрэты: «Аб Царкве», «Аб Усходніх Цэрквах» і «Аб экуменізме». Апошні з іх запачаткаваў новыя дачыненні між Каталіцкай царквой ды іншымі хрысціянскімі цэрквамі ў пошуках еднасці. Ягонаму прыняццю папярэднічала пілігрымка Святога Айца 4–6 студзеня

1964 г. у Святую Зямлю і гістарычная сустрэча з Канстанцінопальскім патрыярхам Атэнагорам І. Яны сустрэліся на зямлі, па якой некалі хадзіў сам Госпад Ісус Хрыстос.

На сесіі не абышлося і без узрушальных падзеяў. Адна з іх — патрыяршая Літургія св. Яна Залатавуснага ў дзень гэтага святога, 13 лістапада, у базіліцы св. Пятра ў прысутнасці Святога Айца. Служыў патрыярх Антыяхійскі Максім IV у саслужэнні з многімі біскупамі. Сярод іх быў і біскуп Сіповіч, які пакінуў наступнае апісанне ў сваім дзённіку: «Пасьля сьв. Літургіі Папа прынёс тыяру (папская мітра ў форме патройнай кароны. — *А. Н.*) і паставіў яе на аўтары ля нашага эвангельля. Ахвяраваў яе бедным. Бачыў некаторых усхваляваных да сьлёз, іншыя пляскалі ў далоні. Лічу — гэта падзея перарастае сымболіку дапамогі бедным: гэта пачатак новай эры ў Царкве, эры беднасьці ў духу Хрыста».

У нядзелю 21 сакавіка 1965 г. у Лондане біскуп Сіповіч пасвяціў у чытальніка і іпадыякана Рабэрта Тамушанскага. Была трэцяя нядзеля Вялікага посту, якая ў візантыйскім абрадзе называецца Крыжапаклоннай. Пасвячанне ў іпадыякана — падзея ў сабе не асабліва вялікая, але для беларускай грэка-каталіцкай грамады яна мела асаблівае значэнне. Біскуп Сіповіч зрабіў такі запіс у дзённіку: «Ад непамятных гадоў беларускі біскуп у беларускай сьвятыні высьвяціў беларускага кандыдата ў сьвятары! Сам кандыдат робіць на ўсіх як найлепшае ўражаньне. *Per crucem ad lucem!* (Праз крыж да святла. — *А. Н.*) Наш народ ідзе праз мукі і цярпеньні да лепшай будучыні. Сяньня аддаем чэсьць сьв. Крыжу: каб з Хрыстом валадарыць, трэба наважыцца перш цярпець».

16 чэрвеня 1965 г. споўнілася 25 гадоў святарства біскупа Сіповіча. Гэты дзень ён сустрэў у Злучаных Штатах Амерыкі, дзе як генерал марыянаў праводзіў кананічную візітацыю іхных кляштараў. Ён прыляцеў 15 траўня і вылецеў 28 жніўня ў Партугалію на візітацыю марыянскага кляштара ў Бальсамаа. Вярнуўся ў Рым (праз Лондан) толькі 13 верасня, за дзень да пачатку сесіі Сабору. Перад гэтым ад 17 сакавіка да 25 красавіка біскуп праводзіў візітацыю марыянскіх кляштараў у Англіі. У 1965 г. пяць месяцаў з васьмі перад сесіяй Сабору біскуп Сіповіч займаўся марыянскімі справамі. Такім чынам, на іншыя абавязкі яму заставалася вельмі мала часу.

У Злучаных Штатах Амерыкі біскуп Сіповіч пачаў сваю кананічную візітацыю ў Чыкага. Ён зрабіў гэта свядома, бо беларуская парафія Хрыста Спаса ў гэтым горадзе святкавала

дзесяць гадоў свайго існавання. Біскуп знайшоў крыху часу, каб адарвацца ад марыянскіх справаў, адслужыць біскупскую літургію для беларусаў і перадаць папскае блаславенне.

У чэрвені біскуп адведаў беларусаў у Канадзе. У нядзелю 13 чэрвеня пасля літургіі ладзіўся прыём, на якім вітаў біскупа праваслаўны святар, айцец Міхась Мацукевіч, у будучыні біскуп Мікалай Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У наступную нядзелю, 20 чэрвеня, Каталіцкае ўніверсітэцкае аб’яднанне «Рунь» наладзіла ў Нью-Ёрку прыём у гонар біскупа Сіповіча, каб адзначыць срэбны юбілей ягонага святарства.

Біскуп Сіповіч стараўся як найлепш сумясціць абавязкі апостальскага візітатара для беларусаў і генерала марыянскага закону, але гэта не заўсёды яму лёгка давалася. Для прыкладу, палякі збіраліся адзначыць у 1966 г. 1000-годдзе хросту Польшчы. У сувязі з гэтым старшыня Цэнтральнага камітэта святкавання біскуп Уладзіслаў Рубін напісаў 28 студзеня 1965 г. біскупу Сіповічу наступны ліст: «Ад імя Цэнтральнага камітэта святкавання Тысячагоддзя Хросту Польшчы… маю гонар прасіць Вашую Эксцэленцыю, як Генеральнага Старэйшага Айцоў Марыянаў, прыняць сяброўства ў Ганаровым Камітэце гэтага ж Тысячагоддзя»*.

Сіповіч адказаў 19 лютага: «У адказ на ліст за 28.1.1965… паведамляю, што прапанаваны мне гонар сяброўства ў Ганаровым камітэце святкавання тысячагоддзя Хросту Польшчы, на жаль, не магу прыняць. Ёсць розныя прычыны маёй адмовы: найважнейшая — гэта тая, што ў выпадку, калі б я прыняў прапанаваны мне гонар, хоць бы чыста ганаровы, прадбачу цяжкасці ў выкананні маіх абавязкаў візітатара для беларусаў, якія спаўняю з волі Апостальскага Пасаду разам са становішчам генерала закону марыянаў»**.

* «W imieniu Centralnego Komitetu Obchodu Tysiącolecia Chrztu Polski… mam zaszczyt prosić Waszą Ekscelencję, jako Generalnego Przełożonego Księży Marianów, o przyjęcie członkowstwa w Honorowym Komitecie tegoż Tysiącolecia».

** «W odpowiedzi na list z dnia 28.1.1965… zawiadamiam, że proponowany mnie zaszczyt członkowstwa w Honorowym Komitecie Obchodów Tysiącolecia Chrztu Polski niestety przyjąć nie mogę. Są różne racje mej odmowy: najważniejszą jest ta, że w wypadku przyjęcia proponowanego mnie zaszczytu, chociażby tylko honorowego, przewiduję trudności w wykonywaniu moich obowiązków Wizytatora Białorusinów, które spełniam z woli Stolicy Apostolskiej jednocześnie z urzędem Generała Zgromadzenia Marianów».

У верасні біскуп Сіповіч ляцеў з Лісабона ў Рым праз Лондан, бо хацеў узяць з сабою свайго старога настаўніка, айца Язэпа Германовіча, каб той змог пабачыць, як працуе Сабор. Айцец Язэп правёў у Рыме некалькі тыдняў; ён прысутнічаў на пасяджэннях Сабору як «сакратар» біскупа.

Неўзабаве пасля пачатку сесіі Сабору ў Рым прыляцелі дзве сумныя навіны. Біскуп Сіповіч запісаў у дзённіку 27 верасня: «Прышла сумная вестка з Польшчы аб сьмерці а. К. Смулькі. Также пазваніў з Нямеччыны а. прат. Салавей і паведаміў, што памёр а. др. М. Маскалік. Сумна, што рады нешматлікіх беларускіх сьвятароў радзеюць». Айцец Казімір Смулька, адзін з беларускіх марыянаў, выгнаных з Друі ў 1938 г., памёр 15 верасня 1965 г. у 71 год. Айцец Міхась Маскалік, святар візантыйскага абраду, нёс абавязкі беларускага душпастыра ў Паўночнай Нямеччыне. Памёр 25 верасня ў веку 62 гадоў.

У першым тыдні лістапада ў працы Сабору надарыўся перапынак. 30 кастрычніка ў Рым на запрашэнне біскупа Сіповіча прыехалі вучні інтэрната св. Кірылы. Наступнага дня, у нядзелю, на біскупскай літургіі вучні спявалі, а Рабэрт Тамушанскі атрымаў дыяканскія свячанні. У сераду 3 лістапада хлопцы былі на агульнай папскай аўдыенцыі ў базіліцы святога Пятра. У астатнія дні яны аглядалі Вечны горад.

Прыйшоў дзень 7 снежня. Біскуп Сіповіч запісаў у дзённіку: «Сяньня мае быць адклікана ў Рыме і ў Канстанцінопалі анатэма з 1054 году! Ці ж на пачатку Сабору мог хто падумаць, што да гэтага прыйдзе?!» Як вядома, у 1054 г. адбыўся трагічны разрыў між Рымам і Канстанцінопалем. Незагоенай ранай ён баліць і да нашых дзён. Адкліканне анатэмаў сталася першым крокам, каб залячыць гэтую рану. Далей біскуп працягвае: «Гадз. 10.20. біскуп Вільлебрандс чытае па-француску дакумэнт, якім адкідаюцца і перакасоўваюцца экскамунікі Папскага легата Кард. Гумбэрта супраць Патрыярха Керулярыя, і Патрыярха і яго Сыноду супраць Рымскай Царквы. Шматлікія Айцы ўзварушаныя да сьлёз, і я такжа. Доўгія апляўзы. Homilia a S. Patre, h.10.50–11.20. “Immensus erga homines amor — nota huius Concilii”» (Прамова Святога Айца а гадз. 10.50–11.20; «Бязмежная любоў да людзей — рыса гэтага Сабору». — *А. Н.*).

У сераду 8 снежня 1965 г., на свята Бязвіннага Зачацця ў рымскім абрадзе, на плошчы Святога Пятра адбылося ўрачыстае закрыццё Сабору з папскай імшою і пасланнямі айцоў Сабору да розных групаў людзей — да ўладароў, інтэлігенцыі і вучоных,

артыстаў, жанчын, бедных, хворых і тых, што церпяць, работнікаў, моладзі. Біскуп Сіповіч напісаў: «Бог даў вялікую ласку гэтаму сьвету: Сабор. Айцы Сабору, а перадусім Папа Павал VI, усё зрабілі, каб скалыхнуць гэты сьвет, каб прыблізіць яго да Бога, каб паказаць яму шлях Хрыста. Ці сьвет захоча пачуць голас Сабору? Голас Царквы? Думаю, што шматлікія знойдуцца людзі добрай волі і пойдуць за голасам Царквы».

Біскуп Сіповіч прыехаў з Рыма ў Лондан у нядзелю 19 снежня ўвечары. Ён якраз паспеў на Калядную ялінку ў інтэрнаце св. Кірылы, дзе апрача вучняў сабралася шмат лонданскіх беларусаў. Сярод розных падарункаў быў адзін асаблівы для айца Гарошкі — паведамленне пра наданне яму годнасці архімандрыта.

## Пісьменнік і вучоны

Уладыка Часлаў не быў схільны да абстрактных разважанняў: усё, што ён рабіў, мела нейкую канкрэтную, практычную мэту. Тое можна сказаць і пра ягоную пісьменніцкую спадчыну, дзе ён заставаўся перш за ўсё святаром і пастырам.

Пра першыя пісьменніцкія спробы Сіповіча ў віленскі і рымскі перыяды ягонага жыцця згадвалася ўжо вышэй (гл. раздзелы «Вільня», «У Вечным горадзе», «Пачатак апостальскай дзейнасці»). У Лондане ён рэгулярна супрацоўнічаў з часопісамі «На шляху» і «Беларус на чужыне» (1947–1950). Першы артыкул Сіповіча «Асновы беларускага патрыятызму» з'явіўся ў снежаньскім нумары часопіса «Божым шляхам» за 1947 год*. Артыкул, напісаны даволі кампетэнтна, нагадвае студэнцкае практыкаванне на зададзеную тэму, з абавязковай цытатай з св. Тамаша Аквінскага пра іерархічныя ступені нашых абавязкаў перад Богам, бацькамі і Бацькаўшчынай; і з параўнаннем буржуазнага касмапалітызму, камуністычнага інтэрнацыяналізму і хрысціянскага ўніверсалізму. Ёсць думкі, якіх аўтар будзе трымацца праз усё жыццё, напрыклад: «Бываюць часам абставіны, што чалавек у імя дабра той жа самай бацькаўшчыны ёсьць змушаны прамаўчаць сапраўднае імя свае народнасьці ці бацькаўшчыны, але гэта толькі ў выняткавых выпадках. Аднак доўгае замоўчваньне свайго народнага імені і свае бацькаўшчыны, асабліва калі яе крыўдзяць і калі трэба

* Сіповіч Ч. Асновы беларускага патрыятызму // Божым шляхам. Парыж, 1947. № 3.

выступаць у абароне яе правоў, сьведчыла б ня толькі аб малавартаснасьці таго, хто так паступаў бы, але было б для яго ганьбаю». Наогул артыкул цікавы не гэтулькі зместам, колькі як паказнік спосабу мыслення аўтара і ягонага зацікаўлення ў практычным ужыванні прынцыпаў веры. Гэта пацвярджаюць наступныя артыкулы. Вось тытулы некаторых з іх: «Часы Хрыста і нашы»*, «Свецкае апостальства»**, чатыры артыкулы пад агульным назовам «Рэлігійныя крывулі нашай інтэлігенцыі»*** ды інш. Нават артыкул «1054–1954»**** пра гісторыю і прычыны разрыву між Рымам і Канстанцінопалем сканчаецца практычнымі высновамі: «Сёньня, дзякаваць Богу, адчуваецца ўсюды зразуменьне патрэбы адзінага хрысьціянскага фронту. Да чыста рэлігійных матываў, якія дыктуюць людзям неабходнасьць стараньня аб устанаўленьні адзінства, далучаецца яшчэ і дачасны матыў. Бязбожны камунізм ёсьць ворагам усіх рэлігіяў, але асабліва хрысьціянскіх; было б шмат лягчэй змагацца з гэтым ворагам, калі б было адзінства ў духу, праўдзе і на дзеле». Думка пра еднасць хрысціянаў ніколі не пакідала ўладыку Часлава, і яна так ці іначай прачыталася амаль ва ўсіх ягоных артыкулах, казаннях, справаздачах з Ватыканскага Сабору. Некаторыя з іх цалкам прысвячаліся гэтай тэме, напрыклад ягонае казанне «Каб усе былі адно»***** ва Уэстмінстэрскай катэдры 19 студзеня 1965 г. з нагоды васьмідзённых малітваў за царкоўную еднасць. Уладыка быў добрым прамоўцам, ён гаварыў жыва і займальна і ўмеў усталяваць непасрэдны кантакт са слухачамі.

У Папскім Усходнім інстытуце ў Рыме Сіповіч спецыялізаваўся ў царкоўнай гісторыі. 19 снежня 1946 г. ён абараніў доктарскую дысертацыю «Мітрапаліт Ясон Я. Смагажэўскі, 1780–1788», пра Кіеўскага грэка-каталіцкага мітрапаліта з часоў падзелу Рэчы Паспалітай, калі Кіеўская мітраполія была такса-

---

* Сіповіч Ч. Часы Хрыста і нашы // Божым шляхам. Парыж, 1948. № 8 (11), 11–12 (14–15).

** Сіповіч Ч. Свецкае апостальства // Божым шляхам. Парыж, 1951. № 5 (44).

*** Сіповіч Ч. Рэлігійныя крывулі нашай інтэлігенцыі // Божым шляхам. Парыж, 1952–1953. № 46, 47, 48, 49.

**** Сіповіч Ч. 1054–1954 // Божым шляхам. Парыж, 1954. № 61.

***** Сіповіч Ч. Каб усе былі адно // Божым шляхам. Лондан, 1965. № 2 (89).

ма падзеленая на тры часткі, усе ў розных дзяржавах. У працы разглядаецца мала даследаваны перыяд гісторыі Беларускай грэка-каталіцкай царквы, і даводзіцца шкадаваць, што яна засталася ненадрукаванаю, можа, таму, што пісалася на лацінскай мове. Сам аўтар апублікаваў урыўкі з яе па-беларуску ў часопісе «Божым шляхам»*, але, відаць, зрабіць пераклад усёй працы не хапіла сілаў. Дарэчы, у 1965 г. у серыі «Рымскія дакументы Каталіцкай царквы на землях Украіны і Беларусі» выйшла кніга «Лісты Ясона Юношы Смагажэўскага, Каталіцкага Мітрапаліта Кіеўскага (1780–1788)»** пад рэдакцыяй украінскага базыльяніна айца Апанаса Вялікага (галоўны рэдактар серыі) і біскупа Часлава Сіповіча.

17 сакавіка 1968 г. з нагоды 450-х угодкаў беларускага кнігадрукавання ў Папскім Усходнім інстытуце ў Рыме біскуп Сіповіч прачытаў даклад на тэму «Доктар Францішак Скарына і ягоныя біблейскія выданні». Як сам біскуп адзначыў у сваім дзённіку, кіраўніцтва інстытута баялася, што на даклад ніхто не прыйдзе. Але ў сапраўднасці выйшла наадварот: аўдыторыя была поўная. Прыйшлі кардыналы Аўген Тысэран і Язэп Сліпый, усе прафесары інстытута, у тым ліку колішні прафесар біскупа Сіповіча айцец Альберт Аман, які ў сваім часе даволі крытычна выказваўся пра Скарыну і ягоную дзейнасць. З’явіліся таксама ўсе «рымскія» беларусы на чале з айцом Татарыновічам і праваслаўным святаром айцом Раінам. 9 красавіка айцец Аман прыйшоў да біскупа прасіць дазвол надрукаваць ягоны даклад. Біскуп мусіў яго расчараваць: ён ужо абяцаў даклад часопісу «Унітас»***. Ён зазначыў у сваім дзённіку: «Я ў дакладзе моцна айца Амана скрытыкаваў, гэта, аднак, не пашкодзіла нашым добрым адносінам».

У Лондане біскуп Сіповіч напісаў на ангельскай мове два артыкулы, якія надрукаваў у «Часопісе беларусазнаўства». Першы выйшаў у 1970 г. і называўся «Мінская дыяцэзія, ейныя

---

* Сіповіч Ч. Кіеўская мітраполія ў другой палове XVIII ст. // Божым шляхам. № 2 (41) – 5 (44). Парыж, 1951.

** Epistolae Jasonis Junosza Smogorzewski, Metropolitae Kioviensis Catholici (1780–1788). Collegerunt P. Athanasius G. Welykij, Exc. D. Ceslaus Sipovic. Romae, 1965, 455 p. (Documenta Romana Ecclesiae Catholicae in Terris Ucrainae et Belarussiae).

*** Ceslao Sipovic. II dottor Francesco Skaryna e la sua opera biblica // Unitas. Rome, April–June 1968. Year XXIII. P. 126–138.

пачаткі, тэрыторыя і іерархія»*. Другі — «Моўная праблема ў Каталіцкай царкве ў Беларусі ад 1832 года да Першай сусветнай вайны»** — з'явіўся праз тры гады. Абодва артыкулы мелі не толькі гістарычную цікавасць. У першым аўтар паказаў, што Каталіцкая царква ў Беларусі мела ў мінулым сваю іерархічную арганізацыю, якую ніхто ніколі не адмяняў. Між іншага, адміністратар Мінскі біскуп Слоскан быў яшчэ жывы, хоць і знаходзіўся ў выгнанні. Гэты факт служыў моцным аргументам за тое, каб Царква ў Беларусі мела свайго апостальскага адміністратара, а не залежала ад Варшавы ці Беластока. У другім артыкуле выяўляецца, што моўнае пытанне ў Каталіцкай царкве ў Беларусі мае доўгую гісторыю і не з'яўляецца выдумкай «шавіністаў» Сіповіча і Чарняўскага.

Як ужо згадвалася, 27 чэрвеня 1972 г. Бібліятэка імя Ф. Скарыны набыла цікавы рукапіс XVII ст. Архірэйскай літургіі святога Яна Залатавуснага на царкоўнаславянскай мове (беларускай рэдакцыі) з паралельным лацінскім перакладам. Біскуп Тодар Скуміновіч, «суфраган Віленскі для Беларусі» (Suffraganeus Vilnensis per Albam Russiam), у 1652 г. падараваў гэты рукапіс у царкву святых мучанікаў Сяргея і Бакха ў Рыме, што тады належала беларускім законнікам-базыльянам. Біскуп Сіповіч захапіўся рукапісам і асобаю Тодара Скуміновіча. Ён пачаў вывучаць тэкст, параўноўваючы яго з іншымі літургічнымі тэкстамі XVI–XVIII стст. з Беларусі, Украіны і Масквы. Ён таксама знайшоў шмат новых матэрыялаў пра асобу Тодара Скуміновіча (к. 1610–1668), нашчадка старога беларускага роду, які нарадзіўся і вучыўся ў Вільні, а пасля працягваў навуку ў Кракаве і Лювене. Спачатку праваслаўны святар, у 1643 г. ён стаў каталіком (рымскага абраду) і ў 1652 г. у Рыме ў базіліцы Санта Марыя Маджорэ (Santa Maria Maggiore) быў пасвячаны на біскупа. Шэсць гадоў працаваў уладыка над рукапісам. Нарэшце 15 снежня 1978 г. ён мог напісаць у сваім дзённіку: «Сяньня прывезьлі з друкарні маю кніжку, 412 экз.: "The Pontifical Liturgy of Saint John Chrysostom…" Ніхто ня ёсьць справядлівым судзьдзём

* Sipovich C. The Diocese of Minsk, its Origin, Extent and Hierarchy // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1970. Vol. II. №. 2. P. 177–191.

** Sipovich C. The Language Problem in the Catholic Church in Byelorussia from 1832 to the First World War // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1973. Vol. III. № 1. P. 3–40.

свайго твору, або свайго дзіцяці. Кожная кніга для аўтара — гэта ягонае дзіця… Вокладка эстэтычна выглядзіць як запраўдная літургічная кніжка. Эстэтычна ўдалася… Дзякуй Богу за дадзены мне час і сілы дзеля гэтай кнігі! Суд аб ёй пакідаю іншым, а таксама магу паўтарыць ведамы сказ: *Feci quod potui, potentes faciant meliora!* (зрабіў, што мог, хай тыя, што могуць, зробяць лепш — *А. Н.*)». Кніга мае поўны тытул «The Pontifical Liturgy of Saint John Chrysostom. A Manuscript in the Slavonic text and Latin translation»* (Архірэйская літургія святога Яна Залатавуснага. Рукапісны славянскі тэкст і лацінскі пераклад). Кнігу выдала Бібліятэка імя Ф. Скарыны. Пад вокладкай, апрача факсімільнай рэпрадукцыі самога рукапісу, ёсць артыкул пра Тодара Скуміновіча, напісаны на аснове раней не вядомых дакументаў, і тое, што біскуп Сіповіч сціпла назваў «Тлумачальныя літургічныя заўвагі» (Explanatory liturgical notes), а насамрэч грунтоўнае даследаванне беларускай літургічнай традыцыі параўнаўча з украінскай і маскоўскай. У цэлым гэта выдатны навуковы твор, значны ўнёсак у вывучэнне гісторыі Царквы і літургічнай традыцыі ў Беларусі. Уладыка Часлаў прысвяціў яго «Апосталам і мучанікам за царкоўную еднасць у Беларусі» (To the Apostles and Martyrs for Church Unity in Byelorussia).

Біскуп Сіповіч марыў напісаць гісторыю друйскіх марыянаў. Дзеля гэтага ён гадамі збіраў матэрыялы. Аднак ажыццявіць свой намер яму не давялося. Можа, і добра, што гэтак здарылася. Найлепшыя гады маладосці ўладыкі Часлава прайшлі ў Друі, і ён быў схільны ідэалізаваць усё, звязанае з ёю. А там, дзе ўваходзяць у гульню асабістыя пачуцці, цяжка чакаць аб’ектыўнасці.

Жыццяпісы айцоў Андрэя Цікоты (1891–1952) і Фабіяна Абрантовіча (1884–1946), напісаныя ўладыкам Чаславам, могуць служыць пацвярджэннем вышэйсказанага. Абодва згаданыя святары — выдатныя асобы, абодва памерлі ў савецкіх турмах, дзе, паводле сведкаў, паводзілі сябе з вялікай годнасцю. Гэта накладае на іхнага біёграфа абавязак пісаць пра іх з павагаю, але тым не менш праўдзіва.

* The Pontifical Liturgy of Saint John Chrysostom. A Manuscript in the Slavonic text and Latin translation / edited with explanatory liturguical notes by Ceslaus Sipovich. London, The Francis Skaryna Byelorussian Library and Museum, 1978. 205 p.

Жыццяпіс Цікоты застаўся ў рукапісе. Затое праца пра Абрантовіча пабачыла свет у часопісе «Божым шляхам» у 1957 г.*. Вось як яна пачынаецца: «Айцец архімандрыт Фабіян Абрантовіч ёсьць вялікім сынам беларускага народу. Ягонае імя ўпісанае залатымі літарамі такжа ў гісторыю Каталіцкай Царквы наагул і Беларускай у асаблівасьці, якой ён аддаў усе свае таленты і ўканцы — сваё жыцьцё». Пасля такога ўступу можна прабачыць чытачу, калі ён, прачытаўшы ўвесь артыкул, застанецца расчараваным, бо не ўбачыць, чым гэты чалавек заслужыў такую пахвалу. У сапраўднасці Абрантовіч — трагічная фігура, з якой звязваліся нядзейсненыя надзеі многіх беларусаў.

Сіповіч бачыў Абрантовіча ў Друі ў 1926–1928 гг. і нават чуў ягоныя казанні ў царкве. Вось што ён сам піша пра гэта: «У той час, калі а. Фабіян быў у друйскім манастыры, я хадзіў у друйскую народную школу. Мы, школьнікі, кожную нядзелю павінны былі прысутнічаць на т. зв. вучнёўскай імшы, каторая адпраўлялася для нас і для гімназістаў. Пасля трыццаці гадоў я яшчэ помню адно параўнанне, якое а. Фабіян ужыў у часе свайго казання да вучняў, тлумачачы тое, што чалавек не павінен быць пустым і заносьлівым. Ён казаў: “Чаму бочка гудзе? — Бо пустая!”»** Варта прыгадаць, што згодна з парадкам, устаноўленым а. Цікотам і зацверджаным біскупам Матулевічам 7 ліпеня 1925 г., казанні на нядзельнай вучнёўскай імшы (як і на г. зв. «суме», або галоўнай імшы) былі на польскай мове. Аднак асабіста яны, бадай, не ведалі адзін аднаго, бо Абрантовіч пакінуў Друю перад тым, як Сіповіч прыйшоў у ювенат. Знаёмства адбылося пазней, магчыма ў 1934 г., калі Абрантовіч прыехаў на кароткі час у Еўропу і завітаў у Друю, або, больш праўдападобна, у 1939 г. у Рыме.

Лепей ведаў Сіповіч Цікоту, суперыёра Друйскага кляштара да 1933 г. Беручы пад увагу розніцу веку і становішча, гэта было знаёмства «на адлегласці», з элементам юнацкага захаплення сваім героем. Такі настрой адчуваецца ў рукапісным жыццяпісе Цікоты, дзе апошні — нягледзячы на спробы аўтара падаць яго як «рыцара без заганы» — выглядае даволі блякла, «безасабова» на фоне агульных падзеяў, якім аддаецца шмат месца.

Зусім іншы характар маюць артыкулы пра любімага настаўніка і выхаваўца, а. Язэпа Германовіча, які навучыў Сіповіча

---

* Сіповіч. Айцец Архімандрыт Фабіян Абрантовіч // Божым шляхам. Парыж, 1957. № 76–81. С. 12.

**Тамсама. С. 14–15.

любіць не толькі Бога, але і Беларусь. У Лондане ў 1960 г. ролі памяняліся, і ранейшы вучань стаў начальнікам свайго старога настаўніка. Айцец Язэп любіў паўтараць, што сам вінаваты, бо ўзгадаваў сабе на галаву… Характэрна, што два з трох артыкулаў пра айца Язэпа аўтар падпісаў псеўданімамі «Я. Вучань» (г. зн. «Язэпаў вучань») і «Вучань Вінцука Адважнага». Толькі трэці — некралог — уладыка Часлаў падпісаў сваім прозвішчам*. Не менш цёпла пісаў біскуп Сіповіч пра свайго прыяцеля і блізкага супрацоўніка, айца Льва Гарошку, якому па ягонай смерці прысвяціў увесь нумар часопіса «Божым шляхам» (1978. № 149. 40 с.).

У апошнія гады ўладыку Чаславу прыйшлося пісаць пра многіх прыяцеляў і знаёмых, якія адышлі з гэтага жыцця. У іх выявілася шчодрасць ягонага сэрца, што хацела бачыць добрае ў кожным чалавеку.

---

* Я. Вучань. Вінцук Адважны // Конадні. Нью-Ёрк; Мюнхен, 1963. № 7; Вучань Вінцука Адважнага. Айцец Язэп Гэрмановіч — жыцьцё і творчасьць // Божым шляхам. Лондан, 1964. № 82; Сіповіч Ч. Сьвятой памяці Айцец Язэп Гэрмановіч // Божым шляхам. Лондан, 1979. № 150.



## КАЗАННЕ НА 25 САКАВІКА

Магчыма, прыходзілася вам калі быць на вялікім канцэрце, дзе галасы музычных прыладаў, пад кіраўніцтвам умелага дырыжора, зліваюцца ў адну магутную мелодыю, якая пераймае нас да глыбіні душы і пераносіць да вышэйшага, лепшага свету. Мы не чуем у гэтай музыцы гуку паасобных прыладаў, а толькі адно гарманічнае цэлае. Няхай толькі парвецца найменшая струна ў апошняй скрыпцы — і адразу ўрываецца ў музыку непрыемны скрыгат, які парушае ўвесь парадак і псуе гармонію.

Нешта падобнае назіраецца ў цэлым сусвеце, які сваёй прыгожасцю і парадкам адлюстроўвае бесканечны розум Таго, Хто яго стварыў. Свет з'яўляецца быццам адной вялікай песняй на Божую славу. Нядарам натхнёны псальміст, гледзячы на прыгожасць свету, усклікнуў у захапленні:

> Нябёсы апавядаюць славу Божую
> І Прасторы выяўляюць творчасць рук Ягоных.
> *(Пс 18).*

Паколькі ўвесь свет ёсць адлюстраваннем велічы Божай, дык чалавек ёсць ім у асаблівасці; бо ўсе рэчы славяць Бога сваім існаваннем, а людзі хваляць Яго разумна. Таму ў іншым месцы псальміст кажа:

> Пляскайце ў далоні, ўсе народы,
> Спявайце Богу ў радасці вялікай.
> *(Пс 46).*

Бог, аднак, бесканечны ў сваёй дасканаласці, а мы агранічаныя. Дзеля гэтага захацеў наш Тварэц падзяліць усіх людзей на асобныя групы, на народы, даючы кожнаму з іх сваю мову,

характар і іншыя асаблівыя дараванні. Развіваючы гэтыя дадзеныя яму ад Бога дары, кожны народ гэтым самым хваліць свайго Тварца, а ўсе яны зліваюцца ў адну магутную песню на Божую славу. У гэтым вялікім хоры, быццам у вялікай сям'і, няма нікога лішняга: кожны мае сваё належнае месца, і вы не можаце выкінуць нікога, не папсаваўшы гармоніі.

Падзяліўшы людзей на народы, Уседобры Бог улажыў у сэрца кожнага чалавека асаблівую любоў да таго краю, дзе радзіліся ягоныя бацькі; любоў да народа, які жыве ў гэтым краі, а таксама да мовы, на якой гаворыць гэты народ і на якой ён сам пачуў першыя ласкавыя словы з вуснаў сваёй маці. Мы завём гэты край «Бацькаўшчынай».

Слова «Бацькаўшчына» паходзіць ад «бацькі». Ці ж можа быць даражэйшае слова ў нашым слоўніку? Бацькам, або Айцом Нябесным, мы называем Бога, які нас стварыў. Бацькамі мы называем тых найдаражэйшых нам людзей, якія нам далі гэтае дачаснае жыццё. Дык і Бацькаўшчына таксама цесна звязана з дарам жыцця, бо інакш мы б яе так не назвалі. Праўда, яна нам не дае жыцця, але затое мы ўраслі ў яе, быццам дрэва карэньмі, і чэрпаем з яе жыватворчыя сокі. Бо толькі на грунце Бацькаўшчыны, у акружэнні свайго народа, агрэтыя цёплымі праменямі роднае мовы, мы можам вырасці на паўнавартасных адзінак. Нешчаслівы той, хто дабравольна адрэзвае сябе ад гэтых родных жыватворчых крыніцаў і прадаецца чужынцам: ён быццам бясплоднае дрэва, якое ніколі не можа поўнасцю расцвісці і прынесці пладоў. Любоў Бацькаўшчыны ёсць нечымсьці прыродным для чалавека, дарам Божым. Таму той, хто цураецца сваёй Бацькаўшчыны, з'яўляецца вырадкам.

Калі б хто сумняваўся ў гэтым, дык хай паслухае, што кажа святы Павал. Гэты вялікі Апостал, які столькі папрацаваў сярод іншых народаў дзеля праўды Хрыстовай і які ў канцы аддаў сваё жыццё за Хрыста, праз усё жыццё аставаўся патрыётам жыдоўскага народа. Наколькі вялікая была ягоная любоў да свайго народа, мы можам бачыць у ягоным лісце да рымлянаў: «Праўду кажу ў Хрысце, не маню; сведчыць мне сумленне маё ў Духу Святым, што вялікі для мяне сум і мука няўстанная сэрцу майму: бо я б хацеў сам быць адлучаным ад Хрыста за братоў маіх, родных мне целам, якія ёсць ізраільцяне» (Рым 9, 1–3).

У святле вышэйсказанага як жа праўдзіва і прыгожа гучаць словы нашага вялікага паэта Францішка Багушэвіча: «Мова наша святая, бо яна нам ад Бога даная».

У вялікай сям'і народаў свету ёсць таксама і беларускі народ. Раз Бог захацеў, каб беларускі народ існаваў, дык у сваім

адвечным плане Бог мае для яго асобае месца і мэту. Відаць, наш народ мае свае асаблівасці і дары, якія робяць яго іншым ад другіх народаў. Не даваць яму жыць свабодна і развіваць гэтыя Божыя дары ёсць безумоўна грахом і праступкам.

Калі 46 год таму назад, 25 сакавіка 1918 г., беларускі народ заявіў, што хоча быць гаспадаром свайго лёсу, ён дамагаўся толькі таго, што яму па справядлівасці належыцца. Ён хацеў быць тым, чым яго стварыў Бог. Таму гэты дзень з’яўляецца для ўсіх беларусаў, дзе б яны ні былі, сімвалам іхніх найбольш запаветных імкненняў.

Так ёсць на гэтым свеце, што калі мы збунтуемся супроць Бога, дык мы таксама становімся ворагамі іншых людзей, бо тады для нас няма нічога святога, акрамя собскага інтарэсу. У адносінах паміж народамі гэта праяўляецца ў форме неабмежаванага шавінізму, які змушае людзей лічыць свой народ за найлепшы і адмаўляе права на існаванне іншым.

Беларускаму народу было якраз адмоўлена права на існаванне. Маладая беларуская дзяржава была здушаная перад тым, чым яна магла акрэпнуць. Аднак мы не павінны зайздросціць лёсу тых, якія не далі нам жыць свабодна. Не шукайма таксама помсты: супроць іх сведчаць перад Богам слёзы і цярпенні мільёнаў тых, каго яны анешчаслівілі. Лепш малемся за іх, каб яны зноў звярнулі свае сэрцы да Бога і каб адзін дзень мы ўсе маглі быць тым, чым мы павінны быць: дзяцьмі адной сям’і, дзе бацькам ёсць сам Бог.

Адначасова верым у справядлівасць Божую. Дамагаймася таго, што нам справядліва належыцца і Бог нам дапаможа.

Гэтая вера ў справядлівасць Божую і надзея на лепшую долю беларускага народа асабліва патрэбная нам тут, на выгнанні. Будучы адарванымі ад Бацькаўшчыны і акружанымі столькімі спакусамі, мы можам вельмі лёгка зняверыцца і пакінуць усё беларускае. Не рабем гэтага. Беларусь патрэбная перадусім для нас саміх. Калі мы забудземся пра яе, дык мы страцім нешта з нашай чалавечай вартасці: нам тады не астанецца нічога іншага, як уключыцца ў вялікую масу тых, чыёй адзінай мэтай жыцця ёсць пагоня за матэрыяльным дабрабытам. Але Беларусь таксама патрабуе нас. Не забывайрмася, чаму мы цяпер на чужыне і што мы апынуліся тут не добравольна. Памятайма аб нашых братах на Бацькаўшчыне і будзем рабіць тое на карысць Беларусі, чаго яны там не ў стане цяпер рабіць. Мы павінны быць амбасадарамі Беларусі ў вольным свеце, не даючы заснуць сумленню іншых народаў і пагадзіцца з фактам, што нашая Бацькаўшчына да гэтага часу церпіць у няволі.

Успомнім выгнанчы жыдоўскі народ, які, будучы ў вавілонскай няволі, казаў вуснамі свайго псальміста:

Калі забуду цябе, Ерусалім,
Хай адсохне правіца мая,
Хай язык мой прыліпне да гартані маёй;
Калі не буду помніць цябе,
Калі не пастаўлю Ерусалім
За найвышэйшую радасць маю.

Хацеў бы скончыць гэтае казанне ноткай радасці. Так здарылася, што прагалошанне незалежнасці Беларусі адбылася ў дзень, калі Святая Царква абходзіць вялікае свята Дабравешчання. У гэты дзень мы ўспамінаем тое вялікае здарэнне, калі архангел Гаўрыіл абвясціў Найсвяцейшай Дзеве Марыі, што яна станецца Маткаю Бога. Гэта і ёсць тая Добрая Вестка, якой чакала ўсё чалавецтва, бо з прыходам на свет Госпада нашага Ісуса Хрыста мінула панаванне граху і людзі зноў маюць магчымасць стацца дзецьмі Божымі.

Безумоўна, тут супадзенне датаў прыпадковае. Нам, аднак, усё ж такі хацелася б уважаць наша нацыянальнае свята як добрую вестку, якая прарочыць для беларускага народа лепшую, шчаслівую будучыню. Маючы ў сабе такое абяцанне лепшай долі, нам лягчэй перанесці цяжкасці цяперашняга часу.

А цяпер, паколькі наша свята прыпадае на дзень Дабравешчання, паручым асабліва сябе і ўвесь беларускі народ Найсвяцейшай Багародзіцы Дзеве Марыі, якая з’яўляецца Маткаю нашага сапраўднага Жыцця, Госпада і Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. Хай Яна гляне міласэрна на Ейны верны беларускі народ і паблагаславіць яго з Жыровіцаў, Смаленска, Вострай Брамы і Мінска і хай вымаліць для яго лепшую долю! А мы ведаем, што малітва Маці да свайго Боскага Сына можа ўсё.

*1964*

# НАШ ДАР

*Каляднае разважанне*

«Што дамо Табе, Хрысце, за тое, што дзеля нас Ты стаўся чалавекам? Кожнае стварэнне прыносіць доказ сваёй удзячнасці: анёлы — спеў; неба — звязду; мудрацы — свае дары; пастухі — хвалу; зямля — пячору; пустыня — яслі; а мы прыносім Табе Дзеву Маці».

Так спявае святая Царква на вячэрні свята Нараджання Хрыстовага.

У дзень, калі мы ўспамінаем прыход на свет Збавіцеля, мы не можам забыцца аб Той, якая была асаблівай Божай прыладай у гэтай вялікай тайне, аб Найсвяцейшай Дзеве Марыі, Маці Божай. Бо калі справядлівасць вымагае, каб мы шанавалі тых, каго Бог ушанаваў сваім сяброўствам і любоўю, дык што ж мы можам сказаць аб Найсвяцейшай Дзеве, якую Ён узвысіў над усімі стварэннямі? Як можам апісаць веліч ласкі, якая была ў ёй? Якая мова можа дастойна ўсхваліць Матку нашага Збаўцы?

Пры ўсім гэтым мы, аднак, не павінны забывацца, што Найсвяцейшая Дзева з'яўляецца стварэннем і, як мы, належыць да роду людскога. Якраз дзеля гэтага ў вышэйпрыведзенай песні яна называецца дарам, які род людскі прыносіць Хрысту. Яна ёсць нашым дарам Богу, бо ў ёй споўніліся шматвяковыя чаканні людства. Яна ёсць дарам, бо ад яе наш Збаўца прыняў людскую натуру. Наканец, яна ёсць дарам, бо ў ёй мы знаходзім усё, што ёсць найбольш прыгожага і шляхотнага ў людской натуры, якая поўнасцю адчынілася для Божай ласкі.

Людская натура падобная да хаты з зачыненымі знутры дзвярыма і вокнамі. Святло не можа туды ўвайсці, пакуль нехта знутры не адчыніць заслонаў. Нешта падобнае здараецца ў адносінах паміж Богам і чалавекам. Стварыўшы нас свабоднымі, Бог шануе нашую свабодную волю і не змушае нас да нічога, нават калі ходзіць аб нашае збаўленне. Мы таксама нічога не можам без Бога, але ад нас залежыць, каб адчыніць нашы душы і ўпусціць туды праменні Божай ласкі. Такім чынам нашае збаўленне робіцца актам «супрацоўніцтва» паміж Богам і намі.

Ёсць дзве галоўныя рэчы ў адносінах чалавека да Бога: вера і святасць. Абедзве яны з'яўляюцца Божым дарам, але адначасова немагчымыя без свабоднай згоды, без «супрацоўніцтва» чалавека. Што гэта значыць, мы можам бачыць на прыкладзе Абрагама, «бацькі ўсіх верных». Аднога разу Абрагам атрымаў загад ад Бога, каб пакінуў усё: бацькаўшчыну, сваякоў, бацькоў-

скі дом, — і ішоў далёка ў няведамую краіну, не маючы нічога, акрамя Божага абяцання, што гэтая краіна станецца ў адзін дзень собскасцю яго і ягоных нашчадкаў. Абрагам адразу паслухаўся, нягледзячы на тое, што ён і ягоная жонка былі старыя і не мелі надзеі мець дзяцей. Ён паверыў у тое, што, па-людску, было неверагодным, спадзяваўся супроць спадзявання, як пазней сказаў аб ім св. Павал, і гэтая ягоная непахісная вера залічылася яму ў справядлівасць. Аднак гэтага недастаткова. Толькі Абрагам паспеў выканаць загад, як Бог прамовіў да яго зноў: «Хадзі перада мною і будзь дасканалы». Бог ёсць бесканечна святы, і дзеля гэтага нічога нячыстага ці недасканалага не можа прыблізіцца да Яго ці дагадзіць Яму. Таму і Ісус Хрыстос у адзін дзень скажа тым, якія следавалі за Ім: «Будзьце дасканалыя, як і Айцец Ваш на небе ёсць дасканалы».

Ад Абрагама праз цэлы час Старога Запавету мы бачым цэлы рад Божых слугаў, якія, паклаўшы ўсю надзею на Бога, чакалі Ягонага вялікага абяцання — прыходу Месіяша. Кожны з іх стараўся спрычыніцца да набліжэння гэтага вялікага здарэння ў меру данай яму ласкі, выконваючы Божую волю. У пэўным сэнсе мы можам лічыць Найсвяцейшую Дзеву апошняй у гэтым радзе святых Старога Запавету. Аднак яна займае асаблівае месца ў цэлым стварэнні, паколькі ў ёй «супрацоўніцтва» людской натуры з Богам, поўнае паслушэнства Божай волі дасягнулі дасканаласці, ніколі не асягнутай раней ці пазней. Безумоўна, тут была асаблівая ласка Божая, але гэтая апошняя не знішчае свабоднай волі. Ласка не перашкодзіла саграшыць нашым першым бацькам. Саул, першы жыдоўскі князь, таксама адпаў ад ласкі. Мы можам даць яшчэ шмат падобных прыкладаў.

Дзеля гэтага зусім не прыпадкова Альжбета прывітала Найсвяцейшую Дзеву словамі: «Благаслаўленая Ты, якая паверыла». А якая прыгожасць душы, якая адданасць волі Божай адчуваецца ў словах Марыі, калі яна пачула, што мае быць Маткаю Бога: «Вось я служка Божая, няхай мне станецца паводле твайго слова».

Бог услáвіў сваю пакорную служку над усімі стварэннямі свету. Яна сталася Маткаю Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. Святы Павал назваў Хрыста другім Адамам, праз якога мы ўсе сталіся новым стварэннем. Ужо ў другім стагоддзі св. Ірыней назваў Найсвяцейшую Дзеву другой Евай, Маткаю ўсіх тых, якія жывуць у Богу. Маці Хрыста, яна з’яўляецца нябеснай маткаю ўсіх нас. Няма і нічога, чаго б Яна не магла атрымаць ад свайго Боскага Сына. Дык прыбягайма ўсе пад яе апеку, просячы ей-

нага заступніцтва і малітваў, каб адзін дзень мы сталіся годнымі Валадарства Божага.

*1964*

## ПАЗНАННЕ БОГА

Мы павінны быць вельмі ўдзячны Святой Царкве за тое, што яна заўсёды бараніла і бароніць людскі розум ад розных нападкаў і цвердзіць, што чалавек сваімі сіламі можа дайсці да пазнання Бога, пачатку і мэты ўсяго тварэння. Ці ж можа быць большы доказ магутнасці людскога розуму, як той факт, што ён сам, без помачы можа прыйсці да пазнання свайго Тварца?

Так, вялікая ёсць годнасць чалавека. Гаворачы, аднак, аб ягонай веліччы, мы не павінны забывацца, што чалавек, нягледзячы на ўсё, ёсць толькі стварэннем і, як усе стварэнні, істотай абмежаванай. Ягоны магутны розум не ўсёмагутны і ягонае пазнанне Бога, будучы праўдзівым, астаецца заўсёды абмежаваным і недасканалым. Усё нашае пазнанне ў цяперашнім жыцці мае свой пачатак у змыслах, дзякуючы якім мы маем кантакт з матэрыяльным светам вакол нас. Толькі пасля, цераз абстракцыю, мы ўзносімся да пазнання вышэйшых рэчаў, якія не падлягаюць змысловым пачуццям. Бог, які ёсць Чыстым Духам, не з'яўляецца прадметам змысловых адчуванняў. Дзеля гэтага нашыя веды аб Ім толькі пасрэдныя. Мы Яго пазнаём падобна таму, як мы пазнаём пісьменніка, чый твор чытаем. Чытаючы кнігу, мы можам шмат даведацца аб ейным аўтары: аб ягоных мастацкіх здольнасцях, аб маральнасці, светаглядзе і г. д. Усё гэта ёсць праўдзівае, але яно не можа замяніць адной хвіліны беспасрэднага кантакту з жывым чалавекам. У падобны спосаб, чытаючы кнігу прыроды, мы можам шмат сказаць аб ейным Аўтары — аб Ягонай бесканечнай магутнасці, розуме, справядлівасці, бо «Невідомае Яго, вечная сіла Яго і Боства ад стварэння свету праз разважанне аб творах відомым робіцца», — як кажа св. Павал (Рым 1, 20). Аднак гэты вобраз, хоць праўдзівы, будзе заўсёды абмежаваным і недасканалым. Больш таго, нават калі б людскі розум мог бы ісці бесканечна наперад у пазнанні Тварца, то ўсё ж такі Бог для яго аставаўся б істотай далёкай, халоднай і адарванай. Ніякі вобраз, нават найбольш дасканалы, не можа даць нам пачуцця цеплыні і рэальнасці, якое нам дае беспасрэдны кантакт. Ужо старажытны філосаф Арыс-

тоцель, на аснове беззаганнага разважання, дайшоў да пазнання існавання ўсёмагутнай Істоты, першага Рухавіка сусвету. Аднак ягоныя доказы, якія астаюцца важнымі да сённяшняга дня, не маглі змусіць ані яго, ані ягоных паслядоўнікаў любіць гэтую Істоту. Кардынал Ньюман у мінулым стагоддзі сказаў, што ён прызнае важнасць разумовых доказаў існавання Бога, аднак яны пакідаюць яго халодным, г. зн. не выклікаюць у ягоным сэрцы глыбейшых пачуццяў.

На шчасце, Бог не пакінуў чалавека самотным: Ён сам пачаў шукаць людзей. Стварыўшы чалавека на сваё падабенства і годнага сваёй любові, Ён захацеў быць для яго не толькі Тварцом, але і Айцом. Ён шматразова ўваходзіў у беспасрэдны кантакт з людзьмі, гаворачы да іх у аб'яўленнях і праз прарокаў. Нарэшце, каб паказаць усю сваю любоў, Ён сам прыняў чалавечы вобраз: «І Слова сталася целам і пасялілася між намі» (Ян 1, 14). Ісус Хрыстос, Адзінародны Сын Божы і Адвечны Бог, стаўся чалавекам, каб людзі маглі пазнаць Яго і, пазнаўшы, палюбіць і атрымаць вечнае шчасце. Ён жыў між людзьмі, хадзіў, еў, цешыўся, сумаваў, пацяшаў, навучаў і нарэшце памёр мучаніцкай смерцю за нас. Людзі, якія следавалі за Ім, якія бачылі Яго і чулі Ягоныя словы, якія дзялілі з Ім радасці і сум — гэтыя людзі даведаліся далёка больш аб Богу, чым бы яны маглі пазнаць сваімі сіламі праз усё сваё жыццё. «Мы бачылі славу Ягоную, славу як Адзінароднага ад Айца», — піша адзін з Ягоных найбліжэйшых вучняў (Ян 1, 14).

Некаторыя з блізкіх вучняў і паслядоўнікаў Хрыста пакінулі дакумент з таго часу, калі Ён быў на зямлі. Мы называем яго Святое Евангелле. У гэтай кнізе асоба Ісуса Хрыста выступае так жыва, што засланяе ўсё іншае, не выключаючы саміх аўтараў. Чытаючы Святое Евангелле, мы разумеем, кім ёсць Бог для тых, якія пазналі Яго з блізкага сужыцця з Ім. Больш таго, мы не можам пазбавіцца ўражання, быццам мы самі з'яўляемся беспасрэднымі сведкамі падзеяў, там апісаных. Такім чынам, у пэўнай меры мы можам таксама адчуць і пазнаць тое, што адчувалі сучаснікі Хрыста, якія ішлі за ім. І калі мы захочам выразіць словамі тое, што мы пазналі аб Богу з гэтага глыбокага дасведчання, дык не можам зрабіць нічога лепшага, як толькі паўтарыць словы ўлюбёнага вучня Хрыстовага: «Бог ёсць любоў, і хто трывае ў любові, астаецца ў Богу і Бог у ім» (Ян 4, 16).

***1965***

## КАЛЯДЫ І БОГАЯЎЛЕННЕ

Пасля «Свята Святаў» — Вялікадня, — найбольш урачыстым з'яўляецца час Калядаў і Богаяўлення.

У візантыйскіх літургічных кнігах Каляды абазначаюцца як «трохдзённая Пасха». 40-дзённы перадкалядны пост вельмі падобны да Вялікага посту, а 5 дзён перадсвяцця напамінаюць нам Вялікі Тыдзень.

Ёсць важная прычына гэтага падабенства: Каляды і Вялікдзень з'яўляюцца ўспамінамі двух вялікіх здарэнняў у гісторыі нашага збаўлення. У часе Каляд святкуем прыход на свет Госпада Ісуса Хрыста, які ў сваім змёртвыхустанні, як новы Майсей, правядзе нас ад смерці да жыцця. Гэтая перамога была здабытая дарагой цаной. Апостал Павал кажа, што Хрыстос, «будучы вобразам Божым… упакорыў сябе, будучы паслушным да смерці і то смерці крыжовай» (Флп 2, 6–9). Такім чынам, перамога над смерцю была купленая Хрыстом ганебнай смерцю. Дабравольнае паніжэнне Хрыста пачалося ўжо пры ягоным нараджэнні. Будучы Богам, Хрыстос панізіў сябе, прымаючы форму стварэння. Больш таго, для Уладара сусвету не знайшлося месца сярод людзей, якіх прыйшоў збавіць, і нарадзіўся Ён у хляве.

Гэта можа ў пэўнай меры выясніць, чаму ў часе, які папераджае Каляды, адчуваецца атмасфера Вялікага Тыдня, а затое само свята ёсць быццам перадсмакам велікоднай радасці.

На Усходзе Каляды маюць вельмі мала цеплыні «сямейнага свята», так характэрнага для Захаду. Мала гаворыцца аб людской старане ўцелаўлення. Замест таго візантыйская літургія дае для вернікаў вобраз Адзінароднага Сына Божага і Адвечнага Бога, які, дзеля любові для людзей, стаўся чалавекам. Песня напярэдадні свята з'яўляецца добрым прыкладам вышэйсказанага:

«Сёння родзіцца ад Дзевы той, хто ў сваёй руцэ сусвет трымае; Недаступны ў сваёй сутнасці, Ён сёння, як смертны, пакрываецца пяленамі; Бог, які ўстанавіў нябёсы сваім словам, ляжыць у яслях; Той, хто даваў манну людзям у пустыні, прымае страву ад Маці; Жаніх Царквы мудрацоў прызывае і іхнія дары прымае Сын Дзевы» (Песня на 9-м часе).

Святкаванне Каляд 25 снежня на Усходзе пачалося ў IV ст. Гэты абычай прыйшоў з Рыма. Раней Нараджэнне Хрыста святкавалася 6 студзеня разам з Богаяўленнем.

Прыгатаўленне да Каляд пачынаецца 40-дзённым постам 15 лістапада, пасля свята апостала Піліпа, і таму на Беларусі называецца Піліпаўкай.

У дзве нядзелі перад святам Каляд Царква ўспамінае продкаў Хрыста (г. зн. продкаў Найсвяцейшай Дзевы) ад Адама, а таксама ўсіх пракокаў, якія прадказалі прыход Хрыста і праведнікаў, якія дагадзілі Богу ў часах Старога Запавету. На вячэрні ў гэтыя нядзелі співаецца: «Успамінаючы праайцоў, усхвалім, верныя, Хрыста Збавіцеля, які ўславіў іх сярод усіх людзей».

На св. літургіі ў нядзелю перад Калядамі чытаецца Евангелле паводле св. Мацвея, раздзел 1, вершы 1–25, дзе даецца радавод Ісуса Хрыста. Такім чынам Царква жадае паказаць. што Хрыстос, які з'яўляецца сапраўдным Богам, быў таксама сапраўдным чалавекам.

24 снежня ёсць перадсвяточны дзень, або «чаканне». Раніцай звычайна няма св. літургіі (хіба што Каляды выпадуць у нядзелю або ў панядзелак) і строгі пост абавязвае да вечара. Часы ў гэты дзень чытаюцца г. зв. «вялікія», або «царскія». Вечарам вячэрня з Літургіяй св. Васіля Вялікага. Ёсць звычай служыць вячэрню з Літургіяй св. Васіля таксама напярэдадні Богаяўлення, у Вялікі Чацвер і Вялікую Суботу. У часе вячэрні чытаецца 8 прароцтваў, у якіх прадказаны прыход на свет Ісуса Хрыста. Евангелле ў літургіі паводле Лукі, раздз. 2, вершы 1–20.

«Што мы ахвяруем Табе, Хрысце, за тое, што Ты дзеля нас стаўся чалавекам? — співаецца ў часе Вячэрні. — Кожнае стварэнне прыносіць Табе доказ сваёй удзячнасці: анёлы — спеў, неба — звязду; мудрацы — свае дары; пастухі — хвалу; зямля — пячору; пустыня — яслі. Мы ж Табе прыносім Дзеву Маці, О Божа прадвечны, слава Табе».

У Калядны дзень на літургіі чытаецца Евангелле паводле Мацвея, раздз. 2, вершы 1–12, аб пакланенні мудрацоў. (На Захадзе пакланенне святкуецца 6 студзеня. Адсюль назоў «Трох Каралёў».)

У часе Каляд співаецца прыгожы кандак, напісаны адным з найвялікшых візантыйскіх паэтаў, Раманам Сладкапеўцам (першая палова VI ст.): «Сёння Дзева родзіць Таго, хто перавышае ўсякае тварэнне, і зямля пячору ахвяруе Недаступнаму. Ангелы з пастухамі Яго хваляць і мудрацы за зоркай следуюць. Бо для нас Дзіця радзілася — Прадвечны Бог».

Наступны дзень, 26 снежня, называецца «Саборам Божай Маці». Гэта найстарэйшае свята ў гонар Найсвяцейшай Дзевы, якая тут услаўляецца як Маці Госпада Ісуса Хрыста.

Богаяўленне 6 студзеня з'яўляецца адным з найстарэйшых хрысціянскіх святаў. У візантыйскім абрадзе ўспамінаецца хрост у Іардане Ісуса Хрыста. Гэта і ёсць «Богаяўленне», бо

пры гэтай нагодзе была аб'яўлена свету боскасць Ісуса Хрыста. Таксама ў гэты дзень першы раз у гісторыі чалавецтва была аб'яўлена тайна Святой Тройцы. Гэта вельмі добра выражана ў песні (трапары): «Пры Тваім Хросце ў Іардане, Госпадзі, нам явілася Троічная хвала: бо вось голас Айца засведчыў аб Табе, называючы Цябе ўлюблёным Сынам; І Дух у відзе голуба даў пацвярджэнне гэтым словам. Слава Табе, Хрысце Божа, які аб'явіўся і прасвяціў свет».

Літургічна свята Богаяўлення ёсць падобным да Каляд, і таму яго не трэба тут апісваць падробна. На вячэрні 12 прароцтваў і Евангелле (на Літургіі св. Васіля, якая следуе за вячэрняй) паводле Лукі, раздз. 3, вершы 1–18. Евангелле на літургіі ў самы дзень свята ёсць ад Мацвея, раздз. 3, вершы 13–17.

Выдатным пунктам Богаяўлення ёсць асвячэнне вады, якое павінна быць напярэдадні свята вечарам, пасля Літургіі св. Васіля. Звычайна аднак яно пераносіцца на самы дзень свята.

Значэнне асвячэння вады ёсць тое, што Хрыстос, сам бязгрэшны, увайшоўшы ў ваду Іардана і прыняўшы хрост, даў гэтай вадзе сілу абмываць не толькі вонкавы бруд, але таксама ачышчаць людзей ад грахоў і ажыўляць іх у тайне св. Хросту.

«О Госпадзі, — спяваецца ў часе службы. — Ты прыйшоў, пачуўшы голас таго, хто крычаў у пустыні: "Рыхтуйце шляхі Госпаду". Не ведаючы граху, Ты прыняў вобраз слугі і папрасіў хросту. Воды пабачылі Цябе і спужаліся, і Прадвеснік затурбаваўся і ўсклікнуў: "Як можа свяцільнік даць святло Святлу? Як слуга можа ўзлажыць рукі на Гаспадара? Асвяці мяне і воды, Госпадзі, Ты, які бярэш грахі ўсяго свету"».

У малітве благаславенства вады (твор св. Сафронія, патрыярха Іерусалімскага ў X ст.) чытаем: «Сёння струмені Іарданскія мяняюцца цераз прысутнасць Госпада ў аздараўляючыя воды. Сёння людскія праступкі змываюцца святымі водамі Іардана… Сёння прысутнасць Госпада робіць салодкаю горкую ваду Майсеевага народа…» І далей: «Таму, Міласцівы Уладару, будзь прысутным цераз зыход Святога Духа і асвяці гэтую ваду і дай ёй ласку адкуплення, благаславенства Іарданскае. Зрабі яе крыніцаю нятлення, дарам святасці, водкупам за грахі, аховай ад хваробаў, абаронай ад чарцей, недаступнай ніякай варожай сіле і поўнай ангельскай моцы; зрабі, каб яна была для тых, хто яе прымае, на ачышчэнне цела і душы, на аздараўленне цярпенняў, на асвячэнне дамоў і на кожную патрэбу…»

Як 26 снежня ёсць свята ў гонар Божай Маці, таксама і 7 студзеня святкуецца сабор св. Яна Хрысціцеля, Прадвесніка

Хрыстовага, «Прыяцеля Жаніха», які, ахрысціўшы Госпада ў Іардане і паказаўшы Яго свету, зачыніў часы Старога Запавету. Бо «Закон і пракокі да Яна: ад таго часу прапаведуецца Евангелле Валадарства Божага» (Лк 16, 16).

*1965*

## НЕЗАБЫЎНЫЯ ДНІ

Некаторыя людзі зусім няслушна наракаюць на ангельскую восень. Трэба толькі ведаць спосабы, і яна можа стацца адной з найбольш прыемных пораў года. Найлепшы спосаб — гэта выехаць з Англіі на некаторы час ў паўднёвую Францыю або ў Італію… Гэта якраз зрабілі ў гэтым годзе вучні школы св. Кірылы ў Лондане, якія, карыстаючы з кароткіх канікулаў, правялі адзін тыдзень у Рыме. (У ангельскіх школах ёсць заўсёды кароткі перапынак у навуцы ў сярэдзіне кожнай чвэрці.)

Пасля больш чым 24-гадзіннай дарогі цягнікам і морам хлопцы ўпершыню пабачылі ў суботу 30 кастрычніка Вечны горад, які спаткаў іх праменямі гарачага сонца («Як летам у Англіі», — чуліся заўвагі) і сінім небам. Адразу сталася відавочным, што плашчы і швэдры, якія ўзялі з сабою хлопцы з Лондана, тут будуць непатрэбнымі…

На станцыі ў Рыме ўжо чакалі хлапцоў даст. уладыка Часлаў Сіповіч і а. Р. Тамушанскі. Усе разам паехалі ў базіліку Санта Марыя Маджорэ, каб падзякаваць Багародзіцы за шчаслівае падарожжа. Старая царква IV ст. захапіла хлапцоў сваёй веліччу і прыгожасцю.

На наступны дзень, у нядзелю 31 кастрычніка, вялікая ўрачыстасць: рукапалажэнне ў дыякана а. Роберта Тамушанскага. Хлопцы асабліва шчаслівыя, што могуць быць прысутнымі на гэтай урачыстасці, бо яны добра ведаюць і любяць а. Роберта, які праводзіць усе свае канікулы ў школе св. Кірылы.

Пасля абеду — першае знаёмства з Рымам. Усе паехалі ў цудоўны парк Пінчыё (дзе адзін вучань, загледзеўшыся на тэатр марыянетак, згубіўся…), пабачылі Іспанскую плошчу з яе слаўнымі сходамі, Капітоль, Мамертынскую вязніцу, дзе былі вязнямі св. апосталы Пятро і Павал, і, нарэшце, Калізей. Хлопцы з подзівам хадзілі між мурамі гэтага старога рымскага тэатра, які быў збудаваны рукамі жыдоўскіх нявольнікаў, прывезеных Тытусам пасля разбурэння Іерусаліма і які быў месцам стольніх

жудасных людскіх цярпенняў дзеля пацяшэння масаў. Просты крыж, які там цяпер знаходзіцца, напамінае наведвальнікам аб масах хрысціянскіх мучанікаў, якія, хутчэй чым адрачыся Хрыста, выбралі жудасную смерць на арэне.

На наступны дзень, у панядзелак, паездка ў катакомбы. Айцец А. Надсан і а. дыякан Р. Тамушанскі адслужылі св. літургію ў адной з падзямельных капліцаў, а даст. уладыка Чаславў сказаў прынагоднае казанне, у якім ён звярнуў увагу на гонар, які спаткаў усіх прысутных, што маюць нагоду ўзяць удзел у св. літургіі на месцы, дзе ўся зямля прасякнутая крывёю мучанікаў. Пасля св. літургіі — зведванне катакомбаў.

Пасля абеду хлопцы зведвалі Форум Романум, Вія Сакра, руіны паганскіх святыняў і базілікаў, будынак сената, дзе быў забіты Цэзар, ростра, адкуль дэмагагічныя палітыкі прамаўлялі да народу, гроб Ромулюса, трыумфальныя аркі імператараў — усё гэта зрабіла жывой «мёртвую» старажытную гісторыю, якую хлопцы вывучаюць у школе.

У аўторак — экскурсія на цэлы дзень у Остыю. Па дарозе заехалі ў базіліку св. Паўла, каб памаліцца на гробе вялікага апостала. Остыя была некалі портам старажытнага Рыма і мае амаль столькі гадоў, колькі сам Вечны горад. Найнавейшыя раскопкі адкрылі там цэлы рад добра захаваных будынкаў з рымскіх часоў, між якімі ўвагі заслугоўвае тэатр. Гэты апошні ў такім добрым стане, што да сённяшняга дня там адбываюцца пастаноўкі і канцэрты. Узнікла думка зладзіць у тэатры беларускую пастаноўку. Хлопцы выходзілі па адным або групамі на сцэну, гаварылі вершы, спявалі песні. Была выбраная строгая камісія, якая ацэньвала найлепшыя выступы і пасля раздала нагароды. Да групы сваіх гледачоў далучыліся чужынцы… Мусіць, яшчэ ніколі не здаралася ў гісторыі, каб у старым рымскім тэатры, які мае бадай 2000 гадоў, чулася мова і песня беларускіх дзяцей.

У сераду раніцай у базіліцы Санта Марыя Маджорэ а. прэлат П. Татарыновіч адправіў св. літургію за Беларусь. Літургія была ў рымскім абрадзе на беларускай мове. Хлопцы прыслугоўвалі і ў часе літургіі спявалі беларускія набожныя песні: «О Мой Божа», «Маці наша добрая», «Мы хочам Бога», «Магутны Божа».

Пасля абеду вялікае здарэнне: аўдыенцыя ў св. айца. Беларуская група на чале з уладыкам Чаславам прыехала загадзе на плошчу св. Пятра, каб у час заняць сваё месца ў базіліцы. Беларускія строі хлопцаў выклікалі захапленне і подзіў з усіх бакоў. Іх бесперастанна фатаграфавалі, пыталі, з якой краіны прыехалі? Трэба было тлумачыць на ўсіх магчымых і немагчымых мовах аб тым, што такое Беларусь. Былі таксама аматары

зрабіць інтарэс: адзін з вучняў школы св. Кірылы атрымаў прапанову ад італьянскага хлопца памяняць сваю кашулю на швэдар. У прыдачу італьянец даваў яшчэ яму 10 000 ліраў (18 $).

Той, хто быў на аўдыенцыі ў св. айца, ніколі не забудзецца аб гэтым. Дык не дзіва, што аўдыенцыя зрабіла на беларускіх хлопцаў вялікае ўражанне. Святы айцец спецыяльна паблагаславіў іх і перадаў уладыку Чаславу памятку-медаль для школы св. Кірылы.

Чацвер — зведанне ватыканскіх музеяў. Цяжка было агледзець за кароткі час усе сабраныя скарбы. Найдаўжэй хлопцы затрымаліся ў Сікстынскай капліцы, слаўнай на ўвесь свет дзякуючы малюнкам Мікеланджэла.

Вечарам таго самага дня ўсе паехалі на прыём, ладжаны а. прэлатам Татарыновічам. Па дарозе аднак заехалі ў царкву св. Сергія і Бака, каб пакланіцца іконе Жыровіцкай Божай Маці, якая там знаходзіцца ўжо больш чым 300 гадоў.

Нарэшце прыйшла пятніца, апошні дзень у Рыме. Хлопцы годна закончылі свой кароткі побыт у Вечным горадзе св. літургіяй у базіліцы св. Пятра. Служыў св. літургію ўладыка Часлаў у саслужэнні з а. А. Надсанам і а. дыяканам Р. Тамушанскім. Быў прысутны ўладыка Баляслаў Слоскан. Хор хлопцаў прыгожа спяваў беларускія літургічныя напевы.

Пасля літургіі — кароткія зведзіны базілікі, паварот дамоў, абед і выезд на станцыю. За пару хвілін цягнік адыходзіць і Рым паволі нікне з вачэй хлапцоў. Але ці назаўсёды?

Ёсць у Рыме адзін фантан, які завецца фантан Трэві. Кажуць, што калі хто ўкіне туды манету, дык ён напэўна вернецца зноў у Вечны горад. Некаторыя вучні школы св. Кірылы паспелі пабываць пры гэтым фантане аж тры разы…

Наканец трэба сказаць пару словаў шчырай падзякі дастойнаму ўладыку Чаславу Сіповічу, якому школа св. Кірылы заўдзячвае гэтыя прыгожыя канікулы ў Вечным горадзе і які зрабіў усё магчымае, каб побыт хлопцаў у Рыме быў як найбольш прыемным.

***1965***

## У СВЯТОЙ ЗЯМЛІ

Усцешыўся я, калі мне сказалі:
Хадзем да дому Госпадняга!
Вось нашы стопы стаяць
у варотах тваіх, Іерусаліме.
*(Пс 121, 1–2)*

З гэтай малітвай на вуснах невялікая група беларускіх пілігрымаў вылецела ў Велікодную нядзелю 27 сакавіка з Лондана ў Святую Зямлю. Было нас усіх 11 чалавек, як праваслаўных на чале з а. Я. Абабуркам, так і каталікоў разам з а. А. Надсанам і а. Р. Тамушанскім.

Самалёт вылецеў з Лондана ў 11 гадз. вечарам, і ў наступны дзень раніцай мы ўжо былі ў Амане. Сталіца Іардана спаткала нас досыць непрыветна. Замест спадзяванага сонца і цяпла там быў холад і снег, — рэч небывалая, якой не памятаюць нават найстарэйшыя людзі! Прыйшлося чакаць на лётнішчы, пакуль прыедуць па нас з Іерусаліма самаходы па пакрытых снегам і лёдам горных дарогах. Мы скарысталі з гэтай прымусовай затрымкі, каб навязаць першыя знаёмствы з мясцовымі жыхарамі. Сярод іх хіба найбольш цікавым быў малады, бо толькі 21-гадовы, лейтэнант іарданскай паліцыі, найвялікшай марай якога ёсць ехаць у Італію вывучаць мастацтва. На памятку ён нарысаваў і падарыў партрэт наймалодшаму сябру нашай групы Міколу Смалю.

Нарэшце прыехалі нашы таксі (таксі — найбольш пашыраны і танны сродак транспарту ў Іардане) і мы паехалі ў Іерусалім, адлеглы 90 кіламетраў ад Амана. Надвор'е крыху выпагадзілася. Дарога ішла цераз горы. Паабапал яе мы часта бачылі палаткі бедуінаў, недалёка ад якіх стады вярблюдаў і авечак скублі бедную траўку сярод скалаў. Мёртвае мора, каля якога мы затрымаліся, спаткала нас невыноснай гарачынёй (яно ляжыць амаль 400 метраў ніжэй узроўню мора) і мярцвечай навакольнай пустыні. Далей пачаліся Іўдзейскія горы (не ведаю, чаму іх называюць узгоркамі), поўныя дзікай красы. На найвышэйшым месцы іх, у палове дарогі між Іерыхонам і Іерусалімам, стаяла некалі карчма. Яна была добра вядомая ўсім падарожнікам, бо гэта было адзінае месца ва ўсёй аколіцы, дзе можна было дастаць ваду. Гэтую карчму меў Хрыстос на ўвеце ў сваёй прыпавесці аб добрым самарыцяніне (Лк 10, 30–37). Калі глянуць на навакольны дзікі краявід, дык няма чаго дзівіцца, што раней тут магло

быць шмат разбойнікаў. Цяпер на месцы карчмы знаходзіцца станцыя паліцыі.

Урэшце мы наблізіліся да Святога горада. Ехалі па дарозе з Бэтаніі, той дарозе, па якой Хрыстос уязджаў трыумфальна ў Іерусалім у Пальмавую нядзелю. Направа ўзвышалася Аліўкавая гара, крыху далей — Гефсіманскі сад; перад намі разляглася Даліна Кедронская (або Даліна Язафата, дзе, паводле традыцыі, мы ўсе павінны будзем некалі сабрацца на Апошні Суд), а за ёй высіліся магутныя муры старога Іерусаліма. Першае ўражанне — найбольш моцнае і незабыўнае.

Прыехалі мы ў наш гатэль досыць позна і, будучы змучанымі, пастанавілі правесці свабодна рэшту дня. Некаторыя асталіся ў сваіх пакоях адпачываць. Іншыя пайшлі пазнаёміцца з горадам. Пад вечар у нашай групе паявілася ўжо некалькі «арабаў» у бурнусах…

У наступны дзень — аўторак — раніцай едзем у Віфлеем. Дарога зноў ідзе праз залітыя сонцам цудоўныя Іўдзейскія горы. Хутка на вяршыні гары перад намі закрасаваў прыгожы белы гарадок. Гэта — Віфлеем. Прыязджаем да царквы Нараджэння Хрыстовага, якая стаіць на месцы старой карчмы. Зверху — праваслаўная грэцкая царква; пад ёй — пячора, якая некалі служыла стайняй і ў якой нарадзіўся Збавіцель. Цяпер зорка пад алтаром адзначае месца Нараджэння. Незабыўная хвіліна, у многіх з нас слёзы ў вачах, калі кленчым і цалуем гэтае святое месца. Пасля стаем крыху воддаль цэлай групай. Айцец Абабурка чытае Евангелле (Лк 2, 1–20), пасля ціха спяваем трапар «Рождество Твое». Гэта між іншым мы рабілі ў ўсіх іншых святых месцах: адзін са святароў чытаў адпаведны ўрывак Евангелля, а пасля ўсе спявалі трапар або гаварылі «Ойча Наш».

Поле каля Віфлеема, дзе анёлы аб'явілі пастушкам нараджэнне Хрыста, бадай не змянілася за дзве тысячы гадоў. Цяпер, як і тады, там пасуцца авечкі, а за імі ходзяць пастушкі, мусіць, нават гэтаксама апранутыя. На ўзгорку пры пячорах, якія служылі сховішчам для пастушкоў, цяпер стаіць манастыр і царква айцоў францысканцаў.

Пасля абеду ў той самы дзень ідзём у стары Іерусалім. Найперш затрымоўваемся там, дзе некалі была жыдоўская святыня. Цяпер тут стаіць мусульманская мячэць — цудоўны помнік арабскага мастацтва. Называецца ён «Купал над скалой», бо збудованы ён, паводле традыцыі, над скалой, дзе некалі Абрам прынёс у ахвяру Богу свайго сына Ісаака (Быц 22, 1–14). Уваходзім усярэдзіну, скідаючы чаравікі. Больш, чым прыгожасць

архітэктуры, на нас робіць уражанне пабожнасць мусульманаў: нам, хрысціянам, ёсць часам чаму ад іх павучыцца.

Сцяна Плачу — адзінае, што асталося ад жыдоўскай святыні, збудаванай Гэрадам. Сюды раней прыходзілі жыды, каб плакаць над стратай святыні і святарства. Цяпер каля яе пуста. Сцяна стаіць сама — нямы сведка няшчаснага палітычнага падзелу Святой Зямлі.

Выходзім за муры старога горада і ідзём да царквы св. Пятра «Галліканту» (г. зн. спеў пеўня), збудаванай там, дзе некалі стаяў дом жыдоўскага першасвятара Каяфы. Жыды, схапіўшы Хрыста ў Гефсіманскім садзе, прывялі Яго сюды. Тут св. Пётр адрокся тройчы свайго Настаўніка (гл. Мц 57–75). Адтуль і такі цікавы назоў царквы. Належыць царква каталіцкім манахам асумцыяністам. Добры айцец завёў нас у падземныя лёхі, якія служылі за вязніцу і дзе, напэўна, жыды трымалі Хрыста перад тым, як завесці Яго да Пілата.

Нашым наступным прыпынкам быў Гефсіманскі сад, куды Ісус прыйшоў памаліцца пасля Апошняй Вячэры. Францысканскія манахі даглядаюць старыя пакручаныя аліўкавыя дрэвы, пад якімі некалі панылі (заснулі) апосталы Пётр, Ян і Якаў у тым часе, як Хрыстос, адышоўшы крыху ўбок, маліўся: «Айцец мой! Калі магчыма, няхай абміне Мяне гэтая чаша; аднак не як Я хачу, але як Ты!» (Мц 26, 39). Цяпер над скалой, на якой, паводле традыцыі, маліўся Хрыстос, збудавана царква, якая завецца Царквой усіх народаў. Нарэшце, у Гефсіманскім садзе Юда выдаў свайго Настаўніка, сказаўшы тым, што прыйшлі з ім: «Каго пацалую, той і ёсць; бярыце Яго» (Мц 26, 48).

Побач з Гефсіманскім садам стаіць грэцкая праваслаўная царква Успення на месцы, дзе была пахаваная Багародзіца.

Апошняй нашай мэтай у той дзень была Аліўкавая гара. Па дарозе затрымоўваемся ў манастыры сясцёр кармелітанак «Ойча Наш». Тут на сценах царквы і на панадворку знаходзяцца тэксты Малітвы Гасподняй на 47 мовах. На жаль, не знаходзім сярод іх беларускага тэксту…

Але вось мы на Аліўкавай гары, на месцы, дзе Госпад Ісус Хрыстос, праз 40 дзён пасля свайго змёртвыхустання, узнёсся на неба. Цяпер тут стаіць малая каплічка, якая знаходзіцца ў прыватных мусульманскіх руках. Уваходзім у яе. На падлозе сярод каплічкі ёсць адгароджанае месца, з якога выглядае кусок скалы, а на гэтай скале — след. Гэта, паводле традыцыі, след стапы Госпада Ісуса Хрыста. Затрымоўваемся ў каплічцы

даўжэй. Айцец Абабурка служыць малебен за ўсіх пілігрымаў, іхнюю радню і за ўвесь беларускі народ.

У сераду раніцай мы пачалі дзень св. літургіяй у царкве св. Ганны. Служылі а. Надсан і а. Тамушанскі. Збудованая крыжакамі ў XI ст. царква св. Ганны стаіць на месцы, дзе, паводле традыцыі, быў дом бацькоў Багародзіцы і дзе Яна сама нарадзілася. Побач з царквою знаходзіцца Авечая купель (Бэтэсда), каля якой Хрыстос аздаравіў расслабленага (Ян 5, 1–16).

З царквы выходзім на вуліцу, якая завецца «дарогай крыжовай» або «дарогай цярпення». Па ёй ішоў некалі Хрыстос з Прэторыі да Галгофы, несучы крыж. Пад манастыром сясцёр Сіёнскіх бачым кусок арыгінальнага двара Прэторыі і дарогі, па якой, напэўна, ступаў Збавіцель. Далей наша дарога ідзе вузкімі вулічкамі, поўнымі шуму і крыку. Нарэшце падыходзім да самага святога для кожнага хрысціяніна месца — царквы Гроба Хрыстовага, або, як яе называюць грэкі, царквы Змёртвыхустання. Сённяшні пілігрым дарма будзе старацца стварыць у сваім уяўленні ўзгорак Галгофы, сад вакол яго і новавысечаны гроб. Пабожнасць вякоў пакрыла ўсе гэтыя месцы адной вялізнай царквой. Цяперашняя царква, збудаваная крыжакамі ў XI ст. і папсаваная пазнейшымі пераробкамі і дадаткамі, з'яўляецца расчараваннем для тых, хто прыходзіць сюды шукаць нейкай мастацкай прыгожасці. Можа, гэта так і лепш: такім чынам нішто не адцягвае ўвагі пілігрыма ад святасці месца. А святасць адчуваецца тут вельмі моцна. Галгофа знаходзіцца ва ўсходняй частцы царквы і стаіць вышэй, чым рэшта будынка. Месца, дзе стаяў Крыж Гасподні, знаходзіцца пад алтаром, які ёсць у апецы грэцкіх праваслаўных манахаў. Вакол святога месца заўсёды натоўп, як, мусіць, было і ў той страшны час, калі Збавіцель вісеў на крыжы. Рэакцыі людзей, мусіць, таксама падобныя: адны плачуць і моляцца, падыходзячы на каленях да крыжовага месца і цалуючы яго; другія праходзяць міма і глядзяць на ўсё з адарванай цікавасцю або зусім абыякава, яшчэ іншыя ўсміхаюцца, «ківаючы галовамі» (Мц 27, 39).

Пакланіўшыся святому месцу на Галгофе, мы ідзём уніз да Гроба Гасподняга. Па дарозе затрымоўваемся каля месца, дзе, паводле традыцыі, Язэп Арыматэйскі палажыў цела Хрыста, зняўшы Яго з крыжа, каб перад пахаваннем памазаць алеямі і абвіць плашчаніцаю.

Гроб Хрыстовы ёсць вельмі цесны, і ў яго не можа ўвайсці адразу больш чым пяць чалавек. Уваходзім па чарзе і прыкладваемся вуснамі да вылажанага мармурам месца, дзе ляжала цела

Хрыста. Пасля, глыбока ўзрушаныя, затрымоўваемся ў капліцы Марыі Магдалены, каб прачытаць Евангелле і памаліцца. Ціха вяртаемся ў свой гатэль. Гэтага дня, напэўна, ніхто з нас не забудзе.

Чацвер — апошні дзень нашай пілігрымкі. Раніцай прыязджаюць таксі, каб забраць нас на лётнішча ў Аман. Па дарозе затрымоўваемся ў Бэтаніі, дзе ў царкве, збудованай на месцы дому Марыі і Марты, слухаем св. літургію. Аглядаем таксама гроб Лазара. Наступная наша затрымка ў Іерыхоне. Вялікае ўражанне робіць пустыня вакол Іерыхона, у якой некалі жыў св. Ян Хрысціцель і пасціў 40 дзён Хрыстос. У параўнанні з пустыняй, Іерыхон са сваім пышным трапікальным жыццём выглядае зямным раем. Далёка віднеецца гара, на якую чорт занёс Хрыста, каб Яго спакушаць (Мц 4, 8–10). Кантраст між мярцвечай пустыні і надзвычайным багаццем жыцця ў Іерыхоне рабіў вельмі рэальнай спакусу: «Усё гэтае дам табе, калі ўпаўшы паклонішся мне».

Наш апошні прыпынак — рака Іардан, месца хросту Госпада нашага Ісуса Хрыста (Мц 3, 1–17). Умываем твары ў вадзе святой ракі. Апошнім позіркам жагнаемся са Святой Зямлёй. Цяпер нашы таксі вязуць нас проста ў Аман, дзе сядаем на самалёт, каб вечарам таго самага дня апынуцца ў халодным і дажджлівым Лондане.

Мэтай нашай кароткай пілігрымкі было пакланіцца тым месцам, дзе нарадзіўся, навучаў і памёр за нас Госпад Наш Ісус Хрыстос. Мы хадзілі ўсюды з Евангеллем у руцэ, і Евангелле, чытанае на месцы, набірала для нас зусім іншага, глыбейшага значэння. Усе мы вярнуліся ўзбагачаныя духоўнымі перажываннямі, якія астануцца на ўсё жыццё. Мы адчувалі, быццам мы ішлі па слядах Збавіцеля.

*1967*

# ВЕЛІКОДНЫЯ ДУМКІ

Вясна. Прырода будзіцца з зімовага сну. Усё пачынае ажываць. Зерне, кінутае ўвосень у сырую халодную зямлю, не памерла і сёння пачынае даваць знакі новага жыцця, каб хутка ўспыхнуць багаццем красак і прынесці ў сваім часе новае зерне, якое ў сваю чаргу дасць пачатак новаму жыццю… Кожны год усё гэта здараецца, і кожны год мы спатыкаем гэтае адраджэнне жыцця з подзівам, як нешта новае, як цуд.

Міжволі ўспамінаюцца словы Хрыста: «Калі пшанічнае зерне, паўшы ў зямлю, не памрэ, то астанецца адно, а калі памрэ, то дасць багаты плод» (Ян 12, 24).

Той, хто сказаў гэтыя словы, быў сам для нас зернем. Праляжаўшы тры дні ў зямлі, Ён уваскрос, каб даць пачатак новаму жыццю, не дачаснаму і пераходнаму, як звычайныя зярняты, але вечнаму, Божаму. Нараджэнне новага жыцця мы якраз святкуем у Вялікдзень, які нездарма завецца святам усіх святаў.

«Дзень змёртвыхустання: узрадуемся, людзі, бо сёння ёсць Пасха, Пасха Гасподняя. Сёння Хрыстос Бог перавёў нас ад смерці да жыцця і ад зямлі да неба, пеючы песню перамогі». Такімі радаснымі словамі Царква спатыкае гэтае вялікае свята.

Па-жыдоўску Вялікдзень завецца Пасха, што значыць пераход. Гэта быў для жыдоў дзень вызвалення, калі Майсей, перавёўшы іх пераможна праз Чырвонае мора, вызваліў іх з егіпецкай няволі і павёў да абяцанай зямлі, да новага, вольнага жыцця, якое абяцаў Бог свайму выбранаму народу.

У новую Пасху, Вялікдзень, ужо не чалавек Майсей, але сам Бог, Госпад Ісус Хрыстос, цераз сваю смерць і змёртвыхустанне перавёў нас ад смерці граху да жыцця вечнага, прыгатаванага для дзяцей Божых.

Да часу крыжовай смерці Хрыста людзі былі пад уладай грэху і смерці. Яны былі ў сумным паложанні даўжнікоў, якія, не будучы ў стане заплаціць свайго доўгу, павінны былі мучыцца ў няволі. Хрыстос, будучы сам без даўгу, заплаціў за нас доўг, робячы нас свабоднымі. Дзіўныя дарогі Божай любові, якая ўмее пагадзіць бязмежнае міласэрдзе з вымогамі справядлівасці!

Сёння, святкуючы Вялікдзень, памятайма, якой цаной мы купленыя. Будучы дзецьмі Божымі, не рабемся зноў нявольнікамі, бо «ўсякі, хто грашыць, ёсць нявольнікам грэху» (Ян 8, 34). Хай у гэты святы дзень у сэрцы кожнага з нас адбудзецца Пасха — той пераход ад грэху да добрага жыцця, да жыцця з Богам. Грахі мінулых гадоў нашага жыцця нам не павінны быць

перашкодаю, бо міласердзе Божае ёсць безгранічнае: «Госпад… доўга церпіць нас, не хоча, каб нехта згінуў, але каб усе прыйшлі да пакаяння» (2 Пятр 3, 9). Хай таксама ніхто не кажа, што гэта немагчыма, бо Хрыстос ёсць заўсёды пры нас і дае помач тым, хто яго шчыра просіць. «Немагчымае для людзей магчымае для Бога» (Лк 18, 27).

Думка аб вечным жыцці не павінна нас прымушаць забывацца аб жыцці дачасным, зямным, якое, як дар Божы і прыгатаванне да вечнасці, мае для нас асаблівае значэнне. Калі мы глянем на сённяшні свет, дык ён прадстаўляецца ў вельмі невясёлых красках. Закалоты, войны, голад не перастаюць мучыць людзей. Першы раз у гісторыі людзі маюць у сваім распараджэнні такую магутную зброю, што могуць знішчыць саміх сябе і ўсё жыццё на зямлі. Дык не дзіва, што не адзін з бацькоў з трывогай думае аб будучыні сваіх дзяцей. Усюды множацца розныя рухі міру, пратэсты, дамаганні — забараніць ужыванне пэўных відаў зброі. А што мы, хрысціяне, на гэта? Мы былі б дрэннымі хрысціянамі, калі б асталіся абыякавымі ў абліччы зла, якое пагражае нам і ўсім нашым бліжнім. Дзеля гэтага нашым абавязкам ёсць не толькі адносіцца з сімпатыяй, але падтрымоўваць актыўна ўсякія годныя падтрымкі мерапрыемствы дзеля зменшання небяспекі і цярпенняў і дзеля супакою ў свеце. З другога боку, гледзячы на ўсе гэтыя намаганні, мы не можам пазбавіцца пэўнага сумнага скептыцызму. Падтрымоўваючы справядлівыя дамаганні забароны ўжывання пэўных відаў зброі, мы ведаем, што ніякія забароны не памогуць, покуль у сэрцах людскіх будуць панаваць злосць, нянавісць, зайздрасць і пажадлівасць. Нам таксама сумна, што сёння, калі так шмат гаворыцца аб міры, амаль нічога не ўспамінаецца аб Князю Міру, Госпадзе нашым Ісусе Хрысце, які адзін можа даць сапраўдны і трывалы мір.

Дзеля гэтага хай нашым першым укладам у справу сусветнага супакою будзе «пасха» ў нашых сэрцах, гэта значыць пераход да жыцця ласкі і адвярнення ад грэху, нянавісці, злосці, нячыстых пажаданняў — словам, ад усяго, што ёсць сапраўднай прычынай закалоту ў свеце.

Мы не можам аставацца абыякавымі да людскога гора. Хрыстос не быў абыякавым і, дзе мог, аблягчаў людскія цярпенні. Мы былі б не вартымі Ягонага імені, калі б паступалі інакш. Аднак ніхто не можа даць таго, чаго не мае. Як мы можам рабіць дабро, калі сэрцы нашы поўныя злосці? Як можам суцяшаць, будучы перапоўнены горыччу? Як можам любіць, калі мы дыхаем нянавісцю?

«Багаслаўлёныя міратворцы, бо яны назавуцца сынамі Божымі» (Мц 5, 9). Паколькі мір зямны з’яўляецца водблескам міру нябеснага, Божага, дык яго можа даць толькі Бог і тыя, якім дадзена ад Бога, гэта значыць сыны Божыя. Але каб быць сынам Божым, трэба мець мір у сваім сэрцы.

Усё вышэйсказанае павінна быць прадметам для развагі для нас, беларусаў. Сёння наша Бацькаўшчына знаходзіцца пад уладаю тых, якія жадаюць устанавіць на свеце фальшывы мір. Мы ўсе жадаем свабоднай Беларусі. Але што мы разумеем пад гэтым? Ці мо хочам замяніць адну небеларускую бязбожную няволю другой, толькі беларускай? Ці, з другога боку, мы жадаем, каб Беларусь была сапраўды свабоднай, свабоднай ад усяго дрэннага, свабоднай той свабодай, якую можа даць толькі Бог? Калі гэта ёсць нашым жаданнем, дык ужо сёння пастараемся ўнесці свой уклад дзеля шчаслівейшай будучыні нашай бацькаўшчыны, стараючыся самі жыць з Богам.

«Калі… зерне, упаўшы ў зямлю… памрэ, то дасць багаты плод». Хай у гэты святы дзень кожны з нас памрэ для грэху, каб, уваскрэснуўшы з Хрыстом, прынесці плод жыцця вечнага!

*1968*

## КАЛЯДНЫЯ ДУМКІ

Хто з тых, якія чыталі «Новую зямлю» Якуба Коласа, не памятае ягонага апісання Калядаў, або лепш Куцці, і падрыхтоўкі да яе? З непараўнальным майстэрствам і замілаваннем аўтар дае нам вобраз радаснага чакання, як у прыродзе — дзе лютуе зіма, бо гэта была яе часіна, «але ўжо хутка палавіна; а там цяплом табе павее», — так і сярод людзей, асабліва сярод дзяцей, якім вельмі цікава ведаць, «якія матчыны намеры наконт куцці, наконт вячэры». Далей ідзе апісанне самой урачыстай вячэры з яе традыцыйнымі стравамі, пачынаючы ад квасу і канчаючы куццёю, якую «ўжо елі без ахвоты, абы падатак той аддаць, стары звычай ушанаваць».

Пад уражаннем чароўнай паэзіі песняра чытач можа і не заўважыць, што аўтар бадай нічога не кажа пра сутнасць свята: на ўрачыстасці адсутнічае галоўны яе віноўнік. Мімаволі прыходзіць на думку здарэнне, якое мела месца амаль дзве тысячы гадоў таму назад: «І нарадзіла Сына свайго першароднага, і палажыла Яго ў жолабе, бо не было ім месца ў заездзе» (Лк 2, 7).

Бо Каляды — гэта якраз успамін гэтага здарэння, і калі мы святкуем яго да сённяшняга дня, то толькі таму, што гэтым нованароджаным дзіцяткам быў не хто іншы, як сам спрадвечны Бог, Госпад наш Ісус Хрыстос.

Прыйсце ў свет Бога з'яўляецца пераломным пунктам у гісторыі чалавецтва. Прыняўшы на сябе людскую натуру, Ён асвяціў і ўзнёс яе да Боскай вышыні. Стаўшыся адным з нас, Ён даў нам магчымасць быць удзельнікамі вечнага Боскага жыцця. Святы Павал пасля пра гэта скажа: «Калі настала поўня часу, Бог паслаў Сына свайго… каб нам узяць усынаўленне… Дзеля гэтага ты ўжо не раб, а сын: а калі сын, то і наследнік Божы праз Хрыста» (Гал 4, 4–7).

Тварэц усяго прымае выгляд стварэння. Усемагутны прыходзіць у выглядзе нованароджанага дзіцяткі, якое ў сваёй бездапаможнасці выцягвае рукі свае да людзей, быццам клічучы іх да сябе і шукаючы іхняй спагады. Якая вялікая розніца між ім і тымі, у чыіх руках знаходзіцца адказнасць за супакой на зямлі і лёс усяго чалавецтва. Для іх супакой — гэта галоўным чынам палітыка «раўнавагі сілаў», сэнс якой заключаецца ў тым, што вялікія дзяржавы павінны быць настолькі моцнымі і мець такую магутную зброю, каб баяліся пачынаць варожыя дзеянні адна супроць другой. Сёння, дзякуючы дасягненням навукі, чалавек мае ў сваім распараджэнні жахлівую зброю ў форме ядзернай энергіі. Безумоўна, тая самая ядзерная энергія можа быць спатрэбленая і для мірных, карысных мэтаў. Чарнобыльская трагедыя, аднак, паказала нам, якая жахлівая знішчальная сіла крыецца ў ёй, калі чалавек страціць над ёю кантроль. Трагедыя гэтая была вынікам людской памылкі. А што, калі нехта захоча свядома ўжыць ядзерную энергію з мэтай знішчэння? Сапраўды, мы жывём быццам на краі вулкана, які можа выбухнуць у кожную хвіліну. Безумоўна, кожны мір лепшы за вайну. Але ці такога міру мы жадаем для сябе і нашых дзяцей?

У выніку вышэйсказанага Божая «палітыка слабасці» выглядае сёння больш чым калі прывабнай. Толькі яна нялёгкая, бо вымагае вялікай маральнай смеласці і сілы духу. На жаль, і, можа, менавіта таму, яна не мела яшчэ шанцаў быць поўнасцю выпрабаванай. Калі Хрыстос прыйшоў на свет, людзі сустрэлі яго з абыякавасцю — для Яго не знайшлося нават месца ў іхняй грамадзе, — а некаторыя нават з адкрытай варожасцю, шукаючы загубіць Яго, бачачы ў безабаронным дзіцяці небяспеку для свайго становішча.

А сёння? Ці ў нашым воку ўжо так лепш? У вялікай частцы свету, у тым ліку і ў Беларусі, Хрысту афіцыйна месца няма. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», які выйшаў нядаўна ў Мінску, дае такое паясненне да слова «Хрыстос»: «Назва міфічнай асобы Ісуса, культ якога ляжыць у аснове хрысціянскай рэлігіі» (ТСБМ. Т. 5, 2. С. 218). А ў іншых краінах свету? Нядаўна мне прыйшлося бачыць наступны жарт у адной з ангельскіх газетаў: двое стылягаў ідуць міма плаката з надпісам «Вярніце Хрыста Калядам». «Што за нахабства! — кажа адзін з іх з абурэннем. — Нават на Каляды яны не могуць абысціся без рэлігіі». Жарт, у якім адчуваецца сумная праўда. Для многіх сёння Каляды з'яўляюцца нагодаю правесці весела час. Месца для Хрыста ў іх няма. Вось мы зноў вярнуліся да Якуба Коласа і Куцці ў Парэччы…

Дык што ж нам застаецца сказаць? Пастараемся вярнуць Хрыста Калядам. Адчынім сэрцы нашыя Нованароджанаму Божаму Дзіцятку, што працягвае да нас рукі свае, хочучы мець нас з сабою, не жадаючы нічога нашага, але нас саміх. Маючы ў сэрцах нашых Хрыста, зблізімся адзін з адным і, аддаючы разам «Славу Богу на вышынях», будзем прасіць, каб запанавалі «мір на зямлі і добрая воля сярод людзей» (Лк 2, 13).

*1986*

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

> Калі Хрыстос не ўваскрос, дык і навука наша дарэмная, дарэмная і вера вашая.
>
> *1 Кар 15, 14*

Уваскрасенне Хрыстова, як можна бачыць з вышэйпрыведзеных слоў святога Паўла, займае асаблівае, адзінае месца ва ўсёй гісторыі нашага збаўлення. Яно з'яўляецца вуглавым каменем усёй нашай веры, без якога не было б сёння ні хрысціянства, ні Царквы Хрыстовай. Быць хрысціянінам — гэта, у першую чаргу — перш чым успрыняць усе іншыя праўды хрысціянскай навукі і правілы маралі, — верыць, што Хрыстос, які быў укрыжаваны на загад Понція Пілата, уваскрос з мёртвых на трэці дзень і жыве вечна ў славе.

Дык Уваскрасенне Хрыстова з'яўляецца неаспрэчным гістарычным фактам. Але гэтым ягонае значэнне не вычэрпваецца. Яно з'яўляецца завяршэннем справы нашага збаўлення, якую Хрыстос распачаў сваім нараджэннем, прыняўшы людскую прыроду і стаўшыся адным з нас. Уваскросшы, Ён узняў з сабою гэтую людскую прыроду, узвысіў яе, «абагавіў», даўшы ёй удзел у сваім Боскім бясконцым жыцці і Боскай славе. Магіла, у якой было пакладзена цела Хрыста, але якую жанчыны, што прыйшлі туды на трэці дзень раніцай, знайшлі пустою, набірае ў гэтым кантэксце асаблівага значэння. Бо целу, як і ўсім прадметам рэчыўнага свету, уласцівая няўстойлівасць, недаўгавечнасць: яно падлягае законам тленнасці і раскладу. Хрыстос уваскрасіў цела, а з ім увесь рэчыўны свет, надзяляючы яго ўласцівасцю нятленнасці, вечнасці. Такім чынам, уваскрасенне з'яўляецца сапраўдным новым актам тварэння.

«Усе, што ў Хрыста ахрысціліся, у Хрыста апрануліся» (Гал 3, 27). Ва ўваскрасенні Хрыстовым мы знаходзім адказы на пытанні, якія нас найбольш хвалююць: хто мы такія, якая наша апошняя мэта і цяперашнія заданні.

Чалавек не з'яўляецца толькі целам: ён не належыць выключна да рэчыўнага свету, як цвердзяць матэрыялісты. Іхняе разуменне чалавека вельмі супярэчлівае: з аднаго боку, чалавек, паводле іх, з'яўляецца вынікам сляпой эвалюцыі бяздумнага рэчыва; з другога — ён уладар рэчыўнага свету, які ён сваім розумам пазнае і падпарадкоўвае сабе. Выглядае нешта на падабенства пены, якая думае (калі б яна магла думаць), што магутная марская хваля, на версе якой яна з'явілася на хвілінку, каб неўзабаве знікнуць без следу, падпарадкоўваецца ёй.

З другога боку, мы не з'яўляемся істотай чыста духоўнай, што толькі да часу знаходзіцца ў палоне цела, чакаючы вызвалення. Цела з'яўляецца неад'емнай складовай часткай нашага «я», без яго чалавек не ёсць чалавекам. Хрыстос, уваскрасіўшы цела, даў нам спаўненне нашага найбольш запаветнага жадання — несмяротнасці. Мы ведаем сёння, што нашым удзелам ёсць вечнае жыццё, хоць, каб асягнуць яго, мы павінны перайсці, як і Хрыстос, цераз смерць. Дык не дзіва, што хрысціянскі погляд на чалавека жыццярадасны.

Са сказанага вышэй можна зрабіць вывады адносна хрысціянскага жыцця тут, на зямлі. Перадусім, аднак, скажам, чым яно не ёсць: хрысціянскае жыццё ў ніякім выпадку не з'яўляецца ўцёкамі ад гэтага свету. Не, хрысціянін жыве ў гэтым свеце. Настойлівай дзейнасцю, выкарыстоўваючы багацці і магчымасці

гэтага свету, ён стварае духоўныя вартасці, развіваючы дадзеныя яму Богам дары-таленты. Такім чынам ён уздзейнічае на гэты свет і стаецца саўдзельнікам Хрыста ў яго адухаўленні.

Дзейнасць гэтая, як і ўся дзейнасць Хрыста, павінна праходзіць у духу любові. Любові ўсёабдымнай, у якой ёсць месца для кожнай істоты, кожнага Божага стварэння. Прыпомнім святога Францішка Асізскага, які называў сваімі братамі не толькі ўсе жывыя істоты, але нават неажыўленыя прадметы, як сонца, месяц і зоркі. Бедачок з Асіза адчуваў сэрцам, што ўсё, што Існуе, створанае Богам і ў некаторай меры адлюстроўвае Ягоную веліч і славу, і таму — кожнае паводле свайго стану, — годнае пашаны і любові. У гэтым крыецца сур'ёзная навука для нас усіх. Мы маем права і павінны для нашай карысці і патрэбаў выкарыстоўваць рэчы гэтага свету згодна з іх назначэннем, але не злоўжываць імі. Гэта варта памятаць асабліва ў наш час, калі дзеля дасягнення часовай карысці мы часта назіраем працэс бяздумнага знішчэння асяроддзя ў такой ступені, што часам ставіцца пад сумненне магчымасць далейшага існавання жыцця на зямлі.

Безумоўна, нашая любоў перш за ўсё скіраваная да іншых людзей, нашых братоў і сёстраў. Асабліва да тых, якія церпяць пераслед, «вязняў сумлення», нявінных ахвяр дыскрымінацыі, тэрору, войнаў; да тых, што церпяць голад, нястачу і страты, выкліканыя прыроднымі няшчасцямі або самімі людзьмі; хворых, калекаў, сірот — усіх не пералічыш: у кожным з іх мы павінны бачыць вобраз цярпенняў Хрыста, які шукае ў нас спагады і дапамогі. Памятлівыя малітвы Хрыста на крыжы за тых, хто здзекаваўся з яго, нашая ўсёабдымная любоў павінна быць пашыранай і на нашых крыўдзіцеляў і прыгнятальнікаў.

У духу любові трэба глянуць на нас саміх і спытацца: ці нашым жыццём мы дастойныя звацца хрысціянамі? Мы ж пакліканы быць сведкамі вялікай і радаснай праўды Уваскрасення Хрыстовага, каб тыя, якім не было дадзена ласкі ведаць гэтую праўду, гледзячы на нас, загарэліся жаданнем яе пазнання.

Глянем таксама на нашыя адносіны да тых, з якімі нас лучыць супольнае імя хрысціянаў, хоць, на жаль, між намі існуюць і паважныя разбежнасці. Ці мы балюча адчуваем падзел між намі, быццам раны на целе Хрыста; ці мы шукаем спосабаў залячыць гэтыя раны, ці, наадварот пасыпаем іх соллю? Памятайма крык збалелай душы вялікага хрысціяніна, святога Паўла: «Ці раздзяліўся Хрыстос?» (1 Кар 1, 13).

Вось некалькі думак з нагоды вялікага і светлага дня Уваскрасення Хрыстовага. Сёння, больш як калі-небудзь, нам неабходна

старацца зразумець сэнс гэтага здарэння ў гісторыі людскога роду. Хрысціянства ад самага свайго пачатку мела нямала непрыхільнікаў і ворагаў, якія рабілі спробы яму пашкодзіць, нават знішчыць яго. Ніводная з гэтых спробаў, аднак, не можа раўняцца з тым, што мы перажываем у наш час. Вось ужо некалькі дзясяткаў гадоў на вялікай частцы зямлі, у тым ліку і ў нашай Бацькаўшчыне Беларусі, пануе магутная палітычная сістэма, у аснову якой пакладзена адмаўленне існавання Бога. Для яе Уваскросшы Хрыстос — найвялікшы вораг, памяць аб якім неабходна дашчэнту выкараніць з людской свядомасці. Наш час — гэта час выпрабавання і змагання за душы людскія. Дык пастараймася ўзброіцца духова цераз асэнсаванне нашага паклікання ў святле Хрыстовага Уваскрасення, каб магчы смела і недвухзначна адказаць на ўсякія атакі пераможным клічам: «Сапраўды ўваскрос!»

*1987*

## ПРЫЙДЗІ, ХРЫСЦЕ!

Беларускі святар Кастусь Стэповіч, лепш вядомы як паэт Казімір Сваяк (1890–1926), жыва цікавіўся вераваннямі старажытных беларусаў і іх перажыткамі ў народнай свядомасці. У вершы з характэрнай назвай «Веру нярозуму проці» ў 1923 г. ён малюе прывабны вобраз гэтых вераванняў як суцэльнай сістэмы, але ў канцы пытаецца:

А Хрыстус дзе? — пытаеш ты з усмешкай, —
Бо не відацца, дзе ягона месца тут.

І адразу дае адказ :

Не будзе, — не! — Сын Божы нам замешкай,
Бо толькі Ён вядзе у абсалют.
Бо толькі Ён і праўда, і дарога,
Жыцця бяду і смерць Ён зваяваў;
І толькі Ён пазнаў самога Бога
І свету від Ягоны паказаў.

Аўтар разумеў добра выключны характар хрысціянства. Калі іншыя рэлігіі сведчаць аб існаванні Бога, у хрысціянстве мы сутыкаемся з Богам, так сказаць, тварам у твар, у асобе Ісу-

са Хрыста, які аб’явіўся ў целе, стаўшыся чалавекам. Ягонае прыйсце было пераломным пунктам у гісторыі людскога роду. Для многіх Хрыстос не ўкладаўся ў рамкі іхніх паняццяў аб Богу, і яны, адкінуўшы Яго, у сваім засляпленні перасьледавалі аж да крыжовай смерці.

Тым, хто прыняў Хрыста і пайшоў услед за ім, прыйшлося пераасэнсаваць многія паняцці аб Богу, свае адносіны да Яго, а таксама да іншых людзей.

Калі Бог стаецца чалавекам, дык непазбежна напрошваецца вывад, што кожны чалавек з’яўляецца істотай вялікай годнасці, дастойнай усякай любові і пашаны. Нашы адносіны да іншых становяцца пробным каменем адносін да Бога: «Хто кажа: “люблю Бога”, а ненавідзіць брата свайго, той хлус» (1 Ян 4, 20). Хрыстос атаясамлівае сябе з чалавекам: «Я быў галодны — і вы мяне накармілі; цярпеў смагу — і вы далі мне піць; быў у дарозе — і вы прынялі мяне; голы — і вы адзелі мяне; хворы — і вы наведалі мяне, у вязніцы — і вы прыйшлі па мяне» (Мц 25, 35–36). Тут гутарка ідзе не пра нейкае абстрактнае паняцце чалавека, але пра канкрэтную асобу з ягонымі радасцямі і клопатамі, з характэрнымі рысамі асабістымі і грамадскімі, г. зн. такімі, якія вызначаюць яго прыналежнасць да пэўнай канкрэтнай грамадскай групы — сям’і, народа, расы, — бо ж ніхто з нас не жыве адзін.

Год, які набліжаецца, да канца быў для нас, беларусаў, годам вялікага народнага болю, годам Курапатаў. Як ніколі раней, выявілася ўся жудасць бяздушнага і нялюдскага ладу, які ў нашай краіне будуе «шчаслівую будучыню» на касцях тысячаў нявінных ахвяраў. Сённяшнія ўлады асудзілі злачынствы сваіх папярэднікаў, але паколькі ўважаюць сябе прадаўжальнікамі той самай ідэі, у імя якой злачынствы былі зробленыя, дык, магчыма, тут да месца прывесці словы Хрыста, сказаныя начальнікам народа, сярод якога ён жыў: «Гора вам, кніжнікі і фарысеі, крывадушнікі, што будуеце грабніцы прарокам і ўпрыгожваеце магілы праведнікаў, і кажаце: “Калі б мы жылі ў дні айцоў нашых, мы б не былі ўдзельнікамі ў забойстве прарокаў”. Гэтым самым вы прызнаяцеся, што з’яўляецеся патомкамі тых, што забівалі прарокаў» (Мц 23, 29–31).

Побач са знішчэннем фізічным народа гэты год прынёс таксама далейшыя доказы спусташэння духоўнага — спробаў адабраць у нас мову, гісторыю, культуру, права «людзьмі звацца», каб у канцы, паводле словаў Якуба Коласа,

Знішчыць усе нашы сляды,
Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

Але, відаць, Бог не захацеў, каб наш голас на Ягоную славу замоўк. Якая ж будучыня чакае беларусаў? У выніку падзеяў апошняга часу многія, асабліва маладыя, зняверыліся ў сістэме і адкінулі ейныя прынцыпы і ідэалы, у якіх яны былі ўзгадавання. Што запоўніць пустэчу, якая вытварылася ў іхніх душах? Памятаем словы Хрыста: «Калі нячысты дух выйдзе з чалавека, то ходзіць па бязлюдных месцах, шукаючы супакою, і, не знаходзячы, кажа: вярнуся ў мой дом, адкуль выйшаў. І прыйшоўшы, знаходзіць яго вымеценым і прыбраным. Тады ідзе і бярэ з сабою сем другіх духаў, больш злых за яго і, увайшоўшы, жывуць там: і бывае для таго чалавека апошняе горш за першае» (Лк 11, 24–26).

У гэтым годзе мы адзначалі тысячу гадоў хрысціянства ў нашай краіне. Мы мелі нагоду глыбей асэнсаваць значэнне хрысціянства ў жыцці адзінкі і народа і падзякаваць Богу за дар веры, якую мы захавалі праз усе цяжкасці і нягоды. А цяжкасці былі вялікія. Як часта замест пастыраў у нас былі найміты, «нябёс купцы», паводле выражэння Казіміра Сваяка, якія жадалі за дар Божы заплаты, вымагалі ад нас вырачыся свайго. Нягледзячы на гэта мы кажам разам са святым Пятром: «Куды ж нам ісці, Госпадзе? Ты маеш словы жыцця вечнага» (Ян 6, 68).

Сёння, стоячы на парозе другога тысячагоддзя і збіраючыся святкаваць прыйсце на свет Сына Божага, і назіраючы ў нашай краіне змены, вынікі якіх сёння не можам прадбачыць, клічам разам з Казімірам Сваяком:

Прыйдзі, Хрысце, нам веру дай,
Моц Божую:
Няхай пачуе родны край
Душу сваю.

*1988*

# СВЕТ, У ЯКІМ ЖЫВЁМ

Зусім нядаўна я з жахам даведаўся, што мой халадзільнік не з’яўляецца такой нявіннай і няшкоднай прыладай. Вучоныя даказалі, што хімічныя рэчывы, якія ўжываюцца для ахаладжвання, з’яўляюцца адной з прычынаў «дзірак» у азонным слаі, які акружае зямлю і ахоўвае яе ад шкодных сонечных промняў, прапускаючы толькі промні карысныя і патрэбныя да жыцця.

Справа з халадзільнікам, магчыма, з прычыны саваёй, на першы погляд, нязначнасці, дала мне адчуць, што свет, у якім жывём, — адзін і што мы залежныя адзін ад другога і ад навакольнага асяроддзя. Усведамленне гэтага змушае мяне адносіцца з асцярожнасцю да г. зв. навукова-тэхнічнага прагрэсу. Розум людскі — цудоўны дар Божы, дзякуючы якому пазнаём навакольны свет. Аднак у практычным прымяненні здабытых ведаў існуе небяспека, што з прычыны нашай абмежаванасці мы, пры найлепшай волі, не заўсёды можам прадбачыць усе вынікі нашай дзейнасці, асабліва на далейшую мэту. Сапраўдная трагедыя паўстае, калі мы паступаем безадказна, бяздумна або думаючы толькі пра асабістую карысць. У многіх выпадках вынікі такой дзейнасці непапраўныя. Яны жывуць у наступных пакаленнях. Для беларусаў, якія павінны жыць з наступствамі чарнобыльскай трагедыі, гэтага не трэба тлумачыць.

Сказанае вышэй не новае: мы ўсе адчуваем на сабе глыбока ўкаранёны ў нашай людской прыродзе вынік учынку нашых першых прабацькоў, які мы завём першародным (або «радзімым») грахом.

Не ўглыбляючыся ў дакладны характар першароднага граху, можна сказаць, што гэта было сцвярджэнне самавыстарчальнасці чалавека ў адносінах да Тварца, жаданне «быць як Бог, ведаць дабро і зло» (Быц 3, 5). У сутнасці гэта было запярэчанне патрэбы Бога, а адтуль толькі адзін крок да запярэчання самога Яго існавання. У выніку, як добра сказаў нядаўна адзін беларус, «у бязбожнага чалавека складваецца ўсведамленне канечнасці свайго быцця. Гэта вельмі небяспечнае ўсведамленне, бо яно дэмаралізуе асобу, нараджае пачуццё безадказнасці за свае ўчынкі».

Бог, стварыўшы свет, «убачыў, што ўсё вельмі добра» (Быц 1, 31). Ён бачыў усё тварэнне як адну цэласць, у якой кожная частка мае сваё месца і назначэнне. Чалавек займаў асобае месца ў агульным плане, бо Бог стварыў яго «на свой вобраз і падабенства» (Быц 1, 27) і даў яму ўладу «над рыбамі марскімі і птушкамі нябеснымі, над зямлёй і над усякай істотай, што жыве на ёй» (там жа).

Адным з вынікаў першага граху была страта пачуцця еднасці тварэння. Свет быццам разбіўся на маленькія «светы», кожны са сваімі асабістымі, карыслівымі інтарэсамі. Гэта знайшло адбітак у нашых дачыненнях да навакольнага свету, да ўсяго стварэння, якое, паводле слоў святога Паўла, «стогне і ўздыхае да сённяшняга дня» (Рым 8, 22).

Чалавек не быў у сілах паправіць гэты сумны стан рэчаў, але Бог не пакінуў яго. Ён сам стаўся чалавекам, прыняўшы людскую прыроду і, злучыўшы яе з боскаю ў асобе Госпада Нашага Ісуса Хрыста, узняў яе да вечнага жыцця ў дзень Уваскрасення. Ён адмяніў вынікі першага граху, даючы нам магчымасць вярнуцца да першаснага стану і ўдзелу ў Боскім жыцці. Гэта была перамога над грахом і смерцю, але яна была купленая дарагой цаною, менавіта смерцю на Крыжы.

Такая логіка Божых дачыненняў да чалавека. Яна вынікае са слоў Хрыста: «Сын Чалавечы не прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё як выкуп за многіх» (Мк 10, 45). Ці часам не хацеў Ён гэтым сказаць нешта важнае для нас, асабліва для «моцных гэтага свету»? Сярод радасці Велікодных святкаванняў, магчыма, не шкодзіла б нам знайсці час, каб глыбей задумацца над значэннем маленькага слова «служыць».

*1989*

## ВЯРТАННЕ

Уночы 10 сакавіка цягнік «Гук ван Голанд–Масква» пераехаў раку Буг. Ля акна вагона стаяў пасажыр, які пільна ўглядаўся ў вонкавую цемру. Што ён адчуваў у такую хвіліну? Цяжка сказаць. Толькі вусны ягоныя ціха шапталі словы «Пагоні» Багдановіча: «Маці родная, маці-краіна, не усцішыцца гэтакі боль. Ты прабач, ты прымі свайго сына, за цябе яму ўмерці дазволь». Тым пасажырам быў аўтар гэтых радкоў, які першы раз ехаў на Бацькаўшчыну пасля больш як сарака гадоў…

Прыезд на Бацькаўшчыну пасля так доўгага часу быў спаўненнем маёй запаветнай мары, і я ехаў туды з вялікім душэўным хваляваннем. Аднак галоўная мэта маёй паездкі была не асабістая. Яе можна назваць адным словам: Чарнобыль. Апошнім часам на захад пачалі прасочвацца трывожныя весткі аб выніках чарнобыльскай аварыі ў Беларусі. Памер няшчасця, якое спаткала беларускі народ, ашаламіў многіх з нас і нашых прыяцеляў,

асабліва калі ўзяць пад увагу, што праз тры гады пасля аварыі не было аб ёй амаль ніякіх вестак і таму стварылася ўражанне, што яна не пакінула якіх-кольвек значных шкодных вынікаў. Пачаліся спробы прыйсці з дапамогай. Адной з такіх спробаў з’яўляецца Камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі, які паўстаў у мінулым годзе ў Англіі. Ад імя гэтага Камітэта я і прыехаў, каб пазнаёміцца на месцы са становішчам і патрэбамі.

Тое, што я змог пабачыць за кароткі час, напоўніла маё сэрца сумам. Я бачыў маленькіх дзетак — некаторым з іх было толькі некалькі месяцаў, — якія церпяць лейкознымі захворваннямі, і іхніх бедных матак; гаварыў з лекарамі і іншымі асобамі, якія самаахвярна працуюць, каб аблегчыць лёс маленькіх ахвяраў, але не могуць часта шмат зрабіць з прычыны недахопу самых неабходных лекарскіх сродкаў. Гэтая несуразмернасць між веліччу заданняў і недахопам патрэбных сродкаў уразіла мяне асабліва і ўзмацніла перакананне аб неабходнасці разгарнуць як найшырэй дапамогавую дзейнасць, якая б абхапіла не толькі беларусаў за межамі Бацькаўшчыны, але і нашых ангельскіх, амерыканскіх, французскіх і іншых прыяцеляў. Каб наша дзейнасць прынесла найбольшую карысць, нам патрэбная інфармацыя аб канкрэтных патрэбах (лекі, лякарскія прылады і г. д.), а таксама аб стане і выніках радыяцыі на Беларусі, каб нам магчы інфармаваць аб гэтым заходні свет. Спадзяемся на падтрымку і супрацоўніцтва з боку такіх арганізацыяў, як Камітэт «Дзеці Чарнобыля» (які мне шмат дапамог падчас майго знаходжання на Беларусі), Беларускі Чырвоны Крыж, а таксама з боку асобных лекарскіх установаў (бальніцы, санаторыі) і асобаў. Зразумела, нельга чакаць ад нас вялікіх рэчаў: пры найлепшых жаданнях наша дапамога будзе толькі маленькай кропляй у моры патрэбаў. Але ж і кропля можа быць карысная, калі яна прынясе аздараўленне ці, прынамсі, аблягчэнне цярпенняў хоць адной з маленькіх ахвяраў гэтай вялікай трагедыі.

Справа Чарнобыля, хоць найважнейшая, не займала ўсяго майго часу… Калі я пакідаў Беларусь у 1944 г., я не спадзяваўся, што вярнуся святаром і што адной з маіх першых справаў будзе прынясенне эўхарыстычнай ахвяры на беларускай мове за беларускі народ. Карыстаю з нагоды, каб зложыць падзяку дастойнаму біскупу Тадэвушу Кандрусевічу, апостальскаму адміністратару Мінскаму, за дазвол адслужыць багаслужбу ў касцёле на Кальварыі. Я не мог выехаць з Беларусі, не памаліўшыся па Курапатах — гэтай Кальварыі беларускага народа. Першыя хрысціяне казалі: «Кроў мучанікаў — семя хрысція-

наў». Дасць Бог, нявінная кроў ахвяраў у Курапатах, як некалі кроў хрысціянскіх мучанікаў, не прападзе дарма, а станецца для беларускага народа зернем лепшай будучыні, дзе не будзе месца для падобных жахлівых злачынстваў.

Гаворачы пра рэлігію, я бачыў вялікі голад духоўнага, асабліва сярод моладзі. Сумна, што гэты голад застаецца ў вялікай меры незаспакоены. Балюча адчуваецца патрэба сваіх святароў, якія б пасвяціліся самаахвярна справе пашырэння Валадарства Божага сярод беларускага народа.

У Мінску я меў прыемнасць сустрэцца са старымі знаёмымі, якія бывалі ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане. Бібліятэка паўстала ў 1971 г., дзякуючы і стараннем св. памяці біскупа Часлава Сіповіча (1914–1981), якому прыйшлося пакінуць Беларусь у 1938 г., але які жыў ёю кожную хвіліну свайго жыцця. За дваццаць гадоў існавання бібліятэка сабрала багатыя кніжныя і рукапісныя фонды — спосабам дараў, закупаў і кнігаабмену, — сярод іх многія рэдкія выданні, якія ўдалося ўратаваць ад знішчэння. Бібліятэка з’яўляецца незалежнай установай і ўтрымліваецца з добраахвотных ахвяраў, не атрымліваючы ніякай дапамогі з дзяржаўных ці іншых афіцыйных крыніцаў. Доступ да яе фондаў адкрыты для ўсіх, хто цікавіцца беларускімі пытаннямі…

Так здарылася, што мой прыезд у Мінск выпаў падчас выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет БССР. Сталася гэта выпадкова, я спадзяваўся, што склад новага беларускага парламента будзе вырашаны ў першым туры выбараў 4 сакавіка. Тым не менш было цікава назіраць першыя крокі дэмакратыі і плюралізму палітычнай думкі на Беларусі. Сапраўдная дэмакратыя вымагае пашаны да палітычнага праціўніка і адмаўлення ад спосабаў ачарніць ягоны характар або паставіць пад сумнеў ягоныя маральныя якасці. На жаль, не абышлося без прыкрых выпадкаў. Была спроба выкарыстаць і мой прыезд, як, напрыклад, у артыкуле «Запявалы закуліснага хору» ў газеце «Вячэрні Мінск» ад 16 сакавіка. Звычайна на такія артыкулы лепш не звяртаць увагі. Паколькі, аднак, аўтару хадзіла ў першую чаргу пашкодзіць не мне, але добраму імю іншых асобаў, якіх я паважаю, прыходзіцца з прыкрасцю даць кароткі адказ.

Весткі аб маёй асобе знайсці няцяжка, але варта было б ужо пісаць усё. Я належу да пакалення тых, што раслі ў гады вялікага ваеннага закалоту, сярод падзей, значэння якіх мы часта не маглі зразумець. Думаю, што ўжо пара напісаць гісторыю гэтага пакалення, а таксама тых людзей, якія не далі нам загі-

нуць духоўна, стараючыся ўзгадаваць і захаваць у нас пачуццё людской і нацыянальнай годнасці. Для мяне такімі людзьмі былі выкладчыкі беларускай настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы, дзе я вучыўся ад восені 1942 да канца траўня 1944 г. і якая мне дала не толькі грунтоўныя веды, але зрабіла перакананым беларусам на ўсё жыццё. Трэба спадзявацца, што Саюз беларускай моладзі, да якога я належаў з многімі маімі аднагодкамі, таксама дачакаецца свайго аб'ектыўнага гісторыка. Калі гаворка ідзе пра школу камандзіраў Беларускай Краёвай Абароны, дык яна ў сапраўднасці нават і не пачалася (гл. дакументальную аповесць К. Акулы «Змагарныя дарогі». Таронта, 1962), таму гаварыць пра «маладога эсэсаўскага лейтэнанта» даволі несумленна, асабліва калі гэтаму «лейтэнанту» не было яшчэ тады 18 гадоў… Між іншым, я не быў знаёмы з Францішкам Кушалем і ніколі не бачыў яго. Гэта не значыць, што я пагаджаюся з ацэнкай, дадзенай яму аўтарам артыкула. Спробы зрабіць нас сілком нямецкімі жаўнерамі не мелі вялікага поспеху: ужо на трэці дзень пасля прыезду ў Францыю большасць з нас апынулася ў французскім лесе. Пасля прыйшлося некаторым з нас ваяваць на фронце ў Італіі разам з альянтамі (у арміі ген. Андэрса), дзе, між іншым, я быў паранены. Там таксама многія з нас змянілі (афіцыйна) прозвішчы на выпадак, калі б нам прыйшлося папасціся ў нямецкі палон або каб не пашкодзіць сваякам, якія засталіся пад нямецкай уладай. Пасля вайны я застаўся жыць у Англіі, дзе паступіў на матэматычнае аддзяленне Лонданскага ўніверсітэта, атрымаўшы стыпендыю, якая прыслугоўвала мне, як ветэрану вайны. Моцнае пачуццё нацыянальнай свядомасці не дазволіла паддацца спакусе аддацца навуковай і настаўніцкай дзейнасці ў чужым асяроддзі. Апрача гэтага я меў шчасце сустрэцца з незвычайным чалавекам, айцом (пасля біскупам) Чаславам Сіповічам, вялікім святаром і палымяным беларускім патрыётам. Пад яго ўплывам у мяне нарадзілася жаданне пасвяціць жыццё на службу Богу сярод свайго народа. Восенню 1953 г. я быў прыняты ў Грэцкую калегію ў Рыме, дзе між іншым у XVI–XVIII стст. вучылася шмат беларусаў, будучых уніяцкіх святароў і біскупаў. Дарэчы, я ніколі не быў у «Русікуме» (хоць не бачу, што ў гэтым было б дрэннага: «Русікум» з'яўляецца звычайнай духоўнай семінарыяй, якіх многа ў Рыме). Не прыйшлося мне таксама вывучаць тых цікавых, пералічаных аўтарам артыкула дысцыплін: «скачкі з парашутам, валоданне нажом, любой зброяй (асабліва стральба на гук), бокс, барацьба і г. д.». Затое мусіў пацець над такімі прадметамі, як логіка, метафізіка,

псіхалогія, этыка, тэадыцэя на філасофскім факультэце; а пасля, на багаслоўскім, — маральнае, дагматычнае і пастырскае багаслоўе, гісторыя Царквы, Святое Пісанне Старога і Новага Запавету, габрэйская мова… Між іншым, навука ў Рыме дала мне магчымасць здабыць добрую класічную адукацыю, якой я не мог атрымаць на Бацькаўшчыне падчас вайны. Атрымаў святарскія свячанні 23 лістапада 1958 г. У 1959 г. вярнуўся ў Лондан, дзе жыву да сённяшняга дня. Для інфармацыі хачу дадаць, што я не ўзначальваю Аб'яднанне беларусаў у Вялікай Брытаніі.

Звычайна людзі, якім прыйшлося шмат перацярпець у жыцці, маюць вялікую здольнасць зразумець іншых і спагадаць ім. Для іх невыносна ўсё, што можа пасеяць сярод людзей варожасць і нянавісць. Найбольшым прыкладам для нас з'яўляецца Госпад Ісус Хрыстос. які маліўся за тых, што Яго распіналі. «Ойча, прабач ім, бо яны не ведаюць, што чыняць». Беларускаму народу прыйшлося шмат перацярпець на працягу сваёй гісторыі. І цяпер, у выніку чарнобыльскай аварыі, ён стаіць перад сваім найцяжэйшым выпрабаваннем, канчатковыя вынікі якога тым больш страшныя, бо няведамыя. У абліччы такога няшчасця нам трэба старацца залячыць старыя раны, а не раздражняць іх. Нам патрэбны дух узаемнага зразумення, прабачэння і пашаны.

Хочацца скончыць гэты кароткі ўспамін на добрай ноце. Я быў вельмі ўзрушаны сардэчнасцю і цеплынёю, з якой мяне ўсюды сустракалі і прымалі. Гэтую цеплыню, як найдаражэйшы скарб, я павёз з сабою ў маім сэрцы.

Божа, блаславі Беларусь!

*1990*

## ОЙЧА, ПРАБАЧ…

Хрыстос ўваскрос! Усюды радасць,
Усё глядзіць смялей, святлей;
Вялікі Мучанік, здаецца,
Абняў ўсіх ласкаю сваей.

*Янка Купала*

У гэтых словах паэта адчуваецца радасць вялікага свята, чаканне нечага новага, светлага. Адначасова Купала здае сабе справу з таго, якой цаной купленая гэтая радасць, і называе яе віноўніка Вялікім Мучанікам.

Вялікдзень — дзень Уваскрасення Хрыстовага, свята перамогі жыцця над смерцю.

Аднак Вялікдзень папярэдзіла Вялікая Пятніца, калі паміраў прыбіты да Крыжа Той, хто сказаў аб сабе: «Я — Дарога, і Праўда, і Жыццё». Ён быў прададзены адным са сваіх вучняў у рукі ворагаў, фальшыва абвінавачаны, засуджаны на смерць суддзёю, для якога дачасная выгода была важнейшай за праўду («Што ёсць праўда? — спытаў ён Хрыста), пакінены сваімі найбліжэйшымі вучнямі і прыяцелямі. Перад смерцю Яму прыйшлося цярпець здзек з боку жаўнераў («ахоўнікаў парадку») і знявагі з боку фанатычнага натоўпу, падбухторанага сваімі не менш фанатычнымі праваднікамі, — таго самага натоўпу, які толькі некалькі дзён раней вітаў Яго ля варот Ерусаліма з галінкамі пальмаў і воклікамі «Асанна». Кліч: «Божа, Божа мой, чаму Ты пакінуў мяне? (Мц 27, 46), які вырваўся з Ягоных вуснаў, не быў выкліканы толькі фізічным болем. Гэта быў крык душы, што зведала жах і горыч адзіноты і беспрасветнай цемры. Як далёкі гэты кліч ад светлага і поўнага дзіцячага даверу «Ойча наш, што ў небе… будзь воля Твая».

Падчас усяго гэтага Хрыстос не зрабіў ніводнай спробы абараніцца ад несправядлівых закідаў, даказаць сваю нявіннасць. З ягоных вуснаў не пачулася ніводнага слова праклёну ці скаргі ў бок тых, што яго праследавалі. Падчас суда ён маўчаў. І толькі, ужо вісячы на крыжы, з глыбіні сэрца Ягонага выплыла ціхая, лагодная малітва: «Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што чыняць» (Лк 23, 34). Малітва адпушчэння і прабачэння.

Такім чынам, Госпад Ісус Хрыстос, які прыйшоў, каб прымірыць людзей з Богам, выканаў сваё заданне да канца. Як Пасрэднік між Богам і людзьмі, вісячы на крыжы між небам і зямлёю, Ён дараваў нам прабачэнне і прымірэнне. Як Вялікі

Святар, — а сутнасць святарскага паклікання ёсць прыносіць ахвяру Богу за сябе і за людзей, — Ён прынёс сябе як бязвінную ахвяру за нашы грахі.

Але смерць і магіла аказаліся бяссільнымі ўтрымаць Начальніка жыцця. Памёршы як чалавек, на трэці дзень Ён уваскрос у славе як Бог, узняўшы з сабою людскую прыроду, якую Ён дабравольна ўспрыняў. Ён вярнуў чалавека да першаснага стану, аднавіўшы ў ім апаганены грахом вобраз Божы і даўшы магчымасць нам усім «дзецьмі Божымі звацца», гэта значыць быць удзельнікамі вечнага Божага жыцця. Такім чынам, Уваскрасенне можна назваць новым актам тварэння.

Усе мы, у адрозненне ад Хрыста, які быў бязвінным, маем патрэбу ў Божым прабачэнні. Гэта зразумеў адзін з укрыжаваных з Хрыстом разбойнікаў, які ў апошнюю хвіліну здаўся на Божую міласэрнасць, просячы прабачэння: «Успомні мяне, Госпадзе, калі прыйдзеш у валадарства Тваё» (Лк 23, 42). Але прасіць прабачэння недастаткова: калі хочам быць дзецьмі Божымі, мы павінны навучыцца прабачаць: «Любіце ворагаў вашых, блаславяйце тых, што праклінаюць вас, рабіце дабро тым, што ненавідзяць вас, каб вам быць сынамі Айца вашага Нябеснага» (Мц 5, 44–45). Гэтыя словы Хрыста могуць выдацца нам цяжкімі, але ж Ён не вымагае ад нас нічога, чаго сам не перажыў.

Здольнасць і гатовасць, з аднаго боку, прызнаць сваю віну і прасіць прабачэння, а з другога — прабачаць іншым — вось першыя ўмовы аздараўлення нашага жыцця дачаснага і вечнага. Яны таксама з'яўляюцца асноваю справядлівага грамадскага ладу, даючы магчымасць загаіць тыя раны, віноўнікамі якіх часта з'яўляемся самі.

Бог зрабіў першы крок, даруючы праз Госпада Ісуса Хрыста прабачэнне ўсім, хто жадае. Цяпер чарга за намі: ці мы адкінем гэты Божы дар, ці, можа, разам з усёй Царквой Хрыстовай — гэтай супольнасцю дзяцей Божых, — радасна запяём:

«Уваскрасення дзень! Дык прасветлімся ўрачыстасцю і адзін другога абдымем. Скажам "браты" і тым, што ненавідзяць нас, прабачыўшы ўсё дзеля ўваскрасення і ўсклікнем вось так: Хрыстос уваскрос з мёртвых, смерцю смерць зваяваў, і тым, што ў магілах, жыццё дараваў».

*1990*

## ПАКРЫТЫ ЗЗЯННЕМ, БЫЦЦАМ ВОПРАТКАЮ
### *Казанне на свята Перамянення Хрыстовага*

Маю клопаты з гадзіннікам: ён не паказвае сапраўднага часу. Вось, напрыклад, сядзіш на нейкай канферэнцыі ды слухаеш нудны даклад на тэму, якая цябе не цікавіць. Час цягнецца марудна, і ты не можаш дачакацца канца. Зірнеш на гадзіннік — і не верыш вачам: ад пачатку мінула толькі дзесяць хвілінаў… Затое як хутка ляціць час у прыемным таварыстве!

Не ведаю, які гадзіннік меў святы Пётра і ці меў ён яго наогул. Ведаю толькі, што і ў яго былі непаладкі з часам. Да прыкладу, тое здарэнне на гары Табор, куды Хрыстос узяў яго разам з двума іншымі апосталамі, Якубам і Янам. Уражаны тым, што там убачыў, Пётра ўсклікнуў: «Добра нам тут!..» Не паспеў ён гэта сказаць, як усё знікла і настаў час вяртацца назад, да штодзённага жыцця і клопату.

Што ж такое адбылося на гары Табор, што так уразіла Пётру? Евангелле кажа каротка: «Праз шэсць дзён Ісус узяў з сабою Пётру, Якуба і ягонага брата Яна і завёў іх на высокую гару. Там Ён перамяніўся перад імі. Твар Ягоны заззяў, быццам сонца, а вопратка стала белая, як святло. І вось з'явіліся Майсей і Ілья і размаўлялі з Ім… Светлая хмара агарнула іх, а з хмары пачуўся голас: Гэта Сын Мой любы, Якога Я ўпадабаў. Яго слухайце!» (Мц 17, 1–3, 5).

Перамяненне займае асаблівае месца ў зямным жыцці Хрыста. Яно мае шмат супольнага з Ягоным хрышчэннем. У абодвух выпадках Ён паказаў сябе тым, кім Ён ёсць — спрадвечным Богам, і Ягоная Боскасць была пацверджаная голасам згары: «Гэта Сын Мой любы».

Хрышчэнне Хрыста адбылося на пачатку Ягонага служэння. І вось мінула амаль тры гады ад часу, калі Ён пачаў навучаць і казаць пра набліжэнне валадарства Божага, пацвярджаючы словы свае цудамі ды аздараўленнямі, і рыхтаваць маленькую грамаду абраных вучняў да далейшае працы — несці Ягонае вучэнне ўсім народам. Наперадзе чакала Яго самае вялікае выпрабаванне: арышт у Іерусаліме, несправядлівае абвінавачанне, здзек і мукі, крыжовая смерць і ўваскрашэнне на трэці дзень. Гэтыя дні будуць таксама выпрабаваннем для Ягоных вучняў — выпрабаваннем іхняй любові да Хрыста і вернасці Яму.

І вось Хрыстос, перад тым, як гэта здарылася, захацеў паказацца некаторым з вучняў у славе свае Боскасці. Падчас хросту Ян Хрысціцель сведчыў аб Ім, што Ён — чаканы Збаўца

і Адкупіцель свету. У падобны спосаб у час перамянення прысутныя Ілья ды Майсей сведчылі, што Хрыстос — спаўненне старазапаветных прароцтваў і Закону. Больш за тое, Ілья, як вядома, быў узяты жывым у неба, Майсей быў прадстаўніком старазапаветных праведнікаў, якія ў апраметнай чакалі прыйсця Хрыста, а апосталы сведчылі зямное чалавецтва. Такім чынам, у перамяненні Хрыстос явіў сябе Уладаром і Госпадам усяго стварэння.

Пра само Боскае ззянне, у якім абʼявіўся Хрыстос апосталам, Евангелле гаворыць вельмі мала. Відаць, апісаць яго нашымі словамі немагчыма. На ютрані ў свята Перамянення Царква спявае: «Некалі твар Майсея заззяў славаю, пасля таго, як ён размаўляў у хмары з Богам. А Хрыстос пакрывае сябе ззяннем, быццам вопраткаю. Творца святла, Ён прасвятляе тых, што пяюць: усе творы Гасподнія, блаславіце Госпада!»

У перамяненні Хрыстос адкрыў вучням вышэйшую рэальнасць, вечную і непрамінальную, што пераўзыходзіць бачную рэальнасць гэтага свету. Гэтым самым Ён умацаваў іхнюю веру, каб ім не ўсумніцца і не пахіснуцца ў сваёй любові ў часе будучых выпрабаванняў. Пра гэта ясна гаворыцца ў гімне (кандаку) на свята: «Перамяніўся Ты на гары, Хрысце Божа, і вучні Твае ўбачылі славу Тваю, наколькі ім магчыма было, каб пасля, бачыўшы Цябе ўкрыжаванага, маглі зразумець Твае дабравольныя цярпенні ды абʼявіць свету, што Ты сапраўды ззянне Айца».

Перамяненне Хрыстовае мае для нас яшчэ іншае, асаблівае, значэнне. У перамяненні Госпад паказаў красу чалавечае прыроды, злучанай з Боствам. Успрыняўшы нашую прыроду, Ён абагавіў яе, паклікаўшы нас усіх да ўдзелу ў Боскім жыцці, быць дзецьмі Божымі. Такім чынам, перамяненне Хрыстовае ёсць і нашым перамяненнем, бо і нашая прырода будзе прасветленая ззяннем Боства пасля Ягонага другога прыйсця. Але для гэтага і нам трэба ўзысці на «святую гару» і пераадолець шмат цяжкасцяў. І ў гэтыя цяжкія хвіліны нам, як некалі апосталам, прыйдзе на дапамогу непахісная вера, упэўненасць у той рэальнасці, да якой кліча нас Госпад.

Свята Перамянення вельмі дарагое для нас, беларусаў. У гэты дзень, 6 жніўня 1517 г., Францішак Скарына выдаў сваю першую кнігу, Псалтыр, даносячы такім чынам да нашага народа Слова Божае на зразумелай роднай мове.

Ужо ў нашыя дні, 6 жніўня 1990 г., у Мінску адбылося свята уніі. У сапраўднасці гэта было свята адраджэння Беларускае

грэка-каталіцкае царквы пасля доўгага перыяду праследаў і вынішчэння.

Лёс нашае ўніяцкае Царквы непарыўна звязаны з лёсам беларускага народа. Яна несла духоўную падтрымку большай частцы беларусаў у цяжкія часы выпрабаванняў і была знішчаная тымі самымі сіламі, якія адмаўлялі беларусам у праве на існаванне. Дык зусім справядліва, што разам з Беларуссю адраджаецца і Беларуская грэка-каталіцкая царква, каб зрабіць свой унёсак у духоўнае жыццё свайго народа.

Скончым святочным гімнам: «Прыйдзеце, узыдзем на гару Господнюю, у дом Бога нашага, і ўбачым славу перамянення Яго, славу Адзінароднага ад Айца. Прымем святло ад Святла і з узнёслым духам будзем славіць Тройцу адзінасутную на вечныя вякі».

P. S. Ну добра, але пры чым тут гадзіннік? Перамяненне адкрыла нам крыху неба з ягонай невыказнай красою, дзе вечнасць здаецца адной хвілінай. Тым часам у іншым месцы (куды не дай Бог нам патрапіць) кожная хвіліна ператвараецца ў нясцерпную вечнасць…

*1995*

## «БЫЦЬ ЯК БОГ»

*Разважанне на свята Уваскрасення Гасподняга*

Нядаўна спыталіся ў жонкі аднаго ангельскага палітычнага журналіста, вядомага сваёй агрэсіўнасцю і нецярпімасцю да тых, хто не падзяляе ягоных поглядаў, пра рэлігійныя перакананні мужа. «Ён вельмі пабожны, — быў хуткі адказ. — Ён думае, што ён бог».

Адказ быў задуманы, напэўна, як жарт, але ў ім ёсць вялікая доля праўды. Быць як бог (Быц 3, 5) было першаю спакусай чалавека, і яна прывяла яго да ўпадку, калі ён ёй паддаўся. Між іншым, адным з першых вынікаў упадку стала братазабойства.

Ніхто не можа быць богам, апрача самога Бога. Як поўня быцця, Ён не мае патрэбы ні ў чым і не чакае нічога ад сваіх твораў, у якіх праяўляецца, словамі Францішка Скарыны, Ягоная «бязмежная мудрасць і невыказная дабрыня», хіба толькі, «будучы сам Любоўю, Ты хацеў адчуць любоў ад іншых істотаў». А любоў не знае прымусу.

Разумны чалавек ведае свае абмежаванні і стараецца выкарыстаць як найлепш дадзеныя яму Богам магчымасці, беручы пад увагу правы і патрэбы іншых. Аднак спакуса перавысіць гэтыя магчымасці, «быць як бог», заўсёды застаецца. Быць як бог — азначае паставіць сябе ў цэнтры ўвагі. Гэта можа праяўляцца ў розны спосаб: зануда, які змушае іншых слухаць ягоныя бясконцыя расказы пра сябе; інтэлектуальны або сацыяльны сноб, які глядзіць з пагардаю на іншых; сямейны тыран, які трымае ў страху ўсіх сваіх хатніх, — вось толькі некалькі прыкладаў, што сустракаюцца на кожным кроку. Найбольш небяспечныя намаганні тых, хто шукае здавальнення асабістых амбіцыяў у грамадскім і палітычным жыцці, хто імкнецца навязаць іншым свой «новы» парадак і лад. Часта гэты новы лад — толькі карыкатура справядлівага ладу, дзе любоў і дабрыня падмяняюцца прымусам і страхам, а розум — абсалютнай воляю аднаго. Там няма месца для людской годнасці і свабоды думкі. Прымяненне фізічнай сілы стаецца неад’емнай часткай сістэмы, і то не толькі ў адносінах да адкрытых апанентаў, але да адзінак і цэлых групаў людзей: расавых, этнічных, рэлігійных, — якія не ўпісваюцца ў рамкі сістэмы. Нарэшце, такі рэжым хацеў бы мець уладу над думкамі людскімі, але гэта, на шчасце, яму не зусім удаецца. Прыгадаем адказ, які дае князю гусляр у Купалавай паэме «Курган»:

> Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць —
> Не скуеш толькі дум ланцугамі.

Часта ёсць спакуса знішчыць тое, што не паддаецца кантролю.

У Кнізе Мудрасці Старога Запавету апісваюцца адносіны тых, каго аўтар называе «бязбожнымі», да праведніка, які не падзяляе іхняга спосабу думання і жыцця: «Зробім засаду на праведніка, бо ён для нас невыгодны, працівіцца нашым учынкам і дакарае за парушэнне закону (Божага)… Ён — дакор нашым намерам, сам выгляд ягоны для нас прыкры. Жыццё ягонае не такое, як іншых, і шляхі адменныя» (Мдр 2, 12–15).

Гэтыя словы звычайна адносяцца да Ісуса Хрыста. Ягоная асоба і паводзіны не сумяшчаліся з уяўленнем аб Месіі, якое мелі тыя, што ўважалі сябе кіраўнікамі народа — святары, фарысеі, вучоныя кніжнікі. Яны чакалі магутнага правадыра-вызваліцеля, а Ён навучаў: «Любіце ворагаў сваіх і блаславяйце тых, што пераследуюць вас». Чакалі караля, але не такога, які ўязджае ў

сталіцу на асляняці! I ўжо зусім недаравальна тое, што Ён праігнараваў іх, вучоных і разумных, і аддаў перавагу, павагу і спагаду таварыству звычайных людзей: бедных, пакрыўджаных, хворых, грэшных. У дадатак да ўсяго казаў, што Ён — Сын Божы!

І вось трагедыя: тыя, што з нецярплівасцю чакалі Збавіцеля-Месію, не пазналі Яго, калі той з'явіўся, але пастараліся знішчыць Яго. Яны не разумелі, што ў хвіліну сваёй найвялікшай слабасці, калі Хрыстос вісеў на крыжы, Ён здабыў найвялікшую перамогу. У малітве да ўкрыжаванага Хрыста ў Скарынавай «Малой падарожнай кніжцы» аўтар звяртаецца да Хрыста: «Рукі маеш расцягнутыя, бо хочаш нас усіх да сябе прыгарнуць; ногі маеш прыбітыя, бо жадаеш заўсёды быць з грэшнікамі».

У каноне на ютрані ў Вялікі Чацвер аўтар укладае ў вусны Хрыста словы: «Таму, што Я — чалавек не ўяўны, а сапраўдны, людская прырода ўва мне абагаўляецца. Дык ведайце Мяне як адзінага Хрыста: Я збаўляю тых, сярод каго нарадзіўся і чыю прыроду ўспрыняў».

Такім чынам, боскасць, якую чалавек хацеў дасягнуць сам, і ў выніку наклікаў на сваю галаву няшчасце, стаецца магчымай людзям як дар Бога, які ўспрыняў нашую прыроду, каб узняць яе з сабою да вышыні свайго Боства. Сведка гэтага — пустая магіла, што не змагла ўтрымаць у сабе цела Хрыста. Але шлях да абагаўлення вядзе не праз узвышэнне самога сябе, але праз перайманне Хрыста, які «не прыйшоў, каб яму служылі, але каб паслужыць і аддаць жыццё за многіх». Ёсць пра што падумаць нам усім, асабліва тым, у чыіх руках улада над людзьмі.

Хрыстос уваскрос!

*2000*

## ПАЧЫНАЮЧЫ ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ

*Каляднае пасланне апостальскага візітатара для беларусаў замежжа айца Аляксандра Надсана*

Сёлета мне прыходзілася часта чуць спрэчкі пра тое, ці мы жывём ужо ў трэцім тысячагоддзі, ці яшчэ не. За тыдзень, 1 студзеня 2001 г., гэтае пытанне будзе канчаткова вырашанае.

Дзве тысячы гадоў хрысціянства — значны рубеж у гісторыі не толькі Царквы, але і ўсяго чалавецтва. Таму хочацца азірнуцца назад, падвесці рахункі — не каб судзіць гісторыю (лёгка быць

разумным пасля падзеі), але каб ведаць, з якім багажом мы ўваходзім у трэцяе тысячагоддзе.

Працэс г. зв. глабалізацыі — адна з найбольш характэрных рысаў нашага часу. Дзякуючы хуткаму развіццю сродкаў транспарту і масавай камунікацыі свет быццам бы зрабіўся меншым. Усё, што здараецца ў самым глухім кутку зямлі, адразу стаецца вядомым ува ўсім свеце. Амаль аднолькавым робіцца паўсюль стыль жыцця, паводле стандартаў адной масавае культуры. Адным словам, як часта цяпер можна пачуць, жывём у глабальнай вёсцы. Гэты працэс глабалізацыі нясе з сабой небяспеку страты індывідуальнасці, што было б вялікай шкодай. З іншага боку, ён узмацняе ў нас адчуванне адзінства ўсяго стварэння і адказнасці за ягоны лёс. Сёння ўжо немагчыма разбіць чалавецтва на маленькія аўтаномныя групы, кожная з якіх жыве сваім жыццём, не звяртаючы ўвагі на іншых. З горкага досведу мы таксама ведаем, што прагрэс навукі, не абмежаваны маральнымі тармазамі і пачуццём адказнасці за вынікі, можа прывесці да вялікіх няшчасцяў. Таму сёння з'явілася столькі групаў, рухаў і арганізацыяў, якія выказваюць сваю заклапочанасць станам навакольнага асяроддзя («Грынпіс», «Сябры Зямлі» і г. д.) і чалавецтва («Міжнародная амністыя» ды іншыя). Іхнія метады дзейнасці могуць не ўсім падабацца, але нельга адмовіць у слушнасці іхніх прынцыпаў.

Пасля кожнага дня стварэння Бог «бачыў, што гэта было добра» (Быц 1, 10). Ён стварыў добры свет, багаты на розныя формы існавання, але адзіны паводле свайго прынцыпу і мэтанакіраванасці. Гэта быў упарадкаваны свет, дзе кожнае стварэнне мела сваё месца і мэту. Чалавек, захацеўшы быць як Бог, дзеля свае абмежаванасці будучы не ў стане прадбачыць вынікаў сваіх дзеянняў, парушыў гэтую еднасць і страціў пачуццё адказнасці за іншых. Калі Бог запытаўся ў Каіна, які забіў Авеля, дзе ягоны брат, той адказаў: «Ці ж я вартаўнік брату свайму?» (Быц 4, 10).

Галоўным вынікам прыйсця Хрыста было аднаўленне страчанае еднасці ўсяго стварэння. Гэтая еднасць можа быць толькі ў Богу, як добра кажа святы Павал: «У Хрысце Бог паяднаў з сабою свет» (2 Кар 5, 19). «Таму няма больш ні габрэя, ні грэка, няма нявольніка ані свабоднага, няма мужчыны, ані жанчыны, але ўсе вы адно ў Хрысце Ісусе» (Гал 3, 28). З'яднаныя ў Богу, мы адчуваем адказнасць за іншых і за свет, у якім жывём. Вось у гэтым прынцып «Божай глабалізацыі».

Два тысячагоддзі Царква прапаведуе вестку пра паяднанне ўсіх з Богам праз Хрыста. На жаль, ейны голас не даходзіць да

ўсіх, магчыма таму, што сярод нас, якія называем сябе хрысціянамі, няма згоды. Зноў-такі, не нам шукаць вінаватых. Відаць, што ў Святой Царкве Хрыстовай людскі складнік, у адрозненне ад Боскага, далёка не дасканалы. Адной з важных характарыстык мінулага стагоддзя быў рост занепакоенасці падзеламі паміж тымі, хто носіць імя Хрыста, і пошук шляхоў да паяднання. Будзем спадзявацца, што высілкі ў гэтым напрамку з новай моцай будуць працягвацца ў трэцім тысячагоддзі. Шлях да еднасці будзе доўгім і цярністым, але зняверавацца нельга.

Мне прыгадваецца гісторыя, якую некалі расказаў святое памяці біскуп Баляслаў Слоскан, апостальскі адміністратар Мінска-Магілёўскае дыяцэзіі. Пасля адбыцця зняволення на Салаўках ён быў высланы ў нейкую сібірскую вёску на так званае «вольнае пасяленне», зразумела, пад наглядам уладаў. Калі ён шукаў сабе кватэру, яму параілі спытацца ў адной удавы, якая прымала ўсіх «страннікаў». Пастукаўшы ў дзверы, ён пабачыў перад сабой старую кабету. Слоскан сказаў, чаго яму трэба, і дадаў, што ён каталіцкі біскуп.

— Каталіцкі біскуп, — адказала старая, якая нічога не чула пра такіх, — а ты ў Бога верыш?

— Веру, — адказаў Слоскан.

— А ў Госпада нашага Ісуса Хрыста верыш?

— Веру.

— А Найсвятую Багародзіцу шануеш?

— Шаную.

— А гарэлку п’еш?

— Не п’ю.

— Дык ты такі ж хрысціянін, як і мы, — вырашыла старая. — Можаш жыць у мяне на кватэры.

Думаю, што перш чым думаць пра адрозненні, нам варта звярнуць увагу на тое, што нас лучыць, як зрабіла тая старая, што «праэкзаменавала» біскупа.

На такой думцы я хацеў бы развітацца з вамі, дарагія чытачы «Нашай Нівы», і пажадаць усім у гэтае вялікае свята Нараджэння Хрыстовага шчасця і ласкі Божай у новым годзе.

*2000*

# ПРАЦЯГВАЮЧЫ СПРАВУ СВЯТЫХ АПОСТАЛАЎ СЛАВЯНАЎ

*Развагі перакладчыка літургічных тэкстаў*

У пачатку 1920-х гг. беларускі святар і паэт Казімір Сваяк пісаў:

Пашлі мне, Божа, пару такую,
Калі пачнём мы Імшу святую
За край наш родны адпраўляць:
Бо вельмі цяжка, што мова наша, —
Розуму й сэрца нашага паша, —
Не ўмее Бога праслаўляць* .

Увосень 1953 г. я першы раз пераступіў парог Грэцкай калегіі ў Рыме. У тым часе я не ведаў вышэйпрыведзенага верша, але ён вельмі добра перадаваў тое, што мяне хвалявала.

Грэцкая калегія была заснаваная ў 1577 г. Папам Рыгорам XIII «для грэкаў і іншых усходніх нацыяў». У адрозненне ад іншых падобных установаў у Вечным горадзе, яна была прызначаная для студэнтаў, згодна з тагачаснай тэрміналогіяй, «закону грэцкага», г. зн. візантыйскага абраду. Пасля Берасцейскай уніі ў ёй вучылася нямала беларусаў, сярод іх будучыя мітрапаліты Язэп Руцкі, Рафаэль Корсак, Антон Сялява, Габрыель Календа, Кіпрыян Жахоўскі і інш. У маім часе сярод студэнтаў былі грэкі, італа-албанцы, албанцы, арабы з Сірыі, Лівана, Галілеі і румыны. Богаслужэнні адбываліся па-грэцку. Лекцыі ва ўніверсітэце чыталіся на лацінскай мове. Звычайнай мовай зносінаў між студэнтамі была італьянская, хоць, безумоўна, кожная група гаварыла між сабою на роднай мове.

Мяне тады ўразіла, што ўсе нацыянальныя групы, прадстаўленыя ў калегіі, мелі літургічныя тэксты на ўласнай мове. На ёй адпраўлялі літургію новыя святары, а таксама госці, якія прыязджалі з Грэцыі і Блізкага Усходу. Мне было сумна, што беларусы не маюць літургіі на роднай мове. Узнікла нават падазрэнне, што, можа, Дух Святы, калі раздаваў мовы апосталам, забыўся пра нас… З усёй павагай да царкоўнаславянскай мовы, я з уласнага дасведчання ведаў цяжкасці ў зразуменні сэнсу прачытанага або пачутага. Іншыя мелі не меншыя цяжкасці. Памятаю, як некалькі гадоў пазней я спытаўся ў аднаго праваслаўнага святара, які

* Сваяк Казімір. Мая ліра. Вільня, 1923. С. 41.

быў у мяне ў гасцях, ці разумеюць ягоныя парафіяне, калі ён служыць на царкоўнаславянскай мове. Было якраз свята прарока Ільі, калі на вячэрняй службе чытаюцца доўгія ўрыўкі са Старога Запавету. Мой госць шчыра прызнаўся: «Яны не разумеюць, але прымаюць вераю». Мяне такі адказ моцна здзівіў. Я падзяляў веру гэтых людзей, але таксама мне стала крыўдна за іх, што іх так абдзялілі. Дый што казаць пра свецкіх, калі святар з трыццацігадовым стажам сур'ёзна стараўся пераканаць мяне, што ў нядзельным трапары 4 тону «Светлую воскресення проповедь от ангела уведевше Господние ученицы…» слова «ученицы…» азначае вучняў Хрыстовых, г. зн. мужчынаў… Калі б ён ведаў грэцкую мову, ён ніколі не перамяшаў бы μαθήτριαι (вучаніцы) з μαθηταί (вучні).

Мне прыгадаўся вялікі знаўца народнага жыцця Якуб Колас, які ў сваёй «Новай зямлі» так апісаў працэс чытання «Дзеянняў святых Апосталаў» у царкве перад пачаткам велікоднай службы:

А Чыліноў Алесь надзьмуўся.
Ў святыя дзеянні уткнуўся
І там, дзе слоў не расчытае,
На сажань голас працягае*.

У 1959 г., ужо як святар, я вярнуўся ў Лондан і адразу ўзяўся за працу над перакладам святой літургіі. Недзе ў пачатку 1960 г. я з гонарам прынёс плён маіх высілкаў на суд да маіх старэйшых калегаў-святароў, але яны хутка астудзілі мой энтузіязм: як гэта я асмеліўся ўзяцца за такую працу, якую старэйшыя і больш дасведчаныя за мяне баяцца пачынаць. Гэта было добра для маёй пакоры, але сваіх намераў я не пакінуў і працягваў працаваць над перакладамі, не паказваючы іх нікому, праз блізу 20 наступных гадоў.

Патрэба літургічных тэкстаў на беларускай мове тады ўжо выразна адчувалася. Незалежна ад мяне ў Чыкага Вацлаў Пануцэвіч зрабіў пераклад Літургіі св. Яна Залатавуснага і ў 1958 г. выдаў яе асобнай кніжкай. Ягоным перакладам карысталіся ў беларускай грэка-каталіцкай царкве Хрыста Спаса ў Чыкага. Крыху пазней літургічнымі перакладамі пачаў займацца архіепіскап Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Мікалай. У 1980 г. у Таронта выйшаў друкам ягоны «Службоўнік» (другое выданне ў 1994 г.).

---

* Колас Якуб. Новая зямля. Мінск, 1968. С. 286.

Першая неабходная ўмова добрага перакладу — веданне мовы арыгіналу і той, на якую робіцца пераклад. У выпадку візантыйскага абраду арыгінальнай мовай ёсць грэцкая. Існуюць многія добрыя пераклады візантыйскіх літургічных тэкстаў на сучасныя мовы, і яны могуць быць вельмі карысныя для параўнання. Калі размова ідзе пра царкоўнаславянскія тэксты, асвечаныя больш як тысячагадовай традыцыяй, дык яны ў сваёй абсалютнай большасці вельмі блізкія да грэцкіх арыгіналаў. Можна сказаць, што яны з'яўляюцца прыкладам, якімі павінны быць пераклады. Толькі ў некаторых выпадках будова сказаў паводле ўзору грэцкага сінтаксісу робіць тэкст цяжкім да зразумення.

Апрача моваў перакладчыку трэба мець добрую багаслоўскую і літургічную падрыхтоўку. Веданне гістарычных абставінаў, у якіх ствараўся твор, дапамагае зразуменню тэксту.

Для прыкладу прыгледзімся да перакладаў гімна «Адзінародны Сыне…», які спяваецца пасля другога антыфана на літургіі св. Яна Залатавуснага і Базыля Вялікага, і параўнаем іх з арыгінальным грэцкім тэкстам.

1. Грэцкі арыгінальны тэкст*. *Ὁ μονογενὴς Υἱὸς καὶ Λόγος τοῦ Θεοῦ, ἀθάνατος υπάρχων, καὶ καταδεξάμενος διὰ τὴν ἡμετέραν σοτηρίαν σαρκωθῆναι ἐκ τὴς ἁγίας θεοτόκου καὶ ἀϊπαρθένου* Μαρίας, *ἀτρέπτως ἐνανθρωπ''σας, σταυρωθείς δε. Χριστὲ ὁ Θεός θανάτω θάνατον πατ''σας, εἷς ὢν τῆς ἁγίας* Τριάδος, *συνδοξαζόμενος τῷ* Πατρί *και τῷ* Ἁγίῳ Πνεύματι, *σῶσον ἡμᾶς*.

2. Царкоўнаслвянскі тэкст**. **Единородный Сыне и Слове Божїй, безсмертенъ сый, и изволивый спасенїя нашего ради воплотитися ѿ святыя Богородицы и приснодѣвы Марїи, непреложно вочеловѣчивыйся: распныйся же, Христе Боже, смертїю смерть поправый, единъ сый святыя Троицы, спрославляемый Отцꙋ и святомꙋ дꙋхꙋ, спаси насъ**.

3. Пераклад В. Пануцэвіча*** . Адзінародны Сыне і Слова Божае, бяссмертны. Ты, каторы дзеля збаўлення нашага нарадзіўся ад святой Багародзіцы і заўсёды Дзевы Марыі, стаўся сапраўдным чалавекам і быў распяты. О, Хрысце Божа, ты ж смерцю смерць пакарыў, і **адзіны ёсць у Святой Тройцы**, праслаўляны з Айцом і Святым Духам, збаві нас.

* *Ἱερατικόν*. Рым, 1950. С. 110.

** Ірейскій молитвословъ. Рым, 1950. С. 245.

*** Служба Божая, або св. Літургія святога Яна Залатавуснага / апрацаваў В. П. Чыкага, 1958. С. 21.

4. Пераклад архіеп. Мікалая 1980 г.* . Адзінародны і Несмяротны Сыне і Слова Божае, прызволіўшы дзеля збаўлення нашага прыняць цела ад Святое Багародзіцы і ўвесь час Дзевы Марыі і неадменна стацца чалавекам. І ўкрыжаваны быў, Хрысце Божа, смерцю смерць паканаў, **адзіны ў Тройцы**, роўнаслаўлены з Айцом і Святым Духам, збаві нас.

4а. Папраўлены пераклад архіеп. Мікалая 1994 г.** . Ты **Адзін са Святой Тройцы**, роўнаславёны з Айцом і Святым Духам, ратуй нас.

5. Пераклад А. Надсана*** . Адзінародны Сыне і Слова Бога, Ты, Несмяротны, дзеля нашага збаўлення захацеў прыняць цела ад Святое Багародзіцы і заўсёды Дзевы Марыі і, не зазнаўшы змены, стаўся чалавекам. Ты быў укрыжаваны, Хрысце Божа, смерцю знішчыўшы смерць. **Будучы адным з Святой Тройцы**, роўным славаю Айцу і Святому Духу, збаў нас.

Гімн «Адзінародны Сыне…» — гэта свайго роду вызнанне веры. У ім сцвярджаецца, што (а) Хрыстос, будучы несмяротным Богам, не пацярпеўшы ніякай змены (*ἀτρέπτως*, непреложно), стаўся чалавекам. Пра гэта нічога не кажацца ў тэксце 3; (б) Хрыстос ёсць адной з трох асобаў Святой Тройцы (*εἷς ὢν τῆς ἁγίας Τριάδος*, **єдинъ сый свѧтыѧ Троицы**) і ў ніякім выпадку адзіным у Святой Тройцы, як сказана ў тэкстах 3 і 4. Відавочна, абодва перакладчыкі не зразумелі арыгінальнага тэксту і, не маючы адпаведнай багаслоўскай падрыхтоўкі, не заўважылі, што з іхнім перакладам нешта не ў парадку. Я звярнуў ім на гэта ўвагу, і ўладыка Мікалай унёс папраўку ў другім выданні свайго «Службоўніка» ў 1994 г. (гл. тэкст 4а), але факт застаецца фактам, што гэтымі тэкстамі карысталіся беларускія святары і свецкія людзі даволі доўгія гады, і ніхто не заўважаў памылкі.

Гімн быў напісаны ў першай палове VI ст. праўдападобна самім імператарам Юстыніянам I (прыбл. 483–565), які намагаўся паяднаць монафізітаў з Царквою і знайсці формулу, якая, без кампрамісу ў веры, была б для іх прымальнай. Як вядома, монафізіты сцвярджалі, што Хрыстос меў толькі адну прыроду — Боскую. Яны былі пераканыя (памылкова), што ў гэтым яны заставаліся вернымі пастановам Трэцяга Сусветнага Эфэскага Сабору 431 г. У падтрымку сваіх поглядаў яны

---

* Службоўнік. Таронта, 1980. С. 42.

** Службоўнік. 2-е выд. Таронта, 1994. С. 42.

*** Боская Літургія між святымі Айца нашага Яна Залатавуснага: Кніга для святара. Тэкст папраўлены. Лондан, 1999. С. 21.

прыводзілі вядомую формулу св. Кірылы Александрыйскага «*μία φὺσις Θεοῦ Λόγου σεσσαρκομένη*» (адна ўцелаўлёная прырода Бога Слова). Гэтую формулу Кірыла ўжыў у абароне тоеснасці спрадвечнага Божага Слова (г. зн. другой асобы Святой Тройцы) і Слова ўцелаўлёнага, г. зн. Ісуса Хрыста, супраць Несторыя, які не прызнаваў гэтай тоеснасці і адмаўляў Найсвяцейшай Дзеве Марыі права да тытулу «Багародзіцы». На жаль, у фармулёўцы Кірылы адсутнічае яснае размежаванне паміж паняццямі «прырода» (*φύσις*) і «асоба» (*πρόσωπον*). Спатрэбілася дакладнасць лацінскай мовы — мовы заканадаўства і дзяржаўнай адміністрацыі, — каб унесці яснасць у гэтае пытанне. Гэта было зроблена Папам Рымскім святым Львом Вялікім, які ў 449 г. у сваім лісце да патрыярха Канстанцінопальскага Флавіяна дае наступную фармулёўку: «Propter hanc ergo unitatem personae in utraque natura intelligendam et filius hominis legitur descendisse de caelo, cum Filus Dei carnem de ea virgine, de qua natus est, assumpserit. Et rursus Filius Dei crucifixus dicitur et sepultus…»* (Паколькі трэба разумець еднасць асобы ў дзвюх прыродах, кажам, што Сын Чалавечы зышоў з неба, у той час як Сын Божы прыняў цела ад тае Дзевы, ад якой нарадзіўся. Таксама кажам, што Сын Божы быў укрыжаваны і пахаваны…) Айцы Халкідонскага Сабору ў 451 г. прынялі фармулёўку Льва. У пастанове Сабору яны вызналі «Хрыста Сына Госпада адзінароднага ў дзвюх прыродах (*ἐν δύο φύσεσιν*)… з захаваннем асаблівасцяў кожнай прыроды пры супадзенні ў адной асобе і адной існасці (*εἶς ἐν πρόσωπον καὶ μίαν ὑπόστατασιν συντρεχούσης*)»** . У гімне «Адзінародны Сыне…» гаворыцца пра гэта, але, каб не запалохаць монафізітаў, без тэрміналогіі, устаноўленай Халкідонскім Саборам. Мэта прыцягнуць монафізітаў не была дасягнутая, але затое маем прыгожы гімн у гонар Госпада і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста.

Як другі прыклад можа служыць наступны вядомы вячэрні гімн «Святло лагоднае…», які ўжо св. Базыль Вялікі (прыбл. 330–379) называў старажытным.

1. Грэцкі тэкст***. *Φῶς ἱλαρὸν ἁγίας δόξης ἀθανάτου* Πατρός, *οὐρανίου, ἁγίου, μάκαρος,* Ἰησοῦ Χριστέ, *ἐλθόντες ἐπὶ ἡλίου δύσιν, ἰδόντες φῶς ἑσπερινόν, ὑμνοῦμεν* Πατέρα, Υἱόν, *καὶ* Ἅγιον Πνεῦμα, Θεόν. Ἄξιον

* Rouet de Journel M. J. Enchiridion partisticum. Friburg, 1959. P. 691.

** Denzinger H., Schonmetxer A. Enchiridion symbolorum. Friburg, 1965. P. 108.

*** Ἱερατικόν. C. 15.

*σε ἐν πάσι καιροῖς ὑμνεῖσθαι φωναῖς αἰσίαις, Υἱὲ Θεοῦ, ζωὴν ὁ διδούς, διὸ ὁ κόσμος σὲ δοξάζει.*

2. Царкоўнаславянскі пераклад*. **Свѣте тихїй свѧтыѧ славы безсмертнагѡ ѻ҃ца небеснагѡ, свѧтагѡ, блаженнагѡ, І҃исе Х҃рсте: пришедше на запад солнца, видѣвше свѣтъ вечернїй, поемъ ѻ҃ца, и҆ С҃на, и҆ свѧтаго д҃ха, Б҃га. Достоинъ є҆си во всѧ времена пѣтъ быти гласы преподобными, С҃не б҃жїй, живостъ даѧй: тѣмже миръ Тѧ славить**.

3. Пераклад архіеп. Мікалая**. Ісусе Хрысце, ціхі свет святой славы несмяротнага Айца, нябеснага, святога, праслаўленага, мы, дажыўшы да заходу сонца, пабачыўшы святло вячорняе, **славім Айца, і Сына, і Святога Духа**. Ты Сын Божы, што даеш жыццё. Ты дастойны, каб праслаўлялі Цябе ўвесь час галасамі справядлівых; дзеля гэтага ўвесь свет Цябе славіць.

4. Пераклад А. Надсана***. Святло лагоднае святое славы несмяротнага Айца нябеснага, святога, блаславёнага, Ісусе Хрысце! Дажыўшы да захаду сонца, убачыўшы вячэрняе святло, **славім Айца, і Сына, і Святога Духа — Бога**. Дастойна ёсць на ўсякі час чыстымі галасамі пяяць хвалу Табе, Сыне Божы, што даеш жыццё: дзеля гэтага свет славіць Цябе.

Адразу відаць, што тэкст № 3 далёка адыходзіць ад арыгінальнага грэцкага і ад царкоўнаславянскага. У прыватнасці, царкоўнаславянскаму слову **свѣтъ** (па-грэцку *φῶς*) у беларускай мове адказвае слова ***святло***, а беларускі ***свет*** (па-грэцку *κόσμος*) перакладаецца на царкоўнаславянскую мову словам **мїръ**. Але гэта не адзінае скажэнне арыгінальнага тэксту. Святы Базыль, які — разам са сваім братам Рыгорам Ніскім і прыяцелем Рыгорам Назьянскім, — першы распрацаваў і сфармуляваў вучэнне Царквы пра Святую Тройцу, прыводзіў гімн «Святло лагоднае…» як доказ таго, што гэтае вучэнне поўнасцю супадае з традыцыйнай вераю ў Бога ў Тройцы адзінага, што існавала ў Святой Царкве ад самага пачатку. Можна сказаць, што гэта адзін з ранніх прыкладаў прымянення прынцыпу «lex orandi, lex credendi» (закон малітвы — закон веры). Дзеля гэтага ў фразе «славім Айца, і Сына, і Святога Духа — Бога» кожнае слова важнае: адкінуўшы адно з іх (у гэтым выпадку «Бога»), скажаецца ўвесь сэнс.

---

* Іерейскій молитвословъ. С. 279.

** Службоўнік. 2-е выд. Таронта, 1994. С. 189.

*** Вячэрня. Тэкст папраўлены і пашыраны. Лондан, 1999. С. 14.

Гэтыя два прыклады паказваюць, што для перакладчыка літургічных тэкстаў недастаткова ведаць самі мовы: ён павінен мець добрую багаслоўскую падрыхтоўку і веданне гістарычных абставінаў, пры якіх дадзены тэкст быў напісаны.

У першыя дні майго прабывання ў Грэцкай калегіі ў Рыме была вялікая бура. Мае грэцкія сябры раптам ажыўлена пачалі крычаць: «Катаклізма, катаклізма!» Некалькі дзён пазней некаторыя малодшыя студэнты, як гэта бывае, крыху дурэлі на панадворку калегіі, і старэйшы студэнт сказаў ім супакоіцца, бо «космос влепі» (свет глядзіць). Гэта мяне ўразіла. Для нас словы «катаклізм» ці «космас» маюць асаблівае значэнне, і таму мне было дзіўна пачуць іх з вуснаў маладых людзей, як нешта штодзённае, звычайнае. З таго часу я пачаў прыглядацца больш дакладна да іншых словаў у хрысціянскай багаслоўскай тэрміналогіі і знайшоў, што большасць з іх была адаптацыяй штодзённых слоў. Святы Павал быў асабліва добрым у гэтай адаптацыі. Ён першы, напрыклад, пачаў ужываць слова *ὑπόστασις*, якое было вядомае ў грэцкай мове ў розных значэннях у штодзённым ужытку і ў філасофіі. У лісце да габрэяў ён кажа, што Хрыстос ёсць *Χαρακτ῎ρ ὑποστάσεως* (па-лаціне «figura substantiae», або «вобраз існасці»)* Бога (Гбр 1, 3). Такім чынам, слова, нават самае звычайнае, здольнае набыць іншае, «глыбейшае», значэнне ў залежнасці ад прадмета, да якога яно адносіцца.

Гэта дало мне шмат да думання, калі я ўзяўся за пераклад. Кожная мова мае свае багатыя скарбы і, перш як рабіць запазычанні з іншых моваў, — а без іх ніводная мова не можа абысціся, — трэба старацца выкарыстаць іх. Несумненна, ёсць запазычанні, якія бытуюць у нашай мове доўгі час і сталіся яе неадʼемнай часткаю. Такім ёсць, напрыклад, слова «царква», якое, — як і ангельскае «church» і нямецкае «Kirche», — у канцовым выніку паходзіць ад грэцкага Κύριος або *κυριακός*. Таму ўводзіць слова «Эклезія» (між іншым, таксама грэцкага паходжання) або ствараць новае тыпу «субожні» няма патрэбы.

Грэцкае слова «*εὐλογεῖν* (перш. асоба адзін. ліку «*εὐλογέω*) сустракаецца вельмі часта ў літургічных тэкстах і азначае даслоўна «казаць добрае слова (пра некага), хваліць». У лацінскай мове яму адказвае слова ***benedicere***, а ў царкоўнаславянскай **благословлѧть, благословить**. Пераклад гэтага слова стварае нема-

---

* Гл. Moulton J. M., Milligan G. The Vocalbulary of the Greek Testament, illustrated from the Papyri and other non-literary Sources. London, 1972. P. 659.

лыя цяжкасці. Можна было б пакінуць царкоўнаславянскае «благасловіць» (не «благаславіць»), калі б не тое, што слова «благі» ў беларускай мове мае адмоўнае значэнне («Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» дае іх аж сем!). Таму ад даўжэйшага часу вядуцца спробы замяніць яго нейкім іншым. Некаторыя аўтары ўжываюць слова «багаславіць», але гэта мяняе першапачатковы сэнс. Слова «дабрасловіць» (не «дабраславіць»!) аддае добра сэнс, але яно не вельмі мілагучнае. І вось аднойчы выпадкам, чытаючы кнігу Рыгора Барадуліна «Адам і Ева», у вершы «Мая Бацькаўшчына» я натрапіў на наступныя радкі:

Ты бласлаўляла даланёй кляноваю
Сваіх сыноў.
Слязамі дабяла
Бяліла лён у світку Каліноўскаму
І Нёмнам ў сны Ўрублеўскаму плыла*.

Слова «бласлаўляла» зачаравала мяне сваёй мілагучнасцю і, калі так можна сказаць, беларускасцю (хоць этымалогію ягоную няцяжка ўстанавіць). Ад гэтага часу я вырашыў ужываць яго паслядоўна ва ўсіх маіх перакладах. Пазней я сустрэў яго ў творах іншых аўтараў, у тым ліку Янкі Купалы**. Яно таксама зафіксаванае ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы»***. Нешта падобнае здараецца і ў іншых мовах. Напрыклад, у французскай мове лацінскае слова «benedicere» прыняло форму «bénir».

Між іншым, няма ніякай патрэбы ўводзіць у беларускую мову слова «благадаць», калі ў ёй ёсць прыгожае слова «ласка», якое сустракаецца ўжо ў Францішка Скарыны, напр. у малітве да ўкрыжаванага Ісуса ў «Малой падарожнай кніжцы» (Вільня, 1522):

«Збавителю наш Господи Ісусе Христе, вижу Тя на кресте висяща, для превеликое милости юже имел еси к роду человеческому… Серце имаши отворено, хотяй **ласку** свою всем дати… Ныне молю ти ся… услыши и прими молитвы моя, подай мне

---

* Барадулін Рыгор. Адам і Ева. Мінск, 1968. С. 130.

** Слоўнік мовы Янкі Купалы / рэд. У. Анічэнка. Мінск, 1997. Т. 1. С. 137.

*** Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у пяці тамах. Мінск, 1977. Т. 1. С. 384.

**ласку** свою, и пригорни мя к собе, и буди при мне в час страшное и горкое смерти моея. Аминь»*.

У беларускай мове словы з прыстаўкаю прэ- (пра-) тыпу «прамудрасць» або «прасвятая» гучаць як чужыя. Дый няма ніякай патрэбы іх ужываць: куды прасцей і прыгажэй казаць «мудрасць», «найсвятая» або «найсвяцейшая». Асобна трэба сказаць пра слова «прападобны». У царкоўнаславянскай мове «преподобный» з'яўляецца перакладам грэцкага *ὅσιος*, — аднаго з трох словаў са значэннем святасці (два іншыя — *ἅγιος* і *ἱερός*), — што азначае «пабожны, багабойны, пачэсны». Слова «пачэсны» найбольш прыдатнае ў нашым выпадку. Польскае слова «вялебны» (wielebny) азначае тое самае, што і «пачэсны», і таму няма ніякай патрэбы ўводзіць яго ў нашую мову, як гэта апошнім часам робяць некаторыя аўтары.

Такім чынам, трэба ўжываць запазычанні вельмі абачліва, каб не ператвараць мову ў царкоўную «трасянку». Калі ідзе пра наватворы, то і тут асцярожнасць не пашкодзіць. З другога боку, не трэба баяцца ўводзіць новае слова, калі на гэта існуе патрэба: важна, каб яно было ў духу мовы. Як прыклад няўдалага наватвору, які не прыжыўся, можа служыць вышэйузгаданая «субожня». Да ўдалых належыць несумненна «святар», створаны на ўзор такіх словаў, як «змагар», «пясняр», «уладар» і інш. Больш мілагучнае і беларускае за «свяшчэнніка» (а тым больш «ксяндза»…), гэтае слова ўжо прыжылося ў мове, і няма сумніву, што ягонае ўжыванне будзе пашырацца.

Вось толькі некалькі прыкладаў практычных праблемаў, якія сустракаюцца ў працы над перакладамі літургічных тэкстаў.

Мой першы намер быў зрабіць пераклад адной Літургіі святога Яна Залатавуснага. З поступам працы расла ахвота. Вось пералік галоўных тэкстаў, перакладзеных на беларускую мову:

1. Літургіі св. Яна Залатавуснага, Базыля Вялікага і Раней асвечаных дароў.

2. Службы дзённага кругу: вячэрня, павячэрніца, ютрань, кананічныя гадзіны.

3. Службы нядзельныя васьмі тонаў поўнасцю.

4. Службы велікапоснага і велікоднага перыядаў (службы Вялікага і Светлага тыдняў поўнасцю).

---

* Паводле паасобніка «Малой падарожнай кніжкі» ў Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене. Мікрафільм у Бібліятэцы Ф. Скарыны ў Лондане.

5. Службы на ўсе святы Гасподнія і Багародзіцы, а таксама вялікіх святых (напр. Нараджэнне св. Яна Хрысціцеля, святых апосталаў Пятра і Паўла), у тым ліку тых, якія існуюць толькі ў славянскім варыянце (Покрыва Багародзіцы, св. Еўфрасінні Полацкай, св. Язафата).

6. Святыя тайны: хрост і мірапамазанне, шлюб, алеепамазанне хворага.

7. Парадак пахавання памерлага і служба за памерлых (г. зв. паніхіда).

8. Прынагодныя службы: Акафіст Імю Ісусаваму (з «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны); Акафіст Найсвяцейшай Багародзіцы; Малебны канон Багародзіцы; малебныя службы на розныя нагоды, у тым ліку малебен за Беларусь.

9. Розныя патрэбы: асвячэнне крыжа, іконы, новага дома і г. д.

Беларускія літургічныя тэксты былі часова зацверджаныя Кангрэгацыяй для Усходніх Цэркваў у Рыме ў 1994 г. На пачатку гэтага юбілейнага года, пасля пяцігадовага пробнага перыяду, яны атрымалі канчатковае зацвярджэнне. Такім чынам, на сённяшні дзень яны з’яўляюцца афіцыйнымі тэкстамі, якімі карыстаецца Беларуская грэка-каталіцкая царква на Бацькаўшчыне і ў дыяспары.

Безумоўна, праца не скончаная. Цяперашнія пераклады далёкія ад дасканаласці, але перакладчык адчуваў, што для яго прыйшоў час затрымацца, маючы на ўвазе лацінскую прыказку «дасканалае — вораг добрага». Хочацца спадзявацца, што хутка з’явяцца новыя, лепшыя пераклады. Трэба было б таксама ў наш экуменічны век навязаць супрацоўніцтва з братамі рыма-каталікамі і праваслаўнымі, асабліва дзеля ўзгаднення тэрміналогіі. Выглядае дзіўна і несамавіта, калі ў залежнасці ад канфесійнай прыналежнасці на адно паняцце ўжываюцца тры словы, напр. «Госпад», «Гасподзь» і «Пан». Некалі Чэрчыль сказаў, што ангельцы і амерыканцы — дзве нацыі, якіх дзеліць супольная мова. Нешта падобнае можа стацца з беларусамі.

Кожная мова — гэта нешта адзінае і непаўторнае, яна ёсць, як прыгожа сказаў Францішак Багушэвіч, «адзежаю душы»*. Адносіны да якой-колечы мовы — найлепшы паказчык нашых адносінаў да народа, які з’яўляецца яе носьбітам. Пра гэта трэба памятаць кожнаму, асабліва Святой Царкве, заснаванай Госпадам нашым Ісусам Хрыстом для збаўлення душаў людскіх. Варта

* Багушэвіч Францішак. Творы. Мінск, 1991. С. 17.

прыгадаць яшчэ адзін сказ Багушэвіча: «Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам»*.

Хрыстос загадаў сваім вучням: «Ідзіце навучайце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, і вучыце іх захоўваць усё, што Я сказаў вам. І вось Я з вамі да сканчэння свету» (Мц 28, 20). Для спаўнення гэтага вялікага задання вучні Хрыстовыя ў дзень Сёмухі атрымалі ад Святога Духа дар моваў, так што людзі, якія з розных краінаў былі сабраўшыся тады ў Іерусаліме, дзівіліся і казалі адзін аднаму: «Як гэта кожны з нас чуе сваю родную мову?… Усе мы чуем, як яны (г. зн. вучні) абвяшчаюць на нашых мовах веліч Божую» (Дз 2, 8, 11). Францішак Скарына ў сваёй прадмове да «Дзеянняў святых Апосталаў» (Вільня, 1525) так піша пра гэта:

«Для прарокаў быў дадзены дух, каб адзінай габрэйскай або халдзейскай моваю прапаведавалі людзям. А для апосталаў і тых, што вераць у Хрыста, быў дадзены Дух Святы, каб абвяшчаць на ўсіх мовах, што ёсць пад сонцам, праўду Божую, слова збаўлення і валадарства нябеснае»**.

Такім чынам, ад самага пачатку ўсе мовы былі аднолькава прымальныя і добрыя для пашырэння весткі пра валадарства Божае. На практыцы, аднак, не ўсё выглядала так проста. Святыя Кірыла і Мяфодзій у сваёй працы над перакладамі святых тэкстаў на славянскую мову мелі шмат праціўнікаў, якія, сярод іншага, цвердзілі, што толькі габрэйская, грэцкая і лацінская мовы, — на якіх быў зроблены Пілатам надпіс на Крыжы Гасподнім, — годныя для хвалы Божай. На шчасце, Папа Адрыян II не паслухаўся гэтых і падобных ім доказаў: у 868 г. ён адобрыў працу святых братоў, паклаўшы скрутак з тэкстамі іхніх перакладаў на алтары ў царкве Багародзіцы «Фатні» ў Рыме (цяпер базіліка Santa Maria Maggiore).

У нашыя дні няма ўжо, бадай, нікога, хто б адмаўляў людзям права хваліць Бога на роднай мове. Хіба толькі на Беларусі, дзе ёсць яшчэ нямала такіх, што супраціўляюцца ўжыванню беларускай мовы ў царкве. Але робяць яны гэта, зыходзячы з меркаванняў, якія не маюць нічога супольнага з рэлігіяй. Між іншым яны любяць паклікацца на святых Кірылу і Мяфодзія, кажучы, што «славянская мова для нас не чужая». Несумненна, Кірыла і Мяфодзій вельмі блізкія і дарагія для ўсіх нас: у гімне на вячэрняй службе ў іхні гонар яны называюцца «хвалою

---

* Багушэвіч Францішак. Творы. С. 16.

** Скарына Францыск. Творы. Мінск, 1990. С. 104.

славянаў», дзякуючы якім «мы, вызваленыя ад д’ябальскай спакусы і цемры грахоўнай, атрымалі дабравешчанне Хрыстова і спазналі спрадвечнае Слова»*. Яны таксама стварылі ўмовы для славянскіх народаў развіць свае духоўныя скарбы і заняць належнае месца сярод іншых народаў свету. Гэта прызнаў і цяперашні Папа Ян Павал II, калі абвясціў іх у 1980 г. апекунамі Еўропы. Для нас святыя браты з’яўляюцца прыкладам сапраўднага апостальскага служэння Богу і людзям, і мы выкажам найлепш нашую павагу і ўдзячнасць да іх, калі станемся іхнімі пераймальнікамі, стараючыся пашыраць вестку пра валадарства Божае сярод людзей у найбольш даступнай для іх форме, гэта значыць на роднай мове.

Галоўная мэта кожнай мовы — размаўляць, быць сродкам зносінаў між людзьмі. Беларуская мова ў гэтым не выключэнне. На ёй можам размаўляць не толькі між сабою, але з самім Богам.

***2000***

## ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ

*апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў усходняга абраду а. Аляксандра Надсана*

«Калі Хрыстос не ўваскрос, дык марная вера, і вы застанецеся ў сваіх грахах» (1 Кар 15, 17).

Гэтыя словы, напісаныя св. Паўлам, хутка пасля першага Вялікадня — Уваскрасення Хрыста — застаюцца ў сіле сёння, калі мы святкуем першы Вялікдзень у трэцім тысячагоддзі. У гэты дзень мы прыгадваем перамогу над смерцю жыцця ў асобе Ісуса Хрыста, які, як кажацца ў літургічных спевах, «памёр як чалавек, і ўваскрос як Чалавекалюбец», узняўшы з сабою людскую прыроду, якую Ён прыняў Вялікдзень — гэта аднаўленне чалавека ў Богу праз Ісуса Хрыста. Дый не толькі чалавека, але ўсяго свету, усяго стварэння, якое, як добра сказаў св. Павал, «нецярпліва чакае… у надзеі, што і яно будзе вызваленае з няволі тленнасці, каб удзельнічаць у свабодзе і славе дзяцей Божых» (Рым 8, 20–21).

Псальміст кажа: «Нябёсы пяюць славу Божую, пра творы рук Ягоных расказвае небасхіл» (Пс 18, 1). Адным з вынікаў ады-

---

* Выбраныя службы з мінеі. Травень / пер. А. Надсана // Божым шляхам. Лондан, 2000. С. 16.

ходу чалавека ад Бога была страта ім пачуцця павагі да Божых твораў. Ён забыўся, што ў Божым плане кожны твор мае сваё месца і прызначэнне, сваю годнасць і сваім існаваннем нагадвае нам пра веліч Божую. Страціўшы павагу да тварэнняў, чалавек, замест таго каб карыстацца імі разумна паводле задумы Божай, пачаў выкарыстоўваць іх для сваіх самалюбных мэтаў, не зважаючы, як гэта адаб'ецца на іншых і на ўсім асяроддзі. Таму маем вялікія няшчасці, выкліканыя самімі людзьмі. Беларусам, якія адчулі на сабе вынікі чарнобыльскай катастрофы, не трэба гэтага тлумачыць.

Для айцоў царквы Уваскрасенне Хрыстова было здарэннем касмічнага значэння. Не без слушнасці яны называлі яго новым актам тварэння.

Вялікдзень нераздзельна звязаны з асобаю Ісуса Хрыста. Хто ж Ён такі: ёсць людзі, гатовыя прызнаць Яго як вялікага настаўніка, заснавальніка этычна-рэлігійнага вучэння, магчыма, аднаго з найбольш дасканалых сярод многіх іншых падобных вучэнняў, але нічога больш. Яны зводзяць Хрыста да чыста людскога ўзроўню. Уваскрасенне Хрыста для іх не мае сэнсу, і яны адкідаюць яго або імкнуцца даць яму свае тлумачэнні. Усе яны не даюць здавальняючага адказу, бо не бяруць пад увагу, што Уваскрасенне займае цэнтральнае месца ў евангельскіх аповедах. Жыццё і дзейнасць Хрыста на зямлі трацяць сэнс без Уваскрасення, якое было іхнім завяршэннем. Святы Павал разумеў гэта вельмі добра, калі сказаў: «Калі мы толькі ў гэтым жыцці спадзяёмся на Хрыста, то мы больш за ўсіх іншых людзей годныя літасці» (1 Кар 15, 19).

Хрыстос не хаваў таго, кім Ён ёсць і якая Ягоная мэта на зямлі. Тое, што Ён казаў, было непрымальным для духоўных настаўнікаў народа, сярод якога Ён жыў і дзейнічаў. Не ў змозе даць Яму адказ, яны вырашылі знішчыць Яго, прымяняючы фізічную сілу. Крыжовая смерць была лагічным вынікам іхняга стаўлення да Хрыста. Не ведаю, ці яны ўсведамлялі сабе, што іхняя перамога была ў сапраўднасці паразай. Ужыўшы фізічную сілу супраць Хрыста, яны паказалі сваю духоўную слабасць, няўпэўненасць у праўдзівасці ўласных перакананняў і страх перад тым, каб іншыя не даведаліся праўды.

Фізічная сіла — зброя слабых. Хрыстос не меў патрэбы ў фізічнай сіле і адмовіўся ўжываць яе нават у сваёй абароне. Ён быў моцны перакананнем праўды таго, што Ён казаў і рабіў. Ён ведаў, што праўда пераможа, што яе нельга схаваць, як нельга

ўтрымаць у магіле таго, хто сказаў пра сябе, што Ён «Дарога, Праўда і Жыццё».

Дык хай жа гэта Велікоднае свята ўзмоцніць нашу веру ў канчатковую перамогу праўды і надзею ў новае, поўнае жыццё ў Хрысце Ісусе, Госпадзе і Збаўцы нашым.

Хрыстос уваскрос!

*2001*

## ЦІ БЫЎ ТЫ ТАМ, КАЛІ ЎКРЫЖАВАЛІ ГОСПАДА?

*Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана, апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў замежжа*

Словы з сярэднявечнай велікапоснай містэрыі не страцілі сваёй надзённасці і ў наш час. Чытаючы евангельскі аповед пра тыя трагічныя падзеі ў Ерусаліме, нельга пазбегнуць уражання, што ля Крыжа Гасподняга сабраўся ўвесь свет, які не розніўся ад нашага. Найбольшую групу ўтвараў натоўп — бяздумны, бязвольны і зменлівы, які хітры і здольны дэмагог мог пахіліць у любы бок, як вецер трысціну: нядаўна ён вітаў Хрыста воклікамі «Асанна!», а цяпер крычаў «Укрыжуй Яго!» Былі там і тыя, што ўважалі сябе за правадыроў народа. Прыкрываючыся клопатам пра агульнае дабро, яны аддалі на смерць Нявіннага толькі за тое, што Ён быў прыкры ды нявыгадны ім і не ўкладаўся ў рамкі іхніх уяўленняў: «Што нам рабіць з гэтым чалавекам: калі яго пакінем так, дык усе ўвераць у Яго, і прыйдуць рымляне, і знішчаць нашае святое месца і ўвесь народ» (Ян 11, 47–48). «Парадачныя людзі» разумелі несправядлівасць таго, што здарылася, але, як Пілат, яны «памылі рукі» ад усяго, адмаўляючы сваю адказнасць (Гл. Мц 27, 24). І нарэшце — тыя, што былі найбліжэй да Хрыста, Ягоныя вучні і спадарожнікі, якіх Ён сам паклікаў. У найбольш крытычную хвіліну яны спалохаліся, схаваліся, а некаторыя нават пачалі сумнявацца: «А мы спадзяваліся, што Ён мае аднавіць Ізраіль» (Лк 24, 21).

Сярод усёй гэтай масы людзей выдзялялася невялікая група жанчын. Яны таксама хадзілі за Хрыстом, чулі, як Ён навучаў пра Бога, нябеснага Айца; бачылі Ягоную спагаду да людзей, да іхніх слабасцяў і цяжкасцяў; былі сведкамі таго, як Ён вярнуў удаве памерлага сына; адмовіўся асудзіць жанчыну, злоўленую на граху; і, нават вісячы на крыжы, маліўся: «Ойча, прабач ім, бо яны не ведаюць, што робяць» (Лк 23, 24). Магчыма, не так

розумам, як сэрцам яны адчулі, што тут нехта большы за звычайнага чалавека. Яны балюча перажылі несправядлівасць таго, што зрабілі з Ім правадыры іхняга народа, засудзіўшы Яго на ганебную смерць, быццам злачынцу, і зрабіўшы ўсё, каб памяць пра Яго не засталася сярод людзей.

І вось гэтыя жанчыны, перамогшы страх, вырашылі зрабіць Хрысту апошнюю паслугу: памазаць цела Ягонае духмянымі алейкамі. Яны не чакалі нічога для сябе, апрача прыкрасцяў і небяспекі. Дый што можна было чакаць ад памерлага? Гэта быў акт бескарыслівай і безумоўнай любові. Гэта быў таксама акт маральнай мужнасці, якая ў атмасферы агульнага страху і варожасці ставіць тое, што ўважае сваім абавязкам, вышэй за асабістую бяспеку.

Сталася нечаканае: жанчыны пайшлі зрабіць апошнюю паслугу памерламу і замест смерці знайшлі Жыццё. Яны сталіся першымі з тых, хто абвясціў свету пра паўстанне з мёртвых Хрыста і пачатак новага жыцця ў Богу ўсяго роду людскога.

На пытанне «Ці быў ты там, калі ўкрыжавалі Госпада?» кожны з нас павінен даць свой адказ.

На гэтым месцы я хацеў бы толькі прыгадаць невялікую групу беларускіх юнакоў і дзяўчат, якія ўжо паўгода як трымаюць варту ў Курапатах, каб захаваць ад прафанацыі месцы пахавання тысяч дачок і сыноў беларускага народа — нявінных ахвяраў тых, хто на іхніх касцях будаваў «светлую будучыню» для ўсяго чалавецтва. Жаданнем тых, хто іх забіваў, было пазбавіць іх не толькі жыцця, але і людское годнасці ды месца ў памяці наступных пакаленняў.

Кожнае параўнанне хавае ў сабе небяспеку быць не так зразуметым. Тым не менш асмелюся выказаць думку, што ёсць падабенства між жанчынамі, якія прыйшлі на магілу Хрыста, і абаронцамі Курапатаў. Сваім учынкам і годнымі паводзінамі яны ратуюць гонар беларускага народа. У гэты светлы велікодны дзень хочацца пажадаць, каб яны сталіся вестунамі лепшай будучыні, калі беларусы побач з іншымі народамі свету зоймуць сваё належнае месца ў валадарстве Таго, хто сваёй смерцю перамог смерць.

Хрыстос уваскрос!

***2002***

# СУПАКОЙ НА ЗЯМЛІ

*Каляднае пасланне айца Аляксандра Надсана, апостальскага візітатара для беларусаў замежжа*

> Вось Дзіця нарадзілася нам, Сын быў дадзены нам: улада спачыла на ягоных плячах. І дадуць яму імя: Анёл вялікай рады, дзіўны дарадчык, Бог магутны, Уладар, Князь супакою, Айцец будучага веку
>
> ***Іс 9, 5***

Калядныя святы прыходзяць з занудлівай рэгулярнасцю кожны год ужо праз колькі стагоддзяў. Столькі словаў было сказана пра гэтае свята, столькі прыгожых песняў створана, што, здавалася б, ужо не засталося нічога новага сказаць. Дый ці трэба высільвацца на нешта новае, ці не варта часам затрымацца і ўдумацца ў старое, ужо сказанае, як, прыкладам, толькі што прыведзеныя словы прарока Ісаі, якія былі сказаныя больш за семсот гадоў да нараджэння Хрыста.

«Дзіця нарадзілася нам…» Што можа быць больш бездапаможным, больш бяскрыўдным і адначасова больш нявінным, як нованароджанае дзіцятка? Ягонае існаванне цалкам залежыць ад іншых людзей, у першую чаргу бацькоў. І трэба мець сапраўды закамянелае сэрца, каб не адчуць цеплыні і спагады, калі гэтая маленькая істота працягвае да цябе даверліва свае ручкі.

«Улада супачыла на ягоных плячах». І вось гэты Уладар сам добравольна аддаецца ў рукі сваіх падуладных, як бездапаможнае дзіцятка. Ён адмаўляецца ад якой-колечы сілы ці прымусу. Ён хоча людскіх сэрцаў, каб у іх устанавіць сваё валадарства. А тут ніякі прымус не дапаможа, бо сэрца даецца толькі дабравольна.

Такім чынам, Госпад Ісус Хрыстос ад самага пачатку адмаўляецца ўжываць сілу і прымус. Ягонае валадарства перш за ўсё ў сэрцах людскіх: «Валадарства Божае ўнутры нас» (Лк 17, 21). Ён ведаў, што той, хто пойдзе за ім дабравольна, дзеля любові да Яго, будзе старацца жыць і паступаць так, як Ён, паводле словаў святога апостала Паўла: «Хай у вас будуць тыя самыя пачуцці, што ў Хрысце Ісусе» (Флп 2, 5). У святле гэтага зразумелымі стаюцца на першы погляд парадаксальныя словы святога Аўгусціна: «Любі і рабі, што хочаш».

Не ведаю, ці зразумелі гэта валадары гэтага свету, але яны адчулі ў гэтым малым дзіцятку небяспеку для сябе і зрэагавалі

ў адзіны спосаб, які яны ведалі: вырашылі знішчыць Яго. І хоць ім гэта тады не ўдалося, яны прынеслі шмат гора і цярпенняў іншым, ні ў чым не вінным, людзям. Але для іх гэта было няважна, гэта былі непазбежныя ахвяры дзеля гэтак званага «агульнага дабра». У сучаснай ваеннай тэрміналогіі гэта называецца далікатна «lateral damage (пабочныя страты)». Бяда толькі, што ахвярамі гэтага пабочнага пашкоджання ніколі не бываюць кіраўнікі, а толькі іхнія падуладныя.

Праблемы, якія існавалі на свеце ў часы Хрыста, засталіся і ў наш час, толькі яны набралі жахлівы, глабальны характар. Досыць глянуць на краіну, дзе нарадзіўся Хрыстос, дзе ўжо амаль паўстагоддзя ідуць намаганні сілаю ўстанавіць «супакой» і «пабочныя страты» дасягаюць дзясяткаў, калі не сотняў тысячаў бязвінных ахвяраў.

У некаторых дзяржавах улады хочуць панаваць нават над думкамі і душамі сваіх падуладных, і яны не супраць выкарыстоўваць дзеля гэтага тых, якія лічаць сябе духоўнымі правадырамі і настаўнікамі народа. Сумна тое, што знаходзяцца духоўныя правадыры, гатовыя шукаць падтрымкі ў свецкай улады, каб укрыжаваць Яго. Яны не разумелі, як і не разумеюць у наш дзень іхнія пераемнікі, што ёсць рэчы, дзе ўсялякі прымус бяссільны. Прыгадаем словы гусляра ў паэме Янкі Купалы «Курган»:

Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць,
Не скуеш толькі дум ланцугамі.

Сёння мы глядзім з непакоем на нашых дзетак і думаем, якая будучыня іх чакае. Хрыстос прыйшоў на свет як дзіцятка і працягваў рукі, каб знайсці месца ў нашых сэрцах. Ён робіць гэта і ў наш час. Але дзверы сэрца адчыняюцца толькі знутры. А «сэрца вашае, дзе скарб ваш» (Мц 6, 11).

У гэты святы дзень Нараджэння Хрыстовага, жадаю ўсім знайсці свой скарб, які б стаўся асноваю лепшай будучыні для нашых дзетак, для нашай краіны і для ўсяго свету.

Хай Князь супакою, Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос, які дзеля нас нарадзіўся ў Віфлееме, блаславіць вас і будзе заўсёды з вамі.

*2002*

# ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА

Няхай тое ў вас думаецца, што ў Хрысце Ісусе.

***Флп 2, 5***

Адной з найбольш урачыстых сцэнаў у Евангеллі ёсць, без сумневу, уваход Хрыста ў Іерусалім. Адчуваецца святочны настрой, атмасфера радаснага чакання нечага новага і вялікага: натоўп, што выйшаў насустрач Хрысту, вітаў Яго воклікамі «Асанна! Блаславёны той, хто прыходзіць у імя Госпада». Сярод гэтай радаснай мітусні адзін Хрыстос застаецца спакойны, засяроджаны: магчыма, Ён думаў, колькі з гэтых людзей, якія яго так радасна сустракаюць, будуць праз пяць дзён на іншым месцы крычаць: «Укрыжуй Яго!»

Ён не меў ніякіх ілюзіяў адносна вартасці людской славы, бо ведаў, як спрытны дэмагог можа пакіраваць настроем натоўпу ў патрэбным яму кірунку, а пасля казаць, што выконвае «волю народа».

Тыя, што падбухторылі народ дамагацца Ягонай смерці, уважалі сябе духоўнымі правадырамі народа. Гэта былі ўсе «прыстойныя» людзі, пабожныя, якія строга выконвалі ўсе патрабаванні закону. Ім было незразумела, як Той, каго яны чакалі як Збаўцу, «еў з мытнікамі і грэшнікамі», а ім казаў: «Гора вам, кніжнікі і фарысеі, крывадушнікі, што даяце дзесяціну з мяты, кропу і кмену, а забыліся пра найважнейшае ў законе: справядлівасць, міласэрнасць і веру» (Мц 23, 23). Так самаўпэўненасць у сваёй праведнасці прывяла да забойства Праведнага.

У сваіх намаганнях знішчыць Хрыста духоўныя правадыры знайшлі супольную мову са свецкімі ўладамі. Іхні «саюз» быў замацаваны магілаю Хрыста, на якой адны паставілі свае пячаткі, а другія прыставілі варту да яе.

Але і адны, і другія памыліліся. Яны разважалі па-зямному. А Валадарства Хрыстова было «не ад гэтага свету» (Ян 18, 36), і таму змаганне за яго вялося не з дапамогай зямной зброі. Яно мела месца на Крыжы, калі Хрыстос, які вісеў на ім, здавалася б, у хвіліну сваёй найбольшай паразы, выйшаў пераможцам, споўніўшы волю свайго Айца Нябеснага. Гэтая Ягоная перамога з’яўляецца быццам новым актам тварэння, узнаўленнем усяго сусвету ў Богу і асновай нашай надзеі жыцця вечнага з Ім.

«Хадзіце да мяне, усе прыгнобленыя і спрацаваныя, і я супакою Вас» (Мц 11, 28). Гэтыя словы Хрыста павінны быць для нас усіх асноваю нашай непахіснай надзеі. Хрыстос сваёй перамогай на Крыжы адчыніў нам дарогу да Божага ўсынаўлення. Ён нікога не адкідае, у ягоным сэрцы ёсць месца для ўсіх. Аднак Ён таксама не прымушае нікога сілаю, але хоча, каб мы самі прыйшлі да Яго на кліч нашых сэрцаў. Гэта варта памятаць усім нам, асабліва духоўным правадырам, каб не паддацца спакусе шукаць падтрымкі збоку, у свецкіх уладаў, за кошт іншых. Трэба спадзявацца, што часы, калі «айцы дубінай заганялі нас у рай», як казаў Якуб Колас, ужо мінулі. У нас павінны быць тыя самыя пачуцці, што і ў Госпада Ісуса Хрыста. Нашыя рэлігійныя перакананні не павінны перашкаджаць шанаваць і старацца зразумець іншых, ведаючы, што іхнія перакананні ёсць такія дарагія для іх, як нашыя для нас. Таму мы не маем права зневажаць іх, нават калі мы з імі не пагаджаемся. А Хрыстос, які памёр за нас усіх і ўваскрос, каб нам даць дарогу да Божага ўсынаўлення, залечыць нашыя раны і зробіць у сваім часе, каб была «адна аўчарня і адзін пастыр» (Ян 10, 16).

*2003*

## ПРА ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ СПРАВЫ

Нядаўна я атрымаў ліст, заадрасаваны проста «The Priest» (Святару). Аўтар ліста, не падаючы свайго прозвішча, пісаў: «Мы жывём па суседстве, і нам балюча бачыць, як цяжка вам хадзіць… Хочам параіць вам лекі…»

Сацыёлагі часта называюць сучасны вялікі горад асфальтавымі джунглямі, дзе людзі могуць жыць гадамі побач, не ведаючы адзін аднаго. Таму я быў моцна ўзрушаны гэтым лістом. Не столькі лекарскімі парадамі, як увагаю да патрэбаў іншага і жаданнем прыйсці з дапамогаю. Міжволі прыйшла на памяць прыпавесць пра добрага самараніна.

Мы жывём у часе, калі ўвесь свет стаў адной вялікай вёскай, і таму ўзнікаюць пытанні палітычнага і эканамічнага ладу, сацыяльнай справядлівасці, аховы асяроддзя і г. д., якія датычаць усіх нас. Для іхняга вырашэння патрэбны больш шырокі, часта глабальны падыход. Трэба, аднак, мець на ўвазе, што такі падыход, пры ўсёй сваёй неабходнасці, хавае ў сабе небяспеку дасягаць дабра грамадства коштам дабра людской асобы.

Дабро грамадскай супольнасці — сям’і, нацыі, усяго чалавецтва — не можа быць нечым асобным ад дабра ейных складовых адзінак. Таму мэтай добраўпарадкаванай супольнасці ёсць стварэнне ўмоваў для як мага больш поўнага развіцця кожнай асобай дадзенага ёй Богам патэнцыялу аж да Боскага ўсынаўлення.

Шмат гадоў таму, калі яшчэ існаваў Савецкі Саюз і Беларусь была ягонай часткаю, я меў нагоду сустрэцца з адным вядомым беларусам, якому пашчасціла наведаць Захад. Як часта бывала ў такіх выпадках, у нас пайшла гутарка пра долю беларускага народа, пра цяжкае становішча, у якім апынуліся беларуская мова і культура. Раптам нашу гутарку перарваў тэлефонны званок: сям’я аднаго беларуса паведамляла мне пра смерць бацькі і прасіла прыехаць пахаваць яго. Яны жылі далёка, а якраз здарылася строгая зіма, дарогі былі пакрытыя галалёдам, і грамадскі транспарт амаль не хадзіў. Я быў у клопаце, бо не ведаў, як мне дабрацца ў час да гэтай сям’і. Мой суразмоўца нейкі час маўчаў, але было бачна, што нерваваўся. Нарэшце ўсклікнуў: «Народ церпіць і гіне, а вы хвалюецеся, што нехта недзе памёр». Мне стала прыкра, я разгубіўся і адразу не ведаў, што адказаць. Безумоўна, гутарка з гэтым чалавекам пра цяжкую долю нашага народа страціла для мяне цікавасць. Я зразумеў, што нельга заўсёды складаць на вонкавыя абставіны віну за цяжкасці і няшчасці, якія нас сустракаюць: часта мы іх ствараем самі, асабліва сваім нячулым і безуважлівым стаўленнем да іншых людзей.

Хрыстос, наш Бог і Збаўца, прыйшоў у свет, каб збавіць яго. Прыйшоў Ён не ў Боскай славе і сіле, але як бездапаможнае дзіцятка, якое залежыць ад спагады іншых. Мусіць, гэткім чынам Ён нам нагадвае: перад тым як брацца за вялікія справы, пастараемся бачыць маленькія патрэбы тых, што блізка нас.

Для Дзіцяткі Хрыста і Ягонай Маці не знайшлося месца сярод людзей. Няхай жа Ён знойдзе месца ў нашых сэрцах і зробіць нас чулымі да патрэбаў нашых блізкіх, памятаючы словы Збавіцеля: «Усё, што вы зрабілі аднаму з маіх найменшых братоў, — мне зрабілі» (Мц 25, 40).

Вось гэтымі думкамі мне хацелася б падзяліцца з вамі, дарагія чытачы, у гэты святы Калядны час і пажадаць вам ласкі Божай і шчасця ў новым, 2004 годзе.

***2004***

## «НЕ ЗГАСІЦЬ ВАМ ПРАЎДЫ ЯСНАЙ…»
### *Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана*

Нядаўна мне давялося пачуць па радыё, што ў Беларусі ўлады адмовіліся занесці ў афіцыйны рэгістр фільм пра Васіля Быкава. Я не бачыў гэтага фільма і таму не магу рабіць вывад пра яго мастацкую вартасць. Не разумею таксама, што гэта за рэгістр. Дый наогул, здавалася б, не варта надаваць гэтай справе вялікага значэння. Тым не менш недзе ў глыбіні душы не дае мне спакою думка, што некаторыя з «моцных гэтага свету» хацелі б, каб беларусы забыліся на гэтага вялікага пісьменніка і чалавека, які праз усё жыццё, нягледзячы ні на якія абставіны, заставаўся самім сабою і не ішоў на кампраміс са сваім сумленнем. Такія людзі звычайна невыгодныя ўладам, якія стараюцца «пахаваць» памяць пра іх. Гісторыя дае нам шмат прыкладаў.

Міжволі прыходзіць на думку тое, што здарылася амаль дзве тысячы гадоў таму назад, калі тыя, хто ўважаў сябе духоўнымі правадырамі народа, дамагліся смерці невыгоднага ім Чалавека, які гаварыў словы, прыкрыя для іх, але якога народ слухаў з захапленнем.

Для пэўнасці яны «забяспечылі магілу, прыклаўшы пячаткі да каменя і паставіўшы варту» (Мц 27, 66). У такі спосаб яны думалі, што расправіліся з ім назаўсёды. І памыліліся, бо разважалі чыста па-людску, не зразумеўшы, што магіла не магла ўтрымаць Таго — і ніякія пячаткі не былі ў стане схаваць праўды пра Яго — хто сказаў пра сябе: «Я ёсць Дарога, і Праўда, і Жыццё» (Ян 14, 6). Таму іхнія намаганні аказаліся дарэмнымі, як гаворыцца ў адной з царкоўных нядзельных песняў: «Хоць юдэі запячаталі магільны камень і жаўнеры сцераглі ўсячыстае цела Тваё, Ты ўваскрос на трэці дзень, Хрысце Спасе, даруючы свету жыццё». Дый пасля ўваскрасення тыя самыя правадыры стараліся не дапусціць весткі да народа і нават загадалі вучням Хрыста Пятру і Яну «не гаварыць пра імя Ісуса», на што атрымалі адказ: «Судзіце самі, ці справядліва перад Богам слухаць больш вас, чым Бога?» (Дз 4, 11–12).

Сёння свет, а з ім і Беларусь, перажывае не найлягчэйшыя хвіліны. І таму зусім заканамерна ўзнікае пытанне, што значыць для нас свята Уваскрасення Хрыстовага, якое мы збіраемся святкаваць. Калі б мяне папрасілі даць адказ у некалькіх словах, дык я б сказаў, што гэтае свята дае мне ўпэўненасць у канчатковай перамозе Праўды, якое нельга схаваць пад ніякімі пячацямі. Гэта тая Праўда, якая «зробіць нас свабоднымі» (Ян 8, 32), бо без яе мы сляпыя і не ў змозе зрабіць свабодны выбар.

Гэта тая Праўда, што паказвае нам дарогу да адзінай крыніцы сапраўднага жыцця — Госпада Ісуса Хрыста, якога магіла не магла ўтрымаць. Таму, нягледзячы на ўсе жыццёвыя цяжкасці і нягоды, мы вітаем адно аднаго ў гэты дзень словамі, поўнымі радасці і надзеі:

Хрыстос уваскрос!

*2004*

## ГОНАР І ГОДНАСЦЬ

*Каляднае пасланне айца Аляксандра Надсана*

У пачатку 1990-х гг. мінулага стагоддзя, калі век і здароўе дазвалялі мне браць больш актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, адна брытанская арганізацыя звярнулася да мяне з прапановаю супрацоўніцтва ў галіне гуманітарнай дапамогі для дзетак у Беларусі, асабліва тых, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. Адначасова яны паставілі ўмову, што разам з дапамогаю яны будуць распаўсюджваць сваю рэлігійную літаратуру. Прапанова была спакуслівая, бо арганізацыя распараджалася рэсурсамі, пра якія я мог толькі марыць. Тым не менш, разважыўшы ўсё, я адмовіўся ад супрацоўніцтва. Прычынай адмовы было маё нежаданне злоўжываць сваім становішчам: я ўважаў, што ў выпадку згоды дапамога перастала б быць бескарыслівай, яна б спалучалася з маральным націскам на дзяцей і іхніх бацькоў, якія знаходзіліся ў бездапаможным становішчы. Іншымі словамі, гэта быў бы маральны шантаж.

Сапраўдная дапамога будзе такой толькі тады, калі той, хто дае, не чакае ўзамен нічога, апрача дабра асобы ў патрэбе. Іншымі словамі, яна павінна адбывацца ў атмасферы пашаны да чалавечай годнасці.

Прыблізна ў тым самым часе мне прыйшлося чуць па радыё інтэрв’ю з Маці Тэрэзай з Калькуты, якую ўжо пры ейным жыцці многія ўважалі святой. Ейным пакліканнем была апека — часта ў апошнія хвіліны іхняга жыцця — над тымі, што апынуліся за бортам г. зв. прыстойнага грамадства, якое хацела забыцца пра іх. Маці Тэрэза расказвала пра аднаго чалавека, якога яна падабрала на вуліцы, калі той ужо быў пры смерці. Ейныя апошнія словы мяне вельмі ўразілі: «Як ён прыгожа паміраў!» Падумаўшы, я зразумеў, што яна хацела гэтым сказаць. Гэты чалавек, які праз увесь свой век не ведаў нічога, апроч абыякавасці, зняваг і пагарды з боку іншых, у апошнюю гадзіну свайго жыцця адчуў,

што ёсць нехта, каму ён дарагі, хто жадае яму дабра, не чакаючы нічога ўзамен. Яму было вернутае пачуццё ягонай чалавечай годнасці.

Вялікі ўсходні святы Максім Вызнаўца (580–662) пачынае адзін са сваіх твораў дыялогам, у якім малады манах пытаецца свайго духоўнага настаўніка: «Скажы мне, ойча, чаму Бог стаў чалавекам?»

Адказ можа быць шматгранны і доўгі. Таму тут хацелася б звярнуць увагу на адзін аспект, пра які так прыгожа сказаў святы Павал: «Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Сына. свайго, народжанага ад жанчыны, народжанага пад Законам, для адкуплення тых, што пад Законам, каб нам атрымаць усынаўленне… Такім чынам, ты ўжо не нявольнік, але сын. А калі сын, то і спадкаемца з волі Божай» (Гал 4, 4–7).

Іншымі словамі, тут ідзе гутарка пра «гонар і годнасць», пра якія (або пра знявагу якіх) можна часта чуць у наш час у Беларусі. Бог ушанаваў чалавека, аказаў яму вялікі гонар, сам стаўшыся ім. Адначасова Ён узвысіў яго да годнасці сына Божага, спадкаемцы Божага валадарства.

Калі не памыляюся, адзін з горкаўскіх герояў неяк сказаў: «Чалавек — гэта гучыць горда». У святле вышэйсказанага думаю, што ўсе мы можам падпісацца пад гэтым сказам, даючы яму толькі свой змест.

Гонар і годнасць, пра якія ідзе тут гутарка, не маюць патрэбы ў судовай абароне, яны не падлягаюць знявазе. Іхняе зразуменне, аднак, патрэбнае, каб сярод людзей настала тая «добра воля», пра якую спявалі анёльскія хоры ў час прыйсця на свет Сына Божага. І вось гэтага ўсведамлення жадаю ўсім нам у гэтыя вялікія і святыя дні, каб наступіў сапраўдны супакой на зямлі і каб мы маглі ўсе разам радасна аддаць хвалу Богу на вышынях.

*2004*

## СУПАКОЙ І СТАБІЛЬНАСЦЬ

*Велікодны зварот апостальскага візітатара для беларусаўкаталікоў замежжа а. Аляксандра Надсана*

Аднойчы ў Понтыя Пілата, калі той быў ужо старым «пенсіянерам», спыталі пра Ісуса Хрыста, якога ён у свой час аддаў укрыжаваць. Пілат меў быццам адказаць: «Ісус Хрыстос? Не прыгадваю такога імя». Такую гісторыю прыдумаў француз-

скі пісьменнік Анатоль Франс, мусіць, каб паказаць, што Ісус Хрыстос і ўсё, што здарылася з Ім, — гэта нязначны эпізод (калі ён наогул меў месца) у гісторыі чалавецтва, якому не варта надаваць вялікай вагі.

Прыдумана дасціпна, але жарт абярнуўся супраць самога аўтара. Праз дзве тысячы гадоў пасля згаданых падзей, мусіць, ніхто не памятаў бы пра Пілата, калі б не тое, што ён аддаў на смерць Таго, пра каго сам сказаў, што не знайшоў у Ім ніякае віны. Учыніў ён тое неахвотна, але… чаго не зробіш для агульнага дабра! Як высокі прадстаўнік тагачаснай улады, — у нашы дні яго б назвалі «вертыкальшчыкам», — ён быў адказны не столькі за супакой, колькі за «стабільнасць», або ўтрыманне ўстаноўленага ладу любым коштам.

Першае вымаганне справядлівасці — аддаць кожнаму належнае. Без гэтага не можа быць сапраўднага супакою. Кожны мае права дамагацца справядлівасці для сябе, пад умоваю не крыўдзіць іншых. Дамагацца справядлівасці для іншых, не шукаючы нічога для сябе, — гэта геройства. Аддаць жыццё за іншых — гэта акт сапраўднай любові.

Госпад Ісус Хрыстос сказаў: «Супакой пакідаю вам, супакой даю вам. Не такі, як дае свет. Хай не трывожыцца сэрца ваша» (Ян 14, 27).

Ён таксама сказаў: «Сын Чалавечы прыйшоў не каб Яму служылі, але каб паслужыць і аддаць жыццё сваё на адкупленне многіх» (Мк 10, 45).

Дзве тысячы гадоў мінула. І на свеце няма, бадай, месца, дзе б не чулі пра Хрыста. Стаўленне да Яго сярод розных людзей вельмі рознае, часта дыяметральна супрацьлеглае. Гэта зразумела, бо людзі ёсць людзьмі. Важна тое, што асоба і навука Хрыста не перастаюць турбаваць душы людзей. Хай жа Ён не дасць і нам «заснуць сном аспаласці», асабліва ў гэты Велікодны перыяд, каб мы, усвядоміўшы, што значыць для нас Уваскрасенне Хрыста, маглі сказаць разам са святым апосталам Тамашом: «Госпад мой і Бог мой» (Ян 20, 28).

Хрыстос уваскрос!

***2005***

## КРЫХУ ПРА СВАБОДУ

*Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана*

Хрыстос ўваскрос! Усюды радасць,
Усё глядзіць смялей, святлей;
Вялікі Мучанік, здаецца,
Абняў ўсіх ласкаю сваей.

Так Янка Купала ў кароткіх словах перадаў, як толькі ён умеў, радасць, якую адчувае кожны, хто зразумеў сутнасць Велікоднага свята.

Вялікдзень таксама называюць Пасхаю, словам габрэйскага паходжання, якое азначае «пераход». Пра гэта прыгожа кажа святы Ян Дамаскін у сваёй велікоднай песні: «Уваскрасення дзень, узрадуемся, людзі: Пасха, Гасподняя Пасха! Бо вось ад смерці да жыцця і ад зямлі да неба Хрыстос Бог перавёў нас, якія пяем песню перамогі».

Такім чынам, Вялікдзень — гэта свята пераходу ад няволі смерці да свабоды вечнага жыцця, свята аднаўлення ўсяго тварэння ў Хрысце Ісусе.

Радасць велікоднага свята не павінна даць нам забыцца на Вялікую Пятніцу, калі, здавалася, цёмныя сілы атрымалі поўную перамогу над Хрыстом, асудзіўшы яго на пакуты і крыжовую смерць, зняважыўшы і пазбавіўшы Яго ўсякай годнасці. Але яны памыліліся. Адзін з герояў аповесці Васіля Быкава так казаў пра палон: «У палоне чалавек губляе ўсё, што начапляла жыццё… Застаецца адно толькі пры ім — яго душа. Як у Ісуса». А сам Хрыстос сказаў: «Не бойцеся тых, што забіваюць цела, а душы забіць не могуць, а бойцеся болей таго, хто можа і душу, і цела згубіць у геене» (Мц 10, 28). Памылка ворагаў Хрыста была ў тым, што яны за дачаснымі зямнымі вартасцямі не бачылі вечных і духоўных. Таму яны былі бяссільныя супраць Хрыста, які, зняволены і зняважаны, захаваў свабоду душы і, вісячы на крыжы, маліўся за тых, што здзекаваліся з Яго: «Ойча, прабач ім. Бо яны не ведаюць, што чыняць».

Нядаўна ў Беларусі адбываліся падзеі, пра якія загаварыў увесь свет, калі сотні беларусаў, пераважна юнакоў і дзяўчат, апынуліся ў вязніцы за тое, што жадалі лепшай долі для свайго народа. Мяне ўразілі словы адной маладой пацярпелай, якая на пытанне карэспандэнта, як яна сябе адчувала ў турэмнай камеры, адказала (цытую з памяці): «Мы адчувалі сябе свабоднымі». Мне здаецца, што ў сваім разуменні свабоды яна, магчыма на-

ват не здаючы сабе з гэтага справы, вельмі блізка падышла да разумення сутнасці Вялікадня.

Дык вось такога разумення свабоды, што ідзе ў пары з духоўным разняволеннем, хочацца пажадаць усім нам у гэты радасны дзень Уваскрасення Хрыстова.

*2006*

## КРЫХУ ПРА ТАЛЕРАНТНАСЦЬ
*Каляднае пасланне*

З набліжэннем Калядаў вялікія і малыя гарады ў Англіі, дзе я жыву, прымаюць святочны выгляд: ялінкі на плошчах, вулічныя асвятленні і ўпрыгожанні, надпісы ў вокнах, якія жадаюць усім «Merry Christmas», што значыць — радаснага свята Нараджэння Хрыста. Усё гэта, магчыма, не мае асаблівага дачынення да сутнасці свята, але ставарае прыемнае пачуццё агульнай добразычлівасці і прыносіць усім шмат нявіннай радасці. Але вось у гэтым годзе ўладам аднаго вялікага горада такі радасны перадсвяточны настрой прыйшоўся недаспадобы, і яны вырашылі скасаваць усе публічныя праявы Калядаў. Яны апраўдвалі свой учынак тым, што ў шматкультурным і шматрэлігійным грамадстве хрысціянскае свята можа абражаць пачуцці шматлікіх нехрысціянаў — мусульманаў, індусаў і іншых, што жывуць у гэтым горадзе. І тут здарылася нечаканае. Самі нехрысціяне выказалі пратэст супраць гэтай пастановы і сказалі: «Калі ласка, не касуйце Калядных святкаванняў, нам яны вельмі падабаюцца».

Вось прыклад, як пад покрывам талерантнасці часта хаваюцца праявы нецярпімасці або абыякавасці.

Мы жывём у свеце, які становіцца ўсё больш глабальнай вёскай, дзе побач жывуць людзі розных расаў, нацыянальнасцяў, моваў, культураў і рэлігіяў. Усё гэта, з аднаго боку, робіць наша жыццё больш багатым. З другога боку, нягледзячы на адрознасці, мы ўсё больш пераконваемся ў адзінстве людскога роду. У пытаннях рэлігіі мы знаходзім таксама шмат супольнага і добрага ў іншых, а шчырая набожнасць многіх нехрысціянаў можа быць прыкладам для шмат каго з нас. Дый інакш быць не можа, бо ўсе рэлігіі маюць адну крыніцу — Бога, Творцу ўсяго. Тым не менш адрознасці існуюць, і таму, каб пазбегнуць небяспекі рэлігійнай абыякавасці, нам трэба асэнсаваць сутнасць нашай веры. Сёньняшняе свята якраз паказвае на ейны ўнікальны характар: Бог

сам стаецца адным з нас, каб даць нам магчымасць мець удзел у Ягоным Боскім жыцці.

Бог стаецца чалавекам і прыходзіць да нас не ў сіле і магутнасці, але як бездапаможнае немаўля, якое мае патрэбу нашай спагады і дапамогі. Гэта і ёсць сутнасць нашай рэлігіі. Можна сказаць, што Бог ушанаваў нас сваім з'яўленнем сярод нас і выказаў нам давер. Гэта ён пацвердзіў усім сваім далейшым жыццём і дзейнасцю на зямлі, аж да Крыжовай смерці. На жаль, сярод многіх ён не знайшоў разумення. «Да сваіх прыйшоў, і свае Яго не прынялі» (Ян 1, 11).

Святы Павал сказаў: «Хай у вас будуць тыя самыя пачуцці, што ў Хрысце Ісусе» (Флп 2, 5). Вось якраз гэтага чакаецца ад паслядоўнікаў Хрыста як на Каляды, так і праз усё жыццё. У нашым разрозненым грамадстве талерантнае стаўленне да іншых павінна абапірацца не на рэлігійную абыякавасць, але на глыбейшае асэнсаванне нашай веры і нашай супольнай апошняй мэты. А гэта азначае ў першую чаргу пашану адно да аднаго і адмаўленне ад ужывання гвалту і сілы не толькі фізічных, але і ў накіданні сваіх перакананняў іншым. Хрысціянін, які жыве сваёй верай, ніколі не будзе рабіць нічога крыўднага і абразлівага ў адносінах да таго, чыіх перакананняў ён не падзяляе. Безумоўна, ён хоча, каб усе прыйшлі да пазнання той радасці, якую дае вера ў Хрыста. Таму ён не будзе хаваць сваёй веры, а паступаць згодна з загадам Боскага Настаўніка: «Так хай свеціць вашае святло сярод людзей, каб людзі бачылі вашыя добрыя ўчынкі і ўславілі вашага Айца, што ў небе» (Мц 5, 16).

Вось гэтыя думкі хай будуць нам да развагі ў гэты светлы дзень Нараджэння Госпада і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста.

Хрыстос родзіцца: слаўце Яго!

*2006*

## ПРАЎДА І СВАБОДА

*Велікоднае пасланне апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў у замежжы айца Аляксандра Надсана*

Святы апостал Мацвей расказвае, як пасля ўваскрасення Хрыстовага тыя, што былі найбольш вінаватыя ў Ягонай крыжовай смерці, хацелі схаваць перад людзьмі Ягонае ўваскрасенне і, «параіўшыся, далі жаўнерам (што сцераглі магілу Хрыста) шмат грошай і сказалі: “Кажыце так: Ягоныя вучні прыйшлі ўночы і ўкралі Яго, калі мы спалі”» (Мц 28, 12–13).

Можна сказаць, што гэта быў прыклад спробы абмежавання свабоды сродкаў масавай інфармацыі, пра што так часта даводзіцца чуць у нашыя дні. І гэта зусім зразумела, бо кожны аўтарытарны рэжым, які жадае мець поўны кантроль над сваімі падуладнымі, баіцца праўды і таму ўводзіць цэнзуру на весткі, якія падаюцца да агульнага ведама. Хрыстос сказаў: «Праўда вас зробіць свабоднымі» (Ян 8, 32).

Насамрэч свабода — гэта перадусім магчымасць вольнага і свядомага выбару, зробленага з веданнем мэты, сродкаў і наступстваў.

Для лепшага разумення Хрыстос прыводзіць такі прыклад: «Хто з вас, жадаючы збудаваць вежу, не сядзе перш і не палічыць выдаткаў, ці мае дастаткова для завяршэння працы?» (Лк 14, 28). Іншымі словамі, сапраўдная свабода і праўда неразздзельныя: інакш гэта будзе свабода чалавека, якому завязалі вочы і сказалі, што ён вольны ісці, куды хоча.

Сённяшні дзень для нас асабліва дарагі і радасны. Сёння мы ўспамінаем, як Той, Хто сказаў пра Сябе: «Я — Дарога, і Праўда, і Жыццё» (Ян 14, 6), Сваім устаннем з мёртвых пасля пакутаў пратарнаваў нам дарогу да пазнання адзінай і апошняй Праўды — Бога, Які з’яўляецца крыніцаю і мэтаю жыцця.

Як спяваецца ў велікоднай песні: «Хрыстос уваскрос з мёртвых, смерцю смерць зваяваў і тым, што ў магілах, жыццё дараваў».

Дык будзем радавацца разам з уваскрослым Хрыстом!

***2009***



ФРАНЦЫСК СКАРЫНА.
З «МАЛОЙ ПАДАРОЖНАЙ КНІЖКІ»

## Малітва Імю Ісусаваму

Госпадзе Уладару Ісусе Хрысце, Творча і Божа наш, мы клічам імя святое Тваё і молімся Табе:
Ісусе, Сыне ўсячыстае Дзевы Марыі;
Ісусе, адзінае і спрадвечнае Слова Бога Айца;
Ісусе, супольнасць і любоў Духа Святога;
Ісусе, творча анёльскай прыроды;
Ісусе, Збавіцелю роду людскога;
Ісусе, праганіцелю бесаўства ўсякага:
Ісусе, змілуйся нада мною ў вялікай міласэрнасці Тваёй;
Ісусе, ачысці беззаконне маё ў бязмежнай дабраце Тваёй;
Ісусе, адпусці грахі мае;
Ісусе, прымі гэтыя малітвы мае:
О, салодкі Ісусе! О, любы Ісусе! О, ціхі Ісусе! Табе славу аддаем разам з Айцом і Усесвятым Духам на вякі вякоў. Амін.

## Малітва аб муках Госпада нашага Ісуса Хрыста

Госпадзе Ісусе Хрысце, Сыне Бога Жывога, Творча неба і зямлі, Збавіцелю роду людскога, вось я, грэшны і нягодны, успамінаю мукі Твае і дзякую Табе, Богу нашаму, што Ты захацеў сысці з пасаду Твайго нябеснага і збавіць нас ад вечных мукаў. Прыняўшы цела ад найчыстае Дзевы, будучы сам бесцялесным, Ты злучыў нашую цялесную прыроду з Боствам. Будучы багатым, Ты збяднеў дабравольна, каб нас зрабіць багатымі ў валадарстве Божым. Ты цярпеў сцюжу, спёку, голад, смагу і

нагату і ўзяў на сябе ўсе нашы цяжкасці, каб нас успамагчы ва ўсякай бядзе. Ты пасціўся сорак дзён і сорак начэй, паказаўшы нам шлях да ўстрыманасці. Ты быў спакушаны д'яблам, каб нас выбавіць ад спакусаў. Ведаю, Уладару, што ўсё гэта Табе непатрэбна было, але Ты пацярпеў дзеля нашага збаўлення. Ты быў прададзены Юдаю за трыццаць сярэбранікаў, каб нас выкупіць ад варожае сілы; быццам ягнё, быў схоплены неміласэрнымі людзьмі, каб нас з пашчаў ваўкоў духоўных выхапіць; стаў на судзе перад Аннаю і Каяфаю, каб нас ад суду вечнага вызваліць; быў звязаны, паніжаны, біты і аплёваны, абвінавачаны лжывымі сведкамі і асуджаны на смерць, каб вызваліць нас ад мукаў і вечнае смерці. Ты быў прыведзены як злачынец да Пілата, да Гэрада пасланы, на здзек апрануты ў чырвоную рызу, каб нас ад здзеку ворага вызваліць. Што дамо Табе за ўсё, што Ты ўчыніў для нас, грэшных? Нашы душы і целы, і ўсё, што маем, — ад Цябе, і на міласэрнасць Тваю спадзяемся.

Ты, што быў прывязаны да слупа і бязлітасна бічаваны, развяжы путы грахоў маіх; церневай каронай каранаваны, душы маёй церне выкарані; апрануты ў чырвоную вопратку і аддадзены мучыцелям, апрані маю душу ў вопратку страху Твайго. Да злачынцаў залічаны, крыжам Тваім, які Ты нёс на плячах сваіх, адгані ад мяне ворагаў, што шукаюць нашай загубы.

Бачу Цябе, Ісусе мой шматміласэрны, параненага, без здаровага месца ад галавы да ног, і што ж магу сказаць аб Тваім вялікім чалавекалюбстве, як толькі ўсклікнуць: змілуйся нада мною. Ты, што захацеў быць прыбітым да крыжа, прыгваздзі да запаветаў Тваіх сэрца маё; узняты разам з крыжам, узнімі да нябёсаў думкі мае; жоўцю і воцатам напоены, пагасі ўва мне слодыч грахоўную. О, дзіўная і невыказная глыбіня міласэрнасці! Ты маліў Бога Айца за ворагаў, якія Цябе распялі: дай і нам ласку любіць ворагаў нашых. Разбойніку, што пакаяўся, Ты рай адчыніў: глянь, Святы, на маё пакаянне і ўспомні мяне ў Тваім валадарстве. У канцы Ты аддаў у рукі Богу дух свой: прымі, Творча, дух мой у час горкае смерці маёй. Амін.

## Малітва да Найсвяцейшай Багародзіцы і Заўсёды Дзевы Марыі з пакорным і скрушлівым сэрцам

Прымі, Уладарка, малітву слуг Тваіх і збаў нас ад усякае патрэбы і суму. Ты, Багародзіца, — наша зброя і сцяна, Ты наша Заступніца; да Цябе прыбягаем, Цябе цяпер на малітву клічам, просячы выбавіць нас ад ворагаў нашых; і ўзвялічваем Цябе, усебеззаганную Маці Бога нашага, якую ацяніў Дух Святы.

## Малітва пабожная да Найсвяцейшае Багародзіцы Марыі

Радуйся, усесвятая Марыя, служэбніца жыццядайнае Тройцы;

Радуйся, духмяная лілея, улюбёная Тварца Бога Айца;

Радуйся, найчыстая Дзева, Маці Госпада нашага Ісуса Хрыста;

Радуйся, наймілейшая галубка, жаданая Пацяшыцеля Святога Духа;

Радуйся, найдастойнейшая Спадарыня, радасць хораў анёльскіх;

Радуйся, вежа непранікальная і мучэнне збораў бесаўскіх;

Радуйся, найпрыгажэйшая Дачка і развязанне граху Адамавага;

Радуйся, сільная вера і знішчэнне праклёну Евінага;

Радуйся, слаўная Уладарка, мэта ўсіх патрыярхаў;

Радуйся, існая Багародзіца, размнажэнне сыноў Ізраілевых;

Радуйся, усяхвальная слава і спаўненне ўсіх сказанняў прароцкіх;

Радуйся, мудрая галава і навучанне Хрыстовых апосталаў;

Радуйся, усясветлая хвала і ласка чатырох евангелістаў;

Радуйся, вялікая сіла і мужнасць святых мучанікаў;

Радуйся, любая цішыня і паўстрымлівасць пачэсных вызнаўцаў;

Радуйся, высокая сцяна і цярплівасць багалюбных манахаў;

Радуйся, ясная зорка і краса чыстых дзеваў;

Радуйся, ціхае прыстанішча і заступніца сірот і ўдоваў:

Будзь са мною ва ўсякай маёй патрэбе дзеля вялікай радасці, якую Ты мела пры зачацці Сына Божага; пачуй маю недастойную малітву і памажы мне ў суме маім. У рукі Твае аддаю самога сябе: захавай душу маю, аздараві цела маё, прасвятлі розум, напраў учынкі мае; накіруй думкі мае да Бога, сэрца маё ўма-

цуй у добрым; памяць наставі ў запаветах; накіруй вочы мае да неба; сумленне маё ачысці ад грахоў; аддалі ад мяне пажаданні цялесныя; адгані д’ябальскія спакусы; захавай ад агульнага сораму; вызваль ад нечаканае бяды, не дай прыйсці суму, жалю і роспачы; вызваль ад вечнага агню. Прымі ад мяне гэтую пахвалу, даючы мне ўзамен радасць духоўную і робячы мяне дастойным радасці вечнае.

Радуйся, поўная ласкі Марыя, Госпад з Табою на вякі вякоў! Амін.

## Малітва да вялікага сярод прарокаў пачэснага і ўсяхвальнага Прадвесніка і Хрысціцеля Госпадняга Яна

Цнатлівы Яне Хрысціцелю, выбраны ў целе анёле Божы, што прыйшоў перад аблiччам Госпада прыгатаваць Яму шлях: ты паказаў нам Ягнё Божае, Госпада нашага Ісуса Хрыста, які ўзяў на сябе грахі свету; ты хрысціў у Іардане нашага Збавіцеля і аб’явіў нам тайну жыццядайнае Тройцы; ты апярэдзіў Госпада нараджэннем, навучаннем і мучэннямі. Табе малюся: прымі ад мяне гэтыя малітвы і ўмалі Бога майго змілавацца над грэшнай душой маёй.

## ПСАЛТЫР ДАВІДА

### Псалом 1

1 Шчаслівы муж, што не ішоў за радай нязбожных, і на шляху грэшнікаў не стаяў, і ў таварыстве распуснікаў не сядзеў.
2 Але ў законе Госпаднім воля яго, і над законам Яго ён будзе разважаць дзень і ноч.
3 І будзе ён як дрэва, пасаджанае ля вытокаў вады, што дасць плод у свой час, і лісце якога не ападзе; ва ўсім, што ён робіць, будзе шчасціць яму.
4 Не гэтак нязбожныя, не гэтак: яны як пыл, які вецер змятае з твару зямлі.
5 Таму не ўстаяць нязбожныя на судзе, ані грэшнікі на радзе праведных.
6 Бо Госпад ведае шлях праведных, а шлях нязбожных згіне.

## Псалом 4

*Кіраўніку хору. На струнных прыладах. Песня Давіда*

[2] Калі я клікаў, Бог праведнасці маёй пачуў мяне. У бядзе Ты
вывеў мяне на прасцяг. Змілуйся нада мною і выслухай малітву
маю.
[3] Сыны людскія, дакуль будуць сэрцы вашыя ацяжэлымі?
Чаму любіце пустое і шукаеце няпраўду?
[4] Дык ведайце, што дзіву годнае ўчыніў Госпад праведніку
свайму; Госпад пачуе мяне, калі буду клікаць Яго.
[5] Гневайцеся, і не грашыце*; што кажаце ў вашых сэрцах, у
тым кайцеся на пасцелях вашых!
[6] Прынясіце ахвяру праведнасці і спадзявайцеся на Госпада.
[7] Многія кажуць: «Хто нам пакажа дабро?» Ззянне твару
Твайго, Госпадзе, стала яўным для нас.
[8] Ты даў радасць сэрцу майму, у той час як яны здаволіліся
плодам сваёй пшаніцы, віна і алею.
[9] Я лягу спаць у супакоі і засну, бо адзін Ты, Госпадзе, даў
мне жыць у надзеі.

## Псалом 5

*Кіраўніку хору. На духавых прыладах. Псалом Давіда*

[2] Да словаў маіх прыслухайся, Госпадзе, зразумей крык мой;
[3] будзь уважлівы да голасу малення майго, Уладару мой і
Божа мой! Бо да Цябе, Госпадзе, памалюся.
[4] На досвітку пачуй голас мой, на досвітку стану перад Табою
і буду чакаць.
[5] Бо Ты не такі Бог, што жадае беззаконня: нягоднік не пасе-
ліцца пры Табе.
[6] Беззаконныя не ўстаяць перад Тваімі вачыма; Ты неўзлюбіў
усіх, што чыняць бясчынствы;
[7] Ты знішчыш усіх, што кажуць няпраўду. Госпаду агідны
муж крывы і няшчыры.
[8] Я ж з вялікай ласкі Тваёй увайду ў дом Твой, пакланюся
святому храму Твайму ў страху перад Табою.
[9] Госпадзе, у справядлівасці Тваёй вядзі мяне, дзеля ворагаў
маіх выраўнуй шлях мой перад Табою.

---

* Пс 4, 5 — Эф 4, 26.

[10] Бо ў вуснах іх няма праўды, сэрца іх пустое, горла іх — магіла адкрытая, языкамі сваімі ліслівілі*.

[11] Судзі іх, Божа, хай абернуцца ў нішто намеры іх, дзеля безлічы бясчынстваў іх адкінь іх, бо яны прагнявілі Цябе, Госпадзе.

[12] І хай узрадуюцца ўсе, што спадзяюцца на Цябе, хай цешацца давеку, і Ты паселішся сярод іх. І будуць хваліцца Табою ўсе, што любяць імя Тваё.

[13] Бо Ты блаславіш праведніка, Госпадзе: быццам шчытом спагады Ты вянчаў нас.

## Псалом 14

*Псалом Давіда*

[1] Госпадзе, хто будзе прабываць у Тваім жыллі і хто паселіцца на гары святой Тваёй?

[2] Той, хто паводзіць сябе беззаганна, чыніць справядлівасць, гаворыць праўду ў сэрцы сваім;

[3] хто не хітрыў языком сваім, не рабіў зла бліжняму свайму і суседзяў сваіх не ганьбіў;

[4] хто за нішто лічыць таго, што чыніць зло, а хваліць тых, што баяцца Госпада; хто дае слова бліжняму свайму і не адракаецца;

[5] хто не даваў грошай сваіх на ліхву і не прымаў подкупу супраць бязвінных. Хто так робіць, не пахіснецца давеку.

## Псалом 22

*Псалом Давіда*

[1] Госпад пасе мяне, і ні ў чым не буду мець нястачы:

[2] на зялёнай пашы — там Ён пасяліў мяне, ля ціхай вады ўзгадаваў мяне,

[3] навярнуў душу маю, накіраваў мяне на правыя сцежкі дзеля імя свайго.

[4] І калі нават пайду ў ценю смерці, не збаюся зла, бо Ты са мною. Жазло Тваё і посах Твой — яны мяне суцешылі.

[5] Ты падрыхтаваў стол для мяне насуперак тым, што праследуюць мяне, алеем памазаў галаву маю; і чаша Твая, што напойвае мяне, як выдатная яна!

[6] І міласць Твая будзе ісці следам за мною праз усе дні жыцця майго, і пасялюся ў доме Гасподнім на доўгія дні.

---

* Пс 5, 10 — Рым 3, 13.

## Псалом 26

*Псалом Давіда перад памазаннем*

1 Госпад — святло маё і збаўца мой: каго мне баяцца? Гос-
пад — ахоўнік жыцця майго: перад кім мне дрыжаць?
2 Калі набліжаліся да мяне злачынцы, каб з’есці цела маё, —
прыгнятальнікі мае і ворагі мае, — яны знемагліся і ўпалі.
3 Таму, калі выстраіцца полк супраць мяне, сэрца маё не
збаіцца; калі пойдуць на мяне з вайною, на тое самае спадзяюся.
4 Аднаго прасіў я ў Госпада, таго буду шукаць: каб мне жыць
у доме Гасподнім праз усе дні жыцця майго, каб мне сузіраць
красу Гасподнюю і наведваць храм Яго.
5 Бо ў дзень бяды маёй Ён схаваў мяне ў шатры сваім, даў
прытулак у тайным месцы жылля свайго, на скале паставіў мяне.
6 І вось цяпер Ён узнёс галаву маю на ворагаў маіх. Я абышоў
вакол і прынёс ахвяру хвалы ў шатры Яго. Буду пець і выслаў-
ляць Госпада.
7 Пачуй, Госпадзе, голас мой, якім я клікаў; змілуйся нада
мною і выслухай мяне.
8 Сэрца маё сказала Табе: «Госпада шукаць буду». Твар мой
шукаў Цябе; твар Твой, Госпадзе, буду шукаць.
9 Не адвярні твару Твайго ад мяне, і ў гневе не ўхіляйся ад
слугі Твайго. Будзь мне памочнікам, не адкінь мяне і не пакінь
мяне, Божа, Збаўца мой.
10 Бо бацька мой і маці мая пакінулі мяне, а Госпад мяне
прыняў.
11 Закон дай мне, Госпадзе, на шляху Тваім, і накіруй на
простую сцежку з увагі на ворагаў маіх.
12 Не аддай мяне на волю тых, што пераследуюць мяне, бо
няправедныя сведкі паўсталі супраць мяне, і няпраўда схлусіла
сама сабе.
13 Веру, што ўбачу даброты Госпада на зямлі жывых.
14 Спадзявайся на Госпада і будзь мужны; хай мацнее сэрца
тваё, і ўскладай надзею на Госпада.

## Псалом 32

*Псалом Давіда*

1 Радуйцеся, праведныя, у Госпадзе: пахвала належыць
праведным.
2 Слаўце Госпада на гуслях, на дзесяціструнным псалтыры
грайце Яму.
3 Заспявайце Яму новую песню, грайце Яму стройна, ус-
клікаючы,
4 бо слова Гасподняе правае, і верныя ўсе ўчынкі Яго.
5 Госпад любіць міласэрнасць і суд. Міласці Гасподняй поў-
ная зямля.
6 Словам Гасподнім умацаваліся нябёсы, і подыхам вуснаў
Яго ўся сіла іх.
7 Ён, быццам мех, збірае марскія воды, у сховішчах трымае
бездані.
8 Хай уся зямля баіцца Госпада, хай хвалююцца ад Яго ўсе
жыхары свету,
9 бо Ён сказаў, і яны сталіся; Ён загадаў, і былі створаныя.
10 Госпад разбурае намеры народаў, адмяняе задумы людзей
і адкідае намеры князёў.
11 А воля Гасподняя трывае вечна, задумы сэрца Яго — з
пакалення ў пакаленне.
12 Шчаслівы народ, у якога Госпад ёсць Бог яго, — людзі,
якіх Ён выбраў спадчынай сабе.
13 Госпад з неба глянуў, Ён убачыў усіх сыноў людскіх;
14 з гатовага жылля свайго глянуў на ўсіх жыхароў зямлі
15 Той, хто сэрцы іх паасобку стварыў і хто разумее ўсе
ўчынкі іх.
16 Не ўратуецца кароль вялікай сілаю, і не збавіцца волат
веліччу магутнасці сваёй.
17 Ненадзейны конь для ратунку, і вялікай сілаю сваёю не
збавіцца ён.
18 А вочы Госпада на тых, што баяцца Яго, што спадзяюцца
на Яго міласць,
19 каб выратаваць ад смерці душы іх і даць ім спажыву ў час
голаду.
20 Душа наша чакае Госпада, бо Ён наш памочнік і абаронца,
21 бо ў Ім узрадуецца сэрца наша, і мы ўсклалі надзею на імя
святое Яго.
22 Хай міласць Твая, Госпадзе, будзе на нас, бо мы ўсклалі
надзею на Цябе.

## Псалом 34

*Псалом Давіда*

1 Судзі, Госпадзе, тых, што крыўдзяць мяне, паразі тых, што
ваююць супраць мяне.
2 Вазьмі зброю і шчыт і ўстань мне на дапамогу.
3 Выцягні меч і перакрый дарогу тым, што гоняцца за мною,
скажы душы маёй: «Я збаўленне тваё».
4 Хай сумеюцца і засаромеюцца тыя, што шукаюць душы
маёй; хай павернуцца назад і збянтэжацца тыя, што надумваюць
зло супраць мяне.
5 Хай будуць, як пыл перад тварам ветру, і анёл Гасподні хай
паразіць іх.
6 Хай дарога іх будзе цёмная і слізкая, і анёл Гасподні хай
гоніць іх.
7 Бо яны без прычыны паставілі ўпотай сецць сваю мне на
загубу, дарэмна ганьбілі душу маю.
8 Хай сецць, пра якую не ведаюць, прыйдзе на іх, і пастка, якую
ўпотай паставілі, зловіць іх; і хай упадуць у тую самую сецць.
9 А душа мая ўзрадуецца ў Госпадзе, усцешыцца збаўленнем
Яго.
10 Усе косці мае скажуць: «Госпадзе, хто падобны да Цябе? Ты
ратуеш беднага ад рукі больш сільных за яго, і беднага і ўбогага
ад рабаўнікоў яго».
11 Няправедныя сведкі, што ўсталі супраць мяне, дапытвалі
мяне пра тое, чаго не ведаў.
12 За дабро адплацілі мне злом і спусташэннем душы маёй.
13 А я, калі яны прыцясняді мяне, адзяваўся ў зрэб’е і ўпа-
корваў пастом душу маю, і малітва мая вернецца ва ўлонне маё.
14 Як бліжняму, як брату нашаму, так я дагаджаў ім; як той,
што плача і сумуе, так я ўпакорваўся.
15 А яны пацяшаліся і змовіліся супраць мяне, збіраліся біць
мяне, а я не ведаў; разышліся і не апамяталіся.
16 Спакушалі мяне, пагардліва насміхаліся з мяне, скрыгаталі
на мяне зубамі сваімі.
17 Госпадзе, як доўга будзеш глядзець? Выбаў душу маю ад
злосці іх, ад львоў адзіную маю!
18 На вялікім сходзе буду дзякаваць Табе, сярод шматлікага
народу буду славіць Цябе.

[19] Хай не пацяшаюцца з мяне тыя, што варагуюць няправедна
супраць мяне, што ненавідзяць мяне без прычыны* і моргаюць
вачыма.
[20] Бо яны мне гаварылі пра мір, а ў злосці задумалі здраду.
[21] Раскрывалі супраць мяне вусны свае, казалі: «Так, так! Мы
бачылі на свае вочы!»
[22] Ты бачыў, Госпадзе, дык не змаўчы! Госпадзе, не аддаляйся
ад мяне!
[23] Устань, Госпадзе, і ўваж суд мой, справу маю, Госпадзе
мой і Божа мой!
[24] Судзі мяне, Госпадзе, у справядлівасці Тваёй: Госпадзе
Божа мой, хай не пацяшаюцца з мяне;
[25] хай не скажуць у сэрцах сваіх: «Добра, добра душы нашай»
і хай не скажуць: «Мы яго праглынулі».
[26] Хай сумеюцца і засаромеюцца тыя, што цешацца з маіх
няшчасцяў; хай пакрыюцца сорамам і ганьбаю ўсе, што шмат
нагаворваюць на мяне.
[27] Хай усцешацца і ўзрадуюцца тыя, што жадаюць мне спра-
вядлівасці, і хай тыя, што жадаюць супакою слузе Яго, кажуць
заўсёды: «Хай узвялічыцца Госпад!»
[28] А язык мой будзе разважаць аб праведнасці Тваёй, увесь
дзень — аб хвале Тваёй.

## Псалом 41

*Кіраўніку хору. Навука. Сыноў Карэевых*

[2] Як імкнецца алень да водных крыніцаў, так душа мая імк-
нецца да Цябе, Божа.
[3] Душа мая сасмягла па Богу жывым: калі ж прыйду і яўлюся
перад абліччам Бога?
[4] Слёзы мае сталі мне хлебам удзень і ўночы, калі мне штодня
казалі: «Дзе Бог твой?»
[5] Я прыгадаў гэта і выліў душу маю перад сабою, што вось
пайду да месца дзівоснай сядзібы, да дому Божага, з песняю
радасці і падзякі, пад гоман святочнай грамады.
[6] Чаму ты сумная, душа мая, чаму трывожыш мяне? Спадзя-
вайся на Бога, бо я буду дзякаваць Яму: Ён — збаўленне аблічча
майго і Бог мой.
[7] Душа мая ўстрывожылася ўва мне, дзеля гэтага я прыгадаю
Цябе з зямлі Іарданскай і Гермонскай, з малой гары.

* Пс 34, 19 — Ян 15, 25.

[8] Бездань кліча бездань пад грымоты Тваіх вадаспадаў: усе Тзае валы і хвалі хлынулі на мяне.
[9] Удзень Госпад явіць міласць сваю, а ўночы песня Яму ад мяне, малітва да Бога жыцця майго.
[10] Скажу Богу: «Ты мой заступнік: чаму Ты забыў мяне? Чаму хаджу сумны ў той час, як вораг прыгнятае мяне?»
[11] Крышачы косці мае, мучыцелі мае ганьбілі мяне, кожны дзень казалі мне: «Дзе Бог твой?»
[12] Чаму ты сумная, душа мая, чаму трывожыш мяне? Спадзявайся на Бога, бо я буду дзякаваць Яму: Ён збаўленне аблічча майго і Бог мой.

## Псалом 50

*Начальніку хору. Псалом Давіда,*
*калі прыйшоў да яго прарок Натан,*
*пасля таго як Давід зышоўся з Баршэбай*

[3] Змілуйся нада мною, Божа, паводле Тваёй вялікай міласэрнасці і паводле мноства дабротаў Тваіх загладзь беззаконне маё.
[4] Асабліва абмый мяне ад беззаконня майго і ад граху майго ачысці мяне.
[5] Бо беззаконне маё я знаю і грэх мой заўжды перада мною.
[6] Табе адзінаму я зграшыў і зло перад Табою ўчыніў, так што Ты правы ў словах Тваіх, і пераможаш, калі давядзецца судзіцца Табе*.
[7] Вось я быў зачаты ў беззаконнях, і ў грахах нарадзіла мяне маці мая.
[8] Але Ты, які палюбіў праўду, паказаў мне глыбіню і тайны мудрасці Тваёй.
[9] Акропіш мяне гісопам, і стану чысты, абмыеш мяне, і стану бялейшы за снег.
[10] Дасі мне пачуць голас радасці і вяселля, і ўзрадуюцца ўпакораныя косці.
[11] Адвярні твар Твой ад маіх грахоў і загладзь усе беззаконні мае.
[12] Сэрца чыстае ствары ўва мне, Божа, і дух правы абнаві ў нутры маім.
[13] Не адкінь мяне ад Твайго аблічча і Духа Твайго Святога не адымі ад мяне.

* Пс 50, 6 — Рым 3, 4.

[14] Вярні мне радасць Твайго збаўлення і духам уладарным умацуй мяне.
[15] Буду навучаць беззаконнікаў шляхоў Тваіх, і нязбожныя вернуцца да Цябе.
[16] Вызвалі мяне ад крыві пралітай, Божа, Божа майго збаўлення: язык мой будзе радасна славіць Тваю справядлівасць.
[17] Адчыніш вусны мае, Госпадзе, і вусны мае пачнуць абвяшчаць хвалу Тваю.
[18] Калі б Ты захацеў ахвяры, я даў бы яе: на цэлапаленні Ты не глядзіш прыхільна.
[19] Ахвяра Богу — дух скрушлівы: сэрцам скрушлівым і ўпакораным Бог не пагардзіць.
[20] Ашчасліў, Госпадзе, у спагадлівасці Тваёй Сіён, і хай муры Іерусаліма будуць зноў узнесеныя.
[21] Тады глянеш прыхільна на правую ахвяру, прынашэнне і цэлапаленні: тады ўскладуць цялят на Твой ахвярнік.

## Псалом 69

*Кіраўніку хору. Псалом Давіда на ўспамін аб збаўленні*

[2] Божа, просьбу маю аб дапамозе ўваж; Госпадзе, паспяшы з дапамогаю мне.
[3] Хай засаромеюцца і збянтэжацца тыя, што шукаюць душы маёй! Хай павернуцца назад і сумеюцца тыя, што жадаюць мне зла!
[4] Хай павернуцца зараз назад пасаромленыя тыя, што кажуць мне: «Добра, добра».
[5] Хай радуюцца і цешацца ў Табе ўсе, што шукаюць Цябе, Божа, і хай тыя, што любяць збаўленне Тваё, кажуць заўсёды: «Хай узвялічыцца Госпад!»
[6] А я бедны і ўбогі: Божа, дапамажы мне. Памочнік і Збаўца мой, Госпадзе, не пазніся!

## Псалом 70

*Псалом Давіда, сыноў Іянадававых і першых палоненых*

[1] На Цябе, Госпадзе, усклаў я надзею: хай не пасаромеюся давеку.
[2] У справядлівасці Тваёй ратуй мяне і вызваль мяне, нахілі вуха Тваё да мяне і збаў мяне.

3 Будзь мне Богам заступнікам і месцам бяспечным, каб зба-
віць мяне, бо Ты моц мая і прытулак мой.
4 Божа мой, выбаў мяне ад рукі грэшніка, ад рукі беззаконніка
і крыўдзіцеля,
5 бо Ты — спадзяванне маё, Госпадзе, Госпадзе — надзея
мая ад маладосці маёй.
6 На Цябе абапёрся я ад улоння, ад нутра маці маёй Ты мой
апякун: пра Цябе хвалебная песня мая ўвесь час.
7 Я стаў нейкім дзівам для многіх, але Ты крэпкі памочнік
мой.
8 Хай мае вусны напоўняцца хвалою, каб мне пець славу
Тваю, увесь дзень — веліч Тваю.
9 Не адкінь мяне ў старасці, не пакінь мяне, калі сіла мая
саслабне.
10 Бо ворагі мае казалі мне, і тыя, што сачылі за душой маёй,
раіліся між сабою, кажучы:
11 «Бог пакінуў яго, ганіце і хапайце яго, бо няма таго, хто б
ратаваў яго».
12 Божа мой, не аддаляйся ад мяне; Божа мой, спяшайся мне
на дапамогу!
13 Хай сумеюцца і згінуць тыя, што ўзводзяць паклёп на душу
маю; хай пакрыюцца сорамам і ганьбаю тыя, што жадаюць мне
зла.
14 А я буду заўжды спадзявацца на Цябе і памнажаць над усё
хвалу Тваю.
15 Вусны мае будуць абвяшчаць Тваю справядлівасць, увесь
дзень — збаўленне Тваё, хоць я не пазнаў кніжнай навукі.
16 Увайду ў сіле Гасподняй; прыгадаю, Госпадзе, праведнасць
Цябе адзінага.
17 Ты, Божа, навучаў мяне ў маладосці маёй, і я дасюль апа-
вядаю пра цуды Твае.
18 І да старасці, і да веку пажылага, Божа, не пакідай мяне,
пакуль не зраблю вядомай моц пляча Твайго ўсяму наступнаму
пакаленню, —
19 магутнасць Тваю і справядлівасць Тваю, Божа, аж да
найвышэйшых велічных рэчаў, якія Ты стварыў. Хто, Божа,
падобны да Цябе?
20 Якія вялікія і лютыя беды явіў Ты мне! Але, павярнуўшыся,
Ты ажывіў мяне і з прадоння зямлі зноў вывеў мяне.
21 Ты памножыў на мне веліч Тваю і, павярнуўшыся, суцешыў
мяне і зноў вывеў мяне з прадоння зямлі.

[22] І таму буду дзякаваць Табе, на музычнай прыладзе буду
славіць праўду Тваю, Божа, на гуслях буду пець Табе, Святы
Ізраіля.
[23] Вусны мае ўзрадуюцца, калі буду пець Табе, і душа мая,
якую Ты вызваліў.
[24] Таксама і язык мой будзе ўвесь дзень разважаць аб Тваёй
справядлівасці, калі сумеюцца і асаромяцца тыя, што жадаюць
мне зла.

## Псалом 78

*Псалом Асафа*

[1] Божа, чужынцы прыйшлі ў набытак Твой, апаганілі святы
храм Твой, у склад гародніны ператварылі Іерусалім.
[2] Трупы слугаў Тваіх аддалі на спажыву птушкам нябесным,
звярам зямным — целы святых Тваіх.
[3] Пралілі кроў іх, як ваду, вакол Іерусаліма, і не было каму
пахаваць іх.
[4] Мы сталі ганьбаю для нашых суседзяў, смяхоццем і глумам
для тых, што вакол нас.
[5] Як доўга, Госпадзе, будзеш усё гневацца? Як доўга зайзд-
расць Твая будзе гарэць, як агонь?
[6] Вылі гнеў Твой на народы, якія не пазналі Цябе, на вала-
дарствы, якія не клікалі імя Твайго,
[7] бо яны пажэрлі Якуба і спустошылі месца яго.
[8] Не прыгадай даўніх беззаконняў нашых: хай хутка апя-
рэдзяць нас міласці Твае, Госпадзе, бо мы вельмі збяднелі.
[9] Дапамажы нам, Божа, Збаўца наш, дзеля хвалы імя Твайго,
збаў нас і ачысці грахі нашыя дзеля імя Твайго,
[10] каб часам народы не казалі: «Дзе Бог іх?» І хай на вачах
нашых стане вядомаю сярод народаў помста за пралітую кроў
слугаў Тваіх.
[11] Хай стогн вязняў дойдзе да Цябе; сілаю пляча Твайго за-
хавай бяспечнымі сыноў памардаваных.
[12] Аддай у сем разоў суседзям нашым у нутро іх знявагу, якою
яны Цябе, Госпадзе, зняважылі.
[13] А мы, людзі Твае і авечкі статку Твайго, будзем славіць
Цябе давеку і з роду ў род абвяшчаць хвалу Тваю.

## Псалом 90

*Хвалебная песня Давіда*

[1] Той, хто жыве з дапамогай Усявышняга, пад покрывам Бога нябеснага паселіцца;
[2] скажа Госпаду: «Ты мой заступнік, прытулак мой, Бог мой, і на Яго спадзявацца буду».
[3] Бо Ён выбавіць цябе ад сецяў лаўца і ад злоснага слова.
[4] Ён пакрые цябе плячамі сваімі, і пад крыламі Яго будзеш жыць бяспечна. Праўда Яго, як панцыр, ахіне цябе.
[5] Не збаішся жаху начнога, ні стралы, што ляціць удзень;
[6] ні страху, што ходзіць поцемкам; ні напасці і беса паўдзённага.
[7] Тысяча падзе побач з табою, і дзесяць тысяч праваруч цябе, але да цябе не наблізіцца.
[8] Ты толькі глянеш вачыма тваімі, і ўбачыш адплату грэшнікам.
[9] Бо ты сказаў: «Ты, Госпадзе — надзея мая». Усявышняга ты выбраў сабе за прытулак.
[10] Бяда не сустрэне цябе, і пошасць не наблізіцца да жытла твайго,
[11] бо Ён загадае анёлам сваім пра цябе сцерагчы цябе на ўсіх шляхах тваіх.
[12] На руках панясуць цябе, каб не спатыкнуцца аб камень назе тваёй*.
[13] На аспіда і васіліска наступіш і патопчаш льва і змяю.
[14] «Таму, што ён усклаў надзею на Мяне, Я выбаўлю яго і абараню яго, бо ён спазнаў імя Маё.
[15] Будзе клікаць Мяне, і Я пачую яго; буду з ім у дзень суму, выбаўлю яго і ўслаўлю яго.
[16] Доўгім жыццём напоўню яго і дам яму ўбачыць збаўленне Маё».

## Псалом 94

*Хвалебная песня Давіда*

[1] Прыйдзіце, узрадуемся Госпаду, усклікнем Богу, Збаўцу нашаму.
[2] Станем з удзячнасцю перад абліччам Яго, у песнях усклікнем Яму.

---

* Пс 90, 11–12 — Мц 4, 6; Лк 4, 10–11.

[3] Бо Госпад — Бог вялікі і Уладар магутны над усёй зямлёй;
[4] бо ў руцэ Яго ўсе канцы зямлі і вышыні гор належаць Яму;
[5] бо Ягонае мора, і Ён стварыў яго, і сушу рукі Яго ўчынілі.
[6] Прыйдзіце, паклонімся і прыпадзем да Яго, і заплачам перад
Госпадам, які нас стварыў;
[7] бо Ён Бог наш, а мы людзі статку Яго, авечкі рукі Яго.
[8] «Цяпер, калі пачуеце голас Яго, не рабіце цвёрдымі сэрцы
вашыя, як у час забурэння, у дзень спакусы ў пустыні,
[9] дзе бацькі вашыя спакушалі Мяне, выпрабоўвалі Мяне і
бачылі Мае дзеянні.
[10] Сорак гадоў Я быў гнеўны на гэты род, і сказаў: яны заў-
сёды блудзяць сэрцам, шляхоў Маіх не пазналі;
[11] таму Я пакляўся ў гневе Маім: яны не ўвойдуць да спа-
чынку Майго».*

## Псалом 95

*Хвалебная песня Давіда, калі будаваўся дом пасля палону*

[1] Спявайце Госпаду новую песню; спявай Госпаду, уся зямля!
[2] Спявайце Госпаду, блаславіце імя Яго, абвяшчайце з дня на
дзень збаўленне Яго.
[3] Расказвайце сярод народаў пра славу Яго, сярод усіх
людзей — пра цуды Яго!
[4] Бо вялікі Госпад і годны бязмежнай хвалы, больш страшны
за ўсіх багоў:
[5] бо ўсе багі паганаў — дэманы, а Госпад нябёсы стварыў.
[6] Хвала і краса перад Ім, святасць і веліч у святыні Яго.
[7] Прынясіце Госпаду, сем’і народаў, прынясіце Госпаду славу
і пашану;
[8] прынясіце Госпаду хвалу імю Яго, вазьміце ахвяры і ўва-
ходзьце ў двары Яго;
[9] пакланіцеся Госпаду ў двары святым Яго: хай ускалыхнецца
ад аблічча Яго ўся зямля.
[10] Скажыце між народаў: «Госпад пануе», бо Ён умацаваў су-
свет, што не пахіснецца. Ён будзе судзіць народы ў праведнасці.
[11] Хай радуюцца нябёсы, хай цешыцца зямля; хай захвалю-
ецца мора і ўсё, што напаўняе яго.
[12] Усцешацца палі і ўсё, што на іх; усе дрэвы дубровы тады
ўзрадуюцца

* Пс 94, 8–11 — Габ 3, 7–11. Вершы 8–9 — згадка пра падзеі, апі-саныя ў Кнізе Выхаду 17, 1–7.

[13] перад аблiччам Госпада, бо вось Ён iдзе, iдзе судзiць зямлю.
[14] Ён будзе судзiць сусвет справядлiва*, i людзей — згодна
з праўдаю сваёю.

## Псалом 99

*Псалом Давiда*

[1] Усклiкнiце Госпаду, уся зямля!
[2] Служыце Госпаду з радасцю, выйдзiце вясёлыя перад Iм!
[3] Ведайце, што Госпад — Ён ёсць Бог наш: Ён стварыў нас,
а не мы; мы ж народ Яго i авечкi статку Яго.
[4] Увайдзiце ў брамы Яго з пахвалою, у двары Яго з песнямi.
Дзякуйце Яму, слаўце iмя Яго!
[5] Бо Госпад добры: мiласэрнасць Яго навекi, i праўда Яго з
пакалення ў пакаленне.

## Псалом 102

*Псалом Давiда*

[1] Бласлаўi, душа мая, Госпада, i ўсё нутро маё — iмя святое
Яго.
[2] Бласлаўi, душа мая, Госпада i не забывай усiх дабрадзействаў Яго.
[3] Ён ачышчае ўсе правiны твае i ацаляе ўсе немачы твае.
[4] Ён вызваляе ад тленнасцi жыццё тваё, ласкаю i мiласэрнасцю вянчае цябе.
[5] Ён напаўняе дабротамi жаданне тваё: абновiцца, як арол,
маладосць твая.
[6] Госпад чынiць мiласцi i суд усiм пакрыўджаным.
[7] Ён даў пазнаць шляхi свае Майсею, сыном Iзраiля — жаданнi свае.
[8] Шчодры Госпад i мiласцiвы, доўгацярплiвы i шматмiласэрны.
[9] Не будзе Ён гневацца да канца i не будзе памятаць зла давеку.
[10] Не паводле грахоў нашых учынiў Ён нам i не паводле правiнаў нашых адплацiў Ён нам.
[11] Бо як высока неба ад зямлi, так моцна явiў Госпад мiласць
сваю тым, што баяцца Яго.

---

* Пс 95, 14 — Дз 17, 31.

[12] Як далёка ўсход ад захаду, так аддаліў Ён ад нас беззаконні
нашыя.
[13] Як бацька мілуе сыноў, так Госпад явіў міласць сваю тым,
што баяцца Яго.
[14] Ён ведае нашу прыроду, Ён памятае, што мы — пыл.
[15] Чалавек — як трава дні яго: зацвіце ён, як кветка ў полі,
[16] але вось выйшаў дух яго, і не стане яго, і ўжо месца свайго
не пазнае.
[17] А міласць Госпада ад веку і да веку для тых, што баяцца Яго;
[18] і справядлівасць Яго на сынах сыноў тых, што захоўваюць
саюз Яго і памятаюць Яго запаветы, каб выконваць іх.
[19] Госпад на небе ўстанавіў пасад свой і валадарства Яго над
усімі пануе.
[20] Блаславіце Госпада, усе анёлы Яго, моцныя сілаю, што
выконваеце загады Яго, слухаючы голасу слоў Яго.
[21] Блаславіце Госпада, усе сілы Яго, слугі Яго, што спаўняеце
волю Яго.
[22] Блаславіце Госпада, усе творы Яго на кожным месцы Яго
валадарства. Блаславі, душа мая, Госпада!

## Псалом 112

*Алілуя!*

[1] Хваліце, слугі, Госпада, хваліце імя Гасподняе.
[2] Хай будзе імя Гасподняе блаславёнае цяпер і давеку.
[3] Ад усходу сонца да захаду хай гучыць хвала імю Гасподняму.
[4] Высокі над усімі народамі Госпад, вышэй за нябёсы слава
Яго.
[5] Хто як Госпад Бог наш, які жыве на вышынях
[6] і глядзіць на пакорных у небе і на зямлі?
[7] Ён той, хто падымае з зямлі беднага і з гною ставіць на
ногі ўбогага,
[8] каб пасадзіць яго з князямі, з князямі народа свайго;
[9] Ён той, хто пасяляе ў дом няплодную, як маці, якая цешыцца
дзеткамі сваімі.

## Псалом 116

*Алілуя!*

[1] Хваліце Госпада, усе народы, слаўце Яго, усе людзі*.
[2] Бо міласэрнасць Яго ўмацавалася над намі і праўда Гасподняя трывае давеку.

## Псалом 120

*Песня ўзыходжанняў*

[1] Я ўзняў вочы мае да гораў, адкуль прыйдзе дапамога мая.
[2] Дапамога мая ад Госпада, які стварыў неба і зямлю.
[3] Не дасць пахіснуцца назе тваёй і не задрэмле Той, хто ахоўвае цябе.
[4] Вось, не задрэмле і не засне Той, хто ахоўвае Ізраіля.
[5] Госпад захавае цябе, Госпад — покрыва тваё па правай руцэ тваёй:
[6] Сонца не прыпячэ цябе ўдзень, а месяц не пашкодзіць уночы.
[7] Госпад захавае цябе ад усяго благога: захавае Госпад душу тваю.
[8] Госпад будзе ахоўваць тваё прыйсце і твой выхад цяпер і давеку.

## Псалом 125

*Песня ўзыходжанняў*

[1] Калі Госпад вяртаў палон Сіёна, як усцешаныя мы былі!
Тады вусны нашыя былі поўныя весялосці, а язык наш — радасці.
[2] Тады гаварылі сярод народаў: «Вялікае ўчыніў з імі Госпад!»
[3] Вялікае ўчыніў з намі Госпад: мы ўзрадаваліся.
[4] Павярні, Госпадзе, наш палон, як ручаі ад паўднёвага ветру.
[5] Тыя, што сеюць са слязьмі, жаць будуць у радасці.
[6] Выходзячы, яны ішлі і плакалі, кідаючы зерне сваё, але, вяртаючыся, будуць ісці радасныя, несучы снапы свае.

---

* Пс 116, 1 — Рым 15, 11.

## Псалом 145

*Алілуя! Агея і Захара*

[1] Хвалі, душа мая, Госпада.
[2] Праз усё жыццё маё буду хваліць Госпада, буду спяваць
Богу майму, пакуль існую.
[3] Не спадзявайцеся на князёў, на сыноў людскіх, у якіх няма
збаўлення.
[4] Выйдзе дух яго, і ён вернецца ў зямлю сваю: у той дзень
згінуць усе задумы яго.
[5] Шчаслівы той, у каго Бог Якуба памочнікам: надзея яго на
Госпада, Бога яго,
[6] які стварыў неба і зямлю, мора і ўсё, што ў іх*; які захоўвае
праўду давеку,
[7] чыніць суд пакрыўджаным, дае хлеб галодным. Госпад
вызваляе палонных,
[8] Госпад прасвятляе сляпых, Госпад падымае пахілых; Госпад
любіць праведнікаў,
[9] Госпад ахоўвае прыхадняў, прыгорне сірату і ўдаву, а шлях
грэшных разбурыць.
[10] Госпад будзе панаваць давеку, Бог твой, Сіёне, з роду ў род.

## Псалом 150

*Алілуя!*

[1] Хваліце Бога ў святых Яго; хваліце Яго ў непахіснасці сілы
Яго.
[2] Хваліце Яго за магутнасць Яго, хваліце Яго за бязмежную
веліч Яго.
[3] Хваліце Яго граннем рогу, хваліце Яго на ліры і гуслях.
[4] Хваліце Яго гукам бубна і карагодам, хваліце яго на струнах
і жалейцы.
[5] Хваліце яго на цымбалах мілагучных, хваліце Яго на цым-
балах галасістых. Усё, што жыве, хай хваліць Госпада!

Богу нашаму слава!

---

* Пс 145, 6 — Дз 4, 24.



# Дадатак

*Ч. С. (Часлаў Сіповіч)*

## АЙЦУ АЛЯКСАНДРУ НАДСАНУ — 50 ГАДОЎ ЖЫЦЦЯ

Беручыся напісаць гэтую зацемку аб блізкай і дарагой мне асобе, маю ў душы трывогу, каб ёй не надакучыць, усім-бо ведама, што а. А. Надсан не любіць шумных кампліментаў. Але ж жывём у апошняй чвэрці XX ст., у эпоху тэлевізіі і журналістыкі, дый кампліментаў не збіраюся пісаць, а толькі праўду.

Айцец А. Надсан радзіўся 8 жніўня 1926 г. у Гарадзеі (Нясвіжскага раёна). У час ваеннай завірухі апынуўся на чужыне. Тут ён дзе толькі і як можа не пакідае кніжкі і школы, прымае адначасова дзейны ўдзел у беларускім эміграцыйным жыцці (ЗБВБ, БНХР, БАКА «Рунь»). З натуры схільны да дакладных навук, студыюе перш хімію, пасля матэматыку. Пачуўшы ў сабе прызванне да служэння Богу ў святарстве, едзе ў Рым і там, як студэнт Грэцкай калегіі, студыюе ў Грэгарыянскім Папскім універсітэце філасофію і тэалогію. З тых часоў дасланы ў «Божым шляхам» ягоны артыкул пра Грэцкую калегію і пра даўнейшых яе студэнтаў беларусаў, які дагэтуль не страціў сваёй вартасці.

Дня 23 лістапада 1958 г. дыякан А. Надсан быў высвечаны ў святары, а ў 1961 г. па заканчэнні студыяў вярнуўся ізноў у Лондан.

Галоўным заняткам а. А. Надсана ў Лондане была школа св. Кірылы Тураўскага, якая праіснавала 15 гадоў, праз яе прайшло каля 20 вучняў беларусаў і некалькі ангельцаў. Невялікая была наша школа, але дзеля складаных эміграцыйных абставінаў яна вымагала шмат часу і энергіі ад яе кіраўніка, тым больш, што вучні былі не паводле выбару здольнасцяў, але найчасцей прыходзіў да нас суровы запушчаны матэрыял. Апрача звычайнай праграмы ў ангельскай школе нашыя вучні павінны былі падрыхтоўваць экзамены з беларускай мовы, гісторыі і літаратуры. Тут а. А. Надсан быў незаступны.

Калі ажывіла сваю дзейнасць Ангельска-беларускае таварыства і пачало сістэматычна сем разоў у год ладзіць на ўніверсітэцкім узроўні даклады, а. А. Надсан быў сталым лектарам, і ягоныя даклады заўсёды былі арыгінальныя, добра апрацаваныя, а таму і цікавыя. Большасць з іх пасля друкавалася ў англамоўным «Журнале беларусаведы», які сёння цешыцца пашанай ва ўсім навуковым свеце.

У 1971 г. быў куплены дом-асабняк для Беларускай бібліятэкі і Музея імя Францішка Скарыны ў Лондане. Хутка айцу А. Надсану

быў даручаны новы абавязак — бібліятэкара. За гэтых некалькі гадоў ББ разраслася, сталася вогнішчам беларусаведы. Тут вялікая заслуга яе бібліятэкара, каторы шчыра сур'ёзна і з ведамі не толькі выпісвае патрэбныя кніжкі, але і прыцягвае людзей. Аб гэтым паважаны чытач можа дакладней даведацца з артыкула самога а. Надсана, надрукаванага ў нашым часопісе перш («Б. шл.». Красавік–чэрвень 1973. № 2 (136)) і ў гэтым нумары.

Пры ўсіх сваіх занятках айцец Аляксандр астаецца святаром і то ў першую чаргу. Даў гэтага доказы ва ўсіх сваіх друкаваных працах, у абыходжанні з людзьмі, у сваіх казаннях і г. д. Айцец А. Надсан мае свой собскі стыль, хаця шмат рэчаў робіцца супольна ў грамадзе. Астаецца нам пажадаць яму далейшых поспехаў і багаславенства Божага ў працы на ніве рэлігійнай і культурнай.

Як сціплы падарак на 50-я ўгодкі ахвяруем прыгатаваную намі бібліяграфію працаў айца А. Надсана, хаця і няпоўную, бо толькі на беларускай мове.

«На шляху» — Бюлетэнь Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі, Лондан.
— З-пад рэдактарскіх ножніцаў. Травень 1947. № 4. С. 12.
— Куды нас вядзе навука. Студзень 1948. № 1 (8). С. 10.

«Беларус на чужыне» — Выходзіў у Лондане ў гадах 1947–1950.
— Атамная энергія. 6 снежня 1947. № 3. С. 4–5.
— Атамная энергія. 18 снежня 1947. № 4. С. 4.
— Атамная энергія. 2 студзеня 1948. № 5. С. 7–8.
— З навукі і тэхнікі. 23 лютага 1948. № 4 (8). С. 7–8.
— У пошуках прычын крызісу. 5 сакавіка 1948. № 7 (11). С. 5–6.
— У пошуках прычын крызісу. 22 красавіка 1948. № 8 (12). С. 3–4.
— У пошуках прычын крызісу. 28 траўня 1948. № 10 (14). С. 3–4.
— Гара парадзіла мыш. 5 сакавіка 1948. № 7 (11). С. 8.
— Вольнасць прэсы. 28 чэрвеня 1948. № 12 (16). С. 1–2.
— Перад новым этапам. 30 красавіка 1949. № 8 (32). С. 3–5.
— Аб хуліганстве. 30 красавіка 1949. № 8 (32). С. 9.
— Правы чалавека. 30 ліпеня 1949. № 10–11 (34–35). С. 8–12.

«Божым шляхам»
— Тыдзень беларускіх каталіцкіх інтэлектуалістаў. 1951. № 4 (43). С. 10.
— Святы Тамаш Мор. 1952. № 46. С. 10–13; № 47. С. 8–10; № 48. С. 8–11.
— Да пытання рэлігіі. 1952. № 48. С. 12–14.
— Другі Тыдзень Студыяў БАКА «Рунь». 1952. № 49. С. 12–14.
— Супрацькаталіцкая прапаганда ў БССР. № 51. С. 4–6.
— Царкоўная еднасць. 1953. № 52. С. 5–6.
— Пачатак Марыйскага года ў Рыме. 1953. № 57. С. 3–5.

— Грэцкая калегія ў Рыме і беларусы. 1954. № 58. С. 11–13; № 59. С. 7–8.

— Школа імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане. 1964. № 82. С. 20.

— Казанне на 25 сакавіка. 1964. № 84. С. 10–11.

— Беларусы ў Грэцкай калегіі. 1964. № 87. С. 5–11.

— Пазнанне Бога. 1965. № 4 (91). С. 2.

— Каляды і Богаяўленне. 1965. № 6 (93). С. 4–5.

— Святы Кірыла Тураўскі. 1966. № 2 (95). С. 4–9; № 3 (96). С. 2–7; № 4 (97). С. 3–8; № 5 (98). С. 3–9; № 6 (99). С. 5–7.

— Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства XV стагоддзя. 1966. № 3 (96). С. 8–10.

— Пяць гадоў школы св. Кірылы. 1967. № 1 (100). С. 2–5.

— Лаўрын Зізаній. 1967. № 3 (102). С. 3–8.

— У Святой Зямлі. 1967. № 3 (102). С. 9–11.

— Заходняя літаратура на Беларусі ў XV–XVII стст. 1968. № 1 (106). С. 2–6; № 3 (108). С. 3–7.

— Велікодныя думкі. 1968. № 2 (107). С. 4–5.

— Малітоўнік Мамоніча 1601 г. 1970. № 1 (118). С. 8–12; № 2 (119). С. 5–7.

— Беларускі рэлігійны твор канца XVII ст. «Малітвы пры святой літургіі» 1695 г. 1970. № 5 (122). С. 5–10; № 6 (123). С. 5–9; 1971. № 1 (124). С. 6–9; № 2 (125). С. 5–7.

— Рэцэнзія: Like Water, Like Fire. An Anthology of Byelorussian poetry 1828 — to the present day. Translated by Vera Rich. London, George Allen and Unwin, 1971. 347 p. Price £4.50. — 1971. № 4 (127). С. 7–8.

— Еўеўскі буквар 1618 г. 1973. № 1 (135). С. 3–9.

— За два гады. (Крыху пра Бібліятэку і Музей імя Францішка Скарыны ў Лондане.). 1973. № 2 (136). С. 10–13.

— Беларускія буквары XVII стагоддзя. 1973. № 4 (138). С. 5–11.

— Новыя набыткі Беларускай бібліятэкі. 1975. № 3–4 (145–146). С. 4–8.

***1976***

*Гай дэ Пікарда*

## АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДР НАДСАН

8 жніўня 1976 года а. Аляксандру Надсану, бібліятэкару Беларускае бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане, споўнілася 50 год жыцця. Айцец Аляксандр паходзіць з-пад Нясвіжа з настаўніцкае сям'і. Сваю асвету ён атрымаў у Беларусі. У часе Другое сусветнае вайны служыў у войску ў Італіі, дэмабілізаваўшыся ў Вялікабрытаніі ў 1946 г. Быўшы студэнтам Лонданскага ўніверсітэта, ён браў дзейны ўдзел у працы Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі, як адзін з ягоных заснавальнікаў, сакратар (1944) і старшыня (1951).

Айцец Аляксандр у гэтым перыядзе быў сталым супрацоўнікам часопіса «На шляху» (1946–1951) і «Беларус на чужыне» (1947–1950). «Ён стаўся таксама дзейным у працы Беларускае каталіцкае місіі ў Лондане. Актыўна працуючы ў Беларускім акадэміцкім таварыстве “Рунь”, старшынёй якога ён быў у 1951 г., а. Аляксандр апублікаваў шэраг артыкулаў пра царкоўнае адзінства, пра стан рэлігіі на Беларусі, а таксама пра св. Томаса Мора — у часопісе “Божым шляхам” (№ 46–48, 51, 52)».

Закончыўшы Лонданскі ўніверсітэт з ступенню бакалаўра дакладных навук, Аляксандр Надсан у 1953 г. быў залічаны ў студэнты Грэцкага каледжа ў Рыме ды вывучаў багаслоўе ў Грыгарыянскім універсітэце. У 1957 г. ён стаўся дыяканам, а ў наступным годзе быў рукапалажаны ў святары італа-грэцкім біскупам Джыявані Мэле люнграўскае (Lungro) дыяцэзіі.

Вярнуўшыся ў Ангельшчыну, ён быў назначаны ў Беларускую каталіцкую місію для душпастырскае працы сярод сваіх суродзічаў у Паўночнай Ангельшчыне ў Брадфордзе і Манчэстэры.

У 1962 г. ён быў назначаны на заступніка дырэктара, коратка перад тым заснаванае, Беларускае школы для хлопцаў пры Доме св. Кірылы ў Паўночным Фінчлі (раёне Лондана), а ў 1964 г. пераняў дырэктарства гэтае школы пасля айца Язэпа Германовіча. Наступныя дзевяць гадоў жыцця а. Аляксандр прысвяціў галоўна педагогіцы як настаўнік матэматыкі і беларускае мовы. Шэраг ягоных вучняў паспяхова прайшлі пры Лонданскім універсітэце экзамены з беларускае мовы на агульнае пасведчанне аб адукацыі. У часе дырэктарства а. Аляксандра лік вучняў беларускае школы для хлапцоў узрос з 4 да 16, перад тым як цяжкасці з выкладчыкамі спрычыніліся да зрэдукавання ліку вучняў дыператварэння гэтае ўстановы ў ейны сучасны стан Студэнцкага дома.

Айцец Аляксандр склаў пачатак беларускае граматыкі, арганізоўваў канцэрты, калядныя паказы, вечары мастацкага чытання. Ён арганізаваў таксама для сваіх вучняў удзел у экуменічных службах і сустрэчах у Нямеччыне, Бельгіі і нат у базіліцы св. Пятра ў Рыме.

Пасля 1965 г. а. Аляксандр граў важную ролю ў Англа-беларускім таварыстве, чытаючы лекцыі на працягу дзесяці гадавых сесіяў.

Штораз больш ён пачаў займацца даследніцкай працай, спецыялізуючыся ў беларускай гісторыі і літаратуры XVI–XVII стст. Ён прачытаў шэраг дакладаў на гадавых абедах у Доме св. Кірылы ды на семінарах універсітэцкіх славістаў.

Артыкулы а. Аляксандра пачалі рэгулярна з’яўляцца ў «Журнале беларусаведы» (The Journal of Byelorussian Studies) і часопісе «Божым шляхам», прыцягнуўшы да сабе паважныя зацікаўленні навукоўцаў.

Як бібліятэкар Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны, а. Аляксандр адыграў важную ролю ў пашырэнні беларусаведы ў Вялікабрытаніі. Даследнікі славістыкі маюць ад яго ўсялякую дапамогу ў іхняй працы. Вакол сябе ён згуртаваў групу маладых акадэмікаў, якіх падахвочвае, накіроўвае і дзеліцца з імі сваімі энцыклапедычнымі

ведамі беларускай мовы, літаратуры, гісторыі. Бібліятэка імя Скарыны сталася месцам лекцыяў Англа-беларускага таварыства для ўніверсітэцкіх і бібліятэкарскіх семінараў. Сярод удзельнікаў гэтых семінараў і наведвальнікаў было нямала вядучых славістаў, і сувязі, наладжаныя цяпер з іншымі бібліятэкамі ды акадэмічнымі ўстановамі па цэлым свеце, улучна з Беларуссю.

Дзве важныя працы, апублікаваныя нядаўна, — «Vocabulary of the Byelorussian literary language in the 19th c.» др. А. МакМіліна. (London, 1973) і «A Grammar of Byelorussian» Пітэра Маё (Sheffield, 1976) прызнаюць важную дапамогу, якую даў аўтарам а. Аляксандр.

Сябра рэдкалегіі «Журнала беларусаведы», а. Надсан рэгулярна публікуе ў гэтым часопісе, апрача хронікі беларускіх падзеяў, поўную бібліяграфію бягучых публікацыяў ды шмат аўтарытэтных рэцэнзіяў.

Пад ягоным даглядам Бібліятэка імя Скарыны працвітае. Дзякуючы ўдумлівым закупам і абмену, ён дадаў да бібліятэчнага фонду шмат рэдкіх кніжак — старых і сучасных часоў, а таксама забяспечыў паступленні бальшыні публікацыяў савецкай Беларусі і беларускія замежныя выданні. Дакладнае сачэнне за каталогамі букіністаў і за аўкцыёнамі, забяспечыла бібліятэцы калекцыю беларусікі, незраўнаную ў Заходняй Еўропе, а магчыма і ў цэлым Заходнім свеце.

Бібліяграфічныя рэдкасці з XVI, XVII і XVIII стст., друкаваныя ў Вільні, Магілёве, Куцейне, Супраслі, знаходзяцца цяпер у Бібліятэцы імя Скарыны ў Лондане побач з арыгінальным фрагментам Бібліі самога Скарыны. «Паляўнічыя» экспедыцыі а. Аляксандра заводзілі яго ў Нямеччыну, Галандыю, Манака ды ў Новы Свет. Сучасны багаты стан бібліятэкі — канкрэтнае сведчанне ягоных удачаў.

Аднак ягоныя выдатныя навуковыя дасягненні не павінны зацямняць ягонае самаадданае святарскае працы. Ягоныя пісьмовыя працы, казанні і святарская дзейнасць дапамаглі шмат якім турыстам у лепшым разуменні духовага і літургічнага багацця ўсходняе Царквы, а таксама забяспечылі ягоных прыхаджанаў здаровым рэлігійным і маральным кіраўніцтвам. Няхай жа ягоная праца будзе і далей плённая. Многае лета!

***1976***

*Караліна Мацкевіч, Ігар Іваноў*

## СВЯТАР ПЕРАДУСІМ

8 жніўня спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэння айца Аляксандра Надсана — беларускага святара, дзеяча культуры, даследчыка, пісьменніка і перакладчыка. Імя а. Аляксандра звязана для нас з захаваннем беларускай культуры на Захадзе, там, дзе былі і ёсць асяродкі беларускага культурнага і рэлігійнага жыцця. Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа, дырэктар Беларускай бібліятэкі імя Скарыны ў Лондане, адзін з заснавальнікаў і дзейны сябар Згуртавання

беларусаў у Вялікай Брытаніі, віцэ-старшыня Ангельска-Беларускага таварыства, рэктар Беларускае каталіцкае місіі ў Лондане — гэта толькі пасады, дый яшчэ не ўсе.

Айца Аляксандра Надсана, апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў замежжа, карціць назваць беларускім Далай-Ламам. Зразумела, гэта неэтычна. Але грубае параўнанне дапамагае зразумець, хто ён такі для Беларусі: духоўны лідар нацыі.

Нарадзіўся Аляксандр Надсан у мястэчку Гарадзея, што пад Нясвіжам. Бацька і маці ягоныя былі настаўнікамі, і хлопец з дзяцінства размаўляў з маці па-французску (у часы ваеннага ліхалецця юнаку, закінутаму на чужыну, прыдаліся гэтыя веды). Пасля школы скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, дзе, як і бацька, вучыўся на настаўніка матэматыкі. Сам айцец кажа, што семінарыя дала яму «не толькі грунтоўныя веды, але зрабіла перакананым беларусам на ўсё жыццё».

У час вайны, яшчэ падлеткам, Аляксандр узначаліў мясцовае аддзяленне Саюзу беларускае моладзі. У 1944 г. Аляксандр, як шмат хто з ягоных раўналеткаў, далучаецца да Беларускае Краёвае Абароны. Праз год ён будзе стаяць у ахове Другога ўсебеларускага кангрэсу ў Мінску. Аляксандру не было яшчэ 18 гадоў, калі жаўнеры Беларускай Краёвай Абароны былі скіраваныя на Заходні фронт, у Францыю. Там ён з сябрамі далучыўся да Руху Супраціўлення. Пазней Аляксандру давялося ваяваць у Італіі ў складзе арміі генерала Андэрса, дзе ён быў паранены. Айцец мае ўзнагароды за змаганне з фашызмам, але гаварыць пра гэта не любіць, бо, з ягоных словаў, «вайна — гэта нялюдскае і страшнае».

Па вайне савецкая Беларусь, дзе разгарнуліся рэпрэсіі, была для яго закрытая. Айцец гаворыць цяпер з іроніяй: «У нас не было тады выбару: Ангельшчына або Беларусь. Мне даводзілася выбіраць Ангельшчыну або Салаўкі. Я падумаў, што Ангельшчына будзе крыху выгадней».

У Брытаніі, дзе айцец апынуўся па вайне, ён за некалькі месяцаў самастойна авалодаў ангельскай мовай і паступіў у Лонданскі ўніверсітэт на аддзяленне матэматыкі. Якраз тады пачынае фармавацца айцова адкрытасць да свету, да сусветнае культуры, што надае ягонай унікальнай эрудыцыі еўрапейскі кшталт. Гады самаадукацыі далі яму грунтоўныя веды з сусветнай гісторыі і культуры, веды, што і цяпер уражваюць ягоных суразмоўцаў.

У 1946 г. Аляксандр Надсан стаецца адным са стваральнікаў Згуртавання беларусаў Вялікае Брытаніі, найстарэйшай з дзейных цяпер беларускіх арганізацыяў у замежжы. Таксама ён удзельнічае ў працы Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб'яднання «Рунь», што гуртавала інтэлектуальную беларускую моладзь у Заходняй Еўропе і ЗША.

У 1947 г. у Лондане ствараецца Беларуская каталіцкая місія. Будучы біскуп Чаславу Сіповіч, які стаяў ля яе вытокаў, стаўся для Аляксандра найбольшым духоўным аўтарытэтам і паўплываў на ягоны далейшы жыццёвы шлях. «Пад ягоным уплывам у мяне нарадзілася жаданне прысвяціць жыццё на службу Богу сярод свайго народа», — кажа айцец.

Увосень 1953 г. а. Надсан едзе ў Рым, дзе праводзіць наступныя шэсць гадоў у Грэцкай калегіі. У калегіі вучыліся румыны, італа-альбанцы, сірыйцы. Яны размаўлялі між сабою па-грэцку, ведалі італійскую, а ў Грыгарыянскім універсітэце вучыліся на лаціне. Менавіта там айцец сутыкнуўся з разнастайнасцю нацыянальных традыцыяў у Царкве. Ён казаў пасля, як глыбока яго ўразіла тое, што студэнты з іншых Цэркваў маглі пры нагодзе маліцца па-свойму. Для яго ж, беларуса, «сваёй» моваю набажэнства была царкоўнаславянская. З часу навучання ў Грэцкай калегіі вынес айцец думку пра пераклад усходніх літургічных тэкстаў з грэцкай мовы на беларускую — працу, якую ён уважае цяпер за найважнейшае здзяйсненне ў сваім жыцці.

Высвечаны на святара ён быў 23 лістапада 1958 г. і ў наступным годзе вярнуўся ў Лонданскую місію.

У 60-я Місія ўтрымлівала беларускую школу св. Кірылы Тураўскага, дзе вучыліся і жылі хлопчыкі з беларускіх сем'яў з розных краінаў і розных веравызнанняў. Для дзяцей гэта быў асяродак, дзе яны маглі пазнаёміцца з нацыянальнай літаратурай, гісторыяй, культурай. Айцец Аляксандр працаваў настаўнікам у гэтай школе, а ад верасня 1966 г. быў ейным кіраўніком.

Святарскае служэнне для айца заўсёды было звязанае з працаю дзеля захавання беларускае культуры. Таму працуе ён актыўна ў складзе Ангельска-беларускага таварыства, чытае культуразнаўчыя лекцыі, друкуецца ў перыядычных выданнях, перадусім у «Journal of Byelorussian Studies» і ў адноўленым у Лондане рэлігійным часопісе «Божым шляхам». Ён цікавіцца старадрукамі, скарыназнаўствам, робіць унікальную працу па даследаванні і транслітарацыі Аль-Кітабаў.

У 1971 г. у Лондане адкрываецца беларуская бібліятэка імя Скарыны. Бібліятэчная калекцыя спачатку складалася з прыватных кнігазбораў трох святароў — уладыкі Ч. Сіповіча, а. Л. Гарошкі і а. А. Надсана. Цяпер гэта сусветнавядомы цэнтр, які валодае найбуйнейшым па-за межамі Бацькаўшчыны зборам беларусазнаўчай літаратуры, унікальнай калекцыяй старадрукаў і старажытных мапаў, багатым і дагэтуль мала даследаваным архівам. Сёлета, дарэчы, Скарынаўка святкуе сваё 30-годдзе, да якога прымеркаваная канферэнцыя ў Лондане «Роля беларускай дыяспары ў захаванні і развіцці беларускай культуры».

Усе гэтыя гады фонды бібліятэкі папаўняліся найперш стараннямі айца Надсана. Ён выкарыстоўваў кожную магчымасць, шукаючы рэдкія выданні, рукапісы, ездзіў на кніжныя аўкцыёны, у букіністычныя крамы па ўсёй Еўропе, збіраў кнігі сярод беларусаў дыяспары. Айцец са смехам распавядае, што быў у Монтэ-Карла, слаўным сваімі казіно, і шмат грошай там пакінуў. Быў жа ён там насамрэч на кніжным аўкцыёне і неблагі набытак з яго прывёз для Скарынаўкі. Альбо яшчэ, як давялося яму ў аднаго нью-ёркскага беларуса цэлы дзень частавацца чымсьці моцным і брыдкім, каб назаўтра атрымаць ад яго «Гісторыю крыўскай кнігі» В. Ластоўскага.

А яшчэ было навязванне кантактаў з дзяржаўнымі бібліятэкамі і ўстановамі культуры ў Беларусі, арганізацыя навуковых канферэнцыяў, выданне рукапісаў з фондаў бібліятэкі (у т. л. дзённіка Казіміра Сваяка і рукапіснага паэтычнага зборніка Ларысы Геніюш).

Адначасова айцец робіць велізарную працу па перакладзе літургічных тэкстаў візантыйскае традыцыі. Плён ягоных 20-гадовых высілкаў — гэта ўвесь корпус багаслужбаў надзвычайнае духоўнае і эстэтычнае вартасці, цяпер даступны беларускім вернікам. Айцец не абмяжоўваецца перакладамі: развіваючы беларускую літургічную традыцыю, ён уводзіць ва ўжытак малітвы і акафісты Скарыны, сам піша тэксты (Служба аб памнажэнні любові, Службы да св. Еўфрасінні Полацкае і да св. Кірылы Тураўскага і інш.). Асноўная частка гэтых тэкстаў падрыхтаваная цяпер да друку лонданскім выдавецтвам «Божым шляхам».

Пасля смерці біскупа Сіповіча а. Аляксандр робіцца рэктарам Місіі ў Лондане, а ў 1986 г. яго прызначаюць апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў замежжа. Доўгі час ён самастойна выдаваў «Веснік беларускага каталіцкага душпастырства». Двойчы тады ён аб’ехаў свет, адведваючы беларусаў ад Аўстраліі і Новае Зеландыі да ЗША і Канады. Да апошняга часу вадзіў ён штогадовыя пілігрымкі да Крыжа беларускіх пакутнікаў, што ў Канадзе. На працягу некалькіх гадоў «Наша Ніва» змяшчае казанні а. Аляксандра на Каляды і Вялікдзень, адрасаваныя беларусам усяго свету. У сталым сваім веку айцец рэгулярна бывае ў беларусаў розных веравызнанняў ад Францыі да Амерыкі, служыць набажэнствы, хрысціць і вянчае, проста сустракаецца з людзьмі — трымае іх разам. Разам з Беларуссю і разам з Богам.

Калі знятая была жалезная заслона, айцец прыехаў на Беларусь — з дапамогаю для дзяцей, што пацярпелі ад чарнобыльскае аварыі. Камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі, які айцец стварыў і ўзначаліў у Вялікабрытаніі, распачаў тады дастаўку лекаў у найбольш пацярпелыя раёны, ладзіў летнія адпачынкі для дзяцей у Ангельшчыне, Валіі і Ірландыі.

У той свой прыезд з вялікай радасцю для сябе сутыкнуўся айцец з першымі намаганнямі адрадзіць Уніяцкую царкву на Беларусі. 11 сакавіка 1990 г. ён адслужыў святую літургію за беларускі народ — першую каталіцкую службу ўсходняга абраду ў Мінску ад часоў скасавання Уніі ў 1839 г. Сотні людзей прыйшлі на ягонае набажэнства і адчулі тады, што гэта — іхняя Царква. Царква з беларускай моваю літургіі, Царква, дзе душы адгукаюцца на мудрыя і светлыя словы святара. Пры ўсёй разнастайнасці абавязкаў і пакліканняў айца, пры ягонайневерагоднай заангажаванасці ў свеце, святарства для яго — не роля, а тоеснасць. «Я — святар перадусім», — часта кажа ён пра сябе.

З адраджэннем Грэка-каталіцкае царквы на Беларусі праца Лонданскае місіі набыла новае значэнне: цяпер тут атрымліваюць тэалагічную адукацыю беларускія студэнты, запрошаныя айцом. Цяпер ёсць надзея на працяг, на пераемнасць пачатае калісь айцом справы.

На жаль, свой сёлетні юбілей айцец сустрэне на чужыне. Прыехаць у Беларусь яму, вольнаму чалавеку з вольнага свету, не дазваляе абсурдная вымога беларускіх уладаў, што тычыцца ўсіх замежных прадстаўнікоў неправаслаўных канфесіяў: дзеля прыезду ў Беларусь ім неабходны дазвол Камітэта па справах рэлігіяў. Адпаведна, у Беларусі мы яго пабачым не хутка. Але ўсё ж добра ведаць, што там, у Лондане, у царкве св. Пятра і Паўла, айцец асвячае пачатак кожнага дня Боскай літургіяй па-беларуску і моліцца вось ужо колькі дзясяткаў гадоў «за краіну нашу Беларусь і за ўвесь беларускі народ, за стойкасць у веры, мужнасць у выпрабаваннях і вернасць свайму народу ўсіх нас».

*2001*

*Ірына Дубянецкая*

## АЙЦЕЦ

Я хачу, каб увесь сусвет святкаваў юбілей айца Аляксандра разам са мною. Беларусы ўсіх кантынентаў, а разам з імі і ўсе тыя кантыненты, і ўсе паралелі ды мерыдыяны, усе анёлы, усе сілы нябесныя, зямныя і падземныя, усе лесуны ды русалкі… ой, выбачаюся, само з языка сарвалася, айцец можа знелюбіць… (я шэптам кажу: святкуйце айцовы ўрадзіны, русалкі з лесунамі ды ўсялякімі стварэннямі бачнымі і нябачнымі, знанымі і нязнанымі, хай ніхто не застаецца ўбаку ў гэтае свята). Я хачу, каб увесь свет падзяліў маю бязмежную любоў ды пашану да гэтага чалавека, маю праменную радасць ад таго, што ён ёсць, што ён між нас і што ён стаўся адным з найбольш значных ды пазнавальных арыенціраў майго жыцця. І што ніхто так яго не ведае, не цэніць і не любіць, як я (я не кажу, што нехта любіць яго менш, проста любоў ніколі не паўтараецца).

Не фыркайце, айцец, калі ласка, на гэты мой выплеск урачыстасці. Вам у вочы я скажу нешта зусім іншае, нешта невыразнае прамямлю, і мы хутка зменім тэму — пачнём паважна разважаць пра лёсы Царквы і Бацькаўшчыны, пра тое, як нам лепш уладкаваць свет, не забудземся і на маіх угарытаў… Але зараз я кажу не да Вас. Даруйце, але я *дзялюся Вамі*.

(*Don't worry*, я не буду казаць пра Вашыя стаптаныя чаравікі і пра тое, як Вы незадаволена бурчыце, калі мы нагадваем Вам, што час купляць іншыя, — маўляў, ёсць рэчы важнейшыя за гэткія «дудкі». Я не буду нават казаць, як Вы вылоўліваеце з рондаля ды шпурляеце аб сцяну макароніну: ці зварылася? А потым па-хлапечы заліваецеся рогатам з неафіцкага здзіўлення кагосьці са шматлікіх гасцей Вашае надзвычай гасціннае хаты ці з Юльчынага абурэння, што яна, маўляў, толькі памыла сцены на кухні. Ні пра тое, як Вы ўпарціцеся, калі мы Вас гонім да лекара, бо ў Вас ізноў баліць калена або апанаваў страшэнны грып, і мы дзелімся з Вамі антыбіётыкамі, што нам панапрапісвалі з тае

ж прычыны. Ні пра Вашыя нерваванні перад святамі, калі Вам здаецца, што ніхто нічога не робіць, а трэба і капліцу прыбраць, і набожнікі там памяняць, і спевы падрыхтаваць, і святочны стол дагледзець — і Вы бегаеце з хаты ў хату, каб нас актывізаваць, але толькі дадаяце да агульнае нервознасці, бо мы ўсе таксама хочам, каб свята адбылося як найлепей. Ні пра тое, як Вы балюча перажываеце, калі Вам ды нашай агульнай справе здраджваюць тыя, каго Вы любілі і каму аддавалі сябе без рэшты. Ні пра тое, як Вы шчыра цешыліся, калі мяне пакусалі пчолы і мой твар набыў раздзьмута-марсіянскія абрысы — бо ўрэшце! Нейкая ўцямная хвароба, а не тыя дзівосы, якім не маглі даць рады ангельскія лекары, — і куплялі мне лёды, каб зняць жар. Ні пра тое, як Вы падымаецеся а пятай раніцы — ці дождж, ці слота, — каб вывесці на прагулку нашага няпэўных крывей сабаку Бэна, так што Бэн часам нават рашуча адмаўляецца ісці з Вамі навонкі, бо, маўляў, добры гаспадар у такое надвор'е сабаку з хаты не выганіць. Не буду, хоць усё гэта ёсць часткаю нялёгкага шчасця жыць з Вамі — шчасця, якое пакінула незнішчальны адбітак у маёй душы, дапамагло ёй умацавацца, распрастацца, вызначыцца, самасфармулявацца. Вы мне потым выкажаце ўсё, што Вы думаеце з нагоды гэтае пісаніны, а пакуль я буду прамаўляць да іншых.)

Дык вось, святкуй, Сусвеце! Цешцеся, людцы добрыя, і весяліцеся! Усміхніся, краіна Беларусь, і ты, паэце, кінь вечны плач свой аб старонцы. Бо мы святкуем сёння ўрадзіны — *трычвэрцістагоддзевы* юбілей — вашага сына, вашага айца, вашага святара, вашага стваральніка, вашага нястомнага працаўніка і вернага слугі — Аляксандра Надсана.

Такія людзі нараджаюцца рэдка. Ці, можа, такімі людзьмі рэдка становяцца? Бо каму хочацца жыць самотна на чужыне, пахаваць усіх сваіх паплечнікаў, працягваць аднаму вялікую справу, што пачыналі гуртам, аднаму прымаць рашэнні і несці за іх адказнасць, без асаблівага спадзявання ўбачыць калі-небудзь плён сваіх высілкаў, узвальваць на сябе ўсё новыя і новыя абавязкі і не мець ні ўпынку ні спачынку? У каго ёсць унутраныя сілы гадамі і гадамі штодня аднаму правіць службу Божую, маліцца за Беларусь, нават калі пакідае надзея і здаецца, што ўсе намаганні — намарна, бадзяцца бясконца па ўсім свеце, дзе толькі ёсць беларусы, ды абслугоўваць іхнія духоўныя патрэбы, перакладаць самому літургічныя тэксты з грэцкае мовы на беларускую (праца, што па сілах хіба салідным камісіям), калекцыянаваць унікальную на Захадзе беларускую бібліятэку, шукаць грошы на дапамогу чарнобыльскім дзеткам, самому здабываць неабходныя лекі і самому ж — наколькі магчыма — вазіць караваны ў Беларусь, займацца навуковай працай, ладзіць канферэнцыі… І пры ўсім гэтым даглядаць царкву, бібліятэку, гаспадарку на чатыры хаты, з усімі іхнімі «цякучымі» дахамі, ды яшчэ прымаць бясконцых гасцей з усяго свету — кожнага прывеціць, кожнаму дапамагчы, кожнаму дагадзіць?

Не ведаю, ці хочацца гэта айцу Аляксандру і ці ёсць у яго тыя сілы, але ён жыве менавіта так. Ды яшчэ набраў на сваю галаву студэнтаў,

усё з той самай мэтаю: дапамагчы. Дапамагчы людзям здабыць багаслоўскую адукацыю, каб ізноў-такі дапамагчы Беларусі, беларускай Царкве і беларускай культуры. І ён не абавязаны рабіць усё, што ён робіць, ён не мае з усяго гэтага аніякае выгады, толькі адны клопаты, бо чым больш ты робіш, тым больш ад цябе патрабуюць і — што самае прыкрае — тым больш табой незадаволеныя. А сам ён кажа, што расчараванняў, бадай, выпала ў жыцці больш, як здабыткаў. І часамі так хочацца ўсё кінуць ды паехаць дзесь не па справах, а каб адпачыць, каб перавесці дух. Але набягаюць новыя клопаты, але клічуць узваленыя на сябе абавязкі, але чакаюць людзі дапамогі, але… Вось і цяпер ён нават не будзе ў хаце на свой юбілей, бо ізноў — чарговая паездка, чарговы клопат.

Калі ён бывае ў Беларусі, то, здараецца, мае па пятнаццаць сустрэчаў на дзень. Ён усім патрэбны, усюды жаданы, людзі імкнуцца да яго па падтрымку, дапамогу, спагаду, параду. Людзі чакаюць на ягоны прыезд, каб менавіта ён пахрысціў іхніх дзяцей. Ягоныя службы збіраюць найбольшую колькасць людзей, прычым самых розных вераў, бо ніхто так прыгожа не служыць, як ён, бо ніхто не гаворыць такіх глыбокіх казанняў, як ён, дый проста таму, што яго тут любяць. І ён з усімі сустракаецца, размаўляе, жартуе. А потым вяртаецца дахаты і на пытанне «ну як Вы, ойчанька?» ціха адказвае: «Стаміўся…»

Ён не шукае свайго, і адзіная ўзнагарода, якую мае, — але хіба найлепшая з усіх — людская любоў. Адно з найглыбейшых ягоных уражанняў — першы прыезд у Беларусь у 1990-м. Ён тады ведаў у Мінску трох чалавек: Адама Мальдзіса, айца Яна Матусевіча (бо абодва пабывалі ў яго ў Лондане) ды — па перапісцы — Алеся Гуркова. Ён спадзяваўся, што яго сустрэне на вакзале айцец Ян. Ягоны цягнік прыходзіў дзесь перад пятай раніцы — халоднай сакавіцкай раніцы. Ён выйшаў з вагона і пабачыў поўны перон народу, многія з сімваламі Чарнобыльскага шляху, і доўга не мог уцяміць, што ўвесь гэты натоўп сустракаў яго.

Ягоная слава бегла перад ім. Многія тагачасныя «нацыяналісты» даведаліся пра яго з нейкіх брудных прапагандысцкіх брашурак, на якія так шчодрыя былі 70-я ды асабліва 80-я гады. Асабліва адна была папулярнаю, з рамантычнай назваю «Агрэсары ў мяккіх тапачках». Бо яна давала найбольш інфармацыі пра дзейнасць эміграцыі. Так што ўся гэтая «анты»-прапаганда толькі дапамагла людзям уведаць, што недзе ў шырокім свеце ёсць тыя, каму баліць Беларусь, хто робіць усё магчымае для нацыянальнае справы. І ёсць такі Надсан, які, бач ты, нацыяналістычную бібліятэку ў Брытаніі трымае, каб смушчаць ангельцаў ды тлуміць мазгі залётным беларусам, а сам — людзі добрыя! — святар, ды яшчэ — о, жахі! — уніят. Больш антысавецкую постаць нельга было нават уявіць, што і выклікала да яго асаблівую цікавасць. А я сама ў тыя гады, калі выкладала студэнтам Скарыну, казала, што ва ўсёй Беларусі няма аніводнае бібліятэкі ў імя Скарыны (а ўсё больш то Ленін, то Пушкін), затое ёсць у Лондане, і стварыў

яе Аляксандр Надсан. І ці магла я тады ўявіць, што буду жыць колькі гадоў у гэтай самай лонданскай Скарынаўцы і што гэты самы чалавек станецца такой велізарнай часткаю майго жыцця?

Як мы тады на яго чакалі, купка маладзёнаў, што саматужна ўзяліся адраджаць беларускае ўніяцтва і, натуральна, мелі яго за найвышэйшы аўтарытэт. Як хваляваліся, калі ён пагадзіўся з намі сустрэцца (хацеў на гадзінку, а праседзеў паўдня). Мы паказалі яму свае напрацоўкі для першага нумара «Уніі», задавалі безліч пытанняў, частавалі яго, а самі не маглі нічога праглынуць ад хвалявання, і толькі адзін Андрусь Абламейка спакойна пад'ядаў цукеркі ды слухаў нашыя гутаркі. (Тады ж ён упершыню і натхніўся святарствам, і вось ужо, дзякуй Богу, парах — наступнік айца Яна Матусевіча на Мінскай парафіі святога Язэпа.) А потым, улетку таго ж 90-га, у другі ягоны прыезд… Гэта адно з маіх незабыўных уражанняў ад айца. Мы з Каралінай Мацкевіч не толькі ўлезлі ў — на мой цяперашні розум — непад'ёмную справу выдання часопіса (насуперак усяму і ўсім, без аніякае базы, без грошай), але і саманадзейна задумалі вечарыну-прэзентацыю ў Доме літаратара. І вось за два дні да вечарыны, калі мы толькі-толькі адправілі ледзь дароблены, склееныя ўручную макет у Латвію, і не было ніякае пэўнасці, што часопіс будзе гатовы, і адзіная дзяўчына, што ўзялася рыхтаваць вечарыну, раптам патрапіла ў лякарню, і ніхто больш не ведаў сцэнара, а назаўтра яна прызначыла адзіную рэпетыцыю, і часу не заставалася, каб паведаміць людзям пра вечарыну, і было няясна, ці варта паведамляць наогул, і мы абедзве ў поўным зашкале ўжо проста раўлі ад перанапругі і роспачы — мы паехалі да айца Аляксандра ды выклалі яму з усіх кішэняў нашыя беды. Ён нас выслухаў і сказаў: «Вы ўсё зрабілі, што маглі?» — «Усё». — «Ну, дык пакіньце што-небудзь і на Бога. Вы папрацавалі, хай цяпер і Ён папрацуе». Як мяне ўразілі тыя словы! Айцец нечакана вярнуў мяне ў Сапраўднасць. Дакладней, тая Сапраўднасць упершыню ясна паўстала перада мною. Мы не былі адны. Ніколі не былі. Бог рабіў разам з намі. Праз нас. Таму мы і вытрымалі гэты неверагодны час. І адзінае, што было трэба зараз, — давер. І мы, насуперак відавочна правальнай рэчаіснасці, неяк супакоіліся. Айцец меў рацыю: Бог сапраўды «папрацаваў». Назаўтра прывезлі свежааддрукаваны часопіс, і прыйшлі на рэпетыцыю ўдзельнікі вечарыны, і склаўся сцэнар, і людзі неяк даведаліся пра імпрэзу, і быў поўны аншлаг, і ўсе выступалі надзвычай добра, а мы самі вялі праграму, пішучы сабе словы, пакуль на сцэне спявалі або чыталі, і ўсё было цудоўна, і айцец сказаў выдатную прамову, і ўся біткам набітая зала была ўзрушаная імпрэзай.

А неўзабаве айцец узяў нас з Каралінай да сябе, вучыцца. І жыццё павярнулася на сто восемдзесят. І пачаўся новы час, пад знакам Айца. Мы пабачылі на свае вочы, якая гэта тытанічная праца — захоўваць беларускасць у самых розных ейных праявах, і не толькі захоўваць, але і падтрымліваць і развіваць. І заставацца адкрытым да любое іншасці, і аддаваць сябе, не мераючы, усім людзям, да чыіх жыццяў ты

дакрануўся. І мне думаецца, што і Беларусь жыве пад знакам Айца. І людства. Хай сабе не толькі яго, але і яго таксама. Ён і такія, як ён, — трымаюць свет. Ён наш скарб, наш гонар, нашая радасць. Але звычайна мы гэтага не ўсведамляем. Мы пачынаем цаніць людзей, калі ўжо запозна, калі ўжо не аддзячыш. І таму я кажу цяпер усім, хто чуе: радуйцеся, бо айцец Аляксандр з намі. Ён святарыць нам, ён працуе для нас, ён захоўвае нам — разам з намі — Беларусь. Святкуйце яго, бо святкуючы яго, мы святкуем сябе.

Будзьце, ойчанька, стакрот блаславёным, і блаславёнай будзь Вашая праца.

*2001*

*Алег Гардзіенка*

## ТОЙ, ХТО ТРЫМАЕ СВЕТ

«Такія, як ён, трымаюць свет. Ён наш скарб, наш гонар, нашая радасць», — напісала пяць гадоў таму ў «Нашай Ніве» з нагоды 75-годдзя айца ягоная вучаніца, доктар тэалогіі Ірына Дубянецкая*.

Калі айцец Аляксандр Надсан прыязджае ў Беларусь, ягоны візіт заўсёды становіцца галоўнай навіной інфармацыйных агенцтваў, на яго «палююць» дзясяткі журналістаў.

Аляксандр Надсан (да 1945 г. — Бочка) пакінуў Беларусь сябрам Саюза беларускай моладзі, 18-гадовым курсантам Мінскай афіцэрскай школы Беларускай Краёвай Абароны, каб вярнуцца толькі праз 46 гадоў. «Уночы 10 сакавіка цягнік Гук ван Голанд–Масква пераехаў раку Буг. Ля акна вагона стаяў пасажыр, які пільна ўглядаўся ў вонкавую цемру. Што ён адчуваў у такую хвіліну? Цяжка сказаць. Толькі вусны ягоныя ціха шапталі словы “Пагоні” Багдановіча: “Маці родная, маці-краіна, не ўсцішыцца гэтакі боль. Ты прабач, ты прымі свайго сына, за цябе яму ўмерці дазволь”. Тым пасажырам быў аўтар гэтых радкоў», — пісаў ён у 1990 г. у газеце «Свабода»**.

Аляксандр Надсан не проста вярнуўся на радзіму. Ён вярнуўся кіраўніком Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны, апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў замежжа, святаром беларускай грэка-каталіцкай царквы св. Пятра і Паўла ў Лондане ды аўтарытэтным навукоўцам. Чатыры беларускія дамы на Ходдэн-роўд у раёне Фінчлі ў брытанскай сталіцы застаюцца да сёння асяродкам беларушчыны, што прыцягвае да сябе беларусаў з усяго свету, у тым ліку і метраполіі.

«Мы пабачылі на свае вочы, якая гэта тытанічная праца — захоўваць беларускасць у самых розных ейных праявах, і не толькі захоўваць,

* Дубянецкая І. Айцец // Наша Ніва. Мінск, 6 жніўня 2001. № 32 (241). С. 9.

** Надсан А. Вяртанне // Свабода. Мінск, красавік 1990. № 1. С. 2, 6.

але і падтрымліваць і развіваць. І заставацца адкрытым да любое іншасці, і аддаваць сябе, не мераючы, усім людзям, да чыіх жыццяў ты дакрануўся», — пісала Ірына Дубянецкая пра свае ўражанні ад прыезду ў Лондан.

Аляксандр Надсан нарадзіўся 8 жніўня 1926 г. у Гарадзеі (сёння Нясвіжскі раён Мінскай вобласці) у настаўніцкай сям'і. Ягоны бацька, выкладчык Слуцкай рэальнай вучэльні Антон Бочка, у часе Першай сусветнай вайны быў афіцэрам у царскай арміі. Потым вярнуўся ў Слуцк, дзе ў 1920 г. узяў удзел у Збройным чыне, пакінуўшы пра гэтыя падзеі ўспаміны. Далей Антон Бочка пераехаў у Гарадзею, дзе выкладаў у пачатковай школе. Яе і скончыў ягоны сын, будучы святар. Потым быў год навучання ў польскай гімназіі ў Баранавічах, два гады ў савецкай школе. У часе нямецкай акупацыі Аляксандр Надсан вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, праз муры якой прайшлі некалькі дзясяткаў будучых дзеячаў беларускага замежжа. «Тут панаваў сапраўдны моцны беларускі дух і навучалі цікавыя беларусы. Некаторыя яшчэ былі настаўнікамі ў беларускіх гімназіях, пакуль тыя не пазачынялі польскія ўлады. Іншыя паходзілі з савецкай Беларусі, але гэта таксама былі беларусы. Быў такі выкладчык матэматыкі Рудакоўскі — ці не камбрыг Савецкай Арміі. Але такога моцнага беларуса я яшчэ не бачыў»*. І надалей для Аляксандра Надсана галоўным паказнікам вартасці чалавека якраз былі не рэлігійныя перакананні ці палітычныя прыхільнасці, а менавіта ягоная беларускасць.

У 1943 г. будучы святар стаў сябрам Саюза беларускай моладзі, а па сканчэнні курсаў кіраўнікоў у Альбярціне атрымаў ранг старшага звязовага. У чэрвені 1944 г., амаль як усе выпускнікі семінарыі, Аляксандр Надсан запісаўся ў Мінскую афіцэрскую школу БКА, разам з якой і пакінуў Беларусь. Курсанты апынуліся ў французскім Безансоне, дзе, паводле задумы нямецкага генералітэта, мусілі ваяваць супраць амерыканцаў і брытанцаў. Аднак беларуская моладзь мела сваё меркаванне: «Мы заявілі, што ваяваць супраць ангельцаў, французаў, амерыканцаў не маем ахвоты — яны нам не ворагі. І пайшлі ў лес». Потым былі баявыя дзеянні ў шэрагах 2-га Польскага корпуса (Армія Андэрса) у складзе брытанскіх узброеных сілаў. Спехам перашколеных жаўнераў перакінулі на поўнач Апенінаў, дзе яны бралі ўдзел у апошнім наступе саюзнікаў у Італіі пад Балонню і Форлі.

У паваеннай Італіі якраз і пачалося гуртаванне беларусаў польскага войска. «Несвядомых было шмат, свядомых — адзінкі. Такія, як Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Мікола Нікан, Пётра Сыч. Нашага пакалення, тых, хто прайшоў праз Еўропу, нямецкае войска, французскую партызанку, было болей. Але многія баяліся, хаваліся як палякі, баючыся прызнацца, што яны беларусы. Свядомых было дзве тысячы, не болей».

---

* Тут і далей цытуюцца ўспаміны а. Аляксандра Надсана, запісаныя ў жніўні 2005 г. у Лондане.

У другой палове 1946 г. жаўнераў 2-га Польскага корпуса эвакуявалі ў Вялікабрытанію. У хуткім часе Аляксандр Надсан дэмабілізаваўся і пераехаў у Лондан, дзе адразу ўключыўся ў грамадскае жыццё. Ён рэдагаваў перыёдыкі мясцовых беларусаў — газеты «Беларус на чужыне», «На шляху», браў удзел у працы Беларускага хрысціянскага аб'яднання «Рунь», Беларускага народна-незалежніцкага хрысціянскага руху. Аляксандр Надсан ці не адзіны з паваенных беларускіх эмігрантаў, хто скарыстаў з магчымасці атрымаць у новай краіне вышэйшую асвету. У 1953 г. ён скончыў матэматычны факультэт Лонданскага ўніверсітэта (1949–1953). Пазней, будучы ўжо святаром, ён нейкі час выкладаў матэматыку ў Нотынгеме.

Аляксандр Надсан быў сярод першых сяброў Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі (ЗБВБ) — галоўнай беларускай арганізацыі ў гэтай краіне. 18–19 студзеня 1947 г. ён браў актыўны ўдзел у І з'ездзе арганізацыі. «Гэта было праваслаўнае Вадохрышча, і праваслаўныя жаўнеры з польскага войска прыехалі ў Лондан на свята. Памятаю, як мы стаялі на чыгуначнай станцыі і пыталіся: "Ці ты на Вадохрышча прыехаў? А ты адкуль?" А яны з Вілейкі, Іллі… То тады казалі: "Прыходзь на з'езд", — і давалі запрашэнні». У 1951–1953 гг. Аляксандр Надсан узначаліў ЗБВБ, стаўшы чацвёртым пасля Вінцэнта Жук-Грышкевіча, Францішка Бартуля і Міколы Нікана, і наймаладзейшым (25 гадоў), старшынёй арганізацыі. За ягоным старшынствам была ўведзеная практыка рэгулярных зборак кіраўнікоў аддзелаў ЗБВБ у прамежку часу паміж з'ездамі, што дапамагала лепш каардынаваць дзейнасць беларусаў у розных ангельскіх гарадах.

Ад 1953 г. у жыцці Аляксандра Надсана пачаўся зусім іншы этап. Пад уплывам кіраўніка Беларускай каталіцкай місіі ў Ангельшчыне а. Часлава Сіповіча ён вырашыў звязаць далейшы лёс «са службай Богу сярод свайго народа». Увосень 1953 г. ён выехаў у Рым навучацца ў Грэцкай калегіі (духоўнай семінарыі для каталікоў усходняга абраду). Гэтая ўстанова мела слаўныя традыцыі і была заснаваная яшчэ ў 1577 г. Папам Рыгорам XIII. Гады навучання ў калегіі ці не найшчаслівейшыя ў жыцці будучага святара. «Паехаў у Рым і быў усім задаволены. Гэта былі вельмі шчаслівыя шэсць гадоў. Я вельмі ўдзячны Богу, што мне давялося быць там…»

23 лістапада 1958 г. Аляксандр Надсан быў высвячаны на святара і праз сем месяцаў, 6 ліпеня 1959 г., вярнуўся ў Лондан, каб цягам ужо 47 гадоў служыць тут свайму народу.

Ад 1961 г. айцец Аляксандр стаў кіраўніком беларускай школы імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане. Праз яе цягам пятнаццаці гадоў прайшлі больш як два дзясяткі вучняў, якім выкладаліся асновы беларусаведы.

У 1971 г. з'явіўся яшчэ адзін абсяг працы. 15 траўня адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны — аднаго з найбуйнейшых збораў беларускай перыёдыкі і кнігадруку ў Заходняй Еўропе. Асновай бібліятэкі сталі кнігазборы Часлава

Сіповіча, Льва Гарошкі і самога Аляксандра Надсана. Апошні і стаў кіраўніком бібліятэкі і ў справе ейнага папаўнення рэдкімі выданнямі шмат паездзіў па кніжных аўкцыёнах свету.

Метадычнае збіранне кніг і ўсіх друкаў, звязаных з Беларуссю, стала для айца Аляксандра Надсана неад'емнай часткай жыцця. Сёння Скарынаўка мае лепшыя за Беларускую нацыянальную бібліятэку зборы не толькі эміграцыйнай перыёдыкі і друкаў, але і акупацыйных выданняў. Асаблівы гонар бібліятэкі — рэдкія старажытныя беларускія выданні. Акрамя таго, тут перахоўваюцца цікавыя архівы беларускіх дзеячаў і арганізацыяў розных часоў і краінаў. Натуральна, што лонданская бібліятэка імя Францішка Скарыны хутка стала своеасаблівай Мекай для навукоўцаў. Сюды ездзілі даследнікі з Польшчы — не толькі беларускія гісторыкі з Беластока, але і этнічныя палякі; прыязджалі беларусазнаўцы шмат з якіх іншых краінаў свету. У 1990-я гэтае адмысловае акно ў вольны навуковы свет прарубілі і гісторыкі з Беларусі. Можна канстатаваць: у бібліятэцы, што знаходзіцца ў прыгожым і ціхім раёне на поўначы Лондана, вельмі плённа працуецца.

Магчыма, і асаблівая атмасфера беларускай бібліятэкі паспрыяла таму, што Аляксандр Надсан да іншых сваіх напрамкаў дзейнасці дадаў яшчэ адзін, немалаважны — сур'ёзную навуковую працу. З ягонай даследнай спадчыны складана выбраць нешта больш значнае ці менш — усё важнае і адрозніваецца высокім навуковым узроўнем.

Прадмет навуковых зацікаўленняў Аляксандра Надсана вельмі шырокі: асоба Кірылы Тураўскага, Францішак Скарына і беларускае кнігадрукаванне, Грэка-каталіцкая царква ў Беларусі.

Айцец Аляксандр Надсан — грунтоўны і глыбокі даследнік. Але па напісанні і выданні — часцей за ўласныя грошы — пэўнай кнігі айцец не адкладае яе ўбок, а пазней вяртаецца да яе, дапрацоўвае з улікам з'яўлення новых фактаў, сюжэтаў.

Яшчэ адзін важны напрамак дзейнасці — пераклад беларускіх літургічных тэкстаў. Вынік гэтай працы — выдадзены ў 2002 г. малітоўнік «Госпаду памолімся».

Апроч таго, айцец Аляксандр Надсан — таленавіты прамоўца. Ягоныя разумныя цікавыя казанні таксама ўжо сталі легендарнымі і патрабуюць асобнага выдання.

Са смерцю а. Часлава Сіповіча ў 1981 г. а. Аляксандр узначаліў Беларускую каталіцкую місію ў Ангельшчыне, а ад канца 1980-х стаў апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў замежжа.

Пасля 1986 г. у Вялікабрытаніі паўсталі дабрачынныя таварыствы дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Аляксандр Надсан узначаліў Камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі і сам некалькі разоў суправаджаў гуманітарныя канвоі ў Беларусь альбо ладзіў летнія адпачынкі для дзяцей у Вялікабрытаніі ды Ірландыі.

Першы раз пасля доўгага расстання ў Беларусь ён прыехаў у сакавіку 1990 г. На мінскім чыгуначным вакзале яго сустрэлі сотні чалавек — перадусім прыхільнікаў адраджэння Грэка-каталіцкай царквы

ў Беларусі. Ад таго часу ў Беларусі а. Аляксандр — жаданы госць. Не для ўладаў, а для сапраўдных беларусаў. Падчас ягонага апошняга прыезду, у снежні 2004 г., на прэзентацыі кнігі «Часлаў Сіповіч: святар і чалавек» дольная зала касцёла св. Сымона і Алены ўжо за паўгадзіны да пачатку ўрачыстасці была цалкам запоўненая. І людзі сабраліся не толькі на прэзентацыю кнігі, але і проста паглядзець на свайго святара, паслухаць словы чалавека, які праз усё сваё жыццё быў і ёсць сапраўдным беларусам — тым, хто трымае свет.

*2006*

*Рыгор Барадулін*

ШЧЫРЭЦЬ…

*а. Аляксандру Надсану*

Шчырэць
У святарнай сяўбе,
Госпадняе слова сеючы.
Радзіму насіць у сабе,
Пакутныя душы надзеючы.

Жагнаць
Небадарным святлом
І вернікаў, і знявераных,
Каб лёткім
Анёльскім крылом
Бясконцасць была адмерана.

Не зябнуць
У стылых мурах.
Трымацца крывіцкай шчырасці.
Спрыяць,
Адпрэчыўшы прах,
Спаконнаму дрэву вырасці.

Разложыстыя галіны
Узважаць грахі й правіны.
Спагадлівыя лісты
Расчуляць
Нястомнасць вярсты…



# КАМЕНТАР

Творы, змешчаныя ў гэтай кнізе, укладзеныя ў адпаведныя раздзелы паводле тэматычнага і жанравага прынцыпаў і адлюстроўваюць багацце і змястоўнасць багаслоўскай і пастырскай, літаратурна-навуковай, грамадска-публіцыстычнай, гістарычнай, асветніцкай і перакладчыцкай дзейнасці апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў замежжа айца Аляксандра Надсана. Храналагічна працы а. Аляксандра ахопліваюць амаль тысячагадовы перыяд: ад старажытных часоў Кірылы Тураўскага да сучаснасці і закранаюць розныя бакі нацыянальнага жыцця беларусаў на айчыннай зямлі і ў эміграцыі: рэлігійнае пісьменства, скарынаўскія першадрукі, буквары, гісторыю культурнага і рэлігійнага адраджэння пачатку XX ст. і яго дзеячаў, рэлігійны, літаратурны і асветніцка-адукацыйны рух у эміграцыі ды іншае. Працы а. Аляксандра каштоўныя тым, што напісаны на багатым факталагічным, дакументальным грунце, вызначаюцца навуковай выверанасцю і глыбінёй.

Асобны раздзел кнігі складаюць пастырскія пасланні (калядныя, велікодныя і іншыя), казанні, духоўныя разважанні, дзе напоўніцу раскрываецца пастырскае пакліканне а. Аляксандра, яго гамілетычны (прапаведніцкі) талент, у чым ён годна працягвае традыцыі Кірылы Тураўскага, пра манаскую і духатворчую дзейнасць якога пісаў. Духоўная глыбіня і надзённая актуальнасць спалучаюцца ў творах а. Аляксандра і выклікаюць шчырае эмацыйнае ўзрушэнне, выхоўваюць высокія патрыятычныя пачуцці і думкі, настройваюць на служэнне Богу і людзям дзеля дабра Бацькаўшчыны. Унікальную старонку кнігі складаюць пераклады, дзе ўпершыню змешчаны выбраныя пераклады псалмоў, зробленыя а. Аляксандрам. На жаль, аб'ём кнігі абмежаваны, і ўкладальнік не змог уключыць у яе ўвесь корпус тэкстаў Псалтыра.

Укладальнік выказвае шчырую ўдзячнасць сп. Ірыне Дубянецкай за слушныя парады ў час працы над кнігай і прадстаўленыя пераклады Псалтыра, спадарыням Наталлі Гардзіенцы, Але Сакалоўскай, Алене Цітавец за прадстаўленыя фотаздымкі, а таксама рэдакцыі газеты «Царква» за дапамогу ў наборы тэкстаў.

*Лідзія Савік. Служэнне Богу, людзям, Бацькаўшчыне (с. 5)*

Друкуецца паводле выд.: Сонца тваё не закоціцца, і месяц твой не схаваецца: зборнік артыкулаў па беларусістыцы і багаслоўі ў гонар 80-годдзя з дня нараджэння і 50-годдзя святарства айца Аляксандра Надсана / уклад. І. Дубянецкая; пад. рэд. І. Дубянецкай, А. Макміліна і

Г. Сагановіча. — Мінск: Тэхналогія, 2009, дзе надрукавана ўпершыню ў якасці артыкула пра юбіляра.

## БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ПІСЬМЕНСТВА: ТВОРЫ І ПОСТАЦІ

### *Святы Кірыла Тураўскі (с. 21)*

Друкуецца паводле выд.: Аляксандр Надсан. Святы Кірыла Тураўскі. Выданне трэцяе, папраўленае. — Лондан: Божым шляхам, 2004.

Упершыню: час. «Божым шляхам», 1966, № 2–6 (95–99).

Твор друкаваўся таксама ў час. «Спадчына», 1996, № 1 і № 2.

### *Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства XV ст. (с. 66)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1966, № 3 (96), дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Лаўрын Зізаній (с. 71)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1967, № 3 (102), дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Заходняя літаратура на Беларусі ў XV–XVII стст. (с. 80)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1968, № 1 (106) і № 3 (108), дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Малітоўнік Мамоніча 1601 г. (с. 96)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1970, № 1 (118) і № 2 (119), дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Беларускі рэлігійны твор канца XVII ст. «Малітвы пры святой літургіі» 1695 г. (с. 107)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1970, № 5 (122) і № 6 (123), дзе апублікаваны ўпершыню.

## СКАРЫНАЗНАЎСТВА

### *Кніга Скарыны ў Капенгагене (с. 121)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1971, № 5 (128), дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Падручнік Фёдарава і Скарына (с. 124)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1972, № 5–6 (133–134), дзе апублікаваны ўпершыню.

*Малітвы Скарыны (с. 130)*

Друкуецца паводле выд.: Выбраныя малітвы з «Малой падарожнай кніжкі» / Пераклад на сучасную беларускую мову і каментары а. Аляксандра Надсана. — Лондан: Божым шляхам, 1992.

*Міф, якому не даюць памерці: Яшчэ пра імя Скарыны (с. 137)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2001, 25 крас., дзе апублікаваны ўпершыню.

## БЕЛАРУСКАЯ КНІЖНАЯ КУЛЬТУРА, КНІГАЗНАЎСТВА

*Еўеўскі «Буквар» 1618 г. (с. 143)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1973, № 1 (135), дзе апублікаваны ўпершыню.

*Беларускія буквары XVII ст. (с. 150)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1973, № 4 (138), дзе апублікаваны ўпершыню.

*Новыя набыткі Беларускай бібліятэкі (с. 157)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1975, № 3–4 (145–146), дзе апублікаваны ўпершыню.

*Пяць гадоў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны (с. 160)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1976, № 1–2 (147–148), дзе апублікаваны ўпершыню.

## БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ: ГІСТОРЫЯ І АСОБЫ

*Княгіня Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі (с. 169)*

Друкуецца паводле выд.: Аляксандр Надсан. Княгіня Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі. — Мінск: Бібліятэка часопіса «Беларускі гістарычны агляд», 2006.

Упершыню варыянт часткі «Таямніца брыльянтавага кальe» друкаваўся як асобны артыкул у газ. «Наша Ніва», 2000, 4 і 11 снеж.

Твор быў апублікаваны на англійскай мове ў Лондане ў 2001 г.

*Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938) (с. 221)*

Друкуецца паводле выд.: Аляксандр Надсан. Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938). — Мінск: Бібліятэка часопіса «Беларускі гістарычны агляд», 2006.

### *Грэцкая калегія ў Рыме і беларусы (с. 346)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1954, № 58 і № 59, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Школа імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане (с. 353)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1964, № 1 (82), дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Пяць гадоў школы св. Кірылы (с. 355)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1967, № 1 (100), дзе апублікаваны ўпершыню.

### *400 гадоў Берасцейскай уніі (с. 359)*

Друкуецца паводле газ. «Царква. Грэка-каталіцкая газета», Берасце, 1996, № 7 (11).

### *Біскуп Матулевіч і беларускі адраджэнскі рух (с. 363)*

Друкуецца паводле газ.: «Наша ніва», 2001, 10 верас., дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Святы святамучанік Язафат, архібіскуп Полацкі (с. 365)*

Друкуецца паводле газ. «Царква. Грэка-каталіцкая газета», Берасце, 1996, № 7 (11).

### *Біскуп Часлаў Сіповіч: святар і беларус (Выбраныя главы з кнігі) (с. 370)*

Друкуецца паводле выд.: Аляксандр Надсан. Біскуп Часлаў Сіповіч: святар і беларус. — Мінск: БелФранс, 2004.

[1] *Пасля з'езда* — маецца на ўвазе з'езд беларускіх святароў з розных еўрапейскіх краін, які адбыўся ў Рыме 1–6 лютага 1960 г. Яго мэтай была каардынацыя дзейнасці ўсіх беларускіх святароў замежжа. З'езд прыняў «Зварот да Святога Айца», у першым пункце якога была выказана просьба, «каб быў назначаны біскуп беларускай нацыянальнасці з дастатковымі паўнамоцтвамі, каб спраўляць пастырскую апеку сярод беларусаў у Еўропе».

## ДУХОЎНЫЯ РАЗВАЖАННІ, ПАСТЫРСКІЯ ПАСЛАННІ, КАЗАННІ

### *Казанне на 25 сакавіка (с. 481)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1964, № 3 (84), дзе апублікавана ўпершыню.

*Наш Дар: Каляднае разважанне (с. 485)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1964, № 6 (87), дзе апублікавана ўпершыню.

*Пазнанне Бога (с. 487)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1965, № 4 (91), дзе апублікавана ўпершыню.

*Каляды і Богаяўленне (с. 489)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1965, № 6 (93), дзе апублікавана ўпершыню.

*Незабыўныя дні (с. 492)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1965, № 6 (93), дзе апублікавана ўпершыню.

*У Святой Зямлі (с. 495)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1967, № 3 (102), дзе апублікавана ўпершыню.

*Велікодныя думкі (с. 500)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1968, № 2 (107), дзе апублікавана ўпершыню.

*Калядныя думкі (с. 502)*

Друкуецца паводле час. «Веснік беларускага каталіцкага душпастырства», Лондан, 1986, № 1 (снежань), дзе апублікавана ўпершыню.

*Хрыстос уваскрос! (с. 504)*

Друкуецца паводле час. «Веснік беларускага каталіцкага душпастырства», Лондан, 1987, № 1 (2, сакавік), дзе апублікавана ўпершыню.

*Прыйдзі, Хрысце! (с. 507)*

Друкуецца паводле час. «Веснік беларускага каталіцкага душпастырства», Лондан, 1988, № 2 (5, Каляды), дзе апублікавана ўпершыню.

*Свет, у якім жывём (с. 510)*

Друкуецца паводле час. «Веснік беларускага каталіцкага душпастырства», Лондан, 1989, № 1 (6, Вялікдзень) дзе апублікавана ўпершыню.

*Вяртанне (с. 511)*

Друкуецца паводле газ. «Свабода», 1990, № 1, красавік, дзе апублікавана ўпершыню.

### *Ойча, прабач... (с. 516)*

Друкуецца паводле час. «Веснік беларускага каталіцкага душпастырства», Лондан, 1990, № 1 (10, Вялікдзень), дзе апублікавана ўпершыню.

### *Пакрыты ззяннем, быццам вопраткаю: Казанне на свята Перамянення Хрыстовага (с. 518)*

Друкуецца паводле выд.: Запісы-30: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. = Zapisy-30: Belarusan Institute of Arts and Sciences. — New York; Miensk, 2006.

Упершыню: час. «Унія», Мінск, 1995, № 4.

### *«Быць як Бог»: Разважанне на свята Уваскрасення Гасподняга (с. 520)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2000, 24 крас., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Пачынаючы трэцяе тысячагоддзе: Каляднае пасланне (с. 522)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2000, 26 снеж., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Працягваючы справу святых апосталаў славянаў: Развагі перакладчыка літургічных тэкстаў (с. 525)*

Друкуецца паводле час. «Кантакты і дыялогі», 2000, № 11–12, дзе апублікавана ўпершыню.

### *Велікоднае пасланне (с. 536)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2001, 16 крас., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Ці быў ты там, калі ўкрыжавалі Госпада? (с. 538)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2002, 29 сак., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Супакой на зямлі: Каляднае пасланне (с. 540)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2002, 27 снеж., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана (с. 542)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2003, 18 крас., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Пра вялікія і малыя справы (с. 543)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2003, 26 снеж., дзе апублікавана ўпершыню.

### *«Не згасіць вам праўды яснай...»: Велікоднае пасланне (с. 545)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2004, 9 крас., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Гонар і годнасць: Каляднае пасланне (с. 546)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2004, 24 снеж., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Супакой і стабільнасць: Велікодны зварот (с. 547)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2005, 25 сак., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Крыху пра свабоду: Велікоднае пасланне (с. 549)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2006, 14 крас., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Крыху пра талерантнасць: Каляднае пасланне (с. 550)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2006, 29 снеж., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Праўда і свабода: Велікоднае пасланне (с. 552)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2009, 10 крас., дзе апублікавана ўпершыню.

## ПЕРАКЛАДЫ

### *Францыск Скарына. З «Малой падарожнай кніжкі» (с. 555)*

Тэксты друкуюцца паводле выд.: Выбраныя малітвы з «Малой падарожнай кніжкі» / пераклад на сучасную беларускую мову і каментары а. Аляксандра Надсана. — Лондан: Божым шляхам, 1992.

### *Псалтыр Давіда (с. 558)*

Выбраныя пераклады псалмоў друкуюцца ўпершыню.

# ДАДАТАК

### *Ч. С. (Часлаў Сіповіч). Айцу Аляксандру Надсану — 50 гадоў жыцця (с. 575)*

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам», 1976, № 1–2 (147–148), дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Гай дэ Пікарда. Айцец Аляксандр Надсан (с. 577)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», Нью-Ёрк, 1976, № 234, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Караліна Мацкевіч, Ігар Іваноў. Святар перадусім (с. 579)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2001, 6 жніўня, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Ірына Дубянецкая. Айцец (с. 583)*

Друкуецца паводле газ. «Наша Ніва», 2001, 6 жніўня, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Алег Гардзіенка. Той, хто трымае свет (с. 587)*

Друкуецца паводле выд.: Запісы БІНІМ = Zapisy-30. — New-York; Miensk, 2006, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Рыгор Барадулін. Шчырэць... (с. 591)*

Друкуецца паводле выд.: «Сонца тваё не закоціцца, і месяц твой не схаваецца», дзе апублікаваны ўпершыню.



## SUMMARY


The present volume edition represents the creative work of the notable Belarusian émigré social and religious leader, the Catholic priest of the Eastern ceremony and the Apostolic Visitor for Belarusian Greek-Catholic faithful abroad, the Master of Theology Father Aliaksandar Nadsan (born in 1926).

In the time of World War II, Fr. Nadsan joined the Society of Belarusian Youth; in 1945 he was a soldier in the General Anders' Army that was fighting fascists in Northern Italy, France and Germany. After the war he moved to Great Britain where in 1953 he graduated from the Mathematic Department of the University of London, and after that got the higher theological education at the Pontifical Greek College and Gregorian University of Rome. He was ordained priest in 1958. Having returned to London several years later, he became one of the leading figures of the Belarusian people in exile, performing the indefatigable religious, social, cultural and educational activity.

Fr. Nadsan is one of the founders of *The Association of Belarusians in Great Britain* and *English-Belarusian Society*, for a long time he was the headmaster of Kiryl Turauski Belarusian School in London. Since 1971 Fr. Nadsan has been the head of *The Francysk Skaryna Belarusian Library and Museum in London*. He is the author of the Short Catechism of the Christian education for Belarusian Catholics *Nasha Vera* (*Our Faith*) as well as of the Belarusian text of the Liturgy for Greek Catholics that in 1994 was officially ratified by Vatican. Fr. Nadsan is also known as a tireless devotee, missionary and the head of the Chernobyl charity fund helping the suffered from Chernobyl disaster.

At the same time, Fr. Nadsan is the author of a number of creative works of scientific, publicistic and theological fields and memoirs devoted to different problems of Belarusian ancient religious literature, history of Belarusian book culture, notable personalities of social and religious movements of different epochs and the activity of Belarusian post-war emigration. Of a great value are spiritual speculations, vicarial messages and speeches by Fr. Nadsan. He is also known as a translator of religious texts. The selected psalms translated by Fr. Nadsan are published in the present volume for the first time.

The book is compiled by the writer, Candidate of Philology Iryna Bahdanovich.



# ЗМЕСТ

Служэнне Богу, людзям, Бацькаўшчыне. *Лідзія Савік* . . . . . . . . . 5

## БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ПІСЬМЕНСТВА: ТВОРЫ І ПОСТАЦІ

Святы Кірыла Тураўскі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 21
Кірыла і ягоны век . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 21
Духоўны настаўнік. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29
Пясняр Божае міласэрнасці . . . . . . . . . . . . . . . . . 38
Залатавусны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 44
Добры пастыр . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 56
Кірыла і Беларусь . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 59
Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства XV ст. . . . . . 66
Лаўрын Зізаній . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 71
Заходняя літаратура на Беларусі ў XV–XVII стст. . . . . . . . . . 80
Малітоўнік Мамоніча 1601 г. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 96
Беларускі рэлігійны твор канца XVII ст.
*«Малітвы пры святой літургіі» 1695 г.* . . . . . . . . . . . . . . 107

## СКАРЫНАЗНАЎСТВА

Кніга Скарыны ў Капенгагене . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 121
Падручнік Фёдарава і Скарына . . . . . . . . . . . . . . . . . . 124
Малітвы Скарыны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 130
Міф, якому не даюць памерці
*Яшчэ пра імя Скарыны* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 137

## БЕЛАРУСКАЯ КНІЖНАЯ КУЛЬТУРА, КНІГАЗНАЎСТВА

Еўеўскі «Буквар» 1618 г.. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 143
Беларускія буквары XVII ст. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 150
Новыя набыткі Беларускай бібліятэкі . . . . . . . . . . . . . . . 157
Пяць гадоў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны . . . . . . . . 160

# БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ: ГІСТОРЫЯ І АСОБЫ


Княгіня Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі . . . . . . . . 169
Магдалена Радзівіл
і беларускае нацыянальна-рэлігійнае адраджэнне. . . . . 169
Таямніца брыльянтавага кальe . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 194
Pro patria aliena
*Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938)* . . . . 221
Уступнае слова . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 221
«Pro alborussis». . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 224
Пад ціскам . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 237
Бародзіч. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 245
«Абмежаваць беларушчыну да мінімуму» . . . . . . . . . . . . 260
Паміж молатам і кавадлам. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 271
Харбін, Харбін…. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 280
«Надо для русских пока что работать…» . . . . . . . . . . . . 293
Дарога ў нікуды . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 306
«Раскіданае гняздо» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 315
Лёс выгнаннікаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 324
«Pro patria aliena» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 331
Грэцкая калегія ў Рыме і беларусы . . . . . . . . . . . . . . . . . 346
Крыху гісторыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 346
Некалькі імёнаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 351
Школа імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане . . . . . . . . . . . . 353
Пяць гадоў школы св. Кірылы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 355
400 гадоў Берасцейскай уніі
*Ліст апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў*
*у замежжы айца Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . . . . . . 359
Біскуп Матулевіч і беларускі адраджэнскі рух . . . . . . . . . . . 363
Святы святамучанік Язафат, архібіскуп Полацкі
*Ліст апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў*
*у замежжы айца Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . . . . . . 365
Біскуп Часлаў Сіповіч: святар і беларус
*(Выбраныя главы з кнігі) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 370*
У Вечным горадзе . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 370
Пачатак апостальскай дзейнасці . . . . . . . . . . . . . . . . . 388
«Народы Расеі». . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 404
«Новая Друя». . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 416
У Гасподнім вінаградніку . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 428
Біскуп . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 454
«Быць усім для ўсіх» (Гл. 1 Кар 9, 22) . . . . . . . . . . . . . . 463
Пісьменнік і вучоны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 472

## ДУХОЎНЫЯ РАЗВАЖАННІ, ПАСТЫРСКІЯ ПАСЛАННІ, КАЗАННІ

Казанне на 25 сакавіка . . . . . . . . . 481
Наш Дар
*Каляднае разважанне* . . . . . . . . . 485
Пазнанне Бога . . . . . . . . . 487
Каляды і Богаяўленне . . . . . . . . . 489
Незабыўныя дні . . . . . . . . . 492
У Святой Зямлі . . . . . . . . . 495
Велікодныя думкі . . . . . . . . . 500
Калядныя думкі . . . . . . . . . 502
Хрыстос уваскрос! . . . . . . . . . 504
Прыйдзі, Хрысце! . . . . . . . . . 507
Свет, у якім жывём . . . . . . . . . 510
Вяртанне . . . . . . . . . 511
Ойча, прабач… . . . . . . . . . 516
Пакрыты ззяннем, быццам вопраткаю
*Казанне на свята Перамяненне Хрыстовага* . . . . . . . . . 518
«Быць як Бог»
*Разважанне на свята Уваскрасення Гасподняга* . . . . . . . . . 520
Пачынаючы трэцяе тысячагоддзе
*Каляднае пасланне апостальскага візітатара для беларусаў замежжа айца Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . 522
Працягваючы справу святых апосталаў славянаў
*Развагі перакладчыка літургічных тэкстаў* . . . . . . . . . 525
Велікоднае пасланне
*апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў усходняга абраду а. Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . 536
Ці быў ты там, калі ўкрыжавалі Госпада?
*Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана, апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў замежжа* . . . . . . . . . 538
Супакой на зямлі
*Каляднае пасланне айца Аляксандра Надсана, апостальскага візітатара для беларусаў замежжа* . . . . . . . . . 540
Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана . . . . . . . . . 542
Пра вялікія і малыя справы . . . . . . . . . 543
«Не згасіць вам праўды яснай…»
*Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . 545
Гонар і годнасць
*Каляднае пасланне айца Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . 546
Супакой і стабільнасць
*Велікодны зварот апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў замежжа а. Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . 547
Крыху пра свабоду
*Велікоднае пасланне айца Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . 549

Крыху пра талерантнасць
*Каляднае пасланне* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 550
Праўда і свабода
*Вялікоднае пасланне апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў у замежжы айца Аляксандра Надсана* . . . . . . . . . 552

## ПЕРАКЛАДЫ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 553

Францыск Скарына.
З «Малой падарожнай кніжкі» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 555
Малітва Імю Ісусаваму . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 555
Малітва аб муках Госпада нашага Ісуса Хрыста . . . . . . . . 555
Малітва да Найсвяцейшай Багародзіцы і Заўсёды Дзевы Марыі з пакорным і скрушлівым сэрцам . . . . . . 557
Малітва пабожная да Найсвяцейшае Багародзіцы Марыі. . . 557
Малітва да вялікага сярод прарокаў пачэснага і ўсяхвальнага Прадвесніка і Хрысціцеля Господняга Яна . . . . . . . . . 558
Псалтыр Давіда . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 558

## ДАДАТАК

Ч. С. (Часлаў Сіповіч)
Айцу Аляксандру Надсану — 50 гадоў жыцця . . . . . . . . . 575
Гай дэ Пікарда
Айцец Аляксандр Надсан . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 577
Караліна Мацкевіч, Ігар Іваноў
Святар перадусім. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 579
Ірына Дубянецкая
Айцец . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 583
Алег Гардзіенка
Той, хто трымае свет. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 587
Рыгор Барадулін
Шчырэць. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 591

КАМЕНТАР . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 592
SUMMARY . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 600

**Надсан, А.**

**Н17** Выбранае / Аляксандр Надсан; уклад. і камент. І. Багдановіч, прадм. Л. Савік. — Мінск : Кнігазбор, 2014. — 608 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 2. Гісторыка-літаратурныя помнікі).

ISBN 978-985-7089-58-1.

У кнізе змешчаны творы вядомага святара – апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў замежжа айца Аляксандра Надсана, якія адлюстроўваюць усё багацце і змястоўнасць яго багаслоўскай, пастырскай, літаратурна-навуковай, грамадска-публіцыстычнай, гістарычнай, асветніцкай і перакладчыцкай дзейнасці. Кніга ўкладзена паводле тэматычнага і жанравага прынцыпаў. Асобны раздзел яе складаюць пастырскія пасланні (калядныя, велікодныя ды іншыя), казанні, духоўныя разважанні, дзе напоўніцу раскрываецца святарскае пакліканне а. Аляксандра, яго прапаведніцкі талент. Упершыню друкуюцца зробленыя ім пераклады псалмоў. У дадатку сабраныя матэрыялы, прысвечаныя а. Аляксандру, што раскрываюць з розных бакоў неардынарнасць яго асобы.

Кніга разлічана на навукоўцаў-гуманітарыяў, выкладчыкаў вышэйшых навучальных установ, святароў і вернікаў, а таксама шырокае кола чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй і культурай Беларусі ў нашай краіне і за яе межамі.

Семдзесят чацвёрты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 271.4**
**ББК 86.37**

Навукова-папулярнае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя II. Гісторыка-літаратурныя помнікі

**Надсан Аляксандр**

Выбранае

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Шагун*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 16.05.2014.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 31,08 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 31,65.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Пры ўдзеле ТАА «Харвест». Ліцэнзія № 02330/0056935 ад 30.04.04.
Вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42, 220013, Мінск.
E-mail: harvest2004@mail.ru

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі дом “Беларуская навука”».
ЛИ № 02330/0494405 ад 27.03.09
Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, Мінск.

ISBN 978-985-7089-58-1




Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва “Беларускі дом друку”».
Пр. Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы
РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік
АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы
*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік
НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы
МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы
РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы
АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы
УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы
ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы
АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы
ЦІШКА ГАРТНЫ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ЦВІРКА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЛЕРЫЙ КАЗАКОЎ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ВІТКА. Выбраныя творы
ВІКТАР КАРАМАЗАЎ. Выбраныя творы
МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ. Выбраныя творы
ІВАН ЧЫГРЫНАЎ. Выбраныя творы
ЛІДЗІЯ АРАБЕЙ. Выбраныя творы
МАСЕЙ СЯДНЁЎ. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае
АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае
АРСЕНЬ ЛІС. Выбранае
КАЗІМІР МАШЫНСКІ. Усходняе Палессе

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

АЛЯКСЕЙ КУЛАКОЎСКІ. Выбраныя творы
ВОЛЬГА ІПАТАВА. Выбраныя творы